**МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ**

# СЛОЎНІК

## МОВЫ ЯНКІ КУПАЛЫ

У ВАСЬМІ ТАМАХ

## Том 7

**А – І**

**(ДАДАТАК)**

**Гомель**
**ГДУ імя Ф. Скарыны**
**2012**

# СПІС УМОЎНЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

А – Аўтабіяграфія / Пяцьдзесят чатыры дарогі. – Мн., 1963. – С. 327–328.
АБ – Абудова Беларусі / Спадчына – 1990, № 2. – С. 16.
Ан – Антанта. / Спадчына. – 1990, № 2. – С. 18–19.
АК – Арліныя крыллі. Беларусь – 1963, № 3.
АЛ – Адкрыты ліст Янкі Купалы. Камуністычнае выхаванне. – 1930, № 2.
АПЖ – Акоў паломаных жандар… // Купала Янка. 1918–1928. Творы. – Мн., 1930.
АР – Адчуваньняў разьліў. Чырвоны сейбіт, – 1928, № 4.
Б – Беларушчына. / Купала Я. Спадчына. – Мн., 1922. – С. 18.
Бц – Бацька. / Купала Я. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 74.
Бч – Перад будучыняй. Полымя – 1988, № 10. – С. 10.
ББ – А ў бары, бары… // Купала Янка. 1918–1928. Творы. – Мн., 1930.
БрБ – Брату-беларусу. / Полымя – 1988, № 10.
БЗ – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Будзь здаровы бацька, маці. / Рунь, 1920, № 4.
БН – У бяссонную ноч // Купала Я. Вершы. Спадчына: – Мн., 1922. – С. 91–93.
БС – Больш самачыннасьці. / Беларусь – 1919, 22 кастрычніка.
БСУ – Беларускі сьцяг уваскрос! / Беларусь – 1919, 30 кастрычніка.
В – Вялікдзень. / Наша ніва – 1909, 26 сакавіка.
Вб – Выбары. // Купала Я. У 6 т. Т. IV. – Зб.тв.: Мн., 1953. – С. 236–238 .
ВБ – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Ой, вяду, бяду..// Купала Янка. 1918–1928: Творы. – Мн., 1930.
ВБЛ – Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары… / Полымя, – 1926, № 3. – С. 80–83.
ВВ – На выбары выйшлі. / Зб. тв. Купала Я. У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 263.
ВГ – Вялікі гнеў. / ЛіМ, 1938, 6 жніўня.
ВГР – Вялікая, гордая радасць. / ЛіМ, 1953, 31 студзеня.
ВД – “Не вельмі даўно..” / Наша ніва, 1907, 13 апрыля.
ВМ – Верасень месяц. Купала Я. Ад сэрца: Вершы. Мн., 1940. – С. 72.
ВМР – Выбары да Мястовай Рады. Беларусь, 1919, 28 кастрычніка.
ВН – Вайна і налогі. / Наша ніва, 1914, 9 кастрычніка.

ВНЗ – Ворагі народу павінны быць знішчаны! ЛіМ, 1937, 28 студзеня.
ВР – Як вучыць рэлігіі. / Наша ніва, 1912, 15 сакавіка.
ВС – Вайна і самапомач. / Наша ніва, 1914, 25 верасня.
ВСп – Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 год. Полымя, – 1923, № 2, студзень. № 2, – С. 89–91.
ВЧ – “Як ня выйдуць чорнасотники…” / Наша ніва. – 1908, – 24 серпня.
Г – Годзе…// Купала Я. Спадчына. Вершы. – Мн., 1922. – С. 16–17.
Гр – Груганы // Купала Я. Спадчына. Вершы. – Мн., 1922. – С. 215.
ГВУ – Я з гордасцю выбіраю свой народны ўрад. / ЛіМ, – 1937, – 22 кастрычніка.
ГЖУ – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Габруся ў жаўнерку ўзялі.. / – Рунь 1920, № 2.
ГНД – Пад рубрыкай “Грамадскія і навуковыя дзеячы аб гістарычнай пастанове ўраду”. Янка Купала. Народны паэта БССР. // Звязда, – 1932 – 14 кастырчніка.
ГП – Гадаўшчына–памінкі // Полымя. 1988. № 10. – С. 8.
Д – На заходне–беларускія матывы: Дзед // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 72 – 73.
Дз – На Дзяды // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т.II. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 187–192.
ДД – Думка за думкай // Беларусь. 1920. 18 чэрвеня.
ДЖ – Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна: Прамова // ЛіМ. 1935. 31 мая.
ДК – Дэмакратычная камедыя // Беларусь. 1919. 31 кастрычніка.
ДНСП– Дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў // ЛіМ. 1932. 15 мая.
ДПЛС– Дзякую партыі Леніна–Сталіна // Полымя. 1941. № 3.
ЕЯП – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Едзе Янка ў поле… // Рунь, 1920, № 4.
ЁЯ – Ёсць жа яшчэ…// Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн., 1993. – С. 403.
Ж – Жыды // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922.
ЖН – Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца: Прамова // Звязда, 1935, 14 снежня.
З – Забабон // Беларусь. 1919. 5 лістапада.
ЗК – “Забраны край” // ЛіМ. 1988. 7 кастрычніка.
ЗС – Зямельная спекуляцыя // Спадчына: 1990. № 2. С. 17–18.
ЗЯЗ – Засвяціла ясна зорка // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн. 1940. – С. 89–90.
ІХ – Ізі Хадыку // Літаратура і мастацтва, 1935, 17 лістапада.

К – Каб.. // Полымя. 1926. № 6.
Кз – Як у казцы // Спадчына. 1990. № 2. С. – 17 – 18.
Кр – Крыўда // Купала Янка. Спадчына. Вершы. – Мн., 1922. – С. 77.
Кц – На Куцьцю // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. ІІ. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 192–197.
КП – Казка аб песьні // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922. – С. 170–171.
КЧ – “Не каханак чорнавокіх…” // Полымя. 1930. № 5–6.
ЛПК – Лямант пана Кавалюка // Полымя. 1966. № 10.
ЛР – Ліст у рэдакцыю. Вельмі паважаны пане Рэдактар! // Беларусь. 1920. 23 сакавіка.
М – Матцы // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922. – С. 18.
МД – З мінуўшых дзён // Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн.. 1993. – С. 117.
Мц – На заходне-беларускія матывы: Маці // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 74–75.
МІ – Моладзь ідзе! // Спадчына. 1990. № 1. – С. 17–18.
МК – “Я мець ад кагосьці…” // Полымя. 1930. № 5–6.
МП – Над чым мы працуем // ЛіМ, 1938, 10 сакавіка.
МПв – Мала іх павесіць … // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 218–220.
МСП – Маё мне сонца правадыр… // Купала Янка. Зб. тв. : У 6 т. Т. IV. – Мн.. 1953. – С. 218–220.
Н – Над Нёманам // ЛіМ. 1988. 7 кастрычніка.
Нз – Незалежнасць // Спадчына. 1990. № 2. – С. 14–15.
НГ – Наша гаспадарка // Купала Янка. Жыве Беларусь. Мн., 1993. – С. 286.
НГд – Новы год // Полымя. 1988. № 10. – С. 8.
НД – Нашы дэпутаты // Полымя. 1966. № 10.
НДп – Нашаму дэпутату // Купала Янка. Зб. тв. : У 4 т. Т. IV. – Мн., – С. 229 – 230.
НДН – Незалежная дзяржава і яе народы // Спадчына. 1990. № 1. – С. 18 – 19.
НК – Нашым кандыдатам у Вярхоўны Савет БССР – таварышам Сталіну, Молатаву, Варашылаву і Ежову // ЛіМ, 1938, 6 чэрвеня.
НКУС– Народнаму камісару ўнутраных спраў тав. Ежову // ЛіМ, 1937, 31 кастрычніка.
ОШМ– Окупанты на шэсць месяцаў // Звон, 1919. 18 кастрычніка.
Пп – Папросту // Полымя. 1988. № 10. – С. 5.
Пц – Прыяцелі // Полымя. 1966. № 10.

Пт – Паўстань // Купала Янка. 1918 – 1928: Творы. – Мн., 1930.
ПБН – Пісьмо беларускага народу Вялікаму Сталіну // Чырвоная змена. 1936, 11 ліпеня.
ПБП – “Пара ў рукі браць паходні…” // Наш шлях. № 4. – С. 1.
ПВ – Пазвалі вас… // Купала Янка. 1918–1928: Творы. – Мн., 1930.
ПГ – Пабудаван з густам: Да адкрыцця Дома Чырвонай Арміі // Чырвоная змена.1936, 18 лістапада.
ПД – Прамінулі дзянькі… // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 83.
ПДз – Прапаўшае дзиця // Наша ніва. 1907, 28 верасня.
ПЛ – На пачатку лета // Родная прырода. 1974, № 3.
ПЛП – Прамова на 15–годдзі літаратурнай працы // ЛіМ, 1988, 7 кастрычніка.
ПН – Песня і народ: (Трохі казка) // Каляндарная пісанка. – Вільня. 1913. – С. 46 – 48.
ПНд – Паўстаў народ // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 314.
ПС – Паэт аб сабе / З аўтабіяграфічных матэрыялаў Янкі Купалы // Піянер Беларусі. 1947, 25 чэрвеня.
ПСД – Песьні на ваяцкі лад: (Паводле народных мелодыяў): Гэй, паехаў сын Даніла… // Купала Янка. 1918–1928. Творы. – Мн., 1930.
ПСп – Пад прыкрыццём спадніц // Раздавім фашысцкую гадзіну. 1942. № 50.
ПСС – Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 231–232.
ПТ – Песня трактарысткі // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 206–208.
ПЧ – Падарожжа па Чэхаславакіі (Гутарка з народным паэтам рэспублікі Янкам Купалам) // ЛіМ, 1935, 29 кастрычніка.
Р – На рынку // ЛіМ, 1988, 7 кастрычніка.
РКр – Хай рунь красуе... // Наша ніва, 1914, 4 верасьня.
РКП – Радзіма кліча да помсты! Савецкая Беларусь, 1941, 7 лістапада.
С – Сваякі // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922. – С. 209.
См – Сьмейся // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922. – С. 90–91.
СА – Сталінскія арляняты // Зборнік для гурткоў мастацкай самадзейнасці. – Мн., 1938. – С. 178–182.
СБ – Слава бясстрашным: З прычыны вяртання папанінцаў на Радзіму // Чырвоная змена, 1936, 16 сакавіка.
СБНГ – Справа беларускага нацыянальнага гымну // Рунь, 1920, № 4.

СД – Славуты домік // Піянер Беларусі, 1947, 25 чэрвеня.
СЗГ – Смерць забойцам А. М. Горкага // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 252.
СК – На смерць таварыша Кірава // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 158.
СМ – Сярод магіл // Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн., 1993. – С. 268.
СНБ – Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год. Ч. I. // Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн., 1993. – С. 336–340; Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год. Ч. 2. // Беларусь. 1920, 14 студзеня.
СП – Старыя праўды на новы лад // Наша ніва. 1907, 3 серпня.
СС – Аб Сталіне-сейбіту // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 300–303.
ССА – Сонца свяціла нам аднолькава … // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т.Т. IV. – Мн., 1953. – С. 294.
СТ – Слава творцу новага, шчаслівага жыцця // ЛіМ, 1935, 24 лістапада.
СЧ – Старшыні ЦВК СССР і БССР т. Чарвякову // Купала Янка. Жыве Беларусь. – Мн., 1993. – С. 432–433.
Т – Тутэйшыя: Трагічна-смяшлівыя сцэны ў 4-х дзеях // Полымя. 1988. № 9. – С. 19–62.
Тж – Торжышча // Спадчына. 1990. № 2. – С. 15–16.
Тр – Трэба // Беларусь. 1924, 5 студзеня.
ТЗУ – Ты з Заходняй, я з Усходняй… // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 293.
ТП – Табе, правадыр… // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. IV. – Мн., 1953. – С. 213–217.
ТС – Тае сьнег // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. II. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 74.
У – Увага // Полымя. 1929. № 3.
Ун – Унук // Купала Янка. Ад сэрца: Вершы. – Мн., 1940. – С. 73.
УП – Аб усім патроху // Наша ніва. 1907, 28 верасня.
УрП – Урывак з паэмы // Полымя. 1930. № 5–6.
УПУВ – Уваскрашэньне Польскага Універсітэту у Вільні // Звон. 1919, 17 кастрычніка.
УР – На ўсе рукі // Купала Янка. Спадчына: Вершы. – Мн., 1922.
Ф – Фінляндыі // Звязда. 1939, 9 снежня.
Х – Хаўрусьнікам // Полымя. 1929. № 3.
ХБ – Хараство Беларусі // Беларускі каляндар на 1921 год. – Вільня. 1920. – С. 27 – 30.
ХЛБ – Хто к лесу, а хто к бесу: Жарт // Наша ніва. 1907, 17 жніўня.

ХХ – Хоць за хмараю хмара … // Беларускі каляндар на 1921год. – – Вільня. 1920.
ЦСБ – Цуда, створанае бальшавікамі (Уражанні ад паездкі на Беламорска-Балтыйскі канал) // ЛіМ, 1933, 18 верасня.
Ч – Чараўнік: (Забытая казка) // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. II. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 319–325.
Чж – Чужым // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. II. Шляхам жыцця. – Мн., 1926. – С. 146–147.
ЧС – У чужой старане // Купала Янка. Зб. тв.: У 6 т. Т. VI. Вершы і пераклады дакастрычніцкага і савецкага перыяду. – Мн., 1932. С. 50–51.
ЧЧШ – Чым чорт ня шуціць: Маленькі фельетон // Наша ніва. 1913, 24 кастрычніка.
Ш1 – Шарада № 1: (З наградай) // Наша ніва. 1913, 21 снежня.
Ш2 – Шарада № 2. // Наша ніва. 1914, 17 студзеня.
Ш3 – Шарада № 3. // Наша ніва. 1914, 7 марта.
Ш4 – Шарада № 4. // Наша ніва. 1914, 3 красавіка.
Ш5 – Шарада № 5. // Наша ніва. 1914, 3 красавіка.
ШБСЯ – Што было сном, тое стала явай. – (Пісьмо народнага паэта БССР Янкі Купалы) // Звязда, 1934, 17 студзеня.
ШН – Шчаслівы ты, ці нешчаслівы … // Маладое жыццё. 1922. № 2, чэрвень.

# А

**А*** (668) злучн.

**I.** супраціўны (175). **1.** Злучае супрацьлеглыя члены і сказы. [Янка]: *Ваша* [Мікіты] *лінія не простая – а кры-вабокая, – цямняцкая ваша лінія*. Т, 22. *Песьню выюць* [здані] *хаўтурна: ты ляж, а ты ўстань!..* БН, 93.

**2.** Злучае члены з узаемным выключэннем. [Гануля]: *Гэта не госць, а нейкі важны дырэктар.* Т, 31. *Гаспадары мы* [беларусы] *ў сябе, а ня госьці, Час к панаваньню нам сьлед церабіць!* Г, 17.

**3.** Злучае сказы са значэннем неадпаведнасці. *Сёння ўжо стар я* [дзед] *і мне не да плачу, Вушы хоць слабы, а ўловяць іх* [вызваленцаў] *імя.* Д, 72. *Ну, адым словам, кожны нешта кажа, а ніхто аб гэтым нічога добра не ведае.* Ан, 18.

**4.** Злучае сказы з уступальным значэннем. *Год мінуў, як ваяваці Шоў Даніла з сяла, А ўжо слава па ўсім свеце Аб ім громка ішла.* ПСД. *І для Беларусі, як ня быў цяжкім мінулы год у яе змаганьні за сваю дзяржаўную незалежнасьць, а ўсё-ж такі ён шмат чаму навучыў..* СНБ. // Ужываецца ў сказах з аднолькавымі словамі антанімічнага тыпу. *А быў тут хто, або ня быў, – І так і гэтак мала веры..* Кц, 197.

А, 328; Ан, 18(2), 19(2); АБ, 16(2); АЛ (2); БрБ, 6; БН, 92, 93; БС (3); ВСУ (2); Вб, 236; ВБЛ, 81(2), 82; ВМР (4); ВН; ВР (б); ВС (2); ВСп, 89, 90(2); 91; Г, 17; Гр, 215(2); ГНД; ГП (3); Дз, 187, 191; ДД; ДК (2); ЗС, 17, 18(2); Кз, 17(3); Кц, І94, І95(4), І96, 197; Н; Нз, 14(4), 15; НДН, 18(2); ПВ; ПСп; ПСД (2); РКр (2); См, 90; СБНГ; СНБ, 339(3); СНБ; СЧ; Т, 19, 20(5), 21(2), 22(6), 23(3), 24(02), 25, 27(3), 28 (4), 29(2), 31(2), 32(3), 33(2), 34(2), 35(3), 36(3), 39, 40(2), 43, 44(4), 46, 48, 49, 50, 54, 55, 56, 57(5), 59(2), 60(2), 61(4); Тж, 15, 16(2); ХБ, 29, 30; ХЛВ... 315; Ч, 319, 320, 322; ЧС, 50–51.

**II.** супастаўляльны (179). Злучае проціпастаўленыя члены сказа і сказы не звязаныя паслядоўна-выніковымі адносінамі. *Людзьмі звацца, а не падняволенымі царскімі і панскімі парабкамі – такая была думка думак маіх* [Купалы], *песень маіх. ДЖ. Дзяўчына, кветкамі абсып курган вялікі, А песню вечную злажы, пясняр-паэт.* СК, 158. // Злучае сказы з адценнем нечаканасці, непрадбачнасці. *Было двое іх* [дзяцей] – *двое – помніш* [маці]*! А ня стала ні аднаго.* ВБЛ, 81. [Мікта]: *Ой-ей!.. і з аружжам у руках! А казалі, што Іх* [бальшэвікоў] *ужо няма...* Т, 52. // Злучае сказы з адначасовым супастаўленнем. *Можаце сабе ўявіць чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім..хаджу я* [Купала] *і слухаю казкі.* ПС. *Росы ўнізе ірдзелі яскрава, А на вышках, як сон на зямлі, пераменны Залаты месяц радасна плаваў.* Ч, 321. // Злучае члены сказа і сказы з уступальным супастаўленнем. *Сяк, ці так, жылось паволі ў палавіне з горэм Тым у хаці, тым на полі, А другім за морэм.* Дз, 190. [Наста]: *На баль як на баль, а з гасцямі спаткацца прыдзецца, дык чаму ж крыху і не паднядзеліцца?* Т, 24.

Ан, 19(2); АЛ; АПЖ; Б; Бц,74; Бч 9(3); БВ, 16; БЗ; БС(5); БСУ; Вб, 237; ВБ; ВБЛ, 8(2), 82(2); ВМР(3); ВН; ВР(2); ВС; ВСп, 89; Дз, І90(2); ДЖ; ДК(3); ЕЯП(3); Ж; З(3); ЗК; ЗС, 18(2); Кц, Ж; ВН; ЛР; 9; НДН, 18; ОШМ (3); ПС; ПСД 3; Пт, 208; РКр(4); СК, 158 (2); СНБ 336 (2), 338; СНВ (4); СП; Т, 19, 20(4), 21(2), 22(3), 23, 24(4), 25(2), 26, 28(2), 29(2), 31, 34(3), 35, 36, 37, 39, 40(4), 41(4), 42(3), 44(3); 45(4); 47, 49(4); 49(3); 50(5); 52(3), 53, 54(4); 56(3), 57(2), 59(2), 60, 61, 67; Тж, 16; ТП, 215(4); У; УрП, 50; Х; ХБ, 28; ХЛБ; Ч, 319, 320(2), 321(2), 324; $Ш_4$

**III.** далучальны (316). 1. Далучае члены і сказы з паслядоўным чаргаваннем, апісаннем. *..закон і права народныя вырашаць усе балючыя пытанні, пакінутыя нам у спадчыну маскоўскім царызмам і ўсясветнай вайной, а з тым разам і пытанне аб зямлі.* ЗС, 17. *Мой* [С. Меча] *пісьмены стол стаяў каля акна, каторае выходзіла ў сад; за плотам саду было поле, а за полем хваёвы лес.* ХБ, 29.

**2.** Далучае члены і сказы з часавай паслядоўнасцю. *Немцы пад пры-крыццём спадніц думалі наладзіць ДЗОТ, а пасля пайсці ў контратаку.* ПСп. *Дайце волю народам самім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова..* Тж, 16.

**3.** Далучае паясненні і ўдакладненні. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, – як сталі жыць, размна-жацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы...* Кз, 17. [Мікіта]: *Новая ўлада гарэлку забараняе, а што забаронена, тое смачна і дорага каштуе.* Т, 58. // Далучае ўстаўныя сказы і словазлучэнні.

*А між іншым, у перапынках паміж адной паэтычнай успышкай і другой, я* [Купала] *перакладаю «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі для юбілейнага зборніка. МП.*//Далучае члены і сказы з дадатковай ацэнкай. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сонца, ад зор залатых, Якую пяе ўся наша зямля..* СС, 300. *А сёння... Сёння што? Ад рання і да рання, Калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пяянне..* СК, 158.

**4.** Далучае сказы з раскрыццём сутнасці папярэдняга. *Дык чамуж так страшна наша незалежнасць? А гэта вось чаму.* Нз, 14. *А старыя багі? Яны прыціхлі, прытуліліся, але не памёрлі саўсім у душах свайго народу.* Кз, 17.

**5.** Ужываецца пры пераходзе да новай думкі, пры пачатку размовы. – *Так, так, пане рэдактар, гэта маё, я ўжо ведаю. А як там, паночку, з платай.* Ан, 19. *А ўспомні-прыпомні шчасьліў, нешчасьлівы, Аб тых, што ў сьвітанні на век адыйшлі..* В.

**А ў бары, бары... Хто к лесу, а хто к бесу.**

**ΔА** то злучн. (6) **1.** супраціўны. а) Іначай, у адваротным выпадку. [Мікіта]: *О, ліханька! Каб хаця не ўваліліся* [немцы] *на імяніны, а то сапсуюць усю абедню.* Т, 24. *Гэй Дубровін чарнасоцкі, Пурышкевіч, Замыслоўскі, Дайце раду, што чыніці, Як крамолу скараніці. А то мне* [пану Кавалюку] *халэмус прыйдзе..* ЛПК. Т, 39, 48. б) Аказваецца, на самай справе, усяго толькі. [Мікіта]: *Так бы адразу, меджду протчым, і сказалі* [Гануля]*, а то толькі пужаеце...* Т, 58.

**2.** далучальны. Далучае сказы і члены сказа з удакладненнем. [Гануля]: *А хай бы лепей не складалі* [візіту]*, а то скачы перад імі* [гасцямі] *немаведама як!* Т, 22.

А, 328(5); Ан, 18(3), 19(3); АБ, І6;АК; АПЖ; Б.,18; Бц, 74; ББ; (3); БрБ, 6; БВ, 16(2); БН, 92; БС(4), В; ВБ; ВБЛ; 80; ВМ, 72; ВМР(5); ВР(3); ВСп, 89(2), 90; ГЖУ; ГНД; ГП, 8(2); Дз, 188, 191; ДК; ЕЯП; ЖН; 3; ЗС, 17; ЗЯЗ, 90; Кз, 17(5); Кц, 194, 196, 197; ЛР; МІ, 17, 18; МП (2); Н (2); Нз, 14(2), 15; НДп, 230; НДН, 18; НК (4); ОШМ; Пц; ПБН(4); ПВ (2); ПД, 83; ПДз; ПЛП(2);ПС; ПСп; ПСД (2); ПСС, 231, 232; ПТ, 206; ІІч; Р; РС, 40; СБНГ; СЗГ, 252; СНБ (3), 337, 338, 340; СС, 300(2), 301(2), 302(2); Т, 20(5), 21(9), 22(4), 23, 24(7), 25(3), 26 (5), 27(2), 28, 29(3), 30(7), 31(5), 32 (2), 33(3), 34(7), 35(5), 36(6); 37(4); 38(3), 39(3), 41(3), 42(5), 43(2), 44(з), 45, 46(5), 48(6), 49(2), 50(5), 51(2), 52(2), 53(6), 54(5), 55(6), 56(2), 57 (4), 58(4), 60(4), 62(3); Тж, 15, 16; ТП, 214, 215(2); УрІІ, 47; ХБ, 27, 28, 29(5), 30; ХХ, 128; ХЛБ; 323, 326; ХЛВ, 316; Ч, $Ш_1$(2); $Ш_2$(3); $Ш_3$; $Ш_4$.

**$А^2$** (6) *часц.* **1.** пытальная. [Наста]: *А немец? Як мне напэўна вядома з пэўных крыніц, то гэта апошні з роду Магіканаў..*

Т, 41. *Там чутна Беларусь! Там – Незалежнасць!.. Ну, а мы?* Бч, 9. ЁЯ; Т, 58.

**2.** пабуджальная. *А вам* [бальшавікам] *не страх, а вам не страх!.. Чатыры годы крок у крок Тварыць вы шлі і кроў лілі Сваю, чужую па зямлі.* ПВ.

**А**[3] (19) *выкл.* **1.** Перадае здагадку, пазнаванне, здзіўленне. [Ануля]: *(зірнуўшы ў кошык). А матачкі ж мае! Гэта ж гарэлка! ..* Т, 58.

**2.** Перадае ўзмацненне эмацыянальнай выразнасці выказвання, сцвярджэння. [Ануля]: *А мой жа ты сыночак! Хто ж цябе гэта абалваніў?* Т, 58. [Ануля]: *А мае ж вы* [Аленка і Янка] *міленькія! Пашлі вам долечка ўсяго найшчаслівейшага.* Там жа, 53. ВМ, 72; ПБН; Т, 24(2), 32(6), 52, 53, 58(2), 59; ХБ, 29.

**А**[4] (2) *прыназ.* з М. 3 прыназоўнікам «а» выражае аб'ектныя адносіны. *Абагульняючы ўсё сказанае а беларускай выдавецкай справе за мінулы год, трэба адзначыць, што зроблена вельмі многа.* ВСп, 91. [Мікіта]: *..і па-беларуску, як я пераканаўся, можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія рускаісціныя прынцыпы аб ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, меджду протчым, імперыі.* Т, 56.

**А-ЛЯ** (5) *артыкль. Франц.* Ужываецца для абазначэння назоўнага склону. [Мікіта]: *Так яно і ёсць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а-ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складаў "Піліп і К°".* Т, 28. Т, 46, 58.

**АБ** (189) *прыназ.* з В. і М. Аб'ектныя адносіны:

**1.** з В. (10) Ужываецца пры ўказанні на прадмет і працэс. *Гэта раз'юшаная антысовецкая брахня .. разаб'ецца, як аб неадступную скалу, аб магутнасць і з'яднанасць рабочых і калгаснікаў Совецкай Беларусі..* ШБСЯ. А *як чапнуў* [другі ганец] *стралой аб лук, Яны* [людзі] *скрануліся ў прасонні..* Кц, 195. ВР; К; Т, 25, 27, 33(2), 50; ШБСЯ.

**2.** з М. (179). Указанне на прадмет гаворкі. *Я* [Купала] *хачу з усёй шчырасцю ў гэты ўрачысты для мяне дзень падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку большэвіцкай партыі і совецкай улады.* ЖН. *Ну, адным словам, кожны нешта кажа, а ніхто аб гэтым нічога добрэ не ведае.* Ан, 18. *Параўн.* аба, 0[1].

Ан, 18, 19(2); АБ, 16(2); АЛ (2); БрВ, 6(2); БВ, I6(4); БСУ (2); В; ВБЛ, 81(3); ВГ; ВД; ВМ, 72; ВМР (2); ВН; ВР (3); ВС (2); ВСп, 89, 90(3); ГВУ; ГП, 8; ДД (3); ДЖ (3); ДНСП (2); 3; ЗЯЗ, 89; ЗС, 17; КП, 170; КЧ; М, 19; МІ, 17; МП; Нз, 14 (5), 15; НДН, 18, 19; НК (8); ОШМ (4); Пр (2); ІІБН (2); ПДз; ПЛП (3); ПС (2); ПСС, 232(6); ПТ, 207; Р; РКР (2); СБ; СНБ, 338, 339(2), 340(3); СНР (2); СП; СС,

300(4), 301(4), 302(3); СЧ (2); Т, 20(5), 21, 22, 23(3), 24(5), 26, 27, 29, 30, 34(2), 35(2), 41(3), 42(3), 43(2), 46, 48, 49(2), 54(2), 55; Тж, 16(3); ТЗУ, 293 (2); Ун, 73; УП; УПУВ; ХБ, 30 (3); ХЛБ (3); ЦСБ (4); Ч, 322 (2), 325; ЧС, 50–51; ШБСЯ.

**Аб Сталіне-сейбіту. Аб усім па троху. Казка аб песьні. Паэт аб сабе.**

**АБА** (3) *прыназ.* з М. Тое, што аб з аб'ектна-атрыбуты'нымі адносінамі (у спалучэнні з займеннікам мне). *Аба мне* [трактарыстцы] *ён* [стаханавец] *будзе Думкі думаць міла, Што з табой* [трактарам] *сядзела, Сны, дзявочыя сніла.* ПТ, 208. [Наста]: *Я ж вам* [Мікіту] *ужо цяперся забараніла думаць аба мне, пакуль не зробіцеся асэсарам!* Т, 42. Т, 62. *..Параўн.* обо.

**АБАБІТЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* [абабіць]. *перан.* Упрыгожаны, акаймаваны. *Уваходзіць Мікіта. На шапцы ў яго вялікі значок з белым арлом – брыль абабіты бляхай..* Т, 54.

Адз. м. Н. *абабіты*: Т, 54.

**АБАВЯЗАК** (5) *м.* Тое, што хто-н. павінен выконваць. *І абавязак паэта, калі ён не хоча адарваца ад жыцця, своечасова і высокамастацкімі творамі адгукваца на ўсе гэтыя падзеі.* МП. [Мікіта]: *Меджду протчым, абавязак мой – паказаць гэтым новым завадзілам іхняе належнае месца.* Т, 22.

Адз. Н. *абавязак* (3): ВС; МП; Т, 22. В. *абавязак:* РКр. Т. *абавязкам:* ЛР.

**АБАВЯЗАНЫ** (4). *дзеепрым. У знач. вык.* Павінен.. [Спічыні]: *Можаце думаць усё, што толькі вам* [Мікіце] *падабаецца, але гаварыць абавязаны толькі тое, што іншым падабаецца.* Т, 40. *Камісарыят Земляробства абавязан ня спаць у шапку, а падумаць аб тым, каб поўнасцю задаволіць літаратурай нашых земляробаў..* ВСп, 90.

Адз. м. Н. *абавязаны*: Т, 40. Кар. адз. ж. Н. *абавязана* (3); А, 328; ВСп, 90; УПУВ.

**[АБАВЯЗВАЦЬ]** (3) *незак.* Ускладаць на каго-н. якія-н. абавязкі. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, якія стаялі па-за пралетарскімі пісьменніцкім арганізацыямі, само сабой абавязвае іх апраўдаць гэты давер'е* ДНСП. [Пан]: *Ваша* [Мікіты] *гасціннасць у тыя, цяжкія для нашага стану часы абавязвала мяне як найхутчэй прывітаць вас ад сябе і ад маіх...* Т, 51.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *абавязвае* (2): ДНСП; Т, 21. Пр. адз. ж. *абавязвала:* Т, 51.

**АБАВЯЗКОВА** (3) *прысл.* Безумоўна. [Янка]: *Абавязкова павянчаліся.* [Янка з Аленкай], *ды яшчэ як урачыста.* Т, 53. [Мікіта]: *Таксама паміж купляючымі трэба выдзяляць іхнія*

*рангі і клясы – абавязкова..* Т, 34, 30.

**АБАГУЛЬНЯЮЧЫ** *дзеепрысл.* да [абагульняць]. Знаходзячы агульнае ў чым-н. *Абагульняючы ўсё сказанае аб беларускай выдавецкай справе за мінулы год, трэба адзначыць, што зроблена вельмі многа.* ВСп, 91.

**[АБАДЗІСТЫ]** *прым. Наватв.* Купальны. *Як дубы у полі чыстым, Як сасонкі ў боры, Як у небе абадзістым Тые сьвечкі – зоры, – Так магучы, яснасьветны На пагляд былі ўсе* [сыны].. Дз, 189.

Адз. н. М. *абадзістым*: Дз, 189.

**[АБАДРАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* [абадраць]. *перан.* **1.** *Голы (пра галіну), спустошаны. Загубіў /другі сын/ сваю скуру, чужая-ж ня цешыць Абадранай душы ў павуціне..* Ч, 321.

Адз.ж. Р. *абадранай*: Ч, 321.

**[АБАЗНАЧЫЦЬ]** *зак.* Пакінуць, памеціць след. *А як сьлед свой зарнічным сьвятлом абазначым, – За табой* [першым братам] *кінуць зморы ганяцца.* Ч, 323.

Абв. буд. мн. I ас. *абазначым*: Ч, 323.

**[АБАЛВАНІЦЬ]** *зак. Разм.* Абдурыць, ашукадь. [Гануля]: *А мой жа ты сыночак! Хто ж цябе гэта абалваніў?* Т, 58.

Абв. пр. адз. м. *абалваніў*: Т, 58.

**[АБАПЕРЦІ]** *зак.* Нахіліць, апусціць што-н. [Спічыні]: *Левую руку абапрыце [*Мікіта*] на левы клуб.* Т, 40.

Заг. мн. 2 ас. *абапрыце*: Т, 40.

**[АБАРАНІЦЬ]** *зак. да* абараняць. Выратаваць, засцерагчы. [Чырвоная армія], *калі гэта трэба будзе, ад любога ворага абароніць краіну Советаў.* ЖН.

Абв. буд. адз. 3 ас. *абароніць*: ЖН.

**[АБАРАНЯЦЬ]** *незак.* Адбіваць напад, засцерагаць ад нападу ворага. *Родные мае, яснавокія багатыры! ..абараняйце сваю зямлю, змагайцеся так, як змагаліся вашы продкі, не давайце літасці ворагу!..*РКП.

Заг. мн 2 ас. *абараняйце*: РКП.

**[АБАРВАНЫ]** (4) *дзеепрым. зал. пр. да* [абарваць]. **1.** Падраны, зношаны. *Янка і Алёнка выходзяць і спатыкаюць на парозе у напаўбасяцкім абарваным адзенні Даму і Спраўніка, з якімі раскланьваюцца.* Т, 57.

**2.** Апрануты ў ірванае арзенне. *З-пад Смаргоні, з-пад Маладзечна, з-пад Крывічоў і г.д. абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць...* АБ, 16, *.. змучаныя, абарваныя перасяленцы варочаліся з далёкай чужыны ў сваю .. родную Беларусь.* ЗС,18.

Адз. н. М. *абарваным*: Т, 57. Мн. Н. *абарваныя* (3): АБ, 16; ЗС, 18; ХЛБ.

**[АБАРОНА]** (9) *ж. Дзеянне па дзеяслову* абараняць. *Я* [Купала] *шчасліў, што ў час малейшай трывогі беларускі народ паднімецца як адзін на абарону совецкіх межаў.* ДЖ. *Хай-жа гэтая* [беларуская] *армія стане абаронай свае Айчыны!* БСУ.

Адз. Р. *абароны* (4): НДп; НДН, 19; ПЧ; СНБ, 338. Д. *абароне*: ВН. В. *абарону* (3): ВГ; ВН; ДЖ. Т. *абаронай*: БСУ.

**[АБАРОНЦА]** *м.* Заступнік. *Гэтую прыязнь да савецкае культуры, да нашае краіны, у якой народ Чэхаславакіі бачыць адзінага абаронца міру і цывілізацыі, мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчулі на афіцыйных прыёмах..* ПЧ.

Адз. В. *абаронца*: ПЧ.

**[АБАРОТНЫ]** *прым. Спец.* Прызначаны для абароту, наяўны ў абароце. *Гэтым Баця сцягвае патрэбныя яму абаротныя сродкі..* ПЧ.

Мн. В. *абаротныя*: ПЧ.

**[АБАЧЫЦЬ]** (2) *зак. Разм.* Пабачыць. [Мікіта]: [*Набок*]. *Абач, абач, і немцы адзяюцца щ форму а-ля-кум пажарны, гэта – каб не хапалі, мабыць, іх саміх на работу.* Т, 32.

Заг. адз. 2 ас. *абач* (2): Т, 32 (2).

**АБВАСТРЭНЬНЕ** *н.* Напружанне, жорсткасць. *Адгэтуль незвычайнае абвастрэньне клясавай барацьбы, адгэтуль шалёнае супраціўленьне капіталістычных элемэнтаў..* АЛ.

Адз. Н. *абвастрэньне*: АЛ.

**АБВЕШАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* [абвешаць]. *Увешаны з усіх бакоў .. іншы стары дуб бывае абвешаны гэтымі калодамі* [вуллямі]... ХБ, 30.

Адз. м. Н. *абвешаны*: ХБ, 30.

**[АБВЕШЧАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* [абвесціць]. Аб'яўлены, абнародаваны. *..1 студзеня была абвешчана «Незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка» у федэратыўнай сувязі з Маскоўшчынай.* СНБ, 338. *Адначасна стары беларускі ўрад «Рада Беларускай Народнай Рэслублікі і Рада міністраў Б.Н.Р. « былі абвешчаны без абароны закону.* Там жа.

Кар. адз. ж. Н. *абвешчана*: СНБ, 338. Мн. Н. *абвешчаны*: СНБ, 339.

**АБВЕЯНЫ** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* [абвеяць]. *перан.* **1.** Ахутаны. *Домік у Горках абвеяны хваляй, Домік – не домік, – бядняцкая хата.* СД.

**2.** Акружаны пэўнымі адносінамі. *Вольныя людзі, як пчолы руплівыя, Творать быт новы, абвеяны славаю.* ДПЛС.

Адз. м. Н. *абвеяны*: СДВ. *абвеяны*: ДПЛС.

**[АБВІНЯЦЬ]** *незак. Руск.* Абвінавачваць. *Абвіняюць* [суддзі настаўнікаў] *па 126 ст. па першай часьці.* ВД.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *абвіняюць*: ВД.

**[АБВОСТРАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* [абвастрыць]. Напружаны. *Арэнай такой абвостранай клясавай барацьбы з’яўляецца, зразумела, і БССР.* АЛ.

Адз. ж. Р. *адвостранай*: АЛ.

**[АБВЯШЧАЦЬ]** (2) *незак. перан.* **1.** Прадказваць. [Мікіта]: *Абвяшчаю ўсім, усім, усім: немцы акупавалі, меджду протчым, Менск!..* Т, 31.

**2.** Аб’яўляць. [Мікіта]: *Абвяшчаю вас* [чырвонаармейца] *сваім палонным!* Т, 31.

Абв. цяп. адз, 1 ас. *абвяшчаю* (2): Т, 31, 52.

**[АБДЗЕРЦІ]** *зак.* Абтрапаць. *Паўстань з народу нашага, Ўладар, Адбудаваць свой збураны пасад, Бо твой народ забыў, хто гаспадар І хто яго абдзёр з каронных шат.* ПТ.

Абв. пр. адз. м. *абдзёр*: ПТ.

**[АБЕД]** (2) *м.* **1.** Яда. *Калі возьмеш першае і другое сьледам: – Што калісьці бегало, цяпер – за абедам.* $Ш_3$.

**2.** Час, у які абедаюць.. *Нас* [дэлегатаў] *надзвычай узрушыла адна сустрэча на абедзе ў Прасценаўскай ратушы..* ПЧ.

Адз. Т. *абедам*: Ш3. М. *абедзе*: ПЧ.

**[АБ’ЕДКІ]** *толькі мн.* Рэшткі яды. *Годзе нам* [*беларусам*] *есьці аб’едкі і косьці, Злыбядзе ўсякай паклоны дарыць!* Г, 17.

В. *аб’едкі*: Г, 17.

**[АБЕДНЯ]** *ж. Рэл.* Дзённае набажэнства хрысціян.

◊**Сапсаваць усю абедню** *гл.* сапсаваць.

Адз. В. *абедню*: Т, 24.

**АБЕЛАРУСІЦЦА** *зак.* Выдавацца ў традыцыях беларускага нацыянальнага характару і культуры. *Адзначыў* [Купала] *толькі, што пара ўжо “Вестнику” Беларускага Камісарыяту Асьветы абеларусіцца зусім.* ВСп, 90.

Інф. *абеларусіцца*: ВСп, 90.

**[АБЕЛАРУШЧЫВАННЕ]** *н. Наватв.* Выхаванне ў традыцыях беларускага нацыянальнага характару і культуры. [Мікіта]: *Кажа, што ён* [Спічыні] *толькі спэц адбеларушчываць, а да абеларушчывання яго яшчэ змалку адвярнула.* Т, 56.

Адз. Р. *абеларушчывання*: Т, 56.

**[АБ’ЕХАЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Скалясіць, пабыць усюды. *З табою* [трактарам] *аб’едзем Навокала света, Людзі нас* [трактарыстку і трактар] *сустрэнуць з вясёлым прыветам.* ПТ, 207.

**2.** Абмінуць што-н. *Трэба стварыць камісію, каторая б аб’ехала і абследавала найболей зніштожаныя месцы, падлічыла ўсе страты і падала рахунак.* АБ, 16.

Абв. пр. адз. ж. *аб’ехала*: АБ, 16. Буд. мн. І ас. *аб’едзем*: ПТ, 207.

**АБЕЦАНКА** гл. **АБЯЦАНКА**.

**[АБІВАЦЬ]** *незак.* Абрываць, зрываць. *А вецер гуляе, Абівае росы, Косы расплятае, Мае* [трактарысткі] *русы косы.* ПТ, 206.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *абівае*: ПТ, 206.

**[АБКРУЖАЮЧЫ]** (2) *дзеепрым. незал. цяп. да* [абкружаць]. Які стварае вакол каго-н. пэўную атмасферу. *..я* [Купала] *і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся як гэта належала, абкружаючага мяне нацыянал-дэмократычнаго асяродзішча..* АЛ. *.. я* [Купала], *.. ўвесь час утапаючы ў пратухлым балоце абкружаючых мяне контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных дзеячоў, .. не дапамагаў .. ажыцьцяўленьню сацыялізму.* Там жа.

Адз. н. Р. *абкружаючага*: АЛ. Мн. Р. *абкружаючых*: АЛ.

**[АБЛАВА]** *ж. перан. У знач. прысл.* Нахабна, нахрапам. *Брат другі шоў на нетры сьляпыя аблавай, Воблік крадзены кідаў загубам..* Ч, 324.

Адз. Т. *аблавай*: Ч, 324.

**[АБЛАСНЫ]** *прым.* Які адносіцца да вобласці. *Гэткім чынам змагаліся смаленскія абласныя камісары з усялякімі, нават бальшавіцкімі, праявамі беларушчыны.* СНБ, 338.

Мн. Н. *абласныя*: СНБ, 338.

**[АБЛІЗАЦЬ]** *зак.*: ◊**Пальцы аблізаць –** адчуць прыемнае, прывабнае, смачнае. [Мікіта]: *Вось тут селядцы, во, цыбуля, а вот сала, а тут... меджду протчым – кілечкі... пальцы госцікі абліжуць.* Т, 21.

Абв. буд. мн. 3 ас. *абліжуць*: Т, 21.

[**АБЛІТЫ**] (2) *дзеепрым. зал. пр. да* [абліць]. *перан.* **1.** Насычаны, напоўнены. *Кроўю цёплай сьцюдзёныя вогнішчы тушыць* [чараўнік]*, Сэрцы лёдам аблітыя лушчыць..* Ч, 325.

2. Асветлены. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга .. не давалі мне гэтулькі асалоды і прыемнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага васеньняга сонца.* ХБ, 29.

Мн. Р. *аблітых*: ХБ, 29. В. *аблітыя*: Ч, 325.

**[АБЛІЦЦА]** *зак. перан.* Заліцца. *Путы звонка бражджаць і ўгары, і ўнізу, Жутка вісельні граюць, сьлізгоча пятля; Той абліуся крывёй, той сьцірае сьлязу...* БН, 92.

Абв. пр. адз. м. *абліўся*: БН, 92.

**АБЛІЧЧА** н. Т*ое, што твар у* 1 *значэнні*. *А ў нас стаў квітнеючым край беларускі, Змяніліся людзі, абліччa зямлі..* ПБН. *Параўн.* воблік.

Адз. Н. *абліччa*: ПБН.

**[АБЛОМАК]** (4) *м.* Адламаны, адбіты кавалак чаго-н. *Чырвонаармеец палажыў убок абломак стрэльбы і паглядае,*

*не разумеючы, у чым справа.* Т, 52. *Уваходзіць Чырвонаармеец з абломкам стрэльбы.* Там жа.

**2.** *перан.* Рэшта. *Хай час ідзе, хістаючыся ў дыме, І хай ляжыць стары ў абломках свет..* ВБЛ, 81.

Адз. В. *абломак*: Т, 52. Т. *абломкам* (2): Т, 52, 53. Мн. М. *абломках*: ВБЛ, 81.

**[АБЛУДНЫ]** *прым. Абл.* Ілжывы. *А цяпер вы* [паны гандляры] *ўсе – і з Заходу, і з Усходу – усе кідаеце аблудны кліч на староны, што вы ваявалі за вызваленне нявольнікаў, за самаазначэнне народаў...* Тж, 16.

Адз. м. В. *аблудны*: Тж, 16.

**АБЛЯГЧЫЦЬ** (2) *зак. перан.* Палегчыць, паслабіць. *Першым чынам нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю* [Купала] *д-ру Казубоўскаму і д-ру Маліноўскаму: .. другому за шчыра-бацькаўскі даглёд і перавязкі, якімі стараўся аблягчыць мае цяжкія мучэньні.* ЛР. // Аблегчыць. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялян-беднякоў і серадзнякоў розных нацыянальнсьцяў .. контр-рэвалюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы супрацьставілі лёзунг самобытнасьці беларускай нацыі, .. каб гэтым самым аблягчыць сваёй нацыянальнай буржуазіі перамогу..* АЛ.

Інф. *аблягчыць*(2): АЛ; ЛР.

**[АБЛЯГЧЭННЕ]** *н.*: **∆З аблягчэннем уздыхнуць** *гл.* уздыхнуць.

Адз. Т, *аблягчэннем*: СНБ.

**[АБМАН]** *м. Руск.* Мана, падман, хлусня. *І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі,.. – усё гэта будзе абманам.* НДН, 18.

Адз. Т. *абманам:* НДН, 18.

**[АБМАННЫ]** *прым. Руск.* Падманны, хлуслівы. *Дык не кідайце ж* [паны гандляры] *вялікіх абманных лозунгаў аб сваіх заходніх ці ўсходніх пяршынствах.* Тж, 16.

Мн. Р. *абманных*: Тж, 16.

**АБМАСКАЛІЦЬ** *зак. Абраз.* Абрусіць. *..беларускі народ застаўся беларускім народам, ня гледзячы на ўсе падашуканство, якое пускаў маскоўскі урад, каб абмаскаліць наш народ.* ДК.

Інф. *абмаскаліць*: ДК.

**АБМАЦКАМ** (2) *прысл. Разм.* Вобмацкам. *Каб таму маланкай Асьляпіла вочы І блукаў абмацкам Ён у дзень і ў ночы, – Хто для нашых дзетак Хоча асьляплення.* К. // Інтуітыўна. *Ды і сотні такіх прыкладаў паказуе, як гэта наша моладзь пачынае сама не сабе, не раз абмацкам, нацянькі будаваць сваё роднае, светлае, народнае жыццё.* МІ, 17.

**[АБМЕЖАВАНАСЦЬ]** *ж.* Уласцівасць абмежаванага.*Стары*

*правапіс, у якім не мала было засмечанасці, нацдэмаўскай, "самабытнай" архаічнасці, – трымаў беларускую мову ў палоне правінцыялізма, у рамках нацыяналістычнай абмежаванасці.* ШБСЯ.

Адз. Р. *Абмежаванасці:* ШБСЯ.

**АБМІНАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* [абмінаць] Мінаючы, абходзячы. *Абмінаючы ўсе іншые недахваткі нашага палітычна-дзяржаўнага і нацыянальнага жыцця, я* [Купала] *хачу тут звярнуць увагу на справу беларускага нацыянальнага гымна.* СБНГ.

**[АБМЯЖОВАНЫ]** *дзеепрым. ад. зал. пр. да* [абмежаваць]. Пастаўлены ў пэўныя рамкі. *Дзяржаўныя граніцы, абмяжованыя рознымі дагаворамі і трактатамі, ляжалі на сваім месцы.* СНБ, 336.

Мн. Н, *абмяжованыя*: СНБ, 336.

**АБНЕТРЫЦЬ** *зак. Наватв.* Знявечыць. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам,.. Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека Даць папас на магільным папасе..* Ч, 325.

Інф. *абнетрыць*: Ч, 325.

**[АБНІМАЦЬ]** *незак. перан.* Саграваць. *Іншы раз ціхім сонцам зямлю абнімала /судзьбіна/, Іншы раз пярунамі шумела.* Ч, 322.

Абв. пр. адз. ж. *абнімала*: Ч, 322.

**АБНЯВОЛІЦЦА** (2) *зак. Наватв.* Зняволіцца. *Па другой* [дарозе] *пайсці – Абняволіцца. Гэй, гэй, гэй, абняволіцца! Бо і заходні бок Шляхтой коціцца.* ББ.

Інф. *абняволіцца* (2): ББ (2).

**[АБНЯТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* абняць *у* 4 *знач. Ад рання і да рання, Калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае піянне, Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.* СК, 158.

Адз. м. В. *абняты*: СК, І58.

**[АБНЯЦЦА]** (2) *зак. перан.* Злучыцца. *Глуш абнялася з цішыной і спавівае ўсё у чары.* Кц, 192. *Здань за зданьню паўзе, кожна здань – як змяя, Тая прэцца уверх, тая ціснецца к дну. Абняліся з сабой у шалёну гульню, Вочы прыскам зіяюць, з губ коціцца дым...* БН, 92.

Абв. пр. адз, ж. *абнялася*: Кц, 7. Пр. мн. *абняліся:* БН, 92.

**[АБНЯЦЬ]** (2) *зак. перан.* **1.** Акружыць. *Вецер свабодны гуляе па скалах, Скалы абнялі арлы, арляняты.* СД.

**2.** Ахапіць, авалодаць. *А душа сама – без хаты, Знаць з вялікай мукі То зрывае з сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі, То паказвае на плечы, то капец абойме...* Дз, І9І.

Абв. пр. мн. *абнялі* : СД. Буд. адз. 3 ас. абойме: Дз, І9І.

**АБО** (27) *злучн.* **1.** *размеркавальны* (26). Супастаўляе члены з узаемным выключэннем. [Мікіта]: *.. мадам-сіньёра і вашародзіе,*

*сядзеце або стойце спакойна..* Т, 59. *Пойдзе ён* [Пасляк] *у поле араць, або пойдзё на начлег, я* [Купала] *заўсёды з ім...* ПС. // Выражае аднолькава магчьмае ці раўназначнае супастауленне. *Ніхто гэтакіх паходаў Не чуў і не бачыў, – Гэта ў казках знойдзем толькі, Або ў снах дзіцячых.* ЗЯЗ, 90 *..ураднік адказаў, што ён не разумее беларускай мовы і дзеле таго просьбы прыняць ня можа і што ўсе просьбы павінны пісацца па-польску або па-расійску.* ОШМ. *Параўн.* ілі АЛ; ВН (4); ВСп, 89(2); 3; Кц, 197; ОШМ (3); Пц; ПС (2); Т, 20, 32, 37(2), 40, 41, 56.

**2.** *далучальны*. Далучае члены сказа з дадатковымі заўвагамі. *Але на гэты раз нас цікавяць ня так самыя выпадкі нарушэньня дробнымі ўраднікамі распараджэньняў свайго вышэйшага начальства, як гэтых выпадкаў афарбоўка, або, лепш сказаць, апраўданьні.* ОШМ.

**АБОДВА** (3), **АБАДВА** (3), **[АБЕДЗВЕ]** *ліч., зборны*. Як той, так і другі. *Абодва* [заходні і ўсходні вучоныя] *кланяюцца адзін аднаму і прысутным.* Т, 26. *Абедзьве газеты, як маглі, змагаліся з "Нашай Нівай" і наогул – з беларускім рухам.* У. *Калі ўжо вісець, то за абедзве нагі.* Ан, 19. *Гэта наша* [дэлегатаў] *знаёмства з культурнымі дзеячамі Чзхаславакіі з'яўляецца пачаткам цеснай культурнай сувязі абодвух краін.* ПЧ.

*Параўн.* абое.

м. Н. *абодва* (3): Т, 26, 39, 45. ж. Н. *абедзьве*: У. Р. *абодвух*: ПЧ. В. *абедзве*: Ан, 19. *абедзьве* (2): ВС, 91; Т, 59.

**АБОЕ** (3) *ліч., зборны Тое, што* абодва [абедзве, абедзьве, абодве]. *Выходзяць абое, паўза*. Т, 32. *Адзін яшчэ сяк-так мясціўся ў сям'і, а як жаніўся, дык – і не хапіла абаім месца.* Там жа, 20.

Н. *абое*: Т, 32. Р. *абоіх*: Т, 25. Д. *абаім*: Т, 20.

**[АБОЗ]** (5) *м.* Сукупнасць фурманак, падвод. *Яны* [бежанцы] *з абозам на ўсход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях..* ВБЛ, 80.

◊**Браць у абоз** – прымушаць каго-н. з яго транспартнымі сродкамі несці службу ў вайсковым абозе. [Аленка]: *Як татку, бывала, бяруць у абоз, дык ён заўсёды і кажа, што едзе акупантаў вывозіць.* Т, 54. **Пагнаць [пагнаўшы] у абоз** (3) – прымусіць (прмусіўшы) каго-н. з яго транспартнымі сродкамі несці службу у вайсковым абозе. [Аленка]: *Мы* [Аленка і Янка] *прыехалі татку з палону вызваляць. Бачыце* [Мікіта]*, немцы Яго у абоз пагналі..* Т, 35. [Мікіта]: *..здаецца, немцы хацелі вас* [Гарошку] *выганяць, пагнаўшы ў абоз...* Там жа, 37.

Адз. В. *абоз* (4): Т, 35, 37, 54(2). Т. *абозам*: ВБЛ, 80.

**[АБОРА]** *ж.* Шнур у лапцях. *– Ха-ха! – цярэбіць патыліцу*

*засьцянковы беларускі шляхціц “польскай культуры”, завязваючы аборы ў лапцях.* 3.

Мн. В. *Аборы*: 3.

**[АБОРКА]** *ж.* Невялікая вяроўка. *Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: ..два селядцы, звязаныя лыкам, тры воблы, нанізаныя на аборку..* Т, 45.

Адз. В. *аборку*: Т, 45.

**[АБОРЫГЕН]** *ж.* Абарыген, карэнны жыхар. [Усходні вучоны]: *Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэні і занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая – включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

Мн. Р. *аборыгенов*: Т, 39.

**[АБРАБЛЯЦЬ]** *незак.* Апрацоўваць, даглядаць што-н. *Але абрабляюць глебу сяляне старанна: за баронамі ідуць з адмысловымі даўбежкамі.* ПЧ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *абрабляюць*: ПЧ.

**[АБРАЖАЦЬ]** (2) *незак.* Крыўдзіць каго-н. [Мікіта]: *Медждду протчым, дзядзька беларус, вы мяне абражаеце.* Т, 36. [Мікіта] (стукаючы кулаком па стале): *Медждду протчым... медждду протчым... вы* [Янка] *мяне абражаеце.* Там жа, 22.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *абражаеце*: Т, 22, 36.

**АБРЖАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* абражаць. *..мэлёдыя была незнаёмая, і ніхто не ўстаў, абражаючы гэтым, якбы здавалося, гонар беларускай нацыі.* СБНГ.

**[АБРАЗ]**[1] (13) *м.* **1.** Ікона. *Ён* [Даніла] *вязе ўсім падарункі Маці срэбны абраз..* ПСД. *Нявольнікі вы* [жыды] *сёньня з намі* [беларусамі] *разам На беларускай змучанай зямлі, Дзе чорны зьдзек пасьвенчаны абразам Пляце нас разам, як звяр'ё, у крутой пятлі.* Ж.

**2.** Партрэт. *На сценах у рамках колькі тандэтных абразоў – партрэтаў высокапастаўленых асоб..* Т, 19. *.. Мікіта пераварочвае абразы, Наста.. дапамагае.* Там жа, 50.

◊**Быць жывым абразам –** быць узорам, прыкладам чаго-н. *Як са мною* [маці] *будуць* [сыны] *разам Жыці, панаваці, Славы быць жывым абразам У людзей і ў хаце...* Дз, 188.

Адз. В. *абраз*: ПСД. Т. *абразам* (2): Дз, 188; Ж. Мн. Н. *абразы* (2): Т, 43, 48. Р. *абразоў* (2): Т, 19, 52. В. *абразы* (6): Т, 48, 50(2), 59(3).

**[АБРАЗ]**[2] *м. Разм.* Выгляд. *Такі мае абраз нашая старонка ў вачах вялікага паэта.* ХБ, 28.

Адз. В. *абраз*: ХБ, 28.

**[АБРУС]** (3) *м. Тое, што* настольнік. *Золататканы абрусы з сталоў зьвісаюць дыванамі..* Кц, 192. *На абрусах чысьцей расы Віно красуецца каўшамі.* Там жа.

Мн. Н. *абрусы*: Кц, 192. Т. *абрусамі*: Кз, 17. М. *абрусах*: Кц, 192.

**[АБСАЛЮТНЫ]** (2) *прым.* Безумоўны, неабмежаваны, пераважны. [Мікіта]: *.. На тое ж у нас* [у дзяржаве] *абсалютная свабода, каб усё жывое мела абсалютнае раўнапраўе.* Т, 45.

Адз. ж. Н. *абсалютная*: Т, 45. н. В. *абсалютнае*: Т, 45.

**[АБСЕЯЦЬ]** *зак.* Дасеяць. *Абсееш* [правадыр] *пасевам жывучым загоны і сцежкі намеціш да сонца і зораў.* ТП, 217.

Абв. буд. адз. 2 ас. *абсееш*: ТІІ, 217.

**[АБСКУБАНД]** (2) *м. Разм.; абразл. Тое што* акупант. [Аленка]: *Не абскубанды, тата, але акупанты.* Т, 37. [Гарошка]: *Ну і што там цікавага? Мала йшчэ вас* [Аленку і Янку] *гэтыя абскубанды паскубалі.* Там жа, 44.

Мн. Н. *абскубанды* (2): Т, 37, 44.

**[АБСЛЕДАВАЦЬ]** *зак.* Зрабіць праверку, агляд чаго-н. *Трэба стварыць камісію, каторая б аб'ехала і абследавала найболей зніштожаныя месцы.* АБ, 16.

Абв. пр. адз. ж. *абследавала*: АБ, 16.

**[АБСТАВІНЫ]** *толькі мн.* Абстаноўка, [Мікіта]: *Усё гэта вымагала тое-сёе змяніць у хатніх абставінах..* Т, 48.

Мн. М. *абставінах*: Т, 48.

**[АБСТАНОЎКА]** *ж.* Становішчы на месцы ваенных дзеянняў. *Назіральнік сядзеў на кашлатай яліне і вымаўляў незвычайныя для баявой абстаноўкі словы..* ПСп.

Адз. Р. *абстаноўкі*: ПСп.

**АБСТАЎЛЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* [абставіць]. Застаўлены мэбляй. *Даволі абшырны пакой, беднаваты, па-дробнамяшчанскаму абстаўлены.* Т, 19.

Адз. м. Н. *абстаўлены*: Т, 19.

**АБСЦИСА** *ж. Руск. Тое, што* абсцыса. *..на расійскай палавіне слоўніка стаіць: Абсциса, Факториал, на беларускай – Абсцыса, Фактарыял.* ВСп, 89.

Адз. Н. *абсциса:* ВСп, 89.

**АБСЦЫСА** *ж. Спец.* Адна з трох каардынат для паказвання месцазнаходжання пункта ў прасторы. *..на расійскай палавіне слоўніка стаіць: Абсциса, Факториал, на беларускай – Абсцыса, Фактарыял.* ВСп, 89. *Параўн.* абсциса.

Адз. Н. *Абсцыса:* ВСп, 89.

**[АБСЫПАЦЬ]** (2) *зак. да* абсыпбць. Засыпаць, пакрыць, пасыпаць. *Песняй прывітаюць Каля кожнай хаты, Кветкамі абсыпяць Нас з табой* [трактарыстку з трактарам] *дзяўчаты.* ПТ, 207. *Дзяўчына. кветкамі абсып курган вялікі..* СК, 158.

Абв. буд. мн. 3 ас. *абсыпяць*: ПТ, 207. Заг. адз. 2 ас, *абсып*: СК, 158.

**[АБУВАЦЬ]** *незак.*: ◊**У лапці абуваць –** даводзіць да беднасці. [Янка]: *У лапці* [суддзі] *абувалі* [народ], *з торбамі пушчалі ды ў сібірскія катаргі вывозілі.* Т, 21.

Абв. пр. мн. *абувалі*: Т, 21.

**[АБУДЗІЦЬ]** (2) *зак. да* абуджаць *перан.* **1.** Вярнуць, да жыцця, дзейнасці. *Той, хто народ абудзіў, шчасьлівіў, У доміку гэтым убачыў свет Сталін.* СД.

**2.** Выклікаць, выявіць якія-н. пачуцці. *Кнігі абудзілі ва мне* [Купале] *фантазію*. ПС.

Абв. пр. адз. м. *абудзіў*: СД. Мн. *абудзілі*: ПС.

**[АБУНТАРАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* [абунтарыць]. *Наватв.* Прасякнуты бунтарскім духам, узбунтаваны. *Сьветларусая гладзь расхвалёваных ніў Уліла мне ў душу адчуваньняў разьліў. І навеяла шмат абунтараных дум...* АР.

Мн. Р. *абунтараных*: АР.

**АБУРЭНЬНЕ** н.: Δ**Сказ-абурэньне** *гл.* сказ.

Адз. Н. *абурэньне*: ВБЛ, 81.

**АБУТКОВЫ** (2) *прым.*: •**Абутковы горад** *гл.* горад.

Адз. м. Н. *абутковы* (2): ПЧ (2).

**[АБУЧАЦЬ]** *незак, перан.* Лупцаваць. *..наехали там "госьци" и па-свойму слабаджанаў абучали нагайками...* ХЛБ.

Абв. пр. мн. *абучали*: ХЛБ.

**[АБУЧЭНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* абучыць. Навучаны чаму-н. *Бо толькі тое гасударство зможэ не даца ў крыўду або і перамагчы свайго праціўніка, каторае выставіць вялікую лічбу добра абучэных ваеннаму дзелу салдат..* ВН.

Мн. Р. *абучэных*: ВН.

**АБХАПІЦЬ** (2) *зак. перан.* Апанаваць, падпарадкаваць. *Каб лягчэй было абхапіць і разабрацца ў тым, што зроблена за такі кароткі прасцяг часу,.. мы спачатку памяшчаем падробную табліцу ўсяго надрукаванага..* ВСп, 89. [Янка]: *З гэтага нічога не выйдзе, пане вучоны. Бо абхапіць гэтае "далей" закораткі вашы пяты.* Т, 39.

Інф. *абхапіць* (2): ВСп, 89; Т, 39.

**АБХАРАШЫЦІ** *зак. Разм.* Узбагаціць, упрыгожыць. *А нашы хаты, нашы сёлы Хай з думкай носяцца аднэй: Як гэты вобшар невясёлы Абхарашыці багацей.* УрП, 50.

Інф. *абхарашыці*: УрП, 50.

**[АБХОДЗІЦЦА]** (2) *незак.* Ставіцца, выяўляць да каго-н. пэўныя адносіны. [Мікіта]: *Можа чалавек, а можа і не, бо з нашымі рангамі і клясамі абходзіцца зусім не па-чалавецку.* Т, 22. *Кали маеш брата, ци дарослаго сына, абходзься з ими ласкава..* СП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *абходзіцца*: Т, 22. Заг. адз. 2 ас. *абходзься*: СП.

**АБХОДЗІЦЬ** (4) *незак.* **1.** Праходзіць вакол чаго-н. *Вы, другі верные, ганцы, Як летась, сёлета, на лета Усе пагранічные капцы Абходзьце зноў з маім* [князя] *прыветам.* Кц, 196. // *Вобразн.* Урадзіць. *Верасень-месяц абходзіў палеткі..* ВМ, 72. *Параўн.* абыходзіці.

**2.** Знарок мінаць. *І вось мы, беларусы, гаворачы аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці, не павінны абходзіць моўчкі балючага пытання..* НДН, 18.

**3.** Турбаваць, непакоіць. [Мікіта]: *Але мяне зласлівыя гутаркі зайздросных людзей мала абходзяць.* Т, 36.

Інф. *абходзіць*: НДН, 18. Абв. цяп. мн. 3 ас. *абходзяць*: Т, 36. Пр. адз. м, *абходзіў*: ВМ, 72. Заг. мн. 2 ас.: *абходзьце*: Кц, 196.

**[АБЦУГІ]** *толькі мн.*: ◊**Трымаць жалезнымі абцугамі** *гл.* трымаць.

Мн. Т. *абцугамі*: НДН, 18.

**[АБЧЭСТВЕННЫ]** *прым. Руск., разм.* Грамадскі. *У абчэственных магазынах ёсць немала ў запасе уселякага збожа.* ВС.

Мн. М. *абчэственных*: ВС.

**АБШАР** (9) *разм.* і **ВОБШАР** *м.* Неабсяжная прастора. *Сонцы-б новыя сеяў* [першы брат] *па небе, Абярнуў-бы сялібныя ў полым абшары, І сьвет цэлы спаліў бы ў патрэбе.* Ч, 324. // Тэрыторыя вялікіх памераў. *..мы* [беларусы] *дамагаемся быць самі гаспадарамі толькі таго абшару, дзе жывуць беларусы ў яго этнаграфічных межах..* НДН, 18. *А нашы хаты, нашы сёлы Хай з думкай носяцца аднэй: Як гэты вобшар невясёлы Абхарашыці багацей.* УрП, 50.

Адз. Н. *абшар*: УрП, 47. Р. *абшару*: НДН, 18. В. *вобшар*: УрП,50. Т. *абшарам*: ССА, 294. М. *абшары*: ОШМ. Мн. В. *абшары* (2): СНБ; Ч. 324. М. *абшарах* (3): ЗС, І7; СНБ, 336. ШБСЯ.

**АБШАРНІК** (3) *м.*: Δ**Пан-абшарнік** *гл.* пан.

Адз. Н. *абшарнік*: 3, Мн. Н. *абшарнікі*: ЗС, 17. Р. *абшарнікаў*: ЗС, 18.

**[АБШАРНІЦКІ]** *прым.* Які належыць абшарніку. *Яны* [паны-абшарнікі] *чуюць сваім абшарніцкім пачуццём, ..што ўся зямля пяройдзе да тых,хто яе сваімі рукамі арэ і засявае.* ЗС, 17.

Адз. н. Т. *абшарніцкім*: ЗС, 17.

**[АБШЛІФАВАЦЦА]** *зак. перан.* Усталявацца. [Мікіта]: *..а цяперака, як збольшага рангі і клясы абшліфаваліся, вось яны, гэтыя мае госці, і складаюць нам першым візыту.* Т, 22.

Абв. пр. мн. *абшліфаваліся*: Т, 22.

**АБШЫРНЫ** (2) *прым. Руск.* Прасторны, вялікі. *Даволі абшырны пакой, беднаваты, па-дробнамяшчанскаму абстаўлены.* Т, 19. *Вецер, вецер – такі вясёлы, Так абшырна воля твая!* ВБЛ, 82.

Адз. м. Н. *абшырны*: Т, 19. Кар. адз. ж. Н. *абшырна*: ВБЛ, 82.

**АБЫ** (8) *злучн.* Каб толькі. *На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую.* Нз, 14. *Віхор праміне і прыдзе ясная жыватворчая пагода для ўсіх. Абы толькі рэакцыя урадавая не зьмянілася на рэакцыю грамадзянства.* СНБ. ВР(2); ЗС, 18; Т, 35(2); ВБЛ, 83.

**АБЫВАТАЛЬ** (8) *м. Разм.* Абывацель; хто жыве вузкаасабістымі інтарэсамі. *Хіба можа цёмны беларускі абываталь пажадаць беларускае школы калі ён ня ведае, ці прынясе яна ему карысьць!* ДК. *Беларуская сіла ня можа запэўніць абываталю таго, да чаго ён звык, а перамен.. прынясе шмат.* ВМР.

Адз. Н. *абываталь* (7): ВБЛ, 81; ВМР (5); ДК. Д. *абываталю*: ВМР.

**[АБЫЙСЦІСЯ]** *зак.* Закончыцца добра, без непрыемнасцей. [Спраўнік]: *Наколькі я разумею стратэгію, то, здаецца, справа абыйдзецца без крывяпраліцця.* Т, 52.

Абв. буд. адз. 3 ас. *абыйдзецца*: Т, 52.

**[АБЫМАЛЬНЫ]** *прым. Разм.*: ◊**Падараваць абымальную руку** (трапятлівае сэрца) *гл.* падараваць.

Адз. ж. В. *абымальную*: Т, 42.

**[АБЫМАЦЦА]** *незак. перан. Разм.* Саюзнічаць. *Антанта ..цалуецца з Леніным, абымаецца з Троцкім і Калмановічам..* Ан, 19.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *абымаецца*: Ан, 19.

**[АБЫСЦІ]** (3) *зак. да* абыходзіці. *Я* [першы ганец] *абышоў іх* [людзей] *тройчы раз і відзеў, што ешчэ ўсе жывы.* Кц, 194.

Абв. пр. адз. м. *абышоў* (3): Кц, 194, 195(2).

**АБЫХОДЗІЦІ** *незак. Разм. Тое, што* абходзіць *у* 1 *знач. Гаспадар той суважна свой шнур па святочнаму Абыходзіці будзе, красой любавацца..* ТС, 74.

Інф. *абыходзіці*: ТС, 74.

**[АБЫХОДЗІЦЦА]** *незак.* Адбывацца. *Вядома, не абыходзілася без таго, каб я* [Купала] *не засыпаў, а коні тым часам траплялі ў шкоду.* ПС.

Абв. пр. адз. н. *абыходзілася*: ПС.

**[АБЫЧАЙ]** *м. Руск. Тое, што* звычай *у* 1 *знач. Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру.* Нз, 14.

Адз. В. *абычай*; Нз, 14.

**АБЫ-ЯКІ** *займ.* Які-небудзь. *Нам* [беларусам] *даюць наш сьцяг у рукі і гэты сьцяг мы павінны з трыумфам вынесьці на жыватворнае сьвятло будучыны, вынесьці з гордасьцю.. – сьцяг не абы-які, а свой, беларускі.* БСУ.

Адз. м. Н. *абы-які:* БСУ.

**АБЭЦНЕ** прысл. *Польск. Тое, што* цяпер *у* 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *Людносць абэцне розкшэвя сень на две галэнзі родовэ: племен бялорусінув і племен тэж-бялорусінув з походзэня рэнэгатув і дэгэнэратув.* Т, 26.

**[АБ'ЯДНАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* [аб'яднаць]. Згуртаваны. *..радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў, агентаў царскай ахранкі, аб'яднаных у адной смярдзючай кучцы "права-трацкісцкага блока"?* МП.

Мн. Р. *аб'яднаных*: МП.

**[АБ'ДННАННЕ]** *н.* Згуртаванне. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялян-беднякоў і сераднякоў розных нацыянальнасцей Савецкага Саюзу пад ленінскім сьцягам, контр-рэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы супроцьставілі лёзунг самобытнасьці беларускай нацыі..* АЛ.

Адз. Р. *аб'яднаньня*: АЛ.

**АБЯДНЕЦЬ** (2) *зак.* Стаць бедным, збяднець. [Ганулях]: *Што ж гэта вам так прышлося абяднець?* [Дама]: *Ды не абяднець, мадам! Гэта мы так сабе...з прычыны перамены палітычнай сітуацыі.* Т, 57.

Інф. *абяднець*: Т, 57(2).

**[АБЯЗВЕЧЫЦЬ]** *зак. перан.* Знявечыць, сапсаваць. *Парабкам пану служыў я* [бацька] *з дзён малку, Розум і сілы свае абязвечыў..* Бц, 74.

Абв. пр. адз. м. *абязвечыў*: Бц, 74.

**[АБЯЗДОЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр.* да [абяздоліць]. *У знач. прым.* Няшчасны, прыгнечаны. *Гэта дэмократычная камэдыя, каторая толькі выклікае ня сьмех а горкіе сьлезы, бо чыніцца над жывым, змучаным,абяздоленым народам.* ДК.

Адз. м. М. *абяздоленым:* ДК.

**АБЯРНУЦЦА** (2) *зак. перан.* Змяніцца, ператварыцца. *Мог бы* [наш край] *пры падмозе чалавека абярнуцца ў адзін з найпрыгажэйшых краёў..* ХБ,29. // Ператварыцца ў што-н. *Хай хлеба нашага* [народнага] *кусок распаленым жалезам Абернецца ў ворагавым горле крывасмочным..* ПНд, 314.

Інф. *абярнуцца*: ХБ, 29. Абв. буд. адз. 3 ас. *абернецца*: ПНд, 314.

**[АБЯРНУДЬ]** *зак. перан.* Ператварыць у што-н. *Сонцы-б новыя сеяў* [першы брат] *па небе, Абярнуў-бы сялібныя у полым абшары..* Ч, 324.

Абв. пр. адз. м. *абярнуў*: Ч, 324.

[**АБ’ЯСНІЦЬ**] *зак. Руск.* Зрабіць зразумелым. *Няўжо нас* [беларусаў] *не аб’ясніць розум ясны, І не пакінем біцца з кута ў кут?* Бч, 10.

Абв. буд. адз. 3 ас. *аб’ясніць*: Бч, 10.

**[АБЯСЧЭСЦІЦЬ]** *зак. Руск.* Згвалціць.. *Ён* [пан] *дачку мне* [бацьку] *маю абясчэсціў Непаўналетнюю, дзеспат пракляты.* Бц, 74.

Абв. пр. адз. м. *абясчэсціў*: Бп, 74.

**АБЯЦАНКА** (2) і **[АБЕЦАНКА]** *ж. Разм.* Пустое абяцанне, *..калі яшчэ дзе-не-дзе і зьвіняць яны* [лёзунгі], *то толькі, як байкі для простых людзей, як абяцанкі, якім ужо ніхто ня верыць.* СНБ. *..і шмат каму з беларускага грамадзянства адкрыў* [мінулы год] *вочы, асьлепленые тымі ці іншымі утопіямі і абецанкамі...* Там жа.

Δ**Абяцанка-цацанка:** *Абяцанка-цацанка, а дурному радасьць.* ОШМ.

Адз. Н. *абяцанка*: ОШМ. Мн. Н. *абяцанкі*: СНБ. Т. *абецанкамі*: СНБ.

**[АБЯЦАЦЬ]** (3) *незак.* **1.** Даваць абяцанне. *Чаму на словах нам* [беларусам] *абяцаюць ласку, прыхільнасьць і дапамогу, а на дзеле – зьдзек і паняверку?* ОШМ.

**2.** Выклікаць спадзяванне, падаваць надзею. [Мікіта]: *Гэты, ..рэдактар Гізульскі, ..абяцаў мне вылатвіць “пшэпустку” на выезд, але падашукаў.* Т, 55.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *абяцаюць*: ОШМ. Пр. адз. м. *абяцаў* (2): Т, 55, 58.

**[АВАНГАРД]** *м. перан.* Вядучая частка якога-н. класа. *..толькі працуючы пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, гэтага авангарду рабочае клясы, ..яна* [пэўная частка беларускай інтэлігенцыі] *ня будзе адмецена жыцьцём..* АЛ.

Адз. Р. *авангарду:* АЛ.

**[АВАНТУРЫСТЫЧНЫ]** *прым.* Заснаваны на авантурызме, уласцівы яму. *..я* [Купала], *..утапаючы ў пратухлым балоце абкружаючых мяне контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных дзеячоў, з авантурыстычным політычным мінулым.. не дапамагаў.. ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ.

Адз. н. Т. *авантурыстычным:* АЛ.

**[АВАЦЫЯ]** ж. Калектыўныя працяглыя воплескі. *Публіка паднялася з месц і наладзіла нам* [дэлегатам] *авацыю*. ПЧ.

Адз. В. *авацыю*: ПЧ.

**[АВЕЧКА]** (2) *ж.* Самка барана. *Аб “Думе” можэш думаць колькі ўлезе, але гаворыць голасно асьцерагайся: ..авечку стрыгуць, а цякун (баран) дрыжыць.* СП. *Неяк прыгнаў я* [унук],

*змарыўшыся, з поля Іхнія, панскія, з поля авечкі..* Ун, 73.

Адз. В. *авечку*: СП. Мн. В. *авечкі*: Ун, 73.

**АГА[1]** (6) *часц.* **1.** *сцвярджальная.* Ужываецца пры згодзе, сцвярджэнні [Мікіта]: *Ага! Кідайце сюды ў павозку бялізну, а наверх стаўляйце начоўкі..* Т, 50.

**2.** Указанне на прыпамінанне (5). [Гарошка]: *Ага, успомніў! Дык вось, як нашы* [вяскоўцы] *гэткім чынам апошні суд з князем прайгралі..* Т, 43. [Гануля]: *А я, думала... што ж гэта я думала? Ага, што вы* [Спраўнік] *паехалі з тымі, як і з немцамі.* Там жа, 57. Т, 22, 34, 60.

**АГА[2]** (2) *выкл.* **1.** Указвае на радаснае, здзіўленне. – *Ага!* – *рэдактар на тое. – Гэта добры знак.* Ан, 18.

**2.** Выражэнне злараднасці. – *Ага! Зразумеў!... Ну, выбачай, сватка, гэтакай, слабоды мне* [мужыку] *ешчэ не здарылося бачыць!..* ХЛБ.

**[АГАНЁК]** *м. Памянш. да* агонь *у* 1 *знач. Агні, аганькі, дзе зірнеш, – Не страшны канавы і вір...* ТП, 215.

Мн. Н. *аганькі*: ТП, 215.

**АГАРНУЦЦА** *зак. перан.* Апынуцца ў пэўным душэўным стане. *Пара, пара ўжо агарнуцца і гартам высталіць свой дух..* УрП, 49.

Інф. *агарнуцца*: УрП, 49.

**[АГАРОД]** (3) *м.* **1.** Участак зямлі пад агародніну. *Каб свет атуляўся, як сонцам, свабодай, Чырвоныя макі цвілі ў агародах..* СС, 303.

**2.** Агародная культура. *Родзіць буйна наша* [савецкае] *поле, Сады нашы, агароды..* СА, 182.

◊**Як свінні ў (чужым) агародзе** *гл.* свіння.

Адз. М. *агародзе*: Т, 39. Мн. Н. *агароды*: СА, 182. М. *агародах*: СС, 303.

**[АГАРОДНЫ]** *прым.* Які мае дачыненне да агароду. *Відна з густых коп сена, ..узораных парадкам агародных градак, – Што там* [у Беларусі] *цьвіцецьь дастатак, праўда і парадак.* ХБ, 28.

Мн. Р. *агародных*: ХБ, 28.

**[АГЕНТ]** *м.* Асоба, стаўленік каго-н. *..радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнау, дыверсантаў, забойцаў, агентаў царскай ахранкі...* МП.

Мн. Р. *агентаў*: МП.

**[АГЕНТУРА]** *ж., зб.* Супрацоўнік разведвальнай службы. *Для ажыцьцяўленьня гэтае мэты група контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентаў, у хаўрусе і пад кіраўніцтвам заходне-беларускага нацыянал-фашызму, гэтай агентуры*

*польскага імпэрыялізму... вяла шкодніцкую работу..* АЛ.

Адз. Р. *агентуры*: АЛ.

**[АГІДА]** *ж.* Непрыемнае пачуццё, абурэнне. *Жыцьцё за камізэльку аддаеш ты* [бежанец] *без агіды, На соль мяняючы сваё сумленьне.* ВБЛ, 81.

Адз. Р. *агіды*: ВБЛ, 81.

**[АГІДНЫ]** (3) *прым.* Вельмі дрэнны, брыдкі, гадкі. *..толькі аддаючы свае сілы на соцыялістычнае будаўніцтва, яна* [беларуская інтэлігенцыя] *ня будзе адмецена жыцьцём, як агідная памятка рабочага мінулага.* АЛ. *Лечачыся на сонечным Каўказе, у Кіславодску, я* [Купала] *дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую ўзнялі .. беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса.* ШБСЯ.

Адз. ж. Н. *агідная*: АЛ. М. *агіднай*: ШБСЯ. Мн. Т. *агідным*: МП.

**АГІЛЯЦЦА** *незак. Разм.:* ◊**Агіляцца па бакох** – бяздзейнічаць, гультаяваць, лодырнічаць. *Агулам кажучы, трэба больш за ўсё надзеіцца на свае сілы і не агіляцца па бакох.* ВС.

Інф. *агіляцца*: ВС.

**АГІТАТАР** (4) *м.* Той, хто займаецца агітацыяй. *Само сабою разумеецца, што кожны агітатар набірае сабе пэўны лік прыхільнікаў.* ДК. *І вось, прыхільнікі расійскага агітатара просяць сабе расійскай школы, .. а прыхільнікі беларускага настаўніка – беларускай.* Там жа.

Адз. Н. *агітатар* (2): ДК (2). Р. *агітатара*: ДК. Мн. Н. *агітатары*: ДК.

**АГІТАЦЫЯ** (2) *ж.* Дзейнасць з мэтай уздзеяння на свядомасць, настрой каго-н. *Пачынаюцца выбары да мястовай Рады. Ужо распачата падгатоўчая праца і адбываецца агітацыя.* ВМР. *Такую самую агітацыю вядзе і "Kur. Lit".* ВР.

Адз. Н. *агітацыя*: ВМР. В. *агітацыю*: ВР.

**АГЛЕДЗЕЦЬ** *зак.* Акінуць позіркам, разгледзець. ..[Клім Варашылаў] *бывала, да нас* [беларусаў] *на манеўры Прыедзе агледзець капцы, рубяжы..* НДп, 229. *Падходзь жа, паночку: знімі акуляры – Лепш будзе агледзіць пакупку..* Р.

Інф. *агледзець*: НДп, 229; *агледзіць*: Р.

**[АГЛЕДЗІНЫ]** *толькі мн. Разм.* Вобыск. [Начальнік]: *Мы ўсё-такі маленькія агледзіны зробім вашых* [Мікіты] *рэчаў..* Т, 60.

Мн. В. *агледзіны*: Т, 60.

**АГЛЕДЗІЦЬ** *гл.* **АГЛЕДЗЕЦЬ**.

**[АГЛУШЫЦЬ]** *зак.* Заглушыць. *Чую, ах чую* [Нёман] *цяпер яшчэ ясна Той неўгамонны расходзісты звон... Сціх, занямеў, аглушылі напрасна; Ці адазвецца калі болей ён?..* Н.

Абв. пр. мн. *аглушылі*: Н.

**[АГЛЯДАЦЬ]** (5) і *разм.* **[АГЛЕДАЦЬ]** *незак.* **1.** Акідаць позіркам, разглядаць з усіх бакоў. [Дэлегаты] *аглядалі ваенны аэрадром.* ПЧ. *Пасля прывітання госці рассаджываюцца і крытычным вокам аглядаюць кватэру.* Т, 24.

**2.** Наведваць. *Мы* [дэлегаты] *аглядалі выдатныя гістарычныя мясціны, замкі, будынкі ў Празе і іншых гарадах.* ПЧ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *аглядаюць*: Т, 24. Пр. адз. ж. *аглядала*: КП, 170; *агледала*: ПН, 46. Мн. *аглядалі* (3): ПЧ (3).

**[АГНЕСТРЭЛ]** *м.* Вогненная страла. *Ямчэй нацягваецца лук, Цэль рассекаюць агнестрэлы..* Кц, 197.

Мн. Н. *агнестрэлы*: Кц, 197.

**[АГНЕЦ]** (2) *м. Уст. перан.* Ціхі, спакойны, пакорлівы чалавек. [Поп]: *Душа мая возрадовалася пры созерцаніі, како агнцы сіі возврацяшэся в стадо свое.* Т, 51. [Поп]: *Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх, я только провожаю сірых сіх..* Там жа, 38.

Мн. Н. *агнцы*: Т, 51. М. *агнцах*: Т, 38.

**[АГНІСТЫ]** (4) *прым.* **1.** Падобны да агню. [Янка]: *Павінны пайсці і мы* [беларусы] *па яе* [Амерыкі] *слядох і напісаць агністымі рунамі на сваім сцягу "Беларусь..."* Т, 35. // *Вобразн.* Яркі. *Яны* [зоры] *агністымі іскрамі ў душы распаляцца, як сталь..* БрБ, 6. // Жаркі. *Ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі, ..і да ледавітага "паўночнага зіяньня", ..пануе гэты ясьневяльможны бязсьмертны забабон.* З.

**2.** *перан.* Залацісты. *Агністымі літарамі гэты надзвычайны дзень будзе ўпісан у векавечную кнігу гісторыі народаў і дзяржаваў..* БСУ.

Адз. ж. Р. *агністай*: З. Мн. Т. *агністымі* (3): БрБ, 6; БСУ; Т, 35.

**[АГНЯЦВЕТНЫ]** і **[АГНЯЦЬВЕТНЫ]** *прым. перан.* **1.** Палымяны. *Арліным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы* [беларусы] *скінулі і патапталі даўгавечную брахню, – брахню, што Беларусі не было і няма.* ПЛП.

**2.** Велічны. *Усе сілы – соцыялістычнаму будаўніцтву на зацьвітаючай новымі агняцьветнымі краскамі індустрыяльна-калгаснай глебе Савецкай Соцыялістычнай Беларусі!* АЛ.

Адз. ж. Р. *агняцветнай*. ПЛП. Мн. Т. *агняцьветнымі*: АЛ.

**АГОНЬ** (15) і *разм.* **[ВАГОНЬ]** *м.* **1.** Полымя. *Змоўк разгул, агонь патух Старое згасла папялішчэ.* Кц, 197. *Лявон Гарошка – паважны селянін заўсёды з люлькай, агонь да яе крэсіць крэсівам.* Т, 19. // *Вобразн.* Выпрабаванне, змаганне. *Я* [Купала] *шчаслівы і крыху зайздрошчу, што наша пісьменніцкая моладзь выхавалася і загартавалася ў агні вялікага Кастрычніка.* ЖН. // *Вобразн.* Маланка. *Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцьця*

*паднявольнымі народамі, якая загарэлася вечным жывым агнём пасьля развалу Расійскай..імпэрыі.. – гэта ідэя сягодня ператвараецца ў жыцьцё..* БСУ.

**2.** Святло. *Заныла усё, замёрла ўсё, – Ня сьпіць адвечнае замчышчэ: Там пачынаецца жыццё ў вагнях старога папялішча.* Кц, 192.

**3.** Стральба. *Сцяпан падаў каманду: – Па спаднічнаму войску – агонь!* ПСп. *Немцы стрымлівалі пазіцыі і вялі агонь з ДЗОТа.* Там жа.

•**Агонь аўтарны –** ахвярны агонь. *Агонь аўтарны разлажыце* [людзі], *Ахвяру небу аддадзім..* УрП, 50.

◊**Агнём і жалезам** – а) бязлітаснай жорсткасцю. *Гэта Расія падняволіла сабе агнём і жалезам слабейшыя суседнія народы.* НДН, 18. б) загартавана. *Агнём і жалезам куецца моц, гарт, доля і воля народная.* ПЛП. **Як агонь і вада –** розныя кірункі, напрамкі. *Вайна і рэвалюцыя выкінула ў забавах два лёзунгі, два ня згодные з сабой – як агонь і вада, – кірункі ў змаганьні...* СНБ.

Адз. Н. *агонь* (4): Кц, 197; ПСп; СНБ; Т, I9. Р. *агню*: БН, 91. В. *агонь*: ПСп; УрП, 50; *агнём* (3): БСУ; НДН, 18; ПЛП. М. *агні* (2): ЖН; Пт. Мн. Н. *агні* (3): Кц, 193; ТП, 215; ХХ. М. *вагнях*: Кц, 192.

**[АГРАБІЦЬ]** *зак.* Сілай адабраць, забраць што-н. у каго-н. *..тыя, што нас* [беларусаў] *аграбілі, што нашы загоны зрылі на акопы-магілы, не ідуць к нам з дапамогай..* АБ, 16.

Абв. пр. мн. *аграбілі*: АБ, 16.

**АГРАБЛЕНЫ** (5) *дзеепрым. зал. пр. да* аграбіць. **1.** Абабраны. *Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то бадай адначасьне на яе аграбленые абшары з вялікім разгонам рынуліся .. бальшавікі..* СНБ.

**2.** *У знач. прым.* Пазбаўлены ўсяго. *Край разрываны ўвесь на часці – Народ аграблены яго – Не ўбараніўся ад напасці..* ГП, 8. *І волатам на вогненным кані Народ аграблены – бы з торб жабрак.. За бацькаўшчыну павядзі* [ваяк] *ў агні!* Пт.

Адз. м. Н. *аграблены* (2): ГП, 8; Пт. Р. *аграбленага*: ПЛП. Мн. Н. *аграбленыя*: Бч, 9. В. *аграбленые*: СНБ.

**[АГРАНАМІЧНЫ]** *прым.* Які мае дачыненне да аграноміі. *На земствах ляжыць яшчэ іншы важны абавязак – гэта агранамічная і лекарская помач сялянам.* ВС.

Адз. ж. Н. *агранамічная*: ВС.

**[АГРАНОМІЯ]** *ж. Спец.* Навука пра земляробства. *На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца калгасныя нівы, навейшыя дасягненні аграноміі..* АЛ.

Адз.: Р. *аграноміі*: АЛ.

**[АГРОМНІСТЫ]** *прым.* Вельмі вялікі па сіле, глыбіні праяўлення. *Дарагія таварышы! Агромністая радасць, гордая радасць пераможцаў над класавым ворагам ахоплівае народы нашай вялікай радзімы..* ВГР.

Адз. ж. Н. *агромністая:* ВГР.

**[АГРЫЗАК]** *м.*: ◊**Кідаць агрызкі** *гл.* кідаць.

Мн. В. *агрызкі*: Бч, 9.

**АГУЛАМ** (6) *прысл.* **1.** Гуртам, усе разам. *Зірнуць жа на годы,.. На край, адкуль веяла цемрай, трывогай, Дзе люд каталі ўразброд і агулам..* ТП, 214. *Ураздроб, агулам Намі* [людзьмі] *гандлявалі – Па цане даступнай, Па цане крывавай.* МПв, 218.

**2.** *Тое, што* цалкам. *Агулам дзевяць назваў шасьцёх розных аўтараў; лік надрукаваных страніц – 1148* (1). ВСп, 89. *..агулам надрукавана 268.050 кніг у ліку 2.036.527 друк. аркушаў.* ВСп, 91. // Увогуле. *Агулам простыя налогі – гэта такія, дзе кожны ўласнік плаціць.. безпасрэдня пэўныя падаткі за сваё дабро,* ВН.

◊**Агулам кажучы** *гл.* кажуш.

**[АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫ]** *прым.* Які дае агульную адукацыю. *У Вільні працаваў* [Купала] *у бібліятэцы і "Нашай ніве", пасля чаго апынуўся ў Петраградзе на агульнаадукацыйных курсах Чарняева..* А, 328.

Мн. М. *агульнаадукацыйных:* А, 328.

**[АГУЛЬНАГРАМАДСКІ]** *прым.* Агульны, адзіны для ўсяго грамадства. [Янка]: *Гэта адзінкі* [змагаюцца і уміраюць], *мілая Аленка. А душа агульнаграмадская яшчэ дрэме.* Т, 35.

Адз. ж. Н. *агульнаграмадская*: Т, 35.

**[АГУЛЬНАДАСТУПНЫ]** *прым.* Даступны ўсім. [Мікіта]: *..так сабе ўзятая* [патака] *з агульнадаступных грамадзянскіх складаў.* Т, 60.

Мн. Р. *складаў*: Т, 60.

**[АГУЛЬНАЛЮДСКІ]** *прым. Тое, што* агульначалавечы. *Сягодня ідзе паганы торг за ідэі, за праўду векавечную, агульналюдскую.* Тж, 15.

Адз. ж. В. *агульналюдскую:* Тж, 15.

**[АГУЛЬНА-НАВУКОВЫ]** *прым. Нав*ат*в.* Агульнанавуковай значымасці. *Кнігі агульна-навуковыя і крытычныя.* ВСп, 89.

Мн. Н. *агульна-навуковыя*: ВСп, 89.

**[АГУЛЬНАЧАЛАВЕЧЫ]** (2) *прым.* Уласцівы ўсяму чалавецтву, ўсім людзям. *Наша паездка, была маніфестам .. супрацоўніцтва Чэхаславакіі і СССР у справе барацьбы за мір, у справе абароны агульначалавечай культуры.* ПЧ. *..сотні тысяч кніг рассыпяцца па ўсёй Беларусі, каб .. будзіць беларускую*

*прыспаную думку да сьветлага радаснага беларускага і агульначалавечага жыцця.* ВСп, 91. *Параўн.* агульналюдскі.

Адз. ж. Р. *агульначалавечай:* ПЧ. н. Р. *агульначалавечага:* ВСп, 91.

**АГУЛЬНЫ** (5) *прым.* **1.** Які належыць усім. *..усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць і кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай бацькаўшчыны – Беларусі.* НДН, 19. *Таргуюцца* [Захад і Усход] *за цэлыя народы, .. каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць сабе лішнюю капейку ці мільярд рублёў.* Тж, 15. // Калектыўны. *Па даручэнню агульнага схода –* [напісаў] *народны паэт рэспублікі Янка Купала.* НКУС. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР, сабраўшыся на свой перадвыбарчы сход, аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Совет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч* [Ежоў].. Там жа.

**2.** Увесь, у поўным аб'ёме; сукупны. *Агульны лік страніц – 1608* (I). ВСп, 89.

Адз. м. Н. *агульны* (2): ВСп, 89; НКУС. Р. *агульнага*: НКУС. ж. Р. *агульнай*: НДН, 19. н. М. *агульным*: Тж, 15.

**АД** (228) і **АТ** (2) *прыназ. з Р. выражае:* **1.** Аб'ектныя адносіны (145). *Дэспатычная Расія царскага ўраду адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных матак..* БВ, 16. *Вось-жэ ўсе тые, што асталіся дома, ..павінны аткінуць ат сябе усякую слабасьць душы і цела.* РКр. *Параўн.* од *у* 1 *знач.*; от. А, 328 (2); Ан, 19; АБ, 16(2); АЛ (3); Бч, 9(2); БрБ, 6(3); БВ, 16(3), 17; БН, 91; ЕС; ВБЛ, 80, 83; ВВ, 263(2); ВГ; ВГР (2); ВМР (2); ВН; ВС; ВР (2); ГЖУ (4); ГНД; ГП, 8(2); Дз, 190; ДЖ (2); ДК (2); ДПЛС; ЖН; З; Кз, 17(2); Кц, 193; ЛР (2); М, 19; МК (4); МП; МПв, 218; Нз, 14(5), 16; НДп, 229; НКУС (2); ПД, 83; ПЛП (2); ПСД (3); ПТ, 207; ПЧ; РС, 40; СК, 158; СМ; СНБ, 340; СНБ (2); СС, 301, 302; ССА, 294; Т, 19, 20, 21(2), 22(2), 23(3), 24, 25(2), 30(5), 33(2), 34, 35(2), 39, 40(2), 41, 42, 44, 45, 50, 51(4), 52, 53, 55(2), 56, 58(2), 60(2); Ун, 73; УрП, 51(4), 52; УПУВ; Ф (2); ХБ, 28; ХЛБ; Ч, 322, 323; ЧС, 50–51; ШБСЯ.

**2.** Прасторавыя адносіны. (37) *Для адбудавання вялікай Польшчы "ад мора да мора" трэба пераступіць Беларусь..* Нз, 14. [Мікіта]: *Завёў бы я ад Азіі да Аўстрыі, ад Афрыкі да Амерыкі і ад Смалеску да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык..* Т, 48. *Параўн.* од *у* 2 *знач.* А, 327, 328; БСУ (3); В (4); ГВУ (2); ДЖ; З (2); ЗК, 43 (2); Кр, 77 (2); Мц, 75; МІ, 17; Нз, 14; НДп, 229(2), 230(3); НДН, 18, 19; СМ; СНБ, 337; СС, 301, 30; Ф.

**3.** Прычынныя адносіны (13). *Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары Яўрэй апошні, й азьвярэлыя вятры Ад журасьці, ад сораму*

*і дыму яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну..* ВБЛ, 80. *Вясна пачынаецца рана і ўся зьвініць ад гоману і сьпеву птушак самых разнастайных парод.* ХБ, 29. Вб, 237; ВБЛ, 80(2); ВСп, 91; ЗК, 42; К; СС, 301(2); Т, 20, 22, 44.

**4.** Часавыя адносіны (17). *Ад рання і да рання, Калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пяянне..* СК, 158. *Нас* [беларусаў] *гадавалі віхры і ночкі, Крыўдай паілі нас ад пялёнкі..* Пп,5. АБ, 16; Бч, 9; ВБЛ, 80; ВГР (4); ВСп, 89; Г, 17; ПСС, 231; Т, 19, 33, 44; УП; ШБСЯ.

**5.** Азначальныя адносіны (8). *А песня ад казак, чароўных тых сноў, Што craліся яваю нашага дня..* СС, 301. *Антанта, прымаючы пад увагу, што захварэла на вар'яцыю ад дыпламацыі, .. выехала за граніцу лячыцца.* Ан, 19. ПЧ (2); СС, 300(2), 302; ЦСБ.

**6.** Прыналежныя адносіны (2). *Герой загінуў ад варожай здрадніцкай рукі...* СК, 158. *Ад рукі сына першага вісельні гнуцца, ў зямлю йдуць маладыя галовы.* Ч, 320.

**7.** Спосаб дзеяння. *.. палякі зрабілі хаўрус з расейскімі націоналістамі і чорнасоценцамі абы толькі заціснуць беларускі рух, абы адстрашыць беларусоў ад жаданьня вучыцца рэлігіі па беларуску.* ВР.

**8.** Параўнальныя адносіны (3). [Мікіта]: *..яны* [немцы] *па-нашаму лепей ад нас саміх шпрэхаюць?* Т, 32. *Аставаўся толькі старшы Гаспадарыць дома, Бо ат тых* [братоў] *быў гаспадаршы, Хоць быў у іх за лома.* Дз, 190. БС.

**Я мець ад кагосьці...**

◊**Ад душы** *гл.* душа. **Ад прадвеку** *гл.* прадвек. **Ад (шчырага, усяго) сэрца** *гл.* сэрца.

**АДАБРАЦЦА** *зак. перан.* Размеркавацца, вылучыцца. [Аўтарнік]: *Цяпер прашу вас* [юнакоў, дзяўчат] *адабрацца ў вянок адборных галасоў..* УрП, 50.

Інф. *адабрацца*: УрП, 50.

**[АДАБРАЦЬ]** (2) *зак.* Вымагчы ў каго-н. што-н. [Ганулля]: *А грошы не адабралі* [паны]? [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, не адабралі: бачыце, пакупкі прынёс.* Т. 58.

Абв. пр. мн. *адабралі* (2): Т, 58 (2).

**[АДАЗВАЦЦА]** *зак.* Прагучаць (пра гук). *Сціх* [звон], *занямеў, аглушылі напрасна, Ці адазвецца калі болей ён?..* Н.

Абв. буд. адз. 3 ас. *адазвецца*: Н.

**[АДАЛЕЦЬ]** і *разм.* **АДАЛЕЦІ** (2) *зак. Руск.* Адолець, перасіліць. *І чэрпае* [бежанец] *ваду, пакуль ня гляне дно, і ўсё ня можа смагі адалеці.* ВБЛ, 80. *У бітвах верх браў* [народ], *боль сваю адалеў, Не страх быў змагацца с прыродай.* ПН, 47.

Інф. *адалеці* (2): ВБЛ, 80; Ч, 321. Абв. пр. адз. м. ПН, 47.

**АДАРВАЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* адарвацца. *Балюча і цяжка ўсьведамляць мне* [Купалу] *сёньня, што я, адарваўшыся ад здаровага творчага асяродзішча рэвалюцыйных .. мас .. не дапамагаў .. ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ.

**АДАРВАЦЦА** *зак. перан.* Страціць сувязь з чым-н. *І абавязак паэта, калі ён не хоча адарвацца ад жыцця, своечасова .. адгукваецца на ўсе гэтыя падзеі.* МП.

Інф. *адарвацца*: МП.

**АДАРВАЦЬ** (2) *зак.* Пазбавіць сувязі з чым-н. *Луцкевічы, Станкевічы і т. д. служаць адзінай мэце адарваць Совецкую Беларусь ад Совецкага Саюза..* ШБСЯ.. *Габруся ў жаўнерку ўзялі, Ад дамоўства адарвалі..* ГЖУ.

Інф. *адарваць*: ШБСЯ. Абв. пр. мн. *адарвалі*: ГЖУ.

**АДБЕЛАРУШЧЫВАЦЬ** *незак. Наватв.* Выступаць супраць беларусізацыі. [Мікіта]: *..Кажа, што ён* [Спічыні] *толькі спэц адбеларушчываць, а да абеларушчывання яго яшчэ змалку адвярнула.* Т, 56.

Інф. *адбеларушчываць*: Т, 56.

**[АДБІВАЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Адлюстроўвацца. *Такая пастаноўка гэтай справы часта адбіваецца на добрым імі беларускага народу...* СБНГ.

**2.** Тое, што адбывацца. *Адбіваюцца нячуваныя, грандыёзьнейшыя ў гісторыі чалавецтва падзеі.* АЛ.

Абв. цяп, адз, 3 ас. *адбіваецца*: СБНГ. Мн, 3 ас. *адбіваюцца*: АЛ.

**АДБІВАЦЬ** *незак.* Адлюстроўваць. ..[Купала] *пачаў іх* [ідэі] *адбіваць у сваёй далейшай творчасьці..* АЛ.

Інф. *адбіваць*: АЛ.

**АДБІВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* адбіваць. ◊**Адбіваючы паклоны –** кланяючыся. *Адбіваючы тут-жа паклоны плашмя, Нейкі нехрысць крапідлам макае..* БН, 92.

**АДБІРАЦЬ** *незак.* Забіраць. [Спраўнік]: *Толькі што пайшоў* [бацюшка] *адбіраць у беларусаў ключы ад Юбілейнага дому.* Т, 58.

Інф. *адбіраць*: Т, 58.

**АДБІЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* адбіцца *ў* 1 *знач.* Аддаліўшыся ад чаго-н.; страціўшы сувязь з чым-н. *І гінем* [беларусы] *марна пад чужой апекай, адбіўшыся ад родных вехаў, меж.* Бч, 9.

**[АДБІЦЦА]** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* адбівацца *ў* 1 *знач. Тая вялікая разруха і тое страшэннае зніштажэнне, выкліканыя вайной, найцяжэй адбіліся на нашай бацькаўшчыне.* АБ, 16.

**2.** *перан.* Адгукнуцца. *Стань, нахіліся над ракой. У плакучы ўгледзься пералівы: Ў іх адаб'ецца воклік твой..* БрБ, 6.

Абв. пр. мн. *адбіліся*: АБ, 16. Буд. адз. 3 ас. *адаб'ецца*: БрБ,

**АДБІЦЬ** *зак.* Ударам пашкодзіць што-н., зрабіць балючым.

[Янка]: *Вы* [Мікіта] *пэўна б, хацелі і з печкі зваліцца і патыліцы не адбіць?* Т, 37.

Інф. *адбіць*: Т, 37.

**[АДБОРНЫ]** (2) *прым.* Лепшы, выдатны. *Цяпер прашу вас* [юнакоў і дзяўчат] *адабрацца ў вянок адборных: галасоў..* УрП, 50. *Далей ідуць мае .. пайкі: сем фунтаў атрубяной мукі..* Т, 46.

Адз. ж. Р. *адборнай*: Т, 46. Мн. Р. *адборных*: УрП, 50.

**[АДБУДАВАННЕ]** (7) і **[АДБУДАВАНЬНЕ]** (2) *н. Дзеянне па дзеяслову* адбулаваць *у* 2 *знач. Для адбудавання вялікай Польшчы "ад мора да мора" трэба пераступіць Беларусь..* Нз, 14. *У сваім вялікім паходзе па адбудаваньні культуры на руінах былое царскае Расіі савеакая ўлада.. не затрымалася на паўдарозе.* ГНД.

Адз. Р. *адбудавання* (5): АБ, 16; З; Нз, 14(2); СНБ, 337; *адбудаваньня*: З. В. *адбудаванне*: МІ, 17. Т. *адбудаваннем*: МІ, 17. М. *адбудаваньні*: ГНД.

**АДБУДАВАЦЬ** (7) *зак.* **1.** Пабудаваць нанава, аднавіць што-н. *..спаленую хату беларускі мазоль адбудуе, а сваю сяўбу ён* [беларус] *сам будзе жаць.* ПЛП.

**2.** *Зак. да* адбудоўваць, *Антанта, прымаючы пад увагу, што Калчак, Дэнікін і Юдэніч – царскія генералы, што яны хочуць адбудаваць у Расіі самадзяржаўе.. прызнала Пятлюру..* Ан, 19.

Інф. *адбудаваць* (4): Ан, І9 (2); Пт; СНБ. Абв. пр. м. *адбудаваў*. СНБ. Буд. адз. 2 ас. *адбудуеш*: МІ, 18. 3 ас. *адбудуе*: ПЛП.

**АДБУДОВА** (3) *ж. Дзеянне па дзеяслову* адбудаваць *у* 1 *знач. Ужо ад нейкага часу ў Францыі працуе паўмільёна людзей над адбудовай таго, што вайна разрушыла.* АБ, І6. *..шмат якія дзяржавы, перайшоўшыя на мірнае жыццё, прыступілі к адбудове ваенных руін..* Там жа.

**Адбудова Беларусі**.

Адз. Н. *адбудова*: АБ, І6. Д. *адбудове*: АБ, 16. Т. *адбудовай*: АБ, 16.

**АДБУДОЎВАЦЬ** *незак. перан.* Адраджаць, узнаўляць. *Пятнаццаць год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі .. адбудоўваць сваю .. бацькаўшчыну..* ПМП.

Інф. *адбудоўваць*: ПЛП.

**[АДБЫВАНЬНЕ]** *н. Дзеянне па дзеяслову* адбываць. *Асабісты ваенны налог будзе выбірацца с тых, хто па якой колечы прычыне уволены ад адбываньня воінскай павіннасьці..* ВН.

Адз. Р. *адбываньня*: ВН.

**[АДБЫВАЦЦА]** (3) *незак.* Ажыццяўляцца, праходзіць, праводзіць. *Пачынаюцца выбары да мястовай Рады. Ужо распачата падгатоўчая праца і адбываецца агітацыя.* ВМР. *І-я, 3-я і 4-я дзеі адбываюцца ў Мікітавай хаце, 2-я дзея – на Катэдральным*

*пляцы, называным мянчанамі “Брахалка”.* Т, 19. *Параўн.* адбівацца *ў 2 знач.*

Абв, цяп. адз. 3 ас. *адбываецца* (2): ВМР; Т, 19. Мн. 3 ас. *адбываюцца*: Т, 19.

**[АДБЫВАЦЬ]** *незак.* Служыць, знаходзіцца вызначаны тэрмін дзен. *Нават рэвалюцыя 1905 году не змагла адваяваць калі не нацыянальнага беларускага войска, то хоць бы тое, каб беларус адбываў вайсковую павіннасць у Беларусі.* БВ, 16.

Абв. пр. адз. м. *адбываў*: БВ, 16.

**АДБЫЛЫ** *прым. Разм.* Былы. *Даўно ўжо, даўно з тэй пары адбылой Сталецьцяў мінула нямала.* КП, 170.

Адз. ж. Р. *адбылой*: КП, 170.

**[АДБЫЦЦА]** (2) *зак. да* адбывацца *ў* 1 *знач. З прычыны прыезду Начальніка Польскай Дзяржавы ў Менск, у гародзкім тэатры адбыўся спэктакль.* СБНГ. *У гэтые дні адбылося вялікае і ўрачыстае сьвято ўходзін Віленскага Унівэрсітэту імяньня караля Сьцяпана Баторага.* УПУВ.

Абв. пр. адз. м. *адбыўся*: СБНГ. н. *адбылося*: УПУВ.

**АДВАГА** (5) *ж.* Смеласць, рашучасць, бясстрашнасць. *Шоў ваяк з ваякам, – Кожны смел, ахвоч, Б’е адвага з воч, Поле ўслалі макам.* ВБ. *Хто наперадзе са сцягам, На якім красуе Сталін, Пакарыў сваёй адвагай Неразгаданыя далі?* СА, 178.

Адз. Н. *адвага* (2): ВБ; ВМР. В. *адвагу*: ВМР. Т. *адвагай* (2): СА, 178; УрП, 47.

**АДВАЖНА** (5) *прысл. да* адважны. *Станем к змаганьню мы* [беларусы] *з ведзьмаю-крыудай Дружна, адважна, плячо ў плячо..* Г, 17. *Ды ўзяўся* [сын] *шчыра, міла Сеець шчасце, гнаць бяду, Стаў адважна словам, сілай За свой край і грамаду.* М, 20. ВСп, 90; ПЛП; УПУВ.

**[АДВАЖНЫ]** (3) *прым.* Смелы, рашучы, бясстрашны. *Пасылай байцоў адважных Стрэльбы, кулямёты, Танкі, трактары, гарматы, птахі-самалёты!* ЗЯЗ,90. *І многа палегла адважных герояў У бітвах з панамі па выспах балот.* ПБН.

Мн. Н. *адважныя*: ХЛВ, 316. Р. *адважных* : ПБН. В. *адважных*: ЗЯЗ, 90.

**АДВАЖЫЦЦА** (3) *зак.* Асмеліцца зрабіць што-н. *Адзін толькі Беларускі Дзяржаўны Унівэрсітэт а ніяк ня можа адважыцца на беларушчыну ..* ВСп, 90. *Калі, пасля падзелу Польшчы, Беларусь адышла к Маскоўшчыне, беларусаў гналі ваяваць, хоць аб беларускім войску ні хто не адважыўся і падумаць.* БВ, 16.

Інф. *адважыцца* (2): ВСп, 90; ДК. Абв. пр. адз. м. *адважыўся*: БВ, 16.

**[АДВАРАЧАЦЬ]** *незак. Разм.* Бываць у непрыязні да чаго-н. *Ён*

[абываталь] *бачыць, што беларушчына нясе новыя парадкі і зьмену ўсяго таго, з чым ён зжыўся... і гэта яго палохае і адварачае.* ВМР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адварачае*: ВМР.

**[АЦВАРОЧВАЦЦА]** *незак.* Паварочвацца ўбок ад каго, чаго-н. *Сярдзіта адварачваецца* [Мікіта] *набок.* Т, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адварачваецца*: Т, 43.

**[АДВАРАЧВАЦЬ]** і **[АДВАРАЧЫВАЦЬ]** *незак. Разм.* Павярнуць у другі бок. *Гануля адварачвае абразы.* Т, 59. [Мікіта]: *Адварачывайце,* [мамаша], *назад абразы, а я пакупкі буду парадкаваць.* Т, 59.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адварачвае*: Т, 59. Заг. мн. 2 ас. *адварачывайце*: Т, 59,

**АДВАЯВАЦЬ** (3) *зак. перан.* Дамагчыся чаго-н.; здабыць у выніку барацьбы. *Нават рэвалюцыі 1905 году не змагла адваяваць калі не нацыянальнага беларускага войска, то хоць бы тое, каб беларус адбываў вайсковую павіннасць у Беларусі.* БВ, 16. *Ці ж ён* [беларускі народ], *вякі ваюючы для славы і магутнасьці сваіх суседзяў, ня варт быў таго, каб адваяваць хоць крыху гэтай славы..* ДД.

Інф. *адваяваць* (3); БВ, 16; ВМР; ДД.

**[АДВЕК]** *м. Разм. Тое, што* век *у* 1 *знач. І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, .. Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека Даць папас на магільным папасе, І так хэўраю будучых, быўшых адвекаў Расьцьвісьці, растапіцца ў бясчасьсі.* Ч, 325.

Мн. Р. *адвекаў*: Ч, 325.

**[АДВЕТ]** *м. Руск. Разм. Тое, што* адказ *у* 3 *знач. Маўчыць і князь крыху часіны, І дасьць адвет такі ў канцы Ганцам на іхніе навіны..* Кц, 195. *Параўн.* адказ.

Адз. В. *адвет*: Кц, I95.

**[АДВЕЧНЫ] (**8) *прым. Паэт.* Спрадвечны. *Але прыйшоў I9I7 год, прышлі большэвікі і адвечная турма народаў рухнула.* ДЖ. *Дагэтуль мы* [людзі] *плачэм, дагэтуль мы стогнем, Адвечных ня можэм пазбыціся слёз...* В.

Адз. м. Р. *адвечнага:* СНБ. ж. Н. *адвечная*: ДЖ. В. *адвечную*: Т, 42. М. *адвечнай*: БрБ, б. н. Н. *адвечнае* (2): Кц, 192; СНБ, 336. В. *адвечнае*: З. Мн. Р. *адвечных*: В.

**АДВЁЎШЫ** *дзеепрысл. да* адвесці. Завёўшы. [Янка]: (*адвёўшы набок Мікіту). Дайцё яму* [немцу] *тры рублі, і адчэпіцца.* Т, 33.

**[АДВІСНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* адвіснуць, Адвіслы, абвіслы. [Мікіта]: *Вы, медждy протчым, мамаша, прышпільвайце чым-небудзь адвіснутыя матузы ад шпалераў..* Т, 50.

Мн. В. *адвіснутыя*: Т, 50.

**[АДВІТАЛЬНЫ]** *прым. Разм.* Развітальны. [Дама]: *А я мела пшэпустку, але на адвітальным рауце неяк згубіла.* Т, 57.

Адз. м. М. *адвітальным*: Т, 57.

**[АДВІТВАЦЦА]** *незак. Разм. Тое, што* развітвацца. *Госці падымаюцца, адвітваюцца і апранаюцца ў прынесеныя Мікітам вопраткі.* Т, 29.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *адвітваюцца*: Т, 29.

**АДВІТВАЮЧЫСЯ** (2) *дзеепрысл. да* адвітвацца. [Янка]: (*Да Мікіты, адвітваючыся*) *Бывайце здаровы, пане рэгістратар!* Т, 39. [Гануля]: (*адвітваючыся*). *Дзе там тое шчасце пры маёй старасці?* Там жа, 57.

[**АДВЯРНУЦЦА**] *зак. да* адварочвацца. *Рэдактар навет і не адвяруўся.* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *адвярнуўся*: Ан, 19.

**[АДВЯРНУЦЬ]** *зак. да* адварачаць. [Мікіта]: *Кажа, што ён* [Спічыні] *толькі спэц адбеларушчываць, а да абеларушчывання яго яшчэ змалку адвярнула.* Т, 56.

Абв. пр. адз. н. *адвярнула:* Т, 56.

**АДГАДАЦЬ** (2) *зак*. Разгадаць. *Далей буду ўжо маўчаць, Бо й так можна адгадаць.* $Ш_4$. [Дама]: *А вы, мусье рэгістратар, мае слабасці адгадалі. Я ўміраю без танцаў.* Т, 29.

Інф. *адгадаць*: $Ш_4$. Абв. пр, мн. *адгадалі*: Т, 29.

**[АДГАЛОСАК]** *м.* Водгулле, рэха. *Ад песень ад гулкіх плывуць адгалоскі Па шумных дубровах і нівах.* ВБ, 263.

Мн. Н. *адгалоскі*: ВВ, 263.

**АДГУКВАЦЦА** *незак. перан.* Выказваць свае адносіны да чаго-н. *І абавязак паэта, калі ён не хоча адарвацца ад жыцця, своечасова і высокамастацкімі творамі адгуквацца на ўсе гэтыя падзеі.* МП.

Інф. *адгуквацца*: МП.

**АДГУКНУЦЦА** (2) *зак.* **1.** Выклікаць якое-н пачуццё, адчуванне ў каго-н. .. *і не было больш-менш вялікага – ці то палітычнага, ці то навучнага здарэння на Захадзе, каб яно не адгукнулася на Усходзе.* Тж, 15.

**2.** *Зак. да* адгуквацца. *Ці-ж можа паэт не адгукнуцца на іх радасны прыезд вершамі, вартымі гэтых вялікіх людзей?* МП.

Інф. *адгукнуцца*: МП. Абв. пр. адз. н. *адгукнулася*: Тж, 15.

**АДГЭТУЛЬ** (3) *прысл.* **1.** З гэтага месца. [Янка]: *Мушу хутчэй вас* [Гарошку і Аленку] *адгэтуль весці.* Т, 39.

**2.** *Тое, што* адсюль. *Адгэтуль нязвычайнае абвастрэньне клясавай барацьбы, адгэтуль шалёнае супраціўленьне капіталістычных элементаў..* АД.

**АДДАВАЦЬ** (6) *незак.* **1.** Перадаваць што-н. каму-н. *Дама і Спраўнік кланяюцца і аддаюць свае дакументы.* Т, 61. // *перан.* Ахвяраваць чым-н. дзеля чаго-н. *І гэтыя людзі мучыліся, працавалі, аддавалі ўсё сваё найлепшае здароўе, жыццё за беларускае вольнае слова..* МІ, 17. // Траціць час, працу, намаганні на што-н. *Хто найшчыршыя парывы Сваіх думак, свайго сэрца Аддае Совецкім нівам..* СА, 179.

**2.** Звяртаць на што-н. увагу. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны* [нацыянал-дэмакраты] *разбурэньню таго адзінства, тае інтэрнацыянальнай базы, на грунце якой працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцей СССР ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ.

**3.** Накіроўваць, пасылаць на вучобу. *Нягледзячы на тое, што дырэктар прымаў мяне* [Луцэвіча] *без экзамена, бацька парашыў не аддаваць мяне ў школу, а пакінуць на гаспадарцы.* А, 328.

◊**Аддаваць жыццё за каго-н. –** паміраць, абараняючы каго-н. *.. клічэ ешчэ нас* [беларусаў] *сьвятая павіннасьць працаваць і за тых, што аддаюць сваё жыцьцё дзесь там далёка ці блізка.* РКр.

Інф. *аддаваць*: А, 328. Абв. цяп. адз. 3 ас. *аддае*: СА, 179. Мн. 3 ас. *аддаюць* (2): РКр; Т, 61. Пр. мн. *аддавалі* (2): АЛ; МІ, 17.

**[АДДАЦЦА]** *зак.* Захапіцца чым-н., паглыбіцца ў што-н. *Два дружкі – груган з ваўком Нейк раз сышліся, Важнай гутарцы ўдваём Важна аддаліся.* Пц.

Абв. пр. мн. *аддаліся*: Пц.

**АДДАНА** *прысл. да* адданы. *Я* [Купала] *раскажу аб слаўных чэкістах т.т. Ягодзе, Фірыне, Успенскім і інш., аб тым, як яны аддана і разумна будавалі гэты шлях і перавыхоўвалі людзей.* ЦСБ.

**[АДДНАСЬЦЬ]** *ж.* Адданыя адносіны да чаго-н. *Я* [Купала] *..не дапамагаў з ўсёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленню соцыялізму. АЛ.*

Адз.Т. *адданасьцю:* АЛ.

**[АДДАНЫ]** (2) *прым.* Прасякнуты любоўю і вернасцю да каго-н. чаго-н. [Аленка]: *Прыміце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы.* Т, 30. *Яны – трактарысткі, яны – брыгадзіры, З іх многа ў нашых советах старшынь.. . Іх тысячы стала адданых і шчырых На працы на кожнай, дзе вокам ні кінь.* ПБН.

Адз. ж. Р. *адданай*: Т, 30, Мн. Р. *адданых*: ПБН.

**АДДАЦЬ** (24) *зак.* **1.** *Зак. да* аддаваць *у* 1 знач. [Ганулям]: *Той пакой, дзе жылі вы* [Янка], *аддалі нейкаму ў скураной жакетцы..* Т, 45. [Гарошка]: *А ты* [Аленка], *сарока, калі ўжо адсакатала сваё, аддала б настаўніку тое, што прывезла.* Там жа, 30. //

*перан.* Перадаць што-н., падзяліцца чым-н. [Трэці ганец]: *За мною усьцяж і тут, і там Іх* [людзей] *вусны бледные шэптам: Аддайце песьню нашу нам!* Кц, 195. // *перан.* Пакінуць, аставіць што-н. каму-н. *І запытаецца зямліца Тваёй душы і тваіх дум: .. Чаму свой край аддаў на глум?* БрБ, 6. // *перан.* Ахвяраваць чым-н. дзеля каго-н, чаго-н. *Жыцьцё за камізэльку аддаеш ты* [бежанец] *без агіды, На соль мяняючы сваё сумленьне.* ВБЛ, 81. *І сэрца аддасць* [народ] *за свайго дэпутата, Пасла-дэлегата ў Вярхоўны Совет.* НДп, 229.

**2.** Заплаціць. [Мікіта]: *І вось напрыклад, меджду протчым, вы* [Гануля] *толькі што запрашалі: "купеце, за паўцаны аддам, за паўцаны."* Т, 34. *За тое ён* [мужык] *знае смак у гарэлцы і на гарэлку гатоў аддаць апошні грош..* УП.

◊**Аддаць голас –** прагаласаваць за каго-н. на выбарах. *І кожнаму хочацца яўна і скрыта Аддаць свой за Сталіна голас.* ВВ, 263. *Сабе ўжо і дэпутата Выбрала* [бабулька] *адразу – Варашылаву свой голас Аддам з сэрцэм разам.* Вб, 237. **Аддаць руку** – выйсці замуж. [Мікіта]: *Колькі раз рабіў ужо ёй* [Насце] *асведчыны, каб, значыцца, аддала мне сваю руку, але штось не клеіцца.* Т, 23. **Аддаць рэменьчыкам –** адпомсціць. *Калі маеш брата, ці дарослаго сына, абходзься з ими ласкава, бо як высьвенцицца часам каторы на стражника, то аддасьць за лычка рэменьчыкам.* СП: **Паклон аддаць –** пакланіцца каму-н. – *каб не ў краты толькі з крат!? Паклон аддаў вам* [бальшавікам] *азіят..* ПВ.

Інф. *аддаць* (4): ВВ, 263: ПЛП; СНБ, 339; УП. Абв. цяп. адз. І ас. *аддаю*: РКП. 2 ас. *аддаеш*: ВБЛ, 81. 3 ас. *аддае*: ЖН. Пр. адз. м. *аддаў* (3): Ан, 19; БРБ, 6; ПВ. ж. *аддала* (2): Т, 23, 30. Мн. *аддалі* (2): Т, 45(2). Буд. адз. І ас. *аддам* (3): Вб, 237; Т, 34(2). 3 ас. *аддасць* (2): НДп; СП. Мн. І ас. *аддадзім* (2): МПв, 220; УрП, 50. Заг. мн. 2 ас. *аддайце* (3): Кц, 194, 195(2).

**АДДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* аддаць *у* І *знач. .. толькі аддаючы свае сілы на соцыялістычнае будаўніцтва, яна* [беларуская інтэлігенцыя] *ня будзе адмецена жыццём, як агідная памятка мінулага.* АЛ.

**АДДЗЕЛ** (7) *м.* **1.** Падраздзяленне ў структуры якой-н. установы. *Але сваёй карыснай працы гэты аддзел не мог як следна праявіць.* СНБ, 339. *Пры менскім камісарыяце прасветы ўтвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел.* Там жа.

**2.** Састаўная частка чаго-н. з аднароднай спецыялізацыяй. [Мікіта]: *Цяпер я, пане прафэсар, маю шаснаццаць дзённых і восем вячэрніх, меджду протчым, пасадаў рэгістратара ў розных Менскіх Губэрскіх Саўхозах.. і іных аддзелах, пададдзелах..* Т, 46.

**3.** Раздзел (у прэсе). [Спічыні]: *Учора мы* [Спічыні і Мікіта] *збольшага прайшлі аддзел прывітанняў, сягоння павінны іх паўтарыць болей стала.* Т, 31.

Адз.Н. *аддзел* (2): СНБ, 339(2). Р. *аддзела*: СНБ, 339. В. *аддзел* (3): СНБ, 338, 339; Т, 31. Т. *аддзелам*: Т, 45.

**[АДДЗЯЛІЦЦА]** *зак.* Адасобіцца. *Такім чынам, двор сам па сабе як бы аддзяліўся ад вёскі.* Нз, 14.

Абв. пр. адз. м. *аддзяліўся*: Нз, 14.

**[АДДЗЯЛІЦЬ]** *зак.* Адмежаваць. *Яны* [бальшавікі] *аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны, і арганізавалі так званую Западную вобласць..* СНБ, 337.

Абв. пр. мн. *аддзялілі*: СНБ, 337.

**[АДДЫХАЦЬ]** (2) *незак. перан. Руск.* Адпачываць. *Як там русалкі – твае* [Беларусі] *дзеці – Днём аддыхаюць у жальбе..* БрБ, 6. *Аддыхала-б* [бабулька] *лепей дома, Чымся пхнуцца ў людзі.* Вб, 237.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *адыхаюць*: БрБ, 6. Пр. адз. ж. *аддыхала*. Вб, 237.

**АД'ЕСЦІ** *зак*: ◊**Хлеб свой ад'есці –** перастаць уладарыць, панаваць. *Хлеб свой ад'елі богі вашы* [людзей], *Мой* [незнаёмца] *бог – зямлі ўсёй чыста бог!* УрП, 52.

Абв. пр. мн. *ад'елі*: УрП, 52.

**АДЗЕЖКА** (2) *ж. Памянш. да* адзежа. *Тое, што* адзенне. .. *дорага яйцо к хрыстосаваму дню, Бліны к калядам, к сёмусе адзежка..* ВБЛ, 81. *Гдзе дзяцеліна гарыць, вось красна паненка, А ўсё мяжой прыбіта бачыцца істужкай. Там, сям к адзежцы прышпілена йгрушкай.* ХБ, 28.

Адз. Н. *адзежка*: ВБЛ, 81. Д. *адзежцы*: ХБ, 28.

**[АДДЗЕЛЬНЫ]** *прым. Руск.* Асобны. *Гаспадарка цэлаго краю, ці аддзельных людзей павінна па сіле магчымасьці не спыняцца, а ісьці шырэй..* ВС.

Мн. Р. *аддзельных*: ВС.

**[АДЗЕННЕ]** (2) *н.* Вырабы з тканіны, якія надзяюць на сябе. [Ганулля]: *Так! Не важна, паночкі, як бачу, дажыліся: зусім скромна выглядаеце ў гэтым бядацкім адзенні.* Т, 57. *Янка і Аленка выходзяць і спатыкаюць на парозе ў напаўбасяцкім абарваным адзенні Даму і Спраўніка, з якімі раскланьваюцца.* Там жа. *Параўн.* адзежка.

Мн. М. *адзенне*: Т, 57.

**[АДЗЕТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* адзець.: ◊**Адзеты ў кайданы –** зняволены падаявольны, падпарадкаваны, пакораны. *Сялянскія гоні адзеты ў кайданы.* ПБН.

Кар. мн. Н. *адзеты*: ПБН.

**[АДЗЕЦЬ]** *зак. Вобразн.* Ператвараюцца. *Паглёд паважны і пахмурмы На час адзела старана.* УрП, 52.

Абв. пр. адз. *адзела*: УрП, 52.

**АДЗІН** (195) і *разм.* **[ВАДЗІН]** (5) *ліч. кольк.* **1.** Колькасць чаго-н., якая абазначаецца лічбай. *Начальнік забірае рэвальверы, адзін партфель і пагоны.* Т, 62. *Далятў да зорак, Вольная дзяўчына, Стуль табе, мой мілы, Адну зорку скіну.* ПТ, 207. *Параўн.* один *у* 1 *знач.*

**2.** *У знач. наз. Адно кажа мамка міла: Ты йшчэ сходзіш на выбары, Галя.* Вб, 236. *Але адно скажу – як рад я* [Купала] *за першыя крокі свае у літаратуры..* ЖН.

**3.** *У знач. прым.* адзінокі. *Аставалася адна я, Сын адзін са мною, Як той путнік на разстаю. Летам і зімою..* Дз, 190. [Янка]: *.. бачыце, неяк моташна зрабілася аднаму сядзець, дык вось і прыйшоу да вас* [да Ганулі] *у госці.* Т, 19.

**4.** *У знач. прым.* У спалучэнні з выдзяляльна-абмежавальнай часціцай “толькі”. *Адзін толькі Беларускі Дзяржаўны Універсітэт а ніяк ня можа адважыцца на беларушчыну..* ВСп, 90. *І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.* Нз, 15. // Адзіны, агульны. *Нацыянальная рэволюцыя не страміцца к аднаму богу на зямлі і не зьбівае у вадну кучу усіх народаў над адзін сьцяг.* СНБ. *Мы ўсе згуртаваны адзінаю воляй. Адзіным пачуццем, жаданнем адным.* ПБН. *Параўн.* одзін *у* 2 *знач.*

**5.** *У знач. прым.* той самы; аднолькавы. *Мікіта ўскоквае і пад тахт музыкі топчацца на адным месцы. Пасля.. становіцца ..на лаўку і, таксама маршыруючы пад музыку на адным месцы, махае каля галавы парасонам з хусткай і крычыць.* Т, 43. *Думкі бабскія ў мяне ўсё адны: Хай-бы хоць і ад дурняў, ды сыны...* УрП, 83.

**6.** *У знач. прым.* Непадзельны, адзіны. *Заезджыя госці .. не разумелі, як гэта можна заместа аднаго мець некалькі багоў і не мець багатых харомаў..* Кз, 17. *Гэй ты, першая мая! Мы адно с табою; Хоць ты літара ўсяго, Дый мая ж за-тое.* $Ш_1$.

**7.** *У знач. прым.* У спалучэнні з “другі” пры супастаўленні якіх-н якасцей, уласцівасцей. [Мікіта]: *Усё гэта, меджду протчым, тутэйшыя людзі: адзін дзякавы сын, а другі – арганіставы.* Т, 48. *Там адны уставалі, другія драмалі, Сьмерць, жыцьцё сваё мелі запоры.* Ч, 321.

**8.** *У знач. займ.* З прыназоўнікам “з” для выдзялення асоб. [Мікіта]: *Паміж ішым, адзін з іх усходні вучоны, а другі – заходні.* Т, 26. *..я* [Купала] *быў адным з ідэолагаў буржуазна-дэмакратычнага адраджэнцтва..* АЛ.

**9.** *У знач. неазнач. займ.* Якісьці, нейкі. *Нас надзвычай узрушыла адна сустрэча,на абедзе ў Прасценаўскай ратушы выступіла адна жанчына з хвалюючай прамовай.* ПЧ. *Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наогул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў..* Нз, 14.

**10.** *У знач. часц.* Толькі. *Ну, а усё слова – кругом цябе І ты з імі разам, Ажно цешыцца душа Адным гэтым сказам.* $Ш_2$. *І сёння там* [у Заходняй Беларусі] *слёзы, нуда, безрабоцце, Ды горкія песні, да скаргі адны.* ПБН.

**11.** У спалучэнні з часц. “ні” для адмаўлення чаго-н. *Было двое іх* [дзяцей] *– двое – помніш? А ня стала ні аднаго.* ВБЛ, 8І. *У сваім вялікім паходзе па адбудаваньні на руінах былое царскае Расіі і савецкае ўлада на працягу ўжо ІІ год нідзе ні на адзін момант не затрымалася на паўдарозе.* ГНД.

**12.** У спалучэнні з часц. “не” *ў знач.*: шмат, многа. *Пелі кулямёты і гарматы пелі. Не адзін ваяка ў вечнай спіць пасцелі.* ІП. *Не адна жанчына зойме сваё пачэснае месца сярод дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР.* ГВУ.

**13.** *У знач. злучн.* Аднак. [Ануля]: *Адно маракуе* [Мікіта] *аб тым, як гэта і зноў вярнуцца нейкія там яго рангі і клясы і ўсялякае дабро само пасыпецца з неба.* Т, 20. [Янка]: *Адно трохі не ў час.* Т, 30.

◊**Адзін за адным** (2) – услед, па чарзе, паслядоўна. *Што справы тваіх* [правадыр] *дум адна за адною Так зменяць удала мне вёснамі зімы.* ТП, 215. *Пасыпаліся з друку адна за аднэй і ў працягу некалькіх месяцаў выйшла ў сьвет 15 кніг.* ВСп, 91. **Адным словам** *гл.* слова. **Граць у адну дудку** *гл.* граць. **З аднаго боку ... , з другога боку ...** *гл.* бок. **За адным махам** *гл.* мах. **Усё адно** *гл.* увесь. **Як адзін –** усе аднадушна; усе разам. *Зірні ж, азірніся, шчасліў нешчаслівы, І заўтра на поле да сох, як адзін!* В. *Я* [Купала] *шчасліў, што у час малейшай трывогі беларускі народ паднімаецца як адзін на абарону совецкіх межаў.* ДЖ.

Адз. м. Н. *адзін* (42): АЛ; Б, 18; В (2); ВС; ВСп, 89, 90; Гр, 215; Дз, І90; ДЖ; ІП; Кц, 193(2); НКУС; ОШМ; ПВ (2); ПЧ; Т, 20(2), 21, 25, 26(5), 35, 36, 38, 48(2), 57, 58, 62; ХБ, 27, 29. ХЛБ; Ч, 322; ЧС, 50, 51; ШБСЯ. Р. *аднаго* (9): АЛ; ВБЛ, 81; Кз, 17(2); Н; ОШМ; ПЛП; Т, 25, 38. Д *аднаму* (5): ВС; СНБ; Т, 26, 29, 38. Д. *аддзін* (8): А, 328; ГНД; Н; ОШМ; СНБ; Т, 34, 45, 56; *вадзін*: ВР. Т. *адным* (7): Ан, 18; АЛ; Т, 41, 50, 55. ХХ, 128; $Ш_2$. М. *адным* (2): ПЛП; Т, 19. ж. Н. *адна* (29): Ан, 19(3); АЛ; БСУ; ВС; ВСп, 89, 90, 91; Г, 16; Г,ГВУ; Дз, 190; ДК; Ж; Ю; Нз, 14, 15; ПВН; ПЛП; ПН, 46; ПЧ (2); СЧ; Т, 20, 22, 35; УрП, 48; Х; Ч, 321. Р. *адной* (2): А, 328; МП; *аднэй*: Дз, 189. Д. *адной*: Нз. 14. В. *адну* (20): А, 328(3);

Ан, 19(4); ВН; ДК; НДН; 18; Пт; ПТ, 207; Т, 22, 23, 36, 41, 44, 59; У; ХБ, 29; *вадну* (3): БН, 91; СНБ; Т, 42. Т. *адной* (2): МП; НГ; *адною*: ТП, 215; *аднэй* (2): ВСн, 91; УрП, 50; *аднэю* (2): ГЖУ; Кц, I95. М. *адной* (3): ББ; МП; Т, 19; *аднэй*: Ч, 322. н. Н. *адно* (20): БН, 93; Вб, 238; ВБ; ВБЛ, 80; ВМР; ЖН; Кз, 17; МД; МІ, 17; НДН, 18; ОМШ; ПЛП; СНБ (2); Т, 20, 30, 34, 41, 57; $Ш_1$. В. *адно* (9): Вб, 236; ДЖ; ЖН; НДН, 18; Т, 22, 27, 33, 37, 56; *вадно*: В. Т. *адным* (2): ВБ; ПБН. М. *адным* (3): Нз, 14; Т, 43(2); *адном*: БрБ, 6. Мн. Н. *адны* (16): Ан, 18; ВБЛ, 83(2), ВСп, 89; Ж; Нз, 15; ПБН; СНБ; Т, 19, 20, 41, 54; Тж, Iб; УрП, 47; Ч, 320, 321. Р. *адных* (2): Т, 20; Ч, 322, Д. *адным* (2): Н; Тж, I6. В., *адны*: ЖН. Т. *аднымі* (2): ДК; Т, 27.

**АДЗІНА** *прысл. да* адзіны *у* I *знач. Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца – усё насельніцтва будзе ўдзельнічаць у адзіна дэмакратычных у свеце выбарах.* ГВУ.

**АДЗІНКІ** (2) *толькі мн.* Мала хто, паасобныя людзі. [Аленка]: *Абы толькі гэтыя адзінкі, што ўжо змагаюцца .. распалілі і .асвяцілі сцежкі усе для паўстаючай грамады.* Т, 35. [Янка]: *Гэта адзінкі* [змагаюцца і гінуць], *мілая Аленка. А душа агульнаграмадская яшчэ дрэме.* Там жа.

Н. *адзінкі* (2): Т, 35 (2).

**АДЗІНОКА** (2) *прысл*. Адасоблена ад іншых. *Ліпа шуміць адзінока над хатай.* ВМ, 72. *Быў жыць адзінока надзел бедакоў..* ПН, 46.

**АДЗІНОТКА** *м*.: **ΔХлопец-адзнотка** *гл.* хлопец.

Адз. Н. *адзінотка*: Дз, 187.

**[АДЗІНСТВА]** *н.* Непадзельнасць, непарыўнасць. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны* [контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакраты] *разбурэньню таго адзінства, тае інтэрнацыянальйай базы, на грунце якое працоўныя масы.. ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ.

Адз. Р. *адзінства*: АЛ.

**АДЗІНЫ** (12) *прым.* **1.** Які толькі адзін. *Няхай жыве Комуністычны інтэрнацыянал, гэты адзін загартаваны правадыр, які вядзе чалавецтва да новага сьветлага, радаснага жыцьця.* АЛ. *У самую гушчу Чэхаславацкага народу пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Совецкі Саюз як на адзіны аплот міру.* ПЧ. *Параўн.* адыны *ў* 1 *знач.*

**2.** Агульны, з'яднаны. *Луцкевічы, Станкевічы і т.д. служаць адзінай мэце – адарваць Совецкую Беларусь ад Совецкага Саюза і кінуць яе ў падняволле..* ШБСЯ. *Мы ўсе згуртаваны адзінаю воляй. Адзіным пачуццем, жаданнем адным.* ПБН. *Параўн.* адыны *ў* 2 *знач.*

◊**Адзіным фронтам** *гл.* адзіны.

Адз. м. Н. *адзіны*: АЛ. Р. *адзінага* (3): ВГР (2); ПЧ. В. *адзіны*: ПЧ. Т. *адзіным* (2): АЛ; ПБН. ж. Р. *адзінай* (2): АД; ШБСЯ. Т. *адзінай* (2): ВМН; МІ; 17, *адзінаю*: ПБН.

**[АДЗІЧАЛЫ]** *прым. Разм.* Здзічэлы. *Ідзеш у край, дзе пажарышча Яшчэ дымець не перастала, Дзе смерць спраўляе сваё ігрышча, у сполку з чэрняй адзічалай.* НГд, 8.

Адз. ж Т. *адзічалай*: НГд, 8.

**[АДЗІЧЭННЕ]** і **[АДЗІЧЭНЬНЕ]** *н. перан.* Адсталасць. *Сягодня таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура – з усходнім адзічэннем, і таргуюцца за што?* Тж. 15. *Унівэрсытэт .. праістнаваў да 1842 году, да часу, калі расійскі царскі ўрад задушыў гэту вучэльню, баючыся уплываў заходняе культуры на .. праізвол і адзічэньне.* УПУВ.

Адз. В. *адзічэньне:* УПУВ. Т. *адзічэннем*: Тж, 15.

**[АДЗНАКА]** (4) *ж.* Узнагарода. *За ўсё гэта яна* [Беларусь] *ўзнагароджана вялікай ганаровай адзнакай – ордэнам Леніна.* ЖН. *..уваходзіць* [Мікіта] *пераадзеты ў сваю чыноўніцкую форму з усімі адзнакамі.* Т, 50.

Адз. Т. *адзнакай*: ЖН. Мн. В. *адзнакі*: Т, 24. Т. *адзнакам.* (2): Т, 25, 50.

**[АДЗНАЧАЦЦА]** *незак.* Вызначацца чым-н. *Апрача таго, адзначаецца сваёй навізной першая "Беларуская разрадная азбука".* ВСп, 89.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адзначаецца*: ВСп, 89.

**[АДЗНАЧАЦЬ]** *незак. Вобразн.* Выяўляць. *Плыве шумліва, як рэка, Бяседа вольная такая, А ўжо нявідзіма рука На небе поўнач адзначае.* Кц, 197.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адзначае*: Кц, 197.

**[АДЗНАЧЫВАЦЦА]** *незак. Наватв.* Вылучацца, адрозніваацца. *Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначываўся...* Кз, 17.

Абв. пр. адз. м. *адзначываўся*: Кз, 17.

**АДЗНАЧЫЦЬ** (4) *зак.* **1.** Вылучыць каго-н. сярод іншых за якія-н. заслугі. *З рускіх* [аўтараў] *павінен адзначыць М. Горкага, які зрабіў на мяне* [Купалу] *вялікае ўражанне.* ПС.

**2.** *перан.* Звярнуць увагу на што-н.; зазначыць. *Але толькі павінен я* [Купала] *тут адзначыць, што гэта пятнаццацігадовая гадаўшчына не да мяне аднаго адносіцца..* ПЛП. *Адзначу* [Купала] *толькі, што пара ўжо "Вестніку" Беларускага Камісарыяту Асьветы абеларусіцца зусім.* ВСп, 90.

◊**Трэба адзначыць** (2) – трэба звярнуць увагу, трэба нагадаць. *Трэба адзначыць, што зроблена вельмі многа.* ВСп, 91. *Як*

*навіну ў гэтых творах трэба адзначыць выхад у сьвет перша-га беларускага рамана..* ВСп, 89.

Інф. *адзначыць* (4): ВСп, 89, 91; ПЛП; ПС. Абв. буд. адз. I ас. *адзначу*: ВСп, 90.

**АДЗЯВАЦЦА** (3) *незак. Разм. Тое, што* апранацца. *Наста Пабягунская ..старaецца адзявацца з шыкам, але без густу.* Т, 19. [Мікіта]: *.. І немцы адзяюцца ў форму а-ля-кум пажарны, гэта – каб не хапалі, мабыць, іх саміх на работу.* Там жа, 32.

Інф. *адзявацца*: Т, 19. Абв. цяп. адз. 3 ас. *адзяецца*: Т, 19. Мн. 3 ас. *адзяюцца*: Т, 32.

**АДКАЗ** (7) *м.* Словы, выказаныя (вусна, пісьмова) на пытанне, зварот. *Але адказ на яго* [пытанне] *вельмі просты.* ЗС, 18. *Што значыць – над чым я працую? Задаць такое пытанне паэту – рызыкоўна. Можна атрымаць адказ – "ні над чым", але можна і сказаць – "над усім".* МП. *Параўн.* адвет.

Адз. Н. *адказ* (3): БС; ЗС, 18; ПЧ. В. *адказ* (4): БВ, 17; БС (2); МП.

**[АДКАЗАЦЦА]** *зак. Тое, што* адмовіцца. [Мікіта]: *Прасіў я свайго профэсара Спічыні, але ён адказаўся.* Т, 56.

Абв. пр. адз. м. *адказаўся*: Т, 56.

**АДКАЗАЦЬ** (8) і *разм.* **АТКАЗАЦЬ** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* адказваць. [Ануля]: *Я так і падумала, але не сказала, бо набаялася, што не патраплю вучоным па-вучонаму адказаць.* Т, 54. *На гэтае пытаньне, здаецца, кожын – не задумваючыся – павінем атказаць..* ВР.

**2.** *Руск.* Адмовіць. *Вельмі паважаны Пане Рэдактар. Не ад-кажэце надрукаваць у Вашай газэце гэтых колькі слоў.* ЛР.

Інф. *адказаць* (2): Т, 32, 54; *атказаць*: ВР. Абв. пр. адз. м. *адказаў* (3): ОШМ (2); Т, 42. Буд. адз. 3 ас. *адкажа*: Т, 29. Мн. 3 ас. *аткажуць*: ЗК, 42. Заг. мн. 2 ас. *адкажэце* (2): ЛР; Т, 41.

**АДКАЗВАЦЬ** (2) *незак.* Гаварыць, казаць; даваць адказ. [Мікіта]: *Вось, калі хто з іх* [гасцей] *звернецца да вас* [Ганулі] *з якім словам, то вы старайцеся адказваць у нос і меней ужы-вайце простых выразаў.* Т, 22. [Мікіта]: *Вы толькі, меджду протчым, мамаша, адкавайце, як я вас вучыў..* Там жа.

Інф. *адказваць*: Т, 22. Заг. мн. 2 ас. *адказвайце*: Т, 22.

**[АДКАЛОЦЦА]** *зак. перан.* Парваць сувязь з кім-н., выйсці са скдаду якой-н. групы. *Частка яго* [жыдоўства] *пойдзе сваею незаметнаю сьцежкаю, але частка напэўна адколецца і далучыць свае галасы да расійцаў..* ВМР.

Абв. буд. адз. 3 ас. *адколецца*: ВМР.

**[АДКІДЫ]** *толькі мн. перан.* Маральна апусцелыя людзі, зла-чынныя антыграмадскія элементы. *І як шчаслівы паэт, калі ён*

*можа ў той жа дзень прачытаць на мітынгу гневу і нянавісці да гэтых адкідаў чалавецтва – свае вершы, у кожным радку якіх – праклён агідным здраднікнам радзімы.* МП.

Р. *адкідаў*: МП.

**[АДКІНУЦЬ]** (2) і *разм.* **АТКІНУЦЬ** *зак. перан.* **1.** Рэзка, з сілай адштурхнуць каго-н. *Мала іх павесіць На сухой асіне, Бо нават асіна Ад сябе адкіне.* МПв, 218. *Дзерава адкіне, Дзерава сухое, Сябе не спаганіць Поскуддзю такою.* Там жа.

**2**. Адмовіцца ад былых якіх-н. думак, пачуццяў. *Вось-жэ ўсе тые, што асталіся дома, .. павінн аткінуць ат сябе усякую слабасьць душы і цела, усякую непатрэбную трывогу..* РКр.

Інф. *аткінуць*: РКр. Абв. буд. адз. 3 ас. *адкіне* (2): МПв, 218(2).

**АДКЛАДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* [адкладаць]: ◊**Адкладаючы (справы) ў доўгі мех –** пераносячы на больш позні час. [Янка]: *Не адкладаючы справы ў доўгі мех, лахі пад пахі, ды яшчэ заўтра – марш на свежае паветра!* Т, 30.

**[АДКЛІКАЦЦА]** *незак.* Ставіцца, выяўляць свае адносіны да чаго-н. *Я* [Купала] *дзякую тав. Гікало, які заусёды ўважліва адклікаўся на мае удачы і няўдачы на творчым шляху.* ЖН.

Абв. пр. адз. м. *адклікаўся*: ЖН.

**АДКРЫВАЦЬ** *незак.* Арганізоўваць, ствараць што-н. *Рада пачала працаваць, адкрываць школы і думаць, што палякі, то гэта не бальшавікі.* СНБ.

Інф. *адкрываць*: СНБ.

**АДКРЫТА** *прысл. да* адкрыты. Не замаскіравана, яўна. *Тое, што рабілася ў нас адкрыта ў годы рэвалюцыі 1917 году, вылілася шырокай хваляй пасля гэтае рэвалюцыі.* МІ, 17.

**АДКРЫТЫ** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* адкрыць. **1.** Які пачаў працаваць, дзейнічаць. *Арганізаваўся Беларускі Нацыянальны камітэт, .. а 12 лістапада была адкрыта сэсія Рады Б.П.Р.* СНБ.

**2.** *У знач. прым. перан.* Шчыры, без скрытнасці. *Шчаслівы сягоння той, хто можа глядзець адкрытымі вачыма ў вяеёлыя вочы будучыні.* ЖН.

**Адкрыты ліст Янкі Купалы.**

Адз. м. Н. *адкрыты*: АЛ. Мн. Т. *адкрытымі*: ЖН. Кар. адз. ж. Н. *адкрыта*: СНБ.

**[АДКРЫЦЦА]** *зак.* Стаць даступным для каго-н. *Паказала гэта і цяперашняя вайна, тыя сотні тысяч уцекачоў, хлынуўшыя, як адкрылася граніца, з халодных раўнін Расіі ў свой родны край.* ЗС, 18.

Абв. пр. адз. ж. *адкрылася*: ЗС, 18.

**АДКРЫЦЬ** (4) *зак.* Знайсці, выявіць. *Ён* [аўтарнік] *бачыў будучыя бітвы, Ён новых ворагаў адкрыў.* УрП, 51. // *Вобразн.*

Выявіць. .. *яна* [судзьбіна] *можа ў тайныя далі І адкрыць сьветы новыя ў сьвеце.* Ч, 322.

◊**Адкрыць вочы –** дапамагчы каму-н. убачыць, зразумець праўду пра каго-н. .. *ты, правадыр, нібы – яснае сонца, Мне* [Купалу] *вочы адкрыў на землі і неба...* ТП, 213. .. *а ўсё-ж такі ён* [мінулы год] *шмат чаму навучыў, і шмат каму з беларускага грамадзянства адкрыў вочы, асьлепленые тымі ці іншымі утопіямі і абецанкамі...* СНБ.

Інф. *адкрыць*: Ч, 322. Абв. пр. адз. м. *адкрыў*: СНБ; УрП, 51. Буд. адз. 2 ас. *адкрыеш*: ТП, 213.

**[АДКУЛІЦЬ]** *зак. Разм.* Перавярнуць, пераставіць. [Мікіта]: *Вы, меджду протчым, мамаша, прышпільвайце чым-небудзь адвіснутыя матузы ад шпалераў, а я адкулю на добры бок абразы.* Т, 50.

Абв. буд. адз. 1 ас. *адкулю*: Т, 50.

**АДКУЛЬ** (9) і *разм.* **АТКУЛЬ** (2) *прысл.* **1.** *пытальнае.* З якога месца? [Гануля]: *Ну і госці і Адкуль ты іх* [Мікіта] *выкапаў?* Т, 22. *Хоць сохі, хоць косы гуляюць там ратна – ня поймеш аткуль узяліся..* ЗК, 42. ВН; Т, 52.

**2.** *адноснае.* Як злучальнае слова: а) для падпарадкавання даданых сказаў месца.. [Янка]: *Ваша* [Мікіты] *лінія..вядзе вас туды, адкуль не варочаюцца.* Т, 22. [Наста]: .. *гэта апошні з роду Магіканаў, які .. пакідае сягоння нашы Менскія палестыны і махае свае крокі туды, адкуль прыйшоў.* Т, 41. ДК; Т, 20; б) для падпарадкавання даданых азначальных сказаў. *Зірнуць-жа на годы, на час мой мінулы, На край. Адкуль веяла цемрай. Трывогай..* ТП, 214. [Абарванец]: [*увайшоўшы з таго боку, адкуль Наста вышла, да кленчачага з працягнутымі рукамі Мікіты*]. Т, 42. *Параўн.* скуль.

◊**Невядома адкуль** *гл.* невядома. ХБ, 29.

**[АДЛАЖЫЦЬ]** *зак.* Адтэрмінаваць, перанесці на больш позні час, назаўсёды. [Янка]: *Вяселле, цётачка, адлажылі пакуль да таго часу, калі апошні акупант ад нас не выйдзе, бо пры іх нявесела на вяселлі.* Т, 54.

Абв. пр. мн. *адлажылі*. Т, 54.

**[АДЛОГ]** *м. Польск.* Аблога. залеж. *Адлогам лягуць скора нівы, Узьняты нашаю рукою...* УрП, 48.

Адз. Т. *адлогам*: УрП, 48.

**[АДЛУЧЫЦЦА]** *зак.* Выйсці, адысці на пэўны час. [Мікіта]: *А я папрашу пардону ў гасцей і на хвіліну адлучуся змяніць свой знадворны выгляд..* Т, 50.

Абв. буд. адз. І ас. *адлучуся*: Т, 50.

**[АДМАЛЯВАЦЬ]** *зак. Разм.* Расказаць, паведаміць, абрысаваць. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, вы крыху не ў тых колерах адмалявалі ўжо гэтую трагічную гісторыю.* Т, 46.

Абв. пр. мн. *адмалявалі*: Т, 46.

**[АДМЕЖАВАНАСЬЦЬ]** *ж. Разм.* Адмежавнне. *..праступна ўтвараць нацыянальную адмежаванасьць, асноўваючыся на самабытнасьці, гэта значыць, на пазаклясавасьці якой-бы ні было нацыі ці народу.* АЛ.

Адз. В. *адмежаванасьць:* АЛ.

**[АДМЕЖАВАЦЦА]** *зак.* Аддзяліцца. *..я* [Купала] *і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся, як гэта належала, абкружаючага мяне нацыянал-дэмократычнага асяродзішча..* АЛ.

Абв. пр. адз. м. *адмежаваўся*: АЛ.

**АДМЕННА** *прысл. да* адменны. *Гэй, ты, моладзь, наша змена, Комсамольцы, комсамолкі, Як-жа светла, як адменна Свеціш колерам вясёлкі!* СА, 178.

**[АДМЕННЫ]** (2) *прым. Польск.* Адметны, своеасаблівы, адрозны. *А жыцьцё не глядзіць: яно мусіцьісьці далей сваім чарадом, хоць і адменным, як у час спакойны.* ВС. *Людзі чужыя змагаюць мне* [Нёману] *грудзі З новым парадкам, з адменным жыццём, – Роднага Ў краю тутэйшыя людзі ў скуру чужацкую лезуць жыўцом.* Н.

Адз. м. Т. *адменным* (2): ВС; Н.

**[АДМЕРЫЦЬ]** *зак. Разм.* Аддзяліць, вызначыць. *Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў, захацелі знаць, хто ім што зрэпіў.* Ч, 322.

Абв. пр. адз. м. *адмерыў*: Ч, 322.

**[АДМЕЦЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* [адмесці] *перан.* Адхілены, адкінуты. *..толькі аддаючы свае сілы на соцыялістычнае будаўніцтва, яна* [беларуская інтэлігенцыя] *ня будзе адмецена жыцьцём, як агідная памятка рабочага мінулага.* АЛ.

Кар. адз. ж. Н. *адмецена*: АЛ.

**АДМЕЦІЦЬ** *зак. Разм.* Адзначыць, выдзеліць. *Тут з гэтых кніг павінны мы адмеціць "Методыку арытмэтыкі" Лукашэвіча і Валасковіча.* ВСп, 89.

Інф. *адмеціць:* ВСп, 39.

**АДМІНІСТРАЦЫЯ** *ж.* Органы кіравання; службовыя асобы аргана кіравання *..аб беларускай мове ні наша адміністрацыя, ні грамадзянство і гукаць ня хочуць, – яе бытцым-то ня бачуць.* ВР.

Адз. Н. *адміністрацыя*: ВР.

**[АДМІРАЮЧЫ]** *дзеепрым. зал. цяп. да* [адміраць]. Знікаючы; страчваючы жыццяздольнасць. *..ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага соцыялістычнага будаўніцтва краіна Саветаў ..дасьцігла .. посьпехаў на страх і зьдзіўленьне адміраючаму капіталістычнаму сьвету.*

Адз. м. Д. *адміраючаму:* ДНСП.

**[АДМОВІЦЦА]** *зак*. Не згадзіцца рабіць што-н. [Дама]: *Мусье беларус, не адмоўцеся, сыграйце нам* [гасцям] *вальца*! Т, 52. *Параўн*. адказацца.

Заг. мн. 2 ас. *адмоўцеся*: Т, 12.

**[АДМЫСЛОВЫ]** *прым*. Своеасаблівы, адметны, непаўторны. *Але абрабляюць глебу сяляне старанна: за баронамі ідуць з адмысловымі даўбяжкамі.* ПЧ.

Мн. Т. *адмысловымі:* ПЧ.

[**АДНАБОКІ**] *прым*. Аднабаковы. *Разглядаючы гэты сьпіс* [табліцу], *мы першым чынам заўважаем, што леташняя выдавецкая справа не была аднабокай.* ВСп, 89.

Адз. ж. Т. *аднабокай*: ВСп, 89.

**АДНАГАЛОСНА** *прысл*. Аднадушна. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР,.. аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Совет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч..* НКУС.

**АДНАК**[1] (2) *злучн. супраціўны*. Але. *Слуцк – павятовы гарадок – куды яму, здавалася бы, лезці ў людзі, ды яшчэ з сваёй газэтай! Аднак палез.* МІ, 17. *Аднак ён* [настаўнік] *піў запоем, так што вучні часта заставаліся без настаўніка.* А, 328.

**АДНАК**[2] (3) *пабочн*. Усё ж, усё-такі. [Янка]: *А во, сын ваш* [Ганулі] *не забыўся, аднак, аб імянінах?* Т, 20. *..група контррэвалюцыйных нацыянал-дэмократнчных інтэлігентоў, .. вяла шкодніцкую работу.., накіроўваючы галоўныя ўдары, аднак, па лініі культуры і зямельнай экономікі.* АЛ. СНБ, 339.

**[АДНАКІ]** *прым. Разм. тое, што* аднолькавы. *Годзе заходняй ці ўсходняй культуры! Для беларуса цана ім адна, Усе вы, панове, аднакай натуры: З сэрца чужога кроў ссалі-б да дна.* Г, 16.

Адз. ж. Р. *аднакай*: Г, 16.

**АДНАКОВА** *прысл. Разм. Тое, што* аднолькова, *Пабочные налогі аднакова плацюць і бедны і багаты.* ВН.

**АДНАЛЬКОВА** (3) *прысл. Разм.* У роўнай меры, ступені. *Сонца свяціла нам аднолькова Гэтак нядаўна – ўчора, заўчора..* ССА, 294. *Зноў аднолькова свеціць нам сонца, Толькі ў вас* [заходніх беларусаў] *з намі* [усходнімі беларусамі] *межаў не будзе.* Там жа. *Параўн*. аднакова.

**Сонца свяціла нам аднолькова...**

**[АДНАЛЬКОВЫ]** *прым. Паэт. Тое, што* аднолькавы. [Мікіта]: *Усё гэта тутэйшыя грата-пэрсоны, меджду протчым, людзі аднолькавага са мной светапогляду і амаль што не аднальковых рангаў..* Т, 22.

Мн. Р. *аднальковых*: Т, 22.

**[АДНАСЕЛЕЦ]** *м. Разм.* Аднасяльчанін. *У іх* [сялян-беларусаў]

*цяпер наладжаны беларускі прасветны гурток, які працуе над усведамленнем сваіх аднасельцаў..* MI, 17.

Мн. Р. *аднасельцаў*: MI, 17.

**АДНАЧАСНА** (2) і **АДНАЧАСНЕ** *прысл. Разм. Тое, што* адначасова. *Але гэта адначасне паказвае, як кінутае здаровае зерне дарма не прападае.* MI, 17. *Адначасна старыя беларускі ўрад "Рада Беларускай Народнай Рэспублікі і Рада міністраў Б.Н.Р." былі абвешчаны без абароны закону.* СНБ, 338.

**АДНАЧАСОВА** (2) *прысл*. Разам. *Уваходзяць адначасова з абаіх дзвярэй Усходні вучоны і Заходні вучоны..* Т, 25. *Вучоныя канчаюць пісаць адначасова..* Там жа, 26. *Параўн*. адначасна, адначасне.

**АДНЕКУЛЬ** (2) *прысл*. Невядома адкуль. [Мікіта]: *Аяяй! Аяяй! А ратунку аднекуль, а збаўлення аднекуль.* Т, 32. *Параўн*. знекуль.

**[АДНОЛЬКАВЫ]** *прым*. Такі самы. [Мікіта]: *Усе гэта тутэйшыя грата-пэрсоны, меджду протчым, людзі аднолькавага са мной светапогляду..* Т, 22. *Параўн*. аднакі, аднальковы.

Адз. м. Р. *аднолькавага*: Т, 22.

**[АДНОСНЫ]** (3) *толькі мн.* Характар паводзін, абыходжання каго-н. з кім-н. *Заезджыя госці дзівіліся гэткаму, па-іхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі..* Кз, 17. *Ня могучы кожнаму з асобку падзякаваць, як гэта яны заслужылі сваімі шчырымі адносінамі к майму няшчасцю, я* [Купала] *лічу сваім сьвятым абавязкам хоць на гэтым месцы успомніць гэтых асоб добрым словам.* ЛР.

◊**У адносінах –** з пункту гледжання. [Мікіта]: *У гандлёва-прамысловых адносінах мы* [Ганулуя і Мікіта] *павінны рабіць від, што яна* [паненка] *і не такая, і не нейкая.* Т, 34.

Р. *адносін*: Кз, 17. Т. *адносінамі*: ЛР. М. *адносінах*: Т, 34.

**АДНОСІЦЦА** (4) *незак.* **1.** Ставіцца пэўным чынам, выяўляць свае аднсіны. *..свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх* [іншых нацыянальнасцей], *чымся беларус, падняволены чужынцам.* НДН, 19.

**2.** Мець адносіны, дачыненне да чаго-н. *Але толькі павінен я* [Купала] *тут адзначыць, што гэта пятнаццацігадовая гадаўшчына не да мяне аднаго адносіцца, яна адносіцца.. да ўсяго апошніх часоў руху ў беларускім адраджэнні.* ПЛП.

Інф. *адносіцца*: НДН, 19. Абв. цяп. адз. 3 ас. *адносіцца* (3): ПЛП (3).

**АДОЗВА** (4) *ж.* Пісьмовы зварот з заклікам, просьбай. *Мы* [беларусы] *таксама памятаем, што вядомая адозва Пілсудскага, .. гаворыць пра тое, што з прыходам палякоў Беларусь атрымала волю.* ОШМ. *Палякі, як і бальшавікі, калі верыць адозьве начальніка Польскай дзяржавы, нясьлі з сабой вызваленьне*

*Беларусі з адвечнага ярма.* СНБ.

Адз. Н. *адозва* (3): ОШМ; СНБ, 340 (2). Д. *адозьве*: СНБ.

**АДОЎ** *прым.*: ◊**Адовы врата** *гл.* врата.

Мн. Н. *адоў*: Т.

**[АДПАВЕДНЫ]** (2) *прым.* Патрэбны. *Паколькі даўно ўстаноўлена, што самая ўдасканаленая спадніца без адпаведных ног не здольна да руху, .. было відавочна, што гэта фрыцы.* ПСп. [Мікіта]: *Страшэнна, меджду протчым, адпаведная хвіліна, каб паўтарыць мамзэль Насце сваю адвечную пропозыцыю.* Т, 42.

Адз. ж. Н. *адпаведная*: Т, 42. Мн. Р. *адпаведных*: ПСп.

**[АДПЛАЦІЦЦА]** *зак. Разм.* Аддзякаваць, разлічыцца за што-н. *Так, значыцца, ваша ўсходняя і заходняя культура адплацілася за тыя мільёны ахвяр, што паляглі за вашы дзяржаўныя фальшывыя фетышы.* Тж, 16.

Абв. пр. адз. ж. *адплацілася*: Тж, 16.

**[АДПЛАЦІЦЬ]** і *разм.* **[АТПЛАЦІЦЬ]** *зак.* **1.** Адказаць якімі-н. дзеяннямі, учынкамі на чые-н. дзеянні, учынкі. *Атплацілі роднай матцэ Княжэняты-дзеці: Відмай кінулі бадзяцца, Сіратой гібеці.* Дз, 191.

**2.** *перан.* Адпомсціць. *І ворагам за смерць адплацім грознай смерцю, Вышэй падымем сцяг, што выпаў з слаўных рук.* СК, 158.

Абв. пр. мн. *атплацілі*: Дз, 191. Буд. мн. 1 ас. *адплацім*: СК, 158.

**АДПЛЮШЧВАЦЬ** *незак*: ◊**Адплюшчваць вочы –** разумець праўду пра каго-н., паказваць сутнасць чаго-н.. [Янка]: *Мы* [беларусы] *як бы пачынаем ужо адплюшчваць вочы і паўставаць проці тэй паганай маны, што мы не ёсць мы.* Т, 35.

Інф. *адплюшчваць:* Т, 35.

**[АДПОР]** *м.* Адбіццё нападу. *..байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям.* ВГ.

Адз. В. *адпор*: ВГ.

**АДПРАЎЛЯЦЬ** і *разм.* **АТПРАЎЛЯЦІ** *незак.* **1.** Пасылаць каго-н. куды-н. [Мікіта]: *..будуць дабравольна браць маладых мусьі і дабравольна адпраўляць іх на Урангелеўскі фронт.* Т, 55.

**2.** *перан.* Святкаваць, спраўляць. *Што нам кажэ* [душа] *ночкай цёмнай На мяжы ў пракляцьці, Як Дзяды ў нас векапомны Стануць атпраўляці.* Дз, 192.

Інф. *адпраўляць*: Т, 55; *атпраўляці*: Дз, 192.

**[АДПЫТЛЯВАЦЬ]** *зак. Разм.* Падрыхтаваць, адшліфаваць. *І я пачаў пісаць стацці, пісаць аб Антанце. Перагледзеў сто і адну газету і адпытляваў..* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *адпытляваў*: Ан, 19.

**[АДРАБЛЯЦЬ]** *незак*: ◊**Адрабляць крукам –** адпрацоўваць

сагнуўшыся. *Як адрабляў крукам пашчыну пану... Пан гуляў панам, нявольнікам быў я* [дзед]. Д, 73.

Абв. пр. адз. м. *адрабляў*: Д, 73.

**[АДРАДЖАНІЗМ]** *м. Наватв., пагардл. Тое, што* адраджэнне. *.. я* [Купала] *падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму, захапіўся гэтымі адраджэнцкімі ідэямі нацыянал-дэмакратычнай дзяржаўнасьці..* АЛ.

Адз. Р. *адраджанізму:* АЛ.

**АДРАДЖЭННЕ** (4) *н.* Абуджэнне да новага жыцця; аднаўленне, абнаўленне. *Ні адно на свеце адраджэнне народу, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народу.* ПЛП. *.. яна* [гадаўшчына] *адносіцца да .. усяго апошніх часоў руху ў беларускім адраджэнні.* Там жа. *Параўн*. адраджанізм, адраджэнцтва.

Адз. Н. *адраджэнне*: ПЛП. Р. *адраджэння* (2): ПЛП; СНБ, 336–337. М. *адраджэнні*: ПЛП.

**[АДРАДЖЭНЦКІ]** *прым. Пагардл.* Які мае дачыненне да адраджэнцтва. *.. я* [Купала] *падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму, захапіўся гэтымі адраджэнцкімі ідэямі нацыянал-дэмократычнай дзяржаўнасьці..* АЛ.

Мн. Т. *адраджэнцкімі*: АЛ.

**[АДРАДЖЭНЦТВА]** *н. Разм., пагардл. Тое, што* адраджэнне. *..я* [Купала] *стаў адным з ідэолёгаў буржуазна-дэмократычнага адраджэнцтва і “незалежніцтва”..* АЛ. *Параўн*. адраджанізм.

Адз. Р. *адраджэнцтва*: АЛ.

**АДРАЗУ** (8) *прысл.* **1.** Неадкладна, зараз жа. [Мікіта]: *..хай сабе ідуць* [немцы], *.. буду зноў засядаць ў губарнатарскай канцылярыі.* [Наста]: *Ого! Так адразу.* Т, 24.

**2.** З самага пачатку. [Дама]: *Я заўважыла адразу, што вы* [Мікіта] *прайшлі добрую адукацыю.* Т, 29. *Сабе ўжо і дэпутата Выбрала* [бабулька] *адразу – Варашылаву свой голас Аддам з сэрцам разам.* Вб, 237. Т, 25, 33, 58 (2).

**3.** Непасрэдна за чым-н. [Пан]: *Як з’явіцеся* [Мікіта] *з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш прэсціж адразу падымецца ў яе* [Насты] *вачах на сто процантаў.* Т, 52.

**[АДРЫВАЦЬ]** *незак. перан.* Разлучаць, пазбаўляць. *Дэспатычныая Расія царскага ўраду адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет..* БВ, 16.

Абв. пр. адз. ж. *адрывала*: БВ, 16.

**АДРЭЗАЦЬ** *зак. перан.* Зрабіць немагчымым дасягненне якой-н. мэты. [Спраўнік]: *Вораг не спіць і ўжо блізка: можа адрэзаць нам*

*усе ходы для адступлення.* Т, 38.

Інф. *адрэзаць:* Т, 38.

**[АДРЭКАЦЦА]** (2) *незак. Разм.* **1.** Парываць сувязь, адносіны з кім-н. *Адрэкайцеся-ж хутчэй ад сваёй нацыі ды крычыце, што вы палякі, – тады вас будуць вучыць* [рэлігіі] *па польску!* ВР.

**2.** Адмаўляцца. *Так, Литоўцы* [клэўси] *цяпер паразумнели и цэлыми вёсками адрэкаюцца пиць гарэлку.* УП.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *адрэкаюцца*: УП. Заг. мн. 2 ас. *адрэкайцеся.*

**АДСАБУРАВАЦЬ** *незак. Наватв.* Абнаўляць, узводзіць. [Мікіта]: *А цяпер займемся адсабураваць сценкі.* Т, 50.

Інф. *адсабураваць*: Т, 50.

**[АДСАКАТАЦЬ]** *зак. перан. Разм.* Прагаварыць; адбалбатаць, пратараторыць. [Гарошка]: [да Алёнкі]. *А ты, сарока, калі ўжо адсакатала сваё, аддала б настаўніку тое, што прывезла.* Т, 30.

Абв. пр. адз. ж. *адсакатала*: Т, 30.

**[АДСТАВАЦЬ]** *незак. перан.* Пакідаць у спакоі, не турбаваць, не назаляць. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі..* Кз, 17.

Абв. пр. мн. *адставалі*: Кз, 17.

**[АДСТАЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Не паспець за другімі. [Чырвонаармеец]: *Ці няможна ў вас, таварышы, перасядзець, пакуль сцямнее? Бо я адстаў ад сваёй часці..* Т, 52.

**2.** *Зак. да* адставаць. [Гарошка]: *Як людзі казалі, і мой Юрка не адстаў. Вылез на вуліцу і давай з іншымі на чым свет шумець..* Т, 44.

Абв. пр. адз. м. *адстаў* (2): Т, 44, 52.

**АДСТАЯЦЬ** *зак. да* адстойваць. *Слабейшыя народы .. змагаюцца толькі за тое, каб жыць, каб адстаяць сваю незалежнасць ..* СНБ.

Інф. *адстаяць*: СНБ.

**[АДСТОЙВАЦЬ]** *незак. перан.* Абараняць што-н. ад нападу ворага. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі .. мужна адстойваюць кожную пядзь свяшчэннай зямлі.* ВГ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *адстойваюць*: ВГ.

**АДСТОЙВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* адстойваць. *Яшчэ ў годы грамадзянскай вайны Вы, Нікалай Іванавіч* [Ежоў], *нямала зрабілі для беларускага народа, адстойваючы яго самастойнасць ад нямецкіх і польскіх фашыстаў..* НКУС.

**АДСТРАШЫЦЬ** (2) *зак. да* адстрашваць *..палякі зрабілі хаўрус з расейскімі націоналістамі і чорнасоценцамі, абы толькі заціснуць беларускі рух, абы адстрашыць беларусоў ад жаданьня вучыцца рэлігіі па беларуску.* ВР. *Багоў я* [аўтарнік] *вашых* [людзей] *ім* [новым богам] *адстрашу і кіну вас да яго ног.* УрП, 52.

Інф. *адстрашыць*: ВР. Абв. буд. адз. I ас. *адстрашу*: УрП, 52.

**АДСТУПАЦЬ** (2) *незак.* Адыходзіць назад пад націскам наступаючых сіл. [Спраўнік]: *Часова адступаць прышлося.* Т, 37. [Спічыні]: *А я страшэнна не люблю спатыкацца з ворагам, калі ён наступае і калі ён адступае.* Там жа, 41.

Інф. *адступаць*: Т, 37. Абв. цяп. адз. 3 ас. *адступае*: Т, 41.

**АДСТУПІЎШЫ** *дзеепрысл. да* адступіць. Ступіўшы назад, аддаліцца ад каго-н. *Мікіта, адступіўшы колькі крокау назад, выцягвае рукі ўверх.* Т, 59.

**[АДСТУПЛЕННЕ]** (2) і *разм.* **АТСТУЛЕННЕ** *н. Дзеянне па дзеясл.* адступаць. *Як пачалося атступленне рускага войска, следам за японскими салдатами набегли хунхузы и пачали паліць афицэрския кватэры.* ПДз. [Спраўнік]: *Вораг не спіць і ўжо блізка: можа адрэзаць нам усе ходы для адступлення.* Т, 38.

Адз. Н. *атступленне*: ПДз. Р. *адступлення*: Т, 38. М. *адступленні*: Т, 34.

**АДСУНУТЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* адсунуць. Аддалены. *Мы* [беларусы] *крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора.* Нз, 14.

Кар. мн. Н. *адсунуты*: Нз, 14.

**[АДСУНУЦЬ]** *зак.* Перасунуць, пераставіць. [Мікіта]: *І зусім яшчэ не час* [разыходзіцца], *меджду протчым, найяснейшыя госці, вось адсунем стол і ...* [патанцуем]. Т, 28.

Абв. буд. мн. I ас. *адсунем*: Т, 28.

**[АДСУШЫЦЬ]** *зак. перан. Разм. У знач. безас.* Ссушыць. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі і аб сьценку біўся Ад балеснай мукі, – Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты..* К.

Абв. пр. адз. н. *адсушыла:* К.

**АДСЮЛЬ** (2) *прысл.* У выніку гэтага. *Адсюль такая прыязнь, любоў, глыбокая сімпатыя да нас – людзей совецкае краіны.* ПЧ. *Адсюль варожасць да фашызма, да яго захопніцкіх мэтаў.* ПЧ. *Параўн.* адгэтуль *у* 1 *знач.*

**[АДТОЧВАЦЦА]** *незак. перан.* Удасканальвацца. *На аснове ўсіх нечуваных дасягненняў вырасла і адточваецца.. беларуская мова.* ШБСЯ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адточваецца*: ШБСЯ.

**[АДТРЫМАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* адтрымаць. *Разм.* Атрыманы. *Кароценькая вестка, адтрыманая намі ўчора з Варшавы, ...павінна збудзіць у кожнага беларуса .. вялікае здаволеньне і сьвяточную радасьць.* БСУ.

Адз. ж. Н. *адтрыманая:* БСУ.

**АДТУЛЬ** *прысл.* З таго месца, з таго боку. *Камісары ўцяклі ў Бабруйск, а адтуль у Смаленск.* СНБ, 340. *Параўн.* адтуля, зтуль.

**АДТУЛЯ** *прысл. Разм. Тое, што* адтуль. *А як згіну, то зязюля Прыляціць да вас адтуля І ля вокнаў, ля хаціны Закукуе, што я згінуў.* ГЖУ.

**[АДУКАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* адукаваць. *У знач. прым.* Living Living Living Living

Мн. В. *адукаваных*: ПЧ.

**[АДУМ]** *м. Разм.*: ◊**Жыць сваім адумам** *гл.* жыць.

Адз.: Т. *адумам*: Т, 21.

**АДУСЮЛЬ** *прысл.* З усіх бакоў. *Хіба можа ён* [абываталь] *адважыцца на беларускую школу, калі беларушчына цэлымі соткамі год ганьбілася і выганялася адусюль, адкуль можна было?* ДК.

**[АДУКАЦЫЯ]** (2) *ж.* Навучанне, асвета. [Дама]: *Я заўважыла адразу, што вы* [Мікіта] *прайшлі добрую адукацыю.* Т, 29. [Мікіта]: *Як гэта міла з вашага* [Спічыні] *боку, што нават і ў гэтакі трывожны час вы не забываецеся аб маёй адукацыі!* Там жа, 49.

Адз. В. *адукацыю*: Т, 29. М. *адукацыі*: Т, 49.

**[АДХОДЗЯЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* адыходзіць. *У знач. наз.* Той, хто адходзіць за кім-н. *Поп*: (ідучы ўслед за адыходзячымі, паказваючы на іх рукой). *Акі пціцы небесныя, отлетаюшчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38.

Мн. Т. *адходзячымі*: Т, 38.

**АДХРЫСЬЦІЦЦА** *зак. перан.* Пазбавіцца. *..усе дзяржавы, апрача, разумеецца, Вялікарусі, усімі сіламі стараюцца адхрысьціцца ад гэтага раю.* СНБ.

Інф. *адхрысьціцца:* СНБ.

**[АДЦЯГВАЦЬ]** *незак.* Адстаўляць, адводзіць назад. [Мікіта]: *..як будзеце* [Ганулі] *вітацца, то адну нагу назад адцягвайце – рабеце рэвэранс.* Т, 22.

Заг. мн. 2 ас. *адцягвайце*: Т, 22.

**[АДЦЯРЭБІЦЦА]** *зак. перан. Разм.* Адчапіцца. [Мікіта]: *Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды .. і так пайшла пісаць губэрня – не адцярэбішся.* Т, 21.

Абв. буд. адз. 2 ас. *адцярэбішся*: Т, 21.

**[АДЦЯЦЬ]** *зак.*: ◊**Адцяць доўгія рукі –** пазбавіць магчымасці рабіць што-н. *Тут рада адна: трэба адцяць доўгія рукі турка, каб ня псаваў ён хрысьціянскіх дзяцей..* ДК.

Інф. *адцяць*: ДК.

**[АДЧАПІЦЦА]** (2) *зак. перан. Разм.* Адстаць, пакінуць у спакоі. *Адчапіся, дзеўка! Што ты ка мне* [Янку] *маеш?* ЕЯП. [Янка]: *Дайце* [Мікіта] *яму* [немцу] *тры рублі, і адчэпіцца.* Т, 33.

Абв. буд. адз. 3 ас. *адчэпіцца:* Т, 33. Заг. адз. 2 ас. *адчапіся:* ЕЯП.

**[АДЧУВАННЕ]** (3) *н.* Разуменне, усведамленне. *Сьветларусая гладзь расхвалёных ніў Уліла мне* [Купале] *ў душу адчуваньняў разьліў.* АР.

**Адчуваньняў разьліў.**

Мн. Р. *адчуваньняў:* АР (3).

**[АДЧУВАЦЦА]** *незак.* Усведамляцца, становіцца зразумелым. *.. ў галіне літаратуры і мастацтва гэтакіх посьпехаў і такога шпаркага разьвіцця не адчувалася.* ДНСП.

Абв. пр. адз. н. *адчувалася*: ДНСП.

**[АДЧУВАЦЬ]** (3) *незак.* Усведамляць, зведваць. *Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай .. сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй, добра ведае і адчувае, што справядлівай гісторыяй ужо палічаны апошнія гадзіны яго існаваньня.* АЛ. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны.. мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах..* ПЧ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адчувае*: АЛ. Мн. I ас. *адчуваем*: ШБСЯ. Пр. мн. *адчувалі*: ПЧ.

**[АДЧУЦЬ]** (2) *зак. да* адчуваць. *Сягодня кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і разумее, які шырокі размах .. прыняла наша справа над адбудаваннем сваёй незалежнай бацькаўшчыны!* MI, 17. *Вольна ўздыхнулася, калі пераехалі мы* [дэлегаты] *праз мяжу ў СССР, адчулі сябе дома.* ПЧ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адчуе*: MI, 17. Пр. мн. *адчулі*: ПЧ.

**[АДЧЫНЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* адчыніць *у* 1 *знач. А тут* [на Меншчыне] – *у канцы верасьня я* [С.Меч] *працаваў каля адчыненага вакна..* ХБ, 29.

Адз. н. Р. *адчыненага*: ХБ, 29.

**[АДЧЫНІЦЦА]** *зак*: ◊**Адчыняцца дзверы варот** *гл.* дзверы. Абв. буд. мн. 3 ас. *адчыняцца*: ТП, 216.

**АДЧЫНІЦЬ** (5) і *разм.* **[АТЧЫНІЦЬ]** *зак.* **1.** *Зак. да* адчыняць.. [Мікіта]: *Добрыя людзі адчынілі склад.. – бяры хто хочаш і калькі хочаш.* Т, 54. *Прасіце, і вам будзе дадзена; дабівайцеся, і вам атчыняць ... А мы ніколі не прасілі, ніколі не дабіваліся правоў для беларускай мовы.* ВР.

**2.** *перан.* Пачаць сваё існаванне, дзейнасць. *Калі трэба, напрыклад, адчыніць школу, дык склікаюць бацькоў і ставяць пытанне: якую яны хочуць школу.* ДК. *Справа канчаецца тым, што школа не адчыняецца, бо трэ' было адчыніць адну, а тут дамагаюцца трох.* Там жа.

Інф. *адчыніць* (2): ДК (2). Абв. пр. мн. *адчынілі*: Т, 54. Буд. адз. I ас. *адчыню*: Т, 25.

Мн. 3 ас. *адчыняць*: ВР. Заг. мн. 2 ас. *адчынеце*: Т, 32.

**АДЧЫНЯЦЦА** *незак.* Адкрывацца. *Справа канчаецца тым, што школа не адчыняецца, бо трэ' было адчыніць адну, а тут дамагаюцца трох.* ДК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адчыняецца*: ДК.

**АДЧЫНЯЦЬ** (2) і *разм.* **АДЧЫНЯЦІ** *незак.* Адкрываць што-н. *Гануля меціцца ісці адчыняць, але заклапочана тым, у якія дзверы ўперад пайсці.* Т, 25. [Наста]: [*падбегшы да Ганулі*]: *Вы, мадам, ідзеце адчыняць тыя дзверы, а я адчыню гэтыя.* Там жа.

◊**Адчыняці дзьверы –** пра намер пазбавіцца ад каго-н. *Вам* [народу] *толькі адчыняці дзьверы І гнаць багоў сваіх старых.* УрП, 52.

Інф. *адчыняць* (2): Т, 25 (2); *адчыняці*: УрП, 52.

**АДЧЭПНЫ** *прым. У знач. наз.* Тое, што робіцца для каго-н., каб адчапіўся. *Побач з Госиздатом дрэмле й наша "Палітпрасьвета", якая надрукавала пабеларуску, як-бы адчэпнага чатыры лістоўкі..* ВСп, 92.

Адз. м. Р. *адчэпнага*: ВСп, 92.

**[АДШЛІФАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* адшліфаваць. *перан.* Спрактыкаваны, натрэніраваны. [Мікіта]: *Аратар, маючы кожны раз напагатове адшліфаваны практыкай язык, заўсёды патрапіць выпутацца з бяды.* Т, 36.

Адз. м. В. *адшліфаваны*: Т, 36.

**[АДЫГРАЦЬ]** зак.: ◊**Адыграць ролю –** мець значэнне. *Якую ролю я* [Купала] *асабіста і мая літаратурная творчасьць адыгралі ў гэтай контррэволюцыйнай дзейнасьці беларускага нацыянал-дэмократызму?* АЛ.

Абв. пр. мн. *адыгралі:* АЛ.

**[АДЫСЦІ]** (2) і *разм.* **[АДЫЙСЦІ]** *зак.* **1.** Перайсці ва ўласнасць каго-н. *.. пасля падзелу Польшчы Беларусь адышла к Маскоўшчыне..* БВ, 16.

**2.** *перан.* Памерці. *А ўспомні-прыпомні шчасьліў, нешчасьлівы, Аб тых, што ў сьвітаньні на век адыйшлі..* В.

◊**Адысці на другі план, на апошні закутак –** страціць актуальнасць, стаць другарадным. *Кліч "Зямля і воля працоўнаму люду!", сціхшы сягодня ў нашым краю праз варункі ваеннай завірухі, як бы адышоў на другі план, на апошні закутак.* ЗС, 17.

Абв. пр. адз. м. *адышоў*: ЗС, 17. ж. *адышла*: БВ, 16. Мн. *адыйшлі* : В.

**[АДЫХОДЗІЦЬ]** *незак.* Пакідаць ранейшае месца, аддаляцца ад чаго-н. *Мікіта адыходзіць ад сваіх гасцей.* Т, 25.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *адыходзіць*: Т, 25.

**АДЫХОДЗЯЧЫ** *дзеепрысл. да* адыходзіць. *І потым, адыходзячы ў глухую ночку, Назад сумысьля азірнецца ён* [бежанец] *у мгле..* ВБЛ, 80.

**АД’ЯЗДЖАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* ад’язджаць. Аддаляючыся ў іншае месца; выбіраючыся ў дарогу. [Мікіта]: *Апрача таго, нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску тут, замеціў і, ад’язджаючы, на гэтую місію багаславіў.* Т, 38.

**АЕЙ** (3) *выкл. Разм.* Выражае розныя пачуцці здзіўленне, радасць і інш. [Наста]: *Аей, што я бачу?! Без усякае цэрамоніі нашаму дзявоцкаму стану канкурэнцыю робіце* [Мікіта].. Т, 24. [Мікіта]: *Чаму ж ты скрозь дна не правалілася, мая ты пажарная каманда? Аей! Аей!* Т, 33.

**АЖ**[1] (20) *часц. Узмацняльная. ..я* [С. Меч] *любаваўся-б гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што аж гараць на фоне сасновага бору..* ХБ, 29. *Паглядзеў я* [Купала], *і мяне аж у холад кінула.* Ан, 19. // Паркрэслівае крайнюю мяжу выяўленне якой-н. уласцівасці. [Янка]: *Аж у Вільню!* [Гарошка]: *А так, аж у Вільню, пане настаўнік.* Т, 30. // Ужываецца пры выказванні раптоўнасці, нечаканасці . *Так сабе груган з ваўком Гутарку разводзяць. Аж тут к ім саюзнік-госьць! ..* Пц. *Прыходжу. Азірнуўся. Аж мне і дрыжыкі пабеглі па скуры.* Ан, 19. Ан, 19; ВБ; Дз, 190; ЗК, 43; ЛР; Нз, 14; ПН, 47; См, 90; СК, 158; СТ; Т, 20, 54; УПУВ; Ч, 324.

**АЖ**[2] (3) *злучн.* **1.** *Супраціўны. Здавалася, ноч не пяройдзе, Іржа ня зрызе вечных путаў, – Аж блісnуў пажар на ўсходзе, І дрогнулі рабскія скруты.* Кр, 77. *Параўн.* ажно[2] *ў* 1 *знач.*

**2.** Выніковы. *Замерла песьня. Грозна рэхі, Пашлі па пушчах, па лясах, Аж сьціхлі птушыныя сьмехі, Аж вецер сьцішыцца ня мог.* УрП,49. *Параўн.* ажно[2] *ў* 2 *знач.*

**АЖНА** *гл.* **АЖНО.**

**АЖНО**[1] (2) *часц. Разм. Узмацняльная.* Падкрэслівае крайнюю мяжу чаго-н. *І рэха ляцела ляцела дарогаю слаўнай, Ажно з-пад Эльбруса і да Беларусі.* ПСС, 232. *..тысячы з медзі літых званоў* [сталі] *хвалу яму* [новаму богу] *разносіць, а так далёка, як зямля наша вяліка, і яшчэ далей, ажно на край свету.* Кз, 17.

**АЖНО**[2] (9) і **АЖНА** *злучн. Разм.* **1.** *Тое, што* аж[2] *у* 1 *знач. Доўга ці каротка Ваяваў наш Янка, Ажно ў вёску ён дарожкай Прэцца, як маланка.* ЕЯП.

**2.** *Тое, што* аж[2] *у* 2 *знач. І ў Галінкі – дзіцяняткі Ад такой гаворкі Ажно йскрацца вачаняткі, Нібы ў небе зоркі.* Вб, 237. *І ручыла, шанцавала Ў бітвах цяжкіх яму* [Данілу], *Ажна вораг напужаны Дзіваваўся таму.* ПСД. Б, 18; Дз, 189; СА, 182; Т, 35, 55, 57; Ш[2].

**[АЖЫВАЦЬ]** *незак.* Адраджацца. *Яны* [нацыяналісты], *як тые*

*груганы, прывыклі ўжо клеваць бытцым-то мёртвае цела нашага народу і, убачыўшы, што гэты народ ажывае, спудзіліся, што ім пажывы не хваце!* ВР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ажывае*: ВР.

**[АЖЫВІЦЬ]** *зак. да* ажыўляць у 2 *знач. перан.* Напоўніць жыццём. *.. выгляне добрае, прыветлівае сонцэ і ажывіць сваімі праменямі нашы загоны і сенажаці.* РКр.

Абв. буд. адз. 3 ас. *ажывіць:* РКр.

**[АЖЫЎЧЫ]** *прым. Польск. Тое, што* ажыўляючы. *Тае сьнег, таюць сковы зімы ледзяністые, Сонцэ з ласкай ажыўчай гуляе ў прывольлі..* ТС, 74.

Адз. ж. Т. *ажыўчай*: ТС, 74.

**[АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЕ]** (2) *н. Дзеянне па дзеяслову* ажыццяўляць. *Для ажыцьцяўленьня гэтае мэты група контррэзолюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентоў.. вяла шкодніцкую работу..* АЛ. *Я* [Купала] *..не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню социялізму.* АЛ.

Адз. Р. *ажыцьцяўленьня*: АЛ. Д. *ажыцьцяўленьню*: АЛ.

**[АЖЫЦЬЦЯЎЛЯЦЦА]** *незак.* Здзяйсняцца, рабіцца рэальнасцю. *Шкодніцтва, .. інтэрвенцыя, усё гэта пускаецца ў ход,.. абы толькі ўзарваць пяцігадовы план, які ажыцьцяўляецца нячуваным уздымам і захапленьнем рабочай клясы.* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ажыцьцяўляецца*: АЛ.

**[АЖЫЦЬЦЯЎЛЯЦЬ]** *незак.* Здзяйсняць. *У СССР .. рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства,.. рэальна ажыцьцяўляе заветныя ідэалы.. Маркса і Леніна, .. будуе социялістычнае грамадзтва.* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ажыцьцяўляе*: АЛ.

**[АЗВАЦЦА]** *зак. Разм.* Прагучаць, загучаць. *.. Жалейка азвецца з вясны пад бярозкай, – Ня ўцешыць яна бедака.* ЗК, 43.

Буд. адз. 3 ас. *азвецца*: ЗК, 43.

**[АЗВЯРЭЛЫ]** (3) і **[АЗЬВЯРЭЛЫ]** *прым.* Злы, шалёны, раз'юшаны. *Паўстаў народ, як і ў мінулых ён стагоддзях, За волю, за зямлю, супроць сатрапаў азвярэлых.* ПНд, 314. *Быў* [паніч], *як бацькі, азвярэлай скацінай, Катаваў, гвалціў дзяўчат парабчанскіх.* Мц, 74. // *перан.* Вельмі моцны, парывісты, халодны. *Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары Яўрэй апошні, й азьвярэлыя вятры Ад жудасьці, ад сораму і дыму яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну..* ВБЛ, 80.

Адз. ж. Т. *азвярэлай*: Мц, 74. Мн. Н. *азьвярэлыя*: ВБЛ, 80. Р. *азвярэлых* (2): НКУС; ПНл, 314.

**[АЗІРАЦЦА]** (2) *незак.* Аглядацца. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку,*

*Азіраўся назад, А Даніла ўсюды ўперад Выступаці быў рад.* ПСД. // Паглядаць вакол сябе. *Вучоныя канчаюць пісаць адначасова, бяруцца за падзорныя трубы, азіраюцца.* Т, 26.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *азіраюцца*: Т, 26. Пр. адз. м. *азіраўся*: ПСД.

**АЗІРАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* азірацца *ў* 1 *знач.* [Янка]: [*азіраючыся па пакоі да Ганулі*]: *Але ваша хата, цётачка, неяк змянілася.* Т, 44.

**АЗІРНУЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* азірнуцца *ў* 2 *знач. Азірнуўшыся ясным вокам і ўдумаўшыся шчырай думкай на пройдзеныя гэтыя 15 год, мы бачым.. што было сном, тое стала явай..* ШБСЯ.

**АЗІРНУЦЦА** (5) *зак.* **1.** *Зак. да* азірацца *ў* 1 *знач. Прыходжу. Азірнуўся. Аж мне і дрыжыкі пабеглі па скуры.* Ан, 19. *Так паехаў сын Даніла Сам сабой на вайну, Азірнуўся на хаціну Ды змахнуў слязіну.* ПСД. *Зірні-ж, азірніся, шчасьліў, нешчасьлівы І заўтра на поле да сох, як адзін!* В.

**2.** *перан.* Успомніць. *Паглядзіце, азірніцеся, таварышы, на нашу моладзь, на нашу слаўную Чырвоную армію, якая стаіць на стражы нашых граніц.* ДЖ.

Абв. пр. адз. м. *азірнуўся* (2): Ан, 19; ПСД. Буд. адз. 3 ас. *азірнецца*: ВБЛ, 80. Заг. адз. 2 ас. *азірніся*: В. Мн. 2 ас. *азірніцеся*: ДЖ.

**[АЗНАЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* азначыць. Акрэслены. [Янка]: *Яшчэ ясна азначанай мэты не можам сабе ўявіць.* Т, 35.

Адз. ж. Р. *азначанай*: Т, 35.

**[АЗНАЧАЦЬ]** *незак. перан.* Называцца. *Хор запеяў нейкую песню – якая азначала на афішах: "беларускі гымн".* СБНГ.

Абв. пр. адз. ж. *азначала*: СБНГ.

**АЗІЯТ** *м.* Карэнны жыхар Азіі. – *О, каб не ў краты толькі з крат!? Паклон аддаў вам* [бальшавікам] *азіят..* ПВ.

Адз. Н. *азіят*: ПВ.

**АЗЬВЯРЭЛЫ** *гл.* **АЗВЯРЭЛЫ**.

**[АЗЬВЯРЭНЬНЕ]** *н. Разм.* Азвярэласць. *Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай, азьвярэньнем і нянавісьцю сочыць за гэтай социялістычнай будоўляй..* АЛ.

Адз. Т. *азьвярэньнем*: АЛ.

**[АЗЭФЫ]** *толькі мн. Агульн. да* Азэф. [Янка]: *Для вашага* [Мікіты] *гонару падавай вам мацярынскі язык цароў, Мураўёвых-вешацеляў, Распуцінаў, Азэфаў і ўсея кампаніі падобных ім..* Т, 49.

Мн. Р. *Азэфаў*: Т, 49.

**АЙ** *выкл.* Выказвае здзіўленне, радасць. [Мікіта]: *Ай, госці ідуць! ..пабягу спаткаць.* Т, 24.

**[АЙЧЫЗНА]** *ж.*: Δ**Айчызна-маці:** *А трызну па айчызне-маці Ён* [народ] *справе ў гэты цяжкі год.* ГП, 8.

Адз. М. *айчызне*: ГП, 8.

**[АЙЦЕЦ]** *м. Польск.*: •**Айцец духоўны** – *тое, што* ацец духоўны. *Айцу духоўнаму маё сыноўняе упакарэнне!* Т, 37.

Адз. Д. *айцу*: Т, 37.

**[АЙЧЫНА]** (2) *ж. Тое, што* бацькаўшчына *ў* 1 *знач. Да хвалы шлях айчыне пакажы* [ваяк], *змяці з палёў яе чужых бадзяк, На стражы стань гранічнае мяжы...* Пт. *Гандляры айчынай Па чужым заказу... Вынішчыць дашчэнту гэтую заразу!* МПв, 218. *Параўн.* ойчызна, оцечэство.

Адз. Д. *айчыне*: Пт. Т. *айчынай*: Шв, 218.

**АКАДЭМІК** (2) *м.* Асоба з вышэйшым вучоным званнем. *З пашанай Акадэмік Беларускай і Украінскай Акадэміі Навук Я. Купала.* ШБСЯ. [Мікіта]: *..не забывайцеся, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча.* Т, 23.

Адз. Н. *акадэмік*: ШБСЯ. Мн. Р. *акадэмікаў*: Т, 38.

**[АКАДЭМІЯ]** *ж.* Вышэйшая дзяржауная навуковая ўстанова. *Гэта можа пацьвердзіць хоць-бы нацыянальна-культурная палітыка, якая праводзіцца недалёка ад нас – за пагранічнымі слупамі, дзе ня толькі не ствараюць акадэмій, а разбураюць нават беларускія школы..* ГНД.

Мн. Р. *акадэмій*: ГНД.

**[АКАЗАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* аказаць. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў.. само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е..* ДНСП. *.. скарыстаўшыся давер'ем, якое аказана было ім* [беларускім нацыянал дэмакратам] *з боку совецкай улады..,* [яны] *праводзілі свае шкодніцкія.. ідэі на культурным фронце.* АЛ.

Адз. м. Н. *аказанае*: ДНСП. Кар. адз. н. Н. *аказана*: АЛ.

**[АКАЗАЦЦА]** (2) *зак.* З'явіцца на справе, у сапраўднасці. *Як дамоў вярнўся меншы* [сын], *Сьвету як увідзеў, – Аказаўся дасьціпнейшы, Чым сярэдні, ў крыўдзе.* Дз, 190. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матэр'ялу й друкаваньні.. аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел.. і быўшае В-ва "Адраджэньне"...* ВСп, 90–91.

Абв. пр. адз. м. *аказаўся*: Дз, 190. Мн. *аказаліся*: ВСп, 91.

**АКАЗАЦЬ** (4) *зак.* Здзейсніць, праявіць. *На земства малая надзея – яно недаўна у нашым краю заведзена і дзеля таго не можэ яшчэ аказаць вялікай падмогі.* ВС. *У часе гэтай маей* [Купалы] *хваробы шмат асоб аказалі мне папраўдзе братнюю помач і апеку.* ЛР.

Інф. *аказаць* (2): ВС; ПЛП. Абв, пр. адз. м. *аказаў*: ЛР. Мн. *аказалі*: ЛР.

**[АКАЗЫВАЦЦА]** *незак. Разм. У знач. пабочн.* Як выяўляецца, высвятляецца. *Аказываецца мэтоды дзяржаўнай гаспадаркі польскіх эндэкаў мала чым розьняцца ад мэтодаў расійскіх бальшавікоў.* СНБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *аказываецца*: СНБ.

**АКАЛОДАЧНЫ** *прым.*: • **Акалодачны надзірацель** *гл.* надзірацель.

Адз. м. Н. *акалодачны*: Т, 61.

**[АКАНОМСКІ]** *прым. да* аканом. *Двор глядзіць на селяніна, як на "люд рускі", як на быдла, над каторьм можна толькі стаяць з бізуном аканомскім..* Нз, 14.

Адз. м. Т. *аканомскім*: Нз, 14.

**[АКВЕЧАНЫ]** *дзеепрым. Паэт.* Авеяны. *Пройдуць дні, годы. Аквечана хвала. Будзеш Суомі йсці яснай дарогай..* Ф.

Кар. адз. ж. Н. *аквечана*: Ф.

**АКІ** (2) *злучн. Руск., уст. Тое, што* як[2] *у* 1 *знач.* [Поп] [*ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой*]: *Акі птіцы небесныя, отлетающчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38. // Ужываецца ў значэнні "ў якасці каго-н.", "з'яўляючыся кім-н." [Поп]: *Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх..* Т, 38.

**АКІНУЦЬ** (3) *зак.*: Δ**Акінуць вокам –** аглядзець каго-н., што-н, глянуць на каго-, што-н. *Мы хочам толькі акінуць вокам нашае грамадзянска-палітычнае жыццё за мінуўшы год..* СНБ, 337. *Усіх званых зблізку і здалёк Саколім вокам князь акінуў.* Кп, 193. **Не акінуць вокам –** пра вялікую прастору. *Намі пройдзен вялікі і цяжкі шлях .. ад палыновых межаў вузкіх палосак да калгасных палёў, каторых не акінуць вокам..* ВГР.

Інф. *акінуць* (2): ВГР; СНБ. 337. Абв. пр. адз. м. *акінуў*: Кц, 193.

**[АКІЯН]** (3) *м.* Водная прастора паміж мацерыкамі. *З імем шчаслівым тваім* [Сталіна] *у Хасане Байцы самураяў тапілі, лёталі гордыя за акіяны Советаў арлінیя крыллі.* СС, 302. Δ**Мора – акіян** *гл.* мора.

Мн. Р. *акіянаў*: НК. В. *акіяны* (2): СА, 180; СС, 302.

**АКНО** *гл.* **ВАКНО**.

**АКОВЫ** (9) *толькі мн.* **1.** *Тое, што* кайданы *ў* 1 *знач. Апалі кароны, пасады, З нявольнікаў апалі аковы.* Кр, 77. *Быў жыць адзінока надзел бедакоў, Нішто іх с сабой не лучыла – Ні крыльлі свабоды, ні скруты акоў... Адна толькі матка-магіла.* ПН, 46.

**2.** *перан. Тое, што* скоўвае, абмяжоўвае што-н. *І ты, Масквы кароннай гразь, Парваных не скуеш акоў, З якой брахнёю не вылазь.* АПЖ.

**Акоў паломаных жандар.**

◊**Класці аковы** *гл.* класці.

Н. *аковы* (2): Кр, 77; ТП, 216. Р. *акоў* (4): АПЖ (3); ПН, 46; В. *аковы* (3): НГ, 8; РС, 39; ТП, 216.

**АКОЛІЦА** *ж.*: Δ**Аколіца-аселіца:** *Аколіца-аселіца Пад ногі сонцам сьцеліцца... Збудзіўся гаспадар!..* $Б_3$.

Адз. Н. *аколіца*: $Б_3$.

**[АКОНЦА]** (3) і *разм.* **[ВАКОНЦА]** *н. Памянш-ласк. да* акно. *Во, глядзі* [Галінка] *сама ў аконца, Гуляючы дома.* Вб, 236. *Негаданай доляй, воляй У яго* [народаў] *ваконца Глядзець будзе век-да-веку Сталінскае сонца.* ЗЯЗ, 90.

Адз. В. *аконца* (2): Вб, 236; ТП, 213; *ваконца*: ЗЯЗ, 90. Мн. В. *аконцы*: МПв, 220.

**[АКОП]** (4) *м.* Умацаванне ў выглядзе рова з насыпам. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў..* АБ, 16. [Наста]: *..немцы як прыходзяць, то першым чынам направа і калева хапаюць усіх на работы – капаць акопы..* Т, 24.

Δ**Акоп-магіла**: *..тыя, што нас* [беларусаў] *аграбілі,. што нашы загоны зрылі на акопы-магілы, не ідуць к нам з дапамогай..* АБ, 16.

Мн. Н. *акопы*: Т, 62. Р. *акопаў*: АБ, 16. В. *акопы* (2): АБ, 16; Т, 24.

**[АКОРД]** *м. перан.* Гул. *Праўда, да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты сум такі ціхі.., што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29.

Адз. Р. *акорду*: ХБ, 29.

**[АКОШКА]** *н. Руск., перан.* Праход. [Янка]: *Нам і без мора, пане вучоны, хапае дзе тапіцца, як павее пошасцяй праз усходнія ці заходнія "акошкі".* Т, 47.

Мн. В. *акошкі*: Т, 47.

**[АКРУГА]** *ж.* Адміністрацыйная дзяржаўная тэрыторыя. *..мы* [выбаршчыкі] *просім* [Ежова] *даць сваю згоду балатыравацца па Менскай выбарчай акрузе.* НКУС. *Параўн.* вокруг.

Адз. М. *акрузе*: НКУС.

**[АКРУЖАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп., да* акружаць. Акаляючы, навакольны. *Ніяк не мог я* [Купала] *пагадніць акружаючае рэальнае жыццё са светам думак, фантазій, якія пачэрпнуў з кніг.* А, 328.

Адз. н. В. *акружаючае*: А, 328.

**[АКРУЖНЫ]** *прым.* Які належыць акрузе. [Гануля]: *Я мыла людзям бялізну, а ён* [муж] *прыстроіўся ў акружным судзе ..* Т, 20.

Адз. м. М. *акружным*: Т, 20.

**АКРУЖЫЎШЫ** *дзеепрысл. да* акружыць. Абкружыўшы. *Дама, Поп, Спраўнік, Пан, Мікіта, акружыўшы Чырвонаармейца, выходзяць маршавым крокам.* Т, 53.

**АКРУЧВАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* акручвацца. *Разм.*

Пакручваючыся. *Мікіта ўваходзіць пераадзеты ў сваю чыноўніцкую форму з усімі адзнакамі, акручваючыся на пяце.* Т, 50.

**[АКРЫВАЎЛЕНЫ]** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* акрывавіць. Заліты крывёй. *І душыць гэты ўсясільны праступчы забабон беларускую акрываўленую зямлю.* З. *На беларускае йдзеш* [новы год] *поле, На акрываўленыя межы, Дзе закаванай дрэмле воля.* НГд, 8.

Адз. ж. В. *акрываўленую*: З. Мн. В. *акрываўленыя*: НГд, 8; *акрываўленые*: БСУ.

**[АКРЫЛІЦЬ]** *зак. да* акрыляць. *Пры песельным звоне народ акрылеў, Глядзеў, калыхаўся свабодай.* ПН, 47.

Абв. пр. адз. м. *акрылеў*: ПН, 47.

**[АКРЫЛІЦЦА]** *зак. Вобразн.* Ажывіцца; напоўніцца. *Шчасцем напоўняцца хатаў святліцы, Воляй акрыляцца горы, даліны.* Ф.

Абв. буд. мн. 3 ас. *акрыляцца*: Ф.

**[АКРЫЛЯЦЬ]** *незак. Вобразн.* Натхняць, падбадзёрваць. *Брат другі шоў на нетры сьляпыя аблавай, Воблік крадзены кідаў загубам, Акрыляў сам самога асілкавай славай ..* Ч, 324.

Абв. пр. адз. м. *акрыляў*: Ч, 324.

**[АКРЭПНУЦЬ]** *зак.* Стаць мацнейшым, здольным супрацьдзейнічаць. *Сьціхнуць віхры, заціхне пара непагодная, Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыцьцю..* Б, 18.

Абв. буд. мн. 3 ас. *акрэпнуць*: Б, 18.

**[АКТ]** (2) *м.* **1.** Учынак, падзея. *Рэформа правапіса, – што я* [Купала] *мушу з усёй цвердасцю падкрэсліць, – з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы..* ШБСЯ.

**2.** Закончаная частка спектакля. *Танцуюць тры пары ў тым самым парадку, што ў першым акце.* Т, 52.

Адз. Т. *актам*: ШБСЯ. М. *акце*: Т, 52.

**[АКУЛЯРЫ]** (2) *толькі мн.* Аптычная прылада. [Дама] [*углядаючыся пільна цераз акуляры з ручкай на Мікіту*]; *Што гэта ў вас, мусье, за такі арыгінальны ўбор?* Т, 24. *Падходзь жа, паночку: знімі акуляры – Лепш будзе агледзіць пакупку ..* Р.

Мн. В. *акуляры* (2): Т, 24; Р.

**[АКУПАВАЦЬ]** *зак. Разм.* Акупіраваць. [Мікіта]: *Радуйся вселенная! Абвяшчаю ўсім, усім, усім: немцы акупавалі, междзу протчым, Менск!..* Т, 31.

Абв. пр. мн. *акупавалі*: Т, 31.

**АКУПАНТ** (11) *м.* Захопнік. [Янка]: *Вяселле, цётачка, адлажылі пакуль што да таго часу, калі апошні акупант ад нас выйдзе, бо пры іх нявесела на вяселлі.* Т, 54. *Атрад выбіў нямецкіх акупантаў з вёскі.* Т. ПСп. *Параўн.* абскубанда.

Адз. Н. *акупант*: Т, 54. Мн. Н. *акупанты* (5): Т, 30, 37(2), 44, 47. Р. *акупантаў*: Т, 52. Д. *акупантам*: НК. В. *акупантаў* (3): ПСп; Т, 44, 54.

**[АКУПАЦЫЙНЫ]** (2) *прым*. Які ажыццяўляе рэжым акупацыі. [Спраўнік]: *Разам з новай акупацыйнай уладай прымашыравалі* [госці Мікіты] *ў Менск.* Т, 51. [Спраўнік]: *І вы* [Мікіта] *павінны зараз ісці са сваёй здабычай у штаб акупацыйных войск.* Там жа, 53.

Адз. ж. Т. *акупацыйнай*: Т, 51. Мн. Р. *акупацыйных*: Т, 53.

**АКУРАТ** *прысл*. Якраз. [Янка]: *Што ж, можа, гэта акурат падходзячая была б для вас* [Мікіты] *професія.* Т, 55.

**АКУРАТНА** *прысл*. Старанна.. *"Практычныя граматыкі" Я. Лесіка ўжо зрабіліся незамененымі падручнікамі для кожнага беларускага грамадзяніна, які захоча акуратна пазнаць і вывучыць сваю мову.* ВСп, 89.

**[АКУЦЬЦЁ]** *н., зб. Польск.* Аковы, кайданы. *А ўспомні – прыпомні шчасьліў, несчасьлівы, А тых, што ў світаньні на век адыйшлі, – Усе костачкі тые на гонях: папарных, – Жывых, што ў бязпуцьці акуцьцём зьвіняць...* В.

Адз. Т. *акуцьцем*: В.

**АКЦЫЗ** (3) *м. Польск.* Ускосны падатак на прадметы шырокага спажывання. *І вось мы бачым, што ужо на некаторые рэчы падвышэны у нас да канца вайны акцыз.* ВН. *Гэтак расейскі урад у сваім часе шмат зьбіраў* [каля тысячы мільёнаў рубл.] *налогаў з акцызу на гарэлку*. Там жа.

Адз. Н. *акцыз* (2): ВН (2), Р. *акцызу*: ВН.

**[АКЦЫЗНЫ]** *прым. Польск.* Які мае дачыненне да акцызу. *Цяперака .. урад павінен ня толькі дастаць грошы на гасударственые расходы, каб пакрыць гэту акцызную нядоімку, але ешчэ павінен дастаць іх і на ваенные расходы.* ВН.

Адз. ж. В. *акцызную*: ВН.

**[АКЦЫЯНЕРСТВА]** *н. Разм.* Сувязь; супрацоўніцтва з рабочымі, якія валодаюць акцыямі. *Гэтым Баця сцягвае патрэбныя яму абаротныя сродкі, гэта дае яму повад гаварыць пра ўдзел рабочых у прыбытках, пра сваё "акцыянерства" з рабочымі.* ПЧ.

Адз. В. *акцыянерства*: ПЧ.

**[АКЯНІЦЫ]** *толькі мн. Разм.* Аканіцы. *.. На акяніцах – шруб, а на дзьвярах - замок.* ВБЛ, 81.

М. *акяніцах*: ВБЛ, 81.

**АЛЕ[1]** (200) *злучн.* **I.** *супраціўны* (114) **1.** Злучае процілеглыя члены сказа і сказы. *А старыя багі? Яны прыціхлі, прытуліліся, але не памёрлі саўсім у душах свайго народу.* Кз, 17. [Мікіта]: *Прасіў я свайго профэсара Спічыні, але ён адказаўся*. Т, 56. // Злучае члены сказа і сказы з абмежавальным значэннем. *Адзін*

*толькі Беларускі Дзяржаўны Універсітэт.. выпусціў за мінулы год два ёмкія сшыткі сваіх. "Трудов", але пабеларуску ў іх ні слова.* ВСп, 90. [Янка]: *Усё было б добра, але бяда ў тым, што яны* [Гарошка і Аленка] *тут не маюць нікога знаёмага.* Т, 23. // Падкрэслівае проціпастаўленне галоўнага і даданага ўступальнага сказаў. *Хаця ў гэтай кніжцы і змешчаны тэрміны па элементарнай матэматыцы, але некаторыя з паміж іх дужа не элементарны..* ВСп, 89. [Мікіта]: *Хоць, можа, я гэтак рызыкую нават сваёй, меджду протчым, пэрсонай, але місію сваю мушу стойка выпаўняць.* Т, 38. // Са злучкікам "затое" ўжываецца пры замяшчальным проціпастаўленні. [Спічыні]: *Справы затрымалі. Але мы затое пазней пазаймаемся.* Т, 31. [Ганула]: *Ўсё роўна як той дзед з бабай.. Але затое татка твой* [Аленкі] *хоць свету пабачыць..* Там жа, 54. *Параўн.* ено; но.

**2.** Злучае члены сказа і сказы з узаемным выключэннем. [Ганула]: *Я так і падумала, але не сказала, бо пабаялася, што не патраплю вучоным па-вучонаму адказаць.* Т, 54. *Але ідэалы – адно, а практыка жыцьцёвая – другое.* СНБ.

**3.** Злучае сказы са значэннем неадпаведнасці. *Армія гэта складалася з беларусаў, але ваяваць ёй загадвалі не за Беларусь, а за Расію.* БВ, 16. *І хаця у аснове закону ляжыць справядлівы наказ, але ў жыцьці ён сілы ніякай ні мае ..* ВР.

**4.** У складзе спалучэння *не толькі .. але і.* Злучае аднародныя члены сказа. [Спраўнік]: *Мы ўжо паспелі не толькі закусіць, але й выпіць крыху.* Т, 51. *За яго* [Сталіна] *я* [Купала] *прагаласую не толькі выбарчым бюлетэнем, але і сваёй песняй.* ГВУ.

А, 328 (2); Ан, 18, 19; М (6); ВС; БСУ (3); ВБЛ, 80; ВМР (4); ВН; ВР; ВС; ВСп, 89, 90; ВЧ; ГВУ; ДНСП; ІН; З (4); МП (2); НГд, 8; ОШМ (2); ПВ; ПЛП (4); ПЧ (2); СБНГ (2); СНБ (3); СП; СТ; СЧ; Т, 19(2), 20, 23(2), 25, 27, 31, 35(2), 36, 37(2), 38, 40(2), 44(3), 45(5), 46, 47(2), 48, 49, 50(2), 53(2), 54, 55, 56(2), 57(3) 58, 59, 60; УрП, 51; УПУВ (2); ХБ, 29(2).

**II.** *далучальны.* (86). **1.** Далучае сказы з дадатковым паведамленнем, паясненнем. *Мы крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора.* Нз, 14. *Меншчына магла-б быць вельмі багатая і вельмі прыгожая. Але дзеля таго трэба, каб там жылі людзі з разьвітым розумам.* ХБ, 30.

**2.** Далучае члены сказы і сказы з часавай паслядоўнасцю. *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон".* Ан, 19. *Наскалькі ёй* [сацыяльнай рэвалюцыі] *гэта ўдаецца – пакажа будучына, але пакуль што ўсе дзяржавы .. ўсімі сіламі стараюцца адхрысьціцца ад гэтага раю.* СНБ.

**3.** Далучае самастойныя сказы з пераходам да новай думкі... [Янка]: *Эх, русацяп вы* [Мікіта], *русацяп! Але годзе аб гэтым!* Т, 49. *Ня шкода б было гэтых грошай, каб яны шлі на карысць чалавеку. "Але ў гарэлцы якая карысць?"* УП.

Ан, 19; АЛ (3); БрБ, 6; БВ, 16; ВС; ВБ, 236; ВБЛ, 80; ВГ; ВМР; ВН (4); ВНЗ, ВС; ДЦ; .ДЖ (2); ЖН (2); З; ЗС, 17, 18; МІ, 17(3); Нз, 14(3); НД; ПЛ; ПН, 47; ПС (2); СМ; СНБ, 338, 340; Т, 20(2), 23(2), 24(2), 25(2), 28, 29, 30(4), 32(2), 35, 36(2), 41(2), 42, 43, 44, 48, 49, 50, 51, 54(3), 55, 56, 57, 58, 60; Тж, 15; УрП, 52; УПУВ; ХБ, 29, 30.

**АЛЕ[2]** (9) *часц.* Выражае згоду ці сцвярджальны адказ. [Янка]: *Але, раскідаюць* [сходкі], *але! Толькі ж думак нашых і сам люцыпар не раскідае..* Т, 22. [Усходні вучоны]: *Так вы это і есць настояшчый белорус?* [Янка]: *Але, пане вучоны! Дый не адзін.* Там жа, 26. СНБ; Т, 22, 25, 29, 38, 43, 58.

**АМАЛЬ** (9) *прысл.* Ледзь не. *Мы жывем у такі час, калі амаль кожны дзень прыносіць. падзеі вялікай палітычнай важнасці.* МП. *.. я* [Купала] *прачытаў амаль усе этнаграфічныя беларускія зборнікі.* ПС. // У спалучэнні з часцшцай што. [Мікіта]: *Усё гэта тутэйшыя грата-пэрсоны, ..людзі аднолькавага са мной светапогляду і амаль што не аднолькавых рангаў..* Т, 22. АЛ; ЛР; Н; ПЧ; Т, 34, 45.

**АМБРОЗІЯ** (2) *ж. Грэч.* Нектар. [Дама]: *Алё напітак ваш, мусье Зносілов, цудоўны – нічым амброзія.* Т, 28. [Мікіта]: *..Так яно і ёсць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а ля самагонка.* Там жа.

Адз. Н. *амброзія* (2): Т, 28(2).

**АМЕРЫКАНСКІ** *гл.* **АМЭРЫКАНСКІ.**

**АМЭРЫКАНСКІ** (5) і **[АМЕРЫКАНСКІ]** (2) *прым.* Які мае адносіны да амерыканцаў. *Кінуты нядаўна амерыканскім прэзідэнтам лозунг – мір на аснове самаазначэння народаў – не быў выдуманы так сабе.* НДН, 18. [Поп]: *Трапеза была обільная, яства упітацельныя: амэрыканскае сала...* Т, 51.

Адз. м. Н. *амэрыканскі:* Т, 51. Р. *амерыканскага*: ПЧ. Т. *амерыканскім*: НДН, 18. ж. Н. *амэрыканская*: Т, 52. н. Н. *амэрыканскае* (2): Т, 51(2). Мн. Н. *амэрыканскія*: Т, 51.

**АМЭРЫКАНЦЫ** (2) *мн.* Жыхары Злучаных Штатаў Амерыкі. [Янка]: *.. калісь амэрыканцы, змагаючыся з Англіяй за сваю незалежнасць, напісалі на сваім сцягу несмяротныя словы: "Амэрыка для амэрыканцаў".*

Т, 35. Н. *амэрыканцы*: Т, 35. Р. *амэрыканцаў*: Т, 35.

**АНАРХІЯ** *ж.* Безуладдзе, беспарадак, хаос. *Вы* [гандляры культурай] *аплявалі людзей і народы і кінулі сваіх нядаўніх рабоў у анархію, каб далей у мутнай вадзе рыбу лавіць.* Тж, 16.

Адз. В. *анархію*: Тж, 16.

**АНГЕЛЬЦЫ** *мн. Разм.* Англічане.. [Мікіта]: *Мітынг, мусьё профэсар, .. гэта нешта такое, што выдумалі ангельцы для тых, якія нічога не хочуць рабіць, а толькі ходзяць і варон страляюць.* Т, 41.

Н. *ангельцы*: Т, 41.

**АНІ**[1] *прысл.* Нікольку, зусім. *У прадчуванні, але йшчэ ня верачы ані, Што гэта ўжо сапраўды эпілёг дасяг..* ВБЛ, 80.

**АНІ**[2] (2) *злучн. Разм. Тое, што* ні[2]. *І цяпер у гарадзкой бальніцы, Грудзі прабіты штыком – І яму* [сыну] *нічога ня сьніцца – Ані ты* [маці], *ні бацька, ні дом.* ВБЛ, 82. *Дзе хмары чэзлі, то зноў вісьмі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьля Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46.

**АНІ**[3] (7) *часц.* **1.** *адмоўная* (7). *Разм. Тое, што* не *ў* 1 *знач. Падыйдзі, дзяўчынка, – Ці-ж мяне* [Янку] *ня знаеш? Бачыш, еду я з пабеды, А ты ані дбаеш.* ЕЯП. [Янка]: *А так, пане рэгістратар, – у нашай граматыцы без націскаў ані з месца.* Т, 56. Пц; Р; СА, 180; Т, 60.

**2.** *узмацняльная. Тое, што* ні[1] *ў* 1 *знач. Нідзе ні ладу, ані праўды, Званы хаўтурныя зьвіняць... О, Божа! ты хоць заступіся й ня дай да рэшты нам сканаць!* ВС, 40.

◊**Ані знаку** *гл.* знак.

**АНІЯКІ** *гл.* **НІЯКІ**.

**[АНТАГОНІЗМ]** *м. Разм.* Антаганізм. *Лёзунгу аб'яднаньня рабочых і сялян- беднякоў і сераднякоў.. контр-рэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы супрацьставілі лёзунг.. нацыянальнага антагонізму..* АЛ.

Адз. Р. *антагонізму*: АЛ.

**АНТЫКРЫТЫКА** *ж.* Крытычныя звесткі на крытычны нарыс. *На гэты нарыс зьвярнулі ўвагу, нават, у Маскве, скуль была прыслана і надрукавана ў сваім часе .. антыкрытыка на гэты крытычны нарыс..* ВСп, 90.

Адз. Н. *антыкрытыка*: ВСп, 90.

**[АНТЫСОВЕЦКІ]** *прым. Разм.* Антысавецкі. *Гэта раз'юшаная антысовецкая брахня, падагрэтая злотымі і маркамі польска-нямецкай дыфензывы, разаб'ецца, .. аб магутнасць і з'яднанасць рабочых і калгаснікаў Совецкай Беларусі.* ШБСЯ.

Адз. ж. Н. *антысовецкая*: ШБСЯ.

**АНЦІХРЫСТ** *м. Разм.* Антыхрыст, д'ябал, чорт. [Поп]: *Развярзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцаць всё творімое ныне.* Т, 28.

Адз. Н. *анціхрыст*: Т, 28.

**[АНУЧА]** *ж.* Кавалак старой тканіны. *Стрэхи саламяные: мох на их парос, шчыты вецер пазрываў, вокны ў хатах лучынками*

*ды анучами пазалатываны..* ХЛБ.

Мн. Т. *анучами*: ХЛВ.

**АПАВЯДАЛЬНІК** *м.* Той, хто апавядае, расказвае што-н. *Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона, хаджу я* [Купала] *і слухаю. Другі такі апавядальнік быў ужо ў Селішчы.* ПС.

Адз. Н. *апавядальнік*: ПС.

**[АПАВЯДАННЕ]** *н.* Вусны расказ. *Мы* [дэлегаты] *з вялікай чуласцю выслухалі яе* [жанчыны] *апавяданне пра вялікую любоў яе сына да Леніна, да краіны Леніна.* ПЧ.

Адз. В. *апавяданне*: ПЧ.

**[АПАГАНЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* апаганіць. Абняслаўлены. *Простая нашых прадзедаў слава, Хоць апаганена мудрым чужынцам..* Пп, 5.

Кар. адз. ж. Н. *апаганена*: Пп, 5.

**[АПАГЕЙ]** *м.* Вышэйшы росквіт чаго-н. *Каханне хлапца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюцца набыць чаравікі бацяўскага вырабу...* ПЧ.

Адз. Р. *апагею*: ПЧ.

**[АПАДАТКАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ападаткаваць. *Наватв.* Абложаны падаткам. *Гэтым налогам будуць ападаткаваны толькі багацейшыя людзі.* ВН.

Кар. мн. Н. *ападаткаваны*: ВН.

**[АПАЛ]** (2) *м., зб.* Паліва. *..балоты, калі пакуль што не даюць карысьці, нікому не замінаюць, а з часам дадуць багацейшы запас тарповага апалу.* ХБ, 30. [Мікіта]: *У гэтым партфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні: на маю асобу, на маю кватэру, на ваду, на апал, на яду, на хадзьбу і гэтак далей..* Т, 46.

Адз. Р. *апалу*: ХБ, 30. В. *апал*: Т, 46.

**[АПАЛЫМВАЦЬ]** *незак. перан. Разм.* Палымнець. *Гэты шум, з пераборaў махрыстых вятроў, Апалымвае сонечна-сьветлую кроў.* АР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *апалымвае*: АР.

**АПАЛЯЧЫВАНЬНЕ** *н. Разм.* Паланізацыя. *А такім парадкам апалячываньне беларусаў страшэнне пашыраецца..* ВР.

Адз. Н. *апалячываньне*: ВР.

**[АПАНАВАЦЬ]** (2) *зак.* Ахапіць, авалодаць поўнасцю. *Так мая* [маці] *краса завяла. У маёй сялібы! Ліхата апанавала І канцы, і ськібы.* Дз, 191. *.. мы* [беларусы] *выйдзем у гэтым змаганьні пабеднікам, калі вольнага народнага духу не апануе цёмная сіла..* СНБ.

Абв. пр. адз. ж. *апанавала*: Дз, 191. Буд. адз. 3 ас. *апануе*: СНБ.

**[АПАРАЖНІЦЬ]** *зак.* Прывесці ў парадак, прыбраць. [Мікіта]: **[***да Ганулі***]**. *Меджду протчым, мамаша, апаражнеце стол,*

*бо нам* [Мікіту і Спічыні] *трэба хутчэй вучыцца "урокаў".* Т, 31.
Заг. мн. 2 ас. *апаражнеце*: Т, 31.

**[АПАСЦІ]** (2) *зак. перан.* Знікнуць, прапасці. *Ты, мудры, прышоў правадыр, – Апалі туманы, імгла..* ТП, 214. *І дрогнула Крыўды ўсяўлада, Разьлёгся скрозь кліч пяруновы; Апалі кароны, пасады, З нявольнікаў спалі аковы.* Кр, 77.
Абв. пр. мн. *апалі* (2): Кр, 77; ТП, 214.

**АПЕКА** (8) *н.* **1.** Нагляд, кантроль. *Пасля уніі з Польшчай прыйшла на Беларусь апека маскоўская.* Нз, 14. *І гінем* [беларусы] *марна пад чужой апекай, Адбіўшыся ад родных векаў, меж.* Бч, 9.

**2.** Права. *Што ж нажылі мы* [беларусы], *як глянуць наўкола, Што нам апека тут ваша дала?* Г, 16.

**3.** Клопат, дапамога. *У часе гэтай маёй* [Купалы] *хваробы шмат асоб аказалі папраўдзе братнюю помач і апеку.* ЛР. [Дама]: *А я маю ўсе даныя на дармовую соцыяльную апеку.* Т, 58. ◊**Воўчая апека** – нікому не патрэбнае, не карыснае заступніцтва, абарона. *Не пыталіся гэтыя ўсемагутныя дзяржавы, ці заваёваныя імі слабейшыя народы хочуць іх, сказаў бы, воўчай апекі, ці не.* НДН, 18.
Адз. Н. *апека* (2): Г, 16; Нз, 14. Р. *апекі*: НДН, 18. В. *апеку* (4): ЗК, 42; ЛР (2); Т, 58. Т. *апекай*: Бч, 9.

**[АПЕКАВАЦЦА]** *незак. Тое, што* апекацца, *Усе гэтые чыны намі "апекаваліся", а мы* [беларусы] *шчыра служылі ім, як нявольнікі ..* БС.
Абв. пр. мн. *апекаваліся*: БС.

**[АПЕКАЦЦА]** *незак.* Клапаціцца аб кім-н. *І праўда, вечна хто-нібудзь і як-нібудзь, а прыходзіў і намі* [беларусамі] *апекаўся, хоць нашага ліха і не забіраў.* БС. *Параўн.* апекавацца.
Абв. пр. адз. м. *апекаўся*: БС.

**АПЕРАЦЫЯ** *ж. Ваен.* Сукупнасць мэтавых баявых дзеянняў. *Бліскуча распрацаваная немцамі спаднічная аперацыя бліскуча правалілася.* ПСп.
Адз. Н. *аперацыя*: ПСп.

**[АПІРАЦЦА]** (2) *незак. перан.* **1.** Знаходзіць падтрымку, апору ў кім-н. *У гэтай контррэволюцыйнай рабоце беларускія нацыннал- дэмократы апіраліся .. на кулацтва ..* АЛ.

**2.** Асноўвацца, трымацца. [Спічыні]: *..найбліжэйшая політычная сытуацыя, пры якой першы раз прыдзецца выступаць вам* [Мікіту] *публічна, апіраецца на пэўных пляцформах.* Т, 41.
Абв. цяп. адз. 3 ас. *апіраецца*: Т, 41. Пр. мн. *апіраліся*:АЛ.

**[АПІСАНЬНЕ]** (2) *н.* Вусная або пісьмовая абмалёўка чаго-н. *Хто, прыкладам ня ведае клясычнага апісаньня хараства нашага краю А.Міцквіча ў яго несьмяротнай паэме "Пан Тадэуш"?*

ХБ, 27. *Гэтак канчае апісаньне Меншчыны расейскі географ, С. Меч.* Там жа, 30.

Адз. Р. *апісаньня*: ХБ, 27. В. *апісаньне*: ХБ, 30.

**[АПІСАЦЬ]** *зак. да* апісываць. *Цяпер то, як ты* [родная зямелька] *красна, я чую, я бачу, І апішу, бо ўсьпяж па табе плачу.* ХБ, 28.

Абв. буд. адз. 1 ас. *апішу*: ХБ, 28.

**[АПІСЫВАЦЬ]** *незак.* Абмалёўваць што-н. у пісьмовай форме. *Хараства роднага краю яны* [маладыя паэты] *ня бачаць і не апісуюць.* ХБ, 27.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *апісуюць*: ХБ, 27.

**АПЛАТА** (2) *ж.* Грошы для выплачвання чаго-н. *Заработак падлетка амаль не ўвесь ідзе на аплату яго ўтрымання "клапатлівым" Бацем.* ПЧ. .. *ужо на некаторые рэчы падвышэны у нас да канцы вайны акцыз як напр. на табаку, падвышана пачтовая аплата і інш.* ВН.

Адз. Н. *аплата*: ВН. В. *аплату*: ПЧ.

**[АПЛОТ]** (2) *м.* Надзейная абарона, апора. *У самую гушчу Чэхаславацкага народу пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Совецкі Саюз як на адзіны аплот міру.* ПЧ. *Табе такой* [Русі] *служыць па гроб Не кіну я, і расцярзаць Не дам дзяржаўнасці "аплот"..* АПЖ.

Адз. В. *аплот* (2): АПЖ; ПЧ.

**[АПЛУЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* аплуціць. *Наватв.* Закабалены, адурманены. *На зьдзек прадажныя прарокі І на гніцьцё ў царстве цьмы Вядуць аплучаныя тоўпы Пад стогны вечныя турмы.* НЗ, 40.

Мн. В. *аплучаныя*: РС, 40.

**[АПЛЮНУЦЬ]** *зак. перан. Разм. Тое, што* апляваць. *Масква й Варшава аплюлі вам* [жыдам] *імя і ў дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам..* Ж.

Абв. пр. мн. *аплюлі*: Ж.

**[АПЛЯВАЦЬ] (2)** *зак. перан.* Зняважаць, зганьбіць. *Вы* [паны гандляры] *аплявалі людзей і народы і кінулі сваіх нядаўніх рабоў у анархію..* Тж, 16. *Параўн.* аплюнуць.

◊**Апляваць паскуднай сьлінай –** зняважыць, зганьбіць, абняславіць каго-н. *Урэшце, забабон у наш XX-ты век апляваў паскуднай сьлінай увесь культурны сьвет, кінуўшы яму ў вочы працэс Бэйліса.* З.

Абв. пр. адз. м. *апляваў*: З. Мн. *аплявалі*: Тж, 16.

**[АПЛЯТАЦЬ]** (2) *незак.* Абвіваць. *А сваяк і чужак строіць петлі і сеці, Аплятае ўсё віднае ночай..* Ч, 321. *Аплятае* [забабон] *зьмяіным ланцугом і душы і сэрцы людзкіе.* З.

Абв. цяп. адз. 3 аз. *аплятае* (2); 3; Ч, 321.

**[АПОВЕСЦЬ]** *ж.* Расказ, апавяданне пра што-н. *Пачуеш* [беларус] *дзіўную аповесць Мінуўшай славы і жыцця.* БрБ, 6.

Адз. В. *аповесць*: БрБ, 6.

**[АПОМНІЦЦА]** (2) *зак.* Адумацца, перадумаць. [Янка]: *Але годзе аб гэтым! Калісь вы, пане рэгістратар, апомніцеся, але каб не было запозна.* Т, 49. *Ці апомняцца сыночкі У сваёй правіне.* Дз, 191.

Абв. буд. мн. 2 ас. *апомніцеся*: Т, 49. 3 ас. *апомняца*: Дз,191.

**[АПОРА]** (2) *ж.* Падтрымка, дапамога. *І...буржуазія.. напружвае ўсе свае сілы для таго, каб зьнішчыць соцыялістычную дзяржаву, апору сусьветнага рэволюцыйнага пролетарыяту..* АЛ. *І рухнуць апоры Фашысцкіх цямніц, Нявольнікі выйдуць Да ясных зарніц.* СС, 301.

Адз. В. *апору*: АЛ. Мн. Н. *апоры*: СС, 301.

**АПОШНІ** (38) і *разм.* **[ВАПОШНІ]** *прым.* **1.** Астатні. *За тое ён* [мужык] *знае смак у гарэлцы и на гарэлку гатоў аддаць апошни грош, зароблены крывавай працай.* УП. [Мікіта]: *А ў гэтым карапузіку важнейшыя дакументы..* [*Дастаючы чацвёрты апошні партфель*]. Т, 46.

**2.** Заключны, канчатковы. *Яны* [бежанцы] *з абозам на усход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях..* ВБЛ, 80. *Яны* [інтэрнацыяналісты і нацыяналісты] *яе* [Беларусь] *дзялілі і будуць дзяліць паміж сабой пакуль сам беларускі народ ня скажа свайго апошняга слова.* СНБ.

**3.** Адзіны. [Мікіта]: .. *Меджду протчым, павінен вам* [Янку] *сказаць, што яна* [Наста] *першая ды, мабыць, апошняя слабасць майго сэрца.* Т, 23.

◊**Адысці на другі план, на апошні закутак** *гл.* адысці. **Апошні з роду Магіканаў –** апошні прадстаўнік чаго-н. [Наста]: *А немец? Як мне напэўна вядома з пэўных крыніц, то гэта апошні з роду Магіканаў, які .. пакідае сягоння нашы Менскія палестыны..* Т, 41. **Апошнім часам** *гл.* час. **Вапошні час** *гл.* час. **Да апошніх скону хвілін** *гл.* скон.

Адз. м. Н. *апошні* (3): ВБЛ, 80; Т, 41, 53, Р. *апошняга* (6): БСУ; СНБ; Т, 32, 36, 48, 55. В. *апошні* (5): ВБЛ, 80; ЗС, 17; Т, 43, 46; УП; *вапошні*: $Ш_4$. Т. *апошнім* (2): Т, 45, 48. ж. Н. *апошняя* (2); СНБ, 337; Т, 23. Р. *апошняй* (3): ОШМ; СНБ, 335; Т, 48. Мн. Н, *апошнія* (3): АЛ; Т, 49, 58. Р. *апошніх*: МІ, 17. В. *апошнія* (9): АЛ; ВН; ГНД; ДЖ; ЖН; СНБ; Т, 40, 43, 55. М. *апошніх*: (4): ПЛП; Т, 22, 35, 62.

**[АПРАВА]** *ж. перан.* Форма. *Плугі – у драўлянай аправе. Але абрабляюць глебу сяляне старанна..* ПЧ.

Адз. М. *аправе*: ПЧ.

**[АПРАМЕТНЫ]** *прым. Уст. У знач. наз.* Пекла, падземнае царства. *Так магучы, яснасьветны. На пагляд былі ўсе* [сыны], *Хоць да бою з апраметнай... Ажно сьвет дзівіўся!* Дз, 189.

Адз. ж. Т. *апраметнай*: Дз, 189.

**[АПРАНАЦЦА]** *незак.* Адзяваць вопратку. *Госці падымаюцца, адвітваюцца і апранаюцца ў прынесеныя Мікітам вопраткі.* Т, 29. *Параўн.* адзявацца.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *апранаюцца*: Т, 29.

**[АПРАНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* апрануць. *перан.* Замаскіраваны. *..ні пальонізацыя, ні русыфікацыя не павінны мець мейсца на Беларусі, хоць-бы навет апранутые у дэмакратычна-камэдыйные шаты.* ДК.

Мн. Н. *апранутые*: ДК.

**[АПРАНУЦЦА]** (2) *зак. Вобразн.* **1.** Асвяціцца, азарыцца. *Ворагаў зніштожыш* [родная зямелька], *Хатніх і замежных, Сонцам апранешся, Як табе належна.* МПв, 220.

**2.** Пакрыцца, зазелянецца. *Вы ўскрысьнеце, Жыды усьлед за Беларусяй, Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць, Хоць наш магільнік кветкай апрануўся..* Ж.

Абв. пр. адз. м. *апрануўся*: Ж. Буд. адз. 2 ас. *апранешся*: МПв, 220.

**[АПРАНУЦЬ]** *зак.*: ◊**Апрануць торбу –** стаць жабраком. *Аграбленыя з гонару й кашулі, З свайго прыпынку выгнаныя вон, Мы* [беларусы] *дзякуем, што торбы апранулі На нас ды з нашых нітак – валакон.* Бц, 9.

Абв. пр. мн. *апранулі*: Бч, 9.

**[АПРАЎДАНЬНЕ]** *н.* Довады для апраўдання каго-н. *Але на гэты раз нас цікавяць ня так самыя выпадкі нарушэньня дробнымі ўраднікамі распараджэньняў свайго вышэйшага начальства, як гэтых выпадкаў.. апраўданьні.* ОШМ.

Мн. В. *апраўданьні*: ОШМ.

**АПРАЎДАЦЬ** (2) *зак.* Праявіць сябе вартым чаго-н. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, .. само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі.* ДНСП.. *Ці апраўдала гэта адозва затоеные думкі і надзеі беларускага грамадзянства..* СНБ, 340.

Інф. *апраўдаць*: ДНСП. Абв. пр. адз. ж. *апраўрдала*: СНБ, 340.

**АПРАЧА** (19) *прыназ. з Р.* **1.** За выключэннем ... *пакуль што ўсе дзяржавы, апрача, разумеецца, Вялікарусі, усімі сіламі стараюцца адхрысьціцца ад гэтага раю.* СНБ. *Усе, апрача яе* [Ганулі], *выходзяць.* Т, 62. ДК; СНБ, 338; Т, 50.

**2.** Звыш таго, у дадатак. *Апрача падвышэньня некаторых пабочных налогаў, урад маніцца ешчэ у скорым часе завесьці*

*падаходны і асабісты ваенны налог.* ВН. [Гарошка]: *Я табе йшчэ не казаў, мая свацейка, што ў мяне апрача Аленкі быў і сын – Юрка.* Т, 44. ВС; Т, 56.

◊**Апрача гэтага** (*у знач. пабочн.*) – акрамя таго. [Янка]: *Апрача гэтага пазвольце, пане рэгістратар, павіншаваць вас з імянінамі.* Т, 21. **Апрача таго** (*у знач. пабочн.*) (7) – да таго ж. *Апрача таго, супрацоўнікамі в-ва зьявіліся тыя людзі, якія .. працавалі не за страх, а за совесьць.* ВСп, 91. *Апрача таго, я* [Купала] *прачытаў амаль усе этнаграфічныя беларускія зборнікі.* ПС. ВСп, 89(2); Т, 22, 38, 58. **Апрача ўсяго іншага** (2) – тое, што *апрача гэтага.* [Ануля]: *А сёлета, апрача ўсяго іншага, дык яшчэ і дровы з Ваньковічава лесу і коцяць і коцяць* [менчукі] *на вяроўках.* Т, 55. [Мікіта]: *.. я уважаю, што, апрача ўсяго іншага, сягоння ў дабавак нейкі выключны дзень, і вам* [Ганулі] *ніякай гандлёвай "здзелкі" .. не ўдасца ўжо правесці.* Т, 34.

**[АПРЫКРАЦЬ]** *зак.* Надакучыць. *Гаспадарка на чужой зямлі апрыкрала.* А, 328.

Абв. пр. адз. ж. *апрыкрала*: А, 328.

**[АПУСКАЦЦА]** (3) *незак.* **1.** Садзіцца на што-н. *Апускаецца* [Мікіта] *з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, звешвае на іх галаву..* Т, 43. *Гануля апускаецца з ціхім плачам на спакаваныя манаткі.* Там жа, 62.

**2.** Спускацца, перагарадзіўшы доступ куды-н. *Пасля паўмінутнай паўзы, пад сціхаючыя гукі песні, паволі апускаецца заслона.* Т, 62.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *апускаецца* (3): Т, 43, 62(2).

**[АПУСКАЦЬ]** (2) і *разм.* **АПУШЧАЦЬ** *незак.* Спускаць што-н. *Поп апускае падаткнутыя полы сутаны.* Т, 24.

◊**Апускаць (апушчаць) рукі** – траціць жаданне рабіць што-н. *Слабые душою і целам ацускаюць рукі, і, як вол доўбні чэкаюць нечаго негаданаго..* РКр. *Дык ня трэба апушчаць рук і глядзець зусім безнадзейна на сваю і сваёй бацькаўшчыны будучыню.* ВС.

Інф. *апушчаць*: ВС. Абв. цяп. адз. 3 ас. *апускае*: Т, 24. Мн. 3 ас. *апускаюць*: РКр.

**АПУСКАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* апускаць. Перамяшчаючы ў больш нізкае [звычайнае] становішча. *Мікіта то апускаючы, то падымаючы па чарзе рукі і згодна з гэтым паварачваючы то ўправа, то ўлева галавой.* Т, 60.

**[АПУТАЦЬ]** *зак. перан.* Пазбавіць каго-н, свабоды дзеянняў, падпарадкаваць сабе. *Той шлях трэці і трэцяя рэчка сьляпою Ласкай – крыудай апутаюць грудзі.* Ч, 320.

Абв. буд. мн. 3 ас. *апутаюць*: Ч, 320.

**АПУШЧАЦЬ** *гл.* **АПУСКАЦЬ**.

**[АПЫНУЦЦА]** (3) і *разм.* **[АПЫНІЦЦА]** *зак.* Трапіць куды-н., аказацца дзе-н. *У Вільні працаваў* [Купала] *у бібліятэцы і "Нашай ніве", пасля чаго апынуўся ў Петраградзе на агульнаадукацыйных курсах Чарняева..* А, 328. *Яна* [пані] *ўдруг страшна закрычала і кінулася да дзяўчынки, каторая зарас жа апынулася на руках пани и офицэра.* ПДз.

Абв. пр. адз. м. *апыуўся*: А, 328. ж. *апынулася* (2): ПЧ; СНБ; *апынилася*: ПДз.

**[АПЬЯНЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* апьяніць. *перан.* Узбуджаны, узрушаны чым-н. *Мінулы год паказаў нам, што інтэрнацыяналісты і апьяненые пабедамі нацыяналісты не дадуць Беларусі міру і незалежнасці.* СНБ.

Мн. Н. *апьяненые*: СНБ.

**[АПЭРАЦЫЯ]** *ж.* Хірургічны спосаб лячэння. *Першым чынам нізкі паклон і дзякуй ад сэрца д-ру Казубоўскаму і д-ру Маліноўскаму: першаму – за апэрацыю, дзякуючы якой я* [Купала] *амаль не з таго сьвету ўскрос..* ЛР.

Адз. В. *апэрацыю*: ЛР.

**АПЯВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* апяваць *перан.* Адлюстроўваючы ў песнях, вершах. *Панясуцца, як звон, песні вольныя, родныя Апяваючы долю, нядолю народа ..* Б, 18. *.. захапіўся* [Купала] *гэтымі адраджэнцкімі ідэямі.. і пачаў іх адбіваць у сваёй далейшай творчасьці апяваючы, як нешта цэлае пазаклясавае беларускі "народ"..* АЛ.

**[АПЯКУН]** (2). *м. перан. Іран.* Абаронца, заступнік. *І ніхто з гэтых апекуноў нават і пальцам не кіўнуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса..* Нз, 15. *А самі-ж мы* [беларусы] *і пальцам ня кіўнулі, каб гэтым сваім апякунам паказаць належнае мейцо.* БС.

Мн. Р. *апекуноў*: Нз , 15. Д. *апякунам*: ВС.

**АРАВА** *ж., зб. Разм.* Зборышча, натоўп. *Пятакоў і Радэк, Троцкі – ўся арава – Хлёбалі, зладзюгі, З адной міскі страву.* МПв, 218.

Адз. Н. *арава*: МПв, 218.

**[АРАНДАВАНЫ]** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* арандаваць. Узяты ў арэнду. *Маці з дзецьмі пасля смерці бацькі пераязджае на арандаваную зямлю памешчыцы Стржалковай.* А, 328. *З малых год ён* [бацька] *працаваў на арандаванай зямлі* [*на запашках*]. Там жа, 327.

Адз. ж. В. *арандаваную* (2): А, 328 (2). М. *арандаванай*: А, 327.

**[АРАНДАТАР]** (2) *м.* Той, хто арандуе нерухомую [маёмасць]. *купляюць "цёплые мужычкі" – багатыры. .. буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэвалюцыю на гарадскім*

*галадаючым насяленні.* ЗС, 18. *Бацька мой* [Купалы] *родам з Чэрвеньшчыны, паходзіць з дробных засцянковых арандатараў* .. А, 327.

Мн. Н. *арандатары*: ЗС, 18. Р. *арандатараў*: А, 327.

**АРАТАР** (7) *м.* Прамоўца. [Мікіта]: *Не сягоння – заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры якой здольны аратар будзе магчы купацца; як сыр у масле.* Т, 36. [Янка]: *Лепей быць добрым пастухом, чымся недапечаным рэгістратарам ці аратарам.* Там жа.

Адз. Н. *аратар* (2): Т, 36(2). Р. *аратара* (2): Т, 42, 46. Т. *аратарам* (3): Т, 36(3).

[**АРАТАРСКІ**] (6) *прым.* Які мае дачыненне да аратара. [Мікіта]: *І я паставіў у сваей аратарскай профэсіі моцна прытрымлівацца гэтай мудрасці.* Т, 36. [Мікіта]: *Калі спаткаеце* [Гануля] *профэсара гэр Спічыні, то напомніце яму, што я ўжо яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва ..* Там жа, 34.

Адз. ж. В. *аратарскую*: Т, 40. М. *аратарскай* (3): Т, 36, 39, 40. н. Р. *аратарскага* (2): Т, 34, 40

**[АРАТАРСТВА]** (3) *н.* Красамоўства. [Спічыні]: *Але апошнія дні так многа маю лекцыяў па аратарству, што папасці ўсюды ў свой час няма аніякай змогі.* Т, 40. [Янка]: *Баюся я толькі, каб вы* [Мікіта] *не вышлі на ёй* [новай кар'еры], *як залетась на аратарстве..* Там жа, 56.

Адз. Т. *аратарствам*: Т, 41. М. *аратарстве*: Т, 56; *аратарству*: Т, 40

**АРАТОРЫЦЬ** (3) *незак. Разм.* Аратарстваваць. [Мікіта]: *Мітынг – гэта тое з вушамі таварыства, дзе араторыць буду я, а слухаць будуць яны* [людзі].. Т, 41. [Янка]: *Гэта ж як узлезеце на вышкі араторыць, то вам* [Мікіце] *гэта новая сытуацыя такога пытлю задасць, што і сваіх не пазнаеце.* Там жа, 35.

Інф. *араторыць* (3): Т, 36, 41(2).

**[АРАТОРЫЯ]** (5) *ж. перан.* Прамова. [Спічыні]: *Правая рука застаецца свабоднай – гэта, каб у патрэбных момантах вашай араторыі можна было.. патрасаць ёю над аўдыторыяй.* Т, 40. [Спічыні]: *Цяпер папробуйце сказаць араторыю на тэму: "Рэволюцыйная маса – дысцыпліна".* Там жа, 40.

Адз. Р. *араторыі*: Т, 40. В. *араторыю* (2): Т, 40(2). Т. *араторыяй*: Т, 40. М. *араторыі*: Т, 40.

**[АРАТЫ]** *м.* Земляроб; той, хто арэ зямлю. *Хутка жаўранак песняй сваёй галасістаю Прывітае аратых на полі.* ТС, 74.

Мн. В. *аратых*: ТС, 74.

**АРАЦЬ** (7) *незак.* Апрацоўваць зямлю плугам. *Пойдзе ён*

[Пасляк] *у поле араць, або паедзе на начлег, я* [Купала] *заўсёды з ім і заўсёды выпрошваю ў яго казкі.* ПС. *Яны* [паны-абшарнікі] *чуюць сваім абшарніцкім пачуццём, што раней ці пазней.., але ўся зямля пяройдзе да тых, хто яе сваімі рукамі арэ і засявае.* ЗС, 17.

Інф. *араць* (2) ПС; ТЗУ. Абв, цяп. адз. 3 ас. *арэ*: ЗС, 17. Мн. 3 ас, *аруць*: ПЧ. Пр. адз. м. *араў* (3): А, 328; Дз, 189; ССА, 294.

**АРГАНІЗАВАЎШЫ** *дзеепрысл. да* арганізаваць *у* 2 *знач. Баця рыхтуе для сябе "кадры" рабочых, арганізаваўшы для падлеткаў заводскія школы.* ПЧ.

**[АРГАНІЗАВАЦЦА]** *зак.* Заснавацца. *У Менску тады закіпела праца. Арганізаваўся Беларускі нацыянальны камітэт..* СНБ.

Абв. пр. адз. м. *арганізаваўся*: СНБ.

**АРГАНІЗАВАЦЬ** (2) *зак.* **1.** Заснаваць, адкрыць што-н. *..з Масквы прыслалі чалавека* [бальшавіка] *арганізаваць таксама і беларускі аддзел пры камісарыяце..* СНБ, 338.

**2.** Утварыць. ..[бальшавікі] *арганізавалі так званую Западную вобласць..* Там жа, 337.

Інф. *арганізаваць*: СНБ, 338. Абв. пр. мн. *арганізавалі*: СНБ, 337.

**[АРГАНІЗАТАР]** і **[ОРГАНІЗАТАР]** *м.* Той, хто арганізуе што-н., з'яўляецца ініцыятарам чаго-н. *Мы прайшлі гэты шлях пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі большэвікоў Беларусі, – адзінага кіраўніка, адзінага арганізатара нашых перамог.* ВГР. *Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і організатара контр-рэволюцыйных сіл .. узяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм ..* АЛ.

Адз. Р. *арганізатара*: ВГР; *організатара*: АЛ.

**[АРГАНІЗАЦЫЯ]** (3) і **[ОРГАНІЗАЦЫЯ]** *ж.* Аб'яднанне, саюз. *У Празе мы* [дэлегаты] *наведалі "дабрачынны камбінат" імя Масарыка, дом спартыўнай чэшскай арганізацыі "Сокал".* ПЧ. *Гістарычная пастанова ЦК Усе КП(б) аб рэорганізацыі літаратурна-мастацкіх організацый мае нятолькі ўсесаюзнае, але і сусьветнае значэнне.* ДНСП.

Адз. Р. *арганізацыі*: ПЧ. М. *арганізацыі*: СЧ. Мн. Р. *арганізацый*: ДНСП. Т, *організацыямі*: АЛ.

**АРГАНІСТАВЫ** *прым. Наватв.* Які мае адносіны да арганіста. [Мікіта]: *Усё гэта, меджду протчым, тутэйшыя людзі: адзін дзякавы сын, а другі – арганіставы.* Т, 43.

Адз. м. Н. *арганіставы*: Т, 48.

**АРКЕСТРА** *ж. Разм.* Аркестр. *Адны кажуць, што гэта* [Антанта] *наравісты конь, .. трэція – што гэта такая аркестра, у якой кожны музыка на свой лад заводзе.* Ан, 18.

Адз. Н. *аркестра*: Ан, 18.

**АРКУШ** (4) *м.* •**Друкарскі аркуш –** шаснаццаць старонак

друкаванага тэксту. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С. Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў..* ВСп, 91. *Пасыпаліся з друку адна за аднэй кнігі і ў працягу некалькіх месяцаў вышла ў сьвет 15 кніг, лікам страніц 1950 / 121 друк. арк. <ушаў>.* Там жа.

Адз. Н. *арк. <уш>:* ВСп, 91. Мн. Р. *аркушаў*: ВСп, 91 (2); *арк. <ушаў>:* ВСп, 91.

**АРЛІНА** *прысл. Наватв., вобразн.* Па-арлінаму, горда, смела. *Дыхцуць свабоднымі грудзямі Й зірнуць арліна не дадуць, – На ўзьлёты дум кладуць аковы, Як на рабоў сьляпых кладуць.* РС, 39.

**[АРЛІНЫ]** (7) *прым. перан.* **1.** Вольны, горды, смелы. *Будзеш жыць ты* [Сумейман Стальскі] *ў сэрцах Думкаю арлінай, На красу і славу Роднае краіны.* ПСС, 232. *.. чалавек.. падначальвае сабе прыроду, але той чалавек, які.. разгарнуў арлінія крыллі вызваленчай працы.* СТ.

**2.** Зоркі, пільны. *Як дні, так і ночы наш слаўны дазор Не зводзіць з граніцы арлінага вока..* ПБН.

**3.** Магутны. *Арліным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы* [беларусы] *скінулі і патапталі даўгавечную брахню,.. што Беларусі не было і няма.* ПЛП.

**Арлінія крыллі** *гл.* крыло.

Адз. м. Т. *арліным*: ПЛП. ж. Т. *арлінай*: ПСС. н. Р. *арлінага*: ПБН. Мн. Н. *арлінія* (3): АК (2); СС, 302. В. *арлінія*: СТ.

**[АРЛІЦА]** *ж.*: ◊**Лунаць арліцаю** *гл.* лунаць.

Адз. Т. *арліцаю*: ДПЛС.

**[АРЛЯНЯ]** (9) *н.* Птушаня арла. *Вецер свабодны гуляе па скалах, Скалы абнялі арлы, арляняты.* СД.

**Сталінскія арляняты.**

•**Сталінскія арляняты –** камсамольцы. *Далей, вышай у прасторы. Па ураджай з сяўбы багаты Камсамольцы – вярнігоры, Сталінскія арляняты!* СА, 179.

Мн. Н. *арляняты* (9): СА, 178, 179(3), 180(2), 181(2); СД.

**АРМІЯ** (19) *ж. Ваен.* Узброеныя сілы. *Сягодня ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі...* МІ, 17. *Былі спробы тады стварыць і беларускую армію.* БВ, 16.

•**Зялёная армія –** Чырвоная армія. *У адказ на гэта беларуская моладзь пайшла ў "зялёную армію".* БВ, 16.

Адз. Н. *армія* (10): БВ, 16(3); БСУ (4); ЗЯЗ, 90; МІ, 17; Ф. Р. *арміі* (2): БВ, 16; ЖН. В. *армію* (4): БВ, 16(3); БСУ. Мн. Н. *арміі* (2): БВ, 16; БСУ. Т. *арміямі*: БВ, 16.

**АРОЛ** (9) *м.* **1.** Драпежная птушка. *.. на скалах вольнага Каўказа Днююць і начуюць арлы на свабодзе..* ПСС, 231. *Вецер свабодны гуляе па скалах, Скалы абнялі арлы, арляняты.* СД.

**2.** *перан.* Сімвал герба Польшчы. *А там, за Сулою, па той бок граніцы, Дзе звесілі дзюбы панура арлы, Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы.* ПБН.

Δ**Арол-самалёт:** *Арлы-самалёты ўсё неба ўзнялі, І волю зрабылі Сабе кавалі.* СС, 300.

• **Белы арол** (3) – малюнак (фігура) арла на дзяржаўным гербе Польшчы. *Уваходзіць Мікіта. На шапцы ў яго вялікі значок з белым арлом – брыль абабіты бляхай..* Т, 54. *Не бачыць* [заводаў] *толькі і не чуе* [песень] *толькі той, хто вораг нашага новага шчаслівага жыцця, хто за слупамі з белымі арламі куе нам здраду, куе няволю.* ДЖ. **Двуглавы арол –** малюнак (фігура) арла з дзвюма галовамі на дзяржаўным гербе царскай Расіі. *Здарма ж двуглавы твой* [Русі] *арол Праз векі ў кіпцюрах трымаў Мільёны ўбогіх хат, сёл, Рабоў мільёны?* АПЖ.

Адз. Н. *арол*: АПЖ. Р. *арла*: ЖН. Т. *арлом*: Т, 54. Мн. Н. *арлы* (4): ПБН; ПСС, 231; СД; СС, 300. Р. *арлоў*: СС, 300. Т. *арламі*: ДЖ.

**[АРТЫКУЛ]** (2) *м.* Навуковы, публіцыстычны твор невялікага памеру. *Верш мой справакавалі:.. Лёсік, надрукаваўшы яго (верш) побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму, аб чым я* [Купала] *не ведаў, бо быў у вёсцы.* СЧ. *Адыная бадай расійская краёвая часопісь, якая друкуе артыкулы й пабеларуску, гэта "Вестник Комиссариата Народного Просвещения С.С.Р.Б."* ВСп, 90.

Адз. Т. *артыкулам*: СЧ. Мн. 8. *артыкулы*: ВСп, 90.

**АРТЫСТА** *м. Разм.* Артыст [Дама]: *Вы, мусье рэгістратар, праўдзівы артыста* [у тэксце памылкова: артысты] *ў вальцы.* Т, 29.

Адз. Н. *артыста*: Т, 29.

**[АРУЖЖА]** (4) і *разм.* **[АРУЖЖЭ]** *н. Руск.* Зброя. *.. навука рэлігіі, па польску – гэта моцнае аружжэ ў руках польскіх нацыяналістоў.* ВР. [Мікіта]: *..Складай аружжа! Вывешвай белы флаг!* Т, 52.

Адз. Н. *аружжэ*: ВР. В. *аружжа* (2): МІ, 17; Т, 52. Т. *аружжам* (2): Нз, 15; Т, 52.

**[АРУЖНЫ]** *прым. Нават.* Узброены. *З гэтага дня маема* [беларусы] *магчымасьць будаваць сваю беларускую армію, сваю аружную, нязломную сілу.* БСУ.

Адз. ж. В. *аружную*: БСУ.

**[АРХАІЧНАСЦЬ]** *ж.* Уласцівасць архаічнага, старажытнага, устарэлага. *Стары правапіс, у якім не мала было засмечанасці, нацдэмаўскай, "саматычнай" архаічнасці, – трымаў беларускую мову ў палоне правінцыялізма, у рамках нацыяналістычнай абмежаванасці.* ШБСЯ.

Адз. Р. *архаічнасці*: ШБСЯ.

**[АРХІРЭЙСКІ]** *прым.* Які мае дачыненне да архірэя. [Ганупя]: *І чаго бацюшка палез у гэтую палітыку. Пільнаваў бы лепей ключоў ад архірэйскага дому.* Т, 58.

Адз. м. Р. *архірэйскага*: Т, 58.

**[АРШЫН]** *м. Уст.* Мера даўжыні, роўная 71,12 см. *На зямлі, што дзед, прадзед слязьмі І гарачай крывёй паліваў, Унук – ужо між чужымі людзьмі – Тэй зямлі трох аршын не дастаў.* ЧС, 50–51.

Мн. Р. *аршын*: ЧС, 50–51.

**АРЫГІНАЛЬНЫ** (2) і *разм.* **ОРЫГІНАЛЬНЫ** *прым.* **1.** Створаны самастойна, незапазычаны, неперакладны. *З гэтых кніг асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы: з чатырох – тры з іх арыгінальныя: .. ня тлумачаныя з чужога – і першая арыгінальная "Альгэбра" Круталевіча.* ВСп, 89.

**2.** Своеасаблівы, незвычайны, адметны. [Дама]: *Што гэта ў вас, мусье, за такі орыгінальны ўбор?* Т, 24.

Адз. м. Н. *орыгінальны*: Т, 24. ж. Н. *арыгінальная*: ВСп, 89. Мн. Н. *арыгінальныя*: ВСп, 89.

**АРЫСТАКРАТЫЧНЫ** *прым. Іран.* Які мае адносіны да арыстакрата. [Янка]: *У вас сягоння, пане рэгістратар, праўдзівы арыстакратычны баль, не забыліся нават і аб інтэрмедыі.* Т, 27.

Адз. м. Н. *арыстакратычны*: Т, 27.

**[АРЫТМЭТЫКА]** *ж. Польск.* Арыфметыка. [*"Мэтодыка арытмэтыкі" Валасковіча і Лукашэвіча*] *павінна стацца незамененай падручнай кніжкай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арытмэтыку.* ВСп, 89.

Адз. В. *арытмэтыку*: ВСп, 89.

**[АРЫШТ]** *м.* Пазбаўленне волі. [Мікіта]: *Дык пакажэце мне, меджду протчым, ваша чырвонае благародзіе, чэк на мой арышт.* Т, 62.

Адз. В. *арышт*: Т, 62.

**АРЫШТАВАЦЬ** (2) *зак. да* арыштоўваць. *Спачатку справа ў іх* [беларусаў-бальшавікоў] *ішла туга, так туга, што быў мамент, калі Смаленскі ўрад хацеў іх арыштаваць.* СНБ, 338. *Кіраўніка гэтага аддзела .. арыштавалі і вывезлі ў Смаленск, як заложніка.* Там жа, 339.

Інф. *арыштаваць*: СНБ, 333. Абв. пр. мн. *арыштавалі*: СНБ, 339.

**[АРЭНА]** (2) *ж. перан.* Месца падзей. .. *дзьве рэволюцыі выступілі на крывавую арэну за свае праўды, за сваё першынство ў дзеле будаваньня будучага людзкога жыцьця на грэшнай зямлі.* СНБ. *Арэнай такой абвостранай клясавай барацьбы зьяўляецца, зразумела, і БССР.* АЛ.

Адз. В. *арэну*: СНБ. Т. *арэнай*: АЛ.

**[АРЭТМЭТЫЧНЫ]** *прым. Польск.* Арыфметычны. *Арэтмэтычныя задачнікі Валасковіча і Лукашэвіча – першыя задачнікі ў беларускай мове.* ВСп, 89.

Мн. Н. *арэтмэтычныя:* ВСп, 89.

**[АРЭХ]** *м.* Плод, семя ў выглядзе ядра ў цвёрдай шкарлупцы. [Спічыні]: *Аб гэтым у вас* [Мікіты] *павінен быць ясны, дужа ясны светапогляд, адным словам – пад арэх.* Т, 41.

Адз. В. *арэх*: Т, 41.

**АСАБІСТА** *прысл. да* асабісты *ў* 1 *знач. Якую ролю я* [Купала] *асабіста і мая літаратурная творчасць адыгралі ў гэтай контррэволюцыйнай дзейнасці беларускага нацыянал-дэмакратызму?* АЛ.

**АСАБІСТЫ** (3) *прым.* **1.** Які належыць пэўнай асобе. [Мікіта]: *У гэтым портфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні: на маю асобу, на маю кватэру, на ваду, на апал..* Т, 46.

**2.** Звязаныя з прыватным, сямейным жыццём. *Апрача падвышэння некаторых пабочных налогаў, урад маніцца ешчэ у скорым часе завясці падаходны і асабісты ваенны налог.* ВН.

Адз. м. Н. *асабісты*: ВН. В. *асабісты*: ВН. Мн. Н. *асабістыя*: Т, 46.

**АСАБЛІВА** (16) *прысл. да* асаблівы. *..а тым часам – паглядзеце, якія пышныя дубы растуць у Меншчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў разводздзе вадою..* ХВ,29. *Слабейшыя народы, асабліва ўваскросшыя на тэрыторыі быўшай Расіі, змагаюцца толькі за тое, каб жыць..* СНБ. А, 328; АБ, 16; БСУ; ДК; ЛР; ПЧ; СНБ, 339; Т, 20, 39, 41, 45, 48, 55, 56.

**[АСАБЛІВАСЦЬ]** *ж.* Адметнасць, характэрная ўласцівасць, якасць, прыкмета чаго-н. *А давалі, гвалтам накідалі ім* [людзям] *свае так званыя, "културы"», пры помачы якіх душылі ў падняволеных народаў іх нацыянальныя асаблівасці, іх веру.* НДН, 18. *Параўн.* особлівосць, особенносць.

Мн. В. *асаблівасці*: НДН, 18.

**[АСАБЛІВЫ]** (3) *прым.* **1.** Непадобны да іншых, адметны. *Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначываўся..* Кз, 17.

**2.** Больш значны, чым звычайны. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны разбурэньню таго адзінства, тае інтэрнацыянальнай базы, на грунце якое працоўныя масы .. ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ. *З гэтых кніг асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы..* ВСп, 89.

Адз. ж. В. *асаблівую* (2): АЛ; ВСп, 89. н. Т. *асаблівым*: Кз, 17.

**[АСАДКА]** *ж.* Ручка, дзяржанне чаго-н. *Совае* [Мікіта] *рэвальверы асадкамі ў адну і другую руку Даме.* Т, 59.

Мн. Т. *асадкамі*: Т, 59.

**АСАЛОДА** (3) *ж.* **1.** Задавальненне, адчуванне прыемнага. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга, ніякі малюнак, ніякі спэктакль не давалі мне гэтулькі асалоды і прыемнасці.* ХБ, 29. *Яго* [Варашылава] *ўжо мы* [людзі] *выбіралі Мінулага году, А дні выбараў былі нам Светлай асалодай.* НК.

**2.** *Вобразн.* Ласкавы зварот да каго-н. [Галасы]: *"Хай цвітуць нашы кветкі* [жанчыны], *наша асалода! Віват! Ура!"* Т, 28.

Адз. Н. *асалода*: Т, 28. Р. *асалоды*: ХБ, 29. Т. *асалодай*: НК.

**[АСВЕДЧЫНА]** *ж. Польск.* Прапанова. [Мікіта]: *Колькі раз рабіў ужо ёй* [Насце] *асведчыны, каб, значыцца, аддала мне сваю руку, але штось не клеіцца.* Т, 23.

Мн. В. *асведчыны*: Т, 23.

**[АСВЯТЛЕННЕ]** *н. перан.* Растлумачэнне, дэтальны разгляд чаго-н. [Спічыні]: *Ахвяруем цяпер колькі хвілін на тэорытычнае асвятленне некаторых звязаных з аратарствам пытанняў.* Т, 41.

Адз. В. *асвятленне*: Т, 41.

**АСВЯТЛЯЦЬ** (2) *незак.* **1.** Азараць. *Законы-ж твае* [правадыр], *нібы светач нязгаслы, Шляхі асвятляць будуць светлым імкненням, Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.* ТП, 216.

**2.** Падрабязна расказваць пра што-н, рабіць агляд чаго-н, растлумачваць. *Шыла, які асвятляў Дзям'яну Беднаму гэты верш у правакацыйным сэнсе.* СЧ.

Інф. *асвятляць*: ТП, 216. Абв. пр. адз. м. *асвятляў*: СЧ.

**[АСВЯЦІЦЬ]** (2) і **АСЬВЯЦІЦЬ** (2) *зак.* **1.** Зрабіць светлым, напоўніць святлом што-н. [Аленка]: *Абы толькі гэтыя адзінкі, што ўжо змагаюцца, больш ясных паходняў распалілі і асвяцілі сцежкі ўсе для паўстаючай грамады.* Т, 35. *Асьвяціў сваё чорнае першы* [сын] *сумленьне Прагавіцьцем быць сонцу раўнёю.* Ч, 324.

**2.** *перан. Тое, што* асьвятліць. *Хай толькі асвеціць Вас* [беларусаў] *адна вялікая думка..* ПЛП.

Інф. *асьвяціць*: ВМР. Абв. пр. адз. м. *асьвяціў*: Ч, 324. Мн. 3 ас. *асвяцілі*: Т, 35. Буд. адз. 3 ас. *асвеціць*: ПЛП.

**[АСЕЛІЦА]** (2) *ж.* Наваколле, паселішча. *Але новы сёлета Подых на аселіцах: Юны чэрвень молада Больш за май вяселіцца.* ПЛ.

**Аколіца-аселіца** *гл.* аколіца.

Адз. Н. *аселіца*: БЗ. Мн. М. *аселіцах*: ПЛ.

**[АСЕННІ]** (2), **[АСЕНЬНІ]** і *разм.* **[ВАСЕНЬНІ]** (2) *прым.* Восеньскі. *Як шум асеньняга вятрыска, Лунаўся розгалас сьляпы..* УрП, 52. *Ў плуг запрог* [сын] *свайго браточка На векі, да сканання,*

*А мяне* [маці] *асенняй ночкай Выгнаў на бадзянне.* Дз, 190. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга, ніякі малюнак, ніякі спэктакль не давалі мне* [С. Мечу] *гэтулькі асалоды і прыемнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага васеньняга сонца.* ХБ, 29.

Адз. м. Р. *асеньняга*: УрП, 52; *васеньняга* (2): ХБ, 29(2). ж. Т. *асенняй*: Дз, 190. н. М. *асеннім*: Т, 34.

**[АСІЛАК]** *м.* Герой беларускіх казак, легенд; вялікай сілы чалавек, волат. *Мы прайшлі гэты шлях, як казачныя асілкі – сямімільнымі, ленінскімі крокамі..* ВГР.

Мн. Н. *асілкі*: ВГР.

**[АСІЛКАВЫ]** *прым. да* асілак, *перан. Акрыляў* [брат другі] *сам самога асілкавай славай, Паўставаў проць хапанага клубам.* Ч, 324.

Адз. ж. Т. *асілкавай*: Ч, 324.

**[АСІНА]** (3) *ж.* Лісцевае дрэва сямейства вярбовых. *Мала іх* [гітлераўцаў] *павесіць На сухой асіне, Бо нават асіна Ад сябе адкіне.* МПв, 218. *Ен* [народ] *перарэжа горла людаеду, убіўцу, Ен Гітлера павесіць на сухой асіне.* ПНд, 314.

Адз. Н. *асіна*: МПв, 218. М. *асіне* (2): МПв, 218; ПНр, 314.

**[АСІРАЦІЦЬ]** *зак.* Зрабіць каго-н. сіратою (сіротамі). [Гарошка]: *Самахоць за німашто асіраціў мяне* [сын]. Т, 44.

Абв. пр. адз. м. *асіраціў*: Т, 44.

**АСЛЯПЛЕННЕ** і **[АСЬЛЯПЛЕНЬНЕ]** (2) *н.* Няздольнасць правільна меркаваць пра што-н., неразуменне таго, што адбываецца. *Дзякуючы гэтаму свайму асьляпленьню, зьявіліся мае такія творы з ярка нацыянал-дэмократычнымі настроямі, як, напрыклад, "Паўстань", "Перад будучыняй".. і інш.* АЛ. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы, .. Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы, Аковы, дзе йшчэ звоняць трупнай заразай.* ТП, 216.

Адз. Р. *асьляпленьня*: К. Д. *асьляпленьню*: АЛ. В. *асляпленне*: ТП, 216.

**[АСЛЯПЛЯЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* асляпляць. *перан.* Пазбаўляючы магчымасці правільна зразумець што-н., разабрацца ў чым-н. *Сягоння мы* [беларусы] *жывём і ўдзень мы блудзім Пад маскай, асляпляючаю нас..* Бч, 9.

Адз. ж . Т. *асляпляючаю*: Б, 9.

**[АСНОВА]** (6) *ж.* **1.** Галоўныя палажэнні якой-н. навукі, тэорыі. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы. Тваей Канстытуцыі мудрыя сказы Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы..* ТП, 216.

**2.** *перан.* Апора, падтрымка. *Толькі ж была нам радасць асновай, Вам ткаць прышлося слёзы і гора.* ССА, 294.

◊**Ляжаць у аснове** *гл.* ляжаць. **На аснове –** на падставе;

зыходзячы з чаго-н. *На аснове ўсіх нечуваных дасягненняў вырасла і адточваецца.. беларуская мова.* ШБСЯ. *.. мір на аснове самаазначэння народаў – не быў выдуманы так сабе.* НДН, 18.

Адз. В. *аснову*: ВР. Т. *асновай*: ССА, 294. М. *аснове*: НДН, 18; ШБСЯ. Мн. Н. *асновы*: ТП, 216. Р. *асноў*: ВР.

**АСНОВАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* аснаваць. Заснаваны. *І гэты налог, аснованы на справядлівасьці, знойдзе нарэшце сабе мейсцэ у Расейскім гасударстве.* ВН.

Адз. м. Н. *аснованы*: ВН.

**АСНОЎВАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* асноўваць. *Руск*. Зыходзячы з чаго-н. *У нашу векапомную эпоху .. праступна .. ўтвараць нацыянальную адмежаванасьць, асноўваючыся на самабытнасьці, гэта значыць, на пазаклясавасьці якой-бы ні было нацыі ці народу.* АЛ.

**[АСНОЎНЫ]** (2) *прым*. Галоўны, найбольш важны, вядучы. *Ён* [Сталін] *даў для народаў Асноўны закон, І дружбу народаў Навек стварыў ён.* СС, 800. *Усе новые налогі і падвышэньне старых урад праводзіць па 87 стацьці асноўных законаў.* ВН.

Адз. м. В. *асноўны*: СС, 300. Мн. Р. *асноўных*: ВН.

**АСОБА** (17) *ж*. **1.** Чалавек, індывідуум (з пункту погляду яго характару паводзін). [Мікіта]: *.. атрымаю ад начальства асэсарскую рангу, і мамзэль Наста будзе маёй, бо асоба, як бачыце, спрытная*. Т, 23. [Наста]: *А я чула ад пэўнай асобы, што немцы як прыходзяць, то першым чынам .. хапаюць усіх на работы..* Там жа. 24.

**2.** Персанаж. *Чырвонаармеец, Начальнік патруля, Абарванец – у адной асобе.* Т, 19. *Асобы*: *Мікіта Зносак (Нікіцій Зносілов) – калежскі рэгістратар..* Там жа.

Δ**Асоба-герой.** *Верце, што мы* [беларусы] *з’яўляемся дзейснымі асобамі-героямі чараўнічай песні..* ПЛП.

Адз. Н. *асоба* (2): СНБ, 339; Т, 23. Р. *асобы* (2): Т, 24, 36. В. *асобу*: Т, 46. М. *асобе*: Т, 19. Мн. Н. *асобы* (2): Т, 19, 27. Р. *асоб* (7): ЛР (2); Т, 19, 25, 28, 41, 48. Т. *асобамі*: ПЛП. М. *асобах*: СБНГ.

**АСОБКУ** *прысл.* : ◊**З асобку –** *тое, што* асобна. *Ня могучы кожнаму з асобку падзякаваць, .. я лічу сваім сьвятым абавязкам хоць на гэтым месцы успомніць гэтых асоб добрым словам.* ЛР.

**АСОБНА** *прысл.* ◊**У асобку –** асобна, па-аднаму. *На ўсіх установах, на кожным чалавеку з асобна вайна атклікнулася у той ці іншай форме.* ВС. *Параўн.* асобку.

**[АСОБНЫ]** *прым*. Адасоблены ад іншых. *Тады маскоўскія беларусы-бальшавікі .. прыехалі ў асобным вагоне ў Смаленск з мэтай стварыць новы беларускі бальшавіцкі ўрад.* СНБ, 338.

Адз. м. М. *асобным*: СНБ, 338.

**[АСТАВАЦЦА]** (4) *незак. Руск.* **1.** *Тое, што* заставацца *ў* 1 *знач. Асталалася адна я* [маці], *Сын адзін са мною, Як той путнік на разстаю, Летам і зімою.* Дз, 190.

**2.** Прадаўжаць сваё знаходжанне дзе-н. з якой-н. мэтай. *Аставаўся толькі старшы гаспадарыць дома, Бо ат тых* [братоў] *гаспадаршы, Хоць быў у іх за лома.* Дз, 190.

**3.** Захоўвацца, не знікаць, не пераставаць быць кім-н. *Пазычыць у гэту усесветную завіруху няма дзе.. Астаюцца толькі налогі.* ВН.

**4**. *У безас. знач.* Неабходна, трэба толькі. *І вось, вітаючы яго* [падаходны налог] *нам астаецца толькі цешыцца, што думка шчыраго расейскаго грамадзянства дарма ня згінула..* ВН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *астаецца*: ВН. Мн. 3 ас. *астаюцца*: ВН. Пр. адз. м. *аставаўся*: Дз, 190. ж. *аставалася*: Дз, 190.

**[АСТАВІЦЬ]** *зак. да* астаўляць. *Руск.* Пакінуць, перадаць у спадчыну. *Так сказаў чараўнік, і казаў доўга жыці – Спадкі-цень свой на памяць аставіў...* Ч, 320.

Абв. пр. адз. м. *аставіў*: Ч, 320.

**[АСТАНОЎКА]** *ж. Руск.* Прыпынак. *І зробім чуць-чуць астаноўку, Каб сцерве папасць у папад: Для Гітлера скінем вяроўку Хутчэй каб павесіўся кат.* ХЛВ, 316.

Адз. В. *астаноўку*: ХЛВ, 316.

**[АСТАЎЛЯЦЬ]** (2) *незак. Руск.* Пакідаць. *Гэты перыяд нашых дамаганняў і змаганняў .. астаўляем разабраць як следна нашым цяперашнім і будучым гісторыкам.* СНБ, 337. *Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх.., а яшчэ астаўлялі ў хатах пад абрусамі бохана хлеба пшанічнага..* Кз, 17.

Абв. цяп. мн. I ас. *астаўляем*: СНБ, 337. Пр. мн. *астаўлялі*: Кз, 17.

**[АСТАЎШЫСЯ]** *дзеепрым. незал. пр.* да аставацца *ў* 2 *знач. .. мы, астаўшыеся дома, не спалі ў шапку ў гэты час трывожны.* РКр.

Мн. Н. *астаўшыеся*: РКр.

**[АСТАЦЦА]** (8) *зак.* **1.** *Тое, што* заставацца *ў* 1 *знач. А большасць спадніčнікаў асталася ляжаць на месцы.* ПСп. *Вось-жэ усе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на поле бітвы, павінны.. дружна ісьці да працы на сваіх загонах.* РКр.

**2.** Не перастаць быць з кім-н. *Масы, народ земляробны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі.* Нз, 14.

**3**. Аказацца, апынуцца ў якім-н. становішчы. *Гаспадарка цэлаго краю, ці аддзельных людзей павінна па сіле магчымасьці не спыняцца, а ісьці далей і шырэй, каб, як скончыцца вайна*

*не асталіся мы быццам пасьля пажару: сусім зністожэны і на духу і на целі.* ВС.

**4**. Захавацца, уцалець, не знікнуць. *Але мы* [беларусы], *змагаліся і будзем змагацца! І наша змаганне не асталося без следу.* ПЛП. *Дні 10, 11, 12 кастрычніка г.г. астануцца на вякі не зацёртымі у памяці насяленьня.. Вільні.* УПУВ.

Абв. пр. адз. ж. *асталася* (2): ПСп; СНБ, 336. н. *асталося*: ПЛП. Мн. *асталіся* (4): БС; ВС; Нз, 14; РКр. Буд. мн. 3 ас. *астануцца*: УПУВ.

**[АСТРОГ]** (3) і *разм.* **[ВАСТРОГ]** (2) *м. Уст. Тое, што* турма *ў* 1 *знач.* .. [жандармы] *здзекваліся над людзьмі, працуючымі там* [у “Нашай Ніве”], *забіралі рукапісы і ўрэшце цягнулі ў вастрог у нічым невіноўных людзей.* МІ, 17. [Янка]: *Баюся, што гэта мудрасць дасць вам* [Мікіту] *чэк на свабоднае месца ў Менскім астрозе.* Т, 36.

**2.** *Тое, што* турма *ў* 2 *знач. У параўн. Дом чужы таму будзе астрогам; Хто паклоны біць стаў збоку злыбедным ветрам..* Ч, 323.

Адз. В. *вастрог* (2): МІ, 17; СНБ, 339. Т. *астрогам*: Ч, 323. М. *астрозе*: Т, 36. Мн. Н. *астрогі*: ПБН.

**[АСУДЗІЦЬ]** *зак.* Выказаць асуджэнне. .. *я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх* [устаноўкі], *але наадварот, маральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Абв. пр. адз. м. *асудзіў*: АЛ.

**[АСЦЯРОГА]** і **[АСЬЦЯРОГА]** *ж.* Перасцярога, асцярожнасць. [Спічыні]: *Затрымайцеся. Цяпер выслухайце* [Мікіта] *дзве асцярогі..* Т, 40. *Тры паказываў ім* [сынам] *ён* [чараўнік] *на сьвеце дарогі, Тры пуціны іх долі-нядолі, І даваў-насылаў ён сыном асьцярогі.* Ч, 319.

Мн. В. *асцярогі*: Т, 40; *асьцярогі*: Ч, 319.

**АСЦЯРОЖНА** (2) *прысл.* Спасцярожліва, насцярожана, з асцярогай, акуратна. [Мікіта]: *Усё можна, толькі асцярожна.* Т, 21. [Ганулял]: *Адно – Ідзі* [Мікіта] *асцярожна, каб цябе ў палон не схапілі..* Там жа, 56.

**АСЦЯРОЖНЫ** (3) *прым.* Які дзейнічае з аглядкай, асцярогай. [Мікіта]: *Я асцярожны, надта асцярожны, і за мяне, сябра беларус, не турбуйцеся.* Т, 29. [Мікіта]: *Толькі не грамафон. Вельмі ён крычыць, а я чалавек асцярожны, меджду протчым.* Там жа.

Адз. м. Н. *асцярожны* (3): Т, 29(3).

**[АСЬВЕТНЫ]** *прым.* Які служыць асвеце. *Вядомы польскі пісьменьнік Балеслаў Ліманоўскі, пішучы аб вялікім праз доўгія годы асьветным значэньні Батораўскага Унівэрсітэту, .. кажа: “Сьвятло, якім прамянілася гэта вучэльня захоплівало сабой*

*ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі, .. але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...”* УПУВ.

Адз. н. М. *асьветным*: УПУВ.

**[АСЬВЯЖАЦЦА]** *незак*. Станавіцца свежым, чыстым (пра паветра). *.. лета гарачае, але яно асьвяжаецца такімі навальніцамі з пярунамі, якіх я* [С. Меч] *ня бачыў у Расеі. ..* ХБ, 29.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *асьвяжаецца*: ХБ, 29.

**АСЬВЯЦІЦЬ** *гл.* **АСВЯЦІЦЬ**.

**[АСЬЛЕПЛЕНЫ]** (4) *дзеепрым. зал. пр. да* асьляпіць.

**1.** Пазбаўлены. Зроку. *І сьцібрае* [чараўнік] *на путы струхлеўшыя косьці, І пляцёнкі з асьлепленых шые.* Ч, 325.

**2.** *перан*. Акрылены, узрушаны. *Пэўная часьць польскага грамадзянства, так званая “народова-дэмакрацыя”, асьлепленая пабедамі польскага салдата, сышла з тэй дарогі, якую паляком намецілі сьвятлейшые іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе, Славацкіе і інш.* СНБ. *Асьлепленые часовымі пабедамі,* [сацыялісты і нацыяналісты] *забываюцца, што жывуць не ў срэднявякоўі, калі сіла кулака панавала над сілай права.* Там жа.

Адз. ж. Н. *асьлепленая*: СНБ. Мн. Н. *асьлепленые* (2): СНБ (2). Р. *асьлепленых*: Ч, 325.

**[АСЬЛЯПІЦЬ]** *зак. да* асьляпляць. Зрабіць невідушчым. *Каб таму маланкай Асьляпіла вочы І блукаў абмацкам Ен удзень і ў ночы, – Хто для нашых дзетак Хоча асьляпленьня..* К.

Абв. пр. адз. н. *асьляпіла*: К.

**[АСЬЛЯПЛЕЬНЕ]** *гл.* **[АСЛЯПЛЕННЕ]**

**[АСЬМЕЛІЦЬ]** *зак. да* асьмяляць. Прыдаць каму-н. смеласці, рашучасці, адвагі. *З цябе* [незнаёмца] *нядобры вецер вее, Па трупах ты, відаць, ішоў, Скажы нам* [народу], *хто цябе асьмеліў Да нашых зьбліжыцца каўшоў?* УрП, 51.

Абв. пр. адз. м. *асьмеліў*: УрП. 51.

**[АСЬМУШКА]** *ж. Уст.* Мера аб’ёму сыпкіх рэчываў. [Мікіта]: *Далей ідуць мае.. пайкі: сем фунтаў адборнай атрубянай мукі, паўтара фунта з асьмушкай круп ..* Т, 46.

Адз. Т. *асьмушкай*: Т, 46.

**[АСЬЦЕРАГАЦЦА]** *незак*. Устрымліваецца ад чаго-н., пазбягаць чаго-н. з перасцярогі. *Аб “Думе” можэш думаць, кольки ўлезе, але гаварыць голасно асьцерагайся: гэта ня ўсих па шэрсьци гладзиць.* СП.

Заг. адз. 2 ас. *асьцерагайся*: СП.

**АСЬЦЯРОГА** *гл.* **АСЦЯРОГА**.

**АСЭСАР** (6) *м. Гіст.* •**Калежскі асэсар –** грамадзянскі чын восьмага класа дарэвалюцыйнай Расіі. [Наста]: *Толькі тады з гэтага квасу будзе піва, калі я з пэўных крыніц напэўна даведаюся,*

*што вы* [Мікіта] *не рэгістратар толькі, а ўжо асэсар.* Т, 42. [Янка]: *Жычу вам* [Мікіту] *надзець шліфы калежскага асэсара.* Там жа, 21.

Адз. Н. *асэсар*: Т, 42. Р. *асэсара*: Т, 21. Т. *асэсарам* (4): Т, 23, 42(3).

**[АСЭСАРСКІ]** (5) *прым.* Які належыць асэсару. [Мікіта]: *О, ранга мая асэсарская! О, кляса мая бонтонная, беспардонная!* Т, 42. [Янка]: *Жычу вам* [Мікіту] *у новай аратарскай профэсіі дастукацца асэсарскай рангі.* Т, 39.

Адз. ж. Н. *асэсарская*: Т, 42. Р. *асэсарскай*: Т, 39. В. *асэсарскую* (2): Т, 23, 40. Мн. Н. *асэсарскія*: Т, 43.

**[АСЭСАРСТВА]** (7) *н. зб. да* асэсар. [Мікіта]: *Беларускае асэсарства .. мае ў сабе яшчэ адзін вельмі ласы плюсік ..* Т, 56. [Мікіта]: *Адным словам, я надумаўся дабівацца беларускага асэсарства.* Там жа, 55.

Адз. Н. *асэсарства* (2): Т, 56(2). Р. *асэсарства*: Т, 55. В. *асэсарства* (3): Т, 23, 42, 50. Т. *асэсарствам*: Т, 23.

**[АСЯРОДЗІШЧА]** (2) *н. Разм.* Асяроддзе. *Балюча і цяжка ўсьведамляць мне* [Купалу] *сеньня, што я, адарваўшыся ад здаровага творчага асяродзішча рэволюцыйных пролетарскіх працоўных мас, .. не дапамагаў.. ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ. *Я* [Купала] *і пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі не адмежаваўся як гэта належала, абкружаючага мяне нацыянал-дэмократычнага асяродзішча..* Там жа.

Адз. Р. *асяродзішча* (2): АЛ (2).

**АТ** *гл.* **АД**.

**[АТАМАН]** *м. Уст.* Выбраны начальнік ў казацкіх войсках, пасяленнях *..п'яныя дзікуны па ўказцы свайго звар'яцелага бандыцкага атамана па-зверску зьнішчаюць усе тое, што пабудавана намі* [савецкімі людзьмі].. РКП.

Адз. Р. *атамана*: РКП

**АТКАЗАЦЬ** *гл.* **АДКАЗАЦЬ**.

**АТКІДВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* аткідваць. *Разм., перан. Не прынімаючы чаго-н., адмаўляючыся ад чаго-н...беларусы, аткідваючы польшчыну, дамагаюцца правоў для беларушчыны.* ВР.

**АТКІНУЦЬ** *гл.* **АДКІНУЦЬ**.

**[АТКЛІКНУЦЦА]** *зак. перан.* Адбіцца. *На ўсіх установах, на кожным чэлавеку з асобна вайна атклікнулася ў той ці іншай форме.* ВС.

Абв. пр. адз. ж. *атклікнулася*: ВС.

**АТКУЛЬ** *гл.* **АДКУЛЬ**

**[АТЛАС]** *м.* Гатунак тканіны. *Глядзіш – для яе, маладой, Ткуць кросны атласы, шаўкі ..* ТП, 215.

Мн. В. *атласы*: ТП, 215.

**[АТМАСФЕРА]** *ж. перан.* Навакольнае асяроддзе, абставіны. *З першых-жа крокаў у Чэхаславакіі, наша дэлегацыя апынулася ў атмасферы надзвычай шчырай прыязні і сімпатыі да нас, да нашае бацькаўшчыны.* ПЧ.

Адз. М. *атмасферы*: ПЧ.

**[АТОПКІ]** *толькі мн.* Старыя зношаныя чаравікі, боты. – *Хэ-хэ! – патурае яму* [пану-абшарніку] *расійскі чыноўнік, прыдыбаўшы сюды ў дзюравых атопках шукаць кар'еры ..* 3.

Мн. М. *атопках*: 3.

**АТПЛАЦІЦЬ** *гл.* **АДПЛАЦІЦЬ**.

**[АТПРАВІЦЬ]** *зак. да* адпраўляць *у* 1 *знач. Руск. Раненага яго* [Грыцько] *атправили ў Маскву.* ПДз.

Абв. пр. мн. *атправили*: ПДз.

**АТПРАЎЛЯЦІ** *гл.* **АДПРАЎЛЯЦЬ**.

**АТРАД** (4) *м.* **1.** Аб'яднанне ўзброеных сіл. *Атрад выбіў нямецкіх акупантаў з вёскі* Т. ПСп. *Падрыўнікі атрада чыста правялі работу.* Там жа.

**2.** Частка калектыву, аб'яднаная адзінай прафесіяй, задачамі, імкненнямі. *Пажаданні нашы: даць камандзіру годную дома работу і забяспечыць жывы кантакт дома з нашым атрадам работнікаў мастацтваў.* ПГ.

Адз. Н. *атрад*: ПСп. Р. *атрада*: ПСп, Т. *атрадам*: ПГ. М. *атрадзе*: ПСп.

**[АТРУБЯНЫ]** *прым. Руск.* Вотруб'евы. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за месяц чэрвень.. пайкі: сем фунтаў адборнай атрубянай мукі ..* Т, 46.

Адз. ж. Р. *атрубянай*: Т, 46.

**[АТРУТА]** (5) *ж.* **1.** Ядавітае рэчыва; яд. *Мала падпалаў, ім* [забойцам Горкага] *трэба атруты, Дай ім крыві па калені.* СЗГ, 252. *Вада з крыніц жывых хай зверам-людарэзам Атрутай будзе і сляпіць крывавыя іх вочы.* ПН, 314.

**2.** *перан.* Тое, што шкодна ўплывае на каго-н. *Сейбіту праца не будзе атрутай, Вольная праца на вольных загонах.* Мц, 75. *Цёмныя людзі, пазбаўленыя гонару і сумлення, п'яныя атрутай нажывы і самалюбствам, .. з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17.

Адз. Р. *атруты*: СЗГ, 252. Т. *атрутай* (4): ЗС, 17; Мц, 75; ПН, 314; Ч, 319.

**[АТРУТНЫ]** *прым. да* атрута *ў* 1 *знач.* Ядавіты. *Князі, наклiканыя намі* [людзьмі], *Разьлікі між сабой вяруць, Лукі з атрутнымі страламі Проць нас сьпяшацца нацягнуць.* УрП, 48.

Мн. Т. *атрутнымі*: УрП, 48.

**[АТРУЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр.* да атруціць: ◊**Частаваць атручаным зеллем** *гл.* частаваць.

Адз. н. Т. *атручаным*: ПД, 83.

**АТРЫМАЎШЫ** *дзеепрысл. да* атрымаць *у* 2 *знач. І вось мы, беларусы, гаворачы аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці, не павінны абходзіць моўчкі таго балючага пытання, як гэта мы, атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, будзем меркаваць з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі..* НДН, 18.

**АТРЫМАЦЬ** (9) *зак.* **1.** *Зак. да* атрымліваць. [Янка]: *Надовечы я атрымаў ліст з вёскі ад сваёй быўшай вучаніцы..* Т, 23. [Начальнік]: *Чэк атрымаеце* [Мікіта], *як прыдзеце на месца.* Там жа, 62. // Аказацца ўзнагароджаным або пакараным. [Мікіта]: *Зменяцца палітычныя сытуацыі, атрымаю ад начальства асэсарскую рангу, і мамзэль Наста будзе маёй..* Т, 23. [Мікіта]: .. *адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэнне, другі – што ў карты прагуляўся..* Там жа, 21. // Узяць на карыстанне. *Сваей рукой я* [аўтарнік] *прызначаю Дванаццаць выбраных між вас (людзей), – Жалейку кожны атрымае і перайме такі наказ..* УрП, 49.

**2.** Дабіцца, дамагчыся чаго-н. .. *з прыходам палякоў Беларусь атрымала волю.* ОШМ. *Лічачы ў сярэднім па 50 фунт. стану, атрымаем. 2650 пуд, г.ё. каля трох вагонаў беларускіх выданьняў.* ВСп, 91.

**3.** *перан.* Пачуць. *Задаць такое пытанне паэту – рызыкоўна. Можна атрымаць адказ – "ні над чым", але можна і сказаць – "над усім".* МП.

Інф. *атрымаць*: МП. Абв. пр. адз. м. *атрымаў* (2): Т, 21, 23. ж. *атрымала*: ОШМ. Буд. адз. І ас. *атрымаю* (2): Т, 23, 42. 3 ас. *атрымае*: УрП, 49. Мн. 1 ас. *атрымаем*: ВСп, 91. 2 ас. *атрымаеце*: Т, 62.

**АТРЫМЛІВАЦЬ** *незак.* **1.** Браць ад каго-н. што-н. *Рэдактар закашляўся, пасля кажа: – Будзем атрымліваць, хлопец, па 4 $^{1}/_{2}$ капейкі ад радка.* Ан, 19.

**2.** Прынімаць да выканання. *Новы ўрад Заходнай камуны, разумеецца, атрымліваў усе дырэктывы з Масквы і танцаваў так, як іграла Масква.* СНБ, 337.

Інф. *атрымліваць*: Ан, 19. Абв. пр. адз. м. *атрымліваў*: СНБ, 337.

**АТСТУПЛЕННЕ** *гл.* **АДСТУПЛЕННЕ**.

**[АТУЛЯЦЦА]** *незак. перан.* Ахутацца, ахінуцца. *Каб свет атуляўся, як сонцам, свабодай, Чырвоныя макі цвілі ў агародах..* СС, 303.

Абв. пр. адз. м. *атуляўся*: СС, 303.

**АТУМАНІЦЬ** (3) *зак.* **1.** Затуманіць, зацягнуць туманам. *Той другі шлях і рэчка другая загладай Атуманіць душу, зальюць вочы..* Ч, 319.

◊**Атуманіць мазгі** (2) – пазбавіць магчымасці ясна думаць, развважаць. *Ды ну-ж гаманіці* [хаўруснікі], *Ухмыляцца пад вусам, як лепш атуманіць Мазгі беларусам.* Х. *Сягодня кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла, наша справа..* МІ, 17.

Інф. *атуманіць*: Х. Абв. пр. адз. ж. *атуманіла*: МІ, 17. Буд. мн. 3 ас. *атуманяць*: Ч, 319.

**АТЧЫНІЦЬ** *гл.* **АДЧЫНІЦЬ**.

**[АУЛ]** *м.* Паселішча на Каўказе. *У сваім ауле з гора не вылазіў* [Сулейман Стальскі], *У бядняцкай саклі шчасце не гасціла.* ПСС, 231.

Адз. М. *ауле*: ПСС, 231.

**[АЎГУСТ]** *м. Руск.* Жнівень. *Так у сяле Микалаеўшчыне, Мин. губ. прапита грошай ад новага года да I аўгуста* [за 6 мес.] *5012 руб. 94 $^1/_2$ кап.* УП.

Адз. Р. *аўгуста*: УП.

**[АЎДЫТОРЫЯ]** (2) *ж., зб.* Слухачы прамовы. [Спічыні]: *Правая рука застаецца свабоднай.., каб .. можна было, заціснуўшы кулак, патрасаць ёю над аўрыторыяй.* Т, 40. [Спічыні]: *..тэорыя аратарскага мастацтва не любіць, каб выкідалася перад аўдыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе.* Там жа.

Адз. Т. *аўдыторыяй* (2): Т, 40(2).

**АЎТАБІЯГРАФІЯ** *ж.*: **АЎТАБІЯГРАФІЯ**.

Адз. Н. *аўтабіяграфія*: А, 328.

**[А́ЎТАР]** (6) *м.* Стваральнік якога-н. твора. *На страніцы 105 ёсьць нарыс аўтара гэтае кнігі, – "На берегах Свислочи".* ХБ, 28. *Аўтары тут – нашы старыя знаёмыя: Багушэвіч Францішак, Бядуля Зьмітрок..* ВСп, 89.

Адз. Р. *аўтара*: ХБ, 28. Мн. Н. *аўтары*: ВСп, 89. Р. *аўтараў* (4): ВСп, 89(3); ПС.

**АЎТА́Р** (2) *м. Разм. Тое, што* алтар *у* 1 *знач. Аўтар заняўся перасьветам, Ад песьні розгалас ідзе.* УрП, 51. *Не было, праўда, узнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных.* Кз, 17.

Адз. Н. *аўта́ра*: УрП, 51. Мн. Р. *аўта́раў*: Кз, 17.

**АЎТАРНІК** (2) *м. Царк., разм.* асаб. да аўта́р. *Аўтарнік тайную малітву Паціху над людзьмі твары́ў ..* УрП, 51. *Сказаць аўтарнік мусіць слова, Ня дарма з неба вядзе род.* Там жа, 49.

Адз. Н. *аутарнік* (2); УрП, 49, 51.

**[АЎТАРНЫ]** (3) *прым. да* аўта́р. *Агонь аўтарны разлажыце,* [людзі], *Ахвяру небу аддадзім ..* УрП, 50. *Намыліліся старцы мудрыя: па іх касцях закрасаваў новы ўсемагутны Бог, сталі*

*легiёны аўтарных служыцеляў хвiмiямы яму курыць..* Кз, 17.

Адз. м. В. *аўтарны*: УрП, 50. Мн. Р. *аўтарных*: Кз, 17. Т. *аўтарнымi*: Кз, 17.

**[АЎТОРЫТЭТ]** *м. Разм.* Агульнапрызнанае значэнне, уплыў. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год iдэолёгiчнымi памылкамi ў сваей творчасьцi, популярнасьцю i аўторытэтам, як народны поэта, не дапамагаў.. ажыцьцяўленьню социялiзму.* АЛ.

Адз. Т. *аўторытэтам*: АЛ.

**[АЎЧЫНКА]** *ж. перан. Памянш. да* аўчына. *Пух i аўчынкi нашага* [беларускага] *хову Грэлi зiмою, Птушкi вам* [людзям чужым] *гралi з нашай дубровы Гымны вясною.* Чж, 146.

Мн. Н. *аўчынкi*: Чж, 146.

**АФАРБОЎКА** *ж. перан.* Асаблiвы сэнс, выразнае адценне чаго-н. *Але на гэты раз нас цiкавяць ня так самыя выпадкi нарушэньня дробнымi ўраднiкамi распараджэньняў свайго вышэйшага начальства, як гэтых выпадкаў афарбоўка..* ОШМ.

Адз. Н. *афарбоўка*: ОШМ.

**[АФIЦЫЙНЫ]** *прым.* Зроблены па ўстаноўленай форме. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры .. мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалi на афiцыйных прыёмах у магiстратах ..* ПЧ.

Мн. М. *афiцыйных*: ПЧ.

**АФIЦЭР** (4) *м. Ваен.* Вайсковая асоба каманднага саставу. *У час ляоянской битвы афицэр камандаваў ротаю и жыў з жонкаю и дачкою ў китайским доме..* ПДз. *Да багатай пани и афицэра, каторые тольки што вышлй с карэты, падашла дзеўчынка..* Там жа.

∆**Беларус-афiцэр** *гл.* беларус.

Адз. Н. *афицэр*: ПДз. Р. *афицэра* (2): ПДз (2). Мн. Р. *афiцэраў*: БВ, 16.

**[АФIЦЭРСКI]** *прым. Ваен.* Якi належыць афiцэру. *Следам за японскими салдатами набегли хунхузы и пачали палиць афицэрския кватэры.* ПДз.

Мн. В. *афицэрския*: IIДз.

**[АФIША]** *ж.* Аб’ява на вiдным месцы. *Хор запеяў нейкую песьню – якая азначала на афiшах: “беларускi гымн”..* СБНГ.

Мн. М. *афiшах*: СБНГ.

**[АФРЫКАНСКI]** *прым.* Якi мае адносiны да Афрыкi. *Таксама Англiя жалезнымi абцугамi трымала пры сабе Iрландыю, афрыканскiя народы i г.д.* НДН, 18.

Мн. В. *афрыканскiя*: НДН, 18.

**АХ** (28) *выкл.* **1.** Перадае спалох, нечаканае здзiўленне, неспадзяваную радасць, задавальненне. [Гануля]: *Ах, гэта вы, пане*

*настаўнік! І Аленка з вамі... Як я рада,* Т, 53. [Мікіта]: *Ах! Каго я, меджду протчым, бачу! Мадам-сіньёра! цалую ручкі.* Там жа, 51. // Перадае здагадку, думку, нечаканае прыпамінанне. [Мікіта]: [*Хоча скідаць куртку*]. *Ах, пардон! Я забыўся, што мамзэль Наста тут.* Т, 50. [Янка]: *Ах, вось яно што! Але гэта не бяда. Калі ён* [Мікіта] *вышаў родам з сялян, то ніякай працы не павінен чурацца..* Там жа, 20.

**2.** Перадае пачуццё гора, шкадавання, роспач. *Я* [унук] *паваліўся, падняўся. Ах, вочы... Вочы пан выбіў, сляпым я застаўся.* Ун, 73. *Ах, салодкі ўспамін не адзін Шалясціць, як вяроўкаю кат... Столькі іх, гэтых мілых часін! А забыці іх сілы няхват,* ЧС, 50–51 // Пры выказанні спачування. *А як ішоў* [першы ганец] *між іх* [людзей] *з сьвятлом, Яны пачулі, ах, пачулі: Сьляпым заморэные сном, Худые рукі ў высь цягніулі.* Кц, 194.

**3.** Пры выказванні нецярпення, незадаволенасці. *Ах, скарэй-бы дзень вечны, ці вечная цьма! Яна згубіць мяне бессанлівая ноч.* БН, 93.

**4.** Перадае пачуццё страху. *Ах! як страшна мне гэта бязсонная ноч! Сколькі мукі, цярпеньня прыносіць з сабой!* БН, 91. *Ах! што гэта? – Раскрылася неба й зямля, Рай і пекла зьмяшаліся ў працьму ў вадну.* Там жа.

БН, 92(2); ВБЛ, 83(2); Н; Т, 24, 25(2), 29, 35, 38, 44, 51, 53, 54, 57, 58;

**АХВОТА** (7) *ж.* Жаданне задаволіць патрэбы, імкненні. *А трывога – гэта чэрвяк, які падточывае сілу і ахвоту да жыцьця, да працы на ніве і ў хаце.* РКр. *І сёння, праглядаючы разам з вамі* [таварышамі] *свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліўбы сам.* ЖН.

Адз. Н. *ахвота* (2): Дз, 189; Т, 44. Р. *ахвоты*: БЗ. В. *ахвоту*: РКр. Т. *ахвотай* (3): ЖН; Т, 29, 55.

**[АХВОТНІК]** (2) *м.* Той, хто мае прыхільнасць да чаго-н.; аматар чаго-н. *Эй, гуляйце, чорнасотники, На благое усе ахвотники.* ВЧ.

Мн. Н. *ахвотники* (2): ВЧ (2).

**[АХВЯРА]** (9) *ж. Абрад.* **1.** Ахвярапрынашэнне бажаству. *Агонь аўтарны разлажыце* [людзі], *Ахвяру небу аддадзім ..* УрП, 50.

**2.** Дар *..былі толькі* [раней] *запаведныя лясы і гаі цяністыя, дзе складаліся ахвяры богам прамудрым.* Кз, 17.

**3.** Ахвярнік. *Спіце вы, нявінна Згінуўшы, ахвяры! Пакараем катаў Самай лютай карай!* МПв, 219. *На "крэсах усходніх" лютуе жандар. За вольнае слова катуюць і судзяць, Астрогі там поўны нявінных ахвяр.* ПБН. // Аб закаханым паклонніку. [Мікіта]:

*Што ж гэта вы, мамзэль Наста, не самі адны, а з гэрам немцам, як з нявіннай ахвярай свайго, меджду протчым, чарадзейскага сэрца?* Т, 41.

Адз. В. *ахвяру*: УрП, 50. Т. *ахвярай*: Т, 41. Мн. Н. *ахвяры* (3): Кз, 17; МПв, 2І9; УрП, 47. Р. *ахвяр* (4): ВН; ВС; ПБН; Тж, 16.

**[АХВЯРАВАЦЦА]** *незак*. Згадзіцца зрабіць што-н. дзеля каго-н. [Наста]: *А вось гэтага* [немца] *– дык я толькі ахвяравалася правесці да Брахалкі.* Т, 41.

Абв. пр. адз. ж. *ахвяравалася*: Т, 41.

**[АХВЯРАВАЦЬ]** *незак*. Прыносіць у дар што-н. [Спічыні]: *Ахвяруем цяпер колькі хвілін на тэарытычнае асвятленне некаторых звязаных з аратарствам пытанняў.* Т, 41.

Абв. цяп. мн. І ас. *ахвяруем*: Т, 41.

**[АХОВА]** *ж*. Ахоўванне, засцярога. *Я* [Купала] *вітаю сардэчнымі словамі паэта нашу магутную Чырвоную армію, якая надзейна і пільна сталёвай аховай вартуе совецкія граніцы..* ЖН.

Адз. Т. *аховай*: ЖН.

**[АХОПЛІВАЦЬ]** *незак. перан.* Авалодаць (пра радасць). *Агромністая радасць, гордая радасць пераможцаў над класавым ворагам ахоплівае народы нашай вялікай радзімы..* ВГР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ахоплівае*: ВГР.

**[АХРАНКА]** *ж. Разм.* Орган тайнага паліцэйскага нагляду. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных .. злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, .. агентаў царскай ахранкі..* МП.

Адз. Р. *ахранкі*: МП.

**[АХРАННІК]** *м. Руск.* Агент ахранкі. *.. ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі "Наша Ніва" ўрываліся жандармы і ахраннікі, здзекваліся над людзьмі..* МІ, 17.

Мн. Н. *ахраннікі*: МІ, 17.

**[АХРЫСЬЦІЦЬ]** *зак. перан.* Назваць. *Ды і шмат яшчэ ёсьць усялякіх песень і вершаў, якія ахрысьцілі гымнамі..* СБНГ.

Абв. пр. мн. *ахрысьцілі:* СБНГ.

**АЦАНІЦЬ** *зак. перан.* Прызнаць каштоўнасць чаго-н. *Будучы самі вольнымі, мы* [беларусы] *патрапім ацаніць волю другіх і пайсці з імі, "як вольны з вольным".* БСУ.

Інф. *ацаніць*: БСУ.

**АЦЕЦ** (5) *м. Руск.* •**Духоўны ацец** – поп. [Спраўнік]: *Ацец духоўны таксама паспеў пагасіць у нас* Т, 51. [Мікіта]: *Ах, каго я, меджду протчым, бачу! Мадам-сіньёра! – цалую ручкі. Ацец духоўны!* Там жа. *Параўн.* айцец.

Адз. Н. *ацец* (5): Т, 22, 28, 51(2), 52.

**АЦЕЧАСТВА** *н. Руск. Тое, што* бацькаўшчына *ў* 1 *знач. Акоў*

*паломаных жандар, Сліўнём зарыўшыся ў нару, Сядзіць расійскі чынадрал, “Слуга ацечаству, цару”.* АПЖ.

Адз. Д. *ацечаству*: АПЖ.

**[АЧАРАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* ачараваць. У знач. вык. Зачараваны, прываблівы. [Дама]: *Вы, мусье рэгістратар, праўдзівы артыста* [У тэксце памылкова: артысты] *ў вальцы. Я ачаравана вашымі віртуознымі “па”.* Т, 29.

Кар. адз. ж. Н. *ачаравана*: Т, 29.

**АЧАРНЕЛЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* ачарнець. *перан. Разм.* Азвярэлы, раззлаваны, раз’юшаны. *Ямчэй нацягваецца лук, Цэль рассекаюць агнестрэлы, Дрыжыць паўціна і павук, Дрыжыць прыблудак ачарнелы.* Кц, 196–197.

Адз. м. Н. *ачарнелы*: Кц, 196.

**АЧЫСЦІЦЬ** (3) *зак. перан.* Вызваліць, пазбавіць ад каго-н. *Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць. Край свой ачысціць ад хэўры драпежнай..* Ф. *Як ачысцілі ваякі Край ад ворага свой, Важна ехалі дадому, Як тых пчол буйных рой.* ПСД.

Інф. *ачысціць*: Ф. Абв. пр. мн. *ачысцілі* (2): ПД, 83; ПСД.

**[АЧЫШЧАЦЦА]** *незак.* Станавіцца вольным. *Пад Вашым* [Ежова] *кіраўніцтвам совецкая зямля, у тым ліку і Совецкая Беларусь, з поспехам ачышчаецца ад германа-японскіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў.* НКУС.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ачышчаецца*: НКУС.

**АЧЫШЧАЦЬ** (2) *незак.* Пакідаць што-н. *Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то бадай адначасьне на яе аграбленые абшары з вялікім разгонам рынуліся з усходу – расійскія бальшавікі, з захаду – польскія нацыяналісты.* СНБ. *Але немцы ачышчаюць Беларусь, Менск, Полацк..* СНБ, 338.

Інф. *ачышчаць*: СНБ. Абв. цяп. мн. 3 ас. *ачышчаюць*: СНБ, 338.

**[АШАЛЕЛЫ]** *прым.* Узлаваны, раз’юшаны. *Больш на нас* [народ] *не рыне банда Ашалелай сукай, З-за вугла нас не падсочыць Подлая гадзюка.* НК.

Адз. ж. Т. *ашалелай*: НК.

**[АШАНЦАВАЦЬ]** *зак. Польск.* Умацаваць шанцамі. *Родная зямелька! Ты, маўляў, здароўе, – Той цябе ашанцуе, каму безгалоўе..* ХБ, 28.

Абв. буд. адз. 3 ас. *ашанцуе*: ХБ, 28.

**АШУГ** (3) *м.* Народны пясняр у каўказскіх народаў. *Аб людзях-героях, аб цвітучых нівах і аб сонцы ясным, што на небе йскрыцца, Былі твае песні, ашуг Дагестана.* ПСС, 232. *Песні яго* [Сулеймана Стальскага] *ў людзі Вышлі гулка, – Удаўся ў ашуга Голас салаўіны.* Там жа.

**Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага.**
Адз. Н. *ашуг*: ПСС, 232. Р. *ашуга*: ПСС, 232. В. *ашуга*: ПСС, 232.

**[АШУКАНСТВА]** (2) *н*. Падман, махлярства, спакуса. *Вось я* [аўтарнік] *пастаўлены над вамі Вышэйшай моцай небных сіл, Старэйшы думкай і гадамі, Зьмятаю ашуканства пыл*. УрП, 49. *Сваіх дэпутатоў мы* [беларусы] *ў Думе ня маем, дык, каб уся Расея ведала, якія ашуканствы ў Беларусі робяць расейскіе і польскіе нацыяналісты, мы павінны ўсюды заяўляць, што мы – беларусы*. ВР. *Параўн*. падашуканство.
Адз. Р. *ашуканства*: УрП, 49. Мн. В. *ашуканствы*: ВР.

**АШЧАДКАСА** (2) *ж*. Ашчадная каса. *Бацяўская ашчадкаса дае кожнаму рабочаму дзесяць працантаў за пакладзеныя грошы замест звычайных чатырох*. ПЧ. *Рэнта яго* [падлетка] *грошай, што хаваецца ў Бацяўскай "ашчадкасе" – пад суровым кантролем*. Там жа.
Адз. Н. *ашчадкаса*: ПЧ. М. *ашчадкасе*: НЧ.

**[АШЧАСЛІВІЦЬ]** *зак. перан*. Забіць каго-н. шчаслівым; прынесці радасць каму-н. *Той, хто з няволі рабочы люд вывеў, Новыя вызначыў свету скрыжалі, Той, хто народ абудзіў, ашчаслівіў, У доміку гэтым убачыў свет Сталін*. СД.
Абв. пр. адз. м. *ашчаслівіў*: СД.

**/АЭРАДРОМ/** *м*. Пляцоўка для стаянкі, узлёту і пасадкі самалётаў. *У Празе мы .. аглядалі ваенны аэрадром, дзе нас сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфр..* ПЧ.
Адз. В. *аэрадром*: ПЧ.

**АЯЯЙ** (3) *выкл*. Перадае спалох, адчай. [Мікіта]: (*перапужаны*). *Аяяй! Оеей! Куды ж я падзенуся? Во, меджду протчым, папаўся..* Т, 32. [Мікіта]: .. *Зараз, зараз! Аяяй! Аяяй! А ратунку аднекуль, а збаўлення аднекуль*. Там жа.

# Б

**Б** *гл.* **БЫ**.

**[БАБА]** *ж. Разм.* Старая жанчына. *Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі, Дружна капалі з раллі бульбу бабы.* ВМ, 72.

Мн. Н. *бабы*: ВМ, 72.

**[БАБІЙ]** *прым. Руск., разм. Тое, што* бабскі. *Цяпер бабія ў разьвяз вузелкі, Усе з вайной у расходзе мужыкі..* ВБЛ, 83.

Мн. Н. *бабія*: ВБЛ, 83.

**БАБКА** (3) *ж.* Матчына або бацькава маці. – *Куды йдзеш ты, мая бабка, – Кажа ўнук бабулі, – То сядзіць, не злазіць з печкі, Цяпер, во, на гулі.* Вб, 237. [Гануля]: *Гэта ж мы блізкія сваякі: твой* [Гарошкі] *дзед і мая бабка былі родныя брат і сястра.* Т, 25.

◊**Чакай, бабка, Пятра** *гл.* чакаць.

Адз. Н. *бабка* (3): Вб, 237; Т, 21, 25.

**[БАБСКІ]** (3) *прым. Разм.* Жаночы, уласцівы жанчыне. *Думкі бабскія ў мяне ўсё адны: Хай-бы хоць і ад дурняў, ды сыны...* ВБЛ, 83. *Параўн.* бабій.

Мн. Н. *бабскія*: ВБЛ, 83.

**БАБУЛЬКА** (2) *ж. Ласк. да* бабуля ў I *знач. Галасуй ідзі, бабулька, Я* [унук] *пабуду дома.* Вб, 238. *І бубніць, бубніць бабульцы Унук сямігадовы.* Там жа, 237.

Адз. Н. *бабулька*: Вб, 238. Д. *бабульцы*: Вб, 237.

**БАБУЛЯ** (3) *ж. Ласк. да* баба. **1.** Матчына або бацькава маці. *А бабуля яму* [унуку] *кажа, Падбірае словы: – Што ты ведаеш, Данілка, Лепш пабудзь во ў хаце.* Вб, 237. – *Куды йдзеш ты, мая бабка, – Кажа ўнук бабулі..* Там жа.

**2.** Старая жанчына. [Гануля]: *Усё роўна як той дзед з бабуляй рэпку сваю цягнулі-цягнулі, ды ніяк не маглі выцягнуць.* Т, 54.

Адз. Н. *бабуля*: Вб, 237. Д. *бабулі*: Вб, 237. Т. *бабуляй*: Т, 54.

**БАГАСЛАВІЦЬ** *зак. Рэл.* Пажадаць дабра, удачы, поспехаў. [Мікіта]: *Апрача таго, нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску*

*тут, замеціў і, ад'язджаючы, на гэту місію багаславіў.* Т, 38.

Абв. пр. адз. м. *багаславіў*: Т, 38.

**БАГАТА** (2) *прысл.* **1.** *Прысл. да* багаты ў І *знач. Як прышоў дамоў, сярэдні* [сын] *Выглядаў багата, Й не пазнаў, як зьвер пасьледні, Ні мяне* [маці], *ні брата.* Дз, 190.

**2.** Прыгожа, маляўніча. *Зьвяртае на сябе ўвагу так сама "Беларускі лемантар", вельмі багата ільлюстраваны.* ВСп, 39.

**БАГАТЫ** (24) і **[БОГАТЫ]** *прым.* **1.** Заможны, у поўным дастатку. *Да багатай пани и афицэра, каторые тольки што вышли с карэты, падашла дзяўчынка – убогая..* ПДз. *З далёкіх заморскіх старон.. прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці..* Кз, 17. // *перан. У знач вык.* У каго многа чаго-н. *Як няведаньнем мы багаты, – Гэта маці і неўнамёк, – Можа быць гэта ён* [брат] *для брата У стрэльбе націснуў курок.* ВБЛ, 82. // *У знач. наз. Пабочные налогі аднакова плацюць і бедны і багаты.* ВН.

**2.** Дабротны. *Край наш* [беларускі] *сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі.* Нз, 15. *Меншчына магла-б быць вельмі багатая і вельмі прыгожая.* ХБ, 30. // Колькасна вялікі. *Багата ўраджаем Зямля расквітнела.* СС, 300. *Наладжанае ў красавіку мінулага году коопэрацыйнае т-ва "Адраджэньне" шпарка праявіла багатыя рэзультаты сваёй нядрэмлючай чыннасьці.* ВСп, 91. // Рознабаковы, разнастайны. *Надзвычайна багатыя і разнастайныя ўражанні ад гэтай паездкі.* ПЧ.

**3.** Раскошны, велічны. *Заезджыя госці .. не разумелі, як гэта можна заместа аднаго мець некалькі багоў і не мець багатых харомаў, збудаваных у чэсць і хвалу Бога свайго.* Кз, 17. // Каштоўны. *З далёкіх заморскіх старон прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі – шоўкам, бісерам, янтаром ды драгацэннымі скарбамі.* Кз, 17.

◊**Чым хата багата** *гл.* хата.

Адз. м. Н. *багаты* (10): ВН; Нз, 15; СА, 178, 179(2), 180(2), 181(2); Чж, 146. ж. Н. *багатая*: ХБ, 20. Р. *багатай*: ПДз. н. Н. *багатае*: Нз, 15. Мн. Н. *багатыя* (2): Кз, 17; ПЧ. Р. *багатых*: Кз, 17. В. *багатыя* (2): ВСп, 91; Нз, 15. Т. *багатымі*: Кз, 17. Кар. адз. ж. Н. *багата* (4): ВН; СС, 300; Т, 51; ШБСЯ; *богата*: Т, 47. Мн. Н. *багаты*: ВБЛ, 82.

**[БАГАТЫР]** (2) *м.* **1**. *перан. Тое, што* багач. *Купляюць* [маёмасць] *"цёплыя мужычкі" – багатыры, буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэвалюцыю на гарадскім галадаючым насяленні.* ЗС, 18.

**2.** Моцны і адважны чалавек; воін. *Родныя мае, яснавокія багатыры! Патомкі вялікіх салдат Суворава..* РКП.

Мн. Н. *багатыры* (2): ЗС, 18; РКП.

**БАГАЦЕЙ** *прысл. Разм. Выш. ст. да* багата ў 2 *знач. А нашы хаты, нашы сёлы Хай з думкай носяцца аднэй: Як гэта вобшар невясёлы Абхарашыці багацей.* УрП, 50.

**[БАГАЦЕЙШЫ]** (5) *прым.* **1.** *Пар. ст. да* багаты ў I *знач. Гэтым налогам будуць ападаткаваны толькі багацейшыя людзі.* ВН. *Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідіаючы сваіх брацця̆ў слабейшых на здзек і паняверку.* Нз, 14. // *У знач. наз. Хай багацейшые ўкладаюць у гэта грошы, каб бяднейшыя маглі з іх у гэты цяжкі час карыстаць.* ВС.

**2.** *Пар. ст. да* багаты ў 2 *знач. Яго* [краю] *балоты, калі пакуль што не даюць карысьць, нікому не замінаюць, а з часам дадуць багацейшы запас тарфовага апалу.* ХБ, 30.

Адз. м. В. *багацейшы:* ХБ, 30. Мн. Н. *багацейшыя* (4): ВН; ВС; Нз, 14(2).

**[БАГАЦТВА]** *н. Разм. Тое, што* багацьце *ў* 2 *знач. Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначываўся...* Кз, 17.

Адз. Т. *багацтвам*: Кз, 17.

**[БАГАЦЬЦЕ]** (7) *н.* **1.** Матэрыяльныя каштоўнасці, накапленні. *Пасля, Жыды, вы зрэкліся народу, Які вам даў багацьце і прыпын.* Ж. *Засядаць, панаваць на хватаным багацьці, Ня кідае* [другі сын] *за дзьверы надзеі, Хоць мінула даўно яго сьвята па сьвяце..* Ч, 320.

**2.** Мноства чаго-н. *Літва і Беларусь спрадвеку славяцца багацьцем пахучага мёду.* ХБ, 30. // Дастатак. *І расьлі так Мае* [маці] *княжэняты На багацьце, на прыбытак, На вось тое сьвята..* Дз, 188. *Параўн.* багацтва.

**3.** Сукупнасць прыродных рэсурсаў. *А цяпер паслухаем, што кажуць расейцы пра хараство і багацьце нашага краю.* ХВ, 28. *Годзе нам* [беларусам] *сілу прыблудаў вялічыць Дзецьмі, багацьцем радзімай зямлі!* Г, 17.

Адз. Р. *багацьця*: СНБ. В. *багацьце* (3): Дз, 188; ХБ, 28, 30. Т. *багацьцем* (2): Г, 17; ХБ, 30. М. *багацьці*: Ч, 320.

**[БАГАЧ]** *м.* Той, хто валодае вялікім багаццем. *Гналі, высмявалі багачы і князі, – Яго* [Сулеймана Стальскага] *песні-думы былі ім не мілы.* ПСС, 231. *Параўн.* багатыр у 1 *знач.*

Мн. Н. *багачы*: ПСС, 231.

**БАДАЙ¹** *часц. Разм.* Ужываецца пры выказванні пажаданняў. [Ганула]: *А бадай вы пакіслі, мае дзеткі!* Т, 54.

**БАДАЙ²** (8) *пабочн. Разм.* Выказвае дапушчэнне, меркаванне. *Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай*

*у ніводным годзе столькі выкінута з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ.* ВСп, 89. *Дык вось хто, бадай, быў маім* [Купалы] *першым настаўнікам, хутчэй натхніцелем у дачыненья да маёй паэтычнай творчасці.* ПС; ВСп, 90; 3; НДН; 19; СБНГ; Т, 34, 44.

**БАДАЙ[3]** (2) *прысл.* Амаль. *Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то бадай адначасьне на яе аграбленые абшары з вялікім разгонам рынуліся з усходу – расійскіе бальшавікі, з захаду – польскіе нацыяналісты.* СНБ.

◊**Бадай што** – амаль, амаль што. *Мы* [дэлегаты] *бадай што не бачылі па дарозе таварных цягнікоў, калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой.* ПЧ.

**[БАДАНЯ]** (4) *н. Польск.* **1.** Вывучэнне. [Заходні вучоны]: *Мое бадания навуковэ на дзень дзісейшы сон закончонэ.* Т, 27. [Заходні вучоны]: *(запісваючы) ..вбрэв гісторычным, географічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь.* Там жа, 26.

**2.** Апытанне. [Заходні вучоны]: *(Запісваючы ў нататнік упрамежку з Усходнім вучоным). Падчас баданя тубыльцув .. о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39. [Заходні вучоны]: *(запісваючы). Пшы баданю бялорусіна высветлёно надзвычайнон особлівосць..* Там жа, 26.

Адз. Н. *баданя*: Т, 27. Р. *баданя*: Т, 39. М. *баданю*: Т, 26. Мн. Д. *баданём*: Т, 26.

**[БАДЗЁРЫ]** (4) *прым.* Жыццярадасны, энергічны, дзейсны. *Жыццё наша такое бадзёрае, вясёлае, што песні самі на вусны просяцца.* ЖН. *Дзяды, унукі, унучкі – усе паўсталі На вечавы кліч, кліч бадзёры і вялічны, Які нам кінуў правадыр наш родны Сталін.* ПНд, 314.

**Жыццё наша такое бадзёрае, вясёлае, што песні самі на вусны просяцца.**

Адз. м. В. *бадзёры*: ПНд, 314. н. Н. *бадзёрае* (2): ЖН (2). ж. Т. *бадзёрай*: ЖН.

**[БАДЗЯКА]** *аг. Разм.* Бадзяга. *Да хвалы шлях айчыне пакажы* [ваяк], *Змяці з палёў яе чужых бадзяк, На стражы стань гранічнае мяжы...* Пт.

Мн. В. *бадзяк*: Пт.

**[БАДЗЯНЬНЕ]** *н. Дзеянне па дзеяслову* бадзяцца. *У плуг запрог* [сярэдні сын] *свайго браточка На век, да скананння, А мяне* [маці] *асеньняй ночкай Выгнаў на бадзяньне.* Дз, 190.

Адз. В. *бадзяньне:* Дз, 190.

**БАДЗЯЦЦА** (4) *незак.* Весці вандроўнае, без пэўнага занятку і прыстанішча, жыццё. *Атплацілі роднай матцэ Княжэнятыдзеці: Відмай кінулі бадзяцца, Сіратой гібеці.* Дз, 191. *Выгнаў на старасці з хаты сатрапа, Выгнаў бадзяцца галоднаму ў горы..* Бц, 74.

Інф. *бадзяцца* (4): Бц, 74; Дз, 190, 191; ХБ, 28.

**БАДЗЯЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* бадзяцца. *Усе дзіцячыя гады і маладосць правёў* [Купала], *бадзяючыся па Барысаўскаму і Мінскаму паветах.* А, 327. *Параўн.* блукаючыся.

**[БАЕЦ]** (7) *м.* Воін, удзельнік бою. *Гордасцю напоўнілася маё сэрца, калі я* [Купала] *даведаўся, што байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор .. самураям.* ВГ. *І пайшло ў паходы войска Полем, лугам, борам, А байцоу, як зор на небе, Як пясчын у моры!* ЗЯЗ, 90.

**∆Байцы-пагранічнікі:** *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі ..мужна адстойваюць кожную пядзь свяшчэннай зямлі.* ВГ.

Мн. Н. *байцы* (4): ВГ (3); СС, 302. Р. *байцоў* (2): ЗЯЗ, 90(2). Т. *байцамі:* Ф.

**[БАЖОК]** *м. Памяш. да* бог. *Іран.* Ідал... *на сьцюдзёных галодных раўнінах неабнятай тундры набожны шаман муштруе бажкоў сваіх..* З.

Мн. В. *бажкоў:* З.

**[БАЖЫШЧА]** *н. Павел. да* бог. Ідал. *Мы не пакінем свае папялішчы, З сьцежкі – наперад, ня пойдзем назад. Сьмела здрузгочам старыя бажышчы, Новым законам збудуем пасад.* Г, 17.

Мн. В. *бажышчы:* Г, 17.

**[БАЗА]** *ж.* Аснова чаго-н. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны* [нацыянал-дэмакраты] *разбурэньню таго адзінства, тае інтарнацыянальнай базы, на грунце якое працоўныя масы .. ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ.

Адз. Р. *базы:* АЛ.

**[БАІЦЬ]** (3) *незак. Разм.* **1.** Спяваць песні, расказваць казкі. *Край, дзе жыццё я* [Нёман] *свае пачынаю, Шмат весялей прыглядаўся на свет, Песні і казкі інакшыя баіў, Шчасце цвіло ў ім, як макавы цвет.* Н. *Бай* [маці] *яму* [сыну] *даўнейшы казкі Аб бацькох сваей зямлі, Як жылі бяз чужой ласкі, Як слугамі не былі.* М, 19.

**2.** Гаварыць, паведамляць. *Баіць, гнучы шыі. Паднявольны люд: Мы ў сваім чужыя – Край забраны тут!* МД.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *баіць:* МД. Пр. адз. м. *баіў:* Н. Заг. адз. 2 ас. *бай:* М, 19.

**[БАЙКА]** *ж. перан. Разм.* Выдумка. .. *а калі яшчэ дзе-не-дзе і зьвіняць яны* [лозунгі], *то толькі, як байкі для простых людзей,*

*як абяцанкі, якім ужо ніхто ня верыць.* СНБ.

Мн. Н. *байкі:* СНБ.

**[БАЙНІЦА]** *ж. Ваен.* Амбразура. *Не стане тых меж і граніц, Што дзеляць народы сабой, Заціхнуць гарматы байніц, Не ўгнояцца нівы крывёй.* ТП, 216.

Мн. Р. *байніц:* ТП, 216.

**БАЛАБОСТА** (2) *аг. Наватв.* Балаболка, пустаслоў. [Мікіта]: *Гутатахт, балабоста прусіш!* [Спічыні]: *І зусім не балабоста, а фрау ... Паўтарыце: фрау..!* Т, 31.

Адз. Н. *балабоста* (2): Т, 31 (2).

**БАЛАБОСТАЧКА** *м. Ласк. да* балабоста. [Мікіта]: *Оей! гэр гэрманіш, кіндар фатэрлянд! балабостачка мой ненаглядны!* Т, 33.

Адз. Н. *балабостачка:* Т, 33.

**БАЛАЛАЙКА** (8) *ж.* Народны струнны музычны інструмент. *Той самы, што ў першай дзеі, Мікітавы пакой. Вісіць балалайка.* Т, 43. [Дама]: *Тады дазвольце* [Мікіта] *мне балалайку.* Там жа, 51.

Адз. Н. *балалайка* (3): Т, 19, 43, 45. В. *балалайку* (3): Т, 29, 51, 52. М. *балалайцы* (2): Т, 29, 52.

**[БАЛАМУЦЕНЬ]** *м. Разм.* Баламут. *Калі гэтаго дружна зажадаюць два мільёны беларусоў-каталікоў, яны могуць дабіцца свайго; калі-ж будуць спаць і верыць розным баламутням, іх заклююць..* ВР.

Мн. Д. *баламутням:* ВР.

**БАЛАТЫРАВАЦЦА** *незак. Кніжн.* Балаціравацца. *Вылучаючы Вас, таварыш Ежоў кандыдатам у Вярхоўны Совет СССР, мы просім даць сваю згоду балатыравацца па Менскай выбарчай акрузе.* НКУС.

Інф. *балатыравацца:* НКУС.

**[БАЛЕСНЫ]** (2) *прым. Разм.* **1.** Хваравіты, пакутлівы. *Заместа прыбітых балесных жанок Стаханаўкі выраслі ў нашай краіне..* ПБН.

**2.** Балючы, нясцерпны. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі І аб сьценку біўся ад балеснай мукі, – Хто сушыў у няволі люд наш працавіты..* К.

Адз. ж. Р. *балеснай:* К. Мн. Р. *балесных:* ПБН.

**[БАЛЕЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Адчуваць боль чаго-н. *Сама бабуля ведае, што хвора, Што баляць ёй грудзі.* Вб, 237.

◊**Галава баліць** *гл.* галава.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *баліць:* Т, 44. Мн. 3 ас. *баляць:* Вб, 237.

**БАЛОТА** (16) і *разм.* **БАЛОТО** *н.* **1.** Нізкае багністае месца. *А нашы балоты! Клялі іх калісьці. Сягоння – наш скарб яны, спраўджаны сон.* ПБН. *На месцы некалі гнілых, дрыгвяных балот вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцыі.* АЛ. *Параўн.* блото.

**2.** Маральнае падзенне, спусташэнне, застой. *Ды гэта ж, людзі мае, гразь і балота такое самае, якога не было навек на Усходзе, у рабочай Маскоўшчыне за часоў Івана Грознага.* Тж, 15. *Закалыхалася тады магутнае балото расійскай непраглядңай сучасьнасьці, закалыхалося і .. прыціхло.* 3.

◊**Змешаны з балотам** *гл.* змешаны. **Кідаць балотам** *гл.* **кідаць**.

Адз. Н. *балота* (3): Т, 47; Тж, 15; ХБ, 27; *балото:* 3. Р. *балота:* 30, 17. Т. *балотам* (4): 3(2); ЗК, 42; ЧЧШ. М. *балоце* (2): АЛ; Т, 47; *балоці:* ХЛБ. Мн. Н. *балоты* (2): ПБН; ХБ, 30. Р. *балот* (2): АЛ; ПБН. В. *балоты:* ВВ, 16.

**БАЛЬ** (6) *м.* Вечар з танцамі і забавамі. [Янка]: *Гучны, як уважаю, баль у вас* [Мікіты] *будзе.* Т, 21. [Наста]: *На баль як на баль, а з гасцямі спаткацца прыйдзецца, дык чаму ж крыху і не падңядзеліцца?* Там жа, 24.

∆**Баль-маскарада** – касцюміраваны вечар з танцамі. [Мікіта]: *Але і мамзэль Наста, меджду протчым, сягоння падфуфырылася, як на баль-маскараду ў Белую залу.* Т, 24.

Адз. Н. *баль* (2): Т, 21, 27. В. *баль* (3): Т, 24(3). Мн. Н. *балі:* Т, 24.

**[БАЛЬНІЧНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да бальніцы. [Купала]: *Так сама дзякую ад усёй душы ўсім сёстрам бальнічным..* ЛР.

Мн. Д. *бальнічным:* ЛР.

**[БАЛЬНІЦА]** (4) *ж.* Установа для стацыянарнага лячэння хворых. [Купала]: *Не магу таксама ня ўспомніць добрым словам .. проф. Іваноўскага, Б. Тарашкевіча, Ясінскага, Ерохава і інш., што сваімі рукамі на насілках занесьлі мяне з кватэры аж у бальніцу.* ЛР. *І цяпер ў гарадзкой бальніцы, Грудзі прабіты штыхом – І яму* [сыну] *нічога ня сьніцца – Ані ты* [маці] *ні бацька, ні дом.* ВБЛ, 82.

Адз. В. *бальніцу:* ЛР. М. *бальніцы* (3): ВБЛ, 82; ЛР (2).

**БАЛЬШАВІК** (22) і **БОЛЬШЭВІК** (9) *м.* Член бальшавіцкай партыі; паслядоўнік бальшавізму, камуніст. [Гануля]: *А калі бальшавік, дык што? Бальшавік таксама чалавек.* Т, 22. *Таварышы! Зняць шапкі над жывой магілай! Хаваюць, ведайце, большэвіка большэвікі.* СК, 158.

**Цуда, створанае бальшавікамі**. (Уражанні ад паездкі на Беламорска-Балтыйскі канал).

∆**Беларус-бальшавік** *гл.* беларус.

Адз. Н. *бальшавік* (2): Т, 22 (2); *большэвік:* Т, 52. В. *бальшэвіка:* СНБ, 338; *большэвіка:* СК, 158. Мн. Н. *бальшавікі* (10): БВ, 16; БС (3); СНБ (6); *большэвікі* (3): ДЖ; Ш; СК, 158. Р. *бальшавікоў* (5): Ан, 19; БС (2); СНБ, 340; СНБ; *большэвікоў* (4): ВГР; ПБН; ЦСБ; ШБСЯ. Д. *бальшавікам:* Ан, 19. Т. *бальшавікамі* (3): БВ, 16, 17; ЦСБ.

**[БАЛЬШАВІЦКІ]** (11) і **[БОЛЬШЭВІЦКІ]** (3) *прым.* Які мае адносіны да бальшавікоў, бальшавізму. *Кампанія гэта нам зразумела, бо гэту рэформу зацвердзіў совецкі ўрад, за гэту рэформу стаяла наша большэвіцкая партыя.* ШБСЯ. *Немец гаспадарыў, як сам хацеў над намі, над нашым дабром – ня горай навет ад царскіх і бальшавіцкіх гаспадароў, а мы* [беларусы] *што рабілі?* БС.

Адз. м. Р. *бальшавіцкага:* СНБ, 337. В. *бальшавіцкі:* СНБ, 338. Т. *бальшавіцкім:* Т, 22. ж. Н. *бальшавіцкая:* СНБ, 338; *большэвіцкая:* ШБСЯ. Р. *бальшавіцкай:* СНБ, 339; *большэвіцкай:* ЖН. В. *большэвіцкую:* ЦСБ. Мн. Н. *бальшавіцкія:* СНБ; *бальшавіцкіе:* БС. Р. *бальшаівцкіх* (3): БС; СНБ, 337, 339. Т. *бальшавіцкімі:* СНБ, 338.

**БАЛЮЧА** (2) *прысл. да* балючы. *Балюча і цяжка усьведамляць мне сёньня, што я* [Купала] .. *не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму. Балюча і цяжка.* АЛ.

**БАЛЮЧЫ** (3) *прым. перан.* Душэўна неспакойны. *Праўда, да асеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты сум такі ціхі, такі нячутна далікатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29.

◊**Балючае пытанне** *гл.* пытанне.

Адз. м. Н. *балючы*: ХБ, 29. н. Р. *балючага*: НДН, 18. Мн. В. *балючыя:* ЗС, 17.

**БАЛЯВАЦЬ** *незак. перан.* Чыніць расправу, разгул. *Годзе піць, балявацъ На чужым прыселлі, Наш народ частаваць Атручаным зеллем.* ПД, 83.

Інф. *баляваць:* ПД, 83.

**[БАМБАВОЗ]** *м. Ваен.* Самалёт-бамбардзіроўшчык. *На бой з ворагам уздымуцца нашы бясстрашныя знішчальнікі і бамбавозы.* ВГ.

Мн. Н. *бамбавозы:* ВГ.

**БАНДА** (5) *ж.* Злачынцы, разбойнікі. *Больш на нас не рыне банда Ашалелай сукай, З-за вугла нас не падсочыць Подлая гадзюка.* НК. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў..* МП.

Адз. Н. *банда:* НК. Р. *банды:* МП. Мн. Р. *банд:* НДп, 229. Д. *бандам:* ПНд, 314. В. *банды:* ХЛВ, 316.

**[БАНДЫТ]** *м.*: ∆**Фашыст-бандыт** *гл.* фашыст.

Мн. Н. *бандыты:* ПБН.

**[БАНДЫЦКІ]** *прым.* Які належыць бандыту. .. *п'яныя дзікуны*

*па ўказцы свайго звар'яцелага бандыцкага атамана па-зверску знішчаюць усё тое, што пабудавана намі* [савецкімі людзьмі].. РКП.

Адз. м. Р. *бандыцкага:* РКП.

**[БАНКЕТ]** *м. перан.* Разгул рэакцыі. *Над пакаленьнем неакрэпшым, Над бедным краем-сіратой Груган з начніцаю сьляпою Банкет спраўляюць чорны свой.* РС, 40.

Адз. В. *банкет:* РС, 40.

**[БАНЧАК]** (2) *м. Польск. перан.* Гандлёвы ларок. *Гэтые дзьве ўстановы і як ешчэ могуць прыйсьці на помач бяднейшым селянам, толькі трэба, каб і самі селяне .. закладалі новые такіе крамы і банчакі.* ВС. *Ешчэ трэба сказаць тут аб хаўрусных крамах і банчаках па вёсках.* Там жа.

Мн. В. *банчакі:* ВС. М. *банчаках:* ВС.

**БАРАДА** (6) *ж.* **1.** Пярэдняя частка ніжняй сківіцы. *Заходні вучоны – носіць польскі строй – кунтуш і "конфедэратку", барада голеная, вусы завесістыя.* Т, 19. *Гэнрых Мотавіч Спічыні – Мікітавы настаўнік, сярэдняга веку, бараду і вусы голіць.* Там жа.

**2.** Валасяное покрыва ніжняй часткі твару. [Аленка]: *І вы гэта, пане рэгістратар, так да сэрца ўзялі, што ажно барада ў вас вырасла, бо дагэтуль, здаецца, вы не насілі яе.* Т, 59. *Мікіта меціцца бегчы з настаўленымі рэвальверамі ў дзверы, але ўваходзяць: .. Начальнік патруля, Два патрульныя, Грамадзянін, у якога выразана кусок барады, і Спічыні.* Там жа.

Адз. Н. *барада* (4): Т, 19(3), 55. Р. *барады:* Т, 59. В. *бараду:* Т, 19.

**БАРАДАТЫ** *прым. да* барада ў 2 *знач. Мікіта Зносак (Нікіцій Зносілов) – калежскі рэгістратар, 25–28 г., у першых трох дзеях барада выгалена, у 4-й крыху барадаты.* Т, 19.

Адз. м. В. *барадаты:* Т, 19.

**БАРАН** (2) м. Самец авечкі. .. *авечку стрыгуць, а цякун (баран) дрыжыць.* СП.

◊**Як баран над студняй** – пра чалавека, які нічога не разумее. [Мікіта]*: А то круці галавой над языкамі, як баран над студняй.* Т, 48.

Адз. Н. *баран* (2): СП; Т, 48.

**[БАРАНА]** *ж.* Землеапрацоўчая прылада для разрыхлення глебы. *Але абрабляюць глебу сяляне старанна: за баронамі ідуць з адмысловымі даўбежкамі..* ПЧ.

Мн. Т. *баронамі:* ПЧ.

**БАРАНІЦЦА** (3) *незак. Разм.* Засцярагаць сябе ад каго-н. *Сваякі – усе і суседзі – Ніхто дома з іх ня ўседзеў, Выйшлі ўсе аднэю радай – Бараніцца ад нападу. Бараніцца, бараніцца!* ГЖУ.

Інф. *бараніцца* (3): ГЖУ.

**БАРАНІЦЬ** (17) *незак.* **1.** Абараняць. *Гэй, паехаў сын Даніла Ваяваць на вайну, Ад нападу, ад няволі Бараніць старану.* ПСД. [Мікіта]: *Мы цвёрда стаялі на варце святога расійскага самаўладства і баранілі тутэйшую расійскуго народнасць ад "інародчаскага засілля".* Т, 21.

**2.** Засцерагаць. [Янка]: *Мы* [беларусы] *баронім саміх сябе ад вашай* [расійскай] *навалы.* Т, 21.

**3.** Ахоўваць. *Але паслухай* [беларус], *што лес кажа: Я бараніў твой дух ад плесні, Аб думы шчыра твае дбаў..* БрБ, 6.

◊**Барані божа** *гл.* бог.

Інф. *бараніць* (6): БВ, 17 (2); БСУ; ЕЯП; ПСД; Т, 21. Абв. цяп. мн. I ас. *баронім* (4): ГЖУ (3); Т, 21. Пр. адз. м. *бараніў:* БрБ, 6. ж. *бараніла:* БВ, 16. Мн. *баранілі* (3): Т, 21(3). Заг. адз. 2 ас. *барані* (2): ДК; МІ, 17.

**БАРАЦЬБА** (7) *ж.* **1.** Змаганне супрацьлеглых сіл. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства, устоі векавечнай цемры, няволі.* ДЖ. *Арэнай такой клясавай барацьбы зьяўляецца, зразумела, і БССР.* АЛ.

**2.** Актыўная дзейнасць за дасягненне мэты. *Наша паездка ў Чэхаславакію была .. маніфестацыяй дружбы і супрацоўніцтва Чэхаславакіі і СССР у справе барацьбы за мір, у справе абароны агульначалавечай культуры.* ПЧ. *На аснове ўсіх нечуваных дасягненняў вырасла і адточваецца адзін з важнейшых сродкаў партыі ў барацьбе за соцыялізм – беларуская мова.* ШБСЯ. // Дзейнасць на пераадоленне чаго-н. *Слава іх* [сыноў Беларусі] *радуе сэрцы мільёнаў і заклікае да такога-ж гераізму, да такой-жа барацьбы са стыхіяй на карысць нашай непераможнай сонечнай радзімы..* СБ.

Адз. Н. *барацьба* (2): АР; ДЖ. Р. *барацьбы* (9): АЛ (4); ЖН; МІ, 17; ПЧ; З; ШБСЯ. Д. *барацьбе:* Г, 17. Т. *барацьбой:* БН, 91. М. *барацьбе* (4): АЛ; ПБН; РКП; ШБСЯ.

**[БАРБАР]** *м. Польск.* Варвар. *Ужо раз палякі загналі Беларусь у рукі маскоўскага барбара, – ці ня робіцца гэта й цяпер?* ОШМ.
Адз. Р. *барбара:* ОШМ.

**БАРДЗО** (2) *прысл. Польск. Тое што*, вельмі. [Заходні вучоны]: *(да Янкі). Бардзо на часе, жэ пан обэцным ест.* Т, 47. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім). Цо сень тычы граніц палітычных краю, то взглендэм іх у месцовэй людносці вшэхпольскей пшэд ставене бардзо не яснэ.* Там жа.

**[БАРМАТАЦЬ]** (2) *незак. Руск. перан.* Назойліва паўтараць што-н. *"Gazeta" бармоча: Нех бэндзе ён* [беларус] *ляхам, А "Вестник" – пусьць лучша Маскоўскім прот шляхам!* Х. – *Ух-ці! – бармоча* [дзяк], *цалуючыся з сялянамі сваей вёскі, – які не разьвіты народ вы, мужыкі!* З.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бармоча* (2): 3; Х.

**БАРОНЭСА** *ж.* Баранеса. [Спічыні]: *(чытае). "Баронэса Шпацэрзон, ганаровы член Менскай дабрачыннасці".* Т, 61.

Адз. Н. *баронэса:* Т, 61.

**БАРЫНЬКА** *ж. Руск. Ласк. Жан. да* барын. *Падходзь жа, паночку: знімі акуляры – Лепш будзе агледзіць пакупку; Ты, барынька, так жа падбліжся!..* Р.

Адз. Н. *барынька:* Р.

**[БАСЕЙН]** *м.* Водная прастора. [Усходні вучоны]: *Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна – есть суша і водныя басейны..* Т, 47. *Параўн.* водозбёр.

Мн. Н. *басейны:* Т, 47.

**[БАСОТА]** *ж. зб. Абразл.* Басата. [Мікіта]: *Я не цямняк, пане ... пане дырэктар беларускай басоты.* Т, 22.

Адз. Р. *басоты:* Т, 22.

**[БАСТЫЁН]** *м. перан.* Заваяванне, дасягненне. *Шкодніцтва, дывэрсія, шпігоўства, інтэрвенцыя, – усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя..* АЛ.

Мн. В. *бастыёны:* АЛ.

**БАСЯК** *м.* Абадранец. [Дама]: *У вас, мусье рэгістратар, фасон касцюму, як і ў мяне з іх родзіем, – а ля-ба-сяк.* Т, 58.

Адз. Н. *ба-сяк:* Т, 58.

**[БАТРАЦТВА]** *н. зб.* Батракі. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і паднявольле батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі ..* АЛ.

Адз. Р. *батрацтва:* АЛ.

**[БАЦЕЧКА]** *м. Ласк. да* бацька. *У знач. выкл.* Перадае спалох. [Гануля]: *Матачкі мае родныя, бацечкі мае хрышчоныя! Ратуйце! Немец Мікіту ў палон цягне!* Т, 33.

Мн. Н. *бацечкі:* Т, 33.

**БАЦЬКА** (29) *м.* Мужчына ў адносінах да сваіх дзяцей; тата. *Памятаю яшчэ ў Прудзішчы, калі бацька пасылаў мяне* [Купалу] *з сястрой на начлег пасвіць коней, я браў з сабой кнігі..* ПС. *Недаўна Грыцко памёр, а беднаму дзицяци прышлося исьци на вулицу поки доля изноў не зьвязала яе з бацькам и маткаю.* ПДз. // Вядомая і паважаная асоба. [Мікіта]: *Пане настаўнік, бацька беларус! Выбаўляй з ягіпецкай няволі!* Т, 33. *Слава нашаму вялікаму Сталіну – бацьку і настаўніку народаў!* ВНЗ.

**Бацька. Будзь здаровы бацька, маці...**

Адз. Н. *бацька* (20): А, 327, 328(5); Бц, 73; БЗ; ВБЛ, 82; ВМ, 72; ЗК, 42; ЗЯЗ, 89; Н; ПС (2); Т, 25, 33, 38, 43; Ч, 323. Р. *бацькі*

(3): А, 328 (3). Д. *бацьку:* ВНЗ. В. *бацьку* (3): А, 327; Н; Т, 36. Т. *бацькам* (2): ПДз; Т, 20.

**[БАЦЬКАЎ]** (4) *прым.* Які належыць бацьку. *У якой мове трэба вучыць дзяцей рэлігіі? .. ў роднай мове вучнёў – тэй гуторкай, якую яны змалку чуюць у бацькавай хаці.* ВР. *Дні за днямі, гады за гадамі плятуцца... Ўжо збываюцца бацькавы словы!* Ч, 320. *Параўн.* бацькаўскі.

Адз. м. В. *бацькавы:* Ч, 323, ж. В. *бацькаву:* Т, 20. М. *бацькавай:* ВР. Кар. мн. Н. *бацькавы:* Ч, 320.

**[БАЦЬКАЎСКІ]** *прым. Тое, што* бацькаў. *Ці над бацькаўскай магілай Жаліцца сіротка, Ці сваёй шукае мілай Хлопец-адзінотка?* Дз, 187.

Адз. ж. М. *бацькаўскай:* Дз, 187.

**БАЦЬКАЎШЧЫНА** (21) і **[БАЦЬКОЎШЧЫНА]** (3) *ж.* Месца, дзе нарадзіўся чалавек .. *справа вызвалення Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным паднявольлем.* СНБ. *Хай кожны беларус цьвёрда верыць, што завяруха ваенная так ці сяк скончыцца, і што для яго самаго і для яго бацькоўшчыны прыдзе лепшая доля, лепшая слава.* ВС. *Параўн.* айчына, ацечаства.

Δ**Бацькаўшчына-Беларусь**: *Усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, .. усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць і кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай бацькаўшчыны-Беларусі.* НДН, 19.

Адз. Н. *бацькаўшчына* (2): СНБ, 336; СНБ. Р. *бацькаўшчыны* (12): БВ, 16; БС; ВМР; ДД; Р; ЖН; МІ, 17; НДН, 19; ПЧ; СБНГ; СНБ, 340; СНБ; *бацькоўшчыны* (2): ВС (2). Д. *бацькаўшчыне:* Пт. В. *бацькаўшчыну* (4): Нз, 14; Пт; ПЛП; СНБ. Т. *бацькоўшчынай*: РКр. М. *бацькаўшчыне* (2): АБ, 16(2).

**БАЦЬКІ** (12) *толькі мн.* **1.** Бацька і маці ў адносінах да сваіх дзяцей. [Гарошка]: *Так яно, так. Але найчасцей ад гэтага шуму нам, бацьком, галава баліць.* Т, 44. [Янка]: *Надовечы я атрымаў ліст з вёскі ад сваёй быўшай вучаніцы, у якім піша яна, што з бацькамі сваімі прыедзе ка мне ў госці.* Там жа, 23.

**2.** Продкі. [Пан]: *Ой, часы, часы! Весялей жылі нашы бацькі.* Т, 28. *Бай* [матка] *яму* [сыну] *даўнейшы казкі Аб бацькох сваёй зямлі, Як жылі бяз чужой ласкі, Як слугамі ня былі.* М, 19–20.

Н. *бацькі* (4): Мц, 74; Т, 28(2), 48. Р. *бацькоў* (3): В; ДК (2). Д. *бацьком* (2): ДК; Т, 44. Т. *бацькамі*: Т, 23. М. *бацьках*: Т, 20; *бацькох*: М, 19.

**БАЦЬКОЎСКІ** *прым*. Звязаны з бацькаўшчынай. *Хто крыўляў нам праўду, Застаўляў у прыгоне Бежанцамі гінуць на бацькоўскіх гонях.* К.

Мн. М. *бацькоўскіх:* К.

**БАЦЬКОЎШЧЫНА** *гл.* **БАЦЬКАЎШЧЫНА**

**БАЦЮШКА** (6) *м. Разм.* Поп. [Мікіта]: *Калі з мадамай зойдзе гутарка, то не кажэце* [Гануля] *– панечка, а мадам-сіньёра, калі з папом, то – не бацюшка, а ацец духоўны..* Т, 22. [Гануля]: *І чаго бацюшка палез у гэтую палітыку.* Там жа: 58.

Адз. Н. *бацюшка* (5): Т, 28, 38, 58(3). В. *бацюшка*: Т, 22.

**[БАЦЯЎ]** (2) *прым.* Які належыць Бацю. *Вы можаце, напрыклад, убачыць вясёлы, камедыйны фільм, праз які выразнай ніткай "шчасця" праходзяць... бацявы боты.* ПЧ. *Так, знясільваючая праца бурлакоў робіцца проста святочнай, калі бурлакам падаруюць гумавыя бацявы боты – бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць.* Там жа. Параўн. бацяўскі.

Кар. мн. Н. *бацявы:* ПЧ. В. *бацявы:* ПЧ.

**[БАЦЯЎСКІ]** *прым. Тое, што* бацяў. *Каханне хлапца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюцца набыць чаравікі бацяўскага вырабу.* ПЧ.

Адз. м. Р. *бацяўскага:* ПЧ.

**[БАЧАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* бачыць. *У знач. наз.* Пра што-н., успрынятае зрокам. *Я* [Купала] *яшчэ не паспеў сістэматызаваць усяго матэрыялу, таму толькі з большага раскажу пра бачанае, чутае.* ПЧ.

◊**Дзе-ж то бачана** – выражае здзізіўленне, незадавальненне чым-н. *Дзе-ж то бачана да нашых дзён, Каб дзяўчына лезла ў рукі сама..* ВБЛ, 83.

Адз. н. В. *бачанае*: ПЧ. Кар. адз. н. Н. *бачана:* ВБЛ, 83.

**БАЧАЧЫ** (2) *дзеепрысл.* **1.** *Дзеепрысл. да* бачыць у 1 *знач.* *Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, .. бачачы сваімі вачыма іхнія .. ўстаноўкі і мерапрыемствы.. я* [Купала] *ня толькі ні разу не асудзіў іх, але наадварот, маральна падтрымліваў і дапамагаць іх рэалізацыі.* АЛ.

**2.** *Дзеепрысл. да* бачыць у 4 *знач. І вось трэба увайці ў палажэньне шчырага беларускага грамадзяніна: што такі чалавек павінен быў перацярпець у сваёй душы, бачачы гэту нібы зьнявагу.* СБНГ.

**БАЧЫЦЦА** (3) *незак.* **1.** Сустракацца. [Янка]: *(вітаючыся з Гануляй). Як жывеш, цётачка? Даўненька ўжо мы з вамі не бачыліся!* Т, 44. [Янка]: *І ні колькі лет і ні колькі зім, а ўсяго восем месяцаў, пане рэгістратар, як мы бачыліся.* Там жа, 45.

**2.** Успрымацца зрокам. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні.. да ніў родных, .. гдзе жоўтая сьвірэпка, гдзе грэчка бяленька, Гдзе дзяцеліна гарыць, вось красна паненка, А ўсё мяжой прыбіта бачыцца істужкай..* ХБ, 28.

Інф. *бачыцца:* ХБ, 28. Абв. пр. мн. *бачыліся* (2): Т, 44, 45.

**БАЧЫЦЬ** (88) *незак.* **1.** Успрымаць зрокам. *Ляглі нязгледжаныя далі (Як сокал бачыць мог я ўсё), Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыцьцё.* УрП, 46. *Шоў* [ўнук] *цераз сад, дзе валялася ўволю На зямлі яблык. Іх бачыў без свечкі.* Ун, 73.

**2.** Сустракаць каго, што-н. [Ануля]: *Добра ж, калі хто са знаёмых не бачыў, а йначай пойдзе чутка, што і мой сын у грабежнікі ўпісаўся – а яшчэ чыноўнік скажуць!* Т, 57. *З вокан вагона мы* [дэлегаты] *не бачылі ніводнай грузавой машыны.* 114.

**3.** Уяўляць у думках. *Цяпер то, як ты* [Беларусь] *красна, я* [Міцкевіч] *чую, я бачу, – І апішу, бо усьпяж па табе плачу.* ХБ, 28. *Аўтарнік тайную малітву Паціху над людзьмі тварыў, – Ён бачыў будучыя бітвы, Ён новых ворагаў адкрыў.* УрП, 51.

**4.** Звяртаць увагу, заўважаць. *Не бачыць* [наш росквіт] *толькі той, хто вораг нашага новага шчаслівага жыцця..* ДЖ. *І што ж мы бачым сягодня? Сягодня ідзе паганы торг за ідэі, за праўду векавечную, агульналюдскую.* Тж, 15. *Параўн.* відзець.

**5.** Усведамляць, разумець, адчуваць. *Цяпер я* [Купала] *бачу ўсю шкоднасьць і гібельнасьць таго шляху, па якім памыкаліся беларускія нацыянал-дэмократы павярнуць ход гісторыі.* АЛ. *Ён* [абывацель] *бачыць, што беларушчына не ў пашане, і гэтага досыць, каб не пайсці за ёю.* ВМР. // Бываць дзе-н., знаёміцца з чым-н. – *Ци ты* [мужык] *бачыў кали слабоду? – пытае адзін мужык другога. – Бачыў, кажэ други. – Ну, а як яна выглядае?.. – Стаіць у нейким балоци.* ХЛБ. *Тое, што мы* [дэлегаты] *бачылі – выдатна. Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ.

**6.** Выяўляць, знаходзіць. *Я* [маці] *на гэтым на кургане Ўсё сяджу і плачу, Усё чэкаю зьмілаваньня, Дый ні скуль не бачу.* Дз, 191. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны, у якой народ Чэхаславакіі бачыць адзінага абаронца міру і цывілізацыі, мы* [дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах у магістратах..* ПЧ.

**7.** *У знач. пабочн.* Падкрэслівае які-н. факт. *Бо, бачыш, у нас наборшчыкі наконта беларускага пісьма, дык ні бэ, ні мэ.* Ан, 18. [Мікіта]: *Зменяцца палітычныя сытуацыі, атрымаю ад начальства асэсарскую рангу, і мамзэль Наста будзе маёй, бо асоба, як бачыце, спрытная.* Т, 23.

◊**Вось бачыце** – ужываецца пры выказванні папроку. *Гэта ўраз жэ падхватываюць палякі, .. на розныя тоны галосяць: "вось, бачыце, да чаго даводзіць беларушчына: вас* [беларусаў] *прымусяць вучыцца па расейску!"* ВР. **Што я бачу!** – ужываецца пры

выказванні здзіўлення, радасці ад сустрэчы з кім-н. [Немец]: *О-о! Што я бачу! Рыхтык рускі генэрал.* Т, 32. **Як бачыце** – як пацвярджэнне пры адказе – так, але. [Гарошка]: *(пабачыўшы Мікіту). І вы тут, ды яшчэ з парасонам?* [Мікіта]: *Як бачыце!* Т, 37.

Інф. *бачыць* (4): ВМР; СНБ; УрП, 46; ХЛВ. Абв. цяп. адз. І ас. *бачу* (14): АЛ; АПЖ; Дз, 191; Н; Т, 21, 24, 32, 37, 39, 45, 51, 52, 57; ХБ, 28; 2 ас. *бачыш* (6): Ан, 18, 19; ЕЯП (2); Ч, 323(2). 3 ас. *бачыць* (6): ВМР (2); ДЖ (2); ОШМ; ПЧ. Мн. І ас. *бачым* (17): БВ, 16; БС (2); ВН (2); ВСп, 90, 91; МІ, 17; Нз, 15(2); НДН, 18; ПЛП; СНБ, 336; СНБ; Т, 35; Тж, 15; ШБСЯ; *бачыма*: СНБ. 2 ас. *бачыце* (11): ВР; Т, 19, 20, 23, 25, 33, 35, 37, 45, 46, 58. 3 ас. *бачаць* (4): СС, 302(2); ТП, 215; ХБ, 27; *бачуць*: ВР. Пр. адз. м. *бачыў* (18): ЗЯЗ, 90; СЗГ, 252; Н; Т, 29, 45, 48, 55(2), 57, 60; Ун, 73; УрП, 51; ХБ, 29(2); ХЛБ (2); Ч, 322(2). ж. *бачыла* (3): КП, 170; ПН, 46; Т, 60. Мн. *бачылі* (3): ПГ; ПЧ (2).

**БАЮ-БАЙ** *выкл.* Прыпеў пры закалыханні дзіцяці. *Ты гадуй сынка, матуля, У пялёнкі спавівай, Калышы, пей люлі-люлі, Пей паціху баю-бай!* М, 19.

**БАЮЧЫСЯ** (3) *дзеепрысл. да* баяцца. *Антанта, .. баючыся, значыцца, усяго гэтага, .. прызнала Пятлюру, Ульманіса, Тарыбу, навет беларускую раду і загадала ім усім скасаваць Калчака..* Ан, 19. [Аленка]: *Бачыце, немцы яго* [татку] *ў абоз пагналі, дык мы* [Янка і Алёнка], *баючыся, каб яго ў Нямеччыну не загналі, паехалі ўслед на падмогу.* Т, 35. УПУВ.

**[БАЯВЫ]** *прым.* Ваенны. *Назіральнік сядзеў на кашлатай яліне і вымаўляў незвычайныя для баявой абстаноўкі словы..* ПСп.

Адз. ж. Р. *баявой:* ПСп.

**БАЯН** *м. Гіст.* Паэт, пясняр. *Паўстань з народу нашага пясняр, Былых і будучых вякоў баян..* Пт.

Адз. Н. *баян:* Пт.

**БАЯРСТВА** (4) *н., зб. Гіст.* Баяры, баярскае саслоўе. *Масы, народ землябробны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі.* Нз, 14. *Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру.* Там жа.

Адз. Н. *баярства* (4): Нз, 14 (4).

**БАЯЦЦА** (12) *незак.* Адчуваць страх; асцерагацца, апасацца. *Ён* [Сталін] *дзяржаваю кіруе, Ў крыўду не падасца. Люд рабочы яго любіць, Ворагі баяцца.* НК. *Яны* [царскія сатрапы] *душылі маю* [Купалы] *песню, баяліся, каб яе не пачуў народ.* ГВУ. // Трывожыцца, непакоіцца. *На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, .. але гэтага няма чаго баяцца.* ПЛП. [Янка]: *Баюся, што гэта мудрасць дасць вам* [Мікіту] *чэк на свабоднае месца ў Менскім астрозе.* Т, 36. // Пазбягаць чаго-н. непрыемнага.

*Гэтага трэба як найболей баяцца, і з лёзунгам змаганьня з рэакцыяй ісьці ў гэты новы год*. СНБ.

Інф. *баяцца* (2): ПШ; СНБ. Абв. цяп. адз. I ас. *баюся* (2): Т, 36, 56. 3 ас. *баіцца* (4): ВМР (2); ОШМ (2). Мн. 3 ас. *баяцца*: НК. Пр. мн. *баяліся* (2): ГВУ; СНБ, 340. Заг. мн. 2 ас. *бойцеся*: Р.

**[БЕГ]** *м*.: ◊**З бегам ночак** – у начны час. *Над калыскай з бегам ночак Песьні роднай не жалей* [маці], *Каб, як вырасьце сыночак, Верным вечна ён быў ей.* М, 19.

Адз. Т. *бегам*: Т, 19.

**БЕГАМ** *прысл.:* ◊**Бегам бегчы** *гл.* бегчы.

**БЕГАТНЯ** *ж. Разм.* Беганіна. *Паміж Мікітавымі гасцямі перапуд і бегатня.* Т, 52.

Адз. Н. *бегатня:* Т, 52.

**[БЕГАЦЬ]** (2) *незак.* Хутка рухацца, перамяшчацца ў розных напрамках. *Мікіта хапае ў Дамы рэвальверы ў абедзве рукі за рулькі, секунду-другую бегае па хаце..* Т, 59. *Калі возьмеш першае і другое сьледам: – Што калісьці бегало, цяпер – за абедам.* $Ш_3$.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бегае*: Т, 59. Пр. адз. н. *бегало*: $Ш_3$.

**БЕГЧЫ** (5) *незак.* **1.** Хутка рухацца, перамяшчацца ў адным напрамку. *Мікіта .. меціцца бегчы з настаўленымі рэвальверамі ў дзверы, але ўваходзяць .. Начальнік патруля, .. Грамадзянін .. і Спічыні.* Т, 59. // Імкліва накіроўвацца куды-н. з якой-н. мэтай. [Мікіта]: *Калі бег я па гэтыя, меджду протчым, пакупкі, на Зыбіцкай вуліцы спаткалі мяне два, мабыць, апошнія.. паны..* Т, 58. *Не па нутру, як смерць, яму, Што беларускае дзіцё Бяжыць у сцюжную зіму У школу пазнаваць жыццё.* АПЖ.

**2.** *перан.* Узнікаць, цячы (пра думкі). *Бягуць, не спыняюцца думкі-саколкі! К табе, правадыр мой, у сонцы спавіты!* ТП, 217.

◊**Бегам бегчы** – хутка працякаць (пра час). *Бегам беглі дні і ночкі, Леты за летамі ...* Дз, 188.

Інф. *бегчы*: Т, 59. Абв. цяп. адз. 3 ас. *бяжыць*: АПЖ. Мн. 3 ас. *бягуць*: ТП, 217. Пр. адз. м. *бег*: Т, 58. Мн. *беглі*: Дз, 188.

**[БЕДАВАЦЬ]** (4) *незак.* Гараваць. [Спраўнік]: *Але я надта не бядую. Кажуць, сам Брусілаў ідзе побач з нашымі новымі гаспадарамі...* Т, 57. *І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой, Яшчэ раз не засьні, не засьні!* ХХ, 128.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *бядую*: Т, 57. 3 ас. *бядуе*: Дз, 187. Заг. адз. 2 ас. *бядуй*: ХХ, 128.

**БЕДНАВАТЫ** *прым*. Не ў поўнай меры бедны. *Даволі абшырны пакой, беднаваты, па дробнамяшчанскаму абстаўлены.* Т, 19.

Адз. м. Н. *беднаваты*: Т, 19.

**[БЕДНАСЬЦЬ]** *ж.* Убоства, галеча. *Нашыя маладыя наіўныя*

*паэты .. вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасьць, пра “гразь, балота і пясок” у Беларусі.* ХБ, 27.

Адз. В. *беднасьць*: ХБ, 27.

**[БЕДНАТА]** (2) *ж.,* зб. *Тое, што* бядняцтва. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, .. батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі..* АЛ. *Але адно скажу – як рад я* [Купала] *за першыя крокі свае ў літаратуры, калі разам з беднатой беларускай вёскі я горача пратэставаў супроць паноў і царата..* ЖН.

Адз. В. *беднату:* АЛ, Т. *беднатой:* ЖН.

**БЕДНЫ** (10) *прым.* **1.** Заняпалы, убогі; небагаты. *Над пакаленьнем неакрэпшым, Над бедным краем-сіратой Груган з начніцаю сьляпою Банкет спраўляюць чорны свой.* РС, 40. [Янка]: *О, гэтакіх адных у нас многа, толькі ж яны не васількі, а праклятае зелле на нашай беднай зямлі!* Т, 20.

**2.** *У знач. наз.* Пра незаможнага чалавека. *Пабочные налогі аднакова плацюць і бедны і багаты.* ВН.

**3.** Нешчаслівы. [Ганулян]: *Вось адзін пан .. загадаў яму* [Мікіту] *цягаць чужыя рэчы ў свой панскі пакой.., дык бедны Мікітка як не падарваўся, цягаючы футры ды спадніцы.* Т, 57. *.. немцы вучаць дзяцей-палякаў па-нямецку; забараняюць бедным дзеткам чытаць і маліцца Богу ў сваёй роднай мове.* ЧЧШ.

Адз. м. Н. *бедны* (4): ВМР; ВН; Т, 54, 57. Д. *беднаму*: ПДз. М. *бедным*: РС, 40. ж. Р. *беднай*: Т, 40. М. *беднай*: Т, 21. Мн. Н. *бедныя*: Т, 57. Д. *бедным*: ЧЧШ.

**[БЕЖАНЕЦ]** (2) *м.* Той, хто пакінуў сваё месца жыхарства з прычыны вайны або стыхійнага бедства. *Хто крыўляў нам* [беларусам] *праўду, Застаўляў у прыгоне Бежанцамі гінуць На бацькоўскіх гонях.* К. *Пры Сталіне ў бежанцах гінуць не будзем, Совецкіх людзей ён выводзіць у людзі.* СС, 303.

Мн. Т. *бежанцамі*: К. М. *бежанцах*: СС, 303.

**БЕЗ** (60) і *разм.* **БЯЗ** (8) *прыназ.* з Р. выражае: **1.** Аб’ектныя адносіны пры ўказанні, што дзеянне адбываецца без удзелу каго-, чаго-н. (33). *З’ява XX. Тыя ж без Немца.* Т, 33. *Шоў* [унук] *цераз сад, дзе валялася ўволю На зямлі яблык. Іх бачыў без свечкі.* Ун, 73. *Параўн.* бэз. А, 328 (2); Ан, 19; Бз; БЗ; ВД; Г, 6; КЧ; М, 20; ПЛП; ПС (2); ПСС, 231; СНБ, 338; Т, 19, 20, 24, 27, 29(2), 39, 40, 44, 47(3), 50, 52(2), 53, 56, 60.

**2.** Азначальныя адносіны пры апісанні прадмета з указаннем на адсутнасць прыметы. (15). *Неба было ўсё сіняе бяз ніводнае плямачкі; цёплы паўднявы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын.* ХБ, 29; Ан, 19; ГП, 8; Дз, 191; Мц, 75; ПСп; СМ; ССА, 294; Т, 29, 33, 50(2), 55, 58; ХБ, 29.

**3.** Колькасць, меру, ступень (3). *Зямлю ў сваёй адвечнай казцы Трымае* [неба] *без граніц і мер...* БрБ, 6. *Жыцьцё лет бяз ліку на шнурык свой ніжэ, Без ліку няволя есьць сіл...* ЗК, 43. ПЛП.

**4.** Розныя акалічнасці дзеяння (13). *Не будзе, не будзе тады Вайны, калатні між людзей. Дзяўчына, юнак малады Не зложаць без часу касцей.* ТП, 216. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, не круціцеся без толку па хаце, а лепей глядзеце ў вакно..* Т, 59. Бч, 9; БрБ, 6; ВБЛ, 81; Г, 17; ГП, 8(2); Дз, 189; ДД; Кр, 77; СК, 158; Т, 54.

◊**Без дай прычыны** *гл.* даць. **Без ніякага нічога** *гл.* нішто. **Без пары** *гл.* пара.

**БЕЗГАЛОСЫ** *прым.* Без права голасу. *Я* [Купала], *беларускі паэт, быў безгалосы, як і мой народ, бо не меў цэнзу.* ГВУ.

Адз. м. Н. *безгалосы*: ГВУ.

**[БЕЗГАЛОЎЕ]** (4) *н. перан. Іран.* **1.** Адсутнасць добрага кіраўніцтва. *Мы, беларусы, дзякуючы усялякім гістарычным і палітычным безгалоўям нашай бацькаўшчыны, вечна цягнуліся у хвасьце сваіх суседзяў..* СБНГ.

**2.** Гора, бяда. [Гануля]: *Гэта ж, трэба вам* [Янку] *ведаць, чуць не наклікаў* [Мікіта] *на сваю галаву безгалоўя.* Т, 46. *Родная зямелька! Ты, маўляў здароўе, – Той цябе ашанцуе, каму безгалоўе..* ХБ, 28.

Адз. Р. *безгалоўя:* Т, 46. В. *безгалоўе* (2): Т, 58; ХБ, 28. Мн. Д. *безгалоўям*: СБНГ.

**[БЕЗГРАНІЧНЫ]** (2) *прым. Руск.* **1.** *Тое, што* бязмежны. *На фарпостах, на граніцах Безграцічных нашых земляў З карабінам ля стражніцаў Комсамолец не задрэмле.* СА, 181. *Параўн.* бязмерны.

**2.** *перан.* Пастаянны. *Вашы* [заходніх беларусаў] *палоскі голым папарам Голад дарылі вам безграічны.* ССА, 294.

Адз. м. В. *безграічны*: ССА, 294. Мн. Р. *безгранічных*: СА, 181.

**[БЕЗГРАНІЧЧА]** *н. Нафатв.* Неабсяжная, бязмежная прастора. *З самалётам днём і ночай Мігаціцца* [камсамолец] *ў безграніччы, Днём смяецца сонцу ў вочы, Ночкай зорнай зоры ліча.* СА, 180.

Адз. М. *безграніччы:* СА, 180.

**[БЕЗДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ]** *ж.* Адсутнасць дзяржаўнага ладу. *Я* [Купала] *кажу аб забабоне, каторы ў нас толькі мог вытварыцца, .. дзякуючы нашай доўгіе годы бездзяржаўнасьці, дзякуючы нашаму паднявольнаму жыцьцю.* З.

Адз. Д. *бездзяржаўнасьці*: З.

**[БЕЗЗЯМЕЛЬНЫ]** (2) *прым.* Які не мае ўласнай зямлі. *А тыя беззямельныя, убогія земляробы, .. – што яны?* ЗС, 18. .. *расійскую сацыяльную рэвалюцыю зрабілі беззямельныя і малазямельныя*

*грамады..* Там жа.

Мн. Н. *беззямельныя* (2): ЗС, 18(2).

**БЕЗНАДЗЕЙНА** (2) *прысл. да* безнадзейны. *Дык не трэба апушчаць рук і глядзець зусім безнадзейна на сваю і сваей бацькоўшчыны будучыну.* ВС. *Шостую вясну ўжо ён* [мужык] *сее так безнадзейна, ня ведаючы – хто яго сяўбу жаць будзе.* ДД.

**[БЕЗПАСРЭДНІ]** *прым. перан.* Просты, непасрэдны (пра падатак). *Гасударственные налогі бываюць дваякіе: простые (беспасрэдніе) і пабочные.* ВН.

Мн. Н. *безпасрэдніе:* ВН.

**БЕЗПАСРЭДНЯ** *прысл. да* безпасрэдні. *Агулам простые налогі – гэта такіе, дзе кожны ўласьнік плаціць безпасрэдня пэўныя падаткі за сваё дабро.* ВН.

**[БЕЗРАБОТНЫ]** (2) *прым. Руск. У знач. наз.* Беспрацоўны. [Абарванец]: *Пажэртвуйце, таварыш, безработнаму!* Т, 42. – *Хэ-хэ! – патурае яму* [пану] *расійскі чыноўнік,.. сягодня вайной і рэволюцыяй загнаны ў гарадзкіе безработные.* З.

Адз. м. Д. *безработнаму:* Т, 42. Мн. В. *безработные*: З.

**БЕЗРАБОЦЦЕ** (2) *н. Нават.* Беспрацоўе. *І сёння там* [у Заходняй Беларусі] *слёзы, нуда, безрабоцце, Ды горкія песні, ды скаргі адны.* ПБН. [Янка]: *А што ж ён* [Мікіта], *па-вашаму, павінен рабіць у гэтае чыноўніцкае безрабоцце.* Т, 20.

Адз. Н. *безрабоцце:* ПБН. В. *безрабоцце:* Т, 20.

**БЕЗУПЫННА** і **БЯЗУПЫННА** *прысл. да* безупынны. *Маё мне сонца правадыр, Мне сцежкі знача безупынна.* МСП, 187. *На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навуковыя і навучальныя ўстановы.* АЛ.

**[БЕЗУПЫННЫ]** (2) *прым.* Якога нельга супыніць, затрымаць. *Шэсьць год вайны, вайны цяжкай, безупыннай, выбілі ў думках беларуса-хлебароба і яго супакой – гэткі зьмірны, лагодны.* ДД. *Такім чынам, усё маё юнацтва прайшло на чужой зямлі ў безупыннай залежнасці і пад гнётам польскага панства.* А, 328.

Адз. ж. Р. *безупыннай:* ДД. М. *безупыннай*: А, 328.

**БЕЗУСЛОВНО** *прысл. Руск.* Безумоўна. [Усходні вучоны]: *(таксама запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). Іоан Здольніков. Ісціно-русскій ціп Северо-Западной Области і безусловно з прымесью монгольско-фінской крові.* Т, 26.

**БЕЗУСТАНКУ** *прысл. Разм. Тое, што* безупынна ў 2 *знач. Свабодныя людзі! Вялікае свята! Як хочацца жыць безустанку.* ВВ, 263.

**[БЕЛАГВАРДЗЕЕЦ]** *м.* Той, хто змагаўся супраць Савецкай улады ў радах белай гвардыі. *Біў* [Варашылаў], *як мух, белагвардзейцаў, Не даў ходу зброду, І савецкую краіну Вывеў на свабоду.* НК.

Мн. В. *белагвардзейцаў:* НК.

**БЕЛАРУС** (109) *м.* Жыхар Беларусі. *Беларус доўга ў чужыне не ўседзіць.* ЗС, 18. *Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам..* Нз, 14. *Параўн.* белорус, бялорусін.

**Брату-беларусу**.

Δ**Беларус-афіцэр**: *Надовечы Беларуская вайсковая Камісія пачала ў нас у Менску рэгістрацыю беларусаў-афіцэраў, дактароў і інш.* БВ, 16. **Беларус-бальшавік:** *Тады маскоўскія беларусы-бальшавікі прыехалі ў асобным вагоне ў Смаленск з мэтай стварыць новы беларускі бальшавіцкі ўрад.* СНБ, 338. **Беларус-каталік:** *Ведама, што калі даць беларусу-каталіку вольны выбар: ці вучыцца рэлігіі па польску, ці па расейску, забараніўшы перш навуку па беларуску, дык ён выбярэ польскую мову..* ВР. *Калі гэтага дружна зажадаюць два мільёны беларусоў-каталікоў, яны могуць дабіцца свайго..* Там жа. **Беларус-селянін:** *Але аб беларусу-селяніне, аб беларусу-грамарзяніне ніхто і не падумаў.* Нз, 14. **Беларус-хлебароб:** *Ён* [расійскі ўрад] *беларусаў-хлебаробаў зманіваў за Урал, у Сібір, у Туркестан, а то і ў Амерыку.* ЗС, 18. **Брат-беларус** *гл.* брат. **Гаспадар-беларус** *гл.* гаспадар. **Грамадзянін-беларус** *гл.* грамадзянін. **Дзеці-беларусы** *гл.* дзеці. **Эсэр-беларус** *гл.* эсэр.

Адз. Н. *беларус* (33): БрБ, 7; БВ, 16(2); ВС; ЗС, 18; Нз, 15; НДН (3); РС, 39; С, 209; Т, 23, 26(2), 29, 31, 33(2), 36(2), 37, 38, 48(2), 49, 50(2), 52, 54, 56(3); УП. Р. *беларуса* (11): БСУ (2); ВС; Г, 16; ДД; Мц, 75; Нз, 15; Р; СНБ, 337; 339; Т, 37. Д. *беларусу* (2): БрБ, 6; ВР. В. *беларуса* (4): ВР; Нз, 15; Т, 29; Х. М. *беларусу* (2): Нз, 14(2). Кл. *беларусе*: СБНГ. Мн. Н. *беларусы* (28): БВ, 16; ВС; ВМР (3); ВР (6); ДК; Ж; 3; Нз, 15; НДН, 18 (2); ОШМ; ПЛП; СБНГ; СНБ, 338(2); СНБ (2); Т, 21, 26, 29; $Ш_2$. Р. *беларусаў* (9): БВ, 16(2); БСУ; ОШМ; ПЛП; СНБ; 338; Т, 58; УПУВ(2); *беларусоў* (5): ВР (4); ЧЧШ. Д. *беларусам* (6): БВ, 17; ВР; Нз, 14; ПЛП; СНБ; Х. В. *беларусаў* (3): БВ, 16; ДК; Х, 18; *беларусоў*: ВР. Т. *беларусамі* (4): ВМР; ВР; Нз, 14; НДН, 18.

**[БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА]** *н.* Сукупнасць навук, якія вывучаюць гісторыю, мову, пісьменнасць і культуру беларусаў. [Янка]: *Вам* [Мікіту] *простая дарога цяпер: запісацца на курсы беларусазнаўства.* Т, 56.

Адз. Р. *беларусазнаўства*: Т, 56.

**БЕЛАРУСКІ** (277) *прым.* Які мае адносіны да беларуса, Беларусі. *Я* [Купала] *шчасліў, што ў час малейшай трывогі беларускі народ паднімецца як адзін на абарону совецкіх межаў.* ДЖ. *Стары правапіс .. трымаў беларускую мову ў палоне*

*правінцыялізма, у рамках нацыяналістычнай абмежаванасці.* ШБСЯ. *Параўн.* бялорускі.

**Беларускае войска. Беларускі сьцяг уваскрос! Пісьмо беларускага народу Вялікаму Сталіну. Справа беларускага нацыянальнага гымну.**

Адз. м. Н. *беларускі* (44): АЛ (2); БСУ (4); ВВ, 263; ВР; ВСп, 90; ГВУ; ДД (2); ДЖ; ДК (2); З(2); ЗС, 18; МІ, 17; Нз, 14(2); НДп, 229(2), 230; ЦДН, 19; НКУС; ОШМ (2); ПБН; ПЛП (2); ПНд, 314; СБНГ(2); СНБ, 338; СНБ; Т, 26, 48, 56; ТП, 214, 215, 216, 217(2). Р. *беларускага* (37): АЛ (2); БСУ (2); ВСп, 89(4); 90; ГВУ; ДЖ; ДК (3); 3; МІ, 17; Нз, 14; НБУС (2); ОШМ; ПБН; ПЛП; СБНГ (6); СНБ, 338, 339; СНБ; Т, 30, 55(2); ТП, 213; ШБСЯ (2). Д. *беларускаму* (3): ВНЗ; ВР; Шп, 91. В. *беларускі* (9): ВР; Нз, 14; НК; Пт; СНБ, 338(2); СС, 302; Т, 48, 55. Т. *беларускім* (11): АЛ (3); Ш, 17; ШР; ДК; СБНГ (2); СНБ, 338; Т, 26; У. ж. Н. *беларуская* (27): БВ, 16(2); БСУ (2); ВМР (2); ВР; ВСп, 89(2); 91; ДД; ДК; 3; МІ, 17(4); 18(2); Нз, 14(2); ОШМ (2); СНБ, 339; СНБ; ШБСЯ (2). Р. *беларускай* (36): АЛ (2); БВ, 16; ВГР; ВР (3); ДК (2); ЖН; 3; МІ, 17(6), 18; НДН, 19; ОШО (4); ПЛП; ПСД; СБНГ; СНБ, 337, 338, 339(2); СНБ; Т, 22, 39; ШБСЯ (3); *беларускае* (2): АЛ; ДК. Д. *беларускай*: НДН, 19. В. *беларускую* (17): Ан, 19; БВ, 16; БСУ; ВСп, 89, 91(2); ДК (2); 3; МІ, 17 (2); Нз, 14; НК; СНБ, 338, 339; Т, 48; ШБСЯ. Т. *беларускай* (3): ПС; СБНГ; СНБ, 339; *беларускаю*: ВМР, М. *беларускай* (13): ВР; ВСп, 89(2); 91; Ж; 3; МІ, 17; Нз, 14(2); НДН, 18; ПЛП (2); СНБ. н. Н. *беларускае* (15): АПЖ; БВ, 16(2); ВМР; ВСп, 91; 3(3); МІ, 17(3); Нз, 14(2); СНБ, Т, 56. Р. *беларускага* (11): Ан, 18; БВ, 16(3); БСУ; ВСп, 90, 91; Нз, 14; ПЛП; СНБ, 340; СНБ. В. *беларускае* (3): А, 328; МІ, 17; НГд, 8. Т. *беларускім* (6): БВ, 16, 17; Ж; ЗС, 17; ПЛП; Тр. М. *беларускім* СНБ, 339. Мн. Н. *беларускія* (10): АЛ (3); БВ, 16(2), 17; МІ, 17; ОШМ; ШБСЯ (2). Р. *беларускіх* (14): АЛ (2); ВГР; ВСп, 89, 91(2); МІ, 17(2); ПЛП; СБНГ; СНБ, 339; Т, 26, 30; ХЛВ, 316. В. *беларускія* (4): БСУ; ГНД; МІ, 17; ПС. Т. *беларускімі* (4): ВСп, 89(2); СБНГ; ХБ, 29. М. *беларускіх* (4): БСУ; ВР; ЗС, 17; СНБ.

**БЕЛАРУШЧЫНА** (10) *ж. зб. Разм.* Беларусізацыя. *Ён* [абываталь] *бачыць, што беларушчына нясе новые парадкі і зьмену таго, з чым ён зжыўся, да чаго прывык..* ВМР. *Адзін толькі Беларускі Дзяржаўны Унiверсітэт а ніяк ня можа адважыцца на беларушчыну: выпусьціў за мінулы год два ёмкія сшыткі сваіх «Трудов», але пабеларуску ў іх ні слова.* ВСп, 90.

Адз. Н. *беларушчына* (4): ВМР (2); ДК; ВР. Р. *беларушчыны* (4): ВР (2); МІ, 17; СНБ, 338. В. *беларушчыну*: ВСп, 90. М. *беларушчыне*: Т, 55.

**[БЕЛАСЬНЕЖНЫ]** *прым.* Падобны колерам на снег. *На беласьнежны на пасад Усходзе князь, усходзе княжна..* Кц, 193.

Адз. м. В. *беласьнежны*: Кц, 193.

**[БЕЛЕНЬКІ]** і *разм.* **[БЯЛЕНЬКІ]** *прым. Ласк. да* белы. *Пакуль жа блісне шчасце, хоць душу нягодну Зьвярні .. Да ніў родных, калосьсем ярка маляваных,.. Гдзе жоўтая сьвірэпка, гдзе грэчка бяленька.* ХБ, 28. *Відна.. з сох, што там бадзяцца Па шырокіх палетках, проста чарназёму, каторы прылягаець к беленькаму дому... Што там цьвіцець дастатак, праўда і парадак.* Там жа.

Адз. м. Д. *беленькаму*: ХБ, 28. Кар. адз. ж. Н. *бяленька*: ХБ, 28.

**БЕЛОРУС** (8) *м. Руск. Тое, што* беларус. [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Очэнь кстаці, что вы, господзін белорус, здесь.* Т, 38. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). ..вопрэкі історычэскім, географічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім іccледованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Там жа, 26.

Адз. Н. *белорус* (2): Т, 26, 38. Р. *белоруса*: Т, 26. Мн. Н. *белорусы* (4): Т, 26(4). Мн. Р. *белоруссов*: Т, 39.

**[БЕЛЫ]** (18) *прым.* **1.** Светлага колеру. [Аленка]: *А я чула, што і цётка Бадунова таксама едзе на белай кабыле з Смаленску.* Т, 55. *.. даўное белае павучыньне, каторае невядома адкуль узялося, ціхенька плыло ў паветры.* ХБ, 29.

**2.** *перан.* Ясны. *Белым шляхам адных, а другіх шляхам чорным К царству, к рабству вяла* [судзьбіна] *беспраглядна.* Ч, 322.

**3.** Варожы. *О, абываталь, белая за каўняром ты гніда!* ВБЛ, 81.

**4.** Састаўная частка некаторых заалагічных назваў. *.. з пургою, з завірухай разам Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць.* ПСС, 231.

•**Белы арол** *гл.* арол. **Бел-свет, бел-сьвет, белы сьвет** *гл.* свет. **Белы морскі шлях** *гл.* шлях.

◊**Вывешваць белы флаг** *гл.* вывешваць. **Чорнае на белым (па беламу) стаіць** *гл.* чорны.

Адз. м. Р. *белага*: ЖН. Д. *беламу*: Т, 61. В. *белы* (3): ПВ; Т, 52; Ч, 319. Т. *белым* (2): Т, 54; Ч, 322. М. *белым* (2): Ан, 19; Т, 61. ж. Н. *белая*: ВБЛ, 81. Т. *белай*: ВБЛ, 82. М. *белай*: Т, 56. н. Н. *белае*: ХБ, 29. Мн. Н. *белыя*: ПСС, 231. В. *белыя*: Ч, 325. Т. *белымі*: ДЖ. Кар. адз. м. В. *бел* (2): Кц, 192; ТП, 217.

**БЕРАГ** (6) *м.* Паласа зямлі каля вадаёма. *Сумна мне* [Нёману], *сумна, што ўсё тут іначай Некалі бераг мой бачыў і знаў.* Н. *Ліпень, жнівень і верасень я* [С. Меч] *пражыў у Мешчыне, на беразе Сьвіслачы...* ХБ, 28.

◊**Выходзіць з берагоў** *гл.* выходзіць.

Адз. Н. *бераг*: Н. Р. *берагу*: Н. М. *беразе*: ХБ, 28. Мн. Н. *берагі*:

Т, 35. Р. *берагоў*: РКП. В. *берагі*: $Ш_4$.

**БЕРУЧЫ** (2) *дзеепрысл. да* браць.: ◊**Беручы «пад казырок»** (2) – аддаючы чэсць, вітаючы. [Мікіта]: *(беручы "пад казырок" і нізка кланяючыся). Гута морган, гэр гэрманіш.* Т, 32. [Немец]: *(Беручы "пад казырок"). Ваша прэвасхадзіцельства!* Там жа.

**[БЕС]** *м.:* **Хто к лесу, а хто к бесу**.

Адз. Д. *бесу*: ХЛБ.

**БЕСКАРЫСНА** *прысл.* да бескарысны. *Дзе ні ступіць* [першы сын] – *згібаюцца краскі і травы, І пракляцьце шуміць бескарысна.* Ч, 320.

**БЕСПАВАРОТНА** *прысл.* Канчаткова, цвёрда, рашуча. *Парываючы сам катэгорычна і беспаваротна ідэйна і арганізацыйна з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, .. я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмакратычнага шалупіньня..* АЛ.

**[БЕСПАРАДАК]** *м.* Адтсутнасць парадку. *У беспарадку накідана ўсякіх хаткіх рэчаў, як бы яны сабраны былі з некалькіх пакояў.* Т, 43.

Адз. М. *беспарадку*: Т, 43.

**[БЕСПАРДОННЫ]** *прым. Разм.* Бессаромны, нахабны. [Мікіта]: *О, ранга мая асэсарская! О, кляса мая бонтонная, беспардонная!* Т, 42.

Адз. ж. Н. *беспардонная*: Т, 42.

**БЕСПАРТЫЙНЫ** *прым. У знач. наз.* Які не з'яўляецца членам партыі. [Янка]: *Ды я ж беспартыйны.* Т, 55.

Адз. м. Н. *беспартыйны*: Т, 55.

**БЕСПРАГЛЯДНА** *прысл.* да беспраглядны. *Белым шляхам адных, а другіх шляхам чорным К царству, к рабству вяла* [судзьбіна] *беспраглядна*. Ч, 322.

**[БЕСПРАГЛЯДНЫ]** *прым. Тое, што* беспрасветны ў 2 *знач. Аб жыцці беспраглядным сваім разважаю я ў гэтай цішы.* ЧС, 50–51.

Адз. м. М. *беспраглядным*: ЧС, 50–51.

**[БЕСПРАСВЕТНЫ]** і **[БЕСПРАСЬВЕТНЫ]** *прым.* **1.** Бясконцы. *Краіна, быўшая ўвасабленьнем рабства, убоства і беспрасьветнай цемры, ператвараецца ў краіну вольнае працы.* АЛ.

**2.** *перан.* Сумны, цяжкі, безнадзейны. *Нашы мінуліся дні беспрасветныя, Леглі ад сонца на свеце праталіны..* ДПЛС. *Параўн.* беспраглядны.

Адз. ж. Р. *беспрасьветнай*: АЛ. Мн. Н. *беспрасветныя*: ДПЛС.

**[БЕССАНЛІВЫ]** *прым. Наватв. Тое, што* бяссонны. *Ах, скарэй-бы дзень вечны, ці вечная цьма! Яна згубіць мяне, бессанлівая ноч!* БН, 93.

Адз. ж. Н. *бессанлівая*: БН, 93.

**[БЕССІСТЭМНЫ]** *прым*. Беспарадкавы. *Цяперашняя ўлада павінна забараніць, як то кажуць – "да разбору дзела", цяперашнюю вакханалію з зямлёй, гэту бессістэмную куплю-прадажу.* ЗС, 18.

Адз. ж. В. *бессістэмную*: ЗС, 18.

**[БЕСХАЦІНЕЦ]** *м. Наватв.* Бяздомак. *Гэй ты, краю халодны, чужы, Прытулі бесхацінца к сабе..* ЧС, 50–51.

Адз. В. *бесхацінца*: ЧС, 50–51.

**[БЕТОН]** *м.* ◊**Бетонам заліты** *гл.* заліты.

Адз. Т. *бетонам*: ПБН.

**[БЖМЕЦЬ]** *незак. Польск.* Гучаць. [Заходні вучоны]: *А тэраз пан бэндзе ласкаў поінформоваць, як на бялорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?* Т, 26.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бжмі*: Т, 26.

**[БІБЛЕЙСКІ]** *прым.* Які адносіцца да Бібліі. *У адным з псалмаў біблейскіх сказана: "стануў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць".* ПЛП.

Мн. М. *біблейскіх*: ПЛП.

**[БІБЛІЯТЭКА]** (2) *ж.* **1.** Збор кніг прыватнай асобы. [Купала]: *Бібліятэку сваю перадаю Беларускай Дзяржаўнай, Бібліятэцы.* СЧ.

**2.** Установа, якая збірае, захоўвае кнігі і інш. друкаваныя рукапісныя творы, прапагандуе і выдае іх чытачам. *У Вільні працаваў* [Купала] *у бібліятэцы і "Нашай ніве"..* А, 328.

Адз. В. *бібліятэку*: СЧ. М. *бібліятэцы*: А, 328.

**[БІЗУН]** (10) *м.* **1**. Сродак экзекуцыі. *Добра запомніў я* [бацька] *панскую палку, Панскі бізун, што крывавіў мне плечы.* Бц, 74. *Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках, і царскія сатрапы seклі яго бізунамі.* ЖН.

**2.** Сімвал прымусу. *Прыбыла толькі к польска-панскаму бізуну чыноўніцка-жандармская нагайка.* Нз, 14. *Яны* [ворагі народа] *рыхтавалі зноў нам* [савецкім людзям] *бізун памешчыка і кабалу фабрыканта.* ВНЗ.

Адз. Д. *бізуну*: Нз, 14. В. *бізун* (4): Бц, 74; ВНЗ; К; МК. Т. *бізуном* (3): БН, 92; Нз, 14; ССА, 294. Мн. Н. *бізуны*: ТП, 213. Т. *бізунамі*: ЖН.

**[БІНОКЛЬ]** *м.* Аптычная прылада, для разглядвання аддаленых прадметаў, асоб. *Уваходзяць адначасова з абаіх дзвярэй Усходні вучоны і Заходні вучоны, разглядваючыся: Усходні – праз падзорную палявую трубу, Заходні – праз бінокль, не заўважыўшы спачатку адзін аднаго.* Т, 25.

Адз. В. *бінокль:* Т, 25.

**[БІРЖА]** *м.* Пасрэдніцкая ўстанова па найму рабочай сілы. [Мікіта]: *А ў гэтым карапузіку важнейшыя дакуманты: праф-саюзу, біржы працы, культасветы..* Т, 46.

Адз. Р. *біржы:* Т, 46.

**[БІСЕР]** *м., зб.* Пацеркі для расшыўкі, упрыгожання адзення. *.. прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі – шоўкам, бісерам, янтаром ды іншымі драгацэннымі скарбамі.* Кз, 17.

Адз. Т. *бісерам*: Кз, 17.

**[БІТВА]** (11) *ж.* Бой, барацьба паміж варожымі сіламі. *Вось-жэ ўсе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітвы, павінны .. друж-на ісьці да працы на сваіх загонах..* РКр. *Цэлы свет ведае, што самыя крывавыя бітвы, самае дзікае зніштажэнне людзей і іх дабра ў гэтую вайну – было на Беларусі.* АБ, 16. // Змаганне. *Час ішоў. К жыццю новаму клікі пачуліся, Усе народы паўсталі на бітву за права сваё.* Б, 18. *Параўн.* бой.

Адз. Р. *бітвы* (4): МД; НДд, 229; РКр; ПДз. В. *бітву*: Б, 18. Мн. Н. *бітвы*: АБ, 16. Р. *бітваў*: ВМ, 72. В. *бітвы*: УрП, 51. М. *бітвах* (3): ПБН; ПН, 47; РКр.

**БІЦІ** *гл.* **БІЦЬ**.

**БІЦЦА** (6) *незак.* **1.** Весці бой, змагацца. *Знай, жаўнеры мы, Вышлі не на жарт Біцца, ваяваці..* ВБ. *Добра ўсе там ваявалі, – Умíралі у баю. А найлепш Даніла біўся За краіну сваю.* ПСД.

**2.** Моцна ўдарацца аб што-н. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі І аб сьценку біўся Ад балеснай мукі, – Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты..* К.

**3.** *перан.* Пульсаваць, актыўна праяўляцца. *Б'ецца жыццё жы-ватворнай крыніцаю, Песні напевамі звоняць вясёлымі..* ДПЛС.

◊**Біцца з кута ў кут** – не знаходзіць выйсця з якога-н. стано-вішча. *Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны, І не пакінем біцца з кута ў кут?* Бч, 10.

Інф. *біцца* (3): Бч, 10; ВБ; ЛПК. Абв. цяп. адз. 3 ас. *б'ецца*: ДПЛС. Пр. адз. м. *біўся* (2): К; ПСД.

**БІЦЬ** (13) і *разм.* **БІЦІ** *незак.* **1.** Перамагаць каго-н.; наносіць паражэнне. *Біў* [Варашылаў], *як мух, белагвардзейцаў, Не даў ходу зброду, І савецкую краіну Вывеў на свабоду.* НК.

**2.** *перан.* Весці барацьбу з кім-н., супраць каго-н. *Чаму яны* [людзі] *з такой упартасьцю дражняць* [беларускі] *народ і даво-дзяць яго да вар'яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасьць, хва-тае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК. *Вось газетку надрукую, чорна-белую такую, Жыдоў біці і палякаў І з крамолай біцца ўсякай.* ШК.

**3.** Стукаць, ударацць. *Іскрыцца пад молатам сталь, А молат не біў так калісь.* ТП, 215.

**4.** *перан.* Свяціцца, выяўляцца. *Шоў ваяк з ваякам, – Кожны смел, ахвоч, Б'е адвага з воч..* ВБ. // *Вобразн.* Прымячаць, прымаць пад увагу. *Краса б'е з князеўных зраніц, Як блеск маланак развуглёны.* Кц, 193.

◊**Біць на трывогу** – заклікаць да барацьбы супраць каго-н.; звяртаць увагу на пагрозу чаго-н. *Выходзяць* [косці прадзедаў], *ідуць ад парогу к парогу; На стогн жывых грозна глядзяць; І з ветрамі, з бурамі б'юць на трывогу: "Забраны край" клічуць устаць.* ЗК, 43. **Біць паклон (паклоны)** – а) маліцца. – *Скажы: скуль ты? якому сонцу Твая паклон б'е старана? – Зьвярнуўся так да незнаёмца Прыбочнік верны Пяруна.* УрП, 51. *Мальбішчам чужым бье пакора паклоны..* ЗК, 43; б) пакарацца. *Дом чужы таму будзе астрогам, Хто паклоны біць стаў збоку злыбедным ветрам..* Ч, 323.

Інф. *біць* (3): ДК; ПВ; Ч, 323; *біці*: ЛПК. Абв. цяп. адз. 3 ас. *б'е* (4): ВБ; Т, 40; УрП, 51; Ч, 321; *бье* (2): ЗК, 42; Кц, 193. Мн. 3 ас. *б'юць*: Т, 40; *бьюць*: ЗК, 43. Пр. адз. м. *біў* (2): НК; ТП, 215.

**БЛАГАРОДЗІЕ** і **БЛАГОРОДЗІЕ** *н. Уст., іран.*: ◊**Ваша чырвонае благародзіе (благородзіе)** – тытулаванне ў форме звароту да начальства. [Мікіта]: *Гэта... Гэта... ваша чырвонае благародзіе... гэта... качарэжкі!* Т, 60. [Мікіта]: *Дык пакажэце мне, межджу протчым, ваша чырвонае благородзіе, чэк на мой арышт.* Там жа, 62.

Адз. Н. *благародзіе*: Т, 60; *благородзіе*: Т, 62.

**[БЛАГАСЛАЎЛЕННЕ]** *н. Рэл.* Пажаданне ўдачы, шчасця словамі малітвы. [Мікіта]: *Ацец духоўны! - даўно чакаю вашага благаслаўлення.* Т, 51.

Адз. Р. *благаслаўлення*: Т, 51.

**[БЛАГІ]** (11) *прым.* **1.** Дрэнны. *Гэтые дзьве рэволюцыі – гэтые піонэры жыцьця на зямлі на новых парадках, найболей праявілі свае добрые і благіе староны, як гэта ня дзіўна – на беларускай зямлі.* СНБ. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, знаёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасьць, пра "гразь, балота і пясок" у Беларусі.* ХБ, 27.

**2.** Які выклікае асуджэнне, нездавальненне. *Ці ня час ужо пакінуць благую прывычку сядзець і сядзець, чакаць ды чакаць?* БС. *І калі ня хочам загінуць, калі ня хочам быць вечнымі рабамі, – павінны пакінуць мы* [беларусы] *благую прывычку думаць, што нехта прыдзе і выратуе нас.. з нашай няволі.* Там жа.

**3.** Несуцяшальны. *З далёку і з блізку далетаюць да нас*

[беларусаў] *і добрые і благіе весткі аб вялікіх бітвах, аб змаганьнях мільёноў ваяк.* РКр. *Ня слухаймо благіх языкоў, што разсеваюць такіе ці сякіе плёткі, бо, як кажуць, у мор намруцца, а ў вайну налгуцца.* Там жа. // Невясёлы, сумны. *Тутака пачалася благая камэдыя: Солоневічы, Ковалюкі, Тепловы і ўся іх "хаўрузія" крычаць аб "распалячэньні" Беларусі..* ВР.

**4.** *У знач. наз. Слабые душою і целам апускаюць рукі, і як вол доўбні чэкаюць нечаго негаданаго, благога, наводзючы гэтым і на іншых сум ды трывогу.* РКр. *Як ня выйдуць чорнасотнікі На благое ўсё ахвотнікі, Дый на ўсю моц закрычаць: "Думу трэба разагнаць!"* ВЧ.

Адз. ж. Н. *благая*: ВР. В. *благую* (2): БС (2). н. Н. *благое*: КЧ. Р. *благога:* РКр. В. *благое* (2):. ВЧ (2). Мн. Н. *благіе*: РКр. Р. *благіх* (2): РКр; ХБ, 27. В. *благіе*: СНБ.

**БЛАГОДАРА** *прыназ. Руск.* У выніку чаго-н. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна – есть суша і водныя басейны, дажэ морэ собственное Імелось, но благодара врэдным кліматічэскім веяніям с Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце.* Т, 47.

**[БЛАГОДАРЫЦЬ]** (2) *незак. Руск. Тое, што* дзякаваць. [Усходні вучоны]: *(скончыўшы пісаць). Благодару вас* [Янку]! Т, 47.

•**Благодару покорно** – *ветлівая форма выражэння ўдзячнасці.* [Усходні вучоны]: *(скончыўшы пісаць). Благодару покорно!* Т, 39. *Параўн.* благодарствоваць.

Абв. цяп. адз. I ас. *благодару* (2): Т, 39; Т, 47.

**[БЛАГОДАРНЫЙ]** *прым. Руск.* Удзячны. [Усходні вучоны]: *Весьма вам* [Мікіту] *благодарэн*! Т, 27.

Кар. адз. м. Н. *благодарэн*: Т, 27.

**[БЛАГОДАРСТВАВАЦЬ]** *(2) незак. Руск., уст. Тое, што* дзякаваць. [Поп]: *Благодарствую, матушка, благодарствую.* Т, 28. *Параўн.* благодарыць.

Абв. цяп. адз. 1 ас.: *благодарствую* (2): Т, 28(2).

**БЛАГОРОДЗІЕ** *гл.* **БЛАГАРОДЗІЕ**.

**[БЛАЗНОЦКІ]** *прым. Разм.* Несур'ёзны, жартаўлівы. [Янка]: *Ой, нейшта, мабыць, блазноцкае падумалі, цётачка, бо аж вочы спусцілі.* Т, 54.

Адз. н. В. *блазноцкае*: Т, 54.

**[БЛАКІТНЫ]** (2) *прым.* Светла-сіні. – *У клетачку... у палосачку... блакітнага колеру... ой, што там робіцца... Хутка ўсе ўбачылі, як каля нямецкага ДЗОТа капашыліся спадніцы.* ПСп. *Між небам блакітным і чорнай зямлёй Сьвятляная думка лунала.* КП, 170.

Адз. м. Р. *блакітнага*: ПСп. н. Т. *блакітным*: КП, 170.

**[БЛАСЛАВІЦЬ]** *зак.* Пажадаць удачы. *Выпраўляй яго* [сына] *ў людзі, На дарогу блаславі, Разам з крыжам дай на грудзі Роднай вузельчык зямлі.* М, 20.

Заг. адз. 2 ас. *блаславі*: М, 20.

**БЛЕДНЫ** (5) *прым.* **1.** Бяскроўны. *Вылазе з цемры бледны звод, Глядзіць сьлiўнём на долы, горы І тут і там пускае ў ход Свае нямыя загаворы.* Кц, 192. *За много ўсьцяж і тут і там Іх* [людзей] *вусны бледные шэпталі: Аддайце сонцэ нашэ нам!* Там жа, 194. *Параўн.* бляды.

**2.** Няяркі. *Гэй, ты, гэй, прамінуўшы мой час!.. Дзе прасвету хоць цень – бледны цень?* ЧС, 50–51.

Адз. м. Н. *бледны* (2): Кц, 192; ЧС, 50–51. Мн. Н. *бледные* (3): Кц, 194, 195(2).

**БЛЕСК** (4) *м. Руск.* **1.** Водбліск. *Краса бье с князеўных зраніц, Як блеск маланак развуглёны.* Кц, 193. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга .. не давалі мне* [С. Мечу] *гэтулькі асалоды і прыемнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага васеньняга сонца.* ХБ, 29. *Параўн.* бліск.

**2.** *перан.* Раскоша, багацце. *Тыя* [людзі] *ў дагонцы за блескам часовым, Брацьцяў запрэглі ў нявольніцкі плуг..* Г, 16.

**3.** *перан.* Яркае праяўленне чаго-н. *Раслі магілы... зваў прарок... Рос вашай* [бальшавікоў] *моцы блеск і мрок.* ПВ.

Адз. Н. *блеск* (2): Кц, 193; ПВ. Т. *блескам* (2): Г, 16; ХВ, 29.

**[БЛЕКАТНЫ]** *прым. Наватв.* Яркі, асляпляльны. *Іскрыстым, блескатным сьвятлом Заліты княжскіе сьвятліцы..* Кц, 192.

Адз. н. Т. *блескатным*: Кц, 192.

**[БЛІЖНІ]** *прым. У знач. наз.* Родны, блізкі чалавек. *Спрадвеку ходзім пад панамі і пад царам На недруга й на бліжняга свайго вайной..* НГ.

Адз. м. В. *бліжняга*: НГ.

**БЛІЖЭЙ** (4) *прысл. Пар. ст. да* блізка. *І чым бліжэй да яе* [камуністычнай грамады], *тым магутней будзе папаўняцца гэты* [стаханаўскі] *рух мільёнамі працоўных.* СТ. *Госці ўсім кланяюцца, сядаюць. Поп – бліжэй да вакна.* Т, 51. Т, 19, 33.

**БЛІЗКА** (6) *прысл. да* блізкі ў I *знач. Днём ваюем, ночкай дрэмем, А што блізка вораг – кемім.* БЗ. *.. клічэ ешчэ нас* [беларусаў] *сьвятая павіннасьць працаваць і за тых, што аддаюць сваё жыцьцё дзесь там далёка ці блізка.* РКр. Т, 32(2), 38.

◊**Ні далёка, ні блізка** – невядома, дзе па знаходжанню. *Ні далёка, ні блізка, ні ў полі, ні ў лесе Важны ўзносіўся хорам-сталіца.* Ч, 32].

**БЛІЗКІ** (7) *прым.* **1.** Недалёкі па адлегласці. *Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары Яўрэй апошні, .. А паміж тым,.. ўвесь дрыжэў*

*Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80. *На сход, незвычайны свой сход, Да новых нявіданых дзён Ідзе наш савецкі народ З далёкіх і блізкіх старон.* ТП, 217.

**2.** Родны. [Ануля]: *Ну, цяпер успомніла! Гэта ж мы* [Гануля і Гарошка] *блізкія сваякі..* Т, 25. *Адны вас* [жыдоў] *Беларусы шанавалі, Як блізкіх родных – да сьвятлейшае пары.* Ж.

**3.** Дарагі. *Вы, таварыш Ежоў, адзін з любімейшых сыноў вялікай совецкай краіны, блізкі сэрцу беларускага народа.* НКУС. *Параўн.* прыбліжаны.

**4.** *перан.* Цесны, непасрэдны. .. *прыняў* [Купала] *самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмакратаў..* АЛ.

Адз. м. Н. *блізкі* (3): АЛ; Бч; 9; НКУС. М. *блізкім*: ВБЛ, 80. Мн. Н. *блізкія*: Т, 25. Р. *блізкіх*: ТП, 217. В. *блізкіх*: Ж.

**[БЛІН]** (2) *м.* Тонкі праснак. *А калі ты* [дружок] *ўжо другі І чацьвёрты ўдаўся, Вось чаго замест бліна Ты дапамінайся.* $Ш_2$. *Бліны к калядам, к сёмусе адзежка...* ВБЛ, 31.

Адз. Р. *бліна*: $Ш_2$. Мн. Н. *бліны*: ВБЛ, 81.

**[БЛІСК]** (2) *м.* **1.** Бляск. *Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідаючы сваіх брацяў слабейшых на здзек і паняверку.* Нз, 14.

**2.** *Тое, што* блеск у І *знач.* *І хціва мерыць* [абываталь] *шаль перад трумо Пры цьмяньм бліску дымлівых капцілак.* ВБЛ, 81.

Адз. В. *бліск*: Нз, 14. М. *бліску*: ВБЛ, 81.

**[БЛІСКАВІЧНЫ]** *прым. Наватв.* Яркі, выразны, запамінальны. *..бліскавічнымі літарамі будзем* [беларусы] *упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў.* ПЛП.

Мн. Т. *бліскавічнымі*: ПЛП.

**[БЛІСКАЦЬ]** *незак.* **1.** Бліскацець. *А наперадзе ўсіх едзе Наш Даніла з вайны, Шабля бліскае пры боку, Конь пад ім буланы.* ПСД. *Параўн.* блішчэць.

**2.** Свяціцца (пра вочы). *Сеў Данілка, выразае Коніка з бярозкі, Адно бліскаюць у вочках Радасныя слёзкі.* Вб, 238.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бліскае*: ПСД. Мн. 3 ас. *бліскаюць*: Вб, 238.

**БЛІСКУЧА** (2) *прысл. перан.* Выдатна, паспяхова. *Бліскуча распрацаваная немцамі аперацыя таксама бліскуча правалілася.* ПСп (2).

**[БЛІСКУЧЫ]** і *разм.* **[БЛЫСКУЧЫ]** *прым.* Які бліскае, ззяе; яркі, свецiцца. *..задумны бэдуін, едучы ў ночы на вярблюду, зоры блыскучые лічыць..* З. *Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх* [зданяу] *у жалезны ржавелы ланцуг..* БН, 92.

Мн. В. *блыскучые:* З. М. *бліскучых*: БН, 92.

**[БЛІСНУЦЬ]** (4) *зак. перан.* Успыхнуць, узнікнуць. *Здавалася,*

*ноч не пяройдзе, Іржа ня згрызе вечных путаў, – Аж бліснуў пажар на усходзе, І дрогнулі рабскія скруты.* Кр, 77. // *Вобразн.* Выступіць, з’явіцца. *Дай* [пясняр] *волю парывам гарачым, .. Каб бліснулі іскры ў прытухшых вачох, І вечнай свабоды раздольле..* Пр. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых..* ХБ, 28.

Абв. пр. адз. м. *бліснуў*: Кр, 77. ж. *бліснула*: Пр. мн. *бліснулі*: Пр. буд. адз. 3 ас. *блісьне*: ХБ, 28.

**[БЛІШЧЭЦЬ]** *незак. Тое, што* бліскаць *у* 1 *знач. З-пад сьвіткі чорнай даўгаполай Блішчэла бляха накасяк..* УрП, 51.

Абв. пр. адз. ж. *блішчэла*: УрП, 51.

**[БЛОК]** *м.* Аб’яднанне груповак для сумесных дзеянняў. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных .. злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў, агентаў царскай ахранкі, аб’яднаных у адной смярдзючай кучцы “права-трацкісцкага блока”?* МП.

Адз. Р. *блока*: МП.

**[БЛОТО]** *н. Польск. Тое, што* балота *ў* 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходінім). .. край тэн посядал навэт можэ, але, завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэтэ підэісточыло сень в Пінске блото.* Т, 47.

Адз. В. *блото*: Т, 47.

**[БЛУДЗІЦЬ]** (2) *незак. Тое, што* блукаць *у* 2 *знач. Цягалася Крыўда па сьвеце, Ад хаты да хаты блудзіла..* Кр, 77.

◊**Блудзіць пад маскай** – мець прыгнечанае становішча. *Сягоння мы* [беларусы] *жывём і ўдзень мы блудзім Пад маскай, аслямляючаю нас..* Бч, 9.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *блудзім*: Бч, 9. Пр. адз. ж. *блудзіла*: Кр, 77

**БЛУДЗЯЧЫ** *дзеепрысл. да* блудзіць. *Днём* [русалкі] *аддыхаюць у жальбе, Каб ночкай, блудзячы па свеце, Шукаці долі для цябе* [беларуса]. БрБ, 6.

**[БЛУДНЫ]** *прым.:* •**Блудны сьветач** *гл.* сьветач.

Мн. Р. *блудных*: УрП, 46.

**[БЛУКАЦЬ]** (3) *незак.* **1.** Брадзіць, хадзіць. *Чаго ты* [беларус] *блукаеш начніцай? Чаму свой край аддаў на глум?* БрБ, 6. *Каб таму маланкай Асьляпіла вочы І блукаў абмацкам Ён у дзень і ў ночы, Хто для нашых дзетак хоча асьляпленьня..* К.

**2.** Вандраваць. *.. блукала крыўда утаптанай дарогай.* ТП, 214. *Параўн.* блудзіць.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *блукаеш*: БрБ, 6. Пр. адз. м. *блукаў*: К. ж. *блукала*: ТП, 214.

**БЛУКАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* блукацца. *Разм. Тое, што*

бадзяючыся. *Пачуеш* [брат-беларус] *дзіўную аповесць Мінуўшай славы і жыцця, Аб чым згубіў ты ўжо даўно весць, Блукаючыся без пуцця.* БрБ, 6.

**БЛЫСКОТНЫ** *прым. Разм.* Які ўтварае ззянне, бліск. *Пярун блыскотны і грымлівы, І ты Купала, сьветыч тайн Зірнеце міласьцяй сваею..* УрП, 48.

Адз. м. Н. *блыскотны*: УрП, 48.

**БЛЫСКУЧЫ** *гл.* **БЛІСКУЧЫ**.

**[БЛЫТАЦЬ]** *незак.* Бязладна пераплятаць. *Вецер блытаў валасы* [хлопчыка] *ночкай І нейкія словы сьпяваў..* ВБЛ, 81.

Абв. пр. адз. м. *блытаў*: ВБЛ, 81.

**[БЛЮДА]** *н. Руск. Тое, што* страва *ў* 1 *знач.* [Поп]: *В нынешнія врэмена дажэ его прэосвяшчэнство воззавідовало бы сіім блюдам.* Т, 25.

Мн. Д. *блюдам*: Т, 25.

**БЛЯДЫ** *прым. Польск. Тое, што* бледны *ў* I *знач. Твар чаму твой* [дзяўчыны] *бляды?* БН, 92.

Адз. м. Н. *бляды*: БН, 92.

**БЛЯХА** (2) *ж.* Металічная пласцінка як апазнавальны знак або ўпрыгожанне. *З-пад сьвіткі чорнай даўгаполай Блішчэла бляха накасяк..* УрП, 51. *Уваходзіць Мікіта. На шапцы ў яго вялікі значок з белым арлом – брыль абабіты бляхай..* Т, 54.

Адз. Н. *бляха*: УрП, 51. Т. *бляхай*: Т, 54.

**[БЛЯШКА]** *ж. Памянш. да* бляха. Даспехі. *І там здань і тут здань, закружыліся ў круг, Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг..* БН, 92.

Мн. М. *бляшках:* БН, 92.

**БО**[1] (112) *злучн. прычынны. Мы* [беларусы] *павінны яе* [незалежнасці] *дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае і ворагі нашы не дрэмлюць.* Нз, 15. *Пара ў рукі браць паходні, Уставаць,ісьці, ноч разсьветляець! Бо што ня возьміця сягоння, Таго і заўтра Вам ня узяць.* ПБН. *Параўн.:* бо.

Ан, 18(2), 19(2); АЛ; ББ (2); БрБ, 6; ВБЛ, 80; ВМР; ВН (3); ВР; ВС; ВСп, 90(2); 91; ГВУ; Дз, 190; ДК (2); ЖН; Кз, 17(3); М, 20; МІ, 17; МПв, 218; Нз, 14; НДп, 229; НДН (2); НК; ОШМ (2); Пт; Р; РКр; СБНГ (2); СНБ, 339; СП (3); СТ; СЧ; Т, 19, 20(3); 21(3), 22(2), 23, 27(2), 30, 31, 32(3), 35(2), 37, 38, 39, 40(3), 41(2), 44 (2), 45(2), 46, 47, 49(2), 52, 53, 54(2), 55(3), 56(3), 58; Тр (4); ТП, 213(2), 214, 215, 216, 217; УП; ХБ, 28; ХЛБ; $Ш_2$; $Ш_4$; ШБСЯ.

**БО**[2] *часц. Гляньце-ж бо, добрые людзі, як на Беларусі ўсё добра, хораша і дэмократычна!* ДК.

**БОГ** (41) *м.* Рэл. Вярхоўная істота, якая стварыла свет і кіруе ім. *Намыліліся старцы мудрыя і па іх касцях закрасаваў новы*

*ўсемагутны Бог, сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму курыць..* Кз, 17. *Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяперака, бо не аднаго бога мелі, а некалькі..* Там жа.

∆**Бог-павук**: *Як сьмееш* [прыблуднік] *зьдзекавацца гэтак Ад свайго бога-павука!* УрП, 52.

◊**Барані Божа** – засцярога. *.. начальнікі "вучэбных" вокругаў рассылалі цыркуляры, каб барані Божа народныя настаўнікі не чыталі беларускай газеты "Наша Ніва".* МІ, 17. **Бог яго зразумее (пойме)** – невядома, ніхто не ведае. *То паказвае* [душа] *на плечы, То капец абойме... Бог яго ўсё дарэчы Зразумее, пойме!* Дз, 191. **Божа праведны!** – ужываецца пры выказванні страху, здзіўлення. *Божа праведны, Божа! над братам брат – кат!.. І за што ж катам той, а той гэтак цярпіць?* БН, 92. **О, Божа!** *– тое, што* божа праведны. *Дайце сьмерць, хай ня чую, што ноч мне пяе! Дайце сілы!.. О, Божа! Нікога кругом!* Там жа, 91. **Край, Божа** – засцярога, забарона рабіць што-н. т небяспечнае, *Паціху... не бойцеся – пойдзе ўсё гладка, – Крый, Божа, якога прымуса.* Р. **Ні богу свечка, ні чорту качарга** *гл.* свечка.

Адз. Н. *бог* (3): Дз, 191; Кз, 17; Т, 48. Р. *бога* (7): Кз, 17(5); УрП, 51, 52. Д. *богу* (2): СНБ; Т, 57. В. *бога* (2): Бч, 9; БрВ, 6. Кл. *божа* (8): БН, 91, 92(3); МІ, 17; Р; РС, 40; СБНГ. Мн. Н. *багі* (3): Кз, 17 (2); Кц, 193; *богі* (2): УрП, 48, 52. Р. *багоў* (3): Кз, 17(3). Д. *багам* (3): Кз, 17; УрП, 47(2). В. *багоу* (5): Кз, 17; УрП, 51, 52(3); *багі*: $Ш_4$. Т. *багамі* (2): Кз, 17; УрП, 48.

**[БОЖЫ]** (5) *прым.* Які належыць богу. *.. сягоння нашы дужэйшыя суседзі .. гавораць з намі, як з народам, каторы заслужыў па людскому і божаму праву гэту незалежнасць.* ПЛП. *Аўтарнымі слугамі багоў гэтых былі варажбіты-вешчуны – старцы мудрыя і ў справах божых кемкаць маючыя.* Кз, 17. *Параўн.* боскі.

◊**Божы дар** *гл.* дар. **З'явіцца на сьвет божы** *гл.* з'явіцца.

Адз. м. В. *божы* (2): СБНГ; Ч, 323. н. Д. *божаму*: ПЛП. Мн. Т. *божых*: Кз, 17. Кар. адз. ж. В. *божу*: Кз, 17.

**[БОЙ]** (12) *м. Тое, што* бітва. *Нам* [людзям] *трэба к бою рыхтавацца, – Ня сьпіць над намі вораг наш..* УрП, 49. *На бой з ворагам уздымуцца нашы бясстрашшя знішчальнікі і бамбавозы.* ВГ. *Параўн.* бойка.

Адз. Д. *бою* (2): Дз, 189; УрП, 49. В. *бой* (7): ВГ; МД; НДп, 229; НДН, 18; ПБН; УрП, 48; ХЛВ, 315. М. *баю* (2): ПСД; ХЛВ, 31; *боі*: ПНд, 314.

**[БОЙКА]** *ж.* Сварка, сутычка, *перан.* бой. *А дзяўчына, міла сэрцу, Правяла* [Данілу] *за сяло І дала на памяць персцень, Каб у бойках вязло.* ПСД. *Параўн.* бітва.

Мн. М. *бойках*: ПСД.

**[БОК]** (41) *м.* **1.** Правая ці левая частка тулава. *А наперадзе ўсіх едзе Наш Даніла з вайны, Шабля бліскае на боку, Конь пад ім буланы.* ПСД. *Пры боку* [прыблудніка] *меч матаўся голы, На сьвітцы – нейкі страшны знак.* УрП, 51. // Адна з частак якога-н. прадмета. [Мікіта]: *..прышпільвайце* [Гануля] *чым-небудзь адвіснутыя матузы ад шпалераў, а я адкулю на добры бок абразы.* Т, 50. [Мікіта]: *Зусім польскі* [пашпарт] *і з усіх бакоў польскі.* Там жа, 61.

**2.** Напрамак мясцовасці, прастора ў пэўным кірунку чаго-н. *Там* [у Заходняй Беларусі] *не чутно песень вясёлых, адно толькі смутныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок – на Ўсход, чакаючы вызвалення..* ЖН. *..у заходні бок Шлях той коціцца, гэй, гэй, Шлях той коціцца.* ББ. // Напрамак развіцця. *Вы* [паны абшарнікі] *таксама бяссільны павярцуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія ці Швейцарскія горы адны на месца другіх.* Тж, 16.

**3.** Месца справа або злева ад сярэдняй лініі. *Абодва* [вучоныя] *раскланьваюцца і выходзяць – кожны ў праціўны бок, з якога прышоў быў.* Т, 39.

**4.** Прастора злева і справа. *Плывуць* [Кіраў і Сталін] *па Беларморскаму каналу... А лес шуміць... азёры ў хвалях па бакох...* СК, 158.

**5.** Месца, якое знаходзіцца на нейкай адлегласці ад чаго-н. *Гануля сядзіць і робіць панчоху; чуваць стук у дзверы з левага боку, што далей ад рампы.* Т, 19. [Гануля]: *Той пакой, дзе жылі вы* [Янка], *аддалі нейкаму ў скураной жакетцы, .. а з таго боку, дзе была мая спальня і Мікітавы габінет, абодва гэныя пакоі заняў нейкі.. рэдактар..* Там жа, 45.

◊**Агіляцца па бакох** *гл.* агіляцца. **Бокам вылазіць** *гл.* вылазіць. **З аднаго боку..., з другога боку...** *(у знач. пабочн.)* – ужываецца пры супастаўленні двух фактаў, з'яў. *У гэтай контррэвалюцыйнай рабоце беларускія нацыянал-дэмакраты апіраліся, з аднаго боку, на кулацтва.., а з другога боку, на зарубежныя сілы..* АЛ. **З боку** *(каго-н.)* – аб дзеяннях, якія зыходзяць ад каго-н. *Я* [Купала] *хачу.. падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку большэвіцкай партыі і совецкай улады.* ЖН. [Дама]: *Вельмі прыемна з вашага* [Мікіты] *боку!* Т, 52. **З усіх бакоў** – адусюль. *Заціснуты, задушаны* [беларусы], *як мышы Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў, Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы Таго свайго, што наша ад вякоў.* Бч, 9. **Калоццем у баку** *гл.* калоцце. **На ўсе бакі** – з усімі, з шырокім колам людзей. [Мікіта]: *Так сабе – надта мілая і сымпатычнная, между протчым, мамзэль. На ўсе бакі вядзе* [Наста] *шырокае знаёмства.* Т, 23. **У гэты (той) бок пальцам не ківаць (кіўнуць)** *гл.* ківаць.

Адз. Р. *боку* (14): АЛ (3); ВВ, 17; ВСп, 91; ЖН; СНБ, 337; Т, 19(2), 38, 42, 45, 49, 52. В. *бок* (14): ББ; БСУ; ЖН; Кц, 192; Нз, 15; ПБН; СНБ, 336; СНБ; Т, 38, 39, 40, 50, 55; Тж, 16. Т. *бокам* (2): Нз, 15; Т, 33. М. *боку* (2): ПСД; УрП, 51; *баку*: Ан, 18. Мн. Р. *бакоў* (4): АПЖ; Бч, 9; Т, 25, 61. В. *бакі*: Т, 23; *бокі*: З. М. *бакох* (2): ВС; СК, 158.

**БОЛЕЙ** (29) *прысл.* **1.** *Тое, што* больш *у* 2 *знач. Край наш* [беларускі] *сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей..* Нз, 15. *Раз'юшаная царская рэакцыя здабытыя рабочым народам свабоды што раз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі.* ДЖ.

**2.** У спалучэнні з абазначэннем колькасці выражае перавышэнне. *"Сокі Цаліны" Цішкі Гартнага і "Дудка беларуская" і "Смык Беларускі" .. пасьля болей як паўвяковага працягу часу першы раз надрукаваны "гражданкай"..* ВСп, 89. // У спалучэнні з назоўнікамі абазначае няпэўную колькасць. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, – як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы..* Кз, 17.

**3.** *Тое, што* больш *у* 2 *знач. .. ці ж знойдзецца на свеце болей дэмократычны па сваёй прыродзе І ўжыўчывы народ, як народ беларускі?* НДН, 19. [Спічыні]: *Учора мы* [Спічыні і Мікіта] *збольшага прайшлі аддзел прывітанняў, сягоння павінны іх паўтарыць болей стала.* Т, 31.

**4.** *Тое, што* больш *у* 3 *знач. Люд рабочы, люд сялянскі не засне ўжо болей.* ЗЯЗ, 90. *Каб вады гарачай На таго нагрэлі І ня ўстаў ён болей Са сваёй пасьцелі, – Хто над Беларусяй Хоча распасьцерці Свой бізун чужацкі І народ усьмерціць.* К.

◊**Далей-болей** *гл.* далей.

БСУ; ВБ (3); ВС; ВСп, 89; ДЖ (2); ЗК, 42; Н (2); НД; СНБ, 338; СЧ; Т, 36(2), 46, 48, 54(2); Ф.

**[БОЛЬ]** (2) *ж.* Адчуванне фізічнай ці маральнай пакуты. *Пры песельным звоне народ акрылеў, Глядзеў, калыхаўся свабодай, У бітвах верх браў, боль сваю адалеў..* ПНд, 47. *Серца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50–51.

Адз. В. *боль*: ПНд, 47. Т. *боллю*: ЧС, 50–51.

**БОЛЬШ** (31) *прысл.* **1.** *Пар. ст. да* многа. *Дык больш самачыннасьці, больш сьмеласьці к будаваньню свайго новага незалежнага жыцьця.* БС. *Па праўдзе кажучы, паступіўшы ў гэтае вучылішча, я* [Купала] *ведаў больш, чым патрабавалася праграмай.* А, 328. *Параўн.* болей *у* 1 *знач.*

**2.** У спалучэнні з абазначэннем колькасці выражае перавышэнне. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шумлівага..* ПЛ. *Меншчына ляжыць трошкі*

*больш на поўдзень за Маскву.* ХБ, 29. *Параўн.* болей *у* 3 *знач.*

**3.** *У спалуч. з прым. ці прысл* утварае пар. ст. *Скалы і долы над Фінскай затокай, Прыстані, выспы Балтыцкага мора Вораг заморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры.* Ф. *Больш на нас не рыне банда Апалелай сукай, З-за вугла нас не падсочыць Подлая гадзюка.* НК. *Параўн.* болей *у* 4 *знач.*

**Больш самачыннасьці**.

◊**Больш за ўсё** (2) – пераважна, часцей за ўсё, найчасцей. *Агулам кажучы, трэба больш за ўсё надзеіцца на свае сілы і не агіляцца па бакох.* ВС. *Кнігі абудзілі ва мне* [Купалу] *фантазію. Але больш за ўсё.. зрабілі на мяне ўплыў беларускія народныя казкі..* ПС. **Больш-менш –** у нейкай ступені. *.. гуманітарныя ідэі .. заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе, і не было больш-менш вялікшага.. здарэння на Захадзе, каб яно не адгукнулася на Усходзе.* Тж, 15. **Ня больш як** – усяго толькі. *Першы* [склад] – *муж вучоны, важны; Носіць чын такі не кажны. Хоць па-просту на наш лік Ён ня больш як чараўнік.* $Ш_4$. Ан, 19; БС (3); ВЕ; ЗС, 18; Нз, 14; 15; НДН, 19; ПБН; ПЛ; ПС; ПЧ; Т, 33, 35; ТЗУ; УП (2); УПУВ; ХБ, 29; Ч, 323.

**БОЛЬШАСЦЬ** (6) *ж.* Большая частка, колькасць чаго-н. *Большасць* [культурных дзеячоў Чэхаславакіі] *добра ведае рускую мову..* ПЧ. *.. права нацыянальнай меншасці павінна стаяць у нас нараўне.. з правам нашай беларускай большасці.* НДН, 19.

Адз. Н. *большасць* (3): ПСп; ПЧ; Т, 29. Р. *большасці* (3): НДН, 19(2); Т, 29.

**[БОЛЬШОЙ]** *прым. Руск. Тое, што* вялікі *ў* 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік, голасна). Родной язык – обшчэрускій, веліколепно ўсовершэнствованный, но с большой прымесью непонятных слов.* Т, 26.

Адз. ж. Т. *прымесью*: Т, 26.

**[БОЛЬШЫ]** (7) *прым.* **1.** *Пар. ст. да* вялікі. *Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай.. сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй..* АЛ. *А дружба народаў Совецкага Саюза, як сказаў таварыш Сталін, мае нават большае значэнне, чым нашы гаспадарчыя поспехі..* ЖН.

**2.** *У знач. наз. Разм.* Дарослы, старэйшы. *Ды йшчэ кажа* [Галінка], *што малая, Урны не дастану... Што-ж такое, – пачакаю, Пакуль большай стану.* Вб, 236.

Адз. ж. В. *большую* (2): ЖН; СНБ, 337. Т. *большай* (3): АЛ (2); Вб, 236. н. Р. *большага*: Т, 55. В. *большае*: ЖН.

**БОЛЬШЭВІК** *гл.* **БАЛЬШАВІК**.

**БОЛЬШЭВІЦКІ** *гл.* **БАЛШАВІЦКІ**.

**[БОМБА]** *ж.* Авіяцыйны выбуховы снарад. *Ты* [лётчык] *будзеш*

*глядзець самалёта, А бомбы скідаць буду я* [хлопчык].. ХЛВ, 315.

Мн. В. *бомбы*: ХЛВ, 315.

**[БОНТОННЫ]** *прым. Іран.* Бесталковы, бяссэнсавы. [Мікіта]: *(яшчэ кленчачы і працягнуўшы з парасонам рукі ўслед Насце). О, ранга мая асэсарская! О, кляса мая бонтонная, беспардонная!* Т, 42.

Адз. ж. Н. *бонтонная*: Т, 42.

**БОР** (14) *м.* Стары густы сасновы лес. *А сонейка будзе ўсходзіць, заходзіць, Плысці будуць рэчкі, шумець будзе бор.* НДп, 230. *І пайшло ў паходы войска Полем, лугам, борам, А байцоў, як зор на небе, Як пясчын у моры!* ЗЯЗ, 90.

◊**Бор-лес**: *Гудзеў, каціўся звон вячовы, Тужліва бор-лес падцінаў..* УрП, 47.

Адз. Н. *бор* (5): ВБ; НДп, 230; ПБН; Т, 53; УрП, 47. Р. *бору* (2): УрП, 51; ХБ, 29; *бора*: Чж, 146. Т. *борам*: ЗЯЗ, 90. М. *бары* (4): ББ (4); *боры*; Дз, 189.

**[БОРКА]** *ж. Разм.* Змаганне, барацьба. *Вызначаюцца дзьве сілы ў нашым месьце, каторые распачнуць борку на выбарах. Гэта – палякі і расійцы.* ВМР.

Адз. В. *борку:* ВМР.

**[БОСКІ]** *прым. Польск. Тое, што* божы. *Яны* [земляробы] *назіраюць толькі сумным вокам, як гэта зямля, каторая па боскаму праву павінна была дастацца іхнім працавітым мазалям, – зямля пападае ў рукі лішніх* [на Беларусі] *.. людзей.* ЗС, 18.

Адз. н. Д. *боскаму*: ЗС, 18.

**[БОСЫ]** *прым. перан.* Бедны. [Мікіта]: *Як жа яму* [Немцу] *вытлумачыць, што я не генэрал, а калежскі рэгістратар? Пашукаю яшчэ ратунку ў слоўніках. (Шастае слоўнікам). Генэрал... пажарная каманда... Оеей! Оеей! Мая ты босая каманда.* Т, 32

Адз. ж. Н. *босая*: Т, 32.

**БОТ** (9) *м.* Абутак з высокімі халявамі. – *Так і так, – кажу, – пане рэдактар: боты падзерліся, табакі няма, селядцы дарагія...* Ан, 18. *Так, знясільваючая праца бурлакоў робіцца проста сваточнай, калі бурлакам падаруюць гумавыя бацявы боты – бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць.* ПЧ.

• **Жандармскі бот** – *палітычная сіла царскай Расіі. Жандармскі бот, здавалася, зрабіў сваё.* ДЖ.

Адз. Н. *бот*: ДЖ. Мн. Н. *боты* (3): Ан, 18; ПЧ; Т, 54. В. *боты* (5): ПЧ; Т, 19, 20, 58, 60.

**[БОХАН]** *м.* Выпечаны хлеб круглай формы. .. [нашы прашчуры] *астаўлялі ў хатах пад абрусамі бохана хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы сотаў пчаліных – гэта каб госць меў чым з дарогі пажывіцца.* Кз, 17.

Адз. Р. *бохана*: Кз, 17.

**[БОЧКА]** (2) *ж.*: ◊**З іншай бочкі** – наадварот. [Спічыні]: *Віншую, віншую! Паспрабуем затое з іншай бочкі. Перакулеце* [Мікіта] *на наш манер такі зварот: ешчэ Польска не згінэла.* Т, 49. **Сядзець як на падпаленай бочцы з порахам** *гл.* сядзець.

Адз. Р. *бочкі*: Т, 49. М. *бочцы*: СНБ, 340.

**[БРАДЗІЦЬ]** *зак. Руск. Тое, што* блукаць у 1 *знач. ..з пургою, з завірухай разам Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць.* ПСС, 231.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *бродзяць*: ШС, 231.

**[БРАЗДЖАЦЬ]** *незак. Разм.* Бразгатаць. *Путы звонка браздджаць і ўгары і ўнізу..* БН, 92.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *бразджаць*: БН, 92.

**БРАМА** (3) *ж.* Крытыя зверху вароты. *Брама насьцеж у будні дзянёк, ці ў сьвята.* ХБ, 28. *Прыглядаецца* [Гануля] *на браму.* Т, 59.

Адз. Н. *брама*: ХБ, 28. В. *браму* (2): Т, 39, 59.

**БРАТ** (52) *м.* **1.** Кожны з сыноў у адносінах да другіх дзяцей тых жа бацькоў. *Брат памёр на тыдзень раней, чым сёстры.* А, 328. *Тры браты, што пуці чараўнік тры адмеціў, Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў.* Ч, 322.

**2.** Чалавек, якога яднае з тым, хто гаворыць, агульнасць радзімы, класавых інтарэсаў, умоў. *Сялянскія гоні адзеты ў кайданы. У вузкія межы ўвагнаны палі. Гаруе там брат наш, гібее пад панам, – Жахлівасцю вее з Заходняй зямлі.* ПБН. *Тыя ў дагонцы за блескам часовым, Брацьцяў запрэглі ў нявольнічы плуг, Тыя, таргуючы імем Хрыстовым, Цемру і здраду спладзілі вакруг.* Г, 16.

**3.** *Разм.* Форма сяброўскага звароту. *Ну, і заехаў жэ ты, брат! Я пытаю аб слабодзе, што нам дарована маніфэстам?!* ХЛБ. *Не, браты, гэтакім ладам мы далёка не заедзем.* БС.

**Брату-беларусу.**

∆**Брат-беларус:** *Брату-беларусу.* **Брат-зьвер:** *Трэці брат.. шанаваць чалавечага духу Не патрапіў навучыць брата-зьвера.* Ч, 323. **Браты-Славяне:** *Хочэм* [беларусы] *папросту, каб лепш ручыла Нашым хацінам, нашым палянам, Каб стаць раўнёю славай і сілай Брацям-Славянам.* Пп. **Непрыяцель-брат** *гл.* непрыяцель.

Адз. Н. *брат* (20): А, 328; БН, 92(4); Дз, 187, 191; НГд, 8; ПБН; Т, 25; ТП, 217; ХЛБ; ХХ (2); Ч, 322, 323(3), 324; ЧС, 50–51. Р. *брата* (2): ВБЛ, 82; Ч, 320. Д. *брату* (2): БрБ; Ч, 323. В. *брата* (6): Дз, 190, 191; НДп, 229; СП; УрП, 52; Ч, 323. Т. *братам* (3): Дз, 187, 190; БН, 92. Кл. *браце* (2): ЗЯЗ, 69; НК. Мн. Н. *браты* (7): ВС; МІ, 17; Нз, 15; НДп, 229; ПЛП; РКр; Ч, 322. Д. *братам* (3): Б, 18; ЗЯЗ, 89; Пр, 147; *братом*: УрП, 49; *брацям*: Пп, 162; *брацьцям*: Чж, 147. В. *братоў* (2): Ч, 322; ЧС, 50–51; *брацяў*: Нз, 14; *брацьяў*: Г, 16.

**[БРАТАЧНАСЦЬ]** *ж. Наватв.* Братэрства. *Тыя шчыра дэмакратычныя думкі, аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай, найглыбей.. западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы.* НДН, 19.

Адз. М. *братачнасці*: НДН, 19.

**БРАТКА** *м. Ласк. да* брат у 1 *знач. Ах, якая сям'я! Мілы братка ты мой, ці ты жыў, ці памёр?* БН, 92. *Параўн.* браточак.

Адз. Н. *братка*: БН, 92.

**БРАТНІ** (3) *прым.* Таварыскі, сяброўскі. .. *братні польскі народ дапаможа беларусам адбудаваць сваю бацькаўшчыну, як ён адбудаваў і сваю.* СНБ. *Шмат асоб аказалі мне* [Купалу] *папраўдзе братнюю помач і апеку*. ЛР.

Адз. м. Н. *братні*: СНБ. ж. Н. *братняя*: АЛ. В. *братнюю*: ЛР.

**[БРАТОЧАК]** (2) *м. Разм. Тое, што* братка. *У плуг запрог* [сярэдні сын] *свайго браточка На век да сканання, А мяне* [маці] *асеньняй ночкай выгнаў на бадзяньне.* Дз, 190. *А сваяк і чужак строіць петлі І сеці, Аплятае ўсё віднае ночай; Зварухнуцца ня сьмее ў заплесьнеўшай клеці, На браточкаў зубамі скрыгоча.* Ч, 321.

Адз. В. *браточка*: Дз, 190. Мн. В. *браточкаў*: Ч, 321.

**БРАТОЧНА** *прысл. Наватв.* Па-брацку. *Верны славянскім спадкам, браточна У госьцях вас* [людзей чужых] *мелі, І шанавалі людска, сьвяточна Ў будні, ў нядзелі.* Чж, 146.

**БРАХНЯ** (5) *ж. Разм., пагардл.* Няпраўда, хлусня, мана. *Гэта раз'юшаная антысовецкая брахня .. разаб'ецца, як аб недаступную скалу, аб магутнасць і з'яднанасць рабочых і калгаснікаў Совецкай Беларусі.* ШБСЯ. *Годзе брахні ўжо падкупленых зводаў! Годзе таптання праўд вечных, сьвятых!* Г, 16.

Адз. Н. *брахня*: ШБСЯ. Р. *брахні*: Г, 16. В. *брахню* (2): ІЛП (2). Т. *брахнёю*: АПЖ.

**[БРАЦКІ]** *прым.* Які мае адносіны да брата ў 2 *знач. Упартая, але радасная праца працоўнага народу маёй* [Купалы] *бацькаўшчыны ў саюзе з усімі брацкімі рэспублікамі дала вынікі незвычайныя!* ЖН.

Мн. Т. *брацкімі*: ЖН.

**[БРАЦТВА]** *н.* Садружнасць, еднасць. *Сваей неразумнай захватнай палітыкай яны* [соцыяльныя рэвалюцыянеры з усходу і нацыянальныя "рэвалюцыянеры" з заходу] *толькі зацягіваюць процэс.. разьвіцьця нацыянальна-культурных ідэй і пашырэньне на зямлі нясьмертных ідэялаў свабоды, роўнасьці і брацтва.* СНБ.

Адз. Р. *брацтва*: СНБ.

**[БРАЦЦА]** (4) *незак.* **1.** Пачынаць работу, распачынаць якую-н. дзейнасць. *Вучоныя канчаюць пісаць, адначасова бяруцца за падзорныя трубы, азіраюцца.* Т, 26.

**2.** Прымацца за што-н. [Мікіта]: .. *мамаша, не ламеце рук, а бярэцеся хутчэй за работу.* Т, 59.

**3.** Адважвацца, умець, магчы зрабіць што-н. *Як "нацыяналізаваць" – калі можна так выказацца – нацыянальны беларускі гымн з паміж ужо існуючых гэтых твораў – не бяруся выясьняць.* СБНГ.

**4.** Збірацца, намервацца зрабіць што-н. [Ануля]: *Не шанцуюць* [свабодныя прафесіі], *бо не за сваё бярэшся* [Мікіта]. Т, 46.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *бяруся*: СБНГ. 2 ас. *бярэшся*: Т, 46. Мн. 3 ас. *бяруцца*: Т, 26. Заг. мн. 2 ас. *бярэцеся*: Т, 59.

**БРАЦЬ[1]** (25) *незак.* **1.** Авалодваць чым-н. *Пара ў рукі браць паходні, Уставаць, ісьці, ноч разсьветляець!* ПБН. *Бярэ* [князь] *коўш соладка віна, П'е за дружыну маладую.* Кц, 193. // Прыхопліваць што-н. з сабой у дарогу. *Разумеецца, бацька за гэта мяне* [Купалу] *не мілаваў і часта не даваў браць з сабой* [на начлег] *кніжкі.* ПС. *Памятаю, .. калі бацька пасылаў мяне* [Купалу] *з сястрой на начлег пасвіць коней, я браў з сабой кнігі..* Там жа. // Пазычаць. *Хай бяруць з магазыноў толькі тае, хто папраўдзе не мае за што купіць..* ВС. // Набіраць чаго-н., запасіць што-н. [Мікіта]: *Добрыя людзі адчынілі склад з ёю* [патакай] *на Нізкім рынку і – бяры хто хочаш і колькі хочаш.* Т, 54.

**2.** Прымушаць стаць кім-н. [Мікіта]: *..пры новай палітычнай сытуацыі будуць дабравольна браць маладых мусы і дабравольна адпраўляць іх на Урангелеўскі фронт.* Т, 55. // Залічваць куды-н. [Мікіта]: .. *немцы пажарнікаў на работы не бяруць.* Т, 24. // Забіраць сілай, адбіраць. [Ануля]: .. *а мой жа немчык! Не бяры ў мяне апошняга Мікітку.* Т, 32. [Мікіта]: *Не губі* [немец] *маёй маладосці – не бяры ў палон!* Там жа, 33.

**3.** Збіраць, спаганяць што-н. *Ён* [ксендз] *сказаў, што адну плату ён бярэ за адну галаву, а зусім іншую за дзве галавы.* А, 328.

**4.** Вучыцца чаму-н., авалодваць ведамі. [Мікіта]: *Бяру ў яго* [Спічыні] *лекцыі таго "языка", з якім прыходзіць новая сытуацыя.* Т, 48.

**5.** Праглядаць што-н. *Бяру* [Купала] *нумары паводле сьпісу: 1, 2, 3, 4, 5, 21, 23, 34. Агулам дзевяць назваў шасьцёх розных аўтараў; лік надрукаваных страніц – 1148 (1).* ВСп, 89.

◊**Браць верх** (2) – дамагацца перавагі, адольваць каго-н. *З гэтага бачым, што эндэцкая рэакцыя якобы пачынае браць верх.* СНБ. *Пры песельным звоне народ акрылеў, Глядзеў, калыхаўся свабодай, У бітвах верх браў, боль сваю адалеў..* ПН, 47. **Браць за плечы** – змагацца. *Буйным жыццём усё чыста кіпела, Слава далёка за мора ішла, Ворага кожны за плечы браў смела, Цемра чужынцаў не страшнай была.* Н. **Браць "пад казырок"** – аддаваць чэсць, вітаць, прыкладваючы правую руку да галаўнога ўбора.

*Немец тлумачыць на мігі, што яму грошы не трэба, бярэ “пад казырок”; выходзіць.* Т, 42. **Браць у абоз** *гл.* абоз. **Браць у свае рукі** – узнаначальваць што-н. *Адбудаванне незалежнасці Беларускай Дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь.* МІ, 18. **Страх бярэ** *гл.* страх.

Інф. *браць* (4): ПБН; ПС; СНБ; Т, 55. Абв. цяп. адз. 1 ас. *бяру* (3): ВСп, 89; Т, 29, 48. 3 ас. *бярэ* (7): А, 328; Кц, 193; МІ, 18; Т, 29, 33, 35, 42. Мн. 2 ас. *бярэце*: УрП, 50. 3 ас. *бяруць* (4): ВС; Кц, 193; Т, 24, 54. Пр. адз. м. *браў* (3): Н; ПН, 47;ПС. Заг. адз. 2 ас. *бярэ* (3): Т, 32, 33, 54.

**[БРАЦЬ][2]** *ж., зб. Разм., жарт.* Брацiя. *У сваясях Налівайка З вернай служкаю нагайкай Сказ даюць сялянскай браці, Як чын чына пачытаці.* НД.

Адз. Д. *браці*: НД.

**[БРОВАР]** (2) *м.* Вінакурны завод. [Пан]: *Ні маёнткаў, ні бровароў!* Т, 20. *Гэтак праслужыў тры гады ў броварах чорнарабочым.* М, 328.

Мн. Р. *бровароў*: Т, 28. М. *броварах*: А, 328.

**[БРОНЬ]** *ж. Уст.* Браня, засцерагальнае металічнае адзенне воіна. *А як чапнуў стралой аб лук, Яны* [людзі] *скрануліся ў прасоньні І столькі, столькі крэпкіх рук К маёй* [ганца] *паціснулася броні*. Кц, 195.

Адз. Д. *броні*: Кц, 195.

**[БРОЎ]** *ж. Руск., разм.* Брыво. *Над брывёю шрам услонь, І ў вачах яго* [сына] *сінь такая-ж..* ВБЛ, 81.

Адз. Т. *брывёю:* ВБЛ, 81.

**[БРУД]** *м.* Нечыстоты. *Як чуму, ясным днём Выгналі* [беларусы] *прыблудаў, Свой ачысцілі дом Ад варшаўскіх брудаў*. ПД, 83.

Мн. Р. *брудаў:* ПД, 83.

**[БРУК]** (2) *м.* Укладзеная каменем праезджая частка вуліцы, дарогі, плошчы. *І паліліся ізноў па віленскім каркаломным бруку гаротные сьлёзы, сьлёзы кракадылевы.* ЧЧШ. *Як чорная поліўка, ліліся яго* [пана рэгістратара] *буйные сьлёзы за дзьверы на вуліцу,.. мешаліся з расхляпаным балотам віленскіх каркаломных брукоў.* Там жа.

Адз. М. *бруку*: ЧЧШ. Р. *брукоў*: ЧЧШ.

**[БРЫГАДЗІР]** *м.* Кіраўнік брыгады. *Яны* [жанчыны] – *трактарысткі, яны – брыгадзіры, З іх многа ў нашых советах старшынь.* ПБН.

Мн. Н. *брыгадзіры*: ПБН.

**[БРЫДКІ]** (2) *прым.* Непрыгожы з выгляду. [Янка]: *Мабыць, нешта надта брыдкое* [прывезла]. [Аленка]: *І зусім не брыдкое, а нават.. дужа прыгожае.* Т, 30.

Адз. н. Н. *брыдкое* (2): Т, 30 (2).

**БРЫЛЬ** *м.* Казырок шапкі. *На шапцы ў яго* [Мікіты] *вялікі значок з белым арлом – брыль абабіты бляхай..* Т, 54.

Адз. Н. *брыль*: Т, 54.

**[БРЫЛЯНТ]** *м. Разм*. Брыльянт. *Агні брылянтаў, як зарніц, Зіяюць с княжэскай кароны..* Кц, І93.

Мн. Р. *брылянтаў*: Кц, 193.

**[БРЫСЦІ]** (3) *незак*. Ісці павольна; цягнуцца. *Пад звоны зброі, путаў звоны, Пад свіст раз'юшаных прыблудаў Брыдзеш* [Новы год] *з няведамых старонаў, Як здань няведамага цуду*. НГд, 8. [Аленка]: *А гэта што за такія пілігрымы брыдуць сюды?* Т, 37. *Параўн.* брысці-ісці.

◊**Брысці, паўзці ў свет** – дасягаць трывалага становішча ў грамадстве. *З кійком жабрачым так мы* [беларусы], *паўналеткі, Брыдзём, паўзём у свет – скрозь неўпапад.* Бч, 9.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *брыдзеш*: НГд, 8. Мн. І ас. *брыдзём*: Бч, 9. 3 ас. *брыдуць*: Т, 37.

**[БРЫСЦІ-ЙСЦІ]** *незак. Тое, што* брысці. *У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.* УрП, 51.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *брыдзе-йдзе*: УрП, 51.

**[БРЫЧКА]** *ж.* Лёгкі выязны вазок. [Янка]: *Ці не ўпісаліся вы* [Мікіта] *ў менскія свабодныя гэрцум-сролікі? – як тачнік які, тарабаніце гэту брычку з сабой.* Т, 45.

Адз. В. *брычку*: Т, 45.

**[БУБНЕЦЬ]** (2) *незак. перан.* Назойліва паўтараць адно і тое ж. *І бубніць, бубніць бабульцы Ўнук сямігадовы.* Вб, 237.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бубніць* (2): Вб, 237(2).

**[БУДАВАНЬНЕ]** (5) *н. Тое, што* будаўніцтва. *Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцьця паднявольнымі народамі.. сягодня ператвараецца ў жыцьцё, становіцца жывым дзелам, цьвёрдым фактам.* БСУ. *Дык больш самачыннасьці, больш сьмеласьці к будаваньню свайго новага незалежнага жыцьця.* БС. *Параўн*. будова ў 2 *знач.,* будоўля.

Адз. Р. *будаваньня* (3): БС; БСУ; СНБ. Д. *будаваньню*: ВС. М. *будаваньні*: БС.

**[БУДАВАЦЦА]** *незак. перан.* Стварацца, узводзіцца. *Будуецца соцыялізм.* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *будуецца*: АЛ.

**БУДАВАЦЬ** (9) *незак. перан.* Ствараць, узводзіць. *.. моладзь пачынае сама па сабе, не раз абмацкам, нацянькі будаваць сваё роднае, светлае, народнае жыццё.* МІ, 17. *Хай жа гэтая думка, што мы будуем сваю Бацькаўшчыну.., павядзе нас "к свабодзе, роўнасьці і знаньню".* БСУ.

Інф. *будаваць* (4): БСУ; МІ, 17; Тж, 16(2). Абв. цяп. адз. 3 ас. *будуе* (2): АЛ (2). Мн. I ас. *будуем* (2): БСУ; ВГР. Пр. мн. *будавалі*: ЦСБ.

**БУДАЎНІК** (5) *м. перан.* Стваральнік, тварэц. *Учора паднявольны згорблены рабочы і селянін-бедняк, сёння з высока паднятай галавой вольны грамадзянін і будаўнік вялікага Совецкага Саюза.* ШБСЯ. *Прывітанне будаўнікам! Прывітанне нашым камандзірам!* ПГ. *Параўн.* будаўнічы.

Адз. Н. *будаўнік*: ШБСЯ. Р. *будаўніка*: ЦСБ. Мн. Н. *будаўнікі*: ШБСЯ. Д. *будаўнікам*: ПГ. Т. *будаўнікамі*: ШБСЯ.

**БУДАЎНІЦТВА** (14) *н.* Стварэнне новых умоў жыцця. *Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і эканомічнае будаўніцтва Беларусі.* АЛ. *Усе сілы – соцыялістычнаму будаўніцтву на зацьвітаючай новымі агняцьветнымі краскамі індустрыяльна-колгаснай глебе Савецкай Соцыялістычнай Беларусі!* Там жа. *Параўн.* будаваньне, будова ў 2 *знач.,* будоўля.

Адз. Н. *будаўніцтва*: АЛ. Р. *будаўніцтва* (7): АЛ (3); ГНД; ДНСП; СНБ; ШБСЯ. Д. *будаўніцтву*: АЛ. В. *будаўніцтва*: АЛ. М. *будаўніцтве* (4): АЛ; СЧ; ЦСБ; ШБСЯ.

**[БУДАЎНІЧЫ]** *прым. У знач. наз.* будаўнік. *Я* [Купала] *з вялікім задавальненнем і радасцю прачытаў прынятае прывітанне мудраму правадыру, незраўнанаму будаўнічаму новага светлага жыцця тав. Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну..* ШБСЯ.

Адз. м. Д. *будаўнічаму*: ШБСЯ.

**[БУДЗЕНЬ]** (2) *м. Разм.* Будні дзень, несвяточны (дзень). *Так я* [бацька] *гібеў, а знікуль яснай весці, Горкае гора і ў будні, і ў свята...* Бц, 74. *У госьцях вас* [чужых людзей] *мелі, І шанавалі людзка, сьвяточна Ў будні, у нядзелю.* Чж, 146.

Мн. В. *будні* (2): Бц, 74; Чж, 146.

**БУДЗІЦЬ** (4) *незак. перан.* Абуджаць ад чаго-н. *І вось гэтыя сотні тысяч кніг рассыпяцца па ўсёй Беларусі, каб навучаць там і будзіць беларускую прыспаную думку.* ВСп, 91. *Гусьлямі, лукам і сьвятлом Будзіце* [ганцы], *клічце і сьвяціце, І так спануйце іхнім* [людзей] *сном, Каб сон іх счэз і ўсталі жыці.* Кц, 196.

Інф. *будзіць* (2): ВСп, 91; СС, 301. Заг. мн. 2 ас. *будзіце* (2): Кц, 196; УрП, 50.

**БУДКА** *ж.* Надбудова над калодзежам. – *Глыток вады. – Няльга, запёрта будка. – Глыток вады, – Нам на сям'ю вядро.* ВБЛ, 80.

Адз. Н. *будка*: ВБЛ, 80.

**[БУДНІ]** *прым. да* будзень. *Брама насьцеж у будні дзянёк, ці ў сьвята.* ХБ, 28.

Адз. м. В. *будні*: ХБ, 28.

**[БУДОВА]** (3) *ж.* **1.** *Тое, што* пабудова. *..стаяць вялікія цяжкія*

*калоды. Гэта – старасьвецкай будовы вульлі для пчол.* ХБ, 30. [Янка]: *Такая праца йдзе якраз пры будове егіпецкіх пірамідаў.* Т, 55.

**2.** *Тое, што* будаўніцтва. .. *трэба было толькі класці сцены і завяршыць будову светлага, незалежнага існавання Беларускай дзяржавы.* СНБ, 337. *Параўн.* будаваньне, будоўля.

Адз. Р. *будовы*: ХБ, 30. В. *будову*: СНБ, 337. М. *будове*: Т, 55.

**[БУДОЎЛЯ]** (2) *ж. Тое, што* будаўніцтва. *Ведаў* [народ] *толькі, што найлепей гаварыць з небам, гледзячы ў неба, не зачыняючыся ў ніякія словы будоўлі.* Кз, 17. *Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай, азьвярэньнем і нянавісьцю сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй..* АЛ. *Параўн.* будаваньне, будова *ў* 2 *знач.*

Адз. Р. *будоўлі*: Кз, 17. Т. *будоўляй*: АЛ.

**[БУДУЧНАСЦЬ]** *ж. Разм. Тое, што* будучыня. *Багата ўраджаем Зямля расквітнела. У будучнасць людзі Ўзіраюцца смела.* СС, 300. *Параўн.* будучыня.

Адз. В. *будучнасць*: СС, 300.

**[БУДУЧЫ]**[1] (11) *прым.* **1.** Які наступіць, адбудзецца. .. *дзьве рэвалюцыі выступілі на крывавую арэну за свае праўды, за сваё першынство ў дзеле будаваньня будучага людзкага жыцьця на грэшнай зямлі.* СНБ. *Аўтарнік тайную малітву Паціху над людзьмі тварыў, – Ён бачыў будучыя бітвы, Ён новых ворагаў адкрыў.* УрП, 51. // Наступны. *Паўстань з народу нашага, пясняр, Былых і будучых вякоў баян..* Пт.

**2.** Той, хто павінен стаць кім-н. [Мікіта]: *Быўшае, цяперашняе і будучае начальства заўсёды і ўсюды трэба шанаваць..* Т, 50.

**3.** *У знач. наз. ..вялічча таго, што будучае чалавека, вызваленага ад капіталістычнай няволі рабочым класам пад мудрым кіраўніцтвам тав.* <арыша> *Сталіна..* ВГР.

◊**У будучым** – у далейшым, потым. [Мікіта]: *Вам* [Янку], *чалавеку без рангаў і клясаў у прошлым і без надзеі на асэсарства ў будучым, пэўна, ўсё роўна, а для мяне, меджду протчым...* Т, 50. *Параўн.* в будушчэм.

Адз. ж. Р. *будучай* (2): ПГ; Т, 48. Д. *будучым*: СНБ, 337. н. Н. *будучае* (2): ВГР; Т, 50. Р. *будучага*: СНБ. М. *будучым*: Т, 50. Мн. Р. *будучых* (3): БСУ; Пт; Ч, 325. В. *будучыя*: УрП, 51.

**БУДУЧЫ 2.** *дзеепрысл. да дзеяслова* быць. *Будучы самі вольнымі, мы* [беларусы] *патрапім ацаніць волю другіх..* БСУ. *Будучы дагэтуль паднявольнымі, .. нам і ў думку не прыйдзе запрагаць каго б то ні было.. у паднявольнае ярмо.* НДН, 18.

**БУДУЧЫНЯ** (7) і *разм* **[БУДУЧЫНА]** (8) *ж.* Стан, становішча чаго-, каго-н. у будучым. *Наскольні ёй* [Беларусі] *гэта удаецца –*

*пакажа будучына, але пакуль што усе дзяржавы, апрача, разумееццa, Вялікарусі, усімі сіламі стараюцца адхрысьціцца ад гэтага раю.* СНБ. *Цябе чакаем* [беларусы] *будучыні нейкай, Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш.* Бч, 9. *Параўн.* будучнасць.

**Перад будучыняй.**

Адз. Н. *будучына*: СНБ. Р. *будучыны* (2): БСУ; ВМР; *будучыні* (2): ВД; Бч, 9. В. *будучыну* (5): БВ, 16, 17; ВС; Кц, 196; МІ, 18. Т. *будучыняй* (3): Бч, 9, 10(2). М. *будучыні*: ПЛП; *будучыне*: ЗС, 18.

**[БУДУШЧЫ]** *прым. Руск. У знач. наз.*: **В будушчэм** – тое, што ў будучым. [Усходні вучоны]: *Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

Адз. М. *будушчэм*: Т, 47.

**[БУДЫНАК]** (5) *м.* Адмністрацыйнае, гаспадарчае збудаванне. *Пэўнага дня вядомая беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай, напісанай па-беларуску, выдаць ёй дазваленьне на перавозку школьных рэчаў з аднаго будынку у другі.* ОШМ. *Будынкі ўстаноў, гасцініц, дзе мы* [дэлегаты] *спыніліся, былі ўпрыгожаны совецкімі сцягамі.* ПЧ.

Адз. Р. *будынку* (2): ОШМ; ПЧ. Мн. Н. *будынкі* (3): ПЧ (2); ХЛБ.

**БУЙНА** (4) *прысл.* **1.** Урадліва, пышна, сакавіта (пра расліны). *Родзіць буйна наша поле, Сады нашы, агароды..* СА, 182. *.. шырокія калгасныя палі буйна рунеюць, .. фабрыкі і заводы растуць і жывуць новым соцыялістычным жыццём.* ЖН. Т, 47.

**2.** Шчодра, часта. *Ідзе армія ўдалая, Не знае трывогі, Пасыпаюць буйна людзі Кветкамі дарогі..* ЗЯЗ, 90.

**БУЙНЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* буйна ў 1 *знач. Дзень і ноч працуюць дружна фабрыкі, заводы, Землі родзяць ураджайна, Буйней з кожным годам.* НК.

**[БУЙНЕЦЬ]** *незак. Разм.* Станавіцца буйным, моцным. *Растуць і буйнеюць у сіле, у цвеце – Калгасы, соўгасы і гарады.* ПБН.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *буйнеюць*: ПБН.

**[БУЙНЫ]** (10) *прым.* **1.** Вялікі па плошчы, значны. *.. там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на былых пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ. *Мы* [дэлегаты] *бадай што не бачылі па дарозе таварных цягнікоў, калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой.* ПЧ.

**2.** Вялікі па колькасці. *Як ачысцілі ваякі Край ад ворага свой, Важна ехалі додму, Як тых пчол буйны рой.* ПСД. // Урадлівы. *Мы* [людзі] *самі з'яўляемся сведкамі таго, што кінутыя мазолістай*

*рукой здоровыя зярняты зарунеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй..* ПЛП.

**3.** Пышны, раскошны. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім). Прырода на Польскіх Крэсах Всходніх надзвычай буйна і богата..* Т, 47.

**4.** Заможны. .. *купляюць* [зямлю] .. *буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэвалюцыю на гарадскім галадаючым насяленні.* ЗС, 18.

**5.** Шырокі, вольны. *Нашы палеткі буйным абшарам Нас* [беларусаў] *гадавалі хлебам пшанічным..* ССА, 294.

**6.** *Тое, што* бурны ў 2 *знач. Буйным жыццём усё чыста кіпела, Слава далёка за мора ішла..* Н.

**7.** *перан.* Смелы, храбры, адважны. *Ішлі беларускія сыны на Урал, .. і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў, складалі свае буйныя галовы пад чужым пяском.* БВ, 16.

**8.** Багаты (пра слёзы). *Як чорная поліўка, ліліся яго* [рэдактара] *буйные сьлёзы на васкаваную падлогу ..* ЧЧШ.

Адз. м. Т. *буйным*: ССА, 294. ж. Т. *буйнай*: ПЛП. н. Т. *буйным* Н. Мн. Н. *буйныя* (2): ЗС, 18; ШБСЯ; *буйные*: ЧЧШ. Р. *буйных*: ПСД. В. *буйныя*: БВ, 16. М. *буйных*: ПЧ. Кар. адз. ж. Н. *буйна*: Т, 47.

**[БУКЕТ]** (2) *м.* Складзеныя ў пучок кветкі. *Работніцы перадалі старшыні дэлегацыі т. Кальцову букет чырвоных кветак.* ПЧ. *Наш адказ, наша спачуванне да маці, страціўшай сына.. як найлепей выказаны былі т. Кальцовым, які перадаў ёй букет кветак з просьбай ускласці на магілу сына.* Там жа.

Адз. В. *букет* (2): ПЧ (2).

**БУКЕТНІК** *м. Наватв.* Гаршчок для вырошчвання кветак. *Уваходзіць Мікіта, .. цягнучы за сабой каламажку, у якой.. некалькі сучкоў дроў, букетнік для кветак, тры чаркі.* Т, 45.

Адз. Н. *букетнік*: Т, 45.

**БУЛАНЫ** *прым.* Жаўтаваты, з чорнай грывай і чорным хвастом (масць коней). *А наперадзе ўсіх едзе Даніла з вайны, Шабля бліскае пры боку, Конь пад ім буланы.* ПСД.

Адз. м. Н. *буланы*: ПСД.

**БУЛКА** *ж.* Белы хлеб з пшанічнай мукі. [Пан]: *Амерыканская булка...* Т, 51.

Адз. Н. *булка*: Т, 51.

**БУЛЬБА** (2) *ж.* Клубні аднагадовай агароднай расліны. [Мікіта]: .. *рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупы, бульба, сала, масла, цыбуля..* Т, 45. *Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі, Дружна капалі з раллі бульбу бабы.* ВМ, 72.

Адз. Н. *бульба*: Т, 45. В. *бульбу*: ВМ, 72.

**БУНТ** (2) *м.* Паўстанне, мяцеж. *У ім* [шуме ніў] – *і бунт,*

*у ім – жыцьцё, у ім – людзей барацьба.* АР. *– Кепска, кепска, пане воўк! – Першы крук закракаў* [азваўся]. *– Войнаў, бунтаў гул замоўк, Трупаў ані знаку.* Пц.

Адз. Н. *бунт*: АР. Мн. Р. *бунтаў*: Пц.

**[БУНТАВАЦЬ]** *незак. перан.* Пратэставаць. *Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках, і царскія сатрапы секлі яго бізунамі.* ЖН.

Абв. пр. адз. н. *бунтавала*: ЖН.

**БУНТАРСКІ** (3) *прым.* Ваяўнічы. *Бунтарскі дух у вас* [бальшавікоў] *не згас Еўропа кліча ў госці вас.* ПВ. *Песні рвуцца з трывожных, бунтарскіх грудзей, Поўны мараў ружовых і светлых надзей.* АР.

Адз. м. Н. *бунтарскі*: ПВ. Мн. Р. *бунтарскіх* (2): АР; ПВ.

**[БУНТАРСТВА]** *н.* Рэзкае абурэнне, пратэст, непакорнасць. *Няхай не палічаць нашыя словы за покліч к бунтарству, – Божа ухавай нас ад гэтага кроку!* ДК.

Адз. Д. *бунтарству*: ДК.

**БУРА** (9) *ж.* **1.** Моцны вецер, звычайна з дажджом. *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль твае* [Сталіна] *пачуе вуха Камсамольскі гарт юначы.* СА, 179. *Натхненна гэтак пеў, заводзіў Рой чалавечы на свой лад, – Рака шуміць так у разводзьдзе, Так стогне ў буру сосен рад.* УрП, 49.

**2.** *перан.* Выяўленне пачуццяў. *Рэдактар, як бура, лётае па хаце і што мамэнт п'е з бутэлькі халодную ваду.* Ан, 19. *Аж дрыжыць зямля Як ваякі йдуць Ды пяюць, як бура.* ВБ.

**3.** *перан.* Цяжкасць, выпрабаванне жыцця. *.. у нашым краю, каторы найбольш вынес на сваіх плячах буру сусветнай вайны, нічога аб гэтым не чуваць..* АБ, 16.

**4.** *перан.* Сацыяльныя з'явы, што выклікаюць змены ў грамадскім жыцці. *Цяпер за вамі* [жыды] *слова ў буру гэту: Пайсьці ці не, з народам нашым* [беларускім] *да сьвятла?* Ж.

Адз. Н. *бура* (3): Ан, 19; ВБ; СА, 179. Р. *буры*: Пт. В. *буру* (3): АБ, 16; Ж; УрП, 49. Мн. Н. *буры*: БрБ, 6. Т. *бурамі*: ЗК, 43.

**БУРАВЕСНІК** *м. перан.* Прадвеснік рэвалюцыі. *Спі, буравеснік, усмерчаны Горкі Хеўрай прадажніцкіх юдаў.* СЗГ, 252.

Адз. Н. *буравеснік*: СЗГ, 252.

**БУРАЛОМНЫ** (2) *прым. перан.* Смелы, рашучы. *Няўжо кліч вечны будзе ў нас* [беларусаў] *напрасны – Кліч бураломны: вызваленне з пут?!* Бч, 10. *Паўстань з народу нашага прарок, Праяваў бураломных варажбіт.* ПТ.

Адз. м. Н. *бураломны*: Вч, 10. Мн. Р. *бураломных*: Пт.

**[БУРАН]** *м.* Снежная бура, завея, завіруха. *Непачым ім*

[камсамольцам] *рыфы, скалы, Ані смерчы, ні бураны, – З маладым плывуць запалам Цераз моры – акіяны.* СА, 180.

Мн. Н. буран: СА, 180.

**БУРЖУАЗ** *м. Абразл.* Буржуй. [Мікіта]: *Выбачайце, я не таварыш, а меджду протчым, буржуаз, а як вам* [Абарванцу] *хіба ведама – буржуазія нічым не жэртвуе.* Т, 43.

Адз. м. Н. *буржуаз*: Т, 43.

**БУРЖУАЗІЯ** (10) *ж.* Пануючы клас капіталістычнага грамадства; прадстаўнікі яго. [Мікіта]: *Буржуазія з усіх жыл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата..* Т, 40. [Мікіта]: *Да апошняга часу пролетарыят эксплёатаваў буржуазію.* Там жа.

Адз. Н. *буржуазія* (6): АЛ (2); Т, 40(3), 43. Р. *буржуазіі*: Т, 40. Д. *буржуазіі* (2): АЛ; СНБ, 339. В. *буржуазію*: Т, 40.

**[БУРЖУАЗНА-ДЭМОКРАТЫЧНЫ]** *прым.* Які адносіцца да буржуазнага дэмакратызму. *..я* [Купала] *стаў быў адным з ідэолёгаў буржуазна-дэмократычнага адраджэнцтва і "незалежніцтва"..* АЛ.

Адз. н. Р. *буржуазна-дэмократычнага:* АЛ.

**[БУРЖУАЗНЫ]** *прым.* Які ўласцівы буржуазіі. *.. ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм, выступаючы.. пад сьцягам рэстаўрацыі буржуазнага ладу..* АЛ.

Адз. м. Р. *буржуазнага:* М.

**БУРКЛІВА** *прысл.* Невыразна, незадаволена. [Гарошка]: *Не табе* [Аленка] *іх* [люлькі] *лічыць, сарока! (Бурკліва.) Пайшлі і прапалі, а мне сядзі тут у чужой хаце і чакай на іх* [Янку і Аленку]. Т, 44.

**[БУРКНУЦЬ]** *зак.* ◊**Буркнуць у нос** – выказаць незадаволенасць. *Нават жыду – У доўг як просе – Гутэ-моргэн – буркне ў нос.* УР, 215.

Абв. буд. адз. 3 ас. *буркне*: УР, 215.

**[БУРЛАК]** (4) *м. Гіст.* Найміт. *Так, знясільваючая праца бурлакоў робіцца проста святочнай... бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць.* ПЧ.

Мн. Н. *бурлакі*: ПЧ. Р. *бурлакоў* (2): ПЧ (2). Д. *бурлакам*: ПЧ.

**[БУРЛІВЫ]** (2) *прым. перан.* Неспакойны, шумны, энергічны. *Хай жа гэтая думка, што мы* [беларусы] *будуем сваю Бацькаўшчыну ня толькі для сягодняшняга бурлівага часу, але і для будучых.. вякоў, павядзе нас к "свабодзе, роўнасьці і знаньню".* БСУ. *Хочацца верыць, што закалышацца моро і змые сваімі бурлівымі водамі з свайго ўладарства ўсе забабоны..* З.

Адз. м. Р. *бурлівага*: БСУ. Мн. Т. *бурлівымі*: З.

**[БУРЛІЦЦА]** *незак. Тое, што* бурліць *у 2 знач. Бурліцца вадзіца з крыніц, Купаецца сонца ў расе.* ТП, 214.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бурліцца*: ТП, 214.

**[БУРЛІЦЬ] (2)** *незак.* **1.** Бурна цячы, пераліваецца з шумам. *Вербы і вольхі калышуцца глуха, Сінія хвалі шумяць і бурляць.* Н.

**2.** *перан*. Праяўляцца з вялікай сілай; шумець, хваляваццa. *Аб Сталіне мудрым, аб жыцці шчаслівым, Што бурліць сягоння залатой крыніцай.. Былі твае песні, ашуг Дагестана..* ПСС, 232. *Параўн.* бурліць.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бурліць*: ПСС, 232. Мн. 3 ас. *бурляць*: Н.

**БУРНА** (3) *прысл.* **1.** Шумна, радасна. *Трутнёў ня будзеце забавай, Краіны вольнае сыны, Прамчыцца бурна ваша слава На ўсе чатыры стараны.* УрП, 50. *На мяжы і на Пражскім вакзале нас* [дэлегатаў] *сустракалі і бурна віталі лепшыя людзі краіны..* ПЧ.

**2.** *Прысл. да* бурны *ў* 1 *знач. Вырасла і далей бурна расце індустрыяльна-калгасная Беларусь.* ШБСЯ.

**БУРНЫ** (5) *прым.* **1.** Шумлівы, мнагаводны. *Шумам задумным карэльскія сосны, Бурнай Вуоксы-ракі вадаспады Мірныя гутаркі ў зімы і вёсны Будуць з гудкамі вясці Ленінграда.* Ф.

**2.** *перан.* Багаты падзеямі, неспакойны, хвалюючы. *Хай Вас, браты беларусы, не палохае цяперашні бурны крывавы час.* ПЛП. *Пройдуць годы, падрастуць сыны і унукі нашы і спытаюць тады нас: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?"* БС. *Параўн.* буйны *ў 6 знач.*

**3.** Які імкліва развіваецца. *.. Беламорска-Балтыйскі водны шлях.. даў.. магчымасці для яе* [Карэльскай аўтаномнай рэспублікі] *далейшага бурнага эканамічнага і культурнага развіцця*. ЦСБ.

Адз. м. Н. *бурны*: ПЛП. В. *бурны* (2): БС; Пт. н. Р. *бурнага*: ЦСБ. ж. Р. *бурнай*: Ф.

**[БУРЧАЦЬ]** *незак. Разм*. Гаварыць сярдзіта, незадаволена. [Янка]: *Ну, не бурчэце, дзядзька: у вельмі пільнай справе прышлося нам* [Янку і Аленцы] *заседзецца крыху*. Т, 44.

Заг. мн. 2 ас. *бурчэце*: Т, 44.

**[БУРЫ]** *мн.* Нашчадкі еўрапейскіх каланістаў на поўдні Афрыкі. *Узяць хоць бы бураў: цэлы год гэты маленькі народ мучыў сваім жаданнем незалежнасці вялікую Англію.* НДН, 18.

Мн. В. *бураў*: НДН, 18.

**[БУТЭЛЬКА]** (5) *ж.* Шкляная пасудзіна з вузкім горлам для вадкасцей. *Рэдактар, як бура, лётае па хаце і што мамэнт п'е з бутэлькі халодную ваду.* Ан, 19. [Мікіта] *хапаецца зноў за бутэлькі.* Т, 59.

Адз. Р. *бутэлькі*: Ан, 19. Мн. Р. *бутэлек*: Т, 62. В. *бутэлькі*. (2): Т, 58, 59. Т. *бутэлькамі*: Т, 60.

**[БУХАРЫНСКІ]** *прым.* Які належыць Бухарыну. *Жалезнай рукой вы* [Ежоў] *грамілі і граміце змяіныя гнёзды трацкісцкай, бухарынскай і нацыянал-фашысцкай контррэвалюцыі..* НКУС.

Адз. ж. Р. *бухарынскай*: НКУС.

**[БУХАЦЬ]** *незак. Разм.* Раздавацца, пачынацца нечакана, з сілай. [Спічыні]: *Спачатку кажаце* [Мікіта] *ціхім-ціхім голасам, пасля штораз – мацней, а пад канец бухаеце грамабойным голасам..* Т, 40.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *бухаеце*: Т, 40.

**[БУХНУЦЬ]** *зак. Разм.* Грымнуць. *Бухнула ў Расіі рэвалюцыя.* БВ, 16.

Абв. пр. адз. ж. *бухнула*: БВ, 16.

**[БУШАВАЦЬ]** *незак.* Паводзіць сябе агрэсіўна, разбураць, знішчаць усё. *.. хоць ваенны віхор бушуе, асабліва на ўсходзе Еўропы, шмат якія дзяржавы.. прыступілі к адбудове ваенных руін..* АБ, 16.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бушуе*: АБ, 16.

**БЫ[1]** (42) і **Б** (39) *часц.* Утварае формы ўмоўнага ладу са значэннямі: **1.** Умоўнай магчымасці дзеяння. *А потым настаў ціхі, залаты вечар, такі вечар, што каб я* [С. Меч] *мог, я спыніў-бы яго ды зрабіў яго бясконцым..* ХБ, 29. [Янка]: *Усё было б добра, але бяда ў тым, што яны* [Аленка і бацька] *тут не маюць нікога знаёмага..* Т, 23.

**2.** Пажадання або неабходнасці дзеяння. *Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пралетарыятам эпосе!* ЖН. *Трэба стварыць камісію, каторая б аб'ехала і абследавала найболей зніштожаныя месцы, падлічыла ўсе страты і падала рахунак.* АБ, 16.

АВ, 16; Вц, 10; БВ, 16; БН, 91(2); Вб, 237; ВБЛ, 83; ВСп, 89(2); Г, 16; ГНД; Дз, 189(4), 191; ЖН (2); М, 20; Мц, 74; МІ, 17; МСП, 187(4); Нз, 14, 15; НДН, 18(3); СБНГ; СНБ (2); СЧ (2); Т, 20(2), 21, 22, 23, 25; 27, 28, 30, 36, 36(5), 37, 38, 44, 46, 48(5), 51, 52, 53, 58(2), 60; УП; ХБ, 29(3), 30(2); Ч, 323, 324(3); ШБСЯ.

**БЫ[2]** (51) *злучн. параўн.* Ужываецца пры далучальным параўнанні рэальнага і ўмоўна-ўяўнага характару. *І волатам на вогненным кані Народ аграблены-бы з торб жабрак – За бацькаўшчыну павядзі* [ваяк] *ў агні!* Пт. *Ці там вецер водзіць гул! Так па самагубе, – Бы сваё дзіцё матуля Песьціць ды галубе?!* Дз, 187.

◊**Хоць бы** – *тое, што* хоць *у 4 знач. Узяць хоць бы бураў: цэлы год маленькі народ мучыў сваім жаданнем незалежнасці вялікую Англію.* НДН, 18. [Наста]: *Узяць хоць бы тое, хто калі да рэволюцыі ў Менску лузаў семечкі? – ніхто!* Т, 28. **Як бы** *гл.* як[2].

Ан, 19(2); АЛ; БВ, 16; БН, 93; БС (3); ВН; ГВУ; Дз, 187, 188, 189, 191; ДД; ДЖ; ДК; ЁЯ; ЖН; 3; ЗС, 17; Нз, 14(2); НДН, 18(2); Пт; ПВ; РК; Т, 20(3), 28, 30, 32, 34, 35, 36(2), 41, 48, 50, 54, 55; УПУВ (2); ХБ, 29(2).

**БЫВАЛА** (3) *часц. Разм.* Часам здаралася. *Калі ён* [Варашылаў], *бывала, да нас на манеўры Прыедзе агледзець капцы, рубяжы, – О, колькі той радасці, колькі той веры, Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы!* НДп, 229. [Аленка]: *Як татку, бывала, бяруць у абоз, дык ён заўсёды і кажа, што едзе акупантаў вывозіць.* Т, 54. СНБ, 336.

**[БЫВАЛЫ]** *прым.* Які мінаваў, адбыўся. *Духі мінуўшчыны куцьцю На старасьвецкі лад спраўляюць. Даўно бываламу жыцьцю Дары належные складаюць.* Кц, 193.

Адз. н. Д. *бываламу*: Кц, 193.

**[БЫВАЦЬ]** (13) *незак.* **1.** Прыходзіць, наведваць. [Гануля]: *Ну і госці! Адкуль ты* [Мікіта] *іх выкапаў? Яны ж уперад у нас не бывалі.* [Мікіта]: *Не бывалі... не бывалі...* Т, 22.

**2.** Здарацца, трапляцца. *Ён* [стаханаўскі рух] *не з’явіўся сам сабою, бо само сабою нічога не бывае.* СТ. *Заззяла ўрачыстае свята народаў, Якога ў вяках не бывала.* ВВ, 282. // *У безас. знач. Папробуе* [народ] *песьню – йшчэ звоне, як звон, Але ўжо не так, як бывала.* ПНд, 47.

**3.** Звязка ў састаўным выказніку. [Мікіта]: .. *салавей аднымі песнямі сыт не бывае.* Т, 27. *Гасударственные налогі бываюць дваякіе..* ВН.

◊**Бывайце здаровы (і шчаслівы)** – *тое, што* будзь здароў. [Янка]: *(Да Мікіты, адвітваючыся). Бывайце здаровы, пане рэгістратар!* Т, 39. [Янка]: *Але, выбачайце, цётачка! Пара нам і дамоў. Бывайце здаровы і шчаслівы!* Там жа, 57.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бывае* (4): Кр, 77; СТ; Т, 27; ХБ, 30. Мн. 3 ас. *бываюць*: ВН. Пр. адз. н. *бывала* (3): ВВ, 282; Н; ПНд, 47. Мн. *бывалі* (3): Т, 22(3). Заг. мн. 2 ас. *бывайце* (2): Т, 39, 57.

**[БЫДЛА]** (2) і **[БЫДЛО]** *н., зб.* Буйная рагатая жывёла. *У параўн. Двор глядзіць на селяніна, як на “люд рускі”, як на быдла..* Нз, 14. *Маскоўскі чыноўнік, таксама як польскі пан, глядзеў на беларуса як на “скот” (той – як на “быдло“).* Нз, 15. // *перан. Зневаж.* Пры выказванні зневажальных, пагардлівых адносін да чалавека. *Быдлам зрабілі нас* [мужыкоў] *панскія здзекі..* Дз, 73. *Параўн.* быдлё.

Адз. В. *быдла*: Нз, 14; *быдло*: Нз, 15. Т. *быдлам*: Дз, 73.

**[БЫДЛЁ]** *н.,* зб. *Разм. Тое, што* быдла. [Янка]: ..*мы* [беларусы] *павінны .. зніштожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як*

*быдлё, дык і сыт будзе.* Т, 35. *Сьмейся сьмехам – хрыпеньнем быдляці З перарэзаным горлам і грэйся...* См, 91.

Адз. Р. *быдляці*: См, 91. В. *быдлё*: Т, 35.

**БЫДЛО** *гл.* **БЫДЛА.**

**[БЫЛІНА]** (2) *ж.* Народная эпічная песня пра герояў і іх подзвігі. *Раскажам табе* [Сталін] *мы* [беларусы] *праўдзіва быліны Аб тым, як жылі мы і сталі мы чым..* ПБН. *Жывуць* [старыя багі].. *– у песнях, казках, былінах, І чакаюць... чакаюць на новых старцаў мудрых, на вешчуноў-прарокаў златавустых.* Кз, 17.

Мн. В. *быліны*: ПБН. М. *былінах*: Кз, 17.

**БЫЛЛЁ** *н., зб.* Высакарослая сцяблістае пустазелле; бур'ян. *У параўн. Брат, паэт! і ты тут – як быллё, ў ланцугох... Дзе свабодны твой дух, што ня рвеш ты кайдан?* БН, 92.

Адз. Н. *быллё*: БН, 92.

**[БЫЛЫ]** (14) *прым.* **1.** Мінулы, прошлы. [Спраўнік]: *Усё былое вялічча прышлося загнаць у казіны рог і дапасоўвацца да новага часу...* Т, 57. *Былых не выклічаш вякоў І ты, Масквы каронная гразь, Парваных не скуеш акоў..* АПЖ. // *У знач. наз. А ты, змарнелы чалавек, Нікчэмны пасынак былога, Сваю пушчаеш песню ў здзек, Чужою славіш нават Бога!* БрБ, 6. *Не верне былога ніхто і ніколі, У прах яно пала і знікла, як дым.* ПБН.

**2.** Які страціў ранейшае прызначэнне. .. *там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на былых пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ.

Адз. м. Р. *былога* (2): А, 327; ЦСБ: ж. Р. *былой* (2): АЛ; ПНд, 46; *былое*: ГНД. В. *былую*: АПЖ. н. Н. *былое*: Т, 57. Р. *былога* (2): БрБ, 6; Т, 61. В. *былога*: ПБН. Мн. Р. *былых* (2): АПЖ; Пт. Д. *былым*: ЖН. М. *былых*: ШБСЯ.

**[БЫЛЬ]** *ж.* Тое, што сапраўды было. *Маўчаць урачыста лясы і курганы, Хаваючы былі пад шатамі хвой.* ПБН.

Мн. В. *былі*: ПБН.

**БЫСТРА** *прысл. Руск.* Хутка. *Мікіта быстра выцягвае з кішэні чырвоную хустачку, прывязвае да парасона..* Т, 43.

**[БЫСТРАКРЫЛЫ]** *прым.* Які хутка лётае, з быстрымі крыламі. *Тысячы Чкалавых, Грачавых, Кокінакі памчацца на сваіх быстракрылых самалётах на абарону мацеры-радзімы.* ВГ.

Мн. М. *быстракрылых*: ВГ.

**[БЫТ]** (3) *м.* Агульны ўклад і ўмовы існавання. *Наша вярнуцца к нам* [беларусам] *мусіць канешне, – Гэткі ўжо быту народаў закон.* Г, 17. *Вольныя людзі, як пчолы руплівыя, Твораць быт новы, абвеяны славаю.* ДПЛС. // Парадак. *Хочаш* [першы брат] *цішы прытульнай і ласкі патольнай, Збудаваць божы быт на*

*пакутах, – Дай другім волі ў волю, і сам будзеш вольны.* Ч, 323. *Параўн.* бытаванне.

Адз. Р. *быту*: Г, 17. В. *быт* (2): ДПЛС; Ч, 323.

**[БЫТАВАННЕ]** (2) *н.* **1.** *Тое, што* быт. *.. ўкраінскае войска, .. перайшоўшы розныя цяжкія варункі свайго бытавання, сягоння змагаецца за незалежнасць Украіны з маскоўскім наездам – з бальшавікамі і дзянікінцамі.* БВ, 16.

**2.** Распаўсюджанасць, пашыранасць. *.. яшчэ і на тых абшарах беларускіх, дзе польская ўлада так мала зрабіла для бытавання нармальнага жыцця ў краю, а ўжо паны-абшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.* ЗС, 17.

Адз. Р. *бытавання* (2): БВ, 16; ЗС, 17.

**БЫТЦЫМ** *гл.* **БЫЦЦАМ.**

**БЫЎШЫ[1]** (15) *дзеепрым. да* быць *у* 1 *знач.* **1.** *Краіна, быўшая ўвасабленьнем рабства, убоства і беспрасьветнай цемры, ператвараецца ў краіну вольнае працы.* АЛ. *Паказала гэта палітыка царскага ўрада, калі змучаныя, абарваныя перасяленцы варочаліся з далёкай чужыны ў сваю, быўшую ім вечна мачыхай, родную Беларусь.* ЗС, 18.

**2.** *У знач. прым.* Былы, мінулы. *Найболей пладавітымі.. ў падгатоўцы матар'ялу й друкаваньні.. аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркамасьвеце Беларусі і быўшае В-ва "Адраджэньне" – цяпер "Савецкая Беларусь".* ВСп, 90. *Слабейшыя народы, асабліва уваскросшыя на тэрыторыі быўшай Расіі, змагаюцца толькі за тое, каб жыць..* СНБ.

Адз. м. Н. *быўшы*: ВСп, 90. ж. Н. *быўшая*: АЛ. Р. *быўшай* (3): СНБ (2); Т, 23. В. *быўшую*: ЗС, 18. н. Н. *быўшае* (2): ВСп, 91; Т, 50. В. *быўшае*: УПУВ. Мн. Н. *быўшыя*: Т, 37. Р. *быўшых* (5): СНБ (2); Т, 33, 37; Ч, 325.

**БЫЎШЫ[2]** *дзеепрысл. да* быць *у* 1 *знач. [*Мікіта]: *Апрача таго, нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску тут, замеціў і, ад'язджаючы, на гэтую місію багаславіў.* Т, 38.

**БЫЦІ** *гл.* **БЫЦЬ.**

**БЫЦЦАМ[1]** (3) і *разм.* **БЫТЦЫМ[1]** *злучн. параўн.* Ужываецца пры параўнанні рэальнага і ўмоўнага характару. *Гаспадарка павінна па сіле магчымасьці не спыняцца, а ісьці далей і шырэй, каб, як скончыцца вайна не асталіся мы* [беларусы] *быццам пасьля пажару: сусім знішчожэны і на духу і на целі.* ВС. *Увaходзіць Мікіта,.. цягнучы за сабой каламажку, у якой: .. вялікае, быццам з-пад капелюша, пудэлка з пудрай, некалькі сучкоў дроў, букетнік для кветак, тры чаркі.* Т, 45. // Ужываецца пры дапушчальным параўнанні ўмоўнага характару. *Войска йдзе ў паход, Быццам*

*тая хмура.* ВБ.

◊**Як бытцым** – *тое, што* быццам. *Усё паказывае, як бытцым палякі зрабілі хаўрус з расейскімі націоналістамі.., абы толькі заціснуць беларускі рух..* ВР.

**БЫЦЦАМ²** (2) і *разм.* **БЫТЦЫМ** (2) *часц.* Паказвае на няўпэўненасць, меркаванне, ўмоўна-ўяўны характар выказвання. *З кволых ніў палыны быццам зводзіць* [трэці сын], *ня зводзіць.* Ч, 321. *Яны* [польскія і расійскія нацыяналісты], *як тые груганы, прывыклі ўжо клеваць бытцым-то мёртвае цела нашаго народу..* ВР. ХБ, 28; ВР.

**БЫЦЬ** (525) і *разм.* **БЫЦІ** *незак.* **I.** У самастойнай функцыі: **1.** Жыць, існаваць. *Сваім векапомным і магутным рухам народным, што адважна сягае на сонца, мы* [беларусы] *паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе.* ПЛП.

**2.** Наступаць. *Гэта было цяжкае галоднае прадвесьне, як і кожнае прадвесьне ў гаспадара-беларуса. Не вясна, а вясеньняя слата была.* БСУ. *..і будзе на Беларусі не такое свята, якое мы* [беларусы] *цяпер святкуем.* ПЛП. // Утрымліваецца нейкі час. *А быў-жа туман той густы, Была-ж доля – злая змяя!* ТП, 214. *У хаце было сорак градусаў холаду..* Дн, 19.

**3.** Знаходзіцца, прысутнічаць. *9 студзеня г.г. я* [Купала] *цяжка захварэў і 13-га студзеня я ўжо быў у Земскай бальніцы, дзе пралежаў да 20 сакавіка.* ЛР. [Мікіта]: *Мамзэль Наста была ў тэйсамай кампаніі, дзе выпівалі, і бачыла, што я начальнікавы рэчы ўсе там складаў.* Т, 60.

**4.** Здарацца, рабіцца. *Недаўна ў Маскве было такое здарэнне.* ПДз. *Хай калом магіла Для вас, злыдні, будзе, Каб гэтай магілы Цураліся людзі!* МПв, 220. // Адбывацца. *Што было пятнаццаць год таму назад і што мы бачым цяпер?* ПЛП. [Янка]: *Гучны, як уважаю, баль у вас* [Мікіты] *будзе.* Т, 21. // Атрымліваецца. [Янка]: *Э! ліха перамелецца і мука будзе.* Т, 53. [Наста]: *Толькі тады з гэтага квасу будзе пітва, калі я .. даведаюся, што вы* [Мікіта] *не рэгістратар толькі, а ўжо асэсар*. Там жа, 42. // Адкрывацца. [Мікіта]: *Та-а-к, гэта важныя вучоныя. Але мы не такіх яшчэ пабачым, як будзе ў нас у Менску, медждy протчым, універсітэт.* Т, 27. // Узнікаць, з'яўляцца на свет. [Аленка]: *Ды ў яго* [Гарошкі] *яшчэ ўнукау і няма.* [Гануля]: *Дык будуць, мае мілыя, будуць.* Т, 54.

**5.** Наведваць; прыязджаць, прыходзіць. – *Варашылава я* [унук] *знаю, Сам я з ім вітаўся, Ён, калі былі манеўры, У нашым быў калгасе.* Вб, 237. *Надаелі адны* [хлопцы], *Будуць новыя, Ах вы, грудзі мае, Двухфунтовыя!* УрП, 83.

**6.** Ёсць (пры абазначэнні часу). [Гануля]: *О, даўненька* [не бачыліся]! *Бадай, годзікі са два ўжо будзе.* Т, 44.

**7.** Хопіць, дастаткова. [Спічыні]: *Цяпер мне адкажэце* [Мікіта] *на адно пытанне, і на сягоння будзе годзе.* Т, 41.

**II.** У функцыі дапаможнага дзеяслова: **1.** Звязка ў састаўным выказніку. .. *на адвагу* [абываталь] *ня здолен, бо адгвага есьць рыск, а абываталь рыскаваць ня будзе*. ВМР. *Вораг будзе знішчан!* ВГ. // З формай творнага склону назоўнікаў. *Панам быў дома і слаўным за домам Мой патаптаны сягодня народ..* Н. *Хто пакінуў свой на пасьмешышча нетрам, Дом чужы таму будзе астрогам.* Ч, 323.

**2.** Дапаможны дзеяслоў ў форме будучага часу. *Як жыла і жывеш, будзеш жыць Беларушчына: Зразумеў і ўспомніў цябе твой мільённы народ.* Б, 18. *Засяваць мы* [людзі] *самі Будзем нашы нівы, Збіраць самі будзем Ураджай шчаслівы.* МПв, 220.

**3.** Дапаможны дзеяслоў у форме прошлага часу. *Каб таго парвала З сэрцам на тры часці.. Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу, На кускі парваўшы Маці роднай цела.* К. *Толькі недахват сродкаў ня даў магчымасьці Цішку Гартнаму надрукаваць увесь матар'ял, які павёз быў з сабой у Нямеччыну.* ВСп, 91.

**Будзь здаровы, бацька, маці... Ворагі народу павінны быць знішчаны. Што было сном, тое стала явай**.

◊**Будзь (будзьце) здаровы!** (2) – развітальнае пажаданне аставацца здаровым. *Будзь здаровы, бацька, маці, – Мы пайшлі ўжо ваяваці.* БЗ. [Наста]: *Будзьце здаровы! Мушу збегаць у вадну пэўную крыніцу.* Т, 42. **Быць у ласцы** – мець дапамогу, падтрымку ад каго-н. *Калісь і ты* [беларус] *у яго* [неба] *быў у ласцы – Меў з неба долю. А цяпер...* БрБ, 6. **Бэндзь ласкав –** калі ласка. [Заходні вучоны]: *А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на бялорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?* Т, 26. **І рэчы быць не можа** *гл.* магчы. **Не будзе за што і рук зачапіць** *гл.* зачапіць. **Ня можа быць** *гл.* магчы. **Хай калом магіла будзе** *гл.* магіла. **Хто б то ні быў** *гл.* хто. **Што будзе, то будзе** – аддацца на волю лёсу. [Мікіта]: *Оей! Оей! Што будзе, то будзе, папрабую загаварыць з ім* [немцам] *па-нашаму, можа, зразумее.* Т, 32. **Як-бы сабе там не было** – нягледзячы ні на што, пры любых умовах. *Але як-бы сабе там не было, мы* [людзі] *ва ўсім гэтым бачым адну вельмі карысную для ўсіх рэч – падаходны налог.* ВН. **Які б (то) ні быў** – любы, ўсё роўна які. *Мы ведаем, што вайна, якая-б яна не была, патрабуе шмат ахвяр..* ВС. *У замучанай царызмам Расійскай імперыі, працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой-бы то ні было дзяржаўнай рабоце..* ГВУ.

Інф. *быць* (31): БВ, 16; ВС (3); ВБЛ, 82; ВНЗ; ВР; Дз, 188; ЗС, 18; Нз, 14; НДН, 18, 19; ОШМ; СБНГ; СЧ; Т, 29, 30, 33, 35, 36(2), 41, 45, 52; УрП, 47; Х; ХБ, 30; Ч, 322, 324, 325; ШБСЯ; *быці*: Дз, 189. Абв.

пр. адз. м. *быў* (94): А, 328(4); АЛ (2); АПЖ (2); Б, 18; БрБ, 6; БВ; БС (2); Вб, 237; ВБЛ, 82; ВМР; ВН; ВСп, 89, 91(2); ГВУ; Д, 73; Дз, 188, 189(2), 190(2); ДД; ЁЯ; К; Кз, 17(3); Кц, 194 (4); 197(2); ЛР; М, 19; Мц, 74 (2); Н; НДН, 18; Пт; Пц; ПН, 46, 47; ПС (4); ПСД; ПСС, 231; СБНГ (4); СК, 158; СНБ, 337(3), 338(2); СНБ (5); СЧ (4); Т, 20(2), 27, 39, 44(3), 46, 47, 48, 53, 55, 57(3); ТП, 214; УрП, 47(2); УПУВ; ХЛБ. ж. *была* (46): А, 328; Ан, 19; БВ, 16; БСУ (2); ВБЛ, 83; ВН; ВС; ВСп, 89, 90; ГВУ; Дз, 189; ДЖ; Ж; Х, 18; Кз, 17; МІ, 17; Н; ОШМ; ПЛП; ПС; ПЧ (2); СБНГ; СНБ, 336, 337(2), 338, 340; СНБ; ССА, 294; Т, 20, 22, 29, 43, 45, 46, 51(2), 55, 60; ТП, 214, 215; У; УПУВ; Ч, 322. н. *было* (82): Ан, 18, 19(3); АБ, 16; АЛ (3); БрБ, б; БС; БСУ (2); ВБЛ, 81; ВН; ВСп, 89(2); ГВУ; ДЖ (2); ДК (2); ЖН; ЭС, 18; Кз, 17(2); Мц, 75; Нз, 14(4), 15; НДН, 18(2); ПДз; ПЛП (4); ПС; ПСп (2); СНГ; СК, 158; СНБ, 338(3), 339(2), 340; СНБ; ССА, 294; Т, 20, 23, 35(2), 40(2), 44, 45(2), 49, 53(2), 54, 57, 60(2); Тж, 15(2); ТП, 213; УП (2); УрП, 47; ХБ, 29(2); Ч, 321, 322; ЧЧШ; ШБСЯ (4). Мн. *былі* (35): АПЖ; БВ, 16(2); БС; Вб, 237; ВМР (2); ВСп, 89; ГВУ; Дз, 189; ЖН; Кз, 17(3); М, 20; НК; ПСС, 231; 232; ПЧ (3); СНБ, 338(2), 339, 340; СНБ; Т, 25, 35, 38, 43, 44, 53, 54; УрП, 47; Ч, 321. Буд. адз. I ас. *буду* (28): ГЖУ; ДЖ; Т, 22, 24, 33(2), 36, 41, 42(3), 51, 59, 60; ТП, 213(3), 214(2), 215(2), 216(2), 217(2); ХЛВ (2); $Ш_4$. 2 ас. *будзеш* (16): А, 18, 19(3); Б, 16; МПв, 220; Н; ПСС, 232; СП; Т, 56; ТП, 208; Ф (3); ХЛВ, 315; Ч, 323. 3 ас. *будзе* (107): Ан, 19; АБ, 16; АЛ; Бч, 10; БВ, 16; БЗ; БСУ; ВГ (2); ВМР (3); ВН (2); ВР; ВС (3); Г, 17; ГВУ; ГП, 8 (2); ДД; ЖН; 3; ЗС, 18; ЗЯЗ, 90; Кц, 196; КЧ; Мц, 75; МПв, 219, 220; НГд, 8; НДп, 230(2); НДН, 18(3), 19; НК (2); ПДз; ПЛП (4); ПНд, 314; ПСС, 231(3); ПТ, 208(2); ПЧ; Р (2); РКр; См, 91; СБ; СНБ (2); ССА, 294; СТ; Т, 21(2), 23(4), 27, 32(2), 35(2), 36, 41, 42, 44(2), 49(4), 53, 54, 57, 58; ТП, 216(5); ТС, 74; Ф (5); Х; Ч, 319(3), 320(2), 323; $Ш_2$; *будзет*: Т, 27. Мн. 1 ас. *будзем* (29): БВ, 17; ВСп, 90; Гр, 215; ГЖУ; ДПЛС; Кц, 196; МІ, 17; МПв, 220(2); НДН, 18; НК; ПЛП (4); РКр; СНБ, 337; СС, 303; Т, 35, 44; ТЗУ, 293(3); УрП, 50; ХЛВ, 315(4), 316. 2 ас. *будзеце* (7): ССА, 294; Т, 22, 23, 37, 40, 56; УрН, 50. 3 ас. *будуць* (40): Вб, 236; ВБЛ, 83; ВМР; ВН (2); ВНЗ; ВР (4); Дз, 188; Ж; ЖН; Нз, 14; НДп, 230; ОШМ (2); ПЛП; ПСС, 231; СЗГ, 252; СНБ; СП; Т, 22, 23, 24, 31, 41(2), 48, 49, 54(2); 55, 56; ТЗУ, 293(2); ТП, 216(2); Ф (2). Заг. адз. 2 ас. *будзь* (б): АПЖ; БЗ; См, 90; Ч, 323(2); $Ш_4$; *бэндзь*: Т, 26. Мн. 2 ас. *будзьце*: Т, 42.

**БЭ** *нескл. н.:* ◊**Ні бэ, ні мэ** – зусім нічога не ведаць; не разумець. *Бо, бачыш, у нас* [рэдакцыі] *наборшчыкі наконта беларускага пісьма, дык ні бэ, ні мэ.* Ан, 18.

**БЭДУІН** *м.* Прадстаўнік качавых і паўкачавых арабаў-жывёлаводаў. *Ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі, дзе задумны бэдуін,*

*едучы ў ночы на вярблюду, зоры блыскучые лічыць і да ледавітага “паўночнага зіяньня”.. – як есьць усюдах пануе гэты ясьневяльможны бязсьмертны забабон.* З.

Адз. Н. *бэдуін*: З.

**БЭЗ** *прыназ. Польск. Тое, што* без *у* 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *(запісваюны ўперамежку з Усходнім). О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон, поневаж, як самі* [беларусы] *твердзон, маён гдзе топіць сень і бэз ножа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Т, 47.

**[БЭСЦІЦЬ]** і **[БЭСЬЦІЦЬ]** *незак. Разм.* Зневажаць, ганьбіць. [Мікіта]: *Не магу ж я, мэджду протчым, мамаша, набраць у губу вады і маўчаць, калі ён* [Янка] *бэсціць мае жыццёвыя погляды.* Т, 22. *Хто для нашых дзетак Хоча асьляпленьня, – Бэсьціць чужаніцай Думак прасьвятленьне.* К.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *бэсціць*: Т, 22; *бэсьціць*: К.

**[БЮЛЕТЭНЬ]** *м.* Лісток для галасавання. *За яго* [Сталіна] *я* [Купала] *прагаласую не толькі выбарчым бюлетэнем, але і сваёй песняй.* ГВУ.

Адз. Т. *бюлетэнем*: ГВУ.

**[БЯГУЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* [бегчы]. Які пралягае, мае які-н. напрамак. *І ўсё маё* [С. Меча] *жыцьцё любаваўся-б гэтымі лясnымі дарожкамі, бягучымі некуды ў цень паміж соснаў.* ХБ, 29.

Мн. Т. *бягучымі*: ХБ, 29.

**БЯДА** (21) *ж.* **1.** Няшчасце, нядоля, гора. *Ой, вяду бяду, А бяда мяне Водзіць вечным следам..* ВБ. *Ды ўзяўся* [сын] *шчыра, міла Сеець шчасьце, гнаць бяду, Стаў адважна словам, сілай За свой край і грамаду.* М, 20. // Непрыемнасці, клопат. [Мікіта]: *Уся бяда была ў тым, што я не ўгадаў, на якую.. стануць* [людзі] *пляцформу..* Т, 46. [Гануля]: *Але, на шчасце, заступілася мамзэль Наста і сяк-так выпутала* [Мікіту] *з гэтай бяды.* Там жа.

**2.** Галеча, нястача, недахоп сродкаў. [Гануля]: *Як падумаю, што бяда зноў прыцісне, што зноў прыдзецца людзям бялізну мыць, дак аж рукі вянуць ад нейкага жалю горкага..* Т, 20. *Рос і гадаваўся* [Сулейман Стальскі] *ў бядзе, без хлеба..* ПСС, 231.

**3.** *У знач. вык.* Неістотна, не мае значэння. [Янка]: *Ах, вось яно што! Але гэта не бяда.* Т, 20. [Гануля]: *Ну, гэта не бяда! Можна будзе і ў нас пераначаваць.* Там жа, 23.

**Ой, вяду бяду**...

Адз. Н. *бяда* (11): ВБ (2); КЧ; Т, 20(2), 23(2), 46, 47, 51, 54. Р. *бяды* (3): БС; Т, 36, 46. В. *бяду* (4): ВБ (2); М, 20; Т, 51. Н. *бядзе*: ПСС, 231. Мн. Р. *бед*: ССА, 294; *бедаў*: ПСС, 232.

**[БЯДАК]** (2) *м. Разм.* Гаротнік. *Жалейка азвецца з вясны пад бярозкай, – Ня ўцешыць яна бедака.* ЗК, 43. *Быў жыць адзінока*

*надзел бедакоў, Нішто іх с сабой не лучыла – Ні крыльлі свабоды, ні скруты акоў...* ПН, 46.

Адз. В. *бедака*: ЗК, 43. Мн. Р. *бедакоў*: ПН, 46.

**[БЯДАЦКІ]** *прым. да* бядак. [Гануля]: *Не важна, паночкі, як бачу, дажыліся: зусім скромна выглядаеце ў гэтым бядацкім адзенні.* Т, 57.

Адз. н. М. *бядацкім*: Т, 57.

**[БЯДНЕЙШЫ]** (3) *прым. Пар. ст. да* бедны. *Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя і бяднейшыя, пачалі гаварыць рознымі языкамі, і сягоння яны паміж сабой нічога супольнага не маюць.* Нз, 14. *Гэтые дзьве ўстановы як ешчэ могуць прыйсьці на помач бяднейшым селянам..* ВС. // *У знач. наз. Хай багацейшые укладаюць у гэта грошы,.. каб бяднейшые маглі з іх у гэты цяжкі чае карыстаць.* ВС.

Мн. Н. *бяднейшыя*: Нз, 14; *бяднейшые*: ВС. Д. *бяднейшым*: ВС.

**БЯДНЯК** *м.:* **ΔСелянін-бядняк** *гл.* селянін.

Мн. Р. *беднякоў*: АЛ.

**[БЯДНЯЦКА-СЕРАДНЯЦКІ]** (2) *прым.* Які належыць бедняку і серадняку. *Шкодніцтва, дывэрсія.. – усё гэта пускаецца ў ход, .. абы толькі ўзарваць пяцігадовы план, які ажыцьцяўляецца нячуваным уздымам.. рабочай клясы і бядняцка-серадняцкага сялянства..* АЛ. *.. рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства.. ажыцьцяўляе заветныя ідэалы.. Маркса і Леніна..* Там жа.

Адз. н. Р. *бядняцка-серадняцкага:* АЛ. Мн. Т. *бядняцка-серадняцкімі:* АЛ.

**[БЯДНЯЦКІ]** (2) *прым.* Які належыць бедняку. *Домік у Горках абвеяны хваляй. Домік – не домік, – бядняцкая хата.* СД. *У сваім ауле з гора не вылазіў* [Сулейман Стальскі], *У бядняцкай саклі шчасце не гасціла.* ПСС, 231.

Адз. ж. Н. *бядняцкая*: СД. М. *бядняцкай*: ПСС, 231.

**[БЯДНЯЦТВА]** *н., зб.* Бедныя людзі, бедната. *Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй поэтыцкай творчасьцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату.. бядняцтва беларускае вёскі..* АЛ. *Параўн.* бедната.

Адз. Р. *бядняцтва*: АЛ.

**БЯЗ** *гл.* **БЕЗ**.

**БЯЗБОЖНА** *прысл. да* бязбожны. *Ідзеш* [Новы год] *у край, які бязбожна Жыўцом парэзалі на часці, А брат проць брата стаў варожна І памагае край раскрасці.* НГд, 8.

**[БЯЗБОЖНІК]** *м. перан.* Несумленны чалавек, які парушае агульнапрынятыя нормы выхавання каго-н. *Вычытаў ён* [рэдактар] *у сваей-жэ газэці, што ў Прусах Заходніх бязбожнікі немцы*

*вучаць дзяцей-палякоў па-нямецку..* ЧЧШ.

Мн. Н. *бязбожнікі*: ЧЧШ.

**[БЯЗБОЖНЫ]** *прым.* Бяздушны, неспагадлівы. *Шлі дні. І вас* [жыдоў] *у ланцугі скавалі Бязбожны каралі і дэспаты-цары.* Ж.

Кар. мн. Н. *бязбожны*: Ж.

**[БЯЗВІННЫ]** *прым.* Нявінны. *Ішлі беларускія сыны за Урал, ішлі ў фінскія балоты, .. пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў, складалі свае буйные галовы пад чужым пяском.* БВ, 16.

Адз. ж. В. *бязвінную*: БВ, 16.

**[БЯЗДОЛЬНЫ]** *прым. У знач. наз.* Пра абяздоленага чалавека. *Ён* [Сталін] *новую долю бяздольным прароча, – Глядзяць і ўсе бачаць яго зоры-вочы.* СС, 302.

Мн. Д. *бяздольным*: СС, 302.

**БЯЗЛАДДЗЕ** *н. Разм.* Беспарадак, неарганізаванасць. [Ганулая]: *Гэтая вайна ды бязладдзе, ці, як там кажуць, рэвалюцыя, пахавалі тыя хвіліны, калі людзі маглі думаць і аб падарунках.* Т, 20.

Адз. Н. *бязладдзе*: Т, 20.

**БЯЗЛІТАСНА** *прысл.* Жорстка; без літасці. *Забабон спаліў бязлітасна на кастры вялікага сьветлага Гуса.* З.

**БЯЗЛЮДНА** *прысл.* Без людзей. *На вакзалах бязлюдна.* ПЧ.

**БЯЗМЕЖНА** і **БЯЗЬМЕЖНА** *прысл.* **1**. Прысл. да бязмежны. *Яна* [думка] *аглядала бязьмежна прастор, І пасынкаў бачыла долі..* КП, 170.

**2.** *перан.* Надзвычайна, вельмі. *.. як рад я* [Купала] *за першыя крокі свае ў літаратуры, калі.. я пратэставаў супроць паноў і царата, так бяамежна рад я за апошнія гады.* ЖН.

**[БЯЗМЕЖНАСЦЬ]** *ж.* Неабсяжнасць, бяскрайнасць, бязмежжа. *І кліч пушчу скрозь ад кургану да кургану, Як віхраў лёт па ўсёй бязмежнасці шырокай..* СМ.

Адз. М. *бязмежнасці*: СМ.

**[БЯЗМЕЖНЫ]** *прым.* Бяскрайні. *Песня чутна ўсюды ў бязмежным прасторы, Ці то дзень, ці ночка, Ці сонца, ці зоры.* ПСС, 231. *Параўн.* безгранічны ў 1 *знач.*, бязмерны ў 1 *знач.*

Адз. м. М. *бязмежным*: ПСС, 231.

**[БЯЗМЕРНЫ]** (2) *прым.* **1.** *Тое, што* бязмежны ў 1 *знач. Яна* [думка] *аглядала бязмерны прастор, І пасынкаў бачыла долі..* ПН, 46. *Параўн.* безгранічны.

**2.** *перан. Воляй бязмернай гадуеш* [Сталін] *мільёны, Да сонца шляхі вымяраеш.* СС, 301.

Адз. м. В. *бязмерны*: ПН, 46. ж. Т. *бязмернай*: СС, 301.

**[БЯЗМУЖЖА]** *н. Наватв.* Становішча незамужняй жанчыны. *.. На бязмужжы і дурань муж.* ВБЛ, 83.

Адз. М. *бязмужжы*: ВБЛ, 83.

**[БЯЗПУЦЬЦЕ]** *н. Руск., разм.* Бездарожжа, бездараж. *А ўспомні-прыпомні, шчасьліў, нешчасьлівы.. Жывых, што ў бязпуцьці акуцьцем зьвіняць..* В.

Адз. М. *бязпуцьці*: В.

**БЯЗСОННЫ** *гл.* **БЯССОННЫ**.

**БЯЗСЬМЕРТНЫ** *гл.* **БЯССМЕРТНЫ**.

**БЯЗУМОЎНА** *прысл. У знач. пабочн.* Бясспрэчна, канечне... *"Лірнік", бязумоўна, хутка разойдзецца па Беларусі са сваімі й смутнымі й вясёлымі песьнямі.* ВСп, 90.

**БЯЗУПЫННА** *гл.* **БЕЗУПЫННА.**

**БЯЗХЛЕБІЦА** *ж. Наватв.* Адсутнасць, нястача хлеба. *Аб гэтым ужо трэба падумаць і не чэкаць, пакуль бязхлебіца загляне ў хату*. ВС.

Адз. Н. *бязхлебіца*: ВС.

**БЯЗЬМЕЖНА** *гл.* **БЯЗМЕЖНА.**

**БЯЛЕЙШЫ** *прым. Пар. ст. да* белы. *Кругом дзеравяны Ды на падмураваньні* [дом], *– увесь пабяляны; Тым бялейшы, што топаль сьпераду і збоку Сьцерагла ад сіверу восень глыбоку.* ХБ, 28.

Адз. н. Н. *бялейшы*: ХБ, 28.

**БЯЛЕНЬКІ *гл.* БЕЛЕНЬКІ.**

**[БЯЛІЗНА]** (6) *ж.* Нацельнае адзенне з тканіны. *Паклаўшы бялізну ў начоўкі з вадой на каламажку, вывозяць: Гануля цягне, а Мікіта падпіхае.* Т, 50. [Мікіта]: *Выносце* [Гануля] *першым чынам начоўкі з бялізнай, а я .. вытарабаню каламажку.* Там жа.

Адз. В. *бялізну* (5): Т, 20(2), 43, 50(2). Т. *бялізнай*: Т, 50.

**БЯЛОРУСІН** (6) *м. Польск. Тое, што* беларус. [Заходні вучоны]: *А чы не можэце, пане бялорусін, поінформоваць венцэй шчэгулово о тэм вашым "далей"?* Т, 39. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік уперамежку з Усходнім вучоным). На запытане, як сень далеко распостшэня овэ "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця ожэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Там жа.

Адз. Н. *бялорусін*: Т, 39. Р. *бялорусіна*: Т, 26. Мн. Н. *бялорусіні*: Т, 26. Р. *бялорусінув* (3): Т, 26(2), 39.

**[БЯЛОРУСКІ]** *прым. Польск. Тое, што* беларускі. [Заходні вучоны]: *А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на бялорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?* Т, 26.

Адз. н. М. *бялорускім*: Т, 26.

**[БЯРЛОГ]** *м. Іран.* Непрыбранае, недагледжанае жыллё. *Хто пакінуў свой дом на пасьмешышча нетрам,.. Свой пасад таму стане бярлогам.* Ч, 323.

Адз. Т. *бярлогам*: Ч, 323.

**[БЯРОЗА]** *ж.* Лісцевае дрэва сямейства бярозавых. *Стогнуць ветрам калыханы Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як сьлёзы.* Дз, I9I. *Параўн.* бярэзіна.

Мн. Н. *бярозы*: Дз, 191.

**[БЯРОЗАВЫ]** *прым.* Які адносіцца да бярозы. *Між такімі палямі – намесь – пры ручаю, На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам.* ХБ, 28.

Адз. м. М. *бярозавым*: ХБ, 28.

**[БЯРОЗКА]** (2) *ж. Памяш. да* бяроза. *Сеў Данілка, выразае Коніка з бярозкі, Адно бліскаюць у вочках Радасныя слёзкі.* Вб, 238. *Жалейка азвецца з вясны пад бярозкай, – Не ўцешыць яна бедака.* ЗК, 43.

Адз. Р. *бярозкі*: Вб, 238. М. *бярозкай*: ЗК, 43.

**[БЯРЭЗІНА]** (2) *ж. Тое, што* бяроза. *Якія пышныя дубы растуць у Меншчыне, .. якія ліпы, якія вялізарныя бярэзіны!* ХБ, 29. *.. я* [С. Меч] *любаваўся-б .. гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што аж гараць на фоне сасновага бору..* Там жа.

Мн. Н. *бярэзіны*: ХБ, 29. Т. *бярэзінамі*: ХБ, 29.

**БЯСЕДА** (3) *ж., зб.* Збор гасцей з пачастункам. .. *Шуміць бяседа за сталом, Плыве часіна за часінай.* Кц, 196.

◊**Вясьці бяседу** *гл.* весці.

Адз. Н. *бяседа* (2): Кц, 196, 197. В. *бяседу*: Кц, 196.

**[БЯСЕДНЫ]** *прым. Разм.* Які мае адносіны да бяседы. *А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі Засеў за наш* [беларускі] *бяседны, сытны стол І кідае, як з ласкі, нам агрызкі, А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.* Бч, 9.

Адз. м. В. *бяседны*: Бч, 9.

**[БЯСКЛАСАВЫ]** *прым.* Пазакласавы. *Выраслі і далей растуць і гартуюцца непераможныя будаўнікі бяскласавай соцыялістычнай грамады.* ШБСЯ.

Адз. ж. Р. *бяскласавай*: ШБСЯ.

**БЯСКОНЦА** *прысл.* Няспынна, працяглы час. *Жыці шчаслівай доляй бясконца Будзеце з намі* [беларусамі], *з Заходу людзі.* ССА, 294. *Параўн.* безустанку.

**[БЯСКОНЦЫ]** *прым.* Няспынны. *А потым настаў ціхі, залаты вечар, такі вечар, што каб я* [С. Меч] *мог, я спыніў-бы яго ды зрабіў бясконцым.* ХБ, 29.

Адз. м. Т. *бясконцым*: ХБ, 29.

**[БЯСКРЫЎДНЫ]** *прым.* Нявінны. .. [забабон] *кідае балотам на адвечнае цярпеньне, на крывавые сьлёзы, на сум бяскрыўдны, на радасьць пявучую вялікага і добрага Беларускага Народу.* З.

Адз. м. З. *бяскрыўдны*: З.

**[БЯСПРАЎЕ]** *н.* Бясчынства. *Антанта, прымаючы пад увагу*

*ўсялякія разбойствы і бясправўі бальшавікоў, прызнала Калчака, Дэнікіна і Юдэніча царамі Расіі..* Ан, 19.

Мн. В. *бясправўі*: Ан, 19.

**БЯССІЛЬНЫ** (3) *прым.* **1.** Вельмі слабы, без фізічных сіл. *Вашы словы аб вызваленні другіх – гэта насмешка з нявольнікаў бяссільных, што ніякай сілы ў сабе не маюць.* Тж, 16.

**2.** Бездапаможны. *Вы* [паны гандляры] *таксама бяссільны павярнуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія ці Швейцарскія горы адны на месца другіх.* Тж, 16.

Адз. м. Н. *бяссільны*: Тж, 16. Мн. Р. *бяссільных*: Тж, 16. Кар. мн. Н. *бяссільны*: Тж, 16.

**[БЯССМЕРТНЫ]**, **БЯЗСЬМЕРТНЫ** і **[БЯСЬСЬМЕРТНЫ]** *прым. Разм.* Бессмяротны. *.. як есьць усюдах пануе гэты яьсневяльможны бязсьмертны забабон.* З. *У гэтых чарах, у гэтым выяўленні бяссмертнага чалавечага духа – наша пабеда..* ПЛП. *Таму кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленьнем прывітае новую кветку ў бясьсьмертным вянку культурнага будаўніцтва у БССР – Беларускую Акадэмію Навук.* ГНД. *Параўн.* нясьмертны.

Адз. м. Н. *бязсьмертны*: З. Р. *бяссмертнага*: ПЛП. М. *бясьсьмертным*: ГНД.

**[БЯССОНЫ]** і **[БЯЗСОННЫ]** *прым.* Які праводзіцца без сну. *Ах! як страшна мне гэта бязсонная ноч!* БН, 91. *Параўн.* бессанлівы.

**У бяссонную ноч.**

Адз. ж. Н. *бязсонная*: БН, 91. В. *бяссонную*: БН, 91.

**[БЯССТРАШНЫ]** (6) *прым.* Смелы, адважны. *Бясстрашныя сыны вялікага совецкага народа вярнуліся на сваю радзіму.* СБ. *Родныя мае, яснавокія багатыры! Патомкі .. бясстрашных паўстанцаў Каліноўскага, абараняйце сваю зямлю, .. не давайце літасці ворагу!..* РКП.

**Слава бясстрашным.**

Адз. Р. *бясстрашнага*: НКУС. Мн. Н. *бясстрашныя* (3): ВГ (2); СБ. Р. *бясстрашных*: РКП. Д. *бясстрашным*: СБ.

**[БЯСЧАСЬСЕ]** *н. Разм. Тое, што* вечнасць. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, .. Каб.. Даць папас на магільным папасе, І так хэўраю бyручых, быўшых адвекаў Расьцьвісьці, растапіцца ў бясчасьсі.* Ч, 325.

Адз. М. *бясчасьсе*: Ч, 325.

**БЯСЬСЬМЕРТНЫ** *гл.* **БЯССМЕРТНЫ.**

**[БЯСЬСІЛЬЛЕ]** *н.* Бездапаможнасць. *Вырывай з сябе жылу па жыле, Ві ў вяроўку, ў пятлю і павесься, І пакуль у зямлю не зарылі, Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі, – На сваіх вісі жылах і сьмейся!* См, 91.

Адз. М. *бясьсільлі*: См, 91.

# В

**В** (14) *прыназ. Руск., польск.* **1.** Указвае на адносіны ўключэння. [Усходні вучоны]: *..таковая* [тэрыторыя] *включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39. [Заходні вучоны]: *..данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Там жа.

**2.** Указвае на канкрэтнае выражэнне чаго-н. [Усходні вучоны]: *..для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39. [Заходні вучоны]: *..для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Там жа.

**3.** *Тое, што* ў 9 *знач.* [Поп]: *В сію обіцель градзе большэвік.* Т, 52. [Поп]: *(ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой): Акі пціцы небесныя, отлетаюшчы на зімнее время в жаркія страны.* Там жа, 38. І, 38, 47, 51.

**4.** *Тое, што* ў 14 *знач.* [Усходні вучоны]: *Что касается поліцічэскіх граніц обласці, то оне в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очень туманны.* Т, 47.

**5.** *Тое, што* ў 20 *знач.* [Усходні вучоны]: *Вашы* [Янкавы] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

**6.** *Тое, што* ў 24 *знач.* [Заходні вучоны]: *..муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

**7.** *Тое, што* ў 38 *знач.* [Усходні вучоны]: *.. поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце.* Т, 47. [Заходні вучоны]: *..можэ тэ пшэісточыло сень в Пінске блото.* Там жа.

**ВА** *гл.* **У**.

**[ВАБІЦЬ]** (2) *незак.* **1.** *перан.* Зачароўваць, чараваць. *Я* [Нёман]

*іх* [людзей] *не ваблю сваею ўжо красай: Вецер інакшы ім дзьме ў галаве, – Вісла адным усміхаецца ласа, Тыя заплюшчыўшысь пруцца к Няве.* Н.

**2.** Падзываць каго-н., падрабляючы яго голас. *Цярэбіць стальнаю сякерай Прыблуднік нашыя лясы, Ў свае цянёты вабіць зьвера, Сьвятыя топча верасы.* УрП, 48.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *ваблю*: Н. 3 ас. *вабіць*: УрП, 48.

**[ВАБКІ]** *прым.* Разм. Вабны, прывабны. *Навакола далёка-далёка расьцілаецца раўніна ціхая, вабкая, укрытая нівамі, лясамі і беларускімі вёскамі...* ХБ, 29.

Адз. ж. Н. *вабкая*: ХБ, 29.

**[ВАГА]** *ж. перан.* Значэнне. *Што мы* [людзі] *сваім стараньнем зробім – тое толькі будзе мець для нас вагу і цану.* ВС.

Адз. В. *вагу*: ВС.

**[ВАГОН]** (4) *м.* Транспартны сродак для перавозкі пасажыраў і грузаў. *З вокан вагона мы* [дэлегаты] *не бачылі ніводнай грузавой машыны.* ПЧ. *Дзе-нідзе на іх* [станцыях] *стаіць пара-другая вагонаў.* Там жа. // Колькасць грузу ў вагоне. *Гэта складае 2120 рэзаў (стоп.) паперы; лічачы ў сярэднім па 50 фунт. стапу, атрымаем 2650 пуд., г.ё. каля трох вагонаў беларускіх выданьняў.* ВСп, 91.

Адз. Р. *вагона*: ПЧ. М. *вагоне*: СНБ, 338. Мн. Р. *вагонаў* (2): ВСп, 91; ПЧ.

**ВАГОНЬ** *гл.* **АГОНЬ**.

**ВАДА** (26) *ж.* **1.** Празрыстая, бясколерная вадкасць. *Вада з крыніц жывых хай зверам-людарэзам Атрутай будзе і сляпіць крывавыя іх вочы.* ПНд, 314. *Эх, памыйся, мой дружок, Мылам ды вадою, А так складна, як у нас Першае другое..* $Ш_2$. // *толькі мн.* Курорт з мінеральнымі крыніцамі. ..[Антанта] *тры месяцы таму назад выехала за граніцу на цёплыя воды лячыцца.* Ан, 19.

**2.** Водная прастора (ракі, мора). *Ад хваль, што шэпчуцца так міла, Ты* [брат-беларус] *дойдзеш праўданькі усёй, Што рэчкі – гэта зямлі жылы, Вада ў іх – кроў зямлі тваёй.* БрБ, 6. *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды Вольнага Нёмана, у цёмную даль, Толькі ў часе глухой непагоды З берагу Нёман не выйдзе амаль.* Н. // *Вобразн.* Сіла, моц, магутнасць. *Хочацца верыць, што закалышацца беларускае моро і змые сваімі бурлівымі водамі з свайго уладарства усе забабоны, ад якой бы "культуры" яны ў нас не панавалі.* З.

**3.** Паводкаі, разводдзе. *..а тым часам – паглядзеце, якія пышныя дубы растуць у Меншчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў разводзьдзе вадою..* ХБ, 29.

◊**Набраць у губу вады** *гл.* набраць. **Пайсці з вадой** *гл.* пайсці. **У мутнай вадзе рыбу лавіць** *гл.* лавіць. **Утапіць у лыжцы вады**

*гл.* утапіць. **Як агонь і вада** *гл.* агонь.

Адз. Н. *вада* (3): БрБ, 6; ПНд, 314; СНБ. Р. *вады* (10): ВБЛ, 80 (3); К; Нз, 14; Т, 22, 32(4). В. *ваду* (2): Ан, 19; Т, 46. Т. *вадою* (3): ПН, 46; ХБ, 29; $Ш_2$; *вадой* (2): МД; Т, 50. М. *вадзе*: Тж, 16. Мн. Н. *воды* (2): Н (2). В. *воды*: Ан, 19. Т. *водамі*: 3. М. *водах*: Дз, 128.

**[ВАДАКАЧКА]** *ж.* Збудаванне для перапампоўвання вады з вадаёмаў да месца прызначэння. [Спічыні]: *Я сам, стоячы на скверы, каля вадакачкі, бачыў, як вы* [Мікіта] *з іншымі цягалі рухомую маёмасць з кватэры таварышча Боршчыка.* Т, 60.

Адз. Р. *вадакачкі*: Т, 60.

**[ВАДАСПАД]** *м.* Паток вады, што спадае са стромага ўступа. *Шумам задумным карэльскія сосны, Бурнай Вуоксы-ракі вадаспады Мірныя гутаркі ў зімы і вёсны Будуць з гудкамі вясці Ленінграда.* Ф.

Мн. Н. *вадаспады*: Ф.

**ВАДЗІН** *гл.* **АДЗІН.**

**ВАДЗІЦА** (2) *ж. Ласк. да* вада ў 1 *знач. І запытаецца вадзіца, Як не пытаў ніхто ў жыццю: Чаму яе п'е чужаніца, Яе, кроў родную тваю* [беларуса]? БрБ, 6. *Звініць песня ў полі, звініць, Уторыць сярпу і касе, Бурліцца вадзіца з крыніц, Купаецца сонца ў расе.* ТП, 214.

Адз. Н. *вадзіца* (2): БрБ, 6; ТП, 214.

**[ВАДЗІ́ЦЦА]** *незак. Польск.* Сварыцца, спрачацца. [Мікіта]: *Між-джу протчым, я з ім* [Янкам] *не вадзіўся, а толькі аб палітыцы паспрачаўся.* Т, 22.

Абв. пр. адз. м. *вадзіўся*: Т, 22.

**[ВА́ДЗІЦЦА]** *незак.*: ◊**Як водзіцца** – як прынята, як звычайна бывае. *Як водзіцца пры добрым дэмократычным парадку, пускаюцца ў дзело агітатары, каторые стараюцца давесьці бацьком, што самая лепшая школа есьць тая, каторую ён, агітатар, расхвальвае.* ДК.

Абв. пр. адз. м. *вадзіўся*: Т, 22.

**[ВАДЗІЦЬ]** (4) *незак.* Узначальваць. *Варашылаў калісь войска Вадзіў у паходы, Інтэрвентам, акупантам Не даваў праходу.* НК.

◊**Вадзіць вечным следам** – пастаянна суправаджаць. *Ой, вяду бяду, А бяда мяне водзіць вечным следам..* ВБ. **Вадзіць гулі** – завываць. *Хто там стогне так на ўзьмежку, На капцы ў полі? Ці там вецер водзіць гулі Так па самагубе, – Бы сваё дзіця матуля, Песьціць ды галубе?* Дз, 187. **Рэй вадзіць** – верхаводзіць. *Нячысьцікі, ведзьмы рэй водзяць па ночы, "Забраны край" тузаюць так.* ЗК, 42.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *водзіць* (2): ВБ; Дз, 187. Мн. 3 ас. *водзяць*: ЗК, 42. Пр. адз. м. *вадзіў*: НК.

**[ВАЕННА-ПАВЕТРАНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да ваенных сіл у паветры. *..аглядалі ваенны аэрадром, дзе нас* [дэлегатаў] *сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфр і дзе нам лётчыкі паказалі майстэрства пілатажа.* ПЧ.

Мн. Р. *ваенна-паветраных:* ПЧ.

**ВАЕННЫ** (15) *прым.* **1.** Які мае адносіны да вайны. *Асабісты ваенны налог будзе выбірацца с тых, хто па якой колечы прычыне увольнены ад адбываньня воінскай павіннасьці..* ВН. *Кліч "Зямля і воля працоўнаму люду!" сціхшы сягодня ў нашым краю праз варункі ваеннай завірухі, як бы адышоў на другі план, на апошні закутак.* ЗС, 17. // Прызначаны для патрэб вайны. *..грамадзянство, павінна ешчэ так ці іначэй даваць грошы на ваенные расходы.* ВН.

**2.** Які мае адносіны да арміі. *Хай бяруць з магазыноў толькі тые, хто папраўдзе не мае за што купіць, а сем'яніны яго на ваеннай службе.* ВС. *Бо толькі тое государства зможэ не дацца у крыўду або і перэмагчы свайго праціўніка, каторае ня толькі выставіць вялікую лічбу добра абучэнных ваеннаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу экономічную.* ВН. *Параўн.* вайсковы.

Адз. м. Н. *ваенны* (2): АБ, 16; ВН. В. *ваенны* (2): ВН; ПЧ. ж. Н. *ваенная*: ВС. Р. *ваеннай* (3): БСУ; ГЖУ; ЗС, 17. Д. *ваеннай*: ВС. н. Д. *ваеннаму*: ВН. Мн. Н. *ваенныя* СНБ, 340. Р. *ваенных*: АБ, 16. В. *ваенные* (3): БСУ; ВН (2).

**[ВАЕНШЧЫНА]** *ж.,* зб. Агрэсіўныя ваенныя колы недружалюбных краін. *З пачуццем найвялікшага гневу я* [Купала] *прачытаў паведамленні ТАСС аб разбойнічым нападзе японскай ваешчыны на свяшчэнныя граніцы нашай радзімы.* ВГ.

Адз. Р. *ваеншчыны*: ВГ.

**ВАЖНА** (7) *прысл.* **1.** *Прысл. да* важны ў 3 *знач. Як ачысцілі ваякі Край ад ворага свой, Важна ехалі дадому, Як тых пчол буйных рой.* ПСД. *Дні за днямі, гады за гадамі йдуць важна, Йдуць суважна за зьменамі зьмены..* Ч, 323. Пц; ХБ, 28; $Ш_1$; ШБСЯ.

**2.** *У знач. вык.* Істотна. [Мікіта]: *Для нас адно важна: каб тавар куплялі, каб тавар не залежваўся.* Т, 34.

**[ВАЖНАСЦЬ]** *ж.* Значнасць. *Мы* [людзі] *жывём у такі час, калі амаль кожны дзень прыносіць падзеі вялікай палітычнай важнасці.* МП.

Адз. Р. *важнасці*: МП.

**ВАЖНЕЙ** *прысл. Пар. ст.* да важна. Галоўней. [Мікіта]: *А важней за ўсё старайцеся* [Ануля] *як найгусцей у нос* [гаварыць]. Т, 22.

**[ВАЖНЕЙШЫ]** (4) *прым. Пар. ст.* да важны ў 1 *знач.* [Аленка]: *Ды, праўду кажучы, доўга ці коратка* [чакаць вяселля] –

*гэта не важна. Але ў нас, цётачка, важнейшая бяда.* Т, 54. *На аснове ўсіх нечуваных дасягненняў вырасла і адточваецца адзін з важнейшых сродкаў партыі ў барацьбе за соцыялізм – беларуская мова.* ШБСЯ.

Адз. ж. Н. *важнейшая*: Т, 54. Мн. Н. *важнейшыя*: Т, 46. Р. *важнейшых*: ШБСЯ. В. *важнейшыя*: СНБ, 337.

**ВАЖНЫ** (13) *прым.* **1.** Значны. *На земствах ляжыць ешчэ іншы важны абавязак – гэта агранамічная і лекарская помач селянам.* ВС. *Два дружкі – груган з ваўком Неяк раз сышліся, Важнай гутарцы ўдваём Важна аддаліся..* Пц. // Уплывовы. [Ганулля]: *Гэта не госць, а нейкі важны дырэктар.* Т, 31. [Гарошка]: *(хрысцячыся.) Што вы, свацейка?! Я – і такія важныя асобы... яшчэ з лаўкі звалюся з перапуду.* Там жа, 27. // Выдатны. [Мікіта]: *Та-а-к, гэта важныя вучоныя, Але мы не такіх яшчэ пабачым, як будзе ў нас у Мінску, меджду протчым, універсытэт.* Т, 27.

**2.** Паважны. *Першы* [склад] *– муж вучоны, важны; Носіць чын такі не кажны, Хоць па-просту на наш лік Ён ня больш як чараўнік.* $Ш_4$. // Паважаны. *Важны быў гэты народ, і паміж суседзямі меў ён добрую песню і праўдзівае паважанне.* Кз, 17.

**3.** *Разм.* Велічны. *Ні далёка, ні блізка, ні ў полі, ні ў лесе Важны ўзносіўся хорам-сталіца..* Ч, 321.

**4.** *У знач. наз.* [Спічыні]: *Самае важнае, што не забыліся* [Мікіта] *"за Буг".* Т, 49.

Адз. м. Н. *важны* (5): ВС; Кз, 17; Т, 31; Ч, 321; $Ш_4$. ж. Н. *важная* (2): ВМ, 72; СБНГ Д. *важнай*: Пц. н. Н. *важнае*: Т, 49. Мн. Н. *важныя* (3): Т, 23, 27(2). Д. *важным*: Т, 23.

**[ВАЖЫЦЦА]** *незак. Разм.* Намервацца. *І не важся* [чалавек] *да сэрца ўздыхаці, Ласкі ждаць... Хоць крывёю, а сьмейся!* См, 91.

Заг. адз. 2 ас. *важся*: См, 91.

**[ВАЗІЦЦА]** *незак. Разм.*Важдацца. *Гаспадар з мяне* [Купалы] *выйшаў кепскі. Гаспадарку я не любіў, а вазіўся заўсёды з кніжкамі, за што часта даставалася мне ад бацькі.* А, 328.

Абв. пр. адз. м. *вазіўся*: А, 328.

**[ВАЗІЦЬ]** (4) *незак.* Дастаўляць, перамяшчаць што-н. транспартам. [Мікіта]: *..на службу і са службы важу патрэбныя сабе офіцыяльныя, меджду протчым, паперы..* 45. [Аленка]: *Як татку, бывала, бяруць у абоз, дак ён заўседы і кажа, што едзе акупантаў вывозіць. Але, бедны, возіць, возіць, ды ніяк вывезці не можа.* Там жа 54.

Абв. цяп. адз. І ас. *важу* (2): Т, 45(2). 3 ас. *возіць* (2): Т, 54(2).

**[ВАЗЮР]** *м. Польск., разм.* Рамізнік. [Янка]: *Раўнапраўе то раўнапраўе, але ж хіба яно вам* [Мікіту] *не загадвае быць штодзень за нейкага саматужнага вазюра?* Т, 45.

Адз. В. *вазюра*: Т, 45.

**ВАЙНА** (56) *ж.* Узброеная барацьба. *Ужо ад нейкага часу ў Францыі працуе паўмільёна людзей над адбудовай таго, што вайна разрушыла.* АБ, 16. *А наперадзе ўсіх едзе Наш Даніла з вайны, Шабля біскае пры боку, Конь пад ім буланы.* ПСД.

**Вайна і налогі. Вайна і самапомач. Хлопчык і лётчык на вайне.**

•**Грамадзянская вайна** – узброеная класавая барацьба ўнутры дзяржавы. *Яшчэ ў годы грамадзянскай вайны Вы, Нікалай Іванавіч, нямала зрабілі для беларускага народа..* НКУС.

Адз. Н. *вайна* (19): АБ, 16; ВН (2); ВС (6); ЗС, 18; Пц; РКр (2); СНБ, 336(3), 337; СНБ; Т, 20. Р. *вайны* (15): АБ, 16; ВН; ВС; ГЖУ; ДД (3); ЕЯП; НКУС, ПСД; РКр (2); СНБ, 336, 340; ТП, 216. Д. *вайне* (2): ВН (2). В. *вайну* (10): АБ, 16; ВН; ЗС, 18; ПСД (2); РКр (3); Тж, 15(2). Т. *вайной* (8): АБ, 16; ВБ; ДЖ; 3; Х, 17; Нз, 14; НГ; УрП, 83. М. *вайне* (2): РКр; ХЛВ, 316.

**[ВАЙСКОВЫ]** (2) *прым. Разм. Тое, што* ваенны ў 2 *знач. Уваходзяць Гануля і Немец у вайсковай форме.* Т, 32. *Нават рэвалюцыя 1905 году не змагла адваяваць калі не нацыянальнага беларускага войска, то хоць бы тое, каб беларус адбываў вайсковую павіннасць у Беларусі.* БВ, 16.

Адз. ж. В. *вайсковую*: БВ, 16. М. *вайсковай*: Т, 32.

**ВАЛАСЫ** *гл.* **ВОЛАС**

**[ВАЛАЧЫ]** (3), **[ВАЛАЧЫЦЬ]** (2) і **[ВОЛОЧЫЦЬ]** *незак. Разм.* **1.** Насіць. *За сабою валочыць* [чараўнік] *патухшыя душы, Разбаўляе дрыгву імі ў пушчы..* Ч, 325.

**2.** Красці. *Сотні лет песьцілі* [беларусы] *днямі і ночай Госьця на шыі Зьмея, што з пуняў скарбы валочэ, Скарбы чужые.* Чж, 147. *Схову новую ладзь* [брат], *больш твае скуль прыпасы-б Не валок зводны зьмей і начніцы..* Ч, 323.

◊**Валачыць путы; волачыць ёрмы** – весці бязрадаснае, цяжкае жыццё. *Кліч пойдзе аб сходзе да хат, За тыя капцы, рубяжы, Дзе путы валочыць мой брат, Дзе значаць дарогу крыжы.* ТП, 217. *А топчуць* [людзі] *толькі ўсё той след. Волочуць ёрмы за сабою Ці ўбачыць корч, ці ўбачуць цьвет, Аднэю жаляцца сьлязою.* Кц, 195.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *валочыць* (2): ТП, 217; Ч, 325; *валочэ* (2): ЗК, 42; Чж, 147. Мн. 3 ас. *волочуць*: Кц, 195. Пр. адз. м. *валок*: Ч, 323.

**[ВАЛІЦЦА]** *незак.* Падаць. *Стуль* [з хорама-сталіцы] *выходзілі ветры – і шум падымалі, Туды з неба валіліся зоры.* Ч, 321.

Абв. пр. мн. *валіліся*: Ч, 321.

**[ВАЛІЦЬ]** *незак. перан. Разм.* Размаўляць, гаварыць. *Ен з начальствам знае дзела: Парасейку валіць сьмела; Ліжа,*

*выйшаўшы за вёску, Ласку панскую папольску.* УР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *валіць*: УР.

**ВАЛЬГОТНЕЙ** *прысл. Руск. Пар. ст.* да вальготна:

◊**Грудзям дышацца вальготней** *гл.* грудзі. Т, 37.

**ВАЛЬЦ** (5) *м. Польск.* Вальс. *Грае* [Янка] *вальца. Вальц з фігурамі, без шаржу, крыху пануры.* Т, 29. [Дама]: *Мусье беларус, не адмоўцеся, сыграйце нам вальца!* Там жа, 52.

Адз. Н. *вальц*: Т, 29. В. *вальца* (3): Т, 29, 52(2). М. *вальцы*: Т, 29.

**[ВАЛЮТА]** (2) *ж., зб.* Грошы замежных краін. [Мікіта]: *Калі спаткаеце* [Гануля] *профэсара гэр Спічыні, то напомніце яму, што я ўжо яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва, вось толькі схаджу на мінутку на Койданаўскую вуліцу паслухаць, як там стаіць курс на валюту.* Т, 34. [Янка]: *Што ж гэта? па-вашаму* [Мікіты] *– гандаль на Койданаўскай біржы валютай – свабодная профэсія?* Там жа, 36.

Адз. В. *валюту*: Т, 34. Т. *валютай*: Т, 36.

**[ВАЛЯЦЦА]** (2) *незак.* Ляжаць у беспарадку, як папала. *На падлозе валяецца і сто і адна свежых газет.* Ан, 19. // Ляжаць без утойку. *Шоў* [унук] *цераз сад, дзе валялася ўволю На зямлі яблык.* Ун, 73.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *валяецца*: Ан, 19. Пр. адз. н. *валялася*: Ун, 73.

**[ВАНДРОЎНЫ]** *прым.* Які часта пераязджае з месца на месца. *Вучылі мяне* [Купалу] *пры дапамозе вандроўных настаўнікаў.* А, 328.

Мн. Р. *вандроўных*: А, 328.

**[ВАНТРОБА]** *ж. перан.* Душа. [Спічыні]: *Ужо я вам* [Мікіту] *казаў, што тэорыя аратарскага мастацтва не любіць, каб выкідалася перад аўдыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе.* Т, 40.

Адз. М. *вантробе*: Т, 40.

**ВАПОШНІ** *гл.* **АПОШНІ.**

**[ВАРАЖБА]** *ж.* Адгадванне мінулага ці будучага. *..варажбіты-вешчуны, старцы мудрыя.. народу свайму за яго такую нястрыманую памаўлівасць нядобрыя варожбы выражалі.* Кз, 17.

Мн. В. *варожбы*: Кз, 17.

**ВАРАЖБІТ** (3) *м.* Той, хто займаецца варажбою. *Паўстань з народу нашага, прарок, Праяваў бураломных варажбіт, І мудрым словам скінь з народу ўрок, Якім быў век праз ворагаў спавіт!* Пт.

Δ**Варажбіт-вяшчун.** *Аўтарнымі слугамі багоў гэтых былі варажбіты-вешчуны – старцы мудрыя і ў справах божых кемкаць маючыя.* Кз, 17. *..варажбіты-вешчуны.. старых толькі багоў трымаліся..* Там жа.

Адз. Н. *варажбіт*: Пт. Мн. Н. *варажбіты* (2): Кз, 17 (2).

**[ВАРАЖНЕЧА]** *ж. Разм. Тое, што* варожасць. *Дзеле чаго-ж тагды гутарка аб згодзе, аб політычнай лучнасьці з Польшчай, калі ўсе робіцца на задор, на сварку, на калатню, варажнечу?*

Адз. В. *варажнечу*: ОШМ.

**[ВАРАЖЫЦЦА]** *незак. перан.* Абяцацца, прадказвацца. *Дзень варажыўся быць лагодным, Вей-вецер воблакі зганяў.* УрП, 47.

Абв. пр. адз. м. *варажыўся*: УрП, 47.

**ВАРАЖЫЦЬ** (3) *незак. перан.* Меркаваць, рабіць здагадкі. *Мы* [беларусы] *не будзем забягаць наперад у будучыну і варажыць, якімі шляхамі пойдзе гэта справа.* БВ, 17. *Стаім мы* [беларусы] *перад будучыняй нашай І ўсё варожым, сочым ейны ход...* Бч, 9.

Інф. *варажыць*(2) БВ, 17; Т, 21. Абв. цяп. мн. І ас. *варожым*: Бч, 9.

**[ВАРАНЫ]** *прым.* Чорны (пра масць каня). [Гарошка]: *Рынулі* [казакі] *усёй гурмай на конях праз ляжачы народ, а за імі прыстаў на сваёй вараной тройцы.* Т, 43.

Адз. ж. М. *вараной*: Т, 43.

**ВАРОЖАСЦЬ** *ж.* Непрыязныя, ненавісныя адносіны і дзеянні. *Адсюль варожасць да фашызма, да яго захопніцкіх мэтаў.* ПЧ. *Параўн.* варажнеча.

Адз. Н. *варожасць*: ПЧ.

**ВАРОЖНА** *прысл. Разм.* Варожа. *А брат проць брата стаў варожна І памагае край раскрасці.* НГд, 8.

**[ВАРОЖЫ]** (3) *прым.* **1.** Непрыязны, поўны варожасці, нянавісці. *З-пад пушчаў Палесся з-пад Нёмана, Сожа .. З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Совецкай краіны сыны.* ПБН.

**2.** Непрыяцельскі. *Герой загінуў ад варожай здрадніцкай рукі...* СК, 158. *Радзіму-краіну ўпрыгожыў* [народ беларускі] *садамі, Варожыя знішчыў напасці.* ВВ, 263.

Адз. м. Т. *варожым*: ПБН. ж. Р. *варожай*: СК, 158. Мн. В. *варожыя*: ВВ, 263.

**ВАРОНА** (3) *ж. Заал.* Птушка сямейства крумкачовых. *У параўн. Можаце сабе ўявіць: чалавек ходзіць за сахой, а следам за ім, як варона хаджу я* [Купала] *і слухаю.* ПС. *Мы* [беларусы] *у страху... дум крутня... разбежнасць... Без толку крыллем лопаем, як цьмы. О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..* Бч, 9.

◊**Хадзіць і варон страляць** *гл.* хадзіць.

Адз. Н. *варона*: ПС. Мн. Н. *вароны*: Бч, 9. В. *варон*: Т, 41.

**[ВАРОТЫ]** *толькі мн.*: ◊**Адчыняцца дзверы варот** *гл.* дзверы. Мн. Р. *варот*: ТП, 216.

**ВАРОЧАЦЦА** (8) *незак. Разм. Тое, што* вяртацца. *Гануля*

*выходзіць і варочаецца, а з ёю Спічыні.* Т, 31. *Людзі варочаюцца да сваіх хат, а не знаходзяць іх, шукаюць сваіх гоняў, а не відаць..* АБ, 16.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *варочаецца* (3): Т, 25, 31, 32. Мн. 3 ас. *варочаюцца* (4): АБ, 16; Т, 22, 27, 50. Пр. мн. *варочаліся*: ЗС, 18.

**[ВАРТА]**[1] (6) *ж.* **1.** Ахова. *Высыпаў* [пан] *ягады, збіў, клікнуў варту, Хустачку здзёр мне* [маці] *і кофтачку, злодзей.* Мц, 75. *Сонца нам смяецца, Нібы строіць жарты, Месячык святляны Служыць нам за варту.* ПТ, 206. *Параўн.* вартаванне.

**2.** Вартаванне, абавязкі па ахове чаго-н. [Янка]: *Дык вы, пане рэгістратар, маніліся пакінуць усе свае руска-ісціныя варты і ўцякаць з роднага гораду?* Т, 55.

◊**Стаяць на варце** *гл.* стаяць.

Адз. В. *варту* (2): Мц, 75; ПТ, 206. М. *варце* (3): Т, 21, 37; ШБСЯ. Мн. В. *варты*: Т, 55.

**ВАРТА**[2] (2) *прысл.*: ◊**І гаварыць ня варта** *гл.* гаварыць.

**[ВАРТАВАННЕ]** *н. Тое, што* варта[1] *ў 2 знач.* [Мікіта]: *Мы з вамі* [Спічыні] *высока трымаем свае сцягі: вы сцяг, меджду протчым, навучання, а я – сцяг, меджду протчым, вартавання.* Т, 49.

Адз. Р. *вартавання*: Т, 49.

**[ВАРТАВАЦЬ]** (4) *незак.* Ахоўваць, сцерагчы што-н. *Я* [Купала] *вітаю.. нашу магутную Чырвоную армію, якая надзейна і пільна сталёвай аховай вартуе совецкія граніцы, вартуе нашу мірную працу..* ЖН. *Мы* [савецкія людзі] *чуйна вартуем совецкі фарпост.* ПБН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вартуе* (2): ЖН (2). Мн. 1 ас. *вартуем* (2); ПБН (2).

**[ВАРТАСЬЦЬ]** (3) *ж.* **1.** Каштоўнасць. *Так сама маніцца ўрад зрабіць новую перэацэнку зямлі і падвышыць, стасоўна да яе вартасьці, гасударственны пазямельны налог.* ВН.

**2.** *перан.* Важнасць. *У нашы ужо часы.. зьявілася на сьвет божы некалькі беларускіх гымнаў, такой ці іншай ідэёвай і мастацкай вартасьці.* СБНГ. *На вартасьці надрукаванага ў "Вестннке" беларускага матар'ялу затрымліваецца ня будзем, бо гэта ня ўходзіць у наша заданьне..* ВСп, 90.

Адз. Р. *вартасьці* (2): ВН; СБНГ. М. *вартасьці*: ВСп, 90.

**[ВАРТЫ]** (5) *прым.* **1.** Які заслугоўвае чаго-н. *Ці ж можа паэт не адгукнуцца на іх* [папанінцаў] *радасны прыезд вершамі, вартымі гэтых вялікіх людзей?* МП. *Ці-ж ён* [беларус], *вякі ваюючы для славы і магутнасьці сваіх суседзяў, ня варт быў таго, каб адваяваць хоць крыху гэтай славы і магутнасьці для самога сябе, для свайго краю?* ДД.

**2.** Каштоўны. [Мікіта]: *..я збегаю чаго-небудзь куплю, бо пры новай сытуацїі і гэтыя грошы нічога варты не будуць.* Т, 56.

Мн. Н. *варты*: Ан, I9. Т. *вартымі*: МП. Кар. адз. м. Н. *варт*: ДД. н. Н. *варта*: Х. Мн. Н. *варты*: Т, 56.

**ВАРУНКІ** (9) *толькі мн. Польск.* Абставіны, умовы. *Успамінаюцца страшэнна цяжкія варункі працы на беларускай вызваленчай ніве ў часе панавання ў нашым краі расійска-царскага самаўласця.* MI, 17. *А мы, беларусы, праўда, дзякуючы гістарычным і геаграфічным варункам нашай бацькаўшчыны, – мы нічога дагэтуль не змаглі зрабіць, каб мець сваё войска..* БВ, 16.

Н. *варункі* (2): MI, 17; Тж, 15. Р. *варункаў* (2): ЗС, 17(2). Д. *варункам*: БВ, 16. В. *варункі* (2): БВ, 16; ЗС, 17. М. *варунках* (2): ВСп, 91; MI, 17.

**[ВАРУШЫЦЦА]** *незак.* Шавяліцца. *Іскрыстым, блескатным сьвятлом, Заліты княжскіе сьвятліцы, Дружына вольная кругом Сталоў дубовых варушыцца.* Кц, 192.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *варушыцца*: Кц, 192.

**[ВАРШАВЯК]** *м. Польск.* Жыхар Варшавы. *А каб давясьці Думе, што тые каталікі-беларусы – гэта зусім не беларусы, а "чыстакроўные" варшавякі, іх стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер..* ВР.

Мн. Н. *варшавякі*: ВР.

**[ВАРШАЎСКІ]** (2) *прым.* Які належыць да Варшавы. *..іх* [каталікоў-беларусаў] *стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер.* ВР. *Як чуму, ясным днём Выгналі прыблудаў, Свой ачысілі дом Ад варшаўскіх брудаў.* ПД, 83.

Адз. м. В. *варшаўскі*: ВР. Мн. Р. *варшаўскіх*: ПД, 83.

**[ВАРЫЦЬ]** *незак. перан.* Рыхтаваць. *Пятакоў і Радэк, Троцкі – ўся арава – Хлёбалі, зладзюгі, З адной міскі страву. Страву, што ім Гітлер варыў смачна, ласа..* МПв, 218.

Абв. пр. адз. м. *варыў*: МПв, 218.

**[ВАРЫЯНТ]** *м.* Спосаб. *Было два выхады: разбурыць ДЗОТ разам з фашыстамі ці знішчыць фашыстаў разам з ДЗОТам. Выбралі першы варыянт.* ПСп.

Адз. В. *варыянт*: ПСп.

**[ВАР'ЯЦТВА]** *н.* Безразважнасць, неразумны ўчынак. *Чаму яны* [людзі] *з такой упартасьцю дражняць народ і даводзяць яго да вар'яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК. *Параўн.* вар'яцыя.

Адз. Р. *вар'яцтва*: ДК.

**[ВАР'ЯЦЫЯ]** *ж. Разм. Тое, што* вар'яцтва. *Антанта, прымаючы пад ўвагу, што захварэла на вар'яцыю ад дыпламацыі, тры месяцы таму назад выехала за граніцу на цёплыя воды*

*лячыцца.* Ан, 19.

Адз. В. *вар'яцыю*: Ан, 19.

**ВАСЕННІ** *гл.* **АСЕННІ.**

**ВАСІЛЁК** (2) *м.* Валошка. [Янка]: *О, гэтакіх адных у нас многа, толькі ж яны не васількі, а праклятае зелле на нашай беднай зямлі!* Т, 20. // *У параўн. Ён жа* [Мікіта] *маё родненькае дзіцё, ды адзін, як той васілёк у жыце.* Т, 20.

Адз. Н. *васілёк*: Т, 20. Мн. Н. *васількі*: Т, 20.

**[ВАСКАВАНЫ]** *прым.* Нацёрты воскам. *Як чорная поліўка, ліліся яго* [*рэдактара*] *буйные сьлёзы на васкаваную падлогу, каціліся за дзьверы на вуліцу..* ЧЧШ.

Адз. ж. В. *васкаваную*: ЧЧШ.

**ВАСКРАШАЮЧЫ** *дзеепрым. незал. цяп. да* васкрасаць. *Разм.* Які ўваскрасае. *Цяперашнія пабеды дзянікінаў, калчакоў, юдэнічаў над бальшавікамі – гэта васкрашаючы труп расійскага самаўласця.* БВ, 17.

Адз. м. Н. *васкрашаючы*: БВ, 17.

**ВАСТРОГ** *гл.* **АСТРОГ**.

**ВАЎКАЛАК** (2) *м. Міф.* Пярэварацень. *Здаецца, сонца яе* [песьню] *чула І просты зьвер, і ваўкалак, Усіх, здаецца, ускалыхнула...* УрП, 47. *Цянюе ля хат ваўкалак...* ЗК, 42.

Адз. Н. *ваўкалак* (2): ЗК, 42; УрП, 47.

**[ВАЎЧЫЦА]** *ж.* Самка ваўка. *Я* [воўк] *з ваўчыцай рву сцягно, Мяса тнём па клоку.* Пц. *Я* [воўк] *з ваўчыцай падыду, рэшты дагрызаю.* Там жа.

Адз. Т. *ваўчыцай* (2): Пц (2).

**ВАЧАНЯТЫ** *толькі мн. Ласк. да* вочы. *І ў Галінкі – дзіцяняткі Ад такой гаворкі Ажно йскрацца вачаняткі, Нібы ў небе зоркі.* Вб, 237.

Мн. Н. *вачаняткі*: Вб, 237.

**ВАШ** (116) *займ. прыналежны да* вы. *Вы ўжо забылі, людзі здарэння, Дзе ваш прыпынак, – Вывелі ў гандаль славу, Сумленне – Праўду на рынак.* Чж, 147. *Вельмі паважаны Пане Рэдактар. Не адкажэце надрукаваць у Вашай газэце гэтых колькі слоў*. ЛР.

•**Ваша прэвасхадзіцельства** *гл.* прэвасхадзіцельства. **Ваша (таварыскае) родзіе** *гл.* родзіе. **Ваша таварыскасць** *гл.* таварыскасць. **Ваша таварыская міласць** *гл.* міласць. **Ваша чырвонае благародзіе** *гл.* благародзіе. **Ваша чырвонасць** *гл.* чырвонасць.

◊**Да вашых услугаў** *гл.* услуга.

Адз. м. Н. *ваш* (13): Г, 17; Ж (3); Т, 19, 20, 28, 30, 37, 49, 52, 57; Чж, 147. Р. *вашага* (6): Т, 36, 42, 48, 49(2), 52. Д. *вашаму*: Т, 29. В. *ваш* (4): Г, 17; ПВ; Т, 48, 55. Т. *вашым*: НКУС. М. *вашым*

(2): Т, 39, 47. ж. Н. *ваша* (15): Р; Т, 22(2), 44, 51, 52, 55, 56, 60(3); 62(2); Тж, 16; УрП, 50. Р. *вашай* (7): ПВ; Т, 21, 23, 36, 40, 43, 46, 48; *вашэй*: Т, 26. Д. *вашай*: Т, 60. В. *вашу* (6): БВ, 17; Г, 17; СНБ; Т, 48, 55; Чж, 147. Т. *вашай* (2): Т, 50, 56. М. *вашай* (4): АЛ; ЛР; Т, 39; Тж, 16. н. Н. *ваша* (14): Т, 21(2), 22, 32(2), 33(2), 50, 52, 56, 59, 60(2), 62; *вашэ*: Тж, 16. Р. *вашага*: Т, 51. Д. *вашаму* (2): Т, 51, 56; *вашэму*: Т, 47. В. *ваша* (2): 3; МПв, 219. Т. *вашым* (2): Т, 26, 38. Мн. Н. *вашы* (19): ВБЛ, 81; Ж; РКП; ССА, 294; Т, 21, 27, 36, 38, 42, 45, 47, 48(2), 52, 60, 61; Тж, 15, 16; УрП, 52. Р. *вашых* (3): Т, 51, 60; УрП, 52. Д. *вашым* (4): Ж; Т, 23(2); Чж, 146. В. *вашы* (2): Г, 17; Тж, 16; *вашыя*: МПв, 219. Т. *вашымі*: Т, 29.

**ВАШАРОДЗІЕ** *н. Уст., разм.* Ваша благароддзе (пачцівы зварот). [Мікіта]: *Каго я бачу, меджду протчым... Вашародзіе, прымеце пакорны прывет!* Т, 37.

Адз. Н. *вашародзіе*: Т, 37.

**[ВАЮЮЧЫ]**[1] *дзеепрым. незал. цяп. да* ваяваць у 1 *знач. Мы* [беларусы] *гэты рахунак пашлём усім ваяваўшым і ваюючым на нашай зямлі народам..* АБ, 16.

Мн. Д. *ваюючым*: АВ, 16.

**ВАЮЮЧЫ**[2] *дзеепрысл.* да ваяваць у 1 *знач. Ці ж ён* [народ], *які ваюючы для славы і магутнасьці сваіх суседзяў, ня варт быў таго, каб адваяваць хоць крыху гэтай славы і магутнасьці для самога сябе, для свайго краю?* ДД.

**[ВАЯВАЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* ваяваць у 1 *знач. Мы* [беларусы] *гэты рахунак пашлём усім ваяваўшым і ваюючым на нашай зямлі народам..* АБ, 16.

Мн. Д. *ваяваўшым*: АБ, 16.

**ВАЯВАЦЬ** (11) і *разм.* **ВАЯВАЦІ** (4) *незак.* **1.** Весці вайну. *Армія гэта складалася з беларусаў, але ваяваць ёй загадвалі не за Беларусь, а за Расію.* БВ, 16. *А цяпер вы* [паны] *ўсе – і з Захаду, і з Усходу – усе кідаеце аблудны кліч на староны, што вы ваявалі за вызваленне нявольнікаў, за самаазначэнне народаў...* Тж, 16. // Прымаць удзел у вайне. *Гэй, паехаў сын Даніла Ваяваць на вайну, Ад нападу, ад няволі Бараніць старану.* ПСД. *Едзе Янка ў поле, Едзе ваяваці, А дзяўчына, як маліна, Выйшла праваджаці.* ЕЯП.

**2.** *перан.* Змагацца; дамагацца ажыццяўлення чаго-н. *За сваю незалежнасць шмат малых народаў ваявала ці то словамі, ці сталлю.* НДН, 18.

Інф. *ваяваць* (3): БВ, 16(2); ПСД; *ваяваці* (4): БЗ; ВБ; ЕЯП; ПСД. Абв. цяп. адз. 3 ас. *ваюе*: РКП. Мн. I ас. *ваюем*: БЗ. 2 ас *ваюеце*: Тж, 15. 3 ас. *ваююць*: ВН. Пр. адз. м. *ваяваў*: ЕЯП. н. *ваявала*: НДН, 18. Мн. *ваявалі* (2): ПСД; Тж, 16.

**ВАЯКА** (9) і **ВАЯК** (3) м. *Разм.* Воін. *Кожны ведаць павінен сваё дзела: ваяка –вайну, а гаспадар – гаспадарку.* РКр. *Паўстань з народу нашага, ваяк, І волатам на вогненным кані Народ аграблены – бы з торб жабрак – За бацькаўшчыну павядзі ў агні!* Пт. // *Пагардл.* Той, хто не апраўдвае званне воіна, байца. *Няўжо настолькі коратка памяць японскіх ваяк, што яны забылі ўрокі 1921–1922 гг.* ВГ.

Δ**Ваяка-дэпутат:** *Дый штось зблытала нагайка, Цягнуць к уласцям Налівайку. Пратакол ідзе на хвата, На ваяку-дэпутата.* НД.

Адз. Н. *ваяк* (3): ВБ; Пт (2); *ваяка* (2): РКр (2). В. *ваяку*: НД. Т. *ваякам*: ВБ. Мн. Н. *ваякі* (3): БЗ; ВБ; ПСД. Р. *ваяк* (2): ВГ; РКр.

**ВБРЭВ** *прысл. Польск.* Насуперак. [Заходні вучоны]: *(запісваючы)..вбрэв гісторычным, географічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіны называён Бялорусь.* Т, 26.

**ВДЗЕНЧНЫ** *прым. Польск. Тое, што* ўдзячны. [Заходні вучоны]: *Незмерне пану вдзенчны естэм.* Т, 27.

Адз. м. Н. *вдзенчны*: Т, 27.

**[ВЕДА]** (2) *ж.* **1.** *Польск.* Веданне. [Мікіта]: *у гандлёва-прамысловых справах .. вымагаецца ад прадаўца пэўнай веды ў пазнанні душы купляючага і яго грамадскага і сацыяльнага становішча.* Т, 34.

**2.** *Спец.* Навука. *На шчасце, на радасці ўзлёт Збуцвелы разваліцца тын, Адчыняцца дзверы варот Да працы, да веды вышынь.* ТП, 216.

Адз. Р. *веды* (2): Т, 34; ТП, 216.

**[ВЕДЫ]** *толькі мн.* Звесткі аб чым-н. *Зірнуць толькі на дзесяткі тысяч школ, дзе беларускія дзеці пазнаюць веды ў сваёй роднай мове..* ШБСЯ.

Мн. В. *веды:* ШБСЯ.

**ВЕДАМА** *гл.* **ВЯДОМА.**

**ВЕДАЦЬ** (67) *незак.* **1.** Мець уяўленне пра што-н. *Кожны ведаць павінен сваё дзела: ваяка – вайну, а гаспадар – гаспадарку.* РКр. *Я* [Купала] *ведаю, знаю старонку такую, Спавітую ў вечны туман, Пад цёмнымі зоркамі днюе, начуе, Ляжыць на кургане курган.* ЗК, 42. *Параўн.* знаць у 1 *знач.*

**2.** Мець веды, навыкі. *Высокая ступень культуры ўласціва ўсім ім* [пісьменнікам], *шмат хто з іх ведае 3–4 мовы.* ПЧ. *Па праўдзе кажучы, паступіўшы ў гэтае вучылішча, я* [Купала] *ведаў больш, чым патрабавалася праграмай.* А, 328. *Параўн.* знаць у 2 *знач.*

**3.** Быць знаёмым з кім-н. [Мікіта]: *І не дзядзька, і не Мікіта, і не Зносак, а тут жыве.. колежскі рэгістратар Нікіцій Зносі-*

*лов.* [Аленка] *Я... я не ведаю...* Т, 25. *Беларускі народ не першы год ведае доблеснага сталінца, вернага сына нашай партыі т. Ежова.* НКУС. *Параўн.* знаць у 3 *знач.*

**4.** Усведамляць, уяўляць; разумець. *Сама* [бабка] *ведае, што хвора, Што баляць ёй грудзі. Аддыхала-б лепей дома, Чымся пхнуцца ў людзі.* Вб, 237. *Мы* [людзі] *ведаем, што вайна, якая-б яна не была, патрабуе шмат ахвяр, шмат высілкаў маральных і матэр'яльных..* ВС.

**5.** Адчуваць, пераджываць; зазнаваць. *Будзе сабе сам народ гаспадарыць, Вызыску чорнага ведаць не будзе.* Ф. *Параўн.* знаць у 4 *знач.*

**6.** *У знач. пабочн.* [Дама]: *А ведаеце, мусье Зносілов, бяду гэту можна лёгка паправіць.* Т, 51.

◊**Чамярыца яго ведае** *гл.* чамярыца.

Інф. *ведаць* (6): ВМР; РКр; Т, 29, 46; Ф; ХЛБ. Абв. цяп. адз. І ас. *ведаю* (14): Ан, 18, 19; ГВУ; ЗК, 42; Т, 19, 24, 25, 29, 30(3), 31, 41, 46. 2 ас. *ведаеш* (2): Бч, 9; Вб, 237. 3 ас. *ведае* (13): Ан, 18; АБ, 16; АЛ; Вб, 237; ВНЗ; ДК; НКУС; ПБН; ПЧ (2); Т, 44, 61; ХБ, 27. Мн. І ас. *ведаем* (3): ВС (2); СНБ, 340. 2 ас. *ведаеце* (9): Ан, 18(2); Т, 25, 30, 36, 41(2), 42, 51. 3 ас. *ведаюць* (4): ВМР; ЗС, 17, 18; Т, 54. Пр. адз. м. *ведаў* (8): А, 328; ДД; Кз, 17; СЧ; Т, 20, 24; Ч, 322(2). ж. *ведала*: ВР. Мн. *ведалі* (4): АЛ; Кз, 17; Т, 22; УПУВ. Заг. адз. 2 ас. *ведай*: РКр. Мн. 2 ас. *ведайце* (2): НДп, 229; СК, 158.

**ВЕДАЮЧЫ** (7) *дзеепрысл.* да ведаць у І *знач. Шостую вясну ўжо ён* [мужык] *сее так безнадзейна, ня ведаючы – хто яго сяўбу жаць будзе.* ДД. *Гібнулі* [беларусы] *не ведаючы, за што і за каго гібнуць.* БВ, 16. ВМР; Т, 50, 59; ХБ, 30(2).

**[ВЕДЗА]** *ж. Польск.* Веды, навука. [Заходні вучоны]: *Для взбогацэня нашэй ведзы польскей потшэбнэ сон ешчэ нектурэ шчэгулы о нібы вашым краю.* Т, 47.

Адз. Р. *ведзы*: Т, 47.

**[ВЕДЗЬМА]** (4) *ж. Міф.* Злая чараўніца. *Нячысцікі, ведзьмы рэй водзяць па ночы, "Забраны край" тузаюць так.* ЗК, 42. *Грамавік на грудзёх яго* [чараўніка] *гібелі піша, Ведзьмы шэпчуць аб соладкіх рэчах.* Ч, 325.

Δ**Ведзьма-крыўда:** *Станем к змаганьню мы з ведзьмаю-крыўдай Дружна, адважна, плячо ў плячо..* Г, 17. **Ведзьма-чараўніца:** *Лапацяць крыламі жутка Кажаны, начніцы, Як-бы суд спраўлялі тутка Ведзьмы-чараўніцы.* Дз, 191.

Адз. Т. *ведзьмаю*: Г, 17. Мн. Н. *ведзьмы* (3): Дз, 191; ЗК, 42; Ч, 325.

**ВЕЖА** (2) *ж.* Высокае і вузкае збудаванне. *Месца дзеі – кусок Катадральнага пляца, ..бліжэй ад Койданаўскай вуліцы,*

*з відам насупраць – вежа з гадзіннікам.* Т, 33. *На беларускае йдзеш* [Новы Год] *поле, На акрываўленыя межы, Дзе закаванай дрэмле воля, Дзе звоне звон хаўтурны з вежы.* НГд, 8.

Адз. Н. *вежа*: Т, 33. Р. *вежы*: НГд, 8.

**[ВЕЗЦІ]** (3) *незак.* **1.** Перамяшчаць што-н. пры дапамозе транспартных сродкаў. *Ён* [Даніла] *вязе ўсім падарункі..* ПСД. [Мікіта]: *Значыцца, выгандляваў цішком, каб ніхто не бачыў, тое-сёе з гэтай контрабанды на якую-сякую панчоху ці шкарпэтку, палажыў сабе.. на воз і вязі сабе ў сваёй каламажцы.* Т, 46.

**2.** *У безас. знач. Руск. Тое, што* шанцаваць. *А дзяўчына, міла сэрцу, Правяла* [Данілу] *за сяло. І дала на памяць персцень, Каб у бойках вязло.* ПСД.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вязе*: ПСД. Пр. адз. н. *вязло*: ПСД. Заг. адз. 2 ас. *вязі*: Т, 46.

**ВЕЙ** *м.:* Δ**Вей-вецер:** *Дзень варажыўся быць лагодным, Вей-вецер воблакі зганяў.* УрП, 47.

Адз. м. Н. *вей*: УрП, 47.

**ВЕК** (40) *м.* **1.** Стагоддзе. *Урэшце, забабон у наш XX ты век апляваў паскуднай сьлінай увесь культурны сьвет, кінуўшы яму у вочы процэс Бэйліса.* З. *Паўстань з народу нашага, пясняр, Былых і будучых вякоў баян..* Пт. *Параўн.* адвек.

**2.** Жыццё, перыяд існавання чаго-, каго-н. *Шчаслівы наблізіцца век, І над чалавекам ужо Не будзе стаяць чалавек Гадзюкаю, п'яўкай, смаўжом.* ТП, 216. *Брат другі яе* [судзьбіны] *мудрыя выслухаў рэчы: – Ня туды цэлы век пёрся здуру..* Ч, 323. // Узрост. *Гэнрых Мотавіч Спічыні – Мікітавы настаўнік, сярэдняга веку, бараду і вусы голіць.* Т, 19.

**3.** Эпоха. *Плывуць таварыш Кіраў і таварыш Сталін, Прад імі даль Зямлі Совецкай і вякоў.* СК, 158.

**4.** *У знач. прысл.* Заўсёды, вечна. *Свяціся-ж ты, сонца, ў маё век аконца!* ТП, 213. *Будзеш векі жыці, Зямелька советаў, На радасць, на шчасце Працоўнаму свету.* МПв, 220.

◊**Ад века да века; ад векаў** – ўсё жыццё, вечна. *А народ жыць будзе, песня жыці будзе, Пакуль свет жыць будзе – ад века да века.* ПСС, 231. *Гібне памрока душыўша ад векаў, Сонца і зоры к сабе сьвет завуць...* Г, 17. **Ад вякоў; спакон веку** – з самага даўняга часу, спрадвеку. *Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы Таго свайго, што наша ад вякоў.* Бч, 9. *Кідае* [забабон] *балотам на усё сьвятое, спакон веку жывучае, з малаком матчыным упоенае..* З. **Век-да-веку** – усё жыццё, да апошніх дзён жыцця. *Негаданай доляй, воляй у яго* [народа] *ваконца Глядзець будзе век-да-веку Сталінскае сонца.* ЗЯЗ, 90. **Вечныя векі** – заўсёды. *Жыві і красуйся* [Сталін] *нам* [народу] *вечныя векі, Як вечна плывуць*

*жыватворныя рэкі!* СС, 303. **На (увесь) век (вякі)** – назаўсёды, на доўгі час. *У плуг запрог* [брат] *свайго браточка На век, да сканання, А мяне* [маці] *асенней ночкай Выгнаў на бадзянне.* Дз, 190. *З жалейкай кожны хай сваею Не расстаецца на ўвесь век, Заве і верай і надзеяй Сьлязы і ўцеху з-пад павек.* УрП, 49. **Праз вякі** – бязмежна доўга, на працягу доўгага часу. *Здарма ж двуглавы твой* [Русі] *арол Праз векі ў кіпцюрох трымаў Мільёны ўбогіх хат і сёл, Рабоў мільёны?..* АПЖ. *Як-жа можа беларускі народ хіліцца да Польшчы, калі ён бачыць у ёй таго самага пана, каторы праз вякі зьдзекаўся з яго і проці каторага ён падняў паўстаньне у часе рэволюцыі.* ОШМ. **Спакон веку** – спрадвеку. *Кідае* [забабон] *балотам на ўсе сьвятое, спакон веку жывучае, з малаком матчыным упоенае..* З. **У вяках** – а) заўсёды. *..цябе, моладзь, у вяках будуць успамінаць добрым і чулым словам.* ЖН; б) ніколі. *Заззяла ўрачыстае свята народаў, якога ў вяках не бывала.* ВВ, 282.

Адз. Н. *век* (2): ЗЯЗ, 90; ТП, 216. Р. *веку* (3): З; ЗЯЗ, 90; Т, 19; *века* (2): ПСС, 231(2). В. *век* (11): Б, 18; В; ВБ; ВЧ; Д, 73; Дз, 190; З; Пт; ТП, 213; УрП, 49; Ч, 323. Мн. Н. *векі* (2): СС, 303(2); *вякі*: ТП, 216. Р. *вякоў* (6): АПЖ; Бч, 9; БСУ; НК; Пт; СК, 158; *векаў*: Г, 17. В. *вякі* (6): АПЖ; ДД; ОШМ (2); СБ; УПУВ; *векі* (3): Г, 17; МПв, 220; СЗГ, 252. Т. *вякамі*: ВВ, 263. М. *вяках* (2): ВВ, 282; ЖН.

**ВЕКАВЕЧНА** *прысл.* да векавечны. *Векавечна ў руцэ аднэй сонца трымала* [судзьбіна], *Пяруны ў другой руцэ мела..* Ч, 322.

**[ВЕКАВЕЧНЫ]** (6) *прым.* Спрадвечны. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства, устоі векавечнай цемры, няволі.* ДЖ. *..справа вызваленьня Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным паднявольлем.* СНБ.

Адз. м. Р. *векавечнага*: СМ. ж. Р. *векавечнай*: ДЖ. В. *векавечную* (3): БСУ; ПЛП; Тж, 15. н. Т. *векавечным*: СНБ.

**[ВЕКАПОМНЫ]** (5) і *разм.* **[ВЕКПОМНЫ]** *прым.* Незабыўны. *Пройдуць годы, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць тады нас: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для свайго краю?"* БС. *Канстытуцыі векпомнай Слова залатое Напісаў* [Сталін] *нам добрым сэрцам, Дбалаю рукою.* НК.

Адз. м. В. *векапомны*: БС. Т. *векапомны*: ПЛП. ж. Р. *векпомнай*: НК. В. *векапомную*: АЛ. Мн. В. *векапомныя*: СНБ, 336. Кар. мн. Н. *векапомны*: Дз, 192.

**[ВЕЛІЗАРНЫ]** (2) і **[ВЯЛІЗАРНЫ]** *прым.* **1.** Даўжэзны, вялікі. *..якія пышныя дубы растуць у Меншчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў разводзьдзе вадою, – якія ліпы, якія вялізарныя бярэзіны!* ХБ, 29.

**2.** *перан.* Значны, велічны. *Рэформа правапіса.. з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы..* ШБСЯ. *Рэформа правапіса, праведзеная пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г., мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.* Там жа.

Адз. м. Т. *велізарным*: ШБСЯ. н. В. *велізарнае*: ШБСЯ. Мн. Н. *вялізарныя*: ХБ, 29.

**[ВЕЛІКАРУСКІ]** *прым. Высок. Тое, што* рускі ў 1 *знач. Усходні вучоны – носіць велікарускую вопратку – "падзёўку", "касаваротку" і доўгія боты, барада калматая.* Т, 19.

Адз. ж. В. *велікарускую*: Т, 29.

**[ВЕЛІКІЙ]** *прым. Руск. Тое, што* вялікі ў І *знач.* [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік) Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна..* Т, 47.

Кар. адз. ж. Н. *веліка*: Т, 47.

**ВЕЛІКОЛЕПНО** *прысл. Руск.* Вельмі добра, цудоўна. [Усходні вучоны]: *(таксама запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным); Родной язык – обшчэрусскій, велІколепно ўсовершэнствованный, но с большой прымесью непонятных слов.* Т, 26.

**[ВЕЛЬКІ]** *прым. Польск. Тое, што* вялікі ў І *знач.* [Заходні вучоны]: *(запісваючы ў нататкі, голасна): Мова ойчыста – огульно-польска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув.* Т, 26.

Адз. н. Т. *велькон*: Т, 26.

**[ВЕЛІЧ]** (2) *ж.* **1.** Незвычайная сіла. *..я* [Купала] *.. ня змог.. ўразумець і усьвядоміць усю веліч і гістарычную нямінучасьць пролетарскае рэволюцыі..* АЛ.

**2.** Велічнасць. *У размаху і велічы социялістычнага будаўніцтва ўся грандыёзная ленінская сутнасць нацыянальнай палітыкі нашай партыі.* ШБСЯ.

Адз. В. *веліч*: АЛ. М. *велічы*: ШБСЯ.

**ВЕЛЬМІ** (54) *прысл.* Надта, надзвычайна, дужа. [Наста]: *Вельмі цікава з вамі* [Янкам] *пазнаёміцца!* Т, 23. *Але адказ на яго* [пытанне] *вельмі просты.* ЗС, 18. *Параўн.* бардзо, весьма, очень.

А, 328 (2); Ан, 19; АЛ; ВН; ВР; ВСп; 89(2), 90, 91(2); ВЧ; ДК; ЗС, 18; ЛР; ОШМ; ПЧ (2); СБНГ (2); СНБ, 337; СЧ; Т, 20, 21, 22(2), 26, 28(3), 29, 30(2), 35, 36, 37, 38, 40(3), 44, 49(2), 51, 52, 56(2); УП; ХБ, 27, 29, 30(2); ЦСБ.

**[ВЕНІК]** *м.* Звязаны пучок галінак для падмятання падлогі.

◊**Як мыш пад жорсткім венікам –** з усіх бакоў. *Заціснуты, задушаны як мышы, Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў. Шукаем, як сляпыя не згубіўшы, таго свайго, што наша ад вякоў.* Бч, 9.

Адз. Т. венікам: Бч, 9.

**[ВЕНСКІ]** *прым.:* •**Венскае крэсла** – прадмет мэблі асобай вытворчасці, формы. *Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох – пара малых столікаў, на адных з іх грамафон, крэслы венскія і мяккія плюшавыя.* Т, 19.

Мн. Н. *венскія*: Т, 19.

**ВЕНЦЭЙ** *прысл. Пар. ст. да* вёско. Падрабязней. [Заходні вучоны]: *А чы не можэце, пане бялорусін, поінформоваць венцэй шчэгулово о тэм вашым "далей"?* Т, 39.

**ВЕРА** (25) *ж.* **1**. Упэўненасць у чым-н., у здзяйсненні, ажыццяўленні чаго-н. *У самую гушчу Чэхаславацкага народу пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Совецкі Саюз як на адзіны аплот міру.* ПЧ. *Гэтыя арміі ўжо змагаюцца за незалежнасць сваіх дзяржаў, змагаюцца стойка і з верай у лепшую будучыну.* БВ, 16.

**2.** Перакананне. *Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяперака, бо не аднаго бога мелі, а некалькі..* Кз, 17. *Праўду сказаць, я* [Купала] *і да гэтага не быў вельмі рэлігійным, але гэты цынічны торг ксяндза канчаткова выбіў з мяне рэшткі веры.* А, 328. // Рэлігійнае вучэнне; веравызнанне. *Гэту думку мае і закон, каторы кажэ навучаць дзяцей іх веры ў роднай мове.* ВР. *А давалі* [усемагутныя дзяржавы], *гвалтам накідалі ім* [падняволеным народам] *свае так званыя "культуры", пры помачы якіх душылі ў падняволеных народаў іх нацыянальныя асаблівасці, іх веру, праўду...* НДН, 18.

◊**Даць веры** *гл.* даць.

Адз. Н. *вера* (15): ЕЛ; Кз, 17; ПЧ; УрП, 50, 51. Р. *веры* (10): А, 328; ВР (2); Г, 17; Кз, 17(3); Кц, 197; НДп, 229; Ч, 323. В. *веру* (3): ДД; НДН, 18; УрП, 51. Т. *верай* (5): БВ, 16; ПЛП (2); СЧ; УрП, 49. М. *веры*: Кз, 17. Мн. Н. *веры*: 3.

**[ВЕРАБЕЙ]** *м. Заал.* Невялікая птушка атрада вераб'іных. *Адны кажуць, што гэта* [Антанта] *наравісты конь, другія кажуць, што гэта пудзіла на вераб'ёў, трэція – што гэта аркестра..* Ан, 18.

Мн. В. *вераб'ёў*: Ан, 18.

**ВЕРАКСІНЫ** *мн. Агульн.* да Вераксін. *..кс. Мацеевіч і яго таварышы – гэта такіе-ж заядлые ворагі беларушчыны, як Юрашкевічы, Вераксіны і Замыслоўскіе..* ВР.

Мн. Н. *Вераксіны*: ВР.

**ВЕРАС** (2) *м.* Кустовая расліна сямейства верасовых. *Шумяць аб іх* [героях] *долі кашлатыя хвоі, Ды верас ружовы іх славіць паход.* ПБН. *Цярэбіць стальнаю сякерай Прыблуднік нашыя лясы, Ў свае цянёты вабіць зьвера, Сьвятыя топча верасы.* УрП, 48.

Адз. Н. *верас*: ПБН. Мн. В. *верасы*: УрП, 48.

**ВЕРАСЕНЬ** (6) *м.* Дзевяты месяц года. *Верасень месяц абходзіў палеткі, Птушкі не пелі, не квакалі жабы, Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі, Дружна капалі з раллі бульбу бабы.* ВМ, 72. *Ліпень, жнівень і верасень я* [С. Меч] *пражыў у Меншчыне, на беразе Сьвіслачы...* ХБ, 28.

**Верасень месяц...**

Адз. Н. *верасень* (3): ВМ, 72(2); ХБ, 29. Р. *верасьня*: ХБ, 29. В. *верасень* (2): ХБ, 28, 29.

**ВЕРАЧЫ** *дзеепрысл.* да верыць у I *знач. Яны* [бежанцы] *з абозам на усход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях, У прадчуванні, але йшчэ ня верачы, ані, Што гэта ўжо сапраўды эпілёг дасяг, Што ўжо няма каму тут спадчынныя іскі Цяпер чыніць..* ВБЛ, 80.

**[ВЕРАШЧАКА]** *ж.* Рэдкая мучная страва з мясам, каўбасой і рознымі прыправамі. *Частавацца будзем* [заходнія і ўсходнія беларусы] *разам з кожным новым годам Верашчакаю калгаснай І калгасным мёдам.* ТЗУ, 293.

Адз. Т. *верашчакаю*: ТЗУ, 293.

**ВЕРНЫ** (12) *прым.* Непахісны, адданы. *Зьвярнуўся так да незнаемца Прыбочнік верны Пяруна.* УрП, 51. *Над калыскай з бегам ночак Песьні роднай не жалей, Каб, як вырасьце сыночак, Верным вечна ён быў ей.* М, 19.

Адз. м. Н. *верны* (5): НКУС; Т, 32; Чж, 146; УрП, 47, 51. Р. *вернага* (3): НКУС (2); УрП, 49. Т. *верным*: М, 19. ж. Т. *вернай*: НД. Мн. Н. *верные* (2): БСУ; Кц, 196.

**ВЕРТАЦЦА** *гл.* **ВЯРТАЦЦА**.

**[ВЕРХ]** (4) *м.:* ◊**Браць (узяць) верх** *гл.* браць.

Адз. В. *верх* (4): БВ, 16; Кц, 193; ПН, 47; СНБ.

**[ВЕРХНІ]** *прым.* Які надзяваецца зверху на што-н. *Уваходзяць Госці ў парваных верхніх вопратках, якія Мікіта знімае і выносіць у другі пакой.* Т, 24.

Мн. М. *верхніх*: Т, 24.

**ВЕРШ** (15) *м.* Мастацкі рытмізаваны твор. *Далей гэты самы кампозытар напісаў музыку да верша Каганца: "О, Божа, спасе наш!" і так сама часта нашы сьпевакі называюць гэта гымнам.* СБНГ. *На літаратурную ніву я* [Купала] *ўступіў у 1905 г., надрукаваўшы свой першы верш "Мужык".* АЛ.

Адз. Н. *верш* (2): СЧ (2). Р. *верша* (3): СБНГ (3). В. *верш* (3): АЛ; СЧ (2). Мн. Н. *вершы*: ЖН. Р. *вершаў* (3): ВСп, 90; СБНГ (2). В. *вершы*: МП. Т. *вершамі*: МП. М. *вершах*: ХБ, 27.

**ВЕРЫЦЬ** (13) *незак.* **1.** Быць перакананым, упэўненым у чым-н. *Я* [Купала] *вітаю цябе, моладзь, у гэты небывалы*

*росквіт нашай долі, і веру, што ты яшчэ сягнеш туды, куды думка чалавечая не здагадвалася сягнуць..* ЖН. *Вераць* [людзі] *а шчыра, што рана ці позна, – З Захаду голас іх трапіць да Ўсходу.* ВМ, 72. // Лічыць каго-н. здольным здзейсніць надзеі, спадзяванні. *Гэтак далей жыць ня можна, і мы* [беларусы] *верым, што польскі урад мае дзяржаўны розум і парупіцца зрабіць усё, што вымагае ад яго дзяржаўная мудрасьць..* ОШМ.

**2.** Прымаць за праўду, лічыць адпаведным рэчаіснасці што-н. *Калішніе лёзунгі.. пашлі ў няпамяць, а калі яшчэ дзе-не-дзе і зьвіняць яны, то толькі, як байкі для простых людзей, як абяцанкі, якім ужо ніхто ня верыць.* СНБ. *Хочацца верыць, што закалышацца беларускае моро і змые сваімі бурлівші водамі з свайго уладарства усе забабоны..* З.

**3.** Давяраць каму-н. *Я* [Купала] *веру вам* [Жыдам], *хоць чорнай гразьзю ўсюды Плюе вам цар і раб, стары і малады.* Ж. *Калі гэтаго дружна зажадаюць два мільёны беларусоў-каталікоў, яны могуць дабіцца свайго; калі-ж будуць спаць і верыць розным баламутням, іх заклююць тые груганы, каторые ў нас за час сну народнага вельмі распладзіліся!* ВР.

Інф. *верыць* (4): ВР; З; ПЛП; СНБ. Абв. цяп. адз. I ас. *веру* (2): Ж; ЖН. 3 ас. *верыць* (3): ВС; ЗС, 18; СНБ. Мн. I ас. *верым*: ОШМ. 3 ас. *вераць*: ВМ, 72. Пр. мн. *верылі*: Б, 18. Заг. мн. 2 ас. *верце*: ПЛП.

**ВЕСЕЛА** (2) *прысл. да* вясёлы ў I *знач. Яшчэ хачу* [Купала] *сказаць словамі Іосіфа Вісарыёнавіча: радасна жыць, весела жыць, весела працаваць.* ЖН (2).

**[ВЕСЕЛІЕ]** *н. Руск.* Весялосць. [Поп]: *I прышэд я с німі* [гасцямі], *дабы одні́м веселіем возвеселіціся з вамі; чадо мое, рэгістратор!* Т, 51.

Адз. Т. *веселіем*: Т, 51.

**ВЕСНА** *гл.* **ВЯСНА.**

**[ВЕСНІЦЫ]** *толькі мн.* Вароты ў двор. *Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным..* Кз, 17.

Мн. Р. *весніцаў*: Кз, 17.

**ВЕСТКА** (5) *ж.* Паведамленне. *Кароценькая вестка, адтрыманая намі ўчора з Варшавы,.. павінна збудзіць у кожнага беларуса.. вялікае здаволеньне і сьвяточную радасьць.* БСУ. *З далёку і з блізку далетаюць да нас і добрые і благіе весткі аб вялікіх бітвах, аб змаганьнях мільёнаў ваяк.* РКр. *Параўн.* весць, весьць.

Адз. Н. *вестка*: БСУ. В. *вестку*: БВ, 17. Мн. Н. *весткі*: РКр. В. *весткі* (2): Т, 23, 24.

**ВЕСЦІ** (21), **ВЯСЬЦІ** (2) і **ВЯСЦІ** *незак.* **1.** Накіроўваць чый-н. рух. [Янка]: *Мушу хутчэй вас* [Гарошку і Аленку] *адгэтуль*

*весці.* Т, 39. *У куды ж і к чаму ведзяце вы сягодняшнюю гісторыю, усе антанты, проці-антанты і вам падобныя?* Тж, 15. // Прымушаць ісці з сабой. [Начальнік]: *Помніце, як летась вялі мяне ў палон, а я ад вас* [Мікіты] *спрытна ўцёк.* Т, 60. // Ісці на чале, узначальваць. *Няхай жыве Комуністычны інтэрнацыянал, гэты адзіны загартаваны правадыр, які вядзе чалавецтва да новага сьветлага радаснага жыцьця.* АЛ. *На зьдзек прадажныя прарокі І на гніцьцё у царстве цьмы Вядуць аплучаныя тоўпы Пад стогны вечныя турмы.* РС, 40.

**2.** Мець пэўны напрамак, быць шляхам куды-н. *Выбіраў жаўнер Трэццю сцежаньку, Гэй, гэй, гэй, трэццю сцежаньку! Бо вяла яна У родну межаньку.* ББ.

**3.** Рабіць, выконваць, ажыццяўляць, падтрымліваць што-н. [Мікіта]: *На ўсе бакі вядзе* [Наста] *шырокае знаёмства.* Т, 23.

**Ой, вяду бяду...**

◊**Весці бяду** – бедаваць, жыць гаротна. *Ой вяду бяду, А бяда мяне Водзіць вечным следам..* ВБ. **Весці род** – лічыць сябе нашчадкам каго-н. *З пакорай зьвесіўшы галовы Стаіць народ, маўчыць народ: Сказаць аўтарнік мусіць слова, Ня дарма з неба вядзе род.* УрП, 49. **Весці торг** – таргавацца. *Рынкам жывога тавару няслава Край увесь зрабіла, загнала на ўбой, Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава Торг груганоўы вядуць між сабой.* Н. **Весці ў грэх** – прымушаць саграшыць. [Ануля]: *А бадай вы пакіслі, мае дзеткі! І старую ў грэх ведзіцё. Давайце лепей аб чым іншым пагамонім.* Т, 54. **Вясьці бяседу** – весяліцца. *А покуль поўнач не прыйшла, Вясьці бяседу будзем далей; Засядзьце* [духі] *ўсе кругом стала, Хай зазьвініць віно ў крыштале.* Кц, 196. **На крыж весці** – караць. *Бо так – не купіўшы – не след на крыж вёсці. Гатовы сказаць, што вы ўкралі...* Р.

Інф. *весці* (2): Р; Т, 39; *вясьці* (2): Кц, 196; СП; *вясці*: Ф. Абв. цяп. адз. І ас. *вяду*: ВБ. 3 ас. *вядзе* (6): АЛ; ВР; ВСп, 91; Т, 22, 23; УрП, 49. Мн. 2 ас. *ведзяце*: Тж, 15; *ведзіцё*: Т, 54. 3 ас. *вядуць* (4): Кц, 193; Н; РС, 40; УрП, 48. Пр. адз. ж. *вяла* (2): ББ; Ч, 322. н. *вяло*: АЛ. Мн. *вялі* (3); ПСп; Т, 60; Ч, 322.

**[ВЕСЦІСЯ]** *незак.* Ажыццяўляцца, праводзіцца. *Сельская гаспадарка ў Чэхаславакіі вядзецца прымітыўна.* ПЧ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вядзецца*: ПЧ.

**[ВЕСЦЬ]** (2) і **[ВЕСЬЦЬ]** *ж. Руск. Тое, што* вестка. *Так я* [бацька] *гібеў, а знікуль яснай весці, Горкае гора і ў будні, і ў свята..* Бц, 74. *Прашу* [князь] *паклікаці ганцоў І мейсца даці ім па чэсьці. Ад нашых стоптаных капцоў Якія нам прыносяць весьці?* Кц, 193.

Адз. Р. *весці*: Бц, 74. В. *весць*: БрБ, 6. Мн. В. *весьці*: Кц, 193.

**ВЕСЯЛЕЙ** (4) *прысл. Пар. ст. да* весела. *Край, дзе жыццё я* [Нёман] *сваё пачынаю, Шмат весялей прыглядаўся на свет, Песні і казкі інакшыя баіў, Шчасце цвіло ўім, як макавы цвет.* Н. [Поп]: *Ой, часы, часы! Весялей жылі нашы бацькі.* Т, 28. Т, 19, 57.

**[ВЕСЯЛІЦЦА]** *незак.* Весела праводзіць час, забаўляцца. *Людзі ходзяць, весяляцца, Ў думках іхніх свята, А на вуснах іх імёны Слаўных кандыдатаў.* НК.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *весяляцца*: НК.

**[ВЕСЬ]** (2) *займ.* **1.** *Тое, што* ўвесь у 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

**2.** *Тое, што* ўвесь у 2 *знач.* [Поп]: *Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымюе ныне.* Т, 28.

Адз. ж. В. *всю:* Т, 39. н. В. *всё*: Т, 28.

**ВЕСЬМА** *прысл. Руск. Тое, што* вельмі. [Усходні вучоны]: *Весьма вам* [Мікіту] *благодарэн!* Т, 27.

**[ВЕТВЬ]** *ж. Руск.* Від, разнавіднасць. [Усходні вучоны]: *(таксама запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). Народность ныне распадается на две родовыя ветві: племя – беларусы і племя – тожэ-белорусы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов.* Т, 26.

Мн. В. *ветві*: Т, 26.

**ВЕТРЫК** (2) *м. Ласк. да* вецер. *..цёплы паўднявы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын.* ХБ, 29. *Быў з ёй* [маці] *добрым вясёлы ветрык – Загасіў, як сьвечку яе.* ВБЛ, 82.

Адз. Н. *ветрык* (2): ВБЛ, 82; ХБ, 29.

**ВЕЦЕР** (32) *м.* **1.** Паветраная плынь. *Грозна рэхі Пашлі па пушчах, па лясох, Аж сьціхлі птушчыныя сьмехі, Аж вецер сьцішыцца ня мог.* УрП, 49. *Стогнуць ветрам калыханы Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як сьлёзы.* Дз, 191.

**2.** *перан.* Думкі. *Я* [Нёман] *іх* [людзей] *не ваблю сваею ўжо красай: Вецер інакшы ім дзьме ў галаве..* Н.

∆**Вей-вецер** *гл.* вей.

◊**Ветру не дагнаці** – працаваць хутка. *Чые звоняць звонка косы На мурожнай сенажаці? Хто йдзе першым у пракосах Што і ветру не дагнаці?* СА, 180. **Веяць нядобрым ветрам** *гл.* веяць. **Як вецер** – хутка. [Ганулья]: *(гледзячы ў вакно). Нікога не відаць, толькі мамзэль Наста панеслася, як вецер.* Т, 59.

Адз. Н. *вецер* (22): Бч, 9; ВБЛ, 81(3), 82(4); ВГ; ВМ, 72; Дз, 187; Н; ПТ, 206; СД; Т, 59; Тж, 16; ГП, 213; УрП, 47, 49, 51; ХБ, 29; ХЛБ.

Р. *ветру* (2): СА, 180; СНБ. Т. *ветрам* (2): БрБ, 6; Дз, 191. Мн. Н. *ветры*: Ч, 321; *вятры*: ВБЛ, 80. Р. *вятроў*: АР; *ветраў*: УрП, 50. Д. *ветрам*: Ч, 323. Т. *ветрамі*: ЗК, 43.

**[ВЕЦЬВЕ]** *н., зб. Разм.* Вецце. *Ляглі нязгледжаныя далі (Як сокал бачыць мог я усё), Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыцьцё.* УрП, 46.

Адз. Т. *вецьвем*: УрП, 46.

**[ВЕЦЬВІСТЫ]** *прым.* да вецьве. *Гудзеў, каціўся звон вячовы, Тужліва бор-лес падцінаў, Ля цёмнай вецьвістай дубровы Народ зьбіраўся і чакаў.* УрП, 47.

Адз. ж. Р. *вецьвістай*: УрП, 47.

**[ВЕЧА]** (2) *н. Гіст.* Сход для вырашэння грамадскіх і дзяржаўных спраў. *З вольнай дружынаю князь на пасадзе Вольнаму люду законы пісаў; Слухалі князя, а князь што не ўладзіў – Слухаў, што веча яму звон казаў.* Н. *Як на веча сход ззывалі* [бацькі] *І тварылі свой закон, Як жылі ды панавалі, Покі ўпалі у палон.* М, 20.

Адз. Р. *веча*: Н. В. *веча*: М, 20.

**ВЕЧАВЫ** (2) і *разм.* **ВЯЧОВЫ** (2) *прым.* Які адносіцца да веча. *Не гудзе ў павазе Голас вечавы, Не шукаюць князі Славы і бітвы.* МД. *Гудзеў, каціўся звон вячовы, Тужліва бор-лес падцінаў..* УрП, 47.

Адз. м. Н. *вечавы*: МД; *вячовы* (2): УрП, 47(2). В. *вечавы*: ПНд, 314.

**ВЕЧАР** (10) *м.* Час сутак ад канца дня да надыходу ночы. *А потым настаў ціхі, залаты вечар, такі вечар, што каб я* [С. Меч] *мог, я спыніў-бы яго ды зрабіў яго бясконцым..* ХБ, 29. *Позняя восень. Сцюдзёна. Пад вечар.* Т, 33. // Вечарынка. [Дама]: *У мяне з'явілася цудоўная ідэя: той вечар у вас* [Мікіты] *на імянінах, перад выхадам немцаў, такое мілае ўраджанне пакінуў, што я вельмі была б шчаслівай, каб сягоння яго паўтарыць.* Т, 51.

◊**Добры вечар!** – прывітальныя словы пры сустрэчы. [Наста]: *Добры вечар! Добры вечар, мусье Нікіці!* Т, 41. [Наста]: *Добры вечар! Як жывы-здаровы?* Там жа, 23.

Адз. Н. *вечар* (6): Т, 23, 41(2), 51; ХБ, 29(2). Р. *вечара*: Т, 19; *вечару*: Т, 51. В. *вечар* (2): Т, 33; ХБ, 29.

**[ВЕЧАРЫНКА]** *ж.* Вячэрняя гулянка з музыкай і танцамі. *Ой, сяброўка з вечарынкі, Нам з табою ня дружыць, – Радасць, гора мы дзялілі, А любоў не падзяліць.* ВБЛ, 82.

Адз. Р. *вечарынкі*: ВБЛ, 82.

**ВЕЧНА** (13) *прысл.* да вечны ў I знач. *Ночка ці дзень, ці марозы ці спекі, – Вечна ў ярме, у паднявольнай рабоце.* Д, 73. *Вайна вечна трываць ня будзе, вернуцца нашы браты і сыны дамоў.* РКр.

БС; БСУ; Г, 17; ЗС, 18; Кц, 196; М, 19; НГд, 8; ПЛП; СБНГ;

СС, 303; Т, 35.

**ВЕЧНАСЬЦЬ** *ж.* Працяг часу без пачатку і канца. *У параўн. А трэйці быў раб, і цар I слаб, і дуж ва ўсякім дзеле, Як вечнасьць, молад быў і стар; Меў гусьлі – на грудзях віселі.* Кц, 194. *Параўн.* бясчасьсе.

Адз. Н. *вечнасьць*: Кц, 194.

**ВЕЧНЫ** (24) *прым.* **1.** Які існуе заўсёды без пачатку і канца (у часе). *Ах, скарэй-бы дзень вечны, ці вечная цьма! Яна згубіць мяне, бессанлівая ноч!* БН, 93. *..пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шляхам.. і з верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і для кожнага паасобку..* ПЛП. // Пажыццёвы. *..калі ня хочам быць вечнымі рабамі, – павінны пакінуць мы* [беларусы] *благую прывычку думаць, што нехта прыдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі.* БС. // Пастаянны. *Я ведаю, знаю старонку такую, Спавітую ў вечны туман, Пад цёмнымі зорамі днюе, начуе, Ляжыць на кургане курган.* ЗК, 42. *Дзе вечная пустка была, Там горад паўстаў і расце..* ТП, 215.

**2.** *перан.* Які не перастае існаваць. *Але і жандармы і бальшавіцкія "чрэзвычайкі" не завядуць на зямлі вечнага парадку і ладу..* СНБ. *Дзяўчына, кветкамі абсып курган вялікі, А песню вечную злажы, пясняр-паэт.* СК, 158.

•**Вечны пакой** *гл.* пакой. **Вечная цьма** *гл.* цьма.

◊**Вадзіць вечным следам** *гл.* вадзіць. **Вечныя векі** *гл.* век.

Адз. м. Н. *вечны* (3): Бч, 10; БН, 93; Т, 20. Р. *вечнага*: СНБ. Д. *вечнаму*: ПЛП. В. *вечны* (2): ЗК, 42; ТП, 217. Т. *вечным* (3): БСУ; ВБ; МІ, 17. ж. Н. *вечная* (2): БН, 93; ТП, 215. Р. *вечнай*: Пр. В. *вечную*: СК, 158. н. В. *вечнае*: СЧ. Мн. Н. *вечныя* (2): СС, 303 (2). Р. *вечных* (2): Г, 16; Кр, 77. В. *вечныя* (3): РС (2); Т, 42. Т. *вечнымі* (2): БВ, 16; БС.

**[ВЕШАЛКА]** *ж. Разм.* Раздзявальня, гардэроб. [Гануля]: *Я мыла людзям бялізну, а ён* [муж] *прыстроіўся ў акружным судзе: быў там пры вешалках і кур'ерам.* Т, 20.

Мн. М. *вешалках:* Т, 20.

**[ВЕШАЦЕЛЬ]** *м.:* Δ**Мураўёвы-вешацелі** *гл.* Мураўёвы.

Мн. Р. *вешацеляў*: Т, 49.

**[ВЕШАЦЬ]** *незак.* Караць смерцю праз павешанне. *Таварышы! Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках.* ЖН.

Абв. пр. адз. м. *вешаў*: ЖН.

**ВЕШЧЫ** *прым. Уст.* Мудры, прарочы. [Янка]: *..для мяне яна* [чыстая інтэлігенцыя] – *"Варшавске смецце, гразь Масквы", як сказаў вешчы Шаўчэнка.* Т, 38.

Адз. м. Н. *вешчы*: Т, 38.

**[ВЕШЧЭСТВЕННЫ]** *прым. Руск.* •**Вешчэственнае доказательства** *гл.* доказацельства.

Мн. В. *вешчэственныя*: Т, 62.

**[ВЕЯНІЕ]** *н. Руск.* Уплыў, уздзеянне чаго-н. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік): ..благодара врэдным клімацічэскім веяніям с Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце.* Т, 47. *Параўн.* вплыв.

Мн. Д. *веяніям*: Т, 47.

**[ВЕЯЦЬ]** (6) *незак.* **1.** Дзьмуць. *Гутарка важная ходзіць па хаце, Вецер за хатаю вее і вее.* ВМ, 72.

**2.** *перан.* Распаўсюджвацца, перадавацца. *Гарує там* [у Заходняй Беларусі] *брат наш, гібее пад панам, – Жахлівасцю вее з Заходняй зямлі.* ПБН. *Зірнуць-жа на годы, на час мой мінулы, На край, адкуль веяла цемрай, трывогай, Дзе люд катавалі ўразброд ці агулам, Дзе блукала крыўда ўтаптанай дарогай.* ТП, 214.

◊**Веяць нядобрым ветрам** – прыносіць благія весці. *З цябе* [незнаёмца] *нядобры вецер вее, Па трупах ты, відаць, ішоў, Скажы нам* [людзям], *хто цябе асьмеліў Да нашых зблізыцца каўшоў?* УрП, 51. **Душу ад цела веяць** – забіваць, знішчаць. [Янка]: *Тут калісь, – як сказана ў нашай песні аб паходзе Ігара, – продкаў нашых галовы снапамі на таку слаліся, душу ім ад цела веялі, а чырвоныя берагі Нямігі не зернем былі пасеяны, а касцямі гэных жа продкаў нашых.* Т, 35.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вее* (4): ВМ, 72(2); ПБН; УрП, 51. Пр. адз. н. *веяла*: ТП, 214. Мн. *веялі*: Т, 35.

**ВЁСКА** (40) *ж.* **1.** Сельскае паселішча. *Доўга ці каротка Ваяваў наш Янка, Ажно ў вёску ён дарожкай Прэцца, як маланка.* ЕЯП. *Навакола далёка-далёка расьцілаецца раўніна, ціхая, вабкая, укрытая нівамі, лясамі і беларускімі вёскамі...* ХБ, 29.

**2.** Сельская мясцовасць. [Янка]: *На маю думку, найлепей пакуль што ехаць на вёску і там прывучаць да навукі людзей..* Т, 30. *Сягодня ў нас творыцца армія, ..ствараюцца па гарадох, мястэчках і вёсках беларускія нацыянальныя камітэты..* МІ, 17. // Жыхары вёскі. *Мы жывём і будзем жыць, бо з намі і беларуская вёска.* МІ, 17. *Мусім лучыцца ў гурткі і гэткім манерам закупліваць збожэ для цэлай вёскі там, дзе яго ёсьць лішніца.* ВС.

◊**Вузкашнурая вёска** – аднабаковая забудова вёскі. *А тыя беззямельныя земляробы, а тыя малазямельныя, вузкашнурыя вёскі і сялібы, – што яны?* ЗС, 18.

Адз. Н. *вёска* (3): МІ, 17; Нз, 14; Т, 37. Р. *вёскі* (12): АЛ; АПЖ; БСУ (2); ВС; ЖН; 3; Нз, 14; ПСп; СНБ, 339; Т, 23, 48. В. *вёску* (11): ЕЯП; ЛПК; Мц, 75; Т, 20, 21, 30(4), 57; УР, 215. М. *вёсцы* (4): МІ, І7;

ПЧ; СЧ; Т, 21. Мн. Н. *вёскі* (2): ВВ, 263; ЗС, 18. Р. *вёсак* (2): АБ, 16; ПСД. Т. *вёскамі* (2): УП; ХБ, 29. М. *вёсках* (4).: ВС; ЖН; МІ, 17; УП.

**[ВЗБОГАЦЭНЕ]** *н. Польск.* Узбагачэнне. [Заходні вучоны]: *(да Янкі). Для взбогацэня нашэй ведзы польскей потшэбнэ сон ешчэ нектурэ шчэгулы о нібы вашым краю.* Т, 47.

Адз. Р. *взбогацэня:* Т, 47.

**[ВЗГЛЕНД]** *м. Польск.* Разуменне. [Заходні вучоны]: *(запісваючы уперамежку з Усходнім). Цо сень тычы граніц палітычных краю, то взглендэм іх у месцовэй людності вшэхпольскей пшэдставене бардзо не яснэ.* Т, 47.

Адз. Т. *взглендэм*: Т, 47.

**ВІВАТ** (4) *м. Лац.* Брава, няхай жыве. **[**Галасы**]**: *Хай жывуць* [немцы]*! Віват! Ура!* Т, 28. [Мікіта]: *Мітынг – гэта тое з вушамі таварыства, дзе араторыць буду я, а слухаць будуць яны* [людзі], *і крычаць будуць: віват, рэгістратар Зносілоў!..* Там жа, 41, Т, 28(2).

**[ВІД]** (4) *м.* Тое, што адкрываецца перад вачамі. *Месца дзеі – кусок Катадральнага пляца, .. з відам насупроць – вежа з гадзіннікам.* Т, 33.

◊**З віду; на від** – знешне. *Рухне старое, хоць крэпкае з віду, Яснае, вольнае створым жыццё.* Г, 17. *Але вось з захаду, з-за бору, На від ня мал і не вялік У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.* УрП, 51. **Рабіць від** *гл.* рабіць.

Адз. Р. *віду*: Г, 17. В. *від* (2): Т, 34; УрП, 51. Т. *відам*: Т, 33.

**ВІДАВОЧНА** *прысл.* Ясна, бясспрэчна. *Пакольк дaўно ўстаноўлена, што самая ўдасканаленая спадніца без адпаведных ног не здольна да руху ці якой-небудзь іншай дзейнасці, было відавочна, што гэта фрыцы.* ПСп.

**ВІДАЦЬ** (12) *і разм.* **ВІДАЦІ** *незак.* **1.** *У знач. вык.* Можна бачыць, разгледзець. *Людзі варочаюцца да сваіх хат, а не знаходзяць іх, шукаюць сваіх гоняў, а іх не відаць..* АБ, 16. [Ганулямі]: *Нікога не відаць, толькі мамзэль Наста панеслася, як вецер.* Т, 59. *Параўн.* відна.

**2.** *У знач. пабочн.* Напэўна. *Рэдактар паглядзеў, пакруціў галавой і нічога не сказаў. Відаць, спадабаў.* Ан, 18. *Ох, видаци вельми хочэцца Пурышкевичам, Дубровинцам Ковы новые каваць, И зноў турмы напаўняць...* ВЧ.

◊**Як відаць** – напэўна, відавочна. *Ў летку, як відаць, будзе суд.* ПДз. [Янка]: *А вы* [Мікіта] *гэта забяспечанне пачалі, як відаць, ад патакі?* Т, 55.

Інф. *відаць* (12): Ан, 18; АБ, 16; ВБЛ, 81; Кз, 17; ПДз; СЧ; Т, 26, 35, 45, 55, 59; УрП, 51; *видаци*: ВЧ.

**[ВІДЗЕЦЬ]** (3) *незак. Руск. Тое, што* бачыць у 4 *знач. Другі*

[ганец] *за першым князю сказ І княжне скажэ міласьцівай: Я абышоў іх тройчы раз І відзеў, што яны* [людзі] *ўсе жывы.* Кц, 194–195. *І трэці* [ганец] *князю гэткі сказ І княжне скажэ міласьцівай: Я абышоў іх тройчы І відзеў, што яны* [людзі] *ўсе жывы.* Там жа, 195.

Абв. пр. адз. м. *відзеў* (3): Кц, 194; 195(2).

**[ВІДМА]** *н. Польск.* Здань, прывід. *Атплацілі роднай матцэ Княжэняты-дзеці: Відмай кінулі бадзяца, Сіратой гібеці.* Дз, 191.

Адз. Т. *відмай*: Дз, 191.

**ВІДНА** (2) *безас. Тое, што* відаць у І *знач. Відна што ніўка – маці тутка чалавеку! Відна з густых коп сена, што .. там цьвіцець дастатак, праўда і парадак.* ХБ, 28.

**[ВІДНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* відны. Найбольш вядомы. *..прыняў* [Купала] *самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце відшейшых беларускіх нацыянал-дэмакратаў..* АЛ.

Мн. Р. *віднейшых*: АЛ.

**[ВІДНЫ]** (2) *прым.* **1.** *У знач. наз.* Пра што-н. светлае. *А сваяк і чужак строіць петлі і сеці, Аплятае ўсё віднае ночай..* Ч, 321.

**2.** *У знач. вык.* Бачны. *А толькі ўсё той самы лад: З вачэй не зьняты йшчэ павязкі, Ці йдуць* [людзі] *у перад, ці назад, Відны сьляды цямрычнай ласкі.* Кц, 194.

Адз. н. В. *віднае*: Ч, 321. Кар. мн. Н. *відны*: Кц, 194.

**[ВІЗЫТА]** (3) *ж. Польск.* Афіцыйнае наведванне каго-н. [Мікіта]: *..а цяперака, як збольшага рангі і клясы абшліфаваліся, вось яны, гэтыя мае госці, і складаюць нам першым візыту.* Т, 22. [Дама]: *І лічылі сваім абавязкам, мусье рэгістратар, злажыць вам першаму сваю першую па прыездзе сюды візыту.* Там жа, 51.

Адз. В. *візыту* (2): Т, 22, 51. Мн. Н. *візыты*: СНБ.

**[ВІЛЕНСКІ]** (б) *прым.* Які адносіцца да Вільні. *Так першая мая* [Купалы] *кніжка – "Жалейка" была канфіскавана двойчы: пецербургскай цэнзурай і віленскім генерал-губернатарам.* ГВУ. *І паліліся ізноў па віленскім каркаломным бруку гаротные сьлёзы, сьлёзы кракадылевы.* ЧЧШ.

Адз. м. Р. *віленскага*. У. Т. *віленскім*: ГВУ. М. *віленскім*: ЧЧШ, Мн. Р. *віленскіх* (3): СНБ, 339; У; ЧЧШ.

**ВІЛЫ** (2) *толькі мн.* Ручная сельскагаспадарчая прылада. *Жалейкі, дуды красавалі – Прылады свойскія музык, – Цапы і вілы ў высь сягалі, Як быў абшар далёк, вялік.* УрП, 47. *Тапор завостраны заблыскаў, Грымнулі вілы і цапы.* Там жа, 52.

Н. *вілы* (2): УрП, 47, 52.

**[ВІЛЬГОТНЫ]** *прым.* Насычаны вільгаццю, мокры. *Граб зусім звычайнае дрэва ў лясох, гдзе мясцовасць больш вільготная, а хто бачыў яго пад Масквою?* ХБ, 29.

Адз. ж. Н. *вільготная*: ХБ, 29.

**[ВІЛЯЦЬ]** *незак. перан. Разм.* Ухіляцца ад прамога адказу. – *Хэ-хэ – віляе ён* [расійскі чыноўнік] *трымаючы за пазухай камень расійскага самаўласьця: мы – “рускіе дэмократы” заўсёды стаялі і стаім за раўнапраўе ўсіх народау..* З.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *віляе*: З.

**ВІНА** (2) *ж.* **1.** Павіннасць. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне ..падкасіла і эканомічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі, так што калі і скромная вячэра, то не па маёй пэрсональнай віне.* Т, 28.

**2.** Прычына. [Гануля]: *А ўсе віна ў тым, што мой Мікітка вучыўся, але, мабыць, – не давучыўся, і вышла з яго ні богу свечка, ні чорту качарга.* Т, 57.

Адз. Н. *віна*: Т, 57. М. *віне*: Т, 28.

**[ВІНАВАТЫ]** (2) *прым.* Які з’яўляецца віноўнікам. *З кійком жабрачым так мы* [беларусы], *паўналеткі, Брыдзём, паўзём у свет – скрозь неўпапад. І прысягаем, клічам Бога ў сведкі, Што мы – не мы, што нехта вінават...* Бч, 9. // *У знач. наз. Яны* [бальшавікі] *пачалі шукаць вінаватых, разумееецца, Як заўсёды не там, дзе трэба.* СНБ, 340. *Параўн.* вінны ў 2 *знач.*

Мн. Р. *вінаватых*: СНБ, 340. Кар. адз. н. Н. *вінават*: Бч, 9.

**[ВІННЫ]**[1] (3) *прым. Разм.* **1.** Які правініўся ў чым-н. *І гітлераўскім бандам, фашыстоўскім крывапійцам Нядоўга катаваць народ ні ў чым не вінны..* ПНд, 314.

**2.** *Тое, што* вінаваты. *Меў* [мужык] *хату, меў поле; – прыйшлі і забралі... Сам вінен: не ўмеў пільнаваці.* Р. [Мікіта]: *Медждy протчым, гэр Спічыні таму не вінен, што напладзілі сабе людзі языкоў, як тая трусіха трусянят ..* Т, 48.

Адз. м. В. *вінны*: ПНд, 314. Кар. адз. м. Н. *вінен* (2): Р; Т, 48.

**[ВІННЫ]**[2] *прым.* Прызначаны для віна. [Мікіта]: *Так яно і ёсць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складаў “Піліп і К°”.* Т, 28.

Мн. Р. *вінных*: Т, 28.

**ВІНО** (3) *н.* Алкагольны напітак. *Засядзьце ўсе* [госці] *кругом стала, Хай зазьвініць віно ў крыштале.* Кц, 196. *Бярэ* [князь] *коўш соладка віна, П’е за дружыцу маладую.* Там жа, 193.

Адз. Н. *віно* (2): Кц, 192, 196. Р. *віна*: Кц, 193.

**ВІНШАВАЦЦА** (2) *незак.* Вітацца. [Наста]: *Можаце віншавацца, панове! З пэўных крыніц я напэўна даведалася, што ўжо “нашы” занялі Менск.* Т, 49. [Мікіта]: *Жадаю, каб і праз год мы* [Янка і Мікіта] *ў гэтай кватэры віншаваліся.* Там жа, 21.

Інф. *віншавацца*: Т, 49. Абв. пр. мн. *віншаваліся*: Т, 21.

**ВІНШАВАЦЬ** (5) *незак.* Вітаць каго-н. з выпадку радаснай

падзеі. [Янка]: *Дык слухайце ўважліва, цётачка, рыхтуйцеся віншаваць: Я, настаўнік, Янка Здольнік...* [Аленка]: *І я, настаўніца Аленка Гарошчышка...* [Янка]: *Узялі ды паміж сабой пажаніліся.* Т, 53. [Спічыні]: *Віншую* [Мікіту]! *віншую*! *Зусім добра. Поступ у навуцы вялікі.* Там жа, 49.

Інф. *віншаваць*: Т, 53. Абв. цяп. адз. I ас. *віншую* (4): Т, 49(2), 54; ЦСБ.

**ВІР** (2) *м.* Кругавы, лейкападобны рух вады. *Паклон аддаў вам* [бальшавікам] *азіят, За ім Еўропы жыхары Шлі к вам праз морскія віры...* ПВ. // Глыбокая яма ў рацэ, дзе віруе вада. *Агні, аганькі, дзе зірнеш, – Не страшны канавы і вір...* ТП, 215.

Адз. Н. *вір*: ТП, 215. Мн. В. *віры*: ПВ.

**[ВІРТУОЗНЫ]** *прым.* З умелым, майстэрскім выкананнем. [Дама]: *Вы, мусье рэгістратар, праўдзівы артыста* [у тэксце памылкова “артысты”] *ў вальцы. Я ачаравана вашымі віртуознымі “па”.* Т, 29.

Мн. Т. *віртуознымі*: Т, 29.

**[ВІСЕЛЬНЯ]** (5) *ж. Разм.* Шыбеніца. *Ад рукі сына першага вісельні гнуцца, ў зямлю йдуць маладыя галовы.* Ч, 320. *Свет там выдумкі хітрыя знае – Троны, кароны, вісельні, кулі, – Выдумаць гэта мы* [беларусы] *ў сваім краі Неяк мінулі.* Пп, 5.

Адз. В. *вісельню* (2): АПЖ; Ж. Мн. Н. *вісельні* (2): БН, 92; Ч, 320. В, *вісельні*: Пп, 5.

**ВІСЕЦЬ** (7) *незак.* **1.** Быць прымацаваным да чаго-н. *Па ўсіх свабодных мясцох расклееены па сценах друкаваныя пастановы,.. плакаты. Вісіць балалайка.* Т, 43. *Як вечнасьць, молад быў* [ганец] *і стар; Меў гусьлі – на грудзях віселі.* Кц, 194.

**2.** *перан.* Быць павешаным. *Калі ўжо вісець, то за абедзве нагі.* Ан, 19. *Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары Яўрэй апошні,.. А паміж тым, .. ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80.

**3.** *перан.* Ствараць пагрозу. *Цень пры цені, пад ценьмі той крыж у крыві. Чорны крыж, як-бы змора лунае ў высі, Як-бы змора вісіць... Стогн адно: не даві!* БН, 93. *..нават і пасля рэвалюцыі гэтага году здзек вісеў над усім чыста, што светлае, вольнае, беларускае..* МІ, 17.

◊**Вісець на сваіх жылах** – трымацца за жыццё, спадзявацца на свае сілы. *І пакуль у зямлю не зарылі, Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі, – На сваіх вісі жылах і сьмейся!* СМ, 91.

Інф. *вісець*: Ан, 19. Абв. цяп. адз. 3 ас. *вісіць* (2): БН, 93; Т, 43. Пр. адз. м. *вісеў* (2): ВБЛ, 80; МІ, 17. Мн. *віселі*: Кц, 194. Заг. адз. 2 ас. *вісі*: См, 91.

**[ВІСНУЦЬ]** *незак.* Навісаць. *Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі,*

*З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46.

Абв. пр. мн. *вісьлі*: УрП, 46.

**ВІТАЦІ** *гл.* **ВІТАЦЬ**.

**ВІТАЦЦА** (3) *незак.* Здароўкацца, вітаць адзін аднаго. [Мікіта]: *Ага, яшчэ адно: як будзеце* [Ануля] *вітацца, то адну нагу назад адцягвайце – рабеце рэвэранс.* Т, 22. *Варашылава я* [Данілка] *знаю, Сам я з ім вітаўся. Ен, калі былі манеўры, У нашым быў калгасе.* Вб, 237.

Інф. *вітацца*: Т, 22. Абв. цяп. адз. 3 ас. *вітаецца*: Т, 51. Пр. адз. м. *вітаўся*: Вб, 237.

**ВІТАЦЬ** (14) *і разм.* **ВІТАЦІ** (2) *незак.* **1.** Звяртацца да каго-н. з прывітаннем. *Вітаю Вас* [грамадзян] *і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягоняшні дзень мне* [Купалу] *і маёй пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай.* ПЛП. *На мяжы і на Пражскім вакзале нас* [дэлегатаў] *сустракалі і бурна віталі лепшыя людзі краіны..* ПЧ.

**2.** Сустракаць каго-н. добразычліва, прыхільна. *Ня журбуйце-ж, тата, маці. Буду вас яшчэ вітаці, Як з вайны здароў вярнуся Я* [Габрусь] *вам нізка пакланюся.* ГЖУ. *Паважна старыя вітаюць наркома, Падносяць хлеб-соль, каравеі і мёд.* НДп, 229. // Услаўляць, ухваляць. *Я* [Купала] *вітаю цябе, моладзь, у гэты небывалы росквіт нашай долі..* ЖН. *Я* [Купала] *вітаю ўсім сэрцам комуністычную партыю і наш совецкі ўрад.* Там жа.

**3.** *перан.* Падтрымліваць. *Мы* [беларусы] *толькі вітаем радасную вестку і жадаем ад душы, каб найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь.* БВ, 17. *Начальніка Польскай дзяржавы віталі шчыра, і спадзяваліся, што справа незалежнасьці Беларусі цяпер стане на цвёрдым грунце..* СНБ.

**4.** *перан.* Знаходзіцца, прысутнічаць. *На дзеле – кожны йшчэ слугой, У думках – вольные ўжо людзі; Над сэрцам іх, над іх душой Наш дух вітаці вечна будзе.* Кц, 196.

◊**Вітаць і соллю, і хлебам (хлебам-соляй)** – добразычліва, гасцінна сустракаць. *Вітаю цябе* [правадыр] *я і соллю, і хлебам!* ТП, 213. *Спатыкаюць і вітаюць* [армію] *Песняй, хлебам-соляй.* ЗЯЗ, 90.

Інф. *вітаць*: ПВ; *вітаці* (2): ГЖУ; Кц, 196. Абв. цяп. адз. І ас. *вітаю* (7): ЖН (5); ПЛП; ТП, 213. Мн. І ас. *вітаем*: БВ, 17. 3 ас. *вітаюць* (2): ЗЯЗ, 90; НДп, 229. Пр. адз. м. *вітаў*: ПЧ, Мн. *віталі* (2): ПЧ; СНБ.

**ВІТАЮЧЫ** *дзеепрысл.* да вітаць у 3 *знач.* *І вось, вітаючы яго* [падаходны налог], *нам* [людзям] *астаецца толькі цешыцца, што думка шчыраго расейскаго грамадзянства дарма ня згінула,*

*і гэты налог .. знойдзе нарэшце сабе мейсцэ ў Расейскім гасударстве.* ВН.

**ВІТАЮЧЫСЯ** (9) *дзеепрысл.* да вітацца. [Янка]: *(вітаючыся з Гануляй). Як жывём, цётачка? Даўненька ўжо з вамі не бачыліся!* Т, 44. [Дама]: *(вітаючыся з Гануляй). Ах, мадам, да чаго мы дажыліся?* Там жа, 57. Т, 25, 26, 31, 37, 45, 58, 59.

**ВІХОР** (9) *м.* **1.** Імклівая, кругавая плынь ветру. *Нам* [ваякам] *ня ўцям віхры, грымоты, – Дадае нам гром ахвоты.* БЗ. *Параўн.* віхр.

**2.** *перан.* Бурнае праяўленне чаго-н. *..цяпер, хоць ваенны віхор бушуе, асабліва на ўсходзе Еўропы, шмат якія дзяржавы, перайшоўшыя на мірнае жыццё, прыступілі к адбудове ваенных руін..* АБ, 16. *Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, і настане светлы радасны дзень змучанага аграбленага нашага народу.* ПЛП.

**3.** *перан.* Варожая сіла. *Нас* [беларусаў] *гадавалі віхры і ночкі, Крыўдай паілі нас ад пялёнкі..* Пп, 5. *Сціхнуць віхры, заціхне пара непагодная, Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыцьцю..* Б, 18.

Адз. Н. *віхор* (3): АБ, 16; ПЛП; СНБ. Мн. Н. *віхры* (3): Б, 18; БЗ; Пп, 5. Р. *віхраў* (2):СМ; УрП, 52. Т. *віхрамі*: Пт.

**ВІХР** *м. Руск. Тое, што* віхор у 1 *знач. Ты, чужы друг, мне* [беларусу] *яміну рый, віхр чужы хай памінкі спяе.* ЧС, 50–51.

Адз. Н. *віхр*: ЧС, 50–51.

**[ВІХРОВЫ]** *прым.* Які адносіцца да віхру ў 1 *знач. Сьмейся сьмехам-скавытам вядзьмачым, У віхровым пасьвісьце разьвейся, І над сьветам разьюшаным, сьпячым .. сьмейся!* См, 91.

Адз. м. М. *віхровым*: См, 91.

**[ВІХУРА]** *ж. Разм.* Бура, завея, завіруха. *Ды ўдаліся, ой, сынкі мне* [маці] *Не аднэй натуры, Як бы тые ноткі ў гымне Цішы і віхуры.* Дз, 189.

Адз. Р. *віхуры*: Дз, 189.

**ВІЦІ** *гл.* **ВІЦЬ**.

**[ВІЦМУНДЗІР]** *м. Уст.* Форменны сурдут чыноўнікаў. [Мікіта]: *Меджду протчым, я заказаў сабе гэты віцмундзір з пэўнай мэтай...* Т, 24.

Адз. В. *віцмундзір*: Т, 24.

**[ВІЦЦА]** *незак.* Рабіць звілістыя рухі. *Другая – трэцяя Уецца, як змей, часам здараецца Ходзюць па ей.* $Ш_5$.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *уецца*: $Ш_5$.

**[ВІЦЬ]** *і разм.* **ВІЦІ** *незак.* **1.** Скручваючы, злучаць у адну столку. *Вырывай з сябе жылу па жыле, Ві ў вяроўку, у пятлю і павесься, І пакуль у зямлю не зарылі, .. сьмейся!* См, 91.

**2.** *перан.* Малаціць. *Усе мае* [Нёмана] *скарбы памарна ідуць: Жыта учора вывозілі віці, Родныя хвойкі сягоння плывуць.* Н.

Інф. *віці*: Н. Заг. адз. 2 ас. *ві*: См, 91.

**[ВКЛЮЧАЦЬ]** *незак. Руск.* Уключаць. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік): Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *включает*: Т, 39.

**ВМЕСТО** *прысл. Руск. Тое, што* замест. [Усходні вучоны]: *Вашы* [Янкавы] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

**ВО** (25) *часц. Разм.* **1.** *Тое, што* вось у 1 *знач.* [Начальнік]: *(да Спраўніка і Дамы). І вы, здаецца, мае старыя знаёмыя? Во цёплая кампанія.* Т, 61. *Ды во чарга ад раніцы ўжо тутка... – А нашая чарга во ў гэты чорны роў?* ВБЛ, 80. Т, 21(2), 24, 26, 61; УрП, 46.

**2.** *Тое, што* вось у 3 *знач.* [Ганулья]: *Во няшчасце на нашу хату.* Т, 59. [Гарошка]: *Во добра, што застаў вас* [Мікіту]. Там жа, 20. Т, 21, 35, 38.

**3.** *Тое, што* вось у 4 *знач.* [Ганулья]: *Ложкаў, праўда, лішніх няма, дык во тут на падлозе што-небудзь падмосцім, і пераспяць* [госці] *ноч.* Т, 23. [Мікіта]: *Мадам-сіньёра, хавайцеся сюды! Ваша родзіе, сюды! а Вы пане пан во сюды!* Там жа, 52. // Пры звяртанні ўвагі на што-н. *Што ты ведаеш, Данілка, Лепш пабудзь во ў хаце. То-ж на выбары іду я* [бабуля], *Голас свой падаці.* Вб, 237. *Во, глядзі* [Галя] *сама ў аконца, Гуляючы дома. Свой за Сталіна, за сонца Голас панясём мы.* Там жа, 236. Вб, 237; Т, 32, 54.

**4.** *Тое, што* вось у 5 *знач. Во каго мы* [людзі] *ў дэпутаты Па новым законе У парламент беларускі Выбярэм сягоння!* НК. [Гарошка]: *Кажу свайму настаўніку, што во да чаго шум і крык такі даводзіць..* Т, 44. Т, 34, 60.

**[ВОБЛА]** *ж.* Марская прамысловая рыба сямейства карпавых. *Уваходзіць Мікіта..., цягнучы за сабой каламажку, у якой: ..колькі малых мяшэчкаў з прадуктамі, два селядцы, звязаныя лыкам, тры воблы, нанізаныя на аборку..* Т, 45.

Мн. Н. *воблы*: Т, 45.

**[ВОБЛАКА]** (3) *н.* Атмасферная маса згусцелай вадзяной пары. *Глянь у неба, ў стратасферу, Дзе сягнуць не можа й вока, – Камсамолец неба мерыць, Сячэ крыллем вал аблокаў.* СА, 181. *Дзень варажыўся быць лагодным, Вей-вецер воблакі зганяў.* УрП, 47.

Мн. Н. *воблакі*: ПТ, 207. Р. *аблокаў*: СА, 181. В. *воблакі*: УрП, 47.

**[ВОБЛАСЦЬ]** *ж.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка. *Яны* [бальшавікі] *аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны..* СНБ, 337. *Параўн.* обласць, провінцыя.

Адз. Р. *вобласці*: СНБ, 337.

**ВОБЛІК** (2) *м. Тое, што* аблічча. *Стань* [брат-беларус], *нахіліся над ракой. У плакучы ўгледзься пералівы: У іх адаб'еццa воблік твой, І ўбачыш незабыты дзівы.* БрБ, 6. *Брат другі шоў на нетры сьляпыя аблавай, Воблік крадзены кідаў загубам.* Ч, 324.

◊**Змесці з вобліку зямлі** *гл.* змесці.

Адз. Н. *воблік*: БрБ, 6. Р. *вобліку*: АБ, 16. В. *воблік*: Ч, 324.

**[ВОБРАЗ]** *м.* Тып. *Гісторыя чалавецтва ведае не мала ворагаў народу, але няма роўнага таму здрадніцтву, якое ўвасоблена ў вобразе трацкісцкіх нягоднікаў..* ВНЗ.

Адз. М. *вобразе*: ВНЗ.

**[ВОБЧАСТВА]** *н. Разм.* Таварыства, суполка. *Я* [пан Кавалюк] *хрысціянін, не паганін, Стварыў вобчаства "Крестьянин". Сам Дубровінка-нябожа Пахваліцца гэткім можа.* ЛПК.

Адз. В. *вобчаства*: ЛПК.

**ВОБШАР** *гл.* **АБШАР.**

**[ВОБЫСК]** *м.* Афіцыйны агляд каго-, чаго-н., каб знайсці што-н. забароненае, недазволенае. *Людзі на вуліцах баяліся голасна гаварыць. Кожную ноч – павальныя вобыскі.* СНБ, 340.

Мн. Н. *вобыскі*: СНБ, 340.

**[ВОГНЕННЫ]** *прым. перан.* Гарачага нораву. *Паўстань з народу нашага, ваяк, І волатам на вогненным кані Народ аграблены – бы з торб жабрак – За бацькаўшчыну павядзі ў агні.* Пт.

Адз. м. М. *вогненным*: Пт.

**[ВОГНІШЧА]** *н. перан.* Пажарышча, месца, дзе гарэў агонь. *За сабою валочыць* [чараўнік] *патухшыя душы, Разбаўляе дрыгву імі ў пушчы; Кроўю цёплай сьцюдзёныя вогнішчы тушыць, Сэрцы лёдам аблітыя лушчыць.* Ч, 325.

Мн. В. *вогнішчы*: Ч, 325.

**[ВОДГУК]** (3) *м. перан.* **1.** Салідарнасць. *Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе..* Тж, 15. *..песні і думкі мае* [Купалы] *па меры сіл маіх і здольнасцей – знаходзяць водгук ва ўсім Савецкім Саюзе..* ЖН. *Параўн.* воклік *у* 2 *знач.*

**2.** Водгалас. *Водгукі бітваў плывуць здаля грозна, Душы вясняныя сняцца народам.* ВМ, 72. *Параўн.* водгулле.

Адз. В. *водгук* (2): ЖН; Тж, 15. Мн. Н. *водгукі*: ВМ, 72.

**ВОДГУЛЛЕ** *н. Тое, што* водгук у 2 *знач. Яшчэ далятае да нас* [беларусаў] *грознае і жуткае водгулле крывавага змагання*

*на беларускім полі, паміж нашымі суседзямі – палякамі ды маскалямі..* ЗС, 17.

Адз. Н. *водгулле*: ЗС, 17.

**ВОДДАЛЬ** *прысл.* На некаторай адлегласці. *Сядаюць* [Аленка, Лявон Гарошка] *воддаль ад іншых гасцей.* Т, 25.

**[ВОДНЫ]** (3) *прым.* Які адносіцца да вады. *Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма Беламорска-Балтыйскі водны шлях..* ЦСБ. *Глянь, карабль плыве дасужна, Дыміць комін параходны, – Камсамольцы сям'ёй дружнай Рэжуць хвалі ў шляху водным.* СА, 180.

Адз. м. В. *водны*: ЦСБ. М. *водным*: СА, 180. Мн. Н. *водныя*: Т, 47.

**[ВОДОЗБЁР]** *м. Польск., разм. Тое, што* басейн. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім): Пшырода на Польскіх Крэсах Всходніх надзвычай буйна і багата; экзыстуе лёнд і водозбёры..* Т, 47.

Мн. Н. *водозбёры*: Т, 47.

**[ВОЗ]** *м.* Калесы. [Мікіта]: *Значыцца, выгандляваў цішком.. тое-сёе з гэтай контрабанды на якую-сякую панчоху ці шкарпэтку, палажыў сабе .. на воз і вязі сабе ў сваёй каламажцы.* Т, 46.

Адз. В. *воз*: Т, 46.

**ВОЗВЕСЕЛІЦІСЯ** *зак. Руск.* Павесяліцца. [Поп]: *І прышэд я с німі, дабы однім веселіем возвеселіціся з вамі, чадо мое, рэгістратор!* Т, 51.

Інф. *возвеселіціся*: Т, 51.

**[ВОЗВРАЦІЦІСЯ]** *зак. Руск., уст. Тое, што* вярнуцца ў І *знач.* [Поп]: *Душа моя возрадавалася пры созерцаніі, како агнцы сіі возвращяшэся в стадо свое.* Т, 51.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *возвращяшэся*: Т, 51.

**[ВОЗЕРА]** (3) *н.* Запоўненая вадой суша з берагамі. *Плывуць* [Кіраў і Сталін] *па Беламорскаму каналу... А лес шуміць... азёры ў хвалях па бакох...* СК, 158. *..маем* [беларусы] *вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месты, а ў іх фабрыкі, заводы, ды шмат іншага дабра.* Нз, 15.

Мн. Н. *азёры*: СК, 158. В. *азёры*: Нз, 15; *вазёры*: Т, 47.

**[ВОЗЗАВІДОВАЦЬ]** *зак. Руск. Тое, што* пазайздросціць. [Поп]: *В нынешнія врэмена дажэ его прэосвяшчэнство воззавідовало бы сіім блюдам.* Т, 28.

Абв. пр. адз. н. *воззавідовало*: Т, 28.

**[ВОЗМЕЗДЗІЕ]** *н. Руск., высок.* Адплата, кара, помста. [Поп]: *Навождзяху оне на себя возмездзіе необозрымое.* Т, 37.

Адз. В. *возмездзіе*: Т, 37.

**[ВОЗРАДАВАЦЦА]** *зак. Руск., уст.* Узрадавацца. [Поп]: *Душа мая возрадавалася пры созерцаніі, како агнцы сіі возвращяшэся*

*в стадо свое.* Т, 51.

Абв. пр. адз. ж. *возрадавалася*: Т, 51.

**[ВОІНСКІ]** *прым.* Звязаны з ваеннай службай. *Асабісты ваенны налог будзе выбірацца с тых, хто па якой колечы прычыне увольнены ад адбываньня воінскай павіннасьці, і кожны гэткі плаціць будзе 6 рублёў.* ВН.

Адз. ж. Р. *воінскай*: ВН.

**ВОІСЦІНУ** *прысл. Руск., уст.* На самой справе, сапраўды. [Поп]: *Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.* Т, 27.

**ВОЙСКА** (22) *н.* Узброеныя сілы, армія. *І пайшло ў паходы войска Полем, лугам, борам, А байцоў, як зор на небе, Як пясчын у моры!* ЗЯЗ, 90. *Сцяпан падаў каманду: – Па спаднічнаму войску – агонь!* ПСп.

**Беларускае войска.**

Адз. Н. *войска* (7): БВ, 16(3); ВБ; ЗЯЗ, 90; Мц, 75; МД. Р. *войска* (6): БВ, 16(3); БСУ; НДН, 19; ПДз. Д. *войску*: ПСп. В. *войска* (3): БВ, 16; Мц, 75; НК. М. *войску*: БВ, 16. Мн. Р. *войск* (2): БВ, 16; Т, 53. Д. *войскам*: БВ, 17. Т. *войскамі*: СНБ.

**ВОКА** (77) *н.* **1.** Орган зроку. *Я* [груган] *дзяцям нясу ў гняздо Сэрца або вока.* Пц. *Я* [унук] *паваліўся, падняўся. Ах, вочы... Вочы пан выбіў, сляпым я застаўся.* Ун, 73. // Позірк, погляд. *Пасля прывітання госці рассаджваюцца і крытычным вокам аглядаюць кватэру.* Т, 24. *Звярнулі вочы* [людзі] *ўсе ў іх* [князя і княжны] *бок, Прымоўклі гоманы дружыны..* Кц, 194.

**2.** Зрок. *І пабачыў ён* [Сталін], *магутны, Сваім вокам ясным, Што надходзіць час расплаты За людзей няшчасных.* ЗЯЗ, 89. *Азірнуўшыся ясным вокам і ўдумаўшыся шчырай думкай на пройдзеныя гэтыя 15 год, мы* [людзі] *бачым Якіх .. дасягглі мы перамог у вялікім соцыялістычным будаўніцтве..* ШБСЯ.

∆**Зоры-вочы.** *гл.* зара.

◊**Адкрыць вочы** *гл.* адкрыць. **Адплюшчваць вочы** *гл.* адплюшчваць. **Акінуць вокам** *гл.* акінуць. **Заглянуць у вочы** *гл.* заглянуць. **Не акінуць вокам** *гл.* акінуць. **Вокам не дастаць** *гл.* дастаць. **Вочы выбіць** *гл.* выбіць. **Вочы высмаліць** *гл.* высмаліць. **Вочы рваць** *гл.* рваць. **Глядзець вачыма чужынца** *гл.* глядзець. **Глядзець у вочы** *гл.* глядзець. **Дзе вокам ні кінь** – усюды. *Іх* [жанчын] *тысячы стала адданых і шчырых На працы на кожнай, дзе вокам ні кінь.* ПБН. **З вачэй знята павязка** *гл.* зняты. **Змераць вачыма** *гл.* змераць. **Кінуўшы ў вочы** *гл.* кінуўшы. **На вачах** – пад наглядам, на відавоку. *Кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй..*

ПЛП. **Не зводзіць вока** *гл.* зводзіць. **Пот вочы выеў** *гл.* пот. **Сказаць у вочы** *гл.* сказаць. **Смяяцца ў вочы** *гл.* смяяцца. **Соляй у воку** *гл.* соль. **У вачох** – у думках, уяўленнях. [Пан]: *Як з'явіцеся* [Мікіта] *з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш прэстыж адразу падымецца ў яе вачох на сто процантаў.* Т, 52. **У вочы кідаць** *гл.* кідаць. **Хіхікаць у вочы** *гл.* хіхікаць.

Адз. Н. *вока*: СМ. Р. *вока*: ПБШ. В. *вока*: Пц. Т. *вокам* (13): АБ, 16; БВ, 16; ВГР; ЗС, 18; ЗЯЗ, 89; Кц, 194; ПБН; СНБ, 337; Т, 24, 38; УрП, 45; Ф; ШБСЯ. М. *воку*: Ан, 18. Мн. Н. *вочы* (9): БН, 92; ВБЛ, 80; ЖН; СС, 302(2); ТП, 215; Ун, 73; УПУВ (2). Р. *вачэй* (2): Кц, 194; ТП, 213; *воч*: ВБ. В. *вочы* (34): Ан, 19(2); Бч, 9; ВБЛ, 81; ВМР; Д, 73; ДЖ; ЖН; З(2); К (2); Кц, 193, 194, 197; НК; ПНд, 314; РКр; См, 91; СА, 180; СМ; СНБ; Т, 30, 35, 40, 54; ТП, 213, 214; Ун, 73; ХЛВ, 315(2); Ч, 319, 322. Т. *вачыма* (7): АЛ; ВМР; ЖН; СНБ, 336; Т, 34; ЦСБ. М. *вачох* (4): ВБЛ, 81; Пр; Т, 52; УрП, 47; *вачах* (3): НДН, 19; ПЛП; ХБ, 28.

**ВОКАЛ** *гл.* **ВАКОЛ**.

**ВОКАЛА** *гл.* **ВАКОЛА**.

**[ВОКЛІК]** (2) *м.* **1.** *Тое, што* водгук *у* 1 *знач. "Вясна народаў", аб каторай так разьліваліся воклікі па цэлым сьвеце, ня была да апошняга часу вясной для беларусаў.* БСУ.

**2.** Заклік. *Але рэволюцыя зьмяла ў сваім ходзе цара, панясьліся ў сьвет новые воклікі будаваньня новага незалежнага жыцьця усім народам.* ВС. *Параўн.* вокліч.

Мн. Н. *воклікі* (2): БС; БСУ.

**ВОКЛІЧ** (3) *м. Тое, што* воклік *у* 2 *знач. Паняcліся воклічы ўсялякіх свабод і "незалежнасцей".* БВ, 16. *У Прасценаве нас* [дэлегатаў] .. *сустрэў тысячны натоўп рабочых воклічамі ў гонар СССР, яго магутнай Чырвонай арміі.* ПЧ.

Мн. Н. *воклічы* (2): БВ, 16; ПЧ. Т. *воклічамі*: ПЧ.

**[ВОКРУГ]** *м. Разм. Тое, што* акруга. *..начальнікі "вучэбных" вокругаў рассылалі цыркуляры, каб барані Божа народныя настаўнікі не чыталі беларускай газэты "Наша Ніва"..* MI, 17.

Мн. Р. *вокругаў*: MI, 17.

**ВОЛ** (2) *м.* Кастрыраваны самец буйной рагатай жывёлы. *Слабые душою і целам апускаюць рукі, і, як вол доўбні, чэкаюць нечаго негаданаго, благога, наводзючы гэтым і на іншых сум ды трывогу.* РКр. *Сельская гаспадарка ў Чэхаславакіі вядзецца прымітыўна – аруць валамі, найчасцей каровамі.* ПЧ.

Адз. Н. *вол*: РКр. Мн. Т. *валамі*: ПЧ.

**ВОЛАС** (3) *м.* Рагавое ніткападобнае валакно на скуры чалавека. *Вецер блытаў валасы ночкай I нейкія словы спяваў.* ВБЛ (253). *Паказвае* [Наста] *на мігі, што мусіць папудравацца і паправіць*

*валасы*. Т, 23.

◊**Волас з галавы не спадзе** – не нанесці ніякага пакарання. [Мікіта]: *Оей! Оей! Ужо ломяцца* [*чырвонаармейцы*]. *Меджду протчым, мадам-сіньёра і вашародзіе, сядзеце або стойце спакойна: вы мае госці і вам волас з галавы не спадзе.* Т, 59.

Адз. Н. *волас*: Т, 59. Мн. В. *валасы* (2): ВБЛ, 253; Т, 23.

**ВОЛАСЬЦЬ** (2) *ж. Гіст.* Ніжэйшая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў складзе паветаў. *Апрача хаўтурнага закупу харчоў, шмат можэ: прынесьці ў гэтым помачы наша воласьць.* ВС. – *Аб якой ты* [мужык] *гэта вярзеш слабодзе? – Ну, аб Слабодзе, Нагайкаўскай воласьци, Усмирыцельскаго вуезду, што недалёка ад Прыгонава и Висельнева.* ХЛБ.

Адз. Н. *воласьць*: ВС. Р. *воласьци*: ХЛБ.

**[ВОЛАТ]** *м.* Велікан, асілак. *Паўстань з народу нашага, ваяк, І волатам на вогненным кані Народ аграблены – бы з торб жабрак – За бацькаўшчыну павядзі ў агні!* Пт.

Адз. Т. *волатам*: Пт.

**ВОЛОЧЫЦЬ** *гл.* **ВАЛАЧЫ**.

**ВОЛЬНА** (4) *прысл.* **1.** *Прысл. да* вольны *ў* 1 *знач. .. усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць..* НДН, 19. В; ПЧ.

**2.** Свабодна, бесперашкодна, раздольна. *Ёсьць-жа яшчэ ў мяне сіла Крыўдзе ня дацца, змагацца, Над спячых продкаў магілай Вольна маланкай мігацца.* ЁЯ.

◊**Вольна ўздыхнулася** *гл.* уздыхнуцца. **Глянуць вольна** *гл.* глянуць.

**ВОЛЬНЫ** (67) *прым.* **1.** Нікому не падпарадкаваны, незалежны. *У нявольніка заўсёды ёсць больш помства, нянавісці к другім, чымся ў чалавека вольнага.* НДН, 19. *Сейбіту праца не будзе атрутай, Вольная праца на загонах.* Мц, 75.

**2.** Свабодны. *Ганулька Зношчыха – яго* [Мікіты] *маці, у вольны час робіць панчоху.* Т, 19.

**3.** Бязмежны, бяскрайні. *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды Вольнага Нёмана, у цёмную даль..* Н. *Хай жыве і красуе ленінска-сталінская партыя, якая адна толькі магла вывесці Беларусь на вольны шырокі прастор шчаслівага жыцця!* ЖН.

**4.** Уласцівы свабоднаму жыццю. *Панясуцца, як звон, песні вольныя, родныя, Апяваючы долю, нядолю народу, твaю.* Б, 18. *Толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі разаслалася шырокае поле да новых вольных песень, да новых думак.* ЖН.

**5.** Свабодалюбівы. *А забабон далей ідзе і распасьцірае свае павучыные, неразблытные сеці, у якіх душыць І вольнага духа, і сьветлую праўду, і сумленьне людзкое.* З. *Загнаны ў падполле*

*там* [у Заходняй Беларусі] *лепшыя людзі, На “крэсах усходніх” лютуе жандар. За вольнае слова катуюць і судзяць, Астрогі там поўны нявінных ахвяр.* ПБН.

◊**Вольная воля** *гл.* воля.

Адз. м. Н. *вольны* (12): БВ, 17; БСУ; СНБ (2); Т, 53; ТП, 213, 214, 215, 216, 217; Ч, 323; ШБСЯ. Р. *вольнага* (9): БСУ; 3; КЧ; Н (2); НДН, 19; ПСС, 231; СНБ (2). Д. *вольнаму*: Н. В. *вольны* (4): ВР; ЖН; РС, 40; Т, 19. Т. *вольным* (7): БВ, 17; БСУ; ПЛП; СНБ (3); Т, 53. М. *вольным*: 3. ж. Н. *вольная* (6): Кц, 192, 196, 197; Мц, 75; ПТ, 207; Т, 35. Р. *вольнае* (2): АЛ; УрП, 50; *вольнай*: ПЛП. В. *вольную* (2): БВ, 17; ПТ, 207. Т. *вольнай* (4): ЖН; Н; Нз, 14; СМ; *вольнаю*: ПН, 47. М. *вольнай*: НДН, 19. н. Н. *вольнае*: МІ, 17. В. *вольнае* (3): Г, 17; МІ, 17; ПБН. Мн. Н. *вольныя* (2): Б, 18; ДПЛС; *вольные* (2): Г, 17; Кц, 196. Р. *вольных* (3): ЖН; СЗГ, 252; ТП, 217. Д. *вольным*: Г, 17. Т. *вольнымі* (2): БСУ; СНБ. М. *вольных* (2): Кц, 193; Мц, 75.

**ВОЛЬХА** (2) *ж.* Алешына. *Ой, чалавеча, змярцвелы ў сне!.. Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?.. Камень і вольха перш поймуць мяне* [Нёман]!.. Н. *Вербы і вольхі калышуцца глуха, Сінія хвалі шумяць і бурляць.* Там жа.

Адз. Н. *вольха*: Н. Мн. Н. *вольхі*: Н.

**ВОЛЯ** (47) *ж.* **1.** Свядомая і мэтанакіраваная дзейнасць каго-н. *З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.* ПЛП. [Аленка]: *Вось, ..ідучы сюды сказалі вы* [Янка], *што мы павінны дабівацца, каб быць не толькі гаспадарамі самі над сабой, але і над сваёй воляй.* Т, 35.

**2.** Жаданне, патрабаванне. *Гудуць гулка з добрай волі Нашы фабрыкі, заводы.* СА, 182. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі, следуючы волі совецкага народа.., змагаюцца не пераходзячы на тэрыторыю ворага..* ВГ.

**3.** Улада, права. *Вецер, вецер - такі вясёлы, Так абшырна воля твая!* ВБЛ, 82. *За ім* [азіятам] *Еўропы жыхары Шлі к вам* [бальшавікам] *праз морскія віры... Але не ваш вітаць шлі сцяг: З сваёю воляй шлі на вас...* ПВ.

**4.** Свабода, незалежнасць. *Чуй, народ совецкі, Чуй, мая радзіма! Сваёй долі, волі, Чуй, не аддадзім мы!* МПв, 220. *Будучы самі вольнымі, мы* [беларусы] *патрапім ацаніць волю другіх і пайсьці з імі, “як вольны з вольным”.* БСУ.

◊**Вольная воля** – нічым не абмежаваная свабода. *Я цябе* [трактар] *пакіну На вольную волю, – Даляцець да сонца Мяне* [трактарыстку] *кліча доля.* ПТ, 207. **Даць волі ўволю** *гл.* даць. **Даць волю** *гл.* даць. **Па добрай волі** – без прымусу, добраахвотна. *Ня журбуйце, тата, маці! Я* [сын] *ўсядзець ня мог у хаце, Сам*

*пайшоў па добрай волі Паспытаць ваеннай долі..* ГЖУ.

Адз. Н. *воля* (12): БЗ; ВБЛ, 80; ДПЛС (3); ЗС, 17; Мц, 75; НГд, 8; ПД, 83; ПЛП; Т, 35; ТП, 217. Р. *волі* (6): КЧ; МПв, 220; СА, 182; Т, 44; Ф; Ч, 323. Д. *волі*: НГ. В. *волю* (16): БВ, 17; БСУ; ВБЛ, 82; ЕЯ; КЧ; ОШМ; Пр; ПВ; ПНд, 314; ПЛП; ПТ, 207; СНБ; СС, 300, 301; Т, 44; Тж, 16. Т. *воляй* (9): ГВУ; ЗЯЗ, 90; ПБН; ПВ; СЗГ, 252; СС, 301; Т, 35 (2); Ф. М. *волі* (3): ГЖУ; НДН, 19; ПЛП.

**ВОН** (2) *прысл.* Прэч. *І пайшлі яны* [ваякі] *паходамі, Дружна смела пайшлі, Каб вон злыбяду прагнаці З беларускай зямлі.* ПСД. *Аграбленыя з ганару й кашулі, З свайго прыпынку выгнаныя вон, Мы* [беларусы] *дзякуем, што торбы апранулі На нас ды з нашых нітак-валакон.* Бч, 9.

**ВООБШЧЭ** *прысл. Руск. Тое, што* наогул *у* 2 *знач.* [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

**ВОПРОС** (2) *м. Руск. Тое, што* запытанне. [Усходні вучоны]: *Ешчо одзін маленькій вопрос: Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белорусов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Там жа, 39.

Адз. Н. *вопрос*: Т, 47. В. *вопрос*: Т, 39.

**ВОПРЭКІ** *прыназ. Руск.* Насуперак. [Усходні вучоны]: *(запісваючы уперамежку з Заходнім вучоным): ..вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім исследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почэму-то называют Белоруссія.* Т, 26.

**[ВОПРАТКА]** (8) *ж.* Верхняе адзенне. *Усходні вучоны – носіць велікарускую вопратку – "падзёўку", "касаваротку" і доўгія боты..* Т, 19. *Лезла на вопратцы дзірка на дзірку, Лапцяў і тых не дастаў я* [унук] *ад пана.* Ун, 73.

Адз. В. *вопратку* (4): Т, 19, 46(2), 50. М. *вопратцы* (2): Т, 45; Ун, 73. Мц. В. *вопраткі*: Т, 29. М. *вопратках*: Т, 24.

**ВОПЫТ** *м.* Сукупнасць навыкаў, ведаў. *..я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ не зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмакратычнага шалупіньня.* АЛ.

Адз. Н. *вопыт*: АЛ.

**ВОРАГ** (46) *м.* **1.** Непрыяцель. [Спічыні]: *Пардон! У мяне разбушаваліся нэрвы. Сюды машыруе нейкі немец. А я страшэнна не люблю спатыкацца з ворагам, калі ён наступае.* Т, 41. *Спаў народ, і ты* [Беларушчына] *спала, і ворагі верылі, Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула на век.* Б, 18. // Класавы вораг. ДЖ. *Агромністая радасць, гордая радасць пераможцаў над класавым ворагам ахоплівае народы нашай вялікай радзімы..* ВГР.

**2.** *зб.* Праціўнік; войскі ворага. *О, колькі той радасці, колькі той веры, Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы!* НДп, 229. *На бой з ворагам уздымуцца нашы бясстрашныя знішчальнікі і бамбавозы.* ВГ.

**Ворагі народу павінны быць знішчаны.**

**ΔНепрыяцель-вораг** *гл.* непрыяцель.

Адз. Н. *вораг* (18): БЗ (3); ВБ; ВГ; ГЖУ (3); ДЖ; НДп, 229; НК; ПБН; ПСД; СА, 181; СНБ, 340; Т, 38; УрП, 49; Ф. Р. *ворага* (5): ВГ (2); ВГР; ЖН; ПСД. Д. *ворагу*: РКП. В. *ворага* (5): ВГ; Н; ПД, 83; ПНд, 314; РКП. Т. *ворагам* (4): ВГ; ВГР; РКП; Т, 41. Мн. Н. *ворагі* (5): Б, 18; ВНЗ; ВР; Нз, 15; ХЛВ, 316. Р. *ворагаў* (5): ВГР; ВНЗ; МПв, 220; НКУС; Т, 37. Д. *ворагам*: СК, 158. В. *ворагаў* (2): Пт; УрП, 51.

**[ВОРАГАЎ]** *прым.* Які належыць ворагу. *Хай хлеба нашага кусок распаленым жалезам Абернецца ў ворагавым горле крывасмочым..* ПНд, 314.

Адз. н. М. *ворагавым*: ПНд, 314.

**[ВОСЕМ]** (3) *ліч.* [Янка]: *І ні колькі лет і ні колькі зім, а ўсяго восем месяцаў, пане рэгістратар, як мы не бачыліся.* Т, 45. *Кнігі для школ. №№ 6, 7, 8, 10, 11.. Усяго дванаццаць назваў васьмёх розных аўтараў і featureрознага зьместу.* ВСп, 89.

В. *восем* (2): Т, 45, 46. Р. *васьмёх*: ВСп, 89.

**ВОСЕНЬ** (2) *ж.* Пара года. *А якая тут восень, які верасень я* [С. Меч] *правёў у Меншчыне!* ХБ, 29. *На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам.. увесь пабяляны; Тым бялейшы, што топаль сьпераду і збоку "Сьцерагла ад сіверу восень глыбоку".* Там жа, 28.

Адз. Н. *восень*: ХБ, 29. В. *восень*: ХБ, 28.

**[ВОСТРЫ]** *прым.*: ◊**Лавіць вострым вухам** *гл.* лавіць.

Адз. н. Т. *вострым*: ЖН.

**ВОСЦЬ** *ж. Разм., бат.* Асцюк. *У хлебе восць, у горле косць. Сабою самі ўстаць з руін Вам* [бальшавікам] *не хапіла смагі, сіл..* ПВ.

Адз. Н. *восць*: ПВ.

**ВОСЬ** (100) *часц.* **1.** Указвае на блізкасць у дадзены момант чаго-н. *І вось гэтыя сотні тысяч кніг рассыпяцца па ўсёй Беларусі, каб навучаць там і будзіць прыспаную думку..* ВСп, 91. *Глыток*

*вады, а за яго вазьмеце Вось гэты шаль – цяпер ужо ўсё адно...* ВБЛ, 80. // Указвае на прадмет для перадачы каму-н. [Гануля]: *(да Дамы). Панечка... Мадама музей! Калі ласка, вось гэты далікатны кусочак яшчэ!..* Т, 28. [Гарошка]: *(падаючы новую, дзераўляную, па-мастацку зробленуго лыжку). А ад мяне прымеце* [Янка] *вось гэта... З сваёй яблыні й сваімі рукамі зрабіў.* Там жа, 30. *Параўн.* во ў 1 *знач*; вот у I *знач.* ВГР; НДН, 19; ПВ; РКр; СБНГ; Т, 28, 33, 41, 45, 46, 50, 55, 62; ХБ, 28; ХЛБ, 316.

**2.** Указвае на паслядоўную змену падзей, з'яў. [Мікіта]: *І зусім яшчэ не час, медждy протчым, найяснейшыя госці, вось адсунем стол і ...* [Дама]: *... Патанцуем, мусье Зносілов?* Т, 28–29. *А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагаворацъ усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы.* Нз, 14. Ан, 18; БС; СНБ, 337, 340; Т, 19, 23.

**3.** Указвае на праяўленне якіх-н. эмоцый. [Мікіта]: *Вось неспадзяваная неспадзеўка! Оей! Оей! Медждy протчым, мамаша, не ламайце рук, а бярэцеся хутчэй за работу.* Т, 59. [Мікіта]: *І жартаўнік жа вы, дзядзька беларус, незвычайны вы жартаўнік! Ха-ха-ха! Вось дык дадумаліся!* Там жа, 49. // У спалучэнні з постпазіцыйным **-і** – служыць для выражэння розных эмацыянальных адценняў. *Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул.. цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў..* Нз, 14. *Параўн.* во *ў 2 знач.* Р; Т, 25, 56.

**4.** Узмацняе і ўдакладняе значэнні ўказальных займеннікаў і прыслоуяў. [Мікіта]: *Вось тут селядцы, во, цыбуля да іх, а вот сала, а тут.. – кілечкі... пальцы госцікі абліжуць.* Т, 21. *І расьлі яны, расьлі так Мае* [маці] *княжэнята На багацьце, на прыбытак, На вось тое сьвята..* Дз, 188. // Ужываецца для лагічнага выдзялення слоў у сказе. [Мікіта]: *.. мамаша, пакіньце гэту справу на маю галаву, глядзеце вось лепей, ці не снуе хто няпэўны каля вакон.* Т, 58. [Спічыні]: *Вось, напрыклад, як вы* [Мікіта] *сабе разумееце мітынг?* Там жа, 41. *Параўн.* во ў 3 *знач.* Дз, 189; ДД; ДК; Нз, 15; НД; НДп, 229; ПЧ; Т, 22, 26, 31, 34(2), 35, 36, 42, 47, 52, 56, 57; УрП, 50, 51.

**5.** У спалучэнні з пытальнымі займеннікамі і прыслоўямі канкрэтызуе іх адценні. *Ці-ж можа паэт не адгукнуцца на іх* [пісьменнікаў] *радасны прыезд вершамі, вартымі гэтых вялікіх людзей? Вось над чым, па сутнасці, я* [Купала] *і працую.* МП. *Вось калі прыдуць, калі іх* [вызваленцаў] *пабачу, Вылажу праўду я* [дзед] *ўсю перад імі..* Д, 72. *Параўн.* во ў 4 *знач.*; вот у 2 *знач.* ВР; Нз, 14; ОШМ; ПС; ПСп; Т, 20, 22, 29, 30; $Ш_2$.

**6.** Указвае на падвядзенне выніку. *Колю знаю па хадзе я* [дзяўчынка] *– Вось к вакенцу падышоў.* ВБЛ, 82. *Ці магчыма будзе*

*гэтак устроіцца з галоднымі на зямлю людзьмі і ў будучыне – вось пытанне?* ЗС, 18. *Параўн.* вот у 3 *знач.* Ан, 18, 19; ВВ, 16; БСУ (2); ВГР; ВН (2); ДК; МІ, 17; НДН, 18; ПС; СНБ; Т, 24, 26, 43, 45, 53, 55; УрП, 49; УПУВ (2); ХБ, 28.

**7.** Указвае на ўмову, пры якой адбудзецца што-н. *І вось калі ўдумацца ў усё гэта, то мы ўбачым, што кожная такая дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа гэтых забраных зямель.* НДН, 18. *Вось газетку надрукую* [пан Кавалюк], *Чорна-чорную такую, Жыдоў біці і палякаў І з крамолай біцца ўсякай.* ЛПК. ВС; СБНГ; Т, 34.

◊**Вось яно што!** – вокліч пры ўразуменні чаго-н. [Гануля]: *Гэта, мабыць, ён* [Мікіта] *наглядзеўся, бо служыў у губарнатарскай канцэлярыі за нейкага там рэгістратара.* [Янка]: *Ах, вось яно што!* Т, 20.

**ВОТ** (5) *часц. Руск.* **1.** *Тое, што* вось у 1 *знач.* [Мікіта]: *Вось тут селядцы, во, цыбуля да іх, а вот сала, а тут.. – кілечкі...* Т, 28. *І вот у гэтую часіну Да іх* [людзей] *там дыбаў цудадзей, Слуга пратайнасьці прадзіўнай, Надчалавек, хоць і з людзей.* УрП, 47.

**2.** *Тое, што* вось у 5 *знач. Сабралася многа цикавых и вот яны* [людзі] *што пачули.* ПДз.

**3.** *Тое, што* вось у 6 *знач.* [Гарошка]: *Калі пазволіш* [Гануля], *то ў мяне ёсць сёе-тое ў торбе, вот мы і закусім.* Т, 27.

◊**Вот і ўсё тут!** – ужываецца ў канцы размовы ці спыненні гутаркі. [Гарошка]: *Не пры мне пісаны вашыя вучоныя – вот і ўсё тут!* Т, 27.

**[ВОТКЛІК]** *м. Разм.* Водгулле, рэха. *Але паслухай* [брат-беларус], *што лес кажа: Я бараніў твой дух ад плесні, Аб думы шчыра твае дбаў І паўтараю вотклік песняў, Што прадзед з ветрамі складаў.* БрБ, 6.

Адз. В. *вотклік*: БрБ, 6.

**ВОЎК** (7) *м. Заал.* Дзікая драпежная жывёліна. *На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў, Пуціну заяц перамерыў...* Кц, 197. *Каб гукалі совы Па-над вамі* [ворагамі народа], *псамі, Косці расцягалі Груганы з ваўкамі.* МПв, 220.

Адз. Н. *воўк* (2): Кц, 197; Пц. Р. *ваўка*: УрП, 52. Т. *ваўком* (2): Пц (2). Кл. *воўча*: Пц. Мн. Т. *ваўкамі*: МПв, 220.

**[ВОЎНА]** *ж.* Матэрыял для вырабу баваўняных вырабаў. [Аленка]: *З нашага лёну кашуля і з нашай воўны гэты пояс.* Т, 30.

Адз. Р. *воўны*: Т, 30.

**[ВОЎЧЫ]** *прым.:* ◊**Воўчая апека** *гл.* апека.

Адз. ж. Р. *воўчай*: НДН, 18.

**[ВОЧКА]** *н. Памянш.-ласк. да* вока ў 1 *знач. Сеў Данілка,*

*выразае Коніка з бярозкі, Адно бліскаюць у вочках Радасныя слёзкі.* Вб, 238.

Мн. М. *вочках*: Вб, 238.

**[ВОШ]** *ж. Заал.* Дробнае насякомае. *У параўн. Давіць мы* [хлопчык і лётчык] *іх* [фашыстаў] *будзем, як вошаў, Як гадкіх смярдзючых клапоў, Караць штораз караю горшай Сягонняшніх рыцараў-псоў.* ХЛВ, 315.

Мн. В. *вошаў*: ХЛВ, 315.

**[ВПЛЫВ]** *м. Польск. Тое, што* веяніе. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім). .. край тэн посядал навэт можэ, але, завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэ тэ пшэісточыло сень в Пінске блото.* Т, 47.

Мн. Д. *вплывом*: Т, 47.

**ВРАТА** *толькі мн. Руск., уст.* Вароты. [Поп]: *Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завлодаша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.* Т, 28.

Н. *врата*: Т, 28.

**[ВРЕМЯ]** (2) і **ВРЭМЯ** (2) *н. Руск.* **1.** *Тое, што* час у 5 *знач.* [Поп]: *В нынешнія врэмена дажэ его прэосвяшчэнство воззавідовало бы сіім блюдам.* Т, 38. [Поп]: *Не время лі подумаць нам о ложэ в очаге домашнем.* Там жа, 28.

**2.** Пара года. [Поп]: *(ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой); Акі пціцы небесныя, отлетающчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38.

◊**Со временем** – з цягам часу. [Усходні вучоны]: *Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

Адз. Н. *врэмя*: Т, 28; В. *время*: Т, 38. Т. *временем*: Т, 47. Мн. В. *врэмена*: Т, 28.

**[ВРЭДНЫЙ]** *прым. Руск. Тое, што* шкодны. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). .. благодара врэдным кліматічэскім веяніям с Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце.* Т, 47.

Мн. Д. *врэдным*: Т, 47.

**ВСЕЛЕННАЯ** *ж. Руск. Тое, што* сусвет. [Мікіта]: *Радуйся, вселенная! Абвяшчаю ўсім, усім, усім: немцы акупавалі, меджду протчым, Менск!..* Т, 31.

Адз. Н. *вселенная*: Т, 31.

**[ВСЕРОССІЙСКІЙ]** *прым. Руск.* Усерасійскі. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). .. вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белорусія.* Т, 26.

Мн. Д. *всероссійскім*: Т, 26.

**ВСЁ** *прысл. Руск.*: ◊**Всё жэ** – *тое, што* ўсё-такі[1]. [Усходні вучоны]: .. *оне* [граніцы] *в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очень туманны. Всё жэ прымечается стремленіе расшырыць эці граніцы на Запад*. Т, 47.

**[ВСХОДНЁ-КРЭСОВЫ]** *прым. Польск*. Які мае адносіны да Усходніх Крэсаў. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ў нататкі , голасна). Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэю поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральской.* Т, 26.

Адз. м. *Всходнё-Крэсовэю:* Т, 26.

**[ВСХОДНІ]** *прым. Польск. Тое, што* ўсходні ў 2 *знач.* [Заходні вучоны]: *Запісваючы ў нататнік уперамежку з Усходнім вучоным): На запытанне, як сень далеко распостшэня овэ "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онего "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

Адз. ж. Н. *Всходня*: Т, 39.

**[ВСХУД]** *м. Польск., разм. Тое, што* ўсход у 2 *знач.* [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім). Еднак, спостшэга сень донжэне розшэжыць овэ граніцэ на Всхуд.* Т, 47.

Адз. В. *Всхуд*: Т, 47.

**[ВСЯКІЙ]** *прым. Руск. Тое, што* ўсякі ў 2 *знач.* [Поп]: *Мoі облачэнія зашчытой мне от всякіх зол земных.* Т, 52.

Мн. Р. *всякіх*: Т, 52.

**[ВУГАЛ]** (2) *м.:* ◊**З-за вугла падсачыць** *гл.* падсачыць. **Хіхікаць з-за вугла** *гл.* хіхікаць.

Адз. Р. *вугла* (2): 3; НК.

**[ВУГАЛЬ]** *м.* Цвёрдае гаручае выкапнёвае рэчыва. *Чыя кірка ў падзямеллі Першай пласт вугля цярэбіць І чый трактар першым суцеле Скібы на калгаснай глебе?* СА, 180.

Адз. Р. *вугля*: СА, 180.

**[ВУДА]** *ж.:* ◊**Злавіць на вуду** *гл.* злавіць.

Адз. В. *вуду*: ЛПК.

**[ВУЕЗД]** (2) *ж. Разм*. Уезд. – *Аб якой ты* [мужык] *гэта вярзеш слабодзе? – Ну, аб Слабодзе, Нагайкаўскай воласьци, Усьмирыцельскаго вуезду, што недалёка ад Прыгонава и Висельнёва.* ХЛБ. *У м. Новым Свержэне, таго вуезда, манаполька таргуе за год на 20000 руб.* УП.

Адз. Р. *вуезда*: УП; *вуезду*: ХЛБ.

**[ВУЖАКА]** (4) *ж.* **1.** Змяя. *У параўн. Разыграліся гурмай за зданяю здань, Як вужакі ў гаршку мятусяцца яны..* БН, 93. *Смела гляне* [гаспадар] *на свет і на долю змянлівую, Як дагэтуль, яму не дадуцца ўжо ў знакі Тыя сілы з усходу і захаду мсцівыя, Што*

*даймаюць цяпер, як вужакі.* ТС, 74.

**2.** *перан.* Ліхі, каварны чалавек. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі І аб сьценку біўся Ад балеснай мукі, – Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты, Задаваў вужача Раны непазбыты.* К.

**3.** *У знач. прысл.* Звіліста. *А як пойдзе другім хто гасьцінцам-дарогай, Што на захад кладзецца вужакай, – Свой палетак любіць стане горай чужога..* Ч, 319.

Адз. Т. *вужакай*: Ч, 319. Кл. *вужача*: К. Мн. Н. *вужакі* (2): БН, 93; ТС, 74.

**[ВУЗЕЛ]** *м.* Клунак. *Гануля сядзіць на спакаваных вузлох і робіць панчоху.* Т, 53.

Мн. М. *вузлох*: Т, 53.

**[ВУЗЕЛОК]** *м. Памянш. да* вузел. *перан.* Від прычоскі. *Цяпер бабія ў разьвяз вузелкі, Ўсе з вайной у расходзе мужыкі; На бяз-мужжы і дурань муж, Ды і дораг стаў дурань к таму-ж.* ВБЛ, 83.

Мн. Н. *вузелкі*: ВБЛ, 83.

**[ВУЗЕЛЬЧЫК]** *м. Памяш. да* вузел. *Выпраўляй яго* [сына] *у людзі, На дарогу блаславі, Разам з крыжам дай на грудзі Роднай вузельчык зямлі...* М, 20.

Адз. В. *вузельчык*: М, 20.

**[ВУЗКАШНУРЫ]** *прым. Наватв.*: ◊**Вузкашнурая вёска** *гл.* **вёска.**

Мн. Н. *вузкашнурыя*: ЗС, 18.

**[ВУЗКІ]** (3) *прым.* Нешырокі. *А ў нас стаў квітнеючым край беларускі, Змяніліся людзі, аблічча зямлі – заместа палосак убогіх і вузкіх, Калгасныя нівы, як мора ляглі.* ПБН. *Сялянскія гоні адзеты ў кайданы. У вузкія межы ўвагнаны палі.* Там жа.

Мн. Р. *вузкіх*: ВГР; ПБН. В. *вузкія*: ПБН.

**[ВУЛЕЙ]** (2) *м.* Калода для пчол. *..скрозь каля поля.., на краёх лесу, каля лугоў, .. стаяць вялікія цяжкія калоды. Гэта – старасьвецкай будовы вульлі для пчол.* ХВ, 30. *Аб гэтых вульлёх, аб гэтых пчолах ніхто не клапоціцца.* Там жа.

Мн. Н. *вульлі*: ХБ, 30. М. *вульлёх*: ХБ, 30.

**[ВУЛІЦА]** (8) *ж.* **1.** Прастора для праходу і праезду паміж радамі дамоў. [Гарошка]: *Тада ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, пакладіся ўпоперак вуліцы: "Хай высяляюць!" – сказалі сабе гэтак..* Т, 43. *Параўн.* уліца.

**2.** Месца пад адкрытым небам у процілегласць памяшканню. *З правага боку – бліжэй да рампы – адны дзверы, з левага – двое. Напроць два вакны на вуліцу.* Т, 19. *Пры апошніх Ганулiных словах разлягаецца за вокнамі на вуліцы харавая песня.* Там жа, 62.

◊**Исци на вулицу** *гл.* ісці.

Адз. Р. *вуліцы*: Т, 43. В. *вуліцу* (4): ПДз; Т, 19, 44; ЧЧШ. М.

*вуліцы* (2): Т, 28, 62. Мн. М. *вуліцах*: СНБ, 340.

**[ВУЛКАНІЧНЫ]** *прым. перан.* Пылкі, страсны. [Мікіта]: *Мадоністая мамзэль Наста! Каханне маё, между протчым, вульканічнае! Падаруйце ж мне, нарэшце, сваю абымальную руку і трапятлівае сэрца.* Т, 42.

Адз. н. Н. *вульканічнае*: Т, 42.

**ВУРАДНІК** *гл.* **УРАДНІК**.

**[ВУС]** (2) *м.* Валасяное покрыва над верхняй губою. *Заходні вучоны – носіць польскі строй – кунтуш і "конфэдэратку", барада голеная, вусы завесістыя.* Т, 19.

◊**Ухмыляцца пад вусам** *гл.* ухмыляцца.

Адз. М. *вусам*: Х. Мн. Н. *вусы*: Т, 19.

**ВУСНЫ** (5) *толькі мн.* Губы, рот. *За мною* [ганцом] *ўсьцяж, і тут, і там іх* [людзей] *вусны бледные шэпталі: Аддайце сонцэ наша нам! На што схавалі-расхваталі?* Кц, 194. *Людзі ходзяць, весяляцца У думках іхніх свята, А на вуснах іх імёны Слаўных кандыдатаў.* НК.

**Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца.**

◊**Прасіцца на вусны** *гл.* прасіцца.

Мн. Н. *вусны* (2): Кц, 194, 195. В. *вусны* (3): ЖН (2); НК.

**ВУХА** (22) *н.* **1.** Орган слыху і раўнавагі. *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль тваё пачуе вуха Камсамольскі гарт юначы.* СА, 179. *Сёння ўжо стар я* [дзед] *І мне не да плачу, Вушы хоць слабы, а ўловяць іх* [вызвалевнцаў] *імя.* Д, 72.

**2.** Вонкавая частка органа слыху. *Будзь здаровы, бацька, маці, – Мы пайшлі ўжо ваяваці. Сьвішча куля, пяй-ха-ха? Каля вуха дзяцюка.* БЗ.

•**З вушамі таварыства** *гл.* таварыства.

◊**Вушы вянуць** – праціўна, не хочацца слухаць што-н. *А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагаворань усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы.* Нз, 14. **Затыкаць вушы** *гл.* затыкаць. **Лавіць вострым вухам** *гл.* лавіць.

Адз. Н. *вуха*: СА, 179. Р. *вуха* (11): БЗ (10); СНБ, 340. Т. *вухам*: ЖН. Мн. Н. *вушы* (3): Д, 72; Нз, 14; ТП, 215. В. *вушы* (4): ВМР; ДЖ; ОШМ; Т, 28. Т. *вушамі*: Т, 41. М. *вушох*: СП.

**ВУЧАНІЦА** (4) *ж. Жан. да* вучань у 1 *знач.* [Янка]: *Не была б то мая найздальнейшая вучаніца.* [Аленка]: *Ды яшчэ, як вы* [Янка] *казалі, – беларускага роду.* Т, 30. [Аленка]: *Прымеце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы. З нашага лёну гэта кашуля і з нашай воўны гэты пояс.* Там жа.

Адз. Н. *вучаніца* (2): Т, 25, 30. Р. *вучаніцы* (2): Т, 23, 30.

**ВУЧАНЬ** (8) *м.* Навучэнец навучальнай установы. *Аднак ён* [настаўнік] *піў запоем, так што вучні часта заставаліся без настаўніка.* А, 328. *Тут рада адна: трэба.. паадчыняць усе чыста школы, .. загадаўшы ім, прышчапляць вучням любасьць да роднага краю, разьвіваць у іх пашану да таго народу, сярод каторага яны жывуць..* ДК.

**2.** Паслядоўнік, прыхільнік якога-н. вучэння, поглядаў, дзейнасці. [Мікіта]: *..не, забывайце, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча.* Т, 38. *Няхай жыве верны вучань і паплечнік таварыша Сталіна Нікалай Іванавіч Ежоў.* НКУС.

Адз. Н. *вучань* (2): НКУС; Т, 38. Р. *вучня*: НКУС. Мн. Н. *вучні* (2): А, 328; ПЧ. Р. *вучняў*: А, 328; *вучнёў*: ВР. Д. *вучням*: ДК.

**[ВУЧАСТАК]** (2) *м. перан. Разм.* Галіна, сфера якой-н. дзейнасці. *Пранікаючы і стараючыся паступова прыбіраці у свае рукі найадказьнейшыя вучасткі Савецкага дзяржаўнага апарату.., контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмократы .. падточвалі соцыялістычныя элемэнты совецкае дзяржаўнасьці, падменьваючы іх нацыянальна-буржуазнымі.* АЛ. *Для ажыцьцяўлення гэтае мэты група контррэвалюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентоў.. на працягу раду год вяла шкодніцкую работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва..* Там жа.

Мн. В. *вучасткі*: АЛ. М. *вучастках*: АЛ.

**ВУЧОНЫ** (99) *прым.* **1.** Адукаваны, пісьменны. *Першы* [склад] *– муж вучоны, важны; Носіць чын такі не кажны, Хоць па-просту на наш лік Ён не больш як чараўнік.* $Ш_4$.

**2.** *У знач. наз.* Кваліфікаваны спецыяліст у якой-н. галіне навукі; даследчык. [Дама]: *Вы, мусье рэгістратар, зрабілі нам* [гасцям] *сягоння папраўдзе мілую неспадзеўку гэтымі дзвюма пэрсонамі, якія толькі што вышлі. Тут у Менску так трудна спаткаць праўдзівага вучонага.* Т, 27. *Кампанія гэта нам* [людзям] *зразумела, бо.. гэтай рэформы жадала совецкая грамадскасць, рабочыя, калгаснікі, пісьменнікі, вучоныя і т.д.* ШБСЯ. // *Іран.* [Янка]: *(да Мікіты). Ну і дурыгаловы гэтыя вашы вучоныя!* Т, 48. [Янка]: *(да Аленкі і Гарошкі). Як жа вам спадабаліся гэтыя, не пры людзёх кажучы, вучоныя?* Там жа, 27.

Адз. м. Н. *вучоны* (66): Т, 19(2), 25(5), 26(21), 27(2), 28(7), 38(6), 39(3), 47(18), 54; $Ш_4$. Р. *вучонага*: Т, 27. Мн. Н. *вучоныя* (19): Т, 26(5), 27(5), 38, 39, 47(2), 48(3), 54; ШБСЯ. Р. *вучоных* (3): Т, 27(2), 39. Д. *вучоным*: Т, 54. Т. *вучонымі* (9): Т, 26(4), 38, 39, 47(3).

**[ВУЧЫЛІШЧА]** (2) *н.* Сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова. *Па праўдзе кажучы, паступіўшы ў гэтае вучылішча,*

*я* [Купала] *ведаў больш, чым патрабавалася праграмай.* А, 328.

• **Рэальнае вучылішча** – сярэдняя навучальная ўстанова ў дарэвалюцыйнай Расіі. *Бацька хацеў падрыхтаваць мяне ў рэальнае вучылішча.* А, 328.

Адз. В. *вучылішча* (2): А, 328(2).

**[ВУЧЫЦЕЛЬ]** *м. Руск., разм. Тое, што* настаўнік. *З вучыцелёў, што да таго саюза належэли, узяли падписку, каб никуды не выежджали без дазваления.* ВД.

Мн. Р. *вучыцелёў*: ВД.

**[ВУЧЫЦЕЛЬСКІ]** *прым. Руск., разм. Тое, што* настаўніцкі. *Не вельми даўно у нас было следства па дзелу аб вучыцельским саюзе.* ВД.

Адз. м. М. *вучыцельским*: ВД.

**ВУЧЫЦЦА** (18) *незак.* **1.** Засвойваць, набываць якія-н. веды, навыкі. *Усё паказывае, як бытцам палякі зрабілі хаўрус з расейскімі націоналістамі і чорнасоценцамі, абы толькі заціснуць беларускі рух, абы адстрашыць беларусоў ад жаданьня вучыцца рэлігіі па беларуску.* ВР. [Гануля]: *Ды яно ж праўда? А ўсё віна ў тым, што мой Мікітка вучыўся, але, мабыць – не давучыўся, і вышла з яго ні богу свечка, ні чорту качарга!* Т, 57. // Быць вучнем навучальнай установы. *Палову адной зімы вучыўся* [Купала] *ў народнай школе ў Сенніцы, недалёка ад г. Мінска, а пасля гэтага нязначны час вучыуся ў Мінску ў прыватнай падрыхтоўчай школе..* А, 328. *Параўн.* учыцца.

**2.** *Разм.* Набываць у працэсе вучобы якую-н. прафесію, спецыяльнасць. [Аленка]: *А цяпер я хачу вучыцца на курсістку, потым на доктара...* Т, 30.

Інф. *вучыцца* (10): ВР (3); Т, 29, 30(2), 31(2); ЧЧШ. Абв. цяп. мн. 3 ас. *вучацца*: ВР. Пр. адз. м. *вучыўся* (3): А, 328(2); Т, 57. Мн. *вучыліся*: ВР. Заг. адз. 2 ас. *вучыся* (3): Т, 48(3).

**ВУЧЫЦЬ** (13) *незак.* **1.** Перадаваць каму-н. веды, навыкі. *Вучыць па рассейску – гэта дрэнная і шкодная выдумка ўселякіх Солоневічоў, бо яна толькі мацней прывязывае цёмнага беларуса да польскай мовы..* ВР. [Гануля]: *Гэта не госць, а нейкі важны дырэктар. Вучыць Мікітку па-нямецку гергетаць.* Т, 31.

**2.** Навучаць, выхоўваць. *Вучылі мяне* [Купалу] *пры дапамозе вандроўных настаўнікаў.* А, 328. *Як навучыцца хадзіці* [сын], *Маткі мову разумець, Ты* [маці] *вучы яго любіці Ўсё сваё ў пашане мець.* М, 19.

**3.** Даваць адукацыю. *Бацька пасля шкадаваў, што не вучыў мяне* [Купалу]. А, 328.

**4.** Навязваць, развіваць якую-н. думку, погляд. [Янка]: *Каб гэтага не было, мы* [беларусы] *павінны растаптаць, знішчожыць*

*даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе.* Т, 35.

**Як вучыць рэлігіі.**

Інф. *вучыць* (4): ВР (4). Абв. цяп. адз. 3 ас. *вучыць* (2): Т, 31, 35. Мн. 3 ас. *вучаць*: ЧЧШ. Пр. адз. м. *вучыў* (2): А, 328; Т, 22. Мн. *вучылі* (3): А, 328; ВР; Т, 61. Заг. адз. 2 ас. *вучы*: М, 19.

**[ВУЧЭБНЫ]** *прым.* Звязаны з арганізацыяй працэсу навучання і кантролем за яго ажыццяўленнем. *І вось праца гэтых людзей, праца ў страшэнна пякельных варунках, калі кожнае жывое беларускае слова расійскі ўрад лічыў праступствам, так што нават начальнікі "вучэбных" вокругаў рассылалі цыркуляры, каб.. народныя настаўнікі не чыталі беларускай газэты "Наша Ніва", – гэта праца .. не была дарэмнай.* МІ, 17.

Мн. Р. *вучэбных*: МІ, 17.

**ВУЧЭЛЬНЯ** (4) *ж. Польск., разм.* Навучальная ўстанова. *Святло, якім прамянілася гэта вучэльня захоплівало сабой ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі.., але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...* УПУВ. *..расійскі царскі урад задумаў гэту вучэльню, баючыся ўплывау заходняе культуры, на пануючы у тым часе у Расіі праізвол і адзічэньне.* Там жа.

• **Высокая (высшая) вучэльня** – вышэйшая навучальная ўстанова. *І калі гэта высокая вучэльня ня пойдзе шырокай дарогай толеранцыі і роўных правоў для насяленьня нашага краю, – яна ня споўніць таго культурнага назначэньня, якое ёй сягодня суліць гісторыя.* УПУВ. *Але на высшую вучэльню у Вільне зьвернуты цяпер вочы ня толькі польскага народу, – на гэту зьмясьціну навукі і мастацтва пазіраюць цяпер і сумные вочы літвіноў і беларусоў.* Там жа.

Адз. Н. *вучэльня* (2): УПУВ (2). В. *вучэльню* (2): УПУВ (2).

**[ВХЛАНЯЦЬ]** *незак. Польск.* Уключаць у склад чаго-н. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік уперамежку з Усходнім вучоным); Падчас бадания тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вхланя*: Т, 39.

**[ВШЭХПОЛЬСКІ]** (2) *прым. Польск.* Усепольскі. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім): Цо сень тычы граніц політычных краю, то взглендэм іх у месцовэй людності вшэхпольскей пшэдставене бардзо не ясне.* Т, 47. [Заходні вучоны]: *(запісваючы): .. вбрэв гісторычным, географічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь.* Там жа, 26.

Адз. ж. Р. *вышэхпольскей*: Т, 47. Мн. Д. *вышэхпольскім*: Т, 26.

**ВЫ** (431) *займ.* **1.** Ужываецца пры звароце да некалькіх асоб. *Нявольнікі вы* [жыды] *сёньня з намі* [беларусамі] *разам На беларускай змучанай зямлі, Дзе чорны зьдзек пасьвенчаны абразам Гняце нас разам, як зьвяр'ё, ў крутой пятлі.* Ж. *Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі! А жыва да нас на таргоўлю: Пакупка-гасцінчык вам кожнаму будзе Чырвоненькі, хатняй гадоўлі.* Р.

**2.** Форма ветлівага звароту да адной асобы. [Ганулія]: *Ах, гэта вы, пане настаўнік! І Аленка з вамі...* Т, 53. [Янка]: *Цяпер вам, пане рэгістратар, застаецца толькі прыдумываць новую свабодную профэсію ці новую клясавую рангу.* Там жа, 55.

**Пазвалі вас.**

◊**Каб вы цяміліся** *гл.* цяміцца. **Ні вам, ні нам** – нікому .. *п. Бэрсан так спужаўся гэтага, што, каб не было ні вам, ні нам, скасаваў увесь камісарыят нацыянальных меншасцей.* СНБ, 338. **Што вы** *гл.* што.

Мн. Н. *вы* (189): Ан, 18(2); БН, 93; БС; ВБЛ, 83(2); ВМР; ВР (2); Г, 16; ЕЯ; Ж (6); З(2); Кц, 196; МПв, 219; Нз, 14; НКУС (3); Пц; ПВ (5); ПЛП; ПЧ (2); Р; С, 209; ССА, 294; Т, 19, 21(6), 22(3), 23, 24(3), 25(3), 26, 27(3), 28(2), 29(6), 30(4), 31(6), 32, 34(2), 35(4), 36(6), 37(8), 38(3), 39(5), 40(2), 41(6), 42(3), 44, 45(3), 46, 48(7), 49(7), 50(2), 51(2), 52(2), 53(8), 54(2), 55(6), 56(4), 57(2), 59(2), 60(4), 61(5), 62(2); Тж, 15(4), 16(5); УрП, 50, 51; ХЛВ, 316; Чж, 147. Р. *вас* (25): ГЖУ; МПв, 220; ПВ; СЧ; Т, 19, 21, 22, 25, 30(2), 38, 44, 49(2), 52, 53, 55, 56(2), 57, 59, 60, 62; УрП, 49; ЧС, 50–51. Д. *вам* (110): Ан, 18; БВ, 16; ВМР; ВР (2); ВЧ; ГЖУ; ДЖ; ЕЯ; Ж (8); З(2); МПв, 219(3); Нз, 14; ПБН; ПВ (7); ПЛП; Р; РКП; С, 209; СЗГ, 252; СНБ, 338; ССА, 294 (3); Т, 19(2), 20(2), 21, 23(3), 25, 26, 27(3), 30, 33, 34(3), 36(3), 39(2), 40(3), 41, 42, 43, 44(2), 45(2), 46(2), 48(2), 49(2), 50(2), 51, 53, 55(2), 56(6), 57(3), 59(2), 60, 62(2); Тж, 15, 16; УрП, 48, 50, 51(2), 52; Х; Чж, 146(3). В. *вас* (55): ВР (2); ГЖУ; Ж (4); МПв, 219; НКУС (2), Пц (2); ПВ (6); ПЛП (5); ССА, 294; Т, 19, 21(2), 22(3), 27, 29, 32, 34, 37(2), 39, 40, 42, 44, 51, 52, 54, 57; УрП, 48, 50(3), 52; ХЛВ, 316(2); Чж, 146(4). Т. *вамі* (21): БСУ; Ж (2); ЖН (2); МПв, 220; Нз, 14; Т, 23, 44, 45, 49(2), 51, 53(2), 54, 56, 57, 60, 61; УрП, 49. М. *вас* (31): ПВ; ССА, 294; Т, 20, 21, 24, 25, 27, 28, 31, 32, 34(3), 40(3), 41, 42, 48, 49, 51, 52(2), 54(2), 55(2), 56, 58(2), 60.

**[ВЫБАР]** *м. Дзеянне па дзеяслову* выбіраць у 1 *знач. Ведама, што калі даць беларусу-каталіку вольны выбар: ці вучыцца рэлігіі па польску, ці па расейску, забараніўшы перш навуку па беларуску, дык ён выбярэ польскую мову,.. якой яго прывучылі маліцца.* ВР.

Адз. В. *выбар*: ВР.

**[ВЫБАРЧЫ]** (2) *прым.* Які адносіцца да выбараў службовых асоб галасаваннем. *За яго* [Сталіна] *я* [Купала] *прагаласую не толькі выбарчым бюлетэнем, але і сваёй песняй.* ГВУ. *Вылучаючы Вас, таварыш Ежоў кандыдатам у Вярхоўны Совет СССР, мы* [беларусы] *просім даць сваю згоду балатыравацца па Менскай выбарчай акрузе.* НКУС.

Адз. м. Т. *выбарчым*: ГВУ. ж. М. *выбарчай*: НКУС.

**ВЫБАРЫ** (11) *толькі мн.* Выбранне каго-н. *Пачынаюцца выбары да мястовай Рады. Ужо распачата падгатоўчая праца і адбываецца агітацыя.* ВМР. *То-ж на выбары іду я* [бабуля], *Голас свой падаці.* Вб, 237.

**Выбары. Выбары да Мястовай Рады. На выбары вышлі...**

Н. *выбары* (4): Вб, 237; БС; ВМР (2). Р. *выбараў* (2): Вб, 236; НК. В. *выбары* (3): Вб, 237; ВВ, 263(2). М. *выбарах* (2); ВМР; ГВУ.

**[ВЫБАЎЛЯЦЬ]** *незак. перан.* Вызваляць каго-н. [Мікіта]: *Оей! Оей! Пане настаўнік, бацька беларус! выбаўляй з ягіпецкай няволі!* Т, 33.

Заг. адз. 2 ас. *выбаўляй*: Т, 33.

**[ВЫБАЧАЦЬ]** (11) *незак.* **1.** Дараваць. [Гануля]: *Калі ласка! Выбачайце* [госці] *толькі за недахватку ў ядзе.* Т, 28.

**2.** Ужываецца пры звароце да каго-н. з прабачэннем за што-н. [Янка]: *Але, выбачайце, цётачка! Пара нам* [Янку і Аленцы] *і дамоў. Бывайце здаровы і шчаслівы!* Т, 57. [Спічыні]: *Выбачайце, мусье Зносілов, але мы на сягоння лекцыю спынім.* Там жа, 50.

Заг. адз. 2 ас. *выбачай*: ХЛБ. Мн. 2 ас. *выбачайце* (10): Т, 19, 22, 24, 28, 36, 43, 48, 50, 57, 58.

**[ВЫБІВАЦЦА]** *незак.:* ◊**З усіх жыл выбівацца** – вельмі стамляцца, знясільвацца. [Мікіта]: *Буржуазія з усіх жыл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата або кусок якога маёнтку.* Т, 40.

Абв. пр. адз. ж. *выбівалася*: Т, 40.

**[ВЫБІВАЦЬ]** *незак.* Высыпаць што-н. адкуль-н. *Гануля выходзіць і прыводзіць з сабой Аленку і Гарошку, які, уваходзячы ў хату, выбівае аб пазногаць попел з люлькі.* Т, 25.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выбівае*: Т, 25.

**ВЫБІРАЦІ** *гл.* **ВЫБІРАЦЬ**.

**ВЫБІРАЦЦА** (2) *незак. Разм.* Вылічвацца (пра налог). *Асабісты ваенны налог будзе выбірацца с тых, хто па якой колечы прычыне увольнены ад адбываньня воінскай павіннасьці, І кожны гэткі плаціць будзе 6 рублёу.* ВН. *Падаходны налог падобна простаму выбіраецца с тых, хто болей зарабляе ці хто болей с чаго мае даходу.* Там жа.

Інф. *выбірацца*: ВН. Абв. цяп. адз. 3 ас. *выбіраецца*: ВН.

**[ВЫБІРАЦЬ]** (4) і *разм.* **ВЫБІРАЦІ** *незак.* **1.** Аблюбоўваць. *Выбіраў жаўнер Трэццю сцежаньку. Гэй, гэй, гэй, трэццю сцежаньку!* ББ.

**2.** Абіраць галасаваннем. *Хто з нас думаў, спадзяваўся, Мой ты, родны браце, Што такіх мы кандыдатаў Будзем выбіраці.* НК. *Цяпер воляй Сталінскай Канстытуцыі я* [Купала] *з гордасцю выбіраю свой працоўны, сапраўдны народны ўрад.* ГВУ.

**Я з гордасцю выбіраю свой народны ўрад.**

Інф. *выбіраці*: НК. Абв. цяп. адз. I ас. *выбіраю* (2): ГВУ (2). Пр. адз. м. *выбіраў*: ББ. Мн. *выбіралі*: НК.

**[ВЫБІЦЬ]** (6) *зак.* **1.** Выгнаць, адцясніць ворага. *Атрад выбіў нямецкіх акупантаў з вёскі.* Т. ПСп.

**2.** *перан.* Пазбавіць упэўненасці. *Праўду сказаць, я* [Купала] *і да гэтага не быў вельмі рэлігійны, але гэты цынічны торг ксяндза канчаткова выбіў з мяне рэшткі веры.* А, 328. *Шэсьць год вайны, вайны цяжкай, бязупыннай, выбілі ў думках беларуса-хлебароба і яго супакой – гэткі зьмірны, лагодны, і яго шчырую веру ў лепшую долю.* ДД.

**3.** *перан.* Надысці, наступіць. *Выбіла часіна і для нас* [беларусаў]. *Выбіла можа у наўцяжэйшую мінюту нашага палітычнага жыцьця.* БСУ.

◊**Вочы выбіць** – асляпіць. *Я* [унук] *падняў яблык. Тут пан як наскочыў, Крыкнуў ды гікнуў, і выстрал раздаўся. Я паваліўся, падняўся. Ах, вочы... Вочы пан выбіў, сляпым я застаўся.* Ун, 73.

Абв. пр. адз. м. *выбіў* (3): А, 328; ПСп; Ун, 73. ж. *выбіла* (2): БСУ (2). Мн. *выбілі*: ДД.

**[ВЫБРАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* выбраць у I *знач. Ён* [першы сын] *і рад і ня рад, а пуцьця меней штодзень На тэй выбранай сьцежцы, і ные; Ўжо адны ў вочы кідаюць – здраднік, звыродзень, На пагібель, на звод шлюць другія.* Ч, 320. // *У знач. наз. Сваей рукой я* [аўтарнік] *прызначаю Дванаццаць выбраных між вас* [юнакоў і дзяўчат], *– Жалейку кожны атрымае І перайме такі наказ..* УрП, 49.

Адз. ж. М. *выбранай*: Ч, 320. Мн. Р. *выбраных*: УрП, 49.

**ВЫБРАЦЦА** *зак.* Выйсці, выбрацца адкуль-н. [Чырвонаармеец]: *Ці няможна ў вас, таварышы, перасядзець пакуль сцямнее? Бо я адстаў ад сваёй часці і толькі ўночы змагу выбрацца з гораду, каб дагнаць сваіх.* Т, 52.

Інф. *выбрацца*: Т, 52.

**ВЫБРАЦЬ** (6) *зак.* **1.** *Зак. да* выбіраць у 1 знач. [Спічыні]: *Дзеля гэтага, перш чымся араторыць, вы* [Мікіта] *павінны выбраць сабе стойкую пляцформу і толькі адну, а не дзве або тры..* Т, 41. *Было два выхады: разбурыць ДЗОТ разам з фашыстамі*

*ці зні-шчыць фашыстаў разам з ДЗОТ'ам. Выбралі першы варыянт.* ПСп.

**2.** *Зак.* да выбіраць у 2 *знач. Варашылава я* [Данілка] *такжа Выберу з часамі, На сямі канях паеду З сямю галасамі.* Вб, 238. *Во каго мы* [беларусы] *ў дэпутаты Па новым законе У парламент беларускі Выбярэм сягоння!* НК.

Інф. *выбраць*: Т, 41. Абв. пр. адз. ж. *выбрала*: Вб, 237. Мн. *выбралі*: ПСп. Буд. адз. I ас. *выберу*: Вб, 238. 3 ас. *выбярэ*: ВР. Мн. I ас. *выбярэм*: НК.

**[ВЫБУХНУЦЬ]** *зак. перан.* Напасці, пачацца. *Але выбухнула сусветная вайна, а за ёю рэвалюцыя ў Расіі..* СНБ, 336.

Абв. пр. адз. ж. *выбухнула*: СНБ, 336.

**[ВЫБЯГАЦЬ]** (2) *незак.* Выскокваць. *Гануля выбягае і пасля па аднаму зносіць партфелі.* Т, 59. [Мікіта]: *Ай, госці ідуць!.. мамаша, завесьце чым-небудзь вокны, можа – коўдрамі... а я пабягу спаткаць. (Выбягае).* Там жа, 24.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выбягае* (2): Т, 24, 59.

**[ВЫВАЛІЦЦА]** *зак.* Выпасці, упасці з чаго-н. *Газэта вывалілася ў мяне з рук. Патупіўшы вочы, я ўзяўся за клямку, каб выйсці.* Ан, 19.

Абв. пр. адз. ж. *вывалілася*: Ан, 19.

**ВЫВЕЗЦІ** (2) *зак.* да вывозіць у 1 *знач.* [Аленка]: *Як татку, бывала, бяруць у абоз, дык ён заўсёды і кажа, што едзе акупантаў вывозіць. Але бедны, возіць, возіць, ды ніяк вывезці не можа.* Т, 54 *...праф. Ігнатоўскага – бальшавікі па нагавору польскіх віленскіх камуністаў арыштавалі і вывезлі ў Смаленск, як заложніка.* СНБ, 339.

Інф. *вывезці*: Т, 54. Абв. пр. мн. *вывезлі*: СНБ, 339.

**ВЫВЕСЦІ** (5) *зак. перан.* Скіраваць, прывесці да пэўнай мэты. *Хай жыве і красуе ленінска-сталінская партыя, якая адна толькі магла вывесці Беларусь на вольны шырокі прастор шчаслівага жыцця!* ЖН.

◊**Вывесці на свабоду** – вызваліць. *Біў* [Варашылаў], *як мух, белагвардзейцаў, Не даў ходу зброду, І савецкую краіну Вывеў на свабоду.* НК. **Вывесці ў гандаль** – паступіцца чым-н. *Вы ўжо забылі, людзі здарэння, Дзе ваш прыпынак, – Вывелі ў гандаль славу, Сумленне – Праўду на рынак.* Чж, 147. **Вывесці ў людзі** – *тое, што* выводзіць у людзі. *Дзякую партыі Леніна-Сталіна, ..Што Беларусь маю цёмную, ўбогую Вывелі ў людзі і стала дзяржаўнаю, – Выцерла слезы..* ДПЛС.

Інф. *вывесці*: ЖН. Абв. пр. адз. м. *вывеў* (2): НК; СД. Мн. *вывелі* (2): ДПЛС; Чж, 147.

**[ВЫВЕШВАЦЬ]** (3) і *разм.* **[ВЫВЕШЫВАЦЬ]** *незак.* Вешаць

для агульнага агляду. *Мікіта хапае чырвоную хустачну, чапляе на канец парасона і вывешвае праз ваконную фортачку.* Т, 59. [Наста]: *Вывешвайце* [Мікіта і Ануля] *хутчэй праз акно чырвоны сцяг.* Там жа.

◊**Вывешываць белы флаг** – здавацца ў палон. [Мікіта] *(вылазячы з укрыцця, да Чырвонаармейца): А, папаўся, меджду протчым, нарэшце! Складай аружжа! Вывешывай белы флаг! Здавайся ў палон, меджду протчым!* Т, 52.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вывешвае*: Т, 59. Заг. адз. 2 ас. *вывешывай*: Т, 52. Мн. *вывешвайце* (2): Т, 59(2).

**[ВЫВОДЗІЦЬ]** (3) *незак.* Паказваць, прыводзіць каго-н. *Трох сыноў чараўнік на сьвет белы выводзіў, Трох сыноў, што хаваў узаперці..* Ч, 319.

◊**Выводзіць у людзі** – дапамагаць каму-н. заняць пэўнае становішча ў грамадстве. *Пры Сталіне ў бежанцах гінуць не будзем, Совецкіх людзей ён выводзіць у людзі.* СС, 303.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выводзіць*: СС, 303(2). Пр. адз. м. *выводзіў*: Ч, 319.

**ВЫВОЗІЦЬ** (4) *незак.* **1.** Перавозіць што-н. адкуль-н. куды-н. *Паклаўшы бялізну і начоўкі з вадой на каламажку, вывозяць: Ануля цягне, а Мікіта падпіхае.* Т, 50. *Га, а цяперака што гаварыці?.. Усе мае* [Нёмана] *скарбы намарна ідуць: Жыта учора вывозілі віці, Родныя хвойкі сягоння плывуць.* Н.

**2.** Прымусова адпраўляць; ссылаць. [Янка]: *Няма чаго казаць – баранілі! У лапці абувалі* [чыноўнікі], *з торбамі пушчалі ды ў сібірскія катаргі вывозілі!* Т, 21.

Інф. *вывозіць*: Т, 54. Абв. цяп. мн. 3 ас. *вывозяць*: Т, 50. Пр. мн. *вывозілі* (2): Н; Т, 21.

**ВЫВУЧЫЦЬ** *зак.* Засвоіць. *А "Практычныя граматыкі" Я. Лесіка ўжо зрабіліся незамененымі падручнікамі для кожнага беларускага грамадзяніна, які захоча акуратна пазнаць і вывучыць сваю мову.* ВСп, 89.

Інф. *вывучыць*: ВСп, 89.

**ВЫГАВАРЫЦЬ** *зак.* Вымавіць, сказаць. *–Ух-ці! бармоча* [дзяк], *цалуючыся з сялянамі сваей вёскі, – які не разьвіты народ вы, мужыкі! Нават "здрастуце" ня можаце, як сьледна выгаварыць, а яшчэ...расійцы!* З.

Інф. *выгаварыць*: З.

**[ВЫГАДА]** і *разм.* **[ВЫГОДА]** *ж.* Карысць, прыбытак. [Мікіта]: *Каламажку я цягаю з сабой толькі дабравольна і толькі для ўласнай выгады.* Т, 45. *Пасьля, Жыды, вы зрэкліся народу, Які вам шчыра даў багацьце і прыпын; Пайшлі прыдбаць сабе вы чэсьць, выгоду Да сільных тых, хто даў вам вісельню і чын!* Ж.

Адз. Р. *выгады*: Т, 45, В. *выгоду*: Ж.

**ВЫГАДАВАЦЬ** (2) *зак. перан.* Выхаваць. *Здавалася, той мэсыянізм, які быў прывіты польскаму народу, у часе яго паднявольля, лепшымі польскімі мысьліцелямі, павінен быў выгадаваць у гэтым народзе штосьці сьветлае, разумнае..* СНБ. *Сама натура, сама яго* [беларускага народа] *гісторыя сталецьцямі гэтакім ужо выгадавала.* НДН, 19.

Інф. *выгадаваць*: СНБ. Абв. пр. адз. ж. *выгадавала*: НДН, 19.

**[ВЫГАЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выгаліць. *У знач. вык.* Паголены. *Мікіта Зносак.. – калежскі рэгістратар, 25–28 г., у першых трох дзеях барада выгалена, у 4-й крыху барадаты.* Т, 19.

Кар. адз. ж. Н. *выгалена*: Т, 19.

**[ВЫГАНДЛЯВАЦЬ]** *зак.* Зарабіць, нагандляваць. [Мікіта]: *Значыцца, выгандляваў цішком, каб ніхто не бачыў, тое-сеё з гэтай контрабанды на якую-сякую панчоху ці шкарпэтку, палажыў сабе.. на воз і вязі сабе ў сваёй каламажцы.* Т, 45.

Абв. пр. адз. м. *выгандляваў*: Т, 45.

**[ВЫГАНЯЦЦА]** *незак. перан.* Выкараняцца. *Хіба можа ён* [абываталь] *адважыцца на беларускую школу, калі беларушчына цэлымі соткамі год ганьбілася і выганялася адусюль, адкуль можна было?* ДК.

Абв. пр. адз. ж. *выганялася*: ДК.

**ВЫГАНЯЦЬ** (3) *незак.* Выдаляць сілай, праганяць. *Мы* [хлопчык і лётчык] *гітлераўцаў будзем ніштожыць, Гаціць імі тонкую гаць, З кустоў нашых родных прыгожых Грабежнікаў зброд выганяць.* ХЛВ, 315. [Гарошка]: *Збіраўся пасвіць тутэйшых чынадралаў, але не ўспеў, – прышлося выганяць з Менску абскубандаў.* Т, 37.

Інф. *выганяць* (3): Т, 37 (2); ХЛВ, 315.

**ВЫГЛЯД** (6) *м.* **1.** Вонкавае аблічча. [Мікіта]: *А я папрашу пардону ў гасцей і на хвіліну адлучуся змяніць свой знадворны выгляд, згодна з самай навейшай ..політычнай сытуацыяй.* Т, 50. [Мікіта]: *Але, пардон, мадамы і мусьі! Выбачайце за мой нештодзенны выгляд. Мяне толькі што спаткала ў дарозе смешная прыгода.* Т, 58.

**2.** Знешні абрыс. [Янка]: *Такія сур'езныя* [вучоныя], *пане совбур, які сягонешні выгляд вашай хаты, асабліва гэтыя хвасты ад шпалераў ды абразы задам наперад.* Т, 48. *Сумна мне* [Нёману], *сумна, што ўсё тут іначай Некалі бераг мой бачыў і знаў; Іншы меў выгляд – не гэткі жабрачы, Іншы я плот на плячах сваіх гнаў.* Н.

Адз. Н. *выгляд*: Т, 48. Д. *выгляду*: ВМР. В. *выгляд* (4): Н; Т, 50, 58; ХБ, 29.

**ВЫГЛЯДАЦЬ** (7) *незак.* Мець выгляд; здавацца каму-н. чым-н.

*Поп ізноў падтыкае полы, каб выглядаць па-цывільнаму.* Т, 29. – *Ци ты бачыў кали слабоду? – пытае адзин мужык другога. – Бачыў, кажэ други. – Ну, а як яна выглядае?* ХЛБ.

Інф. *выглядаць* (2): Т, 29, 55. Абв. цяп. адз. 3 ас. *выглядае* (3): Т, 44, 53; ХЛБ. Мн. 2 ас. *выглядаеце*: Т, 57. Пр. адз. м. *выглядаў*: Дз, 190.

**[ВЫГЛЯНУЦЬ]** *зак. перан.* Паказацца, засвяціць. *Скончыцца вайна. С панад яе пажарнаго і крывавага дыму выгляне добрае, прыветлівае сонцэ і ажывіць сваімі праменямі нашы загоны і сенажаці.* РКр.

Абв. буд. адз. 3 ас. *выгляне*: РКр.

**[ВЫГНАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* выгнаць у 1 *знач. Аграбленыя з гонару й кашулі, З свайго прыпынку выгнаны вон, Мы* [беларусы] *дзякуем, што торбы апранулі На нас ды з нашых нітак-валакон.* Бц, 9. *Бацька мой родам з Чэрвеньшчыны, паходзіць з дробных засцянковых арандатараў, выгнаных нейкім польскім князем з зямлі.* А, 327.

Мн. Н. *выгнаныя*: Бч, 9. Р. *выгнаных*: А, 327.

**[ВЫГНАЦЬ]** (5) *зак.* **1.** Выдаліць, выселіць. *У плуг запрог* [другі сын] *свайго браточка На век, да скanання, А мяне* [маці] *асенняй ночкай Выгнаў на бадзянне.* Дз, 190. *Выгнаў* [бацька] *на старасці з хаты сатрапа, Выгнаў бадзяцца галоднаму ў горы..* Бц, 74.

**2.** *Зак. да* выганяць. *Як чуму, ясным днём Выгналі* [беларусы] *прыблудаў, Свой ачысцілі дом Ад варшаўскіх брудаў.* ПД, 83.

Абв. пр. адз. м. *выгнаў* (3): Бц, 74 (2); Дз, 190. Мн. *выгналі* (2): Ж; ПД, 83.

**ВАГОДА** *гл.* **ВЫГАДА**.

**[ВЫДАВАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Выпускаць з друку, друкаваць. *Пачалі выдаваць "Известия" на 4-х мовах: расійскай, беларускай, польскай і жыдоўскай.* СНБ, 339.

**2.** *перан.* Абвяшчаць. *Патрасала* [судзьбіна] *пасады, скідала кароны; Тым, другім была каменем-хлебам, Выдавала народам старыя законы, Кіравала зямлёю і небам.* Ч, 322.

Інф. *выдаваць*: СНБ, 339. Абв. пр. адз. ж. *выдавала*: Ч, 322.

**[ВЫДАВЕЦ]** (2) *м.* Той, хто выдае творы друку. *Мая* [Купалы] *першая кніжка "Жалейка" была канфіскавана, а выдаўцу яе выклікалі ў суд.* А, 328. *..леташняя выдавецкая справа ня была аднабокай, г.ё. выдаўцы ня прытрымліваліся, каб друкаваць або толькі школьшыя кнігі, або прыгожае пісьменства..* ВСп, 89.

Адз. В. *выдаўцу*: А, 328. Мн. Н. *выдаўцы*: ВСп, 89.

**[ВЫДАВЕЦКІ]** (5) *прым.* Які адносіцца да выдавецтва. *Разглядаючы гэты сьпіс (табліцу), мы першым чынам заўважаем, што леташняя выдавецкая справа ня была аднабокай..* ВСп, 89.

*Цяпер на мейсцы “Адраджэньня” беларускую выдавецкую справу .. з такім-жа паспехам вядзе В-ва “Савецкая Беларусь”.* Там жа, 91.

**Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 г.**

Адз. ж. Н. *выдавецкая* (2): ВСп, 89 (2). Р. *выдавецкай*: ВСп, 91. В. *выдавецкую*: ВСп, 91. М. *выдавецкай*: ВСп, 91.

**[ВЫДАВЕЦТВА]** (10) *н.* Прадпрыемства па выданню твораў друку. *Беларускае в-ва за граніцай на чале з т. Жылуновічам (Цішка Гартны) выпаўніла сваё заданьне як найлепей.* ВСп, 91. *Шмат дапамагло гэтакай пасьпешнай працы тое, што галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва зьяўляецца Наркамасьветы і Цэнтрабелсаюз, якія ўсімі сіламі дапамагалі выдавецтву матар’яльна.* Там жа.

Адз. Н. *в <ыдавецт> ва* (4): ВСп, 90, 91(3). Р. *выдавецтва*: ВСп, 91; *в <ыдавецт> ва*: ВСп, 91. Д. *выдавецтву*: ВСп, 91. Мн. Р. *выдавецтваў* (2): ВСп, 89, 91. М. *выдавецтвах*: ВСп, 90.

**ВЫДАЛЕННЕ** *н.* Высяленне адкуль-н. *Мы* [дэлегаты] *былі сведкамі выпадку, калі адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей, зрабіў перавыдатак і яму пагражала камедыя “таварыскага суда”, выдаленне з інтэрната, з Бацяўскага “фабзавуча”.* ПЧ.

Адз. Н. *выдаленне*: ПЧ.

**[ВЫДАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выдаць. *У знач. вык.* Надрукавана. *Але што цікавейшае: перада мной ляжыць беларуская часопісь “Наша Каляіна”. Выдана яна ў Слуцку!* МІ, 17.

Кар. адз. ж. Н. *выдана*: МІ, 17.

**[ВЫДАНЬНЕ]** (2) *н.* **1.** Друкаванне. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С. Некрашэвічам выхлапатаў матэр’яльныя сродкі і зарганізаваў выданьне беларускіх кніг за граніцай.* ВСп, 91.

**2.** Твор друку. *Гэта складае 2120 рэзаў (стоп) паперы, лічачы ў сярэднім па 50 фунт. стапу, атрымаем 2650 пуд., г.ё. каля трох вагонаў беларускіх выданьняў.* ВСп, 91.

Адз. Н. *выданьне*: ВСп, 91. Мн. Р. *выданьняў*: ВСп, 91.

**ВЫДАТНА** *прысл.* Вельмі добра; цудоўна. *Тое, што мы бачылі – выдатка. Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ.

**[ВЫДАТНЫ]** *прым.* Шырока вядомы. *Магчыма, што і быў* [гімн] *– можа яго замяняла якая выдатная духоўная песьня. Але рухнула дзяржава, забыў народ і свой гымн-песьню.* СБНГ.

Адз. ж. Н. *выдатная*: СБНГ.

**[ВЫДАЦЬ]** (2) *зак.* Даць што-н., забяспечыць чым-н. *Пэўнага*

*дня вядомая беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай, напісанай па-беларуску, выдаць ей дазваленьне на перавозку школьных рэчаў з аднаго будынку у другі.* ОШМ.

◊**Выдаць сябе** – выкрыць, выявіць уласныя тайныя пачуцці, намеры. *Раскованы раб сябе выдаў – Ня ўзнёсься ўвысь дух чалавечы, – Нявольнік, пабратаўся з Крыўдай і ў помач ей даў свае плечы.* Кр, 78.

Інф. *выдаць*: ОШМ. Абв. пр. адз. м. *выдаў*: Кр, 78.

**ВЫДЗЯЛЯЦЬ** *незак. перан.* Адрозніваць, адзначаць. [Мікіта]: *Таксама паміж купляючымі трэба выдзяляць іхнія рангі і клясы – абавязкова..* Т, 34.

Інф. *выдзяляць*: Т, 34.

**[ВЫДМА]** *ж. Польск.* Пясчаны пагорак. *Засядаць, панаваць на хватаным багацьці Ня кідае за дзьверы надзеі, Хоць мінула даўно яго* [другога сына] *сьвята па сьвяце, Хоць пасад свой на выдмах разьвеяў.* Ч, 320.

Мн. М. *выдмах*: Ч, 320.

**[ВЫДРУКАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выдрукаваць. *Разм. У знач. вык.* Надрукаваны. *Прыходжу я, як гэта ўжо выдрукавана, а рэдактар падсоўвае мне сто і адну свежых газет.* Ан, 19.

Кар. адз. н. Н. *выдрукавана*: Ан, 19.

**ВЫДУМАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* выдумаць. *Кінуты нядаўна амерыканскім прэзідэнтам лозунг – мір на аснове самаазначэння народаў – не быў выдуманы так сабе.* НДН, 18.

Адз. м. Н. *выдуманы*: НДН, 18.

**ВЫДУМАЦЬ** (3) *зак.* Вынайсці, стварыць; прыдумаць. *Свет там выдумкі хітрые знае – Выдумаць гэта мы* [беларусы] *ў сваім краі Неяк мінулі.* Пп, 5. [Мікіта]. *Мітынг .. гэта нешта такое, што выдумалі ангельцы для тых, якія нічога не хочуць рабіць, а толькі ходзяць і варон страляюць.* Т, 41.

Інф. *выдумаць*: Пп, 5. Абв. пр. адз. ж. *выдумала*: Т, 48. Мн. *выдумалі*: Т, 41.

**ВЫДУМКА** (2) *ж.* Вымысел. *Вучыць па расейеку – гэта дрэнная і шкодная выдумка ўселякіх Солоневічоў, бо яна толькі мацней прывязывае цёмнага беларуса да польскай мовы..* ВР. *..Шлі* [беларусы], *ідзём далей улева, ці ўправа – Простым гасцінцам. Свет там выдумкі хітрые знае – ..Выдумаць гэта мы ў сваім краі Неяк мінулі.* Пп, 5.

Адз. Н. *выдумка*: ВР. Мн. В. *выдумкі*: Пп, 5.

**ВЫЕЖДЖАЦЬ** *гл.* **ВЫЯЗДЖАЦЬ.**

**[ВЫЕЗД]** *м. Дзеянне па дзеяслову* выязджаць у І *знач.* [Мікіта]: *Гэты, меджду протчым, рэдактар Гізульскі, што жыў да апошняга часу ў нашай кватэры, абяцаў мне вылатвіць*

*“пшэпустку” на выезд, але падашукаў.* Т, 55.

Адз. В. *выезд*: Т, 55.

**[ВЫЕСЦІ]** *зак.:* ◊**Пот вочы выеў** *гл.* пот.

Абв. пр. адз. м. *выеў*: Д, 73.

**[ВЫЕХАЦЬ]** (11) *зак.* **1.** *Зак. да* выязджаць. [Янка]: *Але ваша хата, цётачка, надта неяк змянілася ад таго часу, як я выехаў ад вас..* Т, 45. [Аленка]: *Як выехалі вы* [Янка] *з Дуброўкі, я ў шапку не спала і паехала ў Вільню!* Там жа, 30.

**2.** *перан. Разм.* Умяшацца ў што-н. [Мікіта]: *(..да Ганулі, набок). Меджду протчым, мамаша, выехалі з гэтым сваяцтвам, як з козамі на торг! Перад маімі гасцямі ўсю мне рэпутацыю папсавалі.* Т, 25.

Абв. пр. адз. м. *выехаў* (5): Т, 45(2), 55, 58(2). ж. *выехала*: Ан, 19. Мн. *выехалі* (3): Т, 25, 30, 45. Буд. адз. I ас. *выеду* (2): Т, 55(2).

**[ВЫЖЫЦЬ]** *зак. перан.* Пазбавіцца чаго-н.; зжыць. *Зьдзекі далей строіць дай-жэ, Ласку с сэрца выжыў* [меншы сын]: *Суд судзіў, што я* [маці], *не я ўжо, I расьпяў на крыжу.* Дз, 190.

Абв. пр. адз. м. *выжыў*: Дз, 190.

**ВЫЗВАЛЕННЕ** (17) і **[ВЫЗВАЛЕНЬНЕ]** (8) *н. Дзеянне па дзеяслову* вызваляць. *Дык скажэце, дзе тое вашэ “вызваленне”? Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі іншых дзяржаваў і народаў.* Тж, 16. *Палякі, як і бальшавікі, калі верыць адозьве начальніка Польскай дзяржавы, нясьлі з сабой вызваленьне Беларусі з адвечнага ярма.* СНБ.

Адз. Н. *вызваленне* (2): Бч, 10; Тж, 16. Р. *вызвалення* (7): ЖН (2); ЗЯЗ, 89; ПБН (2); Т, 22; *вызваленьня* (2): СНБ (2). В. *вызваленне* (6): ГВУ; ЖН (2); СНБ, 340; Тж, 15, 16; *вызваленьне* (6): АЛ (4); СНБ. М. *вызваленні* (2): ДЖ; Тж, 16.

**[ВЫЗВАЛЕНЧЫ]** (3) *прым.* Які мае на мэце вызваленне каго-, чаго-н. *Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай у ніводным годзе столькі выкінута з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ..* ВСп, 89. *Прабудзілася соцыяльная і нацыянальная вызваленчая думка ў падняволеных народаў Расіі.* ДЖ.

Адз. м. Р. *вызваленчага*: ВСп, 89. ж. Н. *вызваленчая*: ДЖ. М. *вызваленчай*: МІ, 17.

**ВЫЗВАЛЕНЫ** (6) *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. зал. пр. да* вызваліць. *Калі гаварыць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з-пад расійскага ярма, то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць.* Нз, 14. *Бухнула ў Расіі рэвалюцыя. Загаманілі аб федэрацыі вызваленых з царскага рабства народаў.* БВ, 16.

**2.** *У знач. прым.* Свабодны, незалежны. *Гэты рух паказвае, што чалавек усур'ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду, але той чалавек, які вырваўся з нядолі і ланцугоў старога ладу і разгарнуў арліныя крыллі вызваленай працы.* СТ.

**3.** *У знач. наз. Сягоння-ж я* [Купала] *шчаслівы, што магу па-іншаму, як вызвалены з нацыянальных і соцыяльных пут, складаць песні-гімны вызвалення.* ЖН.

Адз. м. Н. *вызвалены*: ЖН. Р. *вызваленага*: ВГР. ж. Р. *вызваленай* (2): Нз, 14; СТ. Мн. Р. *вызваленых* (2): БВ, 16; БСУ.

**ВЫЗВАЛЕНЬНЕ** *гл.* **ВЫЗВАЛЕННЕ**.

**[ВЫЗВАЛІЦЦА]** *зак.* да вызваляцца. *Я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ не зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмакратычнага шалупіньня..* АЛ.

Абв. пр. адз. ж. *вызвалілася*: АЛ.

**[ВЫЗВАЛІЦЬ]** *зак. да* вызваляць у I *знач. Змяцём з беларускіх загонаў Паганыя банды прыблуд, Край вызвалім родны з палону, Нямецкіх пазбавімся пут.* ХЛВ, 316.

Абв. буд. мн. I ас. *вызвалім*: ХЛВ, 316.

**[ВЫЗВАЛЯЦЦА]** *незак.* Станавіцца свабодным, незалежным. *Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай..* НДН, 18.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *вызваляюцца*: НДН, 18.

**ВЫЗВАЛЯЦЬ** *гл.* **ВЫЗВАЛЯЦІ**.

**ВЫЗВАЛЯЦЬ** і *разм.* **ВЫЗВАЛЯЦІ** (2) *незак.* **1.** Рабіць, даваць свабоду. *Варашылаву і кажа* [Сталін], – *Што з Луганска родамі – Час нам, браце, вызваляці З-пад ярма народы!* ЗЯЗ, 89.

**2.** Выратоўваць. [Аленка]: *Мы* [Янка і Аленка] *прыехалі татку з палону вызваляць.* Т, 35.

**3.** Адваёўваць. *Родныя з пут вызваляці загоны, Сонцам разводніваць мутныя ночы, Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць.* Ф.

Інф. *вызваляці* (2): ЗЯЗ, 89; Ф; *вызваляць*: Т, 35.

**[ВЫЗНАВАЦЬ]** *незак.* Прызнаваць што-н. *Яны* [беларусы] *мусяць цьвёрда зазначыць свае дамаганьні, асьвяціць тые свае мэты і заданьні, і сказаць усім, хто мае вочы бачыць, а вушы слухаць: “.. Чаму не ўшанавалі народу свайго, як ён быў бедны? Чаму ня вызнавалі імя яго прылюдна і выракаліся роду свайго дзеля суседзяў? Ідзеце проч ад нас!”* ВМР.

Абв. пр. мн. *вызнавалі*: ВМР.

**ВЫЗНАЦЬ** *зак.* **1.** Прызнаць, усвядоміць, зразумець. *Вызнай* [брат], *кім цябе бацька на сьвеце пакінуў, – Стаься тым, ды йдзі*

*к меншаму брату...* Ч, 323.

**2.** *Тое, што* спазнаць. *За ім* [правадыром], *не знаючы нуды, Каналам плыў-бы* [Купала] *Беламорскім, Ляцеў-бы вызнаць гарады – Магнітагорскі й Краматорскі.* МСП, 187.

Інф. *вызнаць*: МСП, 187. Заг. адз. 2 ас. *вызнай*: Ч, 323.

**[ВЫЗНАЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* вызначыць. Намечаны, прызначаны. *Крыніцы жыцьця пацякуць сваім спрадвеку вызначаным справядлівым парадкам.* СНБ.

Адз. м. Т. *вызначаным*: СНБ.

**[ВЫЗНАЧАЦЦА]** *незак.* Вылучацца з ліку іншых. *Вызначаюцца дзьве сілы ў нашым месьце, каторые распачнуць борку на выбарах. Гэта – палякі і расійцы.* ВМР.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *вызначаюцца*: ВМР.

**[ВЫЗНАЧЫЦЬ]** *зак.* Намеціць кірункі, шляхі развіцця. *Той, хто з няволі рабочы люд вывеў, Новыя вызначыў свету скрыжалі, Той, хто народ абудзіў, ашчасьлівіў, У доміку гэтым убачыў свет Сталін.* СД.

Абв. пр. адз. м. *вызначыў*: СД.

**[ВЫЗЫВАЦЬ]** *незак. Тое, што* выклікаць. *Гаворачы слова "свабода", дадавай заўсягды "ня тут спаминаючы", бо, як кажуць: не вызывай лиха, кали яно спиць!* СП.

Заг. адз. 2 ас. *вызывай*: СП.

**[ВЫЗЫСК]** *м. Польск.* Эксплуатацыя. *Будзе сабе сам народ гаспадарыць, Вызыску чорнага ведаць не будзе, Працай збіраці з зямлі будуць дары Самі сабе раскаваныя людзі.* Ф.

Адз. Р. *вызыску*: Ф.

**[ВЫЙГРАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выйграць. *У знач. вык.* Вырашаны. *Смаленцы крыху гэтаму працівіліся, але іх працаўнікі пастрашылі куляметамі, і справа была выйграна.* СНБ, 337.

Кар. адз. ж. Н. *выйграна*: СНБ, 337.

**ВЫЙСЦІ** (25), **[ВЫСЦІ]** (25), **ВЫЙСЬЦІ** (3) і *разм.* **ВЫЙЦІ** *зак.* **1.** *Зак. да* выходзіць у 1 *знач. Газэта вывалілася ў мяне з рук. Патупіўшы вочы, я ўзяўся за клямку, каб выйсці.* Ан, 19. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэну і горача вітаў савецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* ПЧ. // Пакінуць месца знаходжання дзе-н.; выбрацца адкуль-н. [Мікіта]: *А дзе тут таго немца зловіш калі – па чутках – амаль не ўсе ўжо з гораду вышлі.* Т, 34. [Янка]: *Вяселле, цётачка, адлажылі пакуль што да таго часу, калі апошні акупант ад нас выйдзе, бо пры іх нявесела на вяселлі.* Там жа, 54.

**2.** *Зак. да* выходзіць у 2 *знач. Кніжка такая* [сьпеўнік Тэрраўскага "Лірнік"] *вышла вельмі на часе.* ВСп, 90. *Пасыпаліся з друку адна за аднэй кнігі і ў працягу некалькіх месяцаў вышла*

*ў сьвет 15 кніг, лікам страніц 1950 (121 друк. арк.).* Там жа, 91.

**3.** *Зак. да* выходзіць у 3 *знач. Як ня выйдуць чорнасотники На благое ўсё ахвотники, Дый на ўсю моц закрычаць: “Думу трэба разагнаць!”* ВЧ.

**4.** *Зак. да* выходзіць у 5 *знач. Гаспадар з мяне* [Купалы] *выйшаў кепскі. Гаспадарку я не любіў, а вазіўся заўсёды з кніжкамі, за што часта даставалася мне ад бацькі.* А, 328. [Спічыні]: *Затрымайцеся* [Мікіта]. *Гэта ў вас вышла нібы лепей.* Т, 40.

**5.** Перастаць быць у якім-н. стане, становішчы. *Так расьце нездавольства ў сыноў чарадзея – Ў іх саміх і на іх, на ўсім сьвеце; З ходу-выхаду выйсьці адна ў іх надзея: Каб саміх адалеці і сьвет адалеці.* Ч, 321.

**6.** *У безас. знач.* Дастацца. *Як напішам мільён радкоў, то будзем мець... палічы, кольні выйдзе!* Ан, 19.

**7.** Стаць жонкай каго-н. [Мікіта]: *Кажа* [Наста], *як будзеце асэсарам, тады выйду, а за рэгістратара, кажа, не хачу.* Т, 23.

**8.** Здарыцца, нечакана адбыцца. [Мікіта]: *Вышла малая мітрэнга. Гэты, меджду протчым, рэдактар Гізульскі .. абяцаў мне вылатвіць “пшэпустку” на выезд, але падашукаў.* Т, 55. *Здавалася, што ўсё пойдзе добра. Але вышло ня тое. За “плебісцыт” паліцыя пры помачы сьлёсара улезла у рэдакцыю беларускай газэты і забрала усе канторскіе, рэдакцыйные матэрыялы.* СНБ.

**9.** *перан.* Выступіць супроць каго-, чаго-н. *З гэтага дня маема магчымасьць будаваць сваю беларускую армію, сваю акружную, нязломную сілу, каторая у хуткім часе павінна выйсьці на военные шляхі і бараніць, беларускіе акрывауленые межы.* БСУ. *Знай, жаўнеры мы, Вышлі не на жарт Біцца, ваяваці; Знай, хавалі нас Поле, бор і лог Беларусі-маці!* ВБ.

**10.** *перан.* Цярпець няўдачу ў якой-н. справе. [Янка]: *Баюся я толькі, каб вы* [Мікіта] *не вышлі на ёй* [кар’еры], *як залетась на аратарстве..* Т, 56.

**11.** *перан.* Вярнуцца да жыцця, вызваліцца; адрадзіцца. *З чорнай памрокі ў праменні зарніцау выйдзем, Фінляндыя, чараў краіна!* Ф.

**12.** *Вобразн.* З’явіцца. *Крыж пастаўце, як ставіце ўсім, – Мае путы павесці на ім; Мае слёзы з магілы расой. Выйдуць путы з’ядаці іржой.* ЧС, 50–51.

**На выбары вышлі... Як ня выйдуць чорнасотники...**

◊**Выйсці з берагу** – разліцца (пра раку). *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды Вольнага Нёмана, у цёмную даль, Толькі ў часе глухой непагоды З берагу Нёман не выйдзе амаль.* Н. **Выйсці пабеднікам** – перамагчы. *Калі мы выйдзем у гэтым змаганьні пабеднікамі, калі вольнага народнага духу не апануе цёмная сіла*

*і ён будзе далей сягаць па арлінаму, то справа вызваленьня Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным паднявольлем.* СНБ. **Выйсці ў свет** – пасля доўгіх намаганняў дасягнуць трывалага або высокага становішча ў грамадстве. *Ці ўскрэснем мы* [беларусы] *душою, упаўшы, звяўшы, Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...* Бч, 9. **Высці з памяці** – зусім забыць. *Але вышаў ім* [чарнасотнікам] *ды з памяці Акцябра дзянёк семнадцаты..* ВЧ. **Высці родам** – паходзіць. [Янка]: *Калі ён* [Мікіта] *вышаў родам з сялян, то ніякай працы не павінен чурацца..* Т, 20. **На яго вышла** – так, як ён хацеў. [Янка]: *Дзядзька Гарошка зусім не пераблутаў. Усё роўна на яго вышла: акупанты ўцяклі, а ён застаўся.* Т, 37. **Нічога не выйдзе** – не атрымаецца, не ўдасца. [Янка]: *З гэтага нічога не выйдзе, пане вучоны. Бо абхапіць гэтае "далей" закораткі вашы пяты.* Т, 39. **У людзі высці** – з'явіцца, пашырыцца. *Песні яго* [Сулеймана Стальскага] *ў людзі Вышлі гулка, дзіўна, – Удаўся ў ашуга Голас салаўіны.* ПСС, 232.

Інф. *выйсці* (4): Ан, 19; Бч, 9; ПБН; Т, 32; *выйсьці* (3): БСУ; РКр; Ч, 321; *выйці*: БЗ. Абв. пр. адз. м. *выйшаў* (4): А, 328; Ан, 19; З; ПЧ; *вышаў* (2): Т, 20, 23. ж. *вышла* (6): ВСп, 90; Т, 42, 46, 55, 57, 59; *выйшла*: ЕЯП. н. *вышла* (5): ВСп, 91; Т, 37, 40, 44, 61; *выйшла* (3): А, 328; СНБ, 339, 340; *вышло*: СНБ. Мн. *вышлі* (11): ВБ; ВВ, 263(2); ПДз; ПСС; Т, 23, 27, 34, 38, 46, 56; *выйшлі*: ГЖУ. Буд. адз. I ас. *выйду*: Т, 23. 2 ас. *выйдзеш*: Ф. 3 ас. *выйдзе* (6); Ан, 19; ЕЯ; Мц, 75; Н; Т, 39, 54. Мн. I ас. *выйдзем*: СНБ. 3 ас. *выйдуць* (3): ВЧ; СС, 301; ЧС, 50–51.

**ВЫЙШАЎШЫ** *дзеепрысл. да* выйсці ў 1 *знач. Ён з начальствам знае дзела: Па расейску валіць сьмела; Ліжа, выйшаўшы за вёску, Ласку панскую па польску.* УР, 215.

**[ВЫКАЗАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выказаць. *У знач. вык. Наш адказ, наша* [дэлегатаў] *спачуванне да маці, страціўшай сына, наша пашана да памяці паэта-комуніста як найлепей выказаны былі т. Кальцовым..* ПЧ.

Кар. мн. Н. *выказаны*: ПЧ.

**ВЫКАЗАЦЦА** (2) *зак.* Выказаць, выкласці сваю думку, погляды. *Як "нацыяналізаваць" – калі можна так выказацца – нацыянальны беларускі гымн з паміж ужо існуючых гэтых твораў – не бяруся* [Купала] *выясьняць.* СБНГ. *Яны* [паны-абшарнікі] *добра ведаюць, што польскі сойм выказаўся проці прыватнай вялікай уласнасці на зямлю.* ЗС, 17.

Інф. *выказацца*: СБНГ. Абв. пр. адз. м. *выказаўся*: ЗС, 17.

**[ВЫКАЗВАЦЦА]** *незак.* Выяўляць свае пачуцці, адносіны да каго-н. *Гэтая сімпатыя выказвалася нам* [дэлегатам] *і шматлікай*

*публікай, якая падхоплівала прывітанні, прымала нас як любых гасцей свае краіны.* ПЧ.

Абв. пр. адз. ж. *выказвалася*: ПЧ.

**ВЫКАНАЎШЫ** *дзеепрысл. да* выканаць. Ажыццявіўшы, здзейсніўшы. *Вяртаецца яна* [чацвёрка папанінцаў] *з свайго надзвычайнага дрэйфа не толькі поўнасцю выканаўшы план навуковых работ, але і яшчэ раз давёўшы ўсяму свету, хто такія большэвікі, натхнёныя на вялікія справы вялікім Сталіным.* МП.

**[ВЫКАПАЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Капаючы, зрабіць у зямлі паглыбленне. *Дубовай кованай лапатай Глыбокі выкапалі дол, Злажылі брата ці ня брата Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.* УрП, 52.

**2.** *перан.* Адшукаць. [Гануля]: *Ну і госці! Адкуль ты* [Мікіта] *іх выкапаў? Яны ж уперад у нас не бывалі.* Т, 22.

Абв. пр. адз. м. *выканаў*: Т, 22. Мн. *выкапалі*: УрП, 32.

**[ВЫКІДАЦЦА]** *незак. перан. Разм.* Выказвацца, гаварыцца. [Спічыні]: *Ужо я вам* [Мікіту] *казаў, што тэорыя аратарскага мастацтва не любіць, каб выкідалася перад аўдыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе.* Т, 40.

Абв. пр. адз. ж. *выкідалася*: Т, 40.

**[ВЫКІДАЦЬ]** *незак. перан. Разм.* Дарэмна траціць, расходаваць. *Гэтые падвышкі канечна не павінны нас* [людзей] *пужаць, бо і палавіны ня прыдзецца нам плаціць таго лішняго, што мы выкідалі у сваім часе на гарэлку..* ВН.

Абв. пр. мн. *выкідалі*: ВН.

**[ВЫКІНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выкінуць. *перан.* Выдадзены, надрукаваны. *Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай у ніводным годзе столькі выкінута з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ, навуковых і прыгожага пісьменства.* ВСп, 89.

Кар. адз. н. Н. *выкінута*: ВСп, 89.

**ВЫКІНУЦЬ** (5) *зак. перан.* Выключыць, апусціць. *Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул калі яе цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаў, то разрэзаць напалавіну..* Нз, 14.

◊**Выкінуць лозунг (лёзунг, сцяг)** – заклікаць да чаго-н., абвясціць што-н. *Вайна і рэвалюцыя выкікула ў дабавак два лёзунгі, два ня згодные з сабой – як агонь і вада, – кірункі ў змаганьні за культурна-палітычные правы народаў і дзяржаваў.* СНБ. *..заварушыліся* [паднявольныя народы] *і выкінулі сцяг свайго самаазначэння і дзяржаўнай незалежнасці.* СНБ, 336.

Інф. *выкінуць*: Нз, 14. Абв. пр. адз. ж. *выкінула* (2); СНБ, 336; СНБ. Мн. *выкінулі* (2): СНБ, 336; Тж, 15.

**[ВЫКЛАДАЦЦА]** *незак. зал. да* выкладаць у 1 *знач. Для беларусоў праваслаўных выкладаецца рэлігія па расейску; для каталікоў – па польску.* ВР.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выкладаецца*: ВР.

**ВЫКЛАДАЦЬ** (3) *незак.* **1.** Весці навучанне. *"Істінопольскіе" дэпутаты ад нашага краю падалі ў Думу запрос, чаму ў некаторых школах, дзе вучацца каталікі-беларусы, ім выкладаюць рэлігію не па польску, а па расейску?* ВР. *Мы* [беларусы] *ніколі не заяўялі, каб нашым дзецям выкладалі рэлігію простымі словамі роднай гутаркі беларускай.* Там жа.

**2.** Ваказваць, тлумачыць. [Спічыні]: *Усякі стук мяне нэрвуе: не магу спакойна выкладаць лекцыі.* Т, 32.

Інф. *выкладаць*: Т, 32. Абв. цяп. мн. 3 ас. *выкладаюць*: ВР. Пр. мн. *выкладалі*: ВР.

**[ВЫКЛАДАЮЧЫ][1]** *дзеепрым. незал. цяп. да* выкладаць у I *знач. Тут з гэтых кніг павінны мы адмеціць "Методыку арытметыкі" Лукашэвіча і Валасковіча, якая .. павінна стацца незамененай падручнай кніжкай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арытметыку.* ВСп, 89.

Адз. м. Р. *выкладаючага*: ВСп, 89.

**ВЫКЛАДАЮЧЫ[2]** *дзеепрысл. да* выкладаць. Дастаючы што-н. адкуль-н. [Мікіта]: *(выкладаючы слоўнік). Зусім справядліва, мусье профэсар. Мы з вамі высока трымаем свае сцягі...* Т, 49.

**[ВЫКЛІКАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выклікаць у 2 *знач. Тая вялікая разруха і тое страшэннае зніштажэнне, выкліканыя вайной, найцяжэй адбіліся на нашай бацькаўшчыне, на нашым полі і на нашых сялібах.* АБ, 16.

Мн. Н. *выкліканыя*: АБ, 16.

**[ВЫКЛІКАЎШЫ]** *дзеепрым*. незал. пр. да выклікаць у 2 *знач.* [Мікіта]*: Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне, выклікаўшае часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі..* Т, 28.

Адз. н. Н. *выклікаўшае*: Т, 28.

**ВЫКЛІКАЦЬ** (4) *зак.* **1.** Паведаміць, з'явіцца куды-н. *Мая* [Купалы] *першая кніжка "Жалейка" была канфіскавана, а выдаўцу яе выклікалі ў суд.* А, 328.

**2.** *Зак. да* выклікаць. *А той "дэмократызм", які пускаецца у дзело цяпер, нічога іншага выклікаць ня можа, апрача нацыянальнай рэволюцыі.* ДК.

**3.** Выказаць. *Успомні, выклічы родныя ўсе загаворы І зводзь імі прыблудаў заломы, Што ляглі на твае крывасейна разоры, Што страчаем за домам і дома.* Ч, 323.

**4.** *перан.* Вярнуць. *Былых не выклічаш вякоў І ты, Масквы*

*кароннай гразь, Парваных не скуеш акоў, З якой брахнёю нi вылазь!* АПЖ.

Iнф. *выклiкаць*: ДК. Абв. пр. мн. *выклiкалi*: А, 328. Буд. адз. 2 ас. *выклiчаш*: АПЖ. Заг. адз. 2 ас. *выклiчы*: Ч, 323.

**[ВЫКЛIКА́ЦЬ]** (2) *незак.* Быць прычынай узнiкнення чаго-н. *Гэта дэмакратычная камэдыя, каторая толькi выклiкае ня сьмех, а горкiе сьлёзы, бо чынiцца над жывым, змучаным, абяздоленым народам.* ДК. *Незалежная Польшча, Лiтва, Украiна, Латвiя i г.д. – усе яны маюць на гэта, .. i незалежнасць гэтых дзяржаваў не выклiкае нiякiх вялiкiх спрэчак.* Нз, 14. *Параўн.* вызываць.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выклiкае* (2): ДК; Нз, 14.

**ВЫКЛЮЧНЫ** *прым.* Асаблiвы, незвычайны; рэдкi. [Мiкiта]: *Медждy протчым, мамаша, я ўважаю, што, апрача ўсяго iншага, сягоння ў дабавак нейкi выключны дзень, i вам нiякай гандлёвай "здзелкi", бадай, не ўдасца ўжо правесцi.* Т, 34.

Адз. м. Н. *выключны*: Т, 34.

**[ВЫКРУЦIЦЬ]** *зак.:* ◊**Якi яго нячысцiк выкруцiў** – куды ён дзеўся, знiк. [Мiкiта]: *Дзе той Спiчынi? Якi яго нячысцiк выкруцiў у гэтую небяспечную для мяне хвiлiну?* Т, 32.

Абв. пр. адз. м. *выкруцiў*: Т, 32.

**[ВЫКРЫЦЬ]** *зак.* Знайсцi, выявiць каго-н. *Слава нашаму Ежову,.. Што трацкiстаў азвярэлых Выкрыў i знiштожыў.* НК.

Абв. пр. адз. м. *выкрыў*: НК.

**ВЫКУРВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* выкурваць. *перан.* Выжываючы, прымушаючы здацца. *Жалезнай рукой вы* [Ежоў] *грамiлi i грамiце змяiныя гнёзды трацкiсцкай, бухарынскай i нацыяналфашысцкай контррэволюцыi, выкурваючы ворагаў з усiх гнёзд.* НКУС.

**ВЫКУЦЬ** *зак. Разм.* Выкаваць. *Можаш з сэрца свайго молат выкуць, Толькi ўдарыць ня сьмей iм, а сьмейся!* См, 90.

Iнф. *выкуць*: См, 90.

**[ВЫЛАЖЫЦЬ]** *зак. перан.* Выказаць, расказаць, паведамiць. *Вось калi прыдуць* [вызваленцы], *калi iх пабачу, Вылажу праўду я* [дзед] *ўсю перад iмi...* Д, 72.

Абв. буд. адз. I ас. *вылажу*: Д, 72.

**ВЫЛАЗIЦЬ** (5) *незак.* **1.** Узнiмацца, з'яўляцца. *Вылазе з цемры бледны звод. Глядзiць сьлiўнём на долы, горы, I тут i там пускае ў ход Свае нямые загаворы.* Кц, 192.

**2.** *перан.* Выступаць. *Былых не выклiчаш вякоў I ты, Масквы кароннай гразь, Парваных не скуеш акоў, З якой брахнёю нi вылазь!* АПЖ.

◊**Бокам вылазiць** – не праходзiць дарэмна для каго-н; адплацiцца. [Немец]: *Заўсёды генэралы кажуць, што яны не генэралы,*

*калі іхнае генэральства пачынае ім самім бокам вылазіць.* Т, 33. *З гэтага мы бачым, .. што залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылезе.* Нз, 15. **З гора не вылазіць** – бедаваць, гараваць увесь час. *У сваім ауле з гора не вылазіў* [Сулейман Стальскі], *У бядняцкай саклі шчасце не гасіла.* ПСС, 231.

Інф. *вылазіць* Т, 33. Абв. цяп. адз. 3 ас. *вылазе* (2): Кц, 192; Нз, 15. Пр. адз. м. *вылазіў*: ПСС, 231. Заг. адз. 2 ас. *вылазь*: АПЖ.

**ВЫЛАЗЯЧЫ** *дзеепрысл. да* вылазіць. Выбіраючыся адкуль-н. [Мікіта]: *(вылазячы з укрыцця, да Чырвонаармейца). А, папаўся, меджду протчым, нарэшце?* Т, 52.

**ВЫЛАТВІЦЬ** *зак. Польск.* Выбегаць; выпрасіць. [Мікіта]: *Гэты, меджду протчым, рэдактар Гізульскі, што жыў да апошняга часу ў нашай кватэры, абяцаў мне вылатвіць "пшэпустку" на выезд, але падашукаў.* Т, 55.

Інф. *вылатвіць*: Т, 55.

**[ВЫЛЕЗЦІ]** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* вылазіць у 1 *знач. Сабою самі ўстаць з руін Вам* [бальшавікам] *не хапіла смагі, сіл, І вось к вам вылез цень з магіл: Крывавы грош і "гаспадзін", А іх закон адзін, адзін.* ПВ.

**2.** *Разм.* Выйсці адкуль-н. [Гарошка]: *Вылез* [Юрка] *на вуліцу і давай з іншымі на чым свет шумець і крычаць "Зямлі і волі!"* Т, 44.

Абв. пр. адз. м. *вылез* (2): ПВ; Т, 44.

**ВЫЛЕЗШЫ** *дзеепрысл. да* вылезці ў.. 2 *знач.* [Спраўнік]: *(вылезшы з іншымі з укрыцця). Зусім справядліва! Забірайце яго* [Чырвонаармейца] *ў палон!* Т, 52.

**[ВЫЛЕЦЕЦЬ]** (2) *зак.*: ◊**Вылецець гарматняй куляй** – імкліва выбегчы адкуль-н. *Я прыкінуўся, што не чую, бо якраз дробных* [грошай] *пры сабе тады не меў, і вылецеў гарматняй куляй з рэдакцыі.* Ан, 19. **Вылецець у трубу** – разарыцца ўшчэнт; застацца ні з чым. [Янка]: *Але і пры змененых сытуацыях каб вы* [Мікіта] *толькі з сваім асэсарствам і з гэтай мамзэляй не вылецелі ў трубу.* Т, 23.

Абв. пр. адз. м. *вылецеў*: Ан, 19. Мн. *вылецелі*: Т, 23.

**[ВЫЛЕЧЫЦЦА]** *зак. перан.* Набрацца сіл, узмацніцца. *Цяпер, кажуць, Пангерманія будзе замяняць Антанту, пакуль яна вылечыцца.* Ан, 19.

Абв. буд. адз. 3 ас. *вылечыцца*: Ан, 19.

**[ВЫЛІЦЦА]** *зак. перан.* Праявіцца. *Тое, што рабілася ў нас* [беларусаў] *адкрыта ў годы да рэвалюцыі 1917 году, вылілася шырокай хваляй пасля гэтае рэвалюцыі.* МІ, 17.

Абв. пр. адз. н. *вылілася*: МІ, 17.

**ВЫЛІЦЬ** *зак. перан.* Выказаць што-н., даць выйсце якім-н. пацуццям. *I я* [Купала] *ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай рэспублікі.* ЖН.

Інф. *выліць*: ЖН.

**[ВЫЛУЧАЦЦА]** *незак.* Вызначацца чым-н. сярод іншых. *Вылучаюцца па сваёй тэхнічнай дасканаласці заводы Шкоды, Вітковіцкія, "абутковы горад" Баці ў Зліне.* ПЧ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *вылучаюцца*: ПЧ.

**ВЫЛУЧАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* вылучаць. Рэкамендуючы, прапануючы на больш адказную работу. *Вылучаючы Вас, таварыш Ежоў, кандыдатам у Вярхоўны Совет СССР, мы* [выбаршчыкі] *просім даць сваю згоду балатыравацца па Менскай выбарчай акрузе.* НКУС.

**[ВЫЛУЧЫЦЬ]** *зак.* Рэкамендаваць, прапанаваць на больш адказную работу. *Агульны сход пісьменнікаў і супрацоўнікаў праўлення ССП БССР, сабраўшыся на свой передвыбарчы сход, аднагалосна вылучыў сваім кандыдатам у Вярхоўны Совет Саюза ССР Вас, Нікалай Іванавіч..* НКУС.

Абв. пр. адз. м. *вылучыў*: НКУС.

**[ВЫМАГАЦЦА]** *незак. У безас. знач. Разм.* Патрабавацца. [Мікіта]: *..у вас* [Ганулі] *не хапае нават чуткай кемнасці ў гандлёва-прамысловых справах, дзе вымагаецца ад прадаўца пэўнай веды ў пазнаванні душы купляючага і яго грамадзянскага і сацыяльнага становішча.* Т, 34.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вымагаецца*: Т, 34.

**ВЫМАГАЦЬ** (6) *незак.* Патрабаваць. *Хіба можна вымагаць, каб турэцкі янычар падаў голас за хрысьціяніна, калі яго навучылі ненавідзець хрысьціянства?* ДК. *Само жыццё гэтага вымагае, вымагае гэтага самаабарона. Войска беларускае павінна быць, і яно будзе.* БВ, 16.

Інф. *вымагаць*: ДК. Абв. цяп. адз. 3 ас. *вымагае* (3): БВ, 16(2); ОШМ. Мн. 3 ас. *вымагаюць*:СНБ, 340. Пр. адз. н. *вымагала*: Т, 48.

**[ВЫМАЎЛЯЦЬ]** *незак.* Гаварыць, казаць. *Назіральнік сядзеў на кашлатай яліне і вымаўляў незвычайныя для баявой абстаноўкі словы: – У клетачку... у палоску...* ПСп.

Абв. пр. адз. м. *вымаўляў*: ПСп.

**[ВЫМАЦЬ]** *незак.* Даставаць што-н. адкуль-н. *Вымае* [Мікіта] *з кошыка, то стаўляе назад бутэлькі.* Т, 58.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вымае*: Т, 58.

**[ВЫМЕРАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* вымераць. Дакладна вызначаны. *Як вымераны ўтоптаныя сьцежкі! Бо дарага яйцо к хрыстосаваму дню, Бліны к калядам, к сёмусе адежка, Ды тое,*

*што хаціна ўстала на краю.* ВБЛ, 81.

Кар. мн. Н. *вызначаны*: ВБЛ, 81.

**[ВЫМІРАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. ад* вымірацъ. Які аджывае без нашчадкаў. *Палякі мелі магчымасьці перарабляць беларусаў на палякоў цэлыя трыста год з лішкаю і нічога ня ускуралі, калі ня лічыць пары сотак старога выміраючага шляхецтва.* ДК.

Адз. н. Р. *выміраючага*:ДК.

**ВЫМОВА** *ж. Польск. перан.* Вымаўленне. *На зробленую увагу, што яго вымова нарушае прыказ вышэйшай улады, подлуг каторага беларуская мова ўжываецца нараўне з польскай, –ураднік адказаў, што ён не разумее беларускай мовы..* ОШМ.

Адз. Н. *вымова*: ОШМ.

**[ВЫМУЧЫЦЬ]** *зак. перан.* Выдаць што-н. з вялікімі намаганнямі. *З іншых выдавецтваў прыходзіцца ўспомніць Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва – "Госиздат", якое за ўвесь год вымучыла дзьве кніжачкі – абедзве разам 6 $^{3}/_{8}$ друк. арк.* ВСн, 91.

Абв. пр. адз. н. *вымучыла*: ВСн, 91.

**[ВЫМУШАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* вымусіць. *У знач. вык.* Прымушаны. *З Петраграда зноў пераехаў* [Купала] *у Вільню, дзе прыйшлося рэдагаваць "Нашу ніву". У 1915 годзе вымушан быў эвакуіравацъ у Маскву.* А, 328.

Кар. адз. м. Н. *вымушан*: А, 328.

**[ВЫМЯРАЦЬ]** *незак. перан.* Вызначаць. *Воляй бязмернай гадуеш* [Сталін] *мільёны, Да сонца шляхі вымяраеш.* СС, 301.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *вымяраеш*: СС, 301.

**[ВЫНАШАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* вынасіць. *У знач. прым.* Зношаны. *Уваходзіць Мікіта ў вынашанай і палатанай "зашчытнага" колеру вопратцы, цягнучы за сабой каламажку..* Т, 45.

Адз. ж. М. *вынашанай*: Т, 45.

**[ВЫНЕСЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* вынесці: ◊**Вынесены на сваёй скуры** – перажыты асабіста. *З гэтага мы бачым, бачым з практыкі, вынесенай на сваёй скуры, што залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылазе.* Нз, 15.

Адз. ж. Р. *вынесенай*: Нз, 15.

**[ВЫНЕСЦІ]** (3) і **ВЫНЕСЬЦІ** (2) *зак. перан.* Перадаць, захаваць. *Нам* [беларусам] *даюць наш сьцяг у рукі і гэты сьцяг мы павінны з трыумфам вынесьці на жыватворнае сьвятло будучыні, вынесьці з гордасьцю, з гонарам і славай, – сьцяг не абы-які, а свой, беларускі.* БСУ.

◊**Вынесці на сваіх плячах** (4) – вытрымаць на сабе ўвесь цяжар чаго-н. *І калі цяпер, хоць ваенны віхор бушуе, асабліва на*

*ўсходзе Еўропы, шмат якія дзяржавы, перайшоўшыя на мірнае жыцьцё, прыступілі к адбудове ваенных руін, – у нашым краю, каторы найбольш вынес на сваіх плячах буру сусветнай вайны, нічога аб гэтым не чуваць..* АБ, 16. *Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай, бо яны на сваіх плячах вынеслі чужы здзек і паніжэнне.* НДН, 18.

Інф. *вынесьці* (2): БСУ (2). Абв. пр. адз. м. *вынес*: АБ, 16. н. *вынесла*: Т, 61. Мн. *вынеслі*: НДН, 18.

**ВЫНІК** (3) *м.* Плён, здабытак чаго-н. [Мікіта]: *Гэта, пане прафэсар, ёсць вынік майго апошняга, меджду протчым, служ-бовага становішча.* Т, 48. *Упартая, але радасная праца працоў-нага народу маёй бацькаўшчыны ў саюзе з усімі брацкімі рэс-публікамі дала вынікі незвычайныя.* ЖН. *Параўн.* рэзультат.

Адз. Н. *вынік* (2): ВСп, 91; Т, 48. Мн. В. *вынікі*: ЖН.

**ВЫНІШЧЫЦЬ** (2) *зак.* Знішчыць. *Гандляры айчынай Па чужым заказу... Вынішчыць дашчэнту Гэтую заразу!* МПв, 218. *Смерць крывапійцам, раз'юшаным гадам, Вынішчыць след іх сабачы.* СЗГ, 252.

Інф. *вынішчыць* (2); МПв, 218; СЗГ, 252.

**[ВЫНОСІЦЬ]** (2) *незак.* Заносіць, пераносіць што-н. куды-н. *Госці ў парваных верхніх вопратках, якія Мікіта знімае і выносіць у другі пакой.* Т, 24. [Мікіта]: *(.. да Ганулі). Выносьце першым чынам начоўкі з бялізнай, а я, меджду протчым, вытарабаню каламажку.* Там жа, 50.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выносіць*: Т, 24. Заг. мн. 2 ас. *выносьце*: Т, 50.

**[ВЫНЫРНУЦЬ]** (2) *зак. перан.* Раптоўна з'явіцца. *Цяпер другі кліч вынырнуў з балота паўстаючай рэакцыі, кліч "Дзяры, з каго можаш і сколькі можаш, душы слабейшага, пакуль яму звязаны рукі і ногі!"* ЗС, 17.

◊**Вынырнуць на добрую дарогу** – знайсці свае месца, правіль-ны шлях ў жыцці. *Ён* [рэдактар] *прачытаў, даў 3 рублі і 27 капеек задатку і сказаў: – Здаецца, ты, хлопец, на добрую дарогу вынырнуў.* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *вынырнуў* (2): Ан, 19; ЗС, 17.

**ВЫНЯЎШЫ** *дзеепрысл. да* выняць. Дастаўшы што-н. адкуль-н. [Гарошка]: *(выняўшы люльку з зубоў). Цьфу! Няма на іх* [гасцей] *доўгай пугі!* Т, 29.

**[ВЫНЯЦЬ]** *зак.:* ◊**Выняць душу** – знясіліць, змучыць мараль-на. *Ха-ха-ха-ха! Душу сваю выні, Палажы на далонь і надзейся, Што паверацъ табе..* См, 91.

Заг. адз. 2 ас. *выні*: См, 91.

**ВЫПАДАК** (5) *м.* Здарэнне, факт, з'ява. *Вось які выпадак*

*здарыўся гэтымі днямі ў партызанскім атрадзе Сцяпана З. з Падлесся.* ПСп. *Але на гэты раз нас цікавяць ня так самыя выпадкі нарушэньня дробнымі ураднікамі распараджэньняў свайго вышэйшага начальства, як гэтых выпадкаў афарбоўка, або, лепш сказаць, апраўданьні.* ОШМ.

Адз. Н. *выпадак*: ПСп. Р. *выпадку*: ПЧ. Мн. Н. *выпадкі*: ОШМ. Р. *выпадку* (2): ОШМ (2).

**[ВЫПАДАЦЬ]** *незак.*: ◊**Не выпадае** – нельга, непрыстойна. [Гануля]: *Яно ж і наракаць на яго роднай маці гэтак не выпадае, але падчас, як прыдзе нешта нейкае, дык і гаворыш, і гаворыш; спачатку палягчэе на сэрцы, а пасля і шкадуеш.* Т, 20.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выпадае*: Т, 20.

**[ВЫПАСЦІ]** (2) *зак.* **1.** Выдацца. [Мікіта]: *Нешчаслівым для гандлю і мне сягонешні дзень выпаў.* Т, 34.

**2.** *Вобразн.* Застацца незавершаным (пра справу, ідэю). *І ворагам за смерць адплацім грознай смерцю, Вышэй падымем сцяг, што выпаў з слаўных рук.* СК, 158.

Абв. пр. адз. м. *выпаў* (2): СК, 158; Т, 34.

**[ВЫПАЎНІЦЬ]** *зак.* Выканаць. *Беларускае в-ва за граніцай на чале з т. Жылуновічам (Цішка Гартны) выпаўніла сваё заданьне як найлепш.* ВСп, 91.

Абв. пр. адз. н. *выпаўніла*: ВСп, 91.

**ВЫПАЎНЯЦЬ** (2) *незак. Разм.* Выконваць. [Мікіта]: *Хоць, можа, я гэтак рызыкую нават сваёй, меджду протчым, пэрсонай, але місію сваю мушу стойка выпаўняць.* Т, 38. [Спічыні]: *Я толькі выпаўняю сваю місію, як і вы, мусье Зносілов, сваю місію.* Там жа, 49.

Інф. *выпаўняць*: Т, 38. Абв. цяп. адз. I ас. *выпаўняю*: Т, 49.

**[ВЫПІВАЦЬ]** (2) *незак.* Піць спіртное. [Мікіта]: *Мамзэль Наста была ў тэй самай кампаніі, дзе выпівалі, і бачыла, што я начальнікавы рэчы ўсе там складаў.* Т, 60. [Мікіта]: *Там у нумары, куды я зносіў рэчы, сядзелі нейкія маладыя, меджду протчым, мусьі ў форме і нейкія маладыя, меджду протчым, мамзэлі без формы ды выпівалі пазнанскі лікёр.* Там жа.

Абв. пр. мн. *выпівалі* (2): Т, 60(2).

**[ВЫПІСАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выпісаць. *У знач. вык.* Запісаны. *Няхай жыве культура, зьмест і форма якое выпісаны на ленінскім сьцягу найвялікшым сучасным правадыром пролетарыяту т. Сталіным, – культура – пролетарская па сваім зьмесце, нацыянальная па форме!* АЛ.

Кар. мн. Н. *выпісаны*: АЛ.

**ВЫПІЦЬ** *зак. да* выпіваць. [Спраўнік]: *Мы ўжо паспелі не толькі закусіць, але й выпіць крыху.* Т, 51.

Інф. *выпіць*: Т, 51.

**[ВЫПЛАЧЫВАЦЬ]** *незак.* Разлічвацца, плаціць. *I разумеіцца чым ён* [уласнік] *больш мае – напр. дзесяцін зямлі – тым болей і выплачывае.* ВН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выплачывае*: ВН.

**ВЫПРАВІЦЬ**[1] *зак. перан.* Унесці папраўкі; паправіць. *Памылкі свае, такія ці іншыя, я* [Купала] *збіраўся выправіць, але не паспеў.* СЧ.

Інф. *выправіць*: СЧ.

**[ВЫПРАВІЦЬ]**[2] *зак. да* выпраўляць у 1 *знач. Дык вось жалейкі вы* [людзі] *бярэце, Ў дванаццаць мейсц кладзеце сьлед; Дванаццаць ветраў сустракнеце, Дванаццаць выправіце ў сьвет!* УрП, 50.

Заг. мн. 2 ас. *выправіце:* УрП, 50.

**ВЫПРАСТАЦЬ** *зак.:* ◊**Выпрастаць душу** – стаць свабодным. *Пакрыўленыя калісь нашы душы Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ; Снуёмся, ў думках зводных затануўшы, А хтось, а штось і мучыць і пячэ.* Бч, 9.

Інф. *выпрастаць*: Бч, 9.

**ВЫПРАЎЛЕНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* выправіць. *У знач. вык. Верш, змешчаны ў зборніку, мной* [Купалам] *выпраўлены.* СЧ.

Адз. м. Н. *выпраўлены*: СЧ.

**ВЫПРАЎЛЯЦЬ** (3) *незак.* **1.** Адпраўляць, збіраць і праводзіць каго-н. куды-н. *Сына маці выпраўляла, Крыж на памяць дала. Каб матулю родну помніў, Як паедзе з сяла.* ПСД. *Выпраўляй* [маці] *яго* [сына] *у людзі, На дарогу благаславі, Разам з крыжам дай на грудзі Роднай вузельчык зямлі..* М, 20.

**2.** *перан.* Пасылаць, распаўсюджваць. *На небе зоры ўжо мігцяць, На полі срэбны сьнег іскрыцца; На бел-сьвет дзівы выпраўляць Пляцецца ночка-чараўніца.* Кц, 192.

Інф. *выпраўляць:* Кц, 192. Абв. пр. адз. ж. *выпраўляла*: ПСД. Заг. адз. 2 ас. *выпраўляй*: М, 20

**[ВЫПРАШВАЦЬ]** *незак. Разм.* Выпрошваць. *Пойдзе ён* [Пасляк] *у поле араць, або паедзе на начлег, я* [Купала] *заўсёды з ім і заўсёды выпрашваю ў яго казкі.* ПС.

Абв. цяп. адз. I ас. *выпрашваю*: ПС.

**ВЫПУСК** (2) *м.* Выданне. *№ 17, гэта – першы выпуск Інстытуту Беларускае Культуры: Беларуская навуковая тэрмінолёгія: Элементарная матэматыка.* ВСп, 89. *У шасьці надрукаваных за мінулы год выпусках "Вестник" удзяліў 186 старонак для беларускага пісьменства.* Там жа, 90.

Адз. Н. *выпуск*: ВСп, 89. Мн. М. *выпусках*: ВСп, 90.

**ВЫПУСКАЦЬ** *незак. перан.* Пасылаць, накіроўваць, адпраўляць.

*Не вам, інтэрвенты, Шпегі, дыверсанты, На прыстані нашы Выпускаць дэсанты.* МПв, 219.

Інф. *выпускаць*: МПв, 219.

**[ВЫПУСЦІЦЬ]** (2) і **[ВЫПУСЬЦІЦЬ]** *зак. перан.* Выдаць, надрукаваць. *Прасіў бы* [Купала] *вырваць гэты верш І кніжку выпусціць.* СЧ. *Адзін толькі Беларускі Дзяржаўны Універсітэт а ніяк ня можа адважыцца на беларушчыну: выпусьціў за мінулы год два ёмкія сшыткі сваіх "Трудов", але пабеларуску ў іх ні слова*. ВСп, 90.

◊**Выпусціць з рук** – упусціць, не выкарыстаць у сваіх мэтах. *Свайго самалёта днём, ночкай Не выпусцім, лётчык, мы з рук. Берліну заглянем у вочы, Ў крывавыя вочы гадзюк.* ХЛВ, 315.

Інф. *выпусціць:* СЧ. Абв. пр. адз. м. *выпусьціў*: ВСп, 90. Буд. мн. I ас. *выпусцім*: ХЛВ, 315.

**ВЫПУТАЦЦА** *зак. перан. Разм.* Выйсці з цяжкага становішча. [Мікіта]: *Аратар, маючы кожны раз напагатове адшліфаваны практыкай язык, заўсёды патрапіць выпутацца з бяды.* Т, 36.

Інф. *выпутацца:* Т, 36.

**[ВЫПУТАЦЬ]** *зак. перан. Разм.* Вызваліць каго-н. з цяжкага становішча. [Гануля]: *Але, на шчасце, заступілася мамзэль Наста і сяк-так выпутала* [Мікіту] *з гэтай бяды.* Т, 46.

Абв. пр. адз. ж. *выпутала*: Т, 46.

**[ВЫПЫКАЦЬ]** *зак. Разм.* Выкурыць, скурыць. [Аленка]: *Тузін – не тузін, а штук з сем* [люлек] *то пэўна ж татка выпыкаў.* Т, 44.

Абв. пр. адз. м. *выпыкаў*: Т, 44.

**[ВЫРАБ]** (2) *м.* Прадукт працы, вырабляемыя рэчы. *Сеюць* [сяляне Чэхаславакіі] *пераважна хмель і ячмень для вырабу славутага пільзенскага піва.* ПЧ. *Каханне хлапца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюць набыць чаравікі бацяўскага вырабу...* Там жа.

Адз. Р. *вырабу* (2): ПЧ (2).

**[ВЫРАДАК]** *м.* Вылюдак; нікчэмны чалавек. *Нашу дзівосную Совецкую Беларусь, расквітнеўшую пасля доўгіх стагоддзяў рабства і нацыянальнага прыгнечання, трацкісцкія выродкі хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызма.* ВНЗ.

Мн. Н. *вырадкі*: ВНЗ.

**[ВЫРАЖАЦЬ]** *незак.* Прадракаць, прадказваць. *..варажбіты-вешчуны, старцы мудрыя і ў законах веры дасведчанне маючыя, старых багоў трымаліся і народу свайму за яго такую нястрыманую памаўлівасць нядобрыя варожбы выражалі.* Кз, 17.

Абв. пр. мн. *выражалі:* Кз, 17.

**ВЫРАЖАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* выражацца. *Руск.* Выказваючыся. [Спраўнік]: *Выражаючыся на сучасны лад, бяру сабе*

*слова і ўнашу пропозыцыю пакіцуць спрэчкі і без рэзолюцыі пайсці дамоў.* Т, 29.

**[ВЫРАЗ]** *м.* Слова, моўны зварот. [Мікіта]: *Вось, калі хто з іх* [гасцей] *звернецца да вас* [Ганулі] *з якім словам, то вы старайцеся адказваць у нос і меней ужывайце простых выразаў.* Т, 22.

Мн. Р. *выразаў:* Т, 22.

**[ВЫРАЗАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выразаць. *У знач. вык.* Адрэзаны. *..уваходзяць і спатыкаюцца з ім* [Мікітам] *на парозе: Начальнік патруля, Двух патрульных, Грамадзянін, у якога выразана кусок бароды, і Спічыні.* Т, 59.

Кар. адз. н. Н. *выразана:* Т, 59.

**[ВЫРАЗАЦЬ]** *незак*. Выракляць што-н. разьбой. *Сеў Данілка, выразае Коніка з бярозкі, Адно бліскаюць у вочках Радасныя слёзкі.* Вб, 238.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выразае*: Вб, 238.

**[ВЫРАЗНЫ]** *прым.:* ◊**Выразнай ніткай "шчасця" праходзіць** *гл.* **праходзіць**.

Адз. ж. Т. *выразнай*: ПЧ.

**[ВЫРАЙ]** *м.* Чарада пералётных птушак. *З надзеяй сустрачаем* [беларусы] *выраі вясной, З надзеяй увосень іх праводзім над папарам.* НГ.

Мн. В. *выраі*: НГ.

**ВЫРАКАЦЦА** (2) *незак*. Адмаўляцца, не прызнаваць сваім. *Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую.* Нз, 14. *Чаму ня вызнавалі* [беларусы] *імя яго* [народу] *прылюдна і выракаліся роду свайго дзеля суседзяў?* ВМР.

Інф. *выракацца*: Нз, 14. Абв. пр. мн. *выракаліся*: ВМР.

**[ВЫРАСТАЦЬ]** (2) *незак. перан.* Узнікаць, з'яўляцца. *На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навуковыя і навучальныя ўстановы.* АЛ. // Будавацца. *На месцы некалі гнілых, дрыгвяных балот вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцні.* Так жа.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *вырастаюць* (2): АЛ (2).

**[ВЫРАСЦІ]** (9) і **[ВЫРАСЬЦІ]** (2) *зак.* **1.** Стаць большым, падрасці. [Аленка]: *І вы гэта, пане рэгістратар, так да сэрца ўзялі, што ажно барада ў вас вырасла, бо дагэтуль, здаецца, вы не насілі яе?* Т, 55. *Над калыскай з бегам ночак Песьні роднай не жалей* [маці], *каб, як вырасьце сыночак, Верным вечна ён быў ей.* М, 19. // Развіцца. *Мы* [беларусы] *ўжо ня тыя, – інакшыя думы Вырасьлі з намі, завуць к барацьбе.* Г, 17.

**2.** *Зак. да* вырастаць. *Вырасла і далей бурна расце індустрыяльна-калгасная Беларусь!* ШБСЯ. *..там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый – рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на былых пустырах светлыя гіганты-заводы.* Там жа.

Абв. пр. адз. м. *вырас* (2): Мц, 74(2). ж. *вырасла* (4): Т, 55(2); ШБСЯ (2), Мн. *выраслі* (3): ПБН; ШБСЯ (2); *вырасьлі*: Г, 17. Буд. адз. 3 ас. *вырасьце*: М, 19.

**[ВЫРАТАВАЦЬ]** *зак.* Дапамагчы каму-н. пазбегнуць чаго-н.; уберагчы ад чаго-н. *І калі ня хочам* [беларусы] *загінуць, калі ня хочам быць вечнымі рабамі, – павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі.* БС.

Абв. буд. адз. 3 ас. *выратуе*: БС.

**[ВЫРАШАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* вырашыць. *У знач. вык.* Здзейснена, выканана. *Такім чынам, зважаючы на сказанае, справа беларускага гымну павінна вырашана, І як найхутчэй.* СБНГ.

Кар. адз. ж. Н. *вырашана*: СБНГ.

**[ВЫРАШЫЦЬ]** *зак.* Рашыць, знайсці адказ на што-н. *Яны* [паны-абшарнікі] *не чакаюць варункаў нармальных, варункаў грамадзянска-палітычнага жыцця ў краю, калі закон і права народныя вырашаць усе балючыя пытанні, пакінутыя нам у спадчыну маскоўскім царызмам і ўсясветнай вайной, а з тым разам і пытанне аб зямлі.* ЗС, 17.

Абв. буд. мн. 3 ас. *вырашаць*: ЗС, 17.

**[ВЫРВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* вырваць. *перан.* Вызвалены. *..няволеная сотню год Польшча адважна узялася за дзяржаўнае незалежнае жыцьцё, – рукою яе цяперашняга Гаспадара Язэпа Пілсудзкага вырвана ад маскалёў Вільня і збуджаны к жыцьцю, спаўшый доўгіе годы Бatoраўскі Унівэрсытэт.* УПУВ.

Кар. адз. ж. Н. *вырвана*: УПУВ.

**[ВЫРВАЦЦА]** (2) *зак. перан.* Вызваліцца, выратавацца. *Гэты рух паказвае, што чалавек усур'ёз і назаўсёды падначальвае сабе прыроду, але той чалавек, які вырваўся з нядолі і ланцугоў старога ладу і разгарнуў арліныя крыллі вызваленчай працы.* СТ.

◊**Вырвацца з нябыцця** – стаць вядомым. *Ёсць жа яшчэ ў мяне песен, Поўных надзеі, жыцця, – Як бы не быў ім свет цесен, Вырвуцца ў свет з нябыцця.* ЁЯ.

Абв. пр. м. *вырваўся*: СТ. Буд. мн. 3 ас. *вырвуцца*: ЁЯ.

**ВЫРВАЦЬ** (3) *зак.* **1.** Адарваць, выдраць. *Прасіў бы* [Купала] *вырваць гэты верш і кніжку выпусціць.* СЧ.

**2.** *перан.* Пазбавіцца чаго-н. *Разарваў-бы, здаецца, я грудзі свае, Сэрца-б вырваў і кінуу на ўцеху ўрагом...* БН, 91.

◊**Вырваць з душы** – прымусіць каго-н. забыць што-н. *Так камень не ляжа, як змора падання лягла ад мяжы да мяжы З надзеяй, што нават і думку змагання "Забраны край" вырве з душы.* ЗК, 43.

Інф. *вырваць*: СЧ. Абв. пр. адз. м. *вырваў*: БН, 91. Буд. адз. 3 ас. *вырве*: ЗК, 43.

**[ВЫРЫВАЦЦА]** *незак. перан.* З'яўляцца. *Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя, тварымай партыяй і пролетарыятам эпосе!* ЖН.

Абв. пр. мн. *вырываліся*: ЖН.

**[ВЫРЫВАЦЬ]** *незак.* Высмыкаць, выцягваць. *Вырывай з сябе жылу па жыле, Ві ў вяроўку, ў пятлю і павесься, І пакуль у зямлю не зарылі, Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі, – На сваіх вісі жылах і сьмейся!* См, 91.

Заг. адз. 2 ас. *вырывай*: См, 91.

**[ВЫСАХНУЦЬ]** *зак.:* ◊**Высахцуць на шчэпку** – вельмі схуднець. *Грудзі смактаў мне паніч недапечны, Высахла там я* [маці] *на шчэпку, як мара, Сынам, як кажуць, маім быў ён млечным, – Хай бы магілу лепш гэткі сын парыў.* Мц, 74.

Абв. пр. адз. ж. *высахла*: Мц, 74.

**[ВЫСВЕТЛЁНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* высветліць. *Польск. У знач. вык.* Высветлены. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік уперамежку з Усходнім вучоным). Падчас баданя тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39. [Заходні вучоны] *(запісваючы): Пшы баданю бялорусіна высветлёно надзвычайнон особлівосць..* Там жа, 26.

Адз. н. Т. *высветлёным*: Т, 39. Кар. адз. н. Н. *высветлёно*: Т, 26.

**[ВЫСІЛАК]** *м. Польск.* Напружанне, намаганне. *Мы ведаем, што вайна, якая-б яна не была, патрабуе шмат ахвяр, шмат высілкоў маральных і матэр'яльных.* ВС.

Мн. Р. *высілкоў*: ВС.

**[ВЫСЛАЦЬ]** *зак. перан.* Накіраваць, паслаць. *Зірнеце* [богі] *міласьцяй сваею, Ўсе моцы вышлеце на бой, Хай распапеляць зла навею Над упадаўшай старанoй. УрП, 48.*

Заг. мн. 2 ас. *вышлеце*: УрП, 48.

**[ВЫСЛУХАЦЬ]** (4) *зак.* Уважліва паслухаць, успрыняць сказанае. *Брат другі яе* [судзьбіны] *мудрыя выслухаў рэчы: – Ня туды цэлы век пёрся здуру..* Ч, 323. *Мы* [дэлегаты] *з вялікай чуласцю выслухалі яе* [маці] *апавяданне пра вялікую любоў яе сына да Леніна, да краіны Леніна.* ПЧ.

Абв. пр. адз. м. *выслухаў*: Ч, 323. Мн. *выслухалі*: ПЧ. Буд. мн. 3 ас. *выслухаюць*: Бц, 74. Заг. мн. 2 ас. *выслухайце*: Т, 40.

**[ВЫСМАКТАЦЬ]** *зак.:* ◊**Высмактаць з сэрца сок** – знясіліць, замарыць. *Нявольніцтва й жабрацтва так нас* [беларусаў] *з'ела І так нам высмактала з сэрца сок, Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела Не смеем, стоптаныя на пясок.* Бч, 9.

Абв. пр. адз. н. *высмактала*: Бч, 9.

**[ВЫСМАЛІЦЬ]** *зак.:* ◊**Вочы высмаліць** – асляпіць. *Звярнуся к сонцу, ..Хай вочы высмаліць, як кветку ў лільі слабай, Але і крыж мой спапяліць хай папарадку!* СМ.

Абв. буд. адз. 3 ас. *высмаліць*: СМ.

**[ВЫСМЯВАЦЬ]** *незак. Разм.* Абсмейваць, выстаўляць у смешным выглядзе. *Гналі, высмявалі багачы і князі, – Яго* [Сулеймана Стальскага] *песні-думы былі ім не мілы.* ПСС, 231.

Абв. пр. мн. *высмявалі*: ПСС, 231.

**[ВЫСНІЦЬ]** *зак. Наватв.* Сасніць; здзейсніць. *Высніў ты* [Сталін] *волю і долю народам, Вярнуў чалавечую славу. Сэрца, вялікае сэрца заўсёды Вялікія творыць праявы.* СС, 301.

Абв. пр. адз. м. *высніў*: СС, 301.

**ВЫСОКА** (3) *прысл.:* ◊**Высока трымаць свой сцяг** *гл.* трымаць. **З высока паднятай галавой** *гл.* галава. Нз, 14; Т, 49; ШБСЯ.

**[ВЫСОКАДАСТОЙНЫ]** *прым.* Глыбокапаважаны. [Мікіта]: *Бяда мая! чым жа я буду гасцей высокадастойных прымаць?* Т, 51. *Параўн.* высокашанаваны.

Мн. Р. *высокадастойных:* Т, 51.

**[ВЫСОКАМАСТАЦКІ]** *прым.* З высокімі мастацкімі якасцямі. *І абавязак паэта, калі ён не хоча адарвацца ад жыцця, своечасова і высокамастацкімі творамі адгуквацца на ўсе гэтыя падзеі.* МП.

Мн. Т. *высокамастацкімі*: МП.

**[ВЫСОКАПАСТАЎЛЕНЫ]** *прым.* З высокім грамадскім і службовым становішчам. *На сценах у рамах колькі тандэтных абразоў – партрэтаў высокапастаўленых асоб, балалайка, пажарніцкая куртка і каска.* Т, 19.

Мн. Р. *высокапастаўленых*: Т, 19.

**[ВЫСОКАШАНАВАНЫ]** прым. *Тое, што* высокадастойны. [Мікіта]: *А цяпер, высокашанаваныя госці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.* Т, 28.

Мн. Н. *высокашанаваныя*: Т, 28.

**[ВЫСОКІ]** (9) *прым.* **1.** Вялікі, працяглы знізу ўверх. *Беларус-жа ім* [маскалям і ляхам] *на тое: – Сваячкі мае вы: Смачны жолудзь вам на каву, Дый высока дрэва!* С, 209.

**2.** *перан.* Адметны. *Высокая ступень культуры ўласціва усім*

*ім* [драматургам, пісьменнікам], *шмат хто з іх ведае 3–4 мовы.* ПЧ.

**3.** Пачэсны, вельмі важны па свайму значэнню. *Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ. [Мікіта]: *(да Ганулі, набок). Меджду протчым, мамаша, не святы ўгоднік, а ацец духоўны... (Да гасцей). Цяпер я, высокія госці мае, прапаную тоста...* Т, 28.

•**Высокая вучэльня** гл. вучэльня.

Адз. ж. Н. *высокая*: ПЧ; *высокае*: УПУВ. В. *высокую* (2): АЛ; ПГ. н. Н. *высокае*: Т, 57. Мн. Н. *высокія*: Т, 28. Р. *высокіх*: Т, 28. В. *высокіх*: Т, 51. Кар. адз. н. Н. *высока*: С, 209.

**ВЫСОЎВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* высоўваць. Паказваючы, выстаўляючы. [Наста]: *(высоўваючы галаву з правых дзвярэй). Ці кожна?* [Мікіта]: *Калі ласка. Меджду протчым, просім, просім!* Т, 23.

**[ВЫСПА]** (2) *ж.* Выступ, невялікі востраў. *Скалы і долы над Фінскай затокай, Прыстані выспы Балтыцкага мора Вораг заморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры.* Ф. *Хадзілі калісьці сюды партызаны, На смерць не глядзелі, кідаліся ў бой І многа палегла адважных герояў У бітвах з панамі па выспах балот.* ПБН.

Мн. Н. *выспы*: Ф. М. *выспах*: ПБН.

**[ВЫССАЦЬ]** зак.: ◊**З пальца выссаць** – невядома адкуль узяць. [Мікіта]: *І хоць ты ёй* [Насце] *з пальца выссі тое асэсарства, а падавай, і усё тут. Але я надзеі не трачу.* Т, 23.

Заг. адз. 2 ас. *выссі*: Т, 23.

**[ВЫСТАВІЦЬ]** *зак.* Вылучыць каго-н. *Во толькі тое гасударство зможэ не дацца у крыўду або і перэмагчы свайго праціўніка, каторае ня толькі выставіць вялікую лічбу добра абучэных ваеннаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу экономічную.* ВН.

Абв. буд. адз. 3 ас. *выставіць*: ВН.

**ВЫСТАЛІЦЬ** *зак. Наватв.* Загартаваць. *Пара, пара ўжо агарнуцца І гартам высталіць свой дух, Пакуль здрадліва пранясуцца Званы заломных злыбядух!* УрП, 49.

Інф. *высталіць*: УрП, 49.

**[ВЫСТАЎКА]** *ж.* Сукупнасць чаго-н. для агляду. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне, прыкладам, творы: ..”Дыктатура працы”, “Працай дружнай, колектыунай” (аб выстаўцы) і інш.*

Адз. М. *выстаўцы*: АЛ.

**[ВЫСТАЎЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выставіць. Высунуты ўперад. [Начальнік патруля]: *(спаткаўшы на парозе Мікіту з выстаўленымі рэвальверамі). Стаць! Ні з месца! Рукі ўверх!* Т, 59.

Мн. Т. *выстаўленымі*: Т, 59.

**ВЫСТАЎЛЯЦЬ** *незак.* ◊**Выстаўляць на зьдзек** – здзекавацца; груба, зняважліва высмейваць, абражаць. *На што мучыць яго* [беларускі народ], *на што выстаўляць на зьдзек яго нацыянальную несьвядомасьць?* ДК.

Інф. *выстаўляць*: ДК.

**ВЫСТРАЛ** (3) *м.* Стрэл. *Я* [унук] *падняў яблык. Тут пан як наскочыў, Крыкнуў ды гікнуў, І выстрал раздаўся.* Ун, 73. *Зрэдка далятаюць далёкія гарматныя выстралы.* Т, 53.

Адз. Н. *выстрал*: Ун, 73. Мн. Н. *выстралы* (2): СНБ, 340; Т, 53.

**ВЫСТУПАЦЬ** (5) і *разм.* **ВЫСТУПАЦІ** *незак.* **1.** Выходзіць наперад. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку, Азіраўся назад, А Даніла ўсюды ўперад Выступаці быў рад.* ПСД.

**2.** *перан.* Спяваць. *З прычыны прыезду Начальніка Польскай дзяржавы ў Мінск у гарадскім тэатры адбыўся спектакль, у якім выступаў і беларускі хор Тэраўскага.* СБНГ.

**3.** Выказваць свае думкі, погляды, прапановы. [Мікіта]: *Я вельмі рад, што ўсё ж такі вам, гэр профэсар, удалося ка мне папасці. Бо выступаць, меджду протчым, з трыбуны без практычнай лекцыі неяк ні сёе ні тое.* Т, 40. [Спічыні]: *Цяпер выслухайце маленькія дзве асцярогі: першае– калі ўзыдзеце на трыбуну, то ёмка зачашэце сабе на галаве думку аб тым, пры якой палітычнай сытуацыі выступаеце з араторыяй.* Там жа.

Інф. *выступаць* (3): Т, 40(3); *выступаці*: ПСД. Абв. цяп. мн. 2 ас. *выступаеце*: Т, 40. Пр. адз. м. *выступаў*: СБНГ.

**ВЫСТУПАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* выступаць у 3 *знач. Але ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і арганізатара контррэволюцыйных сіл, ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмакратызм, выступаючы пад сьцягам ліквідацыі ўсіх заваяваньняў Кастрычнікавай рэволюцыі..* АЛ.

**[ВЫСТУПІЦЬ]** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* выступаць у 3 *знач. Нас* [дэлегатаў] *надзвычай узрушыла адна сустрэча, на абедзе ў Прасценаўскай ратушы выступіла адна жанчына з хвалюючай прамовай.* ПЧ.

**2.** *перан.* Узняцца на барацьбу. *..дзьве рэволюцыі выступілі на крывавую арэну за свае праўды, за сваё першынство ў дзеле будаваньня будучага людзкога жыцьця на грэшнай зямлі.* СНБ.

Абв. пр. адз. ж. *выступіла*: ПЧ. Мн. *выступілі*: СНБ.

**[ВЫСУШЫЦЬ]** (2) *зак.:* ◊**Высушыць грудзі (сэрца)** – пазбавіць маральных сіл, духоўнага зместу; зрабіць няздольным да творчага жыцця. *Замежны сатрапа судоў не насудзіць, Разбойніцкім ладам не высуша грудзі, Пры Сталіне ў бежанцах гінуць не будзем, Совецкіх людзей ён выводзіць у людзі.* СС, 303. *Лунай жа, саколе, У гэтых міражах, ..Пакуль не растопча Жыццё крыўдай грудзі, А сэрца дзявоча Не высушаць людзі.* АК.

Абв. буд. адз. 3 ас. *высуша*: СС, 303. Мн. 3 ас. *высушаць*: АК.

**ВЫСЦІ** *гл.* **ВЫЙСЦІ.**

[**ВЫСШЫ]** *прым. Руск.* •**Высшая вучэльня** *гл.* вучэльня.

Адз. ж. В. *высшую*: УПУВ.

**[ВЫСЫЛКА]** *ж. Польск.* Адпраўка. *Беларускага войска не стала. Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі нашых людзей на Мурман, пад Урал і г.д., як і за даўных царскіх часаў.* БВ, 16.

Мн. Т. *высылкамі*: БВ, 16.

**[ВЫСЫПАЦЬ]** *зак.* Сыплючы, вытрасці. *Лета было. Пайшла* [маці] *ў ягады. Раптам рынуўся знекуль паніч сумазбродзень, Высыпаў ягады, збіў, клікнуў варту, Хустачку здзёр мне і кофтачку, злодзей.* Мц, 75.

Абв. пр. адз. м. *высыпаў*: Мц, 75.

**[ВЫСЬ]** (І0) *ж.* **1.** Вышыня. *Ці то сушы, ці то моры, Ці то высі паднябесся, Усюды стрэнеш непакораў – Камсамольцаў нашых з песняй.* СА, 179. *Параўн.* вышкі ў 2 *знач.*

**2.** Узвышша, пагорак. *І за руку маю ўзяўшы, На высь узьвёўшы хат вышэй, Сказаў* [цень]: *– глядзі – во ўсё тут наша, – Глядзі, цярпі і разумей!* УрП, 46. *Так хваляваўся гмін народны, Пад высяй тэй, дзе я стаяў, Дзень варажыўся быць лагодным, Вей-вецер воблакі зганяў.* Там жа, 47.

Адз. Р. *высі*: ПНд, 47. Д. *высі*: АК; В. *высь* (5): ЖН; Кц, 194; МСП, 187; УрП, 46, 47. Т. *высяй*: УрП, 47. М. *высі*: БН, 93. Мн. М. *высі*: СА, 179.

**[ВЫСЬВЕНЦІЦЦА]** *зак. Польск., перан.* Выслужыцца. *Кали маеш брата, ци дарослаго сына, абходзься з ими ласкава, бо як высьвенцицца часам каторы на стражника, то аддасць за лычка рэменьчыкам.* СП.

Абв. буд. адз. 3 ас. *высьвенцицца*: СП.

**ВЫСЯЛЕННЕ** (2) *н. Дзеянне па дзеяслову* высяляць. [Гарошка]: *Дык вось, як нашы гэткім чынам апошні суд з князем прайгралі, пачалося тое высяленне.* Т, 43. [Гануля]: *А нешта нейкае аб высяленні была ў цябе, сваток, гутарка напачатку.* Там жа.

Адз. Н. *высяленне*: Т, 43. М. *высяленні*: Т, 43.

**[ВЫСЯЛЯЦЬ]** *незак.* Прымушаць пакідаць месца жыхарства.

[Гарошка]: *Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, пакладіся ўпоперак вуліцы: “Хай высяляюць!” – сказалі сабе гэтак: “Хай праз нашы галовы ўвойдуць у нашы родныя хаты!”* Т, 43.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *высяляюць*: Т, 43.

**[ВЫТАПТАЦЬ]** *зак.* Абысці пехатою, выхадзіць. [Гарошка]: *Дарма толькі вытаптаў з паў-Менску – як у шабас, усе крамы пазачыняны. Паеду без табакі.* Т, 39.

Абв. пр. адз. м. *вытаптаў*: Т, 39.

**[ВЫТАРАБАНІЦЬ]** *зак. Разм.* Выкаціць, вывезці што-н. [Мікіта]: *Выносьце* [Гануля] *першым чынам начоўкі з бялізнай, а я, меджду протчым, вытарабаню каламажку.* Т, 50.

Абв. буд. адз. І ас. *вытарабаню*: Т, 50.

**ВЫТАРГАВАЦЬ** *зак. Руск.* Выгадаць, атрымаць прыбытак. *Таргуюцца* [Захад з Усходам] *за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, каб нажыцца, каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць сабе лішнюю капейку ці мільярд рублёў.* Тж, 15.

Інф. *вытаргаваць*: Тж, 15.

**ВЫТВАРЫЦЦА** *зак. Разм.* З’явіцца, здарыцца, узнікнуць. *Я кажу аб забабоне, каторы ў нас толькі мог вытварыцца, дзякуючы нашай няпрыхільнай гісторыі, дзякуючы нашай доугія годы бездзяржаўнасьці, дзякуючы нашаму паднявольнаму жыцьцю.* З.

Інф. *вытварыцца*: З.

**[ВЫТКАЦЬ]** *зак.* Саткаць што-н. [Аленка]: *А сама я ўласнымі рукамі ад шчырага сэрца для вас* [Янкі] *выткала і вышыла* [кашулю]. Т, 30.

Абв. пр. адз. ж. *выткала*: Т, 30.

**ВЫТЛУМАЧЫЦЬ** *зак.* Растлумачыць. [Мікіта]: *Оеей! Оеей! Як жа яму* [немцу] *вытлумачыць, што я не генэрал, а калежскі рэгістратар?* Т, 32.

Інф. *вытлумачыць*: Т, 32.

**[ВЫТРЫВАЛАСЬЦЬ]** *ж. Польск.* Вынослівасць, стойкасць. *Трэба горда лямку жыцьця, як цягнулі яе і да вайны, ды болей ешчэ адзін аднаму паддаваць духу да вытрываласьці на сваім загоне, у сваіх жыцьцявых мэтах.* ВС.

Адз. Р. *вытрываласьці*: ВС.

**ВЫТРЫВАЦЬ** (2) *зак*. Стрымацца, вытрымаць, сцярпець. [Мікіта]: *Не магу вытрываць, сэрафімская, меджду протчым, мамзэль Наста, аніяк не магу вытрываць! (Становіцца на лаўцы перад Настай на калені, засланяючы збольшага яе й сябе распушчаным парасонам).* Т, 42.

Інф. *вытрываць* (2): Т, 42(2).

**ВЫХАВАЦЦА** (2) *зак.* Атрымаць выхаванне. *Слава ленінска-сталінскай партыі, пад кіраўніцтвам якой маглі выхавацца*

*такія героі.* СБ. *Я* [Купала] *шчаслівы і крыху зайздрошчу, што наша пісьменніцкая моладзь выхавалася і загартавалася ў агні вялікага Кастрычніка.* ЖН.

Інф. *выхавацца*: СБ. Абв. пр. адз. ж. *выхавалася*: ЖН.

**[ВЫХАВАЦЬ]** *зак.* Вырасціць, падрыхтаваць да якой-н. дзейнасці. *Наша краіна, наша партыя выхавала таленавітых маладых паэтаў і пісьменнікаў.* ВГР.

Абв. пр. адз. ж. *выхавала*: ВГР.

**[ВЫХАД]** (9) *м.* **1.** *Дзеянне па дзеяслову* выйсці ў 1 *знач.* [Мікіта]: *(перад выхадам гасцей). Мадам і мусьі! мы з мамашай, меджду протчым, вас нямножка правядзём.* Т, 29. [Дама]: *У мяне з'явілася цудоўная ідэя: той вечар у вас* [Мікіты] *на імянінах, перад выхадам немцаў, такое мілае ўражанне пакінуў, што я вельмі была б шчаслівай, каб сягоння яго паўтарыць.* Там жа, 51.

**2.** *Дзеянне па дзеяслову* выйсці ў 2 *знач. Як навіну ў гэтых творах трэба адзначыць выхад у сьвет першага беларускага рамана – гэта "Сокі Цаліны" Цішкі Гартнага, які пасьля болей як паўвяковага працягу часу, першы раз надрукаваны "гражданкай"...* ВСп,89.

**3.** *перан.* Выйсце з якога-н. становішча. *Зноў паўтараем: голы разбою не баіцца, і беларусы прымушаны будуць шукаць іншага, спагаднейшага выхаду.* ОШМ. *Было два выхады: разбурыць ДЗОТ разам з фашыстамі ці знішчыць фашыстаў разам з ДЗОТам.* ПСп.

**ΔХод-выхад** *гл.* ход.

Адз. Р. *выхаду* (3): ОШМ (2); Ч, 321. В. *выхад* (3): ВСп, 29; Т, 34; Ч, 322. Т. *выхадам* (2): Т, 29, 51. Мн. Н. *выхады*: ПСп.

**ВЫХАДЗІЦЬ** *гл.* **ВЫХОДЗІЦЬ**.

**[ВЫХЛАПАТАЦЬ]** *зак. Руск.* Дамагчыся чаго-н., здабыць што-н. клопатамі. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С. Некрашэвічам ..выхлапатаў матэр'яльныя сродкі і зарганізаваў выданьне беларускіх кніг за граніцай.* ВСп, 91.

Абв. пр. адз. м. *выхлапатаў*: ВСп, 91.

**ВЫХОДЗІЦЬ** (45) і **[ВЫХАДЗІЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Ісці адкуль-н., накіроўвацца куды-н. *Ганулядзіць выходзіць і прыводзіць з сабой Аленку і Гарошку, які, уваходзячы ў хату, выбівае аб пазногаць попел з люлькі.* Т, 25. *Калісь у гэтым часе, выходзіў селянін у поле і кідаў зерне ў сьвежую ральлю, трывожачыся аб заўтрашнім дні.* ДД.

**2.** *перан.* Друкавацца. *У Менску тады закіпела праца. Арганізаваўся Беларускі Нацыянальны камітэт, пачала выходзіць штодзённая беларуская газэта, а 12 лістапада была адкрыта сэсія Рады Б.П.Р.* СНБ. *Кінуў* [Купала] *і гэтую работу і папаў у Вільню, дзе выходзіла газета "Наша ніва".* А, 328.

**3.** Прыходзіць куды-н., з'яўляцца дзе-н. *Як толькі находзіў вечар, я* [С.Меч] *выхадзіў на адну з сваіх любых дарожак ды ішоў па ёй ціха, ціха.* ХБ, 29.

**4.** Выязджаць. *Выходзяць на поле плугі, Ўзнімаюць плугі дзірваны. Ні пана няма, ні слугі, Не гоняць народ бізуны.* ТП, 213.

**5.** Атрымліваццa. *Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наагул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў..* Нз, 14. *Бо, папраўдзе кажучы, з беларускім нацыянальным гымнам выходзіць нейкая неразьбярыха.* СБНГ.

**6.** Быць накіраваным у які-н. бок. *Мой* [С. Меча] *пісьменны стол стаяў каля акна, каторае выходзіла ў сад.* ХБ, 29.

**7.** *перан.* Паказвацца, выяўляцца. *Гэй, выходзь, бяда, Гэй выходзь, хто нам – Непрыяцель – вораг; Пачастуем так, Што папомніш век, Ды сатром на порах.* ВБ.

**8.** *перан.* Імкнуцца да чаго-н. *Да сонца выходзяць шчаслівыя вёскі, Наперадзе горад шчаслівы.* ВВ, 263.

**9.** *перан.* Дзьмуць, веяць. *Стуль выходзілі ветры – і шум падымалі, Туды з неба валіліся зоры.* Ч, 321.

◊**Выходзіць з берагоў** – разлівацца (пра раку). *Каменні ўстаюць, каб забіць ворага, рэкі выходзяць з берагоў, каб патапіць яго, зямля расступаецца, каб праглынуць яго...* РКП.

Інф. *выходзіць* (2): СНБ; Т, 34. Абв. цяп. адз. 3 ас. *выходзіць* (17): СБНГ; Т, 21, 22, 25(2), 29, 31, 33, 41, 42(2), 43, 49(2), 50(2), 56; *выходзе* (2): Ан, 19; Нз, 14. Мн. 3 ас. *выходзяць* (17): ВВ, 263; ЗК, 43; РКП; Т, 25, 27, 28, 31, 32, 34, 38, 39(2), 47, 53, 57, 62; ТП, 213; *выходзюць*: ЗК, 43. Пр. адз. м. *выходзіў*: ДД; *выхадзіў*: ХБ, 29. ж. *выходзіла*: А, 328. н. *выходзіла*: ХБ, 29. Мн. *выходзілі*: Ч, 321; *выхадзілі*: Кз, 17. Заг. адз. 2 ас. *выходзь* (2): ВБ (2).

**ВЫХОДЗЯЧЫ** *дзеепрысл. да* выходзіць у 1 *знач.* [Мікіта]: *(хаваючы грошы ў галіфэ і выходзячы). Меджду протчым, я не з такіх, мамаша, каб упутацца.* Т, 56.

**[ВЫЦВІЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* выцвісці. Зліняўшы. [Мікіта]: *(у выцвіўшым чыноўніцкім асеннім пальце з настаўленым каўняром, з парасонам ўваходзіць справа; да Ганулі), Меджду протчым, мамаша, прадалі што-небудзь ці не?* Т, 34.

Адз. н. М. *выцвіўшым*: Т, 34.

**[ВЫЦЕРЦІ]** *зак.*: ◊**Выцерці слёзы** – пазбавіцца гора, галечы, нястачы. *Дзякую партыі Леніна-Сталіна, ..Што Беларусь маю цёмную, ўбогую Вывелі ў людзі, і стала дзяржаўнаю, – Выцерла слёзы пайшла ў свет дарогаю Побачкі з сонцам, дарогаю слаўнаю.* ДПЛС.

Абв. пр. адз. ж. *выцерла*: ДПЛС.

**ВЫЦІ** *гл.* **ВЫЦЬ.**

**ВЫЦІСКАЦЦА** *незак. перан.* Выцясняцца, замяняцца. *Пасля уніі з Польшчай Вялікага Літоўска-Беларускага княства, калі беларуская культура высока трымала свой сцяг у родным краю – гэта культура пачала выціскацца польскім панаваннем.* Нз, 14.

Інф. *выціскацца*: Нз, 14.

**[ВЫЦЬ]** (5) і *разм.* **ВЫЦІ** *незак.* **1.** Працяжна і тужліва скуголіць. *Разыграліся гурмай за зданяю здань, Як вужакі ў гаршку мятусяцца яны, Песьню выюць хаўтурна: ты ляж, а ты ўстань!..* БН, 93. // Утвараць падобныя да выцця гукі. *Лунае груганнё ў прыволлі На ўсход, на захад, там і тут І сочыць косці ў чыстым полі, дзе вые куля, вые кнут.* ГП, 8. *Здалі чутна, павоўчаму выюць званы. І пачатку няма і канца ім няма.. Ці тут ява, ці сон?.. Проч вы, здраднікі, проч!* БН, 93.

**2.** *Груб.* Плакаць уголас, галасіць. *Будзь весел, кінь хныкаць, Ўпіцца кроўю сваёй не спадзейся! Можаш сэрца рваць, выці і клікаць, – Можаш з сэрца свайго молат выкуць, Толькі ўдарыць ня сьмей ім, а сьмейся!* См, 90. *Не адзін аб ёй ведаў і разам ня ведаў, Чуў – ня чуў аб ёй, бачыў – ня бачыў, Кожны толькі яе падпільновываў сьледу, Плакаў, выў, як было што іначай.* Ч, 322.

Інф. *выці*: См, 90. Абв. цяп. адз. 3 ас. *вые* (2): ГП, 8(2). Мн. 3 ас. *выюць* (2); БН, 93(2). Пр. адз. м. *выў*: Ч, 322.

**[ВЫЦЯГАЦЬ]** *незак.:* ◊**Выцягаць грошы з кішэні** – вымагаць каго-н. патраціцца. *Ни хто и ни што не выцягае так многа грошай з мужыцкай кишэни, як праклятая манаполька.* УП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выцягае*: УП.

**[ВЫЦЯГВАЦЬ]** (3) *незак.* **1**. *Разм.* Даставаць, вынімаць што-н. знутры. [Мікіта]: *(..быстра выцягвае з кішэні чырвоную хустачку, прывязвае да парасона, становіцца на лаўку і .. крычыць): Хай жывуць свабодныя профэсіі!* Т, 43.

**2.** Падымаць, выпроствацъ. *Мікіта, адступіўшы колькі крокаў назад, выцягвае рукі ўверх.* Там жа, 59.

◊**Выцягваць жылы** – здзеквацца, мучыць. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, Каб заместа ўсіх і ўсяго ў сьветагляду Быць усім – і зямлёю, і небам.* Ч, 325.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *выцягвае* (3): Т, 43, 59; Ч, 325.

**ВЫЦЯГНУЦЬ** (2) *зак.* **1.** Вырваць. [Ганул я]: *Усё роўна як той дзед з бабуляй рэпку сваю цягнулі-цягнулі, ды ніяк ме маглі выцягнуць.* Т, 54.

**2.** *перан.* Перавезці. [Мікіта]: *Ага! Кідайце* [Гануля] *сюды ў павозку бялізну, а наверх стаўляйце начоўкі – гэтак за адным замахам усё выцягнем.* Там жа, 50.

Інф. *выцягнуць*: Т, 54. Абв. буд. мн. I ас. *выцягнем*: Т, 50.

**ВЫЦЯРПЕЦЬ** *зак. перан.* Вытрываць. *Народ польскі столькі ў сваім часе павінен быў выцярпець зьняволі і нацыянальнага паніжэньня.* СНБ.

Інф. *выцярпець*: СНБ.

**[ВЫЧВАРАЦЬ]** *незак. Разм.* Вытвараць. *Можэ з іншаго хто краю Скеміў-бы сумленьне, Што яна* [душа] *там вычварае З жалю і цярпеньня.* Дз, 191.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вычварае*: Дз, 191.

**[ВЫЧЫТАЦЬ]** *зак.* Даведацца пра што-н. з прачытанага. *Вычытаў ён* [рэдактар] *у сваей-жэ газэці, што ў Прусах Заходніх бязбожнікі немцы вучаць дзяцей палякоў па-нямецку; забараняюць бедным дзеткам чытаць і маліцца Богу ў сваёй роднай мове.* ЧЧШ.

Абв. пр. адз. м. *вычытаў*: ЧЧШ.

**ВЫШАЙ** (8) *разм.* і **ВЫШЭЙ** (4) *прысл. Пар. ст. да* высока. *Далей, вышай у прасторы. Па ўраджай з сяўбы багаты, Камсамольцы-вярнігоры, Сталінскія арляняты!* СА, 173. *I за руку маю ўзяўшы, На высь узьвёўшы хат вышэй, казаў: – глядзі – во ўсё тут наша, – глядзі, цярпі і разумей!* УрП, 46. НК; СА, 179(2), 180, 181(2); Т, 40; Тр; УрП, 46.

◊**Вышэй падняць сцяг** *гл.* падняць.

**[ВЫШАЎШЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выйсці. Выхаваны. *Хай-жа наша шчырая беларуская інтэлігенцыя, вышаўшая з-пад беларускай саламянай страхі і злучаная сьвятою думкай адбудавання Беларускай дзяржавы, хай яна скажа сваё жалезнае слово.* З.

Адз. ж. Н. *вышаўшая*: З.

**[ВЫШКІ]** (4) *толькі мн.* Насціл пад страхой. [Ганулля]: *Сцягнулі* [людзі] *гвалтам з вышак* [Мікіту] *і немаведама куды б зацягнулі.* Т, 46. [Гануля]: *Як толькі немцы вышлі, то ён* [Мікіта] *ужо на другі дзень палез на Трэку недзе на вышкі і давай на чым свет, падбухторываць людзей.* Там жа.

**2.** *перан. Тое, што* высь у 1 *знач. Росы ўнізе ірдзелі яскрава, А на вышках, як сон на зямлі, пераменны Залаты месяц радасна плаваў.* Ч, 321.

Р. *вышак*: Т, 46. В. *вышкі* (2): Т, 36, 46. М. *вышак*: Ч, 321.

**[ВЫШУКІВАЦЦА]** *незак. Разм.* Выяўляцца. *Але як бы казна не была багата, то пры над’звычайных здарэннях, як напрыклад вайна, горад, патрабуюцца і над’звычайные расходы. Пры гэтым вышуківаюцца спосабы аткуль і як дабываюць грошы на гэтые расходы.* ВН.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *вышуківаюцца*: ВН.

**[ВЫШЫНЯ]** (3) *ж. перан.* **1.** Вяршыня. *На шчасце, на радасці ўзлёт Збуцвелы разваліцца тын, Адчыняцца дзверы варот да працы, да веды вышынь.* ТП, 216.

**2.** Вышэйшая ступень чаго-н. *Калі мы* [беларусы] *выйдзем у гэтым змаганьні пабеднікамі, ..то і справа вызваленьня Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным паднявольлем.* СНБ. *Гісторыя Совецкай Беларусі багата сваёй героікай штурма вышынь соцыялізма: гісторыя Совецкай Беларусі чакае сваёй песні, свайго мастака, свайго гісторыка..* ШБСЯ.

Адз. В. *вышыню*: СНБ. Мн. Р. *вышынь* (2): ТП, 216; ШБСЯ.

**[ВЫШЫТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* вышыць. *Дастае* [Аленка] *з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс і падае Янку..* Т, 30.

Адз. ж. В. *вышытую*: Т, 30.

**[ВЫШЫЦЬ]** *зак.* Аздобіць вышыўкай. [Аленка]: *А сама я ўласнымі рукамі ад шчырага сэрца для вас* [Янкі] *выткала і вышыла* [кашулю]. Т, 30.

Абв. пр. адз. ж. *вышыла*: Т, 30.

**ВЫШЭЙ** *гл.* **ВЫШАЙ.**

**[ВЫШЭЙПАМЕШЧАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* вышэйпамясціць. Вышэйзмешчаны. *З вышэйпамешчанай табліцы мы бачым, што агулам надрукавана 268.050 кніг у ліку 2.036.527 друк. <арскіх> аркушаў. ВСп, 91. Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар'ялу й друкаваньні, як бачым з вышэйпамешчанай табліцы, аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел..* Там жа, 90.

Адз. ж. В. *вышэйпамешчанай* (2): БСп, 90, 91.

**[ВЫШЭЙШЫ]** (9) *прым. Пар. ст. да* высокі. **1.** Галоўны, кіруючы, пануючы. *Аб гэтым штодня ідуць скаргі, жальбы, протэсты; аб гэтым ня раз мы пісалі, зьвярталі ўвагу вышэйшай польскай улады..* ОШМ. *Масы, народ земляробны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі.* Нз, 14.

**2.** Самая высокая ступень у сістэме асветы. *Зірнуць толькі на дзесяткі тысяч школ, дзе беларускія дзеці пазнаюць веды ў сваёй роднай мове, на дзесяткі вышэйшых навучальных устаноў.., на тысячы ясляй і дзіцячых садоў, дзе гадуецца новае радаснае пакаленне і рыхтуецца стаць будаўнікамі разумнага і шчаслівага жыцця.* ШБСЯ.

•**Вышэйшая моц небных сіл** *гл.* моц.

Адз. ж. Р. *вышэйшай* (2): ОШМ (2). Т. *вышэйшай*: УрП, 49. н. Р. *вышэйшага* (2): ОШМ; Т, 20. Мн. Н. *вышэйшыя* (3): Нз, 14 (3). Р. *вышэйшых*: ШБСЯ.

**ВЫЯВІЦЬ** *зак.* Праявіць, выказаць якую-н. скрытую якасць, уласцівасць. [Янка]: *Мы* [беларусы] *павінны душу нашу народную выявіць у сваім "Я", у сваёй самабытнасці і смела сягнуць па сваё неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім "Я".* Т, 35.

Інф. *выявіць*: Т, 35.

**ВЫЯЗДЖАЦЬ** (4) і *разм.* **[ВЫЕЖДЖАЦЬ]** *незак.* Перасяляцца. *З вучыцелёў, што да таго саюза належэли, узяли падписку, каб никуды не выежджали без дазваления палиции.* ВД. // Пакідаць сталае ці часовае месца жыхарства; перасяляцца. [Ганудя]: *Але, як відаць з усяго, то ён, мусіць, ..не збіраецца выязджаць, хоць іхнія амаль ужо выехалі.* Т, 45. [Янка]: *Аб гэтым трудна загадзя варажыць, бо я ў скорасці зусім выязджаю з Менску.* Там жа, 21.

Інф. *выязджаць*: Т, 45. Абв. цяп. адз. I ас. *выязджаю* (3): Т, 21, 30, 56. Пр. мн. *выежджали*: ВД.

**[ВЫЯСНЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* выясіць. *Руск. У знач. вык.* [Усходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). Пры опросе белоруса выяснено необыкновенную особенносць..* Т, 26.

Адз. н. Н. *выяснено*: Т, 26.

**[ВЫЯСНІЦЦА]** *зак. Руск.* Высветліцца, стаць зразумелым. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

Абв. пр. адз. н. *выяснілось*: Т, 39.

**ВЫЯСЬНІЦЬ** (2) *зак.* да выясьняць. *Мы пішам гэта дзеле таго, каб польская ўлада паклапацілася выясьніць палажэньне, каб яна супыніла сваіх неразумныхураднікаў, каторые падсякаюць той сук, на каторым сядзяць..* ОШМ. *Прошлы раз я* [Купала] *ўжо выясьніў, на сколькі гэта магчыма было ў кароткай газэтнай стацьці, як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь, як то падносілі, то тапталі найменшые праявы беларускага нацыянальнага духу.* СКБ.

Інф. *выясьніць*: ОШМ. Абв. пр. адз. м. *выясьніў*: СНБ.

**ВЫЯСЬНЯЦЬ** *незак.* Рабіць што-н. ясным, зразумелым; высвятляць. *Як "нацыяналізаваць" – калі можна так выказацца – нацыянальны беларускі гымн з паміж ужо існуючых гэтых твораў – не бяруся выясьняць.* СБНГ.

Інф. *выясьняць*: СБНГ.

**[ВЫЯЎЛЕННЕ]** *н.* Праяўленне. *У гэтых чарах, у гэтым выяўленні бяссмертнага чалавечага духа – наша пабеда, наша слава І шчасце – цяпер і ў будучым.* ПЛП.

Адз. М. *выяўленні*: ПЛП.

**[ВЭТЭРАН]** *м.* Стары, бывалы воін. [Спраўнік]: *Але я надта не бядую. Кажуць, сам Брусілаў ідзе побач з нашымі новымі гаспадарамі, дык не павінен жа ён папусціць у крыўду такіх вэтэранаў старой гвардыі, як я.* Т, 58.

Мн. В. *вэтэранаў*: Т, 58.

**[ВЯДЗЬМЯЧЫ]** *прым. перан.* Жудасны, страшны. *Сьмейся сьмехам – скавытам вядзьмачым, У віхровым пасьвісьце разьвейся, І над сьветам разьюшаным, сьпячым .. сьмейся!* См, 91.

Адз. м. Т. *вядзьмачым*: См, 91.

**ВЯДОМА** (9) і *разм.* **ВЕДАМА** (4). **1.** *безас. У знач. вык.* Пра наяўнасць якіх-н. звестак. [Наста]: *Як мне напэўна вядома з пэўных крыніц, то гэта апошні* [немец] *з роду Магіканаў, які, згодна з Берасцейскай умовай, пакідае сягоння нашы Менскія палестыны і махае свае крокі туды, адкуль прышоў.* Т, 41. [Мікіта]: *(Да Абарванца). Выбачайце, я не таварыш, а, меджду протчым, буржуаз, а як вам хіба ведама – буржуазія нічым не жэртвуе.* Там жа, 43.

**2.** *У знач. пабоч.* Зразумела, канечне. *Ён* [Баця], *вядома, не хоча рыхтаваць адукованых, соцыяльна-свядомых людзей, яму патрэбен чалавек-машына, "робот".* ПЧ. *Ведама, што калі даць беларусу-каталіку вольны выбар: ці вучыцца рэлігіі па польску, ці па расейску, забараніўшы перш навуку па беларуску, дык ён выбярэ польскую мову..* ВЧ.

**3.** *У знач. часц.* Бясспрэчна. *Ці цікавіўся я* [Купала] *беларускай народнай творчасцю? Вядома.* ПС.

◊**Без ведама** – без згоды другой асобы. *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон" і аддаў яго надрукаваць без ведама рэдактара.* Ан, 19. **Як ведама** *(у знач. пабоч.)* – пра тое, што ўсе ведаюць. *Антанта .. сядзіць у Крамлі з Леніным і Троцкім, п'е зёлкі без цукру (бо, як ведама, у Маскве няма ні гарбаты, ні цукру), цалуецца з Леніным, абымаецца з Троцкім і Калмановічам і крычыць: "Хай жыве савет салдацкіх, работніцкіх, сялянскіх ды іншых дэпутатаў!.."* Ан, 19. НДп, 229; ПС; СНБ, 340(2); Т, 20, 42.

**ВЯДОМЫ** (12) *прым.* **1.** Пра якога ведаюць. *Мы так сама памятаем, што вядомая адозва Пілсудскага, як начальніка польскай дзяржавы, гаворыць пра тое, што з прыходам палякоў Беларусь атрымала волю і поўную магчымасць быць гаспадарамі ў сваім краю, праз вякі пакрыўджаным і ўцiснутым.* ОШМ. *Разумеецца, свае паступкі ён* [абываталь] *будзе тлумачыць па своему, але сэнс у гэтым, і з гэтага карыстаюць усе старые, вядомые і прывычные для яго сілы.* ВМР. // *У знач. вык. Вашу* [панскую] *карысць нам* [народу] *і вашы заслугі Добра ўжо скеміў таптаны народ: Добра вядомы і путы і пугі, Песьціў якімі ваш Захад і Ўсход.* Г, 17.

**2.** Які карыстаецца шырокай папулярнасцю; славуты. *Ну, за гэтага* [Варашылава] *дык можна, чалавек вядомы. Галасуй ідзі, бабулька, Я* [унук] *пабуду дома.* Вб, 238. *Мы* [дэлегаты] *наведалі тэатр вядомага рэжысёра Эміля Бурыяна, дзе праглядзелі пастаноўку "Удалага салдата Швейка".* ПЧ.

Адз. м. Н. *вядомы* (3): Вб, 238; СНБ, 339; УПУВ. Р. *вядомага* (3): МІ, 17; СНБ, 339; Ж. ж. Н. *вядомая* (3): ОШМ (2); СНБ, 340. Мн. Н. *вядомые*: ВМР. В. *вядомыя*: ПЧ. Кар. мн. Н. *вядомы*: Г, 17.

**ВЯДРО** (4) *н.* Пасудзіна для вады і інш. вадкасці. – *Глыток вады. – Няльга, запёрта будка. – Глыток вады. – Нам на сям'ю вядро, Ды во чарга ад раніцы ўжо тутка...* ВБЛ, 80. *Уваходзіць* [Мікіта] *з напоўненым вядром.* Т, 54.

Адз. Н. *вядро*: ВБЛ, 80. В. *вядро* (2): Т, 54, 60. Т. *вядром*: Т, 54.

**[ВЯЗАЦЦА]** *незак.* Знаходзіцца ў адпаведнасці з кім-, чым-н., узгадняцца. [Мікіта]: *Меджду протчым, мусье беларус, такая свабодная профэсія не вяжацца з маей рангай колежскага рэгістратара.* Т, 36.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вяжацца*: Т, 36.

**[ВЯЗАЦЬ]** *незак.* Плесці. *Кветкі збіраючы ў лузе квяцістым, Дзяўчына вянок табе* [Сталіну] *вяжа.* СС, 301.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вяжа*: СС, 301.

**[ВЯЗНУЦЬ]** *незак. перан.* Апусціцца маральна. *Загубіў* [другі сын] *сваю скуру, чужая-ж ня цешыць Абадранай душы ў павуціне: Проць сваіх, проць чужых крывадушыць і грашыць, І так вязьне, як камень у ціне.* Ч, 321.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вязьне*: Ч, 321.

**ВЯЛІЗАРНЫ** *гл.* **ВЕЛІЗАРНЫ.**

**[ВЯЛІЗНЫ]** *прым.* Вельмі значны па велічыні; надта вялікі. *Уваходзіць Мікіта ў вынашанай і палатанай "зашчытнага" колеру вопратцы, цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя вялізныя партфелі, а чацвёрты – меншы..* Т, 45.

Мн. Н. *вялізныя*: Т, 45.

**[ВЯЛІКАДЗЯРЖАЎНЫ]** (2) *прым.* Які не паважае правоў малых народаў. *І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей, – усё гэта будзе абманам.* НДН, 18. *Забіралі* [дзяржавы ўсемагутныя] *ў паднявoленых народаў іх дабро, забіралі іх сышоў і гналі на крывавы бой за эгаістычныя вялікадзяржаўныя мэты.* Там жа.

Мн. Н. *вялікадзяржаўныя*: НДН, 18. В. *вялікадзяржаўныя*: НДН, 18.

**ВЯЛІКДЗЕНЬ** (5) *м.* Хрысціянскае свята, прысвечанае ўваскрэсенню Ісуса Хрыста. *Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да*

*нівы Заводзе бацькоў сваіх песеньку сын. Зірні-ж, азірніся, шчасьліў, нешчасьлівы І заўтра на поле да сох, як адзін.* В.

**Вялікдзень.**

Адз. Н. *вялікдзень* (5): В (5).

**ВЯЛІКІ** (133) *прым.* **1.** Значны па велічыні і памерах. *Дзяўчына, кветкамі абсып курган вялікі, А песню вечную злажы, пясняр-паэт.* СК, 158. [Янка]: *О, наша тэрыторыя, пане вучоны, вельмі вялікая – І вокам не дастаць!* Т, 38. // Значны па колькасці. *К таму ж, на лік мы* [беларусы] *народ вялікі – каля 12 мільёнаў.* Нз, 15. *Разумеецца, пакупцамі з'яўляюцца толькі тыя, хто мае вялікія грошы.* ЗС, 18. *Параўн.* большой, велікій, велькі.

**2.** Значны па сваёй сіле, інтэнсіўнасці, якасцях. *Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то бадай адначасьне на яе аграбленые абшары з вялікім разгонам рынуліся з усходу – расійскіе бальшавікі, з захаду – польскіе нацыяналісты.* СНБ. *З далёку і з блізку далетаюць да нас і добрые і благіе весткі аб вялікіх бітвах, аб змаганьнях мільенаў ваяк.* РКр.

**3.** Выдатны па свайму значэнню. *Мы* [савецкі народ] *жывем у такі час, калі амаль кожны дзень прыносіць падзеі вялікай палітычнай важнасці.* МП. *Мы* [савецкі народ] *сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры.* ШБСЯ. // Геніяльны, таленавіты. *Такі мае абраз нашая старонка ў вачох вялікага паэты.* ХБ, 28. *Забабон спаліў бязлітасна на кастры вялікага сьветлага Гуса.* З.

**4.** Састаўная частка назваў, тытулаў. *Алё заява Вялікага Начальніка Польскай дзяржавы – адно, а палітыка польскіх эндэкаў і жандармерыі – друрое.* СНБ.

**5.** *У знач. наз.* Значнае, важнае. *Кожны дзень штось прыносія, кожны дзень творыць штось новае, вялікае.* БСУ.

**Вялікая, гордая радасць. Вялікі гнеў. Пісьмо беларускага народу Вялікаму Сталіну.**

◊**Вялікая дарога** *гл.* дарога. **Мал, вялік** *гл.* малы. **Не вялікі мед** *гл.* мёд.

Адз. м. Н. *вялікі* (14): ВГ; ВГР (2); ВС; ВЧ; ДД; ЖН; ЗС, 18; Нз, 15; ПНд, 314; Т, 39, 44, 49, 54. Р. *вялікага* (10): А, 328; ВГР; ЖН; З; РКП; СБ; СБНГ; СНБ; ХБ; ШБСЯ. Д. *вялікаму* (5): ВНЗ; ЖН; ПБН; СТ; ТП, 313. В. *вялікі* (4): СК, 158; Тж, 16(2); ЦСБ; *вялікага* (2): ГВУ; З. Т. *вялікім* (3): МП; СНБ; ШБСЯ. М. *вялікім* (2): ГНД; ШБСЯ. ж. Н. *вялікая* (10): АБ, 16; ВВ, 263; ВГР; ВСп, 91; МІ, 17; ПЛП (3); Т, 38, 50. Р. *вялікай* (12): ВГР (2); ВС; Дз, 191; ЗС, 17; МП; Нз, 14 (2); НКУС; Т, 20, 27; УПУВ; *вялікае*: ДНСП. Д. *вялікай*: Т, 22. В. *вялікую* (7): Ан, 19; ВГР; ВН (2); ЖН; НДН, 18; ПЧ. Т. *вялікай* (6): ДЖ; ЖН (2); МІ, 17; ПЧ; Т, 55. М. *вялікай* (2): Т, 27, 42. н. Н. *вялікае* (8): ВВ,

263; ВСп, 90; ДНСП; Пт; СС, 301; Т, 19, 45, 57. Р. *вялікага* (3): АЛ; ГВУ; ТП, 215. Д. *вялікаму*: ТП, 213. В. *вялікае* (6): БСУ (2); ПС; УПУВ; Ф; ХБ, 30. Т. *вялікім*: Т, 57. М. *вялікім* (3 ): ПТ, 207; СЧ; УПУВ. Мн. Н. *вялікія* (3): ПБН; Т, 36; ХБ, 30; *вялікіе*: БСУ. Р. *вялікіх* (12): В; ВН; ГВУ; ЗС, 17; МП; Нз, 14; НДН, 18; РКП; СНБ; Тж, 16; УПУВ; ШБСЯ. Д. *вялікім*: ЖН. В. *вялікія* (7): ЗС, 18; МП; Нз, 15; СС, 301; Т, 56; ЦСБ; ШБСЯ. М. *вялікіх* (2): РКр; ШБСЯ. Кар. адз. м. Н. *вялік* (4): АПЖ; УрП, 47(2), 51. ж. Н. *вяліка*: Кз, 17; *веліка*: Т, 47.

**[ВЯЛІКШЫ]** *прым. Разм. Пар. ст. да* вялікі ў 2 *знач. Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе, і не было больш-менш вялікшага – ці то палітычнага, ці то навучнага здарэння на Захадзе, каб яно не адгукнулася на Усходзе.* Тж, 15.

Адз. н. Р. *вялікшага*: Тж, 15.

**[ВЯЛІЧНЫ]** *прым. Разм.* Велічны. *Дзяды, унукі, унучкі – усе паўсталі На вечавы кліч, кліч бадзёры і вялічны, Які нам кінуў правадыр наш родны Сталін.* ПНд, 314.

Адз. м. В. *вялічны*: ПНд, 314.

**[ВЯЛІЧЧА]** (3) *н. Разм. Тое, што* веліч. у 2 *знач.* [Спраўнік]: *Спраўніцкія пагоны, гаспадзін таварыш: памятка былога вялічча.* Т, 61. [Спраўнік]: *усё былое вялічча прышлося загнаць у казіны рог і дапасоўвацца да новага часу і новых людзей*. Там жа, 57.

Адз. Р. *вялічча*: Т, 61. В. *вялічча* (2): ВГР, Т, 57.

**[ВЯЛІЧЫЦЦА]** *незак. Разм.* Павялічвацца. *Мальбішчам чужым бье пакора паклоны;Упадку вялічыцца сцяг; З балотам змешаны старыя законы, Наладжан нявольнічы шлях.* ЗК, 42.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *вялічыцца*: ЗК, 42.

**ВЯЛІЧЫЦЬ** *незак*. *Разм.* Павялічваць, памнажаць. *Годзе нам* [беларусам] *сілу прыблудаў вялічыць Дзецьмі, багаццем радзімай зямлі! Нашы загоны даўно ўжо насклічуць, Нашы загоны, што зеллем зраслі.* Г, 17.

Інф. *вялічыць*: Г, 17.

**[ВЯНОК]** (4) *м.* **1.** Упрыгожанне з кветак або галінак, сплеценых у кружок. *Кветкі збіраючы ў лузе квяцістым, Дзяўчынка вянок табе* [Сталіну] *вяжа.* СС, 301.

**2.** *перан.* Галіна, сфера якой-н. дзейнасці. *Таму кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленьнем прывітае новую кветку ў бясьсьмертным вянку культурнага будаўніцтва ў БССР – Беларускую Акадэмію Навук.* ГНД.

**3.** *Вобразн.* Сімвал свабоды, незалежнасці. *Паўстала радзіма, замок Няволі зламала навек, Надзела з пралесак вянок І слёзы сагнала з павек.* ТП, 214.

**4.** *перан.* Група людзей, аб’яднаных якімі-н. сувязямі. *Цяпер*

*прашу* [аўтарнік] *вас* [людзей] *адабрацца Ў вянок адборных галасоў дзяўчат дванаццаць па дванаццаць І столькі сама дзяцюкоў.* УрП, 50.

Адз. В. *вянок* (3): СС, 301; ТП, 214; УрП, 50. М. *вянку*: ГНД.

**ВЯНУЦЬ** (4) *незак.* **1.** Страчваць свежасць (пра расліны). *Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі, Дружна капалі з раллі бульбу бабы.* ВМ, 72

**2.** *перан.* Страчваць здароўе, сілу, бадзёрасць. *А як пойдзе хто трэцяй сьцяжынай-пуцінай, Што сваёй ня мінае граніцы, Будзе чэзнуць і вяцуць націнай, паўцінай, Сьмягнуць будзе над роднай крыніцай.* Ч, 319.

◊**Вушы вянуць** *гл.* вуха. **Рукі вянуць** *гл.* рука.

Інф. *вянуць*: Ч, 319. Абв. цяп. мн. 3 ас. *вянуць* (2): Нз, 14; Т, 20. Пр. мн. *вялі*: ВМ, 72.

**[ВЯРБА]** *ж.* Дрэвавая і кустовая расліна сямейства вярбовых. *Вербы і вольхі калышуцца глуха, Сінія хвалі шумяць і бурляць.* Н.

Мн. Н. *вербы*: Н.

**[ВЯРБЛЮД]** *м. Заал.* Буйная адна- або двухгорбая жвачная жывёліна. *Ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі, дзе задумны бэдуін, едучы у ночы на вярблюду, зоры блыскучые лічыць і да ледавітага "паўночнага зіяньня", .. – як есьць усюдах пануе гэты ясьневяльможны бязсьмертны забабон.* З.

Адз. М. *вярблюду*: З.

**[ВЯРЗЦІ]** *незак. Разм.* Гаварыць недарэчнасці, бязглуздзіцу. *Аб якой ты* [мужык] *гэта вярзеш слабодзе? – Ну, аб Слабодзе, Нагайкаўскай воласьці, Усьмирыцельскаго вуезду, што недалёка ад Прыгонава и Висельнева.* ХЛБ.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *вярзеш*: ХЛБ.

**[ВЯРНІГАРА]** (7) *аг.:* Δ**Комсамолец-вярнігара** *гл.* камсамолец.

Мн. Н. *вярнігоры* (7): СА, 178, 179(2), 180(2), 181(2).

**ВЯРНУЦЦА** (15) *зак.* **1.** *Зак. да* вяртацца. *Бясстрашныя сыны вялікага совецкага народа вярнуліся на сваю радзіму.* СБ. *Ня журбуйце-ж, тата, маці. Буду* [сын] *вас яшчэ вітаці, Як з вайны здароў вярнуся Я вам нізка пакланюся.* ГЖУ. *Параўн.* возвраціціся.

**2.** Заняцца ранейшай справай. [Янка]: *Але ўсё-такі вам* [Мікіту] *прыдзецца вярнуцца на гэтыя курсы, бо я вам нічога не памагу – сягоння яшчэ выязджаю з Аленкай з Менску.* Т, 56. // Яшчэ раз закрануць пытанне. [Спічыні]: *Усё гэта як бы так і як бы не так. Але да гэтага яшчэ вернемся. Цяпер мне адкажэце* [Мікіта] *на адно пытанне, і на сягоння будзе годзе.* Т, 41.

Інф. *вярнуцца* (2); Г, 17; Т, 56. Абв. пр. адз. м. *вярнуўся* (2): Дз, 190; М, 20. Мн. *вярнуліся*: СБ. Буд. адз. І ас. *вярнуся* (3): ГЖУ; Т, 37, 56. 3 ас. *вернецца* (2): ББ (2). Мн. І ас. *вернемся* (3): ПС;

Т, 41; ХЛВ, 316. 3 ас. *вернуцца* (2): РКр; Т, 20.

**[ВЯРНУЦЬ]** (3) *зак.* **1.** Аддаць узятае. *А рэдактар: Вярні 3 рублі 27 капеек задатку!* Ан, 19.

**2.** Атрымаць назад што-н. страчанае. *Высніў ты* [Сталін] *волю і долю народам, Вярнуў чалавечую славу.* СС, 301. *Не верне былога ніхто і ніколі, У прах яно пала і знікла, як дым.* ПБН.

Абв. пр. адз. м. *вярнуў*: СС, 301. Буд. адз. 3 ас. *верне:* ПБН. Заг. адз. 2 ас. *вярні*: Ан, 19.

[**ВЯРОЎКА]** (4) *ж.* Звітыя, скручаныя ў выглядзе шнура пасмы (пянькі лёну). *І зробім* [хлопчык і лётчык] *чуць- чуць астаноўку, Каб сцерве папасці ў папад: Для Гітлера скінем вяроўку, Хутчэй каб павесіўся кат.* ХЛВ, 316. [Гануля]: *А сёлета, апрача ўсяго іншага, Дык яшчэ і дровы з Ваньковічава лесу самакатам коцяць і коцяць* [мянчане] *на вяроўках.* Т, 55. // *У параўн. Ах, салодкі ўспамін не адзін Шалясціць, як вяроўкаю кат... Столькі іх гэтых мілых часін. А забыці іх сілы няхват.* ЧС, 50-51.

Адз. В. *вяроўку* (2): См, 91; ХЛВ, 316. Т. *вяроўкаю*: ЧС, 50–51. Мн. М. *вяроўках*: Т, 55.

**[ВЯРТАЦЦА]** (2) і *разм.* **ВЕРТАЦЦА** *незак.* Прыбываць назад туды, адкуль выбыў. *Аж дакучыла, знаць далей Недзе так бадзяцца, І сынкі зьбірацца сталі, З-за далёк вертацца.* Дз, 190. *І ў гэтыя ж дні – другая падзея сусветнага значэння: на радзіму вяртаецца гераічная чацвёрка папанінцаў.* МП. *Параўн.* варочацца.

Інф. *вертацца*: ДЗ, 190. Абв. цяп. адз. 3 ас. *вяртаецца* (2): МП (2).

**ВЯСЕЛЛЕ** (4) *н.* Абрад шлюбу і ўрачыстасць, святкаванне, звязанае з гэтым. [Гануля]: *Добра дзеткі, прыеду да вас на вяселле.* Т, 57. [Янка]: *Вяселле, цётачка, адлажылі пакуль што да таго часу, калі апошні акупант ад нас выйдзе, бо пры іх нявесела на вяселлі.* Там жа, 54.

Адз. Н. *вяселле*: Т, 54. В. *вяселле*: Т, 54, 57. М. *вяселлі*: Т, 54.

**[ВЯСЕНЬНІ]** *прым. Руск. Тое, што* веснавы. *Не вясна, а вясеньняя слата была.* БСУ.

Адз. ж. Н. *вясеньняя*: БСУ.

**[ВЯСЁЛАСЦЬ]** *ж. Разм.* Весялосць. *Новая доля, шчаслівая доля. Ясна з Усходу квяцістай дарогай Сходзіць ад пушчы, на рэкі, на поле, сее вясёласць, зганяе трывогу.* Мц, 75.

Адз. В. *вясёласць*: Мц, 75.

**[ВЯСЁЛКА]** (4) *ж.* Радуга. *Гэй, ты, моладзь, наша змена, Комсамольцы, комсамолкі, Як-жа светла, як адменна Свеціш колерам вясёлкі.* СА, 178. *На небе – шлях млечны, на небе – вясёлкі, На гонях красуе пшаніца і жыта...* ТП, 217.

**ΔСяміцвет-вясёлка** *гл.* сяміцвет.

Адз. Р. *вясёлкі*: СА, 178. Мн. Н. *вясёлкі*: ТП, 217. В. *вясёлкі*: Кц, 196. М. *вясёлках*: НК.

**[ВЯСЁЛКАВЫ]** *прым. Вобразн.* Светлы, шчаслівы. *І я* [Купала] *ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай рэслублікі..* ЖН.

Адз. ж. В. *вясёлкавую*: ЖН.

**ВЯСЁЛЫ** (22) *прым*. **1**. Поўны радасці; жыццярадасны. [Мікіта]: *(вясёлы, пасвіствае і напявае): Радуйся, вселенная! Абвяшчаю ўсім, усім, усім:немцы акупавалі, меджду протчым, Менск!..* Т, 31. *Жыццё наша такое бадзёрае, вясёлае, што песні самі на вусны просяцца.* ЖН.

**2**. Які выклікае весялосць. *Вы можаце, напрыклад, убачыць вясёлы, камедыйны фільм, праз які выразнай ніткай "шчасця" праходзяць ...бацявы боты.* ПЧ. *Прышла вясна, вясёлая, пявучая, цьвітучая.* ДД. // Светлы, яркі. *Бачыш зоры сонца, веселае бачыш? З імі рвіся ўсім сэрцам зраўняцца, А як сьлед свой зарнічным сьвятлом абазначыш, – За табой кінуць зморы ганяцца.* Ч, 323.

**Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца**.

Адз. м. Н. *вясёлы* (5): ВБЛ, 81, 82(2); Т, 31; ЧС, 50–51. В. *вясёлы*: ПЧ. Т. *вясёлым* (2): Пр; ПТ, 207. ж. Н. *вясёлая* (2): ДД; Т, 19. Р. *вясёлай*: ПД, 83. Т. *вясёлай*: Дз, 188. н. Н. *вясёлае* (2): ЖН (2). В. *вясёлае*: Ч, 323. Мн. Н. *вясёлыя*: Р. Р. *вясёлых*: ЖН. В. *вясёлыя*: ЖН. Т. *вясёлымі* (2): ВСп, 90; ДПЛС. Кар. адз. м. Н. *весел* (2): ВБЛ, 82; См, 90.

**[ВЯСКОВЫ]** (2) *прым.* Які жыве, працуе, дзейнічае ў сельскай мясцовасці, вёсцы. [Ганупя]: *Я сама з ягоным* [Мікіты] *бацькам – людзі вясковыя.* Т, 20. *Я* [Купала] *ўжо ўспамінаў, з якой заўзятасцю я слухаў казкі вясковых парабкаў.* ПС.

Мн. Н. *вясковыя*: Т, 20. Р. *вясковых*: ПС.

**ВЯСНА** (17) і **ВЕСНА** (3) *ж.* **1.** Пара года паміж зімой і летам. *Два сьвяты на сьвеце – ад нівы да нівы: Хрыстос уваскрос! наступае весна!* В. *Шостую вясну ўжо ён* [мужык] *сее так безнадзейна, ня ведаючы – хто яго сяўбу жаць будзе.* ДД.

**2.** *перан.* Светлая радасная пара жыцця, маладосць. *"Вясна народаў", аб каторай так разьвіваліся воклікі па цэлым сьвеце, ня была да апошняга часу вясной для беларусаў.* БСУ. *Мо якому народу і прышла гэта вясна, але беларускі народ гэта "вясна народаў" неяк усё абмінае.* ДД.

**3.** *перан.* Лепшае будучае. *Спадзе ланцуг ваш* [жыдоў] *у сьляпым загіну. Спадзе ланцуг наш* [беларусаў] *і зазьяе ўсім вясна!* Ж. *Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў, ..Што справы тваіх*

[правадыра] *дум адна за адною Так зменяць удала мне* [Купалу] *вёснамі зімы.* ТП, 215.

Адз. Н. *вясна* (10): БСУ (2); ДД (6); Ж; ХБ, 29; *весна* (3): В (2); ВЧ. Р. *вясны* (2): ГП, 8; ЗК, 43. В. *вясну* (2): ДД; ЗЯЗ, 89. Т. *вясной*: БСУ. Мн. В. *вёсны*: Ф. Т. *вёснамі*: ТП, 215.

**ВЯСНОЮ** (2) і **ВЯСНОЙ** *прысл.* У час вясны. *Пух і аўчынкі нашага хову Грэлі зімою, Птушкі вам* [чужым] *гралі з нашай дубровы Гымны вясною.* Чж, 146. *З надзеяй сустракаем* [беларусы] *выраі вясной, З надзеяй увосень іх праводзім над папарам.* Дз, 188.

**[ВЯСНЯНЫ]** *прым. перан.* Светлы, радасны. *Водгукі бітваў плывуць здаля грозна, Думы вясняныя сняцца народам.* ВМ, 72.

Мн. Н. *вясняныя*: ВМ, 72.

**ВЯСЦІ** *гл.* **ВЕСЦІ.**

**[ВЯТРЫСКА]** *м. Паэт.* Вецер. *Як шум асеньняга вятрыска, Лунаўся розгалас сьляпы... Тапор завостраны заблыскаў, Грымнулі вілы і цапы.* УрП, 52.

Адз. Р. *вятрыска*: УрП, 52.

**[ВЯХА]** (2) *ж.* **1.** *Тое, што* мяжа ў 2 *знач. Мелі стаж гранічны вехі; Гадавала* [маці] *дзетак І чэкала з іх пацехі, Як вясною с кветак.* Дз, 188.

**2.** *Тое, што* мяжа ў 4 *знач. Цябе чакаем, будучыні нейкай, што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш, І гінем марна пад чужой апекай, Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.* Бц, 9.

Мн. Н. *вехі*: Дз, 188. Р. *вехаў*: Бч, 9.

**ВЯЧОВЫ** *гл.* **ВЕЧАВЫ**.

**ВЯЧЭРА** (4) *ж.* Ежа вечарам. [Дама]: *Не вячэра скромная, а вы самі, мусье Зносілов, вельмі скромны. Цяпер такую закуску можна спаткаць толькі ў надта высокіх асоб.* Т, 28. [Мікіта]: *Дзеля гэтага йдзеце* [Гануля] *з таварам дамоў і шыкуйце вячэру, а я застануся яшчэ тут.* Там жа, 34.

Адз. Н. *вячэра* (2): Т, 28(2). В. *вячэру* (2). Т, 28, 34.

**ВЯЧЭРНІ** (2) *прым.* **1.** Які бывае вечарам. *Час вячэрні. Даволі абшырны пакой, беднаваты, па-дробнамяшчанскаму абстаўлены.* Т, 19.

**2.** Які працуе, дзейнічае вечарам. [Мікіта]: *Цяпер я, пане прафэсар, маю шаснаццаць дзенных і восем вячэрніх, меджду протчым, пасадаў рэгістратара..* Т, 46.

Адз. м. Н. *вячэрні*: Т, 19. Мн. В. *вячэрніх*: Т, 46.

**[ВЯШЧУН]** (3) *м.:* Δ**Варажбіт-вяшчун** *гл.* варажбіт. **Вяшчун-прарок**: *Жывуць* [старыя багі], *як даўней жылі, – у песнях, казках, былінах, і чакаюць... чакаюць на новых старцаў мудрых, на вешчуноў-прарокаў златавустых.* Кз, 17.

Мн. Н. *вешчуны* (2): Кз, 17(2). В. *вешчуноў*: Кз, 17.

# Г

**ГА** (2) *часц.* **1.** *пытальная. Га, а цяперака што гаварыці?.. Ўсе мае скарбы намарна ідуць: Жыта ўчора вывозілі віці, Родныя хвойкі сягоння плывуць.* Н, 13.

**2**. *пабуджальная*. З мэтай прыцягнуць увагу. *Га! ты не слухаеш, бачу, ўжо болей. Ой, чалавеча, змярцвелы у сне!..* Н, 14.

**ГАБІНЕТ** *м.* Кабінет. [Гануля]: *.. з таго боку, дзе была мая спальня і Мікіткавы габінет, абодва гэныя пакоі заняў нейкі іхні рэдактар, па прозвішчы Гізульскі.* Т, 45.

Адз. Н. *габінет*: Т, 45.

**ГАВАРЫЦЬ** і *разм* **ГАВАРЫЦІ** (25) *незак.* **1.** Выражаць вусна якія-н. думкі, паведамляць што-н. [Мікіта]: *Можна мець светапогляд адзін, думаць другое, гаварыць трэцяе, а рабіць чацвёртае..* Т. 36. [Спічыні]: *Можаце думаць усё, што толькі вам падабаецца, але гаварыць абавязаны толькі тое, што іншым падабаецца.* Там жа, 40. // Расказваць, паведамляць. *Аб сваім пройдзеным творчым шляху за гэтыя трыццаць год я не буду гаварыць.* ДЖ. // Паведамляць, перадаваць. *Пастаўленыя намі (як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое разводзіць, што нам цяжка было дыхаць.* БС. // Выражаць сабой, паказваць. *..Баця сцягвае патрэбныя яму абаротныя сродкі, гэта дае яму повад гаварыць пра ўдзел рабочых у прыбытках..* ПЧ.

**2.** Весці гутарку, размаўляць з кім-н. *Людзі на вуліцах баяліся голасна гаварыць.* СНБ. *Так гаварыў прыблуднік ночы, Народ і слухаў, і маўчаў..* УрП.

**3.** Выражаць сабой што-н., сведчыць. *Што яна* [Беларусь] *павінна такой стацца, за гэта гавораць яе мінуўшчына, яе цяпершчына.* Нз.

◊**Гаварыць рознымі языкамі** – не разумець адзін аднаго. *Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя і бяднейшыя, пачалі гаварыць рознымі языкамі.* Нз.

Інф. *гаварыць* (11): Ан; ВСп; ДД; Кз; Нз (2); ПЧ; СНБ; СП; Т, 36, 40; *гаварыці*: Н. Абв. цяп. адз. 2 ас. *гаворыш* (2): Т, 20(2). 3 ас. *гаворыць*: ОШМ; *гавора* (2): БрБ; Т, 30. Мн. 1 ас. *гаворым*: Пп. 3 ас. *гавораць* (3): З; Нз; ПЛП. Пр. адз. м. *гаварыў*: УрП. Мн. *гаварылі* (2): БС; НДН. Буд. адз. 1 ас. *буду гаварыць*: ДЖ. Мн. 1 ас. *будзем гаварыць*: ПЛП.

**ГАВОРАЧЫ** (3) *дзеепрысл. да* гаварыць у 2 *знач. І вось мы, беларусы, гаворачы аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці, не павінны абходзіць моўчкі таго балючага пытання, як гэта мы .. будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі.* НДН. *Гаворачы слова "свабода", дадавай заўсягды "не тут спамінаючы", бо, як кажуць: не вызывай ліха, калі яно спіць!* СП. МІ.

**[ГАВОРКА]** *ж.* Размова. *І ў Галінкі-дзіцяняткі Ад такой гаворкі Ажно йскрацца вачаняткі, Нібы ў небе зоркі.* Вб.

Адз. Р. *гаворкі*: Вб.

**[ГАД]** *м. Разм., лаянк.* Агіднік, нягоднік, паганец. *Гэтакай подласці, гэтакай здрады Свет і не чуў і не бачыў. Смерць крывапійцам, раз'юшаным гадам, Вынішчыць след іх сабачы.* СЗГ.

Мн. Д. *гадам*: СЗГ.

**[ГАДАВАЦЦА]** *незак.* Выхоўвацца; жыць, расці. *У краіне гордай, горы дзе пад неба, Дзе быў прыкаваны Праметэй да скалы, Рос і гадаваўся ў бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС. *Зірнуць толькі .. на тысячы ясляў і дзіцячых садоў, дзе гадуецца новае радаснае пакаленне і рыхтуецца стаць будаўнікамі разумнага і шчаслівага жыцця.* ШБСЯ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *гадуецца*: ШБСЯ. Пр. адз. м. *гадаваўся*: ПСС.

**ГАДАВАЦЬ** *незак.* Выхоўваць. *Гадавала* [матка] *дзетак І чакала з іх пацехі, Як вясною з кветак.* Дз. *Ты гадуй сынка, матуля, У пялёнкі спавівай, Калышы, пей люлі-люлі, Пей паціху баю-бай.* М. // Разводзіць, вырошчваць. .. *ён* [селянін] *пытаецца кожны раз у Інстытут, як, што і дзе лепей сеяць, як гадаваць жывёлу..* ВСп.

Інф. *гадаваць*: ВСп. Пр. адз. ж. *гадавала*: Дз. Мн. *гадавалі* (2): Пп; ССА. Заг. адз. 2 ас. *гадуй*: М.

**[ГАДАВІНА]** *ж.* Дата, дзень. *Сёння мы напярэдадні вялікіх урачыстасцей – XVI гадавіны БССР..* ШБСЯ. *Параўн.* гадаўшчына.

Адз. Р. *гадавіны*: ШБСЯ.

**ГАДАЎШЧЫНА** (3) *ж. Тое, што* гадавіна. *Але толькі павінен я* [Купала] *адзначыць, што гэта пятнаццацігадовая гадаўшчына не да мяне аднаго адносіцца..* ПЛП. *Не свята светлае спраўляці Сягоння будзе наш народ. А трызну па атчызне-маці Ён справе ў гэты цяжкі год. У гэту нашу гадаўшчыну Звініць ланцуг, як і звінеў.* ГП.

**Гадаўшчына-памінкі.**

Адз. Н. *гадаўшчына* (2): ГП; ПЛП. В. *гадаўшчыну*: ГП.

**[ГАДЗІНА]** *ж.* ◊**Апошнія гадзіны** – канец. *Капіталістычны свет усе з большай і большай трывогай, азвярэннем і нянавісцю сочыць за гэтай сацыялістычнай будоўляй, добра ведае і адчувае, што справядлівай гісторыяй ужо палічаны апошнія гадзіны яго існавання.* АЛ.

Мн. Н. *гадзіны*: АЛ.

**[ГАДЗІНАВЫ]** *прым. Н725ватв.* Гадзючы, гадзюкавы. *Каб таго скруціла Гадзінавым скрутам І прыстала потым Сухажыльным прутам.* К.

Адз. м. Т. *гадзінавым*: К.

**[ГАДЗІННІК]** *м.* Прыбор для вымярэння часу. *Месца дзеі – кусок Катадральнага пляца, называнага іначай мянчанамі "Брахалка", – бліжэй ад Койданаўскай вуліцы, з відам насупроць – вежа з гадзіннікам.* Т, 33.

Адз. н. Т. *гадзіннікам*: Т, 33.

**ГАДЗЮКА** (4) *ж. перан. Лаянк.* Агідны чалавек. *Больш на нас не рыне банда Ашалелай сукай, З-за вугла нас не падсочыць Подлая гадзюка.* НК. *Гнеў пралетарскі мог і зможда сцерці З зямлі ўсіх падколодных яшчарыц, гадзюк..* СК. // *У параўн. Адбіваючы тут жа паклоны плашмя, Нейкі нехрысць крапідлам махае, пяе Ды шыпіць, як гадзюка, Хрыстова імя, І за золата гэта імя прадае.* БН.

Адз. Н. *гадзюка* (2): БН; НК. Т. *гадзюкаю*: ТП. Мн.В. *гадзюк*: СК.

**[ГАДОЎЛЯ]** *ж.* Гадаванне. – *Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі! А жыва да нас на таргоўлю: Пакупка – гасцінчык вам кожнаму будзе Чырвоненькі, хатняй гадоўлі!* Р.

Адз. Р. *гадоўлі*: Р.

**[ГАЗА]** (2) *ж.* Гаручая вадкасць. .. *колькі малых мяшэчкаў з прадуктамі, два селядцы, звязаныя лыкам, тры воблы, нанізаныя на аборку, невялічкая стограмовая пляшка з газай..* Т, 45. [Мікіта]: *Далей ідуць два фунты з чвэрткай гароху, не ведаю колькі газы..* Там жа, 46.

Адз. Р. *газы*: Т, 46. Т. *газай*: Т. 45.

**ГАЗЕТА** (25) і **ГАЗЭТА** (2) *ж.* Перыядычнае друкаванае выданне. *Кінуў* [Купала] *і гэтую работу і папаў у Вільню, дзе выходзіла газета "Наша ніва".* А, 328. .. *пачала выходзіць штодзённая беларуская газета..* СНБ.

Адз. Н. *газета* (4): А; Ан (2); СНБ. Р. *газеты* (2): СНБ; ЧЧШ; *газэты*: МІ. В. *газету* (6): Ан (3); ВСп; ПЧ; ЧЧШ. Т. *газэтай*: МІ. М. *газеце* (3): АЛ; ВСп; ЧЧШ. Мн. Н. *газеты*: ВСп. Р. *газет* (4): Ан (3); Т, 43; ШБСЯ. В. *газеты* (3): Ан (3). М. *газетах* (2): СК; СНБ.

**ГАЗЕТКА** (2) *ж. Памянш. да* газета. *Вось газетку надрукую, Чорна-чорную такую, Жыдаў біці і палякаў І з крамолай біцца ўсякай. Думаў, вёску з хамскім людам На такую злаўлю вуду, Дый газетка чуць жывая, Толькі сам яе чытаю.* ЛПК.

Адз. Н. *газетка*: ЛПК. В. *газетку*: ЛПК.

**[ГАЗЕТНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да газеты. *Прошлы раз я* [Купала] *ўжо выясніў, наскольki гэта магчыма было ў кароткай газетнай стацці, як бальшавікі то тварылі, то касавалі незалежную Беларусь..* СНБ.

Адз. ж. М. *газетнай*: СНБ.

**[ГАЙ]** (2) *м.* Невялікі лес. *На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хором..* ХБ, 28. .. *былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя..* Кз.

Адз. М. *гаі*: ХБ, 28. Мн. Н. *гаі*: Кз.

**ГАЙДА** *выкл. Разм.* Загад або заклік да дзеяння. *Але з ёмкаю нагайкай Знае дзела Налівайка, Гайда ў шынк па пратаколе І шумі яшчэ там болей.* НД.

**[ГАЙДАЦЬ]** *незак.* Хістаць, калыхаць. *А за ім* [чараўніком] *сучыць следам, цянюючы, зводнік. І гайдае зялёнае лісце.* Ч.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *гайдае*: Ч.

**[ГАК]** *м.* ◊**З гакам** – з лішнім. [Ануля]: (*пакінуўшы мыццё*) *О, даўненька! Бадай, годзікі* [не бачыліся] *са два ўжо будзе.* [Янка]: *Ды з гакам, цётачка.* Т, 44.

Адз. Т. *гакам*: Т, 44.

**ГАЛАВА** (36) *ж.* **1.** Верхняя частка цела чалавека. *Рэдактар паглядзеў, пакруціў галавой і нічога не сказаў.* Ан. .. *кладзе* [Мікіта] *на паруччы рукі, звешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму.* Т, 43. // У значэнні адзінкі падліку. *Ён* [ксёндз] *сказаў, што адну плату ён бярэ за адну галаву, а зусім іншую за дзве галавы.* А, 328.

**2.** Пра чалавека, як носьбіта якіх-н. уласцівасцей, якасцей. *Пятнаццаць год таму назад некалькі шалёных галоў захацелі галавамі мур прабіваць- адбудоўваць сваю закаваную ў многавяковыя кайданы Бацькаўшчыну, а сягоння без малага ўвесь народ усімі сіламі дамагаецца свайго вызвалення.* ПЛП.

◊**Вецер іншы дзьме ў галаве** *гл.* дзьмуць. **Волас з галавы не спадзе** *гл.* спасці. **Галава заведзена** *гл.* заведзена. **Галовы слаліся** *гл.* слацца. **Задурыць галаву** *гл.* задурыць. **Зачасаць сабе на галаве** *гл.* зачасаць. **Наклікаць на сваю галаву безгалоўя** *гл.* наклікаць **Пайсці па розум да галавы** *гл.* пайсці. **Схіляць сваю галаву** *гл.* схіляць. **У галаву не палезла** *гл.* палезці. **У галаве пуста** – пра легкадумнага чалавека. [Ануля]: *Не забыўся, бо малады яшчэ і ў галаве пуста. Падумайце, скасавалі чыноўніцтва, застаўся*

*без службы і хоць бы што, ні на грош таей сталасці.* Т, 20.

Адз. Н. *галаву* (3): МД; Т, 44(2). Р. *галавы* (3): Т, 20, 43, 59. В. *галаву* (9): А; ВР; Т, 23, 39, 40, 43, 46, 56, 58. Т. *галавой* (6): АБ; Ан; Т, 33, 48, 60; ШБСЯ. М. *галаве* (7): Н; СК; Т, 20, 32, 40, 44; ЧС. Мн. Н. *галовы* (2): Т, 35; Ч. Р. *галоў*: ПЛП. В. *галовы* (2): Т, 43; УрП; *галавы*: А. Т. *галавамі* (2): ПЛП; Т, 24.

**[ГАЛАДАЮЧЫ]** *дзеепрым. да* галадаць. .. *купляюць "цёплыя мужычкі – багатыры", буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэвалюцыю на гарадскім галадаючым насяленні.* ЗС.

Адз. М. *галадаючым*: ЗС.

**ГАЛАСАВАЦЬ** (2) *незак.* Удзельнічаць у галасаванні; падаваць голас. *Я ведаю, за каго галасаваць.* ГВУ. *Ну, за гэтага дык можна, Чалавек вядомы. Галасуй ідзі, бабулька, Я пабуду дома.* Вб.

Інф. *галасаваць*: ГВУ. Заг. адз. 2 ас. *галасуй*: Вб.

**[ГАЛАСІСТЫ]** *прым.* Звонкі. *Хутка жаўранак песняй сваёй галасістаю Прывітае аратых на полі.* ТС.

Адз. ж. Т. *галасістаю*: ТС.

**[ГАЛАСІЦЬ]** (3) *незак.* **1.** Голасна плакаць. *Праз два гады на Беларусі Народ аб радасці не сніў, А галасіць і плакаць мусіў На папялішчы хат і ніў. Над курганамі галасілі Сіроты, ўдовы, жабракі..* ГП.

**2.** *перан.* Голасна крычаць. *Гэта ўраз жэ падхватываюць палякі .. і на розны тоны галосяць: "вось, бачыце, да чаго даводзіць беларушчына: вас прымусяць вучыцца па расейску!"* ВР.

Інф. *галасіць*: ГП. Абв. цяп. мн. 3 ас. *галосяць*: ВР. Пр. мн. *галасілі*: ГП.

**[ГАЛАСЛОЎНЫ]** *прым.* Заснаваны толькі на фактах. *І яны спяшаюцца прадаваць... Прададзены ўжо (каб не быць галаслоўным) двор Бяларучы ў Мен<скім> павеце, распрадаецца ўраздроб вялікі двор Косіна ў Барысаўскім пав<еце> і г.д.* ЗС.

Адз. м. Т. *галаслоўным*: ЗС.

**ГАЛЕЧА** *ж.* Бедната. *І сёння там ходзіць галеча ў лахмоцці Пад звон набажэнства, пад голас маны..* ПБН. *Параўн.* галытня.

Адз. Н. *галеча*: ПБН.

**[ГАЛІ́НА]** (2) *ж.* Адростак, сук з веццем. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі ў пушчы цешацца З гоману шумлівага; Калі вербы ніцыя Рвуцца ўвысь галінамі;* ПЛ. *Дакуль з галін святой дубровы Чужняк не сцягне і лістка.* УрП.

Мн. Р. *галін*: УрП. М. *галінамі*: ПЛ.

**[ГАЛІНА́]** (5) *ж.* Асобная вобласць культуры, навукі. *Калі ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага сацыялістычнага будаўніцтва Краіна Саветаў .. дасцігла небывалых і нечуваных*

*поспехаў на страх і здзіўленне адміраючаму капіталістычнаму свету, то ў галіне літаратуры і мастацтва гэтакіх поспехаў і такога шпаркага развіцця не адчувалася.* ДНСП.

Адз. М. *галіне* (4): ДНСП (3); ШБСЯ. Мн. М. *галінах*: ВСп.

**ГАЛІФЭ** (2) *н. нескл.* Штаны спецыяльнага крою, якія аблягваюць калені і расшыраюцца ўгору. *На шапцы ў яго* [Мікіты] *вялікі значок з белым арлом – брыль абабіты бляхай, фрэнч і галіфэ новыя, з цёмна-жоўтага сукна.* Т, 54. [Мікіта]: (*хаваючы грошы ў галіфэ і выходзячы). Меджду протчым, я не з такіх, мамаша, каб упутацца.* Там жа, 56.

**[ГАЛІЦЬ]** *незак.* Зразаць брытвай валасы; брыць. *Гэнрых Мотавіч Спічыні – Мікітавы настаўнік, сярэдняга веку, бараду і вусы голіць.* Т, 19.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *голіць*: Т, 19.

**[ГАЛОДНЫ]** (9) *прым.* **1.** Які адчувае голад. *Сыны зямлі роднай чужыя палешукі Ў чужую карысць засяюць, На родных папарах галодныя дзеткі Чужую жывёлу пасуць..* ЗК. *З-пад Смаргоні, з-пад Маладзечна, з-пад Крывічаў і г.д. і г.д. абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй Бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць..* АБ.

**2.** Выкліканы голадам. .. *ніхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здратавалі ні за што ні пра што, каб хоць у частцы прыйшлі з падмогай дзеля яго адбудавання, дзеля яго ратавання ад галоднай і халоднай смерці.* АБ.

**3.** Бедны на раслiннасць. *Ад гарачых пяскоў .. і да ледавітага "паўночнага зіяння", дзе на сцюдзёных галодных раўнінах неабнятай тундры набожны шаман муштруе бажкоў сваіх, – як ёсць усюды пануе гэты ясневяльможны бяссмертны забабон.* З.

**4.** *перан.* З недахопам ежы. *Махае касою касец, Пазбыўшы галодны прыгон.* ТП.

Адз. м. *галоднаму*: Бц. В. *галодны*: ТП. ж. Р. *галоднай*: АБ. н. Н. *галоднае*: БСУ. Мн. Н. *галодныя* (3): АБ; ЗК; МІ. Т. *галоднымі*: ЗС. М. *галодных*: З.

**[ГАЛОДНЫ-ХАЛОДНЫ]** *прым.* Які адчувае голад і холад. *Жылі – як і дзе папала ў падвалах, халодныя і галодныя, нажывалі сабе сухоты і іншыя галодныя-халодныя хваробы..* МІ.

Мн. В. *галодныя-халодныя*: МІ.

**[ГАЛОНЗЬ]** *ж.* Галіна. [Заходні вучоны]: *Людносць обэцне розкшэвя сень на две галэнзі родовэ..* Т, 26.

Мн. В. *галэнзі*: Т, 26.

[**ГАЛОСЯЧЫ]** *дзеепрым.* Які галосіць. *Аб гэтым штодня ідуць скаргі, жалобы, пратэсты; аб гэтым ня раз пісалі, зьвярталі увагу вышэйшай польскай улады і ня раз ужо беларускія*

*палітычныя кругі прасілі уладу зрабіць патрэбныя крокі, каб прыпыніць злачынствы проці яе ж уласных законаў, але усе гэта засталося лямэнтам, галосячым у пустыні.* ОШМ.

Адз. м. Т. *галосячым*: ОШМ.

**[ГАЛОЎКА]** *ж.*: ◊**Па галоўцы гладзіць** *гл.* гладзіць.

Адз. М. *галоўцы*: Т, 37.

**[ГАЛОЎНЫ]** *прым.* Асноўны, цэнтральны. .. *на працягу рада год вяла* [група інтэлігентаў] *шкодніцкую контррэвалюцыйную работу амаль на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва, накіроўваючы галоўныя ўдары, аднак, па лініі культуры і зямельнай эканомікі.* АЛ.

Мн. В. *галоўныя*: АЛ.

**[ГАЛУБІЦЬ]** (2) *незак. Паэт.* Песціць, мілаваць, лашчыць. *Ці там вецер водзіць гулі Так на самагубе. – Бы сваё дзіцё матуля Песціць ды галубе?* Дз. *Разам тут і дзяўчынка-краса.. Я галубіў калісь...* БН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *галубе*: Дз. Пр. адз. м. *галубіў*: БН.

**[ГАЛУБКА]** *ж. Ласк. да* пакупка. *Падходзь жа, паночку! .. знімі акуляры – Лепш будзе агледзіць пакупку, Ты барынька, там жа пабліжся!.. мы нары Дамо нават з ёю, галубкай...* Р.

Адз. Т. *галубкай*: Р.

**[ГАЛУБОЧАК]** *м.* Ласкавы зварот. [Гануля]: *Мае паночкі, мае галубочкі! Хаця не змікіцьце майго Мікітку.* Т, 61.

Мн. Н. *галубочкі*: Т, 61.

**[ГАЛЫТНЯ]** *ж. зб. Разм. Тое, што* галеча. *Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй..* Нз.

Адз. Т. *галытнёй*: Нз.

**[ГАМАНІЦЬ]** і *разм.* **ГАМАНІЦІ** (7) *незак.* **1.** Гаварыць, размаўляць. *І песні, і музыка, й людзі гамоняць Ад фабрык да фабрык, ад хат і да хат.* НДп. *Сабраліся* [газеты] *хэўрай, Як свінні на сметнік. І ну ж гаманіці, Ўхмыляцца пад вусам, Як лепш атуманіць Мазгі беларусам.* Х.

**2.** *перан.* Шумець, гусці. *Як ён* [вецер] *свішча і як гамоніць Ў гэты страшны, значаны год!* ВБЛ. *Патайна хмары гаманілі, лучыўся з песняй шум глухі.* УрП.

Інф. *гаманіці*: Х. Абв. цяп. адз. 3 ас. *гамоніць*: ВБЛ. Мн. 3 ас. *гамоняць* (3): ВМ; ДД; НДп. Пр. мн. *гаманілі*: УрП. Заг. адз. 2 ас. *гамані*: Ш.

**[ГАМОНКА]** *ж.* Гутарка, размова. [Аленка]: *Ці не час ужо, дзядзька настаўнік, пакінуць гамонку..* Т, 39.

Адз. В. *гамонку*: Т, 39.

**ГАНАРОВЫ** (4) *прым.* **1.** Які карыстаецца пашанай; пачэсны.

*За ўсё гэта яна* [Бацькаўшчына] *ўзнагароджана вялікай ганаровай адзнакай – ордэнам Леніна. І мне тут – у гэты шчаслівы, ганаровы для мяне час – хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі да таго, каб Беларусь .. стала .. вольнай нацыянальна і сацыяльна*. ЖН.

**2.** Які даецца, прысвойваецца. [Спічыні]: (*чытае)“Баронэса Шпацэрзон, ганаровы член Менскай дабрачыннасці”.* Т, 61. [Мікіта]: *.. да маёй рангі рэгістратара дабавіла* [начальства] *ганаровую падрангу, якая па-нашаму завецца “Совбур”.* Там жа, 46.

Адз. м. Н. *ганаровы*: Т, 61. В. *ганаровы*: ЖН. ж. В. *ганаровую*: Т, 46. Т. *ганаровай*: ЖН.

**[ГАНАРЫЦЦА]** *незак*. Адчуваць гонар *у* 2 *знач. Я ганаруся і гарджуся, што .. Савецкі ўрад даў мне годнасць народнага паэта рэспублікі..* ДЖ. *Параўн*. гардзіцца.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *ганаруся*: ДЖ.

**ГАНДАЛЬ** (11) *м*. Продаж і купля тавараў, торг. [Мікіта]: *Нешчаслівым для гандлю і мне сягонешні дзень выпаў*. Т, 34. *Не касавалі* [бальшавікі] *дробнага гандлю і не забаранялі прывозіць прадукты з вёскі ў места*. СНБ.

Адз. Н. *гандаль* (3): Т, 36, 60(2). Р. *гандлю* (4): СНБ; Т, 34, 36(2). В. *гандаль* (4): Т, 60(3); Чж.

**[ГАНДЛЁВА-ПРАМЫСЛОВЫ]** (2) *прым*. Які мае адносіны да гандлю. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я вам не адзін раз казаў і яшчэ кажу: у вас няма зусім гандлярскай жылкі, у вас не хапае нават чуткай кемнасці ў гандлёва-прамысловых справах..* Т, 34. [Мікіта]: *У гандлёва-прамысловых адносінах мы павінны рабіць від, што яна і не такая, і не нейкая*. Там жа, 34.

Мн. М. *гандлёва-прамысловых* (2): Т, 34(2).

**[ГАНДЛЁВЫ]** *прым*. Які мае адносіны да гандлю. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я ўважаю, што, апрача ўсяго іншага, сягоння ў дабавак нейкі выключны дзень, і вам ніякай гандлёвай “здзелкі”, бадай, не ўдасца ўжо правесці.* Т, 34.

Адз. ж. Р. *гандлёвай:* Т, 34.

**[ГАНДЛЯВАЦЬ]** (5) *незак*. Весці гандаль. *Купляюць, збываюць і гандлююць чужынцы Народным дабром, як сваім...* ЗК. // *перан*. Рабіць што-н. прадметам гандлю, паступацца чым-н. *Край свой ачысціць ад хэўры драпежнай, Ад гандляроў, п’яных славай крывавай, Што гандлявалі на рынках замежных Фінскім народам і фінскай дзяржавай*. Ф. *У прыёмных нямецкіх і японскіх контрразведак трацкісцкія шпіёны і здраднікі гандлявалі нашай крывёю і нашым нацыянальным гонарам.* ВНЗ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *гандлююць*: ЗК. Пр. мн. *гандлявалі* (3): ВНЗ; МПв; Ф. Буд. адз. 1 ас. *буду гандляваць*: Т, 33.

**[ГАНДЛЯР]** (4) *м.* **1.** Той, хто займаецца прыватным гандлем. [Янка]: *Ездзі сабе са сваімі манаткамі ды ездзі сабе, як гандляр з кірмашу на кірмаш...* Т, 55.

**2.** *перан. Пагардл.* Беспрынцыповы чалавек. *Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў гандляроў сягодняшняй культурай, культурай заходняй, еўрапейскай.* Тж. *Гандляры айчынай Па чужым заказу.. Вынішчыць дашчэнту Гэтую заразу!* МПв.

Адз. Н. *гандляр*: Т, 55. Мн. Н. *гандляры*: МПв. Р. *гандляроў* (2): Тж; Ф.

**[ГАНДЛЯРСКІ]** *прым.* Заснаваны на ўласнай выгадзе. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я вам не адзін раз казаў і яшчэ кажу: у вас няма зусім гандлярскай жылкі..* Т, 34.

Адз. ж. Р. *гандлярскай:* Т, 34.

**[ГАНЕЦ]** (5) *м.* Пасыльны. *Закончыў князь, махнуў рукой; Уходзяць тры ганцы ў святліцу Ідуць суважнаю ступой І князю й княжне пакланіцца.* Кц. *Сказаўшы так, маўчаць ганцы, Маўчыць і князь крыху часіны І дасць адказ такі ў канцы Ганцом на іхнія навіны*: Там жа.

Мн. Н. *ганцы* (3): Кц (3). Д. *ганцом*: Кц. В. *ганцоў*: Кц.

**[ГАНІЦЬ]** *незак. Тое, што* ганьбіць. *.. М. Кудзелька даў паэму "Босыя на вогнішчы", звярнуўшы на сябе ўвагу розных крытыкаў, якія падзяліліся на прыхільнікаў і непрыхільнікаў паэмы – адны хваляць, а другія ганяць.* ВСп.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *ганяць*: ВСп.

**[ГАНЬБІЦЬ]** *незак.* Няславіць, абражаць. *Аднак, трэба аддаць справядлівасці, дэкрэтамі не ганьбяць беларускай мовы ў школах, у тэатрах.* СНБ. *Параўн.* ганіць.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *ганьбяць*: СНБ.

**ГАНЯЦЦА** *незак. перан.* Высочваць. *Першы брат ад яе* [Судзьбіны] *меў наказ незабыты*: .. *Бачыш зоры і сонца вясёлае бачыш? З імі рвіся ўсім сэрцам зраўняцца, А як след свой зарнічным святлом абазначым, – За табой кінуць зморы ганяцца.* Ч.

Інф. *ганяцца*: Ч.

**[ГАНЯЦЬ]** (2) *незак.* Прымусова выганяць, адпраўляць. [Гануля]: *Ганяюць людзі людзей без дай прычыны ды ганяюць.* Т, 54(2).

Абв. цяп. мн. 3 ас. *ганяюць*: Т, 54(2).

**[ГАРА]** (12) *ж.* Прыроднае ўзвышэнне ўчасткаў зямлі. *У краіне гордай, горы дзе пад неба.. рос і гадаваўся ў бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС. *Вы таксама бяссільны павярнуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія ці Швейцарскія горы адны на месца другіх.* Тж.

Адз. Р. *горы* (2): Пц; $Ш_7$. М. *гарэ*: Кц. Мн. Н. *горы* (2): ПСС;

Ф. Р. *гор* (3): СК; УрП; ХБ. В. *горы* (3): Кц; Т, 47; Тж. Т. *горамі*: ДПЛС.

**[ГАРАВАЦЬ]** *незак.* Жыць бедна, цярпець гора, ліхалецце; мучыцца. *Сялянскія гоні адзеты ў кайданы , У вузкія межы ўвагнаны палі. Гаруе там брат наш, гібее пад панам, Жахлівасцю вее з Заходняй зямлі.* ПБН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *гаруе*: ПБН.

**ГАРАДЗІЦЬ** *незак.*: ◊**Плот гарадзіць –** выдумляць. [Ануля]: *Ну, і пайшлі плот гарадзіць, каб вы яміліся, мае ж вы шлюбоўнікі! А вяселле таксама было?* Т, 54.

Інф. *гарадзіць*: Т, 54.

**ГАРАДОК** *м.* Невялікі горад. *Слуцак – павятовы гарадок..* МІ.

Адз. Н. *гарадок*: МІ.

**[ГАРАДСКІ]** (4) *прым.* Які належыць гораду. *І цяпер у гарадской бальніцы.. яму нічога не сніцца..* ВБЛ. *.. у гарадскім тэатры адбыўся спектакль, у якім выступаў і беларускі хор Тэраўскага.* СБНГ.

Адз. м. М. *гарадскім*: СБНГ. ж. М. *гарадской*: ВБЛ. н. М. *гарадскім*: ЗС. Мн. В. *гарадскія* : З.

**ГАРАЧЫ** (8) *прым.* **1.** Моцна нагрэты. *Каб вады гарачай На таго нагрэлі І не ўстаў ён болей Са сваёй пасцелі*; К. *Ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі.. і да ледавітага “паўночнага зіяння”.. усюды пануе гэты ясьневяльможны бяссмертны забабон.* З. // Спякотны, душны. *.. лета гарачае, але яно асьвяжаецца такімі навальніцамі з пярунамі, якіх я не бачыў у Расіі...* ХБ, 29.

**2.** *перан.* Страсны, палкі. *Сягодня ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі..* МІ. // Які вызначаецца глыбінёй пачуццяў. *Ад усяго сэрца, поўнага вялікай творчай радасцю мае радзімы – вялікага Совецкага Саюза і неадрыўнае часткі яго – Совецкай Беларусі, дазвольце мне, шчасліваму народнаму паэту, прынесці сваё гарачае прывітанне..* ВГР.

Адз. ж. Н. *гарачая*: ГП. Р. *гарачай* (2): К; МІ. В. *гарачую*: БСУ. Т. *гарачай*: ЧС. н. Н. *гарачае*: ХБ, 29. В, *гарачае*: ВГР. Мн. Р. *гарачых*: З.

**[ГАРБАТА]** (2) *ж.* Чай. *.. бо, як вядома, у Маскве няма ні гарбаты, ні цукру.* Ан. *.. збіраюцца яны* [налогі] *не з таго, хто штось не мае, а з таго, што паступае на продаж, як, напр<ыклад>, акцыз на табаку, цукар, гарбату і інш.* ВН.

Адз. Р. *гарбаты*: Ан. В. *гарбату*: ВН.

**[ГАРБАТЫ]** *прым.* Які мае горб. *Туман засцілаў людзям душы і вочы, З туманаў тырчэлі гарбатыя плечы.* ТП.

Мн. Н. *гарбатыя*: ТП.

**ГАРБУЗ** *м. У параўн.* [Мікіта]: *Буржуазія з кожным днём*

*ад недастаткаў таўсцела.. як той гарбуз..* Т, 40.

Адз. Н. *гарбуз*: Т, 40.

**[ГАРДЗІЦЦА]** *незак. Руск. Тое, што* ганарыцца. *Я* [Купала]: *ганаруся і гарджуся, што.. Савецкі ўрад даў мне годнасць народнага паэта рэспублікі..* ДЖ.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *гарджуся*: ДЖ.

**[ГАРМАТА]** (3) *ж.* Пушка. *Пасылай* [Варашылаў] *байцоў адважных, Стрэльбы, кулямёты, Танкі, трактары, гарматы, Птахі-самалёты!* ЗЯЗ. *Не стане тых меж і граніц, што дзеляць народы сабой, Заціхнуць гарматы байніц, Не ўгнояцца нівы крывёй.* ТП.

Мн. Н. *гарматы*: ТП. Р. *гарматаў*: ВМ. В. *гарматы*: ЗЯЗ.

**ГАРМАТНЫ** (5) *прым.* Які мае адносіны да гарматы. *Людзі варочаюцца да сваіх хат, а не знаходзяць іх, шукаюць сваіх гоняў, а іх не відаць: гарматныя стрэлы змялі з вобліку зямлі хаты..* АБ. *Зрэдку далятаюць далёкія гарматныя выстралы.* Т. 53.

Адз. м. Н. *гарматны*: АБ. ж. Т. *гарматнай*: Ан. Мн. Н. *гарматныя* (3): АБ; СНБ; Т. 53.

**[ГАРНУЦЦА]** *незак. перан.* Шукаць збліжэння. *Гэтыя дзве ўстановы і як яшчэ могуць прыйсці на помач бяднейшым сялянам, толькі трэба, каб і самі сяляне гарнуліся да іх і дзе можна закладалі новыя такія крамы і банчкі.* ВС.

Абв. пр. мн. *гарнуліся*: ВС.

**ГАРОТНЫ** (5) *прым.* **1.** Бедны, няшчасны. *Рос і гадаваўся ў бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС. *Тыя шчыра дэмакратычныя думкі .. аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай, найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы.* НДН. // *перан. Сонца ўзышло над гаротнаю нівою.* ДПЛС.

**2.** Горкі. *І паліліся ізноў па віленскім каркаломным бруку гаротныя слёзы, слёзы кракадзілавы.* ЧЧШ.

**3.** *У знач. наз.* Гаротнік. *Я раскажу ім, як следна, па плану, Як мне, гаротнаму, пот вочы выеў.* Д.

Адз. м. Н. *гаротны*: ПСС. Д. *гаротнаму*: Д. ж. Т. *гаротнаю*: ДПЛС. Мн. Н. *гаротныя*: ЧЧШ. В. *гаротныя*: НДН.

**[ГАРОХ]** *м.* Бабовая расліна. [Мікіта]: *Далей ідуць.. два фунты з чвэрткай гароху, не ведаю колькі газы..* Т, 46.

Адз. Р. *гароху*: Т, 46.

**[ГАРОШЫНКА]** *ж.* Невялікая гарошына. *Дасцё крыві з каплю, з гарошынку чэсці, І – ваша душа ва ўсёй хвале...* Р.

Адз. В. *гарошынку*: Р.

**ГАРТ** (3) *м. перан.* Стойкасць, мужнасць, загартоўка. *Агнём і жалезам куецца моц, гарт, доля і воля народная.* ПЛПЛ. *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль тваё пачуе*

*вуха Камсамольскі гарт юначы*. СА, 179.

Адз. Н. *гарт*: ПЛП. В. *гарт*: СА, 179. Т. *гартам*: УрП.

**[ГАРТАВАЦЦА]** *незак. перан.* Набываць стойкасць, вынослівасць. *Выраслі і далей растуць і гартуюцца непераможныя будаўнікі бяскласавай соцыялістычнай грамады*. ШБСЯ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *гартуюцца*: ШБСЯ.

**ГАРТОЎНА** *прысл. Вобразн.* Дасканала. *А песня з душы і гартоўна, як сталь, Якую пяе арлоў горных сям'я, Якую пяе пры кавадле каваль*. СС.

**ГАРУД** *м. Абл.* Аруд; засек. *Зато гумно – важна! Пры ім стажкі ўжатку, Ня стоўпілісь ў гарудах, – пабачыш з намеку*. ХБ, 28.

Адз. М, *гарудах*: ХБ, 28.

**[ГАРШЧОК]** *м.* Пасудзіна для гатавання справы. *Разыграліся гурмай за зданяю здань, Як вужакі ў гаршку, мітусяцца яны*. БН.

Адз. М. *гаршку*: БН.

**ГАРЭЛКА** (10) *ж.* Алкагольны напітак. [Ганулям]: (*зірнуўшы ў кошык) А мамачкі ж мае! Гэта ж гарэлка!* [Мікіта]: *Новая ўлада гарэлку забараняе, а што забаронена, тое смачна і дорага каштуе*. Т, 58.

Адз. Н. *гарэлка*: (6): Т, 58(3), 60(2), 61. В. *гарэлку* (4): ВН (3); Т, 58.

**[ГАРЭЦЬ]** (2) *незак.* Ззяць бляскам, выдзяляцца яркімі колерамі, афарбоўкай. .. *усё маё жыцьцё любаваўся-б гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што аж гараць на фоне сасновага бору..* ХБ, 29. *Да ніў родных, калосьсем ярка маляваных, Залочаных пшаніцай, жытам пасрабраных, Гдзе жоўтая сьвірэпка, гдзе грэчка бяленька. Гдзе дзяцеліна гарыць, вось красна паненка, ..* Там жа, 28.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *гарыць*: ХБ, 28. Мн. 3 ас. *гараць*: ХБ, 29.

**ГАСПАДАР** (23) *м.* **1.** Уладар. *Яна* [рэвалюцыя] *змагаецца за тое, каб кожны народ пастанаўляў сам аб сваёй долі і быў гаспадаром свайго краю, свайго багацця*. СНБ. *Годзе нам есці аб'едкі і косці, Злыбядзе ўсялякай паклоны дарыць! Гаспадары мы ў сябе, а не госці..* Г.

**2.** Селянін, уласнік, уладальнік. *Гаспадар той суважна свой шнур па-святочнаму Абыходзіці будзе, красой любавацца..* ТС.

**3.** Хто вядзе, займаецца гаспадаркай. [Янка]: (*Да Ганулі). .. мая найздальнейшая вучаніца Аленка, а гэта бацька яе, Лявон Гарошка – найлепшы гаспадар з усяго сяла.* Т, 25.

**4.** Галава дома. [Янка]: *Дзякую вам за шчырасць і ласку, хоць і сам не ведаю, чым я на ўсё гэта заслужыў. (Паўза). Дзе ж гэта гаспадар ваш малады?* Т, 19.

5. Муж. [Гануля]: *Мой нябожчык гаспадар жыў пры бацькох на маленькім надзеле.* Т, 20.

**ΔГаспадар-беларус:** *Гэта было цяжкае, галоднае прадвесне, як і кожнае прадвесне ў гаспадара-беларуса.* БСУ.

Адз. Н. *гаспадар* (7): Пт; РКр (2); Т, 19, 20, 25; ТС. Р. *гаспадара* (2): ВГР; УПУВ. Д. *гаспадару*: Т, 21. В. *гаспадара*: БСУ. Т. *гаспадаром* (2): СНБ; Т, 35. Мн. Н. *гаспадары* (3): БС; Г; Нз. Р. *гаспадароў*: БС. В. *гаспадароў*: ПВ. Т. *гаспадарамі* (4): НДН; Т, 35. 44(2), 58.

**ГАСПАДАРКА** (21) *ж.* **1.** Вытворчасць, эканоміка. *Пачалася на Беларусі бальшавіцкая гаспадарка.* СНБ. .. *метады дзяржаўнай гаспадаркі польскіх эндэкаў мала чым розняцца ад метадаў расійскіх бальшавікоў.* Там жа.

**2.** Галіна вытворчасці. *Сельская гаспадарка ў Чэхаславакіі вядзецца прымітыўна..* ПЧ. *Кнігі па сельскай гаспадарцы.* ВСп.

**3.** Уласная маёмасць. *Гаспадарку я* [Купала] *не любіў, а вазіўся заўсёды з кніжкамі..* А. 328.

**Наша гаспадарка.**

Адз. Н. *гаспадарка* (5): А, 328; ВС; НГ; ПЧ; СНБ. Р. *гаспадаркі* (3): ВСп; СНБ (2). В. *гаспадарку* (7): А, 328; БС (2); РКр (2); СНБ; Т, 40. Т. *гаспадаркай*: ПЧ. М. *гаспадарцы* (5): А, 328; ВСп (2); ІХ; ХБ, 28.

**ГАСПАДАРНЫ (3)** *прым.* Гаспадарлівы. *Чалавек ён* [Молатаў] *гаспадарны, Скажам смела ў вочы, Аб рэспубліках савецкіх Дбае днём і ночай.* НК. *Ці ж беларускі народ – гэткі вялікі і гаспадарны – не заслужыў на тое, каб і для яго Бацькаўшчыны закрасавала?* ДД.

Адз. м. Н. *гаспадарны* (2): ДД; НК. Кар. адз. ж. Н. *гаспадарна*: ХБ, 28.

**[ГАСПАДАРЧЫ]** *прым.* Які мае адносіны да гаспадаркі, эканомікі. *А дружба народаў Савецкага Саюза.. мае нават большае значэнне, чым нашы гаспадарчыя поспехі.* ЖН.

Мн. Н. *гаспадарчыя*: ЖН.

**ГАСПАДАРШЫ** *прым.* Больш гаспадарлівы. *Заставаўся толькі старшы* [сын] *Гаспадарыць дома, Бо ад тых быў гаспадаршы, Хоць быў ў іх за лома.* Дз.

Адз. м. Н. *гаспадаршы*: Дз.

**[ГАСПАДАРЫЎШЫ]** *дзеепрым.* Які гаспадарыць. .. *кучка бальшавіцкіх камісараў, гаспадарыўшая раней у Менску, уцякла ў Смаленск.* СНБ.

Адз. ж. Н. *гаспадарыўшая*: СНБ.

**ГАСПАДАРЫЦЬ (8)** *незак.* **1.** Весці гаспадарку, займацца гаспадаркай. *Спрадвеку мы ў родным краі гаспадарым, –*

*Свае загоны сеем, пасцім статак свой*; НГ. *Застаўся толькі старшы* [сын] *Гаспадарыць дома.* Дз.

**2.** *Неадабр*. Бесцырымонна распараджацца. *Немец гаспадарыў, як сам хацеў, над намі, над нашым дабром..* БС.

Інф. *гаспадарыць*: Дз. Абв. цяп. адз. 3 ас. *гаспадарыць*: НГд. Мн. 3 ас. *гаспадарым* (3): БС; НГ (2). Пр. адз. м. *гаспадарыў*: БС. Буд. адз. 1 ас. *будзе гаспадарыць* (2): АБ; Ф.

**ГАСПАДЗІН** (4) і **ГОСПОДЗІН** *м. Руск., іран*. Пан. [Спраўнік]: *Спраўніцкія пагоны, гаспадзін таварыш: памятка былога вялічча.* Т, 61. *Сабою самі ўстаць з руін Вам не хапала смагі, сіл I вось к вам вылез цень з магіл: Крывавы грош і "гаспадзін", А іх закон адзін, адзін.* ПВ. [Усходні вучоны]: (*да Янкі). Очэнь кстаці, что вы, господзін белорус, здзесь*. Т, 38

Адз. Н. *гаспадзін* (3): ПВ; Т, 61 (2); *господзін*: Т, 38. Мн. кл. *гаспада*: МІ.

**ГАСУДАРСТВА** (5) *н. Руск. Тое, што* дзяржава. *Мала таго, што грамадзянства дае сваіх сыноў на абарону гасударства*. ВН. *Бо толькі тое гасударства зможа не дацца ў крыўду або і перамагчы свайго праціўніка..* Там жа.

Адз. Н. *гасударства*: ВН. Р. *гасударства*: ВН. М. *гасударстве*: ВН. Мн. Р. *гасударстваў* (2): ВС; Кз.

**ГАСУДАРСТВЕННЫ** (4) *прым. Руск*. Які ўстанаўлівае, нясе гасударства. *Гасударственныя налогі бываюць дваякія: простыя (беспасрэдныя) і пабочныя*. ВН. *.. урад павінен не толькі дастаць грошы на гасударственныя расходы.. але яшчэ павінен дастаць іх і на ваенныя расходы.* Там жа.

Адз. м. В. *гасударственны*: ВН. ж. Р. *Гасударственнай*: ВН. Мн. Н. *гасударственныя*: ВН. В. *гасударственныя*: ВН.

**[ГАСЦІНА]** *ж. Нар.-паэт.* Прыём гасцей, частаванне. *Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначываўся..* Кз.

Адз. Т. *гасцінаю*: Кз.

**[ГАСЦІНЕЦ]** (3) *м.* Бойкая дарога, шлях, тракт. *А толькі іх душ ажывіць* [песня] *не магла I к шчасцю масціці гасцінец...* КП. *Шлі, ідзём далей ўлева ці ўправа – Простым гасцінцам..* Пп.

**ΔГасцінец-дарога:** *А як пойдзе другім хто гасцінцам-дарогай.. Свой палетак любіць стане горай чужога*, Ч.

Адз. В. *гасцінец*: КП. Т. *гасцінцам* (2): Пп; Ч.

**[ГАСЦІНІЦА]** (3) *ж.* Атэль. [Мікіта]: *Усяго таго было, што я па загаду свайго, медджу протчым, начальніка насіў гэтыя рэчы яму ў гасцініцу "Парыж".* Т, 60. *Будынкі ўстаноў, гасцініц, дзе мы спыняліся, былі ўпрыгожаны савецкімі сцягамі*. ПЧ.

Адз. В. *гасцініцу*: Т, 60. М. *гасцініцы*: Т, 57. Мн. Р. *гасцініц*: ПЧ.

**ГАСЦІННАСЦЬ** *ж.* Сардэчнасць, ветлівасць. [Пан]: *Ваша гасціннасць у тыя, цяжкія для нашага стану, часы абавязала мяне як найхутчэй прывітаць вас ад сябе і ад маіх..* Т, 51.

Адз. Н. *гасціннасць*: Т, 51.

**[ГАСЦІННЫ]** *прым.* Прыветны, сардэчны, радасны, ветлівы. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі, а пасля з дабраты сваей і рупнасці гасціннай прынялі..* Кз.

Адз. ж. Р. *гасціннай*: Кз.

**ГАСЦІНЧЫК** *м.* Падарунак. – *Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі! А жыва да нас на таргоўлю: Пакупка – гасцінчык вам кожнаму будзе Чырвоненькі, хатняй гадоўлі!* Р.

Адз. Н. *гасцінчык*: Р.

**ГАСЦІЦЬ** (5) *незак.* Быць госцем. [Гануля]: *Можаце гасціць ў мяне хоць кожны дзень ад рання да вечара – мне самой вясялей..* Т, 19. [Дама]: *.. бацюшка, які з намі ў вас гасціў, абяцаў.. зробіць протэкцыю ў Прэображэнскі жаночы манастыр.* Там жа, 58. // *перан. Воля і доля над доламі, горамі Госціць у нас цудатворнаю казкаю.* ДПЛС.

Інф. *гасціць*: Т, 19. Абв. цяп. адз. 3 ас. *госціць*: ДПЛС; *госце*: УрП. Пр. адз. м. *гасціў*: Т, 58. н. *гасціла*: ПСС.

**ГАТАВАЦЬ** *незак. Разм.* Рыхтаваць. *.. трэба.. падчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі, загадаўшы ім прышчапляць вучням любасьць да роднага краю, разьвіваць у іх пашану да таго народу, сярод каторага яны жывуць, і гатаваць з іх добрых, сумленных і працавітых работнікаў на ніве беларускай культуры.* ДК.

Інф. *гатаваць*: ДК.

**[ГАТОВЫ]** (7) *прым.* **1.** Які падрыхтаваны да чаго-н., зрабіў неабходныя прыгатаванні. [Мікіта]: *Меджду протчым, я гатоў, мусье прафэсар.* Т, 31.

**2.** Падрыхтаваны загадзя. *К такому запытанню трэба нам быць гатовымі.* БС. [Мікіта]: *Прыходзяць немцы, пачнуцца балі, рауты, маскарады, а ў мяне во і гатоў маскарадны касцюм.* Т, 24.

◊**Раз, два! і гатова** *гл.* раз.

Мн. Т. *гатовымі*: БС. Кар. адз. м. Н. *гатоў* (4): Т, 24, 31, 40, 49. н. Н. *гатова*: Т, 48. Мн. Н. *гатовы*: Р.

**[ГВАЛТ]** (3) *м. У знач. прысл.* гвалтам. Сілай, сілком. [Мікіта]: *Оей! Оей! І зразумеў і не паверыў. Гвалтам робяць генэралам.* Т, 33. *А даволі, гвалтам накідалі ім свае так званыя "культуры", пры помачы якіх душылі ў падняволеных народаў іх нацыянальныя асаблівасці, іх веру, праўду...* НДН.

Адз. Т. *гвалтам* (3): НДН; Т, 33, 46.

**[ГВАРДЫЯ]** *ж. перан.* Лепшая, выпрабаваная частка якой-н. сацыяльнай групы. [Спраўнік]: *Кажуць, сам Брусілаў ідзе побач з нашымі новымі гаспадарамі, дык не павінен жа ён папусціць у крыўду такіх вэтэранаў старой гвардыі, як я.* Т, 57–58.

Адз. Р. *гвардыі*: Т, 58.

**ГДЗЕ** (6) *прысл.* **1.** *Тое, што* дзе ў 3 *знач.* [Усходні вучоны]: (*запісваючы*). *.. по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47(2).

**2.** *адноснае.* Ужываецца як злучальнае слова: падпарадкоўвае даданыя азначальныя сказы. *Зірні да гор лясістых, шырокіх пракосаў, Што дыванамі пры Нёмне сьвецяць з-пад нябёсаў; Да ніў родных, калосьсем ярка маляваных, Залочаных пшаніцай, жытам пасрабраных, Гдзе жоўтая сьвірэпка, гдзе грэчка бяленька, Гдзе дзяцеліна гарыць..* ХБ. Т, 27.

**ГДЫ** *прысл.* Калі. [Заходні вучоны]: (*запісваючы ўперамежку з Усходнім*). *.. як самі твердзон, маён гдзе топіць сень і бэз можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Т, 47.

**[ГЕАГРАФІЧНЫ]** (2) *прым.* Які разглядаецца з пункту погляду мясцовасці, прыродных умоў, месцазнаходжання. *Палажэнне гістарычнае і геаграфічнае Беларусі было і ёсць пакуль што найцяжэйшае ад усіх іншых падобных да яе, вызваленых з царска-рабскага гнёту дзяржаў.* БСУ. *Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі.* Нз. *Параўн.* географічэскі.

Адз. н. Н. *геаграфічнае* (2): БСУ; Нз.

**[ГЕАГРАФІЯ]** *ж.* Комплекс навук. *Для адбудавання вялікай Польшчы "ад мора да мора" трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба растаптаць Беларусь. Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі з геаграфіі..* Нз.

Адз. Р. *геаграфіі*: Нз.

**ГЕНЕРАЛ** (2) і *разм.* **ГЕНЭРАЛ** *м.* Асоба ў званні генерала. *.. нас* [дэлегацыю] *сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфар..* ПЧ. [Немец]: *Я вас павінен, як верны нямецкі салдат, забраць у палон, бо вы рускі генэрал.* Т, 32.

Адз. Н. *генерал*: ПЧ; *генэрал* (6): Т, 32(5), 53. Т. *генэралам* (4): Т, 33(4). Мн. Н. *генералы*: Ан; *генэралы* (2): Т, 33(2). Р. *генэралаў* (2): Т, 41(2).

**[ГЕНЕРАЛ-ГУБЕРНАТАР]** *м.* Начальнік генерал-губернатарства. *Так, мая першая кніжка – "Жалейка" канфіскавана двойчы: пецярбургскай цэнзурай і вілінскім генерал-губернатарам.* ГВУ.

Адз. Т. *генерал-губернатарам*: ГВУ.

**[ГЕНІЙ]** (2) *м.* Чалавек, надзелены адаронасцю, таленавітасцю. *Я падам свой голас за вялікага з вялікіх, за генія чалавецтва, за таго.. хто даў права на радасць нам, нашым дзецям і нашым патомкам..* ГВУ.

ΔПісьменнік-геній *гл.* пісьменнік.

Адз. В. *генія* (2): ГВУ; СЗГ.

**[ГЕНІЯЛЬНЫ]** (3) *прым.* Надзелены геніем; таленавіты. *Яго спарадзіла мудрая палітыка партыі рабочага класа, стварыўшая новае, радаснае жыццё, яго спарадзіла геніяльнае прадбачанне правадыра ўсіх працоўных..* СТ. *Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях, гэта нябачнае цуда, створанае рукамі большэвікоў чэкістаў па ініцыятыве геніяльнага правадыра пролетарыята..* ЦСБ.

Адз. м. Р. *геніяльнага* (2): НКУС; ЦСБ. н. Н. *геніяльнае*: СТ.

**ГЕНЭРАЛ** *гл.* **ГЕНЕРАЛ** .

**ГЕНЭРАЛЬСТВА** *н. Нават*в. Стан і ўласцівасць генералаў. [Немец]: *Заўсёды генэралы кажуць, што яны не генэралы, калі іхнае генэральства пачынае ім самім бокам вылазіць.* Т, 33.

Адз. Н. *генэральства*: Т, 33.

**ГЕОГРАФ** *м.* Спецыяліст у галіне геаграфіі. *Гэтак канчае сваё апісанне Меншчыны расійскі географ С. Меч.* ХБ, 30.

Адз. Н. *географ*: ХБ, 30.

**[ГЕОГРАФІЧЭСКІ]** *прым. Тое, што* геаграфічны. [Усходні вучоны]: (*запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). Пры опросе белоруса выяснено необыкновенную особенносць, а іменно: вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім.. оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

Адз. н. Д. *географічэскім*: Т, 26.

**ГЕРАІЗМ** (2) *м.* Смеласць, адвага, самаадданасць. *Нас узнімае, нас натхняе гераізм, каторы мы наглядаем у любым куточку нашай Совецкай Беларусі, ўсяго Саюза.* ВГР. *Слава іх радуе сэрцы мільёнаў і заклікае да такога ж гераізму, да такой жа барацьбы са стыхіяй на карысць нашай неперawможнай сонечнай радзімы, на карысць усяго чалавецтва.* СБ.

Адз. Н. *гераізм*: ВГР. Д. *гераізму*: СБ.

**ГЕРАІЧНЫ (9)** *прым.* **1.** Здольны на геройства. *Паўстаў народ мой беларускі гераічны, Дзяды, унукі, ўнучкі – усе паўсталі На вечавы кліч, кліч бадзёры і вялічны.* ПН. *І ў гэтыя ж дні – другая падзея сусветнага значэння: на радзіму вяртаецца гераічная чацвёрка папанінцаў.* МП.

**2.** Заснаваны на геройстве, звязаны з ім. *Гераічная барацьба лепшых сыноў рабочага класа падарвала ўстоі самаўладства,*

*устоі векавечнай цемры, няволі*, ДЖ. .. *клопаты натхняюць савецкіх людзей да такіх гераічных подзвігаў.* СБ. // Багаты на подзвігі. *Прыехаўшы ў Беларусь Савецкую я* [Купала] *раскажу, наколькі ў мяне хопіць сілы, большэвіцкую праўду аб гэтым гераічным будаўніцтве..* ЦСБ.

Адз. м. Н. *гераічны*: ПНд. Т. *гераічным*: ВСп. ж. Н. *гераічнае* (2): ДЖ; МП. н. Р. *гераічнага* (2): АЛ; ЖН. М. *гераічным*: ЦСБ. Мн. Р. *гераічных* (2): IX; СБ.

**ГЕРГЕТАЦЬ** *незак*. Гаварыць на незразумелай мове. [Гануля]: *Гэта не госць, а нейкі важны дырэктар. Вучыць Мікітку па-нямецку гергетаць.* Т, 31.

Інф. *гергетаць*: Т, 31.

**[ГЕРМАНА-ЯПОНСКІ]** *прым*. Які мае адносіны да Германіі і Японіі. .. *Савецкая Беларусь з поспехам ачышчаецца ад германа-японскіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў.* НКУС.

Мн. Р. *германа-японскіх*: НКУС.

**[ГЕРМАНСКІ]** *прым*. Нямецкі. [Мікіта]: (*да немца). Меджду протчым, гэр гэрманіш, можа, купіце германскія маркі?* Т, 42.

Мн. В. *германскія*: Т, 42

**[ГЕРОІКА]** *ж*. Гераічны змест. *Гісторыя Савецкай Беларусі багата сваёй героікай штурма вышынь соцыялізма..* ШБСЯ.

Адз. Т. *героікай*: ШБСЯ.

**ГЕРОЙ** (8) *м*. Той, хто зрабіў, робіць подзвіг. .. *Не стала Кірава ... Без часу смерць скасіла. Герой загінуў ад варожай здрадніцкай рукі...* СК. *Хай жа жыве, расце і ўзносіцца ўвысь радасная песня ў гонар і славу нашай арміі, у гонар і славу нашых герояў..* ЖН.

Δ**Людзі-героі** *гл*. людзі.

Адз. Н. *герой*: СК. Т. *героям*: ЖН. Мн. Н. *героі* (2): НК; СБ. Р. *герояў* (2): ЖН; ПБН. Т. *героям*: ПЛП. М. *героях*: ПСС.

**[ГЕРОЙСКІ]** *прым. перан*. Урачысты, гучны. *Іграйце гучна музыку геройскую, музыкі, Каб слухаў і дрыжэў ад музыкі ўвесь свет!* СК.

Адз. ж. В. *геройскую*: СК.

**[ГІБЕЛЬ]** (5) *ж. Руск*. **1.** *Тое, што* пагібель. *Мінае сталецьце, другое ідзе – Ня песьняй, а путамі звоне, Веквечную гібель народу вядзе Народ – жэ ўсё стогне і стогне.* ПН. *Грамавік на грудзёх яго гібелі піша,* Ч.

**2.** Мноства. [Гарошка]: *Нагналі гібель казакоў, сам нават спраўнік з Менску прыехаў.* (3): Т, 43.

Адз. В. *гібель* (3):КП; ПН; Т, 43. Т. *гібеляй*: Ж. Мн. В. *гібелі*: Ч.

**[ГІБЕЛЬНАСЦЬ]** *ж. Тое, што* пагібель. *Цяпер я* [Купала] *бачу ўсю шкоднасць і гібельнасць таго шляху, па якім памыкаліся*

*беларускія нацыянал-дэмакраты павярнуць ход гісторыі.* АЛ.
Адз. В. *гібельнасць*: АЛ.

**[ГІБЕЦЬ]** і *разм.* **ГІБЕЦІ** (5) *незак.* Мучыцца, пакутаваць. *Сялянскія гоні адзеты ў кайданы, У вузкія межы ўвагнаны палі. Гаруе там брат наш, гібее пад панам.* – ПБН. *Адплацілі роднай матцы Княжаняты-дзеці: Відмай кінулі бадзяцца, Сіратой гібеці.* Дз.

Інф. *гібеці*: Дз. Абв. цяп. адз. 3 ас. *гібее*: ПБН. Пр. адз. м. *гібеў*: Бц. Мн. *гібелі* (2): КП; ПН.

**ГІБНУЦЬ** (2) *незак. Руск. Тое, што* гінуць. *Раскіданыя гібнуць па ўсім свеце. Вы Месіі чакаеце яшчэ, жыды,. Тэй месіі ждуць Беларусі дзеці.* Ж. *Гібне памрока душыўша ад векаў.* Г.
Абв. цяп. адз. 3 ас. *гібне*: Г. Мн. 3 ас. *гібнуць*: Ж.

**[ГІГАНТ]** *м.*: **ΔГігант-завод**: *.. выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на былых пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ.
Мн. Н. *гіганты*: ШБСЯ.

**[ГІГАНЦКІ]** *прым.* Надзвычайны, выключны па сіле, важнасці. *Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і эканамічнае будаўніцтва Беларусі.* АЛ.
Мн. Т. *гіганцкімі*: АЛ.

**[ГІКНУЦЬ]** *зак.* Адазвацца адрывістым гікам. *Я падняў яблык. Тут пан як наскочыў, Крыкнуў ды гікнуў, і выстрал раздаўся.* Ун.
Абв. пр. адз. м. *гікнуў*: Ун.

**ГІМН** (21) *м.* **1.** Урачыстая песня-сімвал дзяржаўнага адзінства. *.. я* [Купала] *хачу тут звярнуць увагу на справу беларускага нацыянальнага гімна.* СБНГ. *Бо, па праўдзе кажучы, з беларускім нацыянальным гімнам выходзіць нейкая неразбярыха.* Там жа.

**2.** Хвалебная песня. *Заместа праклёнаў і песень тужлівых, Што поўнілі сэрца, як горкі палын, Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых Як гімн перамогі совецкіх жанчын.* ПБН. *Птушкі вам гралі з нашай дубровы Гімны вясною.* Чж.

**Справа беларускага нацыянальнага гімна.**

**ΔГімн-песня:** *Але рухнула дзяржава, забыў народ і свой гімн-песню.* СБНГ. **Песня-гімн** *гл.* песня.

Адз. Н. *гімн* (3): ПБН; СБНГ (2). Р. *гімна* (4): СБНГ (4). В. *гімн* (3): СБНГ (3). Т. *гімнам* (6): СБНГ (6). М. *гімне*: Дз. Мн. Р. *гімнам* (2): СБНГ (2). В. *гімны* (2): ЖН; Чж. Т. *гімнамі*: СБНГ.

**[ГІМНАЗІЯ]** *ж. Гіст.* Агульнаадукацыйная вучэбная ўстанова. *Прымерам гэтага можа служыць закрыццё Буцлаўскай гімназіі і інш.* СНБ.
Адз. Р. *гімназіі*: СНБ.

**ГІНУЦЬ** (2) *незак.* Прападаць, знікаць. *І гінем марна пад чужой апекай, Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.* Бч. *Каб таму*

*крукамі Пакрыўляла ногі.. Хто крыўляў нам праўду, Застаўляў ў прыгоне Бежанцамі гінуць На бацькоўскіх гонях.* К. *Параўн.* гібнуць.

Інф. *гінуць*: К. Абв. цяп. мн. 3 ас. *гінем*: Бч.

**[ГІСТАРЫЧНЫ]** (10) *прым.* **1.** Які мае адносіны да гісторыі. *Палажэнне гістарычнае і геаграфічнае Беларусі было і ёсць пакуль што найцяжэйшае ад усіх іншых падобных да яе..* БСУ. *Мы аглядалі выдатныя гістарычныя мясціны, замкі..* ПЧ.

**2.** Знамянальны; важны для гісторыі. *Гістарычная Пастанова ЦК Усе КП(б) аб рэарганізацыі літаратурна-мастацкіх арганізацый мае не толькі ўсесаюзнае, але сусветнае значэнне.* ДНСП.

Адз. ж. Н. *гістарычная*: ДНСП. В. *гістарычную* (2): АЛ; УПУВ. н. Н. *гістарычнае*: БСУ. Р. *гістарычнага*: НДН. В. *гістарычнае* (2): АЛ; ШБСЯ. Мн. В. *гістарычныя*: ПЧ. Д. *гістарычным* (2): СБНГ; Т, 26.

**[ГІСТОРЫК]** (2) *м.* Спецыяліст у галіне гісторыі. *.. гісторыя Совецкай Беларусі чакае сваёй песні, свайго мастака, свайго гісторыка..* ШБСЯ. *Гэны перыяд нашых дамаганняў і змаганняў.. астаўляе разабраць як следна нашым цяперашнім і будучым гісторыкам.* СНБ.

Адз. В. *гісторыка*: ШБСЯ. Мн. Д. *гісторыкам*: СНБ.

**ГІСТОРЫЯ** (23) *ж.* **1.** Рэчаіснасць у працэссе развіцця. *Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю – маю тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княжства.* Нз. *Гісторыя Совецкай Беларусі багата сваёй героікай штурма вышынь соцыялізма..* ШБСЯ.

**2.** Факты і падзеі з мінулага грамадства. *Перуновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў.* ПЛП.

**3.** Навука, якая разглядае паслядоўнае развіццё літаратуры. *Добры ўклад у беларускую школьную літаратуру зрабіла і кніга праф. Янчука"Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры".* ВСп.

**4.** Здарэнне, выпадак. [Гануля]: *Адно – ідзі асцярожна, каб цябе* [Мікіта] *ў палон не схапілі або сам у якую нячыстую гісторыю не ўпутаўся.* Т, 56.

Адз. Н. *гісторыя* (6): БСУ; ВНЗ; НДН; УПУВ; ШБСЯ (2). Р. *гісторыі* (6): АЛ; БСУ (2); Нз; ПЛП; УПУВ. Д. *гісторыі*: З. В. *гісторыю* (6): Нз (2); ПЛП; Т, 46, 56; Тж. Т. *гісторыяй*: АЛ. М. *гісторыі* (3): АЛ; ВСп (2).

**[ГІТЛЕРАЎСКІ]** *прым.* Які мае адносіны да гітлерызму. *І гітлераўскім бандам, фашыстоўскім крывапійцам Нядоўга катаваць народ ні ў чым не вінны.* ПНд.

Мн. Д. *гітлераўскім*: ПНд.

**[ГІШПАНСКІ]** (2) *прым. Польск.* Іспанскі. *Забабон стварыў для гішпанскай інквізіцыі крываждаднага ката Тарквомаду.* З. .. *роўныя сосны стаяць бы колённы гішпанскага храма.* ХБ, 29.

Адз. м. Р. *гішпанскага*: ХБ, 29. ж. Р. *гішпанскай*: З.

**[ГЛАДЗЕЙШЫ]** *прым. Выш. ст. да* гладкі. *На быдлячы мяняў воблік свой чалавечы, Каб напяці гладзейшую скуру.* Ч.

Адз. ж. В. *гладзейшую*: Ч.

**ГЛАДЗІЦЬ** (2) *незак.:* ◊**Па галоўцы (шэрсці) гладзіць** – хваліць каго-н.; патураць каму-н. [Янка]: *Што, кусаецца? Вы, пэўна б, хацелі і з печкі зваліцца і патыліцы не адбіць? Рэвалюцыя мае паны, не цётка – па галоўцы гэткіх сваіх прыяцеляў не гладзіць.* Т, 37. *Аб “Думе” можаш думаць колькі ўлезе, але гаварыць голасна асцерагайся: гэта не ўсіх па шэрсці гладзіць, авечку стрыгуць, а цякун (баран) дрыжыць.* СП.

Інф. *гладзіць*: СП. Абв. цяп. адз. 3 ас. *гладзіць*: Т, 37.

**ГЛАДЗЬ** (2) *ж.* Роўная паверхня чаго-н. *Светларусая гладзь расхвалёваных ніў Уліла мне ў душу адчуванняў разліў.* АР.

Адз. Н. *гладзь*: АР. В. *гладзь*: АР.

**ГЛАДКА** *прысл.* Лёгка, добра. *Паціху ... не бойся – пойдзе ўсё гладка, – Крый божа, якога прымусу.* Р.

**[ГЛЕБА]** (3) *ж.* **1.** Верхні пласт зямлі. *Але абрабляюць глебу сяляне старанна..* ПЧ. *І чый трактар першы сцеле Скібы на калгаснай глебе?* СА, 180.

**2.** *перан.* Апора, аснова. *Усе сілы – сацыялістычнаму будаўніцтву на зацвітаючай новымі агняцветнымі краскамі індустрыяльна-калгаснай глебе Савецкай Сацыялістычнай Беларусі!* АЛ.

Адз. В. *глебу*: ПЧ. М. *глебе* (2): АЛ; СА, 180.

**ГЛЕДЗЯЧЫ** (4) *дзеепрысл. да* глядзець *у* 1 *знач.* [Ганулем]: (*гледзячы ў вакно). Нікога не відаць, толькі мамзэль Наста панеслася, як вецер.* Т, 59(2). *Ведаў* [народ] *толькі, што найлепей гаварыць з небам, гледзячы ў неба, не зачыняючыся ў нікія словы будоўлі.* Кз. ДК.

**[ГЛУБОКІ]** *прым. Тое, што* глыбокі *ў* 2 *знач.* [Мікіта]: (*Становіцца ў позу і напявае). Гусар на саблю опіраясь, В глубокой горэсці стоял...* Т, 32.

Адз. ж. М. *глубокой*: Т, 32.

**[ГЛУМ]** *м.* Глумленне. *І запытаецца зямліца Тваёй душы і тваіх дум: Чаго ты блукаеш начніцай? Чаму свой край аддаў на глум?* БрБ.

Адз. В. *глум*: БрБ.

**ГЛУПСТВА** (2) *н.* Недарэчнасць, бяссэнсіца. [Ганулем]: *А што цяперашнім часам рэгістратар? Адно глупства!* Т, 57. [Наста]:

*І глупства робяць гэтыя вашы думы.* Там жа, 42.

Адз. Н. *глупства*: Т, 57. В. *глупства*: Т, 42.

**ГЛУХА** *прысл.* Ціха, бясшумна. *Вербы і вольхі калышуцца глуха, Сінія хвалі шумяць і бурляць.* Н.

**ГЛУХІ** (10) *прым.* **1.** *перан.* Неспагадлівы, нячулы, раўнадушны. *“.. Доўга яшчэ будзеш глухім ты, саколе? .. Камень і вольха перш поймуць мяне!”* Н. *Не асталася глухой і нямой на гэта і наша Бацькаўшчына – Беларусь.* СНБ.

**2.** Прыглушаны, невыразны. *Патайна хмары гаманілі, Лучыўся з песняй шум глухі.* УрП.

**3.** Далёкі ад жыццёва важных цэнтраў. *Чытаў я* [Купала] *без разбору ўсё, што трапляла пад рукі ў глухой правінцыі...* ПС.

**4.** *перан.* Такі, калі замірае жыццё; глыбокі, позні. *Ціха і плаўна ўдаль коцяцца воды Вольнага Нёмана ў цёмную даль, Толькі ў часе глухой непагоды З берагу Нёман не выйдзе амаль.* Н. *Шапаціць тое лісце заснуўшым палянам. – Чуе ночка глухая, нямая.* Ч.

Адз. м. Н. *глухі*: УрП. Т. *глухім*: Н. ж. Н. *глухая*: Ч. Р. *глухой* (3): Н (2); Т, 48. В. *глухую*: ВБЛ. Т. *глухой*: СНБ. М. *глухой*: ПС. Мн. В. *глухія*: Ч.

**ГЛЫБЕЙ** *прысл. Пар. ст. да* глыбока. *Глыбей, далей у прасторы Па ўраджай з сяўбы багаты, Камсамольцы-вярнігоры..* СА, 180.

**ГЛЫБОКА** *прысл. да* глыбокі *ў* 3 *знач. У самую гушчу чэхаславацкага народа пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Савецкі Саюз.* ПЧ.

**[ГЛЫБОКІ]** (4) *прым.* **1.** З вялікай глыбінёй. *Дубовай кованай лапатай Глыбокі выкапалі дол, Зложылі брата ці не брата Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.* УрП.

**2.** Моцны, вялікі (пра стан). *Апускаецца* [Мікіта] *з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, звешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму.* Т, 43.

**3.** Шчыры, сардэчны. *Адсюль такая прыязнь, любоў, глыбокая сімпатыя да нас – людзей Савецкае краіны.* ПЧ.

Адз. м. В. *глыбокі*: УрП. ж. Н. *глыбокае*: ПЧ. В. *глыбокую* (2): Т, 42, 43.

**ГЛЫТОК (3)** *м.* Глытальны рух. – *Глыток вады. – Нельга, запёрта будка. – Глыток вады. – Нам на сям’ю вядро, Ды во чарга ад раніцы ўжо тутка...* ВБЛ.

Адз. Н. *глыток* (3): ВБЛ (3).

**[ГЛЯДЗЕЦЦА]** *незак.* Накіроўваць позірк. *Ідзі на ўзгор, на камень сядзь, Што пашчапаў пярун на часці; Глядзіся ў зоры, што мігцяць На небе ў радасці і шчасці.* БрБ.

Заг. адз. 2 ас. *глядзіся*: БрБ.

**ГЛЯДЗЕЦЬ (33)** *незак.* **1.** Накіроўваць позірк; аглядаць, азіраць, разглядаць. *Стаў, глядзіць жаўнер, Сумняваецца. Гэй, гэй, гэй, сумняваецца. Па якой пайсці Надумляецца.* ББ. *Там не чутно песень вясёлых, адно толькі смутныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок – на Усход, чакаючы вызвалення.* ЖН. // *перан.* Успрымаць. *Дык не трэба пушчаць рук і глядзець зусім безнадзейна на сваю і сваёй Бацькаўшчыны будучыню.* ВС. // *перан.* Мець свой погляд, адносіцца. *Двор глядзіць на селяніна як на "люд рускі", як на быдла, над каторым можна толькі стаяць з бізуном аканомскім..* Нз. *І адны, і другія глядзелі скоса на Беларусь, глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога.* Там жа. // *перан.* Браць пад увагу, лічыцца. *На ўсіх установах, на кожным чалавеку з асобна вайна адклікнулася ў той ці іншай форме. А жыццё не глядзіць: яно мусіць ісці сваім чарадом..* ВС.

**2.** *перан.* Хутка праглядаць, чытаючы. *Прыходжу я, як гэта ўжо было выдрукавана, а рэдактар падсоўвае мне сто і адну свежых газет. Паглядзеў я, і мяне аж у холад кінула. – У тых, – кажу, – што я глядзеў, было іначай.* Ан.

**3.** Быць скіраваным у які-н. бок. *Негаданай доляй, воляй У яго аконца Глядзець будзе век ад веку Сталінскае сонца.* ЗЯЗ. *Мы ідзем наперад Пераможна, ў сонцы... Глядзіць яно ярка Ў нашыя аконцы.* МПв.

**4.** *У знач. пабочн. Разм.* Між тым, тым часам. *Паўстала радзіма. Замок Няволі зламала навек, надзела з пралесак вянок І слёзы сагнала з павек. Глядзіш – для яе, маладой Ткуць кросны атласы, шаўкі...* ТП.

Інф. *глядзець* (2): ВС; ЖН. Абв. цяп. адз. 2 ас. *глядзіш*: ТП. 3 ас. *глядзіць* (7): ББ; ВС; Кц; МПв; Нз (2); Ч. Мн. 3 ас. *глядзяць* (4): ЖН; ЗК; ТП; УрП. Пр. адз. м. *глядзеў* (4): Ан (2); Нз; ПН. Мн. *глядзелі* (5): БС; Нз (2); ПБН; Т, 46. Буд. адз. 3 ас. *глядзець будзе*: ЗЯЗ. Мн. 1 ас. *будзем глядзець*: РКр. Заг. адз. 2 ас. *глядзі* (3): Вб; УрП (2). Мн. 2 ас. *глядзеце* (5): Т, 48(2), 58, 59, 61.

**ГЛЯНУЎШЫ** *дзеепрысл.* да глянуць. [Мікіта]: (*глянуўшы на сябе*). *Мадам-сіньёра, вы згадалі.* Т, 24.

**ГЛЯНУЦЬ** (9) *зак.* **1.** *Зак. да* глядзець у 1 *знач.* *А глянеш на поле, на лес, на даліны, Паслухаеш гоман і шум гарадоў.* ПБН. *Глянь смела, глянь вольна, шчасліў, нешчаслівы. І далей к жыццю з паніжэння і сна!* В.

**2.** Праглянуць, паказаць. *Глыток вады, а за яго вазьмеце Вось гэты шаль – цяпер ўжо ўсё адно... І чэрпае, пакуль не гляне дно, І ўсё не можа смагі адалеці* . ВБЛ.

Інф. *глянуць* (3): БЧ; Г; Х. Абв. цяп. адз. 2 ас. *глянеш*: ПБН. 3 ас. *гляне* (2): ВБЛ; ТС. Заг. адз. 2 ас. *глянь* (3): В (2); СА. Мн.

2 ас. *гляньце*: Т, 58.

**ГМ** *выкл*. Выражае недавер’е, сумненне, іронію. [Мікіта]: *Гм! Цікава! А чаму той* [немец], *што маніўся мяне ў палон, меджду протчым, узяць, як рэпу сёк па-нашаму?* Т, 42.

**ГМІН** (2) *м. Польск*. Просты народ, натоўп. *На мой кліч на сход Гмін народу йшло..* ВБ. *Так хваляваўся гмін народны, Пад высяй той, дзе я стаяў..* УрП.

Адз. Н. *гмін* (2): ВБ; УрП.

**ГНАЦЬ** і *разм.* **ГНАЦІ** (18) *незак*. **1.** Прымушаць рухацца ў пэўным парадку. *Ходзяць, гоняць сухавеі Праўданьку святую..* Дз. // Прымусова пасылаць, адпраўляць. *Гоняць, гналі, дзе гнаці маглі, Як шалёных ганяюць сабак*; Ч. *Забіралі ў падняволеных народаў іх дабро, забіралі іх сыноў і гналі на крывавы бой за эгаістычныя вялікадзяржаўныя мэты.* НДН. // Праганяць, выганяць. *Ды узяўся* [сын] *шчыра, міла Сеяць шчасце, гнаць бяду, Стаў адважна словам, сілай За свой край і грамаду.* М. // Накіроўваць рух чаго-н. *Сумна мне, сумна, што ўсё тут іначай Некалі бераг мой бачыў і знаў, Іншы меў выгляд – не гэткі жабрачы, іншы я плыт на плячох сваіх гнаў.* Н.

**2.** Рабіць, утвараць. *Гнаў* [трэці брат] *крыніцы, піў з іх і ў іх затапіўся...* Ч.

◊**Гнаць без часу ў магілы –** мукамі даводзіць да смерці. *Цягалася Крыўда па свеце, Ад хаты да хаты блудзіла; Тым строіла вечныя сеці, Тых гнала без часу ў магілы.* Кр.

Інф. *гнаць* (3): М; УрП (2); *гнаці*: ЧС. Абв. цяп. адз. 1 ас. *гані*: БН. 3 ас. *гоніць* (2): Т, 54(2). Мн. 3 ас. *гоняць* (4): Дз; СП; ТП; ЧС. Пр. адз. м. *гнаў* (2): Н; Ч. ж. *гнала*: Кр. Мн. *гналі* (4): НДН; ПСС; Т, 54; ЧС.

**[ГНЕСЦІ]** (3) *незак*. Прыгнятаць, мучыць. *А падняволле без прасветы, А рабства Беларусь гняло.* ГП. *Нявольнікі вы сёння з намі разам на Беларускай змучанай зямлі, Дзе чорны здзек пасвенчаным абразам Гняце вас разам, як звяр’ё, ў крутой пятлі.* Ж.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *гняце*: Ж. Мн. 3 ас. *гнятуць*: ЗК. Пр. адз. н. *гняло*: ГП.

**ГНЕЎ** (3) *м*. Абурэнне, раздражненне, злосць. *Гнеў пралетарскі мог і зможа сцерці З зямлі ўсіх падкалодных яшчарыц, гадзюк..* СК. *У гэту нашу гадаўшчыну Звініць ланцуг, я і звінеў, І там, і тутка без упыну Шалее катні здзек і гнеў.* ГП.

Адз. Н. *гнеў* (2): ГП; СК. Р. *гневу*: МП.

**[ГНЁТ]** (3) *м. Руск. Тое, што* прыгнёт. *.. усё маё* [Купалы] *юнацтва прайшло на чужой зямлі ў безупыннай залежнасці і пад гнётам польскага панства.* А, 328. *.. горка* [вёска] *пакутавала пад сацыяльным і нацыянальным гнётам крывавага царызму.* АЛ.

Адз. Р. *гнёту*: БСУ. Т. *гнётам* (2): А, 328; АЛ.

**ГНІДА (2)** *ж. У параўн. О, абываталь, белая за каўняром ты гніда! Як страшны аб табе сказ-абурэнне: Жыццё за камізэльку аддаеш ты без агіды.* ВБЛ. *Шастоў, Ліўшыц, Радэк, Пятакоў, Муралаў, – Растаптаць, як гнідаў, Вас, звяр'ё, замала!* МПв.

Адз. Н. *гніда*: ВБЛ. Мн. В. *гнідаў*: МПв.

**[ГНІЛЫ]** *прым.* Застаялы, затхлы. *На месцы некалі гнілых дрыгвяных балот вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцыі.* АЛ.

Мн. Р. *гнілых*: АЛ.

**[ГНУЦЦА]** (4) *незак.* Згінаць шыю, спіну. *І кідае* [хтосьці], *як з ласкі, нам агрызкі, А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол,* Бч. // *перан.* Паддавацца чыёй-н. сіле, націску. *Ад рукі сына першага вісельні гнуцца, Ў зямлю йдуць маладыя галовы.* Ч.

◊**Гнуцца крукам –** многа і цяжка працаваць. *Вы над сахою гнуліся крукам І пракліналі свой лёс пракляты.* ССА.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *гнёмся*: Бч. 3 ас. *гнуцца*: Ч. Пр. адз. м. *гнуўся*: ШБСЯ. Мн. *гнуліся*: ССА.

**[ГНУЦЬ]** *незак.*: ◊**Гнуць у ёрмы шыі –** многа і цяжка працаваць. *Ў свет збрылі чужы дзівіцца, Гнуць у ёрмы шыі... І ўтапілі ў чужаніцы Душы маладыя.* Дз.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *гнуць*: Дз.

**ГНУЧЫ** *дзеепрысл. да* гнуць. *Баіць, гнучы шыі, Паднявольны люд: Мы ў сваім чужыя, – Край забраны тут!* МД.

**[ГНЯЗДО]** (4) *н.* Жыллё птушак. – *Я* [груган] *дзяцям нясу ў гняздо Сэрца або вока.* Пц. // *перан.* Месца жыхарства. [Янка]: *З гэтага бачым, што яны за нешта змагаліся, калі пад сценамі роднага гнязда косці свае пасеялі...* Т, 35. // *перан.* Прытулак, тайнае прыстанішча. *Жалезнай рукой вы грамілі і громіце змяіныя гнёзды трацкісцкай, бухарынскай і нацыянал-фашысцкай контррэвалюцыі, выкурваючы ворагаў з усіх гнёзд.* НКУС.

Адз. Р. *гняздо*: Т, 35. В. *гняздо*: Пц. Мн. Р. *гнёзд*: НКУС. В. *гнёзды*: НКУС.

**[ГОВОР]** *м. Руск.* Дыялект; гаворка. [Усходні вучоны]: .. *мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ..* Т, 39.

Адз. М. *говорэ*: Т, 39.

**ГОД** (119) *м.* **1.** Прамежак часу з 1 студзеня па 31 снежня. *Дні за днямі, гады за гадамі йдуць важна..* Ч. *Ды мінулі гады Бедаў і катаванняў, Прыйшла радасць, воля Ў хату Сулеймана.* ПСС.

**2.** Адрэзак часу ў 12 месяцаў, які адлічваецца з любога дня. *Мінулы 1922 год быў самым ўраджайным годам у справе рослвіту беларускага друкаванага слова.* ВСп. *Каб лягчэй было*

*абхапіць і разабрацца ў тым, што зроблена за такі кароткі працяг часу, якім з'яўляецца адзін год, мы спачатку памяшчаем..* Там жа.

**3.** *толькі мн.* Адрэзак часу ў некалькі гадоў. *У апошнія гады палітычныя перамены ў Еўропе.. праходзяць перад нашымі вачыма.* СНБ. *Аб сваім пройдзеным творчым шляху за гэтыя трыццаць год я* [Купала] *не буду гаварыць.* ДЖ.

**4.** *толькі мн. Таварышы! Я* [Купала] *пачаў пісаць у гады, калі царат вешаў на слупах рэвалюцыйных рабочых, калі сялянства бунтавала па вёсках і царскія сатрапы секлі яго бізунамі.* ЖН. *Вось я, пастаўлены над вамі Вышэйшай моцай небных сіл, Старэйшы думкай і гадамі..* УрП.

**Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 год. Новы год. Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год.**

•**Год Новы** – дзень 1 студзеня. *На Беларусь ідзеш, Год Новы, На змену йдзеш Старому Году..* НГд.

◊**З году ў год, з году да году –** пастаянна, на працягу некалькіх гадоў. *З году у год мы жылі, як жывёла, З году да году чакалі святла...* Г. **З маладых год** –у маладосці. *З маладых год ён* [бацька] *працаваў на арандаванай зямлі* (*на запашках*). А.

Адз. Н. *год* (10): ВСп (2); ДЖ (2); НГд (2); ПСД; СНБ (3). Р. *года* (8): А; БСУ; ВСп; МІ (3); УПУВ; ШБСЯ; *году* (4): Г (3); НК. Д. *году*: НГд. В. *год* (22): ВБЛ (2); ВН; ВСп (7); Г; ГП; ЗК; Кц (2); НДН; НКУС; СНБ (4); Т, 21. Т. *годам* (3): ВСп; НК; ТЗУ. М. *годзе* (8): А; ВСп (3); ДЖ; ПЧ; Т, 44; УПУВ. Мн. Н. *годы* (4): ПСС; СЗГ; Тж; Ф; *гады* (7): А; АЛ; БС; ГНД; ДЖ; Ч (2). Р. *год* (20): А; АЛ (3); ГНД (2); ДД; ДЖ (3); ДК (3); Кз; ПЛП (4); УПУВ (2); *гадоў* (2): А; МІ. В. *гады* (15): А (3); АЛ; ВН; ГП; ДЖ (2); ЖН (2); З; НКУС (2); СБ; СНБ; Т, 55; *годы* (9): Дз; МІ; НК; ПВ; СЗГ; СНБ; ТП; УПУВ (2). Т. *гадамі* (5): БСУ; Дз; УрП; Ч (2).

**ГОДЗЕ** (8) *прысл.* Хопіць, досыць, даволі. *Годзе брахні ўжо, падкупленых зводаў! Годзе таптання праўд вечных, святых! Сцежку свабоднаму духу народа, Сцежку да сонца і зор залатых!* Г (2), Г (3); ПД; Т, 41, 49.

**[ГОДЗІК]** *м. Ласк. да* год *у 1 знач.* [Ануля]: (*пакінуўшы мыццё*). *О, даўненька! Бадай, годзікі* [не бачыліся] *са два ўжо будзе.* Т, 44.

Мн. В. *годзікі*: Т, 44.

**[ГОДНАСЦЬ]** (3) *ж.* Званне. *І за мае ранейшыя заслугі перад беларускім працоўным людам надалі мне высокую годнасць народнага паэта.* АЛ. *Дзякуй за годнасць паэта народнага, Дзякуй за Леніна ордэн мне радасны..* ДПЛС.

Адз. В. *годнасць* (3): АЛ; ДЖ; ДПЛС.

**[ГОДНЫ]** *прым. Тое, што* дастойны *ў 1 знач. Вялікае давер’е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, якія стаялі па-за пралетарскімі пісьменніцкімі арганізацыямі, само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер’е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі.* ДНСП.

Мн. В. *годныя*: ДНСП.

**ГОЛАД** (5) *м.* Недахоп ежы. *Але як бы казна ні была багата, то пры надзвычайных здарэннях, як, напрыклад, вайна, голад, патрабуюцца і надзвычайныя расходы.* ВС. *Вашы палоскі голым папарам Голад дарылі вам безгранічны.* ССА.

Адз. Н. *голад* (4): ВН; ВС; ЖН (2). В. *голад*: ССА.

**ГОЛАС (31)** *м.* **1.** Гукі, якія ўзнікаюць пры размове, крыку або спевах. [Спічыня]: *Спачатку кажаце ціхім-ціхім голасам, пасля штораз – мацней, а пад канец бухаеце грамабойным голасам і, разумеецца, на чым свет, патрасаеце кулакамі.* Т, 40. *Песні яго ў людзі Выйшлі гулка, дзіўна, – Ўдаўся ў ашуга Голас салаўіны.* ПСС.

**2.** Гучанне інструмента. [Гануля]: *Дык на балалайцы, сынок, сыграй: голас у ёй ціхі.* Т, 29.

**3.** Меркаванне, думка, выказванне, заклік. *Шчыры голас і праца ідэёвая людзей.. палажылі свае векапомныя падваліны дзеля адраджэння свайго народа, дзеля адбудавання незалежнасці сваёй Беларускай дзяржавы.* СНБ. // *перан. І сёння там ходзіць галеча ў лахмоцці Пад звон набажэнства, пад голас маны.* ПБН.

•**Аддаць голас, голас падаці (падаць, падаваць)** – прагаласаваць, галасаваць. *І кожнаму хочацца Яўна і скрыта Аддаць свой за Сталіна голас.* ВВ. *То ж на выбары іду я, Голас свой падаці.* Вб. *Я падам свой голас за вялікага з вялікіх..* ГВУ. *Я падаваў свой голас супраць тыраніі, царызму праз песні.* Там жа.

◊**Падаць голас** *гл.* падаць. **У вадзін голас** – аднадушна, аднолькава. *І расейскія націоналісты, і ўся чорная сотня прызналі ў вадзін голас..* ВР.

Адз. Н. *голас* (8): ВН; Дз; МД; ПСп; ПСС; СНБ; Т, 29; УрП. Р. *голасу*: АБ. Д. *голасу* (2): БрБ; Т, 28. В. *голас* (14): Вб (3); ВВ; ВР (3); ГВУ (3); ДЖ; Кц; Н; ПБН. Т. *голасам* (3): ПЛП; Т, 40(2); УПУВ. Мн. Р. *галасоў*: УрП. Т. *галасамі*: Вб.

**ГОЛАСНА** (5) *прысл.* Гучна, моцна. *Людзі на вуліцах баяліся голасна гаварыць.* СНБ. *Аб “Думе” можаш думаць колькі ўлезе, але гаварыць голасна асцерагайся..* СП. ВР; ОШМ; Т, 26.

**[ГОЛЕНЫ]** *прым.* Брыты. *Заходні вучоны – носіць польскі строй – кунтуш і “конфэдэратку”, барада голеная, вусы звесістыя.* Т, 19.

Адз. ж. Н. *голеная*: Т, 19.

**ГОЛЫ** (4) *прым.* **1.** *Разм.* Бедны. *Вашы палоскі голым папарам Голад дарылі вам безгранічны.* ССА.

**2.** Непрыкрыты. *Пры боку меч матаўся голы, На світцы – нейкі страшны знак.* УрП.

Адз. м. Н. *голы* (3): ОШМ (2); УрП. Т. *голым*: ССА.

**ГОМАН** (7) *м.* Гам, крык. *Звярнулі вочы ўсе ў іх бок, Прымоўклі гоманы дружыны; Ўсіх званых зблізку і здалёк Саколім вокам князь акінуў.* Кц. // *перан.* Шум, прыродныя гукі. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шчаслівага..* ПЛ.

Адз. Н. *гоман* (3): ПСС; УрП (2). Р. *гоману* (2): ПЛ; ХБ, 30. В. *гоман*: ПБН. Мн. Н. *гоманы*: Кц.

**ГОНАР** (18) *м.* Павага, слава. *Хор запяяў нейкую песню.. але мелодыя была незнаёмая, і ніхто не ўстаў, абражаючы гэтым, як бы здавалася, гонар беларускай нацыі.* СБНГ. *.. шпіёны і здраднікі гандлявалі нашай крывёю і нашым нацыянальным гонарам.* ВНЗ.

◊**Мець гонар** *гл.* мець. **У гонар** – у знак павагі, ушанавання каго-н. *У Прасцепаве нас ля будынка ратушы сустрэў тысячны натоўп рабочых воклічамі ў гонар СССР..* ПЧ.

Адз. Р. *гонару* (3): Бч; ЗС; Т, 49. В. *гонар* (11): ЖН (2); ПЧ; СБНГ; Т, 23, 24, 27, 32, 41, 50; Чж. Т. *гонарам* (4): БСУ; ВНЗ; Т, 36, 48.

**ГОНІ** (7) *толькі мн.* Палеткі, вялікая ніва. *На небе – Шлях Млечны, на небе – вясёлкі, На гонях красуе пшаніца і жыта...* ТП. *Сялянскія гоні адзеты ў кайданы.* ПБН.

Н. *гоні*: ПБН. Р. *гоняў* (2): АБ; БСУ. В. *гоні*: ГП. М. *гонях* (3): В; К; ТП.

**ГОРА** (16) *н.* **1.** Бяда, няшчасце; смутак, душэўны боль. *Ой, сяброўка з вечарынкі, Нам з табою не дружыць, – Радасць, гора мы дзялілі, А любоў не падзяліць.* ВБЛ. *Выгнаў на старасці з хаты, сатрапа, Выгнаў бадзяцца галоднаму ў горы..* БВц.

**2.** Нягода, нястача. *Пахавалі гора, Гора ды няволю, Як пайшлі з табою Па шырокім полю.* ПТ.

**3.** *безас. У знач вык.* Цяжка, бяда каму-н. *Гора таму пакаленню, Як чацвёртае з другою На людзей спадзе, як змора, Прынясе бяду з сабою.* $Ш_7$.

◊**Горкае гора** – вялікае, несуцешнае гора. *Так я гібеў, а знікуль яснай весці, Горкае гора і ў будні, і ў свята.* Бц.

Адз. Н. *гора* (3): Бц; ЖН; $Ш_7$. Р. *гора*: ПСС. Д. *гору*: ДПЛС. В. *гора* (7): ВБЛ; ПТ (5); ССА. Т. *горам*: Дз. М. *горы* (3): Бц; Дз; КЧ.

**ГОРАД** (15) *м.* Буйны населены пункт. *Растуць і буйнеюць у сіле, у цвеце – Калгасы, соўгасы і гарады.* ПБН. *Мы аглядалі выдатныя гістарычныя мясціны, замкі, будынкі ў Празе і іншых гарадах.* ПЧ.

•**“Абутковы горад”** – фабрыка. .. *сістэму* [прамысловасці] *лепш за ўсё характарызуе “абутковы горад” Баці ў Зліне.* ПЧ.

Адз. Н. *горад* (4): ВВ; ПЧ; ТП; $Ш_6$. Р. *гораду* (4): Т, 21, 34, 52, 55. В. *горад*: Т, 20. М. *горадзе* (2): ПЧ (2). Мн. Н. *гарады*: ПБН. Р. *гарадоў*: ПБН. М. *гарадах*: ПЧ; *гарадох*: МІ.

**ГОРАЙ** (3) *прысл. Разм. Тое, што* горш. *Летась нягодна, сёлета горай Проста жылося, проста жывецца..* Пп. *Свой палетак любіць стане горай чужога.* Ч. БС.

**ГОРАЧА** (4) *прысл.* **1.** *Прысл. да* гарачы *ў* 1 *знач. У хаце было сорак градусаў холаду, але як я пачаў чытаць гэныя газеты, то мне горача зрабілася, як у пекле.* Ан. Т, 30.

**2.** *Прысл. да* гарачы *ў* 2 *знач. Увесь склад трупы тэатра.. горача вітаў савецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* ПЧ. ЖН.

**ГОРДА** *прысл. да* горды. *Трэба горда цягнуць лямку жыцця, як цягнулі яе і да вайны..* ВС.

**[ГОРДАСЦЬ]** (4) *ж.* **1.** Пачуццё годнасці, павагі. *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры.* ШБСЯ.

**2.** Гонар, слава; тое, чым ганарацца. *Нам даюць наш сцяг, і гэты сцяг мы павінны з трыумфам вынесці на жыватворнае святло будучыні, вынесці з гордасцю, з гонарам і славай, – сцяг не абы-які, а свой, беларускі.* БСУ.

Адз. Т. *гордасцю* (4): БСУ; ГВУ; ДЖ; ШБСЯ.

**ГОРДЫ** (8) *прым.* Надзелены пачуццём уласнай годнасці, павагі да сябе. *Агромністая радасць, гордая радасць пераможцаў над класавым ворагам ахоплівае народы нашай вялікай радзімы..* ВГР. *Горды народ твой не будзе згібацца У ёрмах прыгонных, у здрадніцкіх лапах..* Ф.

**Вялікая, гордая радасць.**

Адз. м. Н. *горды*: Ф. В. *горды*: ЖН. ж. Н. *гордая* (2): ВГР (2). В. *гордую*: ВГР. М. *гордай*: ПСС. Мн. Н. *гордыя* (2): ТП (2).

**ГОРКА** (5) *прысл да* горкі *ў* 2 *знач. Мэта, якую ставіў я* [Купала] *перад сваёй паэтычнай творчасцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і падняволле батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі, якая горка пакутавала пад сацыяльным і нацыянальным гнётам крывавага царызму.* АЛ. *Плача горка ўдоўка, Плача горка маці Па забітым мужу, Спаленым дзіцяці.* МПв. ЧЧШ (2).

**[ГОРКА-СЛЯЗЛІВЫ]** *прым.* Жаласлівы. *У канцы ўзяў* [рэдактар] *пяро, набожна перахрысціўся, набожна пацалаваў крыж і напісаў у сваю яснавяльможную газету горка-слязлівую стацю..* ЧЧШ.

Адз. ж В. *горка-слязлівую*: ЧЧШ.

**ГОРКІ** (6) *прым.* **1.** З непрыемным едкім смакам. *У параўн. Заместа праклёнаў і песень тужлівых, Што поўнілі сэрца, як горкі палын, Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых..* ПБН.

**2.** *перан.* Цяжкі, гаротны, поўны гора. *І сёння там* [па той бок граніцы] *слёзы, нуда, безрабоцце, Ды горкія песні, ды скаргі адны.* ПБН. [Гануля]: *.. аж рукі вянуць ад нейкага жалю горкага.* Т, 20.

**3.** Набыты ў выніку роздумаў, вопыту. *.. я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для той часткі беларускай інтэлігенцыі..* АЛ.

◊**Горкае гора** *гл.* гора.

Адз. м. Н. *горкі* (2): АЛ; ПБН. Р. *горкага*: Т, 20. н. Н. *горкае*: Бц. Мн. Н. *горкія*: ПБН. В. *горкія*: ДК.

**ГОРЛА** (5) *н.* Пярэдняя частка шыі. *Ён* [беларускі народ] *перарэжа горла людаеду, ўбійцу, Ён Гітлера павесіць на сухой асіне.* ПНд. *Хай хлеба нашага кусок раскаленым жалезам Абернецца ў ворагавым горле крывасмочым..* Там жа.

◊**Косткаю ў горле** *гл.* костка. **У горле косць** *гл.* косць.

Адз. В. *горла*: ПНд. Т. *горлам*: См. М. *горле* (3): Ан; ПВ; ПНд.

**[ГОРНЫ]** *прым.* Які знаходзіцца ў гарах. *А песня з душы і гартоўна, як сталь, Якую пяе арлоў горных сям'я..* СС.

Мн. Р. *горных*: СС.

**ГОРШ** *прысл. Пар. ст. да* дрэнна. *Пасля царскіх чыноў прыйшлі бальшавіцкія чыны не горш сваіх папярэднікаў..* БС.

**[ГОРШЫ]** *прым. Пар. ст. да* дрэнны. *Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі.* Нз.

Адз. н. Н. *горшае*: Нз.

**[ГОРЫЗОНТ]** *м. Руск., перан.* Кола дзеянняў, магчымасцей. [Мікіта]: *А гэта, меджду протчым, яна* [барада] *вырасла ў звязку з палітычнымі эмарамі на нашым Менскім горызонце.* Т, 55.

Адз. М. *горызонце*: Т, 55.

**[ГОРЭСЦЬ]** *ж. Руск.* Жаль, гора. [Мікіта]: (*напявае). Гусар на саблю опіраясь, В глубокой горэсці стоял...* Т, 32.

Адз. М. *горэсці*: Т, 32.

**[ГОСЦІК]** (2) *м. Ласк. да* госць *у* 1 *знач.* [Мікіта]: *Вось тут селядцы, во, цыбуля да іх, а вот сала, а тут... меджду протчым – кілечкі... пальцы госцікі абліжуць.* Т, 21. [Янка]: (*увайшоўшы і вітаючыся). Вось мілыя, дарагія госцікі*! Там жа, 25.

Мн. Н. *госцікі* (2): Т, 21, 25.

**ГОСЦЬ** (66) *м.* **1.** Запрошаны чалавек на ўрачыстасць, частаванне. *Госці садзяцца за стол.* Т, 27. [Мікіта]: *За здароўе дастойных, меджду протчым, гасцей!* Там жа, 28.

**2.** *Гіст.* Іншаземны купец. *З далёкіх заморскіх старон – з зямлі*

*Варшаўскай, з царства Візантыйскага і з другіх знамянітых гасударстваў і каралеўстваў – прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі тварамі – шоўкам, бісерам, янтаром.. Заморскія госці ведалі, што народ.. быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багатствам асаблівым адзначываўся...* Кз.

**3.** *перан.* Заваёўнік, захопнік; чужынец. *.. пад той час, як я быў, наехалі там "госці" і па-свойму слабаджанаў абучалі нагайкамі...* ХЛБ. *Сотні лет песцім днямі і ночай Госця на шыі* – Чж.

ΔСаюзнік-госць *гл.* саюзнік.

◊**Пайсці (прыехаць) ў госці –** адправіцца ў якасці госця. [Янка]: (*да Ганулі*). *.. піша яна* [вучаніца], *што з бацькамі сваімі прыедзе ка мне ў госці.* Т, 23. *Запыталіся ў Галінкі, У малой дзяўчынкі: – Што сядзіш ты, Галя, ў хаце, І не йдзеш гуляці? – Пайшлі ў госці мама, тата..* ВБ.

Адз. Н. *госць* (4): Кз; Пц; Т, 31(2). В. *госця*: Чж. Т. *госцем*: Кз. Мн. Н. *госці* (26): Г; Кз (5); Мц; Т, 21, 22(2), 23, 24(5), 25(2), 27, 29, 37, 51(2), 59, 61; ХЛБ. Р. *гасцей* (13): Т, 22, 25(3), 26, 27(4), 28(4). Д. *гасцям* (2): Т, 23(2); *госьцям*: ХБ. В. *гасцей* (5): ПЧ; Т, 28, 29, 50, 51; *госці* (5): Вб; ПВ; Т, 19, 23; Ч. Т. *гасцямі* (4): Т, 24(2), 25, 52; *гасцьмі* (2): Ж; Т, 58. М. *гасцях*: Чж; *гасцёх*: Т, 24.

**ГОТЫ** *мн.* Старажытнае племя ўсходніх германцаў. *Ўся ўсюдых знойдзецца, Дзе готы ёсць, Нават над рэчкаю Ёсць, як на злосць.* $Ш_6$.

Н. *готы*: $Ш_6$.

**ГОЦАЦА** *нескл. Разм.* Танцы, скокі [Янка]*: Калі тут кампанія ваша ўладзіла танцпляс для акупантаў, дзе кожны з іх знаходзіць і танцуе сваё "Гоцаца", дык чаму ж бы мне ў гэтым танцплясе і не пайграць.* Т, 52.

**ГРАБ** (2) *м.* Лісцёвае дрэва з гладкай шэрай карой. *Граб зусім звычайнае дрэва ў лясох, гдзе мясцовасць больш вільготная..* ХБ, 29. *Хай спаліць мне душу, як ствол разбіты граба..* СМ.

Адз. Н. *граб*: ХБ, 29. Р. *граба*: СМ.

**[ГРАБЕЖНІК]** *м.* Рабаўнік. [Гануля]: *Добра ж, калі хто са знаёмых не бачыў, а йначай пойдзе чутка, што і мой сын у грабежнікі ўпісаўся..* Т, 57.

Мн. В. *грабежнікі*: Т, 57.

**ГРАБЁЖ** *м. Руск.* Аграбленне, захоп. [Мікіта]: *.. я па загаду свайго, меджду протчым, начальніка насіў гэтыя рэчы яму ў гасцініцу "Парыж".* [Спічыні]: *Паложым, гэта таксама грабёж.* Т, 60.

Адз. Н. *грабёж*: Т, 60.

**[ГРАБІЦЬ]** (6) *незак.* Рабаваць. *За катам кат на нашы гоні Прыходзіў, грабіў, знішчажаў..* ГП. [Мікіта]: *Я не грабіў, – мяне,*

*меджду протчым, грабілі – фрэнчык форменны, боты жоўценькія знялі..* Т, 60.

Абв. пр. адз. м. *грабіў* (4); ГП; Т, 60(3). Мн. *грабілі* (2): Т, 60.

**ГРАБЯ** (3) *м. Польск.* Граф. [Мікіта]: *Ясне пану грабю нізка кланяюся!* Т, 51. [Мікіта]: *Калі з мадамай зойдзе гутарка, то не кажэце .. не проста пане, а ясне пане грабя.* Т, 22. [Мікіта]: *Маё найніжэйшае ўшанаванне, ясне пане грабя!* Т, 37.

Адз. Н. *грабя* (2): Т, 22, 37. Д. *грабю*: Т, 51.

**[ГРАДА]** *ж.* Палоска зямлі для агародніны. [Янка]: *Паддаецца эвакуацыі ў сягонешні час толькі той, у каго або нячыстае сумленне, або ён сядзеў тут з боку-прыпёку, нераўнуючы, як пустазелле на сялянскайградзе.* Т. 37.

Адз. М. *градзе*: Т, 37.

**[ГРАДКА]** *ж. Памянш. да* града. *Па шырокіх палетках, проста чарназёму, Каторы прылягаець к беленькаму дому; Узораных парадкам агародных градак,* – ХБ, 28.

Мн. Р. *градак*: ХБ, 28.

**[ГРАДУС]** *м.* Адзінка вымярэння тэмпературы паветра. *У хаце было сорак градусаў холаду..* Ан.

Мн. Р. *градусаў*: Ан.

**ГРАЖДАНІН** (3) *м. Руск. Тое, што* грамадзянін *у* 3 *знач.* [Спічыні]: *Паложым, я ніколі кепска не чытаю і кепска не тлумачу, глядзеце самі, гражданін рэгістратар!* Т, 61. *Спужаўся, што хлапчук у лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог?.. О, стыдна, рускі "гражданин"!* АПЖ.

Адз. Н. *гражданін* (2): Т, 61(2); *гражданин*: АПЖ.

**[ГРАЖДАНКА]** *ж. Разм.* Алфавіт, шрыфт*. .. пасля болей як паўвяковага працягу часу першы раз надрукаваны* [раманы] *"гражданкай", г. з. рускімі літарамі..* ВСп.

Адз. Т. *гражданкай*: ВСп.

**ГРАЗЬ** (7) *ж.* **1.** Вязкая, размоклая глеба. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, знаемыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасць, пра гразь, балота і пясок у Беларусі.* ХБ, 27. [Янка]: *.. акупанты змяшалі яго* [мора] *з гразёй, дык засталося толькі Пінскае балота.* Т, 47.

**2.** *перан.* Ганебнае, нядобрае, непатрэбнае. *Я веру вам, хоць чорнай граззю ўсюды Плюе вам раб і цар, стары і малады.* Ж. *Былых не выклічаш вякоў I ты, Масквы каронпай гразь, Парваных не скуеш акоў, з якой брахнёю ні вылазь!* АПЖ.

Адз. Н. *гразь* (3): АПЖ; Т, 38; Тж. В. *гразь* (2): См; ХБ, 28. Т. *граззю*: Ж; *гразёй*: Т, 47.

**[ГРАМАБОЙНЫ]** *прым. Наватв.* Гучны, моцны. [Спічыні]:

*Спачатку кажаце ціхім-ціхім голасам, пасля штораз – мацней, а пад канец бухаеце грамабойным голасам..* Т, 40.

Адз. м. Т. *грамабойным*: Т, 40.

**ГРАМАВІК** (2) *м. Міф.* Пярун. *Грамавік на грудзёх яго гібелі піша, Ведзьмы шэпчуць аб соладкіх рэчах.* Ч.

Δ**Цар-Грамавік** *гл* цар.

Адз. Н. *грамавік* (2): Ч (2).

**ГРАМАДА** (14) *ж.* **1.** Калектыў, група. *.. расійскую сацыяльную рэвалюцыю зрабілі беззямельныя і малазямельныя сялянскія грамады..* ЗС. *І стала так, як старац гэты Сказаў пакорнай грамадзе..* УрП.

**2.** Грамадства. *Ды узяўся* [сын] *шчыра, міла Сеяць шчасце, гнаць бяду, Стаў адважна словам, сілай За свой край і грамаду.* М. *Выраслі і далей растуць і гартуюцца непераможныя будаўнікі бяскласавай соцыялістычнай грамады.* ШБСЯ.

**3.** *У знач. прысл.* Гуртам, разам. *Не ўмелі змагаць грамадою нягод І Бога хваліць грамадою*; КП.

Адз. Н. *грамада*: ВС. Р. *грамады* (3): СТ; Т, 35; ШБСЯ. Д. *грамадзе*: УрП. В. *грамаду*: М. Т. *грамадою* (4): КП (2); ПН (2). М. *грамадзе* (2): Кц; ТП. Мн. Н. *грамады* (2): В; ЗС.

**ГРАМАДЗЯНІН** (24) *м.* **1.** Жыхар нашай краіны. *..кожны сумленны грамадзянін БССР з захапленьнем прывітае новую кветку ў бясьсьмертным вянку культурнага будаўніцтва ў БССР – Беларускую Акадэмію Навук.* ГНД. *Кожны грамадзянін нашага краю павінен карыстацца з роўнай пашаны, з роўнай абароны ў вачох права і свету.* НДН.

**2.** *Высок.* Свядомы член грамадства. *Учора паднявольны згорблены рабочы і селянін-бедняк, сёння з высокападнятай галавой вольны грамадзянін і будаўнік вялікага Совецкага Саюза.* ШБСЯ.

**3.** Мужчына; зварот да яго. *Дарагія Грамадзянкі і Грамадзяне зямлі Беларускай! Вітаю Вас і дзякую Вам ад ўсяго сэрца за тую памяць..* ПЛП. // *зб.* Народ. *Бо самі, грамадзяне, пасудзіце, як я ламаў сабе мазгі і ногі праз гэту, згінь-прападзі, Антанту.* Ан.

Δ**Беларус-грамадзянін** *гл.* беларус.

Адз. Н. *грамадзянін* (5): ГНД; НДН; Т, 34(2); ШБСЯ. Р. *грамадзяніна* (6): АЛ; БСУ; ВСп; СБНТ; Т, 34, 61. В. *грамадзяніна* (2): Т, 60; ЦСБ. М. *грамадзяніне*: Нз. Мн. Н. *грамадзяне* (8): Ан; Н; ПЛП; СНБ; Т, 19, 33, 43; УрП. Р. *грамадзян* (2): ГНД; Т, 43.

**ГРАМАДЗЯНКА** (7) *ж. Жан. да* грамадзянін. *Грамадзянка паглядзела-паглядзела тавар і пайшла.* Т, 34. [Ганулья]: (*да праходзячай грамадзянкі). Панечка, купеце ў мяне пацеркі..* Там жа, 34.

Адз. Н. *грамадзянка*: Т, 34. Р. *грамадзянкі*: Т, 34. Мн. Н. *грамадзянкі* (4): ПЛП; Т, 19, 33, 43. Р. *грамадзянак*: Т, 43.

**[ГРАМАДЗЯНСКА-ПАЛІТЫЧНЫ]** (2) *прым.* Які мае адносіны да грамадзянства і палітыкі. *Яны* [паны-абшарнікі] *не чакаюць варункаў нармальных, варункаў грамадзянска-палітычнага жыцця ў краю..* ЗС. *Мы хочам толькі акінуць вокам нашае грамадзянска-палітычнае жыццё за мінуўшы год..* СНБ.

Адз. н. Р. *грамадзянска-палітычнага*: ЗС. В. *грамадзянска-палітычнае*: СНБ.

**[ГРАМАДЗЯНСКІ]** (7) *прым.* **1.** *Тое, што* грамадскі. *Вайна захапіла ўсе нашы думкі і засланіла сабою ўсе іншыя праявы нашага грамадзянскага жыцця.* ВС. *..усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць, кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай Бацькаўшчыны – Беларусі.* НДН.

**2.** Які належыць грамадству. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадзянскіх установах.. павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці..* НДН.

•**Грамадзянская вайна** *гл.* вайна.

Адз. ж. Р. *грамадзянскай*: НКУС. Д. *грамадзянскай*: НДН. н. Р. *грамадзянскага* (3): ВС; СНБ; Т, 34. Мн Р. *грамадзянскіх*: Т, 60. М. *грамадзянскіх*: НДН.

**ГРАМАДЗЯНСТВА** (13) і **ГРАМАДЗЯНСТВО** *н. Тое, што* грамадскасць; грамадства. *Мала таго, што грамадзянства дае сваіх сыноў на абарону гасударства, але яно, гэта грамадзянства, павінна яшчэ так ці іначай даваць грошы на ваенныя расходы.* ВН. *..аб беларускай мове ні наша адміністрацыя, ні грамадзянство і гукаць ня хочуць..* ВР.

Адз. Н. *грамадзянства* (3): ВН (2); СБНГ; *грамадзянство*: ВР. Р. *грамадзянства* (8): ВН; Нз; ПЛП; СНБ (4); Т, 36. Т. *грамадзянствам*: СБНГ. М. *грамадзянстве*: СНБ.

**ГРАМАДСКАСЦЬ** (2) *ж.* Перадавая частка грамадства. *..гэтай рэформы жадала совецкая грамадскасць, рабочыя, калгаснікі, пісьменнікі, вучоныя і г.д.* ШБСЯ. *..нас сустракалі і бурна віталі лепшыя людзі краіны – прадстаўнікі літаратуры, мастацтва, грамадскасці.* ПЧ. *Параўн.* грамадзянства.

Адз. Н. *грамадскасць*: ШБСЯ. Р. *грамадскасці*: ПЧ.

**[ГРАМАДСКІ]** *прым.* Які мае адносіны да жыцця грамадства. *..я* [Купала] *рашуча і раз назаўсёды, як у сваёй літаратурнай творчасці, так і ў сваіх імкненнях і грамадскай дзейнасці, парываю з беларускім нацыянал-дэмакратызмам ва ўсіх яго праяўленнях.* АЛ. *Параўн.* грамадзянскі.

Адз. ж. М. *грамадскай*: АЛ.

**ГРАМАДСТВА** (2) *н.* Эканамічны лад. *..рабочы клас у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства .. з нявіданым*

*творчым энтузіязмам і запалам будуе сацыялістычнае грамадства.* АЛ. *Трэба, каб само нашае грамадства ўзялося шчыра за гэту работу.* АБ. *Параўн.* грамадзянства.

Адз. Н. *грамадства*: АБ. В. *грамадства*: АЛ.

**ГРАМАТЫКА** (4) *ж.* Сукупнасць правіл пабудовы слова і сказа. [Мікіта]: *Асабліва надта труднае для майго рускага ўразумення ваша граматыка – гэтыя націскі, націскі...* Т, 56. // Кніга правіл аб мове. *Кніг для чытання ў школе дзве – Лёсіка і Некрашэвіча; .. па граматыцы – тры: Лёсік, Некрашэвіч...* ВСп.

Адз. Н. *граматыка*: Т, 56. В. *граматыку*: Т, 48. М. *граматыцы* (2): ВСп; Т, 55.

**ГРАМАФОН** (10) *м.* Музычны апарат. *Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох – пара малых столікаў, на адным з іх грамафон..* Т, 19. *Мікітавы пакой выглядае збольшага – як у першай дзеі, разумеецца, без грамафона, люстра..* Там жа, 53.

Адз. Н. *грамафон* (7): Т, 19, 29(2), 45, 51(3). Р. *грамафона* (2): Т, 43, 53. В. *грамафон*: Т, 51.

**[ГРАМІЦЬ]** (2) *незак. Разм.* Разбіваць, знішчаць. *Жалезнай рукой вы* [Яжоў] *грамілі і громіце змяіныя гнёзды трацкісцкай, бухарынскай і нацыянал-фашысцкай контррэвалюцыі, выкурваючы ворагаў з усіх гнёзд.* НКУС.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *громіце*: НКУС. Пр. мн. *грамілі*: НКУС.

**[ГРАНДЫЁЗНЕЙШЫ]** *прым. Пар. ст. да* грандыёзны. *Адбываюцца нечуваныя, грандыёзнейшыя ў гісторыі чалавецтва падзеі.* АЛ.

Мн. Н. *грандыёзнейшыя*: АЛ.

**[ГРАНДЫЁЗНЫ]** *прым.* Велічны, магутны. *У размаху і велічы соцыялістычнага будаўніцтва ўся грандыёзная ленінская сутнасць нацыянальнай палітыкі нашай партыі.* ШБСЯ.

Адз. ж. Н. *грандыёзная*: ШБСЯ.

**ГРАНІЦА** (23) *ж.* **1.** Мяжа; лінія паміж дзвюмя дзяржавамі. *Паглядзіце, азірніцеся, таварышы, на нашу моладзь, на нашу слаўную Чырвоную Армію, якая стаіць на стражы нашых граніц.* ДЖ. *А нашы граніцы бетонам заліты, Мы чуйна вартуем совецкі фарпост..* ПБН.

**2.** *перан.* Мера дазволенага; край, рубеж. [Янка]: *А граніц палітычных не маем, бо і палітыкі сваёй не маем – на чужой палітыцы пакуль што ездзім.* Т, 47. *А як пойдзе хто трэцяй сцяжынай-пуцінай, Што сваёй не мінае граніцы, Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай..* Ч.

Δ**Мяжа-граніца** *гл.* мяжа.

◊**За граніцай (2) –** у замежных краінах. .. *зарганізаваў* [Навукова-Літаратурны Аддзел] *выданне беларускіх кніг за граніцай.*

ВСп (2). **За граніцу** – у замежныя краіны. *Тры месяцы таму назад выехала за граніцу на цёплыя воды лячыцца.* Ан.

Адз. Н. *граніца*: ЗС. Р. *граніцы* (3): ПБН (2); Ч. В. *граніцу*: Ан. Т. *граніцай* (2): ВСп (2). Мн. Н. *граніцы* (2): ПБН; СНБ. Р. *граніц* (7): БрБ; ДЖ; Т, 47(4); ТП. В. *граніцы* (6): ЖН; СНБ; СС; Т, 47(3). М. *граніцах*: СА.

**[ГРАНІЧНЫ]** (4) *прым.* Які адносіцца да граніцы (мяжы). *На стражы стань гранічнае мяжы... Свой край заваяваць паўстань, ваяк*! Пт. .. *гарматныя стрэлы змялі з вобліку зямлі хаты,, зніштожылі межы і гранічныя слупы*. АБ.

Адз. ж. Р. *гранічнае*: Пт. Мн. В. *гранічныя* (2): АБ; СНБ. Кар. мн. Н. *гранічны*: Дз.

**[ГРАСЦІ]** (2) *незак. Руск., кніжн.* Ісці, надыходзіць. [Поп]: *Чады мої, остановіцесь! В сію обіцель градзе большэвік.* [Мікіта]: (*зірнуўшы ў вакно). А такі ж градзе і да нас.* Т, 52.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *градзе* (2): Т, 52(2).

**[ГРАТА-ПЭРСОНА]** *ж. Уст., іран.* Персона грата – чалавек, які карыстаецца асобымі прывілеямі, прыхільнасцю з боку высокапастаўленай асобы. [Мікіта]: *Усе гэта тутэйшыя грата-пэрсоны, меджду протчым, людзі аднолькавага са мной светагляду і амаль што не аднолькавых рангаў*.. Т, 22.

Мн. Н. *грата-пэрсоны*: Т, 22.

**[ГРАЦЬ]** (5) *незак.* **1.** Выконваць што-н. на якім-н. музычным інструменце. *Янка грае вальца.* Т, 52. // *перан.* Спяваць. *Птушкі вам гралі з нашай дубровы Гімны вясною.* Чж.

**2.** *вобраз.* Утвараць гукі. *Путы звонка бразджаць і ўгары, і ўнізу, Жудка вісельні граюць, слізгоча пятля*; БН.

◊**У адну дудку граць –** быць заадно. [Гарошка]: ..*як прыдзе што да чаго, каб нашага простага чалавека пакрыўдзіць, дык і польскія і рускія ў адну дудку граюць.* Т, 44.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *грае* (2): Т, 29, 52. Мн. 3 ас. *граюць* (2): БН; Т, 44. Пр. мн. *гралі*: Чж.

**[ГРАШОВЫ]** *прым.* Які выражаецца ў грашах. .. *адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей, зрабіў перавыдатак*.. ПЧ.

Мн. Р. *грашовых*: ПЧ.

**[ГРАШЫЦЬ]** *незак.* Рабіць грэх. *Проць сваіх, проць чужых крывадушыць і грэшыць* [другі сын], *І так вязне, як камень у ціне.* Ч.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *грэшыць*: Ч.

**[ГРАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да граць.* Які грае. *Пасля некалькіх мінут раптоўна ўрываюцца зыкі вайсковай музыкі, граючай цырыманіяльны марш..* Т, 43.

Адз. ж. Р. *граючай*: Т, 43.

**[ГРОБ]** *м. Руск.* ◊**Па гроб** – да канца жыцця. *Табе такой служыць па гроб Не кіну я..* АПЖ.

Адз. В. *гроб*: АПЖ.

**[ГРОД]** *м. Кніжн.* Горад. •**“Грод Гэдыміна”** – Вільня. *І вось, не ўходзячы сягодня ў разбор таго, хто мае больш правоў на “грод Гэдыміна”, мы скажам толькі, што Віленскі Батораўскі Універсітэт павінен і абавязан здаволіць духоўныя і культурныя патрэбы гэтых усіх трох народаў: палякаў, літвіноў, беларусаў.* УПУВ.

Адз. В. *грод*: УПУВ.

**ГРОЗНА** (5) *прысл. да* грозны. *Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія кросыць*, Ф. .. *Разам са сваёй роднай Чырвонай арміяй грозна стаяць* [рабочыя і калгаснікі] *на варце заходняга рубяжа Савецкага Саюза.* ШБСЯ. ВМ; ЗК; УрП.

**[ГРОЗНЫ]** (4) *прым.* Суровы, жорсткі. *Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыццю.* Б. *І ворагам за смерць адплацім грознай смерцю..* СК.

Адз. ж. Т. *грознай*: СК. н. Н. *грознае*: ЗС. Мн. Н. *грозныя*: Б. В. *грозныя*: РКП.

**ГРОМ** (3) *м.* Грукат, трэск, які суправаджае маланку. *Нам няўцям віхры, грымоты, Дадае нам гром ахвоты.* БЗ. *Шле буры, громы з перунамі, Каб сон збудзіць магільны твой.* БрБ. // *У параўн. А быў другі* [ганец] *і з ног і з рук, Як гром з жывымі перунамі: Ў руцэ меў стрэл жалезных пук І лук стальны меў за плячамі* Кц.

Адз. Н. *гром* (2): БЗ; Кц. Мн. В. *громы*: БрБ.

**[ГРОМКА]** *прым.* Гучны, звонкі, шумны. *Год мінуў, як ваяваці Шоў Даніла з сяла, А ўжо слава па ўсім свеце Аб ім громка ішла.* ПСД.

Кар. адз. ж. Н. *громка*: ПСД.

**[ГРОШ]** *м. Уст.*: ◊**Ні на грош –** нікольки, зусім (не моць). [Гануля]: *Падумайце, скасавалі чыноўніцтва, застаўся без службы і хоць бы што, ні на грош таей сталасці*, Т, 20.

Адз. В. *грош*: Т, 20.

**ГРОШЫ** (28) *толькі мн.* Мера вартасці пры куплі-продажы. *Немец тлумачыць на мігі, што яму грошы не трэба..* Т. 42. *Пані стала даставаць грошы, пазіраючы на дзяўчынку.* ПДз. *Параўн.* грошыкі.

◊**Уткнуць свае тры грошы –** *разм., неадабр.* умешвацца ў чужыя справы. [Мікіта]: *На ўсе бакі вядзе* [Пабягунская] *шырокае знаёмства. Мае заўсёды аб уім і аб усіх з пэўных крыніц пэўныя весткі, любіць заўсёды і ўсюды, дзе трэба і не трэба, уткнуць свае тры грошы.* Т, 23.

Н. *грошы* (4): Т, 33, 42, 46, 56. Р. *грошай* (3): ПЧ; Т, 20, 46.

В *грошы* (19): Ан; ВН (4); ВС; ЗС; ПДз; ПЧ; Т, 23, 33(3), 42, 46(2), 56(3). Т. *грашыма* (2): Т, 42, 50.

**ГРОШЫКІ** *толькі мн. Разм. Тое, што* грошы. [Мікіта]: *Сцягнуў нехта! Апошнія грошыкі сцягнуў, меджду протчым, і рускія і нямецкія.* Т, 43.

В. *грошыкі*: Т, 43.

**[ГРУБЫ]** *прым.* Які выходзіць за межы элементарных правіл, заслугоўвае асуджэння. *Камуністычная партыя і Савецкая ўлада даравалі мне гэтыя грубыя нацыянал-дэмакратычныя памылкі ў маёй творчас*ці. АЛ.

Мн. В. *грубыя*: АЛ.

**[ГРУДА]** *ж.* Глыба, кусок зямлі. *.. за баронамі ідуць* [сяляне] *з адмысловымі даўбежкамі, разбіваючы імі ўсе груды*, ПЧ.

Мн. В. *груды*: ПЧ.

**ГРУГАН** (8) *м.* Вялікая чорная птушка сямейства крумкачовых. *Так сабе груган з ваўком Гутарку разводзяць.* Пц. *Каб гукалі совы Па-над вамі, псамі, Косці расцягалі, Груганы з ваўкамі!* МПв. // *перан.* Шкодны, небяспечны чалавек. *..калі ж* [беларусы-католікі] *будуць спаць і верыць розным баламутням, іх заплююць тыя груганы, каторые у нас за час сну народнага вельмі распладзіліся!* ВР. // *У параўн. Яны* [нацыяналісты], *як тые груганы, прывыклі ўжо клеваць бытцым-то мёртвае цела нашаго народу..* ВР.

**Груганы**

**∆Груган-крук:** *Над імі ж* [сіротамі, удовамі] *у крывавым пыле Лунaлі груганы-крукі.* ГП.

Адз. Н. *груган* (3): Гр; Пц (2). Мн. Н. *груганы* (5): ВР (2); Гр; ГП; МПв.

**ГРУГАННЁ** *н., зб.* Чарада груганоў. *Лунае груганнё ў прыволлі На ўсход, на захад, там і тут І сочыць косці ў чыстым полі, Дзе вые куля, вые кнут.* ГП.

Н. *груганнё*: ГП.

**[ГРУГАНОВЫ]** *прым. перан.* Шкодны, небяспечны, варожы. *.. ўжо лет сотні Масква і Варшава Торг груганoвы вядуць між сабой.* Н.

Адз. м. *груганoвы*: Н.

**ГРУДЗІ** (25) *толькі мн.* **1.** Частка тулава чалавека. *Разарваў бы, здаецца, я грудзі свае, Сэрца б вырваў і кінуў на ўцеху ўрагом...* БН. *Пад царамі, пад панамі Мучыліся людзі, – У нядолі, у няволі Чахлі, сохлі грудзі.* ЗЯЗ. // *перан. “Што я* [Нёман] *сягоння так злосна шумлю: Грудзі здавілі мне хмары навалай, Пошасць уелася ў матку-зямлю.”* Н.

**2.** Малочныя залозы ў жанчыны. *Грудзі смактаў мне паніч недапечаны, Высахла там я на шчэпку, як мара.* Мц. *Гэта ўсё*

*ўпаі дзіцяці З малаком сваіх грудзей.* М.

**3.** *вобразн. Адна часць Варшаве Лізаць ногі будзе, Маскве хай другая Нясе свае грудзі.* Х.

Н. *грудзі* (9): БН (2); Вб; ВБЛ (3); Ж; ЗЯЗ; ПТ. Р. *грудзей* (2): АР; М. Д. *грудзям*: Т, 37. В. *грудзі* (10): АК; Б; БН; М; Мц; МПв; Н (2); Х; Ч. Т. *грудзьмі*: Ч. М. *грудзёх* (2): Кц; Ч.

**[ГРУЗАВЫ]** *прым.* Прызначаны для перавозкі грузаў. *З вакон вагона мы не бачылі ніводнай грузавой машыны.* ПЧ.

Адз. ж. Р. *грузавой*: ПЧ.

**ГРУЗІНЕЦ** *м. Разм.* Грузін. *Стагнаў татарын, грузінец, фін, паляк, украінец, беларус.* НДН.

Адз. Н. *грузінец*: НДН.

**[ГРУНТ]** (8) *м. перан.* Тое галоўнае, на чым асноўваецца што-н. .. *справа незалежнасці Беларусі цяпер стане на цвёрдым грунце.* СНБ. [Янка]: *А надта проста: стаць на свой тутэйшы грунт, на той грунт, на якім узраслі нашы бацькі, дзяды.* Т, 48.

Адз. В. *грунт* (4): СНБ; Т, 48(3). М. *грунце* (4): АЛ (2); СНБ (2).

**[ГРУНТОЎНЫ]** *прым. У знач. наз.* Трывалы, глыбокі. [Аленка]: *А чаму б вам, пане Нікіці, ..не заняцца чым-небудзь болей рэальным і грунтоўным.* Т, 36.

Адз. н. Т. *грунтоўным*: Т, 36.

**ГРУПА** (2) *ж.* **1.** Некалькі чалавек побач. [Мікіта]: (*да праходзячай з чырвоным сцягам групы грамадзян і грамадзянак). Мо .. патрабуеце купіць марак!* Т, 43.

**2.** Аб'яднанне людзей з агульнымі мэтамі, сумеснай дзейнасцю. *Для здзяйснення гэтай мэты група контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратычных інтэлігентаў .. на працягу рада год вяла шкодніцкую контррэвалюцыйную работу амаль на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва..* АЛ.

Адз. Н. *група*: АЛ. Р. *групы*: Т, 43.

**ГРЫБ** *м.*: **ΔГрыб-сыравежка:** *Узяўся* [сын] *трэці па трэцяй, як грыб-сыравежка, Спатыкаці, праводзіці ночку.* Ч.

Адз. Н. *грыб*: Ч.

**[ГРЫЗНЯ]** *ж. перан.* Сварка, спрэчка. *І хай ляжыць стары ў абломках свет, – Ў грызні за іх і з гэтымі і з тымі Ты скарыстаеш іх на свой клёзэт.* ВБЛ.

Адз. М. *грызні:* ВБЛ.

**[ГРЫЗЦІ]** (2) *незак. перан.* Мучыць, не даваць спакою. *Я* [дзед] *пракляну іх праклятую сілу, Каб і ў магіле іх грызла пракляцце.* Д. // *вобразн. І там здань і тут здань, закружыліся ўкруг, кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг, Сэрца рве і грызе..* БН.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *грызе*: БН. Пр. адз. н. *грызла*: Д.

**[ГРЫЗЦІСЯ]** *незак. перан. Разм.* Сварыцца, спрачацца. *..яны* [Петлюра, Тарыба, Дэнікін] *толькі грызуцца паміж сабой..* Ан.

Абв.цяп. мн. 3 ас. *грызуцца*: Ан.

**ГРЫМЛІВЫ** *прым. Разм.* З громам, грымотамі; грымотны. *О, богі рэк, лясоў і ніваў! Дажбог, багамі свету дан, Пярун блыскотны і грымлівы, І ты, Купала, светач тайн, – Зірніце міласцяй сваею..* УрП.

Адз. м. Н. *грымлівы*: УрП.

**[ГРЫМНУЦЬ]** *зак. Вобразн.* Раптоўна пачаць дзейнічаць. *Тапор завостраны заблыскаў, Грымнулі вілы і цапы.* УрП.

Абв. пр. мн. *грымнулі*: УрП.

**ГРЫМОТЫ** *толькі мн.* Раскацістыя гукі чаго-н. *Нам няўцям віхры, грымоты, Дадае нам гром ахвоты.* БЗ.

Н. *грымоты*: БЗ.

**[ГРЭХ]** *м.* Заганны ўчынак, правінка. [Ганулям]: *А бадай вы пакіслі, мае дзеткі! І старую ў грэх ведзіцё.* Т, 54.

Адз. В. *грэх*: Т, 54.

**[ГРЭХОВНЫ]** *прым. Руск., уст.* Грэшны. [Усходні вучоны]: *..воісціну ізлішне обрэтаць універсітет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.* Т, 27.

Адз. н. Н. *грэховное*: Т, 27.

**[ГРЭЦЦА]** *незак. вобразн. Смейся смехам – хрыпеннем быдляці З перарэзаным горлам, і грэйся Ў гэтым храпе скрозь стогн і праклящце..* См.

Заг. адз. 2 ас. *грэйся*: См.

**[ГРЭЦЬ]** (2) *незак.* Перадаваць цяпло, саграваць. *Пух і аўчынкі нашага хову грэлі зімою.* Чж. // *перан.* Абнадзейваць, паднімаць настрой. *Масква й Варшава аплюлі вам імя І ў дзікай чэрні ненавісць спладзілі к вам* [жыды]*, А Беларусь пад крыллямі сваімі Вас грэла й вашым нянькаю была дзяцям.* Ж.

Абв. пр. адз. ж. *грэла*: Ж. Мн. *грэлі*: Чж.

**ГРЭЧКА (2)** *ж.* Палявая травяністая меданосная расліна сямейства грэчкавых. *Зьвярні .. Да ніў родных, калосьсем ярка маляваных, Залочаных пшаніцай, жытам пасрабраных, Гдзе жоўтая сьвірэпка, гдзе грэчка бяленька.* ХБ, 28. *Паглядзеце хоць на гэтае: скрозь каля поля, засеянага грэчкаю .. стаяць вялікія цяжкія калоды.* Там жа, 30.

Адз. Н. *грэчка*: ХБ, 28. Т. *грэчкаю*: ХБ, 30.

**[ГРЭШНІК]** *м.* Грэшны чалавек. *Прадсмертнаю кляцьбой канаючага раба, Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку, Звярнуўся к сонцу, Сонцу без канца й пачатку.* СМ.

Адз. Р. *грэшніка*: СМ.

**ГРЭШНЫ** (5) *прым.* Які зрабіў многа грахоў; поўны грэху;

нячысты. *Па шчасці нязведаным грэшны народ, Як каня, уздыхаў за вадою.* КП. *Вы* [жыды] *для народаў далі мудрага Хрыста, Якому ўзнеслі грэшныя авечкі Муры, дзе векі бьецъ паклоны бедната.* Ж.

Адз. м. Н. *грэшны* (2): КП; ПН. ж. М. *грэшнай*: СНБ. н. В. *грэшнае*: ЗС. Мн. Н. *грэшныя*: Ж.

**[ГУБА]** (2) *ж*. Частка цела (рота) чалавека. *Абняліся з сабой у шалёну гульню, Вочы прыскам зіяюць, з губ коціцца дым...* БН. [Мікіта]: *Не магу ж я, медждy протчым, мамаша, набраць у губу вады і маўчаць, калі ён бэсціць мае жыццёвыя погляды.* Т, 22.

Адз. В. *губу*: Т, 22. Мн. Р. *губ*: БН.

**ГУБАРНАТАР** *м*. Губернатар. [Янка]: *Ён* [Мікіта] *гэтак заўсёды хоча сябе паказаць, як бы сам губарнатар.* Т, 20.

Адз. Н. *губарнатар*: Т, 20.

**[ГУБАРНАТАРСКІ]** (5) *прым*. Які мае адносіны да губарнатара. [Мікіта]: *А так, медждy протчым, хай сабе* [немцы] *ідуць, гэта мне пад руку – буду зноў засядаць у губарнатарскай канцылярыі.* Т, 24. [Гануля]: *Гэта, мабыць, ён* [Мікіта] *наглядзеўся, бо служыў у губарнатарскай канцылярыі за нейкага там рэгістратара*, Там жа, 20.

Адз. ж. Н. *губарнатарская* (2): Т, 24, 33. М. *губарнатарскай* (3): Т, 20, 24, 48.

**[ГУБІЦЬ]** (3) *незак*. Зводзіць са свету, забіваць. *Стогн адно: не даві! Не губі, да Хрыста сцежку дай, данясі!..* Бн. // *пера*н. Рабіць няшчасным, пазбаўляць нармальнага жыцця. [Мікіта]: *Не губі маёй маладосці – не бяры ў палон!* Т, 33. *Там жыццё няважнае, Людзі шчасце губяць.* $Ш_3$.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *губяць*: $Ш_3$. Заг. адз. 2 ас. *губі* (2): БН; Т, 33.

**ГУБЭРНЯ** *ж.*: ◊**І пайшла пісаць губэрня** – *жарт., уст.* – усё прыйшло ў рух, пачаўся перапалох. [Мікіта]: *Як чуць што зблытаў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды.. і так пайшла пісаць губэрня – не адцярэбішся.* Т, 21.

Адз. Н. *губэрня*: Т, 21.

**[ГУБЭРСКІ]** *прым. Разм*. Губернскі. [Мікіта]: *Цяпер я .. маю шаснаццаць пасадаў рэгістратара ў розных Менскіх Губэрскіх Саўхозах, Нархозах, Комхозах, Домхозах і іншых аддзелах..* Т, 46.

Мн. М. *Губэрскіх*: Т, 46.

**ГУД** *м*. Гудзенне. *Народ чагосьці знебываўся, Гуд недавольства плыў і плыў..* УрП.

Адз. Н. *гуд*: УрП.

**[ГУДОК]** *м*. Працяжны аднастайны гук, сігнал. *Мірныя гутаркі ў зімы і вёсны Будуць з гудкамі вясці Ленінграда.* Ф. *Параўн*. гук.

Мн. Т. *гудкамі*: Ф.

**[ГУЖ]** *м.* : **Узяцца за гуж** *гл.* узяцца.

Адз. В. *гуж*: Т,49.

**[ГУК] (2)** *м.* **1.** *Тое, што* гудок. *..затоена ловяць* [за мяжою] *вострым вухам нашы песні, шумы трактараў нашых, несціхаючыя гукі нашых фабрык і заводаў.* ЖН.

**2.** Тон адпаведнай вышыні ў музыцы. *Пасля паўмінутнай паўзы, пад несціхаючыя гукі песні, паволі апускаецца заслона.* Т, 61.

Мн. В. *гукі* (2): ЖН; Т, 61.

**[ГУ́КАЦЬ]** *незак.* Вухкаць, вохкаць. *Каб гукалі совы Па-над вамі, псамі, Косці расцягалі Груганы з ваўкамі!* МПв.

Абв. пр. мн. *гукалі*: МПв.

**[ГУКНУЦЬ]** *зак.* Крыкнуць. *Тут рэдактар схапіў адну з падлогі газету, кінуў мне проста ў вочы і гукнуў: – На, чытай!* Ан.

Абв. пр. адз. м. *гукнуў*: Ан.

**ГУЛ** (3) *м.* Працяжны, аддалены шум, грукат. *Гул далятае здалёку гарматаў.* ВМ. *І слухаюць вушы гул песень юначых, І цешыцца сэрца з вялікага свята.* ТП.

Адз. Н. *гул* (2): ВМ; Пц. В. *гул*: ТП.

**ГУЛІ** (3) *толькі мн. Разм.* Гулянне, забава. *Ці там вецер водзіць гулі Так па самагубе..* Дз. *З ім* [камсамольцам] *не жарты, з ім не гулі, – Сцеражыся подлы вораг!* СА, 181.

Н. *гулі*: СА, 181. В. *гулі* (2): Вб; Дз.

**ГУЛКА** (2) *прысл. да* гулкі. *Гудуць гулка з добрай волі Нашы фабрыкі, заводы.* СА, 182. *Песні яго* [Стальскага] *у людзі Выйшлі гулка, дзіўна..* ПСС.

**[ГУЛКІ]** *прым.* Гучны, далёка чутны. *Ад песень ад гулкіх плывуць адгалоскі Па шумных дубровах і нівах..* ВВ.

Мн. Р. *гулкіх*: ВВ.

**[ГУЛЬНЯ]** *ж. перан.* Занятак, забава. *Абняліся* [здані] *з сабой у шалёну гульню, Вочы прыскам зіяюць, з губ коціцца дым..* БН.

Адз. В. *гульню*: БН.

**ГУЛЬТАЙКА** *ж.* Саха. *Першае – чацвёртае Жывіць свет сабою, Хоць – гультайка шчырая Зімовай парою.* $Ш_3$.

Адз. Н. *гультайка*: $Ш_3$ .

**[ГУЛЯЦЬ]** і *разм.* **ГУ́ЛЯЦІ** (7) *незак.* **1.** Забаўляцца, пацяшацца. *Запыталіся ў Галінкі, У малой дзяўчынкі: Што сядзіш ты, Галя, ў хаце, І не йдзеш гуляці?* Вб.

**2**. *перан.* Гаспадарыць. *Эй гуляйце, чарнасотнікі, На благое ўсё ахвотнікі: Не век сеяці вам цьму..* ВЧ. // *вобразн.* Працаваць. *Хоць сохі, хоць косы гуляюць там ройна, - Не поймеш, адкуль узялісь*; ЗК.

**3.** *перан.* Перамяшчацца ў розных напрамках (пра з’явы прыроды). *Вецер свабодны гуляе па скалах ..* СД. *Сонца з ласкай ажыўчай гуляе ў прыволлі.* ТС.

**4.** *перан.* Гандляваць. .. *адрабляў крукам паншчыну пану... Пан гуляў панам, нявольнікам быў я.* Д.

Інф. *гуляці*: Вб. Абв. цяп. адз. 3 ас. *гуляе* (3): ПТ; СД; ТС. Мн. 3 ас. *гуляюць*: ЗК. Пр. адз. м. *гуляў*: Д. Заг. мн. 2 ас. *гуляйце*: ВЧ.

**ГУЛЯЮЧЫ** *дзеепрысл. да* гуляць *у 1 знач. Адно кажа мамка міла: – Ты йшчэ сходзіш, Галя. Во, глядзі, сама ў аконца, Гуляючы дома.* Вб.

**[ГУМАВЫ]** *прым.* Зроблены з гумы; рызінавы. *..калі бурлакам падаруюць гумавыя бацевы боты – бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць.* ПЧ.

Мн. В. *гумавыя*: ПЧ.

**[ГУМАНІТАРНЫ]** (2) *прым.* **1.** Які адносіцца да чалавечага грамадства і яго культуры. *..Ў школьных прадметах вы не знойдзеце гуманітарных навук.* ПЧ.

**2.** Гуманістычны; гуманны. *Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе..* Тж.

Мн. Н. *гуманітарныя*: Тж. Р. *гуманітарных*: ПЧ.

**ГУМНО** *н.* Будыніна для складання абмалоту і збожжа. *Дом жылы невялікі, чысты – напрыглядку. Зато гумно – важна!* ХБ, 28.

Адз. Н. *гумно*: ХБ, 28.

**ГУННЫ** *толькі мн.* Аб’яднанне качавых плямён Цэнтральнай Азіі, якія рассяліліся пазней па розных краінах. *Два словы так сабе – аб гуннах аб Атылле..* ВБЛ.

М. *гуннах*: ВБЛ.

**[ГУРМА]** (2) *ж. Разм.* **1.** Група, гурт. [Гарошка]: *Рынулі* [казакі] *ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ..* Т, 43.

**2.** *У знач. прысл.* Гуртам, усе разам. *Разыграліся гурмай за зданяю здань, Як вужакі ў гаршку, мітусяцца яны..* БН.

Адз. Т. *гурмай* (2): БН; Т, 43.

**[ГУРТАВАЦЦА]** *незак.* Групавацца, канцэнтравацца. *Шчыры голас і праца ідэёвая людзей, якія гуртаваліся спачатку каля “Беларускай сацыялістычнай грамады”.. палажылі свае векапомныя падваліны дзеля адраджэння свайго народа..* СНБ.

Абв. пр. мн. *гуртаваліся*: СНБ.

**ГУРТОК** (2) *м.* Група людзей. *У іх цяпер наладжаны беларускі прасветны гурток..* МІ. *Мусім лучыцца ў гурткі і гэткім манерам закупліваць збожжа для цэлай вёскі. .* ВС.

Адз. Н. *гурток*: МІ. Мн. В. *гурткі*: ВС.

**ГУСАР** (2) *м.* У царскай арміі ваенны з часцей лёгкай кавалерыі. [Мікіта]: (*напявае). Гусар на саблю опіраясь, В глубокой горэсці стоял...* Т, 32. [Мікіта]: (*напявае). По уліцам пыль подымая, Проходзіл полк гусар усачэй...* Там жа, 53.

Адз. Н. *гусар*: Т, 32. Мн. Р. *гусар*: Т, 53.

**ГУСЛІ** (3) *толькі мн*. Музычны інструмент. *Ракочуць гуслі звон у звон На бел-свет розгалас нясецца..* Кц. *Гуслямі, лукам і святлом Будзіце, клічце і свяціце І так спануйце іхнім сном, Каб сон іх шчэз і ўсталі жыці*. Там жа.

Н. *гуслі*: Кц. Т. *гуслямі*: Кц. М. *гуслях*: СМ.

**[ГУСТ]** *м*. Адчуванне, разуменне прыгожага. *..стараецца адзявацца* [Наста] *з шыкам, але без густу*. Т, 19.

Адз. Р. *густу*: Т, 19.

**ГУСТА** (2) *прысл.* **1.** *Прысл. да* густы ў 2 *знач*. [Янка]: *Але дзядзька густа іх сваёй піпкай падкурваў. Бачыў, як насамі круцілі ды кіхікалі.* Т, 29.

**2.** *безас*. Вельмі многа, поўна, у дастатку. *Часта, густа з'езд склікаю, Ды нішто не памагае.* ЛПК.

**ГУСТЫ** (2) *прым*. **1.** Насычаны. *А быў жа туман той густы..* ТП.

**2.** Часты. *Відна, што ніўка-маці тутка чалавеку! Відна з густых коп сена, што на сенажатцы Зьвёздачкамі мігаюць..* ХБ, 28.

Адз. м. Н. *густы*: ТП. Мн. Р. *густых*: ХБ, 28.

**[ГУСЦІ]** (5) *незак*. **1.** Іграць. *Паўстань з народу нашага, пясняр.. Гудзі над Беларусяй з краю ў край, У сэрцах спячых распалі пажар..* Пт. // *перан*. Пашырацца, распаўсюджвацца. *Не гудзе ў павазе Голас вечавы, Не шукаюць князі Славы і бітвы.* МД.

**2.** Утвараць працяжны гук; звінець. *Гудуць гулка ў добрай волі Нашы фабрыкі, заводы.* СА, 182. *Гудуць правады над шляхамі ў паветры*. ПБН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *гудзе*: МД. Мн. 3 ас. *гудуць* (2): ПБН; СА, 182. Пр. адз. м. *гудзеў*: УрП. Заг. адз. 2 ас. *гудзе*: Пт.

**ГУТ** *прысл. Ням*. Добра. [Мікіта]: *Рыхтык, рэхт, меджду протчым, шабас гут фрау... фатэрлянд...* Т, 32. Т, 31.

**ГУТА МОРГЭН** і **ГУТЭ МОРГЭН** *Ням*. Добрай раніцы. [Мікіта]: *Гута моргэн, гэр гэрманіш!* Т, 31. Т, 32. *Нават жыду – ў доўг як просе – "Гутэ моргэн!" – буркне ў носе.* УрП.

**ГУТАРКА** (16) *ж*. **1.** Размова, бяседа. *Гутарка важная ходзіць па хаце, Вецер за хатаю вее і вее.* ВН. *І княжна з князем п'е да дна; Князь гутарку павёў такую.* Кц. // *перан. Гэтакі ў часе глухой непагоды Чуецца ў Нёмнавай гутарцы жаль.* Н.

**2.** Разнавіднасць мясцовага дыялекту. *У якой мове трэба вучыць дзяцей рэлігіі? На гэтае пытаньне, здаецца, кожны павінен адказаць: ў роднай мове вучнёў – тэй гутаркай, якую яны змалку чуюць у бацькавай хаці.* ВР.

**3.** Чутка. [Мікіта]: *Але мяне зласлівыя гутаркі зайздросных людзей мала абходзяць.* Т, 36.

Адз. Н. *гутарка* (4): ВМ; ОШМ; Т, 22, 43. Р. *гутаркі* (3): ВР;

СНБ (2). Д. *гутарцы*: Пц. В. *гутарку* (4): Ан; Кц; Пц; Т, 33. Т. *гутаркай*: ВР. М. *гутарцы*: Н. Мн. Н. *гутаркі*: Т, 36. В. *гутаркі*: Ф.

**ГУТАРЫЦЬ** *незак. пера*н. Крумкаць. *І давай паміж сабой* [груганы] *Гутарыць, хваліцца: – Круму! Круму! Што за рай! Ёсць чым пажывіцца!* Гр.

Інф. *гутарыць*: Гр.

**ГУЧНА** *прысл.* Звонка, выразна, гулка. *Іграйце гучна музыку геройскую, музыкі, Каб слухаў і дрыжэў ад музыкі ўвесь свет!* СК.

**ГУЧНЫ** *прым. перан.* Пышны, шумны. [Янка]: *Гучны, як уважаю, баль у вас будзе.* Т, 21.

Адз. м. Н. *гучны*: Т, 21.

**[ГУШЧА]** *ж.* Месца скопішча каго-н., маса народу. *У самую гушчу чэхаславацкага народа пранікла і глыбока ўмацавалася вера і надзея на Савецкі Саюз..* ПЧ.

Адз. В. *гушчу*: ПЧ.

**ГЭ-ГЭ** *выкл.* Тое, што ха-ха. [Мікіта]: *Вам чалавеку без рангаў і клясаў у прошлым і без надзеі на асэсарства ў будучым, пэўна, што ўсё роўна, але для мяне, меджду протчым... Гэ-гэ! А цяпер далоў совбурскую форму!* Т, 50.

**ГЭЙ** (52) *выкл.* Вокліч. *А ў бары, бары Тры дарожанькі, Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі! Тудой шоў жаўнер Наш прыгожанькі. Гэй, гэй, гэй, наш прыгожанькі!* ББ. ББ (30); БН; В (2); ВБ (3); ЛПК; Н; НД; ПСД (2); СА; ЧС (4); $Ш_1$.

**ГЭНЫ** (13) *займ. Абл. Тое, што* гэты *ў 1 знач. Дзіўлюся толькі, як гэны камісар прыняў тваю просьбу..* Ан. *Гэны перыяд нашых дамаганняў і змаганняў.. астаўляем разабраць.. цяперашнім і будучым гісторыкам.* СНБ.

Адз. Н. *гэны* (2): Ан; Т, 49. В. *гэны*: СНБ. М. *гэным*: Т, 46. Мн. Н. *гэныя*: Т, 54. Р. *гэных*: Т, 35. В. *гэныя* (5): Ан; Т, 25, 45, 56; УПУВ. Т. *гэнымі*: Т, 27. Кар. адз. ж. Н. *гэна*: Т, 61.

**ГЭР** (18) *м. Ням.* Пан. [Мікіта]: *Што ён нарабіў мне гэты гэр прафесар з сваёй навукай! Оеей! Оеей!* Т, 32. Т, 31(2), 32(3), 33(2), 34, 36, 40, 41, 42, 48(4), 60.

**[ГЭРМАН]** *м. Разм.* Немец. [Мікіта]: (*перабіваючы). Быўшых нашых ворагаў – гэрманаў, мадам-сіньёра?* Т, 37.

Мн. Р. *гэрманаў*: Т, 37.

**ГЭРМАНІШ** (7) *м. Разм.* Немец. [Мікіта]: *(да немца). Меджду протчым, гэр гэрманіш, можа, купіце германскія маркі?* Т, 42.

Адз. Н. *гэрманіш* (7): Т, 31, 32(3), 33(2), 42.

**ГЭРЦУМ-СРОЛІКІ** [Янка]: *Дый што гэта з вамі? Ці не ўпісаліся вы ў менскія свабодныя гэрцум-сролікі? – Як тачнік які, тарабаніце гэту брычку з сабой.* Т, 45.

Мн. В. *гэрцум-сролікі*: Т, 45.

**ГЭТА** (234) *часц.* **1.** *указальная. Адны кажуць, што гэта наравісты конь, другія кажуць, што гэта пудзіла на вераб'ёў, трэція – што гэта такая аркестра, у якой кожны музыка на свой лад заводзе..* АН.

**2.** *узмацняльная. За ўсё гэта яна ўзнагароджана вялікай ганаровай адзнакай – ордэнам Леніна.* ЖН. *Так, сябры, гэта вялікая праява!* МІ.

А; Ан (5); АЛ (3); БрБ; БС (4); БСУ; ВБЛ(2); ВН (3); ВР (5); ВС (2); ВСп (11); ГНД (2); ДЖ; ДК (4); ЗС; ЗЯЗ; Кз (2); М; МІ (6); Нз (6); НДМ (4); ОШМ (7); Пп; ПЛП; ПС; ПСп; ПЧ (5); РКр; СБНГ (5); СК; СНБ (10); СП (2); СТ; Т, 19(2), 20(2), 21(6), 22(2), 23(4), 24(6), 25(5), 26(2), 27(2), 28, 29, 30(2), 31(3), 32(2), 33(2), 35(4), 36(5), 37(4), 39, 40(3), 41(9), 42(3), 44(2), 45(2), 46, 48(5), 49, 50(3), 52, 53(2), 54(4), 55(6), 56(4), 57(3), 58(6), 60(8), 61(4); Тж (2); ХБ, 30(2); ХЛБ; ХХ (2); ЦСБ (2).

**ГЭТАК** (31) *прысл. Разм. Тое, што* так. *Гэтак праслужыў тры гады ў броварах чорнарабочым.* А. *І гэтак далей пісаў я і насыпаў аж тысячу радкоў.* Ан.

Ал; Вб; ВБ; ВР; ДК; ЗС; Кц (2); НДН; ОШМ; ССА; Т, 20(2), 37, 43, 44, 45, 46(2), 50, 55, 57; УрП (3); ХБ, 29, 30(2); Ч.

**ГЭТАКІ** і *разм.* **ГЭТКІ** (46) *займ. Тое, што* такі. *Чуткай душою ў такі час паслухай, – Здасца, там гэтакі голас чуваць.* Н. *Гэтакай подласці, гэтакай здрады Свет і не чуў і не бачыў.* СЗГ. *Ці ж беларускі народ – гэткі вялікі і гаспадарны – не заслужыў на тое, каб і для яго Бацькаўшчыны закрасавала?* ДД.

Адз. м. Н. *гэтакі* (2): Н (2); *гэткі* (10): ВН; Г; Дз; ДД (2); Кц; Н; ПТ; Т, 33, 53. Р. *гэткага*: Т, 42. В. *гэтакі*: Т, 49; *гэткі* (2): Кц (2). Т. *гэтакім* (3): БС; НДН; УПУВ; *гэткім* (6): ВС; СНБ; Т, 20, 29, 43, 55. ж. Р. *гэтакай* (2): СЗГ (2). Д. *гэтакай*: ВСп. В. *гэтакую* (2): Т, 20, 29; *гэткую*: Т, 30. Т. *гэткай* (3): Ч (2); ЧЧШ. М. *гэткай*: Р. н. Н. *гэткае*: ТП. Р. *гэткага*: Т, 60. Т. *гэткім*: ЛПК. Мн. Н. *гэтакіх* (3): ДНСП; ЗЯЗ; Т, 20; *гэткіх* (5): Т, 37(2), 39; Ч (2).

**ГЭТУЛЬКІ** *прысл. Разм. Тое, што* столькі. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, нікая кніга.. не давалі мне гэтулькі асалоды і прыёмнасьці, як постаць гэтых дрэў..* ХБ, 29.

**ГЭТЫ** (400) *займ.* **1.** Паказвае на асобу ці прадмет. *І стала так, як старац гэты Сказаў пакорнай грамадзе.* УрП. [Гануля]: *(да дамы). Калі ласка, вось гэты далікатны кусочак яшчэ!..* Т, 28.

**2.** Паказвае на прадмет ці асобу, што вылучаецца з ліку іншых. *На гэты нарыс звярнулі ўвагу нават у Маскве..* ВСп. [Дама]: *Я папрашу гэтага мусье (паказвае на Янку), каб сыграў на балалайцы.* Т, 52.

**3.** Паказвае на асобу, прадмет, пра якіх гаварылася нядаўна. –

*Варашылава я знаю, Сам я з ім вітаўся, Ён, калі былі манеўры, Ў нашым быў калгасе. Ну, за гэтага дык можна, Чалавек вядомы.* Вб. *Мы прайшлі гэты шлях, як казачныя асілкі – сямімільнымі .. крокамі.* ВГР.

**4.** *У знач. наз. Праўду сказаць, я* [Купала] *і да гэтага не быў вельмі рэлігійным..* А, 328. *Гэтаму з'яўляюцца сведкай мае творы, аб гэтым раскажуць вам крытыкі.* ДЖ.

**5.** Паказвае на вядомыя ўжо асобу ці прадметы. [Гарошка]: *Гэты настаўнік добры і дужа разумны чалавек..* Т, 44. *Гэты рух* [стаханаўскі] *дае такія магчымасці росквіту нашай радзімы..* СТ.

Адз. м. *гэты* (42): А; АЛ (4); АПЖ (2); АР; БС; БСУ; ВГР (2); ВН; ВР; З (3); Кз; НДН; СБНГ; СНБ (6); СТ (3); Т, 28(2), 30, 45, 48, 55, 60, 61; УрП (3); УПУВ; ХБ, 29. Р. *гэтага* (18): АЛ; БСУ; Вб; ДК; ЖН; СБНГ; СНБ (3); СТ; Т, 22, 29, 44(3), 45, 46, 61. В. *гэты* (36): АБ (2); АЛ; БСУ (3); ВБЛ (3); ВГР; ВС; ВСп (4); ГП (2); ДЖ; ЖН (2); ОШМ; ПЛП (2); РКр; СНБ; Т, 24, 32, 40, 44, 48, 49, 52, 58; ХБ, 29; ЦБС; Ч. Т. *гэтым* (2): ВН; Т, 52. М. *гэтым* (13): АБ; Дз; ДД; См; СД (2); Т, 46(5), 52, 61. ж. Н. *гэтая* (5): БСУ (2); ПЧ; Т, 20; УПУВ. Р. *гэтай* (25): АЛ (2); БС; ДД; ЖН; ЗС; МІ (2); МПв; НГд; ПЧ; СБНГ; СНБ (2); Т, 30, 36, 39, 46(2), 56(2); ТП; ХБ, 28; ШБСЯ (2). Д. *гэтай* (2): АЛ; ЖН. В. *гэтую* (11): А; АБ; ЖН; МПв; ПЧ; Т, 32, 38, 40, 46, 58; УрП. Т. *гэтай* (2): АЛ; Т, 23. М. *гэтай* (10): АЛ (2); ВСп (2); ДНСП; ПДз; Т, 21, 34, 55; УПУВ. н. Н. *гэтае* (4): БСУ; ДД; НДН; Т, 46. Р. *гэтага* (45): А (2); Ан; АЛ (2); БС; ВР (2); ВСп; Нз (3); НДН (2); ОШМ; ПЛП; СНБ; СБН (5); Т, 21, 22, 27, 32, 33(2), 34, 35(2), 40, 41(3), 42, 43, 44, 46(2), 61; УПУВ; ХБ, 30; ШБСЯ. Д. *гэтаму* (4): АЛ; ДЖ; СНБ; Т, 45. В. *гэтае* (6): А; ВР; Т, 20, 39, 54; ХБ, 30. Т. *гэтым* (17): АЛ (3); ВБЛ; ВН; ДЖ; ПЧ; РКр; СНБГ (2); СНБ (2); Т, 25, 35, 48, 50, 60. М. *гэтым* (27): Ан; АБ; ВН (2); ВС; ВСп; МІ; ОШМ; ПЛП (2); СНБ (3); Т, 21(2), 23, 24(2), 29, 41, 49, 55, 56, 57; Тж; Ун; ЦСБ. Мн. Н. *гэтыя* (32): БС; ВН; ВНЗ; ВСп (3); ДК; З; МІ; НДН (2); ПЧ; СНБ (5); Т, 22, 27(2), 35, 42, 44, 45, 46, 48(2), 53, 56(2); Тж; УПУП. Р. *гэтых* (24): ВСп (4); ІХ; Кз; Кц; МІ; МП (2); Нз (2); НДН; ОШМ; Т, 23, 29, 45, 50; Тж (2); УрП; УПУВ; ХБ, 29; ЧС. Д. *гэтым* (2): Т, 22; УПУВ. В. *гэтыя* (18): АЛ; ВН (2); ВСп (2); МП (2); РКП; Т, 39, 50, 53, 55, 58, 60, 61; УПУВ; Ч; ШБСЯ. Т. *гэтымі* (9): АЛ; ВБЛ; ПСп; СНБ; Т, 22, 39; ХБ, 29(2), 30. М. *гэтых* (10): АЛ; БСУ; ВСп; ОШМ; ПЛП; Т, 44, 60, 62; ХБ, 30(2). Кар. ж. Н. *гэта* (21): БСУ; ВС; ВСп; ДД; ДЖ; ЗН (2); ЗС (4); МІ; ПЛП; СБНГ; СНБ; Т, 30, 37; УПУВ (2); ШБСЯ (2). В. *гэту* (21): АБ (2); ВГР; ВН; ВС; ГП; ДНСП; Ж; ЗС; СБНГ; Т, 30, 33, 34, 45, 51, 58; Тж; УПУВ; ШБСЯ (2). н. Н. *гэта*: БСУ. В. *гэта* (7): БМ; БС; ВС (2); ДНСП; ЗС; Т, 34. Мн. Н. *гэты*: Т, 58.

# Д

**ДА**[1] (373) *прыназ. з* Р. выража́е:

Прасторавыя адносіны (71)

1. Пры абазначэнні месца, прадмета, да якіх скіравана дзеянне, рух. [Наста]: *А вось гэтага* [немца] *– дык я толькі ахвяравалая правесці да Брахалкі.* Т, 41. *Госці ўсім кланяюцца, сядаюць. Поп бліжэй да вакна.* Там жа, 51. *Яна* [пані] *ўдруг страшна закрычала і кінулася да дзеўчынкі…* ПДз.

2. У спалучэнні з прыназоўнікам “ад” (ад-да) і другімі назоўнікамі акрэслівае прастору, у межах якой адбываецца дзеянне, з’ява. *Ад гарачых пяскоў агнітай Афрыкі, дзе задумны бедуін, едучы ў ночы на вярблюду, зоры блыскучыя лічыць і да ледавітага “паўночнага зіяньня”, дзе на сьцюдзёных галодных раўнінах неабнятай тундры набожны шаман муштруе бажкоў сваіх, – як ёсьць усюдах пануе гэты ясьневяльможны бязсьмертны забабон.* З. *А ў тых песнях гоман зямлі нашай чуўся, І рэха ляцела дарогаю слаўнай, Ажно з-пад Эльбруса і да Беларусі.* ПСС, 232. *Параўн.* до. АБ, 16; БН, 92, 93; БСУ; В (4); ВМ, 72; ГЖУ; ДЖ; Ж; З; ЗК, 43; К; КП, 170; Кр, 77(2); НДп, 229(3), 230; Нз, 14(2); ПДз (2); ПНд, 46; Р; РКр; СК, 158; СНБ, 340; СС, 301(2), 302; Т, 19(2), 20, 25(2), 27(3), 30, 32(2), 35, 39, 48(3), 51, 52(2), 53, 57(2), 59(2); ТП, 217(2); УПУВ; УрП, 47, 52; Ф.

Часавыя адносіны (34)

3. У спалучэнні з прыназоўнікам “з” або “ад” і другім абазначае адрэзак часу, у межах якога адбываецца дзеянне, з’ява. *Жылі* [беларусы] *– як і дзе папала ў падвалах, халодныя і галодныя, нажылі сабе сухоты і іншыя галодныя-халодныя хваробы і да самае смерці не складалі аружжа барацьбы за беларускую незалежнасць.* МІ, 17. *За другім* [сынам] *была ахвота К лежні, к панаванню; За чужой-бы жыў работай, Спаў-бы да зьмерканьня.*

Дз, 189. // У спалучэнні з прыназоўнікам “ад” або “з” і другім назоўнікам абазначае адрэзак часу здзяйснення дзеяння, стану. *Так у сяле Микалаеўшчыне, Мин. губ. прапита грошай ад новага года да 1 аўгуста (за 6 мес.) 5012 руб. 94,5 кап.* УП. *З году ў год мы жылі, як жывёла, З году да году чакалі святла...* Г, 16.

4. Указвае на падзеі, з’явы, якім папярэднічала пэўнае дзеянне; адпавядае па значэнню словам: перад чым-небудзь. *Трэба горда цягнуць лямку жыцця, як цягнулі яе да вайны...* ВС. [Гануля]: *Да яго* [Гізулькага] *йшчэ пераезду сюды нашы крэслы недзе ў іншае месца спалатнілі.* Т, 45. А, 328(2); АЛ; БСУ; ВБЛ, 83; ВГР; ВН; ГНД; Дз, 190; Ж; ЛР; МІ, 17(3); ПСС, 231; РКр; СК, 158; СНБ, 336, 337; Т, 19, 21, 28, 33, 53, 55; УПУВ (2); ЦБ.

Колькасныя адносіны

5. У спалучэнні з займеннікам і лічэбнікам ужываецца пры абазначэнні паўнаты дзеяння. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўнікам С. Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім аркушаў рознага зьместу рукапісаў...* ВСп, 91.

Аб’ектныя адноіны (257)

6. Пры абазначэнні асобы, прадмета і пад., да якіх адносіцца хто- , што-н. *...торпа, прымешаны да пясчанай глебы, утварае найлепшае паляпшэньне зямлі.* ХБ, 30. *Праўда, да вясеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся умныя ноткі...* Там жа, 29. *Польскія эндэкі ...накінулі нам* [беларусам] *“плебісцыт” і прынятую соймам “рэзолюцыю”, якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ. // У выразах да ўсяго гэтага, да таго. [Мікіта]: *... і да ўсяго гэтага яшчэ: селядцы, тараны, сем з паловай фунтаў дроў, пудэлачка, меджду прочым, пудры, а-ля-руж, падстаўка для кветак, тры чаркі, а болей, здаецца, нічога няма.* Т, 46. [Янка] *Там, на вёсцы, я патрэбней, чымся тут, а да таго – не люблю я гораду: вельмі ўжо ў ім цяжкае паветра.* Там жа, 21.

7. Ужываецца для выражэння сувязі з кім-н., прыналежнасці да каго-, чаго-н. [Дама]: *Мусье беларус, вы, як я уважаю, напоўнены павевамі новаго часу і належыце, мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы?* Т, 37. *З вучыцелёў, што да таго саюза належэли, ўзяли падписку, каб нікуды не выежджали без дазваления палиции.* ВД.

8. Пры абазначэнні матыву, мэты якога-н. дзеяння. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны* [контррэволюцыйныя нацыянал-дэмакраты] *разбурэньню таго адзінства, тае інтэрнацыянальнай базы, на грунце якое працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяй СССР зьлітнымі колёнамі ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ. *І мне*

[Купалу] *тут – у гэты шчаслівы, ганаровы для мяне час хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі да таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю калгасна-заможнай, Беларуссю вольнай нацыянальна і соцыяльна.* ЖН.

9. Ужываецца пасля назоўніка пры абазначэнні асаблівасцей або прызначэння прадмета. *Пачатак гэтага зрабіў компазытар Рагоўскі, які стварыў музыку да слоў верша Янкі Купалы: "А хто там ідзе?" і назваў гэта гымнам.* СБНГ. [Мікіта]: *Вось тут селядцы, во цыбуля да іх, а вот сала, а тут ...меджду прочым – кілечкі...* Т, 21.

10. Пры абазначэнні асобы або прадмета, з'явы, да якіх скіравана дзеянне. *Адсюль такая прыязнь, любоў, глыбокая сімпатыя да нас – людзей совецкае краіны.* ПЧ. [Янка]: *Цікава, да каго ж у цябе, Аленка, сэрца ляжыць?* [Аленка]: *Вы ўжо аб гэтым павінны ведаць з майго лісту.* [Янка]: *А так: да навукі і навучання.* Т, 29. *Нелегальная літаратура, якую я* [Купала] *тады чытаў, была прасякнута нянавісцю да царызма і любоўю да свабоды і незалежнасці.* ПС.

11. Пры абазначэнні прадмета, у дачыненні да якога выяўляецца прыгоднасць, прыдатнасць каго-, чаго-н. *Вайна вечна трываць ня будзе; вернуцца нашы браты і сыны дамоў, можэ некаторые раненые, ня здольныя да працы.* РКр. [Янка]: *Мне здаецца, пане рэгістратар, што вы* [Мікіта] *так запуталіся ў сваіх рангах, клясах і свабодных профэсіях, што ўжо не здольны да ніякае місіі – нават да тэй сваёй роднай, ісціна-рускай місіі.* Т, 38. // Ужываецца пры ўказанні асобы, з'явы, да якіх ёсць або адсутнічае патрэба, зацікаўленасць. [Янка]: (*Да Ганулі) Цяпер я да вас, цётачка, толькі не з спрэчкай, а з просьбай: ці няможна будзе ў вас мне з маёй кампаніяй пераначаваць?* Т, 49. *Сёння ўжо стар я* [дзед] *і мне не да плачу...* Д, 72. [Наста]: *О, немцам цяпер не да чужых генералаў.* Т, 41.

12. У спалучэнні са словам "падобны" пры абазначэнні асобы, прадмета, з якімі параўноўваецца хто-, што-н. *Калі параўняць часы беларускага нацыянальнага руху ў перыядзе 1915–1917 гадоў і часы пасля расійскай рэвалюцыі 1917 году, дык гэта адно да другога не падобна, як зямля да неба.* МІ,17

13. Пры абазначэнні і таго, да чаго заклікаюць, пабуджаюць. *Зірні-ж, азірніся, шчасьлў, нешчасьлівы І заўтра на поле да сох, як адзін!* В. *Дык наперад, таварышы, да новых перамог, да новых радасцей, да соцыялізму!* ДЖ.

14. Ужываецца пры абазначэнні асобы або прадмета, з'явы, да якіх скіравана дзеянне. [Мікіта]: *(да Ганулі). Меджду протчым, мамаша, прышыкуйце закуску, бо незадоўга і госці збяруцца.*

Т, 21. [Немец]: *(падышоўшы блізка да Мікіты і прыглядаючыя да формы). О-о! Што я бачу? Рыхтык рускі генэрал.* Там жа, 32. // Ужываецца пры абазначэнні выніку дзеяння. *Лепшыя з гэтых людзей даўно ўжо прыйшлі да пераканання, што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, падняволены чужынцам.* НДН, 19. [Гарошка]: *Кажу свайму настаўніку, што во да чаго шум і крык такі даводзіць...* Т, 44.

15. Пры абазначэнні прадмета ці асобы, з якімі змацоўваецца што-н., сутыкаецца хто-н. *Ляж, прытуліся да зямлі, Паслухай шчыра, што гавора Табе, сям'і і ўсёй радні, Калі запаліць неба зоры.* БрБ, 6. *У краіне гордай, горы дзе пад неба, Дзе быў прыкаваны Праметэй да скалы, Рос і гадаваўся у бядзе, без хлеба Сулейман гаротны, наш пясняр удалы.* ПСС, 231. АЛ (3); БВ, 16; БСУ; ВВ, 263; ВГР; ВМР (7); ВН; ВР (3); ВС (3); ВСп, 91; Г, 16; ДЖ (5); Дз, 188, 189; ДК (4); ДНСП; Ж; ЖН (3); ЗС, 17(2), 18; ЗЯЗ, 90(2); К; Кз, 17(2); МІ, 17; МП (2); НДН, 18, 19; ОШМ (3); ПДз; ПЛП (5); ПНд, 314(2); ПС (3); ПСп; Пт; ПТ, 207(3); ПЧ (10); РКр (5); СБ (3); СБНГ (2); См, 91; СНБ, 340; СНБ; СП; СС, 301(4), 302; СТ (2); СЧ (2); Т, 19, 20(2), 22, 23, 25(2), 26(2), 27(10), 28(6), 29(6), 30(2), 31(3), 32(6), 33, 34(4), 35, 36(2), 37, 38(3), 39(3), 41, 42(6), 43(3), 44(3), 46, 47, 48(4), 49(2), 50(2), 51(2), 52(3), 53(5), 54, 55(2), 56(4), 57(3), 60(2), 61(7), 62; ТП, 214, 216(2), 217; УрП, 47, 51(4); ХБ, 28(2); Ч, 321; ЧС, 50–51; ШБСЯ.

Акалічнасныя адносіны

16. Ужываецца пры ўказанні на ступень, якой дасягае дзеянне, стан. *Наша Беларуская Савецкая Социялістычная Рэспубліка, як бы фарпост на рубяжы двух социяльных сістэм – развілася эканамічна і культурна да нечуваных размераў.* ЖН. *...мы чакаем таго, каб яна* [польская ўлада] *становўча зазначыла сваю політыку на Беларуі, бо час не чакае, нездавальненьне расьце з кожным днём, струна нацягваецца да апошняй магчымасьці.* ОШМ. // У спалучэнні з некаторымі назоўнікамі служыць для абазначэння найвышэйшай ступені якога-н. дзеяння, стану. *О Божа! ты хоць заступіся Й ня дай да рэшты нам* [беларусам] *сканаць!* РС, 40. // У спалучэнні з некаторымі назоўнікамі служыць для ўказання на паўнату колькаснага ахопу. *Бярэ* [князь] *коўш соладка віна, Пье за дружыну маладую, І княжна с княззем пье да дна...* Кц, 193. // У спалучэнні з прыназоўнікам "ад" (ад – да) і другім назоўнікам ужываецца пры ўказанні на поўны ахоп якіх-н. асоб, прадметаў, якасцей і пад. *Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца – усё насельніцтва будзе ўдзельнічаць*

*ў адзіна дэмакратычных у свеце выбарах.* ГВУ. ВГР (3); Г, 16; ГВУ.

**Выбары да Мясцовай Рады. Радзіма кліча да помсты!**

◊**Дайсці да торбы** *гл.* дайсці. **Да спаткання** *гл.* спаткненне. **Да сэрца ўзяць** *гл.* узяць. **Да часу** *гл.* час.

**ДА²** *часц. Руск.* Ужываецца пры форме загаднага ладу са значэннем пабуджальнасці, волевыяўлення. [Поп]: *(ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой): Да храніт іх в странствіі мацер неопалімыя купіны і мацер крупіцкая!* Т, 38

**[ДАБАВАК]** *м. Разм.* ◊**У дабавак –** у дадатак; акрамя чаго-н., звыш чаго-н. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, я ўважаю, што апрача ўсяго іншага, сягоння ў дабавак нейкі выключны дзень, вам ніякай гандлёвай "здзелкі", бадай, не ўдасца ўжо правесці.* Т, 34.

Адз. В. *дабавак:* Т, 34.

**ДАБАВІЦЬ** (3) *зак.* Прыбавіць звыш таго, што ёсць. [Мікіта]: *На маю пільную працу нават начальства, меджду протчым, звярнула ўвагу і да маёй рангі рэгітратара дабавіла ганаровую падрангу, якая па-нашаму завецца "Совбур".* Т, 46. // Сказаць што-н. у дадатак. *Трэба яшчэ дабавіць, што незалежную беларускую рэспубліку стварылі смаленскія і маскоўскія "беларусы" па загаду Масквы.* СНБ, 338. *Хай багацейшыя укладаюць у гэта свае грошы, (каторые, дабаўлю тут, ніякім спосабам прапасьці ня могуць), каб бяднейшые маглі з іх у гэты цяжкі час карыстаць.* ВС.

Інф. *дабавіць*: СНБ, 338. Абв. пр. адз. ж. *дабавіла*: Т, 46. Буд. адз. 1 ас. *дабаўлю*: ВС.

**ДАБАЛЬШАВІЦКІ** *прым.* Які папярэднічаў бальшавіцкаму перыяду. *І вось рэвалюцыйны, дабальшавіцкі ўрад у Расіі змушаны быў пазволіць фармаванне нацыянальных войск.* БВ, 16.

Адз. м. Н. *дабальшавіцкі*: БВ, 16.

**ДАБАЧЫЦЬ** (2) *зак.* Убачыць, угледзець (з часціцай "не"). *Распасьцер свае ўсемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю да краю, па усім нязьмераным сьвеце, і пачатку яго не найці і канца яму не дабачыць.* З.

Інф. *дабачыць*: З.

**ДАБІВАЦЦА** (5) *незак.* Дамагацца чаго-н. [Янка]: *Значыцца, вы* [Мікіта] *цвёрда пастанавілі дабівацца сабе гэтай новай кар'еры?* Т, 56. *"Прасіце, і вам будзе дадзена; дабівайцеся, і вам атчыняць..." А мы* [беларусы] *ніколі не прасілі, ніколі не дабіваліся правоў для беларускай мовы.* ВР.

Інф. *дабівацца* (3): Т, 35, 55, 56. Абв. пр. мн. *дабіваліся*: ВР. Заг. мн. 2 ас. *дабівайцеся*: ВР.

**ДАБІЦЦА** (2) *зак. да* дабівацца. *Калі гэтаго дружна зажадаюць два мільёна беларусоў-каталікоў, яны могуць дабіцца*

*свайго; калі-ж будуць спаць і верыць розным баламутням, іх заклюююць тые груганы, каторые у нас за час сну народнага вельмі распладзіліся!* ВР. *А Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'еецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі.* Нз, 14.

Інф. *дабіцца*: ВР. Абв. буд. адз. 3 ас. *даб'еецца*: Нз, 14.

**[ДАБРАБЫТ]** (3) і **[ДОБРАБЫТ]** *м. Тое што* дастатак. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне, выклікаўшае часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі, так што калі і скромная вячэра, то не па маёй персональнай віне.* Т, 28. *Гэты* [стаханаўскі] *рух дае такія магчымасці росквіту нашай радзімы, узбагачэння яе і праз гэта-ж такога палепшання добрабыта рабочых і калгаснікаў, што цяжка нават прадбачыць зараз у марах.* СТ. // Добрыя ўмовы быту; добраўпарадкаванасць. *Абываталь жа няхай памятае, што адно беларусы могуць сапраўды любіць свой горад і дбаць аб яго дабрабыце.* ВМР.

Адз. Р. *дабрабыту*: Т, 28; *добрабыта*: СТ. Т. *дабрабытам*: НДН, 19. М. *дабрабыце*: ВМР.

**ДАБРАВОЛЬНА** (4) *прысл. Руск.* **1.** Добраахвотна. [Мікіта]: *Але й палонных, як уважаю, па дарозе хапае. Ці гэта, можа вы* [немец] *дабравольна, меджду протчым?* Т, 41. [Мікіта]: ... *Каламажку я цягаю з сабой толькі дабравольна і толькі для ўласнай выгады.* Там жа, 45.

**2.** *Іран.* Прымусова. [Мікіта]: *Мамзэль Наста загадзя папярэдзіла мяне з пэўных крыніц, што пры новай палітычнай сытуацыі будуць дабравольна браць маладых мусьі і дабравольна адпраўляць іх на Урангелеўскі фронт.* Т, 55.

**[ДАБРАДЗЕЙ]** *м.* **1.** Дабрачынец. [Мікіта]: *Меджду протчым, што вы* [Гарошка] *тут, дабрадзею, робіце з пугай: пасвіце каго?* Т, 34.

**2.** Адз. Кл. *дабрадзею*: Т, 37.

**ДАБРАДУШНА** *прысл.* Лагодна. [Гарошка] *(дабрадушна): Табачкі не табакі, а перцу калі-небудзь дастанеш ты* [Аленка] *ў мяне за свой доўгі язык.* Т, 39.

**[ДАБРАТА]** (2) *ж.* Спагадлівасць, чуласць у адносінах да людзей. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі, а пасля з дабраты сваёй і рупнасці гасціннай прынялі, падумаўшы, да сваіх старых багоў і новага Бога...* Кз, 17. *У нашым Совецкім Саюзе не мала Хто нам пазайздросціць, вось так, з дабраты, Дык ведайце: маршал даўно ўжо і стала Любіў Беларусь нашу й любіць, браты!* НДп, 229.

Адз. Р. *дабраты* (2): Кз, 17; НДп, 229.

**[ДАБРАЧЫННАСЦЬ]** *ж.* Дабрадзейнасць. [Спічыні] *(чытае): "Баронэса Шпацэрзон, ганаровы член Менскай дабрачыннасці".* Т, 61.

Адз. Р. *дабрачыннасці:* Т, 61.

**[ДАБРАЧЫННЫ]** *прым.* Дабрадзейны. *У Празе мы* [савецкія дэлегаты] *наведалі "дабрачынны камбінат" імя Масорыка, дом спартыўнай чэшскай арганізацыі "Сокал", аглядалі ваенны аэрадром, дзе нас сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфр і дзе нам лётчыкі паказалі майстэрства пілатажа.* ПЧ.

Адз. м. В. *дабрачынны*: ПЧ.

**ДАБРО** (10) *н. Разм.* Маёмасць, пажыткі. *Цэлы свет ведае, што самыя крывавыя бітвы, самае дзікае зніштажэнне людзей і іх дабра ў гэту вайну – было на Беларусі.* АБ, 16. *Зямлі маем* [беларусы] *шмат, лесу яшчэ болей; маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месты, а ў іх фабрыкі, заводы, ды і шмат іншага дабра.* Нз, 15.

◊**Дабро пасыпецца з неба –** пра тое, што дастаецца дарам. [Ганулья]: *Адно маракуе* [Мікіта] *ўсё аб тым, як... усялякае дабро само пасыпецца з неба.* Т, 20.

Адз. Н. *дабро* (2): Т, 20; ТП, 213. Р. *дабра* (2): АБ, 16; Нз, 15. В. *дабро* (3): ВН; ЗК, 42; НДН, 18. Т. *дабром* (3): БС; ЗК, 42; СС, 303.

**ДАБЫ** *злучн. Руск.* Каб. [Поп]: *"Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх, я только проважаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.* Т, 38. [Поп]: *І прышэдя с німі* [госцямі], *дабы однім веселіем возвеселіціся з вамі, чадо мое, рэгістратор!* Там жа, 51.

**ДАБЫВАЦЬ** (2) *незак.* Здабываць, набываць. *Пры гэтым вышуківаюцца спосабы аткуль і як дабываць грошы на гэтые расходы.* ВН. *Пажычыць у гэту усесветную завіруху німа дзе, бо тые ваююць і самі павінны дабываць грошы на расходы, а тые рыхтуюцца к абароне ці вайне і так сама пажычаць іншым ня могуць.* Там жа.

Інф. *дабываць* (2): ВН (2).

**ДАВАЦЬ** (36) *незак.* **1.** Уручаць. *Нам* [беларусам] *даюць наш сьцяг у рукі і гэты сьцяг мы павінны з трыумфам вынесці на жыватворнае сьвятло будучыны, вынесьці з гордасьцю, з гонарам і славай, – сьцяг не абы які, а свой, беларускі.* БСУ.

**2.** Забяспечваць. *Мала таго, што грамадзянства дае сваіх сыноў на абарону гасударства, але яно, гэта грамадзянства, павінна ешчэ так ці іначэй даваць грошы на ваенные расходы.* ВН. [Мікіта]: *Мінуўшая палітычная, меджду протчым, сытуацыя нічога падобнага нам у пайкох не давала.* Т, 51.

**3.** *перан.* Паказваць, прад'яўляць. [Начальнік]: *Старыя* [дакумэнты] *потым раскумекаем – давайце новыя.* Т, 60.

**4.** *перан.* Налічваць. *Бацяўская ашчадкаса дае кожнаму рабочаму дзесяць процантаў за пакладзеныя грошы замест звычайных чатырох.* ПЧ.

**5.** Прыносіць як вынік чаго-н. *Яго* [паўночнага краю Меншчыны] *балоты, калі пакуль што не даюць карысьці, нікому не замінаюць, а з часам дадуць багацейшы запас тарповага апалу, ня кажучы ўжо аб тым, што торпа, прымешаны да пясчанай глебы, утварае найлепшае паляпшэньне зямлі.* ХБ, 30. *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга, ніякі малюнак, ніякі спэктакль не далі мне* [С. Мечу] *гэтулькі асалоды і прыемнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых прашчальным блескам заходзячага вясеньняга сонца.* Там жа, 29.

**6.** *перан.* Выпускаць. *77 год была Вільня сіратою, уздыхаючы па тых сьветлых часінах, калі яе універсытэт кіпеу мудрым жыцьцем, калі даваў ен і Польшчы і цэламу сьвету мудрых і слаўных людзей, як напр. Адам Міцкевіч, Сьнядэцкі, Лелявэль і шмат іншых.* УПУВ.

**7.** *перан.* Укараняць, рапаўсюджваць. *Дужыя, не пытаючыся, забіралі ў слабейшых усё, што маглі толькі забраць, а давалі ім, не пытаючыся, тое, чаго яны не заўсёды хацелі прымаць.* НДН, 18. *А давалі, гвалтам накідалі ім свае так званыя "культуры", пры помачы якіх душылі ў падняволеных народаў іх нацыянальныя асаблівасці, іх веру, праўду...* Там жа.

**8.** Ствараць умовы для чаго-н., дазваляць зрабіць што-н. [Янка]: *Так! Гэтыя новыя акупанты ды іншыя згрызоты не даюць табе* [Аленцы] *спакойна працаваць у Менску.* Т, 30. *Разумееца, бацька за гэта мяне* [Купалу] *не мілаваў і часта не даваў браць з сабой кніжкі.* ПС.

**9.** З назоўнікам утварае спалучэнне са значэннем дзеяння ў залежнасці ад сэнсу назоўніка. *У сваясях Налівайка З вернай служкаю нагайкай Сказ даюць сялянскай брацці, Як чын чына пачытаці.* НД. *Яму* [цудадзею] *слухмяны былі хмары, Народу сказ даваў свайму: Якія мільшыя ахвяры Багам панятлівым яму.* УрП, 47.

**10.** *Разм.* Выражае запрашэнне да сумеснага дзеяння. [Ганулья]: *Давайце лепей аб чым іншым пагамонім.* Т, 54

**11.** *Разм.* Ужываецца ў значэнні: пачаў, стаў рабіць што-н. *І давай паміж сабой* [груганы] *Гутарыць, хваліцца: – Круму! Круму! Што за рай! Есьць чым пажывіцца!* Гр, 215. [Гарошка]: *...Як людзі казалі, і мой Юрка не адстаў. Вылез на вуліцу і давай з іншымі на чым свет шумець і крычаць: "Зямлі і волі!"* Т, 44.

◊**Даваць лататы –** уцякаць. [Гарошка]: *(да Пана). Значыцца,*

*паны, даіцё лататы?* Т, 37. **Даваць шлюб** – вянчаць. [Янка]: *Зялёны бор шлюб нам* [Янку і Аленцы] *даваў, зоркі дружкамі былі, а расіца срабрыстая шлюбныя персцені свяцціла.* Т, 53. **Не даваць літасці –** не рабіць уступак, не пакідаць без пакарання. *Патомкі вялікіх салдат Суворава, патомкі народных палкоў Хмяльніцкага, патомкі бесстрашных паўстанцаў Каліноўкага, абараняйце сваю зямлю, змагайцеся так, як змагаліся вашы продкі, не давайце літасці ворагу!..* РК. **Не даваць праходу –** а) настойліва прыставаць з пытаннямі, просьбамі, размовамі. *Памятаю, што я* [Купала] *не даваў яму* [рабочаму Пасляку] *праходу. Пойдзе ён у поле араць, або паедзе на начлег, я заусёды з ім і заўсёды выпрошваю ў яго казкі.* ПС; б) стрымліваць варожае наступленне. *Варашылаў калісь войскі Вадзіў у паходы, Інтэрвентам, акупантам Не даваў праходу.* НК. **Не даваць спакою** – *тое, што* не даваць праходу ў 1 *знач. Другі такі апавядальнік быў ужо ў Селішчы. Таксама я* [Купала] *яму не даваў спакою ні днём ні ўначы.* ПС.

Інф. *даваць* : ВН. Абв. цяп. адз. 3 ас. *дае* (6): ВН; ПЧ (2); Т, 33, 62; Ч, 321. Мн. 2 ас. *даіцё*: Т, 37. 3 ас. *даюць* (5): БСУ; НД; Т, 30; ХБ, 30; ЧС, 50-51. Пр. адз. м. *даваў* (8): НК; ПС (3); Т, 53; УПУВ; УрП, 47; Ч, 319. ж. *давала* (2): АЛ; Т, 51. Мн. *давалі* (3): НДН, 18(2); ХБ, 29. Заг. адз. 2 ас. *давай* (6): Гр, 215; Т, 34, 44, 46(3). Мн. 2 ас. *давайце* (4): РКП; Т, 54, 60; $Ш_2$.

**ДАВЕДАЦЦА** (7) *зак.* Дазнацца, пачуюць. *Гордасцю напоўнілася маё* [Купалы] *сэрца, калі я даведаўся, што байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям. І каторы ўжо раз!* ВГ. [Наста]: *Можаце віншавацца, панове! З пэўных крыніц я напэўна даведалая, што ўжо "нашы" занялі Менск.* Т, 49.

Інф. *даведацца* (2): Т, 54; Ч, 322. Абв. пр. адз. м. *даведаўся*: ВГ. ж. *даведалася* (2): Т, 49, 59. Мн. *даведаліся*: Т, 54. Буд. адз. 1 ас. *даведаюся*: Т, 42.

**ДАВЕР'Е** (3) *н.* Перакананасць у чыёй-н. шчырасці, чэснасці; давер. …[беларускія нацыянал-дэмократы] *на грунце канстытуцыі Савецкае Беларусі, скарыстаўшыся давер'ем, якое аказана было ім з боку савецкай улады, ...праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмакратычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ. // Ускладзеныя спадзяванні на каго-н. *Вялікае давер'е, аказанае партыяй да савецкіх пісьменнікаў, якія стаялі па-за пралетарскімі пісьменніцкімі арганізацыямі, само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікія эпохі.* ДНСП.

Адз. Н. *давер'е*: ДНСП. В. *давер'е*: ДНСП. Т. *давер'ем*: АЛ.

**ДАВЕСЦІ[1]** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* даводзіць[1]. *Толькі тыя, што*

*вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай, бо яны на сваіх плячах вынеслі чужы здзек і паніжэнне. Да гэтага давяла доўгая практыка гістарычнага развіцця народаў і дзяржаваў.* НДН, 18.

**2.** Дасягнуць якой-н. мэты. [Ануля]: *Гэткім ладам недастачы вялікай не цярпелі, ды нават хлопца свайго праз усялякія там навукі да чыноўніцтва давялі.* Т, 20.

Інф. *давесці*: НДН, 18. Абв. пр. мн. *давялі*: Т, 20.

**ДАВЕСЬЦІ[2]** і **ДАВЯСЬЦІ** *зак. да* даводзіць[2]. *Як водзіцца пры добрым дэмакратычным парадку, пускаюцца ў дзело агітатары, каторые стараюцца давесьці бацьком, што самая лепшая школа есьць такая, каторую ен, агітатар, расхвальвае.* ДК. *А каб давясьці Думе, што тые каталікі-беларусы – гэта зусім не беларусы, а "чыстакроўные" варшавякі, іх стараюцца падфарбаваць пад варшаўскі колер і такі фальшывы "твар" будуць паказываць Думе.* ВР.

Інф. *давесьці*: ДК; *давясьці*: ВР.

**ДАВЁЎШЫ** *дзеепрысл. да* давесьці[2]. *Вяртаецца яна* [гераічная чацвёрка папанінцаў] *з свайго надзвычайнага дрэйфа не толькі поўнасцю выканаўшы план навуковых работ, але і яшчэ раз давёўшы ўсяму свету, хто такія бальшэвікі, натхнёныя на вялікія справы вялікім Сталіным.* МП.

**ДАВІЦЬ** (2) *незак.* Душыць, знішчаць. *Цень пры цені, пад ценьмі той крыж у крыві. Чорны крыж, як-бы змора лунае ў высі, Як-бы змора вісіць…Стогн адно: не даві! Ня губі, да хрыста сьцежку дай, данясі!..* БН, 92–93. // Знішчаць. *Давіць мы* [хлопчык і лётчык] *іх* [гітлераўцаў] *будзем, як вошаў, Як гадкіх смярдзючых клапоў, Караць штораз караю горшай Сягонняшніх рыцараўпсоў.* ХЛВ, 315.

Інф. *давіць*: ХЛВ, 315. Заг. адз. 2 ас. *даві*: БН, 93.

[**ДАВОДЗІЦЬ**][1] (3) *незак.* Прыводзіць да якога-н. выніку. *…вось, бачыце, да чаго даводзіць беларушчына: вас* [беларусаў] *прымусяць вучыцца па расейку! Адрэкайцеся-ж хутчэй сваей нацыі ды крычыце, што вы палякі, – тады вас будуць вучыць па польску!"* ВР. [Гарошка]: *Кажу свайму настаўніку, што во да чаго шум і крык такі даводзіць, а ён смяецца: "Бо, кажа, твой Юрка за чужую зямлю і волю шумеў і крычаў, а не за сваю, дык нічога з гэтага і не вышла."* Т, 44. // Прыводзіць у які-н. стан. *Чаму яны* [людзі] *з такой упартасьцю дражняць народ і даводзяць яго да варьяцтва, калі ён, страціўшы прытомнасць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *даводзіць* (2): ВР; Т, 44. Мн. 3 ас. *даводзяць* ДК.

[**ДАВОДЗІЦЬ**][2] *незак.* Даказваць, сцвярджаць. *Ужо адно тое, што мы* [беларусы] *дамагаемся быць гаспадарамі толькі таго абшару, дзе жывуць беларусы ў яго этнаграфічных межах, – ужо гэта даводзе, што мы падняволіць нікога не думаем.* НДН, 18. *Мы* [беларусы] *ня раз даводзілі, што такіе учынкі польскіх ураднікаў перш-на-перш шкодзяць самому-ж польскаму ураду...* ОШМ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *даводзе*: НДН, 18. Пр. мн. *даводзілі*: ОШМ.

**ДАВОЛІ** *прысл.* Досыць. *Даволі абшырны пакой, беднаваты, па-дробнамяшчанску абстаўлены.* Т, 19

**[ДАВУЧЫЦЦА]** *зак.* Дакончыць навучанне чаму-н. [Гануля]: *А ўсё віна ў тым, што мой Мікітка вучыўся, але, мабыць, – не давучыўся, і вышла з яго ні богу свечка, ні чорту качарга.* Т, 57.

Абв. пр. адз. м. *давучыўся*: Т, 54.

**ДАВЯСЬЦІ** *гл.* **ДАВЕСЬЦІ**[2]**.**

**ДАГАВАРЫЦЦА** *зак.* Дамовіцца. *І з часам народы патрапяць найці супольную мову, каб па суседзку дагаварыцца паміж сабой ды наладзіць і свае граніцы і свае дзяржаўныя правы на незалежнасьць.* СНБ. *Але – далей-болей; неяк дагаварыліся* [беларусы-бальшавікі] *і стварылі часовы ўрад "Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі".* СНБ, 338.

Інф. *дагаварыцца*: СНБ. Абв. пр. мн. *дагаварыліся*: СНБ, 338.

**[ДАГАВОР]** *м.* Умова аб узаемных абавязацельствах. *Дзяржаўныя граніцы, абмяжованыя рознымі дагаворамі і трактатамі, ляжалі на сваім месцы.* СНБ, 336.

Мн. Т. *дагаворамі*: СНБ, 336.

**ДАГАРЫ** *прысл.*: ◊**Дагары нагамі** – зусім процілегла чакаемага выніку. [Гарошка]: *Гэты настаўнік добры і дужа разумны чалавек, але трохі галава яго нечым заведзена, бо мала, што сам носіцца, як кот з салам, з усялякімі мудрымі думкамі, дык яшчэ, як на тое ліха, і маёй Аленцы ў галаве ўсё дагары нагамі пераруліў.* Т, 44.

**[ДАГЕСТАНСКІ]** *прым.* **Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага.**

Адз. м. Р. *дагестанскага*: ПСС,231.

**[ДАГЛЁД]** *м.* Догляд. *Першым чынам нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю д-ру Маліноўскаму... за шчыра-бацькоўскі даглёд і перавязкі, якімі стараўся аблягчыць мае цяжкіе мучэньні.* ЛР.

Адз. В. *даглёд*: ЛР.

**ДАГЛЯДАЦЬ** (3) *незак.* **1.** Клапаціцца аб кім-н., ствараць добры догляд. *Яе* [дзяўчынку] *даглядаў салдат Грыцко.* ПДз. *Так сама дзякую* [Купала] *ад усёй душы ўсім сёстрам бальнічным, асабліва п. Гелене Суднік, якая праз увесь час даглядала мяне ў бальніцы, як родная сястра.* ЛР.

**2.** Глядзець, не выпускаць з-пад увагі. [Мікіта]: *Вы толькі, медждуу протчым, мамаша, адказвайце, як я вас вучыў, а ўсялякіх іншых цэрамоній буду я сам даглядаць.* Т, 22.

Інф. *даглядаць*: Т, 22. Абв. пр. адз. м. *даглядаў*: ПДз. ж. *даглядала*: ЛР.

**ДАГНАЦЬ** і *разм.* **ДАГНАЦІ** *незак.* Нагнаць. [Чырвонаармеец]: *Ці няможна ў вас, таварышы, пасядзець, пакуль сцямнее? Бо я адстаў ад сваёй часці і толькі ўночы змагу выбрацца з гораду, каб дагнаць сваіх.* Т, 52.

◊**Ветру не дагнаці** *гл.* вецер.

Інф. *дагнаць*: Т, 52; *дагнаці*: СА, 180.

**[ДАГОНКА]** *ж. перан. Разм.* Пагоня. *Тыя, ў дагонцы за блескам часовым, Брацьцяў запрэглі ў нявольнічы плуг, Тыя, таргуючы імем Хрыстовым, Цемру і здраду спладзілі ўвакруг.* Г, 16.

Адз. М. *дагонцы*: Г, 16.

**[ДАГРЫЗАЦЬ]** *незак.* Даядаць. – *З'еўшы сэрца, я* [груган] *ляту, Косьці падбіраю. – Я* [воўк] *з ваўчыцай падыду, Рэшткі дагрызаю.* Пц.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *дагрызаю*: Пц.

**ДАГЭТУЛЬ** (14) *прысл.* Да гэтага часу. *А мы, беларусы, – праўда, дзякуючы гістарычным і геаграфічным варункам нашай бацькаўшчыны, – мы нічога дагэтуль не змаглі зрабіць, каб мець свае войска, якое бараніла б нашы межы ад чужой навалы.* БВ, 16. *Калі пачаўся беларускі рух, калі цёмныя дагэтуль сяляне нашы, убачыўшы крыху сьвету, эразумелі, хто яны такія, і сталі голасна казаць, што яны беларусы, заварушыліся тады і польскіе, і расейскіе націоналісты.* ВР. А, 328; БЧ, 9; В (2); ВСп, 89; ЗС, 18; НДН, 18; ПЛП; Т, 21, 55, 56; ТС, 74.

**[ДАДАВАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Сказаць што-н. у дадатак. *Гаворачы слова "свабода", дадавай заўсягды "ня тут спаминаючы"; бо, як кажуць: не вызывай лиха, кали яно спиць!* СП.

**2.** Прыдаваць, узмацняць. *Нам няўцям віхры, грымоты, – Дадае нам гром ахвоты. Сьвішча куля... і г.д.* БЗ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *дадае*: БЗ. Заг. адз. 2 ас. *дадавай*: СП.

**[ДАДАТАК]** *м.*: ◊**У дадатку** – акрамя чаго-н., звыш чаго-н. *Гэтые падвышкі канечна не павінны нас пужаць, бо і палавіны ня прыдзецца нам плаціць таго лішняго, што мы выкідалі ў сваім часе на гарэлку, затручваючы ў дадатку сваё здароўе і часта-густа пападаючы на "скам'ю падсудзімых".* ВН.

Адз. М. *дадатку*: ВН.

**[ДАДЗЕНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* даць. **1.** *У знач. вык.* Пададзены, уручаны. *"Прасіце і вам будзе дадзена; дабівайцеся, і вам адчыняць" ...А мы* [беларусы] *ніколі не прасілі, ніколі*

*не дабіваліся правоў для беларускай мовы.* ВР.

**2.** *У знач. прым.* Той, аб якім ідзе гутарка. *Дзеля ясьнейшага ўразуменьня пастараемся падабраць кнігі па дадзенаму сьпісу згодна з іх зьместам.* ВСп, 89.

Адз. м. М. *дадзенаму*: Вп, 89. Кар. адз. н. Н. *дадзена*: ВР.

**ДАДОМУ** *прысл.* Тое, што дамоў. *Як ачысцілі ваякі Край ад ворага свой, Важна ехалі дадому, Як тых пчол буйных рой.* ПСД.

**[ДАДУМАЦЦА]** *зак.* Прыйсці да якога-н. вываду, заключэння. [Мікіта]: *Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала гэты нейкі нацыянальны беларукі язык, а вы* [Янка] *хацелі б заставіць нас, руска-ісціную тутэйшую, меджду протчым, інтэлігенцыю, сушыць над ім свае апошнія мазгі, Ха-ха-ха!Вось дык дадумаліся!* Т, 48–49.

Абв. пр. мн. *дадумаліся*: Т, 49.

**[ДАЖЫЦЦА]** (3) *зак.* Дайсці ў жыцці да якога-н. стану, выніку. [Дама]: *(вітаючыся з Гануляй). Ах, мадам, да чаго мы дажыліся?!* [Спраўнік]: *Да чаго дажыліся?!* [Гануля]: *Так! Не важна, паночкі, як бачу, дажыліся: зусім скромна выглядаеце ў гэтым бядацкім адзенні.* Т, 57.

Абв. пр. мн. *дажыліся* (3): Т, 57(3).

**[ДАЖЫЦЬ]** *зак.* Пражыць да якога-н. тэрміну, падзеі. *Скажу толькі адно: я* [Купала] *шчасліў, што дажыў тэй пары, калі мая Беларусь разам з усімі рэспублікамі Совецкага Саюза творыць новае шчаслівае жыццё.* ДЖ. *Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях.* ЦСБ.

Абв. пр. адз. м. *дажыў* (2): ДЖ; ЦСБ.

**ДАЖЭ** (2) *часц. Руск.* **1.** *Тое, што* нават у 1 *знач.* [Поп]: *В нынешнія врэмена дажэ его прэосвяшчэнство воззавідовало бы сіім блюдам.* Т, 28.

**2.** *Тое, што* нават у 2 *знач.* [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна – есть суша і водныя басейны, дажэ морэ собственное імелось, но благодара врэдным клімацічэскім веяніям с Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце.* Т, 47.

**[ДАЗВАЛЕННЕ]** і **[ДАЗВАЛЕНЬНЕ]** *н. Разм.* Дазвол. *З вучыцелёў, што да таго саюза належылі, узялі падпіску, каб нікуды не выезджалі без дазваления палиции.* ВД. *Пэунага дня вядомая беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай, напісанай па-беларуску, выдаць ей дазваленьне на перавозку школьных рэчау з аднаго будынку у другі.*ОШМ.

Адз. Р. *дазвалення*: ВД. В. *дазваленьне*: ОШМ.

**[ДАЗВОЛ]** *м.* Згода на што-н., права зрабіць што-н. [Мікіта]:

*(да Чырвонаармейца). Абвяшчаю вас сваім палонным! Без майго, меджду протчым, дазволу не маеце права даць і кроку.* Т, 52.

Адз. Р. *дазволу*: Т, 52.

**[ДАЗВОЛІЦЬ]** (9) *зак.* Даваць дазвол, згадзіцца. [Дама]: *Можа, дарагія гаспадары дазволяць нам* [гасцям] *устаць?* Т, 28. *…і калі мае* [Купалы] *вершы зараз сугучны нашаму вялікаму часу, калі яны ўносяць сваю долю ў крэпасць дружбы народаў, – дазвольце мне радавацца разам з вамі гэтай дружбе вялікай радасцю паэта.* ЖН.

Абв. буд. мн. 3 ас. *дазволяць*: Т, 28. Заг. мн. 2 ас. *дазвольце* (8): ВГР; ЖН; Т, 23, 25(2), 51(2), 52.

**[ДАЗНАЦЦА]** *зак.* Даведацца, атрымаць звесткі. *Лечачыся на сонечным Каўказе, у Кіславодску, я* [Купала] *дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую узнялі ў Заходняй Беларусі прадажныя беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса, уведзенага ў жыццё ўрадам Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі.* ШБСЯ.

Абв. пр. адз. м. *дазнаўся*: ШБСЯ.

**ДАЗНАЦЬ** *зак. Разм.* Зведаць, перажыць, адчуць. *Туман засцілаў людзям душы і вочы, З туманаў тырчэлі гарбатыя плечы. І думаў – канца не дазнаць гэтай ночы, І думаў – не зведаць шляхоў чалавечых.* ТП, 214

Інф. *дазнаць*: ТП, 214.

**ДАЗОР** *м.* Пагранічны патруль. *У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку, Як дні, так і ночы наш слаўны дазор Не зводзіць з граніцы арлінага вока, Не ўтопяць шпіёна ні дзебры, ні бор.* ПБН.

Адз. Н. *дазор*: ПБН.

**[ДАЙМАЦЬ]** *незак.* Не даваць спакою; дапякаць. *Сьмела гляне* [гаспадар] *на сьвет і на долю зьмянлівую, Як дагэтуль, яму не дадуцца ўжо ў знакі Тые сілы з усходу і захаду мсьцівые, Што даймаюць цяпер, як вужакі.* ТС, 74.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *даймаюць*: ТС, 74.

**[ДАЙСЦІ]** (4) *зак.* **1.** Ідучы ў пэўным кірунку, дасягнуць якога-н. месца. *За ім* [азіятам] *Еўропы жыхары Шлі к вам* [бальшавікам] *праз морскія віры… Але не ваш вітаць шлі сцяг: З сваёю воляй шлі на вас… І не дайшлі – зышлі на час Праз белы й чорны морскі шлях.* ПВ. // Папасці да каго-н. на прыём. [Ганулля]: *А вядома, у судзе: народу ўсялякага прыходзіць шмат, ды пакуль там хто дойдзе да вышэйшага начальства, пачынаць мусіў спярша ад ніжэйшага.* Т, 20.

**2.** *Разм.* Дазнацца. *Ад хваль, што шэпчуцца так міла, Ты* [беларус] *дойдзеш праўданькі ўсёй, Што рэчкі – гэта зямлі жылы, Вада ў іх – кроў зямлі тваёй.* БрБ, 6.

◊**Дайсці да торбы –** збяднець. *Ў Маскве Грыцко доўга шукаў места, дашоў да торбы и  стаў жабраваць з дзицём.* ПДз.

Абв. пр. адз. м. *дашоў*: ПДз. Мн. *дайшлі*: ПВ. Буд. адз.. 2 ас. *дойдзеш*: БрБ, 6. 3 ас. *дойдзе*: Т, 20.

**[ДАКАЗАЦЕЛЬСТВА]** *н. Руск.*: •**Вешчэственнае даказацельства** – *прадмет, які спрыяе раскрыццю злачынства.* [Начальнік]: *Чэк* [на арышт] *атрымаеце* [Мікіта], *як прыдзеце на месца. Ідзём! Прашу забіраць "вешчэственныя даказацельства".* Т, 62.

Мн. В. *даказацельства*: Т, 62.

**[ДАКАНАЦЬ]** *зак. Польск.* Зрабіць што-н., дасягнуць чаго-н. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука – яе лапата, яе гарматні пярун.* АБ, 16.

Абв. пр. адз. ж. *даканала*: АБ, 16.

**[ДАКАЦІЦЦА]** *зак. перан.* Распаўсюдзіцца, данесціся да слыху. *Можа дакоціцца й мой* [маці] *голас ціхі, Выслухаюць там, у Крэмлі светазарным. Мамкай служыла я на сваё ліха Некалі ў пані, так, з ласкі, задарма.* Мц, 74.

Абв. буд. адз. 3 ас. *дакоціцца*: Мц, 74.

**ДАКЛАДНА** *прысл.* Канкрэтна, правільна. [Мікіта]: *Таксама паміж купляючымі трэба выдзяляць іхнія рангі і клясы – абавязкова; а вы* [Ганулля]; *як, напрыклад, толькі што, не разгледзеўшыся дакладна, хто які йдзе, кажаце проста з моста: панечка, медҗду протчым! А па-мойму, зусім не панечка, а самае меншае – мадама, а можа, нават і мадам-сіньёра.* Т, 34.

**ДАКУЛЬ** *прысл.* Да таго часу, пакуль. *Дакуль свайго не здрадзіць слова Свая народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк ня сьцягне і лістка.* УрП, 50.

**[ДАКУМЕНТ]** (3), *разм.* **[ДАКУМАНТ]** (4) і **ДАКУМЭНТ** (6) *м.* Дзелавая папера, якая служыць доказам чаго-н. ці пацвярджае права на што-н. [Начальнік]: *(палажыўшы пагоны на стол, да Спічыні): Чытайце другі дакумэнт.* [Спічыні]: *(чытае): "Баронэса Шпацэрзон, ганаровы член Менскай дабрачыннасці"* Т, 61. [Мікіта]: *У гэтым портфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні: на маю асобу, на маю кватэру, на ваду, на апал, на яду, на хадзьбу і гэтак далей, і яшчэ дакуманты на права ўставаць рана і не ўставаць рана, хадзіць на службу і не хадзіць на службу...* Т, 46. *Дама і Спраўнік кланяюцца і аддаюць свае дакументы.* Там жа, 61.

Адз. Н. *дакумэнт*: Т, 61. В. *дакумэнт* (3): Т, 60; 61(2); *дакумант*: Т, 33. *дакумент* (2): Т, 61(2). Мн. Н. *дакумэнты* (2): Т, 61(2); *дакуманты* (2): Т, 46(2). В. *дакуманты*: Т, 57; *дакументы*: Т, 61.

**[ДАКУЧЫЦЬ]** *зак.* Надакучыць. *Сяк, ці так, жылось паволі ў палавіне з горэм Тым у хаці, тым на полі, А другім за морэм. Аж дакучыла, знаць, далей Недзе так бадзяцца І сынкі збірацца сталі, З-за далёк вяртацца.* Дз, 190.

Абв. пр. адз. н. *дакучыла*: Дз, 190.

**[ДАЛАЖЫЦЬ]** *зак. Разм.* Афіцыйна паведаміць, зрабіць паведамленне. *Я* [бацька] *раскажу ім* [вызваліцелям] – *яны зразумеюць. Сталіну крыўду маю хай даложаць.* Бц, 73.

Абв. буд. мн. 3 ас. *даложаць*: Бц, 73.

**ДАЛЕЙ** (67) *прысл.* **1.** *Пар. ст. да* далёка. *…сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму* [новаму богу] *курыць, тысячы з медзі літых званоў хвалу яму разносіць, а так далёка, як зямля наша вяліка, і яшчэ далей, ажно на край свету.* Кз, 17. *Звіні звонка, мая песня, Ляці вышай, далей! Беларускую дзяржаву Збудаваў нам Сталін!* НК.

**2.** Воддаль. [Гануля]: *(сядзіць і робіць панчоху; чуваць стук у дзверы з левага боку, што далей ад рампы). Калі ласка! Заходзьце!* Т, 19.

**3.** Затым, потым, у далейшым. *Далей гэты самы композытар напісаў музыку да верша Каганца: "О, Божа, спасе наш!" і так сама часта нашы сьпевакі называюць гэта гымнам.* СБНГ. *Меў* [беларус] *хату, меў поле; – прыйшлі і забралі… Сам вінен: не ўмеў пільнаваці. Ну ўсякаму ж трэба як-небудзь жыць далей, – Душу вось і можа прадаці…* Р.

**4.** Працягваючы пачатае. *І свой сон Сніць далей гэты царадвор, Калі надыдзе яму дзень, І зноў пад лёзгат царкіх шпор Свой распасцерці чорны цень.* АПЖ. *А покуль поўнач не прыйшла, Вясьці бяседу будзем далей; Засядзьце ўсе кругом стала, Хай зазьвініць віно ў крыштале…* Кц, 196. // Болей, больш. *Аж дакучыла, знаць далей Недзе так бадзяцца, І сынкі зьбірацца сталі, З-за далёк вяртацца.* Дз, 190. *А уся* [шарада] – *жаночэ іме, Кожны знойдзе між сьвятымі. Далей буду ўжо маўчаць, Бо й так можна адгадаць.* $Ш_4$.

◊**І гэтак далей**, *і* **г.**<*этак*> **д.**<*алей*> (15) – ужываецца ў канцы пералічэння як указанне на тое, што пералічэнне можа быць працягнута. [Мікіта]: *У гэтым портфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні: на маю асобу, на маю кватэру, на ваду, на апал, на яду, на хадзьбу і гэтак далей…* Т, 46. *Беларусь жабрue! З-пад Смаргоні, з-пад Маладзечна, з-пад Крывічоў і г. д., і г. д. абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць…*АБ, 16. **І т.***(ак)* **д.***(алей) гл.* так[1].

АБ, 16(2); Ан, 19(4); АПЖ; БВ, 16; БС; В; ВС (2); ВСп, 90; Дз, 190(2); З; ЗС, 18; Кз, 17; Кц, 196; НДН, 18; Нз, 14; НК; ОШМ; ПДз,

83(2); ПЛП; Пп, 5; Р; РКр; СА, 178, 179(2), 180(2), 181(2); СБНГ (2); СНБ, 339(2); СНБ; Т, 19, 27, 30(2), 39(3), 46(3), 54, 58, 60; Тж, 15, 16; ШБСЯ (4); $Ш_4$.

**[ДАЛЕЙШЫ]** (5) *прым.* Наступны. *Пераіменаванне Інстытуту Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук – далейшая ступень творчага размаху нашае ўлады ў нацыянальна-культурнай галіне.* ГНД. *Я, не ўдаючыся ў далейшую гутарку, схапіў газэты і папёрся дамоў.* Ан, 19.

Адз. ж. Н. *далейшая*: ГНД. В. *далейшую*: Ан, 19. М. *далейшай*: АЛ. н. Р. *далейшага*: ЦСБ. В. *далейшае*: СТ.

**ДАЛЕКОN** *прысл. Руск. Тое, што* далёка ў 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

**ДАЛЕNКО** *прысл. Польск. Тое, што* далёка ў 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *На запытанне, як сень далеко распостшэня овэ "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

**ДАЛЕТАЦЬ** *гл.* **ДАЛЯТАЦЬ.**

**ДАЛЁКА** (9) *прыл.* **1.** *Прысл. да* далёкі ў 1 *знач.* Які знаходзіцца на далёкай адлегласці. *Тут, далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як зbліжаецца ноч, Сэрца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50–51. *...сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму* [новаму богу] *курыць, тысячы з медзі літых званоў хвалу яму разносіць, а так далёка, як зямля наша вяліка, і яшчэ далей, ажно на край свету.* Кз, 17. ВБЯ, 80; Н; Ч, 321. *Параўн.* далекоN, далеNко.

**2.** Аддзелены ад сучаснага моманту вялікім прамежкам часу. *Абыватаць не сягае далёка уперад.* ВМВ.

**3.** *У знач. вык. Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары Яўрэй апошні, й азвярэлыя вятры Ад жудасьці, ад сораму і дыму Яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну, Што ад Растова ўсе чырвоныя далёка Й няма што трасцай кідацца нялёгкай...* ВБЛ, 80.

◊**Далёка не заедзеш** *гл.* заехаць.

**ДАЛЁКА-ДАЛЁКА** *прысл.* Вельмі далёка. *Навакола далёка-далёка расьцілаецца раўніна, ціхая, вабкая, укрытая нівамі, лясамі і беларускімі вёскамі...* ХБ, 29.

**ДАЛЁКІ** (12) *прым.* **1.** Які знаходзіцца на далёкай адлегласці. *Паказала гэта палітыка царскага ўрада, калі змучаныя, абарваныя перасяленцы варочаліся з далёкай чужыны ў сваю, быўшую*

*ім вечна мачыхай, родную Беларусь.* ЗС, 18. *Зрэдка далятаюць далёкія garматныя выстралы.* Т, 53. // Які мае вялікую працяглаць у прасторы. *Жалейкі, дуды красавалі – Прылады свойскія музык, – Цапы і вілы ў высь сягалі, Як быў абшар далёк, вялік.* УрП, 47.

**2.** Аддзелены ад сучаснага моманту вялікім прамежкам часу. *Адзін, адзін раз толькі ў год Збірацца можам* [дружына] *з ласкі Рока, Каб лет іржавы карагод Зганяць з мінуўшчыны далёкай.* Кц, 193. *Калі заглянуць у далекую мінуўшчыну, у тые часы, калі істнавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава, – мы з пэўнасьцяй ня можам цьвярдзіць – ці быў тады гымн нацыянальны, ці ня быў.* СБНГ.

**3.** *У знач. наз.* Чужы чалавек. *А хтоь далёкі ці хтось, можа, блізкі Засеў за наш бяседны, сытны стол І кідае, як з ласкі нам агрызкі, А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.* Бч, 9.

◊**Далёкі свет** *гл.* свет.

Адз. м. Н. *далёкі* (2): Бч, 9; Т, 32. В. *далёкі*: БВ, 16. ж. Р. *далёкай* (2): ЗС, 18; Кц, 193. В. *далёкую*: СБНГ. Мн. Н. *далёкія* (2): СНБ, 340; Т, 53. В. *далёкіе*: СС, 301. Р. *далёкіх* (2): Кз, 17; ТП, 217. Кар. адз. м. Н. *далёк*: УрП, 47.

**ДАЛІКАТНА** *прысл.* Тактоўна**.** **[**Мікіта**]**: *(Да Ганулі). Меджду протчым, мамаша, мабыць, папраўдзе немец стукае, бо далікатна.* Т, 32.

**[ДАЛІКАТНАСЦЬ]** *ж.* Уласцівасць далікатнага. [Ганулья]: *Так што, як бачыце, ніякай далікатнасці нямашака.* Т, 20.

Адз. Р. *далікатнасці*: Т, 20.

**ДАЛІКАТНЫ** (4) *прым.* **1.** Не простага паходжання (пра чалавека). [Янка]: *Трудна такому далікатнаму панічу за гэтакую чорную работу ўзяцца.* [Гануля]: *Які там ён* [Мікіта] *далікатны! Я сама з ягоным бацькам – людзі вясковыя.* Т, 20.

**2.** Прыемны на смак, гучанне. [Гануля]: *(да Дамы). Панечка… Мадама музей! Калі ласка, вось гэты далікатны кусочак яшчэ!..* Т, 28. *...да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты шум такі ціхі, такі нячутна далікатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29.

Адз. м. Н. *далікатны* (2): Т, 20; ХБ, 29. Д. *далікатнаму*: Т, 20. В. *далікатны*: Т, 28.

**[ДАЛІНА]** (4) *ж.* Нізіна, упадзіна паміж гор ці ўзгоркаў. [Янка]: *Маем* [беларусы] *поле і лес, горы і даліны, рэчкі і вазёры, нават мора мы мелі – называлася Пінскае…* Т, 47. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шумлівага; Калі вербы ніцыя Рвуцца ўвысь галінамі; Калі скрозь пшаніцаю Пахне над далінамі…* ПЛ.

Мн. Н. *даліны*: Ф. В. *даліны* (2): ПБН; Т, 47. Т. *далінамі*: ПЛ.

**ДАЛІПАН** (2) *выкл. Польск.* Далібог. [Мікіта]: *Праўду кажу, ваша чырвонасць, – даліпан я не грабіў, медзду протчым.* Т, 60. [Мікіта]: *(то апускаючы, то падымаючы па чарзе рукі і згодна з гэтым паварачваючы то ўправа, то ўлева галавой): Гэта... Гэта... ваша чырвонае благародзіе... гэта. ..як яно... качарэжкі! Даліпан, качарэжкі!* Там жа.

**[ДАЛОНЬ]** *ж.* Унутраны бок кісці рукі. *Ха-ха-ха-ха! Душу сваю выні, Палажы на далонь і надзейся, Што паверaць табе, што ня згіне Ўся прысяга твая ў чорнай ціне Перасудаў людзкіх... Ха-ха! Сьмейся!* См, 91.

Адз. В. *далонь*: См, 91.

**ДАЛОЎ** (6) *прысл. У знач. вык.* Вон. [Мікіта]: *Мітынг – гэта такое з вушамі таварыства, дзе араторaць буду я, а слухаць будуць яны, і крычаць будуць: віват, рэгістратар Зносілов! – калі іх па шэрсці пагладжу, і – далоў, рэгістратар Зносілов! – калі пагладжу іх проці шэрсці, медзду протчым.* Т, 41. [Мікіта]: *...А цяпер далоў совбурскую форму! (Хоча скідаць куртку).* Там жа, 50. Т, 40(4).

**[ДАЛУЧАЦЦА]** *незак.* Дабаўляцца да чаго-н. *Праўда, да васеньняга акорду пачуваньняў пастаянна далучаліся сумныя ноткі, але гэты сум такі ціхі, такі нячутна далікатны, што скарэй прыемны, як балючы.* ХБ, 29.

Абв. пр. мн. *далучаліся*: ХБ, 29.

**ДАЛУЧЫЦЦА** *зак.* Прымкнуць да каго-н., увайсці ў лік удзельнікаў, членаў. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва...* АЛ.

Інф. *далучыцца*: АЛ.

**ДАЛУЧЫЦЬ** (2) *зак.* Дапісаць да чаго-н. *Я* [Купала] *з вялікім задавальненнем і радасцю прачытаў прынятае на сходзе нашых пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру, непараўнанаму будаўнічаму новага светлага жыцця тав. Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну, і рад шчыра далучыць свой подпіс да гэтага сардэчнага прывітання.* ШБСЯ.

◊**Далучыць голас –** прагаласаваць за каго-н.; падтрымаць каго-н. *Ёсць яшчэ трэцьця сіла ў нашым месьце. Гэта – жыдоуство. Частка яго пойдзе сваею незалежнаю сьцежкаю, але частка напэуне адколецца і далучыць свае голасы да расійцау, але ніколі не да палякоу.* ВМР.

Інф. *далучыць*: ШБСЯ. Абв. буд. адз. 3 ас. *далучыць*: ВМР.

**ДАЛЬ** (16) *ж.* **1.** Далёкі прастор, бачны вокам. *Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды Вольнага Нёмна, у цёмную даль, Толькі*

*ў часе глухой непагоды З берагу Нёман не выйдзе амаль.* Н. *Ляглі нязгледжаныя далі (Як сокал бачыць мог я ўсё), Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыцьцё.* УрП, 46. // *перан.* Будучыня. *Плывуць па Беламорскаму каналу… А лес шуміць… азёры ў хвалях па бакох… Плывуць таварыш Сталін, Прад імі даль Зямлі Савецкай і вякоў.* СК, 158. *Мы, згартаваныя сталінскай воляй, Смерцю сатром людаедаў, Пойдзем, як йшлі мы, у сонечнай далі Ленінска-сталінскім следам.* СЗГ, 252.

**2.** Далёкае месца, вельмі аддаленая мясцовасць. *Я* [чараўнік] *з далі дальняй к вам* [народу] *прыплёўся, – Пасланец бога я свайго.* УрП, 51. // Небыццё, нябыт. *Шла мая* [княжны] *ў даль дзіва-сіла, Як-бы хвалі Нёмну; На красе сваёй насіла Княжэцку карону.* Дз, 188.

Адз. Н. *даль*: СК, 158. Р. *далі*: УрП, 51. В. *даль* (7): БрБ, 6; Дз, 188; Н. (3); СМ; $Ш_4$. М. *далі* (2): ЖН; СЗГ, 252. Мн. Н. *далі* (2): ПБН; УрП, 46. В. *далі* (3): СА, 178; СС, 301; Ч 332.

**[ДАЛЬНІ]** (2) *прым.* Аддалены ад чаго-н. *Я* [чараўнік] *з далі дальняй к вам прыплёўся, – Пасланец бога я свайго.* УрП, 51. *Ну, а трэцьця с чацьвёртай* [літара] *Рэчка ў дальню даль запёрта, Слаўна золатам для нас І крывёй ў вапошні час.* $Ш_4$.

Адз. ж. Р. *дальняй*: УрП, 51. Кар. адз. ж. В. *дальню*: $Ш_4$.

**[ДАЛЯТАЦЬ]** (4) і **[ДАЛЕТАЦЬ]** *незак. перан.* Даносіцца (пра гукі). *Ліпа шуміць адзінока над хатай, Сажалка дрэмле, заросшая цінай, Гул далятае здалёку гарматаў.* ВМ, 72. *Зрэдка далятаюць далёкія гарматныя выстралы.* Т, 53. // Распаўсюджвацца (пра весткі). *З далёку і з блізку далетаюць да нас і добрые і благіе весткі аб вялікіх бітвах, аб змаганьнях мільёноў ваяк.* РКр.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *далятае* (3): ВМ, 72; ЗС, 17; СК, 158. Мн. 3 ас. *далятаюць*: Т, 53; *далетаюць:* РКр.

**ДАЛЯЦЕЦЬ** (2) *зак.* Дасягнуць якога-н. месца, летучы. *Даляту да зорак, Вольная дзяўчына, Стуль табе, мой мілы* [трактар], *Адну зорку скіну.* ПТ, 207.

◊**Даляцець да сонца –** дасягнуць якіх-н. вышынь. *Я* [трактарыстка] *цябе* [трактар] *не пакіну На вольную волю, – Даляцець да сонца Мяне кліча доля.* ПТ, 207.

Інф. *даляцець*: ПТ, 207. Абв. буд. адз. 1 ас. *даляту*: ПТ, 207.

**ДАМА** (58) *ж. Уст.* Жанчына багатага і інтэлігенцкага асяроддзя. [Дама]: *А ведаеце, мусье Зносілов, – бяду гэту можна лёгка паправіць.* Т, 51. *Дама і Спраўнік кланяюцца і аддаюць свае дакументы.* Там жа, 61.

Адз. Н. *Дама* (51): Т, 19, 24(2), 25(2), 27, 28(5), 29(6), 37(5), 38, 50, 51(7), 52(2), 53, 57(8), 58(7), 59, 61. Р. *Дамы* (3): 28, 59,61. Д. *Даме* (2): Т, 59, 62. В. *Даму*: Т, 57. Т. *Дамай*: Т, 29.

**[ДАМАВІНА]** *ж.* Труна. *Тая трэцця, а з ёй І другая с чыну Прыгадзіцца мне на стол І на дамавіну.* $Ш_1$.

Адз. В. *дамавіну* $Ш_1$.

**[ДАМАГАННЕ]** і **[ДАМАГАНЬНЕ]** *н.* Настойлівае імкненне дабіцца чаго-н. *Гэта перыяд нашых дамаганняў і змаганняў за свае неад'емныя правы на ўласнае незалежнае існаванне астаўляем разабраць як следна нашым цяперашнім і будучым гісторыкам.* СНБ, 337. *Яны* [беларусы] *мусяць цьвёрда зазначыць свае дамаганьні.* ВМР.

Мн. Р. *дамаганняў*: СНБ, 337. В. *дамаганьні*: ВМР.

**ДАМАГАЦЦА** (11) *незак.* Дабівацца пастаўленай мэты. *Дык чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваёй дзяржаўнай незалежнасці?* Нз, 15. *Мы павінны яе* [незалежнаці] *дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае і ворагі нашы не дрэмлюць.* Там жа.

Інф. *дамагацца* (5): ВМР; ВР (2); Нз, 15(2). Абв. цяп. адз. 2 ас. *дамагаешся*: СП. 3 ас. *дамагаецца* (2): АБ; 16; ПЛП. Мн. 1 ас. *дамагаемся*: НДН, 18. 3 ас. *дамагаюцца* (2): ВР; ДК.

**[ДАМКОМ]** *м. Скар.* Дамавы камітэт. [Мікіта]: *А ў гэтым карапузіку важнейшыя дакуманты: профсаюзу, біржы працы, культасветы, нашага № 157/48 дамкому, у якім я паўнапраўны сакратар, і гэтак, медджу протчым, далей.* Т, 46.

Адз. Д. *дамкому*: Т, 46.

**ДАМОЎ** (9) *прысл.* Дахаты. *Я, не ўдаючыся ў далейшую гутарку, схапіў газэты і папёрся дамоў.* Ан, 19. *Як прышоў дамоў, сярэдні* [сын], *Выгледаў багата, Й не пазнаў, як зьвер пасьледні, Ні мяне* [маці], *ні брата.* Дз, 190; ЕЯП; РКр; Т, 29, 34, 36, 57. *Параўн.* дадому.

**[ДАМОЎСТВА]** *н. Польск.* Дамашняя гаспадарка. *Габруся ў жаўнерку ўзялі, Ад дамоўства адарвалі, Зажурыўся стары татка, Цяжка стогне, плача матка.* ГЖУ.

Адз. Р. *дамоўства*: ГЖУ.

**[ДАМСКІ]** *прым.* Які мае адносіны да дамы. [Гануля]: *(да праходзячай грамадзянкі). Панечка, купеце ў мяне пацеркі, а можа, дамскі нэсэсэр, а можа, во гэта? – усё за паўцаны аддам, усё за паўцаны.* Т, 34.

Адз. м. В. *дамскі*: Т, 34.

**[ДАНАЙСКІ]** *прым.*: ◊**Данайскі дар** *гл.* дар.

Мн. В. *данайскія*: Т, 55.

**[ДАНЕСЦІ]** *зак. перан.* Пракласці што-н. *Цень пры цені, пад ценьмі той крыж у крыві. Чорны крыж, як-бы змора лунае ў высі, Як-бы змора вісіць…Стогн адно: не даві! Ня губі, да Хрыста сьцежку дай, данясі!..* БН, 93.

Заг. адз. 2 ас. *данясі*: БН, 93.

**[ДАННЫ][1]** *дзеепрым. зал. пр. да* даць. *Руск.* Прызначаны. *О, Богі рэк, лясоў і ніваў! Даждбог, багамі свету дан, Пярун блыскотны і грымлівы, І ты, Купала, сьветыч тайн.* УрП, 48.

Кар. адз. м. Н. *дан*: УрП, 48.

**[ДАННЫ][2]** і **[ДАНЫ]** (2) *прым.* **1.** Гэты. [Мікіта]: *Мой профэсар гэр Спічыні працуе са мной у даным кірунку ўжо некалькі часу і памагае мне расцярэбліваць дарогу да будучай маёй кар'еры ў губарнатарскай канцылярыі.* Т, 48.

**2.** *У знач. наз.* Звесткі, якія характарызуюць што-н. [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Необходзімо почэрпнуць от вас сведзенія касацельно церрыторыальных данных обласці, іменуемой вашым племенем – Белорусь.* Т, 38.

**3.** *У знач. наз.* Падстава для чаго-н. [Дама]: *А я маю ўсе даныя на дармовую соцыяльную апеку.* Т, 58.

Адз. м. М. *даным*: Т, 48. Мн. Р. *данных*: Т, 38. В. *даныя*: Т, 58.

**[ДАНОС]** *м.* Тайнае паведамленне. *І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны, Хоць пад права твае падрываецца шмат хто, як крот, – Як жыла і жывеш, будзеш жыць Беларушчына: Зразумеў і ўспомніў цябе твой мільённы народ.* Б, 18.

Мн. Н. *даносы*: Б, 18.

**[ДАНОШЧЫК]** (4) *м.* Нагаворшчык. [Мікіта]: *Увесь Менск ведае, што я служыў разношчыкам, а не даношчыкам.* Т, 61. [Начальнік]: *Гэтыя пісталеты, награбленая гарэлка, патака, цяганне чужых рэчаў, служба даношчыкам, усё гэта таксама для нас добрыя паперы, хоць для вас* [Мікіты]*, можа, і дрэнныя паперы.* Там жа, 62. *Параўн.* доносіцель.

Адз. Т. *даношчыкам* (4): Т, 61, 62.

**[ДАНЬ]** *ж. Уст.* Даніна. *Адна на вас надзея, богі, Нясём належную вам дань, Зірніце ў нашыя парогі, Паўстанем – клікніце: паўстань!* УрП, 48.

Адз. В. *дань*: УрП, 48.

**ДАПАМАГАЦЬ** (5) *незак.* Аказваць дапамогу, садзейнічаць. *У Бельгіі таксама кіпіць работа ў гэтым напрамку, якой прымушаны дапамагаць немцы, – а ў нас?..* АБ, 16. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу рада год ідэолёгічнымі памылкамі ў сваёй творчасьці, популярнасьцю і аўторытэтам, як народны поэта, не дапамагаў з ўсёй адданасьцю і захапленьнем... ажыццяўленьню соцыялізму.* АЛ. // Падтрымліваць матэрыяльнымі сродкамі. *...галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва з'яўляецца Наркамасьветы і Цэнтрабелсаюз, якія ўсімі сіламі дапамагалі выдавецтву матар'яльна.* ВСп, 91.

Інф. *дапамагаць* (2): АБ, 16; Нз, 14. Абв. пр. адз. м. *дапамагаў* (2): АЛ (2). Мн. *дапамагалі*: ВСп, 91.

**[ДАПАМАГЧЫ]** (2) *зак. да* дапамагаць. *Шмат дапамагло гэтакай пасьпешнай працы тое, што галоўнымі пайшчыкамі гэтага выдавецтва зьяўляецца Наркамасьветы і Цэнтрабелсаюз, якія ўсімі сіламі дапамагалі выдавецтву матар'яльна.* ВСп, 91. *Начальніка Польскай дзяржавы віталі шчыра, і спадзяваліся, што справа незалежнасьці Беларусі цяпер стане на цьвёрдым грунце, што братні польскі народ дапаможа беларусам адбудаваць сваю бацькаўшчыну, як ён адбудаваў і сваю.* СНБ.

Абв. пр. адз. н. *дапамагло*: ВСп, 91. Буд. адз. 3 ас. *дапаможа*: СНБ.

**[ДАПАМІНАЦЦА]** *незак. Польск.* Дамагацца чаго-н., патрабаваць што-н. *Эх, памыйся, мой дружок, Мылам ды вадою, А так складна, як у нас Першае другое. А калі ты ўжо другі І чацьвёрты ўдасўя, Вось чаго замест бліна Ты дапамінайся.* $Ш_2$.

Заг. адз. 2 ас. *дапамінайся*: $Ш_2$.

**[ДАПАМОГА]** (5) *ж.* Садзейнічанне, падтрымка. *Калі тыя, што нас* [беларусаў] *аграбілі, што нашы загоны зрылі на акопымагілы, не ідуць к нам з дапамогай, каб сплаціць хоць частку таго доўгу, які яны доўжны Беларусі, то павінны мы самі за гэта ўзяцца, і ўзяцца як найхутчэй.* АБ, 16. *І трэба нам помніць тое, што гэта вялікая, культурная і творчая беларуская праца, якую мы змаглі зрабіць за мінулы год, зроблена ў Беларусі Савецкай.* ВСп, 91.

Адз. Н. *дапамога*: АЛ. В. *дапамогу*: ОШМ. Т. *дапамогай*: АБ, 16. М. *дапамозе* (2): А, 328; ВСп, 91.

**[ДАПАСАВАЦЦА]** *зак. да* дапасоўвацца. [Янка]: *Цікава толькі, як гэта вы* [Мікіта] *з сваім апошнім саўбураўскім становішчам дапасуецеся да самай навейшай палітычнай сытуацыі, што круціцца ўжо каля Пярэспы?* Т, 48.

Абв. буд. мн. 2 ас. *дапасуецеся*: Т, 48.

**[ДАПАСАВАЦЬ]** *зак.* Прыстасаваць, падабраць. *Ен* [абываталь] *бачыць, што беларушчына нясе новые парадкі і зьмену ўсяго таго, з чым ен зжыўся, да чаго прывык і дапасаваў уклад свайго жыцьця, і гэта яго палохае і адварачвае.* ВМР.

Абв. пр. адз. м. *дапасаваў*: ВМР.

**ДАПАСОЎВАЦЦА** (2) *незак.* Прыстасоўвацца. [Янка]: *Лёгкі і танны спосаб у вас* [Мікіты] *дапасоўвацца да сытуацыі.* Т, 48. [Спраўнік]: *Усё былое вялічча прышлося загнаць у казіны рог і дапасоўвацца да новага часу і новых людзей.* Там жа, 57.

Інф. *дапасоўвацца* (2): Т, 48, 57.

**ДАПАСЦІ** *зак. Разм.* Паспець пабыць. [Наста]: *Хутчэй*

*вывешвайце* [сцяг]*! А я пабягу. Мушу яшчэ дапасці там-сям – у пэўныя крыніцы.* Т, 59.

Інф. *дапасці*: Т, 59.

**[ДАПАТОП]** *м. Разм., жарт., іран.* Чалавек, які прытрымліваецца старых меркаванняў, звычаяў. [Гарошка]: *(паказваючы пугай). А во яшчэ два дапатопы! Уваходзяць Вучоныя – адзін з аднаго боку, другі з другога, разглядаючы праз свае падзорныя трубы.* Т, 38.

Мн. Н. *дапатопы*: Т, 38.

**[ДАПАТОПНЫ]** *прым. Разм.* Устарэлы, старамодны. *Там, дзе на вялікіх абшарах Беларусі гнуўся "лапцюжнік" над "крывуляй" сахой, – важна пахаджваюць тысячы трактараў, там дзе дымілася дапатопная лучына, зіхаціць сонечна электрычная лампа, там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пралетарый – рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на буйных пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ

Адз. ж. Н. *дапатопная*: ШБСЯ.

**ДАПІВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* дапіваць. Выпіваючы ўсё, да канца. [Дама]: *(дапіваючы чарку). Але напітак ваш, мусье Зносілов, цудоўны – нічым амброзія.* Т, 28.

**ДАПРАЎДЫ** *прысл. Разм.* Сапраўды. *Дапраўды, што гэта значыць: "ty – okupan'ci na szes'c' miesiecy"?* ОШМ.

**[ДАПРОС]** *м. Руск.* Допыт. *Абвиняюць па 126 ст. па першай часьци. Ешчэ не зьняли дапросу са ўсих сяброў.* ВД.

Адз. Р. *дапросу*: ВД.

**ДАР** (5) *м.* **1.** Ахвяраванне, даніна. *Адны ў руках трымалі дары Сваім прыбліжаным багам, Другія ўспаміналі чары, Шоў гоман сьцішны сям і там.* УрП, 47.

**2.** Плён працы; дары прыроды. *Будзе сам сабе народ гаспадарыць, Вызыску чорнага ведаць не будзе; Працай збіраці з зямлі будуць дары Самі сабе раскаваныя людзі.* Ф.

◊**Божы дар** – тое, што прадвызначана, наканавана богам. *На Ўладара жджэ Беларусь даўно, І жджэ цябе ўладартва Божы дар…* Пт. **Данайскі дар** – каварная паслуга з мэтай прычыніць зло, загубіць. [Мікіта]: *Добрыя людзі адчынілі склад з ёю* [патакай] *на Нізкім рынку і – бяры хто і колькі хочаш. Можаце і вы* [Янка] *набраць, меджду протчым.* [Янка]: *Дзякую за такія дары данайскія!* Т, 54–55. **Складаць дары** *гл.* складаць.

Адз. Н. *дар*: Пт. Мн. В. *дары* (4): Кц, 193; Т, 55; УрП, 47; Ф.

**[ДАРАВАЦЬ]** (2) *незак.* Знімаць віну; прабачаць (прабачыць). *Комуністычная партыя і совецкая ўлада даравалімне* [Купалу] *гэтыя грубыя нацыянал-дэмократычныя памылкі ў маёй творчасьці.* АЛ. [Спічыні]: *Даруйце, мусье Зносілов, што змусіў вас*

*крыху на сябе чакаць.* Т, 40.

Абв. пр. мн. *дарававалі*: АЛ. Заг. мн. 2 ас. *даруйце*: Т, 40.

**ДАРАГІ** (11) *прым.* **1.** Шаноўны, паважаны. [Дама]: *Можа, дарагія гаспадары дазволяць нам* [гасцям] *устаць?* Т, 28. // У зваротку. *Дарагія грамадзянкі і грамадзяне зямлі беларускай! Вітаю Вас і дзякую Вам ад усяго сэрца за тую памяць, якую Вы захацелі аказаць у сягонняшні дзень мне* [Купалу] *і маёй пятнаццацігадовай працы на ніве беларускай!* ПЛП.

**2.** *перан.* Які даражаць. *Прывучан* [беларус] *кланяцца, ўніжацца, Паганіць скарб свой дарагі. І знаеш толькі там смяяцца, Дзе кроўю плакаў бы другі.* БрБ, 6. *Як вымераны ўтоптаныя сьцежкі! Бо дорага яйцо к хрыстосаваму дню, Бліны к калядам, к сёмусе адзежка, Ды тое, што хаціна ўстала на краю.* ВБЛ, 81.

**3.** *У знач. вык.* Які каштуе многа грошай. – *Так і так, – кажу, – пане рэдактар: боты падзерліся, табакі няма, селядцы дарагія, дык вось патрабую пільна зарабіць якую дытку.* Ан, 18. // Які мае попыт. *Цяпер бабія ў разьвяз вузелкі, Ўсе з вайной у расходзе мужыкі; На бязмужжы і дурань муж, Ды і дораг стаў дурань к таму-ж.* УрП, 83.

Адз. м. Н. *дарагі* (2): НКУС; ПБН. В. *дарагі*: БрБ, 6. Мн. Н. *дарагія* (6): Ан, 18; ВГР; ЖН; ПЛП; Т, 25, 28. Кар. адз. м. Н. *дораг*: УрП, 83; н. Н. *дорага*: ВКЛ, 81.

**ДАРАЖЭЙ** *прысл. Пар. ст. да* дорага. *Купляюць спекулянты з мэтай перапрадаць яшчэ даражэй другому спекулянту; купляюць "цёплыя мужычкі" – багатыры, буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэвалюцыю на галадаючым насяленні.* ЗС, 18.

**[ДАРАЗУМЕЦЦА]** *зак. Польск.* Здагадацца, дадумацца. *Каханне хлопца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюцца набыць чаравікі бацяўскага вырабу...* ПЧ.

Абв. буд. мн. 3 ас. *даразумеюцца*: ПЧ.

**ДАРМА** (10) *прысл.* **1.** Дарэмна, марна. *Дарма "истинен" "Крестьянин", Штось чураюцца хрысцяне.* ЛПК. *Але гэта адначасне паказвае, як кінутае здаровае зерне дарма не прападае.* МІ, 17. *Параўн.* здарма.

**2.** Бясплатна, ні за што. *Не працыўся, кали гоняць дарогу правиць не сваю дый дарма: можэ часам и цябе будуць па ёй вясьци, дык ня будзеш каяцца; кинь за сабою, знойдзеш перад сабою.* СП. [Мікіта]: *Гэта таксамам даходная стацця, прычым яны* [рэвальверы] *мне нічога не каштуюць: па дарозе адзін мой знаёмы пёрся з імі недзе ў чыстае поле і са страху сунуў іх мне, меджду протчым, дарма.* Т, 58. ВН; НГ; Т, 22, 39, 55. УрП, 49.

**ДАРМО** *прысл. У знач наз.* Што-н. бескарыснае. *Вось такой*

*натуры, складу ў іх* [сыноў] *я* [княжна] *дачэкала; На дармо, як мёд-прынаду, Думка ў думку ткала.* Дз, 189.

**[ДАРМОВЫ]** (3) *прым.* Атрыманы дарма, за нішто; бясплатна. [Дама]: *А я маю ўсе даныя на дармовую соцыяльную апеку.* Т, 58. [Янка]: *Як уважаю, дойная каза выйшла з вашай* [Мікіты] *свабоднай профэсіі аратара: стольні грошай, ды яшчэ дармовыя пайкі!* Там жа.

Адз. ж. В. *дармовую*: Т, 58. Мн. Н. *дармовыя* (2): Т, 46(2).

**[ДАРОВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* дараваць. *У знач. вык.* Абвешчаны, устаноўлены. – *Ну, и заехаў жэ ты, брат! Я пытаю аб свабодзе, што нам дарована манифэстам?!* ХЛБ.

Кар. адз. ж. Н. *дарована*: ХЛБ.

**ДАРОГА** (36) *ж.* **1.** Прыстасаваная паласа зямлі для язды і хадзьбы, якая злучае асобныя пункты мясцовасці. *Не працуўся, кали гоняць дарогу правиць не сваю дый дарма: можэ часам и цябе будуць па ёй вясьци, дык ня будзеш каяцца; кинь за сабою, знойдзеш перад сабою.* СП. *А нашы дарогі! Праз немарач, нетры, На радасць людскую, як стрэлы ляглі. Гудуць правады над шляхамі ў паветры, Што жыць стала лепей на нашай зямлі.* ПБН.

**2.** Працягласць шляху. *Заморскія госці ведалі, што народ, да якога ім дарога ляжала, быў сэрца мяккага, рупны гасцінаю і багацтвам асаблівым адзначываўся...* Кз, 17.

**3.** Падарожжа, паход, паездка. [Спраўнік]: *Але, панове, час нам ужо ў дарогу! Вораг не спіць і ўжо блізка: можэ адрэзаць нам усе ходы для адступлення.* Т, 38. // *У параўн. Мікітавы пакой выглядае збольшага – як у першай дзеі, разумеецца, без грамафона, люстра і мяккіх крэслаў, некаторыя рэчы спакаваны як у дарогу.* Т, 53.

**4.** *перан.* Напрамак дзейнасці, развіцця чаго-н. *І калі гэта высокая вучэльня ня пойдзе шырокай дарогай толеранцыі і роуных правоу для усяго насяленьня нашага краю, – яна ня споуніць таго культурнага назначэньня, якое ей сягодня суліць гісторыя.* УПУВ. *Будзеш Суомі йсці яснай дарогай, Новага будзеш складаць Калевалу. З рунай красы, барацьбы, перамогаў.* Ф. // Накіраванасць пры дасягненні пэўнай мэты. *Набок з дарогі, панове і гаспадары з Захаду і Усходу! Беларуская моладзь ідзе!* МІ, 18. *Вы* [гандляры] *ў сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сціралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе, а ўсё для панавання ўсясільнага молаха-золата.* Тж, 16.

Δ**Дарога-пуціна**: *Трох братоў, сваёй кожны дарогай-пуцінай Наблудзіўшыся, выхад спаткалі: Ім парады далі назаўсёды ў судзьбіны Як трымацца тых радаў, сказалі.* Ч, 322.

◊**Вынырнуць на добрую дарогу** *гл.* вынырнуць. **Даць дарогу**

*гл.* даць. **З дарогі** – адразу пасля паездкі, падарожжа. *Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым госцем падарожным; ...а яшчэ астаўлялі ў хатах пад абрусамі бохана хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы сотаў пчаліных – гэта каб госць меў чым з дарогі пажывіцца.* Кз, 17. **На дарогу** (2) – а) перад адпраўленнем, паездкай. *Выпраўляй яго* [сына] *ў людзі, На дарогу блаславі, Разам з крыжам дай на грудзі Роднай вузельчык зямлі.* М, 20; б) для выкарыстання ў час паездкі. [Мікіта]: *А ці не ведаеце, мамзэль Наста, можа, яму* [немцу] *на дарогу маркі патрэбны, бо я маю да прадання?* Т, 42. **Па (у) дарозе** (4) – у час руху. *Мы* [савецкія дэлегаты] *бадай што не бачылі па дарозе таварных цягнікоў, калеі на такіх буйных станцыях, як Слонім, Беласток, пазарасталі травой.* ПЧ. [Мікіта]: *Мяне толькі што спаткала ў дарозе смешная прыгода.* Т, 58. **Расцярэбліваць дарогу** *гл.* расцярэбліваць. **Скідаючы з дарогі** *гл.* скідаючы. **Туда дарога –** тая ж доля. *Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне* [Купалу] *туды за імі дарога.* СЧ.

Адз. Н. *дарога* (3): Кз, 17; СЧ; Т, 56. Р. *дарогі* (5): ВГР; К; КЗ, 17; МІ, 18; СНБ. В. *дарогу* (9): Ан, 19; М, 20; СП; Т, 38, 42, 48, 53; ТП, 217; УрП, 50. Т. *дарогай* (5): Мц, 75; ТП, 214; УПУВ; Ф; Ч, 322; *дарогаю* (3): ДПЛС (2); ПСС, 232. М. *дарозе* (8): ПЧ; СНБ; Т, 41, 42, 45, 58(2); Тж, 16. Мн. Н. *дарогі* (2): ЗЯЗ, 90; Ч, 319.

**[ДАРОЖАНЬКА]** (2) *ж. Памяньш да* дарога ў 1 *знач. А ў бары, бары Тры дарожанькі Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!* ББ.

Мн. Н. *дарожанькі* (2): ББ (2).

**[ДАРОЖКА]** (3) *ж. Памянш.-ласк. да* дарога ў 1 *знач.* Вузкая дарога, сцежка. *Доўга ці коратка Ваяваў наш Янка, Ажно ў вёску ён дарожкай Прэцца, як маланка.* ЕЯП. *Як толькі находзіў вечар, я* [С. Меч] *выхадзіў на адну з сваіх любых дарожак ды ішоў на ей ціха, ціха.* ХБ, 29.

Адз. Т. *дарожкай*: ЕЯП. Мн. Р. *дарожак*: ХБ, 29. Т. *дарожкамі*: ХБ, 29.

**[ДАРОСЛЫ]** *прым.* Які дасягнуў сталага ўзросту. *Калі маеш брата, ци дарослаго сына, абходзься з ими ласкава, бо як высьвенцицца часам каторы на стражника, то аддасць за лычка рэменьчыкам.* СП.

Адз. м. В. *дарослаго*: СП.

**[ДАРУЧЭННЕ]** *н.* Справа, даручаная каму-н. для выканання; заданне. *Па даручэнню агульнага схода – народны паэт рэспублікі Янка Купала.* НКУС.

Адз. Д. *даручэнню*: НКУС.

**ДАРЫЦЬ** (2) *незак. перан.* Прыносіць. *Нашы палеткі буйным абшарам Нас гадавалі хлебам пшанічным, Вашы* [заходніх

людзей] *палоскі голым папарам Голад дарылі нам безгранічны.* ССА, 294.

◊**Паклоны дарыць** – кланяцца. *Годзе нам* [беларусам] *есьці аб'едкі і косьці, Злыбядзе ўсякай паклоны дарыць!* Г, 17.

Інф. *дарыць*: Г, 17. Абв. пр. мн. *дарылі*: ССА, 294.

**[ДАРЭВАЛЮЦЫЙНЫ]** *прым.* Які адносіцца да часу, што папярэднічаў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. *У Савецкай Беларусі росквіт культуры такі магутны, пра які я* [Купала] *і не мог сніць у дарэвалюцыйныя часы.* А, 328.

Мн. В. *дарэвалюцыйныя*: А, 328.

**[ДАРЭМНЫ]** *прым.* Марны, бескарысны. *І вось праца гэтых людзей, праца ў страшэнна пякельных варунках, калі кожнае жывое беларускае слова расійскі ўрад лічыў праступствам, – гэта праца лепшых беларускіх людзей над падняццем свае роднае культуры не была дарэмнай.* МІ, 17.

Адз. ж. Т. *дарэмнай*: МІ, 17.

**ДАРЭЧЫ** *прысл. У знач. пабочн.* Ужываецца для абазначэння таго, што даная фраза гаворыцца ў дадатак да сказанага. *А душа сама – без хаты, Знаць, з вялікай мукі То зрывае з сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі, То паказвае на плечы, То капец абойме... Бог яго усё дарэчы Зразумее, пойме!* Дз, 191.

**[ДАСВЕДЧАННЕ]** *н. Разм.* Дасведчанасць. *...адно толькі варажбіты-вешчуны, старцы мудрыя і ў законах веры дасведчанне маючыя, старых толькі багоў трымаліся і народу свайму за яго такую нястрыманую памаўлівасць нядобрыя варожбы выражалі.* Кз, 17.

Адз. В. *дасведчанне*: Кз, 17.

**[ДАСКАНАЛАСЦЬ]** *ж.* Узорнасць, беззаганнасць, бездакорнасць. *Вылучаюцца па сваёй тэхнічнай дасканаласці заводы Шкоды, Вітковіцкія, "абутковы горад" Баці ў Зліне.* ПЧ.

Адз. М. *дасканаласці*: ПЧ.

**[ДАСТАВАЦЦА]** *незак. Разм. У безас. знач.* Атрымліваць пакаранне, вымову. *Гаспадарку я* [Купала] *не любіў, а вазіўся заўсёды з кніжкамі, за што часта даставалася мне ад бацькі.* А, 328.

Абв. пр. адз. н. *даставалася*: А, 328.

**ДАСТАВАЦЬ** (2) *незак.* Вынімаць, выцягваць што-н. *Пани стала даставаць грошы, пазираючы на дзеўчынку.* ПДз. [Аленка]: *(Дастае з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс і падае Янку, сур'ёзна кажучы). Прымеце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы.* Т, 30.

Інф. *даставаць*: ПДз. Абв. цяп. адз. 3 ас. *дастае*: Т, 30.

**ДАСТАТАК** (2) *м.* Заможнасць, матэрыяльная забяспечанасць.

*Відна што ніўка – маці тутка чалавеку! Відна з… Узораных парадкам агародных градак, – Што там цьвіцець дастатак, праўда і парадак.* ХБ, 28. *Не прышлось мне* [маці] *жыць на сьвеце Ў славе і дастатку: Загубілі родны дзеці, Загубілі матку.* Дз, 189. *Параўн.* дабрабыт.

Адз. Н. *дастатак*: Дз, 189.

**[ДАСТАЎЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* даставіць. Прынесены, прывезены, дасланы куды-н. [Мікіта]: *Мадам-сіньёра, вы згадалі! Так яно і ёсць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складаў "Піліп і К*в*".* Т, 28.

Адз. ж. Н. *дастаўленая*: Т, 28.

**ДАСТАЎШЫ** *дзеепрысл. да* дастаць у 2 *знач.* [Мікіта]: *(Дастаўшы дакумент з-за пазухі, да Начальніка): Во ён гэты, медждy протчым, дакумэнт.* Т, 61.

**ДАСТАЦЦА** *зак.* Зрабіцца чыёй-н. уласнасцю, перайсці ў чыё-н. распараджэнне. *Яны* [беззямельныя земляробы] *назіраюць толькі сумным вокам, як гэта зямля, каторая па боскаму праву павінна была дастацца іхнім працавітым мазалям, – зямля пападае ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.* ЗС, 18.

Інф. *дастацца*: ЗС, 18.

**ДАСТАЦЬ** (16) *зак.* **1.** Дацягнуцца да чаго-н. *Ды йшчэ кажа* [маці]*, што малая* [Галя]*, Урны не дастану… Што-ж такое, – пачакаю, Пакуль большай стану.* Вб, 236.

**2.** *Зак. да* даставаць. *Гарошка дастае з торбы сваю закуску і раскладае на століку.* Т, 27. *Мікта дастае партманэ, а з яго грошы і на мігі паказвае немцу, каб купіў.* Там жа, 42.

**3.** Раздабыць, набыць, знайсці. [Янка]: *Эгэ! І пляшку бачу. А кажуць, што няможна дастаць.* Т, 21. *Цяперака, калі спынена продаж на гарэлку, урад павінен ня толькі дастаць грошы на гасударственые расходы, каб пакрыць гэту акцызную нядоімку, але ешчэ павінен дастаць іх на ваенные расходы.* ВН. // *Разм.* Атрымаць. *На зямлі, што дзед, прадзед слязьмі І гарачай крывёй паліваў, Унук – ужо між чужымі людзьмі – Тэй зямлі трох аршын не дастаў.* ЧС, 50–51. *Я* [унук] *раскажу, як за хлеб, за зацірку Ў пана служыў пастухом я нядаўна, Лезла на вопратцы дзірка на дзірку, Лапцяў і тых не дастаў я ад пана.* Ун, 73.

◊**Вокам не дастаць** – пра вельмі вялікую прастору. [Янка]: *О, наша тэрыторыя, пане вучоны, вельмі вялікая – і вокам не дастаць!* Т, 38–39. **Дастаць поўху –** быць пабітым. [Спічыні]: *А цяпер, як будзе: не лезь, бо дастанеш поўху?* Т, 49. **Думкаю дастаць** – вельмі далёка. *І ўдаль сягну, дзе толькі можа сягнуць вока, І скрозь туды, дзе вольнай думкаю дастану.* СМ. **Перцу дастаць** – атрымаць

наганяй. [Гарошка]: *(дабрадушна). Табакі не табакі, а перцу калі-небудзь дастанеш ты* [Аленка] *ў мяне за свой доўгі язык.* Т, 39.

Інф. *дастаць* (4): ВН (2); Т, 21, 39. Абв. цяп. адз. 3 ас. *дастае* (5): Т, 24, 25, 27, 42, 50. Пр. адз. м. *дастаў* (2): ЧС, 50–51; Ун, 73. Буд. адз. 1 ас. *дастану* (2): Вб, 236; СМ. 2 ас. *дастанеш* (3): Т, 39, 49(2).

**ДАСТАЮЧЫ** (5) *дзеепрысл. да* дастаць у 2 *знач.* [Мікіта] *(Дастаючы першы партфель). У гэтым портфэльчыку ўсялякія асабітыя пасведчанні...* Т, 46. [Мікіта]: *(Дастаючы другі партфель). А ў гэтым, меджду протчым, портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы, загады, рэзалюцыі, інструкцыі аб раўнапраўі ўсіх расаў і падрасаў, усіх нацый і паднацый, усіх народаў і паднародаў, усіх моў і падмоў...* Там жа. Т, 46(3).

**ДАСТОЙНА** *прысл.* Належна; як мае быць. [Мікіта]: *Але пакуль што якое, мне ад сэрца, меджду протчым, хацелася б дастойна пачаставаць і павесяліць высокіх пэрсон.* Т, 51.

**[ДАСТОЙНЫ]** (2) *прым.* Паважаны, заслужаны. [Мікіта]: *(Падымаючы чарку). За здароўе дастойных, меджду протчым, гасцей!* Т, 27–28. [Мікіта]: *А гэта зроблена спэцыяльна для маіх, меджду протчым, найславутнейшых гасцей: хацеў прыняць іх, як і калісь прымаў розных дастойных асоб.* Там жа.

Мн. Р. *дастойных*: Т, 28. В. *дастойных*: Т, 25.

**ДАСТУКАЦЦА** *зак. Разм.* Службай дабіцца якога-н. звання; даслужыцца. [Янка]: *(Да Мікіты, адвітваючыся). Бывайце здаровы, пане рэгістратар! Жычу вам у новай аратарскай профэсіі дастукацца асэсарскай рангі.* Т, 39.

Інф. *дастукацца*: Т, 39.

**[ДАСТУПНЫ]** *прым.* Магчымы, пасільны для ўсіх. *Уразброд, агулам Намі гандлявалі – Па цане даступнай, Па цане крывавай.* МПв, 218.

Адз. ж. М. *даступнай*: МПв, 218.

**ДАСУЖНА** *прысл. Разм.* Хутка, імкліва, шпарка. *Глянь, карабель плыве дасужна, Дыміць комін параходны, – Камсамольцы сям'ёй дружнай Рэжуць хвалі ў шляху водным.* СА, 180.

**[ДАСЦІГНУЦЬ]** і **[ДАСЬЦІГНУЦЬ]** (4) *зак. да* дасцігаць. *Руск.* **1.** *Тое, што* дасягнуць у 1 *знач.* *...ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага соцыялістычнага будаўніцтва краіна Саветаў пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі дасьцігла нябывалых і нячуваных посьпехаў на страх і здьзіўленне адміраючаму капіталістычнаму сьвету...* ДНСП. *Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сьведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.* Там жа.

**2.** Даехаць да якога-н. месца. *Ехаў* [Даніла] *поле і другое, Трэцце поле дасціг, Дзе сабраліся жаўнеры З сёл і вёсак усіх.* ПСД.

**3.** *перан.* Спасцігнуць, здарыцца. *Гібелі зноў людзі у сьпёку, ў мароз, Як чэрві сьляпыя у плесьні, – Аж страшная кара дасьцігла з нябёс; Забыўся народ сваей песьні.* ПН, 47.

**Дасьцігнем нявіданых сусьветных посьпехаў.**

Адв. пр. адз. м. *дасціг*: ПСД. ж. *дасьцігла* (2): ДНСП; ПН, 47. Буд. мн. 1 ас. *дасьцігнем* (2): ДНСП (2)

**[ДАСЬЦІЖЭНЬНЕ]** *н. Руск. Тое, што* дасягненне. *І тые і гэтые ў сваім мілітарна-імпэрыялістычным паходзе стараюцца сьцерці па дарозе ўсё, што стаіць ім на перашкодзе дзеля дасьціжэньня сваіх мэт.* СНБ.

Адз. Р. *дасьціжэньня*: СНБ.

**ДАСЬЦІПНЕЙШЫ** *прым. Пар. ст. да* дасьціпны. *Як дамоў вярнуўся меньшы* [сын], *Сьвету як увідзеў, – Аказаўся дасьціпнейшы, Чым сярэдні, ў крыўдзе.* Дз, 190.

Адз. м. Н. *дасьціпнейшы*: Дз, 190.

**ДАСЮЛЬ** *прысл. Разм.* Да гэтага часу. *Дасюль елі мерцьвякоў, А цяпер затое Будзем піць мы* [груганы] *кроў жывых, Мяса есьць жывое!* Гр, 215.

**[ДАСЯГАЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Распаўсюджвацца, пранікаць. *Сьвятло, якім прамянілася гэта вучэльна, захоплівало сабой ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі, быўшае Вялікае Літоўска-Беларускае Княжство, але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава…* УПУВ.

**2.** Даходзіць да якога-н узроўню, мяжы. *Каханне хлопца і дзяўчыны дасягае свайго апагею толькі калі яны даразумеюцца набыць чаравікі бацяўскага вырабу…* ПЧ.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *дасягае*: ПЧ. Пр. мн. *дасягалі*: УПУВ.

**[ДАСЯГНЕННЕ]** (4) *н.* Станоўчы вынік працы, дзейнасці, здабытак, поспех. *На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца калгасныя нівы, навейшыя дасягненні аграноміі, тэхнікі і плодатворнай калектыўнай працы.* АЛ. *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры.* ШБСЯ. *Параўн.* дасьціжэньне, досьціг.

Мн. Н. *дасягненні*: АЛ. Р. *дасягненняў*: ШБСЯ. В. *дасягненні* (2): ШБСЯ (2).

**[ДАСЯГНУЦЬ]** (3) *зак.* **1.** Дамагчыся чаго-н., набыць… *Дасяг ен* [маскоўскі урад] *ня шмат: пару сотак "інтэлігэнтау", з каторых сьмяюцца і Бог і добрыя людзі.* ДК. *Азірнуўшыся ясным вокам і ўдумаўшыся шчырай думкай на пройдзеныя гэтыя 15 год, мы бачым якіх, – здавалася-б недасяглых – дасяглі мы перамог у вялікім соцыялістычным будаўніцтве: што было

*сном, тое стала явай, што было казкай, тое стала рэчаіснасцю.* ШБСЯ. *  Параўн.* дасцігнуць, дасьцігнуць

**2.** Надысці, настаць. *Яны* [бежанцы] *з абозам на усход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях, У прадчуваньні, але йшчэ ня верачы ані, Што гэта ўжо сапраўды эпілёг дасяг, Што ўжо няма каму тут спадчынныя гікі Цяпер чыніць.* ВБЛ, 80.

Абв. пр. адз. м. *дасяг* (2): ВБЛ, 80; ДК. Мн. *дасяглі*: ШБСЯ.

**ДАТУЛЬ** (2) *прысл.* Да таго часу. [Гарошка]: *Наш настаўнік, Янка, дык той без ніякага нічога, як тапаром сячэ: "Пакуль, кажа, не зробімся самі сабе гаспадарамі, датуль ніякага ладу ні складу ў нас не будзе".* Т, 44. *Датуль свайго не здрадзіць слова Свая народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк ня сьцягне і лістка.* УрП, 50.

**[ДАЎБЁЖКА]** *ж.* Невялікая даўбня. *Але абрабляюць глебу сяляне старанна: за баронамі ідуць з адмысловымі даўбежкамі, разбіваючы імі ўсе груды.* ПЧ.

Мн. Т. *даўбежкамі*: ПЧ.

**[ДАЎГАВЕЧНЫ]** (3) *прым.* Які існуе доўгі час. *Арліным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, – брахню, што Беларусі не было і няма.* ПЛП. [Янка]: *Каб гэтага не было, мы павінны растаптаць, зніштожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе.* Т, 35.

Адз. ж. В. *даўгавечную* (2): ПЛП; Т, 35. н. М. *даўгавечным*: СНБ, 336.

**[ДАЎГАПОЛЫ]** *прым.* З доўгімі поламі. *З-пад сьвіткі чорнай даўгаполай Блішчэла бляха накасяк.* УрП, 51.

Адз. ж. Р. *даўгаполай*: УрП, 51.

**ДАЎГІ** *гл.* **ДОЎГІ.**

**ДАЎНЕЙ** (2) *прысл.* Некалі ў далёкім мінулым. *Не жылося мне даўней так, (Льецца гэткі голас), Не такі мой быў палетак, Іншы меў ён колас.* Дз, 188. *Жывуць* [старыя багі], *як даўней жылі, – у песнях, казках, былінах, і чакаюць... чакаюць на новых старцаў мудрых, на вешчуноў-прарокаў златавустых.* Кз, 17.

**[ДАЎНЕЙШЫ]** (2) *прым. Пар. ст. да* даўні ў 1 *знач.* *Польскіе эндэкі, замест праводзіць у жыцьцё даўнейшы лёзунг: "вольны з вольным, роўны з роўным", накінулі нам* [беларусам] *"плебісцыт", прынятую соймам "рэзолюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ. *Бай яму* [сыну] *даўнейшы казкі Аб бацькох сваёй зямлі, Як жылі бяз чужай ласкі, Як слугумі ня былі.* М, 19–20.

Адз. м. В. *даўнейшы*: СНБ. Кар. мн. В. *даўнейшы*: М, 19.

**ДАЎНЕНЬКА** (2) *прысл. Разм.* Даволі даўно. [Янка]: *(вітаючыся з гануляй). Як жывём, цётачка? Даўненька ўжо з вамі не бачыліся!* [Ганулі]: *(пакінуўшы мыццё). О даўненька! Бадай гадзікі са два ўжо будзе.* Т, 44.

**ДАЎНО** (20) *прысл.* **1.** Раней, задоўга да цяперашняга часу. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, – як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Кз, 17. *Лепшыя з гэтых людзей даўно ўжо прыйшлі да пераканання, што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, падняволены чужынцам.* НДН, 19.

**2.** На працягу доўгага часу; здаўна, і да цяперашняга моманту. *Годзе нам* [беларусам] *сілу прыблудаў вялічаць Дзецьмі, багацьцем радзімай зямлі! Нашы загоны даўно ўжо нас клічуць, Нашы загоны, што зельлем зрасьлі.* Г, 16. [Мікіта]: *Ацец духоўны! – даўно чакаю вашага благаслаўлення.* Т, 51. БрБ, 6; ВД; ВН; Кц, 193; КП, 170(2); НДН, 18; НДп, 229; ПН, 46(2); ПСп; Пт; СНБ; Тж, 16; Т, 41; Ч, 320.

**[ДАЎНЫ]** *прым. Абл.* Мінулы. *Пачалася ізноў тая самая вакханалія з высылкамі пад грозьбай штыка і нагайкі нашых людзей на Мурман, пад Урал і г. д., як і за даўных царскіх часоў.* БВ, 16.

Мн. Р. *даўных*: БВ, 16.

**[ДАХОД]** (2) *м.* Грашовыя ці матэрыяльныя каштоўнасці; якія атрымліваюцца кім-н. *Падаходны налог падобна простаму выбіраецца з тых, хто болей зарабляе ці хто болей з чаго мае даходу, той болей і плаціць. Гэтым налогам будуць ападаткаваны толькі багацейшыя людзі, маючыя ня меней 2000 р. у год даходу.* ВН.

Адз. Р. *даходу* (2): ВН (2).

**[ДАХОДЗІЦЬ]** *незак.* Пранікаць у свядомасць, станавіцца зразумелым. *Яна* [беларуская моладзь] *інстыктыўна, обмацкам даходзіла да тэй свядомасці аб патрэбе свайго беларускага войска.* БВ, 16.

Абв. пр. адз. ж. *даходзіла*: БВ, 16.

**[ДАХОДНЫ]** (2) *прым.* Які прыносіць даход; прыбытковы. [Мікіта]: *Але, меджду протчым, мамаша – гарэлка. Бо гэта будзе самая цяпер даходная стацця, прычым яны* [рэвальверы] *мне нічога не каштуюць: па дарозе адзін мой знаёмы пёрся з імі недзе ў чыстае поле і са страху сунуў іх мне, меджду протчым, дарма.* Там жа.

Адз. ж. Н. *даходная* (2): Т, 58(2).

**ДАЦЦА** (4) *зак.*: ◊**Дацца ў знакі** – надоўга запомніцца. *Сьмела гляне* [гаспадар] *на сьвет і на долю зьмянлівую, Як дагэтуль, яму не дадуцца ўжо ў знакі Тые сілы з усходу і заходу мсьцівыя,*

*Што даймаюць цяпер, як вужакі.* ТС, 74. **Крыўдзе не дацца; не(ня) дацца ў крыўду** (2) – сумець пастаяць за сябе, абараніць сябе. *Ёсць жа яшчэ ў мяне сіла Крыўдзе не дацца, змагацца, Над спячых продкаў магілай Вольна маланкай мігацца.* ЁЯ. *Бо толькі тое государства зможэ не дацца ў крыўду або і перэмагчы свайго праціўніка, каторае ня толькі выставіць вялікую лічбу добра абучэных ваеннаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу экономічную.* ВН. *Выпраўляй яго* [сына] *у людзі, На дарогу блаславі, Разам з крыжам дай на грудзі Роднай вузельчык зямлі: Каб ня даўся ў крыўду зьдзекам, Не забыў сваіх старон, Каб вярнуўся чалавекам К роднай Бацькаўшчыне ён.* М, 20.

Інф. *дацца* (2): ВН; ЁЯ. Абв. пр. адз. м. *даўся*: М, 20. Буд. мн. 3 ас. *дадуцца*: ТС, 74.

**ДАЦЬ** (89) *зак.* **1.** Уручыць, перадаць з рук у рукі. *А дзяўчына, міла сэрцу, Правяла* [Данілу] *за сяло І дала на памяць персцень, Каб у бойках вязло.* ПСД. [Янка]: *(адвёўшы набок Мікіту). Дайце яму* [немцу] *тры рублі, і адчэпіцца.* Т, 33. // Падаць, паднесці. [Мікіта]: *(да Ганулі). Меджду протчым, мамаша, ці не далі б чаго закусіць нам, бо салавей аднымі песнямі сыт не бывае.* Т, 27.

**2.** *Зак. да* даваць у 4 *знач.* *...Паліграфадзел ня мог ці не хацеў даць патрэбную колькасьць шрыфтаў і наборшчыкаў.* ВСп, 91. *Пасля, Жыды, вы зрэкліся народу, Які вам шчыра даў багацце і прыпын.* Ж. *Нашы сасонкі шумнаго бору Далі вам* [чужым людзям] *хаты.* Чж, 146.

**3.** Надзяліць чым-н. [Янка]: *Бачыў бог, што не даў свінні рог, а рэгістратару панавання.* Т, 48. *Дайце сілы! ...О, Божа! Нікога кругом!* Бн, 91.

**4.** Прысвоіць (званне). *Я* [Купала] *ганаруся і гарджуся, што комуністычная партыя і совецкі ўрад даў мне годнасць народнага паэта рэспублікі.* ДЖ.

**5.** Назначыць на якую-н. пасаду. [Янка]: *Не ўдасца вам* [Мікіту] *гэта асэсарства, дадуць вам совбурства.* Т, 56.

**6.** Забяспечыць чым-н.; аддаць у карыстанне. *Пажаданні нашы: даць камандзіру годную дома работу і забяспечыць жывы кантакт дома з нашым атрадам работнікаў мастацтваў.* ПГ. *Зайшоў гэтак неяк я к рэдактару, папрасіць у яго, ці не дасць якой работы.* Ан, 18.

**7.** *перан.* Пракласці. *Як-бы змора вісіць... Стогн адно: не даві! Ня губі, да Хрыста сьцежку дай, данясі!..* БН, 93.

**8.** *Зак. да* даваць у 5 *знач.* *Яго* [паўночнага краю Меншчыны] *балоты, калі што не даюць карысьці, нікому не замінаюць, а з часам дадуць багацейшы запас тарповага апалу.* ХБ, 30.

*Упартая, але радасная праца працоўнага народу маёй* [Купалы] *бацькаўшчыны ў саюзе з усімі брацкімі рэспублікамі дала вынікі незвычайныя.* ЖН.

**9.** *Зак. да* даць у 8 *знач. Я* [Купала] *віншую Карэльскую аўтаномную сацыялістычную рэспубліку, тэрыторыю якой перасёк Беламорска-Балтыйскі водны шлях і даў надзвычай вялікія магчымасці для яе далейшага бурнага эканамічнага і культурнага развіцця.* ЦСБ. *Дыхнуць свабоднымі грудзямі Й зірнуць арліна не дадуць…* РС, 39.

**10.** *Зак да* даваць у 10 *знач. Вылучаючы Вас, таварыш Ежоў кандыдатам у Вярхоўны Совет СССР, мы просім даць сваю згоду балатыравацца па Менскай выбарчай акрузе.* НКУС. [Мікіта]: *...я сам пісаў, сам рукой ўласнай пісаў, а начальства подпіс дало і не прачытала, мабыць.* Т, 61. // У спалучэнні з некаторымі назоўнікамі абазначае: зрабіць, правесці дзеянне. *Гордасцю напоўнілася маё сэрца, калі я* [Купала] *даведаўся, што байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёка-ўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям.* ВГ.

◊**Без дай прычыны** – беспадстаўна. [Ганулял]: *Ганяюць людзі людзей без дай прычыны ды ганяюць.* Т, 54. **Даць веры –** паверыць. *Трэці брат ад судзьбіны наказ праслухаў. – Сну-траве ты занадта даў веры.* Ч, 323. **Даць волі ў волю** – зрабіць вольным каго-н. *Дай* [першы брат] *другім волі ў волю, і сам будзеш вольны.* Ч, 323. **Даць волю** (3) – перастаць стрымліваць чые-н. дзеянні, пачуцці. *Дайце волю народам сваім будаваць сваю долю.* Тж, 16. *Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр! Дай волю парывам гарачым…* Пр. **Даць дарогу** – забяспечыць свабоду дзеяння. *Дзе толькі ступіце, зьнямее Нямая чорная напасьць, Ніхто чапіць вас* [людзей] *не пасьмее, Усякі вам дарогу дасьць.* УрП, 50. **Даць па шапцы –**выгнаць, прагнаць. *"Антанта… загадала ім* [Калчаку, Дэнікіну і Юдэнічу] *адбудаваць вялікую Расію, а Леніну, Троцкаму, Калмановічу і іншым бальшавікам даць па шапцы!"* Ан, 19. **Даць раду каму-н.** – парадзіць, параіць. *Гэй, Дубровін чарнасоцкі, Пурышкевіч, Замыслоўскі, Дайце раду, што чыніці, Як крамолу скараціці.* ЛПК. **Даць свае плечы –** падтрымаць каго-н. *Раскаваны раб сябе выдаў – Ня ўзнёсься ўвысь дух чалавечы, – Нявольнік пабратаўся з Крыўдай І ў помач ёй даў свае плечы.* Кр, 78. **Даць слова –** цверда паабяцаць каму-н. што-н. *Прыпомні, дай слова ня счэзнуці марна, Пачатую справу шырыць расшыраць!* В. **Даць ход –** пусціць у дзела. *Змог ён* [народ] *ня толькі знаць штукі з заломам, – Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.* Н. **Не даць ходу –** перашкодзіць каму-н. зрабіць што-н. *Біў* [Варашылаў], *як мух, белагвардзейцаў, Не даў ходу зброду, І савецкую краіну*

*Вывеў на свабоду.* НК. **Як піць даць –** напэўна, абавязкова. [Мікіта]: *А там, як піць даць, атрымаю асэсарства.* Т, 42.

Інф. *даць* (16): Ан, 19(2); БВ, 17; БС; ВР; ВСп, 91; З; Н; Нз, 16; НКУС; ОШМ; ПГ; Т, 42, 52; Ч, 319, 325; *даці*: Кц, 193. Пр. адз. м. *даў* (17): Ан, 18(3), 19(2); БС; ВСп, 89, 91; ГВУ; ДЖ; Ж; Кр, 78; НК; СС, 300; Т, 48; ЦСБ; Ч, 323. ж. *дала* (8): А, 328; Г, 16; Дз, 188; Ж; ЖН (2); ПСД (2). н. *дало*: Т, 61. Мн. *далі* (8): ВБЛ, 82; ВГ; ПВ (4); Т, 27; Ч, 322; Чж, 146(2). Абв. буд. адз. 1 ас. *дам* (3): АПЖ; Т, 33(2). 2 ас. *дасі*: Ч, 323. 3 ас. *дасць* (3): Ан, 18; Т, 36, 51; *дасьць* (3): БСУ; Кц, 195; УрП, 50. Мн. 1 ас. *дадзім*: БС; *дамо*: Н. 2 ас. *дасцё*: Р. 3 ас. *дадуць* (4): РС, 39; СНБ; Т, 56; ХБ, 30. Заг. адз. 2 ас. *дай* (11): АПЖ; БН, 93; В; Дз, 190; М, 20; Пр; РС, 40; СЗГ, 252; СТ; Т, 54; Ч, 323. Мн. 2 ас. *дайце* (8): БН, 91(2), 92; ЛПК; Т, 33(2), 56; Тж, 16.

**[ДАЧАКАЦЦА]** *зак.* Дажыць да з'яўлення чаго-н. чаканага. *Пойдзе зімка, пройдзе лета, Як сказаці слова, Дачакаюся я* [Галя] *гэтак і выбараў новых.* Вб, 236. *Параўн.* дачакаць у 1 *знач.*

Абв. буд. адз. 1 ас. *дачакаюся*: Вб, 236.

**[ДАЧАКАЦЬ]** *зак. Разм.* **1.** *Тое, што* дачакацца. *Жывуць* [старыя багі], *як даўней жылі, – у песнях, казках, былінах, і чакаюць... чакаюць на новых старцаў мудрых, на вешчуноў-пракаў златавустых. Ці дачакаюць калі?* Кз, 17.

**2.** *перан.* Дажыць да з'яўлення чаго-н. нечаканага. *Мы* [беларусы] *сядзелі, злажыўшы рукі, і чакалі нейкага цуду, якое зьявіцца і забярэ нашае ліха. І дачакаліся...* БС. *Параўн.* дачэкаць.

Абв. буд. мн. 3 ас. *дачакаюць*: Кз, 17. Пр. мн. *дачакалі*: БС.

**ДАЧКА** (4) і *руск.* **ДОЧКА** *ж.* Асоба жаночага полу ў адносінах да сваіх бацькоў. *Скора сын бацьку, а бацька сыночка Не распазнаюць адзін аднаго; Дзеці чужацкія корме ўжо дочка, Маці працуе на злыдню свайго.* Н. *Так я* [бацька] *гібеў, а знікуль яснай весці, Горкае гора і ў будні, і ў свята; Ён* [пан] *і дачку мне маю абясчэсціў Непаўналетнюю, дзеспат пракляты.* Бц, 74.

Адз. Н. *дачка*: Т, 19; *дочка*: Н. В. *дачку*: Бц, 74. Т. *дачкою*: ПДз. Мн. В. *дачок*: ЗК, 42.

**[ДАЧЫНЕННЕ]** *н.*: ◊**У дачыненні да чаго –** ужываецца ў значэнні прыназоўніка, які паказвае накіраванасць дзеяння. *Дык вось хто, бадай, быў маім* [Купалы] *першым настаўнікам, хутчэй натхніцелем у дачыненні да маёй паэтычнай творчасці.* ПС.

Адз. М. *дачыненні*: ПС.

**[ДАЧЭКАЦЬ]** *зак. Польк. Тое, што* дачакаць у 2 *знач. Вось такой натуры, складу ў іх* [сыноў] *я* [маці] *дачэкала; На дармо, як мёд-прынаду, Думку ў думку ткала.* Дз, 189.

Абв. пр. адз. ж. *дачэкала*: Дз, 189.

**ДАЧЭСНА** і **ДАЧЭСЬНЕ** *прысл. Тое, што* часова. *Шапаціць тое лісьце заснуўшым палянам, – Чуе ночка глухая, нямая: Кожны край, што дачэсна завецца забраным Гэткіх казак забытых шмат знае.* Ч, 326. *Тое, што ўзята маною дачэсьне, Вечна ня будзе душыць, як прыгон.* Г, 17.

**[ДАЧЭСНАСЬЦЬ]** *ж. Польск.* Часовасць. *Першые* [палякі] *маюць рэяльную сілу, а другія* [расійцы] *пачуваюць сябе дужымі успамінамі прамінулага панаваньня і надзеямі у дачэснасьць палітычнай перамогі першых.* ВМР.

Адз. В. *дачэснасьць*: ВМР.

**ДАЧЭСЬНЕ** *гл.* **ДАЧЭСНА.**

**ДАШЧЭНТУ** *прысл.* Начыста, датла, ушчэнт. *Гандляра айчынай Па чужым заказу... Вынішчыць дашчэнту Гэтую заразу!* МПв, 218.

**ДАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* даваць у 1 *знач.* [Гануля]: *(даючы грошы). Купі, сынок, купі, толькі, можа чаго з яды знойдзеш.* Т, 56.

**[ДБАЛЫ]** *прым.* Старанны, дбайны. *Канстытуцыі векпомнай Слова залатое Напісаў* [Сталін] *нам добрым сэрцам, Дбалаю рукою.* НК.

Адз. ж. Т. *дбалаю*: НК.

**ДБАЦЬ** (5) *незак.* Клапаціцца, турбавацца. *Абываталь жа няхай памятае, што адно беларусы могуць сапраўды любіць свой горад і дбаць аб яго дабрабыце.* ВМР. *Чалавек ён* [Молатаў] *гаспадарны, Скажам смела ў вочы, Аб рэспубліках совецкіх Дбае днём і ночай.* НК.

Інф. *дбаць*: ВМР. Абв. цяп. адз. 2 ас. *дбаеш*: ЕЯП. 3 ас. *дбае*: НК. Пр. адз. м. *дбаў*: БрБ, 6. ж. *дбала*: Нз, 14.

**ДВА** (49) *ліч. Кольк.* Лік 2. *Два сьвяты на сьвеце – ад нівы да нівы: Хрыстос уваскрос! наступае вясна!* В. *Вызначаюцца дзьве сілы ў нашым месьце, каторыя распачнуць борку на выбарах. Гэта – палякі і расейцы.* ВМР.

◊**Раз, два і гатова** *гл.* раз.

м. Н. *два* (12): ВН; ВР; ПСп; Пц; Т, 38, 44(2), 45, 46, 48, 58(2). Р. *двух* (4): Т, 19, 25, 59(2). Д. *двум*: Т, 62. В. *два* (7): ВСп, 90; ГП, 8; СНБ; Т, 40, 46(2); УПУВ. ж. Н. *дзьве* (7): БСУ; ВМР; ВС; ВСп, 89; СНБ (3); *дзве* (3): А, 328; Т, 26, 36. Р. *двух*: ЖН. В. *дзве* (3): А, 328; Т, 40, 41; *дзьве* (3): ВСп, 91; У; Х; *две* (2): Т, 26(2). Т. *дзвюма*: Т, 27. н. Н. *два* (4): В; ВБЛ, 81; Т, 19, 46. Р. *двух*: В.

**ДВАДЗЕСЦЕ ПЕНЦЬ** *ліч. Польск.* Дваццаць пяць. [Спічыні]: *А цяпер ператлумачце: двадзесце пенць.* Т, 49.

Н. *двадзесце пенць*: Т, 49.

**ДВАНАЦЦАЦЬ** (7) *ліч. Кольк.* Лік 12. – *Дык вось жалейкі вы бярэце, Ў дванаццаць мейсц кладзеце сьлед; Дванаццаць ветраў*

*сустракнеце, Дванаццаць выправіце ў сьвет!* УрП, 50. – *Цяпер прашу вас адабраццa У вянок адборных голасоў: Дзяўчат дванаццаць па дванаццаць І столькі сама дзяцюкоў.* Там жа.

Н. *данаццаць* (3): ВСп, 89; УрП, 50(2). В. *дванаццаць* (4): УрП, 49, 50(3).

**[ДВАРАНІН]** *м.* Асоба дваранскага саслоўя. *Зазвінелі яны* [народы] *ад Белага да Чорнага мора, і ад усходу сонца і да захаду сонца на зямлі першага рускага дваранiна Нікалая другога.* ДЖ.

Адз. Р. *дваранiна*: ДЖ.

**[ДВАЯКІ]** *прым.* Які праяўляецца ў двух розных відах. *Гасударственные налогі бываюць дваякіе: простые (безпасрэдніе) і пабочные.* ВН.

Мн. Н. *дваякіе*: ВН.

**ДВОЕ** (4) *ліч., зб.* Дзве. *Было двое іх* [дзяцей] – *двое – помніш? А ня стала ні аднаго.* ВБЛ, 81. *З правага боку – бліжэй да рампы – адны дзверы, з левага – двое.* Т, 19.

Н. *двое* (3): ВБЛ, 81(2); Т, 19. Р. *дваіх*: Т, 47.

**ДВОЙЧЫ** *прысл.* Два разы. *Так першая мая* [Купалы] *кніжка – "Жалейка" была канфіскована двойчы: пецербургскай цэнзурай і віленскім генерал-губернатарам.* ГВУ.

**ДВОР** (8) *м. Гіст.* **1.** Памесце, маёнтак. *І ўсё вы* [бальшавікі] *ўзялі, ўсё як ёсць: Фабрычны дым, сяўбы загон І панскі двор, і царскі трон... Ды стала ўсё вам гэта ў злосць...* ПВ. [Пан]: *А так прыходзіцца, толькі хай там ваша вёска вельмі ў двор мой не прэцца, бо як вярнуся...* Т, 37.

**2.** *перан.* Панства. *Такім чынам, двор сам па сабе як бы аддзяліўся ад вёскі.* Нз, 14. *Двор глядзіць на селяніна, як на "люд рускі", як на быдла, над каторым можна толькі стаяць з бізуном аканомскім...* Там жа.

Адз. Н. *двор* (4): ЗС, 18(2); Нз, 14(2). Р. *двара*: МІ, 17. В. *двор* (2): ПВ; Т, 37. Мн. Р. *двароў*: ЗС, 17.

**[ДВОХФУНТОВЫ]** (2) *прым. перан.* Вялікі. *Ах, вы, грудзі мае, Двохфунтовыя! Цяпер ходзяць у нас дзеўкі ўдовамі. Надаелі адны* [хлопцы], *Будуць новыя, Ах вы грудзі мае Двохфунтовыя!..* ВБЛ, 83.

Мн. Н. *двохфунтовыя* (2): ВБЛ, 83(2).

**ДВУГЛАВЫ** *прым. Руск.* : •**Двуглавы арол** *гл.* арол.

Адз. м. Н. *двуглавы*: АПЖ.

**[ДВУГРАШОВЫ]** *прым. перан.* Які каштуе два грошы. *Гэта ўраз жэ падхватываюць палякі, і "Kurjer Litewski", а за ім двуграшовая "Gozeta Godziennа" на розны тон галосяць: "вось, бачыце, да чаго даводзіць беларушчына: вас* [баларусаў] *прымусяць вучыцца па расейску!* ВР.

Адз. ж. Н. *двуграшовая*: ВР.

**ДВУРОГ** *м.*: Δ**Двурог-маладзік**: *Як двурог-маладзік, маладзеў* [другі брат] *маладзеў сярод зломаў.* Ч, 324.

Адз. Н. *двурог*: Ч, 324.

**[ДВУХПАВЯРХОВЫ]** *прым.* З двума паверхамі. *Падлеткі жывуць у інтэрнатах, у якіх пабудаваны двухпавярховыя нары.* ПЧ.

Мн. Н. *двухпавярховыя*: ПЧ.

**[ДВУХТЫДНЁВЫ]** *прым.* Працягласцю ў два тыдні. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны, у якой народ Чэхаславакіі і бачыць адзінага абаронца міру і цывілізацыі, мы* [савецкія дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі... ў кожным горадзе, мястэчку, вёсцы па шляху нашага двухтыднёвага падарожжа.* ПЧ.

Адз. н. Р. *двухтыднёвага*: ПЧ.

**[ДЖЭНТЛЬМЭН]** *м.* Карэктны, добра выхаваны элегантны чалавек. [Дама]: *Ах, якія ж усё-такі яны* [паны] *джэнтльмэны! Нават падзякавалі.* Т, 58.

Мн. Н. *джэнтльмэны* Т, 58.

**ДЗВЕ** *гл.* **ДВА.**

**ДЗВЕРЫ** (22) і **[ДЗЬВЕРЫ]** (4) *толькі мн.* Праём у сцяне памяшкання для ўваходу і выхаду. *Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным...* Кз, 17. *Як чорная паліўка, ліліся яго* [рэдактара] *буйные слёзы на васкаваную падлогу, каціліся за дзьверы на вуліцу, і, як свой с сваім, мешаліся з расхляпаным балотам віленскіх каркаломных брукрў.* ЧЧШ.

◊**Адчыняці дзьверы** *гл.* адчыняць. **Адчыняцца дзьверы варот –** пра свабодны доступ куды-н. *На шчасце, на радасці ўзлёт Збуцвелы разваліцца тын, Адчыняцца дзверы варот Да працы, да веды вышынь.* ТП, 216. **Кідаць за дзьверы** *гл.* кідаць.

Н. *дзверы* (2): Т, 19; ТП, 216. Р. *дзвярэй* (6): Кз, 17; Т, 23, 25, 27, 47, 59. В. *дзверы* (13): Т, 19(2), 25(3), 27, 32(2), 33, 47, 59(3). *дзьве-ры*: (3): УрП, 52; Ч, 320; ЧЧШ. М. *дзьверах* (2): ВБЛ, 81; Т, 32.

**[ДЗВЕСЦЕ]** *ліч. кольк.* Лік 200. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўніком С. Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў рознага зьместу рукапісаў.* ВСп, 91.

Р. *двухсот*: ВСп, 91.

**ДЗЕ[1]** *прысл.* (106) **1.** *пытальнае.* У якім месцы? [Янка]: *Дзе ж гэта гаспадар ваш малады?* Т, 19–20. [Мікіта]: *(да праходзячай з чырвоным сцягам групы грамадзян і грамадзянак). Мо, шаноўныя мадам і мусьі, патрабуеце купіць марак? (Мацаецца па кішэнях). Дзе ж яны?* Там жа, 43. // У пытальна-клічных

сказах, якія выражаюць жаль, здзіўленне ў сувязі з адсутнасцю чаго-н. *Брат, паэт! І ты тут-як быллё, ў ланцугох... Дзе свабодны твой дух, што ня рвеш ты кайданы.* БН, 92. – *Іначай! Іначай! – перадражніў мяне рэдактар. – А дзе пісьменскі нюх?!* Ан, 19. ВБЛ, 81, 83; Т, 32; Тж, 16; ЧС, 50–51.

**2.** *месца.* У якім месцы. *Трэба спадзявацца, што гэтыя прафэсары дадуць нам* [беларусам] *агульна даступную сельскагаспадарчую літаратуру для беларускага селяніна, бо не пабяжыць жа ён пытацца кожны раз у Інстытут, як, што і дзе лепей сеяць, як гадаваць жывёлу і г. д.* ВСп, 90. [Янка]: *Нам* [беларусам] *і без мора, пане вучоны, хапае дзе тапіцца, як павее пошасцяй праз усходнія ці заходнія "акошкі".* Т, 47. // з часціцай "во". У гэтым месцы, тут. [Мікіта]: *...старыя* [дакументы] *во дзе – у гэтых портфэльчыках. (Паказвае на прынесеныя к таму часу Ганулям партфелі).* Т, 60. *Параўн.* где ў 1 *знач.* ВН; ВС; МІ, 17; НК; Т, 23, 44; Ч, 320.

**3.** *неазначальнае.* Дзе-небудзь. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, схавайце гэтыя портфэлі – можа, дзе пад комін ці куды іх падсунеце.* Т, 50.

**4.** *адноснае.* Ужываецца як злучальнае слова: а) падпарадкоўвае даданыя сказы месца, якія паказваюць на месца або напрамак дзеяння, звычайна ў адпаведнаці з адноснымі прыслоўямі "туды", "там", "тут". *А там, за Сулою, па той бок граніцы, Дзе звесілі дзюбы панура арлы, Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы У панстве фашызма, крывавай імглы.* ПБН. *Там, дзе на вялікіх абшарах Беларусі гнуўся "лапцюжнік" над "крывуляй" сахой, – важна пахаджваюць тысячы трактараў, там, дзе дымілася дапатопная лучына, зіхаціць сонечна электрычная лампа, там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі, узняліся на буйных пустырах светлыя гіганты-заводы.* ШБСЯ. // Пры пералічэнні. *Народ спраўляць памінкі будзе – Не свята светлае вясны, – За стол жалобны сядуць людзі Там, дзе крыжы, дзе курганы!* ГП, 8. // Пры апушчаным прыслоўі "туды". *Паляту я* [трактарыстка], *трактар, "Сталінец" мой слаўны, Дзе воблакі ходзяць, Плаваюць дзе плаўна.* ПТ, 207. // Там. *9 студзеня г. г. я* [Купала] *цяжка захварэў і 13-га студзеня я ўжо быў у Земскай бальніцы, дзе пралежыў да 20 сакавіка.* ЛР. *У Празе мы* [савецкія дэлегаты]... *аглядалі ваенны аэрадром, дзе нас сустрэў начальнік ваенна-паветраных сіл Чэхаславакіі генерал Файфр.* ПЧ. *Параўн.* гдзе ў 2 *знач.*

б) падпарадкоўвае даданыя азначальныя сказы, звычайна ў адпаведнасці з суадноснымі словамі "той", "такі" (па значэнню адпавядае злучальнаму слову які). *Зямлі ёй* [душы] *зацесна, Ёй трэба*

*прастору, Той высі нябеснай, Дзе царствуюць зоры.* АК. *Край, дзе жыццё я* [Нёман] *сваё пачынаю, Шмат весялей прыглядаўся на свет, Песні і казкі інакшыя баіў, Шчаце цвіло ў ім, як макавы цвет.* Н. *Параўн.* гдзе ў 2 *знач.*

в) падпарадкоўвае даданыя дапаўняльныя сказы. *Той, хто разумее, дзе жыве, хто слухае голасу жыцьця і не змагаецца з ім, ...той пойдзе за беларусамі.* ВМР. *Вы ўжо забылі, людзі здарэння, Дзе ваш прыпынак, – Вывелі ў гандаль славу, сумленне – Праўду на рынак.* Чж, 147.

А, 328(3); БрБ, 6; ВН; ВР; ВС; ГНД; ГП, 8(2); Ж (2); ЖН; З (2); ЗС, 17; КБ; Кз, 17; Н; НГд, 8(5); НДН, 18; Нз, 14; НК; ПБН; ПСД; ПСС, 231(4); ПТ, 207; ПЧ (3); СМ (2); СНБ, 340; Т, 20, 23, 26, 34, 37, 40(2), 41, 45(2), 46, 52, 60. ТП, 214(2), 215(3), 216, 217(2); Ун, 73; УрП, 46, 47, 50, 52; ХЛВ, 326(2); ЧС, 50–51; $Ш_3$; $Ш_5$; ШБСЯ (5).

◊**Дзе вокам не кінь** *гл.* вока. **Дзе трэба і не трэба** *гл.* трэба.

**ДЗЕ[2]** (5) *часц.* У спалучэнні з прыслоўямі “там”, “тут” выражае пярэчанне на чужыя словы або на ўласнае выказванне, немагчымасць чаго-н. [Янка]: *А ці вы, дзядзька, пакупкі свае зрабілі?* [Гарошка]: *Дзе там! Дарэмна толькі вытаптаў з-пад Менску.* Т, 39. [Янка]: *А я спачатку меркаваў іначай. Бо дзе ж там! Ён* [Мікіта] *гэтак заўсёды хоча сябе паказаць, як бы сам губарнатар.* Там жа, 20. [Мікіта]: *А дзе ж тут таго немца зловіш, калі – па чутках – амаль не ўсе ўжо з гораду вышлі.* Там жа, 34.

**ДЗЕБРЫ** *толькі мн. Руск.* Нетры. *У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку, Як дні, так і ночы наш слаўны дазор Не зводзіць з граніцы арлінага вока, Не ўтояць шпіёна ні дзебры, ні бор.* ПБН.

Н. *дзебры*: ПБН.

**[ДЗЕВАНЬКА]** *ж. Нар.-паэт. Ласк. да* дзяўчына. *Ой, ты сіняя, ты сьцюжная зіма, Сярод лета прышла к дзеваньцы сама.* ВБЛ, 82.

Адз. Д. *дзеваньцы*: ВБЛ, 82.

**ДЗЕВЯЦЬ** (2) *ліч. Кольк.* Лік 9. *Агулам дзевяць назваў шасьцёх розных аўтараў; лік надрукаваных страніц – 1148(!).* ВСп, 89. *У кажусе і ў куртцы новай Сінявокі хлопчык кадэт Ў канаве злажыў пад Растовам За цара свае дзевяць лет.* ВБЛ, 81.

Н. *дзевяць*: ВСп, 89. В. *дзевяць*: ВБЛ, 81.

**ДЗЕВЯЦЬСОТ** *ліч. Кольк.* Лік 900. [Гарошка]: *А там – помніш* [Гануля] *– у дзевяцьсот пятым годзе пайшлі забастоўкі ды іншыя непарадкі.* Т, 44.

Н. *дзевяцьсот*: Т, 44.

**ДЗЕГЕНЕРАТ** *гл.* **ДЭГЭНЭРАТ.**

**ДЗЕД** (2) *м.* **1.** Бацькаў або матчын бацька. [Гануля]: *Гэта ж мы блізкія сваякі: твой* [Гарошкі] *дзед і мая бабка былі родныя*

*брат і сястра.* Т, 25. *Гутарка важная ходзіць па хаце, Вецер за хатаю вее і вее. З дзедам унук, побач бацька і маці Селі, гамоняць, а з імі – надзея...* ВМ, 72.

**2.** Стары чалавек. *Дзяды, унукі, ўнучкі – усе паўсталі На вечавы кліч, кліч бадзёры і вялічны, Які нам кінуў правадыр наш родны Сталін.* ПНд, 314. // *У параўн.* [Ганулля]: *Усё роўна як той дзед з бабуляй рэпку сваю цягнулі-цягнулі, ды ніяк не маглі выцягнуць.* Т, 54.

**Дзед**

◊**Як той дзед за дзедам –** неадступна. *Ой, вяду бяду, А бяда мяне Водзіць вечным следам; Гэтак ходзім мы За адным адно, Як той дзед за дзедам.* ВБ.

Адз. Н. *дзед* (6): ВБ (2); Д, 73; Т, 25, 54; ЧС, 50-51. Т. *дзедам*: ВМ, 72. Мн. Н. *дзяды*: ПНд, 314; *дзеды*: Ф. Р. *дзедаў*: Пп, 5. Д. *дзядом*: УрП, 51.

**ДЗЕДКА** *м. Памянш.-ласк. да* дзед у 1 *знач. Дзедка, такса-ма я* [унук] *здам справаздачу, Крыўды шмат маю зімою і летам...* Ун, 73.

Адз. Н. *дзедка*: Ун, 73.

**ДЗЕЙНАСЦЬ** (2) і **[ДЗЕЙНАСЬЦЬ]** (2) *ж.* **1.** Праца, занятак у якой-н. галіне. *Сапраўдная мая* [Купалы] *творчая дзейнасць пачалася толькі пасля Вялікай Катрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.* А, 328. *...я* [Купала] *рашуча і раз назаўсёды як у сваёй літаратурнай творчасьці, так і ў сваіх імкненьнях і грамадзкай дзейнасьці парываю з беларускім нацыянал-дэмакратызмам ва ўсіх яго праяўленьнях.* АЛ.

**2.** Сукупнасць дзеянняў, мерапрыемстваў якой-н. арганізацыі. *Якую ролю я* [Купала] *асабіста і мая літаратурная творчасьць адыгралі ў гэтай контррэволюцыйнай дзейнасьці беларускага нацыянал-дэмократызму?* АЛ.

**3.** Дзеянне. *Паколькі даўно ўстаноўлена, што самая ўдасканаленая спадніца без адпаведных ног не здольна да руху ці якой-небудзь іншай дзейнасці, было відавочна, што гэта фрыцы.* ПСп.

Адз. Н. *дзейнасць*: А, 328. Р. *дзейнасці*: ПСп. М. *дзейнасьці* (2): АЛ (2).

**[ДЗЕЙНЫ]** *прым.* Энергічны, актыўны. *Верце, што мы* [беларусы] *з'яўляемся дзейнымі асобамі-героямі чараўнічай песні, чудатворнай містэрыі, якую тварыць на Беларусі паклікала нас само жыццё.* ПЛП.

Мн. Т. *дзейнымі*: ПЛП.

**ДЗЕЛА** (19) і **[ДЗЕЛО]** (2) *н. Руск.* **1.** *Тое, што* справа[1] ў 1 *знач. А цяпер – ведай кожны сваё дзела: ваяка – вайну, а гаспадар – гаспадарку.* РКр. *А трэйці* [ганец] *быў і раб, і цар і слаб, і дуж*

*ва ўсякім дзеле..* Кц, 194. // *Тое, што* датычыць каго-н. – *А што такое Антанта? – пытаю яго* [рэдактара]. – *Гэта не маё дзела.* Ан, 18.

**2.** *Тое, што* справа[1] ў 2 *знач. Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцьця паднявольнымі народамі ...сягодня ператвараецца у жыцьцё, становіцца жывым дзелам, цьвёрдым фактам.* БСУ. // Учынак. *Цёмныя людзі, пазбаўленыя гонару і сумлення, п'яныя атрутай нажывы і самалюбствам, не чакаючы ні ладу, ні парадку, з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17.

**3.** Прафесія, спецыяльнасць, від дзейнасці. *Бо толькі тое государство зможа не дацца у крыўду або і перамагчы свайго праціўніка, каторае ня толькі выставіць вялікую лічбу добра абучэных ваеннаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу экономічную.* ВН.

**4.** Судовы працэс, судовае расследаванне чаго-н. *Цяперашняя ўлада павінна забараніць, як то кажуць – "да разбору дзела", цяперашнюю вакханалію з зямлёй, гэту бессістэмную куплюпрадажу.* ЗС, 18. *Не вельмі даўно у нас было следства па дзелу аб вучыцельскім саюзе.* ВД.

Δ**Дзелеса-чудзеса**: [Поп]: *Ох, дзелеса-чудзеса! Прогрэшэнія нашы неісчыслімыя.* Т, 37.

◊**Да дзела –** аб чым-н. разумным, што заслугоўвае адабрэння. [Ганупя]: *Ды яно ж так. Але сваім чынам да дзела ўсё гэта, ах, як да дзела!* Т, 53. **На дзеле** (2) – сапраўды. *На дзеле – кожны йшчэ слугой, У думках – вольные ўжо людзі; Над сэрцам іх, над іх душой Наш дух вітаці вечна будзе.* Кц, 196. *Чаму на словах нам* [беларусам] *абяцаюць ласку, прыхільнасць і дапамогу, а на дзеле – зьдзек і паняверку?* ОШМ. **Пускацца ў дзело** *гл.* пускацца.

Адз. Н. *дзела*: Ан, 18. Р. *дзела* (3): ЗС, 18; Т, 53(2). Д. *дзелу* (2): ВД; ВН. В. *дзела* (8): БЗ; БС; ЗС, 17; МПн, 219; НД; РКр (2); УР, 215; *дзело* (2): ДК (2). Т. *дзелам*: БСУ. М. *дзеле* (4): Кц, 194, 196; ОШМ; СНБ. Мн. Н. *дзелеса*: Т, 37.

**ДЗЕЛЯ** (17) і **ДЗЕЛЕ (7)** *прыназ. з* Р. Спалучэнне з прыназоўнікам "дзеля", "дзеле" выражае:

Мэтавыя адносіны (12)

**1.** Пры абазначэнні асобы або прадмета, для якіх, у інтарэсах якіх робіцца, ажыццяўляецца што-н. *Чаму ня вызнавалі імя яго* [народа] *прылюдна і выракаліся роду свайго дзеля суседзяў?* ВМР.

**2.** Пры абазначэнні мэты дзеяння. *Дзеля ясьнейшага ўразуменьня пастараемся падабраць кнігі па дадзенаму сьпісу згодна з іх зьместам.* ВСп, 89. *Дзеля чаго-ж тагды гутарка аб згодзе, аб палітычнай лучнасьці з Польшчай, калі усе робіцца на задор, на сварку, на калатню і варажнечу?* ОШМ. АБ, 16(2); СНБ, 336, 337; СНБ; Т, 30.

Прычынныя адносіны (12)

**3.** Пры ўказанні на прычыну або падставу дзеяння. [Мікіта]: *Уся бяда была ў тым, што я ўгадаў, на якую, меджду протчым, стануць пляцоўку, дзеля гэтага паслізнуўся і быў змушаны прымусова зыйсці з трыбуны.* Т, 46. *..ураднік адказаў, што ён не разумее беларускай мовы і дзеля таго просьбы прыняць ня можа і што усе просьбы павінны пісацца па-польску або па-расійску.* ОШМ. ВМР; ВС; НДН, 19; ОШМ; Т, 33, 34, 40(2), 41, 56.

◊**Дзеля ўсякага здарэння** *гл.* здарэнне.

**ДЗЕ-НІДЗЕ** і **ДЗЕ-НЕ-ДЗЕ** *прысл.* Месцамі, сям-там. *Дзе-нідзе на іх* [станцыях] *стаіць пара-другая вагонаў.* ПЧ. *Калішніе лёзунгі "За нашу і вашу волю", "вольны з вольным, роўны з роўным" пашлі ў няпамяць, а калі яшчэ дзе-не-дзе і зьвіняць яны, то толькі, як байкі для простых людзей, як абяцанкі, якім ужо ніхто ня верыць.* СНБ.

**ДЗЕНЬ** (92) *м.* **1.** Частка сутак. *Ночка ці дзень, ці марозы ці спекі, – Вечна ў ярме, ў паднявольнай рабоце. Быдлам зрабілі нас панскія здзекі, Век марнаваліся ў слезах і поце.* Д, 73. *Так хваляваўся гмін народны, Пад высяй тэй, дзе я стаяў, Дзень варажыўся быць лагодным, Вей-вецер воблакі зганяў.* УрП, 47. // Дзённае святло. *Ах, скарэй-бы дзень вечны, ці вечная цьма! Яна згубіць мяне, бессанлівая ноч.* БН, 93. *І ясны дзень будзе для ворага цёмнай ноччу.* ВГ.

**2.** Суткі. *Але ішлі дні, месяцы, годы, сталецці. Усё змянілася.* Тж, 15. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад дармовыя, меджду протчым, пайкі.* Т. 46. // Прамежак часу ў сутках або цэлыя суткі па пэўнаму роду заняткаў, дзейнасці. [Мікіта]: *Ад заўтрашняга дня займуся свабоднай профэсыяй – буду на Койданаўскай вуліцы гандляваць нямецкімі рублямі.* Т, 33.

**3.** Дакладна вызначаны тэрмін, дата, прысвечаная якой-н. падзеі, святкавання чаго-н. *Бо дарага яйцо к хрыстосаваму дню, Бліны к калядам, к сёмусе адзежка, Ды тое, што хаціна ўстала на краю.* ВБЛ, 81. *Дні 10, 11, 12 кастрычніка г. г. астануцца на вякі не зацертымі у памяці насяленьня Літоўска-Беларускай сталіцы – Вільні.* УПУВ.

**4.** Пэўны час, перыяд жыцця. *Сніць далей гэты царадвор, Калі надыдзе яму дзень, І зноў пад лёзгат царскіх шпор Свой распасцерці чорны цень.* АПЖ. *Зямельнае пытанне, каторае і дагэтуль было так запутаным у нашым краю, яшчэ больш запутываецца зямельнай спекуляцыяй у нашыя дні.* ЗС, 18. *Параўн.* дзяніна.

◊**Гэтымі днямі –** некалькі дзён таму назад, праз некалькі наступных дзён. *Вось які выпадак здарыўся гэтымі днямі ў партызанскім*

*атрадзе Сцяпана З. з Падлесся.* ПСп. **Дзень добры!** (5) – прывітальны зварот**.** **[**Янка]: *(уваходзіць з Аленкай). Дзень добры, цётачка!* Т, 53. [Аленка]: *Дзень добры, пане рэгістратар!* Там жа, 54. **Дзень і ноч, дні і ночы, днямі і ночай** – *увесь час, пастаянна, бесперапынна. Дзень і ноч працуюць дружна фабрыкі, заводы..* НК. *У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку, Як дні, так і ночы наш слаўны дазор Не зводзіць з граніцы арлінага вока, Не ўтояць шпіёна ні дзебры, ні бор.* ПБН. *Сотні лет песьцілі днямі і ночай Госьця на шыі – Змея, што с пуняў скарбы валочэ, Скарбы чужые.* Чж, 147. **Заўтрашні дзень** (2) – недалёкая будучыня. *Мімаволі родзіцца трывога перад заўтрашнім днём.* РКр. *Калісь у гэтым часе, выходзіў селянін у поле і кідаў зерне ў сьвежую ральлю, трывожачыся аб заўтрашнім дні.* ДД. **Змалку дзён; з дзён малку** (2)**; з малых дзён –** з дзяцінства. [Мікіта]: *Меджду протчым, змалку дзён мяне цягнула да свабоды і гандлю.* Т, 36. *Парабкам пану служыў я*[бацька] *з дзён малку, Розум і сілы свае абязвечыў.* Бц, 74. *Прышчэплівалім* [людзям] *з малых дзён думку, што не права пануе над сілай, а сіла над правам.* НДР, 18. **Не гадамі, а днямі –** вельмі хутка. *Але гісторыя народаў у нашы часы творыцца не гадамі, а днямі.* БСУ. **Чорны дзень** (3) – цяжкая часіна. [Мікіта]: *Буржуазія з усіх жыл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата або кусок якога маёнтку.* Т, 40. [Мікіта]: *Меджду протчым, такое ўмелае скарыстанне перамен палітычных сытуацый – надта лёгкі спосаб забяспечыць сябе на чорны дзень.* Там жа, 55.

Адз. Н. *дзень* (22): АПЖ; БН, 93; БСУ (4); ВГ; Д, 73; НК; МП (2); ПЛП; ПСС, 231; Т, 34(2), 53, 54(2), 59(2); УпР, 47; ЧС, 50–51. Р. *дня* (4): БСУ; ОШМ; СС, 301; Т, 33. Д. *дню*: ВБЛ, 81. В. *дзень* (17): Ан, 19(2); АПЖ; БСУ; ЖН; МП (2); ПБН; ПЛП (2); Т, 19, 27(2), 40, 45, 46, 55. Т. *днём* (4): ОШМ; ПД, 83; РКр; Т, 40. М. *дні*: ДД. Мн. Н. *дні* (11): Дз, 188; ДПЛС; Ж; НК; Пц; СНБ, 339; Тж, 15; УПУВ; Ф; Ч, 320, 323. Р. *дзён* (14): Бц, 74; ДЖ; НДН, 18; СС, 301(3); Т, 36, 46(2), 56; ТЗУ, 293; ТП, 217; Тр; УрП, 83. Д. *днямі* (2): Г, 17; ЖН. В. *дні* (10): В; ЗС, 18; ЛР; МП; ПБН; РКП; СНБ; СС, 302; Т, 40; УПУВ. Т. *днямі* (5): БСУ; ПСп; Ч, 320, 332; Чж, 147. М. *днях*: ДПЛС.

**[ДЗЕНЬКОВАЦЬ]** (2) *незак. Польск. Тое, што* дзякаваць. [Заходні вучоны]: *(скончыўшы пісаць). Дзенькуен пану!* Т, 47.

◊**Дзенькуен упшэйме!** – вялікі дзякуй! [Заходні вучоны]: *(скончыўшы пісаць). Дзенькуен упшэйме пану!* Т, 47.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *дзенькуен* (2): Т, 47(2).

**ДЗЕРАВА (2)** *н. Разм . Тое, што* дрэва ў 1 *знач. Мала іх* [трацкістаў] *павесіць на сухой асіне, Бо нават асіна Ад сябе адкіне.*

*Дзерава адкіне, Дзерава сухое Сябе не спаганіць Поскуддзю такою.* МПв, 218.

Адз. Н. *дзерава* (2): МПв, 218(2).

**ДЗЕРАВЯНЫ** *прым. Разм. Тое, што* драўляны. *Між такімі палямі – на намесь – пры ручаю, На ўзгорку невялікім, у бярозавым гаі, Сьвяціў шляхецкі хорам, кругом дзеравяны Ды на падмураваньні, – увесь пабяляны.* ХБ, 28.

Адз. м. Н. *дзеравяны*: ХБ, 28.

**[ДЗЕРАЎЛЯНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* драўляны. [Гарошка]: *(падаючы новую, дзераўляную, па-мастацкі зробленую лыжку). А ад мяне прымеце вось гэта...* Т, 30.

Адз. ж. В. *дзераўляную*: Т, 30.

**[ДЗЕРЦІ]** *незак. перан. Разм.* Браць за што-н. празмерную плату, назначаць высокую цану. *Цяпер другі кліч вынырнуў з балота паўстаючай рэакцыі, кліч "Дзяры, з каго можаш і сколькі можаш, душы слабейшага, пакуль яму звязаны рукі і ногі!"* ЗС, 17.

Заг. адз. 2 ас. *дзяры*: ЗС, 17.

**ДЗЕСЬ** *прысл. Разм.* Дзесьці. *...клічэ ешчэ нас сьвятая павіннасьць працаваць і за тых, што аддаюць сваё жыцьцё дзесь там далёка ці блізка.* РКр.

**ДЗЕСЯТКІ** (5) *толькі мн.* Пра вялікую колькасць каго-, чаго-н. *Як і сто лет таму назад, стогне пад ярмом Беларусь, Украіна, Арменія, Індыя і дзесяткі іншых дзяржаваў і народаў.* Тж, 16. *Мае* [Купалы] *кнігі разыходзяцца ў дзесятках і сотнях тысяч экземпляраў, песні мае спяваюцца ва ўсіх кутках вялікага Савецкага Саюза.* А, 328.

Мн. Н. *дзесяткі*: Тж, 16. В. *дзесяткі* (3): СНБ; ШБСЯ (2). М. *дзесятках*: А, 328.

**[ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ]** (2) *н.* Дзесятая гадавіна чаго-н. *І ў апошнія гады я* [Купала] *ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасьцю да вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне, прыкладам творы: пераклад "Інтэрнацыяналу",.."З угодкавых настрояў" (на дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай рэволюцыі), "На могілках ваякаў" (да дзесяцігодзьдзя БССР), "Дыктатура працы", "Працай дружнай, колектыўнай" (аб выстаўцы). і інш.* АЛ.

Адз. Р. *дзесяцігодзьдзя*: АЛ. В. *дзесяцігодзьдзе*: АЛ.

**[ДЗЕСЯЦІНА]** *ж.* Мера зямельнай плошчы (1,09 га). *І разумеіцца чым ён* [уласнік] *больш мае – напр. дзесяцін – тым болей і выплачывае.* ВН.

Мн. Р. *дзесяцін*: ВН.

**[ДЗЕСЯЦЬ]** (4) *ліч. Кольк.* Лік 10. *Бацяўская ашчадкаса дае кожнаму рабочаму дзесяць процантаў за пакладзеныя грошы*

*замест звычайных чатырох*. ПЧ. [Мікіта]: *Дам дзесяць* [рублёў]*; а толькі ратуйце, меджду протчым!* Т, 33.

В. *дзесяць* (4): ПЧ; Т, 33, 46(2).

**ДЗЕТКА** (9) *ж. Разм.* **1.** *Ласк. да* дзіця. *Сыны зямлі роднай чужыя палеткі У чужую карысьць засяюць, На родных папарах Галодные дзеткі Чужую жывёлу пасуць...* ЗК, 42. *Мелі страж гранічны вехі; Гадавала* [князёўнаў] *дзетак І чакала з іх пацехі, Як вясною с кветак.* Дз, 188.

**2.** *У знач. зваротка.* [Гануля]: *Не, дзетка. Гэтыя рэчы Мікітка мой сёлета на тавараабмен прагандляваў.* Т, 45. [Гануля]: *Добра, дзеткі, прыеду да вас на вяселле.* Там жа, 57.

Адз. Н. *дзетка:* Т, 45. Мн. Н. *дзеткі* (5): ЗК, 42; Т, 25; 49, 54, 57. Р. *дзетак* (2): Дз, 188; К. Д. *дзеткам*: ЧЧШ.

**ДЗЕЎКА** (2) *ж. Разм. Тое, што* дзяўчына. *Ах, вы грудзі мае, Двохфунтовыя! Цяпер ходзяць у нас Дзеўкі ўдовамі.* ВБЛ, 83. // *У зваротку. Адчапіся, дзеўка! Што ты ка мне* [Янку] *маеш? Бачыш, еду на пабеду, А ты замінаеш.* ЕЯП.

Адз. Н. *дзеўка*: ЕЯП. Мн. Н. *дзеўкі*: ВБЛ, 83.

**[ДЗЕЎЧЫН]** *прым.* Які належыць дзеўцы. *Дзе-ж то бачана да нашых дзён, Каб дзяўчына лезла ў рукі сама, Абы была поўнай дзеўчая машна.* ВБЛ, 83.

Адз. Н. *дзеўчая*: ВБЛ, 83.

**ДЗЕЎЧЫНКА** *гл.* **ДЗЯЎЧЫНКА.**

**ДЗЕЯ** (11) *ж.* Акт. *Дзея чацвёртая.* Т, 53. *1-я, 3-я і 4-я дзеі адбываюцца ў Мікітавай хаце, 2-я дзея – на Катэдральным пляцы.* Там жа, 19.

Адз. Н. *дзея* (6): Т, 19(3), 33, 43, 53. Р. *дзеі*: Т, 33. В. *дзею*: Т, 33. М. *дзеі* (3): Т, 43(2), 53. Мн. Н. *дзеі*: Т, 19. М. *дзеях*: Т, 19.

**[ДЗЕЯЦЦА]** *незак. Разм.* Рабіцца, адбывацца. *Усё дзеецца ў Менску.* Т, 19.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *дзеецца*: Т, 19.

**ДЗЕЯЧ** (4) *м.* Асоба, якая вызначылася ў якой-н. грамадскай дзейнасці. *Мы* [беларусы] *памятаем, як польская соймавая камісія была вельмі нездаволена, калі адзін беларускі дзеяч у размове з ёю ужыу слова окупацыя.* ОМШ. *Совецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як драматургі Гонзль, Бурыян, пісьменнікі Ольбрахт, Томан, Гора, Кубка і інш.* ПЧ.

Адз. Н. *дзеяч*: ОШМ. Р. *дзеячоў*: АЛ. Т. *дзеячамі* (2): ПЧ(2).

**ДЗЕЯЧКА** *ж. Жан. да* дзеяч. *Пэунага дня вядомая беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай, напісанай па-беларуску.* ОШМ.

Адз. Н. *дзеячка*: ОШМ.

**[ДЗЁННЫ]** *прым.* Які мае адносіны да дня. [Мікіта]: *Цяпер я, пане профэсар, маю шаснаццаць дзённых і восем вячэрніх, меджду протчым, пасадаў рэгістратара ў розных Менскіх Губэрскіх Саўхозах, Нархозах, Комхозах, Домхозах і іншых аддзелах.* Т, 46.

Мн. Р. *дзённых*: Т, 46.

**ДЗІВА** (8) *н.* Нешта незвычайнае. *Глядзяць мае вочы і вокала бачаць, Як дзіва за дзівам ідзе ў нашы хаты..* ТП, 215. *На небе зоры ўжо мігцяць, На полі срэбны сьнег іскрыцца; На бел-сьвет дзіва выпраўляць Пляцецца ночка-чараўніца.* Кц, 192.

∆**Дзіва-сіла**: *Шла мая* [княжны] *ў даль дзіва-сіла, Як-бы хвалі Нёмну; На касе сваёй насіла Княжэцку карону.* Дз, 188.

◊**Дзівам дзівіцца** *гл.* дзівіцца. **Не дзіва, што –** зусім натуральна. *Не дзіва, што многа жалю, многа смутку і жальбы было ў маіх* [Купалы] *песнях, бо незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народу.* ЖН.

Адз. Н *дзіва* (3): Дз, 188; ЖН; ТП, 215. Т. *дзівам* (2): ТП, 213, 215. Мн. В. *дзівы* (3): БрБ, 6; Кц, 192; УрП, 47.

**[ДЗІВАВАЦЦА]** (2) *незак. Разм. Тое, што* здзіўляцца ў 2 *знач. І ручыла, шанцавала Ў бітвах цяжкіх яму* [Данілу], *Ажна вораг напужаны Дзіваваўся таму.* ПСД. *Гэй, не дзівуйся, мой дружа нядбалы, Што я* [Нёман] *сягоння так злосна шумлю: Грудзі здавілі мне хмары навалай, Пошасць уелася ў матку-зямлю.* Н.

Абв. пр. адз. м. *дзіваваўся:* ПСД. Заг. адз. 2 ас. *дзівуйся:*Н.

**ДЗІВІЦЦА** (6) *незак.* **1.** Здзіўляцца. *– Дзіўлюся, як гэны камісар прыняў тваю просьбу і перапустку даў.* Ан, 19. *Заезджыя госці дзівіліся гэткаму, па-іхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі.* Кз,17.

**2.** *Разм.* Глядзець са здзіўленнем, захапленнем. *У сьвет збрылі* [дзеці] *чужы дзівіцца, Гнуць у ёрмы шыі…*Дз, 189–190. *Параўн.* дзівавацца.

◊**Дзівам дзівіцца –** вельмі здзіўляцца. *Бо хто калі думаў, што я* [беларускі народ] *жыці буду, Як птушка, як вецер над нівай квяцістай, І дзівам дзівіцца вялікаму цуду, Што вокал мяне так цуднее ўрачыста.*ТП,213.

Інф. *дзівіцца* (2): Дз, 189; ТП, 213. Абв. цяп. адз. 1 ас. *дзіўлюся*: Ан, 19. Пр. адз. м. *дзівіўся:* Дз, 189. Мн. *дзівіліся* (2): Кз, 17(2).

**[ДЗІВІЦЬ]** *незак. Разм.* Здзіўляць. *Мяне* [Купалу] *зусім не дзівіць тое жыццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына ў БССР і раз'юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызма ў Заходняй Беларусі.* ШБСЯ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *дзівіць:* ШБСЯ.

**[ДЗІВОСНЫ]** *прым.* Цудоўны, незвычайны па хараству, прыгажосці. *Нашу дзівосную Совецкую Беларусь, расквітнеўшую пасля доўгіх стагоддзяў рабства і нацыянальнага прыгнечання, трацкісцкія вырадкі хацелі ператварыць у калонію нямецкага фашызма.* ВНЗ.

Адз. ж. В. *дзівосную*: ВЗН.

**ДЗІКІ** (6) *прым.* **1.** Першабытны. *Распасьцёр свае усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю да краю, па усім нязьмераным сьвеце, і пачатку яго не найці і канца яму не дабачыць.* З.

**2.** Страшны. *Сьмейся сьмехам-сычэньнем праз скрогат Перадсьмертны зубоў і расьсейся Ў гразь жыцьця, ў пекла Дантава рогат! Каб аж косьці ўстрасаў дзікі рогат, – На пацеху сьляпой дзічы, сьмейся!* См, 90. *Гэтыя ваенныя няўдачы прывялі бальшавікоў у дзікую злосць.* СНБ, 340. // Жорсткі, зверскі, люты. *Цэлы свет ведае, што самыя крывавыя бітвы, самае дзікае знішташэнне людзей і іх дабра ў гэту вайну – было на Беларусі.* АБ, 16.

**3.** Грубы, некультурны. *Масква й Варшава аплюлі вам* [жыдам] *імя і ў дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам, А Беларусь пад крыльлямі сваімі Вас грэла й вашым нянькаю была дзецям.* Ж.

**4.** Дзіўны, незвычайны, недарэчны. [Янка]: *Вашы* [Мікіты] *дзікія – не скажу чарнасотніцкія – пераконанні і новая палітычная сітуацыя?!* Т, 36.

Адз. м. Н. *дзікі* (2): З; См, 90. ж. Р. *дзікай:* Ж. В. *дзікую:* СНБ, 340. н. Н. *дзікае:* АБ, 16. Мн. Н. *дзікія:* Т, 36.

**[ДЗІКУН]** *м. Разм.* Нелюдзімы, дзікаваты чалавек. *У гэтыя грозныя дні, калі п'яныя дзікуны па ўказцы свайго звар'яцелага бандыцкага атамана па-зверску знішчаюць усё тое, што пабудавана намі, Радзіма кліча да помсты!* РКП.

Мн. Н. *дзікуны:* РКП.

**[ДЗІПЛОМАЦІЧЭСКІ]** *прым. Руск. Тое, што* дыпламатычны. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). ..вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

Мн. Д. *дзіпломацічэскім:* Т, 26.

**[ДЗІРВАН]** *м.* Нявораная зямля. *Выходзяць на поле плугі, Ўзнімаюць плугі дзірваны. Ні пана няма, ні слугі, Не гоняць народ бізуны.* ТП, 213.

Мн. В. *дзірваны:* ТП, 213.

**ДЗІРКА** (2) *ж.* ◊**Лезла дзірка на дзірку** *гл.* лезці.

Адз. Н. *дзірка:* Ун, 73. В. *дзірку:* Ун, 73.

**[ДЗІСЕЙШЫ]** *прым. Польск.* Сягодняшні. [Заходні вучоны]: *Незмерне пану вдзенчны естэм. Мое баданя навуковэ на дзень дзісейшы сон закончэн.* Т, 27

Адз. м. В. *дзісейшы:* Т, 27.

**ДЗІЎНА** (2) *прысл. да* дзіўны ў 1 *знач. Песні яго* [Сулеймана] *ў людзі Вышлі гулка, дзіўна, – Ўдаўся ў ашуга Голас салаўіны.* ПСС. // *безас. У знач. вык. Гэтые дзьве рэволюцыі – гэтые піонэры жыцьця на зямлі на новых парадках, найболей праявілі свае добрые і благіе староны, як гэта ня дзіўна – на беларускай зямлі.* СНБ.

**ДЗІЎНЫ** (4) *прым.* **1.** Які выклікае здзіўленне; незвычайны. *Малюнак дзіўны змешчан быў у газетах, Малюнак, што ў жывых у памяці жыве.* СК, 158. *Пачуеш* [брат-беларус] *дзіўную аповесць Мінуўшай славы і жыцця, Аб чым згубіў ты ўжо даўно весць, Блукаючыся без пуцця.* БрБ, 6.

**2.** Чароўны, дзівосны. *Не каханак чорнавокіх, Што скрозь сеюць дзіўны чары, – Я – пясьняр стапоў шырокіх Краю вольнага пясьняр!* КЧ.

Адз. м. Н. *дзіўны:* КЧ. ж. Н. *дзіўная:* СНБ, 340. В. *дзіўную:* БрБ, 6. Кар. мн. В. *дзіўны:* КЧ.

**ДЗІЦЯ** (36) і **ДЗІЦЁ** (2) *н.* **1.** Малалетні хлопчык або дзяўчынка. *Нядаўна Грыцко памёр, а беднаму дзицяци прышлося исци на вулицу..* ПДз. *Шлях! ён* [Сталін] *да шчасця і радасці квеціць, Каб гора не зналі старыя і дзеці..* СС, 302.

**2.** Сын або дачка. [Гануля]: *Ён* [Мікіта] *жа маё родненькае дзіцё, ды адзін, як той васілёк у жыце.* Т, 20. // Дзіцяня ў птушак. – *Я* [груган] *дзецям нясу ў гняздо Сэрца або вока.* Пц.

**3.** Маладое пакаленне. *Я* [Купала] *падам свой голас за таго, хто даў права на радасць нам, нашым дзецям і іншым патомкам, я падам свой голас за Сталіна.* ГВУ.

**4.** *перан.* Народ. *Ты* [Беларушчына] *– як спала – ўскрасла, твае дзеці прачнуліся, Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыцьцё.* Б, 18. *Раськіданыя гібнуць па ўсім сьвеце Вы Мэсыі чакаеце яшчэ, Жыды, – Тэй Мэсыі ждуць Беларусі дзеці І з вамі пойдуць, як вы з намі, ўсе тады.* Ж.

**Прапаўшае дзіцях**

∆**Дзеці-беларусы..** *напісаў* [рэдактар] *у сваю яснавельможную газэту горка-сьлязьлівую стацьцю пад такім загалоўкам Якім парадкам прымусіць дзяцей-беларусоў вучыцца і маліцца папольску.* ЧЧШ. **Дзеці-палякі: –** *Вычытаў ён* [рэдактар] *у сваёй-жэ газэці, што ў Прусах Заходніх безбожнікі немцы вучаць дзяцей-палякоў па-нямецку..* ЧЧШ. **Княжэняты-дзеці** *гл.* княжэняты.

Адз. Н. *дзіця* (2): АПЖ; ПДз; *дзіцё:* Т, 20. Д. *дзицяци* (3): М, 20; ПМв, 219; ПДз. В. *дзіця:* Дз, 187. Т. *дзицём*: ПДз. Мн. Н. *дзеці* (10): Б, 18; БрБ, 6; ВБЛ, 81; ВР; Дз, 189, 191; Ж; СС, 302; ШБСЯ. Р. *дзяцей* (2): ВР; ПНд, 47. Д. *дзецям* (2): ВР; ГВУ; *дзяцям* (2): Ж; Пц. В. *дзяцей* (12): БВ, 16; ВР (3); ДК; ЗК, 42; РКП; Т, 33, 46 (2); ЧЧШ (2); *дзеці:* Н. Т. *дзецьмі* (2): А, 328; Г, 17.

**[ДЗІЦЯНЯТКА]** *н.:* **ΔГалінка-дзіцянятка** *гл.* галінка.

Адз. Р. *дзіцяняткі:* Вб, 237.

**ДЗІЦЯЧЫ** (4) *прым.* **1.** *Які мае адносіны да* дзіцяці ў 1 *знач. Усе дзіцячыя гады і маладосць правёў* [Купала], *бадзяючыся па Барысаўскаму і Менскаму паветах.* А, 327.

**2.** Уласцівы дзіцяці. *Ніхто гэтакіх паходаў Не чуў і не бачыў, – Гэта ў казках знойдзеш толькі, Або ў снах дзіцячых.* ЗЯЗ, 90. *Вашым* [чужых людзей] *патомкам нашае маткі Казкі складалі: Ў сэрцах дзіцячых праўдаў пачаткі Сеў засевалі.* Чж, 146.

Мн. В. *дзіцячыя:* А, 327. Р. *дзіцячых:* ШБСЯ. М. *дзіцячых* (2): ЗЯЗ, 90; Чж, 146.

**[ДЗІЧ]** *ж. Разм.* Глухое месца, глуш. *Каб аж косці ўстрасаў дзікі рогат, – На пацеху сьляпой дзічы, сьмейся!* См, 90.

Адз. Д. *дзічы*: См, 90.

**[ДЗОТ]** *м.* Умацаваны абарончы агнявы пункт. *Хутка ўсе ўбачылі, як каля нямецкага ДЗОТа капашыліся спадніцы.* ПСп. *Немцы стрымлівалі пазіцыі і вялі агонь з ДЗОТа.* Там жа.

Адз. В. *ДЗОТ* (2): ПСп (2). Р. *ДЗОТа* (2): ПСп (2). Т. *ДЗОТам:* ПСп.

**ДЗЬВЕ** *гл.* **ДВА.**

**ДЗЬВЕРЫ** *гл.* **ДЗВЕРЫ.**

**[ДЗЬМУЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Несці, гнаць струмень паветра, веяць. *– Гэй, дзьмі ў дуду, дудар!* БЗ.

**2.** *перан.* Узнікаць, з'яўляцца. *Я* [Нёман] *іх* [людзей] *не ваблю сваею ўжо красай: Вецер інакшы ім дзьме ў галаве..* Н.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *дзьме:* Н. Заг. адз. 2 ас. *дзьмі:* БЗ.

**[ДЗЮБА]** *ж.* Сківіца ў птушак. *А там, за Сулою, па той бок граніцы, Дзе звесілі дзюбы панура арлы, Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы У панстве фашызма крывавай імглы.* ПБН.

Мн. В. *дзюбы:* ПБН.

**[ДЗЮРАВЫ]** *прым. Польск.* Дзіравы. *– Хэ-хэ! – патурае яму* [пану-абшарніку] *расійскі чыноўнік, прыдыбаўшы сюды у дзюравых атопках шукаць карьеры, а сягодня вайной і рэволюцыяй загнаны у гарадзкіе безработные.* З.

Мн. М. *дзюравых:* З.

**[ДЗЯВОЦКІ]** *прым. Тое, што* дзявочы. [Наста]: *Аей, што я бачу?! Без усякае цэрамоніі нашаму дзявоцкаму стану канкурэнцыю робіце* [Мікіта]: *– як кокетка, фліртуеце з люстэркам.* Т, 24.

Адз. м. Д. *дзявоцкаму:* Т,24.

**[ДЗЯВОЧЫ]** (2) *прым.* Які мае адносіны да дзяўчыны; уласцівы ёй. *Лунай жа, саколе, У гэтых міражах,..Пакуль не растопча Жыццё крыўдай грудзі А сэрца дзявоча Не высушаць людзі.* АК. *Аба мне* [трактарыстцы] *ён* [стаханавец] *будзе Думкі думаць міла, Што з табой* [трактарам] *сядзела, Сны дзявочы сніла.* ПТ, 208. *Параўн.* дзявоцкі.

Кар. адз. н. В. *дзявоча:* АК. Мн. В. *дзявочы:* ПТ, 208.

**[ДЗЯДЗІНЕЦ]** *м.* Двор, пляц. – *Ух-ці! – выйшаў на царкоўны дзядзінец беларускі дзяк "расійскай культуры" напханы за клірасам славянскімі псальмамі Давідавымі.* З.

Адз. В. *дзядзінец:* З.

**ДЗЯДЗЬКА** (20) *м.* Дарослы мужчына; зварот да старэйшага ўзростам мужчыны. [Янка]: *Але дзядзька густа іх* [гасцей] *сваёй піпкай падкурваў.* Т, 29. [Аленка]: *Ці не час ужо, дзядзька настаўнік, пакінуць гамонку ды йсці ў заезд, а то чаго добрага, Шая замкне браму?* Там жа, 39.

Адз. Н. *дзядзька* (19): Т, 25(3), 29, 30(2), 33, 35, 36, 37, 39(3), 44(2), 48, 50(2), 54. В. *дзядзьку:* Т, 29.

**ДЗЯДЫ** (3) *толькі мн.* **1.** Продкі. [Янка]: *А надта проста стаць на свой тутэйшы грунт, на той грунт, на якім узраслі вашы* [Мікіты] *бацькі, дзяды.* Т, 48.

**2.** *Абрад.* Памінанне нябожчыкаў. *Што яна* [душа] *там вычварае З жалю і цярпення. Што нам кажэ ночкай цёмнай На мяжы ў пракляцьці, Як Дзяды у нас векапомны Стануць атпраўляці.* Дз, 192.

**На Дзяды.**

Н. *дзяды:* Т, 48. В. *Дзяды* (2): Дз, 189, 192.

**[ДЗЯЖА]** *ж.* Драўляная пасудзіна. *Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным;..а яшчэ астаўлялі ў хатах пад абрусамі бохана хлеба пшанічнага і дубовыя дзежы сотаў пчаліных – гэта каб госць меў чым з дарогі пажывіцца.* Кз, 17.

Мн. В. *дзежы:* Кз, 17.

**ДЗЯК** *м.* Псаломшчык. – *Ух-ці! – выйшаў на царкоўны дзядзінец беларускі дзяк "расійскай культуры" напханы за клірасам славянскімі псальмамі Давідавымі.* З.

Адз. Н. *дзяк:* З.

**[ДЗЯКАВАЦЬ]** (27) *незак.* Выказваць удзячнасць, падзяку. *Я* [Купала] *дзякую тав. Гікало, які заўсёды ўважліва адклікаўся на мае ўдачы і няўдачы на творчым шляху.* ЖН. *І ўсім чыста, што не забыліся на мяне* [Купалу] *у гэты жудкі час, нізка кланяюся і шчыра дзякую.* ЛР. // *Іран.* [Янка]: *Дзякую за такія дары*

*данайскія!* Т, 55. *Аграбленыя з гонару й кашулі, З свайго прыпынку выгнаныя вон, Мы* [беларусы] *дзякуем, што торбы апранулі На нас ды з нітак-валакон.* Бч, 9. *Параўн.* благодарствоваць, благодарыць, дзеньковаць.

**Дзякую партыі Леніна-Сталіна.**

◊**Пакорна дзякую!** *гл.* пакорна.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *дзякую* (23): ДПЛС (5); ЖН; ЛР (2); ПЛП (2); СЧ; Т, 19, 21(2), Т, 23, 28(2), 30(2), 35(2), 49, 55. Мн. 1 ас. *дзякуем* (4): Бч, 9; Т, 28(2), 51.

**ДЗЯКАВЫ** *прым.* Які належыць дзяку. [Мікіта]: *Усё гэта, медждy протчым, тутэйшыя людзі: адзін дзякавы сын, а другі – арганіставы.* Т, 48.

Адз. м. Н. *дзякавы:* Т, 48.

**ДЗЯКУЙ** (6) **1.** *часц.* Выражэнне падзякі; дзякую. *Але ўсё-ж такі дзякуй і за гэтыя старонкі, якія так адважна друкуе ў сябе тутэйшы "Вестнік".* ВСп, 90. *Дзякуй за годнасць паэта народнага, Дзякуй за Леніна ордэн мне радасны, Дзякуй за прэмію Сталіна роднага, Дзякуй Сталіну, сокалу яснаму!* ДПЛС, ВСп, 90; ДПЛС (2); ІП. *Параўн.* дзенькуен.

**2.** У *знач. наз. нескл., н.* Падзяка, удзячнасць. *Першым чынам нізкі паклон і дзякуй ад сэрца шлю д-ру Казубоўскаму і д-ру Маліноўскаму: першаму – за апэрацыю, дзякуючы якой я* [Купала] *амаль не з таго сьвету ўскрос, а другому за шчыра-бацькоўскі даглёд і перавязкі, якімі стараўся аблягчыць мае цяжкіе мучэньні.* ЛР.

**ДЗЯКУЮЧЫ** (12) *прыназ. з* Д. З-за, з прычыны. *А мы, беларусы, – праўда, дзякуючы гістарычным і геаграфічным варункам нашай бацькаўшчыны, – мы нічога дагэтуль не змаглі зрабіць, каб мець свае войска, якое бараніла б нашы межы ад чужой навалы.* БВ, 16. *Яго* [краю] *нівы ўраджайныя, дзякуючы вельмі добраму клімату і пры рацыянальнай гаспадарцы маглі-б карміць вялікае насяленьне.* ХБ, 29–30, АЛ; ВН; ЖН; З (3); ЛР; Нз, 14; СБНГ; Т, 51.

**ДЗЯЛІЦЬ** (6) *незак.* **1.** *Разм.* Раз'ядноўваць на часткі, захопліваць. *І дзялілі цябе* [Беларушчына], *ўсімі мерамі мерылі, Што памерла ўжо ты, – не адзін так казаў чалавек.* Б, 18. *Яны* [інтэрнацыяналісты і нацыяналісты] *дзялілі і будуць дзяліць паміж сабой пакуль сам беларускі народ не скажа свайго апошняга слова.* СНБ.

**2.** Размяжоўваць, аддзяляць. *Не стане тых меж і граніц, Што дзеляць народы сабой, Заціхнуць гарматы байніц, Не ўгнояцца нівы крывёй.* ТП, 216.

**3.** *перан.* Сумесна перажываць, зведваць якое-н. пачуццё. *Восьжэ усе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці*

*дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітвы, павінны аткінуць ат сябе усякую слабасьць душы і цела, усякую непатрэбную трывогу, ды дружна ісьці да працы на сваіх загонах, да чаго клічэ ешчэ нас сьвятая павіннасьць працаваць і за тых, што аддаюць сваё жыцьцё дзесь там далёка ці блізка.* РКр. *Ой, сяброўка з вечарынкі, Нам з табою ня дружыць, – Радасць, гора мы дзялілі, А любоў не падзяліць.* ВБЛ, 82.

Інф. *дзяліць* (2): РКр; СНБ. Абв. цяп. мн. 3 ас. *дзеляць:* ТП, 216. Пр. мн. *дзялілі* (3): Б, 18; ВБЛ, 82; СНБ.

**ДЗЯНЁК** (4) *м.* **1**. *Ласк. да* дзень у 2 *знач. Брама насьцеж у будні дзянёк, ці у сьвята, Кажаць, што госьцям рада гаспадарна хата.* ХБ, 28.

**2**. *Ласк. да* дзень у 3 *знач. Але вышаў им* [чарнасотнікам] *ды з памяци Акцябра дзянёк семнадцаты: Той вялики манифэст, – Ды што у турмах нима мест!* ВЧ.

**3.** *Ласк. да* дзень у 4 *знач. Прамінулі дзянькі Роскашы вясёлай, – Уцяклі панкі, З нашых німаў, сёлаў.* Мц, 83.

**Прамінулі дзянькі.**

Адз. Н. *дзянёк:* ВЧ. В. *дзянёк:* ХБ, 28. Мн. Н. *дзянькі* (2): Мц, 83; ПД, 83.

**[ДЗЯНІКІНЦЫ]** *мн. Тое, што* дзянікіны. *На Украіне таксама паўстала ўкраінскае войска, каторае, перайшоўшы розныя цяжкія варункі свайго бытавання, сягоння змагаецца за незалежнасць Украіны з маскоўскім наездам – з бальшавікамі і дзянікінцамі.* БВ, 16.

Мн. Т. *дзянікінцамі:* БВ, 16.

**[ДЗЯНІКІНЫ]** *мн.* Група контррэвалюцыянераў на чале з Дзянікіным. *Цяперашнія пабеды дзянікінаў, калчакоў, юдэнічаў над бальшавікамі – гэта васкрашаючы труп расійскага самаўласця.* БВ, 17. *Параўн.* дзянікінцы.

Мн. Р. *дзянікінаў:* БВ, 17.

**[ДЗЯНІНА]** *ж. Наватв. Тое, што* дзень у 4 *знач. Трэці* [сын], *смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны, Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці: Уздыхае, чакае збаўленчай дзяніны, Не дае, што ня мае, раскрасьці.* Ч, 321.

Адз. Р. *дзяніны:* Ч, 321.

**ДЗЯРЖАВА** (54) *ж.* Краіна. *А Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі.* Нз, 14. *Агністымі літарамі гэты надзвычайны дзень будзе упісан у векавечную кнігу гісторыі народаў і дзяржаваў, асабліва гісторыі Беларускага народу і Беларускай Дзяржавы.* БСУ. *Параўн.* гасударства, гасударство, краіна ў 2 *знач.*

**Незалежная дзяржава і яе народы.**

Адз. Н. *дзяржава* (5): НДН, 18, 19; Нз, 14; СБНГ (2). Р. *дзяржавы* (13): БСУ; З (2); МІ, 18; Нз, 14; ОШМ; СБНГ; СНБ, 337(2); 340; СНБ (3). В. *дзяржаву* (4): АЛ; НК; СНБ; СС, 302. Д. *дзяржаве:* АБ, 16. Т. *дзяржавай* (3): Ф; ГВУ; Нз, 14; *дзяржаваю*: НК. М. *дзяржаве* (3): ЗС, 18; НДН, 19(2). Мн. Н. *дзяржавы* (9): АБ, 16, БВ, 16(2); НДН, 18(4); СНБ; УПУВ. Р. *дзяржаваў* (13): БВ, 16(2); БСУ (2); НДН, 18(2); Нз, 14(2); СНБ, 336; СНБ (3); Тж, 16. В. *дзяржавы:* Тж, 15. Т. *дзяржавамі:* НДН, 18.

**ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ** (4) і **[ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ]** (2) *ж.* Дзяржаўны лад. *Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю – маю* [Купала] *тут на ўвазе Вялікае Літоўскае Беларускае княства.* Нз, 14. *..контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакраты спадцішка, але няўхільна, падточвалі соцыялістычныя элемэнты совецкае дзяржаўнасьці, падменьваючы іх нацыянальна-буржуазнымі.* АЛ.

Адз. Н. *дзяржаўнасць* (2): А, 328; Нз, 14. Р. *дзяржаўнасці:* АПЖ; *дзяржаўнасьці* (2): АЛ (2). В. *дзяржаўнасць:* НДН, 18.

**[ДЗЯРЖАЎНЫ]** (24) *прым.* Які мае адносіны да дзяржавы, належыць ёй. *І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.* Нз, 15. *І з часам народы патрапяць найці супольную мову, каб па суседзку дагаварыцца, паміж сабой ды наладзіць і свае граніцы і свае дзяржаўные правы на незалежнасьць.* СНБ. // Звязаны з кіраваннем дзяржавай. *Усе* [народы] *роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць і кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай бацькаўшчыны – Беларусі.* НДН, 19. // Здольны вырашаць пытанні кіравання дзяржавай. *Гэтак далей жыць ня можна, і мы* [беларусы] *верым, што польскі урад мае дзяржаўны розум і парупіцца зрабіць усё, што вымагае ад яго дзяржаўная мудрасьць, справядлівасьць і яго уласны інтарэс, і забяспечыць Беларусі яе пануючае палажэньне.* ОШМ.

Адз. м. Р. *дзяржаўнага* (3): АЛ; НДН, 19; СНБ, 336. В. *дзяржаўны:* ОШМ. Д. *дзяржаўнаму:* НДН, 18. ж. Н. *дзяржаўная* (3): Нз, 15(2); ОШМ. Р. *дзяржаўнай* (3): Нз, 15; СНБ; СНБ, 336. В. *дзяржаўную:* СНБ. Т. *дзяржаўнай* (3): НДН, 19(2); ШБСЯ; *дзяржаўнаю:* ДПЛС. М. *дзяржаўнай* (2): ГВУ; НДН, 18.н. В. *дзяржаўнае* (2): Нз, 14; УПУВ. Мн. Н. *дзяржаўные:* СНБ. В. *дзяржаўныя* (2): Тж, 16; СНБ. М. *дзяржаўных:* НДН, 19.

**ДЗЯЎЧАТЫ** *гл.* **ДЗЯЎЧЫНА.**

**ДЗЯЎЧЫНА** (20) *ж.* Паўналетняя незамужняя маладая жанчына. *Едзе Янка ў поле, Едзе ваяваці, А дзяўчына, як маліна, Выйшла праваджаці.* ЕЯП. *Не будзе, не будзе тады Вайны, калатні між людзей; Дзяўчына, юнак малады Не зложаць без часу касцей.* ТП, 216. *Параўн.* дзеўка.

Адз. Н. *дзяўчына* (14): ВБЛ, 83; ЕЯП (4); Мц, 74. ПСД; ПТ, 207(2); СК, 158; Т, 19(2); ТП, 216; ЧС, 50–51. Р. *дзяўчыны:* ПЧ. Д. *дзяўчыне:* ПСД. Мн. Н. *дзяўчаты* (3): ВВ, 263; УП; НДп, 229. Р. *дзяўчат:* УрП, 50.

**ДЗЯЎЧЫНКА** (5) і **ДЗЕЎЧЫНКА** (6) *ж.* **1.** Дзіця або падлетак жаночага полу. *Да багатай пани и афицэра, каторые тольки што вышли с карэты, падашла дзеўчынка – убогая и працягнула да их руку, каб падарыли.* ПДз. *У гэтай страшнай калачэчы дзеўчынка згубилася и папала пад хунхузоў.* Там жа.

**2.** *Ласк. да* дзяўчына . *Падыдзі, дзяўчынка, – Ці-ж мяне ня знаеш? Бачыш, еду я з пабеды, А ты ані дбаеш.* ЕЯП.

∆**Дзяўчынка-краса:** *А што тут? Разам тут і дзяўчынка-краса…*БН, 92.

Адз. Н. *дзяўчынка* (4): БН, 92; ЕЯП; ПДз; СС, 301; *дзеўчынка* (2): ПДз (2). Р. *дзяўчынкі:* Вб, 236; *дзеўчынкі:* ПДз. В. *дзеўчынку* (3): ПДз (3).

**ДЗЯЦЕЛІНА** *ж.* Дзікая канюшына. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні.. Да ніў родных, калосьсем ярка маляваных, гдзе грэчка бяленька. Гдзе дзяцеліна гарыць, вось красна паненка.* ХБ, 28.

Адз. Н. *дзяцеліна:* ХБ, 28.

**[ДЗЯЦІНА]** *м. Разм.* Рослы, здаровы хлопец. *І сярэдні, і малодшы, Родные дзяціны, Як мая – пашлі к салодшай Ласцэ без прычыны.* Дз, 189.

Мн. Н. *дзяціны:* Дз, 189.

**[ДЗЯЦІНСТВА]** *н.* Дзіцячы ўзрост, дзіцячыя гады. *Але больш за ўсё, я* [Купала] *думаю, зрабілі на мяне ўплыў беларускія народныя казкі, чутыя мною ў дзяцінстве.* ПС.

Адз. М. *дзяцінстве:* ПС.

**ДЗЯЦЮК** (10) *м. Разм.* Юнак, хлопец. *Будзь здаровы, бацька, маці, – Мы пайшлі ўжо ваяваці. Сьвішча куля, пяй-ха-ха! Каля вуха дзяцюка.* БЗ. *Дэспатычная Расія царскага ўрада адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу, для павялічэння магутнасці маскоўскага самадзяржаўнага цара.* БВ, 16.

Адз. Н. *дзяцюк:* Т, 44. Р. *дзецюка* (5): БЗ (5); *дзяцюка*: БЗ. Мн. Р. *дзяцюкоў:* УрП, 50. В. *дзецюкоў* (2): БВ, 16; ВБЛ, 82.

**ДЛЯ** (143) *прыназ.* з Р. Спалучэнне з прыназ. “для” выражае:

Аб’ектныя адносіны (108)

**1.** Пры абазначэнні асобы, для якой што-н. робіцца, прызначаецца. *Пройдуць годы, падрастуць сыны і унукі нашы і спытаюць тады нас: "Што зрабілі вы у той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?"* БС. [Мікіта]: *А гэта зроблена спэцыяльна для маіх, меджду протчым, найславутнейшых гасцей: хацеў прыняць іх, як і калісь прымаў розных дастойных асоб.* Т, 25.

**2.** Пры абазначэнні асобы ці прадмета, у дачыненні да якой мае значэнне, сілу тая ці іншая з ‘ява. *Што мы* [беларусы] *сваім стараньнем зробім – тое толькі будзе мець для нас вагу і цану.* ВС. [Мікіта]: *Для нас адно важна: каб тавар куплялі, каб тавар не залежваўся.* Т, 34.

**3.** Пры абазначэнні неадпаведнасці якой-н. з’явы, падзеі. *Назіральнік сядзеў на кашлатай яліне і вымаўляў незвычайныя для баявой абстаноўкі словы:* ПСп. [Янка]: *О, не! Гэта свабодная профэсія не для вашага рэгістратарскага светагляду.* Т, 36. АЛ (2); БВ, 16; БС (6); БСУ (5); ВБЛ, 82; ВГ; ВМР; ВН; ВР (5); ВСп, 89; Г, 16; ДД (3); Дз, 188; ЖН (2); З; ЗС, 17, 18(5); К; МПв, 220; НДН, 18(2); Нз, 14(2); НК (2); НКУС; ПЛП (4); ПЧ (2); СБ; СНБ, 337; СНБ (4); СС, 301; СС, 303; СЧ; Т, 23, 29, 30, 32, 35, 36(3), 38(3), 41, 45, 48(2), 49, 50, 51, 52; 53, 55, 56, 62(2); Тж, 15, 16; ТП, 215, 217; УПУВ; ХЛВ, 315; ЦСБ; $Ш_4$.

Мэтавыя адносіны (34)

**4.** Указвае на мэту дзеяння. *Купляюць усе тыя, каму гэта зямля патрэбна толькі для эксплуатацыі яе чужой працай.* ЗС, 18. *Сеюць* [сяляне] *пераважна хмель і ячмень для вырабу славутага пільзенскага піва.* ПЧ. // Паказвае на прызначэнне прадмета. *Кніг для чытаньня у школе дзьве – Лёсіка і Некрашэвіча..* ВСп, 89. *Гэта – старасьвецкай будовы вульлі для пчол.* ХБ, 30. АЛ (2); Ан, 19(2); БВ, 16; ВСп, 89(2), 90; ДД; З; МІ, 17; МП (2); Нз, 14(2); ПЧ (2); СНБ; СС, 300, 301; СЧ; Т, 24, 31, 34, 35, 36, 38, 39(2), 45, 46, 49, 52. Тж, 15.

Прычынныя адносіны

**5.** Характарызуе прычыну, падставу якога-н. дзеяння; адпавядае прыназоўніку з-за. [Янка]: *Для вашага* [Мікіты] *гонару падавай вам мацярынскі язык цароў, Мураўёвых-вешацеляў, Распуцінаў, Азэфаў і ўсея кампаніі падобных ім, а на свой, папраўдзе для вас родны, як вы кажаце, язык, вам напляваць.* Т, 49.

**ДНЁМ** (7) *прысл.* Удзень, у дзённы час. *Днём ваюем, ночкай дрэмлем, А што блізка вораг – кемім.* БЗ. *Як там русалкі – твае дзеці – Днём аддыхаюць у жальбе, Каб ночкай, блудзячы па свеце, Шукаці долі для цябе* [беларуса]. БрБ, 6. Мц, 75; СА, 180.

◊**Днём і ночай** (2) – заўсёды, увесь час, бесперапынна. *Чалавек ён* [Молатаў] *гаспадарны Скажам смела ў вочы, Аб рэспубліках савецкіх Дбае днём і ночай.* НК. *З самалётам днём і ночай Мігаціцца* [камсамолец] *ў безграніччы..* СА, 180. **Ні днём ні ўначы** – *ні ў які час, ніколі. Таксама я* [Купала] *яму* [Пасляку] *не даваў спакою ні днём ні ўначы.* ПС.

**ДНО** (7) *н.* **1.** Ніжняя частка якога-н. паглыблення на паверхні зямлі. *Здань за зданьню паўзе; кожна здань – як зьмяя, Тая прэцца уверх, тая цісьнецца к дну.* БН, 92.

**2.** Ніжняя частка якой-н. пасудзіны. *І чэрпае* [бежанец], *пакуль не гляне дно, І ўсё ня можа смагі адалеці.* ВБЛ, 80.

◊**Да дна** (2) – поўнасцю, да канца. *Бярэ* [Князь] *коўш соладка віна, Пье за дружыну маладую, І княжа с князем пье да дня; Князь рэч вядзе да ўсіх такую.* Кц, 193. *Годзе заходняй ці ўсходняй культуры! Для беларуса цана ім адна, Усе вы, панове, аднакай натуры: З сэрца чужога кроў ссалі-б да дна.* Г, 16. **Пайсці на дно** *гл.* пайсці. **Скрозь дна праваліцца** *гл.* праваліцца.

Адз. Н. *дно:* ВБЛ, 80. Р. *дна* (4): Г, 16; Кц, 193; Т, 33, 61. Д. *дну:* БН, 92. В. *дно:* ВБЛ, 80.

**[ДНЯВАНЬНЕ]** *н. Разм.* Адпачынак днём. *Калі ў Гішпаніі ўзбунтаваны людзі З сваёй краіны выгналі вас* [Жыдоў] *напасьмех, На беларускім полі вашы грудзі Навек знайшлі дняваньне, страву і начлег.* Ж.

Адз. В. *дняваньне:* Ж.

**[ДНЯВАЦЬ]** (2) *незак.* ◊**Дняваць і начаваць** (дняваць, начаваць) – праводзіць дзе-н. увесь час, многа часу. *Ці там, дзе на скалах вольнага Каўказа Днююць і начуюць арлы на свабодзе, Ці там, дзе з пургою, з завірухай разам Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць – Песня чутна ўсюды Ў бязмежным прасторы.* ПСС, 231. *Я ведаю, знаю старонку такую, Спавітую ў вечны туман, Пад цёмнымі зорамі днюе, начуе, Ляжыць на кургане курган.* ЗК, 42.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *днюе:* ЗК, 42. Мн. 3 ас. *днююць:* ПСС, 231.

**ДО**[1] *прыназ з Р. Польск. Тое, што* да ў 2 *знач.* [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім). О розшэжэню своіх граніц од можа не мажон і мажыць собе не жычон, поневаж, як самі твердзон, маён гдзе топіць сень і бэз можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Т, 47. [Мікіта]: *Ідзь пан до сту д'яблув за Буг.* Там жа, 49.

**ДО**[2] *прыстаўка. Польск.* [Спічыні]: *Паложым, пры чым тут мая навука, калі вы* [Мікіта] *самі пераблуталі "до" з "роз'ам".* Т, 61.

**[ДОБЛЕСНЫ]** (2) *прым.* Адважны, мужны, геройскі. *Гордасцю напоўнілася маё* [Купалы] *сэрца, калі я даведаўся, што байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёка-ўсходняга фронта далі*

*сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям. І каторы ўжо раз.* ВГ. *Беларускі народ не першы год ведае доблеснага сталінца, вернага сына нашай партыі т. Ежова.* НКУС.

Адз. м. Р. *доблеснага* (2): ВГ; НКУС.

**ДОБРА** (33) *прысл.* **1.** *Прысл. да* добры ў 4 *знач. Бо толькі тое государство зможэ не дацца у крыўду або і перамагчы свайго праціўніка, каторае ня толькі выставіць вялікую лічбу добра абучэных ваеннаму дзелу салдат, але калі яно побач з гэтым мае за сабою сілу экономічную.* ВН. *Большасць* [драматургаў] *добра ведае рускую мову, надзвычай цікавяцца яны і любяць совецкую літаратуру.* ПЧ. // *Іран. Усё гэта хораша, дэмократычна і добра, – асабліва, калі расказаць людзям.* ДК. // Паспяхова. *Здавалася, што ўсё пойдзе добра. Але вышло ня тое.* СНБ. [Пан]: *Надта ўсё добра складаецца для вас, пане рэгістратар.* Т, 52. // Дакладна, ясна, толкам. *Ну, адным словам, кожны нешта кажа, а ніхто аб гэтым добра не ведае.* Ан, 18. // Як след, належным чынам. *Кали гэта ўсё чыста перачытаў, добра ў сваих думках раскалупай, каб ня зьбиўся, што да чаго и к чаму; людзей слухай и свой розум мей!* СП.

**2.** Надоўга, назаўсёды. *Добра запомніў я* [бацька] *панскую палку, Панскі бізун, што крывавіў мне плечы.* Бц, 74.

**3.** *безас. У знач вык.* Пра спрыяльную абстаноўку, прыемнае акружэнне. *Добра, таварышы, жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна!* ДЖ.

**4.** *безас. У знач. вык., са злучн. "што", "калі".* Шчасце, якраз дарэчы. [Гарошка]: *(уваходзіць з пугай, пыхкаючы люльку). Во добра, што застаў вас* [Мікіту]! Т, 36–37. [Ануля]: *Добра ж, калі хто са знаёмых не бачыў, а йначай пойдзе чутка, што і мой сын у грабежнікі ўпісаўся – а яшчэ чыноўнік, скажуць!* Там жа, 57.

**5.** *У знач. сцвярджальнай часц.* Абазначае: ладна, згодзен, хай будзе так. – *Так і так, кажу, – пане рэдактар,..дык вось патрабую пільна зарабіць якую дытку. – Добра, – кажа рэдактар. А пісаць умееш?* Ан, 18. [Гануля]: *Добра дзеткі, прыеду да вас на вяселле.* Т, 57. // Ужываецца для выражэння адабрэння, пахвалы. [Спічыні]: *Як будзе: згінь ты прападзі, нячыстая сіла?* [Мікіта]: *Ідзь пан до сту д'яблув за Буг.* [Спічыні]: *Вельмі добра, дужа добра! А цяпер, як будзе: не лезь, бо дастанеш поўху?* [Мікіта]: *Нех се пан не наставя, бо достанеш по пыску і ўтонеш в Немідзэ.* [Спічыні]: *Віншую, віншую! Зусім добра.* Т, 49.

**Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна.**

Ан, 18; АЛ (2); Г, 17(2); ДЖ; ЗС, 17; НДН, 18; ПСД; СНБ, 340; Т; 23, 26, 31(2), 41, 45, 49.

**[ДОБРАБЫТ]** *гл.* **ДАБРАБЫТ.**

**ДОБРЫ** (51) *прым.* **1.** Чулы да людзей; спагадлівы, сардэчны. [Гарошка]: *Гэты настаўнік добры і дужа разумны чалавек, але трохі галава яго нечым заведзена.* Т, 44. *Канстытуцыі векпомнай Слова залатое Напісаў* [Сталін] *нам. Добрым сэрцам, Дбалаю рукою.* НК. // Які выражае чуласць, спагадлівасць. *Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.* ТП, 213. // Ужываецца як сталы эпітэт пры слове “людзі”. *Гляньце-ж бо, добрые людзі, як на Беларусі усё добра, хораша і дэмакратычна!* ДК. *Дасяг ён* [маскоўскі урад] *ня шмат: пару сотак “інтэлігэнтау”, з каторых сьмяюцца і Бог і добрые людзі.* Там жа. // *Іран.* Пра палякаў і расійцаў..*сам народ робіць усё так, як яму жадаецца, як ён падабае. І ніхто яму не перашкаджае. Такіе пашлі добрые людзі!* ДК. *Розьнімся мы* [соцыял-дэмакраты] *ад іншых добрых людзей толькі тым, што мы беларусы.* Там жа.

**2.** Добразычлівы. *..цябе, моладзь, у вяках будуць успамінаць добрым і чулым словам.* ЖН. *Не магу так сама ня ўспомніць добрым словам д-ра Малькевіча, які на кватэры аказаў мне* [Купалу] *першую помач, а такжа праф. Іваноўскага, Б. Тарашкевіча, Ясінскага, Ерохава і інш., што сваімі рукамі на насілках занесьлі мяне з кватэры аж у бальніцу.* ЛР.

**3.** Удалы, радасны. – *Ага!* – *рэдактар на тое.* – *Гэта добры знак.* Ан, 18. *Засвяціла ясна зорка Добраю навінай Над Заходняй Беларусяй І над Украінай.* ЗЯЗ, 89.

**4.** Такі, якім павінен быць; з дадатнымі якасцямі, уласцівасцямі. *Як водзіцца пры добрым дэмократычным парадку, пускаюцца у дзело агітатары, каторые стараюцца давесьці бацьком, што самая лепшая школа есьць тая, каторую ён, агітатар, расхвальвае.* ДК. [Дама]: *Я заўважыла адразу, што вы* [Мікіта] *прайшлі добрую адукацыю.* Т, 29. // Станоўчы. *Гэтые дзьве рэволюцыі – гэтые піонэры жыцьця на зямлі на новых парадках, найболей праявілі свае добрые і благіе староны, як гэта ня дзіўна – на беларускай зямлі.* СНБ. // Спрыяльны. *Яго* [краю] *нівы ўраджайныя, дзякуючы вельмі добраму клімату і пры рацыянальнай гаспадарцы маглі-б карміць вялікае насяленьне.* ХБ, 29–30.

**5.** Важны, карысны, патрэбны. *Добры ўклад у беларускую школьную літаратуру зрабіла і кніга праф. Янчука “Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры”.* ВСп, 89. [Начальнік]: *Гэтыя пісталеты, награбленая гарэлка, патака, цяганне чужых рэчаў, служба даношчыкам, усё гэта таксама для нас добрыя паперы, хоць для вас* [Мікіты], *можа, і дрэнные паперы.* Т, 62.

**6.** Выгадны. [Мікіта]: *Вы, меджду протчым, мамаша, прышпільвайце чым-небудзь адвіснутыя матузы ад шпалераў,*

*а я адкулю на добры бок абразы.* Т, 50.

**7.** *Іран.* Пахвальны. [Мікіта]: *Гэта…гэта не гарэлка, а меджду протчым, лікер пазнанскі, ваша таварыскасць. На гандаль купіў, на свабодны гандаль, меджду протчым.* [Начальнік]: *Добры гандаль!* Т, 60. [Мікіта]: *Меджду протчым…меджду протчым, так сабе ўзятая* [патака] *з агульнадаступных грамадзянскіх складаў, зусім так сабе.* [Начальнік]: *Добрае так сабе…Вашы дакумэнты!* Там жа.

**8.** Здольны, дбайны. [Янка]: *А шкада, вельмі шкада! Лепей быць добрым пастухом, чымся недапечаным рэгістратарам ці аратарам.* Т, 36. *Тут рада адна:..трэба ухіліць і паляка і расійца і паадчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі, загадаўшы ім, прышчапляць вучням любасьць да роднага краю, разьвіваць у іх пашану да таго народу, сярод каторага яны жывуць, і гатаваць з іх добрых сумленных і працавітых работнікаў на ніве беларускай культуры.* ДК.

**9.** Чысты, слаўны, не зганьбаваны. *І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.* Нз, 15. *Такая пастаноўка гэтай справы часта адбіваецца на добрым імі беларускага народу і ня разставіць публіку у прыкрае палажэнне, як і было гэта ня вельмі даўно.* СБНГ.

**10.** *У знач. наз. – Хі-хі! – паблажліва ён* [пан-абшарнік] *хлопае вам па плячу: Што-ж ваша беларускае усе добрае, усё нават шаную, але толькі месцо яму – у…"kredensie".* З.

◊**Вынырнуць на добрую дарогу** *гл.* вынырнуць. **Дзень добры!** *гл.* дзень. **Добры вечар!** *гл.* вечар. **Як прыстала на добры лад і парадак** *гл.* лад. **Па добрай волі** *гл.* воля. **Успомніць добрым словам** *гл.* успомніць. **Чаго добрага** (2). (*у знач. пабочн.)* – бадай, магчыма (пры чаканні чаго-н. непрыемнага). [Аленка]: *Ці не час ужо, дзядзька настаўнік, пакінуць гамонку ды йсці ў заезд, а то, чаго добрага, Шая замкне браму?* Т, 39. [Мікіта]: *Ідзіце адчынеце дзверы і крыху прытрымайце яго* [немца], *пакуль я пераадзенуся, бо, чаго добрага, прышоў на работу хапаць.* Там жа, 32.

Адз. м. Н. *добры* (11): Ан, 18; Т, 23, 41(2), 44, 53, 54(2), 59(2), 60. Р. *добрага:* З. Д. *добраму:* ХБ, 30. В. *добры* (4): ВСп, 89; ЗС, 18; СНБ, 339; Т, 50. Т. *добрым* (2): ВБЛ, 82; Т, 36. М. *добрым* (2): ВС; ДК. ж. Р. *добрай:* СА, 182. В. *добрую* (5): Ан, 19; Кз, 17; ЛР; Нз, 15; Т, 29. Т. *добраю* (2): ЗЯЗ, 89, 90. М. *добрай:* ГЖУ. н. Н. *добрае* (3): З; РКр; Т, 60. Р. *добрага* (2): Т, 32, 39. В. *добрае:* СЧ. Т. *добрым* (4): ЖН; ЛР (2); НК. М. *добрым:* СБНГ. Мн. Н. *добрые* (4): ДК (3); РКр; *добрыя* (2): Т, 54; 62. Р. *добрых* (2): ДК; ТП, 213. В. *добрые:* СНБ. М. *добрых:* ДК.

**[ДОВАД]** (2) *м.* Думка, меркаванне пра што-н.; доказ. [Мікіта]: *Ад большага чаго я не паспеў, бо, медждy протчым, апошні час заняты быў эвакуацыйнымі справамі, довадам чаго служаць вось гэтыя запакаваныя рэчы.* Т, 55. [Дама]: *(да Мікіты). А вы, мусье рэгістратар, калі прыняць пад увагу довады мусье беларуса, то пэўна заставацца тут не будзеце і нашым шляхам пойдзеце?* Там жа, 37.

Адз. Т. *довадам:* Т, 55. Мн. В. *довады:* Т, 37.

**[ДОЖДЖ]** *м.* Атмасферныя ападкі ў выглядзе капель вады. *Верасень – мой* [С. Меча] *любімы месяц, але ў нас* [у Расеі] *звычайна псуюць яго дажджы, што ліюцца цэлыя тыдні, вецер і сьцюжа.* ХБ, 29.

Мн. Н. *дажджы:* ХБ, 29.

**ДОЖДЖЫК** *м. Разм. Памянш. да* дождж. *Сьпім* [ваякі] *на узьмежку пад ігрушай, Дожджык моча, сонца суша. Сьвішча куля....* БЗ.

Адз. Н. *дожджык:* БЗ.

**[ДОЗА]** *ж. перан.* Прымесь. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ў нататкі, голасна). Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральскей.* Т, 26.

Адз.Т. *дозон:* Т, 26.

**[ДОЙНЫ]** *прым:* ◊**Дойная каза** *гл.* каза.

Адз. ж. Н.*дойная:* Т, 46.

**[ДОКАЗ]** *м.* Довад, факт, які з’яўляецца падставай для чаго-н. *Гэта з’яўляецца новым доказам мудрай нацыянальнай палітыкі, якая праводзіцца комуністычнай партыяй на чале са слаўным правадыром т. Сталіным.* ЦСБ.

Адз. Т. *доказам:* ЦСБ.

**[ДОКТАР]** (5) *м.* Урач, лекар. [ Аленка]: *А цяпер я хачу вучыцца на курсістку, потым на доктара...*Т, 30. *Камісія пачала ў нас у Менску рэгістрацыю беларусаў-афіцэраў, дактароў і інш. з тэй прычыны, што ў хуткім часе мае фармавацца беларуская армія.* БВ, 16.

Адз. Д. *д<октар>у* (2): ЛР (2). В. *доктара:* Т, 30; *д<октар>а:* ЛР. Мн. Р. *дактароў:* БВ, 16.

**ДОЛ** (5) *м.* **1.** Падлога ў памяшканні. *Шпалеры павыдзіраны і кускамі звісаюць к долу.* Т, 43.

**2.** Даліна, нізіна. *Скалы і долы над Фінскай затокай, Прыстані, выспы Балтыцкага мора Вораг заморскі пражорлівым вокам Больш не пасмее трымаць у пакоры.* Ф. *Воля і доля над доламі, горамі Госціць у нас цудатворнаю казкаю.* ДПЛС.

**3.** Магільная яма. *Дубовай кованай лапатай Глыбокі выкапалі дол, Злажылі брата ці ня брата Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.* УрП, 52.

Адз. Н. *дол:* ВБЛ, 82. Д. *долу:* Т,43. В.*дол:* УрП, 52. Мн. В. *долы:* Ф.Т. *доламі:* ДПЛС.

**ДОЛЕЧКА** *ж. Вобразн.-ласк. да* доля ў 2 *знач*. [Гануля]: *А мае ж вы* [Янка, Аленка] *міленькія! Пашлі вам долечка ўсяго найшчаслівейшага.* Т, 53.

Адз. Н. *долечка*: Т, 53.

**ДОЛЖЭН** і **[ ДОЎЖАН]** *прым. Руск., разм. У знач. вык.* Павінен. [Поп]: *Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх, я только провожаю сірых сіл, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.* Т, 38. *Калі тыя, што нас* [беларусаў] *аграбілі, што нашы загоны зрылі на акопы-магілы, не ідуць к нам з дапамогай каб сплаціць хоць частку таго доўгу, які яны должны Беларусі, то павінны мы самі за гэта ўзяцца, і ўзяцца як найхтчэй.* АБ, 16.

Адз. м. Н. *должэн:* Т, 38. Мн. Н. *доўжны:* АБ, 16.

**ДОЛЯ** (53) *ж.* **1.** Належны ўклад. *..і калі мае* [Купалы] *вершы зараз сугучны нашаму вялікаму часу, калі яны ўносяць сваю долю ў крэпасць дружбы народаў, – дазвольце мне радавацца разам з вамі гэтай дружбе вялікай радасцю паэта.* ЖН.

**2.** Лёс, становішча. *Умiралі, будуць уміраць людзі, – Такая ўжо доля, доля чалавека..* ПСС, 231. *Беларуская доля такая ўжо, што і гаварыць ня варта.* ДД.// Шчасце, удача. *Не аб снах, у якіх сніцца Доля, шчасце людзям, Не аб казках, дзе цудоўна Цуд ідзе на цудзе, – Мая* [Купалы] *песня сёння будзе Радасцямі ройнай – Аб любімых кандыдатах У Совет Вярхоўны.* НК. Усё, што чахне. *не меў долі ў чым, Чорнай п'яўкай слізгоча ў душы…Аб жыцці беспраглядным сваім Развежаю я ў гэтай цішы.* ЧС, 50–51.

∆**Доля-нядоля:** *Тры паказываў ім* [сынам] *ён* [чараўнік] *на сьвеце дарогі, Тры пуціны іх долі-нядолі, І даваў-насылаў ён сыном асьцярогі: Што чакае у чыстым іх полі.* Ч, 319.

Адз. Н. *доля* (18): АК; БЗ; ВС; ДД; ДПЛС; Кр, 77; Мц, 75(2); НК; ПДз; ПЛП; Пп, 5; ПСС, 231(2); ПТ, 207; СЧ; ТП, 214. Р. *долі* (11): БрБ, 6; ВМР; ГЖУ; Дз, 187; ЖН; МПв, 218, 220; ПНд, 314(2); Ч, 319; ЧС, 50–51. Д. *долі* (2): Дз, 187; Ч, 320. В. *долю* (15): Б, 18; БрБ, 6; БСУ; ДД; ЖН; ПЛП (2); РКр; СС, 301(2), 302; Тж, 16(2); ТП, 217; ТС, 74. Т. *доляй* (2): ЗЯЗ, 90; ССА, 294. М. *долі* (3): ПБН; СНБ; Ч, 320. Мн. В. *долі* (2): КП, 170; ПНд, 46.

**ДОМ** (19) *м.* **1.** Будынак для жылля. *Дом жылы невялікі, чысты – напрыглядку.* ХБ, 28. *У час ляоянской битвы афицэр камандаваў ротаю и жыў з жонкаю ў китайским доме (*фаизе). ПДз.

**2.** *перан.* Родныя мясціны, родны край. *Як чуму, ясным днём Выгналі прыблудаў, Свой ачысцілі дом Ад варшаўскіх брудаў.* ПД, 83. *Хто пакінуў свой дом на пасьмешышча нетрам, Дом чужы таму будзе астрогам..* Ч, 323.

**3.** Назва дзяржаўнай, грамадскай, культурнай установы. *У Празе мы* [савецкія дэлегаты] *наведалі "дабрачынны камбінат" імя Масарыка, дом спартыўнай чэшскай арганізацыі "Сокал".* ПЧ. *У Доме Чырвонай Арміі мы нібы ўбачылі разумны, культурны твар камандзіра нашай роднай Чырвонай Арміі.* ПГ.

◊**За домам** (3) – на ніве. *Не спыняймо працы дома і за домам, якая ішла да вайны, і якая павінна далей ісьці. Цяперака час жытняй сяўбы. Дык жыва за плуг і севалку.* РКр. *Ўспомні,* [3-ці брат] *выклічы родныя усе загаворы І зводзь імі прыблудаў заломы, Што ляглі на твае крывасейна разоры, Што страчаеш за домам і дома.* Ч, 323.

Адз. Н. *дом* (4): ВБЛ, 82; РКП; ХБ, 28; Ч, 323. Р. *дома* (3): ПГ (3); *дому* (2): Т, 58(2). Д. *дому:* ХБ, 28. В. *дом* (3): ПД, 83; ПЧ; Ч, 323. Т. *домам* (4): Н; НГ; РКр; Ч, 323. М. *доме* (2): ПГ; ПДз.

**ДОМА** (17) *прысл.* У сваёй хаце, кватэры. *Ну, за гэтага* [Варашылава] *дык можна, Чалавек вядомы. Галасуй ідзі, бабулька, Я* [Данілка] *пабуду дома.* Вб, 238. *..вернуцца нашы браты і сыны дамоў, можэ некаторые раненые, ня здольные да працы. Хай-жэ дома знойдуць усё ў парадку – неапушчэную хату, хлеб на стале.* РКр. // На радзіме. *Вольна ўздыхнулася, калі пераехалі мы* [совецкія людзі] *праз мяжу у СССР, адчулі сябе дома.* ПЧ. А, 328; БЗ; Вб, 236, 237; ГЖУ; Дз, 190; Н; НГ; РКр (3); Т, 28; Ч, 321, 323.

**[ДОМАШНІ]** *прым.* Сямейны. [Поп]: *Не врэмя лі подумаць нам і о ложэ в очаге домашнем.* Т, 28.

Адз. м. М. *домашнем:* Т, 28.

**[ДОМЕШКА]** *ж. Польск. Тое, што* прымесь. [Заходні вучоны]: *Мова ойчыста – огульнопольска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув.* Т, 26.

Адз. Т. *домешкон:* Т, 26.

**ДОМІК** (5) *м. Памянш. да* дом у 1 *знач. Вецер свабодны гуляе на скалах, Скалы абнялі арлы, арляняты. Домік у Горках абвеяны хваляй, Домік – не домік, бядняцкая хата. Той, хто з няволі рабочы люд вывеў, Новыя вызначыў свету скрыжамі, Той, хто народ абудзіў, ашчаслівіў, У доміку гэтым убачыў свет Сталін.* СД.

**Славуты домік.**

Адз. Н. *домік* (4): СД (4). М. *доміку:* СД.

**[ДОМХОЗ]** *м. Руск., скар.* Дамашняя гаспадарка. [Мікіта]: *Цяпер я, пане профэсар, маю шаснаццаць дзённых і восем вячэрніх, меджду протчым, пасадаў рэгістратара ў розных Менскіх Губэрскіх Саўхозах, Нархозах, Комхозах, Домхозах і іншых аддзелах, пададдзелах і напаўпададдзелах...* Т, 46.

Мн. М. *Домхозах*: Т, 46.

**ДОНЖЭНЕ** *н. Польск. Тое, што* стремленіе. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім). Еднак, спостшэга сень донжэне розшэжыць овэ граніцэ на Всхуд.* Т, 47.

Адз. Н. *донжэне:* Т, 47.

**ДОНОСІЦЕЛЬ** (3) *м. Польск. Тое, што* даношчык. [Спічыні]: *(чытае). "Оказіцель нінейшэго Нікіціуш Зносіловскі служы пшы Комісарыяце поліцыі мяста Мінска, яко доносіцель",* Т, 61. [Мікіта]: *(чытаючы). До…до…до…доносіцелем. Оей! Оей! Як гэта вышла?* Там жа.

Адз. Н. *доносіцель* (2): Т, 61(2). Т. *доносіцелем:* Т, 61.

**ДОРАГА** *прысл. да* дарагі ў 1 *знач.* [Мікіта]: *Новая ўлада гарэлку забараняе, а што забаронена, тое смачна і дорага каштуе.* Т, 58.

**[ДОСТАЦЬ]** *зак. Польск.:* ◊**Достаць по пыску –** *тое, што* дастаць поўху. [Мікіта]: *Нех сен пан не наставя, бо достанеш по пыску і утонеш в Немідзе.* Т, 49.

Абв. буд. адз. 2. ас. *достанеш:* Т, 49.

**ДОСЫЦЬ** (5) і *разм.* **ДОСІЦЬ** *прысл.* **1.** Дастаткова, даволі. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16. *Досіць ішлі на чужым павадку мы* [беларусы] *Доўгія вякі бяз веры ў сябе..* Г, 17. // Выражае загад, патрабаванне спыніць што-н. [Мікіта]: *Увесь Менск ведае, што я служыў разношчыкам, а не даношчыкам.* [Начальнік]: *Ну, досыць! Пасля разбяром.* Т, 61.

**2.** *у спалуч. з прым. або прысл.* Значна, у значнай ступені, даволі. *Паўза досыць доўгая.* Т, 52. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны.. мы* [савецкія дэлегаты] *з хваляваннем адчулі на афіцыйных прыёмах у магістратах, на спатканні з міністрам замежных спраў п. Бенешам, пра якое досыць падрабязна пісаў нам совецкі друк.* ПЧ, ВМР.

**[ДОСЬЦІГ]** *м. Польск. Тое, што* дасягненне. *Тут з гэтых кніг павінны мы адмеціць "Мэтодыку арытмэтыкі" Лукашэвіча і Валасковіча, якая ўкладзена паводле самых навейшых навуковых досьцігаў і якая павінна стаца незаменнай падручнай кніжкай кожнага настаўніка, выкладаючага ў школах пачатковую арытмэтыку.* ВСп, 89.

Мн. Р. *досьцігаў:* ВСп, 89.

**[ДОЎБНЯ]** *ж.* Даўбня. *Слабые душою і целам апускаюць рукі, і, як вол доўбні, чэкаюць нечаго негаданаго, благога, наводзючы гэтым і на іншых сум ды трывогу.* РКр.

Адз. Р. *доўбні:* РКр.

**[ДОЎГ]** (3) *м.*: ◊**Сплаціць (сплаціці) доўг** *гл.* сплаціць. **У доўг** – з умовай звароту. *Ён з начальствам знае дзела: Парасейску валіць*

*сьмела; Ліжа, выйшаўшы за вёску, Ласку панскую папольску. Нават жыду – у доўг як просе – “Гутэ-моргэн!” – буркне ў носе.* УР.

Адз. Р. *доўгу:* АБ, 16. В. *доўг* (2): Ж; УР.

**ДОЎГА** (10) *прысл. да* доўгі ў 2 *знач. Беларусь доўга ў чужыне не ўседзіць.* ЗС, 18. *Га! ты не слухаеш, бачу, ўжо болей. Ой, чалавеча, змярцвелы у сне! ..Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?.. Камень і вольха перш поймуць мяне* [Нёман]! Н. Ан, 18; НГ; ПДз; Т, 56; Х; Ч, 320.

◊**Доўга ці коратка (каротка) –** невядома колькі часу. [Ануля]: *Ці не задоўга прыдзецца чакаць на гэта?* [Аленка]: *Ды, праўду кажучы, доўга ці коратка – гэта не важна.* Т, 54. *Доўга ці коратка Ваяваў наш Янка, Ажно ў вёску ён дарожкай Прэцца, як маланка.* ЕЯП. **Казаць доўга жыці** *гл.* казаць.

**[ДОЎГАЧАКАНЫ]** *прым.* Якога доўга, з нецярпеннем чакаюць. [Мікіта]: *Якімі такімі шляхамі пазволілі сабе прыбыць сюды, меджду протчым, доўгачаканыя госці?* Т, 51.

Мн. Н. *доўгачаканыя:* Т, 51.

**ДОЎГІ** (15) і *разм.* **ДАЎГІ** *прым.* **1.** Які мае вялікую даўжыню. *..неба было ўсё сіняе бяз ніводнае плямачкі; цёплы паўднявы ветрык чуць шастаў лісьцём яблын, а даўгое белае павучыньне, каторае невядома адкуль узялося, ціхенька плыло ў паветры.* ХБ, 29. *Усходні вучоны – носіць велікарускую вопратку – “падзёўку”, ”касаваротку” і доўгія боты, барада калматая.* Т, 19.

**2.** Працяглы ў часе. *Досіць ішлі на чужым павадку мы* [беларусы] *Доўгія векі бяз веры ў сябе..* Г, 17. *Я кажу аб забабоне, каторы у нас* [на Беларусі] *толькі мог вытварыцца, дзякуючы нашай няпрыхільнай гісторыі, дзякуючы нашай доўгіе годы бездзяржаунасьці, дзякуючы нашаму паднявольнаму жыцьцю.* З.

◊**Адцяць доўгія рукі** *гл.* адцяць. **Доўгі язык** *гл.* язык. **Не адкладаючы справы у доўгі мех** *гл.* адкладаючы. **Няма на іх доўгай пугі** *гл.* няма.

Адз. м. В. *доўгі* (3): ПСД; Т, 30, 39. ж. Н. *доўгая* (2): НДН, 18; Т, 52. Р. *доўгай:* Т, 29. н. Н. *даўгое:* ХБ, 29. Мн. В. *доўгія* (4): Г, 17; СНБ, 336; Т, 19; УПУВ; *доўгіе* (3): ДК; З; УПУВ. Р. *доўгіх* (2): АЛ; ВНЗ.

**ДОЎЖАН** *гл.* **ДОЛЖЭН.**

**[ДОШКА]** *ж.* **Залатая дошка –** дошка, якая служыць для ўвекавечання памяці аб якой-н. асобе. [Мікіта]: *І наша патомства калісь занатуе, меджду протчым, нашы іменні на залатой дошцы.* Т, 49.

Адз. М. *дошцы:* Т, 49.

**[ДРАБНІЦА]** *ж.* Дробязь. [Аленка]: *(Дастае з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс і падае*

*Янку, сур'ёзна кажучы). Прымеце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы.* Т, 30.

Адз. В. *драбніцу:* Т, 30.

**[ДРАГАЦЭННЫ]** *прым. Руск.* Каштоўны. *..прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі – шоўкам, бісерам, янтаром ды драгацэннымі скарбамі.* Кз, 17.

Мн. Т. *драгацэннымі:* Кз, 17.

**[ДРАЖНІЦЬ]** *незак.* Знарок, наўмысна злаваць, раздражняць чым-н. *Чаму яны* [людзі] *з такой упартасцю дражняць народ і даводзяць яго да вар'яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасьць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разьбіраючы?* ДК.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *дражняць:* ДК.

**[ДРАМАТУРГ]** *м.* Пісьменнік, які піша драматычныя творы. *Совецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як драматургі Гонзль, Бурыян, пісьменнікі Ольбрахт, Томан, Гора, Кубка і інш.* ПЧ.

Мн. Н. *драматургі:* ПЧ.

**[ДРАМАЦЬ]** (10) *незак.* Быць у паўсонным стане, нямоцна спаць. *Дома дрэме* [трэці сын], *сціскаецца стульна, як злодзей..* Ч, 321. *Днём ваюем* [ваякі], *ночкай дрэмем, А што блізка вораг – кемім. Сьвішча куля…і г. д.* БЗ. // *перан.* Быць у стане спакою, нерухомасці. *Ліпа шуміць адзінока над хатай, Сажалка дрэме, заросшая цінай, Гул далятае здалёку гарматаў.* ВМ, 72. //*перан.* Бяздзейнічаць. [Янка]: *А душа агульнаграмадская яшчэ дрэме.* Т, 35. *На беларускае йдзеш* [Новы год] *поле, На акрываўленыя межы, Дзе закаванай дрэмле воля, Дзе звоне звон хаўтурны з вежы.* НГд, 8.

◊**Не драмаць –** дзейнічаць, праяўляць актыўнасць. *Мы* [беларусы] *павінны яе* [незалежнасці] *дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае і ворагі нашы не дрэмлюць.* Нз, 15.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *дрэмле* (4): ВСп, 91; МД; Н; НГд, 8; *дрэме* (3): ВМ, 72; Т, 35; Ч, 321. Мн. 1 ас. *дрэмем:* БЗ. 3 ас. *дрэмлюць:* Нз, 15. Пр. мн. *драмалі:* Ч, 321.

**[ДРАНІЦА]** *ж.* Дранка. *Між гор шапталіся крыніцы, Ляпіўся мох да стрэх з драніц, Тарчэлі хвойныя капліцы, Цьвілі магілкі ля капліц.* УрП, 47.

Мн. Р. *драніц:* УрП, 47.

**[ДРАПАК]** *м.:* ◊**Задаць драпака** *гл.* задаць.

Адз. Р. *драпака:* ПСп.

**[ДРАПЕЖНЫ]** *прым. перан.* Прагны, хцівы (пра чалавека). *Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць. Край свой ачысціць ад хэўры драпежнай, Ад гандляроў, п'яных славай крывавай.* Ф.

Адз. ж. Р. *драпежнай:* Ф.

**[ДРАЎЛЯНЫ]** *прым.* Зроблены з дрэва. *Сельская гаспадарка ў Чэхаславакіі вядзецца прымітыўна – аруць валамі, найчасцей каровамі. Плугі – у драўлянай аправе.* ПЧ. *Параўн.* дзеравяны, дзераўляны.

Адз. ж. М. *драўлянай:* ПЧ.

**[ДРОБНАБУРЖУАЗНЫ]** (2) *прым.* Які мае адносіны да дробнай буржуазіі, уласцівы ёй. *Але, пачаўшы з 1908 г., у часы самае чорнае рэакцыі, працаваць у "Нашай ніве", я* [Купала] *падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму..* АЛ. *Гэтае захапленьне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмократычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я* [Купала] *і ў першыя гады Кастрычнікавае рэволюцыі ня змог ад іх пазбавіцца ды ўразумець і ўсьвядоміць усю веліч і гісторычную нямінучасьць пролетарскае рэволюцыі.* Там жа.

Адз. м. Р. *дробнабуржуазнага:* АЛ. Мн. Т. *дробнабуржуазнымі:* АЛ.

**[ДРОБНЫ]** (4) *прым.* **1.** *перан.* Які займае невысокае грамадскае або службовае становішча. *Бацька мой* [Купалы] *родам з Чэрвеньшчыны, паходзіць з дробных засцянковых арандатараў, выгнаных нейкім князем з зямлі.* А, 327. *Але на гэты раз нас* [беларусаў] *цікавяць ня так самые выпадкі нарушэньня дробнымі урднікамі распараджэньняу свайго вышэйшага начальства, як гэтых выпадкау ахварбоука, або, лепш сказаць, апрауданьні.* ОШМ.

**2.** У *знач. наз.* толькі мн. Дробныя манеты. *Я прыкінуўся, што не чую, бо якраз дробных пры сабе не меў, і вылецеў гарматнай куляй з рэдакцыі.* Ан, 19.

**3.** Які рэалізуецца ў малых маштабах. *Не касавалі* [бальшавікі] *дробнага гандлю і не забаранялі прывозіць прадукты з вёскі ў места.* СНБ, 339.

Адз. м. Р. *дробнага:* СНБ, 339. Мн. Р. *дробных* (2): А, 327; Ан, 19. Т. *дробнымі:* ОШМ.

**[ДРОВЫ]** (4) *толькі мн.* Распілаваныя і паколатыя дрэвы, якія ідуць на паліва. *Да 21 года гаспадарыў* [Купала] *дома – араў, касіў, сек дровы.* А, 328. [Ануля]: *А сёлета, апрача ўсяго іншага, дык яшчэ і дровы з Ваньковічава лесу самакатам коцяць і коцяць на вяроўках.* Т, 55.

Р. *дроў* (2): Т, 45, 46. В. *дровы* (2): А, 328; Т, 55.

**ДРОГАТ** *м.* Дрыгаценне. *Сьмейся сьмехам-сычэньнем праз скрогат Перадсьмертны зубоў і расьсейся Ў гразь жыцьця, ў пекла Дантава рогат! Каб аж косьці ўстрасаў дзікі дрогат, – На пацеху сьляпой дзічы, сьмейся!* См, 90.

Адз.Н. *дрогат:* См, 90.

**[ДРОГНУЦЬ]** (4) *зак.* **1.** *перан.* Рухнуць, знікнуць. *Здавалася, ноч не пяройдзе, Іржа ня згрызе вечных путаў, – Аж блісnуў пажар на усходзе, І дрогнулі рабскія скруты.* Кр,77. *Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне, Весна ўжо на сьвеце, – Хрыстос уваскрос!* В.

**2.** *перан.* Азарыць, асвяціць. *Хто найшчыршыя парывы Сваіх думак, свайго сэрца Аддае Совецкім нівам, Дрогнуць светам з сэрцам рвецца?* СА, 179.

Інф. *дрогнуць:* СА, 179. Абв. пр. адз. ж. *дрогнула:* Кр, 77. Мн. *дрогнулі:* Кр, 77. Буд. адз. 3 ас. *дрогне:* В.

**ДРУГ** (7) *м.* Блізкі сябар, прыяцель. *Сталін, друг наш, друг народаў, Друг людзей свабоды, Колькі радасці прыносіць, Шчасця ў нашы годы!* НК. // У зваротку да блізкага чалавека. *Ты, чужы друг, мне яміну рый, Віхр чужы хай памінкі спяе.* ЧС, 50–51. *Вы, другі верныя, ганцы, Як летась, сёлета, на лета Ўсе пагранічныя капцы Абходзьце зноў з маім* [князевым] *прыветам.* Кц, 196.

Адз. Н. *друг* (4): НК (3); ЧС, 50–51. Кл. *дружа* (2): Н. (2). Мн. Н. *другі:* Кц, 196.

**ДРУГІ** (107) **1.** *Ліч. парадк. да* два ў 1 *знач. – Дымок, другі, трэці... Кураць, чэрці! – усклікнуў назіральнік.* ПСп. *Ехаў* [Даніла] *поле і другое, Трэцце поле дасціг, Дзе сабраліся жаўнеры З сёл і вёсак усіх.* ПСД.

**2.** Не такі, інакшы, непадобны. *Сьціхнуць віхры, заціхне пара непагодная, Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыцьцю..* Б,18. *Нацыянальная рэволюцыя, паставіўшая сабе мэтай вызваленьне ўсіх нацый, быўшых ў паднявольлі ў дужэйшых дзяржаваў, ідзе другімі шляхамі да вызваленьня чалавека з путаў няволі.* СНБ. // *У знач. наз. Чаму гаворыцца адно, а робіцца другое?* ОШМ. *Але ідэалы – адно, а практыка жыцьцёвая – другое.* СНБ.

**3.** Іншы. *Госці ў парваных верхніх вопратках, якія Мікіта знімае і выносіць у другі пакой.* Т, 24. [Мікіта]: *Папрабуйце праз другое вакно, меджду протчым, мамаша.* Там жа, 59. // *У знач. наз.* Астатнія. *Адны ў руках трымалі дары Сваім прыбліжаным багам, Другія ўспаміналі чары, Шоў гоман сьцішны сям і там.* УрП, 47. *Будучы самі вольнымі, мы* [беларусы] *патрапім ацаніць волю другіх і пайсьці з імі, "як вольны з вольным".* БСУ.

**4.** Наступны. *Іду я, падскаківаючы, на другі дзень, каб узяць матэрыял для чацвёртай стацці, гэта знача для чацвёртай тысячы радкоў.* АН, 19. *Як толькі немцы вышлі, то ён* [Мікіта] *ужо на другі дзень палез на Трэку недзе на вышкі і давай на чым свет, падбухторываць людзей.* Т, 46.

**5.** У *знач. пабочн.* Па-другое. *Другое – найбліжэйшая палітычная сытуацыя, пры якой першы раз прыдзецца выступаць вам* [Мікіту] *публічна, апіраецца на пэўных пляцформах.* Т, 40–41.

◊**Адысці на другі план, на апошні закутак** *гл.* адысці. **З аднаго боку… з другога боку…** *гл.* бок. **У другі раз** *гл.* раз.

Адз. м. Н. *другі* (18): БрБ, 6; ВБ; ВБЛ, 81; Гр, 215; ЗС, 17; Кц, 194(2); ПС; ПСп; Т, 21, 26, 38, 48; ХЛБ; Ч, 319, 320, 323; $Ш_2$. Р. *другога* (3): АЛ; Т, 38; ХЛБ. Д. *другому* (3): ЗС, 18; ЛР; Ч, 320. В. *другі* (10): Ан, 19(2); ЗС, 17; ОШМ; СНБ, 340; Т, 23, 24, 46(2), 61. Т. *другім* (2): Дз, 199; Ч, 319. М. *другім:* Т, 46. ж. Н. *другая* (14): ВСп, 90; МП (2); Нз, 14; СНБ, 339; СНБ; Т, 33; Ч, 319, 320; Х; $Ш_1$; $Ш_4$; $Ш_5$ (2). Р. *другой:* БСУ. В. *другую* (3): Т, 51, 59; УрП, 51. Т. *другой* (2): Кц, 196; МП. М. *другой* (2): БВ; Ч, 322. н. Н. *другое* (7): ОШМ; СНБ (2); Т, 40(3); $Ш_2$. Р. *другога* (4): МІ, 17; Т, 41; $Ш_2$; $Ш_3$. Д. *другому:* Б, 18. В. *другое* (5): ПСД; Т, 36, 59 (2); $Ш_3$. Мн. Н. *другія* (9): Ан, 18; ВМР; ВСп, 89; Нз, 15; СНБ; Т, 54; УрП, 47; Ч, 320, 321; *другіе* (3): Кц, 193(2); ПДз. Р. *другіх* (8): БСУ; Кз, 17; СНБ; Тж, 16(2); УрП, 51; Ч, 322; ЧС, 50–51. Д. *другім* (6): Дз, 190; НДН, 19; Тж, 16; Ч, 319, 322, 323. В. *другіх* (2): БС; Ч, 319; *другія* (2): ЖН; Т, 27.

**ДРУЖБА** (8) *ж.* Сяброўства. *Рад таму, што песні і думы мае* [Купалы] *па меры сіл маіх і здольнасцей – знаходзяць водгук ва ўсім Совецкім Саюзе, што песні і думы мае служаць узмацненню дружбы народаў, усіх працоўных усяго свету!* ЖН. *Ён* [Сталін] *даў для народаў Асноўны закон, І дружбу народаў Навек стварыў ён.* СС, 300.

Адз. Н. *дружба* (2): ЖН; Ф. Р. *дружбы* (3): ЖН (2); ПЧ. Д. *дружбе:* ЖН. В. *дружбу:* СС, 300. М. *дружбе:* ТЗУ, 293.

**[ДРУЖКІ]** *мн.* Шафер і шаферка. [Янка]: *Зялёны бор шлюб нам* [Янку і Аленцы] *даваў, зоркі дружкамі былі, а расіца срабрыстая шлюбныя персцені свянціла.* Т, 53.

Т. *дружкамі:* Т, 53.

**ДРУЖНА** (6) *прысл.* Адначасова, узгоднена. *Вялі, пасохшы, пад вокнамі кветкі, Дружна капалі з раллі бульбу бабы.* ВМ, 72. *Калі гэтаго дружна зажадаюць два мільёны беларусоў-каталікоў, яны могуць дабіцца свайго; калі-ж будуць спаць і верыць розным баламутням, іх заклююць тые груганы, каторые у нас за час сну народнаго вельмі распладзіліся!* ВР. Г, 17; НК; ПСД; РКр.

**[ДРУЖНЫ]** (2) *прым.* **1.** Звязаны дружбай, узаемнай згодай. *Глянь, карабль плыве дасужна Дыміць комін параходны, – Камсамольцы сям'ёй дружнай рэжуць хвалі ў шляху водным.* СА, 180.

**2.** Зладжаны. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [беларусы] *да адзінай мэты: адваяваць свой горад ад засільля чужынцаў і уваскрасіць стары Менск, калі панавалі тут продкі*

*нашы, калі прыгожа зычэла мова наша і справавало беларускае права.* ВМР.

Адз. ж. Т. *дружнай:* СА, 180. Мн. Т. *дружнымі:* ВМР.

**ДРУЖОК** (3) *м. Ласк. да* друг. *Эх, памыйся, мой дружок, Мылам ды вадою, А так складна, як у нас Першае другое.* $Ш_2$. *Гэй, дружкі, што сьпіце? Дайце жыва агню!..* БН, 92.

Адз. Н. *дружок:* $Ш_2$. Мн. Н. *дружкі* (2): БН, 92; Пц.

**ДРУЖЫНА** (7) *ж.* **1.** Група з прыбліжаных князя, якая складала асноўнае яго войска. *Садзіцца княжна, князь, кругом Садзіцца вольная дружына; Шуміць бяседа за сталом, Плыве часіна за часінай.* Кц, 196. *З вольнаю дружынаю князь на пасадзе Вольнаму люду законы пісаў..* Н.

**2.** Група, атрад, створаныя з якой-н. мэтай. [Мікіта]: *Я не генэрал, а толькі пажарная каманда…Пажарнік Менскай, меджду протчым, пажарнай дружыны, – дакумант маю на гэта з пячаццю.* Т, 32–33. [Мікіта]: *Ну, вось я і падумаў аб гэтым раней і ўпісаўся ў Менскую пажарную дружыну.* Там жа, 24.

Адз. Н. *дружына* (2): Кц, 192, 196. Р. *дружыны* (2): Кц, 193; Т, 33. В. *дружыну* (2): Кц, 193; Т, 24. Т. *дружынаю:* Н.

**[ДРУЖЫЦЦА]** *незак. перан.* Панаваць. *Б'ецца жыццё жыватворнай крыніцаю, Песні напевамі звоняць вясёлымі, Воля жывая лунае арліцаю, Воля шчаслівая дружыцца з сёламі.* ДПЛС.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *дружыцца:* ДПЛС.

**ДРУК** (2) *м.* **1.** Друкаванне. *Пасыпаліся з друку адна за аднэй кнігі і ў працягу некалькіх месяцаў вышла ў сьвет 15 кніг.* ВСп, 91.

**2.** Выданне. *Гэтую прыязнь да совецкае культуры, да нашае краіны, у якой народ Чэхаславакіі бачыць адзінага абаронца міру і цывілізацыі, мы* [савецкія дэлегаты] *з хваляваннем адчувалі на афіцыйных прыёмах у магістратах, на спатканні з міністрам замежных спраў п. Бенешам, пра якое досыць падрабязна пісаў наш совецкі друк..* ПЧ.

Адз. Н. *друк:* ПЧ. Р. *друку:* ВСп, 91.

**[ДРУКАВАНЫ]** (5) *прым.* Змешчаны у друку. *Па ўсіх свабодных мясцох расклеены па сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты, лозунгі, загалоўкі тагачасных газет, плакаты.* Т, 43. *Параўн.* друкарскі.

•**Друкаванае слова** *гл.* слова.

Адз. н. Р. *друкаванага* (2): ВСп, 89 (2). Д. *друкаванаму:* ВСп, 91. М. *друкаваным:* СНБ, 339. Мн. Н. *друкаваныя:* Т, 43.

**[ДРУКАВАНЬНЕ]** *н. Дзеянне паводле знач. дзеясл.* друкаваць. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падрыхтоўцы матар'ялу й друкаваньні, як бачым з вышэй памешчанай табліцы, аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры*

*Наркамасьвеце Беларусі і быўшае В-ва"Адраджэньне" – цяпер "Савецкая Беларусь".* ВСп, 90.

Адз.М. *друкаваньні:* ВСп, 90.

**[ДРУКАВАЦЦА]** *незак.* Змяшчацца ў друку, выдавацца. *Як навіну ў гэтых творах трэба адзначыць выхад у сьвет першага беларускага рамана – гэта "Сокі цаліны" Цішкі Гартнага і "Дудка беларуская" і " Смык беларускі", якія пасьля болей як паўвяковага працягу часу, першы раз надрукаваны "граждан-кай", г.ё. рускімі літарамі (дагэтуль гэтыя кніжкі друкаваліся "лацінкай" іначай – польскімі літарамі).* ВСп, 89.

Абв. пр. мн. *друкаваліся:* ВСп, 89.

**ДРУКАВАЦЬ** (3) *незак.* Выдаваць. *Разглядаючы гэты сьпіс (табліцу), мы першым чынам заўважаем, што леташняя выда-вецкая справа ня была аднабокай, г. ё. выдаўцы ня прытрымлі-валіся, каб друкаваць або толькі школьныя кнігі, або прыгожае пісьменства, але наадварот: не забыліся аб усіх галінах друка-ванага слова.* Всп, 89. *Ядыная бадай расійская краёвая часопісь, якая друкуе артыкулы й пабеларуску, гэта "Вестник" Комисса-риата Народного Просвещения С.С. Р. Б.* Там жа, 90.

Інф. *друкаваць:* ВСп, 89. Абв. цяп. адз. 3 ас. *друкуе* (2): ВСп, 90(2).

**[ДРУКАРСКІ]** (5) *прым. Тое, што* друкаваны. *Навукова-Літаратурны Аддзел на чале з сваім кіраўнікам С. Некрашэві-чам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх арку-шаў рознага зьместу рукапісаў..* ВСп, 91. *Пасыпаліся з друку адна за аднэй кнігі і ў працягу некалькіх месяцаў вышла ў сьвет 15 кніг, лікам страніц 1950 (12) друк. арк.).* Там жа.

•**Друкарская машына** *гл.* машына.

Адз. ж. Р. *друкарскай:* ВСп, 89. Мн. Р. *друк<арскіх>* (3): ВСп, 91(3); *друкарскіх:* ВСп, 91.

**[ДРЫГВА]** *ж.* Топкае балота, багністае месца. *За сабою вало-чыць* [чараўнік] *патухшыя душы, Разбаўляе дрыгву імі ў пушчы; Кроўю цёплай сьцюдзёныя вогнішчы тушыць, Сэрцы лёдам аблітыя лушчыць.* Ч, 325.

Адз. В. *дрыгву:* Ч, 325.

**[ДРЫГВЯНЫ]** *прым.* Топкі, багністы. *На месцы некалі гнілых, дрыгвяных балот вырастаюць фабрыкі, заводы, элект-растанцыі.* АЛ.

Мн. Р. *дрыгвяных:* АЛ.

**[ДРЫЖАЦЬ]** (4) і **[ДРЫЖЭЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Калаціцца, трэс-ціся. *Аж дрыжыць зямля, Як ваякі йдуць Ды пяюць, як бура.* ВБ. *Ямчэй нацягваецца лук, Цэль рассекаюць агнестрэлы, Дрыжыць паўціна і павук.* Кц, 196–197.

**2.** *перан.* Адчуваць страх, баяцца. *Аб "Думе" можэш думаць, колькі ўлезе, але гаворыць голасно асьцерагайся: гэта ня ўсих па шэрсьци гладзиць; авечку стрыгуць, а цякун (баран) дрыжыць.* СП. *І, як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80.

**3.** *перан.* Хваляваццa. *Іграйце гучна музыку геройскую, музыкі, Каб слухаў і дрыжэў ад музыкі ўвесь свет!* СК, 158.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *дрыжыць* (4): ВБ; Кц, 197(2); СП. Пр. адз. м. *дрыжэў* (2): ВБЛ, 80; СК, 158.

**ДРЫЖЫКІ** *толькі мн.*: •**Дрыжыкі пабеглі па скуры** – пра стан нервовага ўзбуджэння. *Прыходжу. Азірнуўся. Аж мне і дрыжыкі пабеглі па скуры.* Ан, 19.

Н. *дрыжыкі:* Ан, 19.

**[ДРЫМОТА]** *ж.* Санлівасць; паўсон. [Аленка]: *Скіне сваю дрымоту і душа.* Т, 35.

Адз. В. *дрымоту:* Т, 35.

**ДРЭВА** (9) *н.* **1.** Шматгадовая расліна з цвёрдым ствалом і галінамі. *Граб зусім звычайнае дрэва ў лясох, гдзе мясцовасьць больш вільготная, а хто бачыў яго пад Масквою?* ХБ, 29. *Часамі яны* [вуллі] *стаяць на зямлі, часамі ўмацованы на дрэве..* Там жа, 30. // *У параўн. Хто забудзе край свой родны, Аб такім так і пішы; Ён, як дрэва, корч нягодны – Ні ў ім сэрца, ні душы.* КЧ.

**2.** Драўніна. *Не было, праўда, ўзнесеных на хвалу божу ні з каменя, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных..* КЗ, 17.

Адз. Н. *дрэва* (5): КЧ; РК; С, 209; СНБ, 336; ХБ, 29. Р. *дрэва:* Кз, 17. М. *дрэве:* ХБ, 30. Мн. Р. *дрэў* (2): Т, 33; ХБ, 29.

**ДРЭГОВІЧЫ** (2) *мн.* Старажытнае ўсходнеславянскае племя, якое жыло на поўнач ад Прыпяці. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, – як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Кз, 17. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі..* Там жа.

Н. *дрэговічы* (2): Кз, 17(2).

**[ДРЭЙФ]** *м.* Плаванне. *Вяртаецца яна* [чацвёрка папанінцаў] *з свайго надзвычайнага дрэйфа не толькі поўнасцю выканаўшы план навуковых работ, але і яшчэ раз давёўшы ўсяму свету, Хто такія бальшэвікі, натхнёныя на вялікія справы вялікім Сталіным.* МП.

Адз. Р. *дрэйфа:* МП.

**ДРЭННА** *прысл.* Кепска. [Янка]: *Э, цётачка! Не так ужо дрэнна, як вам здаецца. Устаткуецца ваш Мікітка з часам і пойдзе па розум да галавы.* Т, 34.

**ДРЭННЫ** (3) *прым.* **1.** З адмоўнымі якасцямі. [Мікіта]: *Разумееца, кожны падумае, што ў вас* [Ганны] *зусім дрэнны тавар, якога і за паўцаны не варта купляць.* Т, 34.

**2.** Благі, кепскі; амаральны. *Вучыць па расейску – гэта дрэнная і шкодная выдумка ўселякіх Салоневічоў, бо яна толькі мацней прывязвае цёмнаго беларуса да польскай мовы, каторую ён лічыць" сьвятой", " касьцёльнай" мовай.* ВР.

**3.** Які не прадвяшчае нічога добрага. [Начальнік]: *Гэтыя пісталеты, награбленая гарэлка, патака, цяганне чужых рэчаў, служба даношчыкам, усё гэта таксама для нас добрыя паперы, хоць для вас* [Мікіты], *можа, і дрэнныя паперы.* Т, 62.

Адз. м. Н. *дрэнны:* Т, 34. ж. Н. *дрэнная:* ВР. Мн. Н. *дрэнныя:* Т, 62.

**ДУБ** (3) *м.* Буйное лісцевае дрэва сямейства букавых. *Часамі яны* [вульлі] *стаяць на зямлі, часамі ўмацаваны на дрэве; іншы стары дуб бывае абвешаны гэтымі калодамі…*ХБ, 30. *..паглядзеце, якія пышныя дубы растуць у Меншчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў разводзьдзе вадою, – якія ліпы, якія вялізарныя бярэзіны!* Там жа, 29. // *У параўн. І павырасьлі-ж сыночкі Самі, як не самі. Як дубы у полі чыстым, Як сасонкі у боры, Як у небе абадзістым Тые сьвечкі-зоры..* Дз, 189.

Адз. Н. *дуб:* ХБ, 30. Мн. Н. *дубы* (2): Дз, 189; ХБ, 29.

**[ДУБІНА]** *ж. Пагардл.* Пра тупога, някемлівага чалавека. *У параўн. Годы прайшлі. Паніч вырас дубінай, Звычай з ім вырас нягодніцкі, панскі.* Мц, 74.

Адз. Т. *дубінай:* Мц, 74.

**[ДУБОВЫ]** (3) *прым.* Зроблены з дубу. *Дубовай кованай лапатай Глыбокі выкапалі дол, Злажылі брата ці ня брата Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.* УрП, 52. *Іскрыстым, блескатным сьвятлом Заліты княжскіе сьвятліцы, Дружына вольная кругом Сталоў дубовых варушыцца.* Кц, 192.

Адз. ж. Т. *дубовай:* УрП, 52. Мн. Р. *дубовых:* Кц, 192. В. *дубовыя:* Кз, 17.

**[ДУБРОВА]** (5) *ж.* Невялікі лісцевы лес. *Гудзеў, каціўся звон вячовы, Пужліва бор-лес падцінаў, Ля цёмнай вецьвістай дубровы Народ зьбіраўся і чакаў.* УрП, 47. *Ад песень ад гулкіх плывуць адгалоскі Па шумных дубровах і нівах.* ВВ, 263.

Адз. Р. *дубровы* (3): УрП, 47, 50; Чж, 146. Мн. Р. *дуброваў:* МД. М. *дубровах:* ВВ, 263.

**ДУБРОВІНЦЫ** *толькі мн.* Прыхільнікі Дубровіна. *Ох, видаци вельми хочэцца Пурышкевичам, Дубровинцам Ковы новае каваць, Изноў турмы напаўняць…*ВЧ.

Д. *Дубровинцам:* ВЧ.

**[ДУДА]** (2) *ж.* Народны духавы музычны інструмент; валынка. – *Гэй, дзьмі ў дуду, дудар!* Бз. *Жалейка, дуды красавалі – Прылады свойскія музык, – Цапы і вілы ў высь сягалі, Як быў абшар далёк, вялік.* УрП, 47.

Адз. В. *дуду:* Бз. Мн. Н. *дуды:* УрП, 47.

**ДУДАР** *м.* Музыкант, які грае на дудзе. – *Гэй, дзьмі ў дуду, дудар!* Бз.

Адз. Н. *дудар:* Бз.

**[ДУДКА]** *ж.* Народны музычны інструмент. [Янка]: *З ахвотай* [сыграю]. *Хоць раз паскачаце і вы пад маю дудку.* Т, 29.

◊**У адну дудку граць** *гл.* граць.

Адз. В. *дудку* (2): Т, 29, 44.

**ДУЖА** (3) *прысл.* Надта, вельмі, надзвычай. [Аленка]: *І зусім не брыдкое, а нават, як цётка Агата казала, дужа прыгожае.* Т, 30. [Спічыні]: *Аб гэтым* [ладзе] *у вас* [Мікіты] *павінен быць ясны, дужа ясны светагляд..* Там жа, 41 ВСп, 89.

**[ДУЖЫ]** (7) *прым.* **1.** Значнай фізічнай сілы; здаровы, вынослівы. *Як-жа ў розум убярэцца Твой* [маці] *сынок, як мак у цвет, Дужым стане, што здаецца Павярнуў-бы цэлы сьвет; Выпраўляй яго ў людзі, На дарогу блаславі..* М, 20. *А трэці* [ганец] *быў і раб, і цар і слаб, і дуж ва ўсякім дзеле..* Кц, 194.

**2.** *Разм.* Вялікі, значны па ступені праяўлення, велічыні. *Першые* [палякі] *маюць рэяльную сілу, а другія* [расійцы] *пачуваюць сябе дужымі успамінкамі прамінулага панаваньня і надзеямі у дачэснасьць палітычнай перамогі першых.* ВМР. *Дзе-ж, ой, матулькі, вашы дзеці? Рукі слабы, вецер – дуж ён, – Відаць, зьдзьмуў іх вясёлы вецер, Скіфскі вецер з сямі старон.* ВБЛ, 81.

**3.** У *знач. наз. Дужыя, не пытаючыся, забіралі ў слабейшых усё, што маглі толькі забраць, а давалі ім, не пытаючыся, тое, чаго яны не заўсёды хацелі прымаць.* НДН, 18. *Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідаючы сваіх брацціяў слабейшых на здзек і паняверку.* Нз, 14.

Адз. м. Т. *дужым:* М, 20. Мн. Н. *дужыя:* НДН, 18. Д. *дужым:* Нз, 14. Т. *дужымі:* ВМР. Кар. адз. м. Н. *дуж* (3): ВБЛ, 81; Кц, 194; Т, 49.

**[ДУЖЭЙШЫ]** (3) *прым.* **1.** *Пар. ст. да* дужы у 1 *знач. Прымерам такога здзеку, такога зневажання дужэйшым слабейшага можа служыць, добра ўсім нам знаёмая, царская Расея.* НДН, 18.

**2.** З вялікімі вытворчымі і матэрыяльнымі магчымасцямі; магутнейшы. *Пятнаццаць год таму назад аб незалежнасці і падумаць было небяспечна – сягоння нашы дужэйшыя суседзі самі аб гэтым па-дзяржаўнаму гаворыць з намі* [беларусамі], *як з народам, каторы заслужыў па людскому і божаму праву гэту незалежнасць.*

ПЛП. *Нацыянальная рэвалюцыя, паставіўшая сабе мэтай вызваленьне ўсіх нацый, быўшых у паднявольлі ў дужэйшых дзяржаваў, ідзе другімі шляхамі да вызвалення чалавека з путаў няволі.* СНБ.

Адз. м. Т. *дужэйшым:* НДН, 18. Мн. Н. *дужэйшыя:* ПЛП. Р. *дужэйшых:* СНБ.

**ДУМА** (26) *ж.* Думка, разважанне, роздум. *Думы цяжкіе роем снуюць, Капашацца чмяльмі ў галаве, Сноў спазнаць залатых не даюць, Кожна мучыць, к загубе заве.* ЧС, 50–51. *Сьветларусая гладзь расхвалёваных ніў Уліла мне ў душу адчуваньняў разьліў. І навеяла шмат абунтараных дум…*АР. *Параўн.* думка ў 3 *знач.*

Δ**"Дума"-госць:** *А тут тыц к ім* [прыяцелям] *"дума"– госць Ды з пацехай мілай: Яшчэ кара смерці ёсць, Я вас не забыла.* Пц. **Песні-думы** *гл.* песня.

Адз. Н. *дума:* Пц. В. *думу:* ТС, 74. Т. *думай:* Тр. Мн. Н. *думы* (13): ВМ, 72; Г, 17; ЖН (2); ПСС, 231; Т, 42(2); ТП, 213, 214, 215, 216, 217; ЧС, 50–51. Р. *дум* (8): АР; БрБ, 6; Бч, 9; Д, 73; ПВ; РС, 39; СЗГ, 252; ТП, 215; М, *думах:* ЖН; *дум:* Кц, 193.

**ДУМАЦЬ** (37) *незак.* **1.** Аддавацца роздуму; раздумваць, разважаць. *Аб "Думе" можэш думаць, колькі ўлезе, але гаварыць голасно асьцерагайся: гэта ня ўсих па шэрсьци гладзиць.* СП. *І рэдактар плакаў, плакаў і … думаў.* ЧЧШ. *Параўн.* мажыць.

**2.** Лічыць, меркаваць. *І калі ня хочам загінуць, калі ня хочам быць вечнымі рабамі, – павінны пакінуць мы* [беларусы] *благую прывычку думаць, што нехта прыдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі.* БС. [Мікіта]: *Думаю, што мне ўдасца злавіць, меджду протчым, якога немца і ўсучыць яму ягоныя маркі.* Т, 34.

**3.** Мець намер, збірацца што-н. рабіць. *Як сам цар-грамавік, чуе* [першы брат] *ў жылах пажары, Сонцы-б новыя сеяў па небе, Абярнуў-бы сялібныя ў полым абшары, І сьвет цэлы спаліў-бы ў патрэбе. Гэткіх думаў сягнуць недасягнутых чынаў…* Ч, 324. *Немцы пад прыкрыццём спадніц думалі наладзіць ДЗОТ, а пасля пайсці ў контратаку.* ПСп. *Параўн.* помышляць.

**4.** Праяўляць цікавасць, увагу да чаго-н.; турбавацца аб чым-н. [Наста]: *Я ж вам* [Мікіту] *ужо цяперся забараніла думаць аба мне, пакуль не зробіцеся асэрам!* Т, 42. *Пачалі* [беларусы] *думаць аб беларускіх школах, газэтах.* СНБ. [Гануля]: *Гэтая вайна ды бязладдзе, ці, як там кажуць, рэвалюцыя, пахавалі тыя хвіліны, калі людзі маглі думаць і аб падарунках.* Т, 20.

Інф. *думаць* (12): БС; ПТ, 208; СНБ, 339; СНБ (2); СП; Т, 20, 36, 40, 42(2), 56. Абв. цяп. адз. 1 ас. *думаю* (3): ПС; Т, 34, 51, Мн. 1 ас. *думаем:* НДН, 18. Пр. адз. м. *думаў* (16): БрБ, 6; ЛПК; НК; СМ; Т, 31, 56; ТП, 213(2), 214(3), 215, 216, 217; Ч, 324; ЧЧШ. ж. *думала* (2): Т, 57(2). Мн. *думалі* (3): ПСп; Т, 53, 62.

**ДУМКА** (57) *ж.* **1.** Прадукт мыслення; ідэя. *Тыя шчыра дэмакратычныя думкі, лунаючыя яснымі красамі па цэлым свеце, аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы.* НДН, 19. *Ніяк не мог я* [Купала] *пагадніць акружаючае рэальнае жыццё са светам думак, фантазій, якія пачэрпнуў з кніг.* А, 328. // Меркаванне. *Хай жа гэтая думка, што мы* [беларусы] *будуем сваю Бацькаўшчыну ня толькі для сягодняшняга бурлівага часу, але і для будучых прыхільнейшых вякоў, павядзе нас "к свабодзе, роўнасьці і знаньню".* БСУ. *Гэту думку мае і закон, каторы кажэ навучаць дзяцей іх веры у роднай мове.* ВР. // Мэта, задача, задума. *Хай толькі асвеціць Вас* [беларусаў] *адна вялікая думка, – аддаць усё для сваёй Бацькаўшчыны, нават жыццё, калі яна Вас да гэтага пакліча.* ПЛП. *Хай-жа наша шчырая беларуская інтэлігенцыя, вышаушая з-пад беларускай саламянай страхі і злучаная сьвятой думкай адбудаваньня Беларускай дзяржавы, хай яна скажа сваё жалезнае слова.* З.

**2.** Мысленне. *Я* [Купала] *вітаю цябе, моладзь, у гэты небывалы росквіт нашай долі, і веру, што ты яшчэ сягнеш туды, куды думка чалавечая не здагадвалася сягнуць.* ЖН. *Вось я* [аўтарнік] *пастаўлены над вамі* [народам] *Вышэйшай моцай небных сіл, Старэйшы думкай і гадамі, Зьмятаю ашуканства пыл.* УрП, 49. *Параўн.* мысьль.

**3.** *Тое, што* дума. *Хто найшчыршыя парывы Сваіх думак, свайго сэрца Аддае Совецкім нівам, Дрогнуць светам з сэрцам рвецца?* СА, 179. *Вайна захапіла усе нашы думкі і засланіла сабою усе іншые праявы нашага грамадзянскага жыцьця.* ВС.

**Думка за думкай.**

∆**Думка-песня** (2): *Складаць будзем думкі-песні Не на панскай службе..* ТЗУ, 293. *Думкаю-песняй тваё* [Сталіна] *імя славіць Народ беларускі свабодны За Беларускую нашу дзяржаву, Якую стварыў ты нам, родны!* СС, 302. **Думкі-саколкі:** *Бягуць, не спыняюцца думкі-саколкі К табе, правадыр мой, у сонцы спавіты!* ТП, 217.

◊**Думка ў думку ткаць** *гл.* ткаць. **Думкаю дастаць** *гл.* дастаць.. **Думкі ткаць** *гл.* ткаць. **Зачасаць на галаве думку** *гл.* зачасаць. **Ў думку прыйсці** *гл.* прыйсці.

Адз. Н. *думка* (11): БСУ; ВН; ДД; ДЖ (2); Дз, 189; ЖН; КП, 170; НДН, 18; ПЛП; ПНд, 46. Р. *думкі:* ПЛП. В. *думку* (9): ВР; ВСп, 91; Дз, 189; ЗК, 43; НДН, 18(2); Т, 20, 30, 40. Д. *думцэ:* ПНд, 47. Т. *думкай* (4): З; УрП, 49, 50; ШБСЯ; *думкаю* (2): СС, 302; СЧ. М. *думцэ:* Кц, 197. Мн. Н. *думкі* (4): ВБЛ, 83; НДН, 19; СНБ; 336; ТП, 217. Р. *думак* (5): А, 328; ДЖ; ЖН; К; СА, 199. В. *думкі* (7): ВС; Дз, 188; Кз, 17; ПТ, 208; СК, 158; СНБ, 340; ТЗУ, 293; *думак:* Т, 22. Т. *думкамі* (4): ПЛП; ПСС, 232; Пп, 5; Т, 44. М. *думках* (7):

Бч, 9; ДД; ДЖ; Кц, 196; НК; Пр; СП.

**ДУРАНЬ** (5) *м.* Абмежаваны, тупы чалавек. *Цяпер бабія ў разьвяз вузелкі, Ўсе з вайной у расходзе мужыкі; На бязмужжы і дурань муж, Ды і дораг стаў дурань к таму-ж.* ВБЛ, 83. *Хіхікаюць дурні, хіхікаюць нягодные. Але чаму-ж разумные і чэсные маўчаць?* З. *Параўн.* дурны.

◊**Дурня клеіць** *гл.* клеіць.

Адз. Н. *дурань* (2): ВБЛ, 83(2). В. *дурня:* Т, 32. Мн. Н. *дурні:* З. Р. *дурняў:* ВБЛ, 83.

**[ДУРНЫ]** *прым. У знач. наз. Чаму скрозь на Беларусі польскіеураднікі не спауняюць загаду свайго начальства? Што гэта – згавор, або "абяцанка-цацанка, а дурному радасьць"?* ОШМ.

Адз. м. Д. *дурному:* ОШМ.

**[ДУРЫГАЛОЎ]** *м. Разм., лаянк. Тое, што* дурань. Той, хто дурманіць галаву размовамі. [Янка]: (*да Мікіты*). *Ну і дурыгаловы гэтыя вашы вучоныя!* Т, 48.

Мн. Н. *дурыгаловы:* Т, 48.

**ДУХ** (21) *м.* **1.** Псіхічная здольнасць; свядомасць. *Я* [лес] *бараніў твой* [брата-беларуса] *дух ад плесні, Аб думы шчыра твае дбаў.* БрБ, 6. *Трэці брат ад судзьбіны наказ праслухаў. – Снутраве ты занадта даў веры, І ў сябе шанаваць чалавечага духу Не патрапіў наўчыць брата-зьвера.* Ч, 323. // Унутраны стан, маральная сіла. *Пара, пара ўжо агарнуцца* [людзям] *І гартам высталіць свой дух, Пакуль здрадліва пранясуцца Званы заломных злыбядух!* УрП, 49. *Параўн.* душа ў 2 *знач.*

**2.** Накіраванасць чаго-н. *І расейскіе націоналісты, і ўся чорная сотня прызналі ў вадзін голас: лепей ніхай палякі з'ядуць зусім каталікоў-беларусоў, чым беларускаму народу пазволіць развівацца у сваім націанальным духу.* ВР.

**3.** Пачатак, які абумоўлівае склад думак, паводзіны, настрой, пачуццё. *На дзеле – кожны йшчэ слугой, У думках – вольные ўжо людзі; Над сэрцам іх, над іх душой Наш* [княжацкі] *дух вітаці вечна будзе.* Кц, 195. *Людзкое помсты дух узьняўся, Ста віхраў сьвісты ніпачым.* УрП, 52.

**4.** *Міф.* Бесцялесная звышнатуральная істота. *Духі мінуўшчыны куцьцю На старасьвецкі лад спраўляюць. Даўно бываламу жыцьцю Дары належныя складаюць.* Кц, 193.

◊**І на духу і на целі** – зусім, поўнасцю. *Гаспадарка цэлага краю, ці аддзельных людзей павінна па сіле магчымасьці не спыняцца, аісьці далей і шырэй, каб, як скончыцца вайна, не асталіся мы быццам пасьля пажару: сусім зністожэны і на духу і на целі.* ВС. **Не падаючы духам** *гл.* падаючы. **Паддаваць духу** *гл.* паддаваць.

Адз. Н. *дух* (5): БН, 92; Кр, 78; Кц, 196; См, 91; УрП, 52. Р. *духу* (2): БСУ; СНБ; *духа:* ПЛП. Д. *духу:* Г, 16. В. *духу* (3): ВС; СНБ; Ч, 323; *дух* (2): БрБ, 6; УрП, 49; *духа:* З. Т. *духам* (3): ПЛП; СНБ; Т, 22. М. *духу* (2): ВР; ВС, Мн. Н. *духі:* Кц, 193.

**ДУХАВЫ** *прым. Разм. Тое, што* духоўны ў 2 *знач.* [Гануля]: (*да Папа*). *Бацюшка духавы, святы ўгоднік! Калі ласка, яшчэ вось гэты таўсцейшы кусочак.* Т, 28.

Адз. м. Н. *духавы:* Т, 28.

**ДУХОЎНЫ** і *руск.* **[ДУХОВНЫЙ]** (9) *прым.* **1.** Звязаны з унутраным, псіхічным жыццём чалавека. *І вось, ня уходзячы сягодня у разбор таго, хто мае больш правоу на "грд. Гэдыміна", мы скажам толькі, што Віленскі Батораускі Універсытэт павінен і абавязан здаволіць духоўные культурные патрэбы гэтых усіх трох народау: палякоу, літвіноў і беларусоў.* УПУВ.

**2.** Звязаны з рэлігіяй, царквой. *..мы* [беларусы] *з пэўнасьцяй ня можам цьвярдзіць – ці быў тады гымн нацыянальны, ці ня быў. Магчыма, што і быў – можа яго замяніла якая выдатная духоўная песьня.* СБНГ. // Звязаны з падрыхтоўкай служыцеляў культу. [Поп]: *Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.* Т, 27. // Які належыць да духавенства. [Мікіта]: *Калі з мадамай зойдзе гутарка, то не кажэце – панечка, а мадам-сіньёра, калі з папом, то – не бацюшка, а ацец духоўны.* Т, 22. [Мікіта]: (*вітаючыся, падскакваючы*). *Айцу духоўнаму маё сыноўняе ўпакарэнне!* Там жа, 37. *Параўн.* духавы.

Адз. м. Н. *духоўны* (5): Т, 29, 28, 51(2), 52. Д. *духоўнаму:* Т, 37. ж. Н *духоўная:* СБНГ; *духовная:* Т, 27. Мн. В. *духоўные:* УПУВ.

**ДУША** (63) *ж.* **1.** Па рэлігійных уяўленнях – нематэрыяльная аснова ў чалавеку, якая працягвае жыць пасля яго смерці. *Ой, не плачэ брат над братам На мяжы кургана, А бядуе так душа там Завязана, скавана.* Дз, 187. *А душа сама – без хаты, Знаць, з вялікай мукі То зрывае з сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі.* Там жа, 191.

**2.** Унутраны, псіхічны мір чалавека. *Сьветларусая гладзь расхвалёваных ніў Уліла мне ў душу адчуваньняў разьліў. І навеяла шмат абунтараных дум…*АР. *І вось трэба увайці у палажэньне шчыраго беларускага грамадзяніна: што такі чалавек павінен быў перацярпець у сваёй душы, бачачы гэту нібы зняваг*у. СБНГ.

**3.** Сукупнасць характэрных рыс, уласцівых чалавеку; чалавек з тымі ці іншымі ўласцівасцямі. *На беларускай зямлі было і ёсць шмат фальшывых пракокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца.* ПЛП. *Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі,*

*новыя прарокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне пракляцьцямі ўспамінаць.* Там жа. // Пра сардэчнага, добразычлівага чалавека. [Гануля]: *Мікітка кажа, што гэты Гізульскі душа, а не чалавек, – надта палітычны і знае ўсялякія свабодныя прафэсіі.* Т, 45. // Пачуццё; уласцівасць адчуваць, успрымаць, адклікацца. *Хто забудзе край свой родны, Аб такім так і пішы; Ён, як дрэва, корч нягодны – Ні ў ім сэрца, ні душы.* КЧ. *Вербы і вольхі калышуцца глуха, Сінія хвалі шумяць і бурляць. Чуткай душою ў такі час паслухай, Здасца, там гэтакі голас чуваць..* Н.

**4.** Сутнасць, аснова чаго-н. *Забабон гэты – насьмешка і зьдзек над усім тым, што наша – беларускае: над нашай сьвіткай, над нашай хатай, над нашай душой – мовай, над нашай песьняй..* З.

**5.** Свядомасць. [Янка]: *Гэта адзінкі, мілая Аленка. А душа агульнаграмадская яшчэ дрэме.* [Аленка]: *Скіне сваю дрымоту і душа.* Т, 35.

**6.** *Тое, што* дух у 2 *знач. Вось-жэ усе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітва, павінны аткінуць ат сябе усякую слабасьць душы і цела, усякую непатрэбную трывогу, ды дружна ісьці да працы на сваіх загонах.* РКр. *Слабые душою і целам апускаюць рукі, і, як вол доўбні, чэкаюць нечаго негаданаго, наводзючы гэтым і на іншых сум ды трывогу.* Там жа.

◊**Ад (усёй) душы** (4) – шчыра, усім сэрцам. *Мы толькі вітаем радасную вестку і жадаем ад душы, каб як найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь.* БВ, 17. [Янка]: (*расчулены*). *Дзякую, ад усёй душы дзякую!* Т, 30. **Выняць душу** *гл.* выняць. **Выпрастаць душу** *гл.* выпрастаць. **Вырваць з душы** *гл.* вырваць. **Душу ад цела веяць** *гл.* веяць. **З душы –** пра шчырыя пачуцці. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня з душы і гартоўна, як сталь..* СС, 300. **На душы цёмна** *гл.* цёмна. **Рдзець душой** *гл.* рдзець. **У душах** – у памяці. *А старыя багі? Яны прыціхлі, прытуліліся, але не памёрлі саўсім у душах свайго народу.* Кз, 17.

Адз. Н. *душа* (14): АК; Дз, 187, 191; MI, 17; Р (2); Т, 22, 35(3), 45, 49; 51; $Ш_2$. Р. *душы* (11): БВ, 17; БрБ, 6 (2); ЗК, 43; КЧ; ЛР; РКр; СС, 300; Т, 30, 34; Ч, 320. Д. *душы:* Г, 17. В. *душу* (10): АР (2); Р; См, 91; СМ; Т, 35(2); ХБ, 28; Ч, 319, 324. Т. *душой* (4): З; Кц, 196; ХХ; Ч, 326; *душою* (4): Бч, 9; Кц, 195; Н; РКр. М. *душы* (5): А, 328; БрБ, 6; Кз, 17; СБНГ; ЧС, 50–51. Мн. Н. *душы* (2): Р; РС, 40. Р. *душ:* ПЛП. В. *душы* (8): Бч, 9; Дз, 190; З; НДН, 19; ТП, 214; УрП, 51(2); Ч, 325. Т. *душамі:* ПЛП. М. *душах* (2): Кз, 17; ПН, 49.

**[ДУШЫЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* душыць у 2 *знач. Гібне памрока душыўша ад векаў, Сонца і зоры к сабе сьвет завуць…*Г, 17.

Кар. адз. ж. Н. *душыўша:* Г, 17.

**[ДУШЫЦЦА]** *незак. Зал. да* душыць у 2 *знач. Не гаворачы ўжо аб гэтым панаванні да 1905 г., але нават і пасля рэвалюцыі гэтага году здзек вісеў над усім чыста, што светлае, вольнае, беларускае, і душылася кожнае праяўленне беларускай нацыянальнай самабытнасці.* МІ, 17.

Абв. пр. адз. н. *душылася:* МІ, 17.

**ДУШЫЦЬ** (9) *незак.* **1.** *перан.* Моцна ўзбуджаць (пра пачуццё гневу, злосці). *Чужы і свой хлеб станавіцца жорсткім комам, І душыць кліч: ці доўга будзе нам* [беларусам] *заломам Варшава панская і царская Масква?!* НГ.

**2.** *перан.* Прыгнятаць. *А забабон далей ідзе і распасьцірае свае павучыные, неразблытные сеці, у якіх душыць і вольнага духа, і сьветлую праўду, і сумленьне людзкое.* 3. *Раз'юшаная царская рэакцыя здабытыя рабочым народам свабоды што раз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі.* ДЖ.

◊**Душыць пад нагой –** не даваць развівацца чаму-н. *Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцьця паднявольнымі народамі, якая загарэлася вечным жывым агнем пасьля развалу Расійскай самауласнай імпэрыі, каторая душыла пад сваей нагой усе праявы вольнага духу, – гэта ідэя сягодня ператвараецца у жыцьце, становіцца жывым дзелам, цьвердым фактам.* БСУ.

Інф. *душыць:* Г, 17. Абв. цяп. адз. 3 ас. *душыць* (3): З (2); НГ. Пр. адз. ж. *душыла* (2): БСУ; ДЖ. Мн. *душылі* (2): ГВУ; НДН; 18. Заг. адз. 2 ас. *душы:* ЗС, 17.

**ДЫ[1]** (115) *злучн.* **I.** *спалучальны* (58). **1.** Пры злучэнні аднародных членаў сказа; адпавядае па значэнню злучніку "і". *Стогнуць ветром калыханы Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як сьлёзы.* Дз, 191. *І многа палегла адважных герояў У бітвах з панамі па выспах балот. Шумяць аб іх долі кашлатыя хвоі, Ды верас ружовы іх славіць паход.* ПНБ. // Злучае паўторныя словы і ўтварае спалучэнні са значэннем працяглацці або паўторнасці дзеяння. [Гануля]: *Ганяюць людзі людзей без дай прычыны ды ганяюць.* Т, 54. [Янка]: *Ездзі сабе са сваімі манаткамі ды ездзі сабе, як гандляр з козамі з кірмашу на кірмаш, туды-сюды ездзі сабе ды ездзі.* Там жа, 55.

**2.** Пры злучэнні членаў сказа з паслядоўнымі паведамленнямі. *Пасьля царскіх чыноу прышлі бальшавіцкіе чыны ня горш сваіх папярэднікаў, прыйшлі і павялі сваю гаспадарку у нас, а мы* [беларусы] *глядзелі і чакалі, што нехта прыдзе ды бальшавікоў*

*прагоніць.* БС. [Ануля]: *Нічога, толькі паміж сабой* [вучоныя] *тое-сёе па-вучонаму пагаманілі, праз свае падзіральнікі туды-сюды зірнулі ды пайшлі.* Т, 54. АЛ; Б, 18; БН, 92; БС (3); ВБ (4); ВР; ВС; ГП, 8; Дз, 187; ЗС, 17; М, 20(2); МПв, 218; Нз, 14, 15; ПСД; ПТ, 206; РКр (2); СНБ, 336; СНБ (2); СС, 301; СЧ; Т, 20, 21(3), 29, 30, 34, 39, 42, 44, 48, 50, 55, 57(2), 60; Ун, 73; Х; ХБ, 29(2) ; ХЛБ; Ч, 323; $Ш_2$.

**II.** *пералічальны* (9). Злучае аднародныя члены ў канцы пералічэння. *Сталін, Молатаў любімы, Слаўны Варашылаў, Ды Ежоў, што дыверсантаў Загнаў у магілу! Во каго мы ў дэпутаты Па новым законе У парламент беларускі Выбярэм сягоння!* НК. *І сёння там* [за Сулою] *ходзіць галеча ў лахмоцці Пад звон набажэнства, пад голас маны, І сёння там слёзы, нуда, безрабоцце, Ды горкія песні, ды скаргі адны.* ПБН. Ан, 19; Кз, 17 (2); НДН, 18; ПБН.

**III.** *супраціўны* (9). **1.** Злучае члены сказа, процілеглыя па значэнню; адпавядае па значэнню злучнікам “але”, “аднак”. – *Глыток вады. – Нам на сям’ю вядро. Ды во чарга ад раніцы ўжо тутка...* ВБЛ, 80. *Не хацелі спачатку прынімаць новай веры дрэговічы і крывічы, ды палачане ад іх не адставалі.* Кз, 17.

**2.** Злучае члены сказа са значэннем неадпаведнасці дзеяння. [Ануля]: *Усё роўна як той дзед з бабуляй рэпку сваю цягнулі-цягнулі, ды ніяк не маглі авцягнуць.* Т, 54. [Аленка]: *Як татку, бывала, бяруць, у абоз, дык ён заўсёды і кажа, што едзе акупантаў выводзіць. Але, бедны, возіць, возіць, ды ніяк вывезці не можа.* Там жа. ВБЛ, 82; Дз, 189; ЗЯЗ, 89; ПВ; ПСС, 232; СНБ, 336; 338.

**IV.** *далучальны* (39). Далучае сказы і члены сказа, якія дапаўняюць, паясняюць ці падагульняюць выказаную раней думку. *І вось, ён* [рабочы Пасляк] *быў, як мне* [Купалу] *тады здавалася, надзвычайны майстра расказваць казкі, ды яно так і было.* ПС. [Ануля]: *Ён* [Мікіта] *жа мае родненькае дзіцё, ды адзін, як той васілёк у жыце.* Там жа, 20. // У спалучэнні са злучнікам “і”, які ўзмацняе далучальную сувязь. *На бязмужжы і дурань муж, Ды і дораг стаў дурань к таму-ж.* ВБЛ, 83. *Хор Тэраўскага у Менску пяе песьню: “Працуй, беларусе...” і так сама называе гэта гымнам. Ды і шмат яшчэ ёсьць усялякіх песен і вершаў, якіх ахрысьцілі гымнамі, ня зважаючы на тое, ці яны заслугоўваюць на такую назву, ці не.* СБНГ. // Далучае члены сказа, якія носяць характар дадатковага паведамлення ў спалучэнні з прыслоўем “яшчэ” (“йшчэ”). *Слуцак – павятовы гарадок – куды яму, здавалася бы, лезці ў людзі, ды яшчэ з сваёй газэтай!* МІ, 17. [Мікіта]: *..усёй работы яго* [пралетарыяту] *было, што толькі, меджду протчым, працаваў, ды йшчэ за гэту мізэрную працу цягнуў крывавую капейку з беднай буржуазіі.* Т, 40; АПЖ; Бч, 9; Вб, 236; ВБЛ, 81, 83; ВЧ; ДК; МД; Нз, 14(2); Пц; СБНГ; Т, 20(2), 21(2), 23, 28, 30(2), 37, 39, 44, 45, 46, 48, 53;

ТП, 213, 214, 215, 216, 217; ХБ, 28.

**ДЫ²** (28) *часц.* Ужываецца ў пачатку сказа для ўзмацнення выразнасці выказвання. [Гануля]: *Ды што за цэрамоніі! Можаце* [Янка] *гасціць у мяне хоць кожны дзень ад рання да вечара..* Т, 19. *Ды гэта ж, людзі мае, гразь і балота такое самае, якога не было навет на Усходзе, у рабочай Маскоўшчыне за часоў Івана Грознага.* Тж, 15. // У сярэдзіне сказа перад выказнікам ці групай выказніка ўзмацняе іх значэнне. *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім “маленькі фельетон”.* Ан, 19. [Янка]: *Не ўдасца вам* [Мікіту] *гэта асэсарства, дадуць вам совбурства, а штосьці ды будзеце мець, бо ці ж вам не ўсё роўна?* Т, 56. // Узмацняе іншыя члены сказа. *Ох, видаци вельми хочэцца Пурышкевичам, Дубровинцам Ковы новые каваць, Изноў турмы напаўняць…Але вышаў им ды з памяци Акцябра дзянёк семнадцаты..* ВЧ, ВС; ВЧ; МІ, 17; Т, 20(2), 21(2), 24, 28(2), 34(2), 42, 45, 53(3), 54; 55(2), 56, 57(2).

**[ДЫБАЦЬ]** *незак. Разм.* Ісці размерна. *І вот у гэтую часіну Да іх* [грамадзян] *там дыбаў цудадзей, Слуга пратайнасьці прадзіўнай, Надчалавек, хоць і з людзей.* УрП, 47.

Абв. пр. адз. м. *дыбаў:* УрП, 47.

**[ДЫВАН]** (2) *м.* **1.** Тканы ўзорчаты выраб для ўпрыгожвання. *У параўн. Золататканы абрусы С сталоў звісаюць дыванамі, На адрусох чысьцей расы Віно красуецца каўшамі.* Кц, 192.

**2.** *перан. Тое, што* пакрывае зямлю суцэльным слоем. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў, Што дыванамі пры Нёмне сьвецяць з-пад нябёсаў.* ХБ, 28.

Мн. Т. *дыванамі* (2): Кц, 192; ХБ, 28.

**[ДЫВЕРСАНТ]** (5) *м.* Той, хто праводзіць дыверсію. *Не толькі Прымор’е, Урал і Украіну трацкісцкія дыверсанты прадавалі фашыстам.* ВНЗ. *Пад Вашым* [Ежова] *кіраўніцтвам совецкая зямля, у тым ліку і Совецкая Беларусь, З поспехам ачышчаецца ад германа-японскіх і польскіх шпіёнаў і дыверсантаў*. НКУС.

Мн. Т. *дыверсанты* (2): ВНЗ; МПв, 219. Р. *дыверсантаў* (2): МП; НКУС. В. *дыверсантаў*: НК.

**[ДЫВЕРСАНЦКІ]** *прым.* Які мае адносіны да дыверсанта. *Слава нашаму Ежову, З Ленінграда родам, Што расправіўся, як следна, З дыверсанцкім збродам!* НК.

Адз. м. Т. *дыверсанцкім:* НК.

**[ДЫВІЗІЯ]** (2) *ж.* Буйное вайсковае злучэнне з некалькіх палкоў або брыгад. *Па ўсім тагачасным расійска-нямецкім фронце былі беларускія палкі, дывізіі і г. д.* БВ, 16. *І, як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80.

Мн. Н. *дывізіі:* БВ, 16. Р. *дывізій:* ВБЛ, 80.

**ДЫВЭРСІЯ** *ж. перан.* Правакацыйная прапаганда супраць існуючага ладу. *Шкодніцтва, дывэрсія, шпігоўства, інтэрвенцыя, – усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя..*

Адз. Н. *дывэрсія:* АЛ.

**ДЫЙ**[1] (13) *злучн. Разм.* **1.** *спалучальны.* Злучае члены сказа, якія абазначаюць паслядоўныя дзеянні, з'явы і т. п.; па значэнню набліжаецца да злучн. "і", "ды". *Як ня выйдуць чорнасотники На благае ўсё ахвотники, Дый на ўсю моц закрычаць: "Думу трэба разагнаць!"* ВЧ.

**2.** *супрацiўны.* Злучае процілеглыя па сэнсу сказы, члены сказа; па значэнню адпавядае злучніку "але". *Я* [маці] *на гэтым на кургане Ўсё сяджу і плачу, Ўсё чэкаю зьмілаваньня, Дый ні скуль не бачу.* Дз, 191. *Дарма "истинен" "Крестьянин", Штось чураюцца хрысцяне. Часта, густа з'езд склікаю* [пан Кавалюк], *Дый нішто не памагае.* ЛПК. // У спалучэнні са злучн. "затое" ўжываецца пры замяшчальным проціпастаўленні. *Гэй ты, першая мая! Мы адно с табою; Хоць ты літара ўсяго, Дый мая ж за-тое.* $Ш_1$. Кр, 77; ЛПК; НД; С, 209.

**3.** *далучальны.* Далучае члены сказа і сказы, якія ўдакладняюць, завяршаюць або абагульняюць папярэднюю думку. *Ён гэты скінуты сатрап, Не знае, што ў свабодзе жыць; Яму дай вісельню, дый каб На ёй "языкі" ўсе ўшчаміць.* АПЖ. [Усходні вучоны]: *Так вы это і есьць настояшчый белорус?* [Янка]: *Але, пане вучоны! дый не адзін. ( Паказваючы на Аленку, Гарошку, Ганулю). Во яшчэ адзін беларус і дзве беларускі.* Т, 26. // Ужываецца пры нечаканых пераходах да наступных падзей. *Ах, як страшна мне гэта бязсонная ноч! Сколькі мукі, цярпеньня прыносіць з сабой! Я змагаюся з ёй, ад сябе ганю проч, Дый самлела ўпадаю з сваёй барацьбой.* БН, 91. *Спрачаліся* ["Gazeta Codziena" і "Виленский Вестник"] *доўга, Як край наш раскрасьці, Дый сьпеліся ўрэшце...* Х. СП.

**ДЫЙ**[2] *часц.* Ужываецца ў пачатку сказа для ўзмацнення выразнасці выказвання. [Янка]: *Дый што гэта з вамі* [Мікітам]? *Ці не ўпісаліся вы ў менскія свабодныя гэрцум-сролікі?* Т, 45. *Дый сама савецкая Літ-Бел. улада сядзела ўжо як на падпаленай бочцы з порахам.* СНБ, 339–340.

**ДЫК**[1] *злучнік* (54) **1.** *злучальны.* Ужываецца ў пачатку сказаў як заключэнне папярэдніх сказаў, у знач. "калі так, то", " у такім выпадку", "тады". *Мы* [беларусы] *крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора. Дык чаму ж так страшна наша незалежнасць?* Нз, 14. *Цяперака час жытняй сяўбы. Дык жыва за плуг і севалку!* РКр. // У пачатку маналога з гэтым жа значэннем.

[Мікіта]: *Толькі не грамафон. Вельмі ён крычыць, а я чалавек асцярожны, меджду протчым.* [Ганулян]: *Дык на балалайцы, сынок, сыграй: голас у ёй ціхі.* Т, 29. [Аленка]: (*як бы саромліва*). *Ды ў яго* [таткі] *яшчэ ўнукаў і няма.* [Гануля]: (*усміхаючыся*). *Дык будуць, мае мілыя, будуць.* Там жа, 54. // У якасці суадноснага слова ў складаназалежных сказах з даданымі ўмовы. *Калі трэба, напрыклад, адчыніць школы, дык склікаюць бацькоў і ставяць ім пытанне: якую яны хочуць школу – расійскую, польскую ці беларускую?* ДК. [Аленка]: *Як татку, бывала, бяруць у абоз, дык ён заўсёды і кажа, што едзе акупантаў вывозіць.* Т, 54. // У бяззлучнікавых умоўных сказах паміж аднолькавымі словамі. [Мікіта]: *А важней за ўсё старайцеся як найгусцей у нос.* [Гануля]: (*махнуўшы рукой*). *У нос дык у нос!* Т, 23. [Аленка]: *Ну што ж? на вёску дык на вёску!* Там жа, 30.

**2.** *вынікoвы.* Злучае сказы з прычынна-выніковымі адносінамі. [Гарошка]: *Кажу свайму настаўніку, што во да чаго шум і крык такі даводзіць, а ён смяецца: "Бо, кажа, твой Юрка за чужую зямлю і волю шумеў і крычаў, а не за сваю, дык нічога з гэтага і не вышла".* Т, 44. [Янка]: *Маем поле і лес, горы і даліны, рэчкі і вазёры, нават мора мелі – называлася Пінскае, – але акупанты змяшалі яго з гразёй, дык засталося толькі Пінскае балота.* Там жа, 47.

**3.** *далучальны.* Далучае сказ з указаннем на вывад, заключэнне ў сувязі з выказанай раней думкай. [Мікіта]: *Яно так, меджду протчым, але ў мяне сягоння важныя госці будуць, дык, можа, вашым гасцём гэта будзе не па нутру?* Т, 23. // Далучае сказ, які змяшчае дадатковыя звесткі заключальнага характару адносна зместу папарэдняга сказа. [Гануля]: *Мы наракаем, што цяпер цяжка жывецца, а як падумаем, дык і ўперад не вялікі мёд быў.* Т, 44. // Разам з часц. "яшчэ" далучае сказы з дадатковымі паведамленнямі. [Гарошка]: *Гэты настаўнік добры і дужа разумны чалавек, але трохі галава яго нечым заведзена, бо мала, што сам носіцца, як кот з салам, з усялякімі мудрымі думкамі, дык яшчэ, як на тое ліха, і маёй Аленцы ў галаве ўсё дагары нагамі перакуліў.* Т, 44. [Гануля]: *А сёлета, апрача ўсяго іншага, дык яшчэ і дровы з Ваньковічава лесу самакатам коцяць і коцяць на вяроўках.* Там жа, 55. Ан, 18 (2); БС; ВР (2); ВС; ДЖ; МІ, 17; НДп, 229; Нз, 15; ОШМ (2); ПЛП; СП; Т, 19, 20(4), 21, 23(3), 24, 35(2), 39, 44, 49, 52, 53, 56, 57(2), 58(2), 62; Тж, 16(2); УрП, 50; ХЛВ, 315.

**ДЫК[2]** *часц.* (17) **1.** Ужываецца ў пачатку выніковых сказаў; адпавядае па значэнню: "значыць", "такім чынам". [Янка]: *Дык вы, пане рэгістратар, маніліся пакінуць усе свае руска-ісціныя варты і ўцякаць з роднага гораду?* Т, 55. *Дык вось хто, бадай, быў маім* [Купалы] *першым настаўнікам, хутчэй натхніцелем*

*у дачыненні да маёй паэтычнай творчасці.* Пс. // У рэпліках для ўзнаўлення пачатай гутаркі ці вяртання яе да якой-н. тэмы. [Аленка]: *Няможна перабіваць, пане настаўнік, калі іншы хто гавора. Дык вось што. Як выехалі вы з Дуброўкі, я ў шапку не спала і паехала ў Вільню.* Т, 30. [Гануля]: *А нешта нейкае аб высяленні была ў цябе, сваток, гутарка напачатку.* [Гарошка]: *Ага, успомніў! дык вось, як нашы гэткім чынам апошні суд з князем прайгралі, пачалося тое высяленне.* Там жа, 43.

**2.** Узмацняе слова, ці групу слоў, да якіх адносіцца. [Аленка]: (*пырснуўшы смехам*). *Ха-ха-ха! Ну і панскае ігрышча дык ігрышча!* Т, 29. [Мікіта]: *Ха-ха-ха! Вось дык дадумаліся!* Там жа, 49. // Ужываецца пры супастаўленні. [Гануля]: *Ды яно ж гэтак, мой сваток. Каму па каму, а нам, казаў той, дык два камы.* Т, 44. Ан, 18; Вб, 238; ВР; ОШМ; Т, 29, 39, 41, 44(2), 54, 55.

**[ДЫКТАТУРА]** (3) *ж.* Дзяржаўная ўлада, якая апіраецца на сілу пануючага класа. *У СССР, адзінай на ўсім сьвеце краіне пролетарскай дыктатуры, рабочая кляса, у цесным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі.. пераможна, з нявіданым творчым энтузыязмам і запалам будуе соцыялістычнае грамадзтва.* АЛ. .. *яны* [беларускія нацыянал-дэмократы] *добра ведалі, што ня ўласнымі сіламі, а толькі пры збройным падтрыманьні замежнай інтэрвенцыі змогуць зьнішчыць ненавісную ім дыктатуру пролетарыяту, каб падмяніць яе дыктатурай капіталу.* Там жа.

Адз. Р. *дыктатуры:* АЛ. В. *дыктатуру:* АЛ. Т. *дыктатурай:* АЛ.

**ДЫМ** (6) *м.* **1.** Сукупнасць дробных цвёрдых часцінак і газападобных прадуктаў, якія вылучаюцца ў паветры пры згаранні чаго-н. *С панад яе* [вайны] *пажарнаго і крываваго дыму выгляне добрае, прыветлівае сонцэ і ажывіць сваімі праменямі нашы загоны і сенажаці.* РКр. *І ўсё вы* [бальшавікі] *ўзялі, ўсё як ёсць: Фабрычны дым, сяўбы загон І панскі двор, і царскі трон…Ды стала ўсё вам гэта ў злосць…*ПВ. // У *параўн. Не верне былога ніхто і ніколі, У прах яно пала і знікла, як дым.* ПНБ.

**2.** *перан.* Пажар; вайна. *Хай час ідзе, хістаючыся ў дыме, І хай ляжыць стары ў абломках сьвет, – Ў грызьні за іх і з гэтымі і з тымі Ты* [абываталь] *скарыстаеш іх на свой клёзэт.* ВБЛ, 81.

Адз. Н. *дым* (2): БН, 92; ПБН. Р. *дыму* (2): ВБЛ, 80; РКр. В. *дым:* ПВ. М. *дыме:* ВБЛ, 81.

**ДЫМЕЦЬ** (3) *незак.* Выпускаць дым, курэць. *Ідзеш* [Новы год] *у край, дзе пажарышча Яшчэ дымець не перастала, Дзе смерць спраўляе сваё йгрышча У сполку з чэрняй адзічалай.* НГд, 8. *Глянь, карабль плыве дасужна Дыміць комін параходны, – Комсамольцы*

*сям'ёй дружнай Рэжуць хвалі ў шляху водным.* СА, 180.

Інф. *дымець:* НГд, 8. Абв. цяп. адз. 3 ас. *дыміць* (2): ГП, 8; СА, 180.

**[ДЫМІЦЦА]** (2) *незак.* Тлець, вылучаючы дым. *Курна дыміцца ў хаціне лучына, Ліпа шуміць адзінока над хатай, Сажалка дрэмле, заросшая цінай, Гул далятае здалёку гарматаў.* ВМ, 72. *Там, дзе на вялікіх абшарах Беларусі гнуўся "лапцюжнік" над "крывуляй" сахой, – важна пахаджваюць тысячы трактараў, там, дзе дымілася дапатопная лучына, зіхаціць сонечна электрычная лампа.* ШБСЯ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *дыміцца:* ВМ, 72. Пр. адз. ж. *дымілася:* ШБСЯ.

**[ДЫМЛІВЫ]** *прым.* Які дыміцца, дыміць; дымны. *І хціва мерыць* [абываталь] *шаль перад трумо Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак.* ВБЛ, 81.

Мн. Р. *дымлівых:* ВБЛ, 81.

**ДЫМОК** *м. Памянш.-ласк. да* дым у 1 *знач. Зноў пачуўся голас: – Дымок, другі, трэці...Кураць, чэрці! – усклікнуў назіральнік.* ПСп.

Адз. Н. *дымок:* ПСп.

**[ДЫНАМІТ]** *м.* Выбуховае рэчыва. *Дынаміт і порах Запускалі* [трацкісты] *ў дзела, – На шматкі хай рвецца Народнае цела!* МПв, 219.

Адз. В. *дынаміт:* МПв, 219.

**[ДЫПЛАМАЦЫЯ]** *ж. Польск., разм.* Дыпламатыя. *Антанта, прымаючы пад увагу, што захварэла на вар'яцыю ад дыпламацыі, тры месяцы таму назад выехала за граніцу на цёплыя воды лячыцца.* Ан, 19.

Адз. Р. *дыпламацыі*: Ан, 19.

**[ДЫПЛЁМАТЫЧНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да дыпламатыі. [Заходні вучоны]: (*запісваючы*). *Пшы баданю бялорусіна высветлёно надзвычайнон асоблівосць, а мяновіце: вбрэв гісторычным, географічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон белорусіні называён Бялорусь.* Т, 26. *Параўн.* дзіпломацічэскі.

Мн. Д. *дыплёматычным:* Т, 26.

**ДЫРЭКТАР** (4) *м.* Кіраўнік установы, прадпрыемства. *Нягледзячы на тое, што дырэктар прымаў мяне* [Купалу] *без экзамена, бацька парашыў не аддаваць мяне ў школу, а пакінуць на гаспадарцы.* А, 328. *Займаўся са мной* [Купалам] *сын дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча Самойла.* Там жа. // Асоба, якая ўзначальвае каго-н. [Мікіта]: (*стукаючы кулаком па стале*). *Меджду протчым...меджду протчым.. вы* [Янка] *мяне абражаеце. Я не*

*цямняк, пане...пане дырэктар беларускай басоты.* Т, 22.

Адз. Н. *дырэктар* (3): А, 328; Т, 22, 31. Р. *дырэктара:* А, 328.

**[ДЫРЭКТЫВА]** *ж.* Агульнае кіруючае ўказанне вышэйшага органа ніжэйшаму. *Новы ўрад Западнай камуны, разумееццa, атрымліваў усе дырэктывы з Масквы і танцаваў так, як іграла Масква.* СНБ, 337.

Мн. В. *дырэктывы*: СНБ, 337.

**ДЫСЦЫПЛІНА (2)** *ж.* Вытрымка, строгі парадак [Мікіта]: *Рэволюцыйна самадысцыпліна... рэволюцыйная самадысцыплі-наю... гэта такая, меджду протчым, дысцыпліна, што мае два канцы – то яна ўсіх б'е, то я ўсе б'юць, бо контррэвалю-цыйная дысцыпліна не спіць у шапку.* Т, 40.

Адз. Н. *дысцыпліна* (2): Т, 40 (2).

**[ДЫТКА]** *ж. Разм.* Нязначная сума грошай. – *Так і так, – кажу – пане рэдактар: боты падзерліся, табакі няма, селядцы дарагія, дык вось паспрабую пільна зарабіць якую дытку.* Ан, 18.

Адз. В. *дытку*: Ан, 18.

[**ДЫФЕНЗЫВА]** *ж.* Палітычная паліцыя і контрразведка. *Гэта раз'юшаная антысовецкая брахня, падагрэтая злотымі і маркамі польска-нямецкай дыфензывы, разаб'ецца, як аб неда-ступную скалу, аб магутнасць і з'яднанасць рабочых і калгасні-каў Совецкай Беларусі.* ШБСЯ.

Адз. Р. *дыфензывы*: ШБСЯ.

**ДЫХАЦЬ** *незак. перан.* Жыць, дзейнічаць. *Пастауленые намі* [бепарусамі] *(як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое разводзіць, што нам цяжка было дыхаць.* БС.

Інф. *дыхаць*: БС.

**ДЫХНУЦЬ** *зак.*: ◊**Дыхнуць свабоднымі грудзямі –** адчуць волю, свабоду. *Дыхнуць свабоднымі грудзямі Й зірнуць арліна не дадуць, – На ўзлёты дум кладуць аковы, Як на рабоў сляпых кладуць.* РС.

Інф. *дыхнуць*: РС.

**[ДЫШАЦЦА]** *незак. Руск., безас.:* ◊**Грудзям дышацца "вальготней"** – пра адчуванне свабоды, вольнасці. [Спраўнік]: *Івакуемся туды – на Захад, дзе сэрцу прытульней і грудзям дышацца..."вальготней".* Т, 37.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *дышацца*: Т, 37.

**[ДЭГЭНЭРАТ]** (2) і *руск.* **[ДЗЕГЕНЕРАТ]** *м.* Чалавек з адзна-камі псіхічнага або фізічнага выраджэння. [Янка]: *Вы* [Усходні вучоны] *самдзеле тожа-беларусы, з пароды рэнэгатаў і дэгэ-нэратаў.* Т, 26. [Усходні вучоны]: *(таксама запісваючы ўпера-межку з Заходнім вучоным). Народность ныне распадается на две родовыя ветві: племя – белорусы і племя – тожэ-беларусы,*

*ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов.* Там жа.

Мн. Р. *дэгэнэратаў*: Т, 26; *дэгэнэратов*: Т, 26; *дзгенератов*: Т, 26.

**[ДЭКЛЯРАЦЫЯ]** *ж.* Абвяшчэнне якой-н. партыяй прынцыпаў сваёй палітыкі. …[беларускія нацыянал-дэмократы] *на грунце конституцыі Совецкае Беларусі, скарыстаўшыся давер'ем, якое аказана было ім з боку савецкай улады, прыкрываючыся хлусьліва заслонай фальшывых крывадушных дэклярацый і запэўненьнем, праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмократычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ.

Мн. Р. *дэклярацый*: АЛ.

**[ДЭКРЭТ]** (4) *м.* Урадавая пастанова; указ, закон. *Кароценькая вестка, адтрымана намі учора з Варшавы, што у чацьвер, 23 кастрычніка селетнега году Польшча падпісала дэкрэт аб фармаваньні Беларускага нацыянальнага войска, павінна збудзіць у кожнага беларуса і наагул у кожнага грамадзяніна, жывучага вечна у нашым краю, вялікае здаволеньне і сьвяточную радасьць.* БСУ. *Па ўсіх свабодных мясцох расклееены па сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты, лозунгі, загалоўкі тагачасных газет, плакаты.* Т, 43.

Адз. В. *дэкрэт*: БСУ. Мн. Н. *дэкрэты* (2): Т, 43, 46. Т. *дэкрэтамі*: СНБ, 339.

**ДЭЛЕГАЦЫЯ** (5) *ж.* Група дэлегатаў ад дзяржавы. – *З першыхжа крокаў у Чэхалавакіі, наша дэлегацыя апынулася ў атмасферы надзвычай шчырай прыязні і сімпатыі да нас, да нашае бацькаўшчыны – Совецкага Саюза.* ПЧ. *Работніцы перадалі старшыні дэлегацыі т. Кальцову букет чырвоных кветак.* Там жа.

Адз. Н. *дэлегацыя*: ПЧ. Р. *дэлегацыі* (4): ПЧ (4).

**[ДЭМАКРАТЫЧНАЦЬ]** *ж.* Улацівасць простага, характэрнага для шырокіх слаёў грамадства. [Мікіта]: *Усё гэта вымагала тое-сёе змяніць і ў хатніх абставінах, каб такім спосабам надаць болей, меджду протчым, дэмакратычнасці і прастаты.* Т, 48.

Адз. Р. *дэмакратычнасці*: Т, 48.

**ДЭМАКРАТЫЧНЫ** (4) і **ДЭМОКРАТЫЧНЫ** (7) *прым.* **1.** Заснаваны на дэмакратыі. *Першыя дні бальшавіцкай гаспадаркі… падавалі надзею, што беларуская справа стане на добры дэмакратычны грунт.* СНБ, 339. *Ад казахскага чабана да прафесара, ад беларускага пастуха да стаханаўца – усё насельніцтва будзе ўдзельнічаць у адзіна дэмакратычных у свеце выбарах.* ГВУ. // *Іран. Ад пэўнага чау завеуся на Беларусі вельмі цікавы дэмократычны звычай.* ДК. *Як водзіцца пры добрым дэмократычным парадку, пускаюцца у дзело агітатары, каторые стараюцца давесьці бацьком, што самая лепшая школа есьць тая, каторую*

*ен, агітатар, расхвальвае.* Там жа. // Накіраваны на ажыццяўленне дэмакратыі. *Тыя шчыры дэмакратычныя думкі, лунаючыя яснымі красамі па цэлым свеце, аб волі, роўнасці, братачнасці, бадай найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы.* НДН, 19. // Які прытрымліваецца прынцыпаў дэмакратыі. *Бо ці ж знойдзецца на свеце болей дэмакратычны па сваёй прыродзе і ўжыўчывы народ, як народ беларускі?* НДН, 19.

**2.** Характэрны для ніжэйшых слаёў грамадства. [Мікіта]: *Меджду протчым, пане беларус, мне ваш (з націкам) "дэмократычны" язык непатрэбен, калі я маю свой, меджду протчым, мацярынскі рускі язык.* Т, 49.

**Дэмократычная камедыя.**

Адз. м. Н. *дэмократычны* (2): ДК; Т, 49; *дэмакратычны*: НДН, 19. В. *дэмакратычны*: НБ, 339. М. *дэмократычным*: ДК. ж. Н. *дэмократычная* (3): ДК (3). н. Р. *дэмократычнага*: ДК. Мн. Н. *дэмакратычныя*: НДН, 19. М. *дэмакратычных*: ГВУ.

**[ДЭМОКРАТ]** (2) *м.* **1.** *Іран.* Прыхільнік дэмакратыі. – *Хэ-хэ – віляе ён* [расійскі чыноўнік], *трымаючы за пазухай камень расійскага самауласьця: мы – "рускіе дэмократы" заусёды стаялі і стаім за раунапраў'е усіх народаў, якія жывуць у матушцы-Расіі, але вы беларусы – іcконе-рускіе людзі з сваім неразьвітым языком, можаце і нашай культурай карміцца, але калі так хочаце – можна і вам даць правы, але толькі у... сенях.* З.

**2.** Член дэмакратычнай партыі. *Мы, так сама, людзі ня кепскіе, – дэмократы ды яшчэ й социялісты.* ДК.

Мн. Н. *дэмократы* (2): З; ДК.

**ДЭМОКРАТЫЗМ** (3) *м.* Ажыццяўленне дэмакратыі. *Ну хіба-ж гэта дэмократызм, скажыце на ласку Боскую?* ДК. *Які тут дэмократызм і якая тут можа быць справядлівасьць?* Там жа. // *Іран. А той "дэмократызм", які пускаецца ў дзело цяпер, нічога іншага выклікаць ня можа, апрача нацыянальнай рэволюцыі.* ДК.

Адз. Н. *дэмократызм* (3): ДК (3).

**ДЭМОКРАТЫЧНА** (2) *прысл. да* дэмократычны ў 1 *знач.* *Усё гэта хораша, дэмократычна і добра, – асабліва калі расказаць людзям.* ДК. *Глянце-ж бо, добрые людзі, як на Беларусі ўсё добра, хораша і дэмократычна!* Там жа.

**[ДЭМОКРАТЫЧНА-КАМЭДЫЙНЫ]** *прым.* Які падрабляецца да дэмакратычнага руху. *Мы* [беларусы] *толькі зазначаем, што калі ўжо нарадзілася беларуская сіла, то ні пальонізацыя, ні русыфікацыя не павінны мець мейсца на Беларусі, хоць-бы навет апранутые у дэмократычна-камэдыйные шаты.* ДК.

Мн. В. *дэмократычна-камэдыйные*: ДК.

**ДЭМОКРАТЫЧНЫ** *гл.* **ДЭМАКРАТЫЧНЫ.**

**ДЭМОКРАЦЫЯ** *ж. Польск.*: •**Народова-дэмократыя** – народная дэмакратыя. *Пэўная часьць польскага грамадзянства, так званая "народова-дэмократыя", асьлепленая пабедамі полькага салдата, сышла з тэй дарогі, якую палякам намецілі сьвятлейшые іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе, Славецкіе і інш.* СНБ.

Адз. Н. *дэмократыя*: СНБ.

**[ДЭНІКІНСКІ]** *прым.* Які мае адносіны да Дэнікіна. *І, як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дэвізій.* ВБЛ, 80.

Мн. Р. *дэнікінскіх*: ВБЛ, 80.

**ДЭПУТАТ** (14) *м.* Выбарны прадстаўнік, член выбарнай дзяржаўнай установы. *Народ беларускі шчаслівы сягоння – Клімент Варашылаў яго дэпутат!* НДп, 229. *Сваіх дэпутатоў мы* [беларусы] *ў Думе ня маем, дык, каб уся Расея ведала, якіе ашуканствы ў Беларусі робяць расейскіе і польскіе націоналісты, мы павінны ўсюды заяўляць, што мы – беларусы, і на фундамэнці закона дамагацца, каб рэлігіі ў школах беларускіх дзяцей вучылі не па раейску, не па польску, а па беларуску.*ВР.

**Нашаму дэпутату.**

◊**Ваяка-дэпутат** *гл.* ваяка.

Адз. Н. *дэпутат*: НДп, 229. Д. *дэпутату* (2): НД; НДп, 230. В. *дэпутата* (3): Вб, 237; НД; НДп, 229. Т. *дэпутатам*: НК. Мн. Н. *дэпутаты*: ВР. Р. *дэпутатаў* (2): Ан, 19; ГВУ. Д. *дэпутатам*: ВР. В. *дэпутатаў*: НД; *дэпутатоў*: ВР; *дэпутаты*: НК.

**[ДЭСАНТ]** *м.* Войска, высаджанае з карабля на тэрыторыю праціўніка для баявых дзеянняў. *Не вам, інтэрвенты, Шпегі, дыверсанты, На прыстані нашы Выпускаць дэсанты.* МПв, 219.

Мн. В. *дэсанты*: МПв, 219.

**[ДЭСПАТ]** і **ДЗЕСПАТ** *м. Руск., неран.* Жорсткі чалавек; тыран. *Ён* [паніч] *дачку мне маю абясчэсціў Непаўналетнюю, дзеспат праклятьі.* Бц, 74.

∆**Дэспаты-цары**: *Шлі дні. І вас* [жыдоў] *ланцугі скавалі Бязбожны каралі і дэспаты-цары.* Ж.

Адз. Н. *дзеспат*: Бц, 74. Мн. Н. *дэспаты*: Ж.

**[ДЭСПАТЫЧНЫ]** *прым.* Заснаваны на дэспатыі. *Дэспатычная Расія царскага ўраду адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу, для павялічання магутнасці маскоўскага самадзяржаўнага цара.* БВ, 16.

Адз. ж. Н. *дэспатычная*: БВ, 16.

**[Д'ЯБАЛ]** *м.*: ◊**Ідзь до сту д'яблув за Буг** *гл.* ісці.

Мн. Р. *д'яблув*: Т, 49.

# Е

**[ЕГІПЕЦКІ]** *прым.* Які мае адносіны да Егіпта, егіпцян, належыць ім. [Янка]: *Такая праца йдзе, якраз як пры будове егіпецкіх пірамідаў.* Т, 55.

Мн. Р. *егіпецкіх*: Т, 55.

**[ЕДИНЫЙ]** *прым. Руск.* Адзіны, непадзельны; з'яднаны. *Табе* [Расіі] *такой служыць па гроб Не кіну я* [расійскі чыноўнік], *і расцярзаць Не дам дзяржаўнасці "оплот", Цябе, "единую", о, маць!* АПЖ, 10.

Адз. ж. В. *единую*: АПЖ, 10.

**ЕДНАК** *прысл. Польск. Пабочн.* Тым не менш, усё ж, усё-такі. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежу з Усходнім). Еднак, спостшэга сень донжэне розшэжыць овэ граніцэ на Всхуд.* Т, 47.

**ЕДУЧЫ** *дзеепрысл.* да ехаць у 2 *знач.* *Ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі, дзе задумны бэдуін, едучы у ночы на вярблюду, ..як есьць усюдах пануе гэты ясьневяльможны бязсьмертны забабон.* 3.

**ЕЖЭЛІ** *злучн. Руск., уст., разм.* Тое, што калі ў 2 *знач.* [Поп]: *Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонцом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.* Т, 28.

**[ЕЗДЗІЦЬ]** (7) *незак.* **1.** *Тое, што* ехаць у 1 *знач.* [Янка]: *Ездзі сабе са сваімі манаткамі ды ездзі сабе, як гандляр з козамі з кірмашу на кірмаш, туды-сюды ездзі сабе ды ездзі.* Т, 54. // Вазіць што-н з сабой (брычку, тачку). [Ганулял]: *Гэта Мікіта кожны дзень гэтак на службу ездзіць.* Т, 45.

**2.** *перан. Разм.* Працаваць кім-н. *У 1980 г. ён* [бацька] *развітваецца часова, са становішчам найміта ў маёнтках і пераязджае ў Мінск, дзе купляе каня і ездзіць некаторы час фурманам.* А, 328.

◊**Ездзіць на чужой палітыцы** – выкарыстоўваць чыю-н. палітыку ў сваіх інтарэсах. [Янка]: *А граніц палітычных не маем*

[беларусы], *бо і палітыкі сваёй не маем – на чужой палітыцы пакуль што ездзім.* Т, 47.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *ездзіць* (2): А, 328; Т, 45. Мн. 1 ас. *ездзім*: Т, 47. Заг. адз. 2 ас. *ездзі* (4): Т, 55 (4).

**[ЕЙНЫ]** *займ.* Які адносіцца да яе. *Стаім мы* [беларусы] *перад будучыняй нашай І ўсё варожым, сочым ейны ход...* Бч, 9.

Адз. м. В. *ейны*: Бц, 9.

**ЕНО** *злучн. Польск. Тое, што* але[1] ў 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *(запісваючы ў нататкі, голасна). Мова ойчыста – огульнопольска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув.* Т, 26.

**ЕОГРАФІЧНЫ** *гл.* **ГЕОГРАФІЧНЫ**.

**ЕСІ** *Уст. Тое, што* ёсць у 2 *знач. Табой* [рускай мовай] *сам самадзержац цар Пісаў ланцужны свой закон, Што маці – Русь есі жандар Усёй Еўропы!..* АПЖ.

**ЕСТ** *Польск.* Форма цяперашняга часу адз. л. ад дзеяслова быць. У значэнні дапаможнага дзеяслова. [Заходні вучоны]: *(да Янкі). Бардзо на часе, жэ пан обэцным ест.* Т, 47.

**ЕСТЬ** *гл.* **ЕСЦЬ**.

**ЕСТЭМ** *Польск.* Форма цяперашняга часу мн. л. ад дзеяслова быць. У значэнні дапаможнага дзеяслова. [Заходні вучоны]: *Незмерне пану вдзенчны естэм.* Т, 27.

**ЕСЦІ** (4), **ЕСЬЦІ** (2), **ЕСЦЬ** і **ЕСЬЦЬ** *незак.* **1.** Прымаць у ежу. [Мікіта]: *Гэта не мёд, меджду протчым, І не гандаль, а патака, якую сам з мамашай буду есці.* Т, 60. *..і ніхто не падумае аб тым, як жывуць, што ядуць, якую маюць страху над галавой людзі нашых вёсак, нашых сёлаў.* АБ, 16.

**2.** *перан.* Знішчаць. *Як сільным, магучым праз песьню стаў ён* [народ], *– Зноў пошэсьць есьць стала памалу; Папробуе песьню – йшчэ звоне, як звон, Але ўжо не так, як бывала.* ПН, 47. *Жыцьцё лет бяз ліку на шнурык свой ніжэ, Бяз ліку няволя есьць сіл...* ЗК, 43.

◊**Есьці аб'едкі і косьці** – карыстацца чыёй-н. міласцінай. *Годзе нам* [беларусам] *есьці аб'едкі і косьці, Злыбядзе ўсякай паклоны дарыць! Гаспадары мы ў сябе, а ня госьці, Час к панаваньню нам сьлед церабіць!* Г, 17.

Інф. *есці*: Т, 60; *есьці*: Г, 17; *есць*: ПН, 47; *есьць*: Гр, 215. Абв. цяп. адз. 3 ас. *есьць*: ЗК, 48. Мн. 3 ас. *ядуць*: АБ, 16. Пр. мн. *елі*: Гр, 215.

**ЕСЦЬ** (2) і **ЕСТЬ** *Руск.* **1.** *Тое, што* ёсць у 1 *знач.* [Поп]: *Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное*

*светское учэніе.* Т, 27. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна – есть суша і водныя басейны, дажэ морэ собственное імелось, но благодара врэдным клімацічэскім веяніям с Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце.* Т, 47.

**2.** *Тое, што* ёсць у 2 *знач.* [Усходні вучоны]: *Так вы* [Янка] *это і есць настояшчый белорус?* Там жа, 26.

**ЕСЬЦІ** *гл.* **ЕСЦІ.**

**ЕСЬЦЬ** *гл.* **ЕСЦІ.**

**[ЕЎРАПЕЙСКІ]** *прым.* Які адносіцца да народаў і дзяржаў Заходняй Еўропы. *Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў гандляроў сягодняшняй культурай, культурай заходняй, еўрапейскай.* Тж, 15.

Адз. ж. Т. *еўрапейскай*: Тж, 15.

**ЕХАЦЬ** (15) *незак.* **1.** Накіроўвацца куды-н.; ад’язджаць. [Янка]: *На маю думку, найлепей пакуль што ехаць на вёску і там прывучаць да навукі людзей і самой* [Аленцы] *ад іх вучыцца.* Т, 30. [Гарошка]: *(уваходзіць з пугай, пыхкаючы люльку). Я ўжо ўсё сваё зрабіў, і можам ехаць дамоў.* Там жа, 37.

**2.** Рухацца пры дапамозе якіх-н. сродкаў перамяшчэння. *А нaперадзе ўсіх* [ваяк] *едзе Наш Данілка з вайны, Шабля бліскае пры боку, Конь пад ім буланы.* ПСД. [*Мікіта*]: *(Напявае). Немцы едуць, нашы йдуць, Немцы нашых падвязуць.* Т, 31. // Праязджаць. *Ехаў* [Даніла] *поле і другое, Трэцце поле дасціг, Дзе сабраліся жаўнеры З сёл і вёсак усіх.* ПСД.

Інф. *ехаць* (2): Т, 30, 37. Абв. цяп. адз. 1 ас. *еду* (2): ЕЯП (2). 3 ас. *едзе* (8): ЕЯП (2); НД (2); ПСД; Т, 54, 55(2). Мн. 3 ас. *едуць*: Т, 31. Пр. адз. м. *ехаў*: ПСД. Мн. *ехалі*: ПСД.

**ЕШЧО** (2) *прысл. Руск. Тое, што* яшчэ ў 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *Ешчо одзін маленькій вопрос: Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

**2.** *Тое, што* яшчэ ў 5 *знач.*. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). Пры опросе аборыгенов Северо-западного края о процяжэніі занімаемай імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

**ЕШЧЭ** (16) *прысл. Польск.* **1.** *Тое, што* яшчэ ў 1 *знач. На земствах ляжыць ешчэ іншы важны абавязак – гэта агранамічная і лекарская помач селянам.* ВС. [Заходні вучоны]: *(да Янкі). Для взбогацэня нашэй ведзы: польскей потшэбнэ сон ешчэ нектурэ шчэгулы о нібы вашым краю.* Т, 47. ВН (4); ВС(2); РКр;

**2.** *Тое, што* яшчэ ў 2 *знач*. *Ешчэ не зьнялі дапросу са ўсих сяброў.* ВД. *Наш мужык беларус не пазнаў ешчэ смаку у чытанню газэт..* УП. ВС; Кц, 194; ХЛБ;

**3.** *Тое, што* яшчэ ў 5 *знач*. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік уперамежку з Усходнім вучоным). ..данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкен провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

**4.** *Тое, што* яшчэ у 7 *знач*. *Гэтые дзьве установы і як ешчэ могуць прыйсьці на помач бяднейшым селянам.* ВС.

# Ё

**ЁМКА** *прысл.* Добра, як мае быць. [Спічыні]: *Цяпер выслухайце* [Мікіта] *маленькія дзве асцярогі: першае – калі ўзыйдзеце на трыбуну, то ёмка зачашэце сабе на галаве думку аб тым, пры якой політычнай сытуацыі выступаеце з араторыяй.* Т, 40.

**[ЁМКІ]** (2) *прым.* **1.** Лёгкі, зручны. *Але з ёмкаю нагайкай Знае дзела Налівайка, Гайда ў шынк па пратаколе І шумі яшчэ там болей.* НД.

**2.** Вялікі, ладны. *Адзін толькі Беларускі Дзяржаўны Універсітэт а ніяк ня можа адважыцца на беларушчыну: выпусьціў за мінулы год два ёмкія сшыткі сваіх "Трудов", але пабеларуску ў іх ні слова.* ВСп, 90.

Адз. ж. Т. *ёмкаю*: НД. Мн. В. *ёмкія*: ВСп, 90.

**ЁН** (41) *займ.* **1.** Ужываецца (з мэтай пазбегнуць паўтарэння) замест назоўніка мужчынскага роду адзіночнага ліку. *І абавязак паэта, калі ён не хоча адарвацца ад жыцця, своечасова і высокамастацкімі творамі адгуквацца на ўсе гэтыя падзеі.* МП. *Ніва! Як ня любіць мне таемны твой шум? У ім – і ціхая па пражытым журба. У ім – і бунт, ў ім – жыцьцё, ў ім – людзей барацьба.* АР.

**2.** *толькі Р.* Ужываецца ў знач. прыналежнага займенніка; ягоны. *І ніхто з гэтых апекуноў навет і пальцам не кінуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса, каб падбаць аб яго родным краю.* Нз, 15. [Гарошка]: *Гэты настаўнік добры і дужа разумны чалавек, але галава яго нечым заведзена, бо мала, што сам носіцца, як кот з салам, з усялякімі мудрымі думкамі, дык яшчэ, як на тое ліха, і маёй Аленцы ў галаве ўсё дагары нагамі перакуліў.* Т, 44.

•**Его прэосвяшчэнство** *гл.* **прэосвяшчэнство**.

◊**Бог яго зразумее (пайме)** *гл.* бог. **І чамярыца яго ведае** *гл.* чамярыца. **На яго вышла** *гл.* выйсці. **Хто яго разбярэ** *гл.* хто. **Які яго нячысцік выкруціў** гл. выкруціць.

Адз. Н. *ён* (176): А, 327(2), 328(5); Ан, 18(2); 19(2); АПЖ (3); БЗ; БСУ; Бц, 74; Вб, 237; ВБЛ, 80, 81(2); 82; ВМ, 281(2); ВМР (10);

ВН; ВР (3); ВСп, 90; ГП, 8; ДД (3); Дз, 188; ДК (7); ЕЯП; З (2); ЗС, 18(2); ЗЯЗ, 89, 90; К (2); Кз, 17(2); КЧ; М, 19, 20; МП (4); Мц, 74; Н (2); НДп, 229; НК (2); ОШМ (4); ПДз; ПЛП; ПН, 47; ПНд, 314(3); ПС (3); ПСД; ПТ, 208(2); ПЧ; СНБ (3); СНБ, 337; СС, 300(2), 302(3), 303(4); Т, 19, 20(8), 22, 25, 29(3) 31(4), 32(2), 34, 37(2), 39, 41(2), 44(2), 45(3), 46, 53, 54, 56(3), 57(4), 58, 61; УП (2); УПУВ (2); УР, 215; УрП, 47(2), 51(4); Ф; Х (2); ХЛВ, 316; Ч, 319(4), 320(2), 325; ЧС, 50–51(2); ЧЧШ; $Ш_4$; ШБСЯ. Р. *яго* (147): АБ, 16(2); АЛ (3); Ан, 18(2), 19; БрБ, 6 (2); ВБЛ, 80(2), 81, 82; ВГ (3); ВГР (2); ВМР (5); ВН; ВР (3); ВС (2); ВСп, 91; ГВУ; ГП, 8; ДД (6); Дз, 191; ДК (4); ЖН; З (2); ЗС, 18 (3); ЗЯЗ, 90; Кз, 17; М, 19, 20; МІ, 17; Н; НДН, 18, 19; НДп, 229 (2); НДП, 230; Нз, 14, 15(2); НК (3); НКУС; ОШМ (5); ПДз; ПС (2); ПСС, 231, 233; ПЧ (4); РКП (2); СА, 181; СБНГ; СНБ; СС, 304(4); СТ (2); Т, 19, 20(6), 24, 25, 27, 29, 32(2), 34(3), 35(3), 37, 40, 42, 44(3), 45, 46, 47, 48, 51, 52, 54(2), 56, 57(3), 61(2); УПУВ; УрП, 52; ХБ, 27, 29(6); 30(2); Ч, 320(2), 324, ЧЧШ; *его*: Т, 28. Д. *яму* (51): Ан, 18(2); АПЖ (3); БСУ; Вб, 237; ВБЛ, 82; ВМР (2); ДК (2); З(4); Зс, 171; Кз, 17(2); М, 19; МІ, 17; Н; НДп, 229; ОШМ; ПС (2); ПСД; ПЧ (4); Т, 20(2), 32(4), 33(2), 34(2), 42(2), 45, 57(2), 60; ТС, 74; УрП, 47(2); Ч, 323; *ему*: ДК. В. *яго*: Пт. Т. *ім* (31): Ан, 19; АЛ; БС; Вб, 237; ВБ; 3; ЗК, 42; МСП, 187(3); Мц, 74; Нз, 14; НК; ПВ (2); ПС (2); ПСД; ПТ, 208; СА, 181(2); См, 90; Т, 22(2), 32, 41, 59; УрП, 52; Ч, 321, 326; $Ш_2$. М. *ім* (12): АР (4); Н (2); КЧ; ПСД; Т, 21; ХБ, 28; Ч, 321; ЧС, 50–51.

**ЁСЦЬ** (27) і **ЁСЬЦЬ** (16) **1.** Форма цяп. часу ўсіх асоб адз. і мн. ліку дзеяслова быць. *На беларускай зямлі было і ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай паліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца.* ПЛП. *Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае на сонца, мы* [беларусы] *паказалі свету, што Беларусь была, есць і будзе.* Там жа. *Параўн* есць у 1 *знач*.

**2.** Служыць звязкай ў састаўным іменным выказніку. *Дзеля гэтага ён* [абыватель] *яе* [беларускай сілы] *баіцца, а на адвагу ня здолен, бо адвага есьць рыск, а абыватель рыскаваць ня будзе.* ВМР. *І вось, з нашага, беларускага пагляду усе гэтыя плебісцыты і сходы бацькоў ёсьць нішто іншае, як дэмократычная камэдыя, каторую людзі прыкрываюць сваё нячыстае сумленьне.* ДК. *Параўн*. есць у 2 *знач*. есі.

**Ёсць жа яшчэ...**

◊**Так яно і ёсць** *гл.* так[1]. **Усё як ёсць** *гл.* увесь.

*ёсць* (24): БЗ; ВН; ВС (2); Гр, 215; НДН, 18; 19; Нз, 14(2); ПВ, Пц (2); Т, 27; 28(3); 35(2); 42, 48(2); ХБ, 28; $Ш_5$ (2); *ёсьць* (13): БСУ; ВМР (4); ДК; НГ (6); СБНГ.

# Ж

**Ж**[1] і **ЖА**[1] (37) *злучн.* **1.** *супраціўны.* Злучае сказы з адносінамі супрацьпастаўлення, супастаўлення і неадпаведнасці. *Людзі чужыя змагаюць мне грудзі З новым парадкам, з адменным жыццём, – Роднага ж краю тутэйшыя людзі Ў скуру чужацкую лезуць жыўцом.* Н. *Летась нягодна, сёлета горэй Проста жылося, проста жывецца, Красьці-ж ня пойдзем, хоць у каморы Кожны к нам прэцца.* Пп.

*Параўн.* жэ[1] ў 1 *знач.* БС; ВН; Кц, 195; Пп, 161; Т, 20(3), 22, 29, 44, 45, 54; УР, 215; Ч, 320.

**2.** *далучальны.* Ужываецца для далучэння сказаў з паведамленнем дадатковага або тлумачальнга характару. [Ганула]: *Яно ж і наракаць на яго* [Мікіту] *роднай маці гэтак не выпадае, але падчас, як прыдзе нешта нейкае, дык і гаворыш, і гаворыш; спачатку палягчэе на сэрцы, а пасля і шкадуеш. Ён жа мае родненькае дзіцё, ды адзін, як той васілёк у жыце.* Т, 20. *Ісці ўперад будуць вякі, пакаленні, – Законы-ж твае* [правадыра], *нібы светач нязгаслы, Шляхі асвятляць будуць светлым імкненням..* ТП, 216. *Параўн. жэ*[1] у 2 знач. Вб, 237; ВМР; ВСп, 90; Дз, 189; ЕЯП; Нз,15; ПБН; С, 209; Т, 20, 22, 24, 25, 35, 45, 53, 54, 58; ТП, 214; Ч, 320.

**Ж**[2] і **ЖА**[2] (196) *часц.* **1.** *узмацняльная.* Ужываецца для ўзмацнення значэння папярэдняга слова або сэнсу таго, што выказваецца. *Гляньце-ж бо, добрые людзі, як на Беларусі ўсе добра, хораша і дэмократычна!* ДК. *Дык чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваей дзяржаўнай незалежнасці?* Нз, 15. *Параўн.* жэ[2]. АК; АЛ; Ан, 18; АПЖ; БН, 92(3); БС (3); БСУ (3); Бч, 10; В; ВБЛ, 81, 82, 83(2); ВМР (2); ВР (3); ВСп, 90; Г, 16; ГНД; ДД (2); ДЖ; ДК (2): ЕЯП; ЁЯ (7); З(4); М, 20; МП (2); ОШМ (6); ПДз; Пп; ПЧ; Р (2); СА, 178; СБ; СНБ, 339; 340; СНБ; СЧ; Т, 20(3), 21, 22, 24(4), 25(2), 27, 28, 29(3), 30, 31, 32(5), 33, 34, 35(3), 36(4), 37,

39, 41(2), 42(3), 43(3), 44(3), 46(3), 48(3), 50(2), 51, 52(3), 53(4), 54(2), 55(3), 56, 57(7), 58(4), 59(2), 60, 61(2); ТП, 213, 214(2), 216, 217(2); Тж, 15(3), 16; Х; ХБ, 30; ХЛВ, 315; $Ш_1$.

**2.** Ужываецца пры супастаўленні, параўнанні, каб падкрэсліць падабенства, супадзенне. *А другі* [хлопчык] *– ты* [матулька] *прыпамінаеш? Над брывёю шрам на услонь, І ў вачох яго сінь такая-ж, І сухая таксама скронь.* ВБЛ, 81–82. *Не толькі Прымор'е, Урал і Украіну трацкісцкія дыверсанты прадавалі фашыстам. Такі-ж лёс рабства і гібелі яны рыхтавалі нашаму беларускаму народу..* ВНП. // Указвае на засяроджанне дзеі ў адным часе. *І як шчаслівы паэт, калі ён можа ў той-жа дзень прачытаць на мітынгу гневу і нянавісці да гэтых адкідаў чалавецтва – свае вершы..* МП. *І ў гэтыя-ж дні – другая падзея сусветнага значэння: на радзіму вяртаецца гераічная чацверка папанінцаў.* Там жа. // Служыць указаннем на нязменнасць, пастаянства. *З'ява XX. Тыя ж без Немца.* Т, 33. *З'ява XII. Тыя ж – Чырвонаармеец.* Там жа, 52. БВ, 16; ВБЛ, 81; ВР; ВСп, 91; ГЖУ; ГП, 8; МІ, 17; НДН, 19; Пц; СБ (2); СБНГ; СТ; Т, 25(2), 27, 31(2), 33, 35, 37, 38, 40, 52, 59; Х; ХБ, 28.

**ЖАБА** (2) *ж. Заал.* Лягушка. *Верасень месяц абходзіў палеткі, Птушкі не пелі, не квакалі жабы..* ВМ, 72.

**І кожны жук і жаба** *гл.* жук.

Адз. Н. *жаба*: Т, 55. Мн. Н. *жабы*: ВМ, 72.

**ЖАБРАВАЦЬ** (3) *незак.* Збіраць, прасіць міласціну. *Гэта ўсё* [наракaнні] *ўпаі дзіцяці З малаком сваіх грудзей, Бо іначай пойдзеш, маці, Жабраваць хлеб у людзей.* М, 20. *У Маскве Грыцко доўга шукаў места, дашоў да торбы и стаў жабраваць з дзіцём.* ПДз.

Інф. *жабраваць* (3): АБ, 16; М, 20; ПДз.

**ЖАБРАК** (2) *м.* Старац. *Над курганамі галасілі Сіроты, ўдовы, жабракі, Над імі ж у крывавым пыле Луналі груганы-крукі.* ГП, 8. // *У параўн. Паўстань з народу нашага, ваяк, І волатам на вогненным кані Народ аграблены – бы з торб жабрак – За бацькаўшчыну павядзі ў агні!* Пт.

Адз. Н. *жабрак*: Пт. Мн. Н. *жабракі*: ГП, 8.

**[ЖАБРАЦКІ]** (2) *прым.* Убогі, жабрачы. *І мне* [Купалу].. *хочацца прывітаць тых, якія многа сіл і працы прылажылі да таго, каб Беларусь жабрацкая ў царскія часы стала Беларуссю калгасна-заможнай..* ЖН. *Параўн.* жабрачы.

◊**З торбай жабрацкай жыць** *гл.* жыць.

Адз. ж. Н. *жабрацкая*: ЖН. Т. *жабрацкай*: Ф.

**ЖАБРАЦТВА** *н.* Вялікая беднасць; жабрацкае становішча. *Нявольніцтва й жабрацтва так нас з'ела І так нам высмактала*

*з сэрца сок, Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела Не смеем, стоптаныя на пясок.* Бч, 9.

Адз. Н. *жабрацтва*: Бч, 9.

**[ЖАБРАЧЫ]** (2) *прым. Тое, што* жабрацкі. *Сумна мне, сумна, што ўсё тут іначай Некалі бераг мой бачыў і знаў; Іншы меў выгляд – не гэткі жабрачы, Іншы я плыт на плячох сваіх гнаў*. Н.

◊**З кійком жабрачым брысці, паўзці у свет** *гл.* брысці.

Адз. м. В. *жабрачы*: Н. Т. *жабрачым*: Бч, 9.

**[ЖАДАННЕ]** (4) і **[ЖАДАНЬНЕ]** *н.* Унутранае імкненне, хаценне, ахвота. *.. палякі зрабілі хаўрус з расейскімі нацыяналістамі і чорнасоценцамі, .. абы адстрашыць беларусоў ад жаданьня вучыцца рэлігіі па беларуску.* ВР. *Нашы бясстрашныя байцыпагранічнікі, следуючы волі совецкага народа і яго жаданню захаваць мір, змагаюцца не пераходзячы на тэрыторыю ворага..* ВГ.

Адз. Р. *жаданьня*: ВР. Д. *жаданню*: ВГ. Т. *жаданнем* (2): НДН; ПБН. Мн. Р. *жаданняў*: ЁЯ.

**[ЖАДАНЫ]** *прым.* Доўгачаканы. *Мінулы год паказаў нам, што інтэрнацыяналісты І апьянелые пабедамі нацыяналісты не дадуць Беларусі жаданага міру і незалежнасьці.* СНБ.

Адз. м. Р. *жаданага*: СНБ.

**[ЖАДАЦЦА]** *незак. безас.* Хацецца. *..сам народ робіць усе так, як яму жадаецца, як ён падабае.* ДК.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *жадаецца*: ДК.

**[ЖАДАЦЬ]** (6) *незак.* **1.** Хацець што-н.; ажыццявіць. *І я* [Купала] *ўсім сэрцам жадаю выліць у свае песні вясёлкавую радасць, горды і радасны творчы ўздым найшырэйшых народных мас нашай рэспублікі.* ЖН. *.. гэтай рэформы* [беларускага правапісу] *жадала совецкая грамадскасць, рабочыя, калгаснікі, пісьменнікі, вучоныя і т.д.* ШБСЯ. *Параўн.* жычыць у 1 *знач.*; жэлаць.

**2.** Выказваць якое-небудзь пажаданне. *..хто не перашкаджае інтарэсам свае бацькаўшчыны і жадае лепшай долі сваей мацеры-Беларусі, – той пойдзе за беларусамі.* ВМР. *Мы толькі.. жадаем ад душы, каб як найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь.* БВ, 17. *Параўн.* жычыць у 2 *знач.*

Абв. цяп. адз. 1 ас. *жадаю* (3): АЛ; ЖН; Т, 21. 3 ас. *жадае*: ВМР. Мн. 1 ас. *жадаем*: БВ, 17. Пр. адз. ж. *жадала*: ШБСЯ.

**[ЖАДНЫ]** *прым. Польск.* Ніякі. *Гляньце-ж бо, добрые людзі, як на Беларусі усе добра, хораша і дэмократычна! Жаднага прымусу ці, барані Божа, гвалту: сам народ робіць усе так, як яму жадаецца, як яму падабае.* ДК.

Адз. м. Р. *жаднага*: ДК.

**[ЖАКЕТКА]** *ж. Разм.* Жакет. [Ануля]: *Той пакой, дзе жылі вы* [Янка], *аддалі нейкаму ў скураной жакетцы..* Т, 45.

Адз. М. *жакетцы*: Т, 45.

**[ЖАЛЕЗА]** (3) *н.* Коўкі метал. *Хай хлеба нашага кусок распаленым жалезам Абернецца у ворагавым горле крывасмочым..* ПНд, 314.

◊**Агнём і жалезам** *гл.* агонь.

Адз. Т. *жалезам* (3): НДН; ПЛП; ПНд, 314.

**[ЖАЛЕЗНЫ]** (5) *прым.* Зроблены з жалеза. *.. Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх* [зданяў] *у жалезны ржавелы ланцуг..* БН, 92. *А быў другі* [ганец] *і з ног, і з рук, Як гром з жывымі пярунамі; Ў руцэ меў стрэл жалезных пук, І лук стальны меў за плечамі.* Кц, 194.

**2.** *перан.* Цвёрды, стойкі. *Жалезнай рукой вы* [Ежоў] *грамілі і граміце змяіныя гнёзды трацкісцкай, бухарынскай і нацыяналфашысцкай контррэволюцыі..* НКУС. *..хай яна* [беларуская інтэлігенцыя] *скажа свае жалезнае слова.* 3. *Параўн.* жалязяны.

◊**Жалезнымі абцугамі трымаць** *гл.* трымаць.

Адз. м. В. *жалезны*: БН, 92. ж. Т. *жалезнай*: НКУС. н. В. *жалезнае*: 3. Мн. Р. *жалезных*: Кц, 194. Т. *жалезнымі*: НДН, 18.

**ЖАЛЕЙКА** (5) *ж.* Народны музычны інструмент. [Аўтарнік:] *Сваей рукой я прызначаю Дванаццаць выбраных між вас, – Жалейку кожны атрымае І перайме такі наказ: З жалейкай кожны хай сваею Не расстаецца на ўвесь век, Заве і верай і надзеяй Сьлязу і ўцеху з-пад павек.* УрП, 49.

Адз. Н. *жалейка*: ЗК, 43. В. *жалейку*: УрП, 49. Т. *жалейкай*: УрП, 49. Мн. Н. *жалейкі*: УрП, 47. В. *жалейкі*: УрП, 50.

**[ЖАЛЕЦЬ]** (2) *незак. Руск.* Шкадаваць. [Маці:] *..Красак, сонца не жалела Я для іх, саколаў, І расьлі яны, расьлі так Мае княжэнята..* Дз, 188. *Над калыскай з бегам ночак Песьні роднай не жалей* [матка], *Каб, як вырасьце сыночак, Верным вечна ён быў ей.* М, 19.

Абв. пр. адз. ж. *жалела*: Дз, 188. Заг. адз. 2 ас. *жалей*: М, 19.

**[ЖАЛІЦЦА]** (3) *незак.* Выказваць жальбу, бедаваць. *Хто там стогне, так, на ўзьмежку, На капцы у полі?.. Ці над бацькаўскай магілай Жаліцца сіротка, Ці сваей шукае мілай Хлопец-адзінотка?* Дз, 187. [Другі ганец:] *А топчуць* [людзі] *толькі ўсё той сьлед, Валочуць ёрмы за сабою Ці ўбачуць корч, ці ўбачуць цьвет, Аднэю жаляцца сьлязою.* Кц, 195. // *Вобразн. Заплача ў пагоду канюх па расінцы, – "Забраны край" жаліцца з ім.* ЗК, 42.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *жаліцца* (2): Дз, 187; ЗК, 42. Мн. 3 ас. *жаляцца*: Кц, 195.

**[ЖАЛОБНЫ]** (2) *прым.* Сумны, тужлівы. *А сёння… Сёння што? Ад рання і да рання, Калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пяянне, Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.* СК, 158.

◊**За стол жалобны сесці** *гл.* сесці.

Адз. м. В. *жалобны*: ГП, 8. н. Н. *жалобнае*: СК, 158.

**ЖАЛЬ** (8) *м.* Пачуццё горычы, смутку. [Гануля]: *Як падумаю, што бяда зноў прыцісне, што зноў прыдзецца людзям бялізну мыць, дык аж рукі вянуць ад нейкага жалю горкага.* Т, 20. *Не дзіва, што многа жалю, многа смутку і жальбы было ў маіх* [Купалы] *песнях, бо незабыўнае гора, голад і смутак паланілі сэрца шматпакутнага народу.* ЖН. *Параўн.* жальба у 1 *знач.*

∆**Сум-жаль** *гл.* сум.

◊**На жаль** *(у знач. пабочн.)* – ужываецца, каб выказаць шкадаванне з прычыны чаго-н. *На жаль, польскім дэпутатам у Думе ня йдзе аб справядлівасьць, аб сумленнасьць..* ВР.

Адз. Н. *жаль* (2): ЗН; Н. Р. *жалю* (3): Дз, 191; ЖН; Т, 20. В. *жаль* (2): ВР; ЗН. Т. *жалем*: ЗН.

**ЖАЛЬБА** (4) *ж.* **1.** *Тое, што* жаль. *І круцілі цябе* [Беларушчыну], *як каму падабалася, Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй, на свой лад; Ажно часам жальба, як кляцьба разьлягалася, Ды ня чутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад.* Б, 18. *Як там русалкі – твае* [брата-беларуса] *дзеці – Днём аддыхаюць у жальбе, каб ночкай, блудзячы па свеце, Шукаці долі для цябе.* БрБ, 6.

**2.** Скарга, нараканне. *Аб гэтым* [непрызнанні права беларускага народа на яго родную мову] *штодня ідуць скаргі, жальбы, протэсты..* ОШМ.

Адз. Н. *жальба*: Б, 18. Р. *жальбы*: ЖН. М. *жальбе*: БрБ, 6. Мн. Н. *жальбы*: ОШМ.

**[ЖАЛЯЗЯКІ]** *мн.* Металічныя кручкі з шыпамі для пад'ёму на слупы. [Мікіта]: *(варочаецца пераадзеты па-пажарніцку з каскай на галаве, з тапаром пры поясе і з жалязякамі, што лазіць па слупох)..* Т, 32.

Мн. Т. *жалязякамі*: Т, 32.

**[ЖАЛЯЗЯНЫ]** *прым. Разм. Тое, што* жалезны ў 2 *знач. Захапіў яго* [сына першага] *пахмур лядачны, крывавы, Жалязянымі клешчамі сьціснуў..* Ч, 320.

Мн. Т. *жалязянымі*: Ч, 320.

**ЖАНДАР** (5) *м. Гіст.* Асоба паліцэйскага чыну на службе ў жандармерыі. *Акоў паломаных жандар, Сліўнём зарыўшыся ў нару, Сядзіць расійскі чынадрал, "Слуга ацечаству, цару".* АПЖ. *Параўн.* жандарм. // *У знач. мн. Загнаны ў падполле там* [за Сулою] *лепшыя людзі, На "крэсах усходніх" лютуе жандар.* ПБН.

*Луцкевічы, Станкевічы і т. д. служаць адзінай мэце – адарваць Совецкую Беларусь ад Совецкага Саюза і кінуць яе ў паднявол-ле – соцыяльнае, нацыянальнае і культурнае – пад ногі нямецкага, польскага, беларускага жандара, памешчыка-фашыста.* ШБСЯ. *Параўн.* жандарм.

**Акоў паломаных жандар...**

•**Жандар усёй Еўропы** – царская Расія. *Табой* [рускім языком] *сам самадзержац цар Пісаў ланцужны свой закон, Што маці-Русь есі жандар Усёй Еўропы!* АПЖ.

Адз. Н. *жандар* (4): АПЖ (3); ПБН. Р. *жандара*: ШБСЯ.

**[ЖАНДАРМ]** (5) *м. Руск. Тое, што* жандар. *..ў рэдакцыю.. часопісі "Наша Ніва" ўрываліся жандармы і "ахраннікі", здзекаваліся над людзьмі..* МІ, 17. [Гарошка]: *Вылез* [Юрка] *на вуліцу і давай з іншымі на чым свет шумець і крычаць: "Зямлі і волі!" Разумеецца, за такі крык жандармы і збяёдалі яго з гэтага свету.* Т, 44.

•**Жандарм Еўропы** (2) – царская Расія. *..і зрабіць з яе* [Расіі] *ўзноў жандарма Еўропы..* Ан, 19. *Царства няволі, турмаў, пахаронных званоў – царства, якое называлася жандармам Еўропы.* ДЖ.

Адз. В. *жандарма*: Ан, 19. Т. *жандармам*: ДЖ. Мн. Н. *жандармы* (3): МІ, 17; СНБ; Т, 44. Р. *жандармаў*: СНБ.

**[ЖАНДАРМЕРЫЯ]** *ж.* Асобнае паліцэйскае войска для палітычнай аховы і барацьбы з рэвалюцыйным рухам. *..заява Вялікага Начальніка Польскай дзяржавы – адно, а палітыка польскіх эндэкаў і жандармерыі – другое.* СНБ.

Адз. Р. *жандармерыі*: СНБ.

**ЖАНДАРМСКІ** (3) *прым. да* жандар. *Для эндэкаў нічога не знача прымер царскай Расіі, якая пад паліцэйскім і жандармскім кулаком трымала дзесяткі падняволеных народаў..* СНБ. *Дзякую партыі Леніна–Сталіна, Дзякую Сталіну мудраму, роднаму, Што на Расіі жандармскай развалінах Гору канец палажылі народнаму..* ДПЛС.

•**Жандармскі бот** *гл.* бот.

Адз. м. Н. *жандармскі*: ДЖ. Т. *жандармскім*: СНБ. ж. М. *жандармскай*: ДПЛС.

**[ЖАНІЦЦА]** *незак.* Уступіць у шлюб. [ Гануля]: *Адзін* [гаспадар] *яшчэ сяк-так мясціўся ў сям'і, а як жаніўся, дык і не хапіла абаім месца.* Т, 20.

Абв. пр. адз. м. *жаніўся*: Т, 20.

**[ЖАНІЦЬБА]** *ж. перан.* Аб'яднанне. *Пaглядзім, што зробіць у гэтай* [выдавецкай] *справе "Белтрэстдрук", які паўстаў ад жаніцьбы Госиздата з Паліграфам.* ВСп, 91.

Адз. Р. *жаніцьбы*: ВСп, 91.

**[ЖАНКІ]** *толькі мн. Разм.* Жанчыны. *..Заместа прыбітых балесных жанок Стаханаўкі выраслі ў нашай краіне..* ПБН.

Р. *жанок*: ПБН.

**[ЖАНОЧЫ]** (2) *прым.* Прызначаны для жанчыны. [Дама]: *..бацюшка, які з намі ў вас* [Ганулі] *гасціў, абяцаў, калі што якое мяне прыцісне, дык зробіць протэкцыю ў Прэображэнскі жаночы манастыр.* Т, 58. *А ўся – жаночэ іме, Кожны знойдзе між сьвятымі.* $Ш_4$.

Адз. м. В. *жаночы*: Т, 58. Кар. адз. н. Н. *жаночэ*: $Ш_4$.

**ЖАНЧЫНА** (5) *ж.* Асоба, па полу супрацьлеглая мужчыне. *..на абедзе ў Прасценаўскай ратушы выступіла адна жанчына з хвалюючай прамовай.* ПЧ. *Заместа праклёнаў і песень тужлівых, Што поўнілі сэрца, як горкі палын, Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых Як гімн перамогі совецкіх жанчын.* ПБН. // *У параўн. І, як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80.

Адз. Н. *жанчына* (3): ВБЛ, 80; ГВУ; ПЧ. Мн. Р. *жанчын*: ПБН. В. *жанчын*: РКП.

**ЖАР** (4) *м.* **1.** *Разм.* Гарачыня, спёка. *У параўн. Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр! Дай волю парывам гарачым, Вясёлым, прывабным, як сонейка жар, каб бліснула яснасьць і сьпячым!* Пр.

**2.** *перан.* Страснасць, уздым, душэўны парыў. *Чагось чакалі грамадзяне, У вачох палаў надзеі жар, – Пад сьмерць, здаецца, кожны стане, Адвагай мятусіўся твар.* УрП, 47. *Асьвяціў сваё чорнае першы* [брат] *сумленьне Прагавіцьцем быць сонцу раўнёю, Ў путах сьцюжу трымаць, меці жараў насеньне, Тлець, пылаць над людзьмі, над сабою.* Ч, 324.

Δ**Жар-цвет:** *Яшчэ жар-цвет Бунтарскіх дум у вас* [бальшавікоў] *не згас: Еўропа кліча ў госці вас..* ПВ.

Адз. Н. *жар* (3): ПВ; Пр; УрП, 47. Мн. Р. *жараў*: Ч, 324.

**[ЖАРКІ]** *прым. Руск.* Цёплы, паўднёвы. [Поп]: *(ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой). Акі пціцы небесныя, отлетаюшчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38.

Мн. В. *жаркія*: Т, 38.

**ЖАР-ПТАХ** *м. Нар.-паэт.* Казачная птушка. *У параўн. За ім – за сонейкам мой шлях, Куды яно з сваёю ласкай, Ляцець, плысці, як той жар-птах, На полюсах рабіць папаску.* МСП, 187.

Адз. Н. *жар-птах*: МСП, 187.

**[ЖАРТ]** (4) *м.* Востры, дасціпны выраз, забаўная выхадка. *З ім* [камсамольцам] *не жарты, з ім не гулі, – Сцеражыся подлы вораг!* СА, 181.

◊**Не на жарт** – вельмі сур’ёзна. *Знай, жаўнеры мы, Вышлі не на жарт Біцца, ваяваці..* ВБ. **Строіць жарты** *гл.* строіць**.**

Адз. В. *жарт*: ВБ. Мн. Н. *жарты*: СА, 181. В. *жарты* (2): 3; ПТ, 206.

**[ЖАРТАВАЦЬ]** *незак*. Насміхацца, кпіць. [Мікіта]: *Вы, пане настаўнік, не жартуйце. Я не зусім такі ўжо несвядомы..* Т, 56.

Заг. мн. 2 ас. *жартуйце*: Т, 56.

**ЖАРТАЎЛІВА** (2) *прысл.* Жартам; весела. [Янка]: *(жартаўліва). Вельмі прыемна пазнаёміцца з новым канкурэнтам у маёй прафэсіі.* Т, 30. [Аленка]: *(жартаўліва). Якое няшчасце! Гэта ж як у таткі пачнецца вялікі табачны пост, дык задасць ён усім нам табакі!* Там жа, 39.

**ЖАРТАЎНІК** (2) *м.* Смехатворная асоба. [Мікіта]: *І жартаўнік жа вы, дзядзька беларус, незвычайны вы жартаўнік!* Т, 48.

Адз. Н. *жартаўнік* (2): Т, 48(2).

**ЖАЎНЕР** (6) *м. Польск.* Салдат польскай арміі. *Як той лес, жаўнер Ля жаўнера стаў, Зброя ў сонцы йграе..* ВП. *Ехаў* [сын Даніла] *поле і другое, Трэцце поле дасціг, Дзе сабраліся жаўнеры з сёл і вёсак усіх.* ПСД.

Адз. Н. *жаўнер* (2): ПБН; ВБ. Р. *жаўнера*: ВБ. Мн. Н. *жаўнеры* (2): ВБ; ПСД. В. *жаўнераў*: ВБ.

**[ЖАЎНЕРКА]** (2) *ж. Польск.* Вайсковая служба ў польскай арміі. *Габруся ў жаўнерку ўзялі, Ад дамоўства адарвалі...* ГЖУ.

**Габруся ў жаўнерку ўзялі...**

Адз. В. *жаўнерку* (2): ГЖУ (2).

**[ЖАЎНЯРОНЬКА]** *м. Ласк. да* жаўнер. *Што за доля, што за воля – Жаўняроньку выйсці ў поле?* БЗ.

Адз. Д. *жаўняроньку:* БЗ.

**ЖАЎРАНАК** *м.* Палявая пеўчая птушка. *Хутка жаўранак песняй сваёй галасістаю Прывітае аратых на полі.* ТС, 74.

Адз. Н. *жаўранак*: ТС, 74.

**[ЖАХ]** *м.* Моцны страх. *Чаму яны* [людзі] *так хутка забылі той жах, які перажывалі у час соцыяльнай рэволюцыі?* ДК.

Адз. В. *жах:* ДК.

**[ЖАХЛІВАСЦЬ]** *ж.* Гаротнасць, трагічнасць. *Гаруе там* [за Сулою] *брат наш, гібее пад панам, – Жахлівасцю вее з Заходняй зямлі.* ПБН.

Адз. Т. *жахлівасцю:* ПБН.

**ЖАЦЬ** (3) *незак*. Убіраць хлебныя злакі, зразаючы сцёблы сярпамі. *Шостую вясну ўжо ён* [беларус-хлебароб] *сее так безнадзейна, ня ведаючы – хто яго сяўбу жаць будзе.* ДД. *.. зямля, засеяная касцямі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх; спаленую хату беларускі мазоль адбудуе,*

*а сваю сяўбу ён сам будзе жаць.* ПЛП.

Інф. *жаць* (2): ДД; ПЛП. Абв. цяп. адз. 1 ас. *жне*: ПЛП.

**[ЖВАВЫ]** *прым.* Бадзёры, рухавы. *Аленка – яго* [Лявона Гарошкі] *дачка, 17–19 г., крыху жвавая і вясёлая дзяўчына, адзяецца чысценька і скромна.* Т, 19.

Адз. ж. Н. *жвавая:* Т, 19.

**ЖДАЦЬ** (6) *незак. Руск. Тое, што* чакаць у 2 *знач. Сьмейся сьмехам-хрыпеньнем быдляці З перарэзаным горлам і грэйся Ў гэтым храпе скрозь стогн і пракляцьце, І не важся да сэрца ўздыхаці, Ласкі ждаць... Хоць крывёю, а сьмейся!* См, 91. *Раскіданыя гібнуць па ўсім сьвеце Вы Мэсыі чакаеце яшчэ, Жыды, – Тэй Мэсыі ждуць Беларусі дзеці І з вамі пойдуць, як вы з намі, ўсе тады.* Ж.

Інф. ж*даць*: См, 91. Абв. цяп. адз. 3 ас. ж*джэ* (4): НГ; НД; Пт (2). Мн. 3 ас. ж*дуць: Ж.*

**ЖДУЧЫ** (2) *дзеепрысл. да* ждаць у 2 *знач. Так гаспадарым мы і дома і за домам, Усё ждучы пацехі з севу і жніва, Ждучы дарма, як летам жджэ расы трава.* НГ (2).

**[ЖМЕНЯ]** *ж. перан.* Нязначная колькасць, нямнога. [Мікіта]: *Буржуазія з усіх жыл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата або кусок якога маёнтку..* Т, 40.

Адз. В. *жменю:* Т, 40.

**[ЖНЕЙКА]** *ж. Ласк. да* жняя. *..Нашыя жнейкі ў жніўну работу Пелі вам* [людзям чужым] *песні.* Чж, 146.

Мн. Н. *жнейкі:* Чж, 146.

**[ЖНІВЕНЬ]** (3) *м.* Восьмы месяц каляндарнага года. *Рэформа правапіса, праведзеная пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г., мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.* ШБСЯ. [С. Меч]: *Ліпень, жнівень і верасень я пражыў у Меншчыне, на беразе Сьвіслачы...* ХБ, 28.

Адз. Р. *жніўня* (2): СНБ, 340; ШБСЯ. В. *жнівень*: ХБ, 28.

**[ЖНІВО]** (4) *н.* **1.** Уборка збожжавых культур. *Так гаспадарым мы і дома і за домам, Усё ждучы пацехі з севу і жніва...* НГ. // Час, пара ўборкі збожжа. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сэрца і звонка, як медзь, Якую ў жніво пяе ў полі жняя..* СС, 300.

**2.** Збажына; ураджай *..Кладуцца снапы у снапы, – Такога жніва не было.* ТП, 213.

**3.** *перан. Вобразн.* Вынік якой-н. дзейнасці. *Мы самі сведкамі таго, што кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруненіся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй, ад якой можна смела чакаць ураджайнага жніва.* ПЛП.

Адз. Р. *жніва* (3): НГ; ПЛП; ТП, 213. В. *жніво*: СС, 300.

**[ЖНІЎНЫ]** *прым. да* жніва ў 1 *знач. ..Нашыя жнейкі ў жніўну работу Пелі вам* [людзям чужым] *песні.* Чж, 146.

Кар. адз. ж. В. *жніўну:* Чж, 146

**ЖНЯЯ** *ж.* Жанчына, якая жне сярпом. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сэрца і звонка, як медзь, Якую ў жніво пяе ў полі жняя..* СС, 300.

Адз. Н. *жняя*: СС, 300.

**ЖОЛУДЗЬ** *м. Руск.* Жолуд. [Беларус]: *Сваячкі мае вы: Смачны холудзь вам на каву, Дай высока дрэва!* С, 209.

Адз. Н. *жолудзь*: С, 209.

**ЖОНКА** (7) *ж.* Замужняя жанчына ў адносінах да свайго мужа. *Забабон старадаўнаму славяніну загадваў, каб жонка ішла з мужам разам ў магілу...* 3. [Янка]: *Цяпер яна* [Аленка] *мая жонка назаўсёды.* Т, 53.

Адз. Н. *жонка* (2): 3; Т, 53. Р. *жонкі*: СЧ. Т. *жонкаю:* ПДз; Мн. В. *жонак* (2): Т, 33, 46; *жанок*: Т, 46.

**[ЖОРСТКІ]** (2) *прым.*: ◊**Як мышы пад жорсткім венікам** *гл.* мыш. **Станавіцца жорсткім комам** *гл.* станавіцца.

Адз. Т. *жорсткім* (2): БЧ, 9; НГ.

**[ЖОЎТЫ]** (2) *прым.* Колеру яечнага жаўтка, золата. *Пакуль-жа блісне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні.. Да ніў родных, калосьсем ярка маляваных, Залочаных пшаніцай, жытам пасрабраных, Гдзе жоўтая сьвірэпка, гдзе грэчка бяленька.* ХБ, 28. *На шапцы ў яго* [Мікіты] *вялікі значок з белым арлом – брыль абабіты бляхай; фрэнч і галіфэ новыя, з цёмна-жоўтага сукна, боты жоўтыя.* Т, 54.

Адз. ж. Н. *жоўтая*: ХБ, 28. Мн. Н. *жоўтыя*: Т, 54.

**[ЖОЎЦЕНЬКІ]** *прым. Ласк. да* жоўты. [Мікіта]: *Я не грабіў,– мяне, медждy протчым, грабілі – фрэнчык формельны, боты жоўценькія знялі...* Т, 60.

Мн. В. *жоўценькія*: Т, 60.

**[ЖУДАСНЫ**] (2) *прым.* Жахлівы. *Досыць зірцуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16. *Ці-ж можна маўчаць, калі радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў..* МП.

Адз. н. Р. *жудаснага*: АБ, 16. Мн. М. *жудасных*: МП.

**[ЖУДАСЦЬ]** і **[ЖУДАСЬЦЬ]** *ж.* Жах, пачуццё страху. *А сёння... Сёння што? Ад рання і дарання, Калышучы абняты жудасцю прастор, Плыве з Масквы жалобнае пяянне, Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.* СК, 158. *..азьвярэлыя вятры Ад жудасьці,*

*ад сораму і дыму Яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну, Што ад Растова ўсе чырвоныя далёка Й няма што трасцай кідаецца нялёгкай..* ВБЛ, 80.

Адз. Т. *жудасцю*: СК, 158; М. *жудасьці*: ВБЛ, 80.

**[ЖУДКІ]** і *разм.* **[ЖУТКІ]** *прым.* Жалобны; жахлівы. *І ўсім чыста, што не забыліся на мяне* [Купалу] *ў гэты жудкі час, нізка кланяюся і шчыра дзякую.* ЛР. *Яшчэ далятае да нас грознае і жуткае водгулле крывавага змагання на беларускім полі, паміж нашымі суседзямі – палякамі ды маскалямі..* ЗС, 17.

Адз. м. В. *жудкі*: ЛР; н. Н. *жуткае*: ЗС, 17.

**ЖУК** *м.*: ◊**І кожны жук і жаба** – усе. [Янка]: *Цяпер гэта* [асэсарства] *наймаднейшая свабодная прафэсія, і кожны жук і жаба хоча на беларушчыне рабіць сабе кар'еру.* Т, 55.

Адз. Н. *жук*: Т, 55.

**ЖУРБА** *ж.* Пачуццё смутку; туга, маркота. *Ніва! Як ня любіць мне таемны твой шум? У ім – і ціхая па пражатым журба.* АР.

Адз. Н. *журба*: АР.

**[ЖУРБАВАЦЬ]** (6) *незак. Наватв.* Сумаваць, маркоціцца, тужыць. *Ня журбуйце, тата, маці! Я ўсядзець не мог у хаце, Сам пайшоў па добрай волі Паспытаць ваеннай долі Ня журбуйце, ня журбуйце!* ГЖУ.

Заг. мн. 2 ас. *журбуйце* (6): ГЖУ (6).

[**ЖУРНАЛІСТ**] (2) *м.* Прафесіянальны літаратурны работнік газет, часопісаў. *Савецкія пісьменнікі і журналісты пазнаёміліся з такімі дзеячамі мастацтва, як драматург і Гонзль, Бурыян, пісьменнікі Ольбрахт, Томан..* ПЧ. *Увесь склад трупы тэатра перад пачаткам спектакля выйшаў на сцэцу і горача вітаў совецкіх пісьменнікаў і журналістаў.* Там жа.

Мн. Н. *журналісты*: ПЧ. В. *журналістаў*: ПЧ.

**[ЖУРФІКС]** *м. Уст.* Вечар для прыёму гасцей у вызначаны дзень. [Пан]: *Ні маёнткаў, ні бравароў!* [Дама]: *Ні раутаў, ні журфіксаў!..* [Наста]: *А, па-мойму, што-небудзь ды ёсць. Ёсць, напрыклад, свабода: што хачу, тое раблю.* Т, 28.

Мн. Р. *журфіксаў*: Т, 28.

**[ЖУРЫЦЦА]** *незак.*Сумаваць, маркоціцца. *Журыцца дзяўчына, Што Янук пакінуў... Той паехаў на пацеху, Бараніць Айчыну.* ЕЯП.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *журыцца:* ЕЯП.

**ЖУТКА** (2) *прысл. да* жудкі. *Путы звонка бражджаць і ўгары, і ўнізу, Жутка вісельні граюць, слізгоча пятля..* БН, 92. *Лапацяць крыламі жутка Кажаны, начніцы, Як-бы суд спраўлялі тутка Ведзьмы-чараўніцы.* Дз, 191.

**ЖЫВА** (4) *прысл.* Хутка, паспешліва. *Вось, матаючы нагайкай, Загамоне Налівайка: – Гэй, рагатка, чорт рагаты, Жыва*

*месца дэпутату.* НД. *Цяперака час жытняй сяўбы. Дык жыва за плуг і севалку.* РКр. БН, 92; Р.

**[ЖЫВАТВОРНАКРЫНІЧНЫ]** *прым. Н准ватв.* Жыццядзейны, прывабны. [Мікіта]: *Толькі прымеце мяне, жыватворнакрынічная мамзэль Наста, у пакорныя і вечныя слугі вашага, меджду протчым, сіньёрыстага сэрца.* Т, 42.

Адз. ж. Н. *жыватворнакрынічная:* Т, 42.

**[ЖЫВАТВОРНЫ]** (4) *прым.* Які дае жыццё, аднаўляе сілы, ажыўляе. *Жыві і красуйся* [Сталін] *нам вечныя векі, Як вечна плывуць жывартворныя рэкі!* СС, 303. // *перан.* Спрыяльны, дабратворны, плённы. *Нам даюць наш сьцяг у рукі і гэты сьцяг мы павінны з трыумфам вынясьці на жыватворнае сьвятло будучыны..* БСУ. *..нацыянальнае беларускае жыццё пачынае кіпець, палаць праўдзівым, вечным і жыватворным полымем.* MI, 17. *Параўн.* жыватворчы.

Адз. ж. Т. *жыватворнай:* ДПЛС. н. В. *жыватворнае:* БСУ. Т. *жыватворнным:* MI, 17. Мн. Н. *жыватворныя:* СС, 303.

**[ЖЫВАТВОРЧЫ]** *прым. Тое, што* жыватворны. *Віхор прамiне і прыдзе ясная жыватворчая пагода для ўсіх.* СНБ.

Адз. ж. Н. *жыватворчая:* СНБ.

**ЖЫВЁЛА** (4) *ж., зб.* Свойская сельскагаспадарчая скаціна. *На першай чародзе стаіць у нас пытаньне, як забаспечыцца перэд магчымай нестачай харчоў для сябе і для жывёлы. ВС. Сыны зямлі роднай чужыя палеткі Ў чужую карысць засяюць, На родных папарах галодныя дзеткі Чужую жывёлу пасуць...* ЗК, 42. // *У параўн. З году у год мы жылі, як жывёла, З году да году чакалі сьвятла...* Г, 16.

Адз. Н. *жывёла:* Г, 16. Р. *жывёлы:* ВС. В. *жывёлу* (2): ВСп, 90; ЗК, 42.

**[ЖЫВІЦЬ]** *незак.* Быць часткай чаго-н. *Першае – чацьвёртае* [склад слова] *Жывіць сьвет сабою.. Ш$_3$*

Абв. цяп. адз. 3 ас. *жывіць: Ш$_3$.*

**[ЖЫВУЧЫ]**[1] (3) *прым.* **1.** Жыццяздольны, вынослівы. *..Абсееш* [правадыр] *пасевам жывучым загоны І сцежкі намеціш да сонца і зораў.* ТП, 217. *Беларуская душа, як бачым, – жывучая, творчая, як яе ні заганяй у казіны рог..* HI, 17.

**2.** *перан.* Устойлівы, здольны доўга існаваць, захоўвацца. *Кідае* [забабон] *балотам на усё сьвятое, спакон веку жывучае, з малаком матчыным упоенае.. З.*

Адз. м. Т. *жывучым:* ТП, 217. ж. Н. *жывучая:* MI, 17. н. В. *жывучае: З.*

**[ЖЫВУЧЫ]**[2] (2) *дзеепрым. незал. цяп. да* жыць у 1 *знач. Кароценькая вестка ..павінна збудзіць у кожнага беларуса і*

*наагул у кожнага грамадзяніна, жывучага вечна ў нашым краю, вялікае здаволеньне і сьвяточную радасьць.* БСУ. *Будучы дагэтуль паднявольнымі і паспытаўшы, што за смак гэтае паднявольле, само сабой разумеецца, нам і ў думку не прыйдзе запрагаць каго б то ні было, жывучага на нашых загонах, у паднявольнае ярмо.* НДН, 18.

Адз. м. Р. *жывучага* (2): БСУ; НДН, 18.

**[ЖЫВЫ]** (29) *прым.* **1.** Які жыве, існуе. *Гэта дэмакратычная камэдыя, каторая толькі выклікае ня сьмех а горкіе сьлёзы, бо чыніцца над жывым, змучаным, абяздоленым народам..* ДК. [Другі ганец:] *Я абышоў іх* [людзей] *тройчы раз І відзеў, што яны ўсе жывы.* Кц, 195. // Не засохлы, не завялы (пра расліны). *Мы вас* [людзей чужых] *прынялі хлебам і соляй, Людзі чужыя; Ўстрэлі вас ласкай нашага поля Кветкі жывые.* Чж, 146. // Які належыць жывой істоце. [Груганы:] *Дасюль елі мерцьвякоў, А цяпер затое Будзем піць мы кроў жывых, Мяса есьць жывое!* Гр. // *У знач. наз. Выходзяць* [прадзедаў косці], *ідуць ад парогу к парогу; На стогн жывых грозна глядзяць..* ЗК, 43. *Малюнак дзіўны змешчан быў у газетах, Малюнак, што ў жывых у памяці жыве.* СК, 158.

**2.** Поўны руху, ажыўлення. *..Ці майскае свята ў жывым карагодзе, Ці свята Кастрычніка ў хаты прыходзіць, Як песня, жыве яго імя* [Сталіна] *ў народзе.* СС, 302. // *перан.* Рухомы, зменлівы. *Адлогам лягуць скора нівы, Узьняты нашаю рукой, Крыніц жывыя пералівы Закалатушацца крывёй.* УрП, 48.

**3.** *перан.* Які дае жыццё, аднаўляе сілы. *..Вада з крыніц жывых хай зверам-людарэзам Атрутай будзе і сляпіць крывавыя іх вочы.* ПНд, 314.

**4.** *перан.* Свежы. *Таварышы! Зняць шапкі над жывой магілай!* СК, 158. // Выкліканы, абумоўлены жыццём, практыкай. *Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцьця паднявольнымі народамі.., – гэта ідэя сягодня ператвараецца у жыцьцё, становіцца жывым дзелам, цьвёрдым фактам.* БСУ.

**5.** Дзейны, ажыўлены. *Пажаданні нашы: даць камандзіру годную дома работу і забяспечыць жывы кантакт дома з нашым атрадам работнікаў мастацтваў.* ПГ.

•**Жывое слова** *гл.* слова.

◊**Жывы тавар** *гл.* тавар. **Быць жывым абразам** *гл.* быць. **Жывая капейка** *гл.* капейка. **Жывы труп** *гл.* труп. **Загарэцца вечным жывым агнём** *гл.* загарэцца.

Адз. м. Р. *жывога*: Н. В. *жывы*: ПГ. Т. *жывым* (4): БСУ; Дз, 188; ДК; З. М. *жывым*: СС, 302. ж. Н. *жывая* (3): ДПЛС; ЛПК; Т, 20. Т. *жывой*: СК, 158. н. Н. *жывое*: Т, 45. В. *жывое* (2): Гр; МІ, 17. Т. *жывым*: БСУ. Мн. Н. *жывыя* (2): СЗГ, 252; УрП, 48;

*жывые*: Чж, 146. Р. *жывых* (6): В; Гр, 215; ЗК, 43; Кц, 193; СК, 158; ПНд, 314. Т. *жывымі* (2): Кц, 194; См, 91. Кар. мн. Н. *жывы* (3): Кц, 194, 195(2).

**ЖЫД** (12) *м. Разм. Тое, што* яўрэй. *0, слава вам, ўсебеларускія Жыды!* Ж. *Пара, Жыды, паны ўсёга сьвету, Сплаціці доўг, які вам Беларусь дала!* Там жа.

Адз. Н. *жыд*: СНБ, 338. Д. *жыду*: УК. М. *жыдзе*: ЛПК. Мн. Н. *жыды* (7): Ж (7). В. *жыдоў* (2): ЛПК; НДН, 19.

**ЖЫДОЎСТВО** *н., зб.* Яўрэі. *Ёсьць яшчэ трэцьця сіла у нашым месьце. Гэта – жыдоўство.* ВМР.

Адз. Н. *жыдоўство*: ВМР.

**[ЖЫДОЎСКІ]** *прым. да* жыд. [Гануля]: *Пайшоў* [Мікіта] *паглядзець на Захараўскую вуліцу, як там паны турбуюць жыдоўскія крамы й спальні.* Т, 57.

Мн. В. *жыдоўскія*: Т, 57.

**[ЖЫЛА]** (10) *ж. Разм.* Сухажылле. *Вырывай з сябе жылу па жыле, Ві ў і вяроўку, ў пятлю павесься..* См, 91.

•**Зямлі жыла** – рака. *Ад хваль, што шэпчуцца так міла, Ты дойдзеш праўданькі усёй, Што рэчкі – гэта зямлі жылы, Вада ў іх – кроў зямлі тваёй.* БрБ, 6.

◊**Выцягваць жылы** *гл.* выцягваць. **З усіх жыл выбівацца** *гл.* выбівацца. **Лезць з жылаў** *гл.* лезць. **У жылах кроў ледзянее** *гл.* кроў.

Адз. В. *жылу*: См, 91. М. *жыле*: См, 91. Мн. Н. *жылы*: БрБ, 6. Р. *жыл*: Т, 40; *жылаў*: Х. В. *жылы*: Ч, 325. М. *жылах* (4): Бц, 74; См, 91; Т, 46; Ч, 324.

**[ЖЫЛКА]** *ж. перан.* Здольнасць або прыродная схільнасць да чаго-н. [Мікіта]: *..у вас* [Ганулі] *няма зусім гандлярскай жылкі, у вас не хапае чуткай кемкасці ў гандлёва-прамысловых справах..* Т, 34.

Адз. Р. *жылкі*: Т, 34.

**ЖЫЛЫ** *прым.* Прызначаны для жылля. *Дом жылы невялікі, чысты – напрыглядку.* ХБ, 28.

Адз. м. Н. *жылы*: ХБ, 28.

**ЖЫТА** (7) *н.* **1.** Аднагадовая расліна сямейства злакавых. *Пшаніца і жыта Калышуць свой колас у колас.* ВВ, 263. *Сягоння там жыта, з якога не выйсці, Мурожныя травы, каноплі і лён.* ПБН.

**2.** Зерне гэтай расліны. *Разам будзем араць* [ты з Заходняй, я з Усходняй] *поле Трактарам сталёвым, Сеяць жыта і пшаніцу На загонах новых.* ТЗУ, 293.

◊**Як той васілёк у жыце** *гл.* васілёк.

Адз. Н. *жыта* (3): ВВ, 263; ПБН; ТП, 217. В. *жыта* (2): Н; ТЗУ. Т. *жытам*: ХБ, 28. М. *жыце*: Т, 20.

**[ЖЫТНІ]** *прым. да* жыта ў 1 *знач. Цяперака час жытняй сяўбы.* РКр.

Адз. ж. Р. *жытняй*: РКр.

**ЖЫЎЁМ** *прысл. Руск.* У жывым стане. [Хлопчык:] *Мне мамку зарэзалі немцы, Сястрычку спалілі жыўём..* ХЛВ, 315.

**ЖЫЎЦОМ** (2) *прысл. Разм.* Гвалтоўна, жывасілам. *Роднага ж краю тутэйшыя людзі Ў скуру чужацкую лезуць жыўцом.* Н. *Ідзі* [Год Новы] *у край, які бязбожна Жыўцом парэзалі на часці..* НГд, 8.

**[ЖЫХАР]** (2) *м.* Насельнік. *..За ім* [азіята] *Еўропы жыхары Шлі к вам* [бальшавікам] *праз морскія віры...* ПВ. [Аўтарнік:] *Чаго прышоў* [незнаёмец], *чаго ты хочаш Ад гэтых жыхароў пустынь?* УрП, 51.

Мн. Н. *жыхары*: ПВ. Р. *жыхароў*: УрП, 51.

**[ЖЫЦЦА]** (5) *незак. Разм.* Складвацца, існаваць (пра ўмовы жыцця). *Летась нягодна, сёлета горэй Проста жылося* [нам], *проста жывецца..* Пп, 161. [Ганулял]: *Мы наракаем, што цяпер цяжка жывецца, а як падумаеш, дык і ўперад не вялікі мёд быў.* Т, 44.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *жывецца* (4): Пп, 5; СС, 302(2); Т, 44. Пр. адз. н. *жылося* (2): Дз, 188; Пп, 161; *жылось*: Дз, 190.

**ЖЫЦЦЁ** (58) і **ЖЫЦЬЦЁ** (46) *н.* **1.** Фізіялагічны стан ўсяго жывога ад зараджэння да смерці. *..Там* [у хораме-сталіцы] *адны уставалі, другія драмалі, Сьмерць, жыцьцё свае мелі запоры.* Ч, 321. *Спі, пясняр наш родны! Ты жыццё прыгожыў, Аб табе таксама Народ песні зложа.* ПДС, 232.

**2.** Час існавання каго-н.; век.. *я* [Купала] *пражыў большую частку свайго жыцця ў так званай "турме народаў" – царскай Расіі..* ЖН. *Яшчэ і цяпер старыя людзі вам раскажуць аб тых спакрыўджаных і спакутаваных старцах, якія ўсё жыццё сваё загубілі пад вечнымі палкамі палачнага цара Мікалая І.* БВ, 16. // Сукупнасць усяго пражытага чалавекам. *Аб жыцці беспраглядным сваім Разважаю я ў гэтай цішы.* ЧС, 50–51.

**3.** Паўната праяўлення фізічных і духоўных сіл; душэўны ўздым, натхненне. *Глянь сьмела, глянь вольна, шчасьліў, нешчасьлівы, І далей к жыцьцю с паніжэньня і сна!* В. *Ёсць жа яшчэ ў мяне песень, Поўных надзеі, жыцця..* ЁЯ.

**4.** Пра жывую істоту як носьбіта жыцця. *Ляглі нязледжаныя далі (Як сокал бачыць мог я ўсё), Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыцьцё.* УрП, 46.

**5.** Умовы і спосаб існавання каго-н.; быт. *Не бачыць толькі і не чуе толькі той, хто вораг нашага новага шчаслівага жыцця..* ДЖ. *..Рухне старое, хоць крэпкае з віду, Яснае, вольнае створым жыцьце.* Г, 17.

**6.** Існаванне ў развіцці, у руху (пра народ, арганізацыю). *Ты* [Беларушчына] *– як спала – ўскрасла, твае дзеці прачнуліся, Твой народ, ты сама ўстала новае строіць жыцьцё.* В, 18. *77 год была Вільня сіратою, уздыхаючы па тых сьветлых часінах, калі яе універсытэт кіпеў мудрым жыцьцём..* УПУВ.

**7.** Навакольная рэчаіснасць; быццё. *Верце, што мы з'яўляемся дзейнымі асобамі-героямі чараўнічай песні, чудатворнай містэрыі, якую тварыць на Беларусі паклікала нас само жыццё.* ПЛП. *Польскіе эндэкі, заместа праводзіць у жыцьцё даўнейшы лёзунг: "вольны з вольным, роўны з роўным", накінулі нам "плебісцыт" і прынятую соймам "рэзолюцыю", якая недвузначна прылучае незалежную Беларусь да Польшчы.* СНБ.

**8.** Рух, ажыўленне жывых істот. *Мяне* [Купалу] *зусім не дзівіць тое жыццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына ў БССР і раз'юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызма ў Заходняй Беларусі.* ШБСЯ.

**Жыццё наша такое вясёлае, што песні самі на вусны просяцца. Слава творцу новага шчаслівага жыцця.**

◊**Увайсці ў жыццё** *гл.* увайсці. **Уведзены ў жыццё** *гл.* уведзены.

Адз. Н. *жыццё* (13): АБ, 16; АК; БВ, 16; 17; ДПЛС; ЖН; МІ; Нз, 15; ПЛП; СНБ, 336; СЧ; ТП; 2І5; ШБСЯ; *жыцьцё* (6): АР; ВС; ЗК, 43; СНБ; $Ш_3$; Ч, 321. Р. *жыцця* (20): БрБ, 6; ВГР; ДЖ; ЁЯ; ЖН (3); ЗС, 17 (2); К; МП; СБ; СНБ, 336; СТ (2); Т, 22, 34; Тж, 15; ШБСЯ (2); *жыцьця* (18); АЛ (2); БС (3); БСУ (2); ВМР (2); ВС (2); ВСп, 91; РКр; См, 90; СБНГ; СНБ (3). Д. *жыцьцю* (6): Б, 18(2); В; 3; Кц, 193; УПУВ. В. *жыццё* (17): А, 328; АБ, 16; АПЖ; БВ, 16; ДЖ; ЖН (2); Кц, 192; МІ, 17(2); МСП, 187; Нз, 15; ПДС, 232; ПЛП; СНБ, 337; СТ; ТП, 217; *жыцьцё* (13): Б, 18; БСУ; ВБЛ, 81; ВМР; ВН; Г, 17; РКр; СНБ (2); УПУВ; УрП, 46; ШБСЯ; ХБ, 29. Т. *жыццём* (4): ВНЗ; ЖН; Н (2): *жыцьцём* (2): АЛ; УПУВ. М. *жыцці* (4): БрБ, 6; ЖН; ПДС, 232; ЧС, 50–51; *жыцьці*: ВР.

**[ЖЫЦЦЁВЫ]** (2) і **[ЖЫЦЬЦЁВЫ]** *прым.* Які мае адносіны да жыцця, звязаны з жыццём. *І сёння, праглядаючы разам з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў бы сам.* ЖН. *..ідэалы – адно, а практыка жыцьцёвая – другое.* СНБ. *Параўн.* жыццявы.

Адз. м. В. *жыццёвы*: ЖН. ж. Н. *жыцьцёвая*: СНБ. Мн. В. *жыццёвыя*: Т, 22.

**ЖЫЦЬ** (106) і *разм.* **ЖЫЦІ** (8) *незак.* **1.** Быць жывым, існаваць. *Даўно было – мо тысячу год назад, а мо яшчэ болей, –*

*як сталі жыць, размнажацца і ў славу расці ўдалыя прашчуры нашы – дрэговічы, крывічы і палачане.* Кз, 17. *Мы жывём і будзем жыць, бо з намі і беларуская вёска.* МІ, 17. // Тварыць, дзейнічаць. *Свабодныя людзі! Вялікае свята! Як хочацца жыць безустанку!* ВВ, 263. [Князь:] *«Гусьлямі, лукам і святлом Будзіце, клічце і сьвяціце* [ганцы], *І так спануйце іхнім* [людзей] *сном, Каб сон іх счэз і ўсталі жыці.* Кц, 196. // *перан.* Існаваць (пра нежывыя прадметы). *Сьцяг ваш* [жыдоў] *і нашая* [беларусаў] *паходня будуць жыць..* Ж. *Будзеш векі жыці, Зямелька советаў..* МПв, 220.

**2.** Весці той або іншы спосаб жыцця, знаходзіцца ў пэўных умовах існавання. *Чыім краем не шамоча Ні няволя, ні бяда, Хай жыве, як сабе хоча, – Хоць як труцень, як нуда.* КЧ. *З году у год мы жылі, як жывёла, З году да году чакалі сьвятла...* Г, 16.

**3.** Знаходзіцца, пражываць дзе-н. *Падлеткі жывуць у інтэрнатах, у якіх пабудаваны двухпавярховыя нары.* ПЧ. *Калі мы* [сем'я Купалы] *жылі ў Прудзішчах (тады я быў яшчэ хлопчыкам) у нас служыў рабочы нехта Пасляк..* ПС. // Насяляць што-н. *У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, жыдоў, татараў.* НДН, 19. *Ужо адно тое, што мы* [беларусы] *дамагаемся быць самі гаспадарамі толькі таго абшару, дзе жывуць беларусы ў яго этнаграфічных межах, – ужо гэта даводзе, што мы падняволіць нікога не думаем.* Там жа, 18.

**4.** Пражываць сумесна з кім-н., сярод каго-н. ..[Польшча] *і цяпер кажа суседнім народам, што хоча з імі жыць "як вольны з вольным, роўны з роўным"..* БВ, 17. *Жыці шчаслівай доляй бясконца Будзеце з намі, з Захаду людзі.* ССА, 294.

**5.** *перан.* Існаваць, мець месца (пра адцягненыя паняцці). *Думка гэта* [мір на аснове самаазначэння народаў] *ўжо даўно жыла і развівалася на цэлым свеце..* НДН, 18. *Ідзе* [народ], *ўвекавечыць ідзе І долю, і праўду сваю, Каб воля жыла ў грамадзе І цешыла вольных сям'ю.* ТП, 217.

**Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна**.

◊**Жыць сваім адумам** – быць самастойным у сваіх дзеяннях, учынках. [Янка]: *А вы* [Мікіта] *плюнулі б на тое, хто што кажа, ды жылі сваім адумам.* Т, 21**. З торбай жабрацкай жыць** – знаходзіцца ў бедным становішчы. *..Болей не будзе ён* [фінскі народ] *з торбай жабрацкай Жыць, як прыкажа з-пад Тэмзы сатрапа.* Ф. **За чужой жыць работай** – існаваць за кошт каго-н. *За другім* [сынам] *была ахвота К лежні, к панаванню; За чужой-бы жыў работай, Спаў-бы да зьмеркання.* Дз, 189. **Казаць доўга жыці** *гл.* казаць. **Хай (няхай) жыве!** (17) – пажаданне поспеху, росквіту. *Хай жыве, расце і ўзносіцца ў высь радасная песня ў гонар і славу*

*нашай арміі, у гонар і славу нашых герояў – совецкіх людзей..* ЖН. *Няхай жыве Беларуская Социялістычная Савецкая рэспубліка.* АЛ.

Інф. *жыць* (29): АПЖ; Б, 18; БВ, 17; ДПЛС; ВВ, 263; Дз, 189; ДЖ (2); Ж; ЖН (2); Кз, 17; КЧ; МІ, 17; НДп, 230; Нз, 14; ОШМ; ПБН; ПДС, 231(2), 232; ПН, 46; Р; СНБ; Т, 36, 56; Ф; Ч, 319, 322; *жыці* (8): Дз, 188; Кц, 196; МПв, 220; ПДС, 231; ССА, 294; ТП, 213; Ун,73; Ч, 320. Абв. цяп. адз. 2 ас. *жывеш*: Б, 18; *жывёш*: Т, 44. 3 ас. *жыве* (24): АЛ (4); Ан, 19(2); ВМР; ЖН (4); З; КЧ; НДН, 19; НКУС (2); ПЧ; СС, 302; СК, 158; СЧ; Т, 25(2), 56; УПУВ. Мн. I ас. *жывем* (5): Бч, 9, 10; МІ, 17; МП; Пп, 561. 3 ас. *жывуць* (15): АБ, 16; ДК; ЖН; З; Кз, 17; НДН, 18(2); ПЧ; СНБ; Т, 28(3), 43(2), 55. Пр. адз. м. *жыў* (8): БН, 92; Дз, 189; ПДз; Т, 20, 28, 48, 55; ХБ, 28. ж. *жыла* (4): Б, 18; ЦДН, 18; ПТ; ТП, 217. н. *жыло* (2): МД (2). Мн. 3 ас. *жылі* (14): Г, 16; Кз, 17; М, 20(2); МІ, 17(2); ПБН; ПС; Пц; СЗГ, 252; Т, 21, 28, 45; ХБ, 30. Заг. адз. 2 ас. *жыві* (3); СС, 303(2); Т, 32.

**ЖЫЦЬЦЁ** *гл.* **ЖЫЦЦЁ.**

**ЖЫЦЬЦЁВЫ** *гл.* **ЖЫЦЦЁВЫ.**

**[ЖЫЦЬЦЯВЫ]** *прым. Паэт. Тое, што* жыццёвы. *Трэба горда цягнуць лямку жыцьця, як цягнулі яе і да вайны, ды болей яшчэ адзін аднаму паддавацца духу да вытрываласьці на сваім загоне у сваіх жыцьцявых мэтах..* ВС.

Мн. М. *жыцьцявых*: ВС.

**[ЖЫЧЫЦЬ]** (3) *незак.* **1.** *Тое, што* жадаць у 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *О розшэжэню своіх граніц од можа до можа не мажон* [беларусы] *і мажыць собе не жычон..* Т, 47.

**2.** *Тое, што* жадаць у 2 *знач.* [Янка]: *Жычу вам* [Мікіце] *надзець шліфы калежскага асэсара.* Т, 21. [Янка]: *Жычу вам* [Мікіце] *у новай аратарскай професіі дастукацца асэсарскай рангі.* Там жа, 39.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *жычу* (2): Т, 21, 39. Мн. 3 ас. *жычон*: Т, 47.

**ЖЭ¹** (3) *злучн. Руск.* **1.** *Тое, што* ж¹ у 1 *знач. Слепа зракліся* [людзі здарэньня] *сораму, ўвагі, Ў хорамы селі, – Брацьцям-жэ ўзьдзелі лапці, сермягі, Торбы надзелі...* Чж, 147.

**2.** *Тое, што* ж¹ у 2 *знач.* [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не желают, бо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі і з Запада.* Т, 47.

**ЖЭ²** *злучн. Тое, што* што² у 1 *знач.* [Заходні вучоны]: (да Янкі). *Бардзо на часе, жэ пан обэцным ест.* Т, 47.

**ЖЭ³** (5) *часц. Руск. Тое, што* ж² у 1 *знач. Вось-жэ усе тые, што асталіся дома.. павінны аткінуць ат сябе усякую слабасьць*

*душы і цела, усякую непатрэбную трывогу, ды дружна ісьці да працы на сваіх загонах..* РКр. [Мужык]: – *Ну, и заехаў жэ ты, брат!* ХЛБ. ВС; ВР; ЧЧШ.

[**ЖЭЛАЦЬ**] *незак. Руск. Тое, што* жадаць ў 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают, бо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі і з Запада.* Т, 47.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *жэлают:* Т, 47.

[**ЖЭРТВАВАЦЬ**] *незак. Руск.* Ахвяраваць, паступацца чым-н. дзеля чаго-н. [Мікіта]: *(Да Абарванца). Выбачайце, я не таварыш, а, меджду протчым, буржуаз, а як вам хіба ведама – буржуазія нічым не жэртвуе.* Т, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *жэртвуе*: Т, 43.

# З

**З** і **СА** (1076) *прыназ.* з Р., В. і Т. выражае:

Прасторавыя адносіны (176).

**1.** *з Р.* Пры абазначэнні месца, прасторы, адкуль пачынаецца рух, дзеянне. *Год мінуў, як ваяваці Шоў Даніла з сяла..* ПСД. [Янка]: *Дык вы, пане рэгістратар, маніліся пакінуць усе свае рускаісціныя варты і ўцякаць з роднага гораду?* Т, 55. // З геаграфічнымі назвамі. *З Петраграда зноў пераехаў* [Купала] *у Вільню, дзе прыйшлося рэдагаваць "Нашу ніву".* А, 328. *Калі бальшавікі ўцяклі з Менску, а палякі увайшлі, то беларусы з аблягчэньнем уздыхнулі.* СНБ. // З назоўнікамі са значэннем месца дзеяння. *І дамоў прыехаў* [Янка] *З тэй вайны, здалёку..* ЕЯП. *А наперадзе ўсіх едзе Наш Даніла з вайны..* ПСД. // У спалучэнні з прыназоўнікамі "на", "у" (з – на; з – у) пры абазначэнні шматразовага дзеяння. *Лес кідае майго* [Купалы] *бацьку з месца на месца..* А, 327. *Магутнай ракой перакідваючыся з завода на завод, з фабрыкі на фабрыку, з калгаса ў калгас пацёк-разліўся стаханаўскі рух на нашай радзіме.* СТ. // Пры абазначэнні месца, дзе знаходзіцца дзеючая асоба або прадмет. [Мікіта]: *Меджду протчым, магу я зысці ўжо, мусье профэсар, з трыбуны?* Т, 41. *Было знаць някае сьвята Няшлюбных з новізнай людзей, – Шарсьцелі сьвітачныя шаты, Лаза ўхмылялася з лапцей.* УрП, 47. // Пры абазначэнні месца або напрамку дзеяння. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку, Азіраўся назад, А Даніла ўперад Выступаці быў рад.* ПСД. [Абарванец]: *(увайшоўшы з таго боку, адкуль Наста выйшла..)* Т, 42. // Пры абазначэнні накіраванасці чыіх-н. адносін да каго-н. *І вось, з нашага, беларускага пагляду усе гэтыя плебісцыты і сходы бацькоў ёсьць нішто іншае, як дэмократычная камэдыя..* ДК. *Я* [Купала] *хачу з усёй шчырасцю.. падкрэсліць тую вялікую ўвагу, тыя клопаты аб маім жыцці з боку большэвіцкай партыі і совецкай улады.* ЖН. // Пры абазначэнні прадмета або месца, з паверхні якога

што-н. аддзяляецца. *Дакуль свайго не здрадзіць слова Своя народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк не сьцягне і лістка.* УрП, 50. *Змяцём* [хлопчык і лётчык] *з беларускіх загонаў Паганыя банды праблуд..* ХЛВ, 316. // Ва ўстойлівых выразах. *Свайго самалёта днем, ночкай Не выпусцім, лётчык, мы з рук.* ХЛВ, 315. *Параўн.* с у 1 *знач.*: *зэ*; *із* у 1 *знач.*

**2.** *з Т.* Пры абазначэнні сумежнасці, блізкасці чаго-н. з чым-н. у прасторы. *З вольнай дружынаю князь на пасадзе Вольнаму люду у законы пісаў..* Н. // Са словамі “побач”, “поруч”. [Спраўнік]: *Кажуць, сам Брусілаў ідзе побач з нашымі новымі гаспадарамі..* Т, 57. *..Поруч з байцамі з-пад сцягаў чырвоных Грозна народная армія крочыць.* Ф.

А, 327, 328(2); АБ, 16; АЛ (3); Ан, 19; АПЖ; БВ, 16, 17; БСУ; Бч, 9; Вб, 237; ВБЛ, 80, 82; ВГР; ВМ, 72(2); ВМР; ВН; ВС; ВСп, 90, 91(3); Г, 17; ГНД; Гр, 215(2); ДПЛС; Ж; 3; ЗС, 18(2); К; Кз, 17; Кц, 194; ЛР; МІ, 18 (2); Мц, 75; НГд, 8; Нз, 15(2); НКУС; ОШМ; ПБН (2); ПВ (3); ПДз, 83(2); ПЛП; ПН, 46, 47(2); ПСД (3); Пт (2); ПЧ; Р; РКр (3); РС, 40; СБНГ; СК, 158(2); СНБ, 337(2), 338, 339; СНБ (6); СП; СТ (3); Т, 19(3), 21, 23, 27, 29, 30(2), 33, 34(2), 35, 37(3), 38(4), 39, 40, 41(3), 43(3), 44(2), 45(2), 46, 49(2), 52(2), 55, 56(2), 59(2), 60, 61; Тж, 15, 16(2); ТЗУ, 293(2); ТП, 214(4), 217; ТС, 74; Ун, 73(2); УрП, 47, 51(3); ХБ, 28; ХЛВ, 315(2), 316(2); Ч, 320, 321(2); $Ш_2$.

Часавыя адносіны (23)

**3.** *з Р.* Пры абазначэнні часу, які з’яўляецца пачатковым момантам ў развіцці якога-н. дзеяння стану. *З маладых год ён* [бацька] *працаваў на арандаванай зямлі (на запашках).* А, 327. *З гэтага дня* [23 кастрычніка 1919 г.] *маема магчымасьць будаваць сваю беларускую армію, сваю аружную сілу, каторая у хуткім часе павінна .. бараніць беларускіе акрываўленые межы.* БСУ. *Параўн. с* у 2 *знач.* // У спалучэнні “з таго часу”, “з той пары”. *Даўно ўжо, даўно з тэй пары адбылой Сталецьцяў мінула нямала..* КП, 170. // У спалучэнні з прыназоўнікам “да” (з-да) пры абазначэнні часу, працякання дзеяння. *З году ў год мы жылі, як жывёла, З году да году чакалі сьвятла...* Г, 16. // У спалучэнні з прыназоўнікам “у” (з-у) пры абазначэнні бесперапыннасці або перыядычнасці дзеяння. *З году у год мы жылі, як жывёла..* Г, 16. *..будуць* [новыя прарокі] *па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне пракляцьцямі ўспамінаць.* ПЛП.

**4.** *з Т.* Пры абазначэнні падзеі, з заканчэннем дзеяння. *..вядомая адозва Пілсудскага .. гаворыць пра тое, што з прыходам*

*палякоу Беларусь атрымала волю.* ОШМ. // Пры абазначэнні паслядоўнасці момантаў. *..Землі родзяць ураджайна, Буйней з кожным годам.* НК... *час не чакае, нездавальненьне расьце з кожным днём, струна нацягваецца да апошняй магчымасьці.* ОШМ. *Параўн.* со ў 1 *знач.*

АЛ; Бц, 74; Вб, 238; ВМР; Г, 16; ЗК, 43; М; 19; НГд, 8; НДН, 18; СНБ; Т, 20, 40; ТЗУ, 293; УрП, 50; ХБ, 30.

Прычынныя адносіны (24)

**5.** *з Р.* Пры абазначэнні прычыны якога-н. дзеяння, стану. *Надовечы Беларуская вайсковая Камісія пачала ў нас у Менску рэгістрацыю беларусаў-афіцэраў, дактароў і інш. з тэй прычыны, што ў хуткім часе мае фармавацца беларуская армія.* БВ, 16. *Можэ з іншаго хто краю Скеміў-бы сумленне, Што яна* [душа] *там вычварае З жалю і цярпення.* Дз, 191. *Параўн.* с у 2 *знач.*

**6.** *з Р.* і *Т.* Пры абазначэнні падставы для чаго-н. *..І слухаюць вушы гул песень юначых, І цешыцца сэрца з вялікага свята.* ТП, 215. *Людзі чужыя змагаюць мне грудзі З новым парадкам, з адменным жыццём..* Н.

Бч, 9(2); ВБЛ, 83; Дз, 191; ЗН (2); Кз, 17; Н; НДп, 229; СА, 182; СБНГ; СНБ, 338; Т, 27(3), 34, 40, 57, 58; ШБСЯ.

Акалічнасныя адносіны (89)

**7.** *з Р.* Пры характарыстыцы спосабу дзеяння. *Пры ім* [доме] *стажкі ўжатку, Ня стоўпілісь ў гарудах, – пабачыш з намёку.* ХБ, 28. // У некаторых устойлівых выразах. *Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны, І не пакінем біцца з кута ў кут?* Бч, 10. *Цёмныя людзі, пазбаўленыя гонару і сумлення, ..з усіх сіл стараюцца рабіць сваё грэшнае дзела.* ЗС, 17.

**8.** *з Т.* Пры абазначэнні дзеяння, якое адбываецца адначасова з асноўным дзеяннем. *З кашмарамі спадчыны няудачнага мінулага паузе у пары паганы забабон.* З. [Князь:] *Вы, другі верныя, ганцы, Як летась, сёлета, на лета Усе пагранічные капцы Абходзьце зноў з маім прыветам.* Кц, 196. // Пры характарыстыцы спосабу дзеяння. *Я* [Купала] *ўжо ўспамінаў, з якой заўзятасцю я слухаў казкі вясковых парабкаў.* ПС. *Калі бальшавікі уцяклі з Менску, а палякі увашлі, то беларусы з аблягчэннем уздыхнулі.* СНБ.

**9.** *з Т.* Пры абазначэнні сродку, з дапамогай якога ажыццяўляецца дзеянне, стан. *Кідае балотам на усе сьвятое, спакон веку жывучае, з малаком матчыным упоенае..* З. *Нішчыць ворага ушчэнт Совецкім законам Варашылаў Клімент з арміяй Чырвонай.* ПДз, 83. *Параўн.* с у 4 *знач.*

**10.** *з Т.* Пры абазначэнні прадмета, які з'яўляецца паказчыкам паўнаты ахопу дзеяння. *Было два выхады: разбурыць ДЗОТ*

*разам з фашыстамі ці знішчыць фашыстаў разам з ДЗОТам.* ППС. [Мікіта]: *Ооей! Ооей! зусім прапаў і з костачкамі нават.* Т, 60.

АБ, 16(2); АЛ (2); Ан, 19(2); БВ, 16; БрБ, 6; БСУ (2); Бч, 9, 10; БЦ, 74; Вб, 238; ВГ; ВД; ВС; Г, 17; ДК; Дз, 189; ЖН (2); ЗН (2); ЗС, 17; К; ЛР; Мц, 75(2); Н; НГД; НДН, 19(2); НКУС (3); ПБН; ПЛП (3); Пп, 160; ППС; ПТ, 207; Пц; ПЧ (4); РКр; СА, 179; СБНГ; СНБ; СТ; СЧ; Т, 21, 22(2), 35, 37, 40, 43, 49, 51, 56, 62; Тр; ТС, 74; УрП, 49(3), 50, 52; Х; ХБ, 28; ШБСЯ (2).

Мэтавыя адносіны (7)

**11.** *з Т.* Пры абазначэнні мэты дзеяння, стану. *Купляюць* [зямлю] *спекулянты з мэтай перапрадаць яшчэ даражэй другому спекулянту..* ЗС, 18. [Янка]: *Цяпер я да вас, цётачка, толькі не з спрэчкай, а з просьбай..* Т, 49. ОШМ; ПЧ; СНБ, 338; Т, 21, 49.

Азначальныя адносіны (127)

**12.** *з Р.* Пры характарыстыцы каго-н., чаго-н. з боку паходжання, узнікнення. *..вёска глядзіць на пана, як на праблуду з чужацкай стараны..* Нз, 14. *..Птушкі вам* [людзям чужым] *гралі з нашай дубровы Гымны вясною.* Чж, 146. *Параўн.* із у 2 *знач.*

**13.** *з Т.* Пры характарыстыцы прыметы або якасці каго-, чаго-н. *Меншчына магла-б быць вельмі багатая і вельмі прыгожая. Але дзеля таго трэба, каб там жылі людзі з разьвітым розумам.* ХБ, 30. *Князі, накліканыя намі, Разьлікі між сабой вядуць, Лукі з атрутнымі straламі Проць нас сьпяшацца нацягнуць.* УрП, 48. *Параўн.* с у 5 *знач.*

**14.** *з Т.* Пры абазначэнні прадмета, які знаходзіцца ў другім прадмеце. *Пачынае кідаць* [Мікіта] *аб зямлю партфелі, апрача партфеля з грашыма.* Т, 50. [Мікіта]: *Выносьце* [Ганулю] *першым чынам начоўкі з бялізнай ..* Там жа.

**15.** *з Т.* Спалучаецца з назвамі прадметаў, асоб для выяўлення іх становішча або стану. *Цяперашняя ўлада павінна забараніць .. цяперашнюю вакханалію з зямлёй, гэту бессістэмную куплю-прадажу.* ЗС, 18. *...У нашай свяшчэннай барацьбе з заклятым ворагам – нямецкім фашызмам – ваюе кожны дом, кожнае дрэва, кожны ўзгорак.* РКП.

А, 327; АЛ (4); Ан, 19; Бч, 9; ВБЛ, 80, 82; ВН (3); ВСп, 90(2), 91(3); ДЖ; Дз, 191; ГЖУ; ЁЯ; З; ЗК, 43; ЗЯЗ, 89; Кз, 17(5); Кр, 77; Кц, 194; ЛПК; МД (2); МІ, 17; МСП, 187; Н; НДп (4); НГ (2); НК; Нз, 14(5), 15; П; ПВ; ПГ; ППС; Пт; СА, 178, 180; СБНГ; См, 91; СМ; СС, 300, 302; ССА, 294; Т, 19(2) 21, 23, 24(2), 25(4), 26, 29(4), 31, 33, 34(4), 37, 41, 42(2), 45(5), 48, 50(3), 53, 54(2), 55, 56, 58, 59(2), 60(2); ТЗУ, 293(2); УрП, 47; Ф (2); ХБ, 29; Ч, 320(2); $Ш_1$; ШБСЯ.

Колькасныя адносіны (25)

**16.** *з. Р*. Пры абазначэнні колькасці прадметаў або асоб, якія складаюць сукупнасць, аб’яднанне. *..асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы: з чатырох – тры з іх арыгінальныя..* ВСп, 89. *Чуваць з двух бакоў званок.* Т, 25.

**17.** *з В*. Для абазначэння прыблізнай меры часу, прасторы, вагі, [колькасці]. [Мікіта]: *Пагасцілі б, мадам-сіньёра і мусьі, яшчэ хоць з хвіліну.* Т, 38. [Гарошка]: *Дарма толькі вытаптаў з паў-Менску – як у шабас, усе крамы пазачыняны.* Там жа, 39. *Я* [Купала] *пераклаў ужо каля пяці тысяч радкоў і мяркую перакласці яшчэ тысяч з пяць.* МП.

**18.** *з Т.* Пры абазначэнні дадатковай колькасці чаго-н. [Мікіта]: *Далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад дармовыя.. пайкі: ..паўтара фунта з асьмушкай круп, два фунты з чвэрткай гароху..* Т, 45. // У некаторых устойлівых выразах. [Янка]: *Даўненька з вамі не бачыліся.* [Гануля]: *Бадай, годзікі са два ўжо будзе.* [Янка]: *Ды з гакам, цётачка.* Т, 44.

ВБЛ, 81; ВСп, 91; ДК (2); МПв, 218; ПЧ (2); Р (3); Т, 25, 44(3), 46, 47, 56; УПУВ.

Аб’ектныя адносіны (477)

**19.** *з Т.* Пры абазначэнні прадмета, асобы, на якія накіравана дзеянне. *Ён* [абываталь] *лічыцца з тым, што есьць.* ВМР. *Слава нашаму Ежову з Ленінграда родам; Што расправіўся, як следна З дыверсанцкім збродам.* НК. *Параўн.* с у 6 *знач.*

**20.** *з Т.* Пры абазначэнні асобы, прадмета з якімі ўстанаўліваюцца якія-н. адносіны іншай асобы або прадмета. *Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ. [Гарошка]: *..як нашы* [сяляне] *гэткім чынам апошні суд з князем прайгралі, пачалося тое высяленне.* Т, 43. *Параўн.* с у 7 *знач.* // Пры абазначэнні асобы або прадмета, якія ўзаемадзейнічаюць з іншай асобай або прадметам. *Займаўся са мной* [Купалам] *сын дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча Самойла.* А, 328. [Мікіта]: *..такая свабодная прафэсія не вяжацца з маёй рангай калежскага рэгістратара.* Т, 36. *Параўн.* со ў 2 *знач.*

**21.** *з Т.* Пры абазначэнні асобы прадмета, якія маюцца ў каго-н. у момант дзеяння. *..абрабляюць глебу сяляне старанна: за баронамі ідуць з адмысловымі даўбежкамі.* ПЧ. [Пан]: *Як з’явіцеся* [Мікіта] *з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш прэсціж адразу падымецца ў яе* [Дамы] *вачох на сто працантаў.* Т, 52. *Параўн.* с у 8 *знач.*

**22.** *з Р.* Пры абазначэнні матэрыялу, з якога зроблена што-н. *Паўстала радзіма, замок Няволі зламала навек, Надзела з пралесак вянок і слёзы сагнала з павек.* ТП, 214. *Між гор шапталіся крыніцы, Ляпіўся мох да стрэх з драніц..* УрП, 47.

**23.** *з Р.* Пры абазначэнні якога-н. месца, прадмета, з якога выдаляецца, выпадае, бярэцца што-н. *Газэта вывалілася ў мяне з рук.* Ан, 19. *Зярняты свабодныя сявец З сяўні сее ў пульхны загон.* ТП, 213. *Параўн.* с у 9 *знач.*

**24.** *з Р.* Пры абазначэнні крыніцы, адкуль што-н. паходзіць. *..Вада з крыніц жывых хай зверам-людарэзам Атрутай будзе..* ПНд, 314. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, знаёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасць, пра "гразь, балота і пясок" у Беларусі.* ХБ, 27. *Параўн.* с у 10 *знач.*

**25.** *з Р.* Пры абазначэнні асяроддзя, групы, адкуль хто-н. паходзіць. *Бацька мой* [Купалы] *..паходзіць з дробных засцянковых арандатараў..* А, 327. [Янка]: *Калі ён* [Мікіта] *вышаў родам з сялян, то ніякай працы не павінен чурацца..* Т, 20.

**26.** *з Р.* Пра абазначэнні якой-н. сукупнасці, адкуль вылучаецца, бярэцца якая-н. частка. *Перад ім* [рэдактарам] *ляжала сто і адна свежых газэт; адна з іх была парвана..* Ан, 19. *..наш край* [Меншчына], *адзін з прыгажэйшых краёў у свеце.* ХБ, 27.

**27.** *з Р.* Пры абазначэнні асобы або прадмета, якія робяцца якасна іншымі. [Ануля]: *..мой Мікітка вучыўся, але, мабыць, – не давучыўся, і вышла з яго ні богу свечка, ні чорту качарга.* Т, 57. *Беларуская мова з пагарджанай і паднявольнай стала раўнапраўнай і дзяржаўнай..* ШБСЯ.

**28.** *з Р.* Пры абазначэнні асобы або прадмета, з якіх што-н. спаганяецца, утрымліваецца. [Мікіта]: *Усёй работы яго* [пралетарыята] *было, што толькі, медждху протчым, працаваў, ды йшчэ за гэтую мізэрную працу цягнуў крывавую капейку з беднай буржуазіі.* Т, 40. *Параўн.* с у 2 *знач.*

**29.** *з Р.* Пры абазначэнні чаго-н., што служыць узорам для пераймання, капіравання. *..асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы: ..Арэтмэтычныя задачнікі Валасковіча і Лукашэвіча – першыя задачнікі ў беларускай мове, ня тлумачаныя з чужога..* ВСп, 89.

**30.** *з Р.* Пры абазначэнні асобы, з'явы ў адносінах да якіх праяўляецца якое-н. пачуццё. *Дасяг ён* [маскоўскі урад] *ня шмат: пару сотак "інтэлігэнтаў", з каторых сьмяюцца і Бог і добрые людзі.* ДК. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага, Калі пушчы цешацца З гоману шумлівага..* ПП.

А, 328(6); АЛ (5); Ан, 19(6); АПЖ (4); АР (2); АЧ; БВ, 16(17),

17; БН, 91(2), 92(3); БрБ, 6; БС (4); БСУ (3); Бч, 9(3), 10; Бц, 74; В; Вб, 236, 237(2), 238; ВБ; ВБЛ, 81(2), 82(2); ВВ, 263; ВГ; НГР; ВМР (5); ВН; ВНЗ; ВР (4); ВМ, 72; ВС (2); ВСп, 89(5), 90, 91(3); Г, 16, 17; ГВУ; ГЖУ (2); Дз, 188(2), 190; ДК (2); ДПЛС; ЕЯП; ЁЯ; ЖН (3); З (2); ЗК, 43(2); ЗС, 17; Кз, 17(7); КП, 170; Кр, 77, 78; Кц, 194(3); ЛПК; ЛР (2); МД; МІ, 17; МП; Мц, 75(2); Н; НГ; НГд, 8; НДН, 18, 19(2); Нз, 14(4), 15; НК (3); НКУС (2); ОШМ (6); ПБН (3); ПВ (3); ПГ; ПД, 289; ПДз; ПДС, 231; ПЛП (4); Пп, 160; ППС (2); Пр; ПС (6); Пт (6); ПТ, 208(2); ПЧ (16); Пц (2); РКП; СА, 178, 179(3), 180(3), 181(5); СБ; СБНГ (4); СД; СК; См, 90, 91; СНБ, 337, 338(4), 340; СНБ (6); СП; СС, 302(3); ССА, 294; СТ; Т, 19, 20, 21(2), 22(10), 23(5), 24(4), 25(5), 26(8), 27(3), 28, 29(4), 30(5), 31, 32(4), 33(4), 34(3), 35(3), 36(5), 37(3), 38(3), 39(2), 40, 41(9), 42(5), 43(3), 44(5), 45(8), 46(5), 47, 48(3), 49, 50(5), 51, 52(5), 53, 54(5), 55(6), 56(5), 57(5), 58(6), 59(3), 60(4), 61; Тж; ТЗУ, 293; ТП, 213, 214(2); Тр; У (2); УП; УрП, 47(2), 49(2); Ф (6); ХБ, 27, 29; ХЛВ, 315, 316: ХХ; Ч, 321(2), 323, 325; ЧС, 50–51(2); ЧЧШ; ЦСБ; $Ш_1$; $Ш_2$ (2); ШБСЯ (2).

Адносіны сумеснасці (125).

**31.** *з Т.* Пры абазначэнні асобы, прадмета, якія сумесна з другой асобай або прадметам выконваюць якое-н. дзеянне. *Маці з дзецьмі пасля смерці бацькі пераязджае на арандаваную зямлю памешчыцы Стржалковай.* А, 328. *Сягодня таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура – з усходнім адзічэннем..* Тж, 15.

АЛ (2); Ан, 19; БВ, 17(2); БН, 91; БрБ, 6(2); БСУ (2); ВБ; ВГР; ВСп, 91; ВМ, 72; Г, 17; ДЖ; Дз, 190; Ж (4); ЖН (5); З (2); ЗК, 42(2), 43(2); ЗС, 17, 18; Кз, 17; М, 20(2); Мц, 74; МПв, 220; НГд, 8; НДН, 18; НДп, 229(2); СНБ (4); ПВ; ПД, 289; ПДС, 231(2); ПДз; ПЛП; ПН, 314; ППС; ПТ, 206(5), 207(4), ПТ, 208(2); Пц (2); РКр; РС, 40; СНБ, 337; СНБ (2); СС, 303(2); ССА, 294; Т, 20(4), 23(2), 25(2), 26(2), 29(4), 31, 32, 45, 47(3), 48, 49(4), 51, 52, 53(5), 54, 55, 56, 57, 58(2), 60(2), 61, 62(2); УР; ХЛВ, 315; Ч, 323; ШБСЯ.

**З мінуўшых дзён. Пабудован з густам. Ты з Заходняй, я з Усходняй... Урывак з паэмы. Я з гордасцю выбіраю свой народны ўрад.**

**ЗА$^1$** (336) *прыназ.* Спалучэнне з прыназоўнікам “за” выражае:

Прасторавыя адносіны (83).

**1.** *з В.* і *Т.* Пры абазначэнні месца, за межы якога накіраваны дзеянне, рух, або за якім што-н. адбываецца. *Ішлі беларускія сыны за Урал .. і пралівалі там рэкамі сваю бязвінную кроў..* БВ, 16. *..разлягаецца за вокнамі на вуліцы харавая песня.* Т, 62. // Пры абазначэнні прадмета, каля якога хто-н. размяшчаецца. *Госці садзяцца за стол.* Т, 27.

**2.** *з Т.* Пры абазначэнні асоб, прадмета, услед за якімі рухаецца хто-, што-н. *Гануля, а за ёй Пані з манаткамі шнурам выходзяць.* Т, 34. *..за баронамі ідуць* [сяляне] *з адмысловымі даўбежкамі.* ПЧ. Ан, 19; БН, 92, 93; Бч, 9; ВБ; ВМ, 72; ВМР (4); ВСп, 91(2); ВР; Г, 16; ГП, 8(2); ДЖ; Дз, 190; Ж; ЖН (2); З (2); ЗС, 18; Кц, 194(3), 195(3), 196(2); МІ, 17; МСП, 187(5); Н (2); НГ; НГД; НК; ПВ; ПБН; ПДз; ПС (2); ПСД; РКр; РС, 40; СНБ, 336; СС, 301, 302; СЧ; Т, 25, 27, 37, 38(2), 43, 44, 45, 49(2), 55, 61, 62; ТП, 215; УК, 215; ХБ, 29(3); Ч, 319, 320, 323, 325, 326; ЧЧШ.

Аб'ектныя адносіны (195).

**3.** *з В.* Пры абазначэнні прадмета, асобы, якія бяруць у рукі, да якіх дакранаюцца. *Патупіўшы вочы, я ўзяўся за клямку, каб выйсці.* Ан, 19. *Вучоныя канчаюць пісаць адначасова, бяруцца за падзорныя трубы, азіраюцца.* Т, 26. // Пры абазначэнні занятку, да якога прыступаюць. *Трэба, каб само нашае грамадзянства ўзялося шчыра за гэту работу.* АБ, 16. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, не ламеце рук, а бярэцеся хутчэй за работу.* Т, 59.

**4.** *з В.* Пры абазначэнні асоб, якія выклікаюць тое ці іншае пачуццё. *І сёння, праглядаючы разам з вамі свой жыццёвы і творчы шлях, за адны пераходы гэтага шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў бы сам.* ЖН. *Смешна і стыдна робіцца за гэтых паноў гандляроў сягодняшняй культурай, культурай заходняй, еўрапейскай.* Тж, 15.

**5.** *з В.* Пры абазначэнні асоб, за якіх заступаюцца, у імя якіх што-н. робіцца. *..надыйшоў дзень беларускага народу, калі ён можа збройна заступіцца за сябе самога і за сваю Айчыну.* БСУ. *Трудны і цярністы шлях прыйшлося прайсці нам, беларусам, за гэты час змагання за лепшую долю, за лепшую славу для свае Бацькаўшчыны!* ПЛП.

**6.** *з Т.* Пры абазначэнні прадмета, з'явы, на якія хто-н. адпраўляецца. *Роднай песні вясёлы напеў Не ўзлунаў над калыскай маёй; Супраціўны скрозь мучыць павеў, Як за хлебам пашоў да людзей.* ЧС, 50–51.

**7.** *з В.* Пры абазначэнні прадмета, у абмен на які што-н. набываецца, робіцца. *Калі я* [Купала] *прывёз пахаваць сясцёр, ..ксёндз патрабаваў падвойную плату за пахаванне.* А, 328. *Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца свайго роднага, беларускага..* Нз, 14.

**8.** *з В.* Пры абазначэнні асобы, замест якой што-н. робіцца *..клічэ ешчэ нас сьвятая павіннасьць працаваць і за тых, што аддаюць сваё жыцьцё дзесь там далёка ці блізка.* РКр.

**9.** *з В.* Пры абазначэнні асобы, якая выступае ў якасці каго-н.

*..Месячык святляны Служыць нам* [трактарыстцы з трактарам] *за варту*. ПТ, 206. [Янка]: *Раўнапраўе то раўнапраўе, але ж хіба яно вам не загадвае быць штодзень за нейкага саматужнага вазюра?* Т, 45.

**10.** *з В.* Пры абазначэнні асобы, у ролі мужа каго-н. (з дзеясл. “выйсці”). [Мікіта]: *Кажа* [Наста], *як будзеце асэсарам, тады выйду* [замуж], *а за рэгістратара, кажа, не хачу*. Т, 23.

**11.** *з Т.* Пры абазначэнні асобы, прадмета, якія з’яўляюцца аб’ектам назірання, увагі. *Капіталістычны сьвет усё з большай і большай трывогай, азьвярэньнем і нянавісьцю сочыць за гэтай соцыялістычнай будоўляй..* АЛ. *Устанавілі* [партызаны] *назіранне за праціўнікам.* ППС.

**12.** *з Т.* Пры абазначэнні асобы, з’явы, за якімі што-н. лічыцца. *За другім* [сынам] *была ахвота К лежні, к панаваньню..* Дз, 189. // Пры абазначэнні асобы, ад якой залежыць наступленне якога-н. дзеяння. *Цяпер за вамі* [жыдамі] *слова ў буру гэту: Пайсьці ці не, з народам нашым да сьвятла?* Ж.

**13.** *з В.* Пры абазначэнні асобы, з’явы, з якімі параўноваўваецца што-н. *Я не знаю месяца Больш за май шчаслівага..* ПЛ. *..Юны чэрвень молада Больш за май вяселіцца.* Там жа. // У некаторых устойлівых спалучэннях: “больш за ўсё”, “лепш за ўсё”. *Агулам кажучы, трэба больш за ўсё надзеіцца на свае сілы.* ВС. *Становішча прамысловасці Чэхаславакіі, яе сістэму лепш за ўсё характарызуе “абутковы горад” Баці ў Зліне.* ПЧ.

**14.** *з В.* Пры абазначэнні прадмета гаворкі, сведчання. *За ўсё гэта* [будаўніцтва соцыялізму] *яна* [Беларусь] *ўзнагароджана вялікай ганаровай адзнакай – ордэнам Леніна.* ЖН. *Што яна* [Беларусь] *павінна такой стацца, за гэта гавораць яе мінуўшчына, яе цяперашчына.* Нз, 14.

А, 328; АБ, 16(2); АЛ (3); Б, 18; БрБ, 6; БВ, 16(6), 17; БН, 92(2); БСУ (2); Вб, 236(3), 238; ВБЛ, 80, 81(4); ВВ, 263; ВН (2); ВС (2); ВСп, 91(2); ГВУ (7); ДК (2); ЁЯ; ЖН (4); З (2); ЗК, 42(3); ЗЯЗ, 89; Кз, 17; Кц, 196 (2); М, 20; МД; МІ, 17(4); МПв, 219(2), 220; Н; НГ; НДН, 18(3); НДп, 229; Нз, 14; ПБН; ПВ; ПЛП (2); ПН, 46; ПНд, 314(2); ПС (3); ПСД; Пт; ПЧ (2); Р; РКр; СЗГ, 252; СК, 158(2); СНБ, 337; СНБ (13); СП; СС, 302; СЧ (2); Т, 20, 22, 28(5), 34(5), 35(5), 39(2); 40, 44(3), 46, 49, 56, 57, 59(4), 60; Тж, 15(7), 16(4); ТП, 217(2); Ун, 73(2); УП; УПУВ (2); УрП, 46, 52; ХЛВ, 316; Ч, 323; ЧС, 50–51; ШБСЯ (3).

Прычынныя адносіны (17).

**15.** *з В.* Пры абазначэнні прадмета, з’явы, якія з’яўляюцца прычынай, падставай для чаго-н. *Разумеецца, бацька за гэта* [чытанне]

*мяне* [Купалу] не *мілаваў..* ПС. [Гарошка]: *Самахоць за німашто асірацыў ён* [Юрка] *мяне.* Т, 44.

АЛ; ВСп, 90; ДПЛС (3); ЛР (3); ПЛП; СЧ; Т, 19, 23, 28, 55, 58.

Часавыя адносіны (9).

**16.** *з В*. Пры абазначэнні прамежку часу. *У шасьці надрукаваных за мінулы год выпусках "Вестник" удзяліў 186 старонак для беларускага пісьменства.* ВСп, 90. *У м. Новым Свержэне, таго самага вуезда, манаполька таргуе за год на 20 000 руб.* УП.

**17.** *з Т.* Пры ўказанні на заканамерную паслядоўнасць часавых паняццяў. *..Шуміць бяседа за сталом, Плыве часіна за часінай.* Кц, 196. *Дні за днямі, гады за гадамі плятуцца...* Ч, 320. Дз, 188(2); Ч, 320, 323(2).

Колькасныя адносіны (11).

**18.** *з В*. Пры абазначэнні колькасна выражанай адлегласці. *Аб сваім пройдзеным творчым шляху за гэтыя трыццаць год я* [Купала] *не буду гаварыць.* ДЖ. *За 10 год з тэрміналёгічнай камісіі да Акадэміі Навук – гэта размах, на які пры іншым палітычным ладзе патрабаваліся-б не гады, а можа і сотні год.* НГД.

**19.** *з В*. Пры абазначэнні колькасна выражанай адлегласці. *..як пры Мікалаях першых дзяцей беларускай зямлі гналі за трыдзесяць зямель служыць царам і іх генералам.* БВ, 16.

А, 328(2); Ан, 19; ДЖ; Т, 46(4); УЧ.

Акалічнасныя адносіны (13).

**20.** *з Т.* Пры абазначэнні спосабу дзеяння. *За другім* [сынам] *была ахвота К лежні, панаваньню; За чужой-бы жыў работай, Спаў-бы да зьмярканьня.* Дз, 189. *Пасыпаліся з друку адна за аднэй кнігі..* ВСп, 91.

ВБ (3); МД; Т, 20, 50; ТП, 215(2); ХХ, 128; Ч, 321, 323.

Азначальныя адносіны.

**21.** *з Т.* Пры характарыстыцы ўнутраных асаблівасцей каго-н. *О, абыватель, белая за каўняром ты гніда!* ВБЛ, 81.

**Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 г. Думка за думкай. Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год. Хоць за хмараю хмара.**

◊**Што (хто) за ...** *гл.* што (хто).

**[ЗААПЕКАВАЦЦА]** *зак. Наватв.* Паклапаціцца. *Заапякуйцеся* [т. Чарвякоў] *маімі* [Купалы] *сем'ямі, што тут у Менску і ў Барысаве.* СЧ.

Заг. мн. 2 ас. *заапякуйцеся*: СЧ.

**ЗАБАБОН** (16) *м.* Прымха. *Забабон спаліў бязлітасна на кастры вялікага сьветлага Гуса.* З. *А забабон далей ідзе і распасьцірае*

*сваe павучыные, неразблытные сеці..* Там жа.

Адз. Н. *забабон* (14): З (14). М. *забабоне*: З. Мн. В. *забабоны*: З.

**[ЗАБАВА]** (2) *ж.* Гульня, пацеха. *Трутнёў ня будзеце забавай, Краіны вольнае сыны..* УрП, 50.

◊**У забавах** – не прыдаючы значэння. *Вайна і рэволюцыя выкінула ў забавах два лёзунгі, ..два кірункі ў змаганьні за культурна-палітычные правы народаў і дзяржаваў.* СНБ.

Адз. Т. *забавай*: УрП, 50. Мн. М. *забавах*: СНБ.

**[ЗАБАВКА]** *ж. Ласк.* да забава. *..на газэту и книгу ён* [мужык] *пазирае, як на пустую забавку..* УП.

Адз. В. *забавку*: УП.

**ЗАБАРАНІЎШЫ** *дзеепрысл.* да забараніць. *..калі даць беларусу-каталіку вольны выбар: ці вучыцца рэлігіі па польску, ці па расейску, забараніўшы перш навуку па беларуску, дык ён выбярэ польскую мову..* ВР.

**ЗАБАРАНІЦЬ** (2) *зак.* да забараняць. *Цяперашняя ўлада павінна забараніць ..цяперашнюю вакханалію з зямлёй..* ЗС, 18. [Наста]: *Я ж вам* [Мікіту] *ужо цяперся забараніла думаць аба мне..* Т, 42.

Інф. *забараніць*: ЗС, 18. Абв. пр. адз. ж. *забараніла*: Т, 42.

**[ЗАБАРАНЯЦЬ]** (3) *незак.* Не дазваляць. *..забараняюць* [немцы] *бедным дзеткам чытаць і маліцца Богу у сваёй роднай мове.* ЧЧШ. *Не касавалі* [улады] *дробнага гандлю і не забаранялі прывозіць прадукты з вёскі ў места.* СНБ, 339.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *забараняе*: Т, 58. Мн. 3 ас. *забараняюць*: ЧЧШ. Пр. мн. *забаранялі*: СНБ, 339.

**[ЗАБАРОНЕНЫ]** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* забараніць. [Мікіта]: *..пападаецца па дарозе якая-небудзь контрабанда, іначай кажучы – рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена..* Т, 45. [Мікіта]: *Новая ўлада гарэлку забараняе, а што забаронена, тое смачна і дорага каштуе.* Там жа, 58.

Адз. н. Р. *забароненага*; СНБ. Кар. адз. н. Н. *забаронена* (2): Т, 45, 58.

**[ЗАБАРЫКАДАВАЦЦА]** *зак. перан. Разм.* Засцерагчыся. [Мікіта]: *Я ўжо ведаў аб гэтым і загадзя забарыкадаваўся. Глядзеце! (Знімае з сцяны і надзяе пажарніцкую куртку і каску.)* Т, 24.

Абв. пр. адз. м. *забарыкадаваўся*: Т, 24.

**ЗАБАСПЕЧЫЦЦА** *зак. Разм.* Забяспечыць сябе чым-н. у дастатковай колькасці. *На першай чародзе стаіць у нас пытаньне, як забаспечыцца перэд магчымай нестачай харчоў для сябе і для жывёлы.* ВС.

Інф. *забаспечыцца*: ВС.

**ЗАБАСПЕЧЫЦЬ** *гл.* **ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ**.

**[ЗАБАСТОЎКА]** (2) *ж.* Арганізаванае масавае спыненне работы; стачка. *..і ў гэты перыяд, хоць прыдушана, але хвалявалася* [соцыяльная і нацыянальная барацьба], *узбуралася ў імкненьнях і парывах працоўных мас (нелегальная рэволюцыйная літаратура, забастоўкі і г. д.).* АЛ. [Гарошка]: *..у дзевяцьсот пятым годзе пайшлі забастоўкі ды іншыя непарадкі.* Т, 44.

Мн. Н. *забастоўкі* (2): АЛ; Т, 44.

**[ЗАБІВАЦЬ]** *незак.* Пазбаўляць жыцця, знішчаць. *У гэтыя грозныя дні, калі п'яныя дзікуны .. забіваюць старыкоў, жанчын і дзяцей, я* [Купала] *ўсю сваю мужнасць аддаю вам, сыны нашага вялікага народа!* РКП.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *забіваюць*: РКП.

**ЗАБІРАЦЬ** (13) *незак.* **1.** Браць з сабой, да сябе. *Забірае* [Абарванец] *пакінутае на лаўцы партманэ і выходзіць.* Т, 43. *Дужыя* [дзяржавы] *не пытаючыся, забіралі ў слабейшых усё, што маглі толькі забраць..* НДН, 18.

**2.** *Разм.* Затрымліваць. [Спраўнік]: *Забірайце* [Чырвонаармеец] *яго* [Мікіту] *ў палон.* Т, 52.

**3.** *Разм.* Мабілізоўваць на вайсковую службу. *..забіралі* [дужыя дзяржавы] *іх* [паднявольных народаў] *сыноў і гналі на крывавы бой за эгаістычныя вялікадзяржаўныя мэты.* НДН, 18.

Інф. *забіраць* (4): Т, 53(2), 62(2). Абв. цяп. адз. 3 ас. *забірае* (2): Т, 43, 62. Пр. адз. м. *забіраў*: БС. Мн. *забіралі* (4): МІ, 17; НДН, 18(3). Заг. мн. 2 ас. *забірайце* (2): Т, 52, 62.

**[ЗАБІТЫ]** (2) *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. зал. пр. да* забіць. *Плача горка ўдоўка, Плача горка маці Па забітым мужу, Спаленым дзіцяці.* МПв, 219.

**2.** *У знач. прым. перан.* Прыніжаны, запалоханы, даведзены да атупення. *Няма больш забітай нядоляй рабыні.* ПБН.

Адз. м. М. *забітым*: МПв, 219; ж. Р. *забітай*: ПБН.

**ЗАБІЦЬ**[1] *зак.* да забіваць. *Каменні ўстаюць, каб забіць ворага, рэкі выходзяць з берагоў, каб патапіць яго...* РКП.

Інф. *забіць*: РКП.

**[ЗАБІЦЬ]**[2] *зак.* Зазваніць. *..Забьюць ім* [людзям] *зычныя званы Прабудным звонам на прадвесьні.* Кц, 196.

Абв. буд. мн. 3 ас. *забьюць*: Кц, 196.

**[ЗАБІЯКА]** *м. Разм.* Буян, задзіра. *Мы – ваякі, забіякі, Сцеражыцеся, ламакі!* БЗ.

Мн. Н. *забіякі*: БЗ.

**[ЗАБЛІШЧЭЦЬ]** *зак.* Пачаць блішчэць. *Крыві расіны заблішчэлі На чорнай стоптанай зямлі..* УрП, 52. *Параўн.* заблыскаць.

Абв. пр. мн. *заблішчэлі*: УрП, 52.

**[ЗАБЛЫСКАЦЬ]** *зак. Разм. Тое, што* заблішчэць. *Тапор завостраны заблыскаў, Грымнулі вілы і цапы.* УрП, 52.

Абв. пр. адз. м. *заблыскаў*: УрП, 52.

**[ЗАБОЙЦА]** (2) *м.* Той, хто ўчыніў забойства. *..радыё разносіць па ўсяму свету паведамленне Пракуратуры Саюза ССР аб жудасных, кашмарных злачынствах фашысцкай банды шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў..* МП.

**Смерць забойцам А. М. Горкага.**

Мн. Р. *забойцаў*: МП. Д. *забойцам*: СЗГ, 252.

**ЗАБРАНЫ** (10) *дзеепрым. зал. пр.* да забраць. *Разм.* Адабраны, захоплены. *Заплачэ ў пагоду канюх па расінцэ, "Забраны край" жаліцца з ім.* ЗК, 42. *Кожны край, што дачэсна завецца забраным Гэткіх казак забытых шмат знае.* Ч, 326.

**Забраны край**.

Адз. м. Н. *забраны* (4): ЗК, 42(3), 43. В. *забраны* (3): ЗК, 42(2), 43. Т. *забраным*: Ч, 326. Мн. Р. *забраных*: ЧС, 50–51.

**ЗАБРАЦЬ** (14) *зак.* **1.** Узяць з сабой. *Я змоўчаў, забраў газэты і папёрся пісаць.* Ан, 19. *..пакинули* [хунхузы] *дзеўчынку, каторую забрали нашы салдаты.* ПДз.

**2.** Узяць сабе; адабраць, адняць. [Мікіта]: *(да Чырвонаармейца). А трофэі таксама забраць?* Т, 53. *..паліцыя пры помачы сьлёсара улезла у рэдакцыю беларускай газэты і забрала усе канторскіе і рэдакцыйные матэрыялы.* СНБ. // Захапіць, заваяваць. *На Вялікдзень палякі забралі Вільню.* СНБ. [Гарошка]: *Тое – гэта, палякі на носе, – кажуць* [людзі], *што ўжо Навінку забралі..* Т, 44.

**3.** *Разм.* Арыштаваць. [Мікіта]: *Зірнеце ў гэтыя паперы, ваша таварыскасць. Як прачытаеце, то ўсё роўна не заберыцё мяне..* Т, 62.

Інф. *забраць* (3): НДН, 18; Т, 32, 53. Абв. пр. адз. м. *забраў*: Ан, 19; ж. *забрала*: СНБ. Мн. *забралі* (4): Р; СНБ; Т, 44, 45; *забрали*: ПДз. Буд. адз. 3 ас. *забярэ* (3): БС (2); Т, 32. Мн. 2 ас. *заберыцё*: Т, 62.

**ЗАБУРЭННЕ** *н. Разм.* Разбурэнне. [Мікіта]: *Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне .. падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі?..* Т, 28.

Адз. Н. *забурэнне*: Т, 28.

**[ЗАБЫВАЦЦА]** (3) *незак.* **1.** *Разм. Тое, што* забываць. [Мікіта]: *..нават і ў гэтакі трывожны крыху час вы* [Спічыні] *не забываецеся аб маёй адукацыі!* Т, 49.

**2.** Пераставаць думаць пра тое, што хвалюе. *Асьлепленыя часовымі пабедамі, забываюцца, што жывуць не ў сярэднявякоўі..* СНБ. [С. Меч] *Часта .. я мімаволі зазіраўся на гэты лес і забываўся пра сваю работу.* ХБ, 29.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *забываецеся*: Т, 49. 3 ас. *забываюцца*: СНБ. Пр. адз. м. *забываўся*: ХБ, 29.

**[ЗАБЫВАЦЬ]** *незак.* Пераставаць памятать. [Мікіта]: *Меджду протчым, не забывайце, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча.* Т, 38. *Параўн.* забывацца.

Заг. мн. 2 ас. *забывайце*: Т, 38.

**[ЗАБЫТЫ]** (4) *дзеепрым. пр. да* забыць. **1.** *У знач. прым.* Не захаваны ў памяці. *І разгараецца ясьней Паходня радасьці забытай..* Кц, 196. *..Кожны край, што дачэсна завецца забраным Гэткіх казак забытых шмат знае.* Ч, 326.

**2.** *У знач. прым. перан.* Закінуты. *Так, так, мой дружа, Іначай бывала, – Не называўся забытым мой край..* Н.

**Чараўнік (Забытая казка).**

Адз. м. Т. *забытым*: Н. ж. Н. *забытая*: Ч, 321. Р. *забытай*: Кц, 196. Мн. Р. *забытых*: Ч, 326.

**ЗАБЫЦІ** *гл.* **ЗАБЫЦЬ.**

**[ЗАБЫЦЦА]** (15) *зак. Разм. Зак. да* забыць ў 1 *знач. Гібелі зноў людзі у сьпеку, ў мароз, Як чэрві сьляпые у плесьні, – Аж страшная кара дасьцігла з нябёс; Забыўся народ сваей песьні.* ПН, 47. *Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру.* Нз, 14. // Не захаваць у памяці, выпусціць з-пад увагі. [Янка]: *А во, сын ваш* [Ганулі] *не забыўся, аднак, аб імянінах?* Т, 20. *Забыліся толькі Хаўрусьнікі ночы Спытаць беларуса, Чым сам ён быць хоча.* Х.

Абв. пр. адз. м. *забыўся* (7): ПН, 47; Т, 20(2), 24, 38, 48, 50. ж. *забылася*: Нз, 14. Мн. *забыліся* (7): ВСп, 89; ЛР; Т, 21, 27, 49, 53; Х.

**[ЗАБЫЦЬ]** (16) і *разм.* **ЗАБЫЦІ** *зак.* **1.** *Зак.* да забываць. *Няўжо настолькі каратка памяць японскіх ваяк, што яны забылі ўрокі 1921–1922 гг.* ВГ. *Чаму яны* [людзі] *так хутка забылі той жах, які перажывалі у час соцыяльнай рэволюцыі?* ДК. // Не ўспомніць у патрэбны момант, выпусціць з-пад увагі. *..за яе* [Беларусі] *светлае ў скорым часе соцыялістычнае жыццё я* [Купала] *не забуду заклікаць у сваіх думах-песнях.* ЖН. *Цябе* [жандара] *тваім жа* [языком] *у кляцьбе Ён* [хлапчук] *не забудзе памянуць.* АПЖ. *Параўн.* забыцца.

**2.** *перан.* Адысці ў думках ад рэчаіснасці, перастаць думаць пра тое, што хвалюе. *Столькі іх, гэтых мілых часін! А забыці іх сілы нязхват.* ЧС, 50–51. *Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясьняр! Дай волю парывам гарачым,.. Каб кожны пачуў сваю сілу ў плячох, Каб кожны забыў аб нядолі!* Пр.

Інф. *забыці*: ЧС, 50–51. Абв. пр. адз. м. *забыў* (5): В; М, 20; Пр; Пт; СБНГ. ж. *забыла*: Пр. мн. *забылі* (5): ВГ; ДК; МІ, 17; Пр;

Чж, 147. Буд. адз. 1 ас. *забуду*: ЖН. 3 ас. *забудзе* (4): АПЖ; КЧ; Т, 35; ЧС, 50–51.

**ЗАБЯГАЦЬ** *незак.:* ◊**Забягаць наперад** – зрабіць што-н. з парушэннем паслядоўнасці. *Мы не будзем забягаць наперад у будучыну і варажыць, якімі шляхамі пойдзе гэта справа.* БВ, 17.

Інф. *забягаць*: БВ, 17.

**[ЗАБЯСПЕЧАННЕ]** *н. Разм. Дзеянне па дзеяслову* забяспечыць. [Янка]: *А вы* [Мікіта] *гэта забяспечанне пачалі, як відаць, ад патакі?* Т, 55.

Адз. В. *забяспечанне*: Т, 55.

**ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ** (3) і *разм.* **ЗАБАСПЕЧЫЦЬ** *зак.* **1.** Стварыць дастатковыя матэрыяльныя сродкі для жыцця. *Хай-жа гэта прыказка і тут сябе: пакажэ, каб у супольнай згодзе забаспечыць сябе ад голаду і холаду.* ВС. [Мікіта]: *..такое ўмелае скарыстанне перамен палітычных сытуацый – надта лёгкі спосаб забяспечыць сябе на чорны дзень.* Т, 55.

**2.** *Зак. да* забясьпечваць. *..польскі ўрад мае дзяржаўны розум і ..забяспечыць Беларусі яе пануючае становішча.* ОШМ. *Пажаданні нашы: ..забяспечыць жывы кантакт дома з нашым атрадам работнікаў мастацтваў.* ПГ.

Інф. *забяспечыць* (3): ОШМ; ПГ; Т, 55; *забаспечыць*: ВС.

**[ЗАБЯСЬПЕЧВАЦЬ]** *незак.* Ствараць неабходныя ўмовы для ажыццяўлення, здзяйснення чаго-н., гарантаваць што-н. *Няхай жыве СССР, братняя дапамога якога забясьпечвае нявіданыя і нячуваныя тэмпы разьвіцьця Савецкай Социялістычнай Беларусі.* АЛ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *забясьпечвае*: АЛ.

**[ЗАВАДЗІЛА]** *м. Руск.* Зачыншчык. [Мікіта]: *Меджду протчым, абавязак мой – паказаць гэты новым завадзілам іхняе належнае места.* Т, 22.

Мн. Д. *завадзілам*: Т, 22.

**[ЗАВАЁВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* заваяваць у 1 *знач.* Заваяваны. *Не пыталіся гэтыя* [Расія, Нямеччына] *ўсемагутныя дзяржавы, ці заваёваныя імі слабейшыя народы хочуць іх, сказаў бы, воўчай апекі, ці не.* НДН, 18.

Мн. Н. *заваёваныя*: НДН, 18.

**[ЗАВАРОЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* заваражыць, *перан.* Зачараваны. [С. Меч]: *..ўсё маё жыцьцё любаваўся-б .. гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што .. стаяць непарушна, бы заварожаныя спакойнаю урачыстасьцю заходу сонца.* ХБ, 29.

Мн. Н. *заварожаныя*: ХБ, 29.

[**ЗАВАРУШЫЦЦА**] (4) *зак. Разм. Зак. да* варушыцца. *Народ зьдзівіўся, як загледзеў, Заварушыўся, зашумеў..* УрП, 51. //

*перан.* Актывізавацца. *..сталі голасна казаць* [сяляне], *што яны – беларусы, заварушыліся тады і польскіе, і расейскіе націоналісты.* ВР. *Самыя малыя народы.. заварушыліся і выкінулі сцяг свайго самаазначэння..* СНБ, 336.

Абв. пр. адз. м. *заварушыўся*: УрП, 51. ж. *заварушылася*: СНБ. Мн. *заварушыліся* (2): ВР; СНБ, 336.

**[ЗАВАЯВАНЬНЕ]** *н.* Заваёва. *..ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм, выступаючы пад сьцягам.. ліквідацыі ўсіх заваяваньняў Кастрычніцкай рэволюцыі..* АЛ.

Мн. Р. *заваяваньняў*: АЛ.

**ЗАВАЯВАЦЬ** (2) *зак.* **1.** Пакарыць, захапіць узброенай сілай. *Свой край заваяваць паўстань, ваякі.* Пт.

**2.** *перан.* Дамагчыся чаго-н. настойлівасцю, аўтарытэтам. *..на любым заводзе можна заваяваць сабе сусветную славу.* ЖН.

Інф. *заваяваць* (2): ЖН; Пт.

**ЗАВДЗЕНЧАЁНЦ** *прыназ. Польск.* Дзякуючы, з прычыны чаго-н. [Заходні вучоны]: *Край тэн посядал навэт можэ, але, завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэ тэ пшэісточыло сень в Пінске блото.* Т, 47.

**[ЗАВЕДЗЕНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* завесці. **1.** *Дзеепрым. да* завесці ў 2 *знач. ..яно* [земства] *недаўна у нашым краю заведзена..* ВС. *І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзена нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей, – усё гэта будзе абманам.* НДН, 18.

**2.** *перан.* Заняты, заклапочаны. [Гарошка]: *Гэты настаўнік добры і дужа разумны чалавек, але трохі галава яго нечым заведзена..* Т, 44.

Кар. адз. н. Н. *заведзена* (3): ВС; НДН, 18; Т, 44.

**[ЗАВЕСІСТЫ]** *прым. Разм.* Павіслы, адвіслы. *Заходні вучоны – носіць польскі строй – кунтуш і "конфэдэратку", барада голеная, вусы завесістыя.* Т, 19.

Мн. Н. *завесістыя*: Т, 19.

**[ЗАВЕСІЦЬ]** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* завешваць. [Мікіта]: *Меджду протчым, мамаша, завесьце чым-небудзь вокны..* Т, 24.

**2.** *перан.* Наслаць. *Ні далёка, ні блізка, ні ў полі, ні ў лесе Важны ўзносіўся хорам-сталіца, Чорнабожнік над ім непраглядны завесіў.* Ч, 321.

Абв. пр. адз. м. *завесіў*: Ч, 321. Заг. мн. 2 ас. *завесьце*: Т, 24

**[ЗАВЕСЦІ]** (3) *зак.* **1**. Мецъ пэўны напрамак, быць шляхам куды-н. *Па аднэй* [дарожаньцы] *пайсці – Не пашэнціцца, ..Завядзе на ўсход, Скуль не вернецца.* ББ.

**2.** *перан.* Устанавіць, увесці. [Мікіта]: *Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык..* Т, 48. *..і жандармы і бальшавіцкія “чрэзвычайкі” не завядуць на зямлі вечнага парадку і ладу..* СНБ. *Параўн.* завясьці.

Абв. пр. адз. м. *завёў*: Т, 48. Буд. адз. 3 ас. *завядзе*: БВ. Мн. 3 ас. *завядуць*: СНБ.

**[ЗАВЕСЦІСЯ]** *зак. Разм.* **1.** З’явіцца. [Спраўнік]: *Па-мойму, таксама унівэрсітэт непатрэбен, бо завядуцца студэнты, а з імі заўсёды столькі для поліцыі клопату.* Т, 27.

**2.** Устанавіцца. *Ад пэўнага часу завёўся на Беларусі вельмі цікавы дэмократычны звычай.* ДК.

Абв. пр. адз. м. *завёўся*: ДК. Буд. мн. 3 ас. *завядуцца*: Т, 27.

**[ЗАВЕТ]** *м. Руск.* Запавет, наказ. *Засядзе народ у Крэмлі Кліч кінуць на цэлы бел-свет, Пацвердзіць для роднай зямлі Свой сталінскі вечны завет.* ТП, 217.

Адз. В. *завет*: ТП, 217.

**[ЗАВЕТНЫ]** (2) *прым. Руск.* Запаветны. *Я* [Купала] *так сьлепа, так упарта на працягу раду год .. не дапамагаў з усёй аддапасьцю і захапленьнем заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленню соцыялізму.* АЛ. *.. рабочая кляса .. рэальна ажыцьцяўляе заветныя ідэалы найгеніяльнейшых настаўнікаў і правадыроў працоўнага люду – Маркса і Леніна..* Там жа.

Мн. Р. *заветных*: АЛ. В. *заветныя*: АЛ.

**[ЗАВЕШВАЦЬ]** *незак.* Закрываць, павесіўшы што-н. *Гануля завешвае вокны.* Т, 24.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *завешвае*: Т, 24.

**[ЗАВІДАВАЦЬ]** *незак. Руск.* Зайздросціць. *..Ўжо на згубу з зямлёю і з хатай запісан* [другі сын], *І ўсё-ж долі завідуе ката.* Ч, 320.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *завідуе*: Ч, 320.

**ЗАВІРУХА** (4) *ж.* **1.** Мяцеліца, завея. *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль твaё пачуе вуха Комсамольскі гарт юначы.* СА, 179. *..Ці там, дзе з пургою, з завірухай разам Белыя мядзведзі ля полюса бродзяць. – Песня чутна ўсюды Ў бязмежным прасторы..* ПДС, 231.

**2.** *перан.* Неспакой, сумятня, бязладзіца. *Кліч “Зямля і воля працоўнаму люду!”, сціхлі сягодня ў нашым краю праз варункі ваеннай завірухі, як бы адышоў на другі план..* ЗС, 17. *Пажычыць* [налогі] *у гэту усесьветную завіруху німа дзе..* ВН. *Параўн.* завяруха.

Адз. Н. *завіруха*: СА, 179. Р. *завірухі*: ЗС, 17. В. *завіруху*: ВН. Т. *завірухай*: ПСД, 231.

**[ЗАВІТАЦЬ]** *зак.* Наведацца, зайсці. [Мікіта]: *А, меджду*

*протчым, пан профэсар завітаў да нас.* Т, 54.

Абв. пр. адз. м. *завітаў*: Т, 54.

**[ЗАВЛАДЕТИ]** *зак. Руск.* Завалодаць. [Поп]: *Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать все творымое ныне.* Т, 28.

Абв. пр. мн. *завладоша*: Т, 28.

**[ЗАВОД]** (15) *м.* Прамысловае прадпрыемства. *Вылучаюцца па сваёй тэхнічнай дасканаласці заводы Шкоды,.. "абутковы горад" Баці ў Зліне.* ПЧ. *..Гудуць гулка з добрай волі Нашы фабрыкі, заводы.* СА, 182.

Адз. Р. *завода*: СТ. В. *завод*: СТ. М. *заводзе* (2): ЖН; ПЧ. Мн. Н. *заводы* (7): АЛ; ДЖ; ЖН; НК; ПЧ; СА, 182; ШБСЯ. Р. *заводаў* (2): АЛ; ЖН. В. *заводы* (2): Нз, 15; ПЧ.

[**ЗАВОДЗІЦЦА**] *незак. Разм.* Засноўвацца. [Мікіта]: *..у вас* [на Беларусі] *заводзіцца нейкая, меджду протчым, Беларуская Рэспубліка.* Т, 55.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *заводзіцца*: Т, 55.

[**ЗАВОДЗІЦЬ**] (3) *незак.* Пачынаць што-н. (спяваць). *Вялікдзень! ад нівы да нівы Заводзе бацькоў сваіх песеньку сын.* В. *Натхненна гэтак пеў, заводзіў Рой чалавечы на свой лад..* УрП, 49.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *заводзе* (2): Ан, 18; В. Пр. адз. м. *заводзіў*: УрП, 49.

**[ЗАВОДСКІ]** *прым.* Які адносіцца да завода. *Баця рыхтуе для сябе "кадры" рабочых, арганізаваўшы для падлеткаў заводскія школы.* ПЧ.

Мн. В. *заводскія*: ПЧ.

**ЗАВОСТРАНЫ** *прым.* Востраканцовы. *Тапор завостраны заблыскаў, грымнулі вілы і цапы.* УрП, 52.

Адз. м. Н. *завостраны*: УрП, 52.

**[ЗАВЫЦЬ]** *зак.* Заскуголіць. *На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў..* Кц, 197.

Абв. пр. адз. м. *завыў*: Кц, 197.

**[ЗАВЯЗАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* завязаць *перан.* Заняволены. *Ой, не плачэ брат над братам На мяжы кургана, А бядуе так душа там Завязана, скавана.* Дз, 187.

Кар. адз. ж. Н. *завязана*: Дз, 187.

**ЗАВЯЗЫВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* завязываць. *Руск.* Злучаючы канцы чаго-н. вузлом. *Ха-ха! – цярэбіць патыліцу засьцянковы беларускі шляхціц "польскай культуры", завязываючы аборы на лапцях.* З.

**[ЗАВЯРНУЦЦА]** *зак.* Накіравацца куды-н., змяніўшы напрамак. [Ануля]: *А мамачкі ж мае. Завярнуліся* [патрульныя] *сюды да нас.* Т, 59.

Абв. пр. мн. *завярнуліся*: Т, 59.

**ЗАВЯРУХА** *ж. Разм. Тое, што* завіруха ў 2 *знач. Хай кожны беларус цьвёрда верыць, што завяруха ваенная так ці сяк скончыцца.* ВС.

Адз. Н. *завяруха*: ВС.

**ЗАВЯРШЫЦЬ** *зак.* Закончыць. *Моцны падмур быў зроблены, трэба было толькі класці сцены і завяршыць будову светлага, незалежнага існавання Беларускай дзяржавы.* СНБ, 337.

Інф. *завяршыць*: СНБ, 337.

**ЗАВЯСЬЦІ** *зак. Разм. Тое, што* завесці ў 2 *знач. ..урад маніцца ешчэ у скорьм часе завясьці падаходны і асабісты ваенны налог.* ВН.

Інф. *завясьці*: ВН.

**[ЗАВЯЦЬ]** *зак. перан.* Паблякнуць. *Так мая* [маткі] *краса завяла І маёй сялібы!* Дз, 190.

Абв. пр. адз. ж. *завяла*: Дз, 190.

**[ЗАГАВАРЫВАЦЬ]** *незак. Руск.*: ◊**Загаварываць зубы** – ухіляцца ад прамога адказу. [Начальнік]: *Не загаварывайце зубоў, а кажэце* [Мікіта] *праўду.* Т, 60.

Заг. мн. 2 ас. *загаварывайце*: Т, 60.

**ЗАГАВАРЫЦЬ** (3) *зак.* Пачаць гаварыць з кім-н. [Мікіта]: *..паспрабую загаварыць з ім* [Немцам] *па-нашаму, можа зразумее.* Т, 32. [Немец]: *(хаваючы грошы). Загаварылі б адразу такім языком, ваша прэвасхадзіцельства..* Там жа, 33.

Інф. *загаварыць*: Т, 32. Абв. пр. мн. *загаварылі*: Т, 33. Заг. мн. 2 ас. *загаварыце*: Нз, 14.

**[ЗАГАВОР]** (2) *м. Разм.* Замова, закліканне. *Вылазе з цемры бледны звод. Глядзіць сьліўнём на долы, горы І тут і там пускае ў ход Свае нямыя загаворы.* Кц, 196. [Судзьбіна]: *Ўспомні* [трэці брат], *выклічы родныя ўсе загаворы І зводзь імі прыблудаў заломы..* Ч, 323.

Мн. В. *загаворы* (2): Кц, 196; Ч, 323.

**[ЗАГАД]** (3) *м.* Распараджэньне. [Мікіта]: *А ў гэтым, меджду протчым, портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы, загады..* Т, 46. *Чаму скрозь на Беларусі польскіе ураднікі не спауняюць загадау свайго начальства?* ОШМ.

Адз. Д. *загаду*: Т, 60. Мн. Н. *загады*: Т, 46. Р. *загадаў*: ОШМ.

**ЗАГАДАЎШЫ** *дзеепрысл. да* загадаць. *..трэба .. паадчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі, загадаўшы ім, прышчапляць вучням любасьць да роднага краю..* ДК.

**[ЗАГАДАЦЬ]** (4) *зак.* Аддаць загад, распарадзіцца. [Гануля]: *Вось адзін пан,– яго* [Мікіты], *здаецца, начальнік, – урэпіўся за Мікітку і загадаў яму цягаць чужыя рэчы ў свой панскі пакой*

*у нейкай гасцініцы..* Т, 57. *Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ.* БС.

Абв. пр. адз. м. *загадаў*: Т, 57. ж. *загадала* (2): Ан, 19 (2). Буд. адз. 3 ас. *загадае*: БС.

**[ЗАГАДВАЦЬ]** (3) *незак.* Аддаваць загад, распараджэнне. *Армія гэта складалася з беларусаў, але ваяваць ёй загадвалі не за Беларусь, а за Расію.* БВ, 16. // Наказваць. [Янка]: *Раўнапраўе то раўнапраўе, але ж хіба яно вам* [Мікіту] *не загадвае быць штодзень за нейкага саматужнага вазюра?* Т, 45. *Забабон старадаунаму славяніну загадвау, каб жонка ішла з мужам разам у магілу..* 3.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *загадвае*: Т, 45. Пр. адз. м. *загадвау*: 3. Мн. *загадвалі*: БВ, 16.

**ЗАГАДЗЯ** (3) *прысл.* Зараней, наперад. [Мікіта]: *Жадаю, каб і праз год мы ў гэтай кватэры віншаваліся.* [Янка]: *Аб гэтым трудна загадзя варажыць.* Т, 21. [Мікіта]: *Мамзэль Наста загадзя папярэдзіла мяне з пэўных крыніц, што пры новай палітычнай сытуацыі будуць дабравольна браць маладых мусьі..* Т, 55. Т, 24.

**[ЗАГАЛОВАК]** (2) *м.* Назва артыкула, газеты. *..напісаў* [рэдактар] *у сваю яснавельможную газэту горка-сьлязлівую стацьцю пад такім загалоўкам "Якім парадкам прымусіць дзяцей-беларусоў вучыцца і маліцца па-польску".* ЧЧШ. *Па ўсіх свабодных мясцох расклееены на сценах .. лозунгі, загалоўкі тагачасных газет, плакаты.* Т, 43.

Адз. Т. *загалоўкам*: ЧЧШ. Мн. В. *загалоўкі*: Т, 43.

**[ЗАГАМАНІЦЬ]** (2) *зак. да* гаманіць. *Загаманілі* [людзі] *аб федэрацыі вызваленых з царскага рабства народаў.* БВ, 16. *Вось, матаючы нагайкай, Загамоне Налівайка: – Гэй, рагатка, чорт рагаты, Жыва месца дэпутату.* НД.

Абв. пр. мн. *загаманілі*: БВ, 16. Буд. адз. 3 ас. *загамоне*: НД.

**[ЗАГАНЯЦЬ]** *незак.*: ◊**Заганяць у казіны рог** – прымушаць падпарадкоўвацца, пакарацца. *Беларуская душа, як бачым, – жывучая, творчая, як яе ні заганяй у казіны рог..* МІ, 17.

Заг. адз. 2 ас. *заганяй*: МІ, 17.

**ЗАГАРТАВАНЫ** *дзеепрым.* Стойкі, вынослівы. *Няхай жыве Комуністычны інтэрнацыянал, гэты адзіны загартаваны правадыр..* АЛ.

Адз. м. Н. *загартаваны*: АЛ.

**[ЗАГАРТАВАЦЦА]** *зак. перан.* Зрабіцца стойкім, вынослівым. *Наша пісьменніцкая моладзь выхавалася і загартавалася ў агні вялікага Кастрычніка.* ЖН.

Абв. пр. адз. ж. *загартавалася*: ЖН.

**[ЗАГАРЭЦЦА]** (2) *зак. перан.* Моцна захапіцца чым-н. *Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцьця паднявольнымі народамі,*

*якая загарэлася вечным жывым агнём пасьля развалу Расійскай самаўласнай імпэрыі, .. – гэта ідэя сягодня пераўтвараецца ў жыцьцё..* БСУ. *Социяльная рэволюцыя, якая загарэлася крывавым пажарам на усходзе Эўропы – у Расіі, цяпер яшчэ палае усё паядаючым полымем..* СНБ.

Абв. пр. адз. ж. *загарэлася* (2): БСУ; СНБ.

**[ЗАГАСІЦЬ]** *зак. Вобразн.* Зменшыць (пачуці). *Як стаяла яна* [маці] *над гэтым – Над пасьцельлю з чырвані тэй! Быў з ёй добрым вясёлы ветрык – Загасіў, як сьвечку яе.* ВБЛ, 82.

Абв. пр. адз. м. *загасіў*: ВБЛ, 82.

**[ЗАГАСПАДАРАНЫ]** *прым. Разм.* Абжыты. [Гарошка]: *Нашы* [сяляне] *ўсё роўна не хацелі пакідаць сваіх загаспадараных сяліб.* Т, 43.

Мн. Р. *загаспадараных*: Т, 43.

**[ЗАГАСЬЦІЦЬ]** *зак. Разм. перан.* Запанаваць. *Загасьціў лад новы Ды ня той, ня свой.* МД.

Абв. пр. адз. м. *загасьціў*: МД.

**[ЗАГІН]** *м. Укр.* Пагібель. *Спадзе ланцуг ваш* [Жыдоў] *у сьляпым загіну.* Ж.

Адз. М. *загіну*: Ж.

**ЗАГІНУЦЬ** (5) *зак.* да гінуць. *І калі ня хочам* [беларусы] *загінуць,.. – павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыдзе і выратуе нас з нашай бяды..* БС. *Герой загінуў ад варожай здрадніцкай рукі..* СК, 158. // *перан.* Мінуць. *Голад загіне, бяда пакіне.* ПТ.

Інф. *загінуць* (2): БС; Дз, 191. Абв. пр. адз. м. *загінуў*: СК, 158. Буд. адз. 3 ас. *загіне* (2): Дз, 191; ПТ.

**[ЗАГЛАДА]** *ж. Польск.* Знішчэнне, пагібель. *Той другі шлях і рэчка другая загладай Атуманяць душу, зальюць вочы..* Ч, 319.

Адз. Т. *загладай*: Ч, 319.

**[ЗАГЛЕДЗЕЦЬ]** *зак. Разм.* Угледзець, прыкмеціць. *Народ зьдзівіўся, як загледзеў, Заварушыўся, зашумеў..* УрП, 51.

Абв. пр. адз. м. *загледзеў*: УрП, 51.

**ЗАГЛЯНУЦЬ** (5) *зак. перан.* Пранікнуць. *Заглянула сонца Да хат, сутарэнь, Праклятых дзён прошлых Развееўся цень.* СС, 301. // Напаткаць. *Аб гэтым* [нястачы харчоў] *ужо трэба падумаць і не чэкаць, пакуль бязхлебіца загляне ў хату.* ВС.

◊**Заглянуць у вочы** – дасягнуць, завалодаць. [Хлопчык:] *Свайго самалёта днём, ночкай Не выпусцім, лётчык, мы з рук. Берліну заглянем у вочы, Ў крывавыя вочы гадзюк.* ХЛВ, 315.

Інф. *заглянуць*: СБНГ. Абв. пр. адз. м. *заглянуў*: Мц, 75. ж. *заглянула*: СС, 321. Буд. адз. 3 ас. *загляне*: ВС. Мн. 1 ас. *заглянем*: ХЛВ, 315.

**ЗАГНАНЫ** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* загнаць. Вымушаны апынуцца ў якім-н. становішчы. – *Хэ-хэ! – патурае яму* [польскаму пану] *расійскі чыноўнік, прыдыбаўшы сюды* [у Беларусь] *..шукаць карьеры, а сягодня загнаны у гарадзкіе безработные.* З. *Загнаны ў падполле там* [у Заходняй Беларусі] *лепшыя людзі..* ПБН.

Адз. м. Н. *загнаны*: З. Кар. мн. Н. *загнаны*: ПБН.

**[ЗАГНАЦЬ]** (4) *зак.* Прымусіць каго-н. увайсці куды-н., апынуцца дзе-н. [Аленка]: *мы* [з Янкам], *баючыся, каб яго* [татку] *ў Нямеччыну не загналі, паехалі ўслед на падмогу.* Т, 35.

◊**Загнаць у казіны рог** – адмовіцца ад чаго-н. [Спраўнік]: *Усё былое вялічча прышлося загнаць у казіны рог і дапасоўвацца да новага часу..* Т, 57. **Загнаць у магілу** – звесці са свету. *Сталін, Молатаў любімы, Слаўны Варашылаў, Да Ежоў, што дыверсантаў Загнаў у магілу!* НК. **Загнаць у рукі** – прымусіць падпарадкавацца каму-н. *Ужо раз палякі загналі Беларусь у рукі маскоўскага барбара, – ці ня робіцца гэта й цяпер?* ОШМ. **Загнаць на ўбой** – зрабіць занядбалым. *Рынкам жывога тавару няслава Край увесь зрабіла, загнала на убой, Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава Торг груганоўы вядуць між сабой.* Н.

Абв. пр. адз. м. *загнаў*: НК. ж. *загнала*: Н. Мн. *загналі* (2): ОШМ; Т, 95.

**[ЗАГОЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* загаіць. Залечаны, зажыўлены. *Загоены раны, сляды ліхалецця, Руінаў, пагромаў, пажарышч сляды.* ПБН.

Кар. мн. Н. *загоены*: ПБН.

**[ЗАГОН]** (15) *м.* Паласа, участак ворнай зямлі, поля. *Зярняты свабодныя сявец З сяўні сее ў пульхны загон.* ТП, 213. *..паныабшарнікі стараюцца як мага перагнаць загоны малых і вялікіх двароў на царскія рублі.* ЗС, 17.

Адз. В. *загон* (2): ПВ; ТП, 213. М. *загоне*: ВС. Мн. Н. *загоны* (2): Г, 6(2). Р. *загонаў* (2): ХЛВ, 316; Чж, 146. В. *загоны* (6): АБ, 16; Б, 9; ЗС, 17; РКр; ТП, 217; Ф. М. *загонах* (5): Мц, 75; НДН, 18; ПНд, 314: РКр; ТЗУ, 293.

**[ЗАГРАБЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* заграбіць. *перан. Разм.* Падняволены, абарваны. *Расійская імперыя, імперыя, магутная заграбленымі чужымі дзяржавамі.* НДН, 18.

Мн. Т. *заграбленымі*: НДН, 18.

**ЗАГРАБІЦЬ** *зак. Разм.:* ◊**Заграбіць пад каршуновае крыло** – падняволіць. *..гэтыя дзяржавы* [Расія, Нямеччына, Англія, Японія] *ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзнішчажаючым паходзе мелі адну ярка зарысованую мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў..* НДН, 18.

Інф. *заграбіць:* НДН, 18.

**[ЗАГРАНІЧНЫ]** (2) *прым.* Замежны, іншаземны. *Імпэрыялістычная загранічная буржуазія .. напружвае ўсе свае сілы для таго, каб перашкодзіць гэтай творчай рабоце працоўных мас..* АЛ. *..збіраюцца яны* [пабочные налогі] *не с таго, хто штось мае, а с таго што пастурае на продаж, як напр. ..таможэнны збор з загранічных тавараў.* ВН.

Адз. ж. Н. *загранічная*: АЛ. Мн. Р. *загранічных*: ВН.

**[ЗАГУБА]** (2) *ж. Разм. Тое, што* пагібель. *Думы цяжкія роем снуюць, Капашацца чмяльмі ў галаве, Сноў спазнаць залатых не даюць, Кожна мучыць, к загубе заве.* ЧС, 50–51. *Брат другі шоў на нетры сьляпыя аблавай, Воблік крадзены кідаў загубам.* Ч, 324.

Адз. Д. *загубе*: ЧС, 50–51. Мн. Д. *загубам*: Ч, 324.

**[ЗАГУБІЦЬ]** (4) *зак. да* губіць у 2 *знач. Не прышлось мне* [матцы] *жыць на сьвеці Ў славе і дастатку: Загубілі родны дзеці, Загубілі матку.* Дз, 189.

◊**Загубіць сваю скуру** – страціць лепшыя чалавечыя якасці. *Загубіў* [чараўнік] *сваю скуру, чужая-ж ня цешыць Абадранай душы ў павуціне.* Ч, 321.

Абв. пр. адз. м. *загубіў*: Ч, 321. Мн. *загубілі* (3); БВ, 16; Дз, 189(2).

**[ЗАГУЛЯЦЬ]** *зак.* да гуляць. *А усё* [разгадка] *як прыдзе к нам – Важна загуляем: Пусьцім чарачкі у ход Песьню засьпеваем.* $Ш_1$.

Абв. буд. мн. 1 ас. *загуляем*: $Ш_1$.

**[ЗАГУДЗЕЦЬ]** *зак. да* гудзець. *..І ў бурны кліч, як буры ўдар, З віхрамі загудзі* [пясняр] *пад звон кайдан!* Пт.

Заг. адз. 2 ас. *загудзі*: Пт.

**[ЗАДАВАЛЬНЕННЕ]** *н.* Прыемнае пачуццё. *Я* [Купала] *з вялікім задавальненнем і радасцю прачытаў прынятае на сходзе нашых пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру..* ШБСЯ. *Параўн.* здаволеньне.

Адз. Т. *задавальненнем*: ШБСЯ.

**[ЗАДАВАЦЬ]** *незак.* Учыняць, рабіць што-н. непрыемнае. *Каб таму па локаць Адсушыла рукі.. – Хто сушыў у няволі Люд наш працавіты, Задаваў вужача Раны непазбыты.* К.

Абв. пр. адз. м. *задаваў*: К.

**ЗАДАВОЛІЦЬ** *зак.* Ажыццявіць чыё-н. патрабаванне. *..Камісарыят Земляробства абавязан .. падумаць аб тым, каб поўнасьцю задаволіць літаратурай аб сельскай гаспадарцы нашых земляробаў..* ВСп, 90.

Інф. *задаволіць*: ВСп, 90.

**ЗАДАМ** (2) *прысл.*: ◊**Задам наперад** *гл.* наперад. Т, 48, 52.

**[ЗАДАНЬНЕ]** (4) *н.* Загадзя вызначаны аб’ём работы. *Беларускае в-ва за граніцай .. выпаўніла сваё заданьне як найлепей.* ВСп, 90.

*Усе гэтые сілы маюць свае інтарэсы, свае заданьні, дамагацца каторых і будуць.* ВМР.

Адз. В. *заданьне* (2): ВСп, 90, 91. Мн. В. *заданьні* (2): ВМР (2).

**ЗАДАРМА** *прысл. Разм.* Бясплатна, дарма. *Мамкай служыла я* [маці] *на сваё ліха Некалі ў пані, так, з ласкі, задарма.* Мц, 75.

**[ЗАДАТАК]** (3) *м.* Аванс. *Я хацеў заікнуцца аб задатку, але рэдактара і след прастыў.* Ан, 19. *Ён* [рэдактар] *прачытаў* [артыкул], *даў 3 рублі і 27 капеек задатку..* Там жа.

Адз. Р. *задатку* (3): Ан, 19 (3).

**ЗАДАЦЬ** (4) *зак.:* ◊**Задаць пытанне** – спытаць. *Што значыць – над чым я працую? Задаць такое пытанне паэту – рызыкоўна.* МП. **Задаць драпака** – пусціцца наўцёкі. *І фрыцы, падабраўшы спадніцы, задалі такога драпака, што і ўявіць цяжка.* ППС. **Задаць табакі** – даняць. [Аленка]: *Гэта ж як у таткі пачнецца вялікі табачны пост, дык задасць ён усім нам табакі!* Т, 39. **Пытлю задаць** – пакараць. [Янка]: *Гэта ж як узлезеце на вышкі араторыць, то вам гэта новая сытуацыя такога пытлю задасць, што і сваіх не пазнаеце.* Т, 36.

Інф. *задаць*: ПМ. Абв. пр. мн. *задалі*: ППС. Буд. адз. 3 ас. *задасць* (2): Т, 36, 39.

**[ЗАДАЧНІК]** (2) *м.* Зборнік задач. *Арэтмэтычныя задачнікі Валасковіча і Лукашэвіча – першыя задачнікі ў беларускай мове.* ВСп, 89 (2).

Мн. Н. *задачнікі* (2): ВСп, 89.

**[ЗАДОР]** *м. Абл.* Задзёр. *Дзеле чаго-ж тагды гутарка аб згодзе, аб палітычнай лучнасьці з Польшчай, калі усе робіцца на задор, на сварку, на калатню і варажнечу.* ОШМ.

Адз. В. *задор*: ОШМ.

**ЗАДОЎГА** *прысл.* За многа часу перад чым-н. да чаго-н. [Ганулял]: *Ці не задоўга прыдзецца чакаць на гэта* [вяселле]? Т, 54.

**[ЗАДРАМАЦЬ]** *зак.* Заснуць. *На фарпостах, на граніцах Безгранічных нашых земляў З карабінам ля стражніцаў Комсамолец не задрэмле.* СА, 181.

Абв. буд. адз. 3 ас. *задрэмле*: СА, 181.

**[ЗАДУМА]** (2) *ж.* Задуменнасць, заклапочанасць. [Мікіта]: *..аб вас* [Насці] *мае думы ўпалі ў глыбокую задуму.* Т, 42. *Апускаецца* [Мікіта] *з уздохам на лаўку, кладзе на парučча рукі, звешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму.* Там жа, 43.

Адз. В. *задуму* (2): Т, 42, 43.

**[ЗАДУМАЦЦА]** (2) *зак.* Упасці ў задуменнасць. [Наста]: *Аб чым гэта вы так задумаліся, мусье Нікіці?* Т, 42. [Янка]: *Што вы* [Гануля] *так задумаліся?* Там жа, 53.

Абв. пр. мн. *задумаліся* (2): Т, 42, 53.

**ЗАДУМВАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* задумвацца. Разважаючы. *У якой мове трэба вучыць дзяцей рэлігіі? На гэтае пытаньне, здаецца, кожын – не задумваючыся – павінен атказаць: ў роднай мове вучнёў..* ВР.

**ЗАДУМНЫ** (2) *прым. Разм.* **1.** Задуменны, задумлівы. *Ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі, дзе задумны бэдуін, едучы у ночы на вярблюду, зоры бліскотныя лічыць і да ледавітага “пауночнага зіяньня” .. – як есьць усюдах пануе гэты ясьневяльможны бязсьмертны забабон.* З.

**2.** *Вобразн.* Які навязвае розныя думкі. *Шумам задумным карэльскія сосны Бурнай Вуоксы-ракі вадаспады Мірныя гутаркі ў зімы і вёсны Будуць з гудкамі вясці Ленінграда.* Ф.

Адз. Н. *задумны*: З. Т. *задумным*: Ф.

**ЗАДУМЧЫВА** *прысл. Руск.* Задумемна, задумліва. *За імі* [князем і княжной] *слуг пачэсны рад Стаіць задумчыва, суважна.* Кц, 196.

**[ЗАДУРЫЦЬ]** *зак.:* ◊**Задурыць галаву** – заблытаць каго-н. *І нашым каталікам так задурылі галаву, што яны зусім пагадзіліся з навучаньнем асноў веры па польску.* ВР.

Абв. пр. мн. *задурылі*: ВР.

**[ЗАДУШАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* задушыць. *перан.* Прыгнечаны. *Заціснуты, задушаны, як мышы Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў, Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы Таго свайго, што наша ад вякоў.* Бч, 9.

Кар. мн. Н. *задушаны*: Бч, 9.

**ЗАДУШЫЦЬ** (3) *зак. перан.* Забараніць. *Царскія сатрапы усяляк імкнуліся задушыць беларускае слова.* А, 328. *.. рэакцыя здавалася задушыла ў народах падняволеных расійскім царом ўсе, што было лепшага ў думках, усё што імкнулася да свабоды..* ДК.

Інф. *задушыць*: А. Абв. пр. адз. м. *задушыў*: УПУВ. ж. *задушыла*: ДЖ.

**[ЗАДЫХАЦЦА]** *незак. перан.* З цяжкасцю вытрымліваць што-н. *..там, дзе ў саматужнай майстэрні задыхаўся пролетарый-рабочы, – выраслі новыя буйныя фабрыкі..* ШБСЯ.

Абв. пр. адз. м. *задыхаўся*: ШБСЯ.

**[ЗАЕЗД]** *м. Уст.* Карчма. [Аленка]: *Ці не час ужо, дзядзька настаўнік, пакінуць гамонку ды йсці ў заезд, а то, чаго добрага, Шая замкне браму?* Т, 39.

Адз. В. *заезд*: Т, 39.

**[ЗАЕЗДЖЫ]** (2) *прым.* Прыезджы. *Заезджыя госці дзівіліся гэткаму, па-іхняму незвычайнаму, парадку ў справах адносін між людзьмі і багамі..* Кз, 17. *..госці заезджыя былі веры іншае і звычаёў гэткіх у сябе не мелі.* Там жа.

Мн. Н. *заезджыя* (2): Кз, 17(2).

**[ЗАЕХАЦЬ]** (4) *зак. перан.* Сказаць неўпапад. [Мікіта]: *Шабас гут, гэр кіндар фатэрлянд, меджду протчым!* [Спічыні]: *Ой, куды вы заехалі, куды вы заехалі?* Т, 31.

◊**Далёка не заедзеш** (2) – не дасягнеш многага. *Не, браты, гэтакім ладам мы далёка не заедзем.* БС. [Янка]: *На такім знаёмстве з нашай літаратурай далёка, пане рэгістратар, не заедзеце.* Т, 56.

Абв. пр. адз. м. *заехаў*: ХЛВ. Мн. *заехалі* (2): Т, 31. Буд. мн. 2 ас. *заедзеце*: Т, 56.

**[ЗАЖАДАЦЬ]** *зак.* Захацець. *Калі гэтаго* [навучання рэлігіі па беларуску] *дружна зажадаюць два мільёны беларусоў-каталікоў, яны могуць дабіцца свайго..* ВР.

Абв. буд. мн. 3 ас. *зажадаюць*: ВР.

**[ЗАЖУРЬЦЦА]** *зак. да* журыцца. *..Зажурыўся стары татка, Цяжка стогне, плача матка.* ГЖУ.

Абв. пр. адз. м. *зажурыўся*: ГЖУ.

**[ЗАЖЫЦЬ]** *зак. перан.* Пачаць заможна жыць. *Яны* [ворагі народа] *хацелі разграміць нашы фабрыкі і цудоўныя калгасы, якія зажылі светлым, радасным сталінскім жыццём.* ВНП.

Абв. пр. мн. *зажылі*: ВНП.

**[ЗАЗВІНЕЦЬ]** (2) і **[ЗАЗЬВІНЕЦЬ]** *зак. да* звінець. [Князь]: *..Засядзьце ўсе* [госці] *кругом стала, Хай зазьвініць віно ў крыштале.* Кц, 196. // Звонка загучаць. *Зазвінелі прызыўныя песні аб вызваленні, зазвінелі яны ад Белага да Чорнага мора..* ДЖ (2).

Абв. пр. мн. *зазвінелі* (2): ДЖ (2). Буд. адз. 3 ас. *зазьвініць*: Кц, 196.

**[ЗАЗЗЯЦЬ]** і **[ЗАЗЬЗЯЦЬ]** (2) *зак. перан.* Зазнаць пачуццё радасці. *Вялікая сталася ў свеце праява Пад Сталінскім сцягам удалым: Заззяла ўрачыстае свята народаў, Якога ў вяках не бывала.* ВВ, 263. *І мілай пацехай зазьзяла І доля і слава людзкая..* Кр, 77. *Спадзе ланцуг наш і зазьзяе усім вясна!* Ж.

Абв. пр. адз. ж. *заззяла*: ВВ, 263. *зазьяла*: Кр, 77. Буд. адз. 3 ас. *зазьяе*: Ж.

**[ЗАЗІРАЦЦА]** *незак.* Заглядацца, захапляцца. [С. Меч:] *Часта, калі я пісаў што-небудзь, я мімавольна зазіраўся на гэты лес і забываўся пра сваю работу.* ХБ, 29.

Абв. пр. адз. м. *зазіраўся*: ХБ, 29.

**[ЗАЗНАЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* зазначыць. *Ва ўсіх дзяржаўных і грамадзянскіх установах .. павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці, разумеецца, як ужо і зазначана, прапарцыянальна беларускай большасці.* НДН, 19.

Кар. адз. ж. Н. *зазначана*: НДН, 19.

**[ЗАЗНАЧАЦЬ]** *незак.* Адзначаць. *Мы толькі зазначаем, што калі ужо нарадзілася беларуская сіла, то ні пальонізацыя ні русыфікацыя не павінны мець мейсца на Беларусі..* ДК.

Абв. цяп. мн. I ас. *зазначаем*: ДК.

**ЗАЗНАЧЫЦЬ** (2) *зак. да* зазначаць. *Яны* [беларусы] *мусяць цьвёрда зазначыць свае дамаганьні..* ВМР. *.. мы чакаем таго, каб яна* [польская ўлада] *станоўча зазначыла сваю палітыку на Беларусі..* ОШМ.

Інф. *зазначыць*: ВМР. Абв. пр. адз. ж. *зазначыла*: ОШМ.

**[ЗАЗНАЦЬ]** *зак.* Зведаць. *..праслужыў* [Купала] *тры гады ў броварах чорнарабочым. Зазнаў там такога пекла, якога яшчэ дагэтуль не меў.* А, 328.

Абв. пр. адз. м. *зазнаў*: А, 328.

**ЗАЗЬВІНЕЦЬ** *гл.* **ЗАЗВІНЕЦЬ**.

**[ЗАЗЬЗЯЦЬ]** *гл.* **ЗАЗЗЯЦЬ**.

**ЗАІКАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* заікацца. Запінаючыся. *– Як маемся, пане-пане рэдактар? – прагаварыў я* [хлопец], *заікаючыся.* Ан, 19.

**[ЗАІКНУЦЦА]** (3) *зак.* Паспрабаваць загаварыць пра што-н. *Я хацеў заікнуцца аб задатку, але рэдактара і след прастыў.* Ан, 19. *.. аб незалежнасці ўжо не можна было і заікнуцца..* СНБ, 340.

Інф. *заікнуцца* (3): Ан, 19; СНБ, 338, 340.

**[ЗАЙГРАЦЬ]** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* іграць у 1 *знач. Сурмы зайгралі, Чырвонае войска Горда ідзе, разбівае кайданы.* Мц, 75.

**2.** *перан.* Загучаць, праявіць сябе. *Над курганамі перуном зайграй! Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясняр!* Пт.

Абв. пр. мн. *зайгралі*: Мц, 75. Заг. адз. 2 ас. *зайграй*: Пт.

**ЗАЙЗДРАЦЬ** *ж.* Завідкі. [Мікіта]: *Зайздрасць яго* **[**Янку] *так і разбірае..* Т, 24.

Адз. Н. *зайздрасць*: Т, 24.

**[ЗАЙЗДРОСНЫ]** *прым.* Ззйздроплівы. [Мікіта]: *..мяне зласлівыя гутаркі зайздросных людзей мала абходзяць.* Т, 36.

Мн. Р. *зайздросных*: Т, 36.

**[ЗАЙЗДРОСЦІЦЬ]** *незак.* Зведаць пачуццё зайздрасці да чаго-н. *Я* [Купала] *шчаслівы і крыху зайздрошчу, што наша пісьменніцкая моладзь выхавалася і загартавалася ў агні вялікага Кастрычніка.* ЖН.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *зайздрошчу*: ЖН.

**[ЗАЙМАЦЦА]** (2) *незак.* **1.** Прыступаць да чаго-н. [Мікіта]: *Ад заўтрашняга дня займуся свабоднай профэсыяй – буду на Койданаўскай вуліцы гандляваць нямецкімі рублямі.* Т, 33.

**2.** *Разм.* Дапамагаць каму-н. у вучобе. *Займаўся са мной* [Купалам] *сын дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча.* А, 328.

Абв. пр. адз. м. *займаўся* (2): А, 328; Т, 33.

**ЗАЙМАЦЬ** (2) *незак.* **1.** Быць, працаваць на якой-н. пасадзе. *..раз ён* [ураднік] *не разумее беларускай мовы, дак і не павінен занімаць урадовай пасады на Беларусі..* ОШМ.

**2.** *перан.* Захопліваць. *Бальшавікі займаюць Вільна, касуюць "незалежную беларускую і г.д. рэспубліку"..* СНБ, 339.

Інф. *займаць*: ОШМ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *займаюць*: СНБ, 339.

**[ЗАЙСЦІ]** (2) *зак. да* заходзіць. **1.** Прыйсці да каго-н. ненадоўга. *Зайшоў гэта я неяк к рэдактару, папрасіць у яго, ці не дасць якой работы.* Ан, 18. *Параўн.* зайсціся.

**2.** Узнікнуць (пра гутарку). [Мікіта]: *Калі з мадамай зойдзе гутарка, то не кажэце* [Гануля] *– панечка, а мадам-сіньёра..* Т, 22.

Абв. пр. адз. м. *зайшоў*: Ан, 18. Буд. адз. 3 ас. *зойдзе*: Т, 22.

**[ЗАЙСЦІСЯ]** *зак. Разм. Тое, што* зайсці ў 1 *знач.* [Янка]: *А мы вось з Аленкай сумысля зайшліся, цётачка, да вас, каб пахваліцца перад вамі сваім шчасцем.* Т, 53.

Абв. пр. мн. *зайшліся*: Т, 53.

**[ЗАКАБАЛЬВАЦЬ]** *незак.* Занявольваць. *..Баця закабальвае рабочых і сістэмай сваіх сталовых, магазінаў, рабочых кватэр.* ПЧ.

Абв. цяп. адз. м. *закабальвае*: ПЧ.

**ЗАКАВАНЫ** і **ЗАКОВАНЫ** (3) *дзеепрым. зал. пр. да* закаваць. *перан.* Заняволены. *На беларускае йдзеш* [Год Новы] *поле, На акрываўленыя межы, Дзе закаванай дрэмле воля..* НГд, 8. *За катам кат на нашы гоні Прыходзіў, грабіў, зністажаў, Людзей закованых палоніў..* ГП, 8.

Адз. ж. В. *закованую*: ПЛП. Т. *закаванай*: НГд, 8. Мн. В. *закованых*: ГП, 8. Т. *закованымі*: НДН, 18.

**[ЗАКАЗ]** *м.* Даручэнне, патрабаванне. *Гандляры айчынай Па чужым заказу... Вынішчыць дашчэнту Гэтую заразу!* МПв, 218.

Адз. М. *заказу*: МПв, 218.

**[ЗАКАЗАЦЬ]** *зак.* Даць заказ на што-н. [Мікіта]: *Меджду протчым, я заказаў сабе гэты віцмундзір з пэўнай мэтай...* Т, 24.

Абв. пр. адз. м. *заказаў*: Т, 24.

**[ЗАКАЛАСІЦЦА]** *зак.* Пачаць каласіцца. *..Закалосіцца поле, слязой, потам злітае, Зашуміць сваю думу старую.* ТС, 74.

Абв. буд. адз. 3 ас. *закалосіцца*: ТС, 74.

**[ЗАКАЛАТУШЫЦЦА]** *зак. Разм.* Закаламуціцца. *..Крыніц жывыя пералівы Закалатушацца крывёй.* УрП, 48.

Абв. буд. мн. 3 ас. *закалатушацца*: УрП, 48.

**[ЗАКАЛЫХАЦЦА]** (3) *зак. перан.* Захвалявацца, узрушыцца. *Захвалявалася тады магутнае балото расійскай непрагляднай сучаснасьці, закалыхалося і ... прыціхло.* З.

Абв. пр. адз. н. *закалыхалося*: З (2). Буд. адз. 3 ас. *закалышацца*: З.

**ЗАКАСАЎШЫ** *дзеепрысл. да* закасаць. Агаліўшы (рукі). *..Гануля закасаўшы рукі, мые бялізну ў начоўках..* Т, 43.

**[ЗАКАШЛЯЦЦА]** *зак.* Зайсціся моцным працяглым кашлем. *Рэдактар закашляўся, пасля кажа: - Будзеш атрымліваць, хлопец, па 4 1/2 капейкі ад радка.* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *закашляўся*: Ан, 19.

**[ЗАКВАТАРАВАЦЬ]** *зак. да* кватараваць. [Гануля]: *..хоць вы* [Янка] ў *нас нядаўна закватаравалі, а ўжо лічу вас як свайго чалавека.* Т, 19.

Абв. пр. мн. *закватаравалі*: Т, 19.

**[ЗАКІПЕЦЬ]** *зак. да* кіпець. *У Менску тады закіпела праца.* СНБ.

Абв. пр. адз. ж. *закіпела*: СНБ.

**[ЗАКЛАДАЦЬ]** *незак.* Асноўваць што-н. *..трэба, каб і самі сяляне ..дзе можна закладалі новыя такіе крамы і банчкі.* ВС.

Абв. пр. мн. *закладалі*: ВС.

**[ЗАКЛАПОЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* заклапаціць. Занепакоены. *Гануля мецiцца ісці адчыняць, але заклапочана тым, у якія дзверы ўперад пайсці.* Т, 25.

Кар. адз. ж. Н. *заклапочана*: Т, 25.

**ЗАКЛІК** *м.* Кліч, прызыў. *Рэволюцыя 1905 года .. запаліла .. надзею на свабоду, і ў песнях маіх* [Купалы] *прагучэла гэта надзея і заклік да барацьбы з царатам.* ЖН.

Адз. Н. *заклік*: ЖН.

**ЗАКЛІКАЦЬ** (2) *незак.* Прызываць. *За вызваленне гэтай паднявольнай краіны .. я* [Купала] *не забуду заклікаць у сваіх думах-песнях.* ЖН. *Слава іх* [бясстрашных сышоў] *.. заклікае да такога-ж гераізму .. на карысць усяго чалавецтва.* СБ.

Інф. *заклікаць*: ЖН. Абв. цяп. адз. 3 ас. *заклікае*: СБ.

**ЗАКЛІНАННЕ** *н.:* **ΔКліч-заклінанне** *гл.* кліч.

Адз. Н. *заклінанне*: СМ.

**[ЗАКЛЯВАЦЬ]** *зак. да* кляваць. *.. калі-ж будуць спаць* [беларусы-каталікі] *і верыць розным баламутням, іх заклююць тые груганы, каторые у нас за час сну народнага вельмі распладзіліся!* ВР.

Абв. буд. мн. 3 ас. *заклююць*: ВР.

**[ЗАКЛЯТЫ]** *прым.* Непрымірымы. *...У нашай свяшчэннай барацьбе з заклятым ворагам – нямецкім фашызмам – ваюе кожны дом, кожнае дрэва, кожны ўзгорак.* РКП.

Адз. м. Т. *заклятым*: РКП.

**[ЗАКОВАНЫ]** *гл.* **ЗАКАВАНЫ**.

**ЗАКОН** (23) *м.* **1.** Абавязковае для ўсіх правіла вышэйшага органа дзяржаўнай улады з юрыдычнай сілай. *.. праект закону аб падаходным налогу быў даўно унесены на разгляд Гасударственнай Думы.* ВН. *І хаця ў аснову закону ляжыць справядлівы наказ, але ў жыцці ён сілы ніякай ні мае..* ВР.

**2.** Звычай. *Мальбішчам чужым бье пакора паклоны; Упадку вялічыцца сьцяг; З балотам змешаны старые законы, Наладжэн нявольнічы шлях.* ЗК, 42.

**3.** Свяшчэннае пісанне. *Штось срэбнікаў з трыццаць – як піша ў законе – Узяў за Хрыста калісь Юда.* Р.

Адз. Н. *закон* (5): ВН; ВР; Г, 17; Х, 17; ПВ. Р. *закону* (2): ВН; ВР; *закона*: ВР. В. *закон* (3): АПЖ; М, 20; СС, 300. Т. *законам* (2): НДН, 19; ПД, 83. М. *законе* (2): НК; Р. Мн. Н. *законы* (5): ЗК, 42; НК; ПБН; Т, 44; ТП, 216. Р. *законаў* (3): ВН; ОШМ; ТП, 216. Д. *законам*: Г, 17. В. *законы*: Ч, 322. М. *законах*: Кз, 17.

**[ЗАКОНЧОНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* закончаць. *Польск. У знач. вык.* Завершаны. [Заходні вучоны]: *Мое бадання навуковэ на дзень дзісейшы сон закончонэ.* Т, 27.

Адз. н. Н. *закончонэ*: Т, 27.

**[ЗАКОНЧЫЦЬ]** (2) *зак.* Скончыць. *На, чытай! – закончыў ён* [рэдактар], *шпурнуўшы мне сто і адну газэту.* Ан, 19. *Закончыў* [рэч] *князь, махнуў рукой; Уходзяць тры ганцы ў святліцу..* Кц, 194.

Абв. пр. адз. м. *закончыў* (2): Ан, 19; Кц, 194.

**[ЗАКОРАТКІ]** *прым.*: ◊**Закораткі пяты** *гл.* пята.

Кар. мн. Н. *закораткі*: Т, 39.

**[ЗАКРАКАЦЬ]** *зак.* Пракракаць. *– Кепска, кепска, пане воўк! – Першы крук закракаў.* Пц.

Абв. пр. адз. м. *закракаў*: Пц.

**[ЗАКРАСА]** *м. перан.* Дурман. *Пятакоў і Радэк, Троцкі – ўся арава – Хлёбалі, зладзюгі, З адной міскі страву.. Страву, што мікада Запраўляў закрасай.* МПв, 218.

Адз. Т. *закрасай*: МПв, 218.

**[ЗАКРАСАВАЦЬ]** (4) *зак.* **1.** *Зак. да* красаваць у 1 *знач. Ён* [селянін] *ведаў, што гэтае зерне ўзойдзе, закрасуе, пасьпее.* ДД. *Хай, як і летась закрасуе і сёлета рунь.* РКр.

**2.** *перан.* Запанаваць. *Намыліліся старцы мудрыя: па іх касцях закрасаваў новы ўсемагутны Бог.* Кз, 17.

**3.** *перан.* Пачаць шэнціць. *Ці-ж беларускі народ .. не заслужыў на тое, каб і для яго бацькаўшчыны закрасавало?* ДД.

Абв. пр. адз. м. *закрасаваў*: Кз, 17. н. *закрасавало*: ДД. Буд. адз. 3 ас. *закрасуе* (2): ДД; РКр.

**[ЗАКРУЖЫЦЦА]** *зак.* Лятаючы, пачаць апісваць кругі. *І там здань і тут здань, закружыліся ў круг..* БН, 92.

Абв. пр. мн. *закружыліся*: БН, 92.

**[ЗАКРЫВАЦЦА]** *незак.* Спыняць сваю дзейнасць. *..мана-полькі закрываюцца у Литве, бо нима гандлю.* УП.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *закрываюцца*: УП.

**ЗАКРЫЦЦЁ** *н.* Спыненне дзейнасці, існавання чаго-н. *..мэтоды дзяржаўнай гаспадаркі польскіх эндэкаў мала чым розняцца ад мэтадаў расійскіх бальшавікоў. Прымерам гэтага можа служыць закрыцьцё Буцлаўскай гімназіі..* СНБ.

Адз. Н. *закрыццё*: СНБ.

**[ЗАКРЫЦЬ]** *зак.* Прыкрыць, накрыць чым-н. *Ты, дзяўчына чужая, закрый Па скананні мне зрэнкі мае..* ЧС, 50–51.

Заг. адз. 2 ас. *закрый*: ЧС, 50–51.

**[ЗАКРЫЧАЦЬ]** (3) *зак.* **1**. *Зак. да* крычаць у 1 *знач. Яна* [пані] *ўдруг страшна закрычала и кинулася да дзейчынки..* ПДз.

**2.** *Зак. да* крычаць у 2 *знач. Але як скончыў* [прыблуднік ночы], *люд ня змоўчыў: Разгаманіўся, закрычаў: – Як сьмееш зьдзекавацца гэтак Ад свайго бога-павука!* УрП, 52. *Як ня выйдуць чорнасотники На благое ўсё ахвотники, Дый на ўсю моц закрычаць: "Думу трэба разагнаць!"* ВЧ.

Абв. пр. адз. м. *закрычаў*: УрП, 52. ж. *закрычала*: ПДз. Буд. мн. 3 ас. *закрычаць*: ВЧ.

**[ЗАКРЭСЛІЦЬ]** (2) *перан.* Адмовіцца ад чаго-н. *За адны пераходы гэтага* [жыццёвага і творчага] *шляху я* [Купала] *радуюся, другія я з ахвотай закрэсліў-бы сам.* ЖН. *Закрэсліў-бы я* [Купала] *тыя творы, у якіх свядома ці несвядома вырываліся ноты, не сугучныя тварымай партыяй і пролетарыятам эпосе.* Там жа.

Абв. пр. адз. м. *закрэсліў* (2): ЖН (2).

**[ЗАКРЭСЛЯЦЬ]** *незак. Польск.* Устанаўліваць, вызначаць. [Заходні вучоны]: *(да Янкі). Можэ шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по вашэму Бялэй Русі і цось о тэм, яке собе закрэсляце граніцэ політычнэ.* Т, 47.

Абв. цяп. мн. 2 ас. *закрэсляце*: Т, 47.

**[ЗАКУКАВАЦЬ]** (3) *зак.* Пачаць кукаваць. *А як згіну* [Габрусь], *то зязюля Прыляціць да вас* [бацькоў] *адтуля І ля вокнаў, ля хаціны Закукуе, што я згінуў. Закукуе, закукуе!* ГЖУ.

Абв. буд. адз. 3 ас. *закукуе* (3): ГЖУ (3).

**[ЗАКУП]** *м.* Закупка чаго-н. *Апрача хаўруснага закупу харчоў, шмат можэ прынесьці у гэтым помачы наша воласьць.* ВС.

Адз. Р. *закупу*: ВС.

**ЗАКУПЛІВАЦЬ** *незак. Разм.* Закупляць. *Мусім.. закупліваць збожэ для цэлай вёскі там, дзе яго ёсьць лішніца.* ВС.

Інф. *закупліваць*: ВС.

[**ЗАКУСКА**] (6) *ж.* Страва. [Дама]: *Цяпер такую закуску*

*можна спаткаць толькі ў надта высокіх асоб.* Т, 28. *Ганулю падае закускі.* Т, 27.

Адз. В. *закуску* (4): Т, 21, 27(2), 28. Мн. В. *закускі* (2): Т, 27(2).

**ЗАКУСІЦЬ** (4) *зак. Разм.* Крыху з'есці, перакусіць. [Мікіта]: *..мамаша, ці там не знойдзецца чаго пайковага закусіць?* Т, 51. [Спраўнік]: *Мы* [госці] *ўжо паспеем не толькі закусіць, але й выпіць крыху.* Там жа.

Інф. *закусіць* (3): Т, 27, 51(2). Абв. буд. мн. 1 ас. *закусім*: Т, 27.

**[ЗАКУТАК]** *м. перан. Разм.* Месца, роля. *Кліч "Зямля і воля працоўнаму люду!" .. як бы адышоў на другі план, на апошні закутак.* ЗС, 17.

Адз. В. *закутак*: ЗС, 17.

**[ЗАЛАЖЫЦЬ]** *зак.* Закласці з якой-небудзь мэтай. [Мікіта]: *Вось вам, ясне мусье немец, гэр гэрманіш, пакуль што контрыбуцыя, заўтра дам энэксыю, а там, калі не хопіць, жонак, дзяцей залажу .. толькі .. не цягнеце ў палон!* Т, 33.

Абв. буд. адз. 1 ас. *залажу*: Т, 33.

**ЗАЛАЗІЦЬ** *незак.*: ◊**Залазіць у хату** – умешвацца ва ўнутраныя справы іншай дзяржавы. *..ніхто ня мае ніякага "дэмократычнага" права залазіць да яе* [Беларусі] *у хату..* ДК.

Інф. *залазіць*: ДК.

**[ЗАЛАМАЦЬ]** *зак.:* ◊**Залом заламаць** – навaражыць, наслаць надобрае. *Няўжо ж бы хто й над будучынай нашай Навек залом пракляты заламаў?* Т, 10.

Абв. пр. адз. м. *заламаў*: Т, 10.

**ЗАЛАТЫ** (10) *прым.* **1.** Бліскуча-жоўты. *А на вышках, як сон на зямлі, пераменны, Залаты месяц радасна плаваў.* Ч, 321. *Годзе таптаньня праўд вечных, сьвятых! Сьцежку свабоднаму духу народа, Сьцежку да сонца і зор залатых!* Г, 16.

**2.** *перан.* Шчаслівы, радасны. *Заседала* [маці], *расьцвітала За гадамі годы; Залатые думкі ткала С шчасьця і свабоды.* Дз, 188. *Думы цяжкія роем снуюць, Капашацца чмялямі ў галаве, Сноў спазнаць залатых не даюць..* ЧС, 50–51.

•**Залатая дошка** *гл.* дошка.

◊**Слова залатое** *гл.* слова.

Адз. м. Н. *залаты* (2): ХБ, 29; Ч, 121. ж. Т. *залатой*: ПДС, 232. М. *залатой*: Т, 49. Мн. Н. *залатыя*: ТП, 215; Р. *залатых* (4): Г, 16; ПН, 47; СС, 300; ЧС, 50–51. В. *залатые*: Дз.

**[ЗАЛАЦІСТА-ЖОЎТЫ]** *прым.* З бліскуча-жоўтым адлівам. [С.Меч]: *..ўсё маё жыццё любаваўся-б гэтымі махрастымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі..* ХБ, 29.

Мн. Т. *залаціста-жоўтымі:* ХБ, 29.

**ЗАЛАЦІСТЫ** *прым.* З бліскуча-жоўтым адлівам; колерам

падобны да золата. *Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы, Зіхацела ў ім кожна часьціна..* Ч, 321.

Адз. м. Н. *залацісты*: Ч, 321.

**[ЗАЛЕГЧЫ]** (2) *зак. перан.* **1.** Пакрыць якую-небудзь плошчу, тэрыторыю. *Белай шэраняй пасьцель залягла, Ці-ж мая мне* [дзяўчына] *прастата памагла?!* ВБЛ, 82.

**2.** Парасці. *Шасцяць у калоссі сярпы, Сцяною дабро залягло..* ТП, 213.

Абв. пр. адз. ж. *залягла*: ВБЛ, 82. н. *залягло*: ТП, 213.

**[ЗАЛЕЖВАЦЦА]** *незак.* Не мець попыту. [Мікіта]: *Для нас адно важна: каб тавар куплялі, каб тавар не залежваўся.* Т, 34.

Абв. пр. адз. м. *залежваўся*: Т, 34.

**ЗАЛЕЖНАСЦЬ** (5) *ж.* Падпарадкаванасць чужой уладзе, волі. *Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцяй ад Масквы..* Нз, 14. *.. усё маё* [Купалы] *юнацтва прайшло на чужой зямлі ў безупыннай залежнасці..* А, 328.

Адз. Н. *залежнасць* (2): Нз, 14, 15. Д. *залежнасці*: Нз, 14. Т. *залежнасцяй*: Нз, 14. М. *залежнасці*: А, 328.

**[ЗАЛЕЖНЫ]** *прым.* Падпарадкаваны. *.. залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылазе.* Нз, 15.

Адз. м. Д. *залежнаму*: Нз, 15.

**[ЗАЛЕЗЦІ]** *зак.* Увайсці, заглыбіцца ў што-небудзь. [Мікіта]: *..мамаша, я залезу сюды, а вы станьце так, каб мяне засланіць.* Т, 52.

Абв. буд. адз. 1 ас. *залезу*: Т, 52.

**ЗАЛЕТАСЬ** *прысл.* Два гады назад. [Янка]: *Баюся я толькі, каб вы* [Мікіта] *не вышлі на ёй* [кар’еры], *як залетась на аратарстве..* Т, 56.

**[ЗАЛЁТЫ]** *толькі мн.* Заляцанне. [Наста]: *Толькі тады з гэтага квасу будзе піва, калі я з пэўных крыніц напэўна даведаюся, што вы не рэгістратар, а ўжо асэсар. А іншых залётаў ды іншых каханняў мой арганізм не прымае.* Т, 42.

Мн. Р. *залётаў*: Т, 42.

**[ЗАЛІВАЦЦА]** (2) *незак.* Пакрывацца (вадою). [С. Меч]: *..паглядзеце, якія пышныя дубы растуць у Меншчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў разводзьдзе вадою.* ХБ, 29. *..каля лугоў, што заліваюцца ў разводзьдзе, стаяць вялікія цяжкія калоды.* Там жа, 30.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *заліваюцца* (2): ХБ, 29, 30.

**[ЗАЛІТЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* заліць. *перан.* Асветлены. *Іскрыстым блескатным сьвятлом Заліты княжскія сьвятліцы..* Кц, 196.

◊**Бетонам заліты** – умацаваны. *А нашы граніцы бетонам*

*заліты, Мы чуйна вартуем совецкі фарпост..* ПБН.

Кар. мн. Н. *заліты* (2): Кц, 196; ПБН.

**[ЗАЛІЦЬ]** *зак. перан.* Асляпіць. *Той другі шлях і рэчка другая загладай Атуманяць душу, зальюць вочы.* Ч, 319.

Абв. буд. мн. 3 ас. *зальюць*: Ч, 319.

**[ЗАЛОЖНІК]** *м.* Гвалтоўна затрыманая асоба з мэтай прымусіць выканаць якія-н. абавязацельствы. *Ігнатоўскага – бальшавікі .. арыштавалі і вывезлі ў Смаленск, як заложніка.* СНБ, 339.

Адз. В. *заложніка*: СНБ, 339.

**[ЗАЛОМ]** (4) *м.* Чараванне, варажба. *..Змог ён* [народ] *не толькі знаць штукі з заломам – Роднага слову ўмеў кніжны даць ход.* Н. [Судзьбіна:] *Ўспомні* [трэці брат], *выклічы родныя ўсе загаворы І зводзь імі прыблудаў заломы..* Ч, 323.

◊**Залом заламаць** *гл.* заламаць.

Адз. В. *залом*: Бч, 10. Т. *заломам*: Н. Мн. В. *заломы* (2): ЗК, 42; Ч, 323.

**[ЗАЛОМНЫ]** *прым.* Зачараваны, заварожаны. *Пара, пара ўжо агарнуцца І чартам выставіць свой дух, Пакуль здрадліва пранясуцца Званы заломных злыбядух!* УрП, 49.

Мн. Р. *заломных*: УрП, 49.

**[ЗАЛОПАЦЬ]** *зак. Разм.* Залапатаць. *Залопаў крыльлямі пятух, – І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы..* Кц, 197.

Абв. пр. адз. м. *залопаў*: Кц, 197.

**[ЗАЛОЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* залаціць. Якому надалі залацісты колер. *.. хоць душу нягодну Зьвярні .. Да ніў родных, калосьсем ярка маляваных, Залочаных пшаніцай, жытам пасрабраных.* ХБ, 28.

Мн. Р. *залочаных*: ХБ, 28.

**[ЗАЛЯ]** (2) *ж. Разм.* Прасторны пакой, прызначаны для прыёму гасцей. [Мікіта]: *Але і мамзэль Наста, меджду протчым, сягоння падфуфырылася, як на баль-маскараду ў Белую залю.* Т, 24. [Мікіта]: *..мамаша, трэба хутчэй залю прывсеці да чалавечага падабенства.* Там жа, 50.

Адз. В. *залю* (2): Т, 24, 50.

**[ЗАМАК]** *м.* Палац. *У часе свайго падарожжа мы* [дэлегаты] *наведалі мясціны, якія прыцягваюць увагу турыстаў. Гэта – ..мясціны, замкі, будынкі...* ПЧ.

Мн. Н. *замкі*: ПЧ.

**ЗАМАЛА** *прысл. Разм.* Мала, недастаткова. *..Растаптаць, як гнідаў, Вас, звяр'ё, замала!* МПв, 219.

**[ЗАМАРОЧЫЦЬ]** *зак. Разм.* Адурманіць. [Аўтарнік:] *Чаго прыйшоў* [незнаёмец], *чаго ты хочаш Ад гэтых жыхароў пустынь? Чым нашы душы замарочыш?* УрП, 51.

Абв. буд. адз. 2 ас. *замарочыш*: УрП, 51.

**[ЗАМАХАЦЬ]** *зак. да* махаць. *Ляглі нязгледжаныя далі (Як сокал бачыць мог я ўсё), Пустыні вецьвем замахалі, Паляны множылі жыцьцё.* УрП, 46.

Абв. пр. мн. *замахалі*: УрП, 46.

**ЗАМЕЖНЫ** (5) *прым.* Іншаземны. *..Замежны сатрапа судоў не насудзіць, Разбойніцкім ладам не высуша грудзі..* СС, 303. *Буржуазія, як замежная, так і ўнутраная, не перабірае ніякімі мэтодамі і сродкамі барацьбы супроць СССР.* АЛ.

Адз. м. Н. *замежны*: СС, 303. ж. Н. *замежная*: АЛ. Р. *замежнай*: АЛ. Мн. Р. *замежных*: МПв, 220. М. *замежных*: Ф.

**[ЗАМЕРЦІ]** (4) *зак. перан.* Заціхнуць, замоўкнуць (пра песню, гукі). *Замерла песьня, Грозна рэхі, Пашлі па пушчах, па лясох..* УрП, 49. *Заныла ўсё, замерла ўсё, – Ня сьпіць адвечнае замчышча..* Кц, 192.

Абв. пр. адз. ж. *замерла*: УрП, 49. н. *замерла*: Кц, 192. Буд. адз. 3 ас. *замрэ*: ПЛП. Мн. 3 ас. *замруць*: Кц, 196.

**ЗАМЕСТА** і **ЗАМЕСТ** *прыназ. з Р.* Узамен чаго-н, каго-н. *Бацяўская ашчадкаса дае кожнаму рабочаму дзесяць процантаў за пакладзеныя грошы замест звычайных чатырох.* ПЧ. *Заместа прыбітых балесных жанок Стаханаўкі выраслі ў нашай краіне..* ПБН. Кз, 17; ПБН (2); СНБ; Т, 36; Ч, 325; $Ш_2$. *Параўн.* вместо.

**[ЗАМЕТУШЫЦЦА]** *зак. Разм.* Замітусіцца. [Трэці ганец:] *А як я ўдарыў па струне, Заметушыліся* [людзі], *як пчолы..* Кц, 195.

Абв. пр. мн. *заметушыліся*: Кц, 195.

**[ЗАМЕШКАЛЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* замешкаць. *Польск.* Заселены. [Заходні вучоны]: *Падчас бадання тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкен провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

Адз. м. Р. *замешкалэго*: Т, 39.

**[ЗАМЕЦІЦЬ]** *зак. Разм.* Прыкмеціць. [Мікіта]: *..нас бацька Пурышкевіч, быўшы у Менску тут, замеціў і, ад'язджаючы, на гэтую місію багаславіў.* Т, 38.

Абв. пр. адз. м. *замеціў*: Т, 38.

**[ЗАМЁРЛЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* замерці. Сціснуты ад болю (пра сэрца). *І над сэрцам яе* [маці] *замёрлым, Як мяккай і лёгкай зямля Вецер, вецер – такі вясёлы, Так абшырна воля твая!* ВБЛ, 82.

Адз. н. Т. *замёрлым*: ВБЛ, 82.

**ЗАМІНАЦЬ** (4) *незак.* Перашкаджаць каму-н. [Янка]: *Бачыш* [дзеўка], *еду на пабеду, А ты замінаеш.* ЕЯП. *Яго* [краю] *балоты.. нікому не замінаюць..* ХБ, 30.

Інф. *замінаць*: Т, 27. Абв. цяп. адз. 2 ас. *замінаеш*: ЕЯП. Мн. 3 ас. *замінаюць*: ХБ, 30. Пр. мн. *заміналі*: Т, 23.

**[ЗАМКНУЦЬ]** *зак.* Зачыніць на замок. [Аленка]: *Ці не час ужо, дзядзька настаўнік, пакінуць гамонку ды йсці ў заезд, а то, чаго добрага, Шая замкне браму?* Т, 39.

Абв. буд. адз. 3 ас. *замкне*: Т, 39.

**[ЗАМОЖНЫ]** *прым.* Матэрыяльна добра забяспечаны, багаты. .. *ад кулацкага і памешчыцкага зняволення да светлага заможнага культурнага калгаснага жыцця - вось вялікі і складаны шлях Совецкае Беларусі.* ВГР.

Адз. н. Р. *заможнага*: ВГР.

**ЗАМОК** (3) *м.* Прыстасаванне для замыкання. *На акяніцах – шруб, а на дзьвярах – замок*. ВБЛ, 81. *..навет калі выходзілі* [сяляне] *з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць.., то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17.

Адз. Н. *замок*: ВБЛ, 81. В. *замок*: ТП, 214. Мн. Р. *замкоў*: Кз, 17.

**ЗАМОРСКІ** (6) *прым.* **1.** Які знаходзіцца за морам. *З далёкіх заморскіх старон .. прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі..* Кз, 17.

**2.** Прывезены з-за мора. *Мала-памалу заморскія госці сталі прывозіць з сваімі заморскімі скарбамі і думкі іншыя..* Кз, 17.

Адз. м. Н. *заморскі*: Ф. Мн. Н. *заморскія* (2); Кз, 17(2). Р. *заморскіх*: Кз, 17. Т. *заморскімі* (2): Кз, 17; НДН, 18.

**[ЗАМОРЭНЫ]** *дзеепрым. пр. да* замарыць. Знясілены, змучаны. [Першы ганец]: *А як ішоў між іх* [людзей] *з сьвятлом, Яны пачулі, ах пачулі: Сьляпым заморэные сном, Худые рукі ў высь цягнулі.* Кц, 194.

Мн. Н. *заморэные*: Кц, 194.

**[ЗАМОЎКНУЦЬ]** (2) *зак. перан.* Заціхнуць. *..Замоўк разгул, агонь патух, Старое згасла папялішчэ.* Кц, 197. *Войнаў, бунтаў гул замоўк, Трупаў ані знаку*. Пц.

Абв. пр. адз. м. *замоўк* (2): Кц, 197; Пц.

**[ЗАМУЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* замучыць. Знясілены. *У замучанай царызмам Беларусі.. працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой-бы то ні было дзяржаўнай рабоце..* ГВУ.

Адз. ж. М. *замучанай*: ГВУ.

**ЗАМЧЫШЧЭ** (2) *н.* Месца, дзе стаяў замак. *Заныла усё, замёрла ўсё, – Ня сьпіць адвечнае замчышчэ..* Кц, 192. *Залопаў крыльлямі пятух, – І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы..* Там жа, 197.

Адз. Н. *замчышчэ*: Кц, 192. М. *замчышчы*: Кц, 197.

**[ЗАМЫСЛОВСКІ]** *прым.* Прыхільнік Замыслоўскага. *..кс. Мацеевіч і яго таварышы – гэта такіе-ж заядлые ворагі беларушчыны, як Юрашкевічы, Вераксіны і Замысловскіе..* ВР.

Мн. Н. *Замысловскіе*: ВР.

**[ЗАМЯНІЦЦА]** *зак. Разм.* Ператварыцца ў што-н. [Янка]: *..мабыць цяжкія вашы* [Мікіты] *справы, што так цяжка вам час плыве: месяцы ў цэлыя леты і зімы замяніліся?* Т, 45.

Абв. пр. мн. *замяніліся*: Т, 45.

**ЗАМЯНІЦЬ** *зак.* Паставіць узамен другога. *А ня шкодзіла-б ужыць крыху сьмеласьці й замяніць гэтыя чужатворы.. болей зразумелымі беларускімі наватворамі.* ВСп, 89.

Інф. *замяніць*: ВСп, 89.

**ЗАМЯНЯЦЬ** (2) *незак.* Замяшчаць. *Цяпер, кажуць, Пангерманія будзе замяняць Антанту, пакуль яна вылечыцца.* Ан, 19. *Магчыма, што, быў – можа яго* [гымн] *замяняла якая выдатная духоўная песьня.* СБНГ.

Інф. *замяняць*: Ан, 19. Абв. пр. адз. ж. *замяняла*: СБНГ.

**ЗАНАДТА** (3) *прысл.* Задужа, празмерна. [Гарошка]: *Удалы дзяцюк быў* [Юрка], *ах які ўдалы! і таксама шумеў, занадта шумеў.* Т, 44. *Трэці брат ад судзьбіны наказ праслухаў. – Снутраве ты занадта даў веры..* Ч, 323. Т, 57.

**[ЗАНАТАВАЦЬ]** *зак.* Адзначыць, зафіксаваць. [Мікіта]: *І наша патомства занатуе, меджду протчым, нашы іменні на залатой дошцы.* Т, 49.

Абв. буд. адз. 3 ас. *занатуе*: Т, 49.

**[ЗАНЕСЬЦІ]** *зак.* Несучы, даставіць куды-н. *Не магу* [Купала] *так сама ня ўспомніць добрым словам.. Ясінскага, Ерохава і інш., што сваімі рукамі на насілках занесьлі мяне з кватэры аж у бальніцу.* ЛР.

Абв. пр. мн. *занесьлі*: ЛР.

**[ЗАНІМАЕМЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* занімаць. *Руск.* Заселены, заняты. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэні і занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей...* Т, 39.

Адз. ж. Р. *занімаемой*: Т, 39.

**[ЗАНЫЦЬ]** *зак. перан.* Прыціхнуць. *Заныла ўсё, замёрла ўсё, – Ня сьпіць адвечнае замчышчэ..* Кц, 192.

Абв. пр. адз. н. *заныла*: Кц, 192.

**[ЗАНЯДБАЦЬ]** *зак.* Перастаць дбаць пра што-н. *Той, хто волю занядбае, Хоць у золаце хай сьпіць, Хоць царэўну хай кахае, – А ня будзе ў шчасьці жыць.* КЧ.

Абв. буд. адз. 3 ас. *занядбае*: КЧ.

**[ЗАНЯМЕЦЬ]** *зак. перан.* Прымоўкнуць. *Чую, ах чую цяпер яшчэ ясна Той неўгамонны, расходзісты звон... Сціх, занямеў, аглушылі напрасна; Ці адазвецца калі болей ён?..* Н.

Абв. пр. адз. м. *занямеў*: Н.

**[ЗАНЯТАК]** *м.* Справа. *Наста Пабягунская – дзяўчына нявedaмых заняткаў, 23–25 г.* Т, 19.

Мн. Р. *заняткаў*: Т, 19.

**ЗАНЯТЫ** (3) *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. зал. пр. да* заняць у 3 *знач. Правы свае ён* [новы ўрад Заходняй камуны] *пашырыў на ўсю Беларусь, не занятую немцамі, а нават і далей.* СНБ, 337.

**2.** *У знач. прым.* Той, хто займаецца чым-н. у даны момант; несвабодны. [Мікіта]: .. *сапошні час заняты быў эвакуацыйнымі справамі..* Т, 55. [Наста]: *Яны* [генэралы] *цяпер заняты спэцыяльна хапаннем сваіх жа ўласных генэралаў.* Там жа, 41.

Адз. м. Н. *заняты*: Т, 55. ж. В. *занятую*: СНБ, 337. Кар. мн. Н. *заняты*: Т, 41.

**ЗАНЯЦЦА** (6) *зак.* Узяцца за якую-небудзь справу, прыступіць да якога-небудзь занятку. [Аленка]: *А чаму б вам, пане Нікіці .. не заняцца чым-небудзь болей рэальным і грунтоўным.* Т, 36. *Пры менскім камісарыяце прасветы ўтвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел, які папраўдзе шчыра заняўся падгатоўкай літаратурнага беларускага матэрыялу.* СНБ, 339.

Інф. *заняцца* (2): СБНГ; Т, 36. Абв. пр. адз. м. *заняўся* (2): СНБ, 339; УрП, 51. Мн. *заняліся*: СБНГ. Буд. мн. 1 ас. *займемся*: Т, 50.

**[ЗАНЯЦЬ]** (7) *зак.* **1.** Размясціцца, распалажыцца на якім-небудзь месцы. [ГанулЯ]: *..абодва гэныя пакоі заняў нейкі іхні* [бальшавікоў] *рэдактар, па прозвішчы Гізульскі.* Т, 45.

**2.** Атрымаць якую-н. пасаду. *Не адна жанчына займе сваё пачэснае месца сярод дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР.* ГВУ.

**3.** Авалодаць, захапіць якую-н. тэрыторыю. *Калі немцы.. занялі большую часць нашай тэрыторыі, кучка бальшавіцкіх камісараў .. уцякла ў Смаленск.* СНБ, 337. *Палякі занялі Радашковічы і паважна пагражалі Менску.* Там жа, 340.

Абв. пр. адз. м. *заняў*: Т, 45. Мн. *занялі* (5): Кц, 196; СНБ, 337, 340(2); Т, 49. Буд. адз. 3 ас. *займе*: ГВУ.

**[ЗАНЯЦЬЦЕ]** *н. Дзеянне па дзеяслову* заняць у 3 *знач. Пасьля заняцьця польскімі войскамі Горадня, тамтэйшыя беларусы на разе прасьвятлелі..* СНБ.

Адз. Р. *заняцьця*: СНБ.

**[ЗАПАВЕДНЫ]** *прым.* Недатыкальны, непарушны. *Не было.. узнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных.. – былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя..* Кз, 17.

Мн. Н. *запаведныя*: Кз, 17.

**[ЗАПАДАЦЬ]** *незак. перан.* Глыбока замацоўвацца, захоўвацца ў душы і сэрцы. *Тыя шчыра дэмакратычныя думкі.. найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы.* НДН, 19.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *западаюць*: НДН, 19.

**[ЗАПАДНЫЙ]** *прым. Руск. Тое, што* заходні ў 2 *знач.* [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці у Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

Адз. ж. Р. *западной*: Т, 39.

**[ЗАПАКАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* запакаваць. Упакаваны. [Мікіта]: *..сапошні час заняты быў эвакуацыйнымі справамі, довадам чаго служаць вось гэтыя запакаваныя рэчы.* Т, 55.

Мн. Н. *запакаваныя*: Т, 55.

**[ЗАПАЛ]** (3) *м.* Парыў. *..З маладым плывуць* [камсамольцы] *запалам Цераз моры-акіяны.* СА, 180. *Слава сокалу, што родам З-пад Каўказскіх скалаў, Што з Крамля праменні сее З юнацкім запалам.* СТ.

Адз. Т. *запалам* (3): АЛ; СА, 180; СТ.

**[ЗАПАЛІЦЬ]** (2) *зак.* **1.** *перан.* Натхніць. *Рэволюцыя 1905 года .. запаліла ярка і неперäможна надзею на свабоду..* ЖН.

**2.** *Вобразн.* Заззяць. *Ляж* [беларус], *пратуліся да зямлі, Паслухай шчыра, што гавора Табе, сям'і і ўсёй радні, Калі запаліць неба зоры.* БрБ, 6.

Абв. пр. адз. ж. *запаліла*: ЖН. Буд. адз. 3 ас. *запаліць*: БрБ, 6.

**[ЗАПАНАВАЦЬ]** (6) *зак.* **1.** *Зак. да* панаваць у 1 *знач. Цар, пан, і поп і нагайка, здавалася, зноў запанавалі навекі.* ДЖ. // *перан.* Зажыць шчасліва. *Паваюем* [ваякі], *пагаруем, Зато дома запануем.* БЗ. *Запануем* [ваякі], *як і людзі, У хату вораг лезць не будзе.* Там жа.

**2.** Устанавіцца, настаць. *Узняўся гоман надхаўтурны, Запанавала ціішыня..* УрП, 52.

Абв. пр. адз. ж. *запанавала*: УрП, 52. Мн. *запанавалі*: ДЖ. Буд. адз. 3 ас. *запануе* (2): ВМР (2). Мн. 1 ас. *запануем* (2): БЗ (2).

**[ЗАПАС]** (5) *м.* **1**. Пэўная колькасць чаго-н., прыгатаванага на будучае. [Гануля]: *Як толькі ўлада мяняецца, робяць* [мянчане] *сабе запас да новай перамены..* Т, 55. *Чорны груган клюе панскія косці, З трупаў гербоўных складае запасы.* Мц, 75.

**2.** Рэсурс. *Яго* [краю] *балоты .. з часам дадуць багацейшы запас тарповага апалу.* ХБ, 30.

◊**У запасе** – назапашана. *У абчэственных магазынах ёсць немала у запасе уселякага збожа.* ВС.

Адз. В. *запас* (3): Т, 55 (2); ХБ, 30. Н. *запасе*: ВС. Мн. В. *запасы*: Мц, 75.

**[ЗАПАСНЫ]** *прым. У знач. наз.* Ваеннаабавязаны запасу. *Восьжэ калі с толкам пажычаць будзе магазын гэта збожа, то не*

*адна сем'я запаснога будзе як сьлед накормлена.* ВС.

Адз. Р. *запаснога*: ВС.

**[ЗАПАСЦІ]** *зак. да* западаць. *Тыя шчыра дэмакратычныя думкі.. найглыбей запалі і западаюць у нашы гаротныя душы і сэрцы.* НДН, 19.

Абв. пр. мн. *запалі*: НДН, 19.

**ЗАПАТРАБАВАНЬНЕ** (2) *н.* **1**. Патрэба, неабходнасць. *Усе, надрукаваныя ўперад сьпеўнікі з нотамі разышліся, а запатрабаваньне на іх вялікае.* ВСп, 90.

**2.** Нормы патрабавання. *Працуючы ў навукова-тэрмінолёгічнай комісіі ў Інбелкульце, Бан, ..бачачы сваімі вачыма іхнія несумяшчальныя з .. запатрабаваньнямі партыі і савецкай улады ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве, я* [Купала] .. *моральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.* АЛ.

Адз. Н. *запатрабаваньне*: ВСп, 90. Мн. Т. *запатрабаваньнямі*: АЛ.

**[ЗАПАХНУЦЬ]** *зак. да* пахнуць у 2 *знач.* [Янка]: *О, гэта ўжо правакатарскімі прынцыпамі запахла ад вас* [Мікіты]! Т, 56.

Абв. пр. адз. н. *запахла*: Т, 56.

**[ЗАПАШАК]** *м. Абл.* Арандаваная зямля. *З маладых год ён* [бацька] *працаваў на арандаванай зямлі (на запашках).* А, 327.

Мн. М. *запашках*: А, 327.

**ЗАПЕЦЬ** (5) *зак.* **1.** *Зак. да* пець у 1 *знач. І запеў жаўнер Той прыгожанькі.* ББ. *Старым і малым такой песьняй запей* [пясьняр], *– Хоць раз хай аб шчасьці пачуем!* Пр. *Параўн.* запеяць.

**2.** *перан.* Загаварыць пры якіх-н. неспрыяльных абставінах. [Абарванец]: *Заўтра ты* [Мікіта] *ў мяне йначай запяеш!* Т, 43. [Янка]: *Што тады вы* [Мікіта] *без гэтых торбаў запяеце.* Там жа, 50.

Інф. *запець*: ЖН. Абв. пр. адз. м. *запеў*: ББ. Буд. адз. 2 ас. *запяеш*: Т, 43. Мн. 2 ас. *запяеце*: Т, 50. Заг. адз. 2 ас. *запей*: Пр.

**[ЗАПЕЯЦЬ]** *зак. Разм. Тое, што* запець у 1 *знач. Хор запеяў нейкую песьню - якая азначала на афішах: "беларускі гымн!"..* СНБГ.

Абв. пр. адз. м. *запеяў*: СНБГ.

**[ЗАПЁРТЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* заперці. **1.** Зачынены. *– Глыток вады. – Няльга, запёрта будка.* ВБЛ, 80.

**2.** *перан.* Змешчаны. *Ну, а трэцьця* [літара] *с чацьвёртай Рэчка ў дальню даль запёрта.* $Ш_4$.

Кар. адз. ж. Н. *запёрта* (2): ВБЛ, 80; $Ш_4$.

**[ЗАПІСАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* запісаць. *перан.* Вызначаны. *..Ужо на згубу з зямлёю і з хатай запісан* [другі сын]*, І ўсё-ж долі завідуе ката.* Ч, 320.

Кар. адз. м. Н. *запісан*: Ч, 320.

**ЗАПІСАЦЦА** *зак.* Унесці сябе ў які-н. спіс. [Янка]: *Вам* [Мікіце] *простая дарога цяпер: запісацца на курсы беларусазнаўства.* Т, 56.

Інф. *запісацца*: Т, 56.

**[ЗАПІСАЦЬ]** *зак.* Упісаць. *І вось з усяёй .. роскашы засталася толькі балалайка, але і тую запісалі на нейкі ўчот.* Т, 45.

Абв. пр. мн. *запісалі*: Т, 45.

**ЗАПІСВАЮЧЫ** (11) *дзеепрысл. да* запісваць. Заносячы на паперу, занатоўваючы. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік).* Т, 47. [Заходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Усходнім).* Там жа. Т, 26(5), 39(2), 47(2).

**[ЗАПІСЫВАЦЬ]** *незак. Руск.* Запісваць, пачаць лічыць каго-н. кім-н. *"Gaz. Godz" у № 67 клічэ.., каб яго дзеці вучыліся ў школе рэлігіі па польску, запісывалі сябе ў палякі.* ВР.

Абв. пр. мн. 3 ас. *запісывалі*: ВР.

**[ЗАПЛАКАЦЬ]** (2) *зак.* **1.** *Зак. да* плакаць у 1 *знач. Кожны малавеле справядлівы чэлавек заплачэ над гэткай нямецкай несправядлівасьцю.* ЧЧШ.

**2.** Жалобна запець (пра птушак). *Заплачэ ў пагоду канюх па расінца, "Забраны край" жаліцца з ім.* ЗК, 42.

Абв. буд. адз. 3 ас. *заплачэ* (2): ЗК, 42; ЧЧШ.

**[ЗАПЛАЦІЦЬ]** *зак. перан.* Паплаціцца. [Люд]: *Прэч* [прыблуднік ночы], *прэч! З сваей сьвятой павагай Прышоў нас толькі зьневажаць! Заплаціш сьмерцю за зьнявагу, – Багоў ня нашых табе гнаць!* УрП, 52.

Абв. буд. адз. 1 ас. *заплаціш*: УрП, 52.

**[ЗАПЛЕСЬНЕЎШЫ]** *прым.* Цвілы. *А сваяк і чужак строіць петлі і сеці, Аплятае ўсё віднае ночай; Зварухнуцца ня сьмее ў заплесьнеўшай клеці, На браточкаў зубамі скрыгоча.* Ч, 321.

Адз. ж. М. *заплесьнеўшай*: Ч, 321.

**ЗАПЛЮШЧЫЎШЫСЬ** *дзеепрысл. да* заплюшчыцца. *перан.* Безразважна. *Я* [Нёман] *іх* [тутэйшых людзей] *не ваблю сваею ўжо красай: Вецер інакшы ім дзьме ў галаве, – Вісла адным ўсміхаецца ласа, Тыя заплюшчыўшысь пруцца к Няве.* Н.

**ЗАПОЗНА** *прысл. Разм.* Занадта позна. [Янка]: *Калісь вы, пане рэгістратар, апомніціся, але каб не было запозна.* Т, 49.

**ЗАПОЕМ** *прысл. Разм.* Працяглы час, празмерна (пра п'янства). *.. ён* [настаўнік] *піў запоем, так што вучні часта заставаліся без настаўніка.* А, 328.

**[ЗАПОМНІЦЬ]** *зак.* Запамятаць. *Добра запомніў я* [бацька] *панскую палку..* Бц, 74.

Абв. пр. адз. м. *запомніў*: Бц, 74.

**[ЗАПОР]** (4) *м.* Прыстасаванне для запірання чаго-н. *Сцены*

*і запоры Палачан, мянчан Леглі у разоры Зможаных: палян.* МД. *Над старэйшым братам Ставіў* [малодшы брат] *Стражы і запоры..* Дз, 190.

Мн. Н. *запоры*: МД. В. *запоры* (3): Дз, 190; УрП, 50; Ч, 321.

**ЗАПРАГАЦЬ** *незак.*: ◊**Запрагаць у ярмо** – паднявольваць. .. *нам* [беларусам] *і ў думку не прыйдзе запрагаць каго бы то ні было .. у паднявольнае ярмо.* НДН, 18.

Інф. *запрагаць*: НДН, 18.

**ЗАПРАПАНАВАЦЬ** (2) *зак. Разм.* Прапанаваць. [Мікіта]: *Хачу вам* [грамадзяніну] *нешта запрапанаваць.* Т, 34. [Мікіта]: *Ах, забыўся запрапанаваць ім* [Даме, Папу, Спраўніку] *купіць у мяне маркі.* Там жа, 38.

Інф. *запрапанаваць* (2): Т, 34, 38.

**[ЗАПРАДАЦЬ]** *зак. перан. Разм.* Аддаць у залежнасць, падпарадкаванне каму-н. *..за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць* [фальшывыя пракокі] *сябе і свой народ у рабства чужынцам..* ПЛП.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *запрадаюць*: ПЛП.

**[ЗАПРАЎЛЯЦЬ]** *незак. Вобразн.* Прыправіць. *Пятакоў і Радэк, Троцкі – ўся арава – Хлёбалі, зладзюгі, З адной міскі страву. Страву, што ім Гітлер Варыў смачна, ласа, Страву, што мікада запраўляў закрасай.* МПв, 218.

Абв. пр. адз. м. *запраўляў*: МПв, 218.

**ЗАПРАШАЦЬ** (2) *незак.* **1.** Зваць, клікаць. [Мікіта]: *..мамаша, я вас прасіў не запрашаць іх* [гасцей].. Т, 27.

**2.** Прапаноўваць. [Мікіта]: *..вы* [Ганулля] *толькі што запрашалі: "купеце, за паўцаны аддам.."* Т, 34.

Інф. *запрашаць*: Т, 27. Абв. пр. мн. *запрашалі*: Т, 34.

**[ЗАПРОС]** *м.* Запытанне. *"Істіно-польскіе" дэпутаты ад нашага краю падалі ў Думу запрос, чаму ў некаторых школах .. ім* [каталікам-беларусам] *выкладаюць рэлігію не па польску, а па расейску?* ВР.

Адз. В. *запрос*: ВР.

**[ЗАПРУДЗЦЬ]** *зак. перан. Разм.* Запоўніць, навадніць. *Цары .. запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй..* Нз, 14.

Абв. пр. мн. *запрудзілі*: Нз, 14.

**[ЗАПРЭГЧЫ]** (2) *зак.*: ◊**Запрэгчы ў (нявольнічы) плуг** (2) – падняволіць. *Ў плуг запрог* [сярэдні брат] *свайго браточка На век, да скanання..* Дз, 190. *Тыя, ў дагонцы за блескам часовым, Брацьцяў запрэглі ў нявольнічы плуг..* Г, 16.

Абв. пр. адз. м. *запрог*: Дз, 190. Мн. *запрэглі*: Г, 16.

**[ЗАПУСКАЦЬ]** *незак.* Пускаць. *Дынаміт і порах Запускалі* [трацкісты-дыверсанты] *ў дзела..* МПв, 219.

Абв. пр. мн. *запускалі*: МПв, 219.

**[ЗАПУТАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* запутаць. *Руск*. Заблытаны. *Зямельнае пытанне, каторае і дагэтуль было так запутаным у нашым краю, яшчэ больш запутываецца зямельнай спекуляцыяй у нашыя дні.* ЗС, 18.

Адз. н. Т. *запутаным*: ЗС, 18.

**[ЗАПУТАЦЦА]** (2) *зак. Руск.* **1.** *перан.* Збіцца, заблытацца. [Янка]: *Мне здаецца, пане рэгістратар, што вы так запуталіся ў сваіх рангах.., што ўжо не здольны да ніякай місіі.* Т, 38.

**2.** *перан.* Папасці, трапіцца. [Начальнік]: *Мы ўсё-такі маленькія агледзіны зробім вашых рэчаў, каб часам памылкова не запуталіся між імі і чужая.* Т, 60.

Абв. пр. мн. *запуталіся* (2): Т, 38, 60.

**[ЗАПУТЫВАЦЦА]** *незак. Руск. перан.* Заблытвацца, ускладняцца. *Зямельнае пытаньне .. яшчэ больш запутываецца зямельнай спекуляцыяй у нашыя дні.* ЗС, 18.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *запутываецца*: ЗС, 18.

**[ЗАПЫТАННЕ]** і [**ЗАПЫТАНЬНЕ**] *н. Тое, што* пытанне ў 1 *знач. К такому запытаньню трэба нам быць гатовымі.* БС. [Мікіта]: .. *ці ён* [немец] *нямы, што ні слова не адказаў мне на запытанне?* Т, 42. *Параўн*. вопрос.

Адз. Д. *запытаньню*: БС. В. *запытанне*: Т, 42.

**[ЗАПЫТАЦЦА]** (4) *зак. Разм. Тое, што* запытаць. [Мікіта]: *Каб хто хоць на смех запытаўся аб марках.* Т, 34. *Запыталіся ў Галінкі..: – Што сядзіш ты, Галя, ў хаце, І не йдзеш гуляці?* Вб, 236. // *Вобразн. І запытаецца вадзіца, Як не пытаў ніхто ў жыццю: Чаму яе п'е чужаніца, Яе, кроў родную тваю?* БрБ, 6.

Абв. пр. адз. м. *запытаўся*: Т, 34. Мн. *запыталіся*: Вб, 236. Буд. адз. 3 ас. *запытаецца* (2): БрБ, 6(2).

**[ЗАПЫТАЦЬ]** *зак.* Спытаць. *Хоць сохі, хоць косы гуляюць там ройна, – Ня поймеш аткуль узялісь; Людзей запытаеш, – аткажуць спакойна: "Забраны край" гэты калісь.* ЗК, 42. *Параўн*. запытацца.

Абв. буд. адз. 2 ас. *запытаеш*: ЗК, 42.

**[ЗАПЭЎНЕНЬНЕ]** *н.* Запэўніванне. .. [нацыянал-дэмакраты] *на грунце канстытуцыі Савецкае Беларусі, ..прыкрываючыся .. запэўненьнем, праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмакратычныя ідэі на культурным фронце.* АЛ.

Адз. Т. *запэўненьнем*: АЛ.

**ЗАПЭЎНІЦЬ** *зак.* Пераканаць. *Беларуская сіла ня можа запэўніць абывателю таго, да чаго ён звык..* ВМР.

Інф. *запэўніць*: ВМР.

**[ЗАРА]** (31) *ж.* **1.** *Тое, што* зорка ў 1 *знач. Песня чутна ўсюды*

*Ў бязмежным прасторы, Ці то дзень, ці ночка, Ці сонца, ці зоры.* ЦДС, 231. *Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46. // *У параўн. І пайшло ў паходы войска Полем, лугам, борам, А байцоў, як зор на небе, Як пясчын у моры.* ЗЯЗ, 90.

**2.** Прадмет з востраканцовымі выступамі. *Радасна жыць пад Крэмлёўскімі зорамі..* ДПЛС.

Δ**Зоры-вочы** (2): *Глядзяць і ўсё бачаць яго* [Сталіна] *зоры-вочы Скрозь светлыя дні, скрозь туманныя ночы..* СС, 302. **Сьвечкі-зоры** *гл.* сьвечка.

Мн. Н. *зоры* (8): АК; Г, 17; Дз, 189; Кц, 192; ПДС, 231; СС, 302(2); Ч, 321. Р. *зор* (10): БН, 92; Г, 16; 383, 90; КП, 170; МСП, 187; НДп, 230; ПН, 46; СС, 300; УрП, 46; Ч, 321; *зораў* (2): Пр, 147; ТП, 2І7. Д. *зорам*: Пн, 50. В. *зоры* (7): БрБ, 6(2); 3; УрП, 50; СА, 180; ХЛВ, 315; Ч, 323. Т. *зорамі* (2): ДПЛС; ЗК, 42. М. *зорах*: НК.

**ЗАРАБІЦЬ** *зак.* Запрацаваць. – *Так і так, – кажу, – пане рэдактар .. патрабую пільна зарабіць якую дытку.* Ан, 18.

Інф. *зарабіць*: Ан, 18.

**ЗАРАБОТАК** *м.* Плата за работу. *Заработак падлетка амаль не ўвесь ідзе на аплату яго ўтрымання "клапатлівым" Бацем.* ПЧ.

Адз. Н. *заработак*: ПЧ.

**ЗАРАЗ** (9) *прысл.* У сучасны момант, у гэты час, цяпер. *Мы зараз з усёй краінай будуем сацыялізм.* ВГР. *Гэты* [стаханаўскі] *рух дае .. палепшання дабрабыта рабочых і калгаснікаў, што цяжка нават прадбачыць зараз у марах.* СТ. // У самым скорым часе, хутка. [Ануля]: *Ён* [настаўнік] *тут, зараз паклічу.* Т, 25 [Спраўнік]: *..вы* [Мікіта]: *павінны зараз ісці да сваёй здабычай у штаб акупацыйных войск.* Там жа, 53. *Параўн.* тэраз. ЖН; ПДз; СНБ, 340; Т, 32(2).

**ЗАРАЗА** (4) *ж. перан.* Адмоўная з'ява. *Гандляры айчынай Па чужым заказу... Вынішчыць дашчэнту Гэтую заразу!* МПв, 218. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы, Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы, Аковы, дзе йшчэ звоняць трупнай заразай.* ТП, 216.

Адз. В. *заразу* (2): МПв, 218; ХЛВ, 316. Т. *заразай* (2): АЛ; ТП, 216.

**ЗАРАЗІШ** *перан. Разм., лаянк.* Грубы выраз. [Мікіта]: *(Да немца.) Зіхэнзіш ... Заразіш... (Набок.) Зірну ў слоўнікі, як яму адказаць. (Шастае слоўнікамі.)* Т, 32.

Адз. Н. *заразіш*: Т, 32.

**[ЗАРАНАК]** *м. Разм.* Ранішні час, ранак. *Яркай зімою, шумлівым прадвеснем, У ясныя ночкі, ў заранкі Песню ўсім сэрцам*

*складаем аб песні – Аб Сталіне песні-вяснянкі.* СС, 301.

Мн. В. *заранкі*: СС, 301.

**[ЗАРАПАРТАВАЦЦА]** *зак. Разм.* Заблытацца ў чым-н. [Мікіта]: *..я крыху зарапартаваўся.* Т, 50.

Абв. пр. адз. м. *зарапартаваўся*: Т, 50.

**[ЗАРАСТАЦЬ]** *незак.:* ◊**Лазой зарастаць** – забывацца. *..Прадзедаў слава лазой зарастае, Памяць мінуўшчыны дрэмле ў зямлі*. Н.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зарастае*: Н.

**ЗАРАСТАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* зарастаць. ◊**Зарастаючы зельлем чужым** – запаланяючыся. *Сотні лет, непрыяцелем-братам прыбітая, Зарастаючы зельлем чужым, як лазой сенажаць, Ты* [Беларушчына] *ляжала няпамяці пылам пакрытая..* Б, 18.

**[ЗАРАСЦІ]** (2) *зак*.: ◊**Зельлем зарасці** – адысці ў нябыт. *Так прайшло, мінула, Што калісь жыло, Ў курганах заснула, Зеллем зарасло.* МД.

Абв. пр. адз. н. *зарасло*: МД (2).

**[ЗАРВАЎШЫСЯ]** (2) *дзеепрым. незал. пр. да* зарвацца. *Руск. перан.* Няпрошаны. *..нашы байцы насцігнуць зарваўшагася ворага і разгромяць яго..* ВГ. *..байцы доблеснага Чырвонасцяжнага Далёкаўсходняга фронта далі сакрушаючы адпор зарваўшымся самураям.* Там жа.

Адз. м. В. *зарваўшагася*: ВГ. Мн. Д. *зарваўшымся*: ВГ.

**[ЗАРГАНІЗАВЦЬ]** *зак. Разм.* Арганізаваць, ажыццявіць. *Навукова-Літаратурны Аддзел .. зарганізаваў выданьне беларускіх кніг за граніцай.* ВСп, 91.

Абв. пр. адз. м. *зарганізаваў*: ВСп, 91.

**[ЗАРНІЦА]** (2) *ж. Вобразн.* Светлая будучыня. *І рухнуць апоры Фашысцкіх цямніц, Нявольнікі выйдуць Да ясных зарніц.* СС, 301. *З чорнай памрокі ў праменні зарніцаў Выйдзеш, Фінляндыя, чараў краіна!* Ф.

Мн. Р. *зарніц*: СС, 301; *зарніцаў*: Ф.

**[ЗАРНІЧНЫ]** *прым. перан.* Яскравы, адметны. [Судзьбіна:] *Бачыш* [першы брат] *зоры, сонца вясёлае бачыш? З імі рвіся ўсім сэрцам зраўняцца, А як сьлед свой зарнічным сьвятлом абазначыш, – За табой кінуць зморы ганяцца.* Ч, 323.

Адз. н. Т. *зарнічным*: Ч, 323.

**[ЗАРОБЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* зарабіць. *..на гарэлку гатоў аддаць* [мужык] *апошні грош, зароблены крывавой працай.* УП.

Адз. м. В. *зароблены*: УП.

**[ЗАРОК]** (2) *м.* Абяцанне, клятва не рабіць чаго-н. або зрабіць што-н. *І кліч пушчу скрозь ад кургану да кургану, Як віхраў лёт*

*па ўсёй бязмежнасці шырокай, Кліч-заклінанне векавечнага зароку..* СМ. *Збяры* [прарок] *ў адну ўсю Беларусь сям'ю, Вазьмі з яе прысягу і зарок, Што не прадасць сябе, сваю зямлю...* Пт.

Адз. Р. *зароку*: СМ. В. *зарок*: Пт.

**[ЗАРОСШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* зарасці. Зарослы. *Ліпа шуміць адзінока над хатай, Сажалка дрэмле, заросшая цінай..* ВМ, 72.

Адз. ж. Н. *заросшая*: ВМ, 72.

**[ЗАРУБЕЖНЫ]** *прым. Руск. Тое, што* замежны. *У гэтай контррэволюцыйнай рабоце беларускія нацыянал-дэмократы апіраліся з аднаго боку на кулацтва.., а з другога боку, на зарубежныя сілы.* АЛ. *Параўн*. загранічны.

Мн. В. *зарубежныя*: АЛ.

**[ЗАРУЙНЕЦЦА]** *зак.* Зарунець. *..кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачох буйнай квяцістай руняй..* ПЛП.

Абв. пр. мн. *заруйнеліся*: ПЛП.

**[ЗАРЫСОВАНЫ]** *прым. перан.* Акрэслены. *..гэтыя дзяржавы* [Расія, Нямеччына, Англія] *.. мелі адну ярка зарысованую мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў..* НДН, 18.

Адз. ж. В. *зарысованую*: НДН, 18.

**ЗАРЫЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* зарыцца. *Разм., перан.* Схаваўшыся. *У параўн. ..Акоў паломаных жандар, Сліўнём зарыўшыся ў нару, Сядзіць расійскі чынадрал, "Слуга ацечаству, цару".* АПЖ.

**[ЗАРЫЦЬ]** *зак. Разм.* Закапаць. *І пакуль у зямлю не зарылі, Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі, – На сваіх вісі жылах і сьмейся!* См, 91.

Абв. пр. мн. *зарылі*: См, 91.

**[ЗАРЭЗАЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* зарэзаць. *..Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку, Звярнуся к сонцу, сонцу без канца й пачатку.* СМ.

Адз. м. Р. *зарэзаўшага*: СМ.

**[ЗАРЭЗАЦЬ]** *зак.* Забіць. *Мне* [хлопчыку] *мамку зарэзалі немцы, Сястрычку спалілі жыўём..* ХЛВ, 315.

Абв. пр. мн. *зарэзалі*: ХЛВ, 315.

**[ЗАСЕЯНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* засеяць. **1.** Пасеяны. *.. скрозь каля поля, засеянага грэчкаю, .. стаяць вялікія цяжкія калоды.* ХБ, 30.

**2.** *перан.* Пакрыты, услaны, засланы. *.. зямля, засеяная касцямі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх..* ПЛП.

Адз. ж. Н. *засеяная*: ПЛП. н. Р. *засеянага*: ХБ, 30.

**ЗАСЕДЗЕЦЦА** (4) *зак. Разм.* Затрымацца. [Янка]: *.. у вельмі пільнай справе прышлося нам* [з Аленкай] *заседзецца крыху*. Т, 44. [Мікіта]: *..яна* [цётка Бадунова], *меджду протчым, эсэр-беларус і ў рахунак не йдзе: доўга тут не заседзіцца.* Там жа, 56.

Інф. *заседзецца* (3): Т, 44(3). Абв. буд. адз. 3 ас. *заседзіцца*: Т, 56.

**[ЗАСЕК]** *м.* Сховішча. *З табою* [Сталіным] *дабром у нас поўны засекі, З табою не страшны для нас небяспекі..* СС, 303.

Мн. Н. *засекі*: СС, 303.

**[ЗАСЕСЦІ]** (4) *зак.* **1.** Усесціся дзе-н. [Князь:] *Засядзьце* [госці] *усе кругом стала, Хай зазьвініць віно ў крыштале.* Кц, 196.

**2.** Пачаць праводзіць пасяджэнне. *Засядзе народ у Крэмлі Кліч кінуць на цэлы бел-свет..* ТП, 217. // Пачаць удзельнічаць ў пасяджэнні. *Наш слесар луганскі, Нарком Абароны, Засядзе ў Вярхоўным Совеце ад нас.* НДп, 229.

◊**Засесці за стол** – запанаваць. *А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі Засеў за наш бяседны сытны стол.* Бч, 9.

Абв. пр. адз. м. *засеў*: Бч, 9. Буд. адз. 3 ас. *засядзе* (2): НДп, 229; ТП, 217. Заг. мн. 2 ас. *засядзьце*: Кц, 196.

**ЗАСВЯЦІЦЬ** (3) *зак. Вобразн.* Заззяць. *Засвяціла ясна зорка Добраю навінай Над Заходняй Беларусяй І над Ўкраінай.* ЗЯЗ, 89.

**Засвяціла ясна зорка ...**

Абв. пр. адз. ж. *засвяціла*: (3): ЗЯЗ, 89(2), 90.

**[ЗАСІЛЛЕ]** і **[ЗАСІЛЬЛЕ]** *н.* Панаванне. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [мянчане] *да адзінай мэты: адваяваць свой горад ад засільля чужынцаў..* ВМР. [Мікіта]: *Мы .. баранілі тутэйшую рускую народнасць ад "інародчаскага засілля".* Т, 21.

Адз. Р. *засілля*: Т, 21, *засільля*: ВМР.

**ЗАСЛАНІЦЬ** (2) *зак.* **1.** Загарадзіць сабою. [Мікіта]: *..мамаша, я залезу сюды, а вы станьце так, каб мяне засланіць.* Т, 52.

**2.** *перан.* Адсунуць на задні план. *Вайна .. засланіла собою усе іншыя праявы нашага грамадзянскаго жыцьця.* ВС.

Інф. *засланіць*: Т, 52. Абв. пр. адз. ж. *засланіла*: ВС.

**ЗАСЛАНЯЮЧЫ** *дзеепрысл. да* засланяць. Закрываючы, загароджваючы чым-н. *Становіцца* [Мікіта] *на лаўцы перад Настай на калені, засланяючы збольшага яе й сябе распушчаным парасонам.* Т, 42.

**ЗАСЛОНА** (6) *ж.* Шырокае палотнішча, якое закрывае сцэну ад глядзельнай залы. *Калі падымаецца заслона, Гануля, закасаўшы рукі, мые бялізну ў начоўках..* Т, 43. *Пры падняцці заслоны першым праходзіць справа ўлева Лернік з лерай...* Там жа, 33.

Адз. Н. *заслона* (4): Т, 33, 43, 53, 62. Р. *заслоны*: Т, 33. Т. *заслонай*: АЛ.

**[ЗАСЛУГА]** (2) *ж.* Дзейнасць, вартая павагі, высокай ацэнкі. *..за мае* [Купалы] *ранейшыя заслугі перад беларускім працоўным людам надалі мне высокую годнасьць народнага паэты.* АЛ. *Вашу* [паноў] *карысць нам і вашы заслугі Добра ўжо скеміў таптаны народ..* Г, 17.

Мн. Н. *заслугі* (2): АЛ; Г, 17.

**[ЗАСЛУГОЎВАЦЬ]** *незак.* Быць вартым чаго-н. *..шмат яшчэ ёсць усялякіх песень і вершаў, якія ахрысцілі гімнамі, не зважаючы на тое, ці яны заслўгоўваюць на такую назву, ці не.* СБНГ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *заслугоўваюць*: СБНГ.

**[ЗАСЛУЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* заслужыць. *Вось гэту вялікую, заслужаную, гордую радасць пераможцаў падзяляем з усімі народамі краіны Советаў і мы, ягоныя пісьменнікі..* ВГР.

Адз. ж. В. *заслужаную*: ВГР.

**[ЗАСЛУЖЫЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* заслужыць. *Слава .. вялікаму Сталіну, заслужыўшаму найвялікшую павагу .. усяго працоўнага чалавецтва.* СТ.

Адз. м. Д. *заслужыўшаму*: СТ.

**[ЗАСЛУЖЫЦЬ]** (6) *зак.* да заслугоўваць. *Ці-ж беларускі народ .. не заслужыў на тое, каб і для яго бацькаўшчыны закрасавало?* ДД. *.. справа вызваленьня Беларусі сягне на такую вышыню, на якую наша бацькаўшчына заслужыла сваім векавечным паднявольлем.* СНБ.

Абв. пр. адз. м. *заслужыў* (4): ДД; ПЛП; Т, 19, 30. ж. *заслужыла*: СНБ. Мн. *заслужылі*: ЛР.

**[ЗАСМЕЧАНАСЦЬ]** *ж. перан.* Неўнармаванасць. *Стары правапіс, у якім не мала было засмечанасці.., – трымаў беларускую мову ў палоне правінцыялізма..* ШБСЯ.

Адз. Р. *засмечанасці*: ШБСЯ.

**[ЗАСНАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* заснаваць. Створаны. *Унівэрсытэт гэты* [у Вільні] *быў заснаван у 1578 год ..* УПУВ.

Кар. адз. м. Н. *заснаван*: УПУВ.

**[ЗАСНУЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* заснуць. *перан.* Заціхлы. *Шапаціць тое лісце заснуўшым палянам, – Чуе ночка глухая, нямая..* Ч, 326.

Мн. Д. *заснуўшым*: Ч, 326.

**[ЗАСНУЦЬ]** (6) *зак. перан.* Заціхнуць. *Люд рабочы, люд сялянскі Не засне ўжо болей.* ЗЯЗ, 297. *І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой, Яшчэ раз не засьні!* ХХ, 128.

Абв. пр. адз. ж. *заснула*: Б, 18. н. *заснуло* (2): МД (2). Мн. *заснулі*: ЗН. Буд. адз. 3 ас. *засне*: ЗЯЗ, 297. Заг. адз. 2 ас. *засьні* (2): ХХ, 128(2).

**ЗАСОПШЫСЯ** *дзеепрысл. да* засапціся. *Разм.* Засапеўшыся.

*Убягае засопшыся Наста.* Т, 58.

**ЗАСТАВАЦЦА** (8) *незак.* **1.** **А**ставацца на ранейшым месцы. [Дама]: *А вы, мусье рэгістратар, .. пэўна заставацца тут не будзеце..* Т, 37. [Начальнік]: *Вы, цётка, застаіцёся хаты пільнаваць.* Там жа, 62.

**2.** Аказацца без каго-н. *..ён* [настаўнік] *піў запоем, так што вучні часта заставаліся без настаўніка.* А, 328.

**3.** *безас., каму, з інф.* Неабходна. [Янка]: *Цяпер вам, пане рэгістратар, застаецца толькі прыдушываць новую свабодную прафэсію..* Т, 55.

Інф. *заставацца*: Т, 37. Абв. цяп. адз. 1 ас. *застаюся*: Т, 37. 3 ас. *застаецца* (2): Т, 40, 55. Мн. 2 ас. *застаіцёся*: Т, 62. 3 ас. *застаюцца* (2): Т, 37, 50. Пр. мн. *заставаліся*: А, 328.

**ЗАСТАВІЦЬ** *зак. да* застаўляць. [Мікіта]: *..вы* [Янка] *хацелі б заставіць нас, руска-ісціную тутэйшую, меджду протчым, інтэлігенцыю, сушыць над ім свае апошнія мазгі.* Т, 48–49.

Інф. *заставіць*: Т, 48.

**[ЗАСТАЎЛЯЦЬ]** *незак. Руск.* Прымушаць рабіць што-н. *Каб таму крукамі Пакрыўляла ногі.., Хто крыўляў нам праўду, Застаўляў ў прыгоне Бежанцамі гінуць На бацькоўскіх гонях.* К.

Абв. пр. адз. м. *застаўляў*: К.

**ЗАСТАЦЦА** (21) *зак.* **1.** *Зак. да* заставацца ў 1 *знач.* [Янка]: *.. акупанты ўцяклі, а ён* [Гарошка] *застаўся.* Т, 37. [Мікіта]: *..йдзеце* [Ануля] *дамоў і шыкуйце вячэру, а я застануся яшчэ тут.* Там жа, 34. *Параўн.* остацься.

**2.** Не змяніцца. *.. беларускі народ застаўся беларускім народам, ня гледзячы на усе падашуканство..* ДК. *Якія* [словы] *былі незразумелымі, так і засталіся – іх толькі перапісалі беларускімі літарамі..* ВСп, 89.

**3.** Быць у наяўнасці. [Гануля]: *І вось з усяёй .. роскашы засталася толькі балалайка..* Т, 45. [Мікіта]: *..мамаша, у вас не засталося польскіх марак?* Там жа, 56.

**4.** *Зак. да* заставацца ў 2 *знач.* [Гануля]: *..скасавалі чыноўніцтва, застаўся* [Мікіта] *без службы і хоць бы што..* Т, 20. [Гануля]: *.. мой* [муж] *памёр.., а я засталася адна са сваім Мікіткай.* Там жа.

Інф. *застацца* (2): Т, 57(2). Абв. пр. адз. м. *застаўся* (6): ДК; Т, 20, 37, 57(2); Ун, 73. ж. *засталася*: Т, 20. н. *засталося* (5): ОШМ; Т, 35, 45, 47, 56. Мн. *засталіся* (3): ВСп, 89; Т, 33, 43. Буд. адз. 1 ас. *застануся*: Т, 34.

**[ЗАСТАЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Паспець убачыць, знайсці каго-н. на месцы. [Гарошка]: *Во добра, што застаў вас* [Янку і Аленку]! Т, 36–37.

**2.** Захапіць. *..рэвалюцыя не застала беларуса неўспадзеўкі.* СНБ, 337.

Абв. пр. адз. м. *застаў*: Т, 37. ж. *застала*: СНБ, 337.

**ЗАСТРЭЛІЦЦА** (2) *зак.* Забіць сябе (з агнястрэльнай зброі). *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон".* Ан, 19. *Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне* [Купалу] *туды за імі дарога.* СЧ.

Інф. *застрэліцца*: Ан, 19. Абв. пр. адз. м. *застрэліўся*: СЧ.

**[ЗАСТРЭЛЬШЧЫК]** *м.* Пачынальнік, ініцыятар. .. *ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму узяў на сябе беларускі нацыянал-дэмакратызм..* АЛ.

Адз. Р. *застрэльшчыка*: АЛ.

**ЗАСТУПІЦЦА** (3) *зак.* Абараніць. *..надыйшоў дзень беларускага народу, калі ён можа збройна заступіцца за сябе самога і за сваю Айчыну.* БСУ. *О Божа! ты хоць заступіся Й ня дай да рэшты нам сканаць!* РС, 40.

Інф. *заступіцца*: БСУ. Абв. пр. адз. ж. *заступілася*: Т, 46. Заг. адз. 2 ас. *заступіся*: РС, 40.

**ЗАСЦІЛАЎШЫ** *дзеепрысл. да* засціляць. *перан.* Затуманьваючы. *Каб таго скруціла Гадзінавым скрутам.., – Хто круціў нам сьцежкі Да жыцьця і славы. Засьцілаўшы вочы Туманом крывавым.* К.

**[ЗАСЦЯНКОВЫ]** і **[ЗАСЬЦЯНКОВЫ]** *прым. Гіст.* Адасоблены, хутаранскі. – *Ха-ха? – цярэбіць патыліцу зясьцянковы беларускі шляхціц "польскай культуры", завязываючы аборы у лапцях.* З. *Бацька мой* [Купалы] *родам з Чэрвеньшчыны, паходзіць з дробных засцянковых арандатараў, выгнаных нейкім польскім князем з зямлі.* А, 327.

Адз. м. Н. *засьцянковы*: З. Мн. Р. *засцянковых*: А, 327.

**[ЗАСЬПЯВАЦЬ]** *зак. да* спяваць у 1 *знач. А усё як прыдзе к нам – Важна загуляем: Пусьцім чарачкі ў ход Песьню засьпяваем.* $Ш_1$.

Абв. буд. мн. 1 ас. *засьпяваем*: $Ш_1$.

**[ЗАСЫНАЦЬ]** *незак.* Пачынаць спаць. .. *не абыходзілася без таго, каб я* [Купала] *не засынаў, а коні тым часам траплялі ў шкоду.* ПС.

Абв. пр. мн. *траплялі*: ПС.

**[ЗАСЯВАЦЬ]** (4) і **[ЗАСЕВАЦЬ]** (3) *незак.* Сеяць. *..уся зямля пяройдзе да тых, хто яе сваімі рукамі арэ і засявае.* ЗС, 17. *Засеваймо свае нівы – хай рунь красуе.* РКр.

Інф. *засяваць*: МПв, 220. Абв. цяп. адз. 3 ас. *засявае* (2): ЗС, 17; Ч, 323. Мн. 3 ас. *засяюць*: ЗК, 42. Пр. мн. *засевалі*: Чж, 146. Заг. мн. 1 ас. *засеваймо* (2): РКр (2).

**ЗАСЯДАЦЬ** (4) *незак.* **1.** Праводзіць пасяджэнне. *..ствараюць* [бальшавікі] *ужо Літоўска-Беларускую і г. д. рэспубліку, урад*

*якой засядае ў Вільні*. СНБ, 339. // Працаваць. [Мікіта]: *..хай сабе ідуць* [немцы] *.. – буду зноў засядаць у губарнатарскай канцылярыі.* Т, 24.

**2.** *перан. Разм.* Уладарыць. *Засядаць, панаваць на хватаным багацьці Ня кідае* [другі сын] *за дзьверы надзеі..* Ч, 320. *Заседала, расьцвітала* [маці] *За гадамі года; Залатые думкі ткала С шчасьця і свабоды.* Дз, 188.

Інф. *засядаць* (2): Т, 24; Ч, 320. Абв. цяп. адз. 3 ас. *засядае*: СНБ, 339. Пр. адз. ж. *заседала*: Дз, 188.

**[ЗАТАНУЎШЫ]** *дзеепрысл. да* затануць. *перан*. Заблытаўшыся. *..Снуёмся, ў думках зводных затануўшы, А хтось, а штось і мучыць і пячэ.* Бч, 9.

**ЗАТОЕ** (6) і **ЗАТО** (3) *злучн.* **1.** Злучае сказы і члены сказа пры замяшчальным супастаўленнні; адпавядае словам: аднак, але, у той жа час. *Дасюль елі* [груганы] *мерцьвякоў; А цяпер затое Будзем піць мы кроў жывых..* Гр, 215. *Дом жылы невялікі, чысты – напрыглядку. Зато гумно – важна!* ХБ, 28.

**2.** Для выражэння выніку; адпавядае словам: таму, у выніку гэтата. *Паваюем* [ваякі], *пагаруем, Зато дома запануем.* БЗ. [Спічыні]: *Справы затрымалі. Але мы затое пазней пазаймаемся.* Т, 31. Т, 49, 51, 54; УП; $Ш_1$.

**ЗАТОЕНА** *прысл. перан.* Тайна, скрыта. *Там* [за мяжой] *не чутно песень вясёлых, адно толькі смутныя вочы ў людзей глядзяць у наш бок.. і затоена ловяць вострым вухам нашы песні..* ЖН.

**[ЗАТОЕНЫ]** *прым.* Скрыты, тайны. *Ці апраўдала гэта адозва затоеныя думкі і надзеі беларускага грамадзянства, .. – аб гэтым у другі раз.* СНБ, 340.

Мн. В. *затоеныя*: СНБ, 340.

**[ЗАТРАПЯТАЦЦА]** *зак. перан.* Ажывіцца. *Беларуская душа,.. як яе ні заганяй у казіны рог, а яна збудзіцца і затрапечацца.* МІ, 17.

Абв. буд. адз. 3 ас. *затрапечацца*: МІ, 17.

**[ЗАТРУБІЦЬ]** *зак.* Пратрубіць. *Бо час як надыйдзе і гром бітвы ўдара, І трубы затрубяць, паклічуць у бой Супроць банд фашысцкіх, пагромаў, пажараў Народ беларускі паўстане з табой* [Варашылавым]. НДп, 229.

Абв. буд. мн. 3 ас. *затрубяць*: НДп, 229.

**ЗАТРУВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* затруваць. *Польск.* Атручваючы. *..і палавіны ня прыдзецца нам плаціць таго лішняга, што мы выкідалі у сваім часе на гарэлку, затруваючы у дадатку сваё здароўе..* ВН.

**[ЗАТРЫМАЦЦА]** (4) *зак.* **1.** *Зак. да* затрымлівацца. [Спічыні]: *Затрымайцеся* [Мікіта] *на мінутку. У сваёй араторыі вы пераблуталі лёгічныя тэрміны..* Т, 40. [Спічыні]: *Затрымайцеся*

[Мікіта]. *Гэта ў вас вышла нібы лепей.* Там жа.

**2.** Спыніцца. [Мікіта]: *Ужо нават едзе і старшыня Беларускага Рэўкому Чарвякоў – толькі затрымаўся недзе за Менскам на папаску.* Т, 55.

◊**На паўдарозе затрымацца** – не закончыўшы распачатай справы. *У сваім вялікім паходзе па адбудаваньні культуры на руінах былое царскае Расіі савецкая ўлада на працягу ўжо 11 год нідзе ні на адзін момант не затрымалася на паўдарозе.* ГНД.

Абв. пр. адз. м. *затрымаўся*: Т, 55. ж. *затрымалася*: ГНД. Заг. мн. 2 ас. *затрымайцеся* (2): Т, 40(2).

**[ЗАТРЫМАЦЬ]** *зак.* Прыпыніць. [Спічыні]: *Справы затрымалі. Але мы затое пазней пазаймаемся.* Т, 31.

Абв. пр. мн. *затрымалі*: Т, 31.

**ЗАТРЫМЛІВАЦЦА** (2) *незак.* Спыняцца на чым-н. *На вартасьці на друкаванага ў "Вестнике" беларускага матар'ялу затрымлівацца ня будзем..* ВСп, 90. *Не будзем затрымлівацца на тым, якімі шляхамі павінна была перайсці наша справа да 1919 г.* СНБ, 337.

Інф. *затрымлівацца* (2): ВСп, 90; СНБ, 337.

**[ЗАТЫКАЦЬ]** *незак.:* ◊**Затыкаць вушы** – не звяртаць увагі на тое, што адбываецца. *Насяленьне голасна пачынае шкадаваць немцаў, бальшавікоў і Расію цалкам. Гэтага ня чуе хіба той, хто наўмысьля затыкае вушы..* ОШМ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *затыкае*: ОШМ.

**ЗАЎВАЖЫЎШЫ** *дзеепрысл. да* заўважыць. Убачыўшы, прыкмеціўшы. *Уваходзяць адначасова з абаіх дзвярэй Усходні вучоны і Заходні вучоны, .. не заўважыўшы спачатку адзін аднаго.* Т, 25.

**[ЗАЎВАЖЫЦЬ]** (4) *зак.* **1.** Убачыць, прыкмеціць. *Разглядаючы гэты сьпіс (табліцу), мы першым чынам заўважаем, што леташняя выдавецкая справа не была аднабокай.* ВСп, 89. [Мікіта]: *Вы, пане настаўнік, як я заўважыў, чагосьці не далюбліваеце нашай чыстай інтэлігенцыі.* Т, 38.

**2.** Зрабіць заўвагу каму-н. *..яму* [ураднiку] *заўважалі, што раз ён не разумее беларускай мовы, дык і не павінен займаць урадовай пасады на Беларусі..* ОШМ.

Абв. цяп. мн. 1 ас. *заўважаем*: ВСп, 89. Пр. адз. м. *заўважыў*: Т, 38. ж. *заўважыла*: Т, 29. Мн. *заўважылі*: ОШМ.

**[ЗАЎЗЯТАСЦЬ]** *ж.* Стараннасць, уважлівасць. *Я* [Купала] *ўжо ўспамінаў, з якой заўзятасцю я слухаў казкі вясковых парабкаў.* ПС.

Адз. Т. *заўзятасцю*: ПС.

**ЗАЎЗЯТЫ** (3) *прым.* Зацяты. *Мучыць вораг нас заўзяты: Папаліў нам нашы хаты..* ГЖУ. *..Склад меў* [трэці брат] *быці катам,*

*С паганякаю на ўзруччы К зьдзекам быў заўзятым.* Дз, 189.

Адз. м. Н. *заўзяты*: ГЖУ. Т. *заўзятым*: Дз, 189. Мн. Н. *заўзятые*: СНБ.

**ЗАЎСЁДЫ** (24) *прысл.* Кожны раз, пастаянна. *..у душы маёй* [Купалы] *заўсёды быў нейкі пякельны разлад.* А, 328. *Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе..* Тж, 15. *Параўн.* заўсягды. А, 328; ПС (2); СНБ, 340; СС, 301; Т, 19, 20, 23(2), 27, 33, 34, 35, 36, 39, 44, 54.

**ЗАЎСЯГДЫ** (2) *прысл. Тое, што* заўсёды. *..ён* [беларус] *выбярэ польскую мову, якую заўсягды чуе ў касьцелі..* ВР. *Гаворачы слова "свабода", дадавай заўсягды "ня тут спамінаючы"..* СП.

**ЗАЎТРА** (13) *прысл.* **1.** У наступны дзень пасля сягонняшняга. [Спічыні]: *Заўтра пачнем прывітанні навыварат.* Т, 32. [Спічыні]: *Заўтра, мусье рэгістратар, пройдзем* ["двадзесце пенць"] *на практычнай лекцыі.* Там жа, 50. // У недалёкім будучым. *..ня хоча* [Беларусь] *ніякіх плебісцытаў, накіданых ей седня аднымі, а заўтра другімі..* ДК. *..што ня возьміця* [народ] *сягоньня, Таго і заўтра Вам ня узяць.* УП.

**2.** *У знач. наз.* Наступны дзень за сягонняшнім. [Мікіта]: *Пазычце* [Янка грошы] *мне да заўтра.* Т, 33.

◊**Не сягоння – заўтра** *гл.* сягоння.

В; Т, 30, 33, 36, 40, 43(3).

**[ЗАЎТРАШНІ]** (3) *прым. да* заўтра ў 1 *знач.* [Мікіта]: *Ад заўтрашняга дня займуся свабоднай профэсіяй – буду на Койданаўскай вуліцы гандляваць нямецкімі рублямі.* Т, 33.

◊**Заўтрашні дзень** *гл.* дзень.

Адз. м. Р. *заўтрашняга*: Т, 33. Т. *заўтрашнім*: РКр. М. *заўтрашнім*: ДД.

**ЗАЎЧОРА** *прысл.* Два дні таму назад. *Сонца свяціла нам аднолькова Гэтак нядаўна – ўчора, заўчора..* ССА, 294.

**ЗАХАВАЦЬ** *зак.* Зберагчы. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі, следуючы волі совецкага народа і яго жаданню захаваць мір, змагаюцца не пераходзячы на тэрыторыю ворага..* ВГ.

Інф. *захаваць*: ВГ.

**ЗАХАД** (14) *м.* **1.** Апусканне сонца за лінію гарызонта. *Цвіце, каласіцца мой край, Ці сонейка захад, ці ўсход..* ТП, 214.

**2.** Напрамак, процілеглы ўсходу. *Але вось з захаду, з-за бору На від ня мал і не вялік, У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.* УрП, 51. *Яны* [бальшавікі] *аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны..* СНБ, 337.

Адз. Н. *захад* (6): ТП, 213, 214, 215, 216, 217(2). Р. *захаду* (6): Гр, 215; СНБ (2); ТС, 74; УрП, 51; ХБ, 29. В. *захад* (3): ГП, 8; СНБ,

337; Ч, 319.

**ЗАХАПІЦЦА** (3) *зак.* **1.** *Зак. да* захапляцца. *..я* [Купала] *падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму, захапіўся гэтымі адраджэнцкімі ідэямі..* АЛ.

**2.** Поўнасцю паглыбіцца ў які-н. занятак. *Ну як пры такіх справах, пры такіх перспектывах не захапіцца паэту новай бадзёрай песняй..* ЖН.

Інф. *захапіцца*: ЖН. Абв. пр. адз. м. *захапіўся* (2): АЛ; Т, 24.

**ЗАХАПІЦЬ** (4) *зак.* **1.** Авалодаць, забраць. *Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй, якая тут толькі аб адным дбала, каб як цяплей пагрэць рукі ды захапіць "маёнтак".* Нз, 14. *..вёска глядзіць на пана, як на прыблуду з чужацкай стараны, які захапіў яго, селяніна, зямлю ды йшчэ здзекуецца над ім самім.* Там жа.

**2.** *перан.* Апанаваць. *Захапіў яго* [першага сына] *похмур лядачны, крывавы.* Ч, 820. *Вайна захапіла усе нашы думкі і засланіла сабою усе іншые праявы нашаго грамадзянскаго жыцьця.* ВС.

Інф. *захапіць*: Нз, 14. Абв. пр. адз. м. *захапіў* (2): Нз, I4; Ч, 320. ж. *захапіла*: ВС.

**ЗАХАПЛЕНЬНЕ** (4) *н.* **1.** Запал, натхненне. *..я* [Купала], *.. як народны поэта, не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем заветных лятуценьняў чалавецтва..* АЛ. *..ажыццяўляецца* [пяцігадовы план] *нячуваным уздымам і захапленьнем рабочай клясы.* Там жа.

**2.** Цікавасць. *Гэтае захапленьне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмократычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я* [Купала] *і ў першыя гады Кастрычніцкавае рэволюцыі не мог ад іх пазбавіцца.* АЛ.

Адз. Н. *захапленьне*: АЛ. Т. *захапленьнем* (3): АЛ (2); ГНД.

**ЗАХАПЛЯЮЧА** *прысл.* Натхнёна. *Расказваў ён* [Пасляк казкі] *захапляюча.* ПС.

**[ЗАХАПЛЯЦЦА]** *незак.* Цікавіцца чым-н. *Захапляўся* [Купала] *народнай міфалогіяй, чытаў аб ей кнігі..* ПС.

Абв. пр. адз. м. *захапляўся*: ПС.

**[ЗАХАПЛЯЦЬ]** *незак.* Цікавіць. *.."На дне" і "Дзеці сонца" больш за ўсё мяне* [Купалу] *захаплялі.* ПС.

Абв. пр. мн. *захаплялі*: ПС.

**[ЗАХАЦЕЦЬ]** (6) *зак.* Пажадаць. *Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў, Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў.* Ч, 322. *З сяўнёю сявец пахаджае, На скібіны валіцца зерне; Знаць сіла ў сяўца не малая ... Захоча – і сьвет пераверне!* ПВн.

Абв. пр. мн. *захацелі* (4): ПЛП (2); Ч, 322(2). Буд. адз. 3 ас. *захоча* (2): ВСп, 89; Ч, 319.

**[ЗАХВАРЭЦЬ]** (2) *зак.* Стаць хворым. *9 студзеня г.г. я* [Купала] *цяжка захварэў..* ЛР. // *Вобразн. Антанта, прымаючы пад увагу, што захварэла на вар'яцкую ад дыпламатыі, тры месяцы таму назад выехала за граніцу на цёплыя воды лячыцца.* Ан, 19.

Абв. пр. адз. м. *захварэў*: ЛР. ж. *захварэла*: Ан, 19.

**[ЗАХВАТНЫ]** *прым. Руск., разм. Тое, што* захопніцкі. *Сваёй неразумнай захватнай палітыкай яны* [сацыяльныя і нацыянальныя рэвалюцыянеры] *толькі зацягіваюць працэс праўдзіва-дэмакратычнага разьвіцьця нацыянальна-культурных ідэй..* СНБ.

Адз. ж. Т. *захватнай*: СНБ.

**ЗАХЛІПАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* захліпацца *Вобразн.* Здрыгануўшыся. *Стагнала ўся "руская" зямля, шалёна п'яная, разбушаваная, захліпаючыся "чырвоным смехам"..* НДН, 18.

**ЗАХОДЗІЦЬ** (3) *незак.* **1.** Уваходзіць куды-н. [Янка]: .. *кожны з іх* [гасцей] *заходзіць і танцуе сваё "Гоцаца"..* Т, 52. [Ганулья]: *(..чуваць стук у дзверы..). Калі ласка! Заходзьце!* Там жа, 19.

**2.** Апускацца за гарызонт (пра сонца). *А сонейка будзе усходзіць, заходзіць, Плысці будуць рэчкі, шумець будзе бор.* НДп, 230.

Інф. *заходзіць* (2): НДц, 230; Т, 52. Заг. мн. 2 ас. *заходзьце*: Т, 19.

**ЗАХОДНІ** (35) *прым.* **1.** Які ідзе з захаду, знаходзіцца на захадзе. *О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!.. І слухаем і нюхаем тут, там: Які павеяў вецер на загоны, – Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?* Бч, 9. ..[рабочыя і калгаснікі] *разам са сваёй роднай Чырвонай арміяй грозна стаяць на варце заходняга рубяжа Савецкага Саюза.* ШБСЯ.

**2.** Які мае адносіны да Захаду. *Сягодня таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура – з усходнім адзічэннем, і таргуюцца за што?* Тж, 15. *Годзе заходняй ці ўсходняй культуры! Для беларуса цана ім адна..* Г, 16. *Параўн.* западный.

**Ты з Заходняй, я з Усходняй...**

Адз. м. Н. *заходні* (19): Бч, 9, 19; 25(2), 26(9), 27, 38(4), Т, 54. Р. *заходняга*: ШБСЯ. В. *заходні*: ББ. Т. *заходнім* (4): Т, 26(3), 38. ж. Н. *заходняя* (3): Тж, 15, 16; У. Р. *заходняй* (4): Г, 16; ПБН; Тж, 16; ТЗУ, 293; *заходняе*: УПУВ. Мн. Т. *заходняй*: Тж, 15. В. *заходнія*: Т, 47.

**[ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКІ]** *прым. да* Заходняя Беларусь. *..група контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратычных інтэлігентаў, у хаўрусе і пад кіраўніцтвам заходне-беларускага нацыянал фашызму .. на працягу раду год вяла шкодніцкую работу..* АЛ.

Адз. м. Р. *заходне-беларускага:* АЛ.

**[ЗАХОДЗЯЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* заходзіць у 2 *знач.* [С. Меч:] *Ніколі ніякая музыка на сьвеце, ніякая кніга .. не давалі мне гэтулькі асалоды і прыёмнасьці, як постаць гэтых дрэў, аблітых*

*прашчальным блескам заходзячага васеньняга сонца.* ХБ, 29.

Адз. н. Р. *заходзячага*: ХБ, 29.

**[ЗАХОПЛЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* захапіць. *перан.* Вельмі зацікаўлены. [Наста]: *Я захоплена вашай, мусье Нікіці, мэтаморфозай!* Т, 50.

Кар. адз. ж. Н. *захоплена*: Т, 50.

**[ЗАХОПЛІВАЦЬ]** *зак. перан.* Вельмі зацікаўліваць. *Сьвятло, якім прамянілася гэта вучэльня* [Батораўскі унівэрсытэт] *захоплівало сабой ня толькі край Польска-Літоўска-Беларускі.., але праменьні яго дасягалі аж да Масквы і Харкава...* УПУВ.

Абв. пр. адз. н. *захоплівало*: УПУВ.

**ЗАХОПЛІВАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* захопліваць. Беручы, аваладваючы сілай. *Слабейшыя народы.. змагаюцца толькі за тое.., каб адстаяць сваю незалежнасць, не папускаючы свайго і не захопліваючы чужога.* СНБ.

**[ЗАХОПНІЦКІ]** *прым.* Заваёўніцкі. *Адсюль варожасць да фашызма, да яго захопніцкіх мэтаў.* ПЧ. *Параўн.* захватны.

Мн. Р. *захопніцкіх*: ПЧ.

**[ЗАЦВЕРДЗІЦЬ]** *зак.* Прызнаць афіцыйна, узаконіць. *..гэту рэформу зацвердзіў совецкі ўрад..* ШБСЯ.

Абв. пр. адз. м. *зацвердзіў*: ШБСЯ.

**[ЗАЦЕСНЫ]** *прым. Разм.* Няўтульны. *Зямля ёй* [душы] *зацесна, Ёй трэба прастору..* АК.

Кар. адз. ж. Н. *зацесна*: АК.

**[ЗАЦЁРТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* зацерці. *перан.* Забыты. *Дні 10, 11, 12 кастрычніка г.г. астануцца на вякі не зацёртымі у памяці насяленьня Літоўска-Беларускай сталіцы – Вільні.* УПУВ.

Мн. Т. *зацёртымі*: УПУВ.

**ЗАЦІРКА** (3) *ж.* **1.** Страва. *Я* [унук] *раскажу, як за хлеб, за заціркуу Ў пана служыў пастухом я нядаўна..* Ун, 73.

**2.** *Іран.* Патака. [Янка]: *А гэта што ў вас* [Мікіты] *за такая зацірка ў ражцы?* [Мікіта]: *Не зацірка, дзядзька беларус, не зацірка, а праўдзівая цэнтра-белсаюзаўская, меджду протчым, патака.* Т, 54.

Адз. Н. *зацірка* (2): Т, 54(2). В. *зацірку*: Ун, 73.

**ЗАЦІСКАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* заціскаць. Сціскаючы. *..мы уздыхаючы і заціскаючы кулакі, стараліся сабе угаварыць, што так і трэба, каб хтось панаваў..* БС.

**[ЗАЦІСНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* заціснуць. *перан. Разм.* Прыгнечаны. *Заціснуты, задушаны, як мышы Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў, Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы Таго свайго, што наша ад вякоў.* Бч, 9.

Кар. мн. Н. *заціснуты*: Бч, 9.

**ЗАЦІСНУЎШЫ** *дзеепрысл. да* заціснуць. Сціснуўшы. [Спічыні]: *Правая рука застаецца свабоднай – гэта, каб у патрэбных момантах вашай араторыі можна было, заціснуўшы кулак, патрасаць ёю над аўдыторыяй.* Т, 40.

**ЗАЦІСНУЦЬ** *зак. перан.* Перашкодзіць развіццю чаго-н. *..палякі зрабілі хаўрус з расейскімі націоналістамі і чорнасоценцамі, абы толькі заціснуць беларускі рух..* ВР.

Інф. *заціснуць*: ВР.

**[ЗАЦІХНУЦЬ]** (3) *зак.* **1**. Сціхнуць. *Як толькі стаў* [цудадзей] *паміж народам, Заціх вячовы пераклік..* УрП, 47. *Заціхнуць гарматы байніц, Не ўгнояцца нівы крывёй.* ТП, 216.

**2.** *Вобразн*. Праясніцца. *Сьціхнуць віхры, заціхне пара непагодная, Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыцьцю..* Б, 18.

Абв. пр. адз. м. *заціх*: УрП, 47. Буд. адз. 3 ас. *заціхне*: Б, 18. Мн. 3 ас. *заціхнуць*: ТП, 216.

**[ЗАЦЬВІТАЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* зацвітаць. *Вобразн.* Які бурна развіваецца. *Усе сілы – сацыялістычнаму будаўніцтву на зацьвітаючай новымі агняцьветнымі краскамі індустрыяльна-калгаснай глебе Савецкай Соцыялістычнай Беларусі!* АЛ.

Адз. ж. М. *зацьвітаючай*: АЛ.

**[ЗАЦЬМІЦЬ]** *зак. Руск., разм.* Засланіць. *Яны* [знішчальнікі і бамбавозы] *зацьмяць сабою сонца.* ВГ.

Абв. буд. мн. 3 ас. *зацьмяць*: ВГ.

**[ЗАЦЯГАНЫ]** *прым.* Змучаны. *..людзи нейкие абарваные ў лапцёх, зацяганые, згаладалые и перапужаўшыся..* ХЛБ.

Мн. Н. *зацяганые*: ХЛБ.

**[ЗАЦЯГІВАЦЬ]** *незак. Разм.* Затрымліваць. *Сваёй неразумнай захватнай палітыкай яны* [социяльные і нацыянальные “рэволюцыянеры”] *толькі зацягіваюць процэс праўдзіва-культурных ідэй..* СНБ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *зацягіваюць*: СНБ.

**[ЗАЦЯГНУЦЬ]** *зак.* Завалачы. [Ганулля]: *Сцягнулі* [людзі Мікіту] *гвалтам з вышак і немаведама куды б зацягнулі.* Т, 46.

Абв. пр. мн. *зацягнулі*: Т, 46.

**ЗАЦЯМНЯЮЧЫ** *дзеепрысл. да* зацямняць. *перан.* Зацьмяваючы. *..я* [Купала] *падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму, .. зацямняючы гэтым самым клясавую сутнасьць соцыяльнае і нацыянальнае барацьбы за вызваленьне..* АЛ.

**ЗАЧАПІЦЬ** (2) *зак.* Падчапіць. *З кволых ніў палыны быццам зводзіць* [трэці сын], *ня зводзіць, Часам косьці зачэпіць нарогам..* Ч, 321.

◊**Не будзе за што рук зачапіць** – пра адсутнасць матэрыяльных

сродкаў. [Мікіта]: *Заўтра не будзе за што і рук зачапіць.* Т, 43.

Інф. *зачапіць*: Т, 43. Абв. буд. адз. 3 ас. *зачэпіць*: Ч, 321.

**[ЗАЧАСАЦЬ]** *зак.:* ◊**Зачасаць на галаве думку** – запомніць. [Спічыні]: *..калі ўзыдзеце* [Мікіта] *на трыбуну, то ёмка зачашэце сабе на галаве думку аб тым, пры якой палітычнай сытуацыі выступаеце з араторыяй.* Т, 40.

Заг. мн. 2 ас. *зачашэце*: Т, 40.

**[ЗАЧЫНЯЦЬ]** *незак.* Закрываць. *..не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным..* Кз, 17.

Абв. пр. мн. *зачынялі*: Кз, 17.

**ЗАЧЫНЯЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* зачыняцца. *перан.* Абмяжоўваючыся чым-н. *Ведаў* [народ] *толькі, што найлепей гаварыць з небам, гледзячы ў неба, не зачыняючыся ў ніякія словы будоўлі.* Кз, 17.

**[ЗАШУМЕЦЬ]** (2) *зак. перан. Разм.* **1.** *Зак. да* шумець у 4 *знач. Народ зьдзівіўся, як загледзеў, Заварушыўся, зашумеў..* УрП, 51.

**2.** *Вобразн.* Успомніць, праспяваць. *Закалосіцца поле, сьлязою, потам злітае, Зашуміць сваю думу старую.* ТС, 74.

Абв. пр. адз. м. *зашумеў*: УрП, 51. Буд. адз. 3 ас. *зашуміць*: ТС, 74.

**[ЗАШЧЫТА]** *ж. Руск.* Абарона. [Поп]: *Мої облачэнія зашчытой мне от всякіх зол земных.* Т, 52.

Адз. Т. *зашчытой*: Т, 52.

**[ЗАШЧЫТНЫ]** *прым. Руск., разм.* Зелянковы. *Уваходзіць Мікіта ў вынашанай і палатанай "зашчытнага" колеру вопратцы..* Т, 45.

Адз. м. Р. *зашчытнага*: Т, 45.

**ЗАЯВА** *ж.* Пісьмовая просьба ўстаноўленай формы. *Але заява Вялікага Начальніка Польскай дзяржавы – адно, а палітыка польскіх эндэкаў і жандармерыі – другое.* СНБ.

Адз. Н. *заява*: СНБ.

**[ЗАЯВІЦЬ]** *зак.* Паведаміць, сказаць. *Язэп Пілсудзкі заявіў у Менску, што хацеў-бы бачыць гэты край вольным паміж вольнымі народамі.* СНБ.

Абв. пр. адз. н. *заявіў*: СНБ.

**[ЗАЯДЛЫ]** *прым. Разм.* Злосны. *..кс. Мацеевіч і яго таварышы – гэта такіе-ж заядлые ворагі беларушчыны.* ВР.

Мн. Н. *заядлые*: ВР.

**ЗАЯЎЛЯЦЬ** (4) *незак.* Паведамляць, гаварыць аб чым-н. адкрыта. *Мы павінны ўсюды заяўляць, што мы – беларусы..* ВР. *Мы ніколі не заяўлялі, каб нашым дзецям выкладалі рэлігію простымі словамі роднай гутаркі беларускай.* Там жа.

Інф. *заяўляць*: ВР. Абв. цяп. адз. 1 ас. *заяўляю*: СЧ. Мн. 3 ас. *заяўляюць*: УПУВ. Пр. мн. *заяўлялі*: ВР.

**ЗАЯЦ** *м.* Невялікі звярок. *На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў, Пуціну заяц перамерыў...* Кц, 197.

Адз. Н. *заяц*: Кц, 197.

**ЗБАВІЦЬ** (2) *зак.* Пазбавіць, вызваліць. [Аленка]: *Але цярністы шлях мусіць прайсці душа народная, пакуль збавіць гэта сваё "я" ад чужой няволі.* Т, 35. *..А песня ад казак, чароўных тых сноў, Што сталіся яваю нашага дня, Што збавілі долю ад пут, ланцугоў.* СС, 301.

Інф. *збавіць*: Т, 35. Абв. пр. мн. *збавілі*: СС, 301.

**[ЗБАГАЦЕЎШЫ]** *дзеепрым. незал. пр. да* збагацець. *Разм.* Разбагацеўшы. *..купляюць* [маёмасць] *"цёплыя мужычкі" – багатыры, буйныя арандатары, збагацеўшыя непамерна ў вайну і рэвалюцыю на гарадскім галадаючым насяленні.* ЗС, 18.

Мн. Н. *збагацеўшыя*: ЗС, І8.

**[ЗБАЎЛЕННЕ]** *н.* Пазбаўленне, выратаванне. [Мікіта]: *Аяй! Аяй! А ратунку аднекуль, а збаўлення аднекуль.* Т, 32.

Адз. Р. *збаўлення*: Т, 32.

**[ЗБАЎЛЕНЧЫ]** *прым. Разм.* Збавіцельны. *..Уздыхае* [трэці сын]*, чакае збаўленчай дзяніны, Не дае, што ня мае, раскрасьці.* Ч, 321.

Адз. ж. Р. *збаўленчай*: Ч, 321.

**ЗБАЎЦА** *м.* Збавіцель, выратавальнік. *Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецьця – гэта мы самі.* БС.

Адз. Н. *збаўца*: БС.

**ЗБЕГАЦЬ** (2) *зак.* Таропка пайсці куды-н. і вярнуцца назад. [Наста]: *Мушу збегаць у вадну пэўную крыніцу.* Т, 42. [Мікіта]: *Дайце* [Ганулі маркі] *мне – я збегаю чаго-небудзь куплю..* Там жа, 56.

Інф. *збегаць*: Т, 42. Абв. буд. адз. 1 ас. *збегаю*: Т, 56.

**ЗБІРАЮЧЫ** *дзеепрысл. да* збіраць. Сабіраючы. *Кветкі збіраючы ў лузе квяцістым, Дзяўчынка вянок табе* [Сталіну] *вяжа.* СС, 301.

**ЗБІРАЦЦА** (8) і **ЗЬБІРАЦЦА** (2) *незак.* **1.** Сыходзіцца ў адно месца. [Князь:] *Адзін, адзін раз толькі ў год Збірацца можэм з ласкі Рока..* Кц, 193. *..Ля цёмнай вецьвістай дубровы Народ зьбіраўся і чакаў.* УрП, 47.

**2.** Вырашаць што-н. рабіць. [Ганулі]: *..ён* [Гізульскі]*, мусіць, .. не збіраецца выязджаць..* Т, 45. *Памылкі свае, такіе ці іншыя, я* [Купала] *збіраўся выправіць..* СЧ. *Параўн.* собіраться.

**3.** Атрымліваць што-н. ад каго-н. *Пабочные-ж налогі зусім іншые: збіраюцца яны не с таго, хто штось мае..* ВН.

Інф. *збірацца*: Кц, 193; *зьбірацца*: Дз, 190. Абв. цяп. адз. 3 ас. *збіраецца* (2): Т, 45, 49. Мн. 3 ас. *збіраюцца*: ВН. Пр. адз. м. *збіраўся* (3): СЧ (2); Т, 37; *зьбіраўся*: УрП, 47. Буд. адз. 3 ас. *збярэцца*: ЗС, 18.

**ЗБІРАЦЬ** (3), **[ЗЬБІРАЦЬ]** і *разм.* **ЗБІРАЦІ** *незак.* **1.** Ззываць, склікаць. *Засяваць мы самі Будзем нашы нівы, Збіраць самі будзем Ураджай шчаслівы.* МПв, 220. *Працай збіраці з зямлі будуць дары Самі сабе раскаваныя людзі.* Ф.

**2.** Прыбіраць у адно месца. *Гануля збірае пакупкі.* Т, 21.

Інф. *збіраць*: МПв, 220; *збіраці*: Ф. Абв. цяп. адз. 3 ас. *збірае*: Т, 21. Пр. адз. м. *зьбіраў*: ВН. Мн. *збіралі*: ССА, 294.

[**ЗБІЦЬ**] (2) *зак.* Моцна пабіць. *Высыпаў* [пан] *ягады, збіў* [маці], *клікнуў варту..* Мц, 75.

◊**Збіць рогі** – пазбавіць чаго-н. [Янка]: *..ён* [беларускі народ] *вашаму* [Мікіты] *руска-ісцінаму рэгістратарству саб'е рогі.* Т, 56.

Абв. пр. адз. м. *збіў*: Мц, 75. Буд. адз. 3 ас. *саб'е*: Т, 56.

**[ЗБЛІЖАЦЦА]** *незак.* Надыходзіць, набліжацца. *Тут далёка, ў чужой старане, Усякі раз, як зблiжаецца ноч, Сэрца боллю сціскаецца мне, І спакой недзе коціцца проч.* ЧС, 50–51.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зблiжаецца*: ЧС, 50–51.

**ЗБЛІЖЫЦЦА** *зак. Разм.* Наблізіцца. [Аўтарнік:] *З цябе* [незнаёмца] *нядобры вецер вее, Па трупах ты, відаць, ішоў, Скажы нам, хто цябе асьмеліў Да нашых зблiжыцца каўшоў?* УрП, 51.

Інф. *зблiжыцца*: УрП, 51.

**ЗБЛІЗКУ** *прысл.* З блізкай мясцовасці. *..Усіх званых зблізку і здалёк Саколім вокам князь акінуў.* Кц, 193.

**[ЗБЛЫТАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* зблытаць. Пераблытаны. *Разам тут і дзяўчынка-краса... Я галубіў калісь... Твар чаму твой бляды? Пакрываўлены грудзі, зблытана каса...* БН, 92.

Кар. адз. ж. Н. *зблытана*: ВН, 92.

**[ЗБЛЫШЫЦЬ]** (2) *зак. Польск.* Намыліцца. [Мікіта]: *Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды..* Т, 21. *..Дый штось зблышыла нагайка, Цягнуць к ўласцям Налівайку.* НД.

Абв. пр. адз. м. *зблышыў*: Т, 21. ж. *зблышыла*: НД.

**[ЗБОЖЖА]**, **[ЗБОЖА]** (2) і **[ЗБОЖЭ]** *н.* Агульная назва хлебных злакавых раслін. *У абчэственных магазынах ёсць немала у запасе уселякага збожа.* ВС. *Мы сабе самі збожжа збіралі І частавалі мёдам суседзяў.* ССА, 294.

**2.** *зб.* Зерне, насенне гэтых раслін. *Мусім лучыцца у гурткі і гэткім манерам закупліваць збожэ для цэлай вёскі там, дзе яго ёсьць лішніца.* ВС.

Адз. Р. *збожа*: ВС. В. *збожа*: ВС; *збожжа*: ССА, 294; *збожэ*: ВС.

**ЗБОКУ** (3) *прысл.* Воддаль. *І дамоў прыехаў* [Янка] *З тэй вайны, здалёку, А дзяўчына, як маліна, Пазірае збоку.* ЕЯП. *Дом чужы таму будзе астрогам, Хто паклоны біць стаў збоку злыбедным ветрам..* Ч, 323. ХБ, 28.

◊**Збоку прыпёку** – пра каго-н. зусім непатрэбнага, лішняга. [Янка]: *Паддаецца эвакуацыі ў сягоняшні час толькі той, у каго або нячыстае сумленне, або ён сядзеў тут збоку прыпёку..* Т, 37.

**ЗБОЛЬШАГА** (4) *прысл. Разм.* У асноўным, у галоўных рысах. [Спічыні]: *Учора мы* [з Мікітай] *збольшага прайшлі аддзел прывітанняў..* Т, 31. *Мікітавы пакой выглядае збольшага – як у першай дзеі..* Т, 53. // Часткова. *Становіцца* [Мікіта] *на лаўцы перад Настай на калені, засланяючы збольшага яе й сябе распушчаным парасонам.* Т, 42.

**ЗБОР** *м.* Падатак. *..збіраюцца яны* [налогі] *не с таго, хто штось мае, а с таго што паступае на продаж, як напр. акцыз на табаку, цукер, гэрбату і інш., або таможэнны збор з загранічных тавароў.* ВН.

Адз. Н. *збор*: ВН.

**[ЗБОРНІК]** (4) *м.* Кніга з літаратурнымі творамі, матэрыяламі. *.. я* [Купала] *перакладаю "Кабзар" Тараса Шаўчэнкі для юбілейнага зборніка.* МП. *..я* [Купала] *прачытаў амаль усе этнаграфічныя беларускія зборнікі.* ПС.

Адз. Р. *зборніка*: МП. М. *зборніку* (2): СЧ (2). Мн. В. *зборнікі*: ПС.

**[ЗБРОД]** (3) *м., зб. Разм., пагардл.* Шкодныя, небяспечныя для грамадства людзі. *Мы* [хлопчык і лётчык] *гітлерцаў будзем ніштожыць, Гаціць імі тонкую гаць, З кутоў нашых родных прыгожых Грабежніцкі зброд выганяць.* ХЛВ, 315. *Слава нашаму Ежову, з Ленінграда родам, Што расправіўся, як следна, З дыверсанцкім збродам.* НК.

Адз. Д. *зброду*: НК. В. *зброд*: ХЛВ, 315. Т. *збродам*: НК.

**ЗБРОЙНА** *прысл. Польск.* Узброена. *..надыйшоў дзень беларускага народу, калі ён можа збройна заступіцца за сябе самога і за сваю Айчыну.* БСУ.

**[ЗБРОЙНЫ]** (8) *прым. Польск.* **1.** Узброены. *..яны* [нацыянал-дэмократы] *добра ведалі, што ня ўласнымі сіламі, а толькі пры збройным падтрыманьні замежнай інтэрвенцыі змогуць зьнішчыць ненавісную ім дыктатуру пролетарыяту..* АЛ.

**2.** Які адносіцца да зброі. *Мацнейшыя народы хочуць павялічыць сваю тэрыторыяльную і збройную сілу коштам слабейшых.* СНБ.

Адз. ж. В. *збройную*: СНБ. н. М. *збройным*: АЛ.

**ЗБРОЯ** (3) *ж.* Прылада, рэч для нападу ці абароны. *Як той лес,*

*жаўнер Ля жаўнера стаў, Зброя ў сонцы йграе..* ВВ. *Знай, на чале народ вялікі рускі ў зброі Ідзе на ворага з мільёнамі народаў.* ПНд, 314.

Адз. Н. *зброя*: ВВ. Р. *зброі*: НГд, 8. М. *зброі*: ПНд, 314.

**[ЗБРЫСЦІ]** *зак. Разм.* Сысці куды-н. *У сьвет збрылі* [дзеці] *чужы дзівіцца, Гнуць у ёрмы шыі...* Дз, 190.

Абв. пр. мн. *збрылі*: Дз, 190.

**[ЗБРЫСЦІСЯ]** *зак. Разм.* Сысціся. *Каб таго парвала з сэрцам на тры часці І зьвяр'ё збрылося Мяса параскрасьці, – Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу, На кускі парваўшы Маці роднай целы.* К.

Абв. пр. адз. н. *збрылося*: К.

**[ЗБУДАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* збудаваць. Пабудаваны. *Заезджыя госці .. не разумелі, як гэта можна заместа аднаго мець некалькі багоў і не мець багатых харомаў, збудаваных у чэсць і хвалу Бога свайго.* Кз, 17.

Мн. Р. *збудаваных*: Кз, 17.

**ЗБУДАВАЦЬ** (3) *зак. перан.* Стварыць. [Судзьбіна:] *Хочаш* [першы брат] *цішы прытульнай і ласкі патольнай, Збудаваць божы быт на пакутах, – Дай другім волі ў волю, сам будзеш вольны, Не дасі – з сьвету зыдзеш у путах.* Ч, 323. *Мы не пакінем свае папялішчы. З сьцежкі – наперад, ня пойдзем назад. Сьмела здрузгочам старыя бажышчы, Новым законам збудуем пасад.* Г, 17.

Інф. *збудаваць*: Ч, 323. Абв. пр. адз. м. *збудаваў*: НК. Буд. мн. 1 ас. *збудуем*: Г, 17.

**ЗБУДЖАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* збудзіць. *перан. Разм.* Выкліканы да дзейнасці. *..рукою яе* [Польшчы] *цяперашняга Гаспадара Язэпа Пілсудзкага вырвана ад маскалеу Вільня і збуджаны к жыцьцю, спаушый доўгіе годы Батораускі Унівэрсытэт.* УПУВ.

Адз. м. Н. *збуджаны*: УПУВ.

**[ЗБУДЗІЦЦА]** (2) *зак. перан. Разм.* Абудзіцца, пачаць дзейнічаць. *Аколіца-аселіца Пад ногі сонцам сьцеліцца... Збудзіўся гаспадар!..* Бз. *Беларуская душа, як бачым, – жывучая, творчая, як яе ні заганяй у казіны рог, а яна збудзіцца і затрапечацца.* МІ, 17.

Абв. пр. адз. м. *збудзіўся*: Бз. Буд. адз. 3 ас. *збудзіцца*: МІ, 17.

**ЗБУДЗІЦЬ** (4) *зак. перан.* **1.** Вывесці са стану спакою, накіравацца да дзейнасці. *Цяпер яно* [неба] *сваймі слязамі З табою плача над табой; Шле буры, громы з перунамі, Каб сон збудзіць магільны твой!* БрБ, 6. *Над курганамі перуном зайграй! Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясняр!* Пт.

**2.** Выклікаць якія-н. пачуцці. *Масква й Варшава аплюлі вам* [жыдам] *імя І дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам..* Ж.

Інф. *збудзіць* (3): БрБ, 6; БСУ; Пт. Абв. пр. мн. *збудзілі*: Ж.

**[ЗБУРАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* збурыць. *Разм.* Разбураны. *Паўстань з народу нашага, Ўладар, Адбудаваць свой збураны пасад..* Пт. *Цяпер, што бачу я кругом? Пасад маўклівы збуран скрозь... Рэспублікі!?* АПЖ.

Адз. м. В. *збураны*: Пт. Кар. адз. м. Н. *збуран*: АПЖ.

**ЗБУЦВЕЛЫ** *прым. перан.* Струхнелы, спарахнелы. *На шчасце, на радасці ўзлёт Збуцвелы разваліцца тын..* ТП, 216.

Адз. м. Н. *збуцвелы*: ТП, 216.

**[ЗБЫВАЦЦА]** *незак.* Спраўджвацца. *Дні за днямі, гады за гадамі плятуцца... Ўжо збываюцца бацькавы словы!* Ч, 320.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *збываюцца*: Ч, 320.

**[ЗБЫВАЦЬ]** *незак.* Прадаваць што-н. *Купляюць, збываюць, гандлююць чужынцы Народным дабром, як сваім...* ЗК, 42.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *збываюць*: ЗК, 42.

**ЗБЫТ** *м. Разм.* Попыт. *Колю знаю па хадзе я* [дзяўчына] – *Вось к вакенцу падышоў. Мы цяпер тавар ня ходкі – Збыт ня дзяцюкоў пашоў.* ВБЛ, 82.

Адз. Н. *збыт*: ВБЛ, 82.

**[ЗБЭСЬЦІЦЬ]** *зак. Разм.* Зніштожыць. *Здушылі, збэсьцілі ўсё чыста У чорнай яве, ў зводных снах, Што ад прыроды шлях свой мела, Што к сонцу мела вольны шлях.* РС, 40.

Абв. пр. мн. *збэсьцілі*: РС, 40.

**ЗБЭШЧАНЫ** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* збэсціць. *Разм.* Агідны. *Крывавы грош і “гаспадзін”, А іх закон адзін, адзін. З-пад ног, з утоптанай нары Паўзе ўжо збэшчаны павук.* ПВ. *..Таварыш Сталін знача шлях да перамог у боі, Да перамогі над фашысцкай збэшчанай парадай.* ПНд, 314.

Адз. м. Н. *збэшчаны*: ПВ. ж. Т. *збэшчанай*: ПНд, 314.

**[ЗБЯЁДАЦЬ]** *зак.:* ◊**Збяёдаць з гэтага свету** – загубіць. [Гарошка]: *Разумеецца, за такі крык жандармы і збяёдалі яго* [Юрку] *з гэтага свету.* Т, 44.

Абв. пр. мн. *збяёдалі*: Т, 44.

**[ЗВАДА]** *ж. Польск.* Разлад, сварка. *І свае і чужыя выцягвае* [чараўнік] *звадай, Жылы белыя чорным патрэбам, Каб заместа усіх і ўсяго ў сьветагляду Быць усім – і зямлёю, і небам.* Ч, 325.

Адз. Т. *звадай*: Ч, 325.

**ЗВАЖАЮЧЫ** (4) *дзеепрысл. да* зважаць. *Але ўсё-ж такі ў гэтым напрамку я* [Купала] *зрабіў вельмі мала, не зважаючы на тыя магчымасьці, якія мне давала партыя і савецкая ўлада.* АЛ. *Такім чынам, зважаючы на сказанае, справа беларускага гымну павінна быць вырашана.* СБНГ. СБНГ; Т, 55.

**[ЗВАЖАЦЬ]** *незак.* Звяртаць увагу на што-н. *Дык не зважайце*

*на здраду, а пойдзем далей сваім хоць цярністым, але святляным шляхам..* ПЛП.

Заг. мн. 2 ас. *зважайце*: ПЛП.

**ЗВАЛІЦЦА** (3) *зак.* **1.** Упасці з чаго-н. [Янка]: *Вы* [Мікіта], *пэўна б, хацелі і з печкі зваліцца і патыліцы не адбіць?* Т, 37. [Гарошка]: *Я – і такія важныя асобы... яшчэ з лаўкі звалюся з перапуду.* Там жа, 27.

**2.** *перан.* Пазбавіцца чаго-н. [Спічыні]: *..вы* [Мікіта] *павінны выбраць сабе стойкую пляцформу і толькі адну, а не дзве або тры, бо йначай можаце паскаўзнуцца і зваліцца з усіх трох разам.* Т, 41.

Інф. *зваліцца* (2): Т, 37, 41. Абв. буд. адз. 1 ас. *звалюся*: Т, 27.

**[ЗВАНІЦЬ]** *незак.* **1.** Выклікаць звон ад чаго. [Аленка]: *..татку – адно цыбук звоніць аб зубы: ці то са страху, ці то з вялікай пашаны да вучоных.* Т, 27. *Чые звоняць звонка косы На мурожнай сенажаці?* СА, 180.

**2.** Гучыць, раздавацца. *Як сільным, магучым праз песьню стаў ён* [народ], *– Зноў пошэсць есць стала памалу; Папробуе песьню – йшчэ звоне, як звон, Але ўжо не так, як бывала.* ПН, 47.

Абв. цяп. адз. 2 ас. *звоніць*: НГд, 8. 3 ас. *звоніць*: Т, 27; *звоне* (2): НГд, 8; ПН, 47. Мн. 3 ас. *звоняць* (3): ДПЛС; СА, 180; ТП, 216. Пр. мн. *званілі*: Нз, 14.

**[ЗВАННЕ]** *н.*: ◊**Няма і звання** – зусім не існуе, і ў паміне няма. *Вось і выходзе, што трэба Беларусь .. калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.* Нз, 14.

Адз. Р. *звання*: Нз, 14.

**ЗВАНОК** (4) *м.* Гукавы сігнал. *Чуваць злева званок.* Т, 24. *Чуваць з двух бакоў званок.* Там жа, 25.

Адз. Н. *званок*: Т, 31. В. *званок* (3): Т, 24, 25(2).

**[ЗВАНЫ]** (9) *дзеепрым. У знач. прым.* Запрошаны. *..не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным..* Кз, 17. *..Усіх званых зблізку і здалёк Саколім вокам князь акінуў.* Кц, 193.

◊**Так званы** – а) як звычайна называюць. *Я* [Купала] *пражыў большую частку свайго жыцця ў так званай “турме народаў” – царскай Расіі.* ЖН. *Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай..* НДН, 18; б) ужываецца для выражэння іранічных або адмоўных адносін да каго-, чаго-н. *Пэўная часьць польскага грамадзянства, так званая “народова-дэмакрацыя” .. сышла з тэй дарогі, якую паляком намецілі сьвятлейшыя іх грамадзяне Міцкевічы, Красінскіе..* СНБ. *..гвалтам накідалі* [ўсемагутныя

дзяржавы] *ім* [заваёваным ці слабейшым народам] *свае так званыя “культуры”..* НДН, 18.

Адз. м. Т. *званым*: Кз, 17. ж. Н. *званая*: СНБ. В. *званую*: СНБ, 337. М. *званай* (2): ЖН; НДН, 18; *званэй*: Т, 47. Мн. В. *званых*: Кц, 193; *званыя* (2): НДН, 18; Т, 49.

**[ЗВАРОТ]** (2) *м.* **1.** Вяртанне чаго-небудзь. *..ролю застрэльшчыка сусьветнага капіталізму ўзяў на сябе беларускі нацыянал-дэмократызм, выступаючы пад сьцягам .. звароту капіталістам фабрык і заводаў..* АЛ.

**2.** Слоўны выраз. [Спічыні]: *Перакулеце* [Мікіта] *на наш манер такі зварот: ешчэ Польска не згінэла.* Т, 49.

Адз. Р. *звароту*: АЛ. В. *зварот*: Т, 49.

**ЗВАРУХНУЦЦА** (3) *зак.* **1.** Рушыць. *Зварухнуўся полк, А за ім – другі, Толькі сцяг міргае.* ВБ. // *Вобразн.* Пачаць дзейнічаць. [Мікіта]: *Меджду протчым, гэта яно* [чыноўніцкае становішча] *ляжыць так сабе – да часу, а потым зварухнецца і падымецца.* Т, 21.

**2.** *перан.* Скрануцца. *А сваяк і чужак строіць петлі і сеці, Аплятае ўсё віднае ночай; Зварухнуцца ня сьмее ў заплесьнеўшай клеці, На браточкаў зубамі скрыгоча.* Ч, 321.

Інф. *зварухнуцца*: Ч, 321. Абв. пр. адз. м. *зварухнуўся*: ВБ. Буд. адз. 3 ас. *зварухнецца*: Т, 21.

**[ЗВАР’ЯЦЕЛЫ]** *прым. Разм.* Безразважны, ашалелы. *..п’яныя дзікуны па ўказцы свайго звар’яцелага бандыцкага атамана паzверску знішчаюць усё тое, што пабудавана намі..* РКП.

Адз. м. Р. *звар’яцелага*: РКП.

**[ЗВАР’ЯЦЕЦЬ]** *зак. Разм.* Страціць развагу. [Мікіта]: *Не сягоння – заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры якой здольны аратар будзе магчы купацца, як сыр у масле.* [Янка]: *Але ж вы, пане рэгістратар, звар’яцелі.* Т, 36.

Абв. пр. мн. *звар’яцелі*: Т, 36.

**ЗВАЦЦА** (3) *незак.* Называцца. *Людзьмі звацца, а не падняволенымі царскімі і панскімі парадкамі – такая была думка думак маіх* [Купалы], *песень маіх.* ДЖ. *..Кожны край, што дачэсна завецца забраным Гэткіх казак забытых шмат знае.* Ч, 326.

Інф. *звацца*: ДЖ. Абв. цяп. адз. 3 ас. *завецца* (2): Т, 46; Ч, 326.

**[ЗВАЦЬ]** (7) *незак.* **1.** Заклікаць да чаго-н. *Думы цяжкія роем і снуюць, Капашацца чмяльмі ў галаве, Сноў спазнаць залатых не даюць, Кожна мучыць к загубе заве.* ЧС, 50–51. *Мы ўжо ня тыя, – інакшыя думы Вырасьлі з намі, завуць к барацьбе.* Г, 17.

**2.** Называць. *..у гэты год Пашоў на дно ўвесь цяжкі пакебот, Што звалі мы імпэрыяй расійскай...* ВБЛ, 80. *..На пасадзе сядзела цьвет-ночка – царыца... Звалі тыя і сія судзьбінай.* Ч, 322.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *заве* (2): УрП, 49; ЧС, 50–51. Мн. 3 ас. *завуць* (2): Г, 17(2). Пр. адз. м. *зваў*: ПВ. Мн. *звалі* (2): ВБЛ, 80; Ч, 322.

**ЗВЕДАВАЦЬ** *незак*. *Разм*. Спазнаваць. *Зямлю і неба ўздоўж і ўшыр Так кожнай зведаваць хвілінай...* МСП, 187.

Інф. *зведаваць*: МСП, 187.

**ЗВЕДАЦЬ** *зак*. Спазнаць. *Туман засцілаў людзям душы і вочы, З туманаў тырчэлі гарбатыя плечы. І думаў – канца не дазнаць гэтай ночы, І думаў – не зведаць шляхоў чалавечых.* ТП, 214.

Інф. *зведаць*: ТП, 214.

**[ЗВЕЗЦІ]** *зак*. Забраць куды-н. [Мікіта]: *Было б няважна, каб звезлі з хаты апошняга, меджду протчым, бацьку.* Т, 36.

Абв. пр. мн. *звезлі*: Т, 36.

**ЗВЕР** (2) і **ЗЬВЕР (6)** *ж*. **1.** Дзікая жывёла. .. *навет калі выходзілі* [прашчуры] *з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнага сачыць, то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17. *Цярэбіць стальнаю сякерай Прыблуднік нашыя лясы, Ў свае цянёты вабіць зьвера, Сьвятыя топча верасы.* УрП, 48. // *У параўн.* [Маці:] *Як прыйшоў дамоў, сярэдні* [сын] *Выгледаў багата, Й не пазнаў, як зьвер пасьледні, Ні мяне, ні брата.* Дз, 190.

**2.** *перан*. Заваёўнік. *Гэй, паклічу сход Ды збяру народ, Ды збяру жаўнераў, Хай ідуць вайной На маю бяду – На ліхога звера.* ВБ.

Δ**Брат-зьвер** *гл*. брат. **Звер-людарэз:** *..Вада з крыніц жывых хай зверам-людарэзам Атрутай будзе і сляпіць крывавыя іх вочы.* ПНд, 314.

Адз. Н. *зьвер* (2): Дз, 190; УрП, 47. Р. *зьвера* (2): Дз, 128; Ч, 328. В. *зьвера* (2): ВБ; УрП, 48; *звера*: Кз, 17. Т. *зверам*: ПНд, 314.

**[ЗВЕСІЦЬ]** *зак. да* звешваць. *А там, за Сулою, па той бок граніцы, Дзе звесілі дзюбы панура арлы, Клянуць сваю долю, свой чужаніцы. І панства фашызма крывавай імглы.* ПБН.

Абв. пр. мн. *звесілі*: ПБН.

**[ЗВЕШВАЦЬ]** *незак*. Схіляць уніз. *Апускаецца* [Мікіта] *з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, звешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму.* Т, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *звешвае*: Т, 43.

**[ЗВІНЕЦЬ]** (5) і **[ЗЬВІНЕЦЬ]** (5) *незак*. Утвараць тонкі металічны гук. *У гэту нашу гадаўшчыну Звініць ланцуг, як і звінеў..* ГП, 8. *Нідзе ні ладу, ані праўды, Званы хаўтурныя зьвіняць...* РС, 40. // Звонка гучаць. *Звініць песня ў полі, звініць, Уторыць сярпу і касе..* ТП, 214. *Звіні звонка, мая песня, Ляці вышай, далей!* НК. // Поўніцца чым-н. звінячым. *Вясна пачынаецца рана і ўся зьвініць ад гоману і сьпеву птушак самых разнастайных парод.* ХБ, 29.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *звініць* (3): ГП, 8; ТП, 214 (2); *зьвініць* (2):

УрП, 49; ХБ, 29. Мн. 3 ас. *зьвіняць* (3): В; РС, 40; СНБ. Пр. адз. м. *звінеў*: ГП, 8. Заг. адз. 2 ас. *звіні*: НК.

**[ЗВІСАЦЬ]** (2) *незак.* Павісаць. *Золататканы абрусы С сталоў звісаюць дыванамі..* Кц, 192. *Шпалеры павыдзіраны і кускамі звісаюць к долу.* Т, 43.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *звісаюць* (2): Кц, 192; Т, 43.

**[ЗВОД]**[1] *м. Разм.* Выміранне, знікненне. *..Ўжо адны ў вочы кідаюць – здраднік, звыродзень, На пагібель, на звод шлюць другія.* Ч, 320.

Адз. В. *звод*: Ч, 320.

**ЗВОД²** (2) *м. Польск.* Падман. *Вылазе з цемры бледны звод, Глядзіць сьліўнём на долы, горы...* Кц, 192. *Годзе брахні ўжо падкупленых зводаў! Годзе таптаньня праўд вечных, сьвятых!* Г, 16.

Адз. Н. *звод*: Кц, 192. Мн. Р. *зводаў*: Г, 16.

**[ЗВОДЗІЦЦА]** *незак.:* ◊**Зводзіцца на няма нішто** – страчваць усякае значэнне. *Справа незалежнасці Беларусі зводзіцца гэтымі панамі на няма нішто.* СНБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зводзіцца*: СНБ.

**[ЗВОДЗІЦЬ]** (5) *незак.* Знішчаць. *З кволых ніў палыны быццам зводзіць* [трэці сын], *ня зводзіць..* Ч, 321. *А першы* [ганец] *гэткі сьветлы быў, Як небам сланные прамені: Ў руцэ меў сьветач, што на зьдзіў Усе усюдах зводзіў цені.* Кц, 194.

◊**Не зводзіць вока** – не адводзіць позірку ад чаго-н. *У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку, Як дні, так і ночы наш слаўны дазор Не зводзіць з граніцы арлінага вока, Не ўтояць шпіёна ні дзебры, ні бор.* ПБН.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зводзіць* (3): ПБН; Ч, 321(2). Пр. адз. н. *зводзіў*: Кц, 194. Заг. адз. 2 ас. *зводзь*: Ч, 323.

**ЗВОДНІК** *м. Польск.* Той, хто займаецца карыслівым пасрэдніцтвам паміж мужчынай і жанчынай. *Гэткай рдзее душой чараўнік-сьлепаводнік. Што сыноў навучаў трох калісьці, А за ім сучыць сьледам, цянюючы, зводнік. І гайдае зялёнае лісьце.* Ч, 326.

Адз. Н. *зводнік*: Ч, 326.

**ЗВОН** (18) *м.* **1.** Ударны сігнальны падвясны інструмент. *Здалі чутна павоўчаму выюць званы.* БН, 93. *..сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму* [новаму Богу] *курыць, тысячы з медзі званоў хвалу яму разносіць..* Кз, 17.

**2.** Гук пры ўдары. *Паўстань з народу нашага пясняр, Былых і будучых вякоў баян, І ў бурны кліч, як буры ўдар, З віхрамі загудзі пад звон кайдан!* Пт. *Пад звоны зброі, путаў звоны, пад свіст раз'юшаных прыблудаў Брыдзеш* [Новы год] *з няведамых старонаў, Як здань няведамага цуду.* НГд, 8. // У параўн. *..Панясуцца, як звон, песьні вольныя, родныя, Апяваючы долю, нядолю*

*народу, тваю.* Б, 18. *Як сільным, магучым праз песьню стаў ён* [народ], *– Зноў пошэсць есць стала памалу; Папробуе песьню – йшчэ звоне, як звон, Але ўжо не так, як бывала.* ПН, 47.

**3.** *перан.* Пагалоска. *Пара, пара ўжо агарнуцца І гартам высталіць свой дух, Пакуль здрадліва пранясуцца Званы заломных злыбядух!* УрП, 49.

Адз. Н. *звон* (5): Б, 18; Н; НГд, 8; ПН, 47; УрП, 47. В. *звон* (3): Н; ПБН; Пт. Т. *звонам*: Кц, 196. М. *звоне*: ПН, 47. Мн. Н. *званы* (4): БН, 93; Кц, 196; РС, 40; УрП, 49. Р. *званоў* (2): ДЖ; Кз, 17. В. *звоны* (2): НГд, 8(2).

**ЗВОДНЫ** (3) *прым. Польск.* Спакуслівы, прывабны. *Пакрыўленыя колісь нашы душы Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ; Снуёмся, у думках зводных затануўшы, А хтось, а штось і мучыць і пячэ.* Бч, 9. // Прывідны. *Здушылі, збэсьцілі ўсё чыста У чорнай яве, ў зводных снах, Што ад прыроды шлях свой мела, Што к сонцу мела вольны шлях.* РС, 40. // *перан.* Каварны. [Судзьбіна:] *Схову новую ладзь* [трэці брат], *больш твае скуль прыпасы-б Не валок зводны зьмей і начніцы..* Ч, 323.

Адз. м. Н. *зводны*: Ч, 323. Мн. М. *зводных* (2): Бч, 9; РС, 40.

**ЗВОН-У-ЗВОН** *прысл.* Зладжана, мілагучна. *Ракочуць гусьлі звон-у-звон, На мір-сьвет розглас нясецца.* Кц, 197.

**ЗВОНКА** (3) *прысл. да* звонкі. *Звіні звонка, мая песня, Ляці вышай, далей!* НК. *Чые звоняць звонка косы На мурожнай сенажаці?* СА, 180. БН, 92.

**[ЗВОНКІ]** (2) *прым.* Гучны, гулкі. *Нашы новыя песні, звонкія радасныя песні, хто мае вушы, той чуе.* ДЖ. *Аб Сталіне-сейбіту песня мая, А песня ад сэрца і звонка, як медзь, Якую ў жніво пяе ў полі жняя..* СС, 302.

Мн. Н. *звонкія*: ДЖ. Кар. адз. ж. Н. *звонка*: СС, 302.

**[ЗВУК]** *м. Руск.* Гук. [Мікіта]: *(..напявае) Оруж'ем на сонцэ сверкая, Под звукі ліхіх трубачэй, По уліцам пыль подымая, Проходзіл полк гусар усачэй..* Т, 53.

Мн. В. *звукі*: Т, 53.

**[ЗВЫКНУЦЬ]** *зак. Разм.* Прывыкнуць да чаго-н. *Беларуская сіла ня можа запэўніць абываталю таго, да чаго ен звык, а перамен і зьвязанага з імі клопату прынясе шмат.* ВМР.

Абв. пр. адз. м. *звык*: ВМР.

**ЗВЫРОДЗЕНЬ** *м. Польск., лаянк.* Вырадак. *Ён* [першы сын] *і рад і ня рад, а пуцьця меней штодзень На тэй выбранай сьцежцы, і ные; Ўжо адны ў вочы кідаюць – здраднік, звыродзень, На пагібель, на звод шлюць другія.* Ч, 320.

Адз. Н. *звыродзень*: Ч, 320.

**ЗВЫЧАЙ** (4) *м.* Агульнапрыняты парадак, правіла. *Ад пэўнага*

*часу завёўся на Беларусі вельмі цікавы дэмократычны звычай.* ДК. *Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру.* Нз, 14. *Параўн.* абычай.

Адз. Н. *звычай* (2): ДК; Мц, 74. В. *звычай*: Нз, 14. Мн. Р. *звычаёў*: Кз, 17.

**ЗВЫЧАЙНА** *прысл.* Большай часткай, пастаянна. [С. Меч:] *Верасень – мой любімы месяц, але ў нас* (Расеі) *звычайна псуюць яго дажджы..* ХБ, 29.

**[ЗВЫЧАЙНЫ]** (5) *прым.* **1.** Пастаянны, прывычны. *..жыццё дзяржаў ішло сваім звычайным парадкам.* СНБ, 336. *Бацяўская ашчадкаса дае кожнаму рабочаму дзесяць процантаў за пакладзеныя грошы замест звычайных чатырох.* ПЧ.

**2.** Прывычны. *Граб зусім звычайнае дрэва у лясох, гдзе мясцовасць больш вільготная..* ХБ, 29. [Спічыні]: *Мы ўжо з вамі* [Мікітай] *прайшлі прывітанні звычайныя і ўчора пачалі так званыя шыварат-навыварат.* Т, 49.

Адз. м. Т. *звычайным*: СНБ, 336. ж. Н. *звычайная*: Т, 44. н. Н. *звычайнае*: ХБ, 29. Мн. Р. *звычайных*: ПЧ. В. *звычайныя*: Т, 49.

**[ЗВЯЗ]** *м. Разм.* Звязак. *Ён* [Даніла] *вязе ўсім падарункі: Маці срэбны абраз, А сваёй дзяўчыне мілай Доўгі пацерак звяз.* ПСД.

Адз. В. *звяз*: ПСД.

**[ЗВЯЗАК]** (2) *м. Польск.*: ◊**У звязку** (2) – у сувязі з чым-н., на падставе чаго-н. *Мы хочам .. звярнуць увагу на важнейшыя праявы палітычных перамен у нашым краі ў звязку з нашай незалежнасцю.* СНБ, 337. [Мікіта]: *А гэта, меджду протчым, яна* [барада] *вырасла ў звязку з політычнымі марамі на нашым Менскім горызонце.* Т, 55.

Адз. М. *звязку* (2): СНБ, 337; Т, 55.

**[ЗВЯЗАНЫ]** (3) і **[ЗЬВЯЗАНЫ]** *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. зал. пр. да* звязаць. Перавязаны чым-н. *Уваходзіць Мікіта.., цягнучы за сабой каламажку, у якой: ..колькі малых мяшэчкаў з прадуктамі, два селядцы, звязаныя лыкам..* Т, 45.

**2.** *перан. У знач. прым.* Спалучаны. *Беларуская сіла ня можа запэўніць абываталю таго, да чаго ён звык, а перамен і зьвязанага з імі клопату прынясе шмат.* ВМР. [Спічыні]: *Ахвяруем цяпер колькі хвілін на тэорытычнае асвятленне некаторых звязаных з аратарствам пытанняў.* Т, 41.

◊**Звязаны рукі і ногі** – пазбаўлены свабоды. *Цяпер другі кліч вынырнуў з балота паўстаючай рэакцыі "Дзяры з каго можаш і сколькі можаш, душы слабейшага, пакуль яму звязаны рукі і ногі!"* ЗС, 17.

Адз. м. Р. *зьвязанага*: ВМР. Мн. Р. *звязаных*: Т, 41. В. *звязаныя*: Т, 45. Кар. мн. Н. *звязаны*: ЗС, 17.

**[ЗВЯРНУЦЦА]** (2) і **[ЗЬВЯРНУЦЦА]** (2) *зак.* Адрасавацца да каго-н. з якімі-н. словамі, просьбай. *Пэўнага дня вядомая беларуская дзеячка зьвярнулася да міліцыі з просьбай, напісанай па-беларуску..* ОШМ. [Мікіта]: *Вось, калі хто з іх* [гасцей] *звернецца да вас* [Ганулі] *з якім словам, то вы старайцеся адказваць у нос і меней ужывайце простых выразаў.* Т, 22.

Інф. *звярнуцца*: Т, 56. Абв. пр. адз. м. *зьвярнуўся*: УрП, 51. ж. *зьвярнулася*: ОШМ. Буд. адз. 3 ас. *звернецца*: Т, 22.

**ЗВЯРНУЦЬ** (5) і **ЗЬВЯРНУЦЬ** (4) *зак.* **1.** *перан.* Накіраваць што-н. куды-н. *Звярнулі вочы ўсе* [слугі] *ў іх* [князя і княжны] *бок, Прымоўклі гоманы дружыны..* Кц, 193. *Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну Зьвярні да гор лясістых, шырокіх пракосаў..* ХБ, 28.

◊**Звярнуць (зьвярнуць) увагу** – заўважыць што-н., улічыць што-н. *Мы хочам толькі .. звярнуць увагу на важнейшыя праявы палітычных перамен у нашым краі ў звязку з нашай незалежнасцю.* СНБ, 337. *Спачатку зрабілі* [бальшавікі] *“прылучэнне” Літ.-Бел. рэспублікі да Расіі.., а пасля звярнулі ўвагу на малую працу “чразвычайкі”.* Там жа, 340.

Інф. *звярнуць*: СНБ, 337; *зьвярнуць* (2): СБНГ; СНВ. Абв. пр. адз. ж. *звярнула*: Т, 46. Мн. *звярнулі* (3): А, 328; Кц, 193; СНБ, 340; *зьвярнулі*: ВСп, 89. Заг. адз. 2 ас. *зьвярні*: ХБ, 28.

**ЗВЯР’Ё** (3) і **ЗЬВЯР’Ё** (2) *н., зб.* **1.** Звяры. *Каб таго парвала З сэрцам на тры часьці І зьвяр’ё збрылося Мяса параскрасьці, – Хто быў прычыніўся Нашаму падзелу, На кускі парваўшы Маці роднай цела.* К. // *У параўн. Нявольнікі вы* [жыды] *сёньня з намі разам На беларускай змучанай зямлі, Дзе чорны зьдзек пасьвенчаны абразам Гняце нас разам, як зьвяр’ё, ў крутой пятлі.* Ж.

**2.** *перан.* Фашысты. *Ты* [лётчык] *будзеш глядзець самалёты, А бомбы скідаць буду я* [хлопчык], *І буду страляць з кулямёта Ў сабачыя сэрцы звяр’я.* ХЛВ, 315. *Што за людзі – зьвяр’ё?! Ах, якая сям’я!* БН, 92.

Адз. Н. *звяр’ё* (2): К; МПв, 219; *зьвяр’ё* (2): БН, 92; Ж. Р. *звяр’я*: ХЛВ, 315.

**ЗВЯЎШЫ** *дзеепрысл. да* звяць. *Ці ўскрэснем мы душою, ўпаўшы, звяўшы, Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...* Бч, 9.

**ЗГАВОР** *м.* Змова. *Чаму скрозь на Беларусі польскіе урадінікі не спауняюць загадау свайго начальства? Што гэта – згавор..?* ОШМ.

Адз. Н. *згавор*: ОШМ.

**[ЗГАДАЦЬ]** (8) *зак.* Адгадаць. [Дама]: *...Патанцуем, мусье Зносілов?* [Мікіта]: *Мадам-сіньёра, вы згадалі.* Т, 29. [Дама]: *А вы, мусье рэгістратар, ..пэўна заставацца тут не будзеце..?*

[Мікіта]: *Мадам-сіньёра, вы не згадалі..* Т, 37.

Абв. пр. адз. ж. *згадала*: Т, 37. Мн. *згадалі* (7): Т, 24, 26, 28, 29, 37, 51(2).

**[ЗГАДЗІЦЦА]** *зак.* Пагадзіцца з чым-н. *На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую.* Нз, 14.

Абв. буд. адз. 3 ас. *згодзіцца*: Нз, 14.

**[ЗГАЛАДАЛЫ]** *прым.* Галодны. *Стань* [слабода] *ў нейким балоци; будынки пападгнивали, ..людзи нейкие абарваные ў лапцёх, зацяганые, згаладалые..* ХЛБ.

Мн. Н. *згаладалые*: ХЛБ.

**ЗГАНЯЦЬ** (3) *незак.* **1.** Развеяць. *..Дзень варажыўся быць лагодным, Вей-вецер воблакі зганяў.* УрП, 47.

**2.** Пазбаўляцца ад чаго-н. [Князь:] *Адзін, адзін раз толькі ў год Збірацца можэм з ласкі Рока, Каб лет іржавы карагод Зганяць з мінуўшчыны далёкай.* Кц, 193.

**3.** *перан.* Рассейваць. *Новая доля, шчаслівая доля, Яна з Усходу квяцістай дарогай Сходзіць ад пушчы, на рэкі, на поле, Сее вясёласць, зганяе трывогу.* Мц, 75.

Інф. *зганяць*: Кц, 193. Абв. цяп. адз. 3 ас. *зганяе*: Мц, 75. Пр. адз. м. *зганяў*: УрП, 47.

**[ЗГАРТАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* згартаваць. *Разм.* Загартаваны, які зрабіўся стойкім, вынослівым. *Мы, згартаваныя сталінскай воляй, Смерцю сатром людаедаў..* СЗГ, 252.

Мн. Н. *згартаваныя*: СЗГ, 252.

**[ЗГАРУСЦІЦЬ]** *зак. Разм.* Набыць, прыдбаць што-н. з вялікай цяжкасцю. [Гануля]: *Стары згарусціў быў лішнюю сотню, маніўся кусочак зямлі з хатай купіць..* Т, 20.

Абв. пр. адз. м. *згарусціў*: Т, 20.

**[ЗГАСНУЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Перастаць гарэць, патухнуць. *Залопаў крыльлямі пятух, – І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы; Замоўк разгул, агонь патух, Старое згасла папялішчэ.* Кц, 197.

**2.** *перан.* Знікнуць. *Вы* [бальшавікі] *ўладары ... Яшчэ жарцвет Бунтарскіх дум у вас не згас..* ПВ.

Абв. пр. адз. м. *згас*: ПВ. н. *згасла*: Кц, 197.

**ЗГІБАЦЦА** (2) *незак.* Схіляцца. *..Дзе ні ступіць* [першы сын] *– згібаюцца краскі і травы, І праклядьце шуміць бескарысна.* Ч, 320.

◊**Згібацца ў ярме** – пакарацца чыёй-н. сіле. *Горды народ твой* [Фінляндыі] *не будзе згібацца ў ёрмах прыгонных, у здрадніцкіх лапах..* Ф.

Інф. *згібацца*: Ф. Абв. цяп. мн. 3 ас. *згібаюцца*: Ч, 320.

**ЗГІНУЎШЫ** *дзеепрысл. да* згінуць. *Спіце вы, нявінна Згінуўшы, ахвяры!* МПв, 219.

**ЗГІНУЦЬ** (11) *зак.* Знікнуць. [Спічыні]: *Як будзе: згінь ты прападзі, нячыстая сіла?* Т, 49. *..хай яна* [беларуская інтэлігенцыя] *скажа свае жалезнае слова. І забабон згіне.* З. // Прапасці. *..нам астаецца толькі цешыцца, што думка шчырага расейскага грамадзяніна дарма ня згінула..* ВН. *Душу сваю выні, Палажы на далонь і надзейся, Што паверацъ табе, што на згіне Ўся прысяга твая ў чорнай ціне Перасудаў людзкіх...* См, 91. // Перастаць існаваць. [Мікіта]: *Яшчэ Польшча не згінула, але збіраецца згінуць.* Т, 49. // Загінуць, памерці. *А як згіну* [Габрусь], *то зязюля Прыляціць да вас адтуля І ля вокнаў, ля хаціны Закукуе, што я згінуў.* ГЖУ. *..Брат скаваны не згіне і так: Ён другіх пашукае братоў.* ЧС, 50–51.

◊**І след згінуў** *гл.* след.

Інф. *згінуць*: Т, 49. Абв. пр. адз. м. *згінуў* (3): ГЖУ (2); Т, 54. ж. *згінула* (2): ВН; Т, 49. Буд. адз. І ас. *згіну*: ГЖУ. 3 ас. *згіне* (3): З; См, 91; ЧС, 50–51. Заг. адз. 2 ас. *згінь*: Т, 49.

**[ЗГІНУЦЬ-ПРАПАСЦІ]** *зак.* Прыгаворка. *..самі, грамадзяне, пасудзіце, як я ламаў сабе мазгі і ногі праз гэту, згінь-прападзі, Антанту.* Ан, 18.

Заг. адз. 2 ас. *згінь-прападзі:* Ан, 18.

**[ЗГНІСЦІ]** *зак. перан.* Загінуць ад цяжкіх умоў жыцця. *Гэй, гэй, на спатканне вялікіх двух сьвятаў! Сьпяшыце супольна, хто ў путах ня згніў!* В.

Абв. пр. адз. м. *згніў*: В.

**ЗГОДА** (5) *ж.* **1.** Станоўчы адказ, дазвол на што-н. *Вылучаючы Вас, таварыш Ежоў, кандыдатам у Вярхоўны Совет СССР, мы просім даць сваю згоду балатыравацца па Менскай выбарчай акрузе.* НКУС.

**2.** Узаемная дамоўленасць. *Хай-жа гэта прыказка і тут сябе пакажэ, каб у супольнай згодзе забяспечыць сябе ад голаду і холаду.* ВС. *Дзеле чаго-ж тагды гутарка аб згодзе, аб палітычнай лучнасьці з Польшчай, калі усе робіцца на задор, на сварку, на калатню і варажнечу.* ОШМ.

Адз. Н. *згода* (2): Т, 30(2). В. *згоду*: НКУС. М. *згодзе* (2): ВС; ОШМ.

**ЗГОДНА** (4) *прысл.* У адпаведнасці з чым-н. *Дзеля ясьнейшага ўразуменьня пастараемся падабраць кнігі па дадзенаму сьпісу згодна з іх зьместам.* ВСп, 89. [Мікіта]: *А я ..на хвіліначку адлучуся змяніць свой знадворны выгляд, згодна з самай навейшай, меджду протчым, палітычнай сытуацыяй.* Т, 50. Т, 41, 60.

**[ЗГОДНЫ]** (8) *прым.* **1.** Які выражае згоду на што-н. [Мікіта]: *Мусьі, згодны на гэта* [танцы]? [Галасы]: *Згодны! Згодны!* Т, 29.

**2.** Салідарны. [Дама]: *Я думаю, што шаноўнае таварыства са мною згодна?* [Галасы]: *Згодны! Згодны!* Т, 51.

**3.** Падобны, аднолькавы. *Вайна і рэвалюцыя выкінула ў забавах два лёзунгі, два ня згодныя з сабой – як агонь і вада, – кірункі ў змаганьні за культурна-палітычные правы народаў і дзяржаваў.* СНБ.

**4.** Аднадушны. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [мянчане] *да адзінай мэты: адваяваць свой горад ад засільля чужынцаў..* ВМР.

Мн. В. *згодные*: СНБ. Т. *згоднымі*: ВМР. Кар. адз. н. Н. *згодна*: Т, 51. Мн. Н. *згодны* (5): Т, 29(3); 51(2).

**ЗГОРБЛЕНЫ** *прым. перан.* Сагнуты (ад старасці), сутулаваты. *Учора паднявольны згорблены рабочы і селянін-бедняк, сёння з высока паднятай галавой вольны грамадзянін і будаўнік вялікага Совецкага Саюза.* ШБСЯ.

Адз. м. Н. *згорблены*: ШБСЯ.

**[ЗГРАМАДЖЭННЕ]** *н. Руск., разм.* Зборышча, натоўп. *У адным з псалмаў біблейскіх сказана: "стануў Бог у зграмаджэнні Багоў і паміж Багамі суды судзіць".* ПЛП.

Адз. М. *зграмаджэнні*: ПЛП.

**ЗГРАЯ** (2) *ж. перан.* Банда. *Мяне зусім не дзівіць тое жыццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына ў БССР і раз'юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызма ў Заходняй Беларусі.* ШБСЯ. *Скіне* [народная армія] *з тваіх* [Фінляндыі] *плеч ярмо плутакратаў, Здрайцаў прадажных нікчэмную зграю..* Ф.

Адз. Н. *зграя*: ШБСЯ. В. *зграю*: Ф.

**[ЗГРЫЗОТА]** *ж. Разм.* Напасць. [Янка]: *Гэтыя новыя акупанты ды іншыя згрызоты не даюць табе* [Аленцы] *спакойна працаваць у Менску.* Т, 30.

Мн. Н. *згрызоты*: Т, 30.

**[ЗГРЫЗЦІ]** *зак. перан.* Раз'есці. *Здавалася, ноч ня пяройдзе, Іржа ня згрызе вечных путаў, – Аж бліснуў пажар на усходзе, І дрогнулі рабскія скруты.* Кр, 77.

Абв. буд. адз. 3 ас. *згрызе*: Кр; 77.

**[ЗГУБА]** *ж. Разм.* Гібель, смерць. *Ня зыходзіць са шляху свайго і другі сын – Чуць ня йдзе сьледам першага брата: Ўжо на згубу з зямлёю і з хатай запісан, І ўсё-ж долі завідуе ката.* Ч, 320.

Адз. В. *згубу*: Ч, 320.

**ЗГУБІЎШЫ** (2) *дзеепрысл. да* згубіць у 3 *знач.* *Заціснуты, задушаны, як мышы Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў, Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы, Таго свайго, што наша ад вякоў.* Бч, 9. *Хто там стогне так на ўзьмежку, На капцы у полі? Як згубіўшы к долі сьцежку, Як незнаўшы долі.* Дз, 187.

**[ЗГУБІЦЦА]** *зак.* Страціцца. *У гэтай страшнай калачэчы дзеўчынка згубилася и папала пад хунхузоў.* ПДз.

Абв. пр. адз. ж. *згубилася*: ПДз.

**[ЗГУБІЦЬ]** (4) *зак.* **1.** Звесці са свету; пагубіць. *Ах, скарэй-бы дзень вечны, ці вечная цьма! Яна згубіць мяне, бессанлівая ноч!* БН, 93.

**2.** Забыць па няўважлівасці. [Спраўнік]: *Яму* [Мікіту] *хапіла пшэпусткі.* [Дама]: *Ён не згубіў яе.* Т, 57. [Дама]: *А я мела пшэпустку, але на адвітальным рауце неяк згубіла.* Там жа.

**3.** *перан.* Страціць. *Пачуем дзіўную аповесць Мінуўшай славы і жыцця, Аб чым згубіў ты ўжо даўно весць, Блукаючыся без пуцця.* БрБ, 6.

Абв. пр. адз. м. *згубіў* (2): БрБ, 6; Т, 57. ж. *згубіла*: Т, 57. Буд. адз. 3 ас. *згубіць*: Бн, 93.

**ЗГУБНЫ** *прым.* Пагібельны. *Вы ўскрэсьнеце, Жыды, усьлед за Беларусяй, – Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць, Хоць наш магільнік кветкай апрануўся, Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць!* Ж.

Адз. м. Н. *згубны*: Ж.

**[ЗГУРТАВАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* згуртаваць. Аб'яднаны. *Мы* [беларускі народ] *ўсе згуртаваны адзінаю воляй, Адзіным пачуццем, жаданнем адным.* ПБН.

Кар. мн. Н. *згуртаваны*: ПБН.

**ЗДАБЫВАЦЬ** *незак.* Даставаць (з зямлі). *З ім* [стаханаўцам] *ты* [трактар] *будзеш скарбы Здабываць з зямелькі..* ПТ, 208.

Інф. *здабываць*: ПТ, 208.

**[ЗДАБЫТАК]** *м.* Дасягненне ў развіцці чаго-н. *Мы сёння з гордасцю назіраем і адчуваем вялікія дасягненні ў галіне культуры. Зірнуць толькі .. на дзесяткі вышэйшых навучальных устаноў, дзе тысячы пролетарскага студэнства пасцягаюць самыя навейшыя здабыткі сусветнай навукі..* ШБСЯ.

Мн. В. *здабыткі*: ШБСЯ.

**[ЗДАБЫТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* здабыць у 2 *знач.* *Раз'юшаная царская рэакцыя здабытыя рабочым народам свабоды што раз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі.* ДЖ.

Мн. В. *здабытыя*: ДЖ.

**ЗДАБЫЦЬ** (3) *зак.* **1.** Дастаць, зарабіць. [Мікіта]: *Буржуазія з усіх сіл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата..* Т, 40.

**2.** *перан.* Адшукаць, знайсці. *Хай-жа Беларусь пакажа, што яе верныя сыны .. патрапюць здабыць і для сваей зямлі лепшую долю і лепшую славу.* БСУ.

Інф. *здабыць* (2): БСУ; Т, 40. Абв. пр. мн. *здабылі*: СС, 300.

**[ЗДАБЫЧА]** *ж. перан.* Тое, што здабыта, атрымана шляхам якіх-н. намаганяў. [Спраўнік]: *I вы* [Мікіта] *павінны зара ісці са сваёй здабычай у штаб акупацыйных войск.* Т, 53.

Адз. Т. *здабычай*: Т, 53.

**[ЗДАВАЦЦА][1]** *незак.* Прызнаць сябе пераможным. [Мікіта]: *(вылазячы з укрыцця, да Чырвонаармейца). ..Здавайся ў палон, медждy протчым!* Т, 52.

Заг. адз. 2 ас. *здавайся*: Т, 52.

**ЗДАВАЦЦА[2]** (38) *незак.* **1.** ***У*** *безас. знач*. Уяўляецца. [Мікіта]: *..мабыць, гэта мне здаецца, або ён* [Немец] *удае, што ўмее патутэйшаму.* Т, 52. *I вось, ён* [Пасляк] *быў, як мне* [Купалу] *тады здавалася надзвычайны майстра расказваць казкі..* ПС.

**2.** *У безас. пабочн*. Як быццам, відаць. [Спраўнік]: *Наколькі я разумею стратэгію, то, здаецца, справа абыйдзецца без крывапраліцця.* Т, 52. *Чагось чакалі грамадзяне, Ў вачох палаў надзеі жар, – Пад сьмерць, здаецца, кожны стане, Адвагай мятусіўся твар.* УрП, 47.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *здаецца* (27): Ан, 19; БН, 91; ВР; Дз, 189; М, 20; Нз, 14; Т, 20(2), 22, 31, 32(2), 35, 37(2), 38, 46, 52, 55, 57, 58, 59, 60, 61; УрП, 47 (3). Пр. адз. н. *здавалася* (11): ДЖ (3); Кр, 77; МІ, 17; ПС; СБНГ; СНБ (2); Т, 21; ШБСЯ.

**[ЗДАВІЦЬ]** (2) *зак.* **1.** Акружыўшы, абступіўшы з усіх бакоў, заціснуць. *I там здань і тут здань, закружыліся ў круг, Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў, Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг, Сэрцы рве і грызе, шнурам шыі здавіў.* БН, 92.

**2.** *перан*. Пазбавіць свабоды, заняволіць. *Гэй, не дзівуйся, мой дружа нядбалы, Што я* [Нёман] *сягоння так злосна шумлю: Грудзі здавілі мне хмары навалай, Пошасць уелася ў матку-зямлю.* Н.

Абв. пр. адз. м. *здавіў*: БН, 92. Мн. 3 ас. *здавілі*: Н.

**[ЗДАВОЛЕНЬНЕ]** *н. Разм. Тое, што* задавальненне. *..павінна збудзіць* [вестка] *у кожнага беларуса і наагул у кожнага грамадзяніна, жывучага вечна у нашым краю, вялікае здаволеньне і сьвяточную радасьць.* БСУ.

Адз. В. *здаволеньне*: БСУ.

**ЗДАВОЛІВАЦЬ** *незак. Разм.* Задавальняць. *..Віленскі Батораўскі Унівэрсытэт павінен і абавязан здаволіваць духоуные культурные патрэбы гэтых усіх трох народаў: палякоў, літвіноў і беларусаў.* УПУВ

Інф. *здаволіваць*: УПУВ.

**[ЗДАГАДВАЦЦА]** *незак.* Дадумвацца. *Я* [Купала] *.. веру, што ты* [моладзь] *яшчэ сягнеш туды, куды думка чалавечая не здагадвалася сягнуць.* ЖН.

Абв. пр. адз. ж. *здагадвалася*: ЖН.

**ЗДАЛЁК** і **ЗДАЛЁКУ** (2) *прысл.* З далёкай адлегласці. *..Гул далятае здалёку гарматаў.* ВМ, 72. *Параўн.* здалі, здаля. // З далёкай мясцовасці. *Ўсіх званых зблізку і здалёк Саколім вокам князь акінуў.* Кц, 193. *І дамоў прыехаў* [Янка] *З тэй вайны, здалёку..* ЕЯП. *Параўн.* з-за далёк.

**ЗДАЛІ** і **ЗДАЛЯ** *прысл. Разм. Тое, што* здалёк (здалёку). *Здалі чутна, павоўчаму выюць званы.* БН, 93. *Водгукі бітваў плывуць здаля грозна..* ВМ, 279.

**ЗДАНЬ** (9) *ж.* Прывід. *Разыграліся гурмай за зданяю здань, Як вужакі ў гаршку мятусяцца яны..* БН, 93. // *У параўн. Пад звоны зброі, путаў звоны, Пад свіст раз'юшаных прыблудаў Брыдзеш з няведамых старонаў, Як здань няведамага цуду.* НГд, 8.

Адз. Н. *здань* (6); БН, 92(4), 93; НГд, 8. Т. *зданьню* (2): АЛ; БН, 92; *зданяю*: БН, 93.

**[ЗДАРАЦЦА]** *незак.* Адбывацца. *Другая – трэцяя Уецца, як змей, Часам здараецца Ходзюць па ей.* $Ш_5$.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *здараецца*: $Ш_5$.

**ЗДАРМА** (3) *прысл. Разм. Тое, што* дарма ў 1 *знач. Здарма ж двуглавы твой арол Праз векі ў кіпцюрох трымаў Мільёны ўбогіх хат і сёл, Рабоў мільёны?.. Не здарма!* АПЖ (2). Ч, 322.

**ЗДАРОВЫ** (9) *прым.* **1.** Які мае добрае здароўе. *Ня журбуйце-ж, тата, маці! Буду вас яшчэ вітаці, Як з вайны здароў вярнуся І вам нізка пакланюся.* ГЖУ.

**2.** *перан.* Моцны. *Балюча і цяжка усьведамляць мне* [Купалу] *сёньня, што я, адарваўшыся ад здаровага творчага асяродзішча рэволюцыйных пролетарскіх працоўных мас.., не дапамагаў з усёй адданасьцю і захапленьнем ажыцьцяўленьню заветных лятуценьняў чалавецтва, ажыцьцяўленьню соцыялізму.* АЛ. *Але гэта адначасне паказвае, як кінутае здаровае зерне дарма не прападае.* МІ, 17.

**Будзь здаровы, бацька, маці...**

◊**Будзь (будзьце, бывайце) здаровы (і шчаслівы)** *гл.* быць.

Адз. м. Н. *здаровы* (2): БЗ (2). н. Н. *здаровае*: МІ, 17. Р. *здаровага*: АЛ. Мн. Н. *здаровыя*: ПЛП. Кар. адз. м. Н. *здароў*: ГЖУ. Мн. Н. *здаровы* (3): Т, 39, 42, 57.

**ЗДАРОЎЕ** (5) *н.* Стан арганізма, пры якім нармальна дзейнічаюць усе яго органы. *..і палавіны ня прыдзецца нам плаціць таго лішняго, што мы выкідаем у сваім часе на гарэлку, затручваючы у дадатку сваё здароўе..* ВН. *І гэтыя людзі мучыліся, працавалі, аддавалі ўсё сваё найлепшае здароўе, жыццё за беларускае вольнае слова.* МІ, 17.

◊**За здароўе** (2) – пажаданне таму, за каго паднімаюць тост. [Мікіта]: *За здароўе дастойных, меджду протчым, гасцей!*

[Галасы]: *О, не! не! За здароўе імянінніка!* Т, 28.

Адз. Н. *здароўе* (3): Т, 28(2); ХБ, 28. В. *здароўе* (2): ВН; МІ, 17.

**ЗДАРЭННЕ** (7) і [**ЗДАРЭНЬНЕ**] *н.* Падзея, выпадак. *Недаўна ў Маскве было такое здарэнне.* ПДз. *..пры над'звычайных здарэньнях, як напрыклад вайна, голад, патрабуюцца і над'звычайныя расходы.* ВН.

◊**Дзеля ўсякага здарэння** – на выпадак, калі спатрэбіцца. [Мікіта]: *Паміж намі кажучы, меджду протчым, а дзеле ўсякага такога здарэння з пару дзён хадзіў на такія курсы, але нічога ў галаву не палезла.* Т, 56.

Адз. Н. *здарэнне* (2): ПДз; Т, 46. Р. *здарэння* (4): ЗЯЗ, 89; Т, 56; Тж, 15; Чж, 147. М. *здарэнні*: СС, 302. Мн. М. *здарэньнях*: ВН.

**ЗДАРЫЦЦА** (4) *зак.* **1.** Мець месца; адбыцца. [Янка]: *А гэта можа здарыцца нават сягоння.* Т, 23. *Вось які выпадак здарыўся гэтымі днямі ў партызанскім атрадзе Сцяпана З. з Падлесся.* ПСп.

**2.** Выпасці на чыю-н. долю. [Мужык:] *Ну, выбачай, сватка, гэтакай слабоды мне ешчэ не здарылося бачыць!..* ХЛБ.

**3.** Нечакана з'явіцца. [Ануля]: *Сягоння імяніны яго* [Мікіты], *дык мо той ці сёй здарыцца ў хату.* Т, 20.

Інф. *здарыцца*: Т, 23. Абв. пр. адз. м. *здарыўся*: ППС. н. *здарылося*: ХЛБ. Буд. адз. 3 ас. *здарыцца*: Т, 20.

**ЗДАЎНА** *прысл.* З даўніх часоў, з даўняй пары. *Эй, годзе ўжо песень маркотных пясьняр! Дай волю парывам гарачым, ..Каб хлынула полымя праўды з грудзей, Што ў думках здаўна мы гадуем..* Пр.

**[ЗДАЦЦА]** *зак.* Уявіцца. *Вербы і вольхі кальшуцца глуха, Сінія хвалі шумяць і бурляць. Чуткай душою ў такі час паслухай, – Здаеца, там гэтакі голас чуваць..* Н.

Абв. буд. адз. 3 ас. *здасца*: Н.

**ЗДАЦЬ** (2) *зак.*: ◊**Здаць ключы** – перадаць паўнамоцтвы каму-н. [Маладая сіла:] *Проша здаць ключы майму кіраўнічаму, а самі пашукайце пасады у іншым месцы.* ВМР. **Здаць справаздачу** – расказаць аб чым-н. [Унук:] *Дзедка, таксама я здам справаздачу, Крыўды шмат маю зімою і летам..* Ун, 73.

Інф. *здаць*: ВМР. Абв. буд. адз. 1 ас. *здам*: Ун, 73.

**ЗДЗЕК** (10) і **ЗЬДЗЕК** (9) *м.* **1.** *Дзеянне па дзеяслову* здзекавацца ў 1 *знач.* *Дэспатычная Расія царскага ўраду адрывала нашых дзецюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу.* БВ, 16. *На зьдзек прадажныя пракрокі І на гніцьцё у царстве цьмы Вядуць аплучаныя тоўпы Пад стогны вечныя турмы.* РС, 40.

**2.** Злая зневажальная насмешка. *Забабон гэты – насьмешка і зьдзек над усім тым, што наша – беларускае..* З.

◊**Выстаўляць на зьдзек** *гл.* выстаўляць. **Пушчаць у здзек** *гл.* пушчаць.

Адз. Н. *здзек* (2): ГП, 8; МІ, 17; *зьдзек* (3): Ж; 3; ОШМ. Р. *здзеку* (2): НДН, 18; СНБ, 340. В. *здзек* (4): БрБ, 6; БВ, 16; НДН, 18; Нз, 14; *зьдзек* (2): ДК; РС, 40. М. *зьдзеку*: ЗК, 42. Мн. Н. *здзекі* (2): Дз, 73; ЖН. Д. *зьдзекам* (2): Дз, 189; М, 20. В. *зьдзекі*: Дз, 190.

**[ЗДЗЕКАВАЦЦА]** (3) і **ЗЬДЗЕКАВАЦЦА** (2) *незак.* **1.** Мучыць, катаваць каго-н. *..а вёска глядзіць на пана, як на прыблуду з чужацкай стараны, які захапіў яго, селяніна, зямлю, ды йшчэ здзекуецца над ім самім.* Нз, 14. *Над старэйшым братам ставіў Стражы і запоры, Цела ранамі крывавіў, Зьдзекаваўся ў горы.* Дз, 190.

**2.** Груба, зняважліва абражаць каго-н. *..як скончыў* [чараўнік], *люд ня змоўчыў: Разгаманіўся, закрычаў: – Як сьмееш зьдзекавацца гэтак Ад свайго бога-павука!* УрП, 52.

Інф. *зьдзекавацца*: УрП, 52. Абв. цяп. адз. 3 ас. *здзекуецца*: Нз, 14. Пр. адз. м. *зьдзекаваўся* (2): Дз, 190; ОШМ. Мн. *здзекаваліся*: МІ, 17.

**[ЗДЗЕЛКА]** *ж. Руск.* Змова; тайнае паданне аб якіх-н. дзеяннях. [Мікіта]: *..сягоння ў дабавак нейкі выключны дзень, і вам* [Ганулі] *ніякай гандлёвай "здзелкі", бадай, не ўдасца ўжо правесці.* Т, 34.

Адз. Р. *здзелкі*: Т, 34.

**[ЗДЗЕРЦІ]** *зак. Разм.* Садраць, зняць. *Раптам Рынуўся знекуль паніч сумазбродзень, Высыпаў ягады, збіў, клікнуў варту, Хустачку здзёр мне і кофтачку, злодзей.* Мц, 75.

Абв. пр. адз. м. *здзёр*: Мц, 75.

**ЗДЗЕСЬ** (4) *прысл. Руск. Тое, што* тут у 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *І вы* [Заходні вучоны] *тут?* Т, 26. [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Очэнь кстаці, что вы, господзін белорус, здзесь.* Там жа, 38. Т, 38, 47.

**[ЗДЗЕШНІ]** *прым. Руск. Тое, што* тутэйшы. [Усходні вучоны]: *Что касается поліцічэскіх граніц області, то оне в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очень туманны.* Т, 47.

Мн. Р. *здзешніх*: Т, 47.

**ЗДЗІВІЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* здзівіцца. [Ганула]: *Спачатку ўсе* [людзі] *здзівіўшыся глядзелі, смяяліся, а пасля давай шпурляць у яго* [Мікіту] *чым хто папала.* Т, 46.

**[ЗДЗЯЙСНЯЦЦА]** *незак.* Ажыццяўляцца. *Словы вялікага Леніна аб тым, што кожная кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржавай, – здзяйсняюцца.* ГВУ.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *здзяйсняюцца*: ГВУ.

**[ЗДОЛЕЦЬ]** *зак.* Быць у стане зрабіць, выканаць што-н. *Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі*

*здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях.* ЦСБ.

Абв. пр. адз. м. *здолеў*: ЦСБ.

**[ЗДОЛЬНАСЦЬ]** *ж.* Уменне рабіць што-н. *Рад таму, што песні і думы мае* [Купалы] *па меры сіл маіх і здольнасцей – знаходзяць водгук ва ўсім Совецкім Саюзе..* ЖН.

Мн. Р. *здольнасцей*: ЖН.

**ЗДОЛЬНЫ** (7) *прым.* **1.** Які можа, умее што-н. рабіць. *Можэ некаторые раненые ня здольные да працы.* РКр. *Хай-жа Беларусь пакажа, што яе верные сыны здольны праліваць сваю гарачую кроу ня толькі за чужую карысьць і панаваньне..* БСУ.

**2.** Таленавіты. *Ці ўскрэснем мы душою, ўпаўшы, звяўшы, Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...* Бч, 9. [Мікіта]: *Не сягоння – заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры якой здольны аратар будзе магчы купацца, як сыр у масле.* Т, 36.

Адз. м. Н. *здольны* (2): Бч, 9; Т, 36. Мн. Н. *здольные*: РКр. Р. *здольных*: Т, 38. Кар. адз. м. Н. *здолен*: ВМР. ж. Н. *здольна*: ПСп. Мн. Н. *здольны*: БСУ.

**[ЗДОХНУЦЬ]** *зак.:* ◊**Мядзведзь здох** *гл.* мядзведзь.

Абв. пр. адз. м. *здох*: Т, 37.

**[ЗДРАДА]** (5) *ж.* Прадажнасць. *Няхай-жа ў зямлі вам* [трацкістам] *Не будзе спагады За ваша зладзейства, За вашыя здрады.* МПв, 219. *Гэтакай подласці, гэтакай здрады Свет не чуў і не бачыў.* СЗГ, 252.

Адз. Р. *здрады*: СЗГ, 252. В. *здраду* (3): Г, 16; ДЖ; ПЛП. Мн. В. *здрады*: МПв, 219.

**[ЗДРАДЗІЦЬ]** *зак.* Змяніць. *Дакуль свайго не здрадзіць слова Свая народная рука, Датуль з галін сьвятой дубровы Чужняк ня сьцягне і лістка.* УрП, 50.

Абв. буд. адз. 3 ас. *здрадзіць*: УрП, 50.

**ЗДРАДЛІВА** *прысл.* Вераломна. *Пара, пара ўжо агарнуцца І гартам высталіць свой дух, Пакуль здрадліва пранясуцца Званы заломных злыбядух!* УрП, 49.

**ЗДРАДНІК** (5) *м.* Той, хто здрадзіў. *Ўжо адны ў вочы кідаюць – здраднік, звыродзень, На пагібель, на звод шлюць другія.* Ч, 320. *У прыёмных нямецкіх і японскіх контрразведак трацкісцкія шпіёны і здраднікі гандлявалі нашаю крывёю і нашым нацыянальным гонарам.* ВНП. *Параўн.* здрайца.

Адз. Н. *здраднік*: Ч, 320. Мн. Н. *здраднікі* (3): БН, 93; ВНП (2). Д. *здраднікам*: МП.

**[ЗДРАДНІЦКІ]** (2) *прым.* Прадажны. *Герой загінуў ад варожай здрадніцкай рукі...* СК, 158. *Горды народ твой* [Фінляндыі]

*не будзе згiбацца ў ёрмах прыгонных, у здраднiцкiх лапах..* Ф.

Адз. ж. Р. *здраднiцкай*: СК, 158. Мн. М. *здраднiцкiх*: Ф.

**[ЗДРАДНІЦТВА]** *н.* Прадажнасць. *..няма роўнага таму здраднiцтву, якое ўвасоблена ў вобразе трацкiсцкiх нягоднiкаў..* ВНП.

Адз. Д. *здраднiцтву*: ВНП.

**[ЗДРАЙЦА]** (2) *м. Разм. Тое, што* здраднiк. *А яны, здрайцы вольных народаў, Нож нам пад сэрца тачылi.* СЗГ, 252. *Скiне* [народная армiя] *з тваiх* [Фiнляндыя] *плеч ярмо плутакратаў, Здрайцаў прадажных нiкчэмную зграю..* Ф.

Мн. Н. *здрайцы*: СЗГ, 252. Р. *здрайцаў*: Ф.

**ЗДРАСТУЦЕ** *часц. Руск., разм.* Прывiтанне пры сустрэчы. *Нават "здрастуце" ня можаце, як сьледна, выгаварыць, а яшчэ ... расiйцы!* З. *Параўн.* здрасцiце.

**ЗДРАСЦІЦЕ** *часц. Руск., разм. Тое, што* здрастуце. [Мiкiта]: *О, меджду протчым, i профэсар у нас! Здрасцiце!* Т, 21.

**[ЗДРАТАВАЦЬ]** *зак. перан. Разм.* Прынiзiць. *..нiхто не дамагаецца ад народаў, што наш край здратавалi нi за што нi пра што..* АБ, 16.

Абв. пр. мн. *здратавалi*: АБ, 16.

**[ЗДРУЗГОЧЫЦЬ]** *зак. Абл.* Звергнуць. *Сьмела здрузгочам старыя бажышчы, Новым законам збудуем пасад.* Г, 17.

Абв. буд. мн. 1 ас. *здрузгочам*: Г, 17.

**ЗДУРУ** *прысл. Разм.* Па глупству. *Брат другi яе* [судзьбiны] *мудрыя выслухаў рэчы: – Ня туды цэлы век пёрся здуру.* Ч, 323.

**[ЗДУШАНЫ]** *прым.* Прыглушаны. *..Аленка пырскае здушаным смехам..* Т, 52.

Адз. м. Т. *здушаным*: Т, 52.

**[ЗДУШЫЦЬ]** *зак. перан.* Прыгнесцi. *Здушылi* [свае i чужыя], *збэсцiлi ўсё чыста У чорнай яве, ў зводных снах.* РС, 40.

Абв. пр. мн. *збэсцiлi*: РС, 40.

**[З'ЕЗД]** (4) *м.* Сход прадстаўнiкоў якой-н. арганiзацыi. *Дарма "истинен" "Крестьянин", Штось чураюцца хрысцяне. Часта, густа з'езд склiкаю* [пан Кавалюк] *Дый нiшто не памагае.* ЛПК. [Мiкiта]: *..вашы* [Янкi] *сходкi цi там з'езды раскiдаюцца, а самiх на казённы хлеб садзяць.* Т, 21.

Адз. В. *з'езд*: ЛПК. Р. *з'езда*: ШБСЯ. Д. *з'езду*: ВГР. Мн. В. *з'езды*: Т, 21.

**ЗЕЛЕНЬ** *ж., зб.* Зелянiна. *I зелень, i кветкi, i песьнi I неба вясёлая яснасьць... Нi цьмы тэй, нi сьнегавай плесьнi, – Дзе глянеш, – адна, братка, шчаснасьць!* ПВ.

Адз. Н. *зелень*: ПВ.

**ЗЕЛЛЕ** (3) i **ЗЕЛЬЛЕ** (4) *н., зб.* Пустазелле. *Нашы загоны даўно ўжо нас клiчуць, Нашы загоны, што зельлем зрасьлi.* Г, 16.

**2.** *перан.* Нікчэмны чалавек. [Янка]: *О, гэтакіх* [людзей] *адных у нас многа, толькі ж яны не васількі, а праклятае зелле на нашай беднай зямлі!* Т, 20. *Хто-ж маўчыць, чый край бяз волі Стогне ў горы сіратой, – Той благое зельле ў полі, Між людзьмі скаціна той!* КЧ.

◊**Зарастаючы зельлем чужым** *гл.* зарастаючы. **Зельлем зарасці** *гл.* зарасці. **Частаваць атручаным зеллем** *гл.* частаваць.

Адз. Н. *зелле*: Т, 20; *зельле*: КЧ. Т. *зеллем* (2): Г, 16; ПДз, 83; *зельлем* (3): Б, 18; МД (2).

**[ЗЕМЛЯК]** *м. Руск.* Ураджэнец адной з кім-н. мясцовасці. [Усходні вучоны]: *..Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего..* Т, 47.

Мн. Н. *землякі*: Т, 47.

**ЗЕМЛЯРОБ** (3) *м.* Той, хто займаецца земляробствам. *Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля пяройдзе раней ці пазней у яго рукі..* ЗС, 18. *А тыя беззямельныя, убогія земляробы, а тыя малазямельныя вузкашнурыя вёскі і сялібы – што яны?* Там жа.

Адз. Н. *земляроб*: ЗС, 18. Мн. Н. *земляробы*: ЗС, 18. В. *земляробаў*: ВСп, 90.

**ЗЕМЛЯРОБНЫ** *прым.* Хлебародны. *Масы, народ земляробны, асталіся беларусамі..* Нз, 14.

Адз. м. Н. *земляробны*: Нз, 14.

**[ЗЕМНОЙ]** *прым. Руск.* Зямны. [Поп]: *Мої облачэнія зашчытой мне от всякіх зол земных.* Т, 52.

Мн. Р. *земных*: Т, 52.

**ЗЕМСКІ** *прым. Гіст.* Начальнік у земстве. *Быў маскоўскі цар, былі у нас насланые ім усялякіе чыны: земскі, вураднік, стражнік.* БС.

Адз. м. Н. *земскі*: БС.

**[ЗЕМСТВА]** (3) *н. Гіст.* Абмежаванае ў правах мясцовае самакіраванне. *На земства малая надзея – яно недаўна у нашым краю заведзена..* ВС. *На земствах ляжыць ешчэ іншы важны абавязак – гэта агранамічная і лекарская помач селянам.* Там жа.

Адз. В. *земства*: ВС. Мн. Д. *земствам*: ВС. М. *земствах*: ВС.

**ЗЕРНЕ** (6) *н.* **1.** Семя злакаў. *Ўзніме чорную скібу саха працавітая, Ляжэ ўсходнае зерне у пахань сырую..* ТС, 74. *Калісь у гэтым часе, выходзіў селянін у поле і кідаў зерне ў сьвежую ральлю..* ДД.

**2.** *перан.* Аснова чаго-н*...гэта адначасце паказвае; як кінутае здаровае зерне дарма не прападае.* МІ, 17.

Адз. Н. *зерне* (4): ДД; МІ, 17; ПВн; ТС, 74. В. *зерне:* ДД. Т. *зернем:* Т, 35.

**[З’ЕСЦІ]** (2) *зак. перан. Разм.* **1.** Ганеннем звесці са свету. *І расейскіе націоналісты, і ўся чорная сотня прызналі ў вадзін голас: лепей ніхай палякі з’ядуць зусім каталікоў-беларусаў.* ВР.

**2.** Знясіліць. *Нявольніцтва й жабрацтва так нас з’ела І так нам высмактала з сэрца сок, Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела Не смеем, стоптаныя на пясок.* Бч, 9.

Абв. пр. адз. н. *з’ела*: Бч, 9. Буд. мн. 3 ас. *з’ядуць*: ВР.

**З’ЕЎШЫ** *дзеепрысл.* да з’есці. Прыняць якую-н. ежу. [Груган:] *З’еўшы сэрца, я ляту, Косці падбіраю.* Пц.

**[ЗЁЛКІ]** *мн.* Напой з лекавых раслін. *..п’е* [Антанта] *зёлкі без цукру (бо, як ведама, у Маскве няма ні гарбаты, ні цукру)..* Ан, 19.

Мн. В. *зёлкі*: Ан, 19.

**[ЗЖЫЦЦА]** *зак.* Звыкнуцца, прызвычаіцца. *..беларушчына нясе новыя парадкі і зьмену усяго таго, з чым ён* [абываталь] *зжыўся..* ВМР.

Абв. пр. адз. м. *зжыўся*: ВМР.

**З-ЗА** (6) *прыназ.* Спалучэнне з прыназоўнікам “з-за” выражае :

Прасторавыя адносіны.

**1.** Абазначэнне напрамку руху ці дзеяння адкуль-н., з чаго-н., з процілеглага боку. *Аж дакучыла, знаць далей Недзе так бадзяцца, І сынкі зьбірацца сталі з-за далёк вяртацца.* Дз, 190. *Але вось з захаду, з-за бору, На від ня мал і не вялік, У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.* УрП, 51. З; Пц; Т, 61.

**2.** Абазначэнне руху ад таго прадмета, за якім хто-н. знаходзіцца. *Выходзяць* [госці] *з-за стала, рассядаюцца.* Т, 28.

**ЗЗАДУ** *прысл.* Услед. *Хто йшоў ззаду, а хто з боку, Азіраўся назад, А Даніла ўсюды ўперад Выступаці быў рад.* ПСД.

**[ЗЗЫВАЦЬ]** *незак.* Склікаць. *Бай* [матка] *яму* [сынку] *даўнейшы казкі Аб бацьках сваёй зямлі, ..Як на веча сход ззывалі І тварылі свой закон..* М, 19.

Абв. пр. мн. *ззывалі*: М, 19.

**ЗІМА** (17) *ж.* **1.** Самая халодная пара года. *Зіма нясьцюдзёная, часам зусім бяз сьнегу..* ХБ, 29. *Тае сьнег, таюць сковы зімы ледзяністые..* ТС, 74.

**2.** Навучальны год. *Паловы адной зімы вучыўся* [Купала] *ў народнай школе ў Сенніцы..* А, 328. *Пазней, гадоў 15–16, я* [Купала] *скончыў за адну зіму Беларускае народнае вучылішча.* Там жа.

**3.** *перан.* Дрэнны перыяд у жыцці каго-н. *Ой, ты сіняя, ты сьцюжная зіма, Сярод лета прышла к дзеваньцы сама.* ВБЛ, 82. *Эй, гуляйце, чорнасотники, На благое усе ахвотники: Ня век сеяци вам цьму, Весна зменить нам зиму!* ВЧ.

◊**Колькі лет! Колькі зім!** – радаснае прывітанне пры сустрэчы

з тым, каго даўно не бачыў. [Мікіта]: *Якое прыемнае, медждý протчым, спатканне, таварыш профэсар! Колькі лет! Колькі зім!* Т, 45.

Адз. Н. *зіма* (2): ВБЛ, 82; ХБ, 29. Р. *зімы* (3): А, 328; ТС, 74; Ф. В. *зіму* (3): А, 328; АПЖ; ВЧ. Т. *зімой*: НК; *зімою* (4): Дз, 190; СС, 301; Ун, 73; Чж, 146. Мн. Н. *зімы*: ТП, 215. Р. *зім* (2): Т, 45(2). В. *зімы*: Т, 45.

**[ЗІМАВЫ]** *прым. Разм.* Зімні. *Першае – чацьвёртае Жывіць сьвет сабою, Хоць гультайка шчырая Зімавой парою.*

Адз. ж. Т. *зімавой*: $Ш_3$.

**ЗІМКА** *ж. Разм. Ласк. да* зіма ў 1 *знач. Пройдзе зімка, пройдзе лета, Як сказаці слова, Дачакаюся я* [Галя] *гэтак І выбараў новых.* Вб, 236.

Адз. Н. *зімка*: Вб, 236.

**[ЗІМНІ]** (2) *прым. Руск.* Зімовы. *У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку, Як дні, так і ночы наш слаўны дазор Не зводзіць з граніцы арлінага вока, Не ўтояць шпіёна ні дзебры, ні бор.* ПБН. [Поп]: *(ідучы ўслед за адыходзячымі, паказваючы на іх рукой). Акі пціцы небесныя, отлетающчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38.

Адз. ж. В. *зімнюю*: ПБН. н. В. *зімнее*: Т, 38.

**[ЗІНОЎЕВЕЦ]** *м.* Паслядоўнік і прыхільнік дзейнасці Зіноўева. *Прайшлі яго* [шлях], *скідаючы з дарогі ўсіх і ўсялякіх ворага: кулакоў, нэпманаў, трацкістаў, зіноўеўцаў, нацыяналістаў..* ВГР.

Мн. В. *зіноўеўцаў*: ВГР.

**ЗІРНУЎШЫ** (4) *дзеепрысл. да* зірнуць у 1 *знач.* [Мікіта]: *(зірнуўшы). Гэта здаецца, мае быўшыя імянінныя госці.* Т, 37. [Мікіта]: *(зірнуўшы ў вакно). А такі ж градзе* [Немец] *і да нас.* Там жа, 52. Т, 37, 58.

**ЗІРНУЦЬ** (14) *зак.* **1.** Кінуць позірк; паглядзець. *Досыць зірнуць толькі вокам на старую лінію нямецка-расійскіх акопаў, каб пабачыць, якога жудаснага разбурэння на сотні квадратных міль даканала чалавечая рука..* АБ, 16. *Супрацоўнікі зірнулі на мяне з нейкай літасцяй, як бы хацелі даць мне капейку на хлеб.* Ан, 19. // Глянуць, каб даведацца пра што-н. [Мікіта]: *Зірну ў слоўнікі, як яму* [Немцу] *адказаць.* Т, 32. [Мікіта]: *Зірнеце ў гэтыя паперы, ваша таварыскасць. Як прачытаеце, то ўсё роўна не заберыцё мяне.* Там жа, 62.

**2.** *перан.* Прыпомніць што-н.. *Зірнуць-жа на годы, на час мой мінулы, На край, адкуль веяла цемрай, трывогай..* ТП, 214. *Калі мы зірнем у нядаўнюю мінуўшчыну вялікіх дзяржаў, .. то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы .. мелі адну ярка зарысаваную мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў..* НДН, 18.

Інф. *зірнуць* (4): АБ, 16; РС, 39; ТП, 214; ШБСЯ. Абв. пр. мн. *зірнулі* (2): Ан, 19; Т, 54. Буд. адз. 1 ас. *зірну*: Т, 32. 2 ас. *зірнеш*: ТП, 215. Мн. 1 ас. *зірнем*: НДН, 18. 2 ас. *зірнеце* (3): Т, 62; УрП, 48(2). Заг. адз. 2 ас. *зірні* (2): В; Т, 35.

**[З'ІСЦІЦЬ]** *зак. Абл.* Спраўдзіць, ажыццявіць. [Ганулі]: *А яму, свайму Мікітку, што я наталкавалася, каб з'існіў бацькаву думку, – не паслухаў.* Т, 20.

Абв. пр. адз. м. *з'існіў*: Т, 20.

**[ЗІХАЦЕЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Ззяць яркім агнём. *..там, дзе дымілася дапатопная лучына, зіхаціць сонечна электрычная лампа..* ШБСЯ.

**2.** Пераліваща, адбіваючы святло. *Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы, Зіхацела ў ім кожна часьціна..* Ч, 321.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зіхаціць*: ШБСЯ. Пр. адз. ж. *зіхацела*: Ч, 321.

**[ЗІЯНЬНЕ]** *н.:* **•Паўночнае зіяньне** – свячэнне верхніх слаёў атмасферы, якое назіраецца за палярным кругам. *Ад гарачых пяскоў агністай Афрыкі .. і да ледавітага "пауночнага зіяньня".. – як есьць усюдах пануе гэты ясьневяльможны бязсьмертны забабон.* З.

Адз. Р. *зіяньня*: З.

**[ЗІЯЦЬ]** (2) *незак. Разм.* **1.** Быць залітым святлом. *Свет цэлы зіяе каберцам. Шум нейкі ад пушчаў нясецца, З грудзей як ня выскачыць сэрца, Душа кудысь рвецца ... ўсё рвецца.* ПВн.

**2.** Блішчаць ад задавальнення (пра вочы). *Абняліся* [здані] *з сабой у шалёну гульню, Вочы прыскам зіяюць, з губ коціцца дым...* БН, 91.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зіяе*: ПВн. Мн. 3 ас. *зіяюць*: БН, 92.

**[ЗЛАБЕСНЫ]** *прым.* Жудасны. *Толькі вецер развее пер'е злавесных і крывавых груганаў.* ВГ.

Мн. Р. *злавесных*: ВГ.

**ЗЛАВІЦЬ** (3) *зак. Разм.* Знайсці. [Мікіта]: *Думаю, што мне ўдасца злавіць, медждy протчым, якога немца і ўсучыць яму ягоныя маркі.* Т, 34. [Мікіта]: *А дзе тут таго немца зловіш, калі – па чутках – амаль не ўсе ўжо з гораду вышлі.* Там жа.

◊**Злавіць на вуду** – падмануць, ашукаць. *Думаў* [пан Кавалюк], *вёску з хамскім людам На такую злаўлю вуду, Дый газетка чуць жывая Толькі сам яе чытаю.* ЛПК.

Інф. *злавіць*: Т, 34. Абв. буд. адз. 1 ас. *злаўлю*: ЛПК. 2 ас. *зловіш*: Т, 34.

**[ЗЛАДЗЕЙСТВА]** *н. Разм. Тое, што* злачынства. *Няхай-жа ў зямлі вам* [трацкістам-дыверсантам] *Не будзе спагады За ваша зладзейства, За вашыя здрады.* МПв, 219.

Адз. В. *зладзейства*: МПв, 219.

**ЗЛАДЗІЎШЫ** *дзеепрысл. да* зладзіць. *перан.* Наладзіўшы. *Сярод разьюшаных сатрапаў Паганы зладзіўшы хаўрус, Свае таргуюць і чужыя Табой, няшчасны беларус.* РС, 39.

**[ЗЛАДЗЮГА]** *м. Разм., пагардл. Тое, што* злодзей у 1 *знач. Пятакоў і Радэк, Троцкі – ўся арава – Хлёбалі, зладзюгі, З адной міскі страву.* МПв, 218.

Мн. Н. *зладзюгі*: МПв, 218.

**ЗЛАЖЫЎШЫ** *дзеепрысл.*: ◊**Сядзець злажыўшы рукі** *гл.* сядзець. БН.

**ЗЛАЖЫЦЬ** (9) *зак.* **1.** Скласці. *Спі, пясняр наш родны! Ты жыццё прыгожыў, Аб табе таксама Народ песні зложа.* ПСС, 232. *Дзяўчына, кветкамі абсып курган вялікі, А песню вечную злажы, пясняр-паэт.* СК, 158.

**2.** Пахаваць. *Дубовай кованай лапатай Глыбокі выкапалі дол, Злажылі брата ці ня брата Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.* УрП, 52.

**3.** Зрабіць, нанесці. [Дама]: *І лічылі сваім абавязкам, мусье рэгістратар, злажыць вам першаму сваю першую па прыездзе сюды візыту.* Т, 51.

◊**Злажыць косці** – загінуць, памерці. *Не будзе, не будзе тады Вайны, калатні між людзей; Дзяўчына, юнак малады Не зложаць без часу касцей.* ТП, 216.

Інф. *злажыць*: Т, 51. Абв. пр. адз. м. *злажыў*: ВБЛ, 81. Мн. *злажылі*: УрП, 52. Буд. адз. 3 ас. *зложа*: ПСС, 232; *зложэ*: Дз, 192. Мн. 1 ас. *зложым* (2): ПТ, 206(2). 3 ас. *зложаць*: ТП, 216. Заг. адз. 2 ас. *злажы*: СК, 158.

**[ЗЛАЗІЦЬ]** *незак.* Спускацца адкуль-н. – *Куды йдзеш ты, мая бабка, – Кажа ўнук бабулі, – То сядзіць, не злазіць з печкі, Цяпер, во, на гулі.* Вб, 237.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *злазіць*: Вб, 237.

**[ЗЛАМАЦЬ]** *зак. перан.* Знішчыць. *Паўстала радзіма, замок Няволі зламала навек..* ТП, 214.

Абв. пр. адз. ж. *зламала*: ТП, 214.

**[ЗЛАСЛІВЫ]** *прым.* Поўны злосці, варожасці. [Мікіта]: *..мяне заслівыя гутаркі зайздросных людзей мала абходзяць.* Т, 36.

Мн. Н. *заслівыя*: Т, 36.

**[ЗЛАТАВУСТЫ]** *прым. Уст.* Красамоўны. *..чакаюць* [старыя багі] *на новых старцаў мудрых, на вешчуноў-прарокаў златавустых.* Кз, 17.

Мн. В. *златавустых*: Кз, 17.

**[ЗЛАЧЫНСТВА]** (3) *н.* Небяспечнае дзеянне, якое парушае закон і падлягае крымінальнай адказнасці. *Зямельная спекуляцыя небяспечна цяпер для ўсіх – ..а навет і для тых, што могуць спыніць гэта злачынства.* ЗС, 18. *..ня раз ужо беларускія*

*палітычныя кругі прасілі уладу зрабіць патрэбныя крокі, каб прыпыніць злачынствы проці яе-ж уласных законаў..* ОШМ. *Параўн.* зладзейства.

Адз. В. *злачынства*: ЗС, 18. Мн. В. *злачынствы*: ОШМ. М. *злачынствах*: МП.

**[ЗЛАЧЫНЕЦ]** *м.* Той, хто зрабіў злачынства. *Прыехаўшы ў Беларусь Савецкую я* [Купала] *раскажу .. большэвіцкую праўду аб гэтым гераічным будаўніцтве, якое свечыць аб неперамножнай хадзе соцыялістычнага ладу, соцыялістычнай перакоўцы людзей – былога злачынца ў сумленнага савецкага грамадзяніна.* ЦСБ.

Адз. В. *злачынца*: ЦСБ.

**ЗЛЕВА** (3) *прысл.* З левага боку. *У кутку злева вялікае люстра (трумо).* Т, 19. *Чуваць злева званок.* Там жа, 24. Т, 31.

**[ЗЛІТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* зліць. Заліты, абліты. *Закалосіцца поле, сьлязою, потам злітае, Зашуміць сваю думу старую.* ТС, 74.

Адз. н. Т. *злітае*: ТС, 74.

**[ЗЛІЧЫЦЬ]** (2) *зак.* Пералічыць, палічыць. *Людзі чужые! Хтось калісь злічэ Вашу нам шкоду: Злічэ праступкі... к суду паклічэ Крыўда народу.* Чж, 147 (2).

Абв. буд. адз. 3 ас. *злічэ* (2): Чж, 147(2).

**[ЗЛО]** (3) *н.* Усё нядобрае, шкоднае, благое. *Зірнеце* [богі] *міласьцяй сваею, Усе моцы вышлеце на бой, Хай распапеляць зла навею Над упадаўшай старaной.* УрП, 48. [Поп]: *Мої облачэнія зашчытой мне от всякіх зол земных.* Т, 52.

◊**На зло каму-н.** – так, каб даняць каго-н. [Мікіта]: *На зло ім* [зайздросным людзям], *незадоўга пераходжу яшчэ на адну свабодную профэсію.* Т, 36.

Адз. Р. *зла*: УрП, 48. В. *зло*: Т, 36. Мн. Р. *зол*: Т, 52.

**ЗЛОДЗЕЙ** (2) *м.* **1.** Той, хто крадзе. *У параўн. ..Дома дрэме* [трэці сын], *сціскаецца стульна, як злодзей; Б'е падданчы паклон за парогам.* Ч, 321.

**2.** Лаянкавае, слова. [Маці:] *..Высыпаў* [паніч] *ягады, збіў, клікнуў варту, Хустачку здзер мне і кофтачку злодзей.* Мц, 75. *Параўн.* зладзюга.

Адз. Н. *злодзей* (2): Мц, 75; Ч, 321.

**[ЗЛОМ]** *м. Польск.* Абломак. *Як двурог-маладзік, маладзеў* [другі брат] *сярод зломаў, Вызіраў непакорай, пакорай..* Ч, 324.

Мн. Р. *зломаў*: Ч, 324.

**ЗЛОСНА** *прысл.* Гнеўна, сярдзіта. *Гэй, не дзівуйся, мой дружа, нядбалы, Што я* [Нёман] *сягоння так злосна шумлю..* Н.

**[ЗЛОСЦЬ]** (3) *ж.* Пачуццё гневу, раздражнення. *І панскі двор, і царскі трон... Ды стала ўсё вам гэта ў злосць...* ПВ. *Гэтыя*

*ваенныя няўдачы прывялі бальшавікоў у дзікую злосьць.* СНБ, 340.

◊**Як на злосьць** – не к месцу. *Уся ўсюдах знойдзецца, Дзе готы ёсць, Нават над рэчкаю, Есць, як на злосць.* $Ш_5$.

Адз. В. *злосць* (3): ПВ; СНБ, 340; $Ш_5$.

**[ЗЛОТЫ]** *м.* Грашовая адзінка ў Польшчы. *Гэта раз'юшаная антысовецкая брахня, падагрэтая злотымі і маркамі польска-нямецкай дыфензывы, разаб'ецца, як аб недаступную скалу..* ШБСЯ.

Мн. Т. *злотымі*: ШБСЯ.

**[ЗЛУЧАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* злучыць. *Хай-жа наша шчырая беларуская інтэлігенцыя, ..злучаная сьвятою думкай адбудаваньня Беларускай Дзяржавы, хай яна скажа сваё жалезнае слова.* З.

Адз. ж. Н. *злучаная*: З.

**[ЗЛУЧНАСЦЬ]** *ж.* Аб'яднанне. *..гэта часопісь* [“Наша Каляіна”] *з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці “Кветка Папараці”..* МІ, 17.

Адз. Р. *злучнасці*: МІ, 17.

**ЗЛУЧЫЦЬ** *зак.* Аб'яднаць. *Уставіць зносіны ў сувязі з чым-небудзь. Социяльная рэволюцыя .. стараецца.. злучыць пад чырвоным знамем усе народы усяго сьвету.* СНБ.

Інф. *злучыць*: СНБ.

**[ЗЛЫ]** (2) *прым.* **1.** Каварны. *А быў-жа туман той густы, Была-ж доля – злая змяя!* ТП, 214.

**2.** *У знач. наз. Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне, Весна ўжо на сьвеце, – Хрыстос уваскрос!* В.

Адз. ж. Н. *злая*: ТП, 214. н. Н. *злое*: В.

**[ЗЛЫБЕДНЫ]** *прым. Разм.* Ліхі. *Дом чужы таму будзе астрогам; Хто паклоны біць стаў збоку злыбедным ветрам..* Ч, 323.

Мн. Д. *злыбедным*: Ч, 323.

**[ЗЛЫБЯДА]** (2) *ж. Разм.* Бяда, ліха. *Годзе нам есьці аб'едкі і косьці, Злыбядзе ўсякай паклоны дарыць!* Г, 17. *І пайшлі яны* [жаўнеры] *паходам, Дружна смела пайшлі, Каб вон злыбяду прагнаці З беларускай зямлі.* ПСД. *Параўн.* злыбядуха.

Адз. Д. *злыбядзе*: Г, 17. В. *злыбяду*: ПСД.

**[ЗЛЫБЯДУХА]** *ж. Разм. Тое, што* злыбяда. *Пара, пара ўжо агарнуцца І гартам высталіць свой дух, Пакуль здрадліва пранясуцца Званы заломных злыбядух!* УрП, 49.

Мн. Р. *злыбядух*: УрП, 49.

**[ЗЛЫДЗЕНЬ]** (3) *м. Разм.* Ліхадзей. *..Дзеці чужацкія корме ўжо дочка, Маці працуе на злыдню свайго.* Н. *Хай калом магіла Для вас, злыдні, будзе, Каб гэтай магілы Цураліся людзі!* МПв, 220.

Адз. В. *злыдзеня*: СА, 181; *злыдню*: Н. Мн. Н. *злыдні*: МПв, 220.

**ЗМАГАННЕ** (7) і **ЗМАГАНЬНЕ** (10) *н.* **1.** *Дзеянне па дзеяслову* змагацца ў 1 *знач. Яшчэ далятае да нас грознае і жуткае водгулле крывавага змагання на беларускім полі паміж нашымі суседзямі – палякамі і маскалямі..* ЗС, 17. *З далёку і з блізку далетаюць да нас і добрые і благіе весткі аб вялікіх бітвах, аб змаганьнях мільёноў ваяк.* РКр.

**2.** *Дзеянне па дзеяслову* змагацца ў 2 *знач. Станем к змаганьню мы з ведзьмаю-крыўдай Дружна, адважна, плячо у плячо..* Г, 17.

**3.** *Дзеянне па дзеяслову* змагацца ў 3 *знач. Трудны і цярністы шлях прыйшлося прайсці нам, беларусам, за гэты час змагання за лепшую долю, за лепшую славу для свае Бацькаўшчыны!* ПЛП. *Вайна і рэвалюцыя выкінула .. два ня згодные з сабой – як агонь і вада, – кірункі ў змаганьні за культурна-палітычные правы народаў і дзяржаваў.* СНБ.

Адз. Н. *змаганьне*: ВС; *змаганне*: ПЛП. Р. *змаганьня* (3): АЛ; СНБ (2), *змагання* (3): ЗК, 43; ЗС, 17; ПЛП. Д. *змаганьню*: Г, 17. В. *змаганне*: Т, 35. М. *змаганьні* (3): СНБ (3). Мн. Н. *змаганні*: Т, 52. Р. *змаганьняў*: УПУВ; *змаганняў*: СНБ, 337. М. *змаганьнях*: РКр.

**ЗМАГАЦЦА** (25) *незак.* **1.** Ваяваць са зброяй у руках. *Гэтыя арміі ўжо змагаюцца стойка і з верай у лепшую будучыну.* БВ, 16. *Нашы бясстрашныя байцы-пагранічнікі .. змагаюцца не пераходзячы на тэрыторыю ворага, мужна адстойваюць кожную пядзь свяшчэннай зямлі.* ВГ. // Спаборнічаць у чым-н. *Дзьве, сказаў-бы непамерные сілы змагаюцца цяпер паміж сабой за панаваньне над народнымі ідэяламі на ўсім сьвеце..* СНБ.

**2.** Супраціўляцца чаму-н, імкнуцца перамагчы або знішчыць што-н. *Ах, як страшна мне гэта бяссонная ноч! Сколькі мукі, цярпеньня прыносіць з собой! Я змагаюся з ёй, ад сябе проч, Дый самлела ўпадаю з сваёй барацьбой.* БН, 91. *Абедзьве газэты, як маглі, змагаліся з "Нашай Нівай" і наогул – з беларускім рухам.* У.

**3.** Адстойваць, абараняць што-н. *..соцыяльная і нацыянальная рэволюцыя мае сваіх прыхільнікаў, якія змагаюцца шчыра за свае ідэалы.* СНБ. *Слабейшыя народы .. змагаюцца толькі за тое, каб жыць, каб адстаяць сваю незалежнасць..* Там жа.

**Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна.**

Інф. *змагацца* (5): ДЖ (2); ЁЯ; ПЛП; ПН, 47. Абв. цяп. адз. 1 ас. *змагаюся*: БН, 91. 3 ас. *змагаецца* (5): БВ, 16; ВМР; СНБ (2); Т, 35. Мн. 1 ас. *змагаемся*: Т, 35. 3 ас. *змагаюцца* (6): БВ, 16; ВГ; СНБ (3); Т, 35. Пр. мн. *змагаліся* (5): ПЛП; РКП; СНБ, 338; Т, 35; У. Заг. адз. 2 ас. *змагайся*: ПЛП. Мн. 2 ас. *змагайцеся*: РКП.

**ЗМАГАЦЬ** (2) *незак.* **1.** Адольваць. *Не знали* [людзі] *змагаць грамадою прашкод І Бога хваліць грамадою..* ПН, 46.

**2.** Знясільваць. *Людзі чужыя змагаюць мне* [Нёману] *грудзі З новым парадкам, з адменным жыццём..* Н.

Інф. *змагаць*: ПН, 46. Абв. цяп. мн. 3 ас. *змагаюць*: Н.

**ЗМАГАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл. да* змагацца ў 3 *знач. ..калісь амэрыканцы, змагаючыся з Англіяй за сваю незалежнасць, напісалі на сваім сцягу несмяротныя словы: “Амэрыка для амэрыканцаў”.* Т, 35.

**[ЗМАГЧЫ]**[1] (12) *зак.* Здолець зрабіць што-н. *Нават рэвалюцыя 1905 году не змагла адваяваць калі не нацыянальнага беларускага войска, то хоць бы тое, каб беларус адбываў вайсковую павіннасць у Беларусі.* БВ, 16. *Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ. // Атрымаць магчымасць зрабіць што-н. *Спужаўся* [жандар]*, што хлапчук у лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог?..* АПЖ. *Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай..* НДН, 18.

Абв. пр. адз. м. *змог* (2): АПЖ. Н. ж. *змагла*: БВ, 16. Мн. *змаглі* (3): БВ, 16; ВСп, 91; ПГ. Буд. адз. 1 ас. *змагу* (2): Т, 52; СЧ. 3 ас. *зможа*: СК, 158; *зможэ*: ВН. Мн. 1 ас. *зможам*: БСУ. 3 ас. *змогуць* (2): АЛ; НДН, 18.

**[ЗМАГЧЫ]**[2] *зак. да* змагаць у 2 *знач. К таму часу памерлі бацька, малодшы брат і дзве меншыя сястры. Гэта мяне* [Купалу] *страшэнна змагло.* А, 328.

Абв. пр. адз. н. *змагло*: А, 328.

**ЗМАЛКУ** (3) *прысл. Разм.* З маленства. *У якой мове трэба вучыць дзяцей рэлігіі? ..кожын .. павінен атказаць і ў роднай мове вучнёў – тэй гутаркай, якую яны змалку чуюць у бацькавай хаце.* ВР. [Мікіта]: *Кажа* [Спічыні]*, што ён толькі спэц адбеларушчваць, а да абеларушчвання яго яшчэ змалку адвярнула.* Там жа, 56.

◊**Змалку дзён** *гл.* дзень**.**

**[ЗМАЛОЦЬ]** *зак.:* ◊**Змалоць на порах** – знішчыць. *З ім* [камсамольцам] *не жарты, з ім не гулі, – Сцеражыся подлы вораг! Яго метка цэліць куля, – Змеле злыдзеня на порах.* СА, 181.

Абв. буд. адз. 3 ас. *змеле*: СА, 181.

**[ЗМАНІВАЦЬ]** *незак. Разм.* Вербаваць. *Ён* [расійскі ўрад] *беларусаў-хлебаробаў зманіваў за Урал, у Сібір, у Туркестан, а то і ў Амерыку.* ЗС, 18.

Абв. пр. адз. м. *зманіваў*: ЗС, 18.

**[ЗМАРНАВАЦЬ]** *зак. перан.* Выкурыць. [Янка]: *Пэўна люлек з тузін змарнаваў* [Гарошка] *за гэты час.* Т, 44.

Абв. пр. адз. м. *змарнаваў*: Т, 44.

**ЗМАРНЕЛЫ** *прым.* Змучаны. *А ты, змарнелы чалавек, Нікчэмны пасынак былога, Сваю пушчаеш песню ў здзек, Чужою славіш нават Бога!* БрБ, 6.

Адз. м. Н. *змарнелы*: БрБ, 6.

**ЗМАРЫЎШЫСЯ** *дзеепрысл. да* змарыцца. Станміўшыся. [Унук:] *Неяк прыгнаў я, змарыўшыся, з поля Іхнія, панскія, з поля авечкі..* Ун, 73.

**[ЗМАХНУЦЬ]** *зак.* Сцерці. *Так паехаў сын Даніла Сам сабою на вайну, Азірнуўся на хаціну Ды змахнуў слязіну.* ПСД.

Абв. пр. адз. м. *змахнуў*: ПСД.

**ЗМЕЙ** (2) і **ЗЬМЕЙ** (2) *м.* **1.** *Разм.* Змяя. *У параўн. Другая – трэцяя Уецца, як змей, Часам здараецца Ходзюць па ей.* $Ш_5$.

**2.** *перан.* Злы, каварны чалавек. [Судзьбіна:] *Схову новую ладзь, больш твае скуль прыпасы-б Не валок зводны зьмей і начніцы..* Ч, 323. *Сотні лет песьцім днямі і ночай Госьця на шыі Змея, што з пуняў скарбы валочэ, Скарбы чужые.* Чж, 147.

Адз. Н. *змей* (2): ЗК; $Ш_5$; *зьмей*: Ч, 323. В. *змея*: Чж, 147.

**ЗМЕНА** (2) і **ЗЬМЕНА (4)** *ж.* **1.** *Дзеянне па дзеяслову* змяніць у 2 *знач. На Беларусь ідзеш, Год Новы, На змену йдзеш Старому Году..* НГд, 8. // Перамена. *..беларушчына нясе новые парадкі і зьмену усяго таго, з чым ён* [абываталь] *зжыўся..* ВМР. *Дні за днямі, гады за гадамі йдуць важна, Йдуць суважна за зьменамі зьмены.* Ч, 323.

**2.** *перан.* Маладое пакаленне. *Гэй, ты, моладзь, наша змена, Комсамольцы, комсамолкі, Як-жа светла, як адменна свеціш колерам вясёлкі!* СА, 178.

Адз. Н. *змена*: СА, 178. В. *зьмену*: ВМР; *змену*: НГд, 8. Мн. Н. *зьмены*: Ч, 323. Р. *зьмен*: Кц, 196. Т. *зьменамі*: Ч, 323.

**[ЗМЕНЕНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* змяніць. у 1 *знач.* [Янка]: *Але і пры зменевых сытуацыях каб вы* [Мікіта] *толькі з сваім асэсарствам і з гэтай мамзэляй не вылецелі ў трубу.* Т, 23.

Мн. М. *зменевых*: Т, 23.

**[ЗМЕРАЦЬ]** і **[ЗЬМЕРЫЦЬ]** *зак.* **1.** Вызначыць велічыню чаго-н. [Матка:] *Ніў маіх ніхто-б ня зьмерыў, Ні зьлячыў сялібаў..* Дз, 188.

**2.** Агледзець з галавы да ног. *Грамадзянін іранічна і падазрона змераў яго* [Мікіту] *вачыма ды пайшоў.* Т, 34.

Абв. пр. адз. м. *змераў*: Т, 34; *зьмерыў*: Дз, 188.

**[ЗМЕСТ]** (2) і **ЗЬМЕСТ** (5) *м.* **1.** Тэма (кнігі). *Усяго дванаццаць назваў васьмёх розных аўтараў і рознага зьместу.* ВСп, 89. *Дзеля ясьнейшага ўразуменьня пастараемся падабраць кнігі па дадзенаму сьпісу згодна з іх зьместам.* Там жа.

**2.** Сэнс, сутнасць чаго-н. *Няхай жыве культура, зьмест і форма якое выпісаны на ленінскім сьцягу найвялікшым сучасным правадыром пролетарыяту т. Сталіным...* АЛ. *Хай жыве песня нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу.* ЖН.

Адз. Н. *зьмест:* АЛ. Р. *зьместу* (2): ВСп, 89, 91; *зместу:* ПЧ. Т. *зьместам*: ВСп, 89. М. *зьмесце:* АЛ; *зместу* (2): ЖН; ШБСЯ.

**ЗМЕСЦІ** (5) і [**ЗЬМЕСЬЦІ**] *зак.* **1.** *Зак. да* зьмятаць. *Гнеў пролетарскі мог і зможа змесці З зямлі ўсіх падкалодных яшчарыц, гадзюк..* СК, 158. *Тваіх, правадыр мой, законаў асновы, Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы Змятуць асляпленне, пакрышаць аковы..* ТП, 216.

**2.** *перан.* Звергнуць. *.. рэволюцыя зьмяла у сваім ходзе цара..* БС.

◊**Змесці з вобліку зямлі** – знішчыць. *..гарматнія стрэлы змялі з вобліку зямлі хаты; зніштожылі межы і гранічныя слупы.* АБ, 16.

Інф. *змесці*: СК, 158. Абв. пр. адз. ж. *зьмяла*: БС. Мн. *змялі*: АБ, 16. Буд. мн. 1 ас. *змяцём*: ХЛВ, 316. 3 ас. *змятуць*: ТП, 216. Заг. адз. 2 ас. *змяці*: Пт.

**[ЗМЕШАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* змяшаць.: ◊**З балотам змешаны** – зняслаўлены, зганьбаваны. *Мальбішчам чужым бье пакора паклоны; Упадку вялічыцца сьцяг; З балотам змешаны старые законы, Наладжэн нявольнічы шлях.* ЗК, 42.

Кар. мн. Н. *змешаны*: ЗК, 42.

**ЗМЕШЧАНЫ** (2) і **ЗЬМЕШЧАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* змясціць. Апублікаваны. *Верш, змешчаны ў зборніку, мной* [Купалам] *выпраўлены.* СЧ. *Малюнак дзіўны змешчан быў ў газетах, Малюнак, што ў жывых ў памяці жыве.* СК, 158.

Адз. м. Н. *змешчаны*: СЧ; *зьмешчаны*: ВСп, 89. Кар. адз. м. Н. *змешчан*: СК, 158.

**[ЗМІКІЦІЦЬ]** (2) *зак. Разм.* Зняславіць. [Ганулця]: *Мае паночкі, мае галубочкі! Хаця не змікіцьце майго Мікіткі. Хаця не змікіцьце!* Т, 62.

Заг. мн. 2 ас. *змікіцьце* (2): Т, 62(2).

**[ЗМОГА]** *ж. Польск.* Магчымасць. [Спічыні]: *..папасці ўсюды ў свой час няма аніякай змогі.* Т, 40.

Адз. Р. *змогі*: Т, 40.

**[ЗМОЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* змагчы. Адолены. *Сцены і запоры Палачан, мянчан Леглі у разоры Зможаных палян.* МД, 117.

Мн. Р. *зможаных*: МД, 117.

**ЗМОРА** (4) *ж. Польск.* Зморанасць, бяссілле. *Цень пры цені, пад ценьмі той крыж у крыві. Чорны крыж, як-бы змора лунае ў высі..*

БН, 93. [Судзьбіна:] *Бачыш* [першы брат] *зоры, сонца вясёлае бачыш? З імі рвіся ўсім сэрцам зраўняцца, А як сьлед свой зарнічным сьвятлом абазначыш, – За табой кінуць зморы ганяцца.* Ч, 323.

Адз. Н. *змора* (3): БН, 93(2), ЗК, 43. Мн. Н. *зморы*: Ч, 323.

**[ЗМОЎЧЫЦЬ]** і **[ЗМОЎЧАЦЬ]** *зак. Разм.* Прамаўчаць. *Я змоўчаў, забраў газэты і папёрся пісаць.* Ан, 19. *Так гаварыў прыблуднік ночы, Народ і слухаў і маўчаў, Але як скончыў, люд ня змоўчыў: Разгаманіўся, закрычаў..* УрП, 52.

Абв. пр. адз. м. *змоўчыў*: УрП, 52; *змоўчаў*: Ан, 19.

**[ЗМУСІЦЬ]** *зак.* Вымусіць, прымусіць. [Спічыні]: *Даруйце, мусье Зносілов, што змусіў вас крыху на сябе чакаць.* Т, 40.

Абв. пр. адз. м. *змусіў*: Т, 40.

**[ЗМУЧАНЫ]** (4) *дзеепрым. зал. пр. да* змучыць. Знясілены. *Праміне віхор, патухнуць пажары, замрэ свіст меча, настане светлы радасны дзень змучанага аграбленага нашага народу.* ПЛП. *Гэта дэмократычная камэдыя .. чыніцца на жывым, змучаным, абяздоленым народам..* ДК.

Адз. м. Р. *змучанага*: ПЛП. Т. *змучаным*: ДК. ж. М. *змучанай*: Ж. Мн. Н. *змучаныя*: ЗС, 18.

**ЗМУШАНЫ** (5) *дзеепрым. зал. пр. да* змусіць. Вымушаны, прымушаны. *І вось рэвалюцыйны, дабальшавіцкі ўрад у Расіі змушаны быў пазволіць фармаванне нацыянальных войск.* БВ, 16. *А народ твой* [Беларушчыны] *быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.* Б, 18.

Адз. м. Н. *змушаны* (3): БВ, 16; Т, 37, 46. Кар. адз. м. Н. *змушаны*: Б, 18. Мн. Н. *змушаны*: СНБ.

**[ЗМЫЦЬ]** *зак. перан.* Знішчыць. *..закалышацца беларускае моро і змые сваімі бурлівымі водамі з свайго уладарства усе забабоны..* З.

Абв. буд. адз. 3 ас. *змые*: З.

**[ЗМЯІНЫ]** (2) і **[ЗЬМЯІНЫ]** *прым. перан.* Каварны. *Аплятае* [забабон] *зьмяіным ланцугом і душы і сэрцы людзкіе.* З. *Раз'юшаная царская рэакцыя здабытыя рабочым народам свабоды што раз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі.* ДЖ.

Адз. м. Т. *зьмяіным* : З. Мн. В. *змяіныя*: НКУС. Т. *змяінымі*: ДЖ.

**[ЗМЯНІЦЦА]** (7) і **[ЗЬМЯНІЦЦА]** (2) **1.** *зак.* Стаць іншым; перамяніцца. *Усё змянілася. Змяніліся варункі жыцця, змянілася праўда людская.* Тж.

**2.** Замяніцца чым-н. *Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцяй ад Масквы..* Нз, 14. *І шкода зрабілася думцэ людзей. Спусцілася з высі нябеснай. І ў душах пакорных зямелькі дзяцей Зьмянілася вольнаю песьняй.* ПН, 47.

Абв. пр. адз. ж. *змянілася* (2): Т, 44; Тж, 15; *зьмянілася* (2): ПН,

47; СНБ. н. *змянілася* (3): Нз, 14 (2); Тж, 15. Мн. *змяніліся* (2): ПБН; ТЖ, 15. Буд. мн. 3 ас. *зменяцца*: Т, 23.

**ЗМЯНІЦЬ** (4) *зак.* **1.** Перамяніць. [Мікіта]: *Усё гэта вымагае тое-сёе змяніць і ў хатніх абставінах..* Т, 40. *..справы тваіх* [правадыра] *дум адна за адною Так зменяць удала мне вёснамі зімы.* ТП, 215.

**2.** З'явіцца на месцы чаго-н. *Эй, гуляйце, чорнасотники, На благое ўсё ахвотники: Ня век сеяци вам цьму, Весна змениць нам зиму!* ВЧ.

Інф. *змяніць* (2): Т, 48, 50. Абв. буд. адз. 3 ас. *зменить*: ВЧ. Мн. 3 ас. *зменяць*: ТП, 215.

**[ЗМЯНЛІВЫ]** *прым. Польск.* Пераменны. *Смела гляне* [гаспадар] *на свет і на долю змянлівую, Як дагэтуль, яму не дадуцца ўжо ў знакі Тыя сілы з усходу і захаду лісцівыя, Што даймаюць цяпер, як вужакі.* ТС, 74.

Адз. ж. В. *змянлівую*: ТС, 74.

**ЗМЯРЦВЕЛЫ** *прым. перан.* Бяздзейны. *Ой, чалавеча, змярцвелы у сне! ..Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?..* Н.

Адз. м. Н. *змярцвелы*: Н.

**[ЗМЯСТОЎНАСЦЬ]** *ж.* Унутраны змест. *Людзі, якія стварылі Дом Чырвонай Арміі, змаглі гарманічна спалучыць высокую змястоўнасць будучай работы дома з мастацкім густам.* ПГ.

Адз. В. *змястоўнасць*: ПГ.

**ЗМЯСЦІЎШЫ** *дзеепрысл. да* зьмясьціць. *Я сам, змясціўшы яго ў зборніку, не прыдаўшы гэтаму палітычнага значэння.* СЧ.

**[ЗМЯШАЦЬ]** (2) *зак.:* ◊**Змяшаць з гразёй** – засмеціць. [Янка]: *Маем поле і лес, горы і даліны, рэчкі І вазёры, нават мора мелі – называлася Пінскае, – але акупанты змяшалі яго з гразёй, дык засталося толькі Пінскае балота.* Т, 47. **На кашу з зямлёй змяшаць** – змясіць, пашкодзіць. [Гарошка]: *Рванулі* [казакі] *ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ.. На капусту людзей зрэзалі і на кашу з зямлёй змяшалі.* Т, 43.

Абв. пр. мн. *змяшалі* (2): Т, 43, 47.

**ЗМЯЯ** і **ЗЬМЯЯ** *ж.* Ядавіты паўзун. *У параўн. Здань за зданьню паўзе; Кожна здань – як зьмяя Тая прэцца уверх, тая цісьнецца к дну.* БН, 92. // *Вобразн. А быў-жа туман той густы, Была-ж доля – злая змяя!* ТП, 214.

Адз. Н. *змяя*: ТП, 214; *зьмяя*: БН, 92.

**[ЗНАДВОРНЫ]** *прым.* Вонкавы, знешні. [Мікіта]: *А я папрашу пардону ў гасцей і на хвіліну; адлучуся змяніць свой знадворны выгляд..* Т, 50.

Адз. м. В. *знадворны*: Т, 50.

**[ЗНАЁМІЦЦА]** *незак.* Атрымліваць звесткі аб чым-н. *Мы* [дэлегаты] *з цікавасцю знаёміліся з краінай.* ПЧ.

Абв. пр. мн. *знаёміліся*: ПЧ.

**ЗНАЁМСТВА** (5) *н.* **1.** Адносіны паміж людзьмі. *Гэта наша* [дэлегатаў] *знаёмства з культурнымі дзеячамі Чэхаславакіі з'яўляецца пачаткам цеснай і культурнай сувязі абодвух краін.* ПЧ. [Мікіта]: *На ўсе бакі вядзе* [Наста] *шырокае знаёмства.* Т, 23.

**2.** Азнаямленне з чым-н. [Янка]: *На такім знаёмстве з нашай літаратурай далёка, пане рэгістратар, не заедзеце.* Т, 56.

◊**З першага знаёмства** – адразу, пры першай сустрэчы. [Мікіта]: *(падазрона ўзіраючыся на Начальніка). Я надта рад з гэткага ..першага знаёмства.* Т, 60.

Адз. Н. *знаёмства* (2): ПЧ; Т, 23. Р. *знаёмства*: Т, 60. В. *знаёмства*: Т, 23. М. *знаёмстве*: Т, 56.

**ЗНАЁМЫ** (15) *прым.* **1.** Вядомы. *Прымерам такога здзеку .. можа служыць, добра ўсім нам знаёмая, царская Расея.* НДН, 18.

**2.** Які зведаў што-н., мае пазнанні ў чым-н. *Нашыя маладыя наіўныя паэты, знаёмыя з сваім родным краем з благіх расейскіх школьных кніг, вельмі часта ў вершах гавораць пра беднасьць, пра "гразь, балота і пясок" у Беларусі.* ХБ, 27. [Мікіта]: *Я не зусім такі ўжо не свядомы меджду протчым, беларус – нават з вашай літаратурай, знаёмы.* Т, 56.

**3.** Які знаходзіцца з кім-н. у знаёмстве. [Мікіта]: *Калі вашай чырвонай міласці падабаецца, то мы знаёмы; самдзеле знаёмы.* Т, 60.

**4.** *У знач. наз. Аўтары тут – нашы старыя знаёмыя: Багушэвіч Францішак, Бядуля Змітрок, .. Чарот Міхась.* ВСп, 89. [Мікіта]: *(да гасцей, як увайшлі вучоныя). Гэты адны з маіх добрых знаёмых..* Т, 26.

Адз. м. Н. *знаёмы* (4): Т, 45(2); 56, 58. Р. *знаёмага*: Т, 23. ж. Н. *знаёмая* (2): НДН, 18; $Ш_3$. Мн. Н. *знаёмыя* (3): ВСп, 89; Т, 61; ХБ, 27. Р. *знаёмых* (2): Т, 28, 57. Кар. мн. Н. *знаёмы* (3): Т, 60(3).

**[ЗНАЙСЦІ]** (12) *зак.* **1.** *Зак. да* знаходзіць у 1 *знач. Каб таму крукамі Пакрыўляла ногі І да роднай хаты Не знайшоў дарогі, – Хто крыўляў нам праўду..* К. // Падабраць. *Нашым Молатаў славуты Дэпутатам будзе, Бо дзе лепшага мы знойдзем, – Падумайце, людзі!* НК. // Прыдумаць. [Мікіта]: *Не бядуйце, меджду протчым, мамаша, – я заўсёды знайду выхад з найгоршага крытычнага становішча.* Т, 34. // Купіць. [Гануля]: *(даючы грошы). .. толькі, можа, чаго з яды знойдзеш* [Мікіта]. Т, 56. *Параўн* найці.

**2.** *Зак. да* знаходзіць у 2 *знач. ..ў школьных прадметах вы не знойдзеце гуманітарных навук.* ПЧ. *Хай-жэ дома знойдуць* [браты і сыны] *ўсё ў парадку – неапушчэную хату, хлеб на стале.* РКр.

**3.** *Зак. да* знаходзіць у 3 *знач. ..На беларускім полі вашы*

[жыдоў] *грудзі Навек знайшлі днянваньне, страву і начлег.* Ж. *І гэты налог, асնованы на справядлівасьці, знойдзе мейсцэ у Расейскім гасударстве.* ВН.

Абв. пр. адз. м. *знайшоў*: К. Мн. *знайшлі*: Ж. Буд. адз. 1 ас. *знайду*: Т, 34. 2 ас. *знойдзеш* (3): ЗЯЗ, 90; СП; Т, 56. 3 ас. *знойдзе* (2): ВН; $Ш_4$. Мн. 1 ас. *знойдзем* (2): БЗ; НК. 2 ас. *знойдзеце*: ПЧ. 3 ас. *знойдуць*: РКр.

**[ЗНАЙСЦІСЯ]** (3) *зак. да* знаходзіцца. Выявіцца. *Бо ці ж знойдзецца на свеце болей дэмократычны па сваёй прыродзе і ўжыўчывы народ, як народ беларускі?* НДН, 19. [Мікіта]: *..мамаша, ці там не знойдзецца чаго пайковага закусіць?* Т, 51.

Абв. буд. адз. 3 ас. *знойдзецца* (3): НДН, 19; Т, 51; $Ш_5$.

**ЗНАК** (4) *м.* Прадмет, які служыць для ўказання на што-н. *З-пад сьвіткі чорнай даўгаполай Блішчэла бляха накасяк, Пры боку меч матаўся голы, На сьвітцы – нейкі страшны знак.* УрП, 51. // Сведчанне чаго-н. *– Ага! – рэдактар на тое. – Гэта добры знак.* Ан, 18.

◊**Ані знаку** – пра адсутнасць чаго-н. *Войнаў, бунтаў гул замоўк, Трупаў ані знаку.* Пц. **Дацца ў знакі** *гл.* дацца.

Адз. Н. *знак* (2): Ан, 18; УрП, 51. Р. *знаку*: Пц. Мн. В. *знакі*: ТС, 74.

**[ЗНАМЯ]** *н. Руск.* Сцяг. *Соцыяльная рэволюцыя .. стараецца .. злучыць пад чырвоным знамем усе народы усяго сьвету.* СНБ.

Адз. Т. *знамем*: СНБ.

**[ЗНАМЯНІТЫ]** (3) *прым. Руск., разм.* Славуты, агульнавядомы. [Мікіта]: *..самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы – а ля самагонка, дастаўленая мне з вінных заводаў "Піліп і К°".* Т, 28. *З далёкіх заморскіх старон .. і з другіх знамянітых гасударстваў і каралеўстваў прыязджалі па моры і па сушы багатыя госці з багатымі таварамі..* Кз, 17.

Адз. м. Р. *знамянітага*: Т, 42. ж. Р. *знамянітай*: Т, 28. Мн. Р. *знамянітых*: Кц, 17.

**[ЗНАНЬНЕ]** *н. Руск., разм.* Веды. *Хай жа гэтая думка, што мы будуем сваю Бацькаўшчыну .. павядзе нас "к свабодзе, роўнасьці і знаньню".* БСУ.

Адз. Д. *знаньню*: БСУ.

**ЗНАЎШЫ** *дзеепрысл. да* знаць. Разумеўшы. *І так жывём, сябе саміх не знаўшы, Учора, сёння лазім між канаў...* Бч, 10.

**[ЗНАХОДЗІЦЦА]** *незак.* Быць у наяўнасці. [Начальнік]: *Хто тут з вамі* [Мікітам] *яшчэ знаходзіцца?* Т, 61.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *знаходзіцца*: Т, 61.

**[ЗНАХОДЗІЦЬ]** (5) *незак.* **1.** Выяўляць, адшукваць. *Начальнік знаходзіць кошык з бутэлькамі.* Т, 60. *Патрульны робіць рэвізію, знаходзіць у кішэнях Спраўніка пагоны..* Там жа, 61.

**2.** Бачыць. *Людзі варочаюцца да сваіх хат, а не знаходзяць іх, шукаюць сваіх гоняў..* АБ, 16.

**3.** Атрымліваць, набываць. *Рад* [Купала] *таму, што песні і думы мае па меры сіл маіх і здольнасцей – знаходзяць водгук ва ўсім Совецкім Союзе..* ЖН. *Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе..* Тж, 15.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *знаходзіць* (2): Т, 60, 61. Мн. 3 ас. *знаходзяць* (2): АБ, 16; ЖН. Пр. мн. *знаходзілі*: Тж, 15.

**ЗНАЦЬ** (35) *незак.* **1.** *Тое, што* ведаць у 1 *знач. Наша трэцяя – другая Будзь нейкая такая: Знала рэчкі берагі І паганскіе багі.* $Ш_4$. *..навет калі выхадзілі* [прашчуры] *з сялібаў сваіх рыбу ў невады лавіць ці з лукам звера пушнага сачыць, то і тады замкоў не зналі..* Кз, 17. // Мець звесткі пра што-н. *Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў, Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў, – Захацелі ў судзьбіны даведацца меры, Як жыць лепей, памерці як лепей.* Ч, 322.

**2.** *Тое, што* ведаць у 2 *знач. ..Змог ён* [народ] *не толькі знаць штукі з заломам – Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.* Н. *Камандзір наш знае дзела, – Ён на ворага йдзе смела.* БЗ.

**3.** *Тое, што* ведаць у 3 *знач.* [Данілка:] *Варашылава я знаю, Сам я з ім вітаўся..* Вб, 237. *Падыйдзі, дзяўчынка, – Ці-ж мяне* [Янку] *не знаеш?* ЕЯП. // Адрозніваць ад іншых. *Колю знаю па хадзе я – Вось к вакенцу падышоў.* ВБЛ, 82.

**4.** *Тое, што* ведаць у 5 *знач. Ідзе армія ўдалая, Не знае трывогі..* ЗЯЗ, 90. *Шляхі ён* [Сталін] *да шчасця і радасці квеціць, Каб гора не зналі старыя і дзеці..* СС, 302.

**5.** *У знач. пабочн.* Значыцца, значыць, відаць. *А душа сама – без хаты, Знаць, з вялікай мукі То зрывае с сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі..* Дз, 191. *З сяўнёю сявец пахаджае, На скібіны валіцца зерне; Знаць сіла ў сяўца не малая... Захоча – і сьвет пераверне!* ПВн.

◊**Знаць смак у чым-н.** – разбірацца ў чым-н. *За тое ён* [беларус] *знае смак у гарэлцы..* УП.

Інф. *знаць* (6): Дз, 190, 191; Кр, 77; Н; УрП, 47; Ч, 322. Абв. цяп. адз. 1 ас. *знаю* (4): Вб, 237; ВБЛ, 82; ЗК, 42; ПЛ. 2 ас. *знаеш* (2): БрБ, 6; ЕЯП. 3 ас. *знае* (16): АПЖ; БЗ; ЗЯЗ, 90; НД; Пп, 5; Т, 45; УР, 215; Ун, 73; УП; Ч, 326. Мн. 3 ас. *знаюць* (2): МПв, 220; Т, 22. Пр. адз. м. *знаў* (3): ЗЯЗ, 89; Н (2). ж. *знала*: $Ш_4$. Мн. *зналі* (3): Кц, 17; ПН, 46; СС, 302. Заг. адз. 2 ас. *знай* (3): ВБ (2); ПНд, 314. Мн. 2 ас. *знайце*: НД.

**ЗНАЧНА** *прысл.* Надта, вельмі. *Значна кантрастуе з сельскай гаспадаркай чэхаславацкая прамысловасць.* ПЧ.

**[ЗНАЧАНЫ]** *дзеепрым. да* значыць. Адметны. *Як ён* [вецер]

*сьвішча і як гамоніць Ў гэты страшны, значаны год!* ВБЛ, 81.

Адз. м. В. *значаны*: ВБЛ, 81.

**ЗНАЧОК** (2) *м.* **1.** Металічная пласцінка з пэўным адбіткам. *На шапцы ў яго* [Мікіты] *вялікі значок з белым арлом – брыль абабіты бляхай..* Т, 54.

**2.** *перан.* Узнагарода. *Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую.* Нз, 14.

Адз. Н. *значок*: Т, 54. Мн. В. *значкі*: Нз, 14.

**ЗНАЧЫЦЦА** (12) *пабочн. Разм.* Такім чынам, выходзіць. [Гануля]: *Значыцца бацюшка таксама не выехаў.* Т, 58. [Аленка]: *Значыцца, вы* [Мікіта] *пастанавілі дабівацца сабе гэтай новай кар'еры?* Т, 56. АЛ; Ан, 19; Т, 23, 30, 37, 42, 45, 51, 53; Тж, 16.

**[ЗНАЧЫЦЬ]**[1] (3) *незак.* Вызначаць, указваць. *Маё мне сонца правадыр, Мне сцежкі знача безупынна.* МСП, 187. *Кліч пойдзе аб сходзе да хат, За тыя капцы, рубяжы, Дзе путы валочыць мой брат, Дзе значаць дарогу крыжы.* ТП, 217.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *знача* (2): МСП, 187; ПНд, 314. Мн. 3 ас. *значаць*: ТП, 217.

**[ЗНАЧЫЦЬ]**[2] (8) *незак.* Азначаць. *Іду я, падскаківаючы, на другі дзень, каб узяць матэрыял для чацвёртай стацці, гэта знача для чацвёртай тысячы радкоў.* Ан, 19. *Для эндэкаў нічога не знача прымер царскай Расіі..* СНБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *значыць* (5): АЛ; МП; ОШМ (2); Т, 24; *знача* (3): Ан, 19; СНБ; Т, 61.

**[ЗНАЧЭННЕ]** (5) і **[ЗНАЧЭНЬНЕ]** *н.* Важнасць, значнасць. *..дружба народаў Совецкага Саюза .. мае нават большае значэнне, чым нашы гаспадарчыя поспехі..* ЖН. *Рэформа правапіса, праведзеная пастановай СНК БССР ад 26 жніўня 1933 г., мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.* ШБСЯ.

Адз. В. *значэнне* (4): ДНСП; ЖН; СЧ, 432; ШБСЯ. Р. *значэння*: МП. М. *значэньні*: УПУВ.

**ЗНАШОЎШЫ** *дзеепрысл. да* знайсці ў 1 *знач.* *Будзе* [пойдзе другім хто гасьцінцам-дарогай] *сонца шукаці сабе, як прынады, – Даць, знашоўшы, другім не захоча.* Ч, 319.

**ЗНАЮЧЫ** (2) *дзеепрысл. Руск.* **1.** *Дзеепрысл. да* знаць у 1 *знач.* *Агні, аганькі, дзе зірнеш, – Не страшны канавы і вір... То свецяць, не знаючы меж, Паходні твае, правадыр.* ТП, 215.

**2.** *Дзеепрысл. да* знаць у 4 *знач.* *За ім* [правадыром], *не знаючы нуды, Каналам плыў-бы Беламорскім..* МСП, 187.

**[ЗНЕВАЖАННЕ]** *н. Дзеянне па дзеяслову* зневажаць у 1 *знач.* *Прымерам такога здзеку, такога зневажання дужэйшым*

*слабейшага можа служыць, добра ўсім нам знаёмая, царская Расея.* НДН, 18.

Адз. Р. *зневажання*: НДН, 18.

**[ЗНЕВАЖАЦЬ]** і **ЗЬНЕВАЖАЦЬ** *незак.* **1.** Прыніжаць, абражаць. [Люд:] *Прэч! Прэч! З сваей сьвятой павагай Прышоў* [чараўнік] *нас толькі зьневажаць.* УрП, 52.

**2.** Гвалтаваць. *Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы; На стражы пастаўлен сынок; У поўных калісьці ад шчасьця сьвятліцах Чужак зневажае дачок.* ЗК, 42.

Інф. *зьневажаць*: УрП, 52. Абв. цяп. адз. 3 ас. *зневажае*: ЗК, 42.

**ЗНЕКУЛЬ** *прысл. Разм. Тое, што* аднекуль. *Раптам Рынуўся знекуль паніч сумазбродзень, Высыпаў ягады, збіў, клікнуў варту..* Мц, 75.

**[ЗНІКАЦЬ]** *незак.* Хутка пакідаць якое-н. месца. *Хапае* [Спічыні] *шапку і знікае ў дзвярах справа.* Т, 32.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *знікае*: Т, 32.

**[ЗНІКНУЦЬ]** *зак.* Прапасці. *Не верне былога ніхто і ніколі, У прах яно пала і знікла, як дым.* ПБН.

Абв. пр. адз. н. *знікла*: ПБН.

**ЗНІКУЛЬ** *прысл. Разм.* Ні адкуль, ні скуль. *Так я* [бацька] *гібеў, а знікуль яснай весці, Горкае гора і ў будні, і ў свята..* Бц, 74.

**ЗНІМАЦЬ** (3) *незак.* **1.** Браць. *Знімае* [Мікіта] *з сцяны і надзяе пажарніцкую куртку і каску.* Т, 24.

**2.** Распранаць, вызваляць ад адзення. *Уваходзяць Госці ў парваных верхніх вопратках, якія Мікіта знімае і выносіць у другі пакой.* Т, 24. // *Разм.* Грабіць. [Мікіта]: *А далей таксама хацелі* [паны] *тое-сёе, меджду протчым, знімаць, але пачалі падыходзіць людзі, дык падзякавалі і пайшлі.* Т, 58.

Інф. *знімаць*: Т, 58. Абв. цяп. адз. 3 ас. *знімае* (2): Т, 24(2).

**[ЗНІСТАЖАЦЬ]** *незак. Разм. Тое, што* знішчаць. *За катам кат на нашы гоні Прыходзіў, грабіў, знiстажаў, Людзей закованых палоніў, На той свет без пары саджаў.* ГП, 8.

Абв. пр. адз. м. *знiстажаў*: ГП, 8.

**ЗНІЧ** *м. Польск.* Святы агонь у язычнікаў. *Ні святых дуброваў, Зніч пайшоў з вадой; Загасціў лад новы Ды не той, не свой.* МД, 117.

Адз. Н. *зніч*: МД, 117.

**[ЗНІЧТОЖЭНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* знічтожыць. *Разм.* Знясілены. *Як скончыцца вайна каб не асталіся мы быццам пасьля пажару: сусім знічтожэны і на духу і на целі.* ВС.

Кар. мн. Н. *знічтожэны*: ВС.

**ЗНІШТАЖЭННЕ** (2) *н. Дзеянне па дзеяслову* зніштожыць. *..самае дзікае зніштажэнне людзей і іх дабра ў гэту вайну –*

*было на Беларусі.* АБ, 16. // Разбурэнне. *Тая вялікая разруха і тое страшэннае зніштажэнне, выкліканыя вайной, найцяжэй адбіліся на нашай бацькаўшчыне..* АБ, 16.

Адз. Н. *зніштажэнне* (2): АБ, 16(2).

**[ЗНІШТОЖАНЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* зніштожыць. Пашкоджаны. *Трэба стварыць камісію, каторая б аб'ехала і абследавала найболей зніштожаныя месцы, падлічыла ўсе страты і падала рахунак.* АБ, 16.

Мн. В. *зніштожаныя*: АБ, 16.

**ЗНІШТОЖЫЦЬ** (4) *зак. Разм. Тое, што* знішчыць. *Слава нашаму Ежову, З Ленінграда родам, ..Што трацкістаў азвярэлых Выкрыў і зніштожыў.* НК. *Ворагаў зніштожыў* [народ савецкі], *Хатніх і замежных, Сонцам апранешся, Як табе належна.* МПв, 220. // Ліквідаваць. [Янка]: *..мы* [беларусы] *павінны растаптаць, зніштожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта..* Т, 36. *..гарматнія стрэлы змялі з вобліку зямлі хаты, зніштожылі межы і гранічныя слупы.* АБ, 16.

Інф. *зніштожыць*: Т, 35. Абв. пр. адз. м. *зніштожыў*: НК. Мн. *зніштожылі*: АБ, 16. Буд. адз. 2 ас. *зніштожыш*: МПв, 220.

**[ЗНІШЧАЛЬНІК]** *м.* Баявы самалёт. *На бой з ворагам узды- муцца нашы бясстрашныя знішальнікі і бамбавозы.* ВГ.

Мн. Н. *знішчальнікі*: ВГ.

**[ЗНІШЧАНЫ]** (2) *дзеепрым. зал. пр. да* знішчыць у 1 *знач. Вораг будзе знішчан!* ВГ.

**Ворагі народу павінны быць знішчаны.**

Кар. адз. м. Н. *знішчан*: ВГ. Мн. Н. *знішчаны*: ВНП.

**ЗНІШЧАЦЬ** (2) *незак.* Разбураць. *..Законы-ж твае* [правадыра], *нібы светач нязгаслы, Шляхі асвятляць будуць светлым імкненням, Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.* ТП, 216. *..п'яныя дзікуны па ўказцы свайго звар'яцелага бандыцкага атамана пазверску знішчаюць усе тое, што пабудавана намі..* РКП.

Інф. *знішчаць*: ТП, 216. Абв. цяп. мн. 3 ас. *знішчаюць*: РКП.

**ЗНІШЧЫЦЬ** (4) і **ЗЬНІШЧЫЦЬ** (2) *зак.* **1.** Ліквідаваць. *Было два выхады: разбурыць ДЗОТ разам з фашыстамі ці знішчыць фашыстаў разам з ДЗОТам.* ПСп. *..Радзіму-краіну ўпрыгожыў* [народ беларускі] *садамі, Варожыя знішчыў напасці.* ВВ, 263. // Спустошыць. *Не вам край савецкі знішчыць, крывапіўцы... У нашых чэкістаў Зоркія зраніцы!* МПв, 219.

**2.** Абрабаваць. *Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі.* Нз, 15.

Інф. *знішчыць* (2): МПв, 219; ПСп; *зьнішчыць* (2): АЛ (2). Абв. пр. адз. м. *знішчыў*: БВ, 263. Мн. *знішчылі*: Нз, 15.

**[ЗНОСІЦЬ]** *незак.* Збіраць у адно месца. *Ганула выбягае*

*і пасля па аднаму зносіць партфелі.* Т, 59.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зносіць*: Т, 59.

**ЗНОЎ** (19) *прысл.* Яшчэ раз; ізноў. *У 1891 г. ён* [бацька] *зноў пераязджае на арандаваную зямлю ў фальварак Селішча.* А, 328. *Цар, пан, і поп, і нагайка, здавалася, зноў запанавалі навекі.* ДЖ. *Параўн.* узноў. А, 328; ВНП; Кц, 196; Н; НД; ОШМ; ПН, 47(2); ППС; ССА, 294; Т, 20, 24, 50, 54(2), 59; УрП, 46.

**[ЗНЯВАГА]** і **[ЗЬНЯВАГА]** (4) *ж.* Абраза, зневажанне. *..народ польскі столькі ў сваім часе павінен быў выцярпець зьнявагі і нацыянальнага паніжэньня.* СНБ. *Дэспатычная Расія царскага ўраду адрывала нашых дзяцюкоў ад родных хат, ад родных матак і гнала ў далёкі свет, у чужыну, на здзек і знявагу.* БВ, 16.

Адз. Р. *зьнявагі* (2): СБНГ; СНБ. В. *зьнявагу* (2): СБНГ; УрП, 52; *знявагу*: БВ, 16.

**[ЗНЯВОЛЕННЕ]** *н.* Панаванне, засілле. *..ад кулацкага і памешчыцкага зняволення да светлага заможнага культурнага калгаснага жыцця – вось вялікі і складаны шлях Совецкае Беларусі.* ВГР.

Адз. Р. *зняволення*: ВГР.

**[ЗНЯСІЛЬВАЮЧЫ]** (2) *дзеепрым. незал. цяп. да* знясільваць. Абяссільваючы. *Так, знясільваючая праца бурлакоў робіцца проста святочнай: калі бурлакам падаруюць гумавыя бацявы боты.* ПЧ. *Так, знасільваючая праца бурлакоў робіцца проста святочнай ... бурлакі пачынаюць спяваць і скакаць.* Там жа.

Адз. ж. Н. *знясільваючая* (2): ПЧ (2).

**[ЗНЯТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* зняць.: ◊**З вачэй знята павязка** – усвядомлена што-н. [Першы ганец]: *Я абышоў іх тройчы раз і відзеў, што ешчэ ўсе жывы. А толькі ўсё той самы лад: З вачэй не зняты йшчэ павязкі, Ці йдуць уперад, ці назад..* Кц, 194.

Кар. мн. Н. *зняты*: Кц, 194.

**[ЗНЯЦЬ]** (7) і **[ЗЬНЯЦЬ]** *зак.* **1.** Аддзяліць што-н. пасаджанае дзе-н. *Падходзь жа, паночку! ..знімі акуляры – Лепш будзе агледзіць пакупку,.* Р.

**2.** Распрануцца, здзець. [Мікіта]: *..я так захапіўся найяснейшымі гасцямі.., што і забыўся зняць* [убор]. Т, 24. // *Разм.* Грабячы, раздзець. [Мікіта]: *..апошнія ўцякаючыя паны, папрасілі мяне пастаяць, самі знялі куртачку..* Т, 58. [Мікіта]: *Я не грабіў, – мяне меджду протчым, грабілі – фрэнчык формельны, боты жоўценькія знялі...* Там жа, 60.

**3.** Адмяніць. *Ешчэ не зьняли дапросу са ўсих сяброў.* ВД.

◊**Зняць путы** – вызваліць ад прыгнёту. *Зняць путы бацькаўшчыне ўстань, прарок!* Пт. **Зняць шапку** – выказаць сваю павагу каму-н. *Таварышы! Зняць шапкі над жывой магілай! Хаваюць, ведайце, большэвіка большэвікі.* СК, 158.

Інф. *зняць* (3): Пт; СК, 158; Т, 24. Абв. пр. мн. *знялі* (3): Т, 58(2), 60; *зьняли*: ВД. Заг. адз. 2 ас. *знімі*: Р.

**ЗОЛАТА** (9) *н., зб.* **1.** Залатыя рэчы. *Не было, праўда, узнесеных на хвалу божу ні з камення, ні з дрэва святыняў небажычных і аўтараў, золатам набіваных, – былі толькі запаведныя лясы і гаі цяністыя, дзе складаліся ахвяры богам прамудрым.* Кз, 17.

**2.** *зб.* Залатыя манеты, грошы. *..Нейкі нехрысьць крапідлам махае, пяе Ды шыпіць, як гадзюка, Хрыстова імя, І за золата гэта імя прадае...* БН, 92. *Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідаючы сваіх брацціяў слабейшых на здзек і паняверку.* Нз, 14. // *перан.* Багацце. [Мікіта]: *Буржуазія з усіх жыл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата або кусок якога маёнтку..* Т, 40. *Той, хто волю занядбае, Хоць у золаце хай сьпіць..* КЧ.

Δ**Молах-золата** *гл.* молах**.**

Адз. Н. *золата*: БН, 92. Р. *золата*: Тж, 16. В. *золата* (3): БН, 92; Нз, 14; Т, 40. Т. *золатам* (3): Кз, 17; Нз, 14; $Ш_4$. М. *золаце*: КЧ.

**[ЗОЛАТАТКАНЫ]** *прым.* Вышыты залатымі ніткамі. *Золататканы абрусы С сталоў звісаюць дыванамі, На абрусох чысьцей расы Віно красуецца каўшамі.* Кц, 192.

Кар. мн. Н. *золататканы*: Кц, 192.

**[ЗОЛЬ]** *ж.* Сырое, халоднае надвор'е. *Стогнуць ветрам калыханы Ліпы ды бярозы, А ноч сее скрозь туманы Золь, слату, як сьлёзы.* Дз, 191.

Адз. В. *золь*: Дз, 191.

**ЗОРКА** (12) *ж.* **1.** Нябеснае цела. *Даляту да зорак, Вольная дзяўчына, Стуль табе, мой мілы, Адну зорку скіну.* ПТ, 207. *Параўн.* зара ў 1 *знач.* // *У параўн. ..І ў Галінкі-дзіцяняткі Ад такой гаворкі Ажно йскрацца вачаняткі, Нібы ў небе зоркі.* Вб, 237. // *перан.* Шчасце. *Засвяціла ясна зорка Добраю навінай Над Заходняй Беларусяй І над Украінай.* ЗЯЗ, 89.

**Засвяціла ясна зорка.**

Адз. Н. *зорка* (4): ЗЯЗ, 89 (2), 90; РКр. В. *зорку*: ПТ, 207. Мн. Н. *зоркі* (5): Вб, 237; СБНГ; СЗГ, 252; СС, 301; Т, 53. Р. *зорак* (2): НДп, 230; ПТ, 207.

**[ЗОРКІ]** *прым.* Праніклівы, пільны. *Не вам край совецкі Знішчыць, крывапіўцы... У нашых чэкістаў Зоркія зраніцы!* МПв, 219.

Мн. Н. *зоркія*: МПв, 219.

**[ЗОРНЫ]** (2) *прым.* **1.** Пакрыты зоркамі. *З самалётам днём і ночай Мігаціцца* [камсамолец] *ў безграніччы, Днём смяецца сонцу ў вочы, Ночкай зорнай зоры ліча.* СА, 180.

**2.** *перан.* Які знаходзіцца на небе. *Гэткай паняй ясьнела* [судзьбіна] *у хараме зорным Цараўладнай і разам няўладнай..* Ч, 322.

Адз. м. М. *зорным*: Ч, 322. ж. Т. *зорнай*: СА, 180.

**[ЗОСТАЦЬ]** *зак. Польск.* Стаць. [Заходні вучоны]: *Падчас бадання тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз іх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей...* Т, 39.

Абв. пр. адз. н. *зостало*: Т, 39.

**З-ПАД** (32) *прыназ. з Р.* Спалучэнне з прыназоўнікам "з-пад" выражае:

Прасторавыя адносіны (24)

**1.** Абазначэнне прадмета, знізу або з ніжняга боку якога накіравана дзеянне. *Чэсць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай стрэхі!* МІ, 18. *..У чужаземецкім уборы Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік. З-пад сьвіткі чорнай даўгаполай Бліщчэла бляха накасяк..* УрП, 51.

**2.** Указанне на кірунак руху з блізкага месца ад прадмета. *Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў, Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46 (2). // Абазначэнне населенага пункта, раёна якога хто-н. паходзіць, з'яўляецца. *З-пад Смаргоні, з-пад Маладзечна, з-пад Крывічоў і г.д., і г.д. абарваныя, галодныя людзі ходзяць па сваёй бацькаўшчыне і па чужынцах і просяць..* АБ, 16. *З-пад пушчаў Палесся, з-пад Нёмана, Сожа, З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны, З-пад стыку са светам чужым і варожым Прыйшлі мы, Савецкай краіны сыны.* ПБН. АБ, 16 (2); З; ПБН (3); ПВ; ПДС, 232; СТ; УрП, 49; Ф (2); ХБ, 28.

Аб'ектныя адносіны (7)

**3.** Пры ўказанні на прыладу стваральнай працы. *Ад самага пачатку беларускага вызваленчага руху ня было бадай у ніводным годзе столькі выкінута з-пад друкарскай машыны беларускіх кніг для школ.* ВСп, 89.

**4.** Пры абазначэнні якога-н. стану ці становішча, ад якога хто-н. вызваляецца. *Калі гавораць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з-пад расійскага ярма, то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць.* Нз, 14. *Толькі тыя, што вызваляюцца з-пад чужой няволі, дзяржавы змогуць ушанаваць права так званай меншасці нацыянальнай..* НДН, 18. АА (2); ЗЯЗ, 89; Т, 45.

Азначальныя адносіны

**5.** Пры характарыстыцы прадмета шляхам указання на яго былое прызначэнне. *Я Сталіну мудраму песню спяваю, А песня*

*ад сэрца, з-пад сэрца, такая, Крылата лунае над полем, над гаем..* СС, 302.

**ЗРАБІЦЦА** (10) *зак.* **1.** *Зак. да* рабіцца ў 1 *знач. Беларускі пан зрабіўся чужым для беларускага селяніна.* Нз, 14. *..як я пачаў чытаць гэныя газэты, то мне горача зрабілася, як у пекле.* Ан, 19.

**2.** *Зак. да* рабіцца ў 2 *знач. І зрабілася на Беларусі пасля уніі з Польшчай тое, чаго і трэ было чакаць.* Нз, 14.

Інф. *зрабіцца*: ВР. Абв. пр. адз. м. *зрабіўся*: Нз, 14. н. *зрабілася* (4): Ан, 19; Нз, 14; ПН, 47; Т, 19. Мн. *зрабіліся* (2): ВСп, 89; Т, 30. Буд. мн. 1 ас. *зробімся*: Т, 44. 2 ас. *зробіцеся*: Т, 42.

**ЗРАБІЦЬ** (48) *зак.* **1.** *Зак. да* рабіць у 1 *знач. Перш, чым што зрабіць, абываталь любіць распытацца у людзей і параіцца з суседам..* ВМР. *Але ўсё-ж такі ў гэтым напрамку я* [Купала] *зрабіў вельмі мала, не зважаючы на тыя магчымасьці, якія мне давала партыя і савецкая улада.* АЛ.

**2.** Учыніць. *Усё паказвае, як бытцым палякі зрабілі хаўрус з расейскімі націоналістамі і чорнасоценцамі, абы толькі заціснуць беларускі рух.* ВР. *А йшчэ скажам: як што прыдзе, Як нам зробяць шкоду – Стар і мал, усе з ім* [Варашылавым] *разам Пойдзем у паходы.* НК.

**3.** Здзейсніць, ажыццявіць. *І гэта трэба зрабіць як найхутчэй.* АБ, 16. *..расійскую сацыяльную рэвалюцыю зрабілі беззямельныя і малазямельныя сялянскія грамады..* ЗС, 18.

**4.** Аказаць што-н. каму-н. *Яшчэ ў годы грамадзянскай вайны Вы, Нікалай Іванавіч, нямала зрабілі для беларускага народа..* НКУС. *Шчыра дзякую* [Купала] *за ўсё тое добрае, што для мяне зрабілі партыя і Сав. улада.* СЧ.

**5.** Ператварыць у што-н. *..і зрабіць з яе* [Расіі] *ўзноў жандарма Еўропы..* Ан, 19. *Рынкам жывога тавару няслава Край увесь зрабіла, загнала на ўбой..* Н.

**6.** Прывесці ў які-н. стан, становішча. *Быдлам зрабілі нас панскія здзекі, Век марнаваліся ў слёзах і поце.* Дз, 73. *Зрабілі з вас* [бальшавікоў] *гаспадароў. І вы з рабоў пайшлі ў цары...* ПВ.

Інф. *зрабіць* (12): АБ, 16; Ан, 19; БВ, 16; ВМР; ВН; ВСп, 91; Нз, 14; ОШМ (2); ПЧ; СЧ; УрП, 47. Абв. пр. адз. м. *зрабіў* (10): АЛ; ДЖ; ПС; ПЧ; СБНГ; Т, 30, 33, 37, 57; ХБ, 29. ж. *зрабіла* (4): ВСп, 89; ЗС, 17; Н; СНБ, 337. Мн. *зрабілі* (13): БС; ВР; Дз, 73; ДК; ЗС, 18; НКУС; ПВ; ПС; СНБ, 340; СЧ; Т, 27, 39, 40. Буд. адз. 3 ас. *зробіць* (2): ВСп, 91; Т, 58. Мн. 1 ас. *зробім* (3): ВС; Т, 60; ХЛВ, 316. 2 ас. *зробіце*: Т, 40. 3 ас. *зробяць*: НК. Заг. мн. 2 ас. *зрабеце* (2): Т, 40, 61.

**[ЗРАДАГАВАЦЬ]** *зак.* Правесці літаратурную апрацоўку тэксту. *Аддзел на чале з сваім кіраўнікам С. Некрашэвічам сабраў і зрадагаваў да двухсот з лішнім друкарскіх аркушаў.* ВСп, 91.

Абв. пр. адз. м. *зрадагаваў*: ВСп, 91.

**ЗРАЗУМЕЛА** (2) і *разм.* **ЗРАЗУМЕЛО** *прысл.* **1.** *У знач. пабочн.* Канечне, вярома. *Арэнай такой абвостранай клясавай барацьбы зьяўляецца, зразумела, і БССР.* АЛ.

**2.** *У знач. вык.* Ясна. *Кампанія гэта нам зразумела, бо гэту рэформу зацвердзіў совецкі ўрад..* ШБСЯ. *Аб ей* [беларускай сіле] *усе ведаюць і стараюцца ня ведаць, усе чуюць і стараюцца ня чуць. А чаму – зразумело.* ВМР. Т, 55.

**[ЗРАЗУМЕЛЫ]** *прым.* Даступны разуменню, ясны. *А ня шкодзіла-б ужыць крыху сьмеласьці й замяніць гэтыя чужатворы .. болей зразумелымі беларускімі новатворамі..* ВСп, 89.

Мн. Т. *зразумелымі*: ВСп, 89.

**ЗРАЗУМЕЎШЫ** *дзеепрысл. да* зразумець у 1 *знач.* [Мікіта]: *(як бы не зразумеўшы прытычкі). ..пане профэсар, новая палітычная сытуацыя і ўсё такое прымусілі мяне падумаць аб гэтай кар'еры.* Т, 55.

**ЗРАЗУМЕЦЬ** (9) *зак.* **1.** Засвоіць змест чаго-н., асэнсаваць. [Мікіта]: *..папрабую загаварыць з ім* [Немцам] *па-нашаму, можа, зразумее.* Т, 32.

**2.** *Зак. да* разумець у 1 *знач. Тыя, што трымаюць сягоння ў сваіх руках уладу над часцінай нашага краю, павінны зразумець, якая небяспека набліжаецца з боку паўстаючай рэакцыйнай Расіі.* БВ, 16. *Няхай зразумеюць тые, хто глядзіць на наш горад вачыма чужынца, што раней ці пазней, а ён будзе беларускім ня толькі па назове..* ВМР.

**3.** Пазнаць, разабрацца ва ўчынках. *Бог яго* [душу] *усё дарэчы Зразумее, пойме.* Дз, 191.

◊**Бог яго зразумее (пойме)** *гл.* бог.

Інф. *зразумець*: БВ, 16. Абв. пр. адз. м. *зразумеў* (3): Б, 18; Т, 33; ХЛБ. Мн. *зразумелі*: ВР. Буд. адз. 3 ас. *зразумее* (2): Дз, 191; Т, 32. Мн. 3 ас. *зразумеюць* (2): Бц, 73; ВМР.

**[ЗРАНІЦА]** *ж. Разм. Тое, што* зрэнка. *Не вам край совецкі Знішчыць, крывапіўцы... У нашых чэкістаў Зоркія зраніцы!* МПв, 219.

Мн. Н. *зраніцы*: МПв, 219.

**[ЗРАСЬЦІ]** *зак. Разм.* Зарасці. *Нашы загоны даўно ўжо нас клічуць, Нашы законы, што зельлем зрасьлі..* Г, 16.

Абв. пр. мн. *зрасьлі*: Г, 16.

**ЗРАЎНЯЦЦА** *зак.* Параўняцца. *Мы, беларусы, .. вечна цягнуліся у хвасьце сваіх суседзяў ды яшчэ і цяпер ня можамо у шмат якіх справах зраўняцца з імі.* СБНГ.

Інф. *зраўняцца*: СБНГ.

**[ЗРАЧЫСЯ]** і *разм.* **[ЗРЭЧЫСЯ]** *зак.* Адрачыся. *Слепа зракліся* [людзі чужыя] *сораму, ўвагі, Ў хорамы селі, – Брацыям жа*

*ўздзелі лапці, сярмягі, Торбы надзелі...* Чж, 147. *Пасля, Жыды, вы зрэкліся народу, Які вам шчыра даў багацьце і прыпын..* Ж.

Абв. пр. мн. *зракліся*: Чж, 147; *зрэкліся*: Ж.

**ЗРОБЛЕНЫ** (8) *дзеепрым.* **1.** *Дзеепрым. зал. пр. да* зрабіць у 1 *знач. На зробленую увагу ..ураднік адказаў, што ён не разумее беларускай мовы..* ОШМ.

**2.** Выраблены. [Гарошка]: *(падаючы новую, дзераўляную, памастацку зробленую лыжку). Ад мяне прымеце* [Аленка] *вось гэта...* Т, 30.

**3.** Створаны. *Моцны падмур быў зроблены, трэба было толькі класці сцены і завяршыць будову светлага, незалежнага існавання Беларускай дзяржавы.* СНБ, 337. *Трэба адзначыць, што зроблена вельмі многа.* ВСп, 91.

Адз. м. Н. *зроблены*: СНБ, 337. ж. В. *зробленую* (2): ОШМ; Т, 30. Кар. адз. н. Н. *зроблена* (5): ВСп, 89, 91 (2); СНБ, 338; Т, 25.

**ЗРУЙНАВАЦЬ** *зак.* Ліквідаваць, знішчыць. *Шкодніцтва, дывэрсія, шпігоўства, інтэрвэнцыя, – усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя..* АЛ.

Інф. *зруйнаваць*: АЛ.

**ЗРЫВАЮЧЫ** *дзеепрысл.* да зрываць. Скідваючы, знімаючы. [Мікіта]: *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага ўбору). К чорту пажарніцкую каманду!* Т, 33.

**[ЗРЫВАЦЬ]** (3) *незак.* **1.** Адрываючы, зносіць (пра вецер). *..азьвярэлыя вятры Ад жудасьці, ад сораму і дыму яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну..* ВБЛ, 80. // *Вобразн.* Скідаць, сцягваць, здымаць. *А душа сама – без хаты, Знаць,з вялікай мукі То зрывае с сябе шаты, То ў крыж зложэ рукі..* Дз, 191.

**2.** *перан.* Мяняць што-н. *Наведзены струны ў скрыпках Чужая зрывае рука.* ЗК, 43.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зрывае* (2): Дз, 191; ЗК, 43. Пр. мн. *зрывалі*: ВБЛ, 80.

[**ЗРЫЦЬ**] *зак.* Скапаць. *Калі тыя, што нас аграбілі, што нашы загоны зрылі на акопы-магілы, не ідуць к нам з дапамогай, каб сплаціць хоць частку таго доўгу, які яны доўжны Беларусі, то павінны мы самі за гэта ўзяцца, і ўзяцца як найхутчэй.* АБ, 16.

Абв. пр. мн. *зрылі*: АБ, 16.

**ЗРЭДКУ** *прысл.* Час ад часу. *Зрэдку далятакць далёкія гарматныя выстралы.* Т, 53.

**[ЗРЭЗАЦЬ]** *зак.*: ◊**На капусту людзей зрэзаць** – знішчыць фізічна. [Гарошка]: *Рынулі* [казакі] *ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ .. На капусту людзей зрэзалі і на кашу з зямлёй змяшалі.* Т, 43.

Абв. пр. мн. *зрэзалі*: Т, 43.

**[ЗРЭНКА]** *ж.* Адтуліна ў радужнай абалонцы вока. *Ты, дзяўчына чужая, закрый Па скананні мне зрэнкі мае..* ЧС, 50–51. *Параўн.* зраніца.

Мн. В. *зрэнкі*: ЧС, 50–51.

**[ЗРЭПІЦЬ]** *зак. Разм.* Наканаваць. *Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў, Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў, – Захацелі ў судзьбіны даведацца меры, Як жыць лепей, памерці як лепей.* Ч, 322.

Абв. пр. адз. м. *зрэпіў*: Ч, 322.

**ЗТУЛЬ** *прысл. Разм. Тое, што* адтуль. *Хай там бура, завіруха, Хай пурга сапе і плача, Зтуль тваё пачуе вуха Камсамольскі гарт юначы.* СА, 179.

**[ЗУБ]** (6) *м.* Косцепадобны орган у роце. *Сьмейся сьмехамсычэньнем праз скрогат Перад сьмертны зубоў і расьсейся Ў гразь жыцьця, ў пекла Дантава рогат!* См, 90. [Гарошка]: *(выняўшы люльку з зубоў). Цьфу!* Т, 29.

◊**Загаварываць зубы** *гл.* загаварываць. **Зубамі скрыгатаць** *гл.* скрыгатаць. **Скаліць зубы** *гл.* скаліць.

Мн. Р. *зубоў* (3): См, 90; Т, 29, 60. В. *зубы* (2): Пц; Т, 27. Т. *зубамі*: Ч, 321.

**ЗУБРЫЦЬ** *незак. Разм.* Вучыць. [Мікіта]: *Вы* [Янка] *можа, параіце мне яшчэ і вашага Тарашкевіча граматыку зубрыць?* Т, 48.

Інф. *зубрыць*: Т, 48.

**ЗУСІМ** (42) *прысл.* **1.** Абсалютна, поўнасцю. *І нашым каталікам так задурылі галаву, што яны зусім пагадзіліся з навучаньнем асноў веры па польску.* ВР. *..пара ўжо "Вестннку" Беларускага Камісарыяту Асьветы абеларусіцца зусім.* ВСп, 90. *Параўн.* сусім. А, 328; ВН; ВР (2); ВС; ПЧ; Т, 28, 30, 31(2), 34(2), 36(2), 37, 55, 58, 60(2), 61, 62; ХБ, 29(2); ШБСЯ.

**2.** *Разм.* Назаўсёды. [Янка]: *..я ў скорасці зусім выязджаю з Менску на вёску.* Т, 21.

**3.** *(з адмоўем: не (ня) зусім).* Не вельмі, не поўнасцю. *Хацеў я спачатку павесіцца, утапіцца, застрэліцца, але ўзяў ды напісаў гэты не зусім "маленькі фельетон".* Ан, 19. *..я* [Купала] *шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ ня зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмакратычнага шалупіньня..* АЛ. Т, 45.

**4.** Вельмі, дужа. *..навука дзяцей па польску – гэтак сама зусім несправедліва..* ВР. [Ануля]: *..зусім скромна выглядаеце* [Дама і Спраўнік] *у гэтым бядацкім адзенні.* Т, 57. ЗС, 18; СК, 158; Т, 22, 34, 36, 48, 49(2), 52, 56.

**[ЗЫК]** *м.* Рэзкі, звонкі гук. *Пасля некалькіх мінут раптоўна*

*ўрываюцца зыкі вайсковай музыкі..* Т, 43.

Мн. Н. *зыкі*: Т, 43.

**ЗЫСЦІ** (7) *зак.* **1.** *Зак. да* зыходзіць у 1 *знач.* [Мікіта]: *..магу я зысці ўжо, мусье профэсар, з трыбуны?* Т, 41. [Мікіта]: *..я не ўгадаў, на якую, меджду протчым, стануць пляцформу, дзеля гэтага паслізнуўся і быў змушаы зыйсці з трыбуны.* Там жа, 46.

**2.** З'явіцца. *Дзе хмары чэзьлі, то зноў вісьлі, З-пад зор, з-пад блудных сьветачоў Ні вокам людзкім ані мысьляй Нязгадны цень ка мне зышоў.* УрП, 46.

◊**Каб я з гэтага месца не зышоў** – бажба. [Мікіта]: *Каб я з гэтага месца не зышоў, калі я генэрал!* Т, 33. **З сьвету зысці** – памерці. [Судзьбіна:] *Хочаш* [трэці брат] *цішы прытульнай і ласкі патольнай, Збудаваць божы быт на пакутах, – Дай другім волі ў волю, і сам будзеш вольны, Не дасі – з сьвету зыдзеш у путах.* Ч, 323. **Зысці на час** – адступіць ад чаго-н. *Еўропы жыхары Шлі к вам праз морскія віры... Але не ваш* [бальшавікоў] *вітаць шлі сцяг: З сваёю воляй шлі на вас... І не дайшлі – зышлі на час..* ПВ.

Інф. *зысці* (3): Т, 41(2), 46. Абв. пр. адз. м. *зышоў* (2); Т, 33; УрП, 46. Мн. *зышлі*: ПВ. Буд. адз. 2 ас. *зыдзеш*: Ч, 323.

**[ЗЫХОДЗІЦЬ]** (2) *незак.* **1.** Пакідаць сваё месца дзе-н. на ўзвышэнні. [Спічыні]: *Можаце ўжо зысці, мусье рэгістратар, з трыбуны. Мікіта зыходзіць.* Т, 41.

**2.** *перан.* Адмаўляцца ад чаго-н. *Ня зыходзіць са шляху свайго і другі сын – Чуць ня йдзе сьледам першага брата.* Ч, 320.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зыходзіць* (2): Т, 41; Ч, 320.

**[ЗЫЧНЫ]** *прым.* Звонкі, гучны. [Князь:] *Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны* [людзі] *Раз хочуць сонца, славы, песьні; Забьюць ім зычныя званы Прабудным звонам на прадвесьні.* Кц, 195–196.

Мн. Н. *зычныя*: Кц, 196.

**[ЗЫЧЭЦЬ]** *зак. Разм.* Гучаць, чуцца. *Дружнымі, згоднымі радамі няхай ідуць яны* [беларусы] *да адзінай мэты: адваяваць свой горад ад засільля чужынцау і уваскрасіць стары Менск, .. калі прыгожа зычэла мова наша і справавало беларускае права.* ВМР.

Абв. пр. адз. ж. *зычэла*: ВМР.

**ЗЫШОЎШЫ** *дзеепрысл. да* зысці ў 1 *знач.* [Мікіта]: *(зышоўшы з лаўкі, набок). Пачынаецца!* Т, 42.

**[ЗЬБІВАЦЬ]** *незак. перан. Разм.* Аб'ядноўваць. *Нацыянальная рэволюцыя не страміцца к аднаму богу на зямлі, і не зьбівае ў вадну кучу ўсіх народаў пад адзін сьцяг.* СНБ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зьбівае*: СНБ.

**[ЗЬБІРАЛЬНІК]** *м.* Той, хто аб'ядноўвае што-н. у адно цэлае. *..ва ўмовах нашай рэспублікі ролю зьбіральніка і арганізатара*

*контр-рэволюцыйных сіл .. узяў на сябе беларускі нацыянал-дэмакратызм..* АЛ.

Адз. Р. *зьбіральніка*: АЛ.

**[ЗЬБІЦЦА]** *зак.* Заблытацца. *Кали гэта ўсё чыста перачытаў, добра ў сваих думках раскалупаў, каб ня зьбиўся, што да чаго и к чаму..* СП.

Абв. пр. адз. м. *зьбиўся*: СП.

**ЗЬВЕР** *гл.* **ЗВЕР.**

**[ЗЬВЕРНУТЫ]** *дзеепрым. зал. пр. да* звярнуць. Накіраваны на што-н. .. *на высшую вучэльню у Вільне зьвернуты цяпер вочы ня толькі польскага народу, – на гэту зьмясьціну навукі і мастацтва пазіраюць цяпер і сумные вочы літвіноу і беларусау.* УПУВ.

Кар. мн. Н. *зьвернуты*: УПУВ.

**ЗЬВЕСІЎШЫ** *дзеепрысл. да* звесіць. *З пакорай зьвесіўшы галовы Стаіць народ, маўчыць народ..* УрП, 49.

**[ЗЬВЕСЦІ]** *зак.* Дапамагчы каму-н. сустрэцца з кім-н. *Недаўна Грыцко памёр, а беднаму дзицяци прышлося исьци на вулицу поки доля изноў не зьвяла яе з бацькам и маткаю.* ПДз.

Абв. пр. адз. ж. *зьвяла*: ПДз.

**[ЗЬВЁЗДАЧКА]** *ж. Руск. Памяш. да* зьвязда. Зорачка. *Відна што ніўка маці тутка чалавеку! Відна з густых коп сена, што на сенажатцы Зьвёздачкамі мігаюць.* ХБ, 28.

Мн. Т. *зьвёздачкамі*: ХБ, 28.

**ЗЬВІНЕЦЬ** *гл.* **ЗВІНЕЦЬ**.

**ЗЬВЯЗАНЫ** *гл.* **ЗВЯЗАНЫ**.

**ЗЬВЯР'Ё** *гл.* **ЗВЯР'Ё**.

**[ЗЬВЯРНУЎШЫ]** *дзеепрысл. незал. пр. да* звярнуць.: ◊**Зьвярнуўшы на сябе ўвагу** – вызначыўшыся чым-н. ..*М. Кудзелька даў паэму "Босыя на вогнішчы", зьвярнуўшую на сябе ўвагу розных крытыкаў..* ВСп, 89.

Адз. ж. В. *зьвярнуўшую*: ВСп, 89.

**ЗЬВЯРНУЦЦА** *гл.* **ЗВЯРНУЦЦА**.

**ЗЬВЯРНУЦЬ** *гл.* **ЗВЯРНУЦЬ**.

**[ЗЬВЯРТАЦЬ]** (3) *незак.:* ◊**Зьвяртаць на сябе ўвагу** (2) – вызначацца чым-н. *Зьвяртае на сябе ўвагу так сама "Беларускі лемантар", вельмі багата ільлюстраваны.* ВСп, 89. *З гэтых кніг асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе кнігі па матэматыцы.* Там жа. **Зьвяртаць увагу** – заўважаць што-н. *Аб гэтым штодня ідуць скаргі, жальбы, протэсты; аб гэтым ня раз мы пісалі, зьвярталі увагу вышэйшай польскай улады..* ОШМ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зьвяртае*: ВСп, 89. Мн. 3 ас. *зьвяртаюць*: ВСп, 89. Пр. мн. *зьвярталі*: ОШМ.

**ЗЬВЯРЫНЫ** *прым. перан.* Бязлітасны. *Распасьцер сваё*

*усемагутнае уладаньне дзікі зьвярыны забабон ад краю да краю..* З.

Адз. м. Н. *зьвярыны*: З.

**ЗЬДЗЕК** *гл.* **ЗДЗЕК**.

**ЗЬДЗЕКАВАЦЦА** *гл.* **ЗДЗЕКАВАЦЦА**.

**[ЗЬДЗІВІЦЦА]** *зак.* Прыйсці ў здзіўленне. *Народ зьдзвіўся, як заглядзеў, Заварушыўся, зашумеў..* УрП, 51.

Абв. пр. адз. м. *зьдзівіўся*: УрП, 51.

**[ЗЬДЗІЎ]** *м. Разм.* Здзіўленне, дзіва. *А першы* [ганец] *гэткі сьветлы быў, Як небам сланные прамені: Ў руцэ меў сьветач, што на зьдзіў Усе усюдах зводзіў цені.* Кц, 194.

Адз. В. *зьдзіў*: Кц, 194.

**[ЗЬДЗІЎЛЕННЕ]** *н.* Стан, выкліканы ўражаннем ад чаго-н. *.. ў галіне індустрыяльнага і сельскагаспадарчага соцыялістычнага будаўніцтва краіна Саветаў пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі дасьцігла нябывалых і нячуваных посьпехаў на страх і зьдзіўленне адміраючаму капіталістычнаму сьвету..* ДНСП.

Адз. В. *зьдзіўленне*: ДНСП.

**[ЗЬДЗЬМУЦЬ]** *зак. Вобразн.* Пагубіць. *Дзе-ж, ой, матулькі, вашы дзеці? Рукі слабы, вецер – дуж ён, – Відаць, зьдзьмуў іх вясёлы вецер, Скіфскі вецер з сямі старон.* ВБЛ, 81.

Абв. пр. адз. м. *зьдзьмуў*: ВБЛ, 81.

**[ЗЬЛІТНЫ]** *прым.:* ◊**Зьлітнымі колёнамі ідуць** *гл.* ісці.

Мн. Т. *зьлітнымі*: АЛ.

**[ЗЬЛЯЧІЦЬ]** *зак. Разм.* Пералічыць, палічыць. [Матка:] *Ніў маіх ніхто-б ня зьмерыў, Ні зьлячіў сялібаў.* Дз, 187.

Абв. пр. адз. м. *зьлячіў*: Дз, 187.

**ЗЬМЕНА** *гл.* **ЗМЕНА.**

**[ЗЬМЕРКАННЕ]** *н.* Наступленне цемнаты. *За другім* [сынам] *была ахвота К лежні, к панаванню; За чужой-бы жыў работай, Спаў-бы да зьмеркання.* Дз, 189.

Адз. Р. *зьмеркання*: Дз, 189.

**ЗЬМЕСТ** *гл.* **ЗМЕСТ**.

**[ЗЬМІЛАВАННЕ]** *н. Разм.* Памілаванне. [Матка:] *Я на гэтым на кургане Ўсё сяджу і плачу, Ўсё чэкаю зьмілавання, Дый ні скуль не бачу.* Дз, 191.

Адз. Р. *зьмілавання*: Дз, 191.

**[ЗЬМІРНЫ]** *прым. Руск., разм.* Пакорны, пакорлівы. *Шэсць год вайны, вайны цяжкай, бязупыннай, выбілі ў думках беларуса-хлебароба і яго супакой – гэткі зьмірны, лагодны, – і яго шчырую веру ў лепшую долю.* ДД.

Адз. м. В. *зьмірны*: ДД.

**ЗЬМЯІНЫ** *гл.* **ЗМЯІНЫ**.

**[ЗЬМЯСЬЦІНА]** *ж. Разм.* Установа. *..на гэту зьмясьціну* [Віленскі універсітэт] *навукі і мастацтва пазіраюць цяпер і сумные вочы літвіноў і беларусаў.* УПУВ.

Адз. В. *зьмясьціну*: УПУВ.

**ЗЬМЯСЬЦІЦЬ** *зак.* Апублікаваць. *Паважаны тав. рэдактар, прашу зьмясьціць у вашай газэце наступнае..* АЛ.

Інф. *зьмясьціць*: АЛ.

**[ЗЬМЯТАЦЬ]** *незак. перан.* Знішчаць. *Вось я* [цудадзей] *пастаўлены над вамі Вышэйшай моцай небных сіл, Старэйшы думкай і гадамі, Зьмятаю ашуканства пыл.* УрП, 49.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *зьмятаю*: УрП, 49.

**[ЗЬМЯШАЦЦА]** *зак.* Перамяшацца. *Раскрылася неба й зямля, Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну..* БН, 91.

Абв. пр. мн. *зьмяшаліся*: ВН, 91.

**ЗЬМЯЯ** *гл.* **ЗМЯЯ**.

**[ЗЬНЕМАГАЦЦА]** *незак.* Траціць сілы, слабець. *Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы..* ЗК, 42.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *зьнемагаецца*: ЗК, 42.

**[ЗЬНІЗІЦЬ]** *зак.* Зменшыць. *А паміж тым, у прадчуваньні рымскіх ласк, Свой разрахунак меркантыльна зьнізіў І як жанчына, увесь дрыжэў Новачаркаск Ад наступу дэнікінскіх дывізій.* ВБЛ, 80.

Абв. пр. адз. м. *зьнізіў*: ВБЛ, 80.

**[ЗЬНЯБЫВАЦЦА]** *незак. Разм.* Марнець, мучыцца. *Народ чагосьці зьнябываўся, Гул недавольства плыў і плыў..* УрП, 47.

Абв. пр. адз. м. *зьнябываўся*: УрП, 47.

**ЗЬНЯВАГА** *гл.* **ЗНЯВАГА.**

**[ЗЬНЯМЕЦЬ]** *зак.* Здранцвець. [Чараўнік:] *Дзе толькі ступіце* [дванаццаць выбраных], *зьнямее Нямая чорная напасьць, Ніхто чапіць вас не пасьмее, Усякі вам дарогу дасьць.* УрП, 50.

Абв. буд. адз. 3 ас. *зьнямее*: УрП, 50.

**ЗЭ** (2) *прыназ. Польск. Тое, што* з у 1 *знач*. [Заходні вучоны]: *..як самі твердзон* [беларусы], *маён гдзе топіць сень і бэз можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.* Т, 47. [Заходні вучоны]: *..завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэтэ пшэісточыло сень в Пінске блото.* Там жа.

**З’ЯВА** (30) *ж.* **1.** Праява, падзея. *Маладой юнацкай славай, Ці то ўзімку, ці то летам, Нібы сонца, цуднай з’явай Прамянееш ты* [моладзь] *у сусветах.* СА, 178.

**2.** Частка драматычнага твора. *З’ява XI. Мікіта – Наста.* Т, 42. *З’ява XII. Мікіта – Абарванец.* Там жа.

Адз. Н. *з’ява* (29): Т, 19, 21(2), 22, 23, 24, 25, 27, 29, 30, 33, 34, 37, 42(2), 43(2), 44, 45, 47, 50, 52(2), 53, 56, 57, 58(2), 59.

Т. *з’явай*: СА, 178.

**[З’ЯВІЦЦА]** (4) і **[ЗЬЯВІЦЦА]** (3) *зак.* **1.** Прыйсці, прыбыць куды-н. [Пан]: *Як з’явіцеся* [Мікіта] *з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш прэсціж адразу падымецца ў яе вачох на сто процантаў.* Т, 52.

**2.** Узнікнуць. *Ён* [стаханаўскі рух] *не з’явіўся сам сабою, бо само сабою нічога не бывае.* СТ. [Дама]: *У мяне з’явілася цудоўная ідэя: той вечар у вас* [Мікіты] *на імянінах .. такое мілае ўражанне пакінуў, што я вельмі была б шчаслівай яго паўтарыць.* Т, 51.

**3.** Стаць кім-н. *..супрацоўнікамі в-ва зьявіліся тыя людзі, якія .. працавалі не за страх, а за совесьць.* ВСп, 91.

◊**Зьявіцца на сьвет божы** – узнікнуць. *У нашы ужо часы (пасьля 1905 г.) зьявілася на сьвет божы некалькі беларускіх гымнаў, такой ці іншай ідэёвай і мастаяцкай вартасьці.* СБНГ.

Абв. пр. адз. м. *з’явіўся*: СТ. ж. *з’явілася* (2): СБНГ; Т, 51. Мн. *зьявіліся* (2): АЛ; ВСп, 91. Буд. адз. 3 ас. *зьявіцца*: БС. Мн. 2 ас. *з’явіцеся*: Т, 52.

**З’ЯДАЦІ** *незак. Вобразн.* Знішчаць. *Мае слёзы з магілы расой Выйдуць путы з’ядаці іржой.* ЧС, 50–51.

Інф. *з’ядаці*: Чс, 50–51.

**[З’ЯДНАНАСЦЬ]** *ж.* Згуртаванасць. *Гэта раз’юшаная антысовецкая брахня .. разаб’ецца .. аб магутнасць і з’яднанасць рабочых і калгаснікаў Совецкай Беларусі..* ШБСЯ.

Адз. В. *з’яднанасць*: ШБСЯ.

**ЗЯЗЮЛЯ** *ж.* Лясная птушка. *А як згіну* [Габрусь]*, то зязюля Прыляціць да вас адтуля І ля вокнаў, ля хаціны Закукуе, што я згінуў*. ГЖУ.

Адз. Н. *зязюля*: ГЖУ.

**ЗЯЛЁНЫ** (3) *прым.* **1.** Адзін з колераў сонечнага спектра; колеру травы. *..А за ім* [чараўніком] *сучыць сьледам, цянючы, зводнік. І гайдае зялёнае лісце.* Ч, 326.

**2.** З зялёнай расліннасцю. [Янка]: *Зялёны бор шлюб нам* [з Аленкай] *даваў, зоркі дружкамі былі, А расіца срабрыстая шлюбныя персцені свянціла.* Т, 53.

•**Зялёная армія** *гл.* армія**.**

Адз. м. Н. *зялёны*: Т, 53. ж. В. *зялёную*: БВ, 16. н. В. *зялёнае*: Ч, 326.

**ЗЯМЕЛЬКА** (6) *ж. Разм., паэт.* **1.** *Ласк. да* зямля ў 3 *знач. З ім* [Стаханаўцам] *ты* [трактар] *будзеш скарбы Здабываць з зямелькі..* ПТ, 208.

**2.** *Ласк. да* зямля ў 5 *знач. Ад польскага пана – Прыгон і бізун. Ад роднай зямелькі – Няўрод і каўтун.* МК. [Гануля]: *Цяпер ні зямелькі з хатай, ні грошай...* Т, 20.

**3.** *Ласк. да* зямля ў 6 *знач. Будзеш векі жыці, Зямелька советаў, На радасць, на шчасце Працоўнаму свету.* МПв, 220. *Родная зямелька! Ты, маўляў здароўе, – Той цябе ашанцуе, каму безгалоўе..* ХБ, 28.

Адз. Н. *зямелька* (2): МПв, 220; ХБ, 28. Р. *зямелькі* (4): МК; ПН, 47; ПТ, 208; Т, 20.

**[ЗЯМЕЛЬНЫ]** (6) *прым.* Які адносіцца да землеўладання, землекарыстання. *Зямельная спекуляцыя небяспечна цяпер для ўсіх – і для тых, што прадаюць, і для тых, што купляюць..* ЗС, 18. *..зямельную рэформу ён* [ўсебеларускі Устаноўчы сойм] *правядзе, і правядзе яе напэўна не на карысць паноў-абшарнікаў.* Там жа.

**Зямельная спекуляцыя.**

Адз. ж. Н. *зямельная* (2): ЗС, 17, 18. Р. *зямельнай*: АЛ. В. *зямельную*: ЗС, 18. Т. *зямельнай*: ЗС, 18. н. Н. *зямельнае*: ЗС, 18.

**ЗЯМЛІЦА** (2) *ж. Разм., паэт. Ласк. да* зямля ў 6 *знач. Ідзеш* [Новы год] *у край, дзе сотні летаў Хто толькі хоча гаспадарыць, Але не сын зямліцы гэтай, Які тут косці вечна парыць.* НГд, 8. *І запытаецца зямліца Тваёй душы і тваіх дум: Чаго ты блукаеш начніцай? Чаму твой край аддаў на глум?* БрБ, 6.

Адз. Н. *зямліца*: БрБ, 6. Р. *зямліцы*: НГд, 8.

**ЗЯМЛЯ** (138) *ж.* **1.** Месца жыцця і дзейнасці чалавека (пры супастаўленні з небам). *..сталі легіёны аўтарных служыцеляў хвіміямы яму* [Богу] *курыць, тысячы з медзі званоў хвалу яму разносіць, а так далёка, як зямля наша вяліка..* Кз, 17. *Нацыянальная рэволюцыя не страміцца к аднаму богу на зямлі..* СНБ.

**2.** Суша (у адрозненне ад воднай прасторы). – *Раскрылася неба й зямля, Рай і пекла зьмяшаліся ў процьму ў вадну ..* БН, 91. *Каменні ўстаюць, каб забіць ворага, рэкі выходзяць з берагоў, каб патапіць яго, зямля расступаецца, каб праглынуць яго...* РКП.

**3.** Глеба, грунт. *І пакуль у зямлю не зарылі, Хоць дух будзе шыпець у бясьсільлі, – На сваіх вісі жылах і сьмейся!* См, 91. *Стаиць* [праўда] *у нейким балоци; будынки пападгнивали, ў зямлю паўеждживали..* ХЛБ. // Рыхлае цёмна-бурае рэчыва, якое ўваходзіць у састаў нашай планеты. *..торпа прымешаны да пясчанай глебы, утварае найлепшае палепшаньне зямлі.* ХБ, 30.

**4.** Паверхня, плоскасць. [Мікіта]: *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага ўбору). К чорту пажарніцкую каманду! К чорту пажарніцкую кар'еру! (Пускаючы аб зямлю кнігамі) І нямецкае шпрэхен к чорту!* Т, 33.

**5.** Тэрыторыя, якая знаходзіцца ў чыім-н. уладанні, карыстанні; глеба, якая апрацоўваецца і выкарыстоўваецца ў сельскагаспадарчых мэтах. *Беларускі земляроб верыць і чакае, што панская зямля*

*пяройдзе раней ці пазней у яго рукі..* ЗС, 18. *Маці з дзецьмі пасля смерці бацькі пераязджае на арандаваную зямлю памешчыцы Стржалковай.* А, 328.

**6.** Край, краіна, дзяржава. *Нявольнікі вы* [жыды] *сёньня з намі разам. На беларускай змучанай зямлі..* Ж. *Беларускае баярства сталася чужацкім на сваёй беларускай зямлі.* Нз, 14.

∆**Матка - зямля** *гл.* матка.

•**Зямлі жыла** *гл.* жыла. **Кроў зямлі** *гл.* кроў.

◊**За трыдзесяць зямель** *гл.* трыдзесяць. **З зямлёй змяшаць** *гл.* змяшаць. **К зямлі прывязаць** *гл.* прывязаць. **Змесці з вобліку зямлі** *гл.* змесці. **Мяккая і лёгкая зямля** – ужываецца пры пахаванні нябожчыка. *І над сэрцам яе* [маці] *замёрлым, Як мяккай і лёгкай зямля! Вецер, вецер – такі вясёлы, Так абшырна воля твая!* ВБЛ, 82. **На кашу з зямлёй змяшаць** *гл.* змяшаць. **У зямлю йсці** *гл.* йсці.

Адз. Н. *зямля* (20): АК; БН; 91; БрБ, 6; ВБ; ВБЛ, 82; ВГ; ЗС, 17(2), 18(4); Кц, 17; МІ, 17; НДН, 18; НКУС; ПЛП; РКП; СС, 300(2). Р. *зямлі* (38): А, 327; АБ, 16; АЛ; БВ, 16; БрБ, 6(3); БС; БСУ; ВГ; ВГР; ВН (3); Г, 17; ЗК, 42; ЗС, 18; Кз, 17; КП, 170; М, 19, 20; Нз, 15; ОШМ; ПБН (2); ПСС, 232: ПЛП; ПН, 46; СД; СК, 158(2); СП (2); Т, 20, 44; ТП, 217; УрП, 52; ЧС, 50–51; Ф. Д. *зямлі* (4): АК; Бч, 9; ТС, 74; ХБ, 30. В. *зямлю* (23): А, 328 (2); БВ, 16; БрБ, 6; З; ЗС, 17, 18; МСП, 187; Н; Нз, 14; ПЛП; ПНд, 314; Пт; РКП; См, 91; Т, 33(2), 43, 44, 50; ХЛБ; Ч, 320, 322. Т. *зямлёй* (4): ЗС, 18; КП, 170; ПН, 46; Т, 43; *зямлёю* (3): Ч, 320, 322, 325. М. *зямлі* (34): А, 327, 328(2); АБ, 16; БСУ; ВГ; ДЖ; З; ЗС, 17; Ж; МПв, 219; НДН, 18; Н; Нз, 14; ПБН; ПВ; ПДз, 83; ПЛП; СНБ (6); Т, 21, 42; ТП, 213; Ун, 73; УПУВ; УрП, 52; ХБ, 30; Ч, 321; ЧС, 50–51(2). Мн. Н. *землі*: НК. Р. *зямель* (3): БВ, 16; НДН, 18(2); *земляў*: СА, 181. В. *землі*: СНБ, 337.

**[ЗЯРНЯТЫ]** (3) *мн.* **1.** *Памянш. да* зерне ў 1 *знач. Сталінец-трактар нам без прынукаў Поле араў і сеяў зярняты..* ССА, 294. *Зярняты свабодныя сявец З сяўні сее ў пульхны загон.* ТП, 213.

**2.** *Памянш. да* зерне ў 2 *знач. ..кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты заруйнеліся на нашых вачах буйнай квяцістай руняй..* ПЛП.

В. *зярняты* (3): ПЛП; ССА, 294, ТП, 213.

**[З’ЯЎЛЯЦЦА]** (11) *незак.* Быць, станавіцца. *..гэта часопісь* [“Наша Каляіна”] *з’яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці “Кветка Папараці”..* МІ, 17. *Рэформа правапіса .. з’яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы.* ШБСЯ.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *з’яўляецца* (8): АЛ; ВСп, 89, 91; МІ, 17; ПЧ; ЦСБ; ШБСЯ (2). Мн. 1 ас. *з’яўляемся*: ПЛП. 3 ас. *з’яўляюцца* (2): ДЖ; ЗС, 18.

# І

**І (**2123) і **Й** (36) *злучн. спалучальны* (1622) **1.** Ужываецца для злучэння аднародных членаў сказа і цэлых сказаў з аднароднымі паведамленнямі. *Бо не зачынялі нашы прашчуры весніцаў і дзвярэй хат сваіх перад званым ці нязваным госцем падарожным..* Кз, 17. *Дзе ні ступіць* [першы сын] – *згібаюцца краскі і травы, І пракляцьце шуміць бескарысна.* Ч, 320. *Масква й Варшава аплюлі* [жыдам] *імя І ў дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам, А Беларусь пад крыльлямі сваімі Вас грэла й вашым нянькаю была дзецям.* Ж. // Злучае словы, якія паўтараюцца для абазначэння працягласці дзеяння, узмацнення прыметы, якасці і пад. *Ці ня час ужо пакінуць* [беларусам] *сядзець і сядзець, чакаць ды чакаць?* БС. *З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усе наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.* ПЛП. *На месцы народнай цемры вырастаюць бязупынна ўсё новыя і новыя культурныя, навуковыя і навучальныя ўстановы.* АЛ. // Злучае два словы ў інтанацыйнае цэлае, што выражае адно паняцце. *Дзень і ноч працуюць дружна Фабрыкі, заводы, Землі родзяць ураджайна, Буйней з кожным годам.* НК. *Недаўна Грыцко памёр, а беднаму дзицяци прышлося исьци на вулицу поки доля изноў не зьвяла яе з бацькам и маткаю.* ПДз.

**2.** Злучае сказы, звязаныя адносінамі адначасовасці або паслядоўнасці падзей. *Тут пан як наскочыў, Крыкнуў ды гікнуў, і выстрал раздаўся.*Ун, 73. *Як толькі стаў* [цудадзей] *паміж народам, Заціх вячовы пераклік, І ўзьбегла песня карагодам, Ёй пакарыўся мал, вялік.* УрП, 47.

**3.** Злучае сказы, звязаныя: а) прычынна-выніковай залежнасцю. *Хор запяяў нейкую песню – якая азначала на афішах "беларускі гімн", але мелодыя была незнаёмая, і ніхто не ўстаў, абражаючы гэтым, як бы здавалася, гонар беларускай нацыі.* СБНГ, 19. [Мікіта]*: Я асцярожны, надта асцярожны, і за мяне, сябра беларус,*

*не турбуйцеся.* Т, 56. *..Яшчэ зрывалі* [вятры] *тэлеграму з тыну, Што ад Растова ўсе чырвоныя далёка Й няма што трасцай кідацца нялёгкай..* ВБЛ, 80. // У спалучэнні са словамі “дзеле таго”. *На земства малая надзея – яно недаўна у нашым краю заведзена і дзеле таго не можэ ешчэ аказаць вялікай падмогі.* ВС. *.. ураднік адказаў, што ён не разумее беларускай мовы і дзеле таго просьбы прыняць ня можа і што усе просьбы павінны пісаца па-польску або па-расійску.* ОШМ; б) умоўна-выніковай залежнасцю. *“Прасіце, і вам будзе дадзена; дабівайцеся, і вам атчыняць”..* ВР. *Дай* [1-ы брат] *другім волі ў волю, і сам будзеш вольны..* Ч, 323.

**4.** Злучае сказы і члены сказа з супраціўнымі адносінамі. *Яны* [польскія і расійскія нацыяналісты]*, як тые груганы, прывыклі ўжо клеваць бытцым-то мёртвае цела нашаго народу і, убачыўшы, што гэты народ ажывае, спудзіліся, што ім пажывы не хваце!* ВР. *Ужо на згубу з зямлёю і з хатай запісан* [другі сын], *І ўсё-ж долі завідуе ката.* Ч, 320.

А, 327(2), 328(8); АБ, 16 (9); АК (2); АЛ (67); Ан, 18(6), 19(31); АПЖ (4); АР (2); АЧ; Б, 18(8); ББ; БВ, 16(14), 17(5); БЗ; БН 91(4), 92(3); БрБ, 6(8), 7; БС (23); БСУ (11); Бц, 74; Бч, 9(12), 10(2); В (3); Вб, 236(2), 237(2); ВБЛ, 80(9), 81(7), 82(4); ВВ, 263(4); ВГ (8); ВГР (8); ВМ, 72(2); ВМР (24); ВН (11); ВНЗ (9); ВР (14); ВС (20); ВСп, 89(13), 90(6), 91(12); Г, 16(2), 17(4); ГВУ; ГЖУ (4); ГП, 8(6); Гр, 215; Д, 72, 73(3); ДД (6); ДЖ (10); Дз, 188(5), 189(4), 190(8), 191(2); ДК (14); ДНСП (5); ДПЛС, 306(2); ЕЯП; Ж (10); ЖН (40); З (16); ЗК, 43; ЗС, 17(11), 18(6); ЗЯЗ, 89(2), 90(3); ІП (2); К (9); КБ; Кз, 17(22); КП, 170(3); Кр, 77(4), 78; Кц, 192(3), 194(6), 195(7), 196(3), 197(3); ЛПК (2); ЛР (5); М, 20(2); МД (2); МІ, 17(13), 18(5); МК (4); МП (9); МПв, 218, 219, 220; МСП, 187(3); Н (8); НГ (7); НГд, 8(2); НД (2); НДН, 18(11), 19(12); НДп, 229(7); Нз, 14(12), 15(2); НК (5); НКУС (7); ОШМ (12); ПБН (19); ПВ (10); ПГ; ПДз, (15); ПЛ (2); ПЛП (32); ПН, 46 (4), 47(3); ПНд, 314(3); Пп, 5 (3); ПР (2); ПС (8); ПСД (5); ПСп (3); ПСС, 231(3), 232(4); Пт (7); ПТ, 206(2), 207; ПЧ (22); Р (3); РКр (17); РС, 39, 40(2); СА, 179, 180(2); СБ (3); СБНГ (9); СК, 158(8); См, 90, 91(10); СМ; СНБ, 336(12), 337(8), 338(5), 339(2), 340(9); СНБ (39); СП (3); СС, 300(4), 301(3), 302(4), 303(3), ССА, 294(4); СТ (7); СЧ (6); Т, 19(8), 20(7), 21(3), 22(7), 23(10), 24(10), 25(8), 26(8), 27(5), 28(6), 29(7), 30(10), 31(3), 32(11), 34(9), 35(8), 36(7), 37(9), 38(6), 39(2), 40(4), 41(7), 42(9), 43(15), 44(11), 45(8), 46(26), 47(9), 48(8), 49(2), 50(9), 51(4), 52(7), 53(4), 54(4), 55(6), 56(7), 57(14), 58(8), 59(8), 60(4), 61(8); Тж, 15(4), 16(7); ТЗУ, 293(2); ТП, 213(2), 214(6), 215(7), 216, 217(5); Тр (3); ТС, 74(3); У;

Ун, 73; УП (5); УПУВ (11); УрН, 46, 47(7); УрП, 48(2), 49(4), 50(4), 51, 52(5); Ф (4); Х; ХБ, 27, 28(3), 29(8), 30(6); ХЛБ (2); ХЛВ (5); ХХ, 128; ЦСБ (4); Ч, 319(7), 320(8), 321(6), 322(5), 323(6), 324, 325(4), 326; Чж, 146(3), 147; ЧС, 50–51; ЧЧШ (7); Ш 1; Ш 2(3); Ш 3; Ш 4(2); ШБСЯ (23).

**II**. *пералічальны* (352). Злучае асобныя члены пералічэння, можа стаяць перад кожным членам рада. *А забабон далей ідзе і распасьцірае свае павучыные, неразблытные сеці, у якіх душыць і вольнага духа, і сьветлую праўду і сумленьне людзкое.* З. *І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.* Нз, 15. *..і "Лірнік", бязумоўна, хутка разойдзецца па Беларусі са сваімі й смутнымі й вясёлымі песнямі.* ВСп, 90. // Ужываецца толькі перад апошнім аднародным членам, паказваючы, што пералічэнне канчаецца. *..нацыянальнае беларускае жыццё пачынае кіпець, палаць праўдзівым вечным і жыватворным полымем.* МІ, 17. *Сягоння там жыта, з якога не выйсці, Мурожныя травы, каноплі, і лён.* ПБН. *Найболей пладавітымі, чыннымі й рухавымі ў падгатоўцы матар'ялу й друкаванні .. аказаліся быўшы Навукова-Літаратурны Аддзел пры Наркасасьвеце Беларусі і быўшае В-ва "Адраджэнне" – цяпер "Савецкая Беларусь".* ВСп, 90.

А, 328; АБ, 16(3); АЛ (5); Ан, 19(6); АПЖ; АР (2); БВ, 16(4); БЗ; БН, 92(4), 93; БрБ, 6(2); БС (2); БСУ (2); Бц, 74(2); Бч, 9(4); ВБ; ВБЛ, 81(2), 82(3); ВН (5); ВНЗ (2); ВР (6); ВС (2); ВСп, 89(5), 90(3), 91(2); Г, 17(2); ГВУ; ГП, 8(2); ДД; ДЖ (5); Дз, 189(2), 191(2); ДК (7); Ж (3); ЖН (4); З (7); ЗС, 18(4); Кз, 17(2); Кр, 77(2); Кц, 192(4), 194(12), 195(10), 196(2), 197(8); ЛР; МІ, 17(5); МПв, 219(2); МСП, 187(2); НГ (2); НДН, 18(4); НДп, 229(5), 230(4); Нз, 14(5), 15(7); НК (3); НКУС; ОШМ (3); ПБН (4); ПВ (2); ПЛП (2); ПСС, 232; ПЧ; РКр (2); РКП; СБНГ (3); СЗГ, 252(2); См, 90; СМ (3); СНБ (12); СНБ, 337, 338, 339(3); Т, 19(3), 22, 23(2), 25(3), 26(2), 28(4), 29(2), 31, 33(3), 34(2), 37(2), 38, 39, 43(3), 44(2), 45(4), 46(4), 47(5), 48(4), 49, 50, 53, 55, 56, 59, 62(2); Тж, 15(2), 16(3); ТП, 213(4), 214(4), 215(2), 216(2), 217(4); УП (2); УПУВ (4); УрП, 46, 47(2), 48, 49(2), 52(2); ХБ, 27, 28(2), 29; ХЛБ; ЦСБ; Ч, 319(2), 320(2), 322(2), 325(4); ШБСЯ (4).

**III.** *далучальны* (166). 1. Далучае сказы і члены сказа, якія дапаўняюць, развіваюць або абагульняюць выказаную думку. *..яны* [паны-абшарнікі] *таксама ведаюць, што калі збярэцца ўсебеларускі Устаноўчы сойм, то зямельную рэформу ён правядзе, і правядзе яе напэўна не на карысць паноў-абшарнікаў.* ЗС, 18. [Спічыні]: *Дзеля гэтага, перш чымся араторыць, вы* [Мікіта]

*павінны выбраць сабе стойкую пляцформу і толькі адну.* Т, 41. // Далучае сказ, які з’яўляецца працягам папярэдняга выказвання. *Ён* [абываталь] *бачыць, што беларушчына нясе новыя парадкі і зьмену ўсяго таго, з чым ён зжыўся, да чаго прывык і дапасаваў уклад свайго жыцьця, і гэта яго палохае і адварочвае.* ВМР. [Янка]*: ..калісь амэрыканцы, змагаючыся з Англіяй за сваю незалежнасць, напісалі на сваім сцягу несмяротныя словы: “Амэрыка для амэрыканцаў”. І гэта памагло: сягоньня Амэрыка вольная.* Т, 35. // У спалучэнні з часціцай “вось” (“вот”). *І вось мы, беларусы, гаворачы аб сваёй дзяржаўнай незалежнасці, не павінны абходзіць моўчкі таго балючага пытання, як гэта мы, атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі.* НДН, 18. *І вот у гэтую часіну Да іх* [грамадзян] *там дыбаў цудадзей, Слуга пратайнасці прадзіўнай, Надчалавек, хоць і з людзей.* УрП, 47.

АБ, 16(4); АЛ (2); Ан, 18(2), 19(4); БВ, 16(4); БЗ; БН, 92; БС (4); БСУ (4); ВМР (3); ВН (4); ВР; ВСп, 89, 90(2), 91(4); ДЖ; ДК (3); ЖН; З; ЗС, 18(2); ЗЯЗ, 90; Кз, 17; МІ, 17(3); МП (3); Мц, 75; Н; НДН, 18(3), 19; НДп, 229; Нз, 14(4), 15(3); ПВ (2); ПДз; НПП (2); ПС; Пт; Пц; ПЧ; СБНГ (8); СНБ (5); СНБ, 336(2), 337, 338, 340; СТ; Т, 19, 20, 21(2), 23, 26, 28, 30(2), 31(2), 34(3), 35, 36(2), 37(2), 39(3), 40(2), 41(2), 42, 44, 45(2), 46(3), 47, 52(2), 53(5), 54, 55(2), 57, 60(3), 61; Тж, 15(2); УПУВ (2); УрП, 47, 51; Х; ХБ, 28; Ч, 320(2), 321, 322(2), 325; ЧЧШ (2).

**IV.** *далучальна-ўзмацняльны* (19). У пачатку пытальных і клічных сказаў ужываецца для ўзмацнення выразнасці выказвання. *Божа праведны, Божа! над братам брат – кат!.. І за што-ж катам той, а той гэтак цярпіць?* БН, 92. *Рэдактар плакаў і плакаў... І было чаго плакаць!* ЧЧШ. Ан, 18; БН, 92(2); ВГ; ДК (2); СНБ; Т, 23, 24, 36, 44(2), 57, 58, 60; Тж, 15(2).

**Вайна і налогі. Вайна і самапомач. Грамадскія і навуковыя дзеячы аб гістарычнай пастанове ўраду. Добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху нашага мудрага Сталіна. Незалежная дзяржава і яе народы. Песня і народ. Хлопчык і лётчык на вайне. Я мець ад кагосьці і штосьці прывык**.

**І гэтак далей (г.<этак> д.<алей>)** *гл.* далей**. І гэтаму падобнае (і г.<этаму> п.<адобнае>)** *гл.* падобны. **І іншыя (і інш.<ыя>)** *гл.* іншы.

**І**[2] (344) і **Й**[2] (18) *часц. Узмацняльная.* **1.** Ужываецца для ўзмацнення сэнсу таго слова, перад якім стаіць. [Ануля]: *Ну і госці! Адкуль ты* [Мікіта] *іх выкапаў? Яны ж уперад у нас не бывалі.* Т, 22. [Мікіта]: *Ну і немец, меджду протчым! Сваіх жа нямецкіх марак не хацеў купіць.* Там жа, 42. [Мікіта]: *Вось я й надумаўся*

*звярнуцца, медзду протчым, з просьбай да вас* [Янкі]*, каб вы мне ў гэтым памаглі.* Там жа, 56.

**2.** Вылучае, падкрэслівае наступнае слова; па значэнню блізкая да часціцы нават. *..аб беларускай мове ні наша адміністрацыя, ні грамадзянство і гукаць ня хочуць, – яе быцым-то ня бачуць.* ВР. *Чые звонка звоняць косы На мурожнай сенажаці?* СА, 180. *Працавітаго быў першы* [сын] *Складу і нагібу, Так, здаецца, што й памершы, Ўсё араў, касіў-бы.* Дз, 189.

**3.** Адпавядае па значэнню часціцы таксама. *У 1905 годзе пачаў і я* [Купала] *падаваць сільней свой голас ад імя многапакутнага працоўнага народа.* ДЖ. *Забабон жыве і на Беларусі, а уладаньне яго тут, бадай, магутнейшае, цяжэйшае І нікчамнейшае як на цэлым сьвеце.* З. *Побач з Госиздатам дрэмле й наша "Палітпрасьвета", якая надрукавала пабеларуску, як-бы адчэпнага чатыры лістоўкі* (№№ 36, 37, 38 табліцы) *– і ўсё тут.* ВСп, 91.

**4.** Адпавядае па значэнню часціцы хоць. [Мікіта]: *Оей! Оей! І зразумеў* [немец] *і не паверыў. Гвалтам робяць генэралам.* Т, 33.

◊**Вот і ўсё тут** *гл.* вот.

А, 327, 328(3); АБ, 16; АЛ (7); Ан, 18(2), 19(3); БВ, 16(4), 17; БН, 92(2); БрБ, 6; БС (5); БСУ (4); Бц, 74(2); Бч, 9, 10; В; Вб, 236, 237; ВБЛ, 82(2), 83(3); ВГР; ВМ, 72(4); ВМР (3); ВН (6); ВР (5); ВС (5); ВСп, 89(4), 90(3); ГВУ (4); ГНД; Д, 73; ДД (5); ДЖ (2); Дз, 191; ДНСП (2); ЕЯП (2); З (4); ЗК, 43; ЗС, 17(2), 18(4); ЗЯЗ, 89; Кз, 17(2); Кц, 195; КЧ; МІ, 17 (4); НДН, 18, 19(3); Нз, 14(9), 15; НКУС; ОШМ (2); ПБН; ПДз; ПЛП (2); ПНд, 314; Пр; ПС; ПСп; ПЧ (2); Р; РКр (4); СА, 180; СБНГ (7); СМ; СНБ, 336, 337, 338(2), 339(3), 340(2); СНБ (7); СП (3); СЧ (2); Т, 19(2), 20(7), 21(6), 22(8), 23(2), 24(6), 25(3), 26(4), 27(4), 28(4), 29(4), 30(5), 31(3), 33, 34(5), 35(6), 36(3), 37, 38(3), 40(3), 42(3), 43, 44(8), 45(4), 46(3), 47(5), 48(10), 50(2), 51, 53(2), 54(10), 55(5), 56(4), 57(4), 58(2), 60(2), 61(3), 62(2); Тж, 16; ТП, 213, 214, 215, 216, 217; Ун, 73; УПУВ; УрП, 47, 50; ХБ, 29, 30; ХЛБ; Ч, 320; ЧС, 50–51(2); ШІ; Ш 4; ШБСЯ.

**ІБО** *злучн. Руск. Тое, што* бо. **1.** [Усходні вучоны]: *(запісваючы). О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают, ібо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47.

**ІГНАРАВАННЕ** *н.* Дзеянне павдоле знач. дзеясл. ігнараваць. [Янка]: *Баюся я толькі, каб вы* [Мікіта] *не вышлі на ёй* [новай кар'еры]*, як залетась на аратарстве; прытым ваша* [Мікіты] *поўнае дагэтуль ігнараванне гэтай справы й несвядомасць…*Т, 56.

Адз. Н. *ігнараванне:* Т, 56.

**[ІГОЛАЧКА]** *ж.* : ◊**Ні на іголачку** – нічога. [Мікіта]: *(..да Ганулі). Меджду протчым, мамаша, прадалі што-небудзь ці не?* [Ганулявалі]: *А ні на іголачку. Як хто зачараваў.* Т, 34.

Адз. В. *іголачку*: Т, 34.

**ІГРАЦЬ** *гл.* **ГРАЦЬ.**

**[ІГРУША]** *гл.* **ГРУША .**

**ІГРЫШЧА** (3) і *разм.* **[ЙГРЫШЧА]** *н.* Вечарынка з пітвом, чparticle частаваннем. [Аленка]: *(пырснуўшы смехам). Ха-ха-ха! Ну і панскае ігрышча дык ігрышча! Ха-ха-ха!* Т, 29. // *Вобразн. Ідзем* [Новы год] *у край, дзе пажарышча Яшчэ дымецьне не перастала, Дзе смерць спраўляе сваё йгрышча, У сполку з чэрняй адзічалай.* НГд, 8.

Адз. Н. *ігрышча* (2): Т, 29(2). В. *йгрышча*: НГд, 8.

**ІДУЧЫ** (2) *дзеепрысл.* **1.** *да* ісці *ў* 1 *знач.* [*Поп*]: *(ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой). Акі пціцы небесныя, отлетающчы на зімнее время в жаркія страны.* Т, 38.

**2.** *да* ісці *ў* 2 *знач.* [Аленка]: *(сеўшы на лаўку, пасля паўзы). Вось, напрыклад, ідучы сюды сказалі вы* [Янка]*, што мы павінны дабівацца, каб быць не толькі гаспадарамі самі над сабой, але і над сваёй воляй.* Т, 35.

**[ІДЭАЛ]** (6) і **[ІДЭЯЛ]** (2) *м.* **1.** Дасканалы ўзор чаго-н. *Сваей неразумнай захватнай політыкай яны* [рэвалюцыянеры] *толькі зацягіваюць процэс праўдзіва-дэмократычнага разьвіцьця нацыянальна-культурных ідэй і пашырэньне на зямлі нясьмертных ідэялаў свабоды, роўнасьці і брацтва.* СНБ.

**2.** Пра таго, хто з’яўляецца для каго-н. вышэйшым увасабленнем якіх-н. якасцей. *Як першая, так і другая* [рэволюцыя] *стараюцца ўсіх пераканаць, што кожная з іх змагаецца за лепшые усясьветные ідэалы, за сьветлые дні.* СНБ. *Але вось надыйшоў час вялікай усесьветнай разрухі, час вялікіх змаганьняў за лепшыя ідэалы.* УПУВ.

Мн. Н. *ідэалы*: СНБ. Р. *ідэалаў*: СНБ. В. *ідэалы* (3): АЛ; СНБ (2); *ідэялы*: УПУВ. Т. *ідэаламі:* АЛ; *ідэяламі*: СНБ.

**[ІДЭЁВЫ]** (4) *прым. Польск.* Ідэйны, прасякнуты перадавымі ідэямі, заснаваны на іх. *Шчыры голас і праца ідэёвая людзей ..палажылі свае векапомныя падваліны дзеля адраджэння свайго народу, дзеля адбудавання незалежнасці сваёй Беларускай дзяржавы.* СНБ, 336–337.

Адз. ж. Н. *ідэёвая*: СНБ, 336.

**ІДЭЯ** (15) *ж.* **1.** Паняцце, уяўленне, якое праўдзіва або памылкова адлюстроўвае ў свядомасці чалавека і выражае яго адносіны да навакольнага свету. *Усяго пятнаццаць год вялікая ідэя вызвалення з падняволля Беларусі лунае і пашыраецца сярод многамільённага беларускага грамадзянства.*ПЛП. *Ні адно на свеце адраджэнне*

*народу, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народу.* Там жа.

**2.** Погляды, перакананні. *Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе..* Тж, 15. *Сягоння ідзе паганы торг за ідэі, за праўду векавечную, агульналюдскую.* Там жа.

**3.** Думка, задума. [Дама]: *У мяне з'явілася цудоўная ідэя: той вечар у вас* [Мікіты] *на імянінах, перад выхадам немцаў, такое мілае ўражанне пакінуў, што я вельмі была б шчаслівай, каб сягоння яго паўтарыць.* Т, 51.

Адз. Н. *ідэя* (7): БСУ (2); ПЛП (3); Т, 22, 51. Д. *ідэі*: Т, 22. Т. *ідэяй*: МІ, 17. Мн. Н. *ідэі*: Тж, 15. Р. *ідэй*: СНБ. В. *ідэі* (3): АЛ; Т, 22; Тж, 15.Т. *ідэямі*: АЛ.

**ІДЭЯЛ** *гл.* **ІДЭАЛ.**

**ІЖ** (2) *злуч. Тое, што* і што[2] ў 1 *знач.* [Заходні вучоны]: *Падчас баданя тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей. ..На запытане, як сень долеко распостшэня овэ "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наргул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

**ІЗ** (2) *прыназ. Руск.* **1.** *Тое, што* з у 1 *знач.* [Усходні вучоны]: (*запісваючы*). *О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют* [беларусы] *і помышляць не жэлают, ібо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47.

**2.** *Тое, што* з у 12 *знач.* [Усходні вучоны]: *На вопрос, как далеко распространяется оное "далей", мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэруском говорэ, что для посіціжэнія сего "далей" у наукі вообшчэ і в частносці ў Западной наукі короткі пяткі.* Т, 39.

**ІЗВІНІЦЬ** (3) *зак. Руск.* Выбачыць, прабачыць. [Заходні вучоны]: *Пся крэв!* [Усходні вучоны]: *Ізвініце, судар!* Т, 38.

Заг. мн. 2 ас. *ізвініце* (3): Т, 26, 38, 47.

**ІЗЛІШНЕ** *прысл. Руск.* Залішне, занадта; празмерна [Поп]: *Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.* Т, 27.

**ІЗНОЎ** (12) і *разм.* **ЙЗНОЎ** (2) *прысл.* Зноў, яшчэ раз. *І паліліся ізноў па віленскім каркаломным бруку гаротные сьлёзы,*

*сьлёзы кракадылевы.* ЧЧШ. [Аленка]: *Татку ж майго йзноў у абоз пагналі.* Т, 54. Ан, 19; АПЖ; БВ, 16; БС (2); ВЧ; Т, 20, 22, 25, 29, 59; УрП, 49.

**ІЛЖЫВЫ** *прысл. Руск.* Хлуслівы. – *Як сьмееш зьдзеквацца гэтак Ад свайго бога-павука! Цямрук ілжывы, прайдзісьвета, Пасол ты* [чараўнік] *ліса ці ваўка!* УрП, 52.

Адз. м. Н. *ілжывы*: УрП, 52.

**ІЛІ** *злучн. Руск. Тое, што* або ў 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *Вашы* [Янкі] *землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко – в Европу ілі Азію?* Т, 47.

**ІЛЬЛЮЗІЯ** *ж.* Уражанне, бачнасць чаго-н. ... *і яны* [бальшавікі] *змушаны былі хоць фікцыйна ствараць ільлюзіі, што яны так сама спачуваюць нацыянальным тэндэнцыям падняволіваных імі народаў, і такім чынам стваралі "незалежные" рэспублікі, як напр. Беларускую, Украінскую.* СНБ.

Мн. В. *ільлюзіі*: СНБ.

**ІЛЛЮСТРАВАНЫ** *дзеепрым. зал. пр. да* [ільлюстраваць]. *У знач. прым.* Які мае ілюстрацыі, з ілюстрацыямі. *Зьвяртае на сябе ўвагу так сама "Беларускі лемантар", вельмі багата ільлюстраваны.* ВСп, 89.

Адз. м. Н. *ільлюстраваны*: ВСп, 89.

**ІМГЛА** (3) *ж. перан.* Аб цяжкім, бязрадасным існаванні. *А там, за Сулою, па той бок граніцы, Дзе звесілі дзюбы панура арлы, Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы У панстве фашызма, крывавай імглы.* ПБН. // Што-небудзь невыразнае, незразумелае, забытае. *З туманаў, з імглы, з цемнаты Паўстала краіна мая.* ТП, 214.

Адз. Н. *імгла*: ТП, 214. Р. *імглы* (2): ПБН; ТП, 214.

**ІМЕН** *н. Польск. Тое, што* імя *ў* 1 *знач.* [Усходні вучоны]: *Паньске імен і назвіско?* [Янка]: *Янка Здольнік, пане вучоны.* Т, 26.

Адз. Н. *імен*: Т, 26.

**ІМЕННО** *часц. Руск.* Менавіта. [Усходні вучоны]: *Пры опросе белоруса выяснено необыкновенную особенносць, а іменно: вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім исследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

**[ІМЕНУЕМЫЙ]** *дзеепрым. незалеж. цяп. да* [іменаваць]. *Руск.* Які называецца. [Усходні вучоны]: *(да Янкі). Необходзімо почэрпнуць от вас сведенія касацельно церрыторыальных данных області, іменуемой вашым племенем – Белорусь.* Т, 38.

Адз. ж. Р. *іменуемой*: Т, 38.

**[ІМЕННЕ]** і **[ІМЕНЬНЕ]** *н. Польск. Тое, што* імя *ў* 2 *знач.*

*У гэтые дні адбылося вялікае і урачыстае сьвято уходзін Віленскага Універсытэту іменьня караля Сьцяпана Баторага.* УПУВ. [Мікіта]: *І наша патомства калісь занатуе, меджду протчым, нашы іменні на залатой дошцы.* Т, 49.

Адз. Р. *іменьня*: УПУВ. Мн. В. *іменні*: Т, 49.

**[ІМЕЦЦА]** *незак. Руск.* Мецца; знаходзіцца, існаваць. [Усходні вучоны]: *(запісваючы ў нататнік). Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна – есть суша і водныя басейны, дажэ морэ собственное імелось.* Т, 47.

Абв. пр. адз. *імелось*: Т, 47.

**[ІМЕЦЬ]** *незак. Руск.* У спалучэнні асабовай формы з інф. набывае значэнне: "можа што-н. зрабіць". [Усходні вучоны]: *О Дарданелах, о Індзійскіх і о какіх-лібо окошках не помышляют і помышляць не желают, бо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47.

◊**Чэсць імею** *гл.* чэсць.

Абв. цяп. адз. 1 ас. *імею*; Т, 27. Мн. 3 ас. *імеют*: Т, 47.

**[ІМЖЫЦЬ]** *незак. перан.* Падаць дробнымі кроплямі (пра дождж). *Вы ўскрэснеце, Жыды, усьлед за Беларусяй, – Сьцяг ваш і нашая паходня будуць жыць, Хоць наш магільнік кветкай апрануўся, Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць.* Ж.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *імжыць*: Ж.

**[ІМКНЕННЕ]** і **[ІМКНЕНЬНЕ]** (2) *н.* Намеры, жаданне. *Законы ж твае* [Сталіна]*, нібы светач нязгаслы, Шляхі асвятляць будуць светлым імкненням, Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.* ТП, 216. *..я* [Купала] *рашуча і раз назаўсёды як у сваёй літаратурнай творчасці, так і ў сваіх імкненнях і грамадзкай дзейнасці парываю з беларускім нацянал-дэмократызмам ва ўсіх яго праяўленьнях.* АЛ.

Мн. Д. *імкненням*: ТП, 216. М. *імкненьнях* (2): АЛ (2).

**[ІМКНУЦЦА]** (3) *незак.* Хутка рухацца, накіроўвацца куды-н. *І ў апошнія гады перад сусветнай вайной гэта рэакцыя здавалася задушыла ў народах, падняволеных расійскім царом, усё, што было лепшага ў думках, усё, што імкнулася да свабоды, да святла.* ДЖ. *Царскія сатрапы ўсяляк імкнуліся задушыць беларускае слова.* А, 328.

Абв. пр. адз. м. *імкнуўся*: СЧ. н. *імкнулася*: ДЖ. Мн. *імкнуліся*: А, 328.

**[ІМПЕРАТАРСКІ]** *прым.* Які мае адносіны да імператара. *Калі мы зірнем у нядаўнюю мінуўшчыну вялікіх дзяржаў, як, напр., царская Расія, імператарская Нямеччына і інш., ..то мы бачым адно, што гэтыя дзяржавы ў сваім імперыялістычным і мілітарным усёзніштажаючым паходзе мелі адну ярка

*зарысованую мэту – гэта заграбіць як найболей пад сваё каршуновае крыло чужых малых народаў і паднявоіць іх сваёй нацыі, свайму дзяржаўнаму правапарадку.* НДН, 18.

Адз. ж. Н. *імператарская*: НДН, 18.

**ІМПЕРЫЯ** (3) і **[ІМПЭРЫЯ]** (5) *ж.* Манархічная дзяржава на чале з імператарам. *Ідэя будаваньня свайго незалежнага жыцьця паднявольнымі народамі, якая загарэлася вечным жывым агнем пасьля развалу Расійскай самауласнай імпэрыі, каторая душыла пад сваей нагой усе праявы вольнага духу, – гэта ідэя сягодня ператвараецца у жыцьце, становіцца жывым дзелам, цьвердым фактам.* БСУ. *У замучанай царызмам Беларусі, як і ва ўсёй Расійскай імперыі, працоўныя былі пазбаўлены права ўдзельнічаць у якой-бы то дзяржаўнай рабоце*.ГВУ.

Адз. Н. *імперыя* (2): НДН, 18 (2). Р. *імпэрыі* (3): БСУ; Т, 45, 56. Т. *імпэрыяй*: ВБЛ, 80. М. *імпэрыі*: Т, 48; *імперыі*: ГВУ.

**[ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНЫ]** (2) і **[ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да імперыялізму. *Вы* [Антанта] *ў сваім паходзе імперыялістычным і мілітарным ішлі і сціралі ўсё і ўсіх на сваёй дарозе, а ўсё для панавання ўсясільнага молаха-золата.* Тж, 16. *Імпэрыялістычная заграпічная буржуазія адзіным фронтам з рэштакмі капіталістычных элементоў у СССР напружвае ўсе свае сілы для таго, каб перашкодзіць гэтай творчай рабоце працоўных мас, каб зьнішчыць соцыялістычную дзяржаву, апору сусьветнага рэволюцыйнага пролетарыяту ў яго барацьбе за вызваленьне з-пад ярма рабства і эксплёатацыі.* АЛ.

Адз. м. М. *імперыялістычным* (2): НДН, 18; Тж, 16. ж. Н. *імпэрыялістычная*: АЛ.

**[ІМПЭРЫЯ]** *гл.* **ІМПЕРЫЯ.**

**[ІМПЭРЫЯЛІЗМ]** *м.* *Тое, што* імперыялісты. *Для ажыцьцяўленьня гэтае мэты група контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентоў, у хаўрусе і пад кіраўніцтвам заходне-беларускага нацыянал-фашызму, гэтай агентуры польскага імпэрыялізму, на працягу раду год вяла шкодніцкую работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, накіроўваючы галоўныя ўдары, аднак, па лініі культуры і зямельнай экономікі.* АЛ.

Адз. Р. *імпэрыялізму*: АЛ.

**ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНЫ** *гл.* **[ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНЫ].**

**[ІМЧАЦЦА]** *незак.* Праследаваць, насцігаць. *Таўкуцца душы скамянелы, Крывавы пот цячэ са шчок, А ўсьлед над імі і за імі Імчацца гібелі наўскок.* РС, 40.

Абв. цяп. мн. 3 ас. *імчацца:* РС, 40.

**ІМЯ** (20) і **ІМЕ** *н.* **1.** Асабістая назва чалавека. *А ўся – жаночэ*

*іме, Кожны знойдзе між сьвятымі. Далей буду ўжо маўчаць, Бо й так можна адгадаць.* $Ш_4$. *Адбіваючы тут-жа паклоны плашмя, Нейкі нехрысьць крапідлам махае, пяе Ды шыпіць, як гадзюка, Хрыстова імя.* БН, 92. // Пра прозвішча. *Людзі ходзяць, весяляцца Ў думках іхніх свята, А на вуснах іх імёны Слаўных кандыдатаў.* НК. // Назва чаго-н. *У Празе мы* [савецкія дэлегаты] *наведалі "дабрачынны камбінат" імя Масарыка, дом спартыўнай чэшскай арганізацыі "Сокал".* ПЧ. У некаторых перыфрастычных выразах ужываецца ў значэнні асобы. *У тысячы сьветычаў сонц залатых Яна* [песьня] *разлілася між імі* [людзьмі]*; Разсеела цемру, ўзлячыла сьляпых, – Сваё, іх праславіла імя.* ПН, 47. *Імя тваё* [Сталіна] *ўспамінае ўрачыста Хлапчук, які лётаць наважыў.* СС, 301. *Параўн.* імен, іменьне.

**2.** Вядомасць, слава. *Жыць будзе ў свабодным шчаслівым народзе Імя палкаводца ад зорак да зорак.* НДп, 230.

**3.** Рэпутацыя. *Масква й Варшава аплюлі вам* [Жыдам] *імя І ў дзікай чэрні ненавісьць збудзілі к вам.* Ж. *Такая пастаноўка гэтай справы часта адбіваецца на добрым імі беларускага народу і ня раз ставіла публіку у прыкрае палажэнне, як і было гэта ня вельмі даўно.* СБНГ.

◊**Ад імя** – па даручэнню каго-н., спасылаючыся на каго-н. *У 1905 г. пачаў і я* [Купала] *падаваць сільней свой голас ад імя многапакутнага беларускага працоўнага народа.* ДЖ. **З імем** – у гонар чыйго-н. імя рабіць. *З імем шчаслівым тваім* [Сталіна] *у Хасане Байцы самураяў тапілі..* СС, 302. **На імя** – адрасаваны, прызначаны каму-н. – *Пісаў навет прашэнне раз на імя павятовага камісара, каб ён даў мне перапустку ў Радашковічы.* Ан, 18.

Адз. Н. *імя* (3): НДп, 230; СС, 302(2); *іме*: Ш 4. Р. імя (2): ДЖ; ПЧ. В. *імя* (10): Ан, 18(2); БН, 92(2); ВМР; Д, 72; Ж; ПН, 47; СС, 301, 302. Т. *імем* (2): Г, 16; СС, 302. М. *імі:* СБНГ. Мн. Н. *імёны*: НК. Р. *імёнаў*: ПБН.

**ІМЯНІННІК** (4) *м.* Чалавек у дзень сваіх імянін. [Мікіта]: *(Падымаючы чарку). За здароўе дастойных, меджду протчым, гасцей.* [Галасы]: *О, не! не! За здароўе імянінніка! Віват! Ура!* Т, 28. [Гарошка]: *Шкада толькі, што маці гэтага імянінніка ў гэтакую кампанію ўпуталася.* Там жа, 29.

Адз. Н. *імяніннік* (2): Т, 31(2). Р. *імянінніка* (2): Т, 28, 29.

**[ІМЯНІННЫ]** *прым.* Які запрошаны на імяніны. [Мікіта]: *(зірнуўшы). Гэта, здаецца, мае быўшыя імянінныя госці.* Т, 37. [Мікіта]: *А так, так! На тое ж сягоння мае імяніны.* [Наста]: *Ды я не аб імянінных гасцёх.* Т, 24.

Мн. Н. *імянінныя:* Т, 37. М. *імянінных*: Т, 24.

**ІМЯНІНЫ** (7) *толькі мн. Разм.* Дзень нараджэння. [Гануля]:

*Паляцеў у горад таго-сяго купіць. Сягоння імяніны яго* [Мікіты], *дык мо той ці сёй здарыцца ў хату.* Т, 20. [Янка]: *Апрача гэтага пазвольце, пане рэгістратар, павіншаваць вас* [Мікіту] *з імянінамі. Жычу вам надзець шліфы калежскага асэсара.* Т, 21.

Н. *імяніны* (3): Т, 20, 24, 27. В. *імяніны:* Т, 24. Т. *імянінамі*: Т, 21. М. *імянінах* (2): Т, 20, 51.

**ІНАКШЫ** (3) *займ. Разм. Тое, што* іншы *ў* 1 *знач. Мы ўжо ня тыя, – інакшыя думы Вырасьлі з намі, завуць к барацьбе..* Г, 17. *Край, дзе жыццё я* [Нёман] *сваё пачынаю, Шмат весялей прыглядаўся на свет, Песні і казкі інакшыя баіў, Шчасце цвіло ў ім, як макавы цвет.* Н.

Адз. м. Н. *інакшы*: Н. Мн. Н. *інакшыя*: Г, 17. В. *інакшыя*: Н.

**[ІНАРОДЧАСКІ]** *прым. Руск. Разм.* Іншародны. [Мікіта]: *Мы цвёрда стаялі на варце святога расійскага самаўладзтва і баранілі тутэйшую рускую народнасць ад “інародчаскага засілля”.* Т, 21

Адз. н. Р. *інародчаскага*: Т, 21.

**ІНАЧАЙ** (20), **ЙНАЧАЙ** (6) і **ІНАЧЭЙ** **1.** *прысл.* Іншым спосабам, па-другому, не так. *Месца дзеі – кусок Катадральнага пляца, называнага мянчанамі “Брахалка”, – бліжэй ад Койданаўскай вуліцы, з відам насупроць – вежа з гадзіннікам.* Т, 33. *Паглядзеў я, і мяне аж у холад кінула. – У тых* [газетах], *– кажу, – што я глядзеў, было іначай.* Ан, 19.

**2.** *у знач.* пабочн. *Гэта ўсё ўпаі дзіцяці З малаком сваіх грудзей, Бо іначай пойдзеш, маці, Жабраваць хлеб у людзей.* М, 20. [Спічыні]: *Дзеля гэтага, перш чымся араторыць, вы* [Мікіта] *павінны выбраць сабе стойкую пляцформу і толькі адну, а не дзве або тры, бо йначай можаце паскаўзнуцца і зваліцца з усіх трох разам.* Т, 41.

◊**Іначай кажучы** *гл.* кажучы. **Так ці іначэй (йначай)** *гл.* так.

Ан, 19(2); БВ, 16; ВСп, 89; Н (2); СНБ, 339; Т, 20, 21, 29, 35, 40, 43, 45(2), 57, 62; ТП, 215; Ун, 73; Ч, 322.

**[ІНДЫЙСКІ]** *прым.* Які адносіцца да Індыі. [Усходні вучоны]: *(запісваючы). О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют і помышляць не жэлают* [беларусы], *бо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.* Т, 47.

Мн. М. *індзійскіх*: Т, 47.

**ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ** *ж.* Працэс стварэння буйной машыннай вытворчасці ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. *Шкодніцтва, дыверсія, шпігоўства, інтэрвэнцыя, – усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны социялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя..* АЛ.

Адз. Н. *індустрыялізацыя:* АЛ.

**[ІНДУСТРЫЯЛЬНА-КАЛГАСНЫ]** і **[ІНДУСТРЫЯЛЬНА-КОЛГАСНЫ]** *прым.* Які мае адносіны да прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. *Вырасла і далей бурна расце індустрыяльна-калгасная Беларусь.* ШБСЯ. *Усе сілы – соцыялістычнаму будаўніцтву на зацьвітаючай новымі агняцьветнымі краскамі індустрыяльна-колгаснай глебе Савецкай Соцыялістычнай Беларусі!* АЛ.

Адз. ж. Н. *індустрыяльна-калгасная*: ШБСЯ. М. *індустрыяльна-колгаснай*: АЛ.

**[ІНДУСТРЫЯЛЬНЫ]** *прым. да* індустрыя. *Калі ў галінах індустрыяльнага і сельскагаспадарчага соцыялістычнага будаўніцтва краіна Саветаў пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі дасьцігла нябывалых і нячуваных посьпехаў.., то ў галіне літаратуры, мастацтва гэтакіх посьпехаў і такога шпаркага разьвіцця не адчувалася.* ДНСП.

Адз. н. Р. *індустрыяльнага*: ДНСП.

**[ІНІЦЫЯТЫВА]** *ж.* Самастойны пачын, смелы крок у якой-н. справе. *Я* [Купала] *вельмі і вельмі шчаслівы, што дажыў да тэй пары, калі здолеў убачыць сваімі вачыма вялікі Беламорска-Балтыйскі водны шлях, гэта нябачнае цуда, створанае рукамі большэвікоў чэкістаў па ініцыятыве геніяльнага правадыра пролетарыята непараўнанага будаўніка тав. Сталіна.* ЦСБ.

Адз. М. *ініцыятыве*: ЦСБ.

**[ІНКВІЗЫЦЫЯ]** *ж.* Судова-паліцэйская арганізацыя ў каталіцкай царкве, якая дзейнічала крайне жорсткімі метадамі. *Забабон стварыў для гішпанскай інквізыцыі крыважаднага ката Тарквомаду.* З.

Адз. Р. *інквізыцыі*: З.

**[ІНСТРУКЦЫЯ]** *ж.* Даведачнае выданне, якое змяшчае ўказанні па рэгуляванню грамадскай дзейнасці. [Мікіта]: *(дастаючы другі партфель). А ў гэтым, меджду протчым, портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы, загады, рэзолюцыі, інструкцыі аб раўнапраўі ўсіх народаў і паднародаў, усіх моваў і падмоваў – у нашай ядынай і непадзельнай Літбеларускай рэспубліцы.* Т, 46.

Мн. Н. *інструкцыі*: Т, 46.

**ІНСТЫКТЫЎНА** *прысл.* Неўсвядомлена, мімавольна. *Яна* [беларуская моладзь] *інстыктыўна, обмацкам даходзіла да тэй свядомасці аб патрэбе свайго беларускага войска.* БВ, 16.

**[ІНСТЫТУТ]** *м.* Навучальная ўстанова, якая дае вышэйшую адукацыю ў якой-н. галіне. *Трэба спадзявацца, што гэтыя прафэсары дадуць нам агульна даступную сельска-гаспадарчую літаратуру для беларускага селяніна, бо не пабяжыць-жа ён*

*пытацца кожны раз у Інстытут, як, што і дзе лепей сеяць, як гадаваць жывёлу і г.д.* ВСп, 90.

Адз. В. *інстытут*: ВСп, 90.

**[ІНТАРЭС]** (6) *м. толькі мн.* Патрэбы, імкненні, неабходнасць у чым-н. *..ці польская ўлада павяла ў нашым краі гаспадарку так, як гэтага вымагаюць культурна-нацыянальныя інтарэсы нашай бацькаўшчыны, – аб гэтым у другі раз.* СНБ, 340. *Той, хто разумее, дзе жыве; хто слухае голасу жыцьця і не змагаецца з ім, хто не перашкаджае інтарэсам свае бацькаўшчыны і жадае лепшай долі сваей мацеры – Беларусі, – той пойдзе за беларусамі.* ВМР.

◊**Кішанёвыя інтарэсы** – патрэбы ў нажыве, матэрыяльнай выгадзе. *Вы* [антанты і проці-антанты] *стварылі ўсясветную вайну за свае кішанёвыя інтарэсы..* Тж, 15.

Мн. Н. *інтарэсы*: СНБ, 340. Р. *інтарэсаў*: Т, 37. В. *інтарэсы* (2): ВМР; Тж, 15. Д. *інтарэсам*: ВМР. Т. *інтарэсамі*: АЛ.

**[ІНТЭЛІГЕНТ]** і **[ІНТЭЛІГЭНТ]** *м.* Асоба, якая належыць да інтэлігенцыі; чалавек разумовай працы. *Для ажыцьцяўлення гэтае мэты група контррэволюцыйных нацыянал-дэмократычных інтэлігентаў .. на працягу раду год вяла шкодніцкую работу амаль на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, накіроўваючы галоўныя ўдары, аднак, па лініі культуры і зямельнай экономікі.* АЛ. // *Іран. Дасяг ён* [беларускі народ] *ня шмат: пару сотак "інтэлігентаў", з каторых сьмяюцца і Бог і добрые людзі.* ДК.

Мн. Р. *інтэлігентаў*: АЛ; *інтэлігентаў*: ДК.

**ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ** (8) *ж., зб.* Грамадскі слой людзей, якія парфесіянальна займаюцца разумовай працай, інтэлігенты. [Мікіта]: *Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала гэты нейкі нацыянальны беларускі язык, а вы* [Янка] *хацелі б заставіць нас, рускаісціную тутэйшую, меджду протчым, інтэлігенцыю, сушыць над ім свае апошнія мазгі.* Т, 48–49. *Справа гэта вельмі важная і трэба канечна, каб наша ідэёвая інтэлігенцыя – поэты і композытары заняліся ёй паважна.* СБНГ.

Адз. Н. *інтэлігенцыя* (3): З; СБНГ; Т, 48. Р. *інтэлігенцыі* (4): АЛ; Т, 28, 38, 48. В. *інтэлігенцыю*: Т, 49.

**[ІНТЭЛІГЭНТ]** *гл.* **ІНТЭЛІГЕНТ.**

**ІНТЭРАС** *м. Польск., разм.* Справа, дзелавая патрэба. *Гэтак далей жыць ня можна, і мы верым, што польскі урад мае дзяржаўны розум і парупіцца зрабіць усё, што вымагае ад яго дзяржаўная мудрасьць, справядлівасьць і яго уласны інтэрас, і забяспечыць Беларусі яе пануючае палажэньне.* ОШМ.

Адз. Н. *інтэрас*: ОШМ.

**[ІНТЭРВЕНТ]** (2) *м.* Удзельнік або арганізатар інтэрвенцыі;

захопнік. *Не вам, інтэрвенты, Шпегі, дыверсанты, На прыстані нашы Выпускаць дэсанты.* МПв., 219. *Варашылаў калісь войска Вадзіў у паходы, Інтэрвентам, акупантам Не даваў праходу.* НК.

Мн. Н. *інтэрвенты*: МПв, 219. Д. *інтэрвентам*: НК.

**[ІНТЭРВЕНЦКІ]** *прым.* Які мае адносіны да інтэрвенцыі, звязаны з ёй. *Лечачыся на сонечным Каўказе, у Кіславодску, я* [Купала] *дазнаўся з газет аб той агіднай інтэрвенцкай кампаніі, якую ўзнялі ў Заходняй Беларусі прадажныя беларускія нацыянал-фашысты з прычыны рэформы беларускага правапіса, уведзенага ў жыццё ўрадам Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.* ШБСЯ.

Адз. ж. М. *інтэрвенцкай*: ШБСЯ.

**ІНТЭРВЕНЦЫЯ** (3) *ж.* Умяшанне, звычайна ўзброенае, адной дзяржавы ва ўнутраныя справы другой дзяржавы. *Шкодніцтва, дыверсія, шпігоўства, інтэрвенцыя, – усё гэта пускаецца ў ход, каб толькі зруйнаваць такія бастыёны соцыялізму, як індустрыялізацыя і колектывізацыя..* АЛ. *У гэтай контррэволюцыйнай рабоце беларускія нацыянал-дэмократы апіраліся, з аднаго боку на кулацтва, якое ліквідуецца ва ўмовах колектывізацыі як кляса, а з другога боку, на зарубежныя сілы, і гэтым пракладвалі шлях да інтэрвенцыі, бо яны добра ведалі, што ня ўласнымі сіламі, а толькі пры збройным падтрыманьні замежнай інтэрвенцыі змогуць зьнішчыць ненавісную ім дыктатуру пролетарыяту, каб падмяніць яе дыктатурай капіталу.* Там жа.

Адз. Н. *інтэрвенцыя*: АЛ. Р. *інтэрвенцыі* (2): АЛ.

**[ІНТЭРМЕДЫЯ]** (2) *м. Іран.* Камічная сцэнка. [Янка]: *(да праходзячага міма яго Мікіты). У вас сягоння, пане рэгістратар, праўдзівы арыстакратычны баль, не забыліся нават і аб інтэрмедыі.* Т, 27.

Адз. М. *інтэрмедыі*: Т, 27.

**[ІНТЭРНАТ]** (2) *м.* Памяшканне для сумеснага жыцця асоб, якія працуюць на адным прадпрыемстве. *Мы* [савецкія дэлегаты] *былі сведкамі выпадку, калі адзін падлетак не ўлічыў сваіх грашовых магчымасцей, зрабіў перавыдатак і яму пагражала камедыя "таварыскага суда", выдаленне з інтэрната, з Бацяўскага "фабзавуча".* ПЧ. *Падлеткі жывуць у інтэрнатах, у якіх пабудаваны двухпавярховыя нары.* Там жа.

Адз. Р. *інтэрната*: ПЧ. Мн. М. *інтэрнатах*: ПЧ.

**ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ** *м.* Міжнароднае аб'яднанне палітычных арганізацый рабочага класа. *Няхай жыве Комуністычны інтэрнацыянал, гэты адзіны загартаваны правадыр, які вядзе чалавецтва да новага сьветлага радаснага жыцьця.* АЛ.

Адз. Р. *інтэрнацыяналу*: АЛ.

**[ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМ]** *м.* Міжнародная салідарнасць рабочых у барацьбе за зняржэнне капіталізму, за нацыянальнае раўнапраўе і незалежнасць народаў, дэмакратыю і сацыяльны прагрэс. *Рэформа правапіса, – што я* [Купала] *мушу з усёй цвёрдасцю падкрэсліць, – з'яўляецца велізарным правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы па шляху пралетарскага інтэрнацыяналізма..* ШБСЯ.

Адз. Р. *інтэрнацыяналізма*: ШБСЯ.

**[ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТ]** *м.* Прыхільнік, паслядоўнік інтэрнацыяналізму. *Мінулы год паказаў нам, што інтэрнацыяналісты і ап'яненыя пабедамі нацыяналісты не дадуць Беларусі жаданага міру і незалежнасці.* СНБ.

Мн. Н. *інтэрнацыяналісты*: СНБ.

**[ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫ]** (2) *прым.* **1.** Міжнародны. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны* [контррэволюцыйныя нацыянал-дэмакраты] *разбурэньню таго адзінства, тае інтэрнацыянальнай базы, на грунце якое працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцей СССР зьлітнымі колёнамі ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ.

**2.** Які адпавядае прынцыпам інтэрнацыяналізму. [Мікіта]: *Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала гэты нейкі нацыянальны беларускі язык, а вы* [Янка] *хацелі б заставіць нас, руска-ісціную тутэйшую, меджду протчым, інтэлігенцыю, сушыць над ім свае апошнія мазгі.* Т, 48–49.

Адз. ж. Н. *інтэрнацыянальная*: Т, 48. Р. *інтэрнацыянальнай*: АЛ.

**ІНФОРМАТОР** *м.* Той, хто інфармуе, паведамляе пра што-н. [Заходні вучоны]: *На запытане, як сень далеко распостшэня овэ "далей", муй інформатор походзонцы од бялорусінов ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго "далей" наука наогул, а в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.* Т, 39.

Адз. Н. *інформатор*: Т, 39.

**ІНШЫ** (108) *займ. Азначальны.* **1**. Другі, не такі; які адрозніваецца ад гэтага або ранейшага. *Вера ў нашых продкаў была трохі іншая, як цяперака, бо не аднаго бога мелі, а некалькі..* Кз, 17. *Пабочные-ж налогі зусім іншые: збіраюцца яны не с таго, хто штось мае, а с таго што паступае на продаж..* ВН. *Параўн.* інакшы.

**2.** Не гэты, не той, другі. *Можэ з іншаго хто краю Скеміў бы сумленне, Што яна* [душа] *там вычварае З жалю і цярпення.* Дз, 191. *"А вы* [расійцы і палякі] *галубчыкі, чаго-ж тут паразсядаліся? Проша здаць ключы майму* [беларускаму] *кіраўнічаму, а самі пашукайце пасады у іншым месцы."* ВМР.

**3.** *толькі мн.* Астатнія, другія. *Ганулья прыбірае стол, пасля*

*ладзіць для Гарошкаў пасцель на падлозе. Ходзіць у іншыя пакоі.* Т, 31. *Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох – пара малых столікаў, на адным з іх грамафон, крэслы венскія і мяккія плюшавыя.* Т, 19.

**4.** Які-небудзь, некаторы. *Часамі яны* [вулы] *стаяць на зямлі, часамі ўмацаваны на дрэве; іншы стары дуб бывае абвешаны гэтымі калодамі...* ХБ, 30.

**5.** *У знач. наз.* *Хай вас* [беларусаў] *не палохае, што рвуць нашу зямлю на часці, што хаты нашы спалосканы пажарам, што сяўбу нашу жне нехта іншы..* ПЛП. [Спічыні]: *Можаце думаць усё, што толькі вам* [Мікіту] *падабаецца, але гаварыць абавязаны толькі тое, што іншым падабаецца.* Т, 40.

◊**Апрача ўсяго іншага** *гл.* апрача. **З іншай бочкі** *гл.* бочка. **З іншай плянэты** *гл.* плянэта. **І (ды) іншыя (іншае, і інш.)** (23) – ужываецца ў канцы пералічэння для ўказання на тое, што пералічэнне можа быць прадоўжана. *Мы бачым, што нашы суседнія дзяржавы, як Украіна, Літва, Латвія, Эстонія і іншыя маюць ужо сваю армію.* БВ, 16. [Мікіта]: *Каламажку я цягаю з сабой толькі дабравольна і толькі для ўласнай выгады. Па-першае: на службу і са службы важу патрэбныя сабе афіцыяльныя, меджду протчым, паперы; па-другое: важу, але ўжо толькі са службы, усялякія пайкі, коопэрацыйны тавар і іншае.* Т, 45. **Іншы раз** *гл.* раз**. Між (паміж) іншым** (4) – а) адначасова, мімаходам. *А між іншым, у перапынках паміж адной паэтычнай успышкай і другой – я* [Купала] *перакладаю "Кабзар" Тараса Шаўчэнкі для юбілейнага зборніка.* МП; б) дарэчы, к слову кажучы. [Мікіта]: *Я сказаў, што адзін такі тып кватаруе ў мяне, – вось, відаць, і прышлі паглядзець. Паміж іншым, адзін з іх Усходні вучоны, а другі – Заходні.* Т, 26. [Гануля]: *Той пакой, дзе жылі вы* [Янка], *аддалі нейкаму ў скураной жакетцы, – паміж іншым, ён сягоння раніцай ужо выехаў ад нас.* Т, 45. **Той ці іншы** *гл.* той.

Адз. м. Н. *іншы* (7): ВС; ПЛП; ПЧ; Т, 30; ХБ, 30; Ч, 322(2). Р. *іншага* (2): ОШМ (2); *іншаго*: Дз, 191. В. *іншы* (5): Дз, 188; Н (2); СНБ, 336; Тж, 16. Т. *іншым*: ЗС, 17. М. *іншым*: ГНД. ж. Н. *іншая* (3): Кз, 17; Нз, 14; Т, 22. Р. *іншай* (5): ПСп; СБНГ; Т, 31, 44, 49; *іншае*: Кз, 17. В. *іншую* (3): А, 328; Нз, 14; СЧ; М. *іншай*: ВС. н. Н. *іншае* (2): ДК; Т, 62; *інш(ае)* (4): ВН (3); СНБГ. Р. *іншага* (6): ДК; Нз, 15; Т, 34, 49, 55; ХБ, 30. В. *іншае* (2): Т, 45(2). Т. *іншым* (4): МП; Т, 26; Т, 45; УПУВ. М. *іншым* (2): ВМР; Т, 54. Мн. Н. *іншыя* (6): БВ, 16; Кз, 17; Т, 20, 30, 44, 48; *інш<ыя>* (4): НДН; 18; ПЧ; СНБ; Т, 19; *іншые*: ВН. Р. *іншых* (16): Ан, 19; АПЖ; БСУ; ВНЗ; ВСп, 91; ДК; ОШМ; СБНГ; Т, 22(2), 25, 42(2); 56; Тж, 16; УПУВ; *інш<ых>* (3): БВ, 16; ЛР; МІ, 17. Д. *іншым* (6): Ан, 19; ВН;

ГВУ; Нз, 14; Пп, 5; Т, 40. В. *іншых* (2): РКр; Т, 26; *іншыя* (6): Кз, 17; MI, 17; СЧ; Т, 31, 46, 57; *іншые* (2): ВС; СБНГ. Т. *іншымі* (6): А, 328; НДН, 18; СНБ, 338; СНБ; Т, 52, 60. М. *іншых* (5): ПЧ; Т, 19, 30, 46(2); *інш<ых>*: ЦСБ.

**ІРАНІЧНА** (2) *прысл.* Насмешліва. *Грамадзянін іранічна і падазрона змераў яго* [Мікіту] *вачыма ды пайшоў.* Т, 34. *Янка іранічна ўсміхаецца, Аленка пырскае здушаным смехам, Гарошка пыхкае люльку і плюе.* Там жа, 52.

**[ІРДЗЕЦЬ]** і **[РДЗЕЦЬ]** *незак. Паэт.* Бліскаць, зіхацець. *З зор сатканы былі недасяжныя сьцены, Росы ўнізе ірдзелі яскрава, А на вышках, як сон на зямлі, пераменны Залаты месяц радасна плаваў.* Ч, 321.

◊**Рдзець душой** – жадаць чаго-н., прагнуць да чаго-н. *Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека Даць папас на магільным папасе, І так хэўраю будучых, быўшых адвекаў Расьцьвісьці, растапіцца ў бясчасьсі. Гэткай рдзее душой чараўнік-сьлепаводнік.* Ч, 325–326.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *рдзее*: Ч, 326. Пр. мн. *ірдзелі*: Ч, 321.

**ІРЖА** (2) *ж.* Чырвона-буры налёт на паверхні жалеза. *Здавалася, ноч ня пяройдзе, Іржа ня згрызе вечных путаў, – Аж бліснуў пажар на усходзе, І дрогнулі рабскія скруты.* Кр, 77. *Крыж пастаўце, як ставіце ўсім, – Мае* [Купалы] *путы павесці на ім; Мае слёзы з магілы расой Выйдуць путы з'ядаці іржой.* ЧС, 50–51.

Адз. Н. *іржа*: Кр, 77. Т. *іржой*: ЧС, 50–51.

**[ІРЖАВЫ]** *прым. перан.* Даўні, ранейшы. *Адзін, адзін раз толькі ў год Зьбірацца можэм* [князь і дружына] *з ласкі Рока, Каб лет іржавы карагод Зганяць з мінуўшчыны далёкай.* Кц, 193.

Адз. м. В. *іржавы*: Кц, 193.

**[ІСК]** *м. Спец.* Судовая абарона грамадзянскіх правоў. *Яны* [бежанцы] *з абозам на усход цяклі, Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях, У прадчуваньні, але йшчэ ня верачы ані, Што гэта ўжо сапраўды эпілёг дасяг, Што ўжо няма каму тут спадчынныя іскі Цяпер чыніць..* ВБЛ, 80.

Мн. В. *іскі*: ВБЛ, 80.

**[ІСКОНІ-РУСКІ]** *прым. Руск.* Спрадвечнарускі. *..мы – "рускіе дэмократы" заўсёды стаялі і стаім за раўнапраўе усіх народаў, якіе жывуць у матушцы–Расіі, але вы беларусы – ісконі-рускіе людзі з сваім неразьвітым языком, можаце і нашай культурай карміцца, але калі так хочаце – можна і вам даць правы, але толькі ў ... сенях.* З.

Мн. Н. *ісконі-рускіе*: З.

**[ІСКРА]** (2) *ж. перан.* Зараджэнне, пробліск якога-н. пачуцця, здольнасці да чаго-н. *Дай* [пясняр] *волю парывам гарачым, Вясёлым,*

*прывабным, як сонейка жар, Каб бліснула яснасьць і сьпячым! Каб бліснулі іскры ў прытухшых вачох.* Пр. *Яны* [зоры] *агністымі іскрамі Ў душы распаляцца як сталь..* БрБ, 6.

Мн. Н. *іскры*: Пр. Т. *іскрамі*: БрБ, 6.

**[ІСКРЫСТЫ]** *прым.* Зіхатлівы, бліскучы. *Іскрыстым, блескатным сьвятлом Заліты княжскіе сьвятліцы, Дружына вольная кругом Сталоў дубовых варушыцца.* Кц, 192.

Адз. н. Т. *іскрыстым*: Кц, 192.

**ІСКРЫЦЦА** (2) і **ЙСКРЫЦЦА** (3) *незак.* **1.** Ззяць, зіхацець, пераліваецца іскрамі. *На небе зоры ўжо мігцяць, На полі срэбны сьнег іскрыцца.* Кц, 192. *Аб людзях-героях, аб цвітучых нівах І аб сонцы ясным, што на небе йскрыцца, Былі твае песні, ашуг Дагестана..* ПСС, 232.

**2.** *перан.* Свяціцца, ззяць пад уплывам якіх-н. пачуццяў. *І ў Галінкі-дзіцяняткі Ад такой гаворкі Ажно йскрацца вачаняткі, Нібы ў небе зоркі.* Вб, 237.

Абв. цяп. адз. 3 ас. *йскрыцца* (2): БН, 92; ПСС, 232; *іскрыцца* (2): Кц, 192; ТП, 215. Мн. 3 ас. *йскрацца*: Вб, 237.

**[ІСНАВАННЕ]** (5) і **[ІСНАВАНЬНЕ]** (2) *н.* Жыццё, спосаб жыцця. *І вось толькі адна поўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.* Нз, 15. *..пролетарыят усё старое ніштожыць і на руінах гэтага старога будуе новае соцыялістычнае існаваньне..* АЛ.

Адз. Р. *існавання*: СНБ, 337; *існаваньня*: АЛ. В. *існаванне* (4): Нз, 14, 15; СНБ, 337; СЧ; *існаваньне*: АЛ.

**[ІССЛЕДОВАНІЕ]** *н. Руск.* Даследаванне. [Усходні вучоны]: *Мої научныя іссдедованія на сегодняшній дзень окончэны.* Т, 27. [Усходні вучоны]: *..вопрэкіісторычэскім, географічэскім і этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Там жа, 26.

Мн. Н. *ісследованія*: Т, 27. Д. *ісследованіям*: Т, 26.

**[ИСТИННЫЙ]** *прым. Руск., іран.* Праўдзівы, шчыры. *Дарма "истинен" "Крестьянин", Штось чураюцца хрысцяне.* ЛПК.

Кар. адз. м. Н. *истинен*: ЛПК.

**[ІСТНАВАЦЬ]** (2) *незак.* Быць у наяўнасці; дзейнічаць. *Калі заглянуць у далёкую мінуўшчыну, у тые часы, калі істнавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава, – мы* [беларусы] *з пэўнасьцяй ня можам цьвярдзіць – ці быў тады гымн нацыянальны, ці ня быў.* СБНГ. *..трэба ухіліць і паляка і расійца і паадчыняць усе чыста школы, якія істнавалі на Беларусі, загадаўшы ім, прышчапляць вучням любасьць да роднага краю, разьвіваць у іх пашану да таго народу, сярод каторага яны

*жывуць, і гатаваць з іх добрых, сумленных і працавітых работнікаў на ніве беларускай культуры.* ДК. *Параўн.* эзгыстоваць.

Абв. пр. адз. ж. *істнавала*: СНБГ. Мн. *істнавалі*: ДК.

**[ІСТНУВАНЬНЕ]** *н. Тое, што* існаванне. *На помач са стараны малая надзея, калі ідзе на цэлым сьвеце крывавае змаганьне за істнуваньне цэлых народаў, цэлых гасударстваў.* ВС.

Адз. В. *істнуваньне*: ВС.

**[ІСТНУЮЧЫ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* [істнаваць]. Якi ёсць у наяўнасці, існуе. *Як "нацыяналізаваць" – калі можна так выказацца – нацыянальны беларускі гымн з паміж ужо істнуючых гэтых твораў – не бяруся* [Купала] *выясьняць.* СБНГ.

Мн. Р. *істнуючых*: СБНГ.

**[ІСТОРЫЧЭСКІЙ]** *прым. Руск. Тое, што* гістарычны *ў* 2 *знач.* [Усходні вучоны]: *(запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). ..вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім исследованіям і трудам, – оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.* Т, 26.

Мн. Д. *історычэскім*: Т, 26.

**[ІСТОТА]** *ж.:* ◊**Па істоце (***у знач. пабочн.)* – на самой справе, у сапраўднасці. *Няхай зразумеюць тые, хто глядзіць на наш горад вачыма чужынца, што раней ці пазней, а ен будзе беларускім не толькі па назове, а й па істоце і па надворнаму выгляду свайму.* ВМР.

Адз. Д. *істоце*: ВМР.

**[ІСТУЖКА]** і **[СТУЖКА]** *ж.* **1.** *Вобразн.* Пра палоску нівы, якая вылучаецца сваім колерам. *..ўсё* [пшаніца, жыта, свірэпка, грэчка, дзяцеліна] *мяжой прыбіта бачыцца істужкай, Там, сям, быццам к адзежцы прышпілена йгрушкай.* ХБ, 28.

**2.** *перан.* Тое, што ўецца, цягнецца вузкай доўгай паласой. *Дзе вечная пустка была, Там горад паўстаў і расце, А стужкай чыгунка лягла, Дзе ўчора стаяў лес яшчэ.* ТП, 215.

Адз. Т. *істужкай*: ХБ, 28; *стужкай*: ТП, 215.

**ІСТЫ** *прым. Кніжн.* Сапраўдны. [Мікіта]: *Як істы рускі патрыот, я змушаны пакуль што стаяць тут на вахце сваіх рангавых і руска-ісціных інтарэсаў.* Т, 37.

Адз. м. Н. *істы*: Т, 37.

**[ІСХОДЗЯШЧЫЙ]** *дзеепрым. незал. цяп. да* [ісходзіць]. *Руск.* Які паходзіць ад каго-н. [Усходні вучоны]: *Народность ныне распадается на две родовыя ветві: племя – белорусы і племя – тожэ-белорусы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов.* Т, 26.

Адз. н. В. *ісходзяшчэе*: Т, 26.

**[ІСЦІ]**, **[ІСЬЦІ]** і **[ЙСЬЦІ]** (171) *незак.* **1.** Перамяшчацца;

крочыць. *Усходзяць тры ганцы ў святліцу, Ідуць суважнаю ступой І князю, й княжне пакланіцца.* Кц, 194. *Як толькі находзіў вечар, я* [С. Меч] *выхадзіў на адну з сваіх любых дарожак ды ішоў на ёй ціха, ціха.* ХБ, 29.

**2.** Накіроўвацца, адпраўляцца куды-н. з якой-н. мэтай. [Спраўнік]: *І вы* [Мікіта] *павінны зараз ісці са сваёй здабычай у штаб акупацыйных войск.* Т, 53. *– Што ты ведаеш, Данілка, Лепш пабудзь во ў хаце. То-ж на выбары іду я* [бабулька]*, Голас свой падаці.* Вб, 237. // Выступаць у паход, нападаць. *Знай* [вораг], *на чале народ вялікі рускі ў зброі Ідзе на ворага з мільёнамі народаў.* ПНд, 314. *Гэй, паклічу сход Ды збяру народ Ды збяру жаўнераў, Хай ідуць вайной На маю бяду – На ліхога звера.* ВБ.

**3.** *перан.* Рухацца, развівацца ў якім-н. напрамку. *За беларускаю сілай пайдуць тые, хто, наогул, ідзе уперад і рухае жыцьцё.* ВМР. *Нацыянальная рэвалюцыя, наставіўшая сабе мэтай вызваленьне ўсіх нацый, быўшых у паднявольлі у дужэйшых дзяржаваў, ідзе другімі шляхамі да вызваленьня чалавека з путаў няволі.* СНБ. // Трымацца каго-н., кіравацца чыімі-н. паводзінамі. *Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідаючых сваіх слабейшых на здзек і паняверку.* Нз, 14. *Яны* [беларусы] *мусяць цьверда зазначыць свае дамаганьні, асьвяціць тые свае мэты і заданьні, і сказаць усім, хто мае вочы бачыць, а вушы слухаць: "Ідзеце за намі, каб не сказалі вам потым: чаму не памаглі нам, калі мы былі слабые, чаму не накармілі нас, як мы былі галодные?"* ВМР.

**4.** Распаўсюджвацца, праносіцца. *Аўтар заняўся перасьветам, Ад песьні розгалас ідзе.* УрП, 51. *Адны ў руках трымалі дары Сваім прыбліжаным багам, Другія ўспаміналі чары, Шоў гоман сьцішны сям і там.* УрП, 47. // Пра чуткі, весткі. *Буйным жыццём усё чыста кіпела, Слава далёка за мора ішла, Ворага кожны за плечы браў смела, Цемра чужынцаў не страшнай была.* Н. *Чуткі толькі ішлі, як туманы, і вялі У самасейным паходзе сталецьцяў, Што пранікнуць яна* [судзьбіна] *можа ў тайныя далі І адкрыць сьветы новыя ў сьвеце.* Ч, 322.

**5.** Набліжацца, з'яўляцца адкуль-н. *Чуваць злева званок.* [Мікіта]: *Ай, госці ідуць!* Т, 59. [Гануля]: *Ідуць, ідуць* [Чырвонаармейцы]! *Не! Міма прайшлі.* Т, 59. // *перан.* Прыходзіць, надыходзіць, набліжацца. *Глядзяць мае вочы і вокала бачаць, Як дзіва за дзівам ідзе ў нашы хаты.* ТП, 215. *На Беларусь ідзеш, Год Новы, На змену йдзеш Старому Году.* НГд, 8.

**6.** *Разм.* Знаходзіць збыт, пакупніка. *– А вось нашы "Правда" і "Известия".. у Чэхаславакіі ідуць проста нарасхват.* ПЧ.

**7.** Мінаць, працякаць, праходзіць у часе. *Але ішлі гады.*

*Раз'юшаная царская рэакцыя здабытыя рабочым рускім народам свабоды што раз болей і болей душыла сваімі змяінымі кляшчамі*. ДН.

**8.** Цягнуцца, працягвацца. *А жыцьцё не глядзіць: яно мусіць ісьці далей сваім чарадом, хоць і адменным, як у час спакойны*. ВС.

**9.** Адбывацца, праходзіць. *На помач са стараны малая надзея, калі ідзе на цэлым сьвеце крывавае змаганьне за істнуваньне цэлых народоў, цэлых гасударстваў.* ВС. *Не спыняймо працы дома і за домам, якая ішла да вайны, і якая павінна далей ісьці.* ВС.

**10.** Весці пачатак, паходзіць ад чаго-н. *Тыя гуманітарныя ідэі, якія йшлі з Захаду, заўсёды знаходзілі шчыры водгук на Усходзе*. Тж, 15.

**11.** Прызначацца, выкарыстоўвацца, ужывацца для чаго-н. *Ня шкода б было гэтых грошай, каб яны ішлі на карысьць чалавеку. Але ў гарэлцы якая карысць?* УП. // Выдаткоўвацца, расходавацца, трацiцца. *Заработак падлетка амаль не ўвесь ідзе на аплату яго ўтрымання "клапатлівым" Бацем*. ПЧ.

**12.** Паміраць; знікаць, прападаць. *Шла мая* [княжны] *ў даль дзіва-сіла, Як-бы хвалі Нёмну*. Дз, 188.

**13.** Размяшчацца ў парадку чарговасці. [Мікіта]: *(дастаючы іншыя рэчы з каламажкі). Далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад дармовыя, меджду протчым, пайкі.* Т, 46.

**14.** *(з прыназоўнікам "з", "да").* У спалучэнні з назоўнікам азначае наступленне дзеяння, якое выражана назоўнікам. *Калі тыя, што нас* [беларусаў] *аграбілі, што нашы загоны зрылі на акопы-магілы, не ідуць к нам за дапамогай, каб сплаціць хоць частку таго доўгу, які яны доўжны Беларусі, то павінны мы самі за гэта ўзяцца, і ўзяцца як найхутчэй.* АБ, 16. *Вось-жэ усе тые, што асталіся дома, што не маюць магчымасьці дзяліць долю і нядолю са сваімі роднымі на полі бітвы, павінны аткінуць ат сябе усякую слабасьць душы і цела, усякую непатрэбную трывогу, ды дружна ісьці да працы на сваіх загонах…* ВС.

**Моладзь ідзе**. **Як ішлі ў паходы**…

◊**Зьлітнымі колёнамі ісьці** – дружна, узгоднена ісці да якой-н. мэты. *Асаблівую ўвагу аддавалі яны* [контррэвалюцыйные нацыянал-дэмократы] *разбурэнню таго адзінства, тае інтэрнацыянальнай базы, на грунце якое працоўныя масы ўсіх нацыянальнасцей СССР зьлітнымі колёнамі ідуць па шляху да соцыялізму.* АЛ. **Исьци на вулицу** – жабраваць. *Недаўна Грыцько памёр, а беднаму дзицяци прышлося исьци на вулицу поки доля изноў яе зьвяла з бацькам и маткаю.* ПДз**. Ісці на той сьвет** – паміраць. *Лёг незнаёмы на пасьцелі, На тэй, дзе ўсе на той сьвет шлі.* УрП, 52.

**Ісці на чужым павадку** – быць у залежнасці ад каго-н., ставіць свае дзеянні, паводзіны ў залежнасць ад каго-н. *Досыць ішлі на чужым павадку мы* [беларусы] *Доўгія векі бяз веры ў сябе..* Г, 17. **Йдзь до сту д'яблув за Буг** – выражэнне негатыўных адносін да каго-н. [Спічыні]: *Як будзе* [па-польску]: *згінь ты прападзі, нячыстая сіла?* [Мікіта]: *Йдзь пан до сту д'яблув за Буг.* Т, 49. **Ісці па трупах** – любымі сродкамі дасягаць сваёй мэты. *З цябе* [аўтарніка] *нядобры вецер вее, Па трупах ты, відаць, ішоў, Скажы нам, хто цябе асьмеліў Да нашых зблізіцца каўшоў?* УрП, 51. **Ісці ў прочкі** *гл.* прочкі. **Ісці ў магілу** – паміраць. *Забабон старадаўнаму славяніну загадвау, каб жонка ішла разам з мужам у магілу, або нявольнік свайго уладыкі умірау так сама з ім разам.* З. **У зямлю йсці** – паміраць, гінуць. *Ад рукі сына першага вісельні гнуцца, У зямлю йдуць маладыя галовы.* Ч, 320. **У рахунак не йсці** – не прымацца пад увагу. [Мікіта]: *Ну, яна* [цётка Бадунова], *медждy протчым, эсэр-беларус і ў рахунак не йдзе: доўга тут не заседзіцца.* Т, 56.

Інф. *ісьці* (8): ВС (2); ПБН; ПДз; РКр (2); СНБ (2); *йсці* (6): Т, 39, 50(2), 52, 62.; Ф; *ісці* (5): Т, 25, 48, 53, 62; ТП, 216. Абв. цяп. адз. 1 ас. *іду* (2): Ан, 19; Вб, 237; *йду*: Т, 53. 2 ас. *ідзеш* (4): НГд, 8(4); *йдзеш* (4): Вб, 236; НГд, 8(3). 3 ас. *ідзе* (34): АЛ; ВБЛ, 81; ВМР; ВС; З; ЗЯЗ, 90(2); Кц, 195; Мц, 75(2); МД; ПНд, 314; ПЧ; СБНГ; Т, 27(2), 56(2), 57(2); Тж, 15; ТП, 215, 217(3);УрП, 51(2); Ч, 325; *йдзе* (9): БЗ; ВБ; ВР; ПД, 83; СА, 180; Т, 34, 56; УрП, 51; Ч, 320. Мн. 1 ас. *ідзём* (10): БСУ; ДЖ; МПв, 220; НГд, 8; Пп, 5; ПТ, 206; Т, 53(3), 62. 3 ас. *ідуць* (24): АЛ; АБ, 16; ВБ; ВМР; Г, 17; ЗК, 42, 43; Кц, 194; МІ, 17; Н; Нз, 14; ОШМ; ПЧ; Т, 24, 46, 48(2), 59(5); *йдуць* (11): ВБ; Кц, 194, 195; СА, 182; СС, 303; Т, 24, 31, 59(2); Ч, 320, 323(2). Пр. адз. м. *шоў* (6): ББ; ВБ; ПСД; Ун, 73; УрП, 47; Ч, 324; *ішоў* (4): Б, 18; Кц, 194; УрП, 51; ХБ, 29; *йшоў*: ПСД. ж. *ішла* (5): З; Н; ПСД; РКр; СНБ, 338; *шла*: Дз, 188; *йшла*: Кр, 77. н. *ішло*: СНБ, 336.; *йшло*: ВБ. Мн. *ішлі* (12): БВ, 16(3); Г, 17; ДЖ; ІП (3); ПЛП; Тж, 15, 16; Ч, 322; *шлі* (7): Ж; ПВ (3); Пп, 5; УП; УрП, 52; *йшлі* (3): Пп, 5; СЗГ, 252; Тж, 15. Заг. адз. 2 ас. *ідзі* (4): БрБ, 6(2); Вб, 238; Т, 56; *йдзі*: Ч, 323; *ідзь*: Т, 49. Мн. 2 ас. *ідзіце* (5): ВМР (2); Т, 25, 32, 34.

**[ІСЦІННО-ПОЛЬСКІ]** і **[ІСТІННО-ПОЛЬСКІ]** *прым. Руск., іран.* Сапраўдна-польскі. *"Істінно-польскіе" дэпутаты ад нашага краю падалі ў думу запрос, чаму ў некаторых школах, дзе вучацца каталікі-беларусы, ім выкладаюць рэлігію не па польску, а па расейску?* ВР. *..ён* [каталік-беларус] *выбярэ польскую мову.. Гэта рэзультат "працы" ісцінно-польскіх і ісцінно-рускіх людзей.* Там жа.

Мн. Н. *істінно-польскіе*: ВР. Р. *ісцінно-польскіх*: ВР.

**ІСЦІНО-РУССКІЙ, [ІСЦІНА-РУСКІЙ]** і **[ІСЦІННО-РУСКІЙ]** *прым. Руск.* Сапраўднарускі. [Усходні вучоны]: *(так-сама запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). Іоан Здольніков. Ісціно-русскій ціп Северо-Западной Обласці і безусловно з прымесью монгольско-фінской крові.* Т, 26. // *Іран.* [Янка]: *..вы* [Мікіта] *так запуталіся ў сваіх рангах, клясах і свабодных прафэсіях, што ўжо не здольны да ніякае місіі – нават да тэй сваёй роднай, ісціна-рускай місіі.* Т, 38. *..ён* [беларус-каталік] *выбярэ польскую мову.. Гэта рэзультат "працы" ісцінно-польскіх і ісцінно-рускіх людзей.* ВР.

Адз. м. Н. *ісціно-русскій*: Т, 26. ж. Р. *ісціна-рускай*: Т, 38. Мн. Р. *ісцінно-рускіх*: ВР.

**ІТАЛЬЯНЕЦ** *м.* Ураджэнц Італіі. [Гануля]: *Хто ён* [Спічыні] *родам – напэўна не ведаю. Але сам ён кажа, што ён немец, людзі кажуць, што італьянец, мне здаецца, што ён проста, як і мы, тутэйшы.* Т, 31.

Адз. м. Н. *італьянец*: Т, 31.

**[ІУДЗЕЙ]** *м. перан.* Той, хто займае ніжэйшае становішча ў грамадстве. *У вольнай, незалежнай Беларускай дзяржаве не павінна быць "ні эліна, ні іудзея".* НДН, 19.

Адз. Р. *іудзея*: НДН, 18.

**ІХ** *гл.* **ЯНЫ.**

**ІХНІ** (17) *займ. Прыналежны.* Які належыць ім. [Мікіта]: *Меджду протчым, абавязак мой – паказаць гэтым новым завадзілам іхняе належнае месца.* Т, 22. *Яны* [землякробы] *назіраюць толькі сумным вокам, як гэта зямля, каторая па боскаму праву павінна была дастацца іхнім працавітым мазалям, – зямля пападае ў рукі лішніх і зусім непатрэбных у нашым краю людзей.* ЗС, 18.

Адз. м. Н. *іхні* (3): СНБ, 338; Т, 45(2). ж. Р. *іхняй* (2): Т, 22, 58. н. Н. *іхняе*: Т, 35. Р. *іхняга*: Т, 58. В. *іхняе*: Т, 22. Мн. Н. *іхнія*: Т, 45. Р. *іхніх*: НК. Д. *іхнім*: ЗС, 18. В. *іхнія* (4): АЛ, Т, 34, 57; Ун, 73; *іхніе*: Кц, 195. Т. *іхнім*: Кц, 196.

**ЙГРАЦЬ** *гл.* **ГРАЦЬ.**

**[ЙГРУШКА]** *ж. Руск.* Цацка. *..усё* [пшаніца, жыта, свірэпка, грэчка, дзяцеліна] *мяжой прыбіта бачыцца істужкай, Там, сям, быццам к адзежцы прышпілена йгрушкай.* ХБ, 28.

**ЙЗНОЎ** *гл.* **ІЗНОЎ.**

**ЙНАЧАЙ** *гл.* **ІНАЧАЙ.**

**[ЙСКРЫЦЦА]** *гл.* **ІСКРЫЦЦА.**

**ЙШЧЭ** *гл.* **ЯШЧЭ.**

Даведачнае выданне

# Слоўнік мовы Янкі Купалы

У васьмі тамах

## Том 7

А–І

(дадатак)

Рэдактар *У. А. Бобрык*

Падпісана ў друк 26.03.2012. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная. Рызаграфія. Умоўн. друк. арк. .
Улік.-выд. арк. . Тыраж экз. Заказ № .

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі "Гомельскі дзяржаўны
ўніверсітэт імя Францыска Скарыны".
ЛИ № 02330/0549481 ад 14.05.2009
Вул. Савецкая, 104, 246019, г. Гомель.

C 65 Слоўнік мовы Янкі Купалы. У 8 т. Т. 7: А–І (дадатак) / склад. У. В. Анічэнка [і інш.]; рэдкал. У. А. Бобрык (гал. рэд.) [і інш.]; М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. – Гомель : ГДУ імя Ф. Скарыны, 2012. – 556 с.
ISBN 985-08-0538-2

У сёмы там выдання ўваходзяць апісанні слоў з купалаўскіх літаратурна-мастацкіх і публіцыстычных твораў на беларускай мове, якія ў свой час не ўвайшлі ў сямітомны сбор твораў (Мн., 1972–1976). Прыведзена частотнасць ужывання і вызначаны граматычныя формы і семантычны аб'ём кожнага рэестравага слова, пададзены стылістычныя паметы і прыклады з твораў паэта.

Папярэднія 6 тамоў выйшлі ў выдавецтве "Беларуская навука" ( Т. 1 – 1997 г., Т. 2 – 1999 г., Т. 3 – 2001 г., Т. 4 – 2002 г., Т. 5 – 2003 г., Т. 6 – 200 г.).

Разлічаны на моваведаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, а таксама на ўсіх, хто шануе і паважае беларускае слова.

УДК 811.161.3'374:012 Купала
ББК 81.411.3–4